ранейшых тамах, што семдзесят «тлумачальнікаў», быццам бы сабраных першасьвятаром Елеазарам із 12 кален ізраільскіх для перакладу Пяцікніжжа на грэцкую мову згодна з даручэннем ягіпецкага цара Пталямея Браталюба ў 227 годзе да Нараджэнння Хрыста, з’яўляюцца чыстым міфам; што ўсе прароцкія кнігі Бібліі напісаны па-жыдоўску ўжо пасьля пабудовы Цар-Горада на працягу доўгага прамежаку часу, пачынаючы ад 418 года (прарок Амос) і аж да IX стагоддзя нашай эры, і што біблейская кніга «Цары», якраз і з’яўляецца прыдворнай хронікай візантыйскіх цароў ад Савула-Аўрэліяна і да Кастуся Паганата – біблейскага Седэкіі (679 год). Атрымліваецца, што літаратурнай і афіцыйнай мовай у Вялікай Рамеі, як сябе заўсёды называлі візантыйцы, і ў яе сталіцы Вялікім Рыме, г.зн. Цар-Горадзе, на працягу першых трохсот пяцідзесяці гадоў яго існавання, аж да аддзялення Ягіпта і Сірыі, была мова сірыйска-ягіпецкая. А хатняй, сямейнай мовай, мовай войска, чынавенства і гандлёвага стану, (не кажучы ўжо пра рабоў, якіх хапалі із якіх заўгодна народнасьцей) былі, як пабачым далей, гоцкая, славянская, албанская і вельмі мала грэцкая, якая засяроджвалася галоўным чынам на не меўшых палітычнага значэння Іянійскіх выспах, на паўвыспе Марской (Марэі) і ў рэдкіх партовых мястэчках Малой Азіі, таму што і «старажытная, класічная» Александрыя з яе высокай культурай – міф. Ды і усе рамейскія імператары, пачынаючы ад Дыяклетыяна і заканчваючы Васілём II у XI стагоддзі нашай эры былі то далматынцамі, то славянамі, то ісаўрыянамі (г.зн. туркі малазійцы), то македонцамі. Ды і войска рамейскіх імператараў складалася цалкам із готаў, са славянаў, малаазійскіх туркаў і з македонцаў, а пра элінскія палкі ў складзе імператарскага войска яшчэ не згадвае ніводны гісторык.

Але, магчыма, – запярэчаць мне, – цар-гародзкія навукоўцы і сьвятары таго часу былі выхадцамі із чыстакроўных элінаў? – Не! Яны не пакінулі ад сябе за такі перыяд ніякіх праўдзівых слядоў у рамейскай гісторыі. Першы летапіс гэтага перыяду, як пабачым далей, і як я ўжо не раз намякаў у ранейшых тамах, – біблейская кніга «Цары» – напісана на жыдоўскім жаргоне арабскай мовы, ды і першыя «рымскія» імператары – Ромул і Рэм, Нума (Навум), Анк (Енох) і г.д. маюць жыдоўскія імёны, і спісаны з першых рамейскіх імператараў. Тут толькі Цар-Горад пераназваны ў Рым ды падзеі перанесены на тысячу пяцьдзясят гадоў назад. Я ж ужо не раз паказваў, што Ромул і Рэм нішто іншае, як Кастусь Вялікі і Ліцыній і што іхныя жыдоўскія імёны паходзяць ад двух назваў насарога (Ром і Рым), які лічыўся самым магутным із усіх звяроў. Цар Анк (Енах) азначае цар-Крыж, па-копцку. Як і «Вялікі Цар», даўшы нагоду да стварэння евангельскага міфа пра Хрыста, меўшага найменне сына бога Марса, наладзіўшага набажэнства, земляробства, гандаль і ў выглядзе праайца Енаха (згодна з іншай лягендай), падняўся жывым на неба, і г.д. Усе імёны ў гэтым варыянце «Рымскай гісторыі» не толькі жыдоўскія, але і тэндэнцыйна жыдоўскія. Сама Грэцыя насіла назву Іёнія, г.зн. па-жыдоўску: Галубіная краіна. Нават рэчаісны заснавальнік грэцкай клерыкальнай літаратуры, аўтар Апакаліпсіса, Ян Залатавуст быў не толькі родам із Антыёхіі, але і само яго імя Ян (ён жа Іёна) па-жыдоўску азначае «Голуб». Грэкі тады былі толькі бунтарамі, і толькі пачынаючы з 1056 года нашай эры, напярэдадні крыжовых паходаў, пасьля сьмерці апошняга прадстаўніка Македонскай дынастыі Васіля II, на цар-гарадзкім пасадзе з'яўляецца першы грэцкі цар Ісак Камнін (1057-1059).

Ці вядома вам усё гэта, чытач?

А спецыялісты па візантыйскай гісторыі ўсё гэта даўно і добра ведаюць, але толькі не адважваюцца зрабіць належныя высновы пра нязначнасць элінскага элементу і элінскага ўплыву ў Рамейскай імперыі аж да XI стагоддзя нашай эры. Росквіт элінізму ў Візантыі працягваўся толькі чатырыста гадоў, да 1453 года, калі туркі захапілі Канстантынопаль і зноў пасадзілі не грэка, а малазійца на цар-гародзкі пасад. Гэта азначае, толькі пачынальна з XI стагоддзя нашай эры і магла ўзнікнуць у Цар-Горадзе тая тэалагічная літаратура, якая стварыла нам Чэцці Мінеі, і ўсе творы сьвятых бацькаў, а таксама і творы ерэтыкоў, якія быццам бы змагаліся з імі. А на прасторах паўвыспавай і выспавай Грэцыі прыехаўшыя рыцары-крыжакі паклалі амаль тады ж, як мы бачылі ў V томе, пачатак класічнай грэцкай літаратуры. Лацінская ж мова – як элінізаваная італійская – сапраўды магла пашырыцца і на Балканскую паўвыспу, і ў Ягіпет разам з хваляй ўцекачоў із наваколляў Неапаля. Жыхары ж падножжаў Вязувія, складаючыяся большай часткай са служак бога-Грамабоя, добра забяспечаных прынашэннямі шматлікіх пілігрымаў, сапраўды мелі магчымасць дасягнуць першай згодна з тым часам інтэлектуальнай культуры і зрабіць вялізны ўплыў і на жыццё сваіх новых радзім.

З гэтага маленькага перáслоўя мы і прыступім да разгляду першых стагоддзяў існавання Рамейскай імперыі.

Да 1056 года яна была яшчэ не грэцкая, а таму мы перадусім павінны вызваліцца ад гіпнозу, які ствараецца ў нашых розумах той акалічнасцю, што мы вывучаем яе грунтуючыся на творах грэцкіх аўтараў Камнінскага перыяду.

Напісаўшы шмат напаловугістарычнай белетрыстыкі і апакрыфічных твораў ад імя сярэднявечных і псеўда-старажытных славутасьцей, яны далі ўсім першым рамейскім дзеячам і царам грэцкія імёны чым і надалі ім грэцкі выгляд, але штучнасць гэтай наменклатуры бачна адразу.

Хто, напрыклад, быў рэчаісным заснавальнікам Рамейскай імперыі?

– Бога-Закліканы цар (Дыяклетыян, па-грэцку)! – адказваюць нам.

Апакрыфічны царкоўны гісторык – Набожны Ўсёпаважаючы (Яўсевій Памфіл, па-грэцку) – характэрызуе гэтага Бога-Закліканага як жорсткага ганіцеля хрысьціянаў і нават апісвае яго зверствы. Але яго апісанне зяўляецца чыстай галюцынацыяй узбуджанага ўяўлення аўтара, бо мы ўжо бачылі, што пад канец трэццяга стагоддзя магло быць толькі змаганне арыянства з паганскім фетышызмам[15], а не з хрысьціянамі. Хрысьціянскае набажэнства грунтуючыся на сведчаннях саміх жа царкоўных гісторыкаў усталявана толькі на прыканцы чацвёртага стагоддзя, як гэта характарызуюць і самі найменні хрысьціянскіх містэрый: літургія Васіля Вялікага і літургія Яна Залатавуснага, не кажучы ўжо пра нашы астранамічныя вылічэнні, даючыя для планетных назіранняў аўтара Апакаліпсіса 30 верасня 395 года, а для далейшых хрысьціянскіх і нават біблейскіх кніг яшчэ больш пазьні час.

Калі Дыяклетыян і мог быць ганіцелем нейкага рэлігійнага культу, то толькі рэлігіі чараўнікоў, што відаць папярэднічала арыянству і ўключаўшая ў кола сваіх звычаяў вядзьмарства, тым больш што і нагодай перáследаў называецца пажар, які два разы ўспыхнуў дзякуючы невядомай нагодзе ў палацы Дыяклетыяна.

Да такіх жа міфаў ці да атаясамлення перáследаў папярэднікаў арыянства на не існаваўшых тады хрысьціянаў можна дапасаваць і перáслед у Італіі і Афрыцы пры Максіміне каля 305 года, лічымы самым жудасным.

---

[15] Ад партугальскага feitcao – чараўніцтва, ушанаванне рэчы, якой прыпісваецца чароўная магутнасць.

Я зноў паўтараю, што слова «культ» і слова «калдаўство» (вядзьмарства) толькі два розныя вымаўленні аднаго і таго ж слова, коранем якога з’яўляецца КЛД ці калдун (вядзьмак). Іншая яго назва маг, з’яўляецца толькі варыяцыяй слова «магутны», і ад яго ж паходзіць і слова «магістр», як чалавек, пасьвечаны ў навуковую ступень у магістрат – як успамін пра тое, што ведзьмакі першапачаткова былі і суддзямі і дазнаўцамі злачынстваў. Цалкам магчыма, што нават і згаданы толькі ў Апакаліпсісе мікалаіцкі культ, які, быццам бы, быў ненавісны богу аўтара, з'яўляецца толькі адменым із найменняў першапачатковай вядзьмарскай стадыі развіцця рамейскай рэлігіі, бо і сама назва «мікалаіт» азначае па-жыдоўску хітрун, а па-грэцку звышчалавек[16]. А рабіць із кожнага асобнага наймення аднаго і таго ж культу яго асобную секту азначае станавіцца на вельмі слізкі шлях, ідучы якім можна прыйсьці да стварэння вялізнай колькасці культаў нават і ў праваслаўнай царкве: культ госпада, культ бога, культ Спаса, культ Езуса, культ Хрыста, культ сына боскага і г.д.

А калі мы дапасуем Апакаліпсіс, як паказвае маё астранамічнае вылічэнне, да ліку твораў Яна Залатавуснага, напісаных восенню 395 года, то прыйдзем да высновы, што мікалаіцства сучасна Мікалаю Цудадзею, г.зн. у перакладзе Хітруну-Чараўніку, з якім згодна з паданнямі царкоўных аўтараў Эпохі Гуманізму і змагаўся Арый. І вельмі магчыма, што варожасць месіянцаў-хрысьціянаў (якія з’явіліся натуральна толькі пасьля Апакаліпсіса) да Арыя-Арона, як заснавальніка папярэднічаўшай стадыі рэлігійнага развіцця, вымусіла царкоўных гісторыкаў лічыць сваім хаўруснікам якога б то ні было яго ворага. Далучыўшы да наймення «мікалаіты» жыццяапісанне св. Мікалая Піярскага, яны і маглі стварыць увесь міф пра Мікалая Цудадзея з усімі яго звышчалавечымі (г.зн. мікалаіцкімі, па-грэцку) дэталямі.

Мы ніяк не можам не пазначыць, што нават у свецкай гісторыі таго часу існуе шмат відавочных непагадненняў. Так, усе мы прызычаіліся браць без разважанняў, на веру, што «Кастусь Вялікі ў 325 годзе перанёс сталіцу із італійскага Рыма ў Цар-Горад». Але нават і не надаючы веры маім довадам у V томе «Хрыста», што італійскі Рым згодна са сваім геафізічным месцаваннем ніколі не мог быць сталіцай сусьветнай імперыі, кожны гісторык можа бачыць із саміх сваіх першакрыніц, што гэта няпраўда, таму што Кастусь перанёс на Басфор сваю сталіцу не із Рыма, а са сваёй суседкі Нікамедыі, на паўднёвым беразе таго ж самага Мармуровага мора. А ў Нікамедыі, як паведамляюць нам тыя ж першакрыніцы, заснаваў сваю сталіцу яго папярэднік Дыяклетыян (г.зн. Бога-Заклікaны), вярхоўны імператар Рамейскай (ці, як мы няправільна выказваемся, Рымскай) імперыі. Ды і гэтая імперыя абвешчана была таксама не ў Італіі, а ў азіяцкім прадмесьці Цар-Горада – Халкідоне; ды і памёр Дыяклетыян не ў Італіі, а ў Далмацыі, на той жа Балканскай паўвыспе, на якой і да гэтага часу адзіна існуюць перажыткі гэтай Рамейскай (па-руску, Рымскай) імперыі, у выглядзе Раманеі (па-руску – Румыніі) і Рамеліі (па-руску – Румеліі).

Ды і самі візантыйцы на працягу ўсяго сярэдневечча звалі сябе рамеямі, а сваю Балканскую паўвыспу Рамеяй і прызнавалі сябе адзінымі нашчадкамі Ромула і Рэма, а не італійцаў, якія лічыліся ў іх падробленымі рымлянамі. Усе ж гэта зяўляецца чыста гістарычнымі фактамі, а не маімі меркаваннямі, і нават сам

[16] νικολαίοι – ад νικάω – перамагаю і λαϊκος – народны публічны, а па-жыдоўску ад слова НХЛ (נכל) – хітрун, цудадзей.

папярэднік Дыяклетыяна) Аўрэліян – гэты Залатакудры аднаўляльнік сусветнай імперыі (Restitutor Orbis) пасьля яе ўяўнага стагадовага знікнення са старонак гісторыі, а на самай, справе яе заснавальнік, ніколі не бываў у італійскім Рыме. Ён быў абвешчаны царом малаазіяцкімі (мізійскімі) легіёнамі і, толькі забраўшы ў германскіх народаў паўднёвую Італію, ён пачаў, – паведамляюць нам, – для абароны яе ад іх будаваць з поўначы ўмацаваны форт – Рым. Але ён з'ехаў назад, даручыўшы дабудаваць яго сьцены свайму вайсковаму правадыру Пробу – Марку Аўрэлію, які зрабіў гэта толькі праз год пасьля яго сьмерці – у 276 годзе нашай эры і таксама неадкладна з'ехаў на берагі Рэйна, пакінуўшы тут толькі невялікі гарнізон.

Дык якім жа чынам перавёў Кастусь I на берагі Басфора сваю сталіцу із гэтага, тады яшчэ нікчэмнага ўмацавання на мяжы Неапалітанскай вобласьці для яе абароны ад насядаўшых на яе з поўначы варварскіх плямён?

Тут усё поўніцца анахранізмамі і дыслакацыямі падзей, у якіх мы ніколі не будзем у стане разабрацца канчаткова без дапасавання да старажытных візантыйскім гісторыкаў псіхалагічных метадаў дасьледавання, пра якія я буду падрабязна выказвацца на прыканцы гэтай кнігі.

Хто, напрыклад, былі першымі царамі Рамейскай імперыі пасьля Бога-Закліканага цара-Дыяклетыяна?

Устойлівыя імператары, – адказваюць нам нашы грэцкія першакрыніцы, апакрыфічнасць якіх даводзіцца ўжо тым, што замест грэцкага наймення яны ўжываюць лацінскае.

Слова ж ўстойлівы па-грэцку – эмпедос (**'έμπεδος**), а яны выкарысталі лацінскае constant і назвалі іх Кастусямі, Канстанцыямі і Констансамі, без перакладу на грэцкую мову згодна з сэнсам, а гэта было немагчыма пад час тых стагоддзяў, калі ў людзей яшчэ не было замежных сьвятых, у гонар якіх зараз даюцца імёны, не маючыя ніякага сэнсу на сваёй мове. І вось, у Рамеі запанавалі Ўстойлівы I і Ўстойлівы II (Канстанцый I і II), ды яшчэ з варыяцыяй апошняга слова ў Кастантына і ў Канстанта (таксама Ўстойлівых), і з'явіліся нават манеты з такімі не прыдатнымі імёнамі. Паглядзім жа, у чым нас пераконваюць больш позьнія грэцкія аўтары пра гэтых рамейскіх «нарманаў», а згодна з іхнымі сведчаннямі і нашы сучасныя гісторыкі Візантыі.

Пісьменнікі больш позьняга часу, бязспрэчна не паведамляюць нам пра тое, што стварэнню Вялікай Рамеі на Балканскай паўвыспе папярэднічала вялікая вулканічная катастрофа ў Італіі, дзе дзякуючы пілігрымству да Этны ў Месінскім праліве і да Флегрэйскіх палёў каля Неапалітанскага заліва ўтварыліся буйныя сьвяцілішчы, куды народы зносілі свае збераженні, а таму пры адсутнасьці якой бы то ні было падтрымкі дзяржаўнасьці ўтварыліся першыя цэнтры разумовай культуры. Для містычных, артадаксальных гісторыкаў з’яўляецца чужым і жахлівы выбух Вязувія, які так па-мастацку апісаны ў Біблейскай кнізе «Сыход», дзе пад імем Арона фігуруе Арый, а пад выглядам Майсея – Дыяклетыян, і яны не надаюць яму значэння. А на справе гэты выбух часова раскідаў па чужых краінах галоўны цэнтр разумовага жыцця таго часу, і культура перанеслася адтуль у больш бяспечныя краіны – на берагі Ніла і Басфора. Але італійскі прысмак першапачатковай тэалогіі захаваўся і там.

Пачнём жа перадусім з рэлігійнай часткі. Звычайна далучэнне дзяржаваў да хрысьціянства адбывалася ў гісторыі народаў на стадыі першых крокаў іхнага дзяржаўнага існавання, калі мінулае іхнай краіны яшчэ не стварыла цьвёрда

усталяваных рэлігійных падставаў ці стварыла іх толькі ў грубых, прымітыўных выявах і формах вольнага шаманства, без вызначанай ідэалогіі і ўзаемнай сувязі служак культу паміж сабой.

Пераход у падобных выпадках ад паганства да хрысьціянства, як толькі яго прызнаў валадар, не мог мець наступствам у народзе глыбокага крызісу. Але не тое ўяўляла сабой IV стагоддзе ў гісторыі Рымскай імперыі, калі мы паверым апавяданням класікаў пра папярэднічаўшую ёй вялікую паганскую культуру, са складанай сістэмай богаў і цалкам сфарманым станам жрацоў, якім служылі і скульптура, і архітэктура, і паэзія, і сама навука. Здавалася б, што імперыя, валодаўшая шматстагоддзевай культурай, дасягнуўшая дасканалых для свайго часу формаў дзяржаўнасьці і меўшая за сабой вялікае мінулае, да ідэяў і поглядаў якога прызвычаілася і нават парадніліся з імі і самыя некультурныя станы насельніцтва, уступаючы пры пераходзе да хрысьціянства на шлях супярэчнасьці з мінулым і нават поўнага яго пераіначвання, павінна была перажыць вельмі глыбокі і ў вышэйшай ступені востры і цяжкі крызіс.

А тым часам гісторыкі не паведамляюць нам нічога падобнага пры абвяшчэнні арыянства дзяржаўнай рэлігіяй у Вялікай Рамеі, і толькі пры пераходзе ад арыянства да месіянскага хрысьціянства, – кажуць нам, – з'явілася першая рэлігійная барацьба.

Із гэтага відавочна, што аж да арыянства на ўсходзе Міжземнага мора не існавала арганізаванага духоўнага стану, а толькі асобныя месцы ўшанавання з разрозненымі адзін ад аднаго шаманамі, якія не толькі не мелі магчымасьці супрацоўляцца, але былі схільнымі аб'яднацца ў адзін стан пад абаронай дзяржаўнай улады. Гэта азначае, тая складаная сістэма богаў – дзяцей галоўнага бога-Грамабоя – не толькі не была скасавана арыянствам, але, наадварот, арганізавана ім і толькі пазьней забяспечана той класічнай ідэалогіяй, якую нам малююць тэолагі ў якасьці папярэднічаўшай паганскай рэлігіі.

Спынімся крыху падрабязней на гэтым пытанні.

Я ўжо выказваўся, што характарыстычнай асаблівасьцю чацьвёртага стагоддзя з'яўляецца небывалае на працягу гістарычнага перыяду жыцця чалавецтва ажыўленне сейсмічнай дзейнасьці ў Міжземнаморскім этнічным басейне і, як яго вынік, зніжэнне аўтарытэту рэлігіі чараўнікоў, г.азн. разрозненага знахарства. Я ўжо паведамляў, што незалежныя знахарскія мястэчкі – зародкі наступных за імі астранамічных манастэрыёнаў – займаліся вядзьмарствам, г.зн. адгадваннем будучыні па вантробах прыносімых ім у ахвяру жывёл, указаннямі, як знайсьці скрадзеныя рэчы, загаворамі і лячэннем хвароб. Парэшткі падобнага светапогляду, можна думаць, і захаваліся да нашага часу ў асяроддзі насельнікаў Паўночнай Азіі ў выглядзе шаманства, рэлігійныя вераванні якога грунтуюцца на тым, што сусьветам кіруе не яго стваральнік, а другарадныя багі. Да гэтага часу жрацы гэтага культу прыводзяць сябе ў экстаз з дапамогай ап'яняючых рэчываў і ў такім стане поўнай адсутнасьці памяці даюць свае, большай часткай мала зразумелыя, указанні. І цалкам зразумела, што, калі нечаканыя для іх удары землятрусаў пачалі разбураць іхных куміраў, то сярод ведзьмакоў гэта мела наступствам поўную разгубленасць, а атачаючае, страціўшае розум ад перапалоху насельніцтва, імгненна перайшло ад стану баязьні перад імі да нянавісьці, і пачалося ізраэліцтва, г.зн. богазмагальніцтва, якое хутка ахапіла ўсе ўзбярэжжы Міжземнага мора.

Грунтуючыся на суме паведамленняў можна зрабіць выснову, што першым дзеячом гэтага рэлігійнага перавароту быў Арый, аднайменны з біблейскім Аронам а, згодна з нашым меркаваннем, тоесны з ім. З гэтага боку гледжання і арыянства дарэмна лічыцца царкоўнымі аўтарамі за простую ерась у меркаванай тэолагамі першапачатковай апостальскай царкве, якая быццам бы адразу ўзнікла згодна з воляй бога ў канчатковай форме і з канчатковай распрацаванай ідэалогіяй і звычаёвасьцю. Згодна з сукупнасьцю ўказанняў арыянства павінна было быць другой ступенню эвалюцыі еўрапейскіх рэлігійных уяўленняў і звычаяў, узнікшым следам за скампраметаваным разрозненым знахарствам. Правадыры арыянства захаваліся ў нашых гістарычных успамінах пад імем заснавальнікаў Рамейскай імперыі на берагах Басфора, быўшы ў той жа час і вялікімі першасьвятарамі (Pontifices Maximi) і правадырамі новых чараўнікоў, служак галоўным чынам адзінаму бацьку богаў і людзей – богу-Грамабою, меўшаму свой пасад над Сомай Вязувія, дзе цары-пантыфексы і атрымлівалі сваё пасьвячэнне.

І цалкам зразумела пры першым жа паглядзе на мапу, што цэнтрам іхнай вайсковай імперыі не магла быць ні Сома Вязувія і нават Неапаль, а толькі берагі Басфора, дзе сухапутныя шляхі паміж Яўропай і Азіяй перакрыжоўваюцца з марскімі. Тут, і нідзе больш, і павінна была ўзнікнуць Сусьветная Рамейская імперыя (**'Ρωμαία**), як звалі яе грэкі ў сябе дома, а іншыя народы пераіначылі гэтае слова ў Рымскую імперыю. Толькі пазьней яе цэнтр перанеслі ў месца яе рэлігійнага пілігрымства, у Італію, грунтуючыся на нейкіх псіхапатычных падставах, першакрыніцай якіх, напэўна, служыла пілігрымства еўрапейскіх народаў да падножжа Вязувія, прытым яны здзяйснялі на сваім шляху ў італійскім Рыме абавязковае ахвяраванне, каб іх не загубіў жахлівы бог пры іхным набліжэнні да яго жылля.

Паглядзім перадусім, у чым жа складалася арыянства?

Арыяне лічылі бога-Грамабоя адзіным бацькам богаў, якога таму і патрэбна ўшаноўваць перш усяго. Потым, пасьля новых выбухаў сейсмічнай дзейнасьці, гэтую стадыю рэлігійнага развіцця замяніла ўжо першапачатковае вакхічнае хрысьціянства, а пасьля жахлівай чумы 590 года да яго дадаўся і культ Нябеснай Панны.

У «гарачых» спрэчках паміж арыянамі і гэтымі новымі плынямі, апошнія для большай пераканаўчасьці сваёй правільнасьці праз некалькі стагоддзяў абвясьцілі сябе існаваўшымі яшчэ за 300 гадоў да Арыя, памёрлага ў 336 годзе, і абвясьцілі арыянства адным із больш пазнейшых вальнадумстваў сваёй уласнай навукі. А калі іхныя супернікі, арыяне, канкуруючы з імі ў гэтай pseudologia phantastica, аднеслі свой пачатак яшчэ больш у мінулае – за 1800 гадоў назад, то іхныя супернікі, карыстаючыся іншым вымаўленнем імя іхнага заканадаўцы, абвясьцілі, што іхны Арый не Арый, а цалкам іншы чалавек – Арон-ягіпцянін (г.зн. міц-рымлянін), закон якога быў скасаваны ўжо даўно легендарызаваным імі Хрыстом.

Так арыянства раздваілася на дзьве рэлігіі, абросшыя фантастычнымі дадаткамі. Такой жа рэлігія з'яўляецца, як мы бачылі ў VI томе, і агарянства, перайшоўшае ўжо пазней ў сучаснае магаметанства, але і яго гісторыя ўся была перакручана і апакрыфікавана. І яно, як і хрысьціянства, быццам бы вывезенае із берагоў Мёртвага мора», пачало вывозіцца із такога непрыдатнага для навуковага цэнтра пустэльнага мястэчка, як Мека, якая ператварылася ў мястэчка толькі дзякуючы сярэднявечным пілігрымам. Якая падстава размяшчаць выточны пункт гэтай рэлігіі фактычна пашырыўшайся са зброяй у руках аж да сьцен Цар-Горада і

да Гібралтара ў такім непрыдатным для гэтага шляху са стратэгічнага боку гледжання месцы, як Ятрыб (г.зн. Медына, гл. мапу), у Аравіі, на мяжы вялікай пустыні без гавані і без зручных шляхоў паведамленняў?

Раней, да ўрачыстасьці сучаснага прыродазнаўства, гісторыкі-тэолагі пераможна адказвалі на такія непазбежныя пытанні аднымі і тымі ж стэрэатыпнымі словамі:

«Шляхі боскія невядомы. Бог знарок абірае немагчымыя з якога б то ні было чалавечага боку глджання шляхі для пашырэння сваіх рэлігій – і ў гэтым выпадку ён абраў шлях ад дзікага аравійскага мястэчка Ятрыб ў культурную Эладу, а для хрысьціянаў шлях ад беднай даліны Мёртвага мора ў асьвечаны і ганарлівы італійскі Рым. Толькі дзякуючы яго волі, вядома, і мог непісьменны паганяты вярблюдаў, празваны Славутым (Магаметам), ці рыбак із Генісарэцкага возера перамагчы ў сваіх рэлігійных спрэчках навукоўцаў, філосафаў Элады».

Але сучасны прыродазнавец, а з ім і навуковы гісторык-рэаліст ужо не могуць быць перакананы падобнымі довадамі і шукаюць натуральных спосабаў тлумачэння такіх дзіваў, як толькі-што апісаныя шляхі пашырэння магаметанства і хрысьціянства. Ён сцвярджае: натуральным шляхам пашырэння абедзьвюх рэлігій павінен быць якраз із Цар-Горада праз Малую Азію і Ягіпет у Ятрыб (Медыну) і ў Меку, а ніяк не наадварот. Ён бачыць, што і само імя Славуты (Магамет) Абул-Казем азначаючае – Бацька Сусьвету, паходзіць ад злучэння жыдоўска-маўрытанскага слова «аб» – бацька і грэцкага «космас» – сусьвет, адкуль і імя Кузьма.

Ён адзначае, што і мова Карана зяўляецца толькі лёгкім перайначваннем жыдоўскай мовы, якая была пад час сярэднevечча літаратурнай мовай усёй Рамейскай імперыі ад Месапатаміі да Гішпаніі і доўга захоўвалася ў яе частках нават у Яўропе, бо Кардаўскі халіфат патрапіў пад уладу хрысьціянаў толькі ў 1236 годзе, праз 34 гады пасьля захопу Цар-Горада крыжакамі (гл. табл. I).

Паглядзеўшы на першакрыніцы нашых ведаў пра час, і жыццё славутага Магамета, «Бацькі Сусьвету», шукальнік першапачатковых дакументаў са здзіўленнем бачыць, што ніякіх такіх дакументаў не існуе ні ў Мецы, ні ў іншых мусульманскіх краінах, і што першыя паведамленні пра жыццё і дзейнасць Магамета людзі атрымалі із Лондана ад містэра Пакока і ўжо пад час друкарскай эпохі, як я павядоміў у VI томе ў асобнай частцы пра Магамета.

Ды і ўся так званая арабская літаратура, калі пачнеш дакопвацца да месца знаходжання яе верагодных першакрыніц, прыводзіць нас у кордаўскія, гранадзкія, сявільскія і іншыя гішпанскія бібліятэкі, а не ў Масул і Багдад, якія і ў XIX стагоддзі нашай эры не мелі ніякіх бібліятэк.

Паглядзеўшы на сямейнага жыццё мусульман з іхым шматжонствам, мы дакладна так жа бачым, што яно ж апісана і ў біблейскіх кнігах «Цары», якія спісалі ўсіх ізраільскіх і юдэйскіх цароў із візантыйскіх.

Дык чым жа законы Магамета адрозніваюцца ад законаў Арона, а з ім і ад законаў Арыя? І ці не з'яўляецца сучаснае магаметанства толькі перажыткам арыянства?

Вось пытанні, якія заслугоўваюць сур'ёзнага і ўсебаковага дасьледавання, прытым немагчыма кіравацца аднымі «сведчаннямі старажытных пісьменнікаў», якія вельмі часта выяўляюцца ілжэсведчаннямі нашмат больш пазьніх псяўдолагаў.

Я не буду тут згадваць пра ўжо адзначаныя гісторыкамі непаразуменні накшталт таго, што **біскуп Парыжа Дыянісій**, пра якога згадвае Рыгор Турскі на

прыканцы VI стагоддзя, як пра сучасніка літаратара Дэцыя-Траяна (249-251 г.), змешваўся наступнымі хрысьціянскімі пісьменнікамі з Дзіянісіем Арэапагітам **апостальскіх здзяйсненняў**, і што Гішпанія ў Арыгена мае назву Маўрытанія[17]. Не буду выказвацца і пра тое, што першапачатковая хрысьціянская царква не можа уяўляцца намі згодна з ўзорам сучаснай ужо дзякуючы аднаму таму, што яна дапускала ў свой сьтарскі склад і жанчын, пад назвай дыяканіс: удзел жанчын у старажытных хрысьціянскіх набажэнствах быў падцверджаны і Халкедонскім саборам (с. 15) у 451 годзе, і яны богаслужілі нароўні з мужчынамі пад час старажытнасьці і пад час сярэдневечча, як у лацінскіх, так і ў грэцкіх храмах (а ў якавітаў гэта існуе і зараз); із гэтага зразумела, што і вялікай пантыфіцыне Джаване (855-857 гг.) ці, як яе завуць зараз, папесе Яне, не было патрэбы выдаваць сябе за мужчыну. Прэтэнзіі дыяканскага звання на раўнапраўнасць з прасвітарамі ў справе набажэнстваў і ў пашане былі тады такімі пашыранымі, што пазьней, калі давялося абмяжоўваць іхныя правы, было дададзена апакрыфічнае згадванне пра гэта ад імя Нікейскага сабора (§18).

Цалкам зразумела, што ўсе гісторыкі, якія прызнаюць за рэлігіямі натуральнае, а не звышнатуральнае паходжанне, павінны выходзіць у сваіх дасьледаваннях з таго асноўнага цьверджання, што рэлігіі, падобна ўсяму астатняму, паслядоўна развіваліся са свайго першапачатковага зародка і перажывалі на сваім шляху ад пакалення да пакалення шмат змен і нават памнажаліся, як першапачатковыя арганізмы, шляхам дзялення на шэраг варыяцый, перш чым дажылі да нашага часу. Жыды ж і магаметане не больш адрозніваюцца адзін ад аднаго, чым каталікі ад праваслаўных і без сумневаў маюць агульнае паходжанне із арыянства, бо Арый і Арон – адна і тая ж асоба. А адносна тых званняў, якія насілі пры храмах служкі хрысьціянскага культу, існуе ліст рымскага біскупа Карнелія[18], які сведчыць, што «рымскі храм» меў пры ім 46 прасвітараў, 7 дыяканаў, 7 іпадыяканаў, 42 акалутаў-памагатых пры здзяйсненні таемстваў, 52 заклінальнікаў хвароб і толькі 1 чытара кніг і брамніка.

Згадваецца дзе-нідзе і пра біскупаў у вялікіх гарадах і пра мітрапалітаў у сталіцах, якімі былі Цар-горад, Рым, Александрыя і Антыёхія. Крыніцамі іхнага матэрыяльнага утрымання называюцца спачатку дабраахвотныя прынашэнні вернікаў, а потым і прамыя падаткі на насельніцтва. Набажэнства складалася толькі са спеваў невядомых нам песень, да якіх належала і эратычная Песьня Песень, захаваўшаяся ў сучаснай Бібліі.

«*Прычашчэнне*, – выказваецца Дж. Робертсан[19], – *звычайна суправаджалася агапай*[20] *ці вечарынай кахання...*», і «*таямнічыя абставіны такіх вечарын спрыялі ўзнікненню народнай пагалоскі, называўшай іх тэістычнымі ўрачыстасьцямі* (згодна з імем Тыеста, спакусіўшага жонку свайго брата Мікенскага цара Атрэя) *і дапасаваўшай ім і іншыя брыдоты»*. У выніку гэтага назва «эротыка» (агапы) была пасьля чатырох стагоддзяў існавання забаронена, і само «прычашчэнне віном перанесена з ночы на раніцу», а разам з тым спынілася і штодзённасць такіх сходаў, і здзяйсненне прычашчэння віном пачало абмяжоўвацца нядзельным днём[21]. А сам нядзельны дзень, – паведамляюць нам, – пачынаўся на ўсходзе пад

---

[17] Origen. In Lac. Horn. 6, III, 939.
[18] Apud Euseb., VI, 44.
[19] Гісторыя Хрысьціянскай царквы Робертсана, кн. I, гл. VII, 3, 5.
[20] Ἀγάπη (агапэ) – каханне, у сэнсе закаханасьці.
[21] Дж. Робертсан. Гісторыя Хрысьціянскай царквы, т. I, гл. VIII, 3, 5.

час першых стагоддзяў хрысьціянства з вечара суботы, прытым абодва дні святкаваліся амаль аднолькава. А на Захадзе нядзеля, відаць, пачыналася са сваёй раніцы, і царкоўныя аўтары сцвярджаюць, што святкаванне гэтага дня, а таксама і сьвяткаванне Богаз'яўлення, пачалося наогул не раней IV стагоддзя нашай эры. У катакомбавых храмах сярэдневечча, як мы ўжо бачылі[22], яшчэ не існуе ніякіх выяваў сьвятых ці крыжа, а толькі добрага пастыра з авечкамі, Бахуса з вінаграднай лазой, птушкі Фенікса, Арфея з лірай, Апалона, Меркурыя, Тэзея забіваючага Мінатаўра[23], і ўсё гэта так мала адпавядае наданым нам уяўленням пра старажытнасьць сучаснага храмавага ўладкавання і хрысьціянскага набажэнства, што немагчыма папракнуць мяне за жаданне распрацаваць гэты прадмет не грунтуючыся цалкам на так званых «сведчанняў старажытных».

Гэтыя сведкі так заблыталіся ў сваіх апокрыфах, што першыя выявы Хрыста Тэртуліян дапасуе да «эклектычнага паганства Аляксандра Сявера»[24], (а ў іншых месцах ён прагаворваецца), што хрысьціянскае праваслаўнае сьвятарства ў яго час мела і па дзьве жонкі, хаця сучасныя царкоўнікі і тлумачаць, што пад словам дваяжонства (digamia) у яго патрэбна разумець двух жонак толькі ў пераемным сэнсе[25]. Другі артадаксальны пісьменнік, Кіпрыян[26], папракае сьвятароў за іхнае неадружанае сужыццё з храмавымі нявінніцамі. Мы знаходзім далей, што пад найменнем «пятага апостальскага правіла» забараняецца біскупам, сьвятарам і дыяканам адстаўляць сваіх жонак на падставе рэлігіі, а ад імя Элвірскага сабора шматлікія ўказанні на адружанасць і шматжонства першапачатковага хрысьціянскага сьвятарства тлумачацца тым, што біскупы, дыяканы, сьвятары і нават ніжэйшае сьвятарства жылі са сваімі жонкамі, як з сёстрамі[27] і што ім так і належыць жыць.

Мы бачым, што кожная наша першакрыніца малюе жыццё хрысьціянскага сьвятарства такім, якім яму яно ўяўляецца, ды і пра багоў і пра цароў таго часу можна знайсьці, што заўгодна. Так, Яўменій піша[28], што Кастусь I да самай сьмерці браў удзел ва ўсіх «паганскіх» звычаях і абвяшчаў Апалона сваім асабістым заступнікам, і, каб замірыць гэта з яго (не існаваўшым яшчэ тады) сучасным хрысьціянствам, Гізелер[29] прыходзіць да высновы, што Апалон быў паганскім прадстаўніком (можа ўжо паўнамоцным прадстаўніком?) Езуса Хрыста.

А з нашага боку гледжання, што паганскія багі старажытных элінаў і грэкаў спісаны з сярэднявечнага хрысьціянскага пантэона (знішчанага на Захадзе толькі Рыгорам Гільдэбрандам напярэдадні крыжовых паходаў), ушанаванне Кастусём Вялікім Апалона здзіўляе непараўнальна менш, чым адкрыццё ім у палестынскім Эль-Кудсе (псеўда-Ерусаліме) «сумленнага і жыватворчага крыжа».

Да такіх жа мудрагельстваў даводзіцца далучыць і знакаміты вайсковы сьцяг Кастуся, на якім, быццам бы, быў намаляваны крыж з пачатковымі літарамі Езуса Хрыста, зроблены ім з нагоды «бачання пад час сну» ў Галіі, а згодна з іншымі сведчаннямі каля Рыма. Але, моцна сумняваючыся ў гэтым снабачанні, можна лічыць вельмі верагодным паведамленне некаторых першакрыніц, што ён на

[22] Хрыстос, кн. IV, стар. 292.
[23] De Rossi. Roma Sotterranea, II, 313-314.
[24] Tertullian. De Corona, 3.
[25] Tertullian. Exhortation. Gastid., c. 7.
[26] Cyprian. Epist., 4.
[27] Дж. Робертсан. Гісторыя Хрысьціянскай царквы, т. I, гл VIII, 4.
[28] Eumenius. Panygiric. ad Constant, c. 21 (Patrologia, VIII, 638).
[29] Gieseler. Lehrbuch der Kirchongeschichte, I, 1, S. 270.

працягу усяго свайго жыцця трымаў за сабой тытул і пасаду Pontifex Maximus'a (гл. стар. 59).

Зараз мы зноў шчыльна падышлі да моманту ўзнікнення арыянства. Арый быў сучаснікам Кастуся I і, без сумневаў, меў на яго вялізны ўплыў. Каля 311 года ён, – паведамляюць нам, – стаў біскупам у ягіпецкай Александрыі, але выдаліўся адтуль на берагі Мармуровага мора, у Нікамедыю, і тут склаў кнігу «Квітнеючае шчасьце»[30], уяўляўшую шэраг лірычных вершаў. Іхныя ўзоры прыводзяцца Апанасам[31] і носяць рэлігійны характар, калі верыць, што кнігі, выдадзеныя ад імя Апанаса ў 1690 годзе і без існавання больш старажытных праўдзівых рукапісаў, могуць служыць надзейным сведчаннем пра тое, што адбывалася ў чужой для аўтара краіне за паўтары тысячы гадоў да яго. Той жа Апанас распавядае нам, як быў склікваны ў Нікеі паблізу Канстантынопаля сабор, каб вырашыць, хто мае рацыю: Арый ці яго супернікі, але тут жа пачынаюцца ў яго супярэчнасці з іншымі «старажытнымі сведкамі XVII стагоддзя нашай эры». колькасць сябраў Сабора вызначаецца Апанасам роўнай 318 чалавек[32], відавочна адпаведна біблейскай кнізе Быццё, дзе сказана: «пачуўшы, што яго родзіч Лот узяты ў палон, Бацька Рыма (Абрам) узброіў 318 рабоў, народжаных у яго сядзібе, і пераследаваў непрыяцеляў (Быццё, XIV, 14)». Выпадковага супадзення тут быць не можа калі браць да ўвагі неакругленасць гэтай лічбы, тым больш, што такую ж самую колькасць паўтараюць і Епіфан Кіпрскі (LXIX, 11) і Тэадарыт (I, 7). Тут застаецца толькі вызначыць, хто ў каго спісаў, тым больш, што і слова Абрам (якое вымаўляецца намі Аўраам) азначае Бацька Рыма, якім і быў згодна з грэцкай наменклатурай Кастусь.

Мы не будзем разбіраць астатнія непагадненні, назіраемыя ў нашых розных першакрыніцах адносна Нікейскага сабора[33], і пяройдзем да яго стваральніка.

Кастусь, – кажуць нам – быў **славянінам**, таму што належаў дзякуючы свайму бацьку Канстанцыю Хлору да шляхетнага дарданскага роду, а Дарданіяй звалася вобласць сучаснай Сербіі па рацэ Мараве, і нарадзіўся ён у горадзе Наіс, сучасным Нішы.

Дык чаму ж ён, нарадзіўшыся славянінам і патрапіўшы воляю лёсу ў «рамейскія» імператары, атрымаў бы італьянскае імя Кастусь, у той час як Італія магла тады быць толькі падначаленай Цар-Гораду правінцыяй, і гэтае імя гучала б дзіка ў вушах усіх яго атачаючых? Відавочна, што ён ніколі і не меў імя Кастусь і ўсе манеты з такім імем з'яўляюцца падробкамі.

І дзіўная рэч! У той час, як грэцкія аўтары даюць яму лацінскія назвы, адны лацінскія аўтары апісваюць яго, апакрыфуючы ў першае стагоддзе да пачатку нашай эры пад імем Кая-Юлія-Кесара-Актавіяна-Аўгуста, дзе толькі апошнія два

---

[30] Па-грэцку? Θαλία (Фаліа) – квітнеючае шчасьце, вясёлы баль; роднасна з θαλλός (фалас) – маладая галінка алейнага дрэва і сугучна з φαλλός (фалас) – мужчынскі дзіцянараджаючы орган; фалофорамі (φαλλοφόροι) зваліся носьбіты фалуса на вэрхалах, а фалафарамі (θαλλοφόροι) – носьбіты алейнай галінкі падчас сьвята Мінервы. Магчыма, што апошняе сьвята было перараджэннем першага, г.зн. фалас стаў знакам фалуса.

[31] Athanasjus de Synodis, XVII, 720. Выд. Montfaucon. Paris, 1690 г.

[32] Athanasius ad Afros, 2.

[33] Яўсевій дае 250 чалавек (V Cons., Ill, 8); Апанас (De decret. Nic. Sino.1, 3) і Сакрат (Ecelesiasticae Historiae Scriptores Craeci, I, 8) «больш 300». Сазамен (тамсама, I, 14) каля 320. Той жа Апанас (у ad Afros, 2) разам з Епіфанам (LXIX, 11) і Феадарытам (I, 7) дае 318, як бы «згодна з паданнем», адпаведна лічбе служак Абрама ў кнізе Быццё (XIV, 14).

імені лацінскія, а першыя тры – жыдоўскія[34]. А цікавей усяго, што і слова Кесар – імператар (адкуль паходзіць і нямецкае Кайзер) – з’яўляецца проста элінізаваным жыдоўскім Кашар ці Касец, г.зн. Моцны, якім і зяўляецца значэнне імя Кастусь, так што Канстантынопаль проста азначае Ўмацаваны горад, г.зн. умацаванне»

Я звярну яшчэ ўвагу, што ў іншых лацінскіх аўтараў, той жа Кастусь апакрыфічна названы Ромулам, ад жыдоўскага слова Ром (רמ) – Насарог, самага моцнага са звяроў, а ў бібліі ён мае імя Заступнік народа (Ераваам). З гэтай прадмовай я і перайду да супастаўлення розных паведамленняў пра яго.

Неяк я выказаўся ў гэтай самай сваёй працы, што ўсе агульна-цікавыя кнігі, прыпісваемыя старажытнасьці, але дайшоўшыя да нас ці да часу свайго надрукавання толькі ў адным асобніку і без варыяцый – павінны быць прызнаны ілжывымі, і я прыводзіў у якасьці доказу гэтага закона памнажэння агульна-цікавых рукапісаў у геаметрычнай прагрэсіі, што дае дзіўны вынік – незвычайна хуткае памнажэнне шляхам усё павялічваючагася перапісвання да поўнага насычэння чытаючай публікі, і з'яўленне шматлікіх варыяцый. У дадзеным выпадку моцна памножылася толькі біблейская кніга «Цары», а таму ёй мы і павінны надаваць кіруючае значэнне, як самай старажытнай сярод усіх іншых нашых першакрыніц. Але прымем да ўвагі і іншае.

Паглядзім спачатку, якім малюецца Ўстойлівы Цар-Насарог (Кастусь Яўсевій Усялюб) грунтуючыся на грэцкіх першакрыніцах.

Як ён павярнуўся да «хрысьціянства» і якім яно было ў яго час? Пра гэта нашы першакрыніцы супярэчаць адна другой.

Кастусь у біскупа Яўсевія цалкам не падобны на Кастуся пад пяром Зосімы. Таму гісторыкі, працуючы над ім, знаходзілі выдатную глебу для занясення ў такое заблытанае пытанне сваіх апэрцэпцый. На працягу доўгага часу на меркаванне пра Кастуся рабілі вялікі ўплыў скептычныя погляды Якава Буркгардта, выказаныя ў яго творы «Час Кастуся Вялікага» (1-е выд. у 1853 г.). Згодна з яго меркаваннем Кастусь быў геніяльным чалавекам, захопленым славалюбствам і імкненнем да ўлады і прыносіўшым у ахвяру ўсё дзеля выканання сваіх мірскіх планаў. Лічачы твор Яўсевія «Жыццяапісанне Кастуся», з'яўляючыся адной із галоўных грэцкіх крыніц, цалкам падробленым, Буркгардт справядліва лічыць за прыдумку клерыкалаў і запазычаны адсюль яго паварот да хрысьціянства.

Нямецкі багаслоў Гарнах у сваім дасьледаванні «Павучанне і пашырэнне хрысьціянства на працягу першых трох стагоддзяў» (1-е выд. у 1892 г.) прыходзіць да аналагічных высноваў, грунтуючыся на іншых падставах. Ён прызнае, што хрысьціяне да IV стагоддзя не ўяўлялі яшчэ большасьці насельніцтва. «Але лікавая магутнасць і ўплыў, – выказваецца ён, – не заўсёды супадаюць адзін з адным: меншая колькасць можа карыстацца вельмі моцным уплывам, калі яна абапіраецца на кіруючыя станы, і большасць можа мала азначаць, калі яна складаецца із падначаленых пластоў грамадства, галоўным чынам із вясковага насельніцтва. Хрысьціянства, згодна з яго думкай, было ў той час гарадзкой рэлігіяй, і, чым большым быў горад, тым больш значнай, быццам бы, была у ім колькасць хрысьціянаў. І гэта было іхнай незвычайнай перавагай. Патрэбен быў толькі

[34] Кай (Кайус) – ад жыдоўскага КУЕ (כוה) – моцны, адкуль і грэцкае агіёс (α-γιος) – сьвяты; Юлій – пераінachанае Элі, г.зн. боскі – па-жыдоўску, і кезарь – пераіначанае жыдоўскае слова Кашар – Моцны, г.зн. – тое ж, што Кастусь, пры гэтым яно перайшло ў грэцкіх гісторыкаў, не ўмеўшыхі вымаўляць гук «ш» у Кесар і праз іх у нямецкае Кайзер – кароль; а Актавіян Аўгуст азначае – восьмы сьвяты».

ўніклівы і моцны палітык, які ў той жа час меў бы ўнутраную цягу да рэлігійных перажыванняў».

Такім чалавекам і быў Устойлівы цар згодна з Гарнакам.

Але вось, зараз найбольш сур'ёзныя візантыісты прызналі, што пры Кастусю паганства з'яўлялася пераважаючым элементам і ў гарадскім грамадстве, і ва ўрадзе, і што хрысьціянаў была і тут меншасць. Згодна з высновамі праф. Балотава і некаторых іншых, «да часу Кастуся хрысьціянскае насельніцтва не складала і $^1/_{10}$ часткі ўсяго насельніцтва, а, магча, і гэтую лічбу патрэбна «паменшыць». У наш час меншасць хрысьціянаў у імперыі пры Кастусю прызнана амаль усімі. Калі ж гэта так, то палітычная тэорыя ў яе чыстым выглядзе адносна «Ўстойлівага цара-Насарога» і пашырэння ім хрысьціянства ў Вялікай Рамеі павінна быць перагледжана. Палітык не мог будаваць свае шырокія планы, абапіраючыся на $^1/_{10}$ частку падначаленага пласта насельніцтва, якое, як вядома, нават і не жадала браць удзел у палітыцы.

Ды і само яго далучэнне да хрысьціянства зараз адмаўляецца амаль усімі гісторыкамі, акрамя клерыкальных.

«*На працягу усяго свайго кіравання ён заставаўся,* – выказваецца А. А. Васільеў, пагадняючыся ў гэтым з усімі першакрыніцамі, – *вялікім жрацом* («Pontifex Maximus»); *нядзельны дзень ён называў не інакш, як адпаведна класічнай наменклатуры, – «дзень сонца»* (dies solis), *а не хрысьціянскай – «дзень госпада»* (dies Domini). *А пад «непераможным сонцам»* (sol invictus) *тады звычайна разумелі бога Мітру, культ якога карыстаўся велізным пашырэннем на ўсёй прасторы імперыі – як на Ўсходзе, так і на Захадзе*.

Зараз доказана, – выказваецца А. А. Васільеў, – *што Кастусь быў прыхільнікам культу сонца. Але якога бога ў прыватнасьці ўшаноўваў ён пад гэтай назвай, у дакладнасці невядома; магчыма, гэта быў Апалон*».

– «Але чаму ж адзін Апалон? – запытаем мы. – Чаму таксама не біблейска-арабскі Элоі, да якога, згодна са сведчанем евангелля Марка (XV, 34), заклікаў і Хрыстос на крыжы словамі: «Элоі, Элоі! Лама савахтані!», г.зн. «Божа, божа! Навошта ты пакінуў мяне!» Слова ж Элоі, без сумневаў, паходзіць ад грэцкага Эліяс – Сонца, і тады рэлігія цара-Насарога будзе такой жа, як і рэлігія біблейскага бацькі ўсіх першасьвятароў – Арона, ён жа Арый, як я не раз спрабаваў давесьці.

Міфічны паварот Кастуся да хрысьціянства (якога згодна з нашай храналогіяй тады яшчэ і не існавала) злучаецца з вядомым апавяданнем пра з'яўленне на небе крыжа падчас яго змагання з Максенцыем, г.зн. для тлумачэння нагод выкарыстоўваецца элемент цуда. Але першакрыніцы ў дачыненні да гэтага дзіва выяўляюць вялікае непагадненне. Самым старажытным ілжэсведкам пра з'яўлене знака крыжа з'яўляецца хрысьціянскі псеўда-сучаснік Кастуся Лактанцый, які ў сваім творы «Пра сьмерць ганіцеляў» (De mortibus persecutorum) паведамляе пра атрыманае, быццам бы, Кастусём падчас сну павучанне, каб ён намаляваў на шчытах боскі нябесны знак, але пра сапраўдны нябесны знак у Лактанцыя не паведамляецца ні слова.

Іншы псеўда-сучаснік Кастуся, Яўсевій Усялюбец, у самым раннім сваім творы – «Царкоўнай гісторыі» – толькі заўважае, што Кастусь, ідучы на абарону Рыма, «паклікаў у малітве ў якасьці хаўрусніка бога нябеснага і яго «Слова», Ратавальніка ўсіх Езуса Хрыста. А ў «Жыцьцяапісанні Кастуся» ён дае, быццам бы, са слоў самага імператара, «які клятвай падцвердзіў сваё паведамленне», апавяданне пра тое, як Кастусь падчас паходу пабачыў над сонцам знак крыжа з

надпісам: «гэтым перамагай» (τούτω νίκα). Гэтае апавяданне відавочна навеяна “знакам” (мал. 16 і 17) каля сонца, але яго бачыў не Кастусь, а сам аўтар, якому прыйшла ў галаву думка, што менавіта такім чынам нябесны цар мог схіліць да хрысьціянства цара зямнога. Таму ён і дадаў ад сябе, што пад час бліжэйшай жа ночы з'явіўшыся Кастусю ў сне Хрыстос з такім жа крыжам загадаў яму прыгатаваць падабенства яго і з гэтым сьцягам выступіць супраць ворагаў.



Мал. 16 і 17
Із рэдкіх аптычных з'яваў, залежачых ад пераламлення сонечных прамянёў аднастайна з’арыентаванымі крышталікамі вады ў верхніх пластах зямной атмасферы («крыж на сонцы» і «капялюшык на сонцы»). (Із «Метэаралогіі» Каміла Фламарыёна.)

«Раніцай, – ілжыва сведчыць аўтар, – імператар загадаў прыгатаваць такі сьцяг, вядомы пад назвай labarum. Але гэтае слова нават не лацінскае, а запазычана із мовы жывучых у Пірынеях баскаў, у якіх яно проста азначае «харугва». А сярэднявечны візантыйскі лабарум уяўляў сабой даўгаваты крыж, з папярочнай рэі якога спускаўся вышыты золатам і ўпрыгожаны каштоўнымі камянямі кавалак шаўковай тканіны з выявай самога Кастуся і яго сыноў, чым і даводзіцца, што яго вынаходніцства належала не раней, як яго пра-пра-праўнукам, калі яго ўжо далучылі да ліку сьвятых. «На вяршыні крыжа быў замацаваны залаты вянок, пасярэдзіне якога знаходзілася манаграма Хрыста». Але гэта быў сьцяг позняй Візантыйскай імперыі. Такія ж згадванні пра з'явіўшыся Кастусю «бога-знак» ці пра бачанае ім на небе войска, пасланае богам яму на дапамогу, можна знайсьці і ў іншых ілжэсведак старажытнасьці, але яны ўсе да такой ступені перапўнены дзівамі, што не заслугоўваюць сур'ёзнай увагі сучаснага гісторыка.

Першы ўказ на карысць хрысьціянства быў выдадзены, – паведамляюць нам, – нават не Кастусём, а адным, быццам бы, із самых лютых ганіцеляў – Галерыем, – які яшчэ ў 311 годзе прамовіў:

– «*Хай зноў* (!) *будуць хрысьціяне, хай яны збіраюць свае сходы, абы не парушалі спакой! За гэтую нашу літасць яны павінны маліць свайго бога пра дастатак наш, нашай дзяржавы і пра свой уласны*».

Не больш праўдзівым лічыцца і псеўда-міланскі эдыкт, тэкст якога, – кажуць нам, – існуе толькі ў клерыкальнага пісьменніка Лактанцыя ў форме напісанага на-лаціне рэскрыпта Ліцынія (а не Кастуся!) на імя прэфекта Нікамедыі, а яго грэцкі пераклад змешчаны Яўсевіем у яго «Царкоўнай гісторыі».

– «*З гэтага часу*, – абвяшчае Ліцыній, – *кожны, хто пажадае выконваць хрысьціянскія звычаі, хай вызнае іх вольна і шчыра, без якой бы то ні было турботы і цяжкасьці. Мы палічылі патрэбным паведаміць гэта твайму нагляду* (г.зн. прэфекту Нікамедыі) *як магчыма больш грунтоўна, каб ты ведаў, што мы далі хрысьціянам поўнае і неабмежаванае права шанаваць сваю веру. Калі гэта мы дазволілі ім, то тваёй светласьці павінна быць зразумела, што разам з гэтым і іншым даецца адкрытае і вольнае права, дзеля спакою нашага часу, выконваць свае звычаі і сваю веру, каб кожны карыстаўся воляй шанаваць тое, што абраў. Так вызначана намі з той мэтай, каб не здавалася, быццам мы хочам зняважыць чыю-небудзь годнасць ці веру*».

І Ліцыній, быццам бы, загадаў вярнуць хрысьціянам без платы і без пярэчанняў адабраныя ў іх прыватныя будынкі і цэрквы.

Але і гэты ўказ зноў выдадзены не ад імя Кастуся, а ад яго суваладара, якога ён забіў. А ў давяршэнне ўсяго ў 1891 годзе нямецкі навуковец Зэек (Seeck) давёў, што міланскага эдыкта ніколі не існавала, а мог, згодна з яго высновамі, быць толькі адзін, ужо вядомы нам эдыкт Галерэя 311 года.

Як тут усё невыразна і супярэчліва! І калі Кастуся нават і ахрысьцілі паміраючага (што не цяжка зрабіць з кожным чалавекам у стане агоніі), то хіба яго можна лічыць грунтуючыся на адным гэтым учынку заснавальнікам хрысьціянскай царквы ў Рамейскай імперыі?

Акрамя таго, якое хрысьціянства тут мацца на ўвазе? Слова ж «хрысьціянін» па-грэцку азначае проста памазанец, пасьвечаны і ніколькі не сведчыць пра тое, што і ідэалогія пасьвечаных была тады такой ж самай, як у XIX стагоддзі і ў нашы дні.

Грэцкія клерыкальныя апакрыфісты эпохі Крыжовых паходаў, ці нават нашмат пазьней іх, «сведчаць» нам, быццам Кастусь, толькі-што перамогшы Ліцынія і стаўшы адзінаўладным і самаўладным валадаром, прыбыў у 324 годзе ў Нікамедыю, дзе атрымаў цэлы шэраг скаргаў як з боку супернікаў Арыя, так і яго прыхільнікаў. «Жадаючы захаваць царкоўны мір», імператар, быццам бы, звярнуўся з лістамі да Аляксандра Александрыйскага і да Арыя і пераконваў іх замірыцца, узяўшы прыклад з філосафаў, якія, хаця і спрачаюцца паміж сабой, але ўжываюцца мірна.

«*Вярніце мне мірныя дні і спакойныя ночы*, – пісаў ён (быццам бы) ім, – *дайце і мне нацешыцца мірным жыццём*!».

Але яны не пагадзіліся даць яму мірнае жыццё, і вось Кастусь вырашыў склікаць сусветны сабор у 325 годзе ў віфанскім горадзе Нікеі.

Ніякіх актаў гэтага сабора нідзе не існуе. Паведамленні пра яго дайшлі да нас толькі ў творах апакрыфістаў. Яны сцвярджаюць, быццам бы сабор асудзіў погляды Арыя і прыняў знак веры, у якім евангельскі Хрыстос прызнаваўся «сынам боскім, народжаным, нястворaным, аднасутным бацьку», за шта асабліва выступаў нейкі Несьмяротны (Апанас, па-грэцку). А пантыфекс-максімус, яшчэ не ахрышчаны Ўстойлівы цар, прыйшоўшы ад гэтай дэкларацыі ў захапленне, быццам бы, напісаў невядома каму:

«*Усё, што ні задумваў супраць нас дз'ябал, усё знішчана да падставы; двудушнасць, расколы, закалоты, смяротная атрута непагадненя – усё гэта, згодна з наказа божым, перамагло сьвятло праўды*».

I ён прагнў у правінцыю Арыя і яго прыхільнікаў.

Але пасьля гэтага, – папраўляюцца яны ж, – меркаванне цара-Насарога перамянілася, і праз тры гады пасьля сабора былі вернуты са спасылкі Арый і яго найбольш дбайныя прыхільнікі, а замест іх выпраўлены ў спасылку, згодна з загадам Кастуся ж, найбольш выбітныя абаронцы «нікейскага знака веры».

«*Цяжка дакладна высветліць, як гэта магло здарыцца*», – кажуць нам са здзіўленнем гісторыкі, тым больш, што ўсё яны зараз прызнаюць за факт, што Кастусь да апошняга года свайго жыцця заставаўся паганцам. – «*Толькі на сьмяротным ложку ён прыняў хрышчэнне із рук Яўсевія Нікамідыйскага,* – (г.зн. арыяніна) здагадваецца прафесар Спаскі, але дадае як бы ў якасьці прабачэння Кастусю: – «*ён памёр з запаветам на вуснах вярнуць са спасылкі Апанаса, галоўнага суперніка Арыя, а сваіх сыноў ён зрабіў хрысьціянамі*».

– Вось табе і раз! – мімаволі ўсклікаем мы. – Наш Сьвяты і Ўстойлівы цар усё жыццё пражыў паганцам, а памёр арыянінам! Навошта ж тут казкі пра яго Нікейскі сабор і пра зацьверджанне на ім дагмата пра Хрыста як сына боскага? атрымліваецца, што ўся гэтая гісторыя пра перамогу «Несьмяротнага» (Апанаса) над Арыем не адпавядае рэчаіснасьці. Ды і апавяданне пра хрышчэнне кімсьці сваіх сыноў, не будучы ахрышчаным самому, можна прыдумаць толькі ў істэрычным прыпадку.

Нехрысціянства Кастуся робіцца асабліва відавочным пасьля тых атаясамленняў, якія я ўжо зрабіў у I томе.

Там, перадусім, з дапамогай супастаўлення гадоў валадарання і шэрагу паралельных падзей я зрабіў выснову, што той, каго мы завём Каем-Юліем-Кесарам-Актавіянам-Аўгустам, першым рымскім (па-грэцку – рамейскім, а па-новаму – візантыйскім) імператарам, ніколі ў рэчаіснасці не існаваў, а спісаны з гэтага самога Кастуся і толькі апакрыфікаваны на трыста гадоў назад з перанясеннем месца дзеяння з Балканскай Рамеі ў італійскі аднайменны Рым, якога тады нават яшчэ і не было.

Гісторыкі нам кажуць, што ён быў сынам Атыі, унучкі Юлія Цэзара, і ўсыноўлены апошнім, а згодна з грэцкімі апакрыфістамі яго двайнік Кастусь быў рэчаісным сынам Канстанцыя Хлора, з якога спісаны Юлій Кесар. З гэтага боку гледжання Ляпід і Антоній, якія спачатку былі суваладарамі Актавіяна, а потым пераможаны ім, толькі спісаны з Максенцыя і Ліцынія, суваладароў Кастуся, з якімі ён зрабіў тое ж самае.

Але для нас тут мае значэнне не анекдатычны бок іхных вайсковых здзяйсненняў, а толькі тое, што асьвятляе стан рэлігійных уяўленняў таго часу. Мы ўжо бачылі, што ўсе намаганні гісторыкаў зрабіць із Кастуся хрысьціяніна ні да чаго не прывялі, акрамя шэрагу непаганнняў, і вось пад імем Аўгуста (г.зн. велічнага, сьвятога) ніхто із гісторыкаў і не лічыць Устойлівага цара хрысьціянінам, а толькі кажуць, што пры ім нарадзіўся «заснавальнік хрысьціянскай царквы Хрыстос-Ратавальнік», як і пры Кастусю нарадзіўся чэццімінейскі заснавальнік хрысьціянскай літургіі Вялікі Цар (Васіль о-Мегас, па-грэцку). У паралель да склікання Кастусём Нікейскага сабора паведамляецца, як Аўгуст усталяваў вярхоўную судовую ўстанову Сенат, а ў паралель да пабудоў Кастусём у Цар-Горадзе мы маем паведамленні, як Аўгуст упрыгожыў спісаны з Цар-Горада старажытны «класічны Рым», шыкоўнымі пабудовамі. Але тут жа мы даведваемся пра Кастуся пад імем Аўгуста і нешта новае. Выяўляецца, што ў яго (відавочна, акрамя наложніц) былі, як бывала і ў біблейскіх цароў, цэлых тры

афіцыйныя жонкі: Клаўдыя, падчарка Антонія; Лівія, разведзеная жонка Тыберыя, і Скрыбонія, з якой ён потым сам развёўся.

І гэтае шматжонства Ўстойлівага цара Кастуся пад імем Актавіяна вымушае нас і тут аднавіць яго параўнанне з біблейскім царом Ераваамам.

Імя Еравеаам азначае «Заступнік народа» (І Ц., 12, 20; 14, 30; 15, 29). Ён быў сынам Назіральніка (напэўна, зорак) і аддзяліўся з дзесяццю абласьцямі ад Раваама, сына Саламона, імя якога азначае «Пашыральнік народа». Ён ваяваў з Раваамам (адпавядаючым у нас Ліцынію) і заснаваў «Іеравеаамаву ерась», зрабіўшы двух залатых цяльцоў, аднаго із якіх паставіў у сядзібе Бога ў Міц-Рыме, а другога ў Судбішчы[35]. Ён наладзіў храмы на ўзгорках, прызначаў сьвятароў не із лявітаў (ЛУЕ – спадарожнічаць), прызначыў восеньскае сьвята на 15 зень 8-га месяца і сам служыў у сядзібе Бога, г.зн. быў Pontifex Maximus – вялікі першасьвятар, як і Ўстойлівы цар. Валадарыў ён 22 гады.

У гэтым урыўкавым выкладанні апавяданне атрымліваецца даволі гістарычным. Розніца з грэцкімі апакрыфістамі тут толькі ў тым, што «Заступнік Народа» быў вайсковым правадыром «Цара Міратворцы», не царскага паходжання, як Кастусь, што, вядома, залежала ад густу аўтараў. Але праўдападобнасць апавядання зараз жа знікае, калі чытаем акалічнасьці яго абрання. Прарок Ахія (відавочна, ад грэцкага слова агіос – сьвяты), сустрэўшыся з «Заступнікам Народа», у парыве натхнення разарваў на 12 частак сваё новае адзенне і, аддаўшы яму 10 кавалкаў, крыкнуў: «Даю табе 10 кален із царства богазмагальнікаў, а адно пакідаю за Пашыральнікам народа» (што як быццам бы не вельмі адпавядае яго імені «Пашыральнік»).

Потым размешчаны цэлы маналог, сведчачы, што ўсё гэта – белетрыстыка, гістарычна ні на што не прыдатная.

Тое ж самае фантазёрства ідзе і далей. Нават узята непасрэдна із астралагічнай мапы. Вось мой асэнсаваны пераклад:

«*Заступнік народа» зацараваў згодна са словам прарока і дзякуючы абранню грамадзян і стаў акрамя таго сьвятаром* (у знаку сузор'я Стралка, у якое зайшло сонца). *І калі ён сьвятадзейнічаў перад ахвярнікам у Сядзібе Бога* (г.зн. на небе, мал. 18), *прыйшоў*, – паведамляе І кніга Цароў (гл. 13), – *боскі пасланец* (назва якую ўвесь час мелі каметы ці планеты) *і прамовіў:*

*– Ахвярнік, ахвярнік! Так выказваецца Грамабой Бог: народзіцца сын у нашчадкаў Ўмілаванага, імя яго ІСУС*[36], (у знаку сузор'я Змеятрымальніка, ўзносячагася на неба (мал. 48), *ён, прынясе на табе ў ахвяру сьвятароў пірамід*[37], *здзяйсняючых каджэнні перад табой, і згараць на табе чалавечыя косткі*».

*Цар падняў руку, вымавіўшы:*

*– Вазьміце яго!*

*Але яго рука знікла, а Ахвярнік быў рассечаны* (пазнакай) *і масла ахвяраванняў разлілося* (у полымі ранішняга світанку).

*Цар* (у знаку сузор'я Стралка з яго Вянком і рукой нацягваючай лук і знікшай у праменях вечаровага зарыва) *пачаў маліць празарліўца даравацьь яму і згодна са словам апошняга яго рука зрабілася як раней. Прарок пайшоў потым дахаты, адмовіўшыся згодна з загадам бога ад якога б то ні было гасьцяваня ў царстве*

[35] Па-жыдоўску Сядзіба бога – Бэт-Ці, а Судбішча – Дан.

[36] І-АШ-ІЕУ ў царкоўным тэксце перакладзена Осія, але тут не адно, а два асобныя словы ІЕУ і І-АШ. Гэта толькі іншае вымаўленне слова ІЕУ-ШІЭ – Ііcус.

[37] Па-жыдоўску Бама (במה) – вышыня, і ў прыватнасьці, царскі надмагільны курган, г.азн. піраміда

*«Заступніка Народа». Але другі із празарліўцаў Сядзібы Бога,* (напэўна, планета Юпітар*), даведаўшыся пра яго дзіва, ускочыў на Асла, дагнаў яго, калі ён знаходзіўся пад Магутным, і вярнуў назад, як бы таксама адпаведна са словам бога, і накарміў у сябе. І вось, калі прарок выйшаў із Сядзібы Бога* (Ясляў Хрыста ў сузор'і Рак) *і паехаў на Асле* (звярніце ўвагу – відавочны астралізм), *тады на дарозе яго сустрэў Леў і забіў* (камета паслабела, страціўшы сбой хвост у пашчы сузор'я Ільва). *Пачаставаўшы яго прарок, даведашыся пра гэта, засядлаў другога Асла і знайшоў яго цела паміж першым Аслом і Ільвом* (відавочныя сузор'і, мал. 19 і 20). *Ён пахаваў яго ў сваёй магільні, ды і сябе запавятаў пахаваць у ёй жа*.

*Але гэты нябесны знак не паразуміў «Заступніка народа», і ён па-ранейшаму пасьвячаў, каго пажадае, у сьвятары царскіх вышынь* (пірамід)».




Мал. 11
Сузор'е Ахвярнік, над ім Скарпіён, Змеятрымальнік Геркулес, Паўночны Вянок і Цмок, абвіваючы полюс экліптыкі.

Тут да алегарычнай гісторыі «Ўстойлівага цара» Кастуся І ўжо далучылася і астралогія. Мы бачым тут і Ахвярнік (сузор'е) і двух Аслоў у сузор'і Рак і Леў, яго суседзяў, а пад прарокамі мы павінны разумець няйнакш, як камету, якую дагнаў Юпітар (ці Сатурн) паміж Ракам і Ільвом у стане супрацьстаяння, што бывае толькі пры Сонцы ў Казярогу ці Вадаліве, г.зн. у студзені-лютым, юліянскага злічэння.

А якраз у студзені 331 года, за 6 гадоў да сьмерці Кастуся І, Юпітар у Ільве перасякаў Сатурн пры яго адваротным руху і пры знаходжанні планеты войны Марс якраз над Ахвярнікам. І акрамя таго, у жніўні 329 года, пры Сонцы ў Ільве, летапісы Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь (гл. кн. VI), прывезеныя із Пекіна місіянерамі Майльля і Габілем, паказваюць яшчэ і «меч боскі» – камету ў сузор'і Стралка, – якая, ідучы адваротным рухам, павінна была ў снежні прайсьці за сонцам у сузор'е Ахвярніка і пасьля яго рассякання пад час ранішняй бачнасьці над полымем сьвітання апісаць дугападобны шлях да сузор'я Аслоў у Раку і павярнуць, спыніўшыся на час, у пашчу Ільва. Ці няма тут памылка на два гады, што бывае часта ў гістарычным датаванні камет?

Гэта азначае, боскім вястуном, пасланым папярэдзіць Ераваама-Кастуся, была камета, а дагнаўшым яе прарокам – Юпітар. Для таго хто прытрымліваецца астральнага сэнсу тут усё выходзіць зразумела, а таго, хто не звяртаючы ні на што ўвагі, жадае прызнаць тут літаральны сэнс, разумны гісторык параўнае з тым жа самым аслом, на якім намаляваны тут прарок прыехаў у ільвіную пашчу. Іншага выбару няма.

У астральным жа сэнсе павінен быць патлумачаны і другі міф з часоў «Заступніка Народа».

У яго, – паведамляе кніга Цароў, – захварэў сын, меўшы дзіўнае імя АВ-ІЯ, што азначае Бацька бога-Грамабоя. Цар выправіў сваю перапранутую селянкай царыцу ў Сілаам (ад слова ШЛЕ – меч, дзіда-расаднік, ці ад ШЛЕЕ – адгалінаванне) да сляпога празарліўца Ахіі (ад грэцкага слова агіёс – сьвяты ). Але празарлівец, хаця і сляпы, адразу ж пазнаў яе і вымавіў:

– Зайдзі, жонка Заступніка Народа! Для чаго было табе выдаваць сябе за іншую? Ідзі, паведамі Заступніку Народа слова бога: «*за тое, што ты стварыў сабе іншых богаў і балванаў, мяне ж кінуў сабе за спіну, я вынішчу ў цябе кожнага сабаку, які мочыцца да сьцяны і вымяту тваіх нашчадкаў, як смецце, да чыстага. Хто памрэ ў Заступніка Народа ў горадзе, таго з'ядуць сабакі, а хто памрэ на полі, таго здзяўбуць нябесныя птушкі. Грамабой-бог прызначыць іншага цара, які вынішчыць усю дынастыю Заступніка Народа, ён прагоніць богазмагальнікаў з добрай зямлі, якую даў іхным бацькам і развее іх за тое, што яны зрабілі ў сябе дубровы*».

Царыца пайшлі ў Цюрцу (сугучна са словам Турцыя), і, як толькі пераступіла парог сваёй сядзібы, памёр яе дзіцёнак.

«Сляпы празарлівец» тут вельмі падобны на зацемненае сонца ці месяц, але хто царыца і хто яе сын? Разгадка таксама можа быць, знойдзена ў астранамічных з'явах таго часу, але ва ўсякім разе гэта міф, а не гістарычная падзея.





Мал. 19 і 20.
Сузор'е Ільва і сузор'е Аслоў каля Ясляў Хрыста (зараз сузор'е Рака).

Вось і ўсё, што паведамляецца ў Кнізе «Цары» пра «Заступніка народа» (Ераваама ў грэцкім вымаўленні, таксама спісанага, згодна з нашымі параўнаннямі, з Устойлівага цара).

Мы бачым, што чыста гістарычная частка гэтага апавядання сапраўды мае дачыненне да гісторыі валадарання Кастуся толькі ў іншым асьвятленні, а астральная частка падцверджвае храналагічную накладаемасць абодвух цароў адзін на аднаго, выведзеную намі шляхам вызначэння часу іншых біблейскіх легендаў. Час валадарання цара «Заступніка Народа» паказаны ў Бібліі роўным 22 гады, а Кастусь І, згодна з хрысьціянскімі паданнямі, валадарыў амаль 25 гадоў пасьля перамогі над сваім заходнім суваладаром Максенцыем (312-337). Розніца ў тры гады лёгка тлумачыцца блытанасьцю старажытнага летазлічэння і паданняў.

І ўсё гэта толькі яшчэ больш даводзіць высновы найновых гісторыкаў (зробленыя грунтуючыся нават на адных толькі грэцкіх паданнях), што Ўстойлівага цара – Кастуся – дарэмна зрабілі хрысьціянінам. Біблія называе яго толькі ерасіархам.

Да гэтай жа высновы прыводзяць нас і лацінскія пісьменнікі, называючыя яго заснавальнікам Рыма (г.зн. Рамейскай імперыі) – Ромулам, што і зараз захоўваецца ў назве Румелія на Балканскай паўвыспе і ў тым, што візантыйцы да гэтага часу называюць сябе рамеямі. А яго забітага брата, адпавядаючага Ліцінію, лацінскія аўтары клічуць Рэмам, (па-руску – Рымам).

Сыны бога Марса і лясной німфы Рэі Сільвіі, выхаваныя ваўчыцай, яны мала заслугоўваюць сур'ёзнага гістарычнага вывучэння. Але дзякуючы таму што міф пра іх без сумневаў мае дачыненне да заснавальнікаў Вялікай Рамеі на Балканскай паўвыспе, а не ў італійскай Кампаны, то і ён можа служыць доказам напалову паганскага характару ўсяго таго перыяду часу, тым больш, што і Ромул, як і Кастусь, пасьля сьмерці быў прылічаны да ліку сьвятых пад імем св. Квірын (ад слова Кір – Гасподзь).

І калі, у дадатак да ўсяго сказанага мы яшчэ дапоўнім, што галоўнай фігурай «Нікейскага сабора» з’яўляецца Арый (што па-жыдоўску азначае Леў), з якога спісаны біблейскі Арон (а правадыр богазмагальнікаў Майсей спісаны з Богапрызваннага Дыяклетыяна)[38], то рэлігійны светапогляд таго часу малюецца нам як час узнікнення арыянства, але толькі зноў не ў той апакрыфічнай клерыкальна-хрысьціянскай версіі, у якой мы яго маем, а ў класічнай форме, з прызнаннем Зеўса-Еговы бацькам не аднаго бога-сына (Ратавальніка-Хрыста), а шматлікіх дзяцей, як ад сапраўдных багінь і німфаў, так і ад чалавечых дачок, да якіх ён, захапіўшыся, спускаўся з неба пад рознымі выглядамі. У гэты час ад храма яшчэ не адлучыліся не толькі тэатр, але нават і публічная сядзіба, як выказваецца пра яго аўтар Апакаліпсіса на прыканцы IV стагоддзя, гаворачы пра панаваўшую ў той час рамейскую царкву: «Вялікая Брама Госпада (Вавілон) – маці распуснікаў і брыдот зямных». Але нават і ў V стагоддзі заснаваная аўтарам Апакаліпсіса месіянская царква, прамаці пазнейшай іконазмагальніцкай, не была яшчэ пануючай, а толькі мала пашыранай апазіцыйнай і гнанай арыянамі царквой фанатыкаў, амаль выключна сірыйцаў і грэкаў. Тады існавала шматбожнае і шматжонкавае арыянства, а таму нам няма патрэбы звяртацца да розных мудрагелістых прыдумак для тлумачэння таго, якім чынам Кастусь змог без рэзкага супраціўлення замяніць, быццам бы, папярэднічаўшы яму добра распрацаваны класічны культ новым – хрысьціянскім, са скасаваннем усіх ранейшых богаў і багінь. Ён нічога не перамяняў, а толькі замяніў ранейшае вольнае шаманства гэтым самым класічным шматбожжам з богам Бацькам на чале і наладзіў дзяржаўны кантроль над служкамі культу ў інтарэсах іх жа саміх, г.зн. уласна кажучы, падкупляў шаманаў, ствараючы із іх прывіліяваны стан, ахоўваемы дзяржавай.

Святарства (г.азн. з нашага боку гледжання тагачасныя вольныя шаманы, аракулы і ведзьмакі, само найменне якіх паходзіць ад слова культ), вызвалялася ад нясення дзяржаўных павіннасьцей, іхныя мястэчкі і інтэрнаты мелі права атрымліваць маёнткі прыватных асоб дзякуючы дарэню ці згодна з тэстаментам, але ў той жа час над імі прызначаліся назіральнікі (біскупы, па-грэцку), верагодна злучаўшыя з гэтым і астралагічныя назіранні. Ім жа былі нададзены і судовыя правы, не толькі над асобнымі чараўнікамі, але таксама і над свецкімі людзьмі. Так дзяржава, без якога б то ні было змагання, набыла пры Ўстойлівым цару Ромуле-Кастусю-Актавіяне-Ерavaаме пад сваю ўладу настолькі вялікую магутнасць, якой яго спадкаемцы часта і самі былі не радыя.

Гэта была натуральная першая стадыя ўзнікнення арыянскага клерыкалізму і першая тэагонія, якая, як і ўсё жывое, не заставалася на працягу тысячагоддзяў закаснеўшай у першабытнай форме, а развівалася адпаведна з законамі дыялектычнага матэрыялізму.

Пяройдзем зараз і да іншай, вельмі важнай падзеі таго часу: узнікненню Моцнага горада (Канстантынопаля, па-грэцку), хаця грэкі так яго і не завуць, ці Цар-Горада, як сталага цэнтра шырокай дзяржаўнай улады ў найлепшым для яе стратэгічным месцаванні.

Я ужо не раз выказваўся, асабліва ў другім томе «Хрыста», што сталіцы дзяржаў не ўзнікаюць згодна з капрызамі валадароў, а калі і ўзнікаюць, то вельмі хутка знікаюць. І вось, гэтым разам я рады не разысьціся ў сваіх меркаваннях у дачыненні да гэтага пытання з думкамі аўтарытэтаў па Візантыйскай гісторыі.

---

[38] Гл. «Хрыстос», кніга І.

«*Яшчэ імператар Дыяклетыян* (284-305), – выказваецца А. А. Васільеў у сваіх «Лекцыях па гісторыі Візантыі[39], *– з асаблівым жаданнем жыў у Малой Азіі, у Нікамедыі. Ды і Кастусь, прыняўшы рашэнне стварыць новую сталіцу, не адразу спыніў свой выбар на Візантыі. Некаторы час ён* (як паведамляюць нам і іншыя гісторыкі, ўмеючыя чытаць нават думкі старажытных цароў) *«думаў» пра Наіс* (Нішы), *дзе ён нарадзіўся, потым пра Сардзіну* (суч. Сафія) *ці пра Фесалонікі* (Салуні)[40]. *Але асаблівая ўвага яго была прыцягнута месцам старажытнай Троі* (sic!), *адкуль, згодна з паданнем, прыбыў у Італію, у Лацыум Энэй і заснаваў там пдмуркі рымскай дзяржавы. Імператар асабіста выправіўся на знакамітае месца, дзе асабіста пазначыў абрысы будучага горада. Брама* (чаму ж перш за ўсё брама ў яшчэ не існуючым горадзе?) *была ўжо пабудавана, але, «згодна са сведчаннем» хрысьціянскага пісьменніка V стагоддзя Сазамена, ноччу пад час сну з'явіўся да Кастуся бог і пераканаў яго шукаць для сталіцы іншае месца. Пасьля гэтага Кастусь канчаткова спыніў свой выбар на Візантыі. Яшчэ праз сто гадоў праплываўшыя на караблях каля траянскага берага бачылі там*, – здагадваецца аўтар, *– з мора незакончаную браму Кастуся*».

Падонае ж фантазёрства працягваецца і далей.

«*Візантыя была ў гэты час толькі нязначным паселішчам і займала частку мыса выцягнутага ў Мармуровае мора. У 326 годзе, а магчыма і трохі пазней* (328), *Кастусь прыступіў да пабудовы тут новай сталіцы. Імператар, з дзідай у руцэ, вызначаў межы горада і, калі набліжаныя, бачачы надзвычайныя памеры пазначаемай сталіцы, са здзіўленнем запыталі яго:*

– «*Дакуль, валадар, ты пойдзеш? – ён адказваў таямніча:*

– «*Датуль, пакуль не спыніцца ідучы наперадзе мяне* (відавочна, сам евангельскі Хрыстос)!»

І тут жа пачынаецца іншая чароўная казка. Роўна 40 000 гоцкіх ваяроў, – паведамляюць нам, – так званых федэратаў, бралі ўдзел у будаўніцтве. Цэлы шэраг разнастайных палёгак – гандлёвых, грашовых і г.д. – быў абвешчаны для новай сталіцы, каб прыцягнуць туды насельніцтва. Нарэшце, да вясны 330 года пабудовы настолькі паспелі, што Кастусь палічыў магчымым афіцыйна адкрыць свой Цар-Горад. Адкрыццё адбылося 11 траўня 330 года і суправаджалася сьвятамі і забавамі, доўжышыміся сорак дзён.

Так проста будаваліся, чытач, ранейшыя гарады! «*Раней жылі дзяды весялей за сваіх унукаў*»...

«Але ўсё ж такі, – пераконваюць нам, – толькі пазней горад ператварыўся ў сталіцу сусьветнай дзяржавы і набыў назву Канстантынопаль». Ды і то толькі ў еўрапейцаў, а не ў сябе дома! – дададзім мы.

Згодна са старажытнымі апісаннямі ён нічым не адрозніваўся ад класічнага Рыма. Ён меў такое ж муніцыпальнае ўладкаванне і падзяляўся, як і класічны Рым, на чатырнаццаць акруг – регенаў, із якіх два месцаваліся за гарадзкімі сьценамі, так што не цяжка было апісаць згодна з яго ўзорам і ўяўляемы старажытны італійскі Рым.

Із помнікаў горада, сучасных Кастусю, да нас амаль нічога не дайшло. Да яго часу хрысьціянскія гісторыкі дапасуюць царкву св. Ірыны, але яны ж паведамляюць нам, што «яна была перабудавана» спачатку пры Юстыніяне Вялікім, а потым пры Ільве III, і ў наш час у ёй размяшчаецца турэцкі вайсковы музей. Прыпісваюць «Устойліваму цару» і знакамітую «змяіную калону із

[39] Стар. 58.
[40] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, т. I, стр. 59. 1917 г.

Дэльфаў». Прыгатаваная для адзнакі бітвы пры Платэі і перавезеная ў новую сталіцу на іпадром, яна, – пераконваюць нас, – знаходзіцца на тым жа месцы і зараз, у трохі сапсаваным выглядзе. Але і гэта ўсё толькі здагадкі, а больш нічога, няма.

У палітычным дачыненні псеўда-«Новы Рым», як яго завуць, валодаў вылучнымі асаблівасьцямі. З боку мора ён быў недаступны, з боку сушы яго абаранялі сьцены. У эканамічным дачыненні ён трымаў у сваіх руках увесь гандаль Чорнага мора з Архіпелагам і Міжземным морам і быў прызначаны самой прыродай зрабіцца гандлёвым пасярэднікам паміж Яўропай і Азіяй.

Пабудова сталіцы і неразрыўная з ёю цэнтралізацыя ўлады мела наступствам узмацненне бюракратыі і павелічэнне колькасьці выканаўчых установаў, а сейсмічныя і вулканічныя катастрофы заканчэння III і ўсяго IV стагоддзя, меўшыя наступствам усталяванне тэакратызму, толькі паскорылі працэс, які павольна развіваўся і сам сабой. Але, уласна кажучы, пачатак Цар-Горада быў пакладзены яшчэ папярэднікам Кастуся Бога-Закліканым царом (Дыяклетыянам) і толькі пазней прыпісаны Кастусю.

Дыяклетыян, даўшы нагоду да біблейскага міфа пра Майсея, быў сапраўдным валадаром-богам, насіўшым царскую дыядэму. Падданыя, атрымаўшыя аўдыенцыю, павінны былі падаць перад ім на калені, не адважваючыся падняць вочы на свайго валадара. Усё, што мела да яго дачыненне, набывала сьвятасць: яго сьвятая асоба, яго сьвятое слова, яго сьвяты палац, яго сьвяты скарб і г.д. Яго атачаў шматлікі двор, які, будучы перанесеным у Цар-Горад, паглынаў велічэзныя сродкі вырабляемыя падначаленым яму насельніцтвам і зрабіўся цэнтрам шматлікіх падкопаў і інтрыг, пазней так моцна ўскладняўшых жыццё Візантыйскай імперыі. Такім чынам, самаўладдзе на рэлігійным грунце было ўсталявана Дыяклетыянам-Майсеем і зрабілася адной із адметных прыкмет дзяржаўнага ўладкавання Вялікай Рамеі.

Для ўпарадкавання кіравання шырокай і рознаплямённай краінай Дыяклетыян заснаваў сістэму чатырохуладдзя. Улада, – пераконваюць нас, – была падзелена ім паміж дзвума «Сьвятымі Асобамі» (аўгустамі) з аднолькавымі паўнамоцтвамі, із якіх адзін павінен быў жыць ва ўсходняй, а другі у заходняй частцы дзяржавы, але абодва аўгусты павінны былі прыкладаць намаганні для адзінай рамейскай тэакратычнай дзяржавы. Імперыя пры такім уладкаванні магла быць адзінай толькі пры адзінай тэакратыі. Кожны агуст павінен быў узяць сабе ў якасьці памочніка па кесару, які пасьля адалення ад улады ці сьмерці аўгуста пераходіў бы у сан аўгуста, абіраючы сабе новага кесара. Такім чынам, стваралася як бы штучная дынастычная сістэма. Яна была прызначана для таго каб абраніць дзяржаву ад падкопаў розных славалюбцаў і пазбавіць легіёны вырашаючага значэння пры абранні новага імператара толькі пры жахлівым для забабонных розумаў таго часу містычнага звычая яго пасьвячэння, г.зн. узвядзення ў сан Хрыста. Такім чынам, першымі хрыстамі былі Дыяклетыян і Максімін, а кесарамі – Галерэй і Канстанцый Хлор, бацька Кастуся Вялікага. Дыяклетыян пакінуў за сабой азіяцкія правінцыі, Фракію і Ягіпет з цэнтрам у Нікамедыі, Максімін атрымаў Італію, Афрыку і Гішпанію з цэнтрам у Медыялане (Мілане), Галерэй – Балканскую паўвыспу (акрамя Фракіі) з прылягаючымі да яе дунайскімі правінцыямі з цэнтрам у Сірміуме на р. Саве, паблізу сучаснай Мітравіцы, і Канстанцый Хлор (ён жа Юлій Цэзар) – Галію і Брытанію з цэнтрамі ў Трыры і Ёрку.

Усе чатыры валадары, – запэўніваюць нас, – лічыліся валадарамі адзінага цэлага, і дзяржаўныя законы выдаваліся «ад імя ўсіх чатырох». Пры тэарэтычнай роўнасьці абодвух аўгустаў Дыяклетыян, як імператар, меў неаспрэчную перавагу, а кесары былі падуладнымі аўгустам. Але такое скаканне адразу на чатырох нічым істотным не злучаных адзін з адным конях, – калі яно і была сапраўды прыдумана «богапаклiканым царом», – вядома, не магло існаваць доўга. Пасьля заканчэння некаторага перыяду, калі жах перад сейсмічнымі катастрофамі ўзвялічыўшымі Дыяклетыяна, як ратавальніка ад сусьветнай пагібелі, пачаў праходзіць, пачалі выходзіць на першае план рэчаісныя суадносіны магутнасьцей. Далёка адстаячыя ад цэнтра аўгусты былі вымушаны скласьці свае паўнамоцтвы і перадаць іх цэзарам. Ужо ў 305 годзе Дыяклетыян і Максімін, адмовіўшыся ад сваіх паўнамоцстваў, выдаліліся ў прыватнае жыццё, і аўгустамі сталі Галерэй і Канстанцый Хлор, а адбыўшыяся пасьля гэтага закалоты хутка скасвалі штучную сістэму тэакратычнай тэтрархіі, і яна напачатку IV стагоддзі ўжо спыніла сваё існаванне (калі сапраўды існавала).

Пры Дыяклетыяне ўсе правінцыі фактычна залежалі ад Дыяклетыяна, дзякуючы наданаму ім да сябе забабоннаму жаху.

Але яны вызначаліся буйнымі тэрытарыяльнымі памерамі і надавалі вялікую магутнасць асобам, стаяўшым на чале іхнага кіравання. Наступнікі Дыяклетыяна, жадаючы знішчыць палітычную небяспеку буйных правінцый, вырашылі падзяліць іх на больш драбныя адзінкі. Із 57 правінцый, існаваўшых у момант яго ўступлення на тэакратычны пасад, утварылася 96 правінцый, а магчыма і больш, як гэта бачна із галоўнай нашай крыніцы Notita Dignitatum, г.зн. афіцыйнага пераліку прыдворных, грамадзянскіх і вайсковых пасад таго часу, з пералікам правінцый. Але, згодна з вызначэннямі саміх гісторыкаў, гэты недатаваны дакумент дапасуецца не раней як да пачатку V стагоддзя, калі ўжо былі ўсталяваны змены, зробленыя ў галіе правінцыйнага кіравання наступнікамі Дыяклетыяна. Notita Dignitatum налічвае 120 правінцый; іншыя, таксама сумнеўныя сьпісы, даюць меншую колькасць. Шмат якія дэталі рэформы Дыяклетыяна дзякуючы сумнеўнасьці першакрыніц не высветлены, але бясспрэчна адно: Італія ў той час была яшчэ правінцыяй Балканскай Рамеі, а італійскі Рым быў простым правінцыйным горадам.

Устойлівы цар Кастусь, – паведамляюць нам, – прадоўжыў пераўтваральную справу Бога-Закліканага цара-Дыяклетыяна, і ўвесь штат чынавенства дажыў да апошняга часу Рамейскай імперыі. Большасць службовых назваў наўрад ці былі грэцкімі, а не жыдоўскімі ці славянскімі, і, верагодна, ужо пазьней былі на захадзе Яўропы перакладзены на лацінскую і грэцкую мовы. Дакладна так жа і прыдворная пышнасць наўрад ці была запазычана Дыяклетыянам у персаў, а не персамі (як менш заможнымі) у яго.

Калі ў 337 годзе Кастусь памёр, рамейскі сенат, згодна са «сведчаннем» гісторыка Яўропія (X, 8) узвёў яго (як і Ромула) у багі, а хрысьціянская царква (ужо нашмат пазьней) абвясьціла яго сьвятым і роўнаапостальным.

Сыны Кастуся, з ненатуральна аднолькавымі імёнамі – Кастусь, Канстанцый і Канстант, якія ўсе азначаюць адно і тое ж – Устойлівы, пачалі кіраваць імперыяй пасьля сьмерці свайго Ўстойлівага бацькі.

«Другі Ўстойлівы» – Канстанцый II, – працягваў, – пераконваюць нас, – падтрымліваць рэлігійны накірунак папярэднічаўшых гадоў і адкрыта быў за арыян (якімі тады яны былі). А два іншыя браты, – пераконваюць нас, – схіляліся да

цудадзеяў (мікалаітаў) ці да сухацветаў (афанасіянцаў). У міжусобных войнах, быццам бы, загінулі гвалтоўнай сьмерцю спачатку Кастусь II, а праз некалькі гадоў Канстант, і тады Другі Ўстойлівы («Канстанцый II») застаўя адзіным валадаром імперыі.

Але ці сапраўды ўся гэтая Ўстойлівая чарада існавала?

У гісторыі ж камет, змешчанай мной ў пралогу да VI таго «Хрыста», я паказаў, як нават пад час пазняга сярэднявечча амаль палова камет існуючых у першакрыніцах, вывезеных місіянерамі Майлья і Габілем із Пекіна, распалася замест адзінак на тройкі (том VI, табл. XIV на стр. 177). Дык чаму ж не маглі б распадацца згодна з гэтым узорам і цары? Сапраўды, вельмі ж лёгка із некалькіх не вельмі падобных апісанняў адной і той жа самай асобы (а падобнымі біяграфіі бываюць толькі пры капіяванні з аднаго і таго ж самага дакумента) зрабіць выснову, што гаворка ідзе пра некалькі розных асоб з тым жа самым іменем? А імкнучыся прывесьці атрыманю такім спосабам фантастычную шматстайнасць у сістэму, чаму б не палічыць, што ўсё яны не толькі не былі адной і той жа асобай, а жорстка варагавалі паміж сабой, і адзін із аднайменцаў забіў нарэшце двух астатніх?

За гэтую маю гіпотэзу сведчыць якраз тая акалічнасць, што ў не грэцкіх аўтараў замест «Трох Устойлівых» суваладароў (Канстанцыя II у 337-361 гадах, Кастуся II у 337-339 гадах і Канстанта ў 337-350 гадах) усюды пазначаны толькі адзін цар (табл. IV).

Так, у біблейскай кнізе «Багазмагальніцкіх Цароў», замест усіх трох пазначаны адзін (Надаб, г.азн. Руплівы цар), прытым ён, падобна Кастусю II меў толькі два гады валадарання, прытрымліваўся арыянства (ерасі Еравеама) і быў забіты Васай (Васілём), запанаваўшым замест яго. А ў кнізе Цароў Богаслаўячых (юдэйскіх) яны ж трое аб'яднаны і адным Абіі, імя якога азначае «Бацька Бога», таксама прытрымліваўшымся арыянства (I Цароў, XV, 4). А яго сын Аса (Езус-Лекар) стаў наадварот сьвяцільняй Сьвятога горада (I Ц., XV, 4), якім і быў наступнік Канстанцыя I, калі мы бедзем лічыць, што Васіль Вялікі быў яго сынам і тоесны з багазмагальніцкім Васай, хаця і паведамляецца, што «паміж Асай і Васай была вайна ўсё жыццё» (I Ц., XV, 16). Усё гэта і паказана на табл. IV, у другім і трэццім слупках.

ТАБЛІЦА IV

Прыкладная схема галоўных дынастычных варыянтаў, створаных ў рознаплямённых аўтараў для Рамейскай гісторыі IV стагоддзя нашай эры.

| Шкала гадоў | Згодна з Сакратам Схаластыкам. Сумнеўныя вехі | Згодна з Кнігай Цароў. Вехі, перанесеныя каля 1250 гадоў назад | | Згодна з XVIII ягіпецкай шкалой. Вехі, перанесеныя каля 1750 гадоў назад. | Згодна з Яўсевіем Ўсешануючым. Вехі, перанесеныя каля 350 гадоў назад | Згодна з Цітам Лівіем. Вехі, перпнесеныя каля 1050 гадоў назад |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Богаслаўячыя цары | Багазмагальніцкія цары | | | |
| 280 285 290 295 300 | Дыяклетыян (284-305) Суваладары: спачатку Максіміян, потым Галерый і Канстанцый Руды. | Давыд | Давыд | Тот Масісі, Геброн | Вялікі Трубны (Пампей Вялікі) | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 305 | Канстанцый Руды (305-306), суваладар Арый. | Саламон | Саламон | Амен-офіс | Юлій Цэзар | |
| 310 315 320 325 | Кастусь I Сьвяты (306-337) Суваладар Люцыній (307-324) і суваладар Арый. | Раваам | Ераваам I, ерасіарх | Мітрас | Актавіян Сьвяты | Ромул (суваладар Рэм) |
| 330 335 340 345 | Констанс (337-350) Канстанцый II (337-361) Кастусь II (337-339) | Аб-Іе (бацька Бога) | Надаб | Мітра-Гмутосіс | Тыберый | Нума Пампілій |
| 350 355 360 365 370 375 | Юльян Філосаф (361-363) і Васіль Вялікі. Валентыніян (363-376) і яго суваладар Васіль Вялікі (363-376). Валет (363-378). | Аса (Езус) | Васа (Васіль) і Юлій (Іла) і Ілля прарок | Тот-Мосіс | (Евангельскі Езус) Клаўдый і Месаліна. Даміцый Нярон. | Тул Гастылій Анк (Енах) Марцый (г.зн. крыж Марсаў) |
| 380 385 390 | Хвядос Вялікі (378-395) Суваладар Грацыян (378-383) Валентыніян II (378-392). | Іасафат | Амрый і Ахая | Амен-офіс II | Тры Ціты | Тарквіній першы |
| 395 400 | Аркадзь (395-408) і Еўдакія Суваладар Ганорый (395-123). | Богаславячы Іарам з бязбожнай жонкай, дачкой Ахава | Багазмагальніцкі Іарам | | Траян Адрыян | Сервій Тулій |
| 405 410 420 | Захоп улады Ягавіянам (Янам, аўтарам Апакаліпсіса). Адпадзенне Італіі. | Адпадзенне Эдэма | Яговій (па-руску – Інуй) і вынішчэнне дынастыі Феадосія Вялікага (Ахава) | Арос (Гараска піст). | Захоп улады Янам Залатавустам | Тарквіній Пышны (Superbus) |

Аб’яднаныя пад імем Нумы Пампілія (табл. IV) тыя ж тры Ўстойлівыя цары ўсталявалі, згодна з Цітам Лівіем, у Рамеі рэлігійныя звычаі, пры гэтым гэтаму Нуме дапамагала парадамі мудрая німфа Эгерыя.

Пад імем Тыберыя, г.зн. Тыбрскага цара, яны ж трое аб'ядналіся ў Яўсевія Памфіла (табл. IV), прытым атрымалі дзьве супярэчлівыя характарыстыкі ў нашых першакрыніцах Эпохі Адраджэння. Адны намалявалі яго добрым і дальназоркім палітыкам, іншыя змрочным і падазроным тыранам, выдаліўшымся на выспу Капры і атачыўшым сябе вартавымі, пад кіраваннем лютага Сеяна.

Такім чынам грунтуючыся на некалькіх першакрыніцах атрымліваецца, што замест трох Устойлівых цароў – сучаснікаў, маючыхся у Сакрата Схаластыка, у рэчаіснасьці існаваў толькі адзін (табл. IV, слупкі пяты і шосты, а таксама дыяграма, табл. V).

## ТАБЛІЦА V

Распадзенне адзінкавых цароў першай і другой Рымскай імперыі на тройкі на пачатку псеўда-трэццяй імперыі.

Число лет царствования царей псевдо=„Первой" Романской Империи: 45 40 35 30 25 20 15 10 5

Число лет царствования царей псевдо=„Третьей" и псевдо=„Второй" 5 10 15 20 25 30 35 40 45 Романской Империи

1. Ромул Квирин 37 (т.е. Государь Романский)
2. Нума Помпилий 43 (т.е. Наум Трубный)
3. Тулл Гостилий..............32 (т.е. Враждебное Величество)
4. Анк Марций..........................24 (т.е. Енох Межевой)
5. Тарквиний Древний 38 (т.е. Древний Наставник Труда)
6. Сервий Туллий 43 (т.е. Слуга Величества Божьего)
7. Тарквиний Пышный.................24 (т.е. Пышный Наставник Труда)

от 306 по 337 год = 31 год
от 337 по 363 год = 26 лет
от 363 по 378 год = 15 лет
от 378 по 395 год = 17 лет
от 395 по 423 год = 28 лет
от 423 по 475 год = 52 года

37. Константин I+Лициний=36; Октавиан=37

43 { Констанций II=24; Тиверий =20; Констант =15; ......................; Константин II= 2; ......................; Юлиан. ....... = 2; Калигула= 4

32 { Валентиниан I =13; Клавдий =13; Валент........... =14; Нерон.......=12; Валентиниан II = 5; Веспасиан= 9

26 { Грациан = 9; Тит-Веспасиан = 11; Феодосий = 17; Тит-Домициан = 15

41 { Аркадий = 3; Траян....=19; Гонорий =28; Адриан =22

43 { Аэций=Опекун21; Антонин Пий=23; Валентиниан III=22?; Антоник Философ=20

21 { Рецимер.................=16; Коммод........ =13; Ромул Августул = 7; Пертинакс.....= ?

Мал.21.
Узор чыстага самавольства ў нашых гістарычных вызначэннях. Выява на «антычнай» камеі ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Парыжы, лічымая за выяву Тыберыя. А хто, калі, каму і чаму сказаў, што гэта менавіта Тыберый, а не Валент ці не Хвядос – невядома. І так усюды. Гэта – заходне-еўрапейская праца Эпохі Адраджэння, выдаваемая за старажытна-італійскую.

Мал. 22.
Узор чыстага самавольства ў нашых гістарычных вызначэннях. Выява ў Якабсенаўскай калекцыі ў Капенгагене, выдаваемая за Актавіяна Аўгуста. А хто, калі, каму і чаму сказаў, што гэта – Актавіян, а не Кастусь І ці не сам Юстыніян – невядома. І так усюды. Гэта – заходне-еўрапейскі твор Эпохі Адраджэння, выдаваемы за старажытна-італійскую.





Мал. 23 і 24.
Узор чыстага самавольства ў нашых гістарычных вызначэннях. Першы бюст (згодна з характарам апрацоўкі не раней Эпохі Гуманізму), із Якабсенаўскай калекцыі ў Капенгагене, лічыцца за выяву Вялікага Пампея; другі, із Неапалітанскага музея, такой жа апрацоўкі, лічыцца за выяву Юлія Цэзара. А хто, калі, каму і чаму сказаў, што гэта – яны, а, напрыклад, не Канстанцый Хлор ці не Юльян, – невядома. І так усюды. Гэта – заходнееўрапейскія творы Эпохі Адраджэння, выдаваемыя за старажытна-італійскія.

Дык чаму ж мы не павінны думаць, што пад імёнамі заканадаўцы Нумы Пампілія, Тыберыя-Тыбрскага, Руплівага-Надаба, Абіі-Бацькі Боскага і нават ягіпецкага цара Мітры-Гмутосіса (табл. IV, слупок чацвёрты) аб’яднаны тры рэчаісныя аднайменныя цары Сакрата Схаластыка, а не наадварот, – што сам Сакрат (імя якога азначае Ратавальнік Улады) зрабіў із аднаго рэчаіснага Ўстойлівага цара трох аднайменных і адначасовых цароў, на-лаціне – Канстанцыя, Канстанта і Кастуся?

Усе шанцы – за апошняе дапушчэнне, тым больш што такіх кур'ёзаў у «Навуковага Ратавальніка Ўлады» я пакажу некалькі і далей. А тут пазначу толькі, што і ўсе ягіпецкія школы, (называемыя няправільна «дынастыямі») даюць тут аднаго чалавека, як гэта паказана ў VI томе.

Вось чаму я і лічу рэчаісным аднаго Канстанцыя II, нягледзячы на тое, што быццам бы Кастусь II праз два гады сувадарання быў забіты Канстансам, а Констанс у 350 годзе забіты ўласным целаахоўнікам Магнецыем. Яны абодва праходзяць як цені, і адзін Канстанцый II мае вызначаную фізіяномію.

Гарачы прыхільнік арыянства, ён, – кажуць нам, – зацята праводзіў арыянскую палітыку на шкоду паганству, якое пры ім зведала вялікія абмежаванні. Адзін із яго загадаў, быццам бы, абвяшчаў:

«*Ды спыняцца забабоны, ды будзе скасавана вар’яцтва ахвяраванняў*».

Але гэты ўказ выйшаў ужо пазней, а напачатку яго валадарання паганскія (г.зн. вольныя) храмы і аракулы па-за гарадзкімі сьценамі заставаліся яшчэ ў недатыкальнасьці. Толькі праз некалькі гадоў выйшаў указ пра спыненне і пра забарону ахвяраванняў ва ўсіх мясцовасьцях і гарадах імперыі пад пагрозай смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасьці. Так пашырыліся імунітэты арыянскага сьвятарства, і яго біскупы вызваліліся ад свецкага суда.

Да канца сваіх дзён Канстанцый II, як і Кастусь I, меў тытул Вялікага першасьвятара (Pontifex Maximus), із чаго бачна, што арыянства і ў яго час было падобным на класічны культ.

Я не асабліва веру «зацятаму змаганню Канстанцыя II з Александрыйскім «Несьмяротным» (Апанасам), бо магчымасьці таго і другога былі занадта непараўнальнымі. Але калі гэта нават і было праўдай, то хрысьціянства «Несьмяротнага» наўрад ці было падобна таму, якім яго нам малюе праваслаўная царква, а згодна з яе сведчаннем і гісторыкі.

Мы ніколі не павінны забываць пра тое, пра што я ўжо так падрабязна выказваўся у ранейшых кнігах «Хрыста», ды і тут буду выкладаць у раздзеле позняй візантыйскай ідэалогіі. Тэолагі-клерыкалы, прытрымліваючыся вядомага евангельскага выслоўя «вучань не можа быць вышэй за свайго настаўніка», цалкам выключалі якую б то ні было ідэю пра эвалюцыю, тым часам як кожная разумовая эвалюцыя, наадварот, грунтуецца на тэзе: «вучань павінен стаць вышэй свайго настаўніка», таму што калі ён да атрыманага ад яго разумовага матэрыялу не дадаў ад сябе нічога новага, то ён не павінен быць і яго наступнікам.

У тэалогіі, як прынцыпова абгрунтаванай не на ўласных асабістых працах і разважаннях навукоўцаў, а на тым, што быццам бы першыя настаўнікі набылі свае веды шляхам адкрыцця ад самога бога, не магло з'явіцца нічога іншага акрамя навукі пра дэградацыю чалавечых ведаў ад пакалення да пакалення. Але гэтая тэза стаяла ў рэзкай процілегласьці з рэчаіснай гісторыяй ведаў, пры якой таленавіты вучань заўсёды з'яўляўся прадаўжальнікам і пашыральнікам ведаў, атрыманых ім

ад настаўніка. Якая існавала магчымасць прымірыць гэтую рэчаісную гісторыю эвалюцыі ведаў з навукай пра дэградацыю боскага адкрыцця? Быў толькі адзін сродак: падмяняць рэчаісных і больш, чым самі наіўных настаўнікаў далёкага мінулага, ўяўляемымі, мудрымі настаўнікамі, створанымі не толькі згодна са сваім уласным вобразам, але яшчэ і размалёванымі паўлінавымі пёрамі больш позьняй, распрацаванай фантазіі.

І вось, усіх сапраўды выдатных дзеячаў Рамейскай імперыі заканчэння III і пачатку IV стагоддзя, нейкі выбітны адносна свайго часу хрысьціянскі аўтар Эпохі Гуманізму зрабіў, грунтуючыся на сваіх сімпатыях і антыпатыях, то прыхільнікамі, то супернікамі, быццам бы, ўжо існаваўшага тады хрысьціянства. Ён назваў іх згодна з найменнем Цар-Горада – Моцны горад – (Канстантынопаль, па-грэцку) Кастусямі, Канстанцыямі і Канстантамі. Іншыя выбітныя пісьменнікі Эпохі Гуманізму грунтуючыся на той жа падставе далі ўяўным будаўнікам Ромы ці Рыма (у рэчаіснасьці – таго ж Цар-Горада, сасланага ў правінцыйную тады яшчэ Італію) імёны, паходзіўшыя ад гэтага новага слова: Ромул (ад Roma) і Рэм (ад Rim), а трэцція аўтары Эпохі Гуманізма нафантазіявалі і яшчэ новыя варыянты тых жа самых мянушак.

І мы маем зараз іхныя творы то ад імя Навуковага Ратавальніка Ўлады (Сакрата Схаластыка, па-грэцку), дарэмна дапасуемага да V стагоддзя нашай эры; то ад імя Набожнага Усешануючага (Яўсевія Памфіла), яшчэ больш дарэмна дапасуемага да IV стагоддзя. А потым з'явіліся такія ж апакрыфічныя ўдасканаленні іх ад імя Ратавальніка Магульнасьці (Сазамена, па-грэцку), прадаўжальніка Ратавальніка Ўлады, а потым выступіў і Паджыа Брачыаліні, пад імем лацінскага пісьменніка I стагоддзя нашай эры Шаноўнага Лівійца (Ціта Лівія, па-грэцку).

Чытач бачыць сам, што ўсе гэтыя імёны, як аўтараў, так і імператараў, якіх яны апісваюць, не былі імёнамі, якія яны насілі пры сваім жыцці, а іхнымі мянушкамі, з'явіўшыміся толькі пад час эпохі апокрыфаў, званай намі «Эпохай Адраджэння» (старажытных дзеячаў адпаведна вобразам нядаўніх аўтараў).

– А як жа атрымалася, – запярэчаць мне, – што ўсе нашы музеі перапоўнены срэбнымі і залатымі манетамі з выявамі Кастусёў, Актавіянаў і г.д. на вонкавым баку, аж да Карла Вялікага і нават да нашых дзён?

Адказ на гэта просты:

Кожная манета мае сэнс толькі тады, калі яна дастаткова пашырана сярод насельніцтва (манеты-ўнікумы – абсурд) і калі яна мае строга вызначаную каштоўнасць, г.зн. штампавана згодна з адным узоры, а не выгравіравана разнастайна ад рукі, кожны асобнік адменна. Апошнія прыклады манеты, як не прыдатныя для рынку, можна апрыёрна лічыць за фальсіфікацыі. А яны былі непазбежнымі. Попыт жа турыстаў на гэты род рэліквій заўсёды быў асабліва вялікім дзякуючы іхнай партатыўнасьці, а выраб для іх штампа не патрабаваў ніякага асаблівага мастацтва: кожны гравёр мог яго зрабіць, і таму няма нічога дзіўнага ў тым, што каля «гістарычных месцаў» адразу ж узнікалі майстэрні, адпаведных манет.

Але інтарэсы валадароў і прыватных фальсіфікатараў былі рознымі. Валадарам было пажадана і нават патрэбна выпусьціць як магчыма больш манет адзінага штампу, вагі і пробы, каб правільна плаціць утрыманне войску і адміністратарам без папрокаў у нераўнамернай узнагародзе, а таму ён павінен быў вырабляць усю сваю манету дадзенай каштоўнасьці прынамсі дзясяткамі тысяч і

для яе праўдзівасьці тым жа штампам. А фальсіфікатару, які сядзіць паблізу «класічных парэшткаў», гэта было нязручна, таму што ўсе здагадаліся б, што ў яго фабрыка. Ды і кожны турыст, купіўшы вельмі дорага першую манету, не пажадаў бы плаціць звыш іхнага рэчаіснага кошту за іншыя, цалкам такія ж, а таму, адціснуўшы тым жа штампам некалькі штук, ён быў вымушаны вырабляць ужо іншы ўзор. Вась чаму ўсе манеты ад імя аднаго і таго ж валадара, але адціснутыя рознымі штампамі пры той жа каштоўнасьці (не кажучы ўжо пра выразаныя ад рукі, як не маючыя сэнсу ў якасьці прылады для плацяжоў) можна апрыёрна лічыць падробленымі. А на права сапраўдных манет могуць прэтэндаваць толькі тыя, аднавагавыя, аднолькавай пробы і адціснутыя тым жа штампам, асобнікі якіх знойдзены ў розных месцах дадзенай краіны хаця б у колькасьці некалькіх дзясяткаў, таму што непадробленая манета павінна была быць пашыранай, як і кожны сродак абмену, за межамі сваёй сталіцы. А ці шмат мы маем такіх выпадкаў?

Наколькі мне вядома, – ніводнага да Карла Вялікага. А тым часам срэбныя і залатыя манеты павінны ляжаць нязменнымі пад развалінамі ад землятрусаў і вывяржэнняў вулканаў, а таксама ў выглядзе скарбаў і ў магілах, дзясяткі тысячагоддзяў. Перачаканьваць пры новым валадару на новыя можна было б толькі тыя, якія вярталіся ў цэнтральную скарбніцу ў выплату падаткаў. Але не ўсё ж яны туды вярталіся. Да з’яўлення банкаў, плаціўшых адсоткі, што пачалося толькі з XVIII ст., кожны чалавек, нават і не скнарны, натуральна аддаваў перавагу захоўваць свае зберажэнні ў зямлі, з нагоды чаго і ўзнікла шмат скарбаў. І зразумела, што ў такіх скарбах павінна змяшчацца вялікая колькасць аднолькава кляпаных манет. Так бывае заўсёды, калі адкрываюць скарбы новага часу, г.зн. не падробленыя скарбы. Але мне цалкам невядома, каб дзе-небудзь быў знойдзены скарб з вялікай колькасцю аднолькавых старажытных манет.

## ТАБЛІЦА VI

Із чароўных казак пра да-Рамейскую Элладу.



Мал. 25 і 26

Два гатункі амаль раўнацэнных манет «Аляксандра Македонскага». На верхняй манеце намалявана яго ўяўная галава, а на зваротным баку – Афіна Палада і надпіс: АЛЯКСАНДРАВА. На ніжняй манеце (каля 8 драхмаў) ён – на кані, а на адваротным баку – таксама надпіс: АЛЯКСАНДРАВА. Але ж манеты могуць абарачацца на рынку толькі ў тым выпадку, калі яны маюць той жа самы выгляд і ўсе – таго ж штампавання! Інакш усе пакупнікі цалкам разгубяцца, асабліва старажытныя – непісьменныя.



Мал. 27
Манета Рэгія, з выявай галавы Апалона на адным боку і галовы льва на другім. няправільна дапасуецца да 400-387 гадоў, да пачатку нашай эры.

ТАБЛІЦА VII
Із чароўных казак пра да-Рамейскую Элладу.




Мал. 28 і 29
Два ўзоры тэтрадрахмаў Пталямея Александрыйскага. Але ж кожная манета мае сэнс і прыдатная для выкарыстання на рынку толькі тады, калі ўсе яе асобнікі аднаго штампа. Навошта ж Пталямей заблытаў сваю грашовую гаспадарку, выпускаючы тую ж самую манету ў некалькіх варыяцыях? А з боку навейшых фальсіфікатараў, працаваўшых незалежна адзін ад аднаго, інакш не магло і быць.



Мал. 30
Срэбная тэтрадрахма вайсковага правадыра Аляксандра Македонскага Селеўка» з надпісам на адваротным баку: «ЦАРА СЕЛЕЎКА».

ТАБЛІЦА VIII
Із чароўных казак пра да-Рамейскую Эладу.



Мал. 31
Манета з надпісам Сірах (ΣΥ-ΡΑ-ΧΟΣ**)**, з выявай Сузор'я двух Рыб і галавой «Пераможцы» (Ніка). На адвароце – ён жонка трыумфальнай калясніцы. Наяўнасць Рыб, найменне якіх па-жыдоўску сугучна са словам Навін, паказвае на хрысьціянскі час.




Мал. 32 і 33
Два перайначванні срэбных Ахейскіх манет. У абедзьвюх на вонкавым баку – галовы Зеўса. А на адваротным у адной знізу – голуб, у другой зверху – пярэдняя частка каня, і ў абедзвюх літарныя знакі. Згодна з новай храналогіяй як Ахейскі, так і Эалійскі хаўрус існавалі ўжо пад час эпохі крыжацкіх дзяржаваў у Грэцыі, і манеты гэтага часу магчымыя. Але чаму яны не аднаго штампа, а варыянты?




Мал. 34
«Манета базілеўса Антыгона». На адваротным баку надпіс ΒΑΣΙΛΕΩΣ ΑΝΤΙΓΟΝΟΥ (цара Антыгона). Лічыцца вайсковым правадыром Аляксандра Македонскага і яго суспадчыннікам (а базілеўсамі цары пачалі звацца толькі з часу Гераклія!).

## ТАБЛІЦА IX

Із чароўных казак пра да-Рамейскую Элладу.




Мал. 35 і 36
Два варыянты амаль аднолькава каштуючых «Эалійскіх манет», мімаволі наводзячых на думку, што гэта – дзьве незалежныя адна ад другой падробкі. Галава на вонкавым баку, – пераконваюць нас, – малюе Паладу, на абедзьвюх манетах. У першай на адваротным баку – чалавек з сокалам у руцэ, у другой – наканечнік дзіды, сківіца кабана і нейкая ягада. На абедзвюх надпіс АЙТОЛОН.




Мал. 37

Манета Зьміцера Наліаркета (г.зн. Заваёўніка гарадоў), сына Антыгона, суспадчынніка Аляксандра Македонскага.



Мал. 38 і 39
Налева – асабовы і адваротны бакі манеты Берлінскага нумізматычнага кабінета, прыпісваемаяа «Кіру Малодшаму». Направа – срэбная манета з надпісам СОЛЕОН на звароце і гронкай вінаграду, якая прыпісваецца чамусьці «сатрапу часоў Кіра» (згодна Вегейерам).




Мал. 40
Манета Піфагора. Кур'ёзны довад таго, што гэты філосаф не толькі існаваў у старажытнасьці, але нават кляпаў сваю манету!
(Вегенер. Элада, 315.)




Мал. 41
Залаты статэр з надпісам на адваротны баку базілевса СЕЛЕЎКА, каля галавы каня Буцэфала (пры гэтым зноў нагадаем, што базілевсамі грэцкія цары пачалі звацца толькі з часоў Гераклія, г.зн. пачынаючы ад VIII стагоддзя нашай эры!).



Мал. 42
Манета з надпісам «ЦАРА ПІЛІПА», каля яго ж на кані (Піліп азначае: Аматар коней, больш даклада – Люба-конь).

А якімі з'яўляюцца звычайныя фальсіфікацыі старажытных манет, якімі перапоўнены ўсе еўрапейскія музеі, чытач можа бачыць з прыкладзеных тут узораў (мал. 25-43). Выяўляецца, напрыклад, што і філосаф Піфагор і мараліст Езус Сірах не толькі пісалі свае кнігі, але і кляпалі для патрэбаў рынку сваю манету (мал. 31 і 40). А як узор кляпання некалькімі штампамі, што супярэчыла мэтам сапраўднай манеты, але надавала каштоўнасць падробленай, мы бачым два ўзоры аднолькава каштуючай эалійскай і ахейскай манеты (мал. 32 і 35), якая ў дадатак, магла з'явіцца толькі ў XIII стагоддзі нашай эры, падчас лацінскай федэрацыі крыжацкіх дзяржаў на грэцкім Усходзе. Вось чаму я і не надаю ніякага значэння такім унікумам (нават знаходзімым пры раскопах Пампеі, тым больш, што падобныя знаходкі рабіліся пры высокапастаўленых гасьцях, прыязджаўшых паглядзець на працы, якім і падаваліся ветліва на памяць пра наведванне)[41].

Толькі з часоў Карла Вялікага (800 г.) і можна, як мне здаецца, лічыць частку маючыхся ў нашых музеях манет за сапраўдныя, ды і то калі надпісы на іх мала пісьменныя з нашага боку гледжання, г.зн. зроблены без выканання друкарскай арфаграфіі, усталяваўшайся толькі з часоў Гутэнберга. Вось, напрыклад, нават у XIII стагоддзі на саміх царскіх пячатках пісалі: «Dux Zlesie et Polonie» замест кнігадрукаванага Dux Silesiae et Poloniae (мал. 43 пячатка № 10), ці: «ducis Silesie» замест друкарскага Silesiae (тамсама, № 12), ці «domine Wratizlavie» замест друкарскага Vratislaviae і г.д. Але, ж, царская пячатка нашмат больш важная рэч чым просты рукапіс, і за кожную арфаграфічную памылку на ёй было б загадана перарабіць яе нанова. Гэта азначае, у простых рукапісах было яшчэ больш такіх індывідуальнасьцей, і кожны рукапіс без іх – падробка.

Прыступім жа да дасьледавання нашага пытання, выкінуўшы із яго (і са свайго ўласнага ўяўлення) увесь гэты пыл сярэднявечнай схаластыкі і фантазёрства Эпохі Гуманізму.

Перадусім, нагадаем тое, што я ўжо даводзіў і астранамічна, і геаграфічна, і кліматалагічна, і нават палітыка-эканамічна ў першых шасьці тамах майго дасьледавання.

І старажытная Грэцыя і Пелапанэс, і старажытны класічны Рым у Італіі – чароўныя казкі часоў Рэнесансу. Хрысьціянства, ды і то не ў сучасным выглядзе, пачалося толькі з «заснавальніка праваслаўнай літургіі» Вялікага цара (Васіля Вялікага, па-грэцку), пры цару Юльяне, які мае мянушка Адрачэнец і відавочна, не ад заснаванага пры ім жа (і нават ім самім!) «праваслаўнага богаслужэння», а ад нейкага папярэднічаўшага яму. І мы зараз ужо бачым – ад арыянства, якога

[41] Гл. пра гэта ва В. Класоўскага: «Пампея і знойдзеныя ў ёй старажытнасьці». 1856 г. выдатны агляд усяго, што было знойдзена да другой паловы XIX стагоддзя.

прытрымліваліся яго папярэднікі, пачынаючы са «сьвятога» Кастуся. З гэтага боку гледжання на Нікейскім саборы, гістарычную магчымасць якога пры Кастусю няма падставаў аспрэчваць, магло ісьці змаганне ніяк не з прыхільнікамі «Езуса Хрыста, сына боскага», пра якога тады яшчэ не магло быць і гаворкі, а, як і паведамляецца ў больш наіўных, г.азн. больш старажытных, першакрыніцах, было змаганне ў арыян з мікалаітамі, якіх так ненавідзіць на прыканцы IV стагоддзя аўтар Апакаліпсіса.

На Нікейскім саборы ў якасьці знака веры маглі быць абвешчаны толькі дзесяць запаветаў народнага правадыра Майсея-Дыяклетыяна-Бога-Закліканага і яго першасьвятара Арона-Арыя, ды і то наўрад ці ў тым выглядзе, як мы іх ўяўляем зараз. Ад Нікейскага ж сабора, гэтак жа, як і ад наступных, не засталося ніякіх дакументаў, а чуткам пра іх праз тысячагоддзе пасьля іх сьмерці мы можам верыць толькі ў тым выпадку, калі прызнаём, што яны адноўлены не грунтуючыся на традыцыі людзей, а на ўспамінах Сьвятога Духа, які ў выглядзе голуба мог яшчэ ўсё гэта добра памятаць і зноў прадыктаваць людзям.

А найбольш старажытныя дакументы, якімі з’яўляецца біблейская кніга «Цары», малююць нам той час у цалкам іншым выглядзе.

У іх Аўрэліяну і яго лацінскаму адлюстраванню Суле адпавядае Савул. Дыяклетыяну і яго лацінскаму адлюстраванню Пампею адпавядае Давыд, а Кастусю «Сьвятому» адпавядае, чамусьці не сьвяты, а наадварот – багаборца-ерэтык, «Заступнік народа (па-жыдоўску – Ераваам)», які падобна Арону ўсталяваў ушанаванне Цяльцоў (І-Ц., XII, 29), аднаго із якіх размясьціў, відаць, у Ягіпце[42], а другога ў Дане, г.азн. у Судным горадзе[43], верагодна яшчэ не ў Рыме, а ў Геркулануме ці Пампеі.

Паралельна Кастусю, які пабудаваў Цар-Горад, Ераваам пабудаваў цэлых два гарады, Сіхем і Пенуіл[44], і зрабіў сябе першасьвятаром.

У дачыненні да рэлігійнага стану таго часу, якое зараз мы павінны атаясаміць з пачаткам Рамеі-Візантыі, гаворыцца і ў Біблії вельмі жаласна.

«*І рабілі богаслаўцы* (юдэі, па-жыдоўску, і эліны, па-грэцку)[45]31 *непажаданае перад агменямі бога-Грамабоя, наладзілі ў сябе вышыні* (г.азн. піраміды) *і слупы* (абеліскі) *і дубравы*. *І распутнікі былі ў той зямлі і здзейснялі ўсе* (рэлігійныя) *брыдоты тых народаў, якіх бог-Грамабой прагнаў ад твару сыноў Богазмагальніка*» (І Ц., XIV, 24).

---

[42] У сядзібе Бога בית-אל (= БІТ-АЛ).

[43] Суд па-жыдоўску – Дан (דן)

[44] Сіхем (שכם – ШКМ) – хрыбет, лічыцца за Флавія, Неапаль класікаў. А אל-פמי (ФМІ-АЛ) азначае «аблічча-боскае».

[45] Я ўжо паведамляў, што ў Грэцыі найменне Грэцыя невядома. Гэтае славянскае слова азначае: краіна горцаў, скарочана: грэкаў. Па-грэцку ж слова грэк (γραῖκος) азначае састарэлы і больш нічога. Адукаваны грэк толькі засмяяўся б, калі б яго назвалі так па-грэцку, а неадукаваны пакрыўдзіўся б. У грэкаў Грэцыя мае назву: 1) Рамея, г.азн. Рымская зямля, ад жыдоўскага кораня РОМ (ראמ) і РЫМ (רימ), азначаючага насарога, як самага моцнага са звяроў, і 2) Элада – таксама ад жыдоўскага кораня ЭД-УД (אד-וה) – адлюстраванне боскага сьвятла, ці ЭЛ-ЭД (אל-הד) – богаслаўе, г.азн. тое ж самае, што Юдэя, ад кораня І-УД, дзе І з’яўляецца звычайным ў жыдоўскім словаўтварэнні скарачэннем слова Егова (ІЕУЕ). Цікава, што Грэцыя на сваёй мове акрамя Рамея яшчэ мае назву і Эленіда (Ἑλληνς, Ἑλληνιδός) – зноў ад таго ж жыдоўскага кораня ЭЛ – бог і ад грэцкага Леніда (ληνίς, ληνιδός) – вакханка, служка бога вінаробства, г.азн. таксама мае сэнс: бога-вакханка, бога-славячая. Усё гэта зноў падцверджвае маю выснову, што ў біблейскай кнізе «Цары» пад імем царства Богаславячага (Юдэйскага) і Багазмагальніцкага (Ізраільскага) апісаны дзьве часткі так званай «Сусветнай Рымскай Імперыі».

Апошняе выказванне – распутнікі – якраз з'яўляецца біблейскім паўтарэннем словаў Апакаліпсіса пра дзяржаўную царкву IV стагоддзя нашай эры Візантыі: «Брама-Госпада – заве ён яе – маці распутнікаў і брыдот зямных»[46].



Мал. 43.
Узоры рэчаісных пячатак славянскіх (Сілезскіх, г.азн. Залескіх) дзяржаў для параўнання іхнага штампа і арфаграфіі са старажытнымі падробленымі манетамі (згодна з Гельмольтам, V, 247). У старажытных, падробленых, арфаграфія – нашай друкаванай эпохі, а тут – індывідуальная, вольная. № 9. – Баляслаў Сілезскі (1162-1201) із рукапісу Leubus, пазначанага 1175 годам. № 10. – Генрых III Сілезскі (1241-1266 г.) із рукапісу Leubus, 1253 года. На вокавым баку: Conradus Dei gra(tia) dux Zlesie et Polonie (замест друкаванага Silesiae et Poloniae). № 11.– Генрых III (1241-1266 г.) на Брэслаўльскім манускрыпце 1266 г. № 12. – Генрых IV .(1266-1290 г.), на Брэслаўльскай грамаце, пазначанай 1288 годам. Вонкавы надпіс sigil(lum) Henrici Quarti dei gra(tia) ducis Silesie (замест Silesiae); адваротны надпіс Et domini Wratizlave (замест Vratizlaviae). № 14. – Вацлаў I Брыгскі з Брэслаўльскай граматы 1353 года. № 15. – Уладыслаў Апельскі з Брэслаўльскай граматы 1386 года.

Усё гэта паказвае на вельмі няўстойлівае становішча толькі што ўтварыўшайся валадарачай царквы таго часу. Нават і ідэю пра вярхоўнага бога-бацьку патрэбна разумець для таго часу не ў іншасказальным сэнсе – бацькі ўсяго існуючага, як імкнуцца патлумачыць сучасныя тэолагі, – а ў сэнсе бацькі шматлікіх іншых багаў ад сваёй галоўнай жонкі Юноны, і ад розных німфаў да чалавечых дачок, якія яму падабаліся.

Што ж да сямейнага ўладкавання гэтых Устойлівых цароў, аж, магчыма, да Македонскай дынастыі (867 г.), то ў звычайных жыхароў Рамеі-Візантыі яно было, вядома, фактычна адзінажонным, дзякуючы таму, што дзяўчынак нараджаецца

[46] Гл. маю кнігу «Адкрыццё ў навальніцы і буры». 1907 г.

амаль столькі ж як і хлопчыкаў, а ў самых высокіх заможных і валадарачых пластах насельніцтва панавала шматжонства згодна з узорам Дыяклетыяна-Давыда. Візантыйскія імператары, нават і пад час сярэдневечча, хадзілі сярод сваіх жонак і афіцыйных наложніц, як пеўні сярод курэй, мала адрозніваючыся ў гэтым дачыненні і ад замяніўшых іх пазьней турэцка-візантыйскіх султанаў.

Дзякуючы бясконцым падробкам клерыкальных і антыклерыкальных апакрыфістаў Эпохі Гуманізму, спрачаўшыхся паміж сабой пад імёнамі, быццам бы, старажытных хрысьціянскіх настаўнікаў, нам цяжка разабрацца ў візантыйскай тэалогіі IV стагоддзя нашай эры, мала чым падобнай на сучасную хрысьціянскую, але найбольшым набліжэннем да яе, магчыма, будуць апісанні класічнай міфалогіі, відаць характэрызучыя ў галоўных рысах рамейска-візантыйскае хрысьціянства IV і V стагоддзяў, дарэмна аднесенае за некалькі стагоддзяў назад.

Але пра гэта ў нас далей будзе асобная частка. А зараз крыху пагаворым пра «візантыйскі антык».

# Глава II

## Візантыйскі сярэднявечны антык

Нядаўна ў нас, на берагах Нявы, зроблена адно із першакласных адкрыццяў, кідаючае цалкам новае асьвятленне на ўсю гісторыю сярэднявечнай культуры. Я кажу пра «Візантыйскі сярэднявечны антык», існаванне якога зараз упершыню ўсталявана Л. А. Мацулевічам у яго выдатнай працы, выйшаўшай на нямецкай мове[47], з рускім пасляслоўем, із якога я зраблю некалькі вытрымак і прывяду некалькі малюнкаў із тэкстаў.

«*Помнікі, супастаўленыя ў гэтай кнізе і друкуемыя, большай часткай, упершыню, грунтуючыся на фатаграфічных здымках*, – паведамляе аўтар, – *уяўляюць цікавасць не толькі самі па сабе. Іхнае значэнне не абмяжоўваецца колам прыватных пытанняў. Іхная роля значна шырэй. Яны ўздымаюць буйныя культурна-гістарычныя праблемы. Сам жа род выдаваемых тут помнікаў вельмі абмежаваны. Гэта – амаль выключна срэбнае хатняе начыненне заможных станаў канстантынопальскага і варварскага грамадства. Няправільнае тлумачэнне як формы гэтых прадметаў, так і іхных рэльефных упрыгожванняў былі нагодай доўгіх памылак адносна іх. Сапраўды, яны захоўваюць строгія формы позне-антычных пасудзін. Размяшчэнне рэльефаў і сюжэты ўзяты із антычнай міфалогіі ці перадаюць упадабаныя жанравыя сцэны. У агульным характары і прыёмах выяўлення, у матывах арнаменту – ва ўсім, здавалася, антычнасць праглядае так яскрава і аднастайна, што, як быццам, не застаецца месца для сумневаў у тым, што мы маем тут справу з творамі антычнага мастацтва. Таму большая частка параўнаных у гэтай кнізе помнікаў і лічылася вырабамі II-III стагоддзяў нашай эры, а дата аднаго нават дапасоўвалася да заканчэння I стагоддзя. Заданне гэтага дасьледавання давесьці, што ўсе гэтыя помнікі дапасуюцца да VI і VII стагоддзяў нашай эры. Такім чынам, іхнае датаванне перанесена на чатыры – на пяць, а ў адным выпадку нават больш, чым на пяць стагоддзяў. Такое значнае перанясенне, не могучае не мець наступствам перагляд найбольш значных культурна-гістарычных пытанняў, павінна быць абстаўлена доказамі, не дапускаючымі індывідуальных адхіленняў. Гэтаму адказнаму заданню і пасьвечаны, пераважна, першыя главы і гэтага дасьледавання*».

[47] . L. Matzulewitsch. Byzantische Antike. Berlin, 1929.



Мал. 44
Рамейскі срэбны коўш з выявай бога Няптуна на ручцы (гл. першы малюнак) і рыбнай лоўлі збоку. Царгародзкі выраб пачатку VII стагоддзя нашай эры. А ранейшае датаванне: I стагоддзе. Дзяржаўны Эрмітаж. (згодна з Л. А. Мацулевічам).

Потым Л. А. Мацулевіч тлумачыць свой метад вызначэння часу.

«*Большая частка друкуемых тут пасудзін забяспечана таўрамі* – паведамляе ён. – *Вось гэтыя таўры і з'яўляюцца прыкметамі, дазваляючымі вызначыць абсалютную дату помніка. Вывучэнне працэсу вырабніцства такіх прадметаў з несумнеўнасьцю вызначае, што візантыйскія таўры выбіваліся на лістах срэбра яшчэ канчаткова не апрацаваных. Пашыраная думка пра накладанне візантыйскіх таўраў на гатовыя старажытныя прадметы выяўляецца тут не адпавядаючай рэчаіснасьці грунтуючыся на чыста тэхнічных падставах. Захаваўшыяся таўры, у большасьці выпадкаў, проста не маглі быць выбіты на тых месцах, дзе яны знаходзяцца, пасьля таго як дадзены прадмет быў выраблены канчаткова*[48]*. Таму датаванне таўра служыць адначасна і датаваннем усяго вырабу*».

«*Час таўравання ўсталёўваецца ў гэтым дасьледаванні пераважна на падставе вызначэння асоб бюстаў, размешчаных на некаторых таўрах. Вывучэнне іх прыводзіць да высновы, што гэта – выявы візантыйскіх імператараў. Яны даюцца ў манетным тыпе, прытым назіраецца строгі паралелізм паміж партрэтамі на манетах і партрэтамі на таўрах.*

[48] Напрыклад, таўро загнута разам з загнутай паверхняй пасудзіны. Відаць, што іх наклалі на ліст срэбра, калі ён яшчэ быў плоскім, г.азн. служыў матэрыялам для пасудзіны. *Н. Марозаў*.



Мал. 45

Мелеорг і Аталанта пасьля палявання на зайцоў. Царгародзкі выраб – дзясятыя ці дваццатыя гады VII стагоддзя нашай эры. Час валадарання Гераклія, ранейшае датаванне II ці III ст. Дзяржаўны Эрмітаж (згодна з Л. А. Мацулевічам).



Мал. 46

Так званая «познерымская» срэбная пасудзіна. Нерэіда, нясучаяся па моры на гіпакампе ў суправаджэнні трытонаў. Знойдзена ў наваколлі Баку. Прынятае датаванне: II-III стагоддзе нашай эры а згодна з характарам малюнка – той жа час, як і астатнія, (згодна з Л. А. Мацулевічам).

*Змяненні партрэтных прыкмет ці дэталяў адзення на манетах адпавядаюць іхным змяненням і на таўрах. Так, у адных выпадках імператар Іраклій* (610-641) *малюецца маладым з невялікай круглявай барадой і з характэрна падстрыжанымі валасамі, у іншых выпадках – старым з вельмі доўгай барадой і з доўгімі, тырчачымі ў бакі, вусамі. Першы варыянт адпавядае манетным выявам да 629-630 гадоў, другі ад 629 да 641 гадоў. Прыведзены прыклад паказвае, што дакладнасць датавання таўра, а тым самым і ўсёй рэчы, можа быць даведзена ў некаторых выпадках нават да аднаго-дзьвюх дзесяцігоддзяў. Датаванне, зробленае на падставе партрэтных выяваў, у асобных выпадках падмацоўваюць некаторыя манаграмы ці надпісы, змешчаныя на пасудзінах. Усе гэтыя дадзеныя дазволілі вызначыць абсалютную дату кожнага выдаваемага ў гэтай кнізе помніка. Час вырабу ніводнага з іх не апускаецца за межы VI стагоддзя і першай чвэрці VII*».

«*Візантыйскія вырабы са срэбра*, – працягвае Л. А. Мацулевіч, – *дакладна датуемыя грунтуючыся на таўрах VI і VII стагоддзямі, дайшлі да нас у такой вялікай колькасьці асобнікаў, што пытанне пра выпадковасць сюжэтаў із антычнай міфалогіі намаляваных на іх павінна быць адкінута. Да таго ж колькасць таўраваных помнікаў можа быць яшчэ больш пашырана пры далучэнні да іх стылістычна аднастайных і адначасовых з імі помнікаў без таўравання. Тэтае хатняе начыненне, вядома, належала вышэйшаму стану, яе ўжыванне было злучана з вузкім грамадзкім колам, але антычная традыцыя, ярка выяўленая на ўпрыгожваючых яе рэльефах, не замыкалася ў гэтым цесным коле*».

«*Храналагічна візантыйскія вырабы непасрэдна мяжуюць з уласна антычнымі помнікамі, з'яўляючыся іх непасрэдым працягваннем* (а з нашага боку гледжання, – дадам я, – пры якім «класічны антык» дапасуецца да Эпохі Гуманізму, наадварот – пачаткам). *Яны неперарываючайся лініяй цягнуцца праз усё VI стагоддзе, ад яго пачатку аж да сярэдзіны VII стагоддзя, і з'яўляюцца яскравым паказнікам працэсаў, працяглы час развіваўшыхся ў Міжземнамор'і*».




Мал. 47
Срэбны коўш з выявай Няптуна.

Л. А. Мацулевіч даводзіць потым, што «візантыйскі сярэднявечны антык» нашмат прасьцейшы за класічны.

«*Рэльеф, як такі,* – выказваецца ён, – *не мае пластычных уласьцівасьцей і набліжаецца да графічнай трактоўкі выявы. Дробная арнаментацыя дэталяў з*

*дапамогай пункціру вельмі пашырана. Пpасторавыя суадносіны паміж асобнымі часткамі выявы ўвесь час парушаюцца, назраецца разрыў паміж фігурай і глебай. Ландшафтныя элементы часам цалкам адсутнічаюць, і выява павісае на фоне. Параўнальны аналіз гэтага стылю і, у прыватнасьці, вырашэнне пытання пра дапасаванне «візантыйскага антыка» да элiністычна-рымскага антыка з'яўляецца, таму, адны із істотных заданняў*».

Усё гэта – дададзім мы ад сябе – цалкам слушна, але з далейшымі высновамі аўтара ніяк немагчыма пагадзіцца.

Жадаючы выйсьці із тупіка, у які заводзяць гісторыю старажытнага класіцызму навейшыя дасьледаванні, кіруемыя дадзенымі досьвяду, тэхнікі і прыродазнаўства, і не адважваючыся ісьці, як я, на поўны разрыў з традыцыяй, Л. А. Мацулевіч выкарыстоўвае дасьціпны, але мала пераканаўчы прыём. Ён тлумачыць гэты відавочны са звычайнага боку гледжання крок назад «аб’яднаннем» вышэйшай элінскай культуры з больш нізкай – варварскай, – прытым (скажу сваімі словамі!) падобна таму, як ад спалучэння каня з аслiхай нараджаецца мул, так, быццам бы, і ад злучэння вышэйшага класічнага антыка з больш нізкім, варварскім узнік гэты сярэднявечны візантыйскі антык.

«*Візантыйскі антык*, – выказваецца ён, – *немагчыма палічыць як дэгенерацыю антычнасьці, як якаснае пагаршэнне антычнага мастацтва. Мы маем справу не з пагаршэннем, не з распаданнем чагосьці ўжо аджыўшага, а з новым – аб’яднаным сярэднявечным мастацтвам ...». «Варварскі» мастацкі светапогляд, «варварскае» разуменне мастацкай формы сплавілася ў агульным горне Візантыі з антычнай спадчынай і дало «Візантыйскі антык*».



Мал. 48

Рамейскі срэбны коўш з выявай Ніламера, стаячага у выглядзе слупа. На борце намаляваны ягіпецкі ландшафт, а на ручцы – бог Няптун. Царгародзкі выраб першай чвэрці VI стагоддзя нашай эры. Ранейшае датаванне: II ці III стагоддзе. – Дзяржаўны Эрмітаж. (Згодна з Л. А. Мацулевічам.)



Мал. 49
Рамейскі срэбны коўш з выявай Нерэіды на марскім ільве. Дзясятыя ці дваццатыя гады VII стагоддзя. (Першыя два дзесяцігоддзі валадарання Гераклія.) Царгародзкі выраб. – Дзяржаўны Эрмітаж. (Згодна з Л. А. Мацулевічам.)

Ды прабачыць мяне высока паважаемы мной аўтар за мой скептыцызм у дачыненні да гэтага «спалучэння». Біялагічнае спалучэнне сапраўды дае сярэднюю форму, як у толькі-што прыведзеным мной прыкладзе, але не тое бывае пры змешванні двух розных культур, якое прытым жа адбываецца толькі тады, калі адна з іх пераадолее падзяляўшыя іх раней перашкоды, як гэта было, напрыклад, пры адкрыцці Калумбам Амерыкі ці Кукам Аўстраліі.

Тады больш нізкая культура паступова асімілюецца ў больш высокую, а вышэйшая не толькі не дэградуе ад таго ў сябе на радзіме, а набывае, наадварот, дадатковы імпульс да свайго далейшага развіцця і ўдасканалення. Вось чаму адкрыццё Л. А. Мацулевіча непараўнальна больш важнае, чым лічыць ён сам. Яго «візантыйскі антык» з боку гледжання распрацаванай мной новай храналогіі і новай тэорыі чалавечай культуры (на грунце яе пераемнай безперапыннасьці) з’яўляецца не спалучэннем класічнага каня з варварскай аслiхай сярэднявечча

згодна з біялагічным прынцыпам, а зародкам самога класічнага антыка із панаваўшай да яго і ў самай Візантыі «варварскай культуры».



Мал. 50
Рамейская плоская пасудзіна, знойдзеная пры раскопе поля паблізу горада Кунгур Пермскай губерні, пры якой у зямлі знойдзена і некалькі падобных іншых, верагодна для «павышэння ўраджайнасьці». Царгародзкі выраб другой чвэрці VI стагоддзя нашай эры. З'яўленне багіні Венеры-Афрадыты ў выглядзе фрыгіянкі у шатры Анхіза. – Дзяржаўны Эрмітаж. (Згодна з Л. А. Мацулевічам.)



Мал. 51

Адломак рамейскай глінянай царкоўнай пасудзіны, якая відаць ужывалася пры прычашчэнні, мяркуючы па парэштках надпісу. Напачатку пасьля кропкі: KYPIE BOH[ΘE] (госпадзі, дапамажы), а пад канец надпісу: [Θ] YCIACTHPION COY (ахвярнік твой). А тым часам тут жа на борце – класічны сюжэт: Нерэіда, забаўляючаяся з трытонамі. І акрамя таго ў Брытанскім музеі таксама існуе срэбная скрыначка, знойдзеная на Эсквіліне ў Рыме з хрысьціянскім надпісам і з такімі ж класічнымі сюжэтамі, лічымымі за паганскія. – Дзяржаўны Эрмітаж. (Згодна з Л. А. Мацулевічам).

Распрацоўваемая мной новая, рацыянальная тэорыя эвалюцыі чалавечай творчасьці, дапасуючая цалкам усіх класікаў да Эпохі Гуманізму, а грэцкіх, у прыватнасьці, – да перыяду крыжацкай лацінскай Федэрацыі на Блізкім Усходзе, толькі ставіць уніз нагамі тое, што да гэтага часу стаяла ўніз галовай. І гэта перастанова з галавы на ногі зараз непазбежная, і нішто не ў стане яе адмяніць.

Падумайце самі.

Згодна з ранейшымі гістарычнымі уяўленнямі на працягу ўсяго сярэдневечча на Балканскай паўвыспе і на прылеглых да яе іянічных выспах разам з культурнымі ўзбярэжжамі Малой Азіі не існавала ніякага малярства, акрамя іконапісання, і абсалютна ніякай скульптуры, тады як перад гэтым абодва напрамкі квітнелі. З вельмі вялікімі нацягваннямі гэта тлумачылася забіваючым уплывам хрысьціянскай рэлігіі, хаця на працягу усяго перыяду не было ніводнага выпадку, каб грэцкая царква забараніла, падобна магаметанскай, і малярства і скульптуру ў звычайным атачэнні заможнага жылля. Нават пад час перыяду іконазмагання знішчаліся толькі рэлігійныя куміры, пад дэвізам ушанавання адзінага нябачнага бога. Гэта азначае, што тлумачэнне гэтага факта «клерыкалізмам» тут ні на чым не заснавана.

А вось зараз Л. А. Мацулевіч і непасрэдна даводзіць, што свецкія выявы, надзвычай родныя класічным, але больш першабытныя згодна з выкананнем, з’яўляюцца вельмі пашыранымі на срэбных вырабах самай сярэдзіны візантыйскага сярэднявечча.

Із гэтага зразумела, што такія ж сюжэты тады існавалі ў Візантыі **і не на адным срэбры**... Куды ж яны дзеліся? Відавочна, – **туды ж, куды і паказаныя намі тут пасудзіны**, раней таго, чым іх даследаваў Л. А. Мацулевіч: яны ўсе былі няправільна дапасаваны пазнейшымі гісторыкамі да першых стагоддзяў нашай эры ці нават да яшчэ больш глыбокай старажытнасьці.

Усё гэта я і спрабаваў давесьці чытачу ў ранейшых тамах «Хрыста» і яшчэ раз зраблю гэта ў гэтым томе, а зараз прашу толькі паглядзець на некалькі здымкаў, зробленых мной із фатаздымкаў Л. А. Мацулевіча, размешчаных у яго нядаўна выдадзенай кнізе. Вось яны, зародкі таго антычнага малярства, якія так пышна заквітнелі ў перыяд Лацінскай імперыі XIII-XIV стагоддзяў на тым жа Рамейскім Усходзе і, перакінуўшыся па Захад, нарадзілі ўсё наша еўрапейскае майстэрства (мал. 44-52)!



Мал. 52
Рамейская плоская срэбная пасудзіна, знойдзеная на рацэ Калганаўка Пермскай губерніі, царгародзкі выраб дваццатых гадоў VII стагоддзя (грунтуючыся на таўры імператара Гераклія на адваротным баку). На ім скачуць Менада і Сілен. Ранейшае датаванне: II ці III стагоддзе нашай эры. – Дзяржаўны Эрмітаж. (згодна з Л. А. Мацулевічам.)

# Глава III

## Эпоха вялікага цара-месіі.

Наўрад ці існуе ў гісторыі чалавечай містыкі больш цікавы перыяд, чым чацьвёртае стагоддзе нашай эры. Ён пачаўся, як мы бачылі, абуджэннем вулканічнай дзейнасьці Вязувія, пасьля яго шматстагодзевага сну, абудзіўшы ўяўленне людзей на абшарах усяго міжземнаморскага этнічнага басейна, а скончыўся ён нейкімі магутнымі ўзрушэннямі зямлі, водгалас якіх мы бачым у Апакаліпсісе, напісаным восенню 395 года. У сярэдзіне гэтага стагоддзя з'явілася, згодна з царкоўнымі гісторыкамі, хрысьціянская літургія[49] Вялікага Цара (Васіля о-Мегаса, па-грэцку). А пад канец гэтага ж стагоддзя з'явілася літургія Яна Залатавуснага, напэўна, непадобная на сучасную, маючую яго імя, як чарвяк на вылупіўшагася із яго матылька.

Якімі былі абедзьве гэтыя літургіі ў той час яшчэ давядзецца дасьледаваць з дапамогай розных метадаў, таму што існуючыя зараз першакрыніцы нашых ведаў пра IV стагоддзе не што іншае, як старажытныя казкі ці позьнія апокрыфы.

[49] Ад грэцкага λιτή (літэ) – літыя, агульнае маленне, і ὀργια – оргія, таямнічыя ахвяраванні большай часткай у гонар Бахуса, у стане ап'янення.

Але аднаўляць рэчаісную гісторыю грунтуючыся на казках, дзе прыдумкі цалкам засланяюць рэчаіснасць, – тое ж самае, што, напрыклад, напісаць біяграфію Гарун-аль-Рашыда грунтуючыся на казках Шахеразады, і плагіяваць старажытную гісторыю грунтуючыся на больш пазьніх апокрыфах, якія не ўтрымліваюць нічога цудоўнага, – тое ж, што аднаўляць палацавае жыццё ў Францыі грунтуючыся на рамане Дзюма «Тры Мушкецёры», дзе таксама не апісваецца ніякіх дзіваў, а таму прынцыпова немагчыма нічому запярэчыць.

Аднак, у дадзеным выпадку мы маем не адну, а некалькі казак, і не адзін, а некалькі апокрыфаў пра тое ж самае, і таму шяхам параўнання іх паміж сабой паспрабуем знайсьці хаця б насенне першапачатковай рэчаіснасьці з найменшай магчымасьцю памыліцца.

Заснавальнік хрысьціянскага набажэнства «Вялікі Цар» (па-грэцку, Вялікі Васіль) падзяліўся ў старажытных казках пра яго на два варыянты, кожны із якіх носіць афарбоўку густу аўтараў.

У больш позьнім варыянце, выпрацаваным манахамі, ён малюецца збольшага падобным на іх, і збольшага згодна з тым ідэалам, якога яны самі жадалі б дасягнуць. А ў біблейскай кнізе «Цары» яго малююць у выглядзе прарока Іліі (г.азн. Эліяса – сонца, адкуль паходзяць і імёны Юлій і Юльян). Ён там грукоча на зямных цароў, мае выдатнага наступніка Ялісея, г.азн. Бога-ратавальніка, і нарэшце ляціць на неба ў палымянай калясніцы, на якой з грукатам і маланкамі скача над аблокамі нават і да гэтага часу падчас навальніц.

У кнізе «Быццё» тая ж самая містычная ідэалогія паказвае яго нам у выглядзе прабацькі Енаха, г.азн. Пасьвечанага, жыўшага 365 гадоў, адпаведна колькасьці дзён на працягу года, што паказвае на яго сувязь з вызначэннем працягласьці сонечнага года. Агаране завуць яго Ідрыс, г.азн. навуковец, і Каран (19. 57-58) прыпісвае яму вынаходніцства пісьменнасьці і ўсіх навук. Ад яго імя існуе нават «Кніга Енаха», адкрытая ў Абісініі ангельскім вандраўнікам Брусам на эфіёпскай мове. Думку пра яго высокую адукаванасць падзяляюць і талмудысты, а самае цікавае для нас тут тое, што і ён, падобна прароку Іліі і евангельскаму прароку Хрысту, за сваю набожнасць быў узяты жывым на неба.

У «Жыціях Сьвятых» мы маем яго ў вобразе заснавальніка першай хрысьціянскай літургіі – Вялікага Цара (Васіля Вялікага), таксама, як мы бачылі, чалавека вялікай вучонасьці і таксама цудадзея, ажыўляўшага нават памёршых, хаця, як кажуць нам манахі, ён быў царом і сынам цара, толькі на імя, а не на справе.

І, нарэшце, у евангеллях гэтая манаская версія даходзіць да свайго канчатковага развіцця. Заснавальнік хрысьціянскага набажэнства ўяўляецца ў іх вялікім лекарам і цудадзеем, не толькі ажыўляўшым іншых памёршых, але і самога сябе і, як Енах і Ілія, узнесеным жывым на неба. Усё гэта – адгалінаванні чыста містычнай аперцэпцыі, але існуюць і свецкія аперцэпцыі, якія малююць нам яго замест падзвіжніка у вобразе вялікага героя і вайскавага правадыра.

Такім мы яго бачым, перш усяго, пад імем Езуса Навіна. Згодна з перакладам гебраіста Крудэна гэтае імя азначае Ратавальнік Вечны, а калі лічыць слова Навін паходзячым ад жыдоўска-арабскага дзеяслова “нава” – прадказваць, то атрымаецца – Ратавальнік-Прарок. У звычайным жыдоўскім тэксце Бібліі ён акрамя таго мае найменне Езус Нун, г.азн. Ратавальнік-Рыба, што цалкам адпавядае сярэднявечнай хрысьціянскай сімволіцы, дзе Хрыстос таямніча злучаўся з задыякальным сузор'ем Рыб, пачаткам Візантыйска-Рамейскага года, ды і само грэцкае імя Рыба (IXTIC)

лічылася анаграмай – Езус Хрыстос Тэу Іййас Сотэр, г.азн. Езус Хрыстос Боскі Сын Ратавальнік, як я ужо не раз меў выпадак паведамляць. А гэты Езус, як паведамляецца і пра евангельскага Хрыста ў Каране, быў пляменікам Майсея і Арона, што зноў жа збліжае яго з чэцці-мінейскім Вялікім Царом, які належаў да ішоўшага за Арыям пакалення. Як і евангельскі Хрыстос, ён прывёў боскі народ у запавятаную яму зямлю, але толькі не містычным шляхам, як у евангеллях, а праз кровапралітныя бітвы.

Сумнявацца ў тым, што ён – толькі новае адгалінаванне таго ж самага міфа пра заснавальніка хрысьціянскага набажэнства, – немагчыма з рацыяналістычнага боку гледжання. І гэта тым больш, што ў падобным аблічча ён выяўляецца перад намі і ў ягіпецкіх паданнях пра Вялікага Цара-Месію (Рэ-Месе Міамуна). Але толькі тут ён выяўляецца ўжо не намінальным «царом, сынам цара», як у чэцці-мінейскім паданні пра Васіля Вялікога[50] і не алегарычным, як у евангеллях, паведамляючым пра сябе: «я цар, але царства маё не ад гэтага сьвету» – а царом сапраўдным і законным, як і жыўшы ў IV стагоддзі нашай эры рамейскі імператар Юльян Філосаф.

І царуючая версія несумнеўна больш праўдападобная, чым першая манаская з падняцццем яго на неба і іншымі дзівамі.

Але тады магчыма дапусьціць, што і сама асоба, даўшая нагоду да такіх гучных паданняў, раздваілася пад час сярэдневечча на дзьве: на цара Юльяна Філосафа і на Вялікага Цара, г.азн. Васіля Вялікага. А злучаючым філалагічным звяном тут служыць прарок Ілія, які адносна сваёй біяграфіі моцна нагадвае як Васіля Вялікага так і евангельскага Хрыста, а згодна са сваім іменем нагадвае імператара Юльяна, таму што Юльян і Ілія – адно і тое ж імя ў двух іншамоўных вымаўленнях і паходзіць ад грэцкага слова Эліяс – Сонца. Ды і само слова Васіль, хаця я і перакладаю яго сярэднявечным значэннем «цар», спачатку было Баз-Ілу ці Баз-Эліу, г.азн. пастамент Бога ці пастамент Сонца. Гэта азначае, што гэта тое ж самае імя, як і Юльян, і Ілія.

Так параўнанне разнастайных міфаў дае магчымасць з вядомай доляй верагоднасьці аднавіць першапачатковую рэчаіснасць ці, прынамсі, аспрэчыць ужо склаўшыяся ў нас аднабаковыя ўяўленні. А тая акалічнасць, што нашы грэцкія першакрыніцы прымусілі цара Юльяна і Вялікага цара нават ліставацца паміж сабой, не мае ніякага значэння. Сярэднявечныя аўтары былі здольны і не на такія справы. Вось чаму і Вялікага цара, які заснаваў першапачатковую хрысьціянскую літургію ці даўшага падставы заснаваць яе сваім паслядоўнікам, я буду разбіраць тут спачатку з боку гледжання адзінства Юльяна Філосафа і Вялікага цара Чэцці-Мінеі, карыстаючыся ўсімі злучанымі мной адна з адной першакрыніцамі, а потым ужо паспрабую ахарактарызаваць – грунтуючыся галоўным чынам на біблейскай «Песні Песняў» – і характар існаваўшага тады хрысьціянскага набажэнства.

Пагаворым спачатку пра «Сонечнага цара» – Юльяна Філосафа, які ад тэолагаў атрымаў найменне «Адрачэнец».

Урачыстае пахаванне Канстанцыя, памёршага, – паведамляюць нам, – падчас «пярсідзкага» паходу ў Кілікіі ў 361 годзе і перавезенага набальзамаваным у Цар-Горад, адбылося, пры новым імператары (Юльяне па-грэцку) у пабудаваным быццам бы Кастусём Вялікім храме св. Апосталаў. Сенат прылічыў яго да ліку богаў, а дзе яго магіла, ды і сам храм св. Апосталаў, як быццам бы ніхто зараз не ведае. Для нас тут уяўляе цікаваць толькі факт, што бальзамаванне царскіх трупаў,

[50] Там ён завецца Васілём, сынам Васіля, – што на сярэднявечнай грэцкай мове азначае Цар, сын Цара.

г.азн. ператварэнне іх у муміі і перавязенне для пахавання на радавыя могілкі, існавала і ў IV стагоддзі нашай эры. А пад Цар-Горадам ці Ўмацаваным Горадам (Канстантынопалем, па-грэцку) мог мецца на ўвазе спачатку і Мемфіс з яго пірамíднымі курганамі: каля яго ж ва ўсякім выпадку шмат шыкоўных царскіх магіл.

І вось, на пасад уступіў Юльян, з біяграфіяй якога злучана столькі аперцэпцыйных уяўленняў у хрысьціянскіх пісьменнікаў, як амаль ні з кім іншым із зямных цароў.

Ён, – кажуць нам, – атрымаў добрую адукацыю. Валах Мардоній, згодна з паходжаннем скіф, знаўца грэцкай літаратуры і філасофіі, навучаўшы маці Юльяна паэмам Гамера і Гезыёда (якіх тады яшчэ не было!), перайшоў у якасьці выхавальніка і настаўніка да яе сына. Яўсевій, біскуп нікамідыйскі і потым канстантынопальскі, пераканаваны арыянін, навучаў Юльяна Святому пісанню.

Пасьля вымушанага знаходжання (дзякуючы падазронасьці Ўстойлівага-Канстанцыя) на працягу некалькіх гадоў у Кападокіі, дзе ён працягваў пад кіраўніцтвам суправаджаўшага яго Мардонія вывучэнне «старажытных аўтараў», Юльян для заканчэння аукацыі быў пераведзены спачатку ў Цар-Горад, а потым у Нікамедыю, дзе – пераконваюць нас гісторыкі-тэакраты, ахвотнікі патлумачыць існаванне класічнага Пантэона, як урадавай рэлігіі існавалі нават і пасьля Кастуся, – у яго і з'явілася першая схільнасць да паганства.

«У той час у Нікамедыі выкладаў Лібаній, не ведаўшы і не жадаўшы ведаць лацінскую мову, да якой ставіўся з грэбаваннем. Ён пагарджаў хрысьціянствам і бачыў сэнс усяго толькі ў элінстве». Там жа Юльян з захапленнем пазнаёміўся з акультнай навукай «неаплатонікаў», якія выклікалі з дапамогай заклінальных формул не толькі памёршых звычайных людзей, але нават богаў (тэўргія). Навуковец філосаф, астролаг і магік, на імя Найвялікшы (Максім, па-грэцку), а родам, – пераконваюць нас, – із Эфеса, зрабіў на Юльяна асабліва вялікі ўплыў.

Перажыўшы свайго брата Гала (г.азн. француза), забітага згодна з загадам Канстанцыя, Юльян быў выпраўлены ў спасылку ў Афіны, якія тады ўяўлялі сабой яшчэ даволі глухі, правінцыйны горад. І там, як лічыць большасць гісторыкаў, ён быў пасьвечаны элеўзінскім іерафантам у элеўзінскія містэрыі, г.азн. таемны культ Дэметры і Персефоны. Царкоўныя гісторыкі мімаволі збліжаюць яго з заснавальнікам хрысьціянскай царквы, называючы аднагодкам і школьным таварышам «Вялікага цара» (Васіля Вялікага ў клерыкальнай аперцэпцыі).

Але вось, у 355 годзе Канстанцый II абвясьціў Юльяна цэзарам, адружыў са сваёй сястрой Аленай і выправіў правадыром войска у Галію, дзе ішло зацятае змаганне з націскаючымі германцамі. Юльян справіўся з цяжкім заданнем і пад Страсбургам перамог германцаў. Вось гэты паход і быў пазней прыпісаны замест Юльяна Цэзара Юлію Цэзару, які быў абвешчаны і аўтарам кнігі «De bello gallico».

Галоўнай рэзідэнцыяй Юльяна зрабілася Лютэцыю (Lutetia Parisiorum, пазьней Парыж)[51]. Ён быў у той час невялікім горадам на выспе ракі Сены і быў

[51] Яшчэ раз настойліва пазначу, што Парыж (па-французку Парыс) пад час сярэдневечча зваўся Лютэцыяй парысееў, г.азн. французы зваліся парысеямі ці парысамі, тым жа імем, як і евангельскія фарысеі (таму што гукі п і ф не адрозніваюцца ў жыдоўскай мове, у якой існуе толькі сярэдні паміж імі гук п-ф). Гэтае ж слова мы сустракаем у Бібліі, дзе фрызы (פזר) ці, у грэцкім тэксце, ферэзеі (φερεζαῖοι), а ў лацінскім pheresaei, лічацца за асобнае ханаанскае племя, жыўшае ў сярэдняй за-Ярданскай вобласьці, заваяванай пазней богаслаўцамі (па-жыдоўску – юдэямі) і аф-рымлянамі (Быццё, XIII, 7; Езус Навін, XVII, 12). Яно ж згадваецца і пры Саламону (I Цары, IX, 20) і нават у Ездры (IX, 1). А калі мы згадаем, што Ярданам звалася пад час сярэдневечча рака По ў Ламбардыі, то і геаграфічнае становішча ферезееў атрымаецца якраз у

злучаны драўлянымі масткамі з абодвума берагамі ракі. На левым беразе, дзе ўжо было не мала сядзіб і садоў, знаходзіўся пабудаваны, – паведамляюць нам, – Канстанцыем Хлорам палац, парэшткі якога, каля музея Клюні, бачны і зараз, і Юльян абраў яго сваім месцазнаходжаннем. Яму падабаўся Парыж, і ў адным із прыпісаных яму пазнейшых твораў згадвае пра зімоўку ў «паважаемай Лютэцыі».

Але вось, як я ўжо паведамляў, Канстанцый памёр, і ў 361 годзе Юльян быў прызнаны імператарам на ўсёй прасторы імперыі.

«*Перш усяго ён вырашыў аднавіць паганства*».

Так, прынамсі, паведамляюць нам царкоўныя гісторыкі і апакрыфісты Эпохі Адраджэння. Але хіба ў той час ужо не было паганства? Ды і што ж гэта было за паганства? Із іхных жа паведамленняў выходзіць тут штосьці вельмі дзіўнае. Падумайце самі.

Паганскае сьвятарства, – кажуць яны нам, – ён рэарганізаваў **згодна з узорам хрысьціянскай царквы**: нутро паганскіх храмаў было ім уладкавана **згодна з узорам хрысьціянскіх**; было загадана весьці ў храмах размовы і чытаць пра таямніцы элінскай мудрасьці **згодна з узорам хрысьціянскіх павучанняў**; падчас паганскай службы былі ўведзены спевы **згодна з ўзорам хрысьціянскіх**; ад жрацоў запатрабавалася бездакорнае жыццё і дабрачыннасць, **як у хрысьціянскіх сьвятароў**, і прытым нават намаляваных падобна навейшым: за невыкананне рэлігійных патрабаванняў пагражалі, як у пазнейшай хрысьціянскай царкве[52], адлучэннем і пакаяннем і г.д.

Але, ж, тут як быццам атрымлівецца, што не паганскае сьвятарства было ўладкавана Юльянам згодна з узорам хрысьціянскага, а якраз наадварот! Як ён мог пабудаваць паганскія храмы згодна з узорам хрысьціянскіх, калі само хрысьціянскае набажэнства пачалося толькі ў гэты час (літургія Васіля Вялікага)? Дакладна тое ж самае можна сказаць і пра рытуал, які цалкам падобны на месіянскі.

Колькасць ахвярных жывёл, прынесеных Юльянам **згодна з узорам біблейскіх** на ахвярнік богаў, была, – пераконваюць нас, – такой вялікай, што выклікала сумневы і некаторую долю насмешак нават у асяроддзі саміх паганцаў. **Падобна цару Давыду**, імператар браў дзейны ўдзел пры ахвяраваннях і, згодна са сведчаннямі Лібанія, бегаў вакол ахвярніка з кавалкамі падпаленага дрэва ў руках.

«Запрасіўшы хрысьціянскіх правадыроў розных рэлігійных накірункаў з іхнымі прыхільнікамі ў палац», Юльян, у дадатак да ўсяго гэтага, абвясьціў, што зараз, пасьля заканчэння грамадзянскіх усобіц, кожны мае магчымасць без перашкод, без якой бы то ні было баязьні прытрымліватца сваёй веры.

Але, – працягваюць аўтары, – прадстаўнікі хрысьціянскага сьвятарства, належачы да розных рэлігійных накірункаў, не маглі ўжыцца ў згодзе і пачалі бязлітасныя спрэчкі, на што, быццам бы і разлічваў Юльян (які хітры!!). Даруючы ўяўную верацярпімасць і добра ведаючы псіхалогію хрысьціянаў, ён, – запэўніваюць яны, – быў перакананы, што ў хрысьціянскай царкве зараз жа пачнуцца разлады, і такая раз'яднаная царква ўжо не будзе ўяўляць для яго сур'ёзную небяспеку.

Так усё добра вядома артадаксальным гісторыкам! Ад іх не ўтойваюцца не толькі справы, але нават і думкі! Яны ведаюць і тое, чаго не было. Не існаваўшы

---

Францыі. У сувязі з гэтым даводзіцца перагледзець і пытанне: калі персамі (פרס) пачалі зваць не французаў, а іранцаў?

[52] А. А. Васільеў, I, стар. 71.

тады «лабарум» Кастуся, быццам бы, служыўшы ў якасьці сьцяга ў яго войску, быў знішчаны Юльянам, і ніколі не ззяўшыя на сьцягах паганца Кастуся Сьвятога крыжы былі заменены паганскімі эмблемамі. Так быў ліквідаваны гісторыкамі несвоечасовы міф пра «Гэтым Перамогшы».

Першы ўказ новага імператара, – кажуць нам, – быў пра «прызначэнне прафесароў у галоўныя гарады імперыі». Кандыдаты «павінны быць абіраемы гарадамі, але падавацца на рашэнне імператара». Так, відаць, узніклі першыя трывалыя і працяглыя школы на зямным шары.

І ў той жа час жыў, – кажуць нам, – рэчаісны заснавальнік хрысьціянскай літургіі Вялікі Цар (Васіль Вялікі). Як жа не параўнаць той факт, што хрысьціянская літургія ўзнікла якраз пры Юльяну, з толькі-што прыведзеным цьверджаннем, што ён наладзіў паганскія храмы і іхныя набажэнствы згодна з узорам хрысьціянскіх?

Царкоўныя гісторыкі не робяць гэтага параўнання, але яно такое красамоўнае, што я звяртаю на яго асаблівую ўвагу чытача. Аблічча «Сонечнага цара» (Юльяна, па-грэцку) і аблічча Вялікага цара (Васіля Вялікага, на напалову грэцкай мове) падобныя на дзьве фатаграфіі аднаго і таго ж будынка, зробленыя з двух розных бакоў. На адной фатаграфіі мы бачым парадны фасад, а на другой – задні бок. Абедзьве фатаграфіі розныя на першы пагляд, але не поўныя адна без другой, і некаторыя агульныя дэталі контуру мімаволі наводзяць на думку, што гэта толькі два бакі таго ж будынка.

Паглядзім і на далейшыя падзеі.

Летам 362 года, Юльян пачаў падарожжа ва ўсходнія правінцыі і прыбыў у Антыёхію, дзе насельніцтва, быццам бы згодна са сведчаннем самога імператара, «аддавала перавагу атэізму». Сталіца Сірыі засталася, – кажуць нам, – цалкам халоднай да жадання гасьцяваўшага ў ёй імператара наладзіць яе храмы і набажэнствы «згодна з узорам хрысьціянскіх». Ён быў гэтым вельмі засмучаны.

І вось, вясной 363 года ён пакінуў Антыёхію, накіраваўшыся ў паход супраць персаў, падчас якога быў сьмяротна паранены таямнічай дзідай «апоўначы 26 чэрвеня» 363 года, як Хрыстос – ва ўзросьце 33 гадоў ад нараджэння. Схапіўшыся за рану, гэты чалавек, не паспеўшы перабудаваць усе паганскія храмы згодна з ўзорам хрысьціянскіх, напоўніў, быццам бы, далонь сваёю крывёй і кінуў яе пырскамі ў паветра са словамі:

– «Ты перамог, Галілеянін!»

Ніхто не мог сказаць, хто яго параніў. Адны першакрыніцы «сведчаць», што ён загінуў ад рукі ваяра-хрысьціяніна; другія, – што яго забіў анёл. Аміян Марцэлін паведамляе цэлы раман пра тое, як каля паміраючага Юльяна, быццам бы, сабраліся сябры і вайсковыя правадыры і нават слова ў слова аднаўляе (відавочна, пад дыктоўку сьвятога духа) яго перадсьмяротную прамову (XXV, 3;15-20). Але ўсё гэта, вядома, апокрыфы і прытым вельмі позьняга ўтварэння. А калі мы іх адкінем ад сябе, то мімаволі ўзнікае меркаванне, што і сама яго таямнічая сьмерць прыдумана для таго, каб была магчыма перайсьці ад гераічнага накірунку легендаў пра Вялікага цара да сентыментальнага накірунку; ад міфаў пра яго, як пра ваяра, да пазьней распрацаваных міфаў пра яго ж, як пра сябра ўсіх пакутуючых і паланёных.

Вось як характарызуе «Сонечнага цара» А. А. Васільеў[53]:

[53] Там жа, стар. 76.

«*Цэнтрам рэлігійнага светапогляду Юльяна* – паведамляе ён – *з'яўляецца культ Сонца, стварыўшагася пад непасрэдным уплывам культу сьветлага бога Мітры. Ужо пачынаючы з самых юных гадоў Юльян захаляўся прыродай, асабліва ж небам. У сваім разважанні «Пра цара Сонца», галоўнай крыніцы нашых ведаў пра яго рэлігію, ён пісаў, што пачынаючы ад юнацства быў ахоплены жарснай павагай да прамяняў боскага сьвяціла. Ён пад час дня з захапленнем накіроўваў на яго свой позірк, а пад час ясных начэй кідаў усё, кабісьці назіраць нябеснае харawство. Яго рэлігійныя ўяўленні зводзяцца да існавання трох суьветаў, у кожнага із якіх існуе сваё сонца-бог. Першае сонца з'яўляецца самым высокім Сонцам, ідэяй ўсяго існуючага, духоўным, мажлівым, цэлым. Яно жыве ў сусьвеце абсалютнай праўды, у царстве першападставаў. Бачны намі сьвет і бачнае сонца з'яўляюцца толькі адлюстраваннем самага высокага сонца і самага высокага сусьвету, але адлюстраваннем не непасрэдным. Паміж гэтымі двума сусьветамі, сусьветам уяўляемым і пачуццёвым, знаходзіцца яшчэ сусьвет думаючы са сваім сонцам. Атрымліваецца, такім чынам, сонечная тройца: сонцы ўяўляемага, думаючага і пачуццёвага, ці матэрыяльнага, сусьвету. Думаючы сусьвет з'яўляецца адлюстраваннем уяўляемага ці духоўнага сусьвету, але сам у сваю чаргу служыць узорам для сусьвету пачуццёвага, які, такім чынам, з'яўляецца адлюстраваннем адлюстравання, паўтарэннем у другой ступені абсалютнага ўзору. Самае высокае сонца занадта недаступнае для чалавека, а сонца пачуццёвага сусьвету занадта матэрыяльнае для абагаўлення. Таму усю сваю ўвагу патрэбна засяроджваць на сярэднім, думаючым сонцы і яго ўшаноўваць*».

Але ўсё гэта, чытач, пісаў, вядома, не Юльян і не яго сучаснік, а аўтар Эпохі Адраджэння. Гэта тыповая схаластыка сярэднявечча, і, вось, зноў мы нічога не ведаем пра сапраўднае аблічча Юльяна, а пра яго «тэакратычнага суваладара Вялікага Цара» мы маем столькі разнастайных і супярэчлівых паданняў, што справа выглядае яшчэ горш.

Вось, мы толькі-што бачылі гэтага тэакратычнага суваладара (без згадванняў пра Юльяна) у самым позьнім евангельскім рамане, створаным не раней пярэдадня крыжовых паходаў, у выглядзе Цара Юдэйскага (г.азн. Багаславячага), боскага сына і вялікага лекара, пазбаўляючага адным сваім словам ад якой заўгодна хваробы, адкрываючага вочы сьляпым, вяртаючага слых і здольнасць размаўляць глуханямым, ажыўляючага нават памёршых. Яго забілі багаслаўцы (юдэі, па-біблейску), але ён ажыў і паляцеў на неба, адкуль хутка-хутка прыйдзе назад, судзіць жывых і памёршых. А із гэтага рамана, выключыўшы ўсё непраўдападобнае, Рэнан і некаторыя іншыя «гісторыкі» спрабавалі стварыць рэчаісную гістарычную асобы. Але дзякуючы таму, што «сын боскі» ўжо выключаны большасьцю сучасных гісторыкаў із ліку гістарычных дзеячаў (хаця і павінен быў бы быць адным із самых выбітных сярод іх), то і я не буду тут спыняцца на гэтай навейшай версіі старадаўняга сентыментальнага рамана пра Хрыста, прыдуманай Рэнанам. Ды на гэта і ёсць падставы.

Мы ж толькі-што бачылі яго і на прыкладзе біблейскага падання пад імем прарока-Бога (прарока Іліі), жывучага пустынікам на адасобленай гары, якому птушкі прыносяць ежу і які нарэшце ўзносіцца жывым на неба на спусьціўшайся да яго адтуль калясніцы, хаця з яго гісторыкі, выкінуўшы ўсё цудоўнае, і не спрабавалі стварыць гістарычнага дзеяча інакш, як у сьвятых гісторыях «Старога запавету».

Мы толькі-што бачылі яго і ў Каране, як роднага пляменіка Майсея і Арона, нарадзіўшагася ад іхнай сястры Марыамы, не меўшай чалавека. Для яго ў Медыне нават і зараз застаецца месца для пахавання каля труны Магамета, дзе цела Хрыста

павінна будзе ляжаць пасьля таго, як ён душой канчаткова пераселіцца на неба, пасьля другога свайго прышэсьця на зямлю.

Мы бачылі яго і ў Бібліі, як «патрыярха Энаха», бацьку навук і набажэнства, узятага жывым на неба, а акрамя таго вось ён фігуруе ў першай дэкадзе кніг Ціта Лівія пад тым жа імем імператара Анка Марцыя, таму што імя Анк з'яўляецца толькі іншым вымаўленне імя Енах і на іерагліфічнай мове азначае Крыж (анх). І яму прыпісваецца не толькі заснаванне набажэнства ў «Рыме», але і развіццё земляробства і гандлю. Ён, – кажуць нам, – пераможна ваяваў з лацінамі і заснаваў лацінскае паселішча на Авентынскім пагорку, адным із сямі пагоркаў сучаснага італійскага Рыма. Ён, жа відаць, малюецца і ў выглядзе імператара Клаўдыя, чалавека грэшніцы Месаліны, апекаваўшага навукі, як і Клаўдый Пталямей, і ўпрыгожваўшага горад пабудовамі.

Вось ён фігуруе ў біблейскай кнізе «Цары» пад імем богаславячага «Лекара (Асы-Езуса) – свяцільні Сьвятога Горада (І Ц., XV 3), дагоднага богу-Грамабою, як і Давыд. Ён выгнаў із зямлі (храмавых) распутнікаў[54], скасаваў усіх стодаў, зробленых яго продкамі (1 Ц., XV, 12) і нават сваю маці (арыянскую царкву?) пазбавіў звання царыцы (жонкі дзяржавы?) за тое, што прыгатавала балвана для дубравы. А калі яго суваладар ў ізраільскай частцы, Васа (г.азн. цар, па-грэцку) пачаў будаваць сабе ўмацаванне Рому (Рым), то ён заключыў супраць яго хаўрус з царом зямлі Эдом і перамог Васу (І Ц., XV, 18).

Але ці сапраўды Аса і Васа – два розныя цары, а не два найменні таго ж самага чалавека? Аса ж з'яўляецца толькі першапачатковым жыдоўскім вымаўленнем грэцкага імя Езус і азначае – лекар, а Васа з'яўляецца толькі жыдоўскім вымаўленне слова Васіль, г.азн. цар.

Калі гістарычны дзеяч, пра якога ідзе гаворка, меў два перыяды ў жыцці – пад час маладосьці, як вайсковы правадыр і заканадавец, а ў наступным жыцці, як сьвятар і навуковец, то паданні пра яго непазбежна павінны былі падзяліцца на дзьве адпаведныя версіі. І з гэтага боку гледжання Васіль Вялікі (г.азн. Вялікі цар) мог быць, як храналагічна і атрымліваецца, толькі працягам Юльяна.

Ва ўсякім разе пад імем Асы мы ўжо бачым пераход Цара-Месіі ў герої і рэчаісным царом і героем жа мы толькі-што бачылі яго і ў біблейскай кнізе «Ратавальнік-Прарок» (Езус Навін, на напалову жыдоўскай мове). Яна малюе яго, як вайсковага правадыра, завёўшага богазмагальнікаў у краіну Запаветную, пасьля гераічных сутычак з насяляўшымі яе ворагамі, прытым ён вынішчаў іх цэлымі народамі, чым ужо моцна адрозніваўся ад евангельскага Хрыста.

Героем жа і царом мы бачылі яго і ў ягіпецкіх іерогліфах, пад імем Вялікага Цара-Месіі (Рэ-Месу-Міамуна). А адносна сваёй вайсковай дзейнасьці ён тут вельмі нагадвае біблейскага Ратавальніка-Прарока – Езуса-Навіна.

Вось, ён жа фігуруе і ў Індыі пад імем Крышна, і ў Тыбеце пад імем Буда, а ў класічных паданнях пад імем вынаходніка вінаробства Вакха ці пад імёнамі Дыёніса, Апалона, Мітры і гэтак далей, без канца.

Дык чаму ж не стварыць гіпотэзу, што ён жа фігуруе і ў выглядзе свайго сучасніка Юльяна, адрачэнца не ад евангелічнага хрысьціянства, якога тады яшчэ не было і ў думках, а ад арыянства, якое і ў Бібліі, і ў евангеллях фігуруе пад найменнем юдаізму (г.азн. у перакладзе: багаслаўя)?

---

[54] קדשים (ад КДШІМ) – распутнікі, сьвятошы.

Для фантазёраў жа эпохі апокрыфаў, маючай назву Эпоха Адраджэння, нарабіўшых із адной рэчаіснай асобы столькі не рэчаісных, нічога не каштавала дадаць да іх і яшчэ адну варыяцыю ў выглядзе Юльяна, свецкага суваладара «Вялікага Цара». Падзялілі ж яны аднаго і таго ж багаслаўца-Юду і на «апостала Юду, брата Госпада» і на «Юду-здрадніка»? Ва ўсякім разе біяграфія Юльяна, якой мы маем яе ў Сакрата Схаластыка, так нагадвае нам іерагліфічную біяграфію Рэ-Месы-Міамума (самае імя якога на напалову грэцкай, напалову жыдоўскай і напалову рускай мовах давялося б перакласьці як Васіль Вялікі Месія), што сумнявацца ў тоеснасьці з імі заснавальніка хрысьціянскага набажэнства цалкам немагчыма.

І вось, мы прыходзім да высновы, што нагодай да ўзнікнення ўсіх гэтых міфаў пра Хрыста-Месію быў рамейскі імператар, увайшоўшы ў сучасную царкоўную гісторыю пад імем Юльяна Адрачэнца. У гэтай версіі ён, відаць, не перанесены са свайго месца ні ў прасторы, ні ў часе, а толькі раней сваёй натуральнай сьмерці паранены таямнічай дзідай пад час аддаленага паходу, каб у чытаючага пра далейшыя яго справы не дваілася ў вачах пры пастаянных пераходах ад мала адпавядаючых адзін аднаму ўяўленняў пра «Вялікага цара» да ўяўленняў пра яго ж, як пра «Сонечнага цара», і наадварот. Яго рэчаіснае аблічча яшчэ даводзіцца аднаўляць грунтуючыся на ўсіх існуючых пра яго міфах і паданнях.

Але што магло быць падставай з'яўлення такой бясконцай колькасць міфаў пра яго аднаго? Стварэнне ім стану лекараў і навукоўцаў? Вядома, і гэта мела месца. Як толькі мы пераканаліся, што Юлій Цэзар – міф, так і Юліянскі каляндар (нават і без нашага вылічэння часу яго ўзнікнення пры Юльяне грунтуючыся на прэцэсіі) давялося б прызнаць за Юльянаў, а не за Юліяў.

Пашырэнне акультных навук, г.азн. першабытнай медыцыны, астралогіі, алхіміі і магіі, таксама магло быць зроблена ім з дапамогай прызначаных у галоўныя гарады, як мы толькі-што бачылі, магістраў-прафесароў.

Усё гэта магло, вядома, моцна ўздзейнічаць на ўяўленне, але больш усяго павінна была спрыяць узнікненню чароўных міфаў пра яго яго ж містычная хрысьціянская літургія. Із самога факту існавання перажытку ў ёй «таемства прычашчэння» з хлебам і віном, немагчыма не зрабіць выснову, што яно і ўзнікла дзякуючы выпадковаму адкрыццю пры Юльяне, у Кане Галілейскай, г.азн. у сучасным французкім горадзе Каны на беразе Міжземнага мора, спосабу прыгатавання віна із закісшага вінаграднага соку, ап'яняючае ўздзеянне якога здавалася боскім.

Сьвятары паўднёвай Яўропы, відаць, скарысталіся гэтым, пачалі разводзіць пры сваіх храмах вінараднікі, і вельмі магчыма, што, адпаведна з прыкладам ўсіх навукоўцаў таго часу, трымалі некаторы час у сакрэце спосаб прыгатавання віна, уздзеянне якога магло ўзмацняцца і наркотыкамі.

Наладжваючы пад час загадзя ўсталяваных сьвятаў храмавыя папойкі, суправаджаўшыяся оргіямі ап'янеўшых наведвальнікаў і наведвальніц, яны надавалі гэтаму містычны характар. Узнікла таемства прычашчэння, дзякуючы чаму вынаходнік ці пашыральнік напою «Вялікі Цар», распаўшыся ў паданнях пра яго, як ракета на мноства зорак, і патрапіў нарэшчы ў боскія сыны. Немагчыма ж не бачыць, што хрысьціянства ў старажытнасьці якраз і сфармавалася ў абласьцях вінаробства Паўднёвай Яўропы, а за іхныя межы пашыралася вельмі цяжка, хаця прыставанне прыкладу вінаграднага закісання да іншых рэчываў і прывяло пазьней

да пашырэння спіртаўтрымліваючых напояў не хрысьціянскага паходжання. А акрамя таго, немагчыма не згадаць і пра вэрхалы, занадта нагадваючыя хрысьціянскія «ночы кахання», так званыя «агапы»[55], каб не зрабіць паміж імі адпаведнага супастаўлення.

Само сабой зразумела, што клерыкальныя пісьменнікі з часоў Эпохі Гуманізму аспрэчваюць тоеснасць агап з класічнымі вэрхаламі, сцвярджаючы, што агапамі былі начныя сходы братэрскага кахання (хаця для гэтага ў грэцкай мове існуе іншае слова: філія). Але, ж, нічога іншага, як адлюстраванне старога факта ў новым выглядзе і не заставалася для іх, пакуль яны сваю рэлігію прызнавалі узнікшай не эвалюцыйна, а згодна з боскім адкрыццём.

Я не хачу, вядома, тут сказаць, што сам вынаходнік вінаробства, з яго таемствам прычашчэння, быў першым п'яніцай і дэбашырам. Цалкам наадварот. Гісторыя чалавецтва не раз паказвае нам прыклады, калі вынаходніцтвы геніяльных людзей у наступным жа пакаленні набывалі такое ўжыванне, якое вымусіла б вынаходнікаў пашкадаваць пра свае вынаходніцтва і што вялікія гуманітарныя ідэі сяброў чалавецтва ва ўжыванні іхных псеўда-паслядоўнікаў не раз прыводзілі да цалкам нялюдзкіх формаў.

Усё гэта, відаць, было і тут, таму што ў наступным жа пакаленні, у аўтара Апакаліпсіса, мы бачым яскравы пратэст супраць злоўжывання царкоўнай чаркай у руках храмавых, як ён выказваецца, «распутнікаў», але ўсё ж толькі яна, пашырыўшыяся па ўсіх абласьцям здольных да вінаробства, змагла ў розумах людзей, выпрабаваўшых на саміх сабе яе містычнае, згодна з іхным разуменнем, уздзеянне, стварыць столькі разнастайных і разнамоўных паданняў пра заснавальніка звычая прычашчэння, як ні пра каго іншага на ўсім працягу гісторыі чалавецтва.

Так мы падышлі ў Рамейскай гісторыі да самага цікавага із усіх яе перыядаў не толькі для разумення далейшай гісторыі самай Рамеі, але нават і ўсяго наступнага чалавецтва. Нам цяжка яшчэ ўсталяваць рэчаісную гісторыю гэтага моманту дзякуючы таму, што следам за вынаходніцтвам віна і, напэўна, нават у выніку яго ўздзеяння, хутка з’явіліся тэалагічныя звады розных царкоўных сектаў, дзе, як я ўжо раз вывыказваўся ў гэтым маім дасьледаванні, – “І мядзведзь раве і карова раве, і ніхто не разбярэ, хто каго дзярэ”.

Ап’яняемые зноў вынайдзеным вінаградным напоем, а сьледам за ім і вадой жыцця (aqua vitae), – як звалі тады гарэлку, – клерыкалы страцілі, нарэшце, якую б то ні было меру ў вынаходлівасьці свайго ўяўлення. Толькі ж дзякуючы Віннаму Духу (Spiritus Vini, адкуль і наш спірт) маглі ўзнікнуць такія ідэалагічныя неадпаведнасьці, як навука пра святую тройцу (дзе адзін бог праяўляецца адразу ў трох асобах і пры гэтым яшчэ нарадзіў прадвечна існаваўшага сына пад час валадарання Актавіяна Аўгуста), ды і ўся навука пра чарцей хутчэй усяго развілася ў стане ап'янення. Нездарма ж кажуць: «напіўся да чорцікаў».

Пакідаючы іншым далейшую распрацоўку пачатку хрысьціянскай літургіі з гэтага новага боку гледжання, я скажу тут прама, што было б дастаткова аднаго вынаходніцтва вінаграднага віна з містычным тлумачэннем яго ўздзеянна і яго храмавай манаполіі, каб забабоннае ўяўленне старажытных насельнікаў зрабіла б вынаходніка такой цудоўнай вільгаці роўным богу і каб шматмоўная пагалоска

[55] Ад слова $\alpha\gamma\alpha\pi\acute{\eta}$ – паміж стацевае каханне.

заснавальніка хрысьціянскай літургіі з Юльянам Філосафам, і гэта ж падмацоўваецца ўсімі іншымі фактамі і міфамі. У рэчаіснасьці ніякі манах тады не быў здольным ўсталяваць новую літургію без дапамогі свайго самаўладнага цара, які акрамя таго лічыўся Вялікім першасьвятарам (Pontifex Maximus) і аўгустам, г.азн. сьвятой асобай. Нагадаем, што нават кодэксы законаў, хаця яны і не былі напісаны царамі, заўсёды насілі іхныя найменні: кодэкс Феадосія, кодэкс Напалеона і г.д. Нагадаем назвы календароў – Юліянскі і Рыгарыянскі, – пазначаючыя не аўтараў, а тых, якія мелі магчымасць замацаваць іх дзякуючы сваёй **ўладзе**.

Такой ж была і «літургія Вялікага цара, сына цара», хаця яна падчас свайго ўзнікнення і была, вядома, цалкам не такой, якой яе выконваюць еўрапейскія сьвятары зараз, а без сумневаў суправаджалася вэрхаламі, і гэтак жа адрознівалася ад сучаснай, як аблічча Юльяна ад аблічча яго двайніка ў манаскіх «Жыціях Сьвятых».



Мал. 57.
Разнастайныя аперцэпцыі заснавальніка хрысьціянскіх містэрый. Ягіпецкая Панна Марыля (Ізіда) корміць грудзьмі свайго боскага сына. (Гнедзіч, I, 14-2.)

Параўноўваючы ўсе паданні і міфы маючыя дачыненне да гэтага пытання, г.азн. лічачы, што той жа самы выбітны дзеяч IV стагоддзя нашай эры хаваецца пад найменнямі як Васіля Вялікага, так і Аляксандра Вялікага і Рамзэса Вялікага (само імя якога азначае таксама Вялікі-Цар-Месія: Рэ-Месу-Міамун), і Юльяна, і прарока Іліі, і Езуса Навіна, і Езуса Хрыста, і пад найменнямі шматлікіх іншых міфічных дзеячаў і напалову багоў, накшталт Вакха, Дыёніса, Апалона, Геркулеса, Буды, Крышны, Гермія тройчы Найвялікшага, і г.д., – мы атрымліваем такую колькасць фантастычных ці напалову фантастычных паданняў, праз смугу якіх можна разгледзець рэчаісныя контуры ў найвялікшай ступені выбітной асобы, стварыўшай новую эпоху ў разумовым і грамадзянскім жыцці, абудзіўшую чалавецтва. Шмат пройдзе часу, перш чым канчаткова высветліцца гэтая асоба, пра якую і зараз яшчэ можна пісаць толькі сентыментальныя ды фантастычныя апавяданні, але асноўныя яе рысы бачацца выразна.

Гэта быў спачатку малады прынц-рамантык, хадзіўшы ў пошуках за ведамі на захад Яўропы, ідацьаж да Атлантычнага акіяна, паглядзець на месца заходу сонца, магчыма сапраўды ў Св. Назарэце (Saint Nazaire), але толькі ў месцы ўтокі Луары, а не ў Палестыне. Потым ён прыстасаваў для ўжывання пры набажэнствах вынайдзенае тады чырвонае віно, магчыма сапраўды ў французкім горадзе Каны, даўшаму пачатак евангельскаму паданню пра Каны Галілейскія (г.азн. Гальскія). Цалкам нечаканае і нетлумачымае тады ап'яняючае ўздзеянне гэтага напою і было прыпісана пранікненню ў чалавека божай сутнасьці. Ён назіраў вывяржэнне Вязувія, дзе, каля самага жарала асабіста размаўляў з богам Грамабоем і быў ім усыноўлены на вачах людзей. Ён, магчыма, сапраўды лекаваў хворых людзей не столькі лекамі, колькі міжвольным наданнем сваёй усемагутнасьці і быў, нарэшце, абвешчаны Сьвятой Асобай – Аўгустам. Ён вярнуўся ў Цар-Горад і яшчэ ў маладым узросьце набыў царскую ўладу, якую выкарыстаў на тое, каб у справе мастацтва, упершыню стварыць тэатральнае набажэнства з уваходжанням і выходжаннямі дзеючых сьвятароў, і з містэрыяй-папойкай, а ў галіне навукі ўсталяваў астраномію і Юліянскі каляндар.

Але ён, відаць, не доўга сядзеў спакойна на пасадзе. Пыл да вандраванняў пацягнуў яго і на Ўсход, у Азію, каб асабіста пабачыць тамтэйшыя дзівы і «месца выхаду сонца із мора». І вельмі магчыма, што ён здолеў дабрацца і да Індыі, пакінуўшы сваім намесьнікам Валента, які па гадах быў старэй яго гадоў на пяць, але служыў у яго адміністрацыі, як падначалены. І калі мы будзем лічыць, што слых пра сьмерць Юльяна ў 363 годзе быў ілжыва прынесены яго спадарожнікам па ўсходняй экспедыцыі Іявіянам, пакінуўшым яго там на волю лёсу і вярнуўшагася назад з часткай адмовіўшагася ісьці далей войска, то справа робіцца цалкам зразумай. Уступіўшы следам за ім на пасад Валент (з 364-378 г.) лічыў Юльяна памёршым, а сябе цалкам законным імператарам. Але вось праз 5 гадоў яго валадарання ажыўшы із памёршых Юльян нечакана вяртаецца із Індыі, паведамляючы цуды пра свае сапраўды цудоўныя прыгоды, і магчыма з двума жонкамі із тамтэйшых прынцэс – Раксанай і Старытай, – якія потым патрапілі ў евангельскія распусніцы.



Мал. 58.
Разнастайныя аперцэпцыі заснавальніка хрысьціянскіх містэрый. Стара-пярсідзкі «Бог» (Кір па-грэцку). Барэльеф, знойдзены каля Мяшэд-Мургабе. Сьляды сярэднявечнага хрысьціянства ў Іране.



Мал. 59.
Разнастайныя аперцэпцыі заснавальніка хрысьціянскага набажэнства. Заходнееўрапейская аперцэпцыя XV стагоддзя. Із карціны Герарда-Давыда (1460-1523), у музеі ў Бруге.

Адбываецца нешта падобнае на ўваход Хрыста ў Ерусалім, якім мог быць ці сапраўды Эль-Кудс у Палестыне (названы хрысьціянамі Ерусалімам), ці Антыёхія, ці хутчэй усяго сам Цар-Горад, маючы паславянску назву Кесарыя, г.азн. таксама Цар-Горад і дарэмна сасланы ў Палестыну. Дзяўчыны ўсьцілаюць яму шлях кветкамі, сталыя падсьцілаюць свае адзенні пад ногі асла, на якім ён едзе ў суправаджэнні нешматлікіх спадарожнікаў, не пакінуўшых яго да канца... Сапраўдны ўваход Хрыста ў Горад Міру (Ерусалім, па-жыдоўску).

А якім жа робіцца становішча Валента, ужо на працягу 5 гадоў самаўладна валадарыўшыга там і шчыра лічыўшага Юльяна памёршым?

Саступіць яму адразу ж уладу? Але ж супраць гэтага закрычалі б усе яго саноўнікі, усе яго жонкі і сваякі, баючыся за сваю кар'еру, асабліва ж тая частка войска, якая пакінула Юльяна ў экспедыцыі і зараз ужо занімаючая кіруючыя пасады. Не заставалася нічога іншага, як арыштаваць яго і аддаць пад суд абвінавачваючы ў самазванстве адразу ці хутка пасьля яго ўрачыстага ўваходу ў сталіцу.

Сьмяротны прысуд быў, вядома, абумоўлены загадзя і, дзеля заспакаення ўсхваляванага насельніцтва, яго «слупуюць», як паведамляецца ў грэцкім тэксце, ці «укрыжоўваюць на крыжы», як паведамляецца на-лаціне, знарок сярод двух сапраўдных разбойнікаў.

Але пакаранне сьмерцю ці проста здзекаванне над прывязаным за рукі і за ногі да бервяна, відаць, не закончылася яго сьмерцю. Месяцовае зацьменне 21 сакавіка 368 года, пра якое я ўжо дастаткова пісаў у I томе, выратавала яго і напалохала ворагаў Юльяна.

– «І праўда гэта ён сам, Юльян, сын боскі!» – пачуліся крыкі прысутнічаючых, сярод якіх, напэўна, быў і юны Ян Залатыя Вусны, напісаўшы пазьней Апакаліпсіс, і дзякуючы гэтаму і узнікла ідэя, што ўсё зямное мае сваё адлюстраванне у рухах і становішчах нябесных сьвяціл і вызначаецца імі. Такі пачатак мела астралогія.

Ворагі Юльяна збеглі, а прыхільнікі асьцярожна адвязалі яго ад «ганебнага бервяна» ці знялі з крыжа (як паведамляецца ў лацінскім тэксце), і некуды перанесьлі, дзе ён акрыяў, ці, адпаведна з тагачаснымі уяўленнямі, «ажыў із памёршых». Зразумела, што самыя блізкія сябры спачатку хавалі яго ад уладаўцаў,

асьцерагаючыся, што яны, апрытомнеўшы ад перапалоху, заб'юць яго. А некаторыя чакалі, што ён неадкладна з'явіцца ў сваёй боскай усёмагутнасьці і, пакараўшы сваіх ворагаў, сядзе на належачы яму пасад.

Але ні таго, ні другога не адбылося, і ці памёр ён пасьля гэтага, ці, абвясьціўшы сваім самым блізкім сябрам, што «яго царства не ад гэтага сьвету», скончыў сваё жыццё недзе інкогніта, – застанецца, напэўна, назаўсёды невысветленым.

**Вядома што і тое, што я тут паведаміў, не з'яўляецца падставай для дакладнай біяграфіі, а толькі канвой для біяграфічнага рамана із жыцця Юльяна. Але, ж, біяграфічны раман усё ж лепш чым чыста фантастычныя казкі ці проста дзіцячае лопатанне, якое мы да гэтага часу мелі пра яго ў нашых «старажытных гісторыях»**.

У біяграфіі Юльяна існуе і шмат іншых паралелізмаў з евангельскімі апавяданнамі пра Хрыста.

Возьмем хаця б юнацства.

1) Цар-Герай (Ірад, па-грэцку), – паведамляюць евангеллі, – даведаўшыся ад астролагаў-вешчуноў, што Хрыстос павінен быць царом замест яго, мае намер яго забіць і той сыходзіць кудысьці ў «Міц-Рым».

А ў біяграфіі Юльяна такіж Цар-Герай, Канстанцый II, западозрыўшы, што ў малалетняга Клаўдыя Юльяна, пляменіка Кастуся Вялікага, ёсць шмат прыхільнікаў, таксама шукае падставы яго забіць, але не знаходзіць з нагоды таго, што хлопчык увесь паглынуты навуковымі інтарэсамі і марыць толькі пра падарожжы ў далёкія краіны. Дзякуючы чаму Юльян і ратуецца, з'ехаўшы ў Галію-Галею-Францыю.

2) У евангельскім апавяданні ў Хрыста існуе нехта накшталт стрыечніка, на год старэйшага, маючага найменне Голуб Хрышчэннік (па-жыдоўску ІУН, а ў грэцкім вымаўленні Ян Хрышчэльнік), дзякуючы чаму, верагодна, і ўзнікла паданне, што падчас хрышчэння Езуса над ім насіўся Голуб. А потым гэты Голуб-Ян быў пакараны сьмерцю царам Героем (Ірадам) за тое, што абвінаваціў яго жонку Гераіню (Ірадыяду) у распусным жыцці. «Кат адсёк яму галаву і панёс, зачапіўшы пальцам за рот».

А ў біяграфіі Юльяна мы, замест гэтага, знаходзім ужо яго роднага брата, на імя Певень (Гал замест Голуба), таксама крыху старэйшага за Юльяна, і правёўшага з ім юнацтва ў выгнанні. І ён быў пакараны сьмерцю шляхам адсячэння галавы катам, па адвінавачванню, хаця і не жонкі Цара-Героя, Гераіні, а сястры Ўстойлівага цара – Устойлівай (Кастусіны па-грэцку – сястры Канстанцыя). І тут мы можам бачыць першакрыніцу евангельскага падання пра адсячэнне галавы Яна Хрышчэльніка.

3) Хрыстос у евангеллях малюецца лекарам, ды і Юльян у яго біяграфіі таксама лекар. Хрыстос малюецца астраномам, навучаючым «не пра зямное, а пра нябеснае», і Юльян таксама астраном. Хрыстос малюецца чараўніком, і Юльян пасьвечаны ў таямніцы магіі.

4) Мы толькі-што бачылі, што падарожжу Юльяна ў Галію адпавядае падарожжа Хрыста ў Галілею, ды і для падарожжа Юльяна на ўсход у Месапатамію мы маем паралельнае паведамленне евангелляў пра выдаленне Езуса ў «За-Ярданскую» краіну. Але такім За-Ярданскім краем можа быць толькі Месапатамія, лічачы, што назва "За-Ярданскі край" дадзена ўжо пасьля таго, як Іярданам пачаў лічыцца сучасны палестынскі Шэрыят-Эль-Кебіры, як я ўжо

паведамляў у першай кнізе «Хрыста». Ды і само перанясенне пакарання сьмерцю Хрыста ў Палестыну з ударам яго дзідай у бок ці не адпавядае паданню пра сьмерць Юльяна ад ранення дзідай у за-Палестынскай Месапатаміі?



Мал. 60

Узор асіміляцыі міфаў. «Давыд са статкам». Мініяцюра із грэцкага Хлудаўскага псалтыра, захоўваемага ў Маскве (Гнедзіч, I, 312). Тут «Умілаваны Цар» Бібліі ўжо асіміляваўся з евангельскім Хрыстом, якім яго малявалі ў рымскіх катакомбах.

Сапраўды, атрымліваецца цалкам так, як быццам бы міф пра Хрыста меў сваёй першакрыніцай жыццё і дзейнасць цара-Філосафа, дапытлівага падарожніка Юльяна, празванага сярэднявечнымі тэолагамі (па іроніі лёсу за іхную нянавісць да вольнай думкі) замест заснавальніка хрысьціянскага набажэнства – «адрачэнцам ад праўдзівай веры». І гэты ж Клаўдый Юльян адбіўся, як я ўжо выказваўся, у міфах і пра Клаўдыя Пталямея, і пра Вялікага Цара-Заступніка, і пра пярсідзкага Кіра Малодшага, і пра індускага Крышну, і пра тыбецкага Буду, і пра біблейскага прарока Ілію Грамабоя, і пра Вялікага Цара-Месію (Рамзэса Вялікага), і нават магчыма і пра нашага волата – Іллю Мурамца, не згадваючы ўжо пра безліч іншых міфічных герояў і напалову багоў...

# Глава VI

## Эпоха месіянскіх прароцтваў. Іверыйская (юдэйская[85]) дынастыя.

[85] Ібарыкос (ἰβηρικός) з’яўляецца толькі другім вымаўленнем слова гебраікас (ἑβραϊχός) – жыд, перасяленец (heber).

На захадзе першаму Магутнаму цару (Валентыніяну I) успадкаваў, – паведамляюць нам, – яго сын, Міласьцівы цар (Грацыян, 372-383 гг.) і адначасова быў абвешчаны войскам яго зводны брат, чатырохгадовы Магутны II (Валентыніян II, 375-392 гг.). А пасьля сьмерці яго Магутнага ж суваладара (Валента, 378 г.) Міласьцівы цар Грацыян прызначыў аўгустам Богададзенага цара (Хвядоса), якому даручыў кіраванне ўсходняй палавінай імперыі.

Богададзены цар Хвядос, празваны Вялікім (378-395 гг.), з'явіўся родапачынальнікам **іверыйскай** дынастыі, сядзеўшай на пасадзе па прамой лініі да 450 года, г.азн. да сьмерці Богададзенага II (Хвядоса Малодшага). Яго род вылучыўся ў другой палове IV стагоддзя дзякуючы яго бацьку, таксама Богададзенаму, які быў адным із іверыйскіх вайскаводаў на Захадзе ў часы I Магутнага цара (Валентыніяна I). Быдучы прызначаны аўгустам і атрымаўшы ад Міласьцівага цара (Грацыяна) у 379 годзе ў кіраванне ўсходнюю палову імперыі, Вялікі Богададзены, – паведамляюць нам, – быў у наступным годзе, падчас цяжкай хваробы, ахрышчаны ў Фесалоніках біскупам Пазашкольным (Асхоліем).

А кім былі іверы? Гішпанцамі ці юдэямі?

Пры папярэдніках Вялікага Богададзенага арыянства мела кіруючую ролю ў імперыі, і зараз рэлігійныя спрэчкі вельмі абвастрыліся, набываючы часам вельмі недарэчныя формы. Пашырыўшыся Вінны Дух (Spiritus Vini) відаць выробляў сваё ўздзеянне, асабліва ў Канстантынопалі. Дагматычныя спрэчкі, выйшаўшы за межы цеснага кола сьвятарства, захапілі і тагачаснае грамадства. Неспячы багаслоў (Рыгор), біскуп Ніскі, ці нехта ад яго імя, піша:

«*Усё поўніцца людзьмі разважаючымі пра неспасьціжныя пытанні, – вуліцы, рынкі, пляцы, скрыжаванні. Запытаеш, колькі патрэбна заплаціць аболаў, а (у адказ) філасафуюць пра народжанага і ненароджанага; пажадаеш даведацца пра кошт хлеба, – адказваюць: Бацька большы чым Сын; запытаеш ці прыгатавана лазня, – адказваюць: Сын утварыўся із нічога*».

Бяспрэчна – гэта апокрыф і спэчкам тут нададзены больш позні характар. Але і апокрыфы часам бываюць паказальнымі.

Абвясьціўшы сябе перакананым нікейцем, і, відаць, у мікалаіцкім сэнсе – з вэрхаламі, Богададзены цар Хвядос пачаў бязлітаснае змаганне з арыянамі і «паганцамі», пры гэтым пакаранні, прызначаемыя ім, паступова павялічваліся. Ён,– паведамляюць нам апакрыфісты, – першым із валадароў, рэгламентаваў «кодэкс хрысьціянскіх праўд, абавязковых для яго падданых».

Ад яго, відаць, і бярэ пачатак тая дзяржаўная царква, якую аўтар Апакаліпсіса, напісанага ў год яго сьмерці, у кастрычніку 395 года, называе то «мікалаіцкай», то «Вялікай Брамай боскай (Вавілонам, па-жыдоўску), маці распутнікаў і брыдот зямных».

Пры ім у 381 годзе ў Канстантынопалі адбыўся сход прадстаўнікоў царквы, вядомы пад назвай другога Сусьветнага сабору, але яго актаў не існуе. Гэты сабор спачатку нават і не прызнаваўся, і толькі ад 451 года – калі не нашмат пазьней – набыў афіцыйны статус. Дзякуючы недахопу паведамленняў пра яго, некаторымі заходнімі навукоўцамі ўжо былі выказаны сумневы адносна ўсталявання ім хрысьціянскага знака веры, зрабіўшагася пад час Эпохі Гуманізму афіцыйным для ўсіх хрысьціянскіх веравызнанняў, нягледзячы на разнастайнасць іхнай дагматыкі. Пачалі сцвярджаць, што існуючы зараз у праваслаўных і каталікоў знак веры не належыць дзейнасьці другога сабора, які нават і не мог скласьці яго, і што ён з'яўляецца «апокрыфам». І з гэтым немагчыма не пагадзіцца.

А што ж паведамляюць пра гэты сабор нашы першакрыніцы? Мала цікавага.

Абраны на Канстантынопальскую біскупскую катэдру Неспячы Багаслоў (Рыгор, па-грэцку), – паведамляюць яны, – меўшы значную ролю напачатку кіравання Богададзенага цара ў сталіцы, не быў у стане справіцца са шматлікімі партыямі, варагаваўшымі на саборы. Ён збег з першага ж паседжання, збег нават із Цар-Горада. На яго месца быў абраны нехта «Напой богаў» (Нектарый), свецкі чалавек, не меўшы багаслоўскіх спазнанняў, але ўмеўшы ладзіць з імператарам. Ён і зрабіўся старшынём, і летам 381 гады сабор закончыў свае паседжанні.

Вось і ўсё што пра яго вядома, ды нават і гэта толькі больш позьнія апакрыфічныя паведамленні. Але нават із такога, уласна кажучы, першага «хрысьціянскага» сабора, клерыкалы пажадалі зрабіць не заснавальніка, а толькі аднавіцеля ніколі не існаваўшага хрысьціянства першых трох стагоддзяў нашай эры.

Апошні закон Богададзенага-Хвядоса супраць паганцаў, – пераконваюць яны нас, – выдадзены ў 392 годзе, канчаткова забараніў ранейшыя ахвяраванні, узліванні, курэнні фіміяму, развешванне вянкоў і варажбы ў храмах. Ён назваў усё гэта паганскімі забабонамі (superstitio gentilicia), абвясьціў усіх, паруўшых выдадзены ім эдыкт, вінаватымі ў абразе вялікасьці і дзяржаўнай рэлігіі і пагражаў строгімі пакараннямі. Адзін гісторык называе закон Феадосія «пахавальнай песьняй паганства». Але ўсё гэта зноў жа – толькі пазнейшыя меркаванні апакрыфістаў.

Дакладна такім жа міфічным з’яўляецца і паведамленне пра выдаленне Богададзеным царам Статуі Перамогі із будынка рымскага сената, у чым бачылі знішчэнне мінулай велічы італьянскага Рыма, як быццам бы такой дробяззю можна нешта скасаваць!

У 393 годзе, – паведамляюць нам, – у апошні раз былі адсвяткаваны алімпійскія гульні, і знакамітая статуя Зеўса, працы Фідыя, была перавезена із Алімпіі ў Канстантынопаль. Цар не жадаў існавання ніякай царквы, акрамя сваёй, дзяржаўнай.

Але вось і супярэчнасць гэтаму цверджанню: ён не зачыніў, – паведамляюць нам, – афінскую паганскую школу, і яна працягвала існаваць, «падтрымліваючы азнаямленне слухачоў з творамі антычнай літаратуры»[86].

Дарэчы, яе скасаванне было немагчымым і для саміх гісторыкаў; таму што ў такім выпадку было б немагчыма патлумачыць, якім чынам да нас дайшлі паведамленні пра антычную Грэцыю.

Падумаем лепш пра готаў.

Я не буду тут пералічваць разнастайныя здагадкі пра тое, хто такія былі готы і хто быў іх родапачынальнікам. Пра гэта я ўжо дастаткова выказаўся у VI томе, у главах пра Цара-Месію. Дадам толькі, што іх лічаць арыянамі германскага паходжання, і вось атрымліваецца, што, да разглядаемага намі часу, войска, на абавязку якога ляжала абарона імперыі, было па-сутнасьці германскай арыянскай дружынай. «Гоцкі ўплыў, – кажуць нам, – прасачыўся як у самае вышэйшае кіраванне войскам, так і ў адміністрацыю, дзе найбольш адказныя і высокія пасады даручаліся германцам».

Гэта азначае, – дапоўню я ад сябе, – што ўсе апавяданні пра бязлітаснае змаганне Богададзенага цара з чужынцамі, із якіх галоўнымі былі арыяне,

---

86 А. А. Васільеў. Лекцыі па Гісторыі Візантыя, т. I, стар. 85.

скасоўваюцца. А з'яўленне пры ім на падмостках гісторыі готаў якраз храналагічна зближае наступнікаў Юльяна з наступнікамі Вялікага Рамзэса ягіпецкіх паданняў.

У 395 годзе Богададзены памёр у Мілане, адкуль **яго набальзамаванае цела было перавезена**, – кажуць нам, – як і цела Ўстойлівага Цара Канстанцыя II, у Цар-Горад і пахавана таксама ў «Храме Апосталаў».

І вось, ужо другі цар набальзамаваны і ў такім выглядзе перавозіцца на радзіму ў нейкі «Храм Сьвятых Пасланнікаў». І я зноў пытаю: ці не блытаніна тут? Ці сапраўды яно было перавезена ў Цар-Горад, а не ў Ягіпет, на поле пірамід?

Ва ўсякім разе, мы бачым тут другі выпадак таго, як імператарскія целы ў IV стагоддзі нашай эры ў Рамеі-Візантыі бальзамаваліся, г.азн. ператвараліся ў муміі і перавозіліся для пахавання на вялікія адлегласьці ад месца сьмерці. А таму і мая выснова, што ў Рамеі IV стагоддзя целы шляхетных нябожчыкаў бальзамаваліся і перавозіліся на «Сьвятую Зямлю» ў Ягіпце, не супярэчыць гістарычным фактам.

Біблейскі двайнік Хвядоса I, Богапрызначаны цар (Іасафат, па-жыдоўску), мала адбіўся ў асноўнай гістарычнай кнізе Бібліі «Цары», але пра яго існуе шмат чаго ў папоўненай выпісцы із яе, у кнізе «Словы Дзённыя» (Параліпаменон).

«*Ён,* – гаворыцца там – *хадзіў шляхамі Давыда і рабіў учынкі адпавядаючыя запаветам Бога* (Парал., XVII, 3-4), і было ў яго *«шмат багацця і славы». Яго амбасадары* (па-грэцку – апосталы) «*абыходзілі ўсе гарады богаславячай зямлі, маючы з сабой кнігу боскага закона і павучалі народ*».

Чужыя краіны неслі яму падарункі, і ён пабудаваў горад для запасаў і ўмацаванне. Але вось, на яго пайшлі «*вялікія натоўпы із-за мора*», ён спалохаўся, абвясьціў пост (Парал., XX, 3), звярнуўся да бога, і яго рознапляменныя ворагі пачалі забіваць адзін аднаго самі. Прыхільнікам Іасафата засталося толькі збіраць у іхных пакінутых лагерах здабычу (Парал., XX, 52).

Але «*вышыні*» (г.азн. пірамідныя храмы) усё яшчэ не былі, знішчаны, і «*за гэта караблі, пабудаваныя ім для шляху ў Тартэс, знішчыў буран*».

Усё гэта даволі добра адпавядае толькі што прыведзенай грэцкай характарыстыцы Хвядоса I.

У Ціта Лівія яму адпавядае Тарквіній I (Тарквіній Старажытны), які, уладкаваўшы ў «Рыме» (г.азн. у Цар-Горадзе) цырк-царкву, пабудаваў пляц для народных сходаў (forum) і падземныя каналы для сцёку вады, а потым быў забіты змоўшчыкамі.

У Яўсевія яму адпавядаюць, уласна кажучы, тры Ціты (г.азн. у перакладзе: тры шануемыя цары):

1) Ціт Флавій Веспасіян (Шануемы Руды Далакоп), называемы сучаснымі гісторыкамі проста Веспасіян[87]. Ён, – паведамляюць нам, – скарыў Юдэю і разам з аднайменным яму сынам тамтэйшы Эль-Кудс, названы гісторыкамі не належаўшым яму тады імем Ерусалім, але з'ехаў у Італію, пакінуўшы ўзяцце псеўда-Ерусаліма сыну, пасьля чаго кіраваў мірна і быццам бы пабудаваў у італійскай Рыме Калізей і Храм Міру.

2) Другі аднайменны з ім Шаноўны Руды Далакоп (Ціт Флавій Веспасіян), які лічыцца за яго сына і спачатку за суваладара, а потым за спадкаемцу, называецца пазьнейшымі латыністамі, у адрозненні ад папярэднічаўшага, проста

[87] Корань гэтага імя: vespa – муха-далакоп (і аса), але яно набыло сімвалічнае значэнне далакопа наогул. Так, Pompeus Festus паведамляе: Vespae et vespillones dicuntur, qui funerandi corponbus officiurn ferunt, non a minutis illis volucribus sed quia vespertino tempore eos efferunt, qui funebri pompa, duci propter inopiam non possunt (веспамі і веспілонамі клічуць тых, якія адбываюць службу пры целах пры пахаваннях і г.д.)

Цітам. Ён, – паведамляюць нам, – закончыў пакінутую Першым Рудым Далакопам аблогу Эль-Кудса, названую аблогай Ерусаліма, знішчыў гэты недарэчны адпаведна з тым часам ў Палестыне горад і, вярнуўшыся ў Італію, пабудаваў у Рыме тэрмы, парэшткі якіх паказваюць і сёння. Ён, як і першы, правіў мірна і яго нават назвалі «павагай і радасьцю чалавечага роду».

3) Аднайменны з імі трэцці Шаноўны Руды (Ціт Флавій), у адрозненні ад свайго бацькі і брага, называецца пазьнейшымі апакрыфістамі проста Ўтаймавальнікам (Даміцыянам), як быццам бы адпаведна з найменнем сваёй жонкі Даміцыі, г.азн. Утаймавальніцы, якая і забіла яго. Спачатку, – кажуць нам, – ён быў добрым, як і яго два аднаімёнцы, але потым пачаў перасьлед хрысьціян, і пры ім быў сасланы на выспу Патмас Ян, аўтар Апакаліпсіса. Так атрымліваецца і адпаведна з астранамічна вылічаным намі часам Апакаліпсіса (30 верасня 395 года).

Із гэтага сапраўды бачна, што ўсе тры Ціты-Веспасіяны з'яўляюцца патроіўшымся імператарам Хвядосам-Богададзеным, і справа адбывалася цалкам не ў італійскай Рыме, а ў Цар-Горадзе. Ды і разбураны «Ерусалім» – горад сьвятога Замірэння – быў тут няйнакш, як Геркуланумам ці Пампеяй.

У адпаведнасьці з гэтым знаходзіцца і пазначаемы гісторыкамі час сьмерці аўтара Апакаліпсіса пры Траяне, налягаючага адпаведна з нашай храналогіяй на Аркадзя – наступніка Богададзенага цара Хвядоса. Астраномія цалкам падмацоўвае нашу храналагічную папраўку, якую можна было б зрабіць і без яе – грунтуючыся на лагічных меркаваннях.

Богададзены цар, як я ўжо паведаміў, памёр у 395 годзе. Із яго сыноў Аркадзец (Аркадзь) атрымаў у кіраванне ўсходнюю частку імперыі, а Шаноўны (Ганорый) – заходнюю.

І ў гэты самы час з'явіўся Апакаліпсіс, які я лічу самай важнай першакрыніцай для ўсталявання дакладных уяўленняў пра рэлігійнае жыццё і пра ўзровень навуковых ведаў яго часу і акрамя таго **паваротным момантам рамейскай тэалагічнай літаратуры, упершыню перайшоўшай да грэцкай мовы ад ранейшай біблейскай.**

Калі ў 1907 годзе, праз год пасьля майго вызвалення із няволі, я з цяжкасьцямі здолеў знайсьці выдаўцу для друкавання майго шлісельбургскага твора «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры», мая кніга нарабіла шмат шуму спачатку ў нас, а потым у 1912 годзе і ў Германіі, калі яна выйшла на нямецкай мове пад назвай: «Die Offenbarung loannis. Eine astronomisch-historische Untersuchungn. Mit Geleitwort von Prof. D-r Artur Drews.»

Шмат хто са спрабаваўшых аспрэчыць маё астранамічнае вылічэнне (прыведзенае і тут, і ў I томе «Хрыста»), даводзіўшае, што зорнае неба на працягу ўсяго хрысьціянскага перыяду было ў такім выглядзе, якім яно апісана там, толькі 30 верасня 395 года нашай эры, падчас росквіту дзейнасьці Яна Залатавуста, а таму і Апакаліпсіс належыць яму, у канчатковым выніку ўсе прыходзілі да высновы, што мае вылічэнні правільныя.

Вядомы германскі спецыяліст па Апакаліпсісу Франц Боль, каб скасаваць мае высновы, спрабаваў нават пераканаць чытача, што чатыры кані Апакаліпсіса – Чырвоны, Белы, Бляклы і Вараны – не чатыры планеты: Марс, Юпітар, Сатурн і Меркурый, а чатыры шматкаляровыя вятры: Чырвоны вецер, Белы вецер, Бляклы вецер і Вараны вецер, але і тут нічога не атрымалася: ён не ўгледзеў, што ў

наступнай жа частцы Апакаліпсіса згадваюцца, у дадатак да чатырох коней, асобна і пра чатыры вятры, але ўжо, як і патрэбна было чакаць, **не маючымі колеру**.

Усе прыведзеныя да гэтага часу пярэчанні пра няправільнасць маіх перакладаў астранамічных выказванняў Апакаліпсіса былі пераканаўчымі толькі для тых, хто не ведае астралагічных тэрмінаў грэцкай сярэднявечнай мовы. Менавіта такімі і былі перакладчыкі Апакаліпсіса на ўсе найноўшыя мовы, з нагоды чаго гэтая выдатная кніга і лічылася шмат кім трызненнем вар'ята. Для таго каб скласьці пра яе правільнае ўяўленне, яе патрэбна чытаць не ў царкоўных перакладах, а ў маім, адзіна асэнсаваным і змешчаным у поўным выглядзе ў толькі-што памянёнай маёй кнізе. Супраць яго правільнасьці філолагамі яшчэ не было выказана ніводнай заўвагі.

Рабіліся спробы падыйсьці да аспрэчвання маіх высноваў і з другога боку, спадзеючыся, што маё рашэнне не адзінае і што такое ж месцаванне планет і зорак бывала і ў іншыя часы, але і тут нічога не знайшлі. Нейкі дзівак даслаў мне ліст, што нешта падобнае ён, быццам бы, знайшоў гадоў за семсот да пачатку нашай эры. Але дапасаваць кнігу, якая ад пачатку да канца прасякнута хрысьціянскім светапоглядам, да перыяду на 700 гадоў раней таго часу, калі з'явіліся першыя паданні пра хрысьціянства, было такім недарэчным, што аўтар, відаць, і да гэтага часу яшчэ не здолеў размясьціць свой артыкул ні ў адным із навуковых часопісаў.

Цалкам іншы накірунак з'явіўся зараз у тых, хто прачытаў усе выдадзеныя тамы майго «Хрыста». З'явілася нават ідэя пра тое, што і 395 год нашай эры занадта ранні для такой кнігі і што «ўзнікае жаданне яе хутчэй дапасаваць да эпохі крыжовых паходаў, тым больш, што і сам я паказваю, як на другое, хаця і горшае рашэнне, на нядзелю 12 верасня 1249 гады нашай эры. Але ў той час Меркурый знаходзіўся ў Панне замест пазначаных для яго Шаляў і направа ад Сонца замест таго, каб быць налева»[88]. Такім чынам і гэтае рашэнне адпадае, а іншых, як бачна грунтуючыся на ўжываемым мной метадзе прасявання планет адну праз другую, не можа існаваць на працягу ўсяго гістарычнага перыяду часу.

Я не буду паўтараць тут астранамічную частку свайго дасьледавання Апакаліпсіса, таму што жадаючы яе прачытаць знойдзе яе ўсю ва ўводзінах да I тома «Хрыста». Перайду непсрэдна да гістарычнай часткі.

Аўтар гэтай кнігі, напісанай хутка пасьля сьмерці Богададзенага-Хвядоса, відавочна не належаў да яго дзяржаўнай царквы. Ён адрасуе свой ліст толькі да сямі аднаверчых з ім згуртаванняў, знаходзіўшыхся ў Малой Азіі: у Эфесе, Сьмірне, Пергаме, Тыатырах, Сардах, Філадэльфіі і Лаадыкіі, і кідае громы і маланкі на візантыйскіх цароў.

Апакаліпсіс – гэта адзін із самых цікавых твораў пярэдадня сярэдневечча, але для таго, каб асэнсавана чытаць яго, патрэбна зразумець душу чалавека таго часу, адухаўляўшага увесь атачаючы яго сьвет, прыпісваўшага кожнай птушцы, рыбе, зверу і нават дрэву такую ж душу і такую ж сьвядомасць, як у яго самога, і веды нават нашмат перавышаючыя чалавечыя. Апакаліпсіс не толькі гістарычны, але і этна-псіхалагічны дакумент.

---

[88] «Хрыстос». Кн. I, стар. 53, другое выданне.




Мал. 61
Сузор'е Боскі Пасад (зараз Касіяпея)
сузор'е Сямі Сьветачаў (душ).

Усе мы ведаем, як пад час старажытнасьці гадалі па картах, на вантробах жывёл, на палёце птушак і на пераменлівых фігурах і рухах аблокаў, ды яшчэ і зараз вясковыя дзяўчыны гадаюць на фігурах ценяў на сьцяне ад спаленага ліста паперы. Навука і варажба былі тады адным і тым жа. Толькі з гэтага боку гледжання Апакаліпсіс і робіцца зразумелым, а з якога б то ні было іншага ён падобны на трызненне вар'ята.

Зазірнём жа крыху і ў душу чалавека таго часу Рамейскай гісторыі, які мы зараз разглядаем.

Даю некалькі выпісаў, навочна паказваючых нам, у якім выглядзе чакаў тады Хрыста аўтар нарабіўшы столькі шуму і пашырыўшы столькі жахаў Апакаліпсіса і якой уяўлялася ў яго вачах тагачасная арыянская рэлігія – рэлігія Арона.

Вось як ён пачынае сваю кнігу, стоячы на беразе выспы Патмос і лічачы ў парыве свайго натхнення ўсё, што бачыць навокал, за прарочае ўказанне звыш.

**Із главы I.**

«*Ян – сямі малаазіяцкім згуртаванням*.

*Божая прыхільнасць вам і мір ад таго, хто быў, ёсць і будзе і ад Сямі Душ* (г.азн. сямі зорак, зіхацячых у сузор'і Вялікай Мядзьведзіцы, мал. 64) *насупраць яго нябеснага пасада і ад вернага прадвесьніка праўды – Памазанца Ратавальніка* (па-грэцку – Езуса Хрыста). *Першанароджаны із памёршых і валадар зямных цароў, ён прыняў нас да свайго сэрца, абмыў сваёй крывёю ад нашых злачынстваў і зрабіў нас саміх царамі і сьвятарамі перад богам, сваім бацькай. Ды будзе яму слава і ўлада ў стагоддзях стагоддзяў!.. Ды будзе*!

*Вось ідзе ён у аблоках* (бурана) *і пабачыць яго кожнае вока, і тыя, якія працялі яго, і заплачуць над ім усе плямёны зямныя*!

*Я, Ян, ваш брат і ўдзельнік у смутку і ўрачыстасьці, і ў церплівым чаканні яго прыходу, знаходзіўся на выспе Патмас дзеля боскага навучэння і пропаведзі пра Памазанца Ратавальніка*.

*У нядзелю я знаходзіўся ў стане натхнення і чуў* (у шуме хваль) *ззаду сябе магутны голас, гучаўшы як труба*:

*– Я першая і апошняя літара альфабэта, пачатак і заканчэнне, – казала мора. – Тое, што бачыш, напішы на папірусе і пашлі сходам верных у Малой Азіі: у Эфес, Смірну, Пергам, Тыатыры, Сардыс, Філадэльфію і Лаадыкею*.




Мал. 62
Касіяпея (па-жыдоўску – КШаПЕ-ІЕ), г.азн. Чараўніца Боская, ўзлезшая царыцай на нябесны боскі пасад (са старажытнай астраноміі).

*Я азірнуўся на гэты голас і вось пабачыў* (у абрысах аблокаў, паміж якімі праглядала сонца) *сем залатых сьвятлонясучых чарак, а пасярод іх* (хмарнае) *падабенства чалавечай істоты, апранутай у доўгае белае адзенне першасьвятара і падпяразанай пад грудзьмі залатым поясам. Яго галава* (сонца) *і валасы* (г.азн. край воблака над сонцам) *былі яскравымі як белы пух, як снег. Яго вочы – як палыхаючае полымя. Яго ногі* (слупы прамянёў, прабіваючыхся на зямлю праз хмары) *былі падобнымі на бронзу, распаленую ў печы, голас яго быў шумам шматлікіх хваль. На правым баку ён трымаў у сваёй руцэ сем зорак* (доўгая паласа ад хмарнай фігуры, напалову засланяўшай сонца, цягнулася да таго месца неба, дзе адпаведна з разлікамі назіральніка хаваліся тады зоркі Вялікай Мядзьведзіцы), *із яго рота выходзіў меч, завостраны з абодвух канцоў, а тварам яго было – сонца, зіхацячае ва ўсёй сваёй магутнасьці*.

*Пабачыўшы яго, я зваліўся, як мёртвы, да яго ног, але ён працягнуў нада мной сваю правую* (хмарную) *руку і сказаў* (гэтым):

*– Не бойся! Я першы і апошні. Я жывы, але быў памёршы, і вось буду жыць у стагоддзях стагоддзяў. Мне належаць ключы замыкаючыя сьмерць і падземнае царства. Апішы ўсё, што ты толькі што пабачыў, усё, што бачыш зараз і што здарыцца пасьля гэтага. Патаемны сэнс сямі зорак у маёй правай руцэ і сямі залатых сьвятлонясучых пасудзін* (у хмарах) *такі: сем зорак – гэта аглашацелі сямі* (Малаазіяцкіх, Месіянскіх) *згуртаванняў, а сем пасудзін – гэта самі згуртаванні*».

Потым у Апакаліпсісе ідзе ў трох главах паэтычнае апісанне зорнага неба і месцавання планет сярод сузор'яў; ужо прыведзенае мной ў пралогу да першага тома «Хрыста». Такое месцаванне было толькі 30 верасня 395 года, ды яшчэ, з невялікай недакладнасьцю для нябачнага тады Меркурыя, у нядзелю 12 верасня 1249 года нашай эры. Потым ідзе мастацкае апісанне навальніцы, дзе кожная хмара пададзена ў выглядзе нябеснага юнака, ляцячага з трубой, і паэтычна намаляваная выява ўсхваляванага мора. Як узор гэтых апісанняў, я прывяду тут апавяданне шостага трубнага пасланніка[89].

[89] Цалкам увесь Апакаліпсіс быў перакладзены мной із грэцкага арыгінала яшчэ падчас зняволення ў Шлісельбургскім умацаванні і надрукаваны з коментарамі па-руску ў 1907 годзе, а па-нямецку ў 1912 годзе, пад назвай: «Die Offenbahrung loannis. Eine astronomiscn historische Untersuchung». Mit Geleitwort von Prof. D-

**Із главы IX.**

«*Шосты пасланнік* (буры) *пратрубіў, і я пачуў голас* (граму), *выходзячы із чатырох рагоў стаячага перад богам залатога Ахвярніка* (г.азн. з боку сузор'я Ахвярніка, месца якога за блакітам неба вызначалася грунтуючыся на разліках). *І ён паведаміў шостаму пасланніку*:

– *Вызвалі чатырох пасланнікаў* (чатыры вятры), *утрымліваемыя на ўсходзе над вялікай ракой Еўфратам.*

*І вызваліліся чатыры пасланнікі, прыгатаваныя на тую гадзіну, дзень, месяц і год для таго, каб вынішчыць трэццюю частку людзей.*

*Колькасць іхных вершнікаў-ваяроў* (у знаку марскіх валаў) *была дзьвесьце мільёнаў. Я адчуваў гэтую колькасць і бачыў сузіральна* (у хвалях, зазіхацеўшых ад прамянёў паказаўшагася паміж хмарамі сонца) *вершнікаў і коней, маючых на сабе* (светлавыя) *броні палымяныя, ліловыя і жоўтыя, як сера. Галовы гэтых коней былі падобнымі на галовы ільвоў, а із іхных пашчаў выходзіла полымя* (адбітыя сонечныя прамяні), *дым* (пырскі) *і сера* (жоўтая каламуць), *і ад іх* (здавалася мне), *загінула трэцяя частка людзей, таму што магутнасць гэтых коней заключалася ў іхных пастках і хвастах. Хвасты ж іхныя выгіналіся падобна змеям, а галовамі сваімі яны наносілі ўдары*.

*Застаўшыяся ж* (і сімвалізуемыя хістаючыміся ад ветру травамі) *людзі, не памёршыя ад гэтых бедстваў, не пакаяліся ў справах рук сваіх і не перасталі схіляцца перад духамі нябожчыкаў, перад залатымі, медзянымі, срэбнымі, каменнымі і драўлянымі выявамі, не здольнымі ні бачыць, ні чуць, ні хадзіць. І не пакаяліся ні ў сваіх забойствах, ні ў сваіх шарлатанствах, ні ў амаральнасьці, ні ў падманах сваіх*».

* * *

А вось і яшчэ пра аднаго пасланніка.

Із главы XVII.

«*І зноў выступіў* (на небе) *адзін із сямі* (хмарных) *вестуноў, меўшых раней сем чарак. І пачаў гаварыць мне*:

---

r. Arthur Drews Stuttbart, 1912. Там чытач можа знайсьці ўсе падрабязнасьці разам з малюнкамі тыповых формаў навальнічных аблокаў, падмацоўваючых апісанне.




Мал. 63
Сузор'е Гідры з прычашчальнай Чаркай на сьпіне і з Крумкачом, дзяўбаючым яе ў хвост. (Із лацінскага рукапісу Грынбергера, знаходзячагася ў бібліятэцы Пулкаўскай абсерваторыі.)

– *Пайдзем, я пакажу табе прысуд над вялікай самапрадажніцай* (дзяржаўнай рамейскай царквой), *седзячай на шматлікіх хвалях* (народах). *Яе куплялі цары зямныя, і напоены насельнікі зямлі віном яе амаральнасьці.*

*І павёў ён мяне ў стане захаплення ў пустэльнае месца. І пабачыў я адтуль* (у сілуэтах аблокаў на палаючым фоне вечаровага зарыва) *жанчыну, седзячую на барвовым сямігаловым зьверы з дзесяцію рагамі, напоўненуюм знакамі блюзнерства* (сузор'ем Самка Гідры, якое заходзіла тады на захадзе пад аблокамі, прыняўшымі форму жанчыны з чаркай у руках). *І была тая жанчына апранута ў парфіру і барвяніцу* (вечаровага зарыва) *і ўпрыгожана золатам і жэмчугам і каштоўнымі камянямі. У руцэ яе была Залатая Чарка* (із аблокаў на Самцы Гідры, мал. 63), *напоўненая брыдотамі і брудам яе амаральнасьці. А на ілбе яе надпіс:*

**Таемства!**

**Вялікая цьвярдыня «Брама Госпада», маці распуснікаў і брыдот зямлі!**



Мал. 64
Звычайны выгляд падаючага метэарыта.

*І я бачыў, што гэтая жанчына была пабарвёнена крывёй шукаючых праўду і прадвеснікаў цара-ратавальніка і, разглядаючы яе, я здзіўляўся вялікім здзіўленнем. Але пасланнік* (неба) *сказаў мне*:

– *Чаму ты здзіўляешся*? *Я патлумачу табе таямніцу гэтай жанчыны і носячага яе сямігаловага зьвера з дзесяццю рагамі. Звер, якога ты бачыў, існаваў і няма яго зараз* (імперыя ўжо падзялілася паміж Аркадзем і Ганорыем), *і павінен будзе зноў выйсьці із бездані, каб пайсьці на сваю пагібель. І будуць здзіўляцца жывучыя на зямлі, імёны якіх не запісаны ў прадвечным спісе жыцця, гледзячы на звера, які быў паранены і не існуе зараз, але з'явіцца. Тут мудры сэнс: сем галоў – гэта сем узгоркаў, на якіх сядзіць жанчына* (Візантыйская царква), *і ў той жа час гэта сем* (візантыйскіх) *цароў*.

*Пяць із іх ужо валадарылі* (Канстанцый, Кастусь, Канстанцый II, Валент і Хвядос), *шосты* (Аркадзь) *валадарыць, а сёмы* (Іявіян, абвешчаны ў 363 годзе падчас паходу, але памёршы, не дайшоўшы да Візантыі) *яшчэ не прыйшоў, а калі прыйдзе, то нядоўга яму быць. Звер жа, які быў паранены* (у хмары) *і не існуе зараз, з'яўляецца восьмым валадаром* (сама імперыя), *ён* (з'яўляецца справай) *гэтых сямі і пойдзе на пагібель. А дзесяць рагоў, якія ты бачыў, гэга дзесяць цароў, якія яшчэ не набылі царстваў, але набудуць з дапамогай звера* (імперыі) *на адну гадзіну.*

*Усе яны будуць мець той жа самы склад думак і аддадуць магутнасць і ўладу сваю ў распараджэнне звера. Яны будуць ваяваць з Авенам* (г.азн. сузор'ем Авена, знакам Хрыста, ўзыходзіўшым у той час і на якое тады імчаліся зверападобныя хмары), *але Авен пераможа іх, таму што ён валадар валадароў і цар цароў, з ім будуць усе жаданыя, і абраныя, і верныя.*

*І паведаміў ён мне яшчэ:*

– *Хвалі* (Міжземнага мора), *якія ты бачыш там, дзе сядзіць прадажная жанчына, уяўляюць сабой народныя сборышчы і натоўпы, плямёны і гаворкі. А сама жанчына адлюстроўвае сабой Вялікую Цьвярдыню* (дзяржаўную царкву), *валадараючаю над зямнымі царамі. Дзесяць жа рагоў, якія ты бачыў* (у хмарах) *на зверы, зненавідзяць яе і спустошаць, і забяруць яе адзенне, і пажруць, і спаляць яе ў полымі. Таму што бог уклаў у іх сэрцы загад выканаць яго волю, толькі адну гэту волю, і потым аддаць іхныя царствы зверу, пакуль не выканаюцца словы бога*».

**Із главы XVIII.**

«*І пабачыў я пасьля гэтага* (у настаючай начной цемры) *новага пасланніка* (яскравы начны метэор). *Ён сыходзіў з неба з вялікім бляскам. Зямля асьвяцілася ад яго славы* (мал. 64). *І ўсклікнуў ён, у сваёй магутнасьці, гучным голасам*:

*– Упала, упала вялікая цьвярдыня «Брама Госпада»! Зрабілася жыллём паганскіх багаў, прыстанкам кожнай нячыстай душы, кожнай бруднай і агіднай птушкі! Усе народы паспыталі абуральнага віна яе амаральнасьці. З ёю распутнічалі цары зямныя, і гандляры зямлі абагаціліся ад яе незвычайнай раскошы*!

*І пачуў я другі голас з неба, гаварыўшы*:

*– Выйдзі з яе, мой народ, каб не браць табе ўдзел у яе злачынствах і не зведаць яе пакарання, таму што дайшлі да неба яе злачынствы, і згадаў бог яе крыўды. Пастаўцеся да яе так, як яна ставілася да вас! Адплаціце ёй удвая за яе прыдумку: у чарцы, у якой яна разводзіла вам* (прычашчальнае) *віно, развядзіце ёй самой удвая* (той жа самай брыдотай і брудам!). *Колькі яна ганарылася і раскашавала, столькі ж аддайце ёй зневажэння і крыўды, таму што яна прамаўляе ў сваім сэрцы: сяжу царыцай* (знаходжуся ў хаўрусе з царамі!). *Я не заўдавелая і не пабачу смутку*!

*За тое ў адзін і той жа дзень прыйдуць на яе і пошасьці, і згуба, і зневажэнне, і бедната, і будзе яна спалена полымем, таму што з’яўляецца магутным бог, яе суддзя! І заплачуць, і залямантуюць пра яе ўсе цары зямныя, купляўшыя яе і раскашаваўшыя з ёю, бачачы дым ад яе пажару. Стоячы ўдалечыні, баючыся зведаць яе пакуты, яны будуць усклікаць*:

*– Гора, гора табе, вялікая цьвярдыня «Брама Госпада», моцнае умацаванне! Раптоўна вырашыўся твой лёс*!

*І купцы зямныя заплачуць і залямантуюць шкадуючы пра яе, таму што іхныя карабельныя грузы, прыйшоўшыя для яе, застануцца непрададзенымі: грузы золата, і срэбра, і каштоўных камянёў, і пацерак, і тонкіх палотнаў, і шоўку, і парфіры, і кіпарысавага дрэва, і вырабаў са слановай косткі, і розных вырабаў із каштоўнага дрэва, жалеза, медзі і мармуру. І не купіць у іх ніхто – карыцу і каджэнні, і міра, і ладан, і віно, і ялей, і пшаніцу, і жыта, і буйное быдла, і авечак, і коней, і калясьніцы, і чалавечыя целы і душы.*

*І пладоў зямных, прыемных для душы тваёй, не стала ў цябе, і ўсё пышнае і бліскучае пайшло ад цябе, і ты ўжо не знойдзеш яго больш!*

*І стануць у аддаленні ўсе, прадаваўшыя гэтыя тавары і абагаціўшыяся ад цябе, баючыся падзяліць твае бедствы, плачучы і галосячы, і кажучы:*

*– Гора, гора табе, Вялікая Цьвярдыня, апранутая ў тонкае палатно, парфіру, і барвяніцу і ўпрыгожаная золатам, жэмчугам і каштоўнымі камянямі! Раптоўна знікла такое багацце!*

*І ўсе стырнікі, і карабельнікі, і мараходы, і ўся шматлікасць галосячых пра яе сталі ўдалечыні ад яе і залямантавалі, бачучы дым ад яе пажару, і кажучы:*

*– Ці было некалі нешта падобнае на гэтую Вялікую Цьвярдыню*?

*І пасыпалі яны попелам свае галовы і ўсклікалі, плачу і, галосячы:*

*– Гора, гора табе, Вялікая Цьвярдыня, ад раскошы якой узбагаціліся ўсе, валодаюыя караблямі на моры! Апусьцела раптоўна. Цешся пра гэта неба і ўсе бязгрэшныя пасланнікі і прадвесьнікі: здзейсніў бог свой суд над ёю*!»

Потым, сімвалічна апісваючы падзеі, адбыўшыяся пасьля наступлення ночы, аўтар працягвае:

«*І адзін із дужых* (не бачных у змроку ночы) *пасланнікаў прыроды ўзяў* (на беразе) *вялікі, як жарон, камень і кінуў яго ў мора* (пачуўся ў цемры ўсплеск ад яго падання) *і сказаў гэтым*:

*– З такой жа імклівасьцю будзе знішчана Вялікая Цьвярдыня «Брама Госпада» і больш не будзе яе*!

*І не будзе ў табе чуваць ні гукаў граючых арфістаў, ні голасу спевакоў, ні трубных гукаў, ні музыкі граючых на жалейках і іншых прыладах! І не будзе ў табе больш ніякага мастака і майстэрства, і не будзе больш чутна ў табе шуму жарнавоў. Сьвятло сьвяцільні не заззяе ў табе, і голас маладога і маладой не прагучыць у табе, таму што зямныя вяльможы заключалі з табой пагадненні, і сумессю тваёю* (у залатой чарцы) *уведзены ў памылку ўсе народы. І знойдзена на табе кроў усіх прадвесьнікаў праўды і бязгрэшных і ўсіх, закатаваных за праўду на зямлі*».

**Із главы XIX.**

«*І мне чуўся* (у мігаценні зорак) *на небе як бы гімн шматлікага народа, гаварыўшага*:

*– Хвала стварыўшаму сусьвет! Шчаслівае вяртанне! Слава, пашана і магутнасць валадару – нашаму богу! Праўдзівымі і справядлівымі з'яўляюцца яго прысуды! Засудзіў ён вялікую самапрадажніцу, зганьбіўшую зямлю, і спагнаў з яе за кроў сваіх верных, пабарвяніўшую яе рукі*!

*І другі раз ўсе ўсклікнулі: хвала стварыўшаму сусьвет!*

*І дым ад яе пакут паднімаўся* (у выглядзе марскога туману) *у вечнасць. А Чатыры Жывёлы* (сузор'і чатырох пор года) *і Дваццаць Чатыры Старцы* (гадзіны) *схіляліся перад пасадам на небе, кажучы гэтым*:

*– Няхай будзе так! Хвала Стварыўшаму сусьвет*!

*І прагучаў голас* (ветру) *ад сузор'я Пасада*:

*– Хваліце бога ўсе яго слугі і ўсе шануючыя яго як малыя так і вялікія*!

*І мне чуўся* (у гуках марскога прыбою), *як бы гімн шматлікага народа, гучаўшага як шум шматлікіх хваль, як голас магутных громаў*:

*– Хвала стварыўшаму сусьвет! Сам бог усемагутны стаў царам над намі! Будзем жа радавацца і весяліцца і славіць яго! Вось, наступіла поўнач, адружальная гадзіна Авена* (час яго вераснёвага праходжання праз мерыдыян), *і жонка яго* (Зямля) *прыгатавала сябе, і ахутваецца яна ў чыстае і тонкае покрыва* (начнога туману).

*Гэта покрыва з'яўляецца знакам бязгрэшнасьці чыстых душой*».

**Із главы XXI.**

«*І пабачыў я* (у мігаценні світання) *новае неба і новую зямлю, таму што ранейшае* (ўчарашняе) *неба і ранейшая* (ўчарашняя) *зямля ўжо адышлі ў мінулае, і мора перада мной* (адышоўшаму ў глыбіню выспы) *ужо больш няма. І пабачыў я, Ян, Сьвятую Цьвярдыню – Новае Царства Сьвету* (новую блакітную заслону неба), *апускаючуяся з вышыні ад бога, як маладая, упрыгожаная для свайго нарачонага.*

І мне пачуўся магутны голас з неба, паведамляўшы:

*– Вось шацёр бога і людзей. У ім ён паселіцца з намі, яны будуць яго народам, і сам, жывучы з імі бог, будзе іх боскасьцю. І вытрэ ён кожную слязу з іхных вачэй, і сьмерці ўжо не будзе. І не будзе больш ні гора, ні слёз, ні хвароб, таму што ранейшае мінула.*

*І паведаў мне седзячы на Пасадзе:*

*– Вось, бачыш, абнаўляю ўсё... Запішы гэтыя словы: яны праўдзівыя і дакладныя. Усё праходзіць! Я першая і апошняя літара альфабэта: пачатак і заканчэнне. Я напаю пакутуючага ад смагі із крыніцы акавіты. Пераможац атрымае ўсё ў спадчыну. Я буду яму богам, а ён мне сынам. Доля ж баязлівых і здраднікаў, апусьціўшыхся маральна і забіваючых бліжняга, шарлатанаў і складальнікаў* (ап'яняючай) *сумесі* (у залатой чарцы), *прыхільнікаў выяваў і ўсіх ашуканцаў – марская лагуна, палаючая полымем і серай* (край мора, пабарвёны полымем вечаровага зарыва). *Гэта – іхная другая сьмерць!».*

Я не працягваю далей, таму што ўвесь Апакаліпсіс ужо перакладзены мной у поўным выглядзе ў маёй кнізе «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры», і акрамя таго там кожнае із гэтых выказванняў навочна ілюстравана малюнкамі навальнічных

аблокаў із натуры. Таму не застаецца ніякіх сумневаў, што аўтар нічога не склаў тут ад сябе, а толькі своеасабліва патлумачыў і апісаў мудрагелістыя формы навальнічных хмар, праходзіўшых перад ім ад яе пачатку і да заканчэння. Уся гэтая натур-сімвалічная кніга напісана настолькі па-мастацку, што (як я ўжо паведамляў вышэй) у шмат каго зараз з'явілася думка, ці не з’яўляецца больш слушным выбраць для яе маё другое астранамічны рашэнне часу яе стварэння, г.азн. 12 верасня 1249 года, замест прынятага мной 30 верасня 395 года?

Але ўсё ж цэлы шэраг параўнанняў вымушае мяне і да гэтага часу аддаваць перавагу першаму рашэнню, злучаючаму Апакаліпсіс з біблейскімі прароцтвамі.

Асабліва ж сведчыць на карысць ранейшай даты тое, што аўтар звяртаецца толькі да сямі малаазійскіх згуртаванняў, а не да ўсяго хрысьціянскага сьвету XIII стагоддзя. Вось, яго ўласныя словы:

**Із главы II.**

«*Аглашацелю згуртавання ў Эфесе напішы: так выказваецца трымаючы сем светачаў у сваёй правай руцэ і ходзячы навокал* (неба) *сярод сямі залатых свяцільняў* (г.азн. ужо апісанае ў I главе гнеўнае аблічча сонца, паказаўшагася ў шчыліну паміж двума пластамі навальнічнай хмары, – знак угневанага Езуса): *– Ведаю твае справы, і працы, і цярпялівасць, і што ты не здольны пераносіць благіх. Ты выпрабаваў выхваляючыхся, быццам бы яны пасланцы Ратавальніка, але насамрэч не такія, і знайшоў, што яны падманшчыкі. Ты абачлівы і валодаеш цярпеннем, змагаўся за мяна і не знемагаў. Але маю супраць цябе тое, што ты пакінуў сваё першае захапленне* (тут гульня слоў: агапа, па-грэцку, азначае адначасова і захапленне, і вечаровыя сходы хрысьціян першых стагоддзяў). *Згадай жа, ад чаго ты адпаў, прызнайся ў памылцы і аднаві першапачатковыя справы. А калі не так, то я хутка прыйду да цябе і перанясу тваю свяцільню з яе месца. Ёсць у цябе заслуга ў тым, што ты ненавідзіш мікалаітаў* (напэўна, прыхільнікаў Мікалая Цудадзея, на якога нападаў Арый на Нікейскім саборы. У такім разе мікаіцства было перад-арыянскім культам у Рамеі, уключаючы ў яе і Ягіпет), *якіх ненавіджу і я. Перамагаючы будзе смакаваць ад дрэва жыцця, знаходзячагася пасярод боскага парку* (на небе).

*Аглашацелю згуртавання ў Фіатырах напішы: Так выказваецца дзіця бога, у якога вочы як палаючае полымя, а ногі падобны бронзе* (тая ж грозная фігура ў аблоках): *– Ведаю справы твае, і павагу, і паслугі, і вернасць, і цярплівасць, і што апошнія справы твае большыя за першыя. Але маю крыху супраць цябе за тое, што ты дазваляеш сваёй гаспадыні*[90] *Ізабэлі* (найменне часта даваемае Янам варагуючай з ім фракцыі рамейскага сьвятарства), *завучай сябе прававесніцай, вучыць і лавіць маіх служак і прастытуіраваць* (са свецкай уладай) *і смакаваць прысвечанае выявам* (адсюль бачна, што і тут гаворка ідзе пра тых жа мікалаітаў, з якімі Фіатырскае згуртаванне, верагодна, жыло ў хаўрусе і добрай згодзе). *Я даў ёй час пакаяцца ў сваёй прадажнасьці, але яна не пакаялася. Вось, я кіну яе на насілкі, а прастытуіраваўшых з ёю – у вялікі смутак, калі не пакаюцца ў сваіх учынках. I дзяцей яе я пакараю сьмерцю, і даведаюцца ўсе людзі, што я – выпрабоўваючы сэрцы і вантробы, і што аддам кожнаму із вас згодна з вашымі справамі. Усім жа астатнім у Фіатырах, не падзяляючых яе вучэнне і не ведаючых, так званых, сатанінскіх сакрэтаў*[91]*, я кажу, што не накладу на вас іншы цяжар. Толькі да канца трымайце тое, што маеце, пакуль я прыйду.*

---

[90] τήν γυναῖκα σοῦ Ἰεσαβήλ — тваёй гаспадыні Ізабелі. Слова азначае не толькі жанчына, але ў пераносным сэнсе – гаспадыня. Іезабель была легендарнай жонкай легендарнага цара Ахава, наладзіўшая вялікае ідалашанаванне і разззлаваўшая гэтым прарока Ілію (III кн. Царстваў, гл. XVI-XXII). Гэтым зноў даводзіцца тоеснасць Іліі з Юльянам і з Залатавустам.

[91] τό βαδή τοῦ σατανᾶ.

*Пераможцы* (сімвалізуемаму сузор'ем Змеятрымальніка і Геркулеса) *і выконваючаму мае справы, дам уладу над зміямі*[92], *і будзе ён пасьвіць іх жалезным дубцом і паб'е іх дашчэнту, як гліняныя посудзіны, як і я* (Хрыстос, сімвалізуемы Змеятрымальнікам) *прыняў* (пашчы змея) *ад бацькі майго* (мал. 65). *Я дам Пераможцы Ранішнюю зорку* (Венеру, знаходзіўшуюся ў Змеятрымальніку пад Геркулесам). *Маючы вуха пачуць, ды пачуе тое, што натхненне паведамляе згуртаванням*.

*Аглашацелю згуртавання ў Філадэльфіі напішы: Так выказваецца бязгрэшны і праўдзівы, маючы ключ Умілаванага, які адмыкае так, што ніхто ўжо не зачыніць, і замыкае так, што ніхто ўжо не адчыніць. Ведаю твае справы. Вось, я адчыніў перад табой дзверы, і ніхто не ў стане зачыніць іх. У цябе няшмат моцы, але ты захаваў маё вучэнне і не адрокся ад майго імя. Вось, я зраблю падманшчыкамі ўсіх із атачэння Сатаны, кажучых, што яны багаслаўцы, але не з'яўляюцца такімі на справе. Вось, я вымушу іх прыйсьці і схіліцца перад тваімі нагамі, і даведаюцца, што я цябе шаную. За тое, што ты захаваў мой запавет пра цярплівасць, я захаваю цябе ад гадзіны спакусы, якая павінна сысьці на ўвесь сусьвет, каб выправіць жывучых на зямлі. Вось прыйду хутка. Захавай, што маеш, каб ніхто не выкраў твайго вянка. Пераможцу зраблю калонай у храме майго бога і атачу сьцяной, каб ён не выйшаў зноў, і напішу на ім імя майго бога і найменне маёй пабудовы, Новага Царства міру, сыходзячага з нябёс ад бога, і маё новае імя. У каго ёсць вуха, ды пачуе тое, што натхненне паведамляе згуртаванням*!»



Мал. 65
Сузор'е Геркулеса забіваючага змей. (Із астралогіі.)

---

[92] Тут замест ὀφίοι – зьмеі, перапісчык паставіў ἔθνοι – народы.

падначаленых александрыйскаму патрыярху. Аддаючы анафеме Несторыя і Яўціхія з іхнымі аднадумцамі, ён называў Хрыста аднасутным Бацьку па боскасьці і аднасутным нам па чалавецкасьці».

«*Кожнага, хто лічыў ці лічыць інакш, будзе тое зараз ці ў іншы час, у Халкідоне ці на нейкім іншым саборы, таго мы аддаем анафеме*».

Аднак, Энатыкон Зянона (калі толькі ён не пазнейшая прыдумка) меў наступствам толькі новыя ўскладненні ў царкоўным жыцці Візантыі, павялічыўшы колькасць партый. Частка сьвятарства, – кажуць нам, – падтрымала акт Яднання. Але з'явіліся акіміты, г.азн. незасынаючыя (таму што ў іхным храме служба здзяйснялася бесперапынна на працягу цэлых сутак, для чаго яны былі падзелены на тры зьмены), і акефаліты, г.азн. безгаловыя, таму што яны не прызнавалі прыняўшага Энатыкон александрыйскага патрыярха. Паўстаў, – кажуць, – супраць Энатыкона і рымскі папа (якога тады яшчэ не было, а быў толькі пантыфекс) і аддаў анафеме цар-гародзкага патрыярха Нясквернага, а той выкрасліў яго із царкоўных дыптыхаў, г.азн. перастаў згадваць. Так адбыўся першы разрыў паміж усходняй і заходняй царквой, які працягваўся да 518 года.

Пасьля сьмерці Зянона яго ўдава Арыядна «аддала сваю руку» састарэламу Анастасу (г.азн. Ажыўшаму із памёршых), родам із Дырахіума, займаўшаму даволі сьціплую прыдворную пасаду сіленцыярыя (цырымоніймайстра). Ажыўшы із памёршых быў каранаваны ў імператара. Ён прагнаў «ісаўраў», г.азн. малазійцаў, са сталіцы, канфіскаваў іхную маёмасць і пазбавіў пасад, а потым у зацятай шасьцігадовай вайне канчаткова ўтаймаваў іх у самой Ісаўрыі. Шмат каго із іх перасялілі ў Фракію. Такое заканчэнне меў параўнальна кароткі перыяд ісаўрыйскага ўплыву ў Візантыі. А слова ж «ісаўр» вельмі сугучна са словам іса-ўрас, г.азн. вартавы Езуса.

І вось, упершыню на Балканскай паўвыспе згадваецца найменне баўгары, у сувязі з остгоцкімі перамяшчэннямі на поўначы.

«Бяручы да ўвагі недасведчанасць храністаў таго часу ў этнаграфічных назвах паўночных народаў, – выказваецца А. А. Васільеў[105], – у імёнах готаў і скіфаў можна бачыць разуменне зборнае, і навука лічыць магчымым знаходжанне сярод іх і славян. Візантыйскі пісьменнік пачатку VII стагоддзя Феафілакт нават непасрэдна атаясамляе готаў са славянамі, і яны ўпершыню пачалі здзяйсняць напады разам з баўгарамі на Балканскую паўвыспу. «Гоцкія вершнікі, спустошыўшы Македонію, Фесалію і Эпір, даходзілі да Фермапілаў». Прафесар Дрынаў, грунтуючыся на вывучэнні геаграфічных і асабістых імёнаў Грэцкай паўвыспы, дапасаваў пачатак яе засялення славянамі ўжо да канца II стагоддзя нашай эры». Гэта азначае, грэкі засялілі яе пазьней.

У Заходняй Яўропе, падчас Анастаса (491-518) Тэадорых (Бога-Дараваны цар) зрабіўся остгоцкім каралём у Італіі, а на далёкім паўночным захадзе, яшчэ да ўступлення Анастаса на пасад, Хлодвіг заснаваў франкскую дзяржаву. Але гэта яшчэ не азначае, каб там было скасавана вяршынство «Рымскага» (Рамейскага) імператара. Калі готы абвясьцілі Тэадорыха ў Італіі каралём, «не дачакаўшыся, – як паведамляе сучасны храніст, – дырэктывы новага прынцэпса», г.азн. Анастаса, Тэадорых сам прасіў апошняга даслаць яму знакі імператарскай улады. А Хлодвігу франкскаму Анастас паслаў дыплом на консульскую годнасць, які быў прыняты з вялікай радасьцю.

---

[105] Стар. 116.

Такое стаўленне візантыйскага валадара да заходніх германскіх дзяржаваў сведчыць, што нават і напачатку VI стагоддзя на Захадзе панавала ідэя адзінай «Рымскай імперыі».

Пры ім, – як кажуць нам, – упершыню быў выпушчаны ўказ пра забарону змагання людзей з дзікімі зьвярамі ў цырках. А цырк тады яшчэ не аддзяліўся ад царквы.

Гэта азначае, аж да VI стагоддзя гладыятарства практыкавалася ў славу боскую.

# Глава VII

## Чароўная казка Эпохі Гуманізму з нагоды рамейскай тэалогіі IV-VIII стагоддзяў, адсунутай назад на 500 і больш гадоў.

Разгледзім зараз больш падрабязна і рэлігію дадзенага часу.

Распрацаваны прафесарам Л. А. Мацулевічам «візантыйскі антык» VII стагоддзя нашай эры ўжо паказаў нам, што класічная міфалогія не толькі не была вынішчана хрысьціянствам пад час сярэдневечча, але была фонам тагачаснага хрысьціянства.

Перадусім зададзім сабе пытанні: з якой мэтай пад час самага разгару змагання хрысьціянства з паганствам і пад час першых стагоддзіў урачыстасьці праваслаўя над політэізмам выраблялiся срэбныя хрысьціянскія жбаны і чаркі з выявамі нібы-та боганенавіснага Няптуна, а таксама адкінутых з ганьбай менад, скакучых з Сіленам, нерэід, плывучых на марскіх ільвах, і г.д., і г.д. І як падобныя пасудзіны, не будучы пашыранымі ў сябе на радзіме, патрапілі паасобку то ў Пермскую губернію, то ў Крым і нават у Сібір? Наяўнасць сярод іх царкоўных пасудзін з такімі ж сюжэтамі і з відавочна царкоўнымі грэцкімі надпісамі, накшталт: «Богу-Абаронцу» і г.д., наводзіць на думку, што гэтыя срэбныя вырабы прызначаліся не для звычайных баляў, а для царкоўнага ўжывання – тым больш, што і да гэтага часу ва ўсходняй царкве прычашчэнне запіваецца віном цалкам з такіх жа срэбных ці пазалочаных кубкаў, але толькі ўжо без міфалагічных малюнкаў на іхным дне ці на краях.

Але ж, у такім разе, і занесены яны былі із Візантыі ў далёкія краіны яе сьвятарамі-місіянерамі, а ў сябе дома яны былі пераіначаны.

Але калі нават большасць з іх і з’явілася ў Расіі не місіянерскім шляхам, то гэта не перамяняе сутнасці справы: пашырэнне класічных сюжэтаў на царгародзкіх вырабах VII стагоддзя дастаткова паказвае, што тады яны яшчэ не лічыліся дз’яблавымі багамі пераможаных навекі паганцаў, а з’яўляліся часткай звычайнага тагачаснага фальклору, г.азн. некананічнай часткай тагачаснага рэлігійнага светапогляду, накшталт некананічных багаслоўскіх кніжак сярэднявечча, служыўшых заўсёды грунтам і нават адкрыта матэрыялам для кананічных кніг. Гэты фальклорны матэрыял, вядома, не вызначаўся сістэматызаванасьцю, таму што выпрацоўваўся не аднаасобна ці не пад чыёй-небудзь агульнай рэдакцыяй, а шматлікімі незалежнымі адна ад адной па-рознаму наладжанымі галовамі. Ён нават не з’уляўся нечым усталяваным, таму што кожны пераказчык перамяняў у ім асобныя дэталі, грунтуючыся на аберацыях свайго

ўяўлення, як гэта мы можам назіраць і ў апошніх хрысьціянскіх паданнях пра жыццё розных сьвятых і пра іх сутыкненні з атачаючымі іх заўсёды чарцямі.

Але нават і лічачы ўсе дэталі за прыдумкі індывідуальных апавядальнікаў, пра існаванне якіх і не падазравалі астатнія іхныя калегі, мы павінны надаць вельмі сур'ёзнае значэнне іх агульнаму тыпу і настрою, як абмалёўваючаму рэчаісны фон тагачаснай рэлігійнай думкі.

А фон гэты ўяўляецца прыблізна такім.

Адзінабожжа тады яшчэ не існавала, таму што нават і ў Кнізе Быцця слова бог (АЛ) заўсёды ўжываецца толькі ў множным ліку – (АЛЕІМ). Так, у першай жа фразе Біблії замест; «спачатку стварыў бог неба і зямлю» (як мы чытаем яе ва ўсіх еўрапейскіх перакладах) у жыдоўскім арыгінале стаіць: «напачатку стварылі багі (АЛЕІМ) неба і зямлю», а замест: «і стварыў бог чалавека адпаведна са сваёй выявай і падобным на сябе» ў арыгінале стаіць: «і стварылі багі (АЛЕІМ) чалавека адпаведна са сваёй выявай і падобнымі на сябе».

Толькі пазьней замест слова АЛЕІМ-багі ў жыдоўскай Біблії пачало ўжывацца імя аднаго із іх: ІІ, ці ІЕ (абодва вымаўляюцца як ЙА ці ЙУ), як скарачэнне імя бога-Бацькі ЙУ-ПАТЭРА (Юпітара). Але і ў яго былі сыны і дочкі, унукі і ўнучкі і нават помесі з людзьмі – напалову багі, таму што ў самой Біблії паведамляецца: «І пабачылі сыны богаў (БНІ-АЛЕІМ), што чалавечыя дочкі выдатныя і бралі сабе ў жонкі, якую хто меў жаданне (Быццё, VI, 2), і чалавечыя дочкі пачалі нараджаць ад іх дзяцей, якімі былі моцныя, спрадвеку хвалебныя людзі (Быццё, VI, 4). А ў кнізе Ёў паведамляецца і пра іншыя ўчынкі сыноў біблейскага бога-бацькі. «Пад час аднаго дня, калі сыны богаў (БНІ-АЛЕІМ) прыйшлі паказацца свайму бацьку – Ёвісу-Юпітару (адпаведна з жыдоўскай транскрыпцыяй – ЙЕВЕ), прыйшоў разам з імі і Сатана і пачаў падгаворваць бога-бацьку супраць аднаго сьвятога і заможнага чалавека – Ёва. Але гэта ў яго не атрымалася. Ёў вынес усе выпрабаванні, і вось у адваротным слове яму сам бог-бацька (лацінскі Юпітар) прызнаецца, што ў яго яшчэ да стварэння зямлі былі дзеці: «Хто (як не я) – кажа Бог-Бацька пра сябе самога, – паклаў кутны камень зямлі, пры агульнай радасьці ўсіх зорак і радасных ускліканнях богаў-сыноў (БНІ-АЛЕІМ)».

У Біблії нідзе не гаворыцца, як у Каране, «няма бога, акрамя бога», а гаворыцца толькі, што Бог-Бацька (Ю-пітэр на-лаціне) «мацнейшы із богаў».

«Бог ваш, – гаворыць аўтар «Другазаконня» багазмагальнікам, – з'яўляецца богам богаў і царом цароў – вялікі, моцны і жахлівы бог» (Другазаконне, X, 17), ды і у Псалмах (XLIX, 1), мы чытаем пра тое, як аднойчы: «бог-**багаў** (Ёвіс-Юпітэр) паклікаў на свой суд усю Зямлю ад усходу да захаду». А першы запавет Майсея: «Я, Юпітэр (ЙЕВЕ), – твой бог, і ды не будзе ў цябе іншых багаў акрамя мяне» – ніяк немагчыма прызнаць за іх адмаўленне, а толькі за забарону ім маліцца.

Але калі нават тут і існуе супярэчнасць з астатнім тэкстам Біблії, то гэта паказвае толькі на няўстойлівасць тагачаснай дагматыкі, і класічная міфалогія не толькі не скасоўваецца біблейска-хрысьціянскім светапоглядам, прызнаючым нават асабістае існаванне суперніка бога-бацькі, Сатаны, а наадварот з'яўляецца як бы адным із яго адгалінаванняў і толькі пасьля крыжовых паходаў, і не без уплыву агаранства, усе багі-дзеці, акрамя евангельскага Хрыста, ператварыліся збольшага ў анёлаў і дэманаў, збольшага ў сьвятых дагоднікаў таго ж бога-бацькі, Ёвеса-Юпітэра.

І гэта ўсё выдатна падмацоўваецца «Візантыйскім антыкам» Л. А. Мацулевіча з політэістычнымі выявамі на відавочна хрысьціянскіх і нават на царкоўных пасудзінах VI і VII стагоддзяў і вымушае нас перагледзець нанова увесь «антык» (мал. 48-52, натр. 94-99).

Вось чаму і ўзнікае тут патрэба зрабіць хаця б караценькае выкладанне політэістычнага стану хрысьціянска-месіянскай тэалогіі першых стагоддзяў Вялікай Рамеі – Візантыі.

Яшчэ раз паўтараю, што большасць дэталяў з'яўляецца ў ёй прадуктамі індывідуальнай фантазіі мала вядомых (па-за вызначаным колам) асоб, з якімі дадзены фантазёр меў асабістыя стасункі, і таму іх немагчыма лічыць за нешта ўсімі прынятае ў той час; але нам тут важна засвоіць іх агульны каларыт, які, як геаметрычная раўнадзеючая коса накіраваных уздзеянняў, дае дакладна дзеючы накірунак іхнага ўздзеяння пад час дадзенай эпохі. З падобнага боку гледжання хай чытач і прачытае гэтую частку.

«Ніводзін парод пры сваім узнікненні не стаяў на такой ступені адукаванасьці, на якой знаходзіўся пад час больш позняга перыяда свайго развіцця, – выказваецца нават А. Г. Петыскус[106], а не толькі я адзін. – Не із рук прыроды выходзіць чалавек адукаваным, абазнаным, дасьведчаным: яму патрэбна, выйшаўшы із дзяцінства, пражыць юнацтва, калі паступова разгорнуцца яго разумовыя здольнасьці, душэўныя падахвочванні, і фантазія (кемлівая здольнасць) уступіць у свае правы; калі дзякуючы пашырэнню кола сваіх уяўленняў і праверцы ўласных высноваў у ім замацуецца лепшае разуменне атачаючых яго рэчаў і усьведамленне самых асноўных законаў. Потым яму наканавана памаленьку выйсьці із-пад пераважаючага ўплыву фантазіі, дзякуючы якой яму давядзецца нарабіць шмат памылак пад час юнацтва, і, нарэшце, дасягнуць таго, каб, прызнаўшы, свае памылкі, прысьвяціць сябе служэнню праўдзе. Толькі тады чалавек у стане ўвесь час накіроўваць свае думкі на прадметы высокага значэння, а свае здольнасьці – да добрых і карысных мэтаў.

Як бывае з ходам развіцця асобнага чалавека, так, прыблізна, і з цэлым народам. Народ жа па-сутнасьці з'яўляецца згуртаваннем асоб. Адсюль лёгка зразумець, што калі маюць значэнне розныя акалічнасьці, суправаджаючыя разумовае і маральнае развіццё асобы, то тым больш маюць значэнне акалічнасьці, уплываючыя на ход развіцця цэлага народа».

Я знарок пачынаю гэтую частку славамі вядомага класіка, кніга якога ў нямецкім арыгінале зведала да свайго перакладу на рускую мову дванаццаць выданняў, ды і рускі пераклад у 1873 годзе выйшаў ужо другім выданнем, а што было пасьля гэтага года, у мяне не знайшлося часу даведацца. Дык за што ж крытыкуюць мяне некаторыя із нашых гісторыкаў, калі я толькі падмацоўваю асноўнае цьверджанне іхнага ўласнага субрата? Усё ж тое, што я тут выказваю, – з'яўляецца толькі далейшым лагічным развіццём тых жа самых ідэй.

Першапачатковы стан народа – невуцтва, падчас якога ён яшчэ не ведае ні сябе, ні сваіх здольнасьцей. Фантазія бывае тым больш дзейнай, чым менш унутранае разумовае сьвятло дасягнула ў чалавеку поўнай выразнасьці і чым менш выпрацавана чалавекам здольнасць разважаць. Не маючы магчымасьці заўважаць свае памылкі, ён хутка даходзіць да таго, што лічыць стварэнні свайго ўяўлення за абсалютную праўду, і яны робяцца для яго прадметам рэлігійнага веравання. Не толькі ў рэчах бачнай прыроды, але і ў яе з'явах, і ва ўсіх падзеях, адбываючыхся перад яго вачамі, яму бачыцца дзейнічаючая праява той ці іншай невядомай, але

[106] А. Г. Петыскус. «Алімп. Грэцкая і Рымская міфалогія ў сувязі з Ягіпецкай, Германскай і Індыйскай». Пераклад П. Яўстаф'ева 1873 г.

магутнай істоты, і, ставячыся з пашанай да магутнасьці, ён імкнецца з дапамогай павагі і ўшанавання падтрымліваць з ёю добрыя стасункі і набыць яе прыязнае стаўленне і ахову. Дзякуючы падобным вераванням узніклі ўсе храмы і ахвярнікі з прынашэннямі да іх разнастайных дарункаў; ад іх бяруць пачатак усе цырымоніі ачышчэння і залагоджваючыя ахвяры.

Алімпійскія гульні святкаваліся раз на кожныя чатыры гады на Пелапанэсе ў Элідзе, пад час высакосных дзён, у гонар бога Бацькі (Зеўса-Грамабоя), і ў нас няма падставаў лічыць, што часазлічэнне грунтуючыся на Алімпіядах (чатырохгоддзямі) нечым адрознівалася ад юліянскага, хаця і сцвярджаюць, быццам бы іх заснаваў яшчэ Геркулес. Нам надаюць, што першая Алімпіяда была за 22-23 гады да заснавання Рыма Ромулам, а таму, лічачы Рамула за Кастуся, ўзышоўшага на цар-гародзкі пасад у 306 годзе, мы атрымліваем для пачатку Алімпіяднага злічэння 284 год, г.азн. якраз пачатак эры Дыяклетыяна. Галоўным спаборніцтвам пры іх была хуткасць бегу.

Піфійскія сьвяты на кожны трэцці год Алімпіяды, у жніўні, адбываліся паблізу Дэльфаў у гонар сына боскага ад зямной дзяўчыны Латоны, вынаходніка струнных музычных прылад, вялікага дойліда, збавіцеля ад хвароб, прарока, узнёсшагася назад пасьля зямнога жыцця ў пабудаваным ім горадзе Св. Іллі (Іліёне ці Троі сугучна з Траянам) на неба і атрымаўшага для язды па аблоках калясьніцу Сонца, а потым атаясомленага з самім Сонцам пад імем бога Эліяса (адкуль і імя прарока Іллі, і імя рамейскага цара Юльяна). Сама яго мянушка Загублены (Апалон, па-грэцку) збліжае яго з евангельскім Хрыстом, а сьвяты ў яго гонар мелі назву піфійскія праз тое, што ён забіў Сьмярдзючага Зьмея (Піфона, па-грэцку), верагодна біблейскага змея-спакусніка. Гэтыя сьвяты пачаліся, – кажуць нам, – праз 191 год пасьля Алімпійскіх, г.азн. адпаведна з папярэднім злічэннем у 475 годзе нашай эры (пры імператару Зянону) і суправаджаліся галоўным чынам музычнымі спаборніцтвамі.

А Нямейскія ці Істмійскія сьвяты ладзіліся праз кожныя два гады на Карынфскім перасмыку ў якасьці ўспаміну пра забойства Геркулесам жахлівага Ільва.

У чым складалася рэлігійная філасофія таго часу згодна са сведчаннямі класічных аўтараў-апакрыфістаў?

Спачатку, – паведамляюць яны ад імя старажытных, – існаваў Хаос, бязладная сумесь усяго. Але вось у ім узнікла Каханне[107], злучыўшае паміж сабой аднастайныя рэчывы і ўсталяваўшае Ўпарадкаванне і Гармонію. Ад адружання Хаосу і Кахання паходзіць Тартар (г.азн. падземны сьвет) і Зямля, нарадзіўшая Мора, Горы, Неба і Парог падземнага сьвету (Эрэб).

Ноч, адружыўшыся, нарадзіла празрыстае паветра (Эфір) і Дзень.

Потым нарадзіліся адпаведна з колькасьцю знакаў Задыяка шэсць мужчынскіх і шэсць жаночых божышчаў:

Зеўс-Юпітэр і Гера-Юнона.
Пасейдон-Няптун і Дэметра (маці богаў) – Цэрэра.
Апалон і Артэміда – Дыяна.
Гефест-Вулкан і Палада-Афіна (Мінерва).
Арэс-Марс і Афрадыта-Венера.
Гермес-Меркурый і Гестыя-Веста.

---

[107] Па-грэцку – Эрас, стацевае каханне.

Алімп, дзе жылі багі, – паведамляюць яны, – спачатку атаясамляўся з небам, і толькі пазьней дэградаваў да той ці інша із зямных гор.

Іншая паралельная легенда варыяцыйна паведамляе нам пра 12 Тытанаў-Жыхароў неба (уранідах, па-грэцку), адпаведна 12 знакам Задыяка, і таксама ў выглядзе адружальных пар:

Кайёс і Тэя.
Крык (Авен) і Рэа.
Гіперыён і Феміда.
Япет (Юпітэр?) і Мнемазіна.
Акіян (Няптун?) і Феба.
Кронас (Сатурн) і Тэфіда.

Аднавокімі цыклопамі зваліся Гром, Маланка і Зіхаценне (Аргус), верагодна ў сэнсе метэарыта. А сторукімі зваліся Котас, Гігес (Гіес) і Брыарэй.

Потым ідуць непагадненні, якія сведчаць пра тое, што ўсе падобныя легенды развіваліся не ў сэнсе нейкага закончанага ў самым сабе сістэматызаванага апавядання, а злучаны класікамі гвалтоўна ў адну сістэму.

Так, чалавекам Рэі, якая выявілася дачкой Зямлі, з'яўляецца Здзяйсняльнік (Кронас), сын Неба[108].

Ён пазбавіў пасада свайго бацьку – Неба і адружыўся з Рэяй, ад якой у яго нарадзіліся: Гадэс-Плутон, бог падземнага царства, Пасейдон-Няптун, бог мора, і Зеўс-Юпітэр, бог неба. А іхнымі дочкамі былі: Гестыя-Веста, Дэметра-Цэрэра і Гера-Юнона. Кронас праглынуў пяць сваіх дзяцей, але малодшы із іх Юпітэр выратаваўся, таму што Рэя падала чалавеку замест яго камень. Але і першых пяць дзяцей Кронас потым вырыгнуў са свайго ўлоння з нагоды ірвотнага, якое яму дала Метыза, дачка Оксана. З іхнай дапамогай Зеўс пазбавіў Кронаса пасада і сам сеў на яго. За гэта супраць яго падняліся тытаны, але з дапамогай «старукіх» Зеўс скінуў іх у Тартар. Тады іншыя сыны Зямлі – гіганты – пачалі нагрувашчваць горы на горы, каб дасягнуць неба, але з дапамогай Геркулеса і яны былі скінуты ў бездань і засыпаны гарамі і скаламі. Тое ж адбылося і з пачварай Тыфонам, подых якога быў усёзнішчаючым ураганам. І вось, улада Зеўса была назаўжды ўмацавана.

Іншая легенда – таксама не маючая арганічнай сувязі з папярэднічаўшымі – паведамляе пра Сатурна (г.азн. Сейбіта), які, з'явіўшыся да Януса, валадарыўшага ў Рымскай вобласьці, навучыў яго народ земляробству, і час яго кіравання быў залатым стагоддзем, калі людзі жылі без клапатаў і весела. У якасьці ўспамінаў пра гэта, быццам бы, у сьнежні былі ўсталяваны пяцідзённыя сатурналіі з неўтаймаванай весялосьцю, пад час якіх усе адрозненні паміж станамі скасоўваліся.

Жонка Кронаса Рэя атаясамлялася, – кажуць нам, – з Кібелай, ды і саму жонку Сатурна Онсу блыталі з ёю, атаясамляючы Сатурн з Кронасам. Пад імем Рэя яна лічылася дачкой Неба і Зямлі, а пад імем Кібела – дачкой фрыгійскага цара Мэона, якая, вырасшы, увайшла ў кахальную сувязь з фрыгійскім Атысам, за што Мэон пакараў Атыса сьмерцю, а Кібела ў роспачы пачала выяўляць сваё гора з дапамогай меладычных гукаў і вынайшла флейту.

Юпітэр, схаваны ад Кронаса Рэяй, быў выхаваны казой, якая і стала зоркай Капэлай (Козачкай) у сузор'і Возніка. Час яго валадарання быў срэбным стагоддзем, потым было стагоддзе медзяное і, нарэшце, жалезнае, калі багіня

[108] Па-грэцку – Кронас, сын Урана, і як быццам бы атаясамляецца з лацінскім Сатурнам.

Справядлівасьці (Астрэя-Зорная), а з ёю Вернасць, Праўдзівасць і Сарамлівасць выдаліліся з зямлі на неба.

Плутон, г.азн. заможны, меўшы таксама па-грэцку імя Гадэс ад Аідэс – нябачны, адкуль паходзіць і яго імя Падземны Зеўс, пра якога Адысей пытае[109]:

«Як жа, мой сын, ты жывым здолеў пракрасьціся ў імглістую вобласць Пекла?
Тут усё жахае жывучага: шумна бягуць тут
Жахлівыя рэкі, струмені вялікія; тут Акіяна
Вада глыбокая ільецца; ніхто пераплысьці яе не ў стане, –
Гэта адным караблям добразданным магчыма».

Толькі ў Геркулеса, ды яшчэ Арфея і Дантэ атрымалася пабываць у падземным царстве, дзе цячэ рака Стыкс, праз якую Харон перавозіць цені памёршых, а акрамя яе там цякуць яшчэ Лета – рака Забыцця, Ахерон – рака вечных пакут, Перыфлегетон – Полымя-імклівая і Катытас – рака Ўздыханняў.

Але царства Плутона апакрыфісты-класікі малююць нам не цалкам падобным на нова-хрысьціянскае пекла, таму што там знаходзіўся і рай, меўшы назву Элізія, і Выспы шчасьлівых, дзе жылі душы добрых, а ў самай глыбіні Зямлі быў Тартар, дзе пакутавалі душы злыдняў.

У Элізіі рахмана валадарыў Хронас-Час, а хто валадарыў у Тартары, не зразумела, але пакуты там былі падобнымі на тыя, як і ў хрысьціян. Так, Тантал за сваю жорсткасць, стаяў там прывязаны па шыю ў вадзе, але не мог задаволіць ёю смагу, таму што вада зніжалася як толькі ён спрабаваў нахіліцца да яе. Ён не быў у стане здаволіць голад, таму што вісеўшыя непасрэдна над яго галавой плады падымаліся як толькі ён набліжаў да іх рот. Цар Іксіён увесь час круціўся там на коле, Сізіф там паднімаў на гару вялізны камень, які кожны раз каціўся ўніз, як толькі ён набліжаўся да вяршыні, а Данаіды напаўнялі вадой бочку не маючую дна.

Адэс-Плутон і яго жонка Персефона судзілі душы памёршых і вырашалі, каму быць у Элізіі і каму ў Тартары, пры гэтым ім дапамагалі памёршыя цары Мінас, Радамант і Эак. На заканчэнні кожнага стагоддзя Плутону прысьвячаліся, акрамя штогадовых, яшчэ «стагадовыя гульні» на працягу першых 12 дзён лютага.

Жонка Плутона – Персефона, а ў рымлянаў – Празэрпіна ці Лібера, дачка Зеўса, была выкрадзена Адэсам з неба, але палову жыцця – летам і вясной – яна праводзіла на небе, а на восень і зіму апускалася ў падземнае царства да чалавека.

Перад Персефонай звычайна ідзе Геката, дачка Тартара і Ночы, разганяючая змрок сваёй паходняй.

Маці Персефоны была Маці багаў (Дэметра-Цэрэра), даравальніца ўсіх пладоў і зерневых, у гонар якой спраўляліся сьвяты Тэсмафорыі. Аднойчы, калі яна ператварылася ў жарабіцу, яе дагнаў, ператварыўшыся ў каня, Няптун-Пасейдон, і яна нарадзіла каня Арыёна, надзеленага чалавечым розумам і словам, але ад сораму за такое стварэнне яна доўга хавалася ў пячоры, пакуль не ачысцілася ў вадзе ракі Ладоны і не вярнулася на неба.

Ад жыхара Крыта – Язіона – Дэметра мела сына Плутаса-Багацце, і з ёю злучалася разуменне пра ўрадлівую зямлю, дзякуючы чаму рымляне часам называлі яе Тэлус (г.азн. Зямля) у процілегласць небу. У «Адысеі» (песьня XIV, верш 242) яна называецца «валадарачай жонкай Зеўса».

Веста ці Гостыя, сястра Дэметры, была апякункай Полымя, а разам з гэтым і хатняга агменя, але не пажадала ні з кім адружыцца. У яе рымскім храме, – паведамляюць нам, – было шэсць дзяўчын-святарак, меўшых назву вясталкі,

---

[109] «Адысея», песьня XI.

хадзіўшых у белым адзенні і перад імі, як перад консуламі, ліктары насілі звязкі дубцоў з утыкнутымі ў іх сякерамі. Яны пасьвячаліся ў сваю годнасць вялікім рымскім пантыфексам яшчэ дзяўчынкамі і толькі пасьля 30-летняга веку маглі адружыцца, пакінуўшы храм.

Сьвяты-весталіі спраўляліся, – паведамляюць нам апакрыфісты, – на працягу тыдня ад 8 да 15 чэрвеня, калі чысьцілі і прыбіралі храм. Але летняе сонцастаянне прыпадала на 15 чэрвеня толькі ў X стагоддзі нашай эры; што паказвае не на глыбокую старажытнасьць, а на першае ці другое стагоддзе Сьвятой Рымскай імперыі Карла Вялікага. Інакш цяжка ўявіць, чаму храм багіні Полымя прыбіраўся не пад час дня сонцастаяння ці сьледам за ім, а за шмат дзён да гэтага ўрачыстага моманту, пры гэтым жа і сама дата 8 чэрвеня ўжо абумоўлівае існаванне юліянскага календара. На карысць часу нашай эры сведчыць і рытуал абнаўлення полымя на ахвярніку Весты прыпадаючы на першы дзень юліянскага сакавіка.

Арэй, ці Марс, быў сынам Зеўса ад багіні Геры. У яго адпаведна з грэцкімі паданнямі былі толькі незаконныя сыны Мелеагр, Цыкнас, Партэнапей, Дэнамей і інш. А згодна з рымскімі паданнямі ў яго была жонка Белона. Яго сястрой была Звада (Эрыс), заўсёды папярэднічаўшая яму. А пра яго кахальную сувязь з Венерай у VIII песьні «Адысеі» распавядаецца, што чалавек Венеры Гефест нечакана накрыў іх абодвух на ложку ў нязручным становішчы жалезнай сеткай і паклікаў усіх богаў і багінь пасмяяцца над імі.

Аднак, яшчэ раней гэтага фіналу у Венеры ад яго нарадзілася дачка Гармонія і сын Жах. Рымляне звалі Марса і богам-бацькам (Deus Pater), а Венеру грэкі звалі нябеснай (Афрадыта-Уранія).

Гефест-Вулкан быў таксама сынам Геры, і да яго імя дадавалі эпітэт плавільшчык (жалезнай руды). Ён быў невялікага росту, за што згодна з адымі паданнямі маці, а згодна з іншымі – Юпітэр, скінуў яго з неба на зямлю, прытым ён пашкодзіў сабе нагу і стаў кульгавым, падобна біблейскаму Якаву-Богазмагальніку. Але Бахус-Дыёніс памірыў яго з маці. Гефест заснаваў прамысловасць і асьвету і меў сваю кузню ў жэрале Этны, дзе выкаваў шмат дзіўных рэчаў і паміж імі тую сетку, якою ён накрыў сваю жонку Венеру разам з Марсам. Але яго палац знаходзіўся ўсё ж на небе, як бачна із XVIII песні Іліяды:

Той парой Фетыда дасягнула Гефеставай сядзібы,
Зорных, нятленных палацаў, самых прыгожых сярод Алімпа,
Якія із медзі бліскучай стварыў сабе кульгавы.

23 юліянскага жніўня (што зноў паказвае на такі час, калі юліянскі каляндар быў у афіцыйным ужыванні), у гонар Вулкана святкаваліся вулканаліі, калі яму прыносілі ў ахвяру Рыб (па-грэцку – ΙΧΘΥΣ) г.азн. анаграму: Езус Хрыстос Феу Ійос Сотэр (Езус Хрыстос Боскі Сын Ратавальнік), чым да некаторай ступені зноў падмацоўваецца мая выснова, што евангельская Галгофа была легендарызаванай Сомай Вязувія.

Ад Венеры-Афрадыты ў Гефеста не было дзяцей, але было некалькі ад пабочных жонак, у тым ліку Эрыхтоній ад багіні Зямлі (Геі). Яго, як і Хрыста, малявалі часам вяртаючымся на асле на нябесны Алімп, а асла вядзе Дыёніс-Бахус.

Яго адзіная законная, але не заўсёды верная яму жонка – Венера-Афрадыта, згодна з аднымі паданнямі, была дачкой Неба (Урана, па-грэцку) і таму, як я ўжо згадваў, звалася «Нябесная» (Уранія) ці Астарта (Зорная). Яна, – кажуць нам,– выйшла голай із пены марской хвалі, чаму часта звалася «з мора выйшаўшая»

(Анадыямена). Згодна ж з іншымі паданнямі яна была дачкой бога-Грамабоя ад Дыяны, і часта звалася Дыянеяй.

Венера, акрамя Адоніса (ці, як яго звалі старажытныя сірыйцы, «Абобаса, г.азн. флейтыста), узнагародзіла асаблівай увагай таксама і сьмяротнага чалавека Анхіза. Анхізу яна нарадзіла Энэя, сын якога Асканій (ці, згодна з рымскімі паданнямі, Юлій) зрабіўся родапачынальнікам самага шляхетнага ў Рамеі рода, да якога пазьней належаў і Юлій Цэзар. Паміж яе шматлікімі іншымі дзецьмі самымі выбітнымі былі: Эрас і Антэрас (г.азн. Каханне і Ўзаемнасць), Гіменэй і Гермафрадыт.

Афрадыта лічылася старажытнымі за багіню сям'і. Калі яна з'явілася перад бацькай са скаргай на Дыямеда, ахейскага героя, параніўшага яе пад час траянскай вайны («Іліяда,» песьня V), то Зеўс адказаў:

«Любая дачка! Не табе запаведаны шумныя броні!
Ты выдаткуй час на справы прыемныя, салодкіх адружанняў;
Бітвы ж буяны Арэй і Палада-Афіна ўладкуюць».

На выспе Кіпр у яе існавала некалькі храмаў. У Карыйскім Кнідзе існавала яе цудоўная статуя, твор Праксіцеля. Ёй прысвячалі: галубоў, бараноў, зайцоў, дэльфінаў, лебедзяў, а із кветак: мірты, ружы і некаторыя іншыя прыгожыя расьліны, яблыкі і іншыя плады. У Эладзе знакам яе была чарапаха, а напачатку гэтую багіню малявалі ў выглядзе неаформленага каменя, відавочна метэарытнага паходжання, зваліўшагася з бляскам із сузор'я Панны.

Іншая варыяцыя Венеры – Афіна-Палада, ці Мінерва, звалася па-грэцку Трытагеніяй, Трытоніяй і Атэнэяй, і ў міфе пра яе паведамляецца, што яна выйшла із чарнакудрай галавы хмараганіцеля Зеўса цалкам узброенай і што пры яе нараджэнні завагаліся неба і зямля, ускіпела мора і пацямнела дзённае сьвяціла. Зноў указанне на паданне вялікага метэарыта ў мора паблізу Афінаў, тым больш што і яе класічнае імя Атэнайя Палас азначае, выказваючыся сучаснай мовай: Афінская бомба[110], і кумірам яе быў спачатку камень, на імя Скінуты (Palladium), які захоўваўся ў храме, але пад час Траянскай вайны быў выкрадзены Адысеем ці Дыямедам і вывезены невядома куды.

Іншыя міфы паведамляюць, што Афіна была плёнам узаемадачыненняў паміж Няптуном і німфай Трытоніяй і Зеўс толькі прыняў яе ў кола сваіх дзяцей.

Дачка нябеснага скляпення, яна была ворагам Марса, шукаючага толькі бойкі і крывавыя сутыкненні. Яна ўтаймавала жахлівага волата Энкелада, дапамагала толькі героям, выступаўшых на абарону праўды. Яна неадлучна спадарожнічае Геркулесу ў яго цяжкіх прыгодах, дапамагае Пярсею забіць Гаргону-Мядузу. Разам з Герай яна дапамагае Арганаўтам і дапамагае Тэзею здзейсніць свае вычыны супраць цёмных магутнасьцей. Яна навучае мастацтву прасьці і ткаць, даглядаць за нованароджанымі, гуляць на флейце і нават лекаваць розныя хваробы.

У яе гонар былі ўсталяваны сьвяты Панатэней. Штогадова сьвяткаваліся малыя Панатэніі, а пад час трэццяга года бягучай Алімпіяды – вялікія.

Лацінскія рамейцы звалі яе Мінервай, г.азн. багіняй разважання, і таксама паведамляюць, што яе выяве, Паладыуму, было прысвечана штогадовае сьвята, працягваўшаяся 5 дзён, ад 19-га да 23-га сакавіка.

---

[110] Атенайа (βΑθηναία) – Афінская. Палада (βΠαλλάς, Παλλάδος) ад дзеяслова пало (πάλλω) – імкліва кідаю, калыхаючыся б'ю.

Такімі былі сярэднявечныя легенды пра Нябесную Панну, ператварыўшуюся пазней у евангельскую панну Марылю. Разгледзім сьледам за імі і старажытныя зародкі легендаў і пра яе сына «Ратавальніка», дзе астральнае ўжо паглынула амаль усё, што магло існаваць рэчаіснага ў жыцці заснавальніка хрысьціянскай літургіі «Вялікага цара».

Яго класічная выява – напалову бог Феб-Апалон, ён жа Геліёс ці Сонца. Ён быў, як і Хрыстос, сынам Зеўса, народжаным разам з Артэмідай (Дыянай) ад дзяўчыны Леты (Латоны).

Больш позьнія грэцкія пісьменнікі не робяць адрознення паміж Апалонам і богам Сонцам – Геліясам; дакладна так жа і лацінскія змешваюць іх, надаючы абодвум адно асноўнае значэнне – бога сонца. Але міф пра Апалона (якому нададзена назва Феб, у сэнсе сонечных прамянёў, тады як яго маці нададзена імя Лета, г.азн. Схаваная, у сэнсе цёмнай ночы) набыў у сваім пасьлядоўным развіцці такі шырокі сэнс, што яго асноўнае значэнне пад час Эпохі Гуманізму было амаль страчана. Геліёс (ці Гіперыён) ўласна пазначае дзённае сьвяціла, якім яно з'яўляецца на бачным небе, з усімі пераменамі, суправаджаючымі яго з'яўленне на працягу дня і года.

Больш позьнія класікі паведамляюць нам, што ён паднімаўся рана раніцай, толькі толькі ружаперстая Эас (багіня ранішняга сьвітання) абвесьціць пра яго набліжэнне, і нёсся па скляпенню неба ў палаючай калясніцы, на палымяных конях, ноччу ж ён знаходзіўся ў залатых палацах прыгожай Тэфісы.

Ён быў богам актыўнага бадзёрага жыцця: куды толькі дасягалі сонечныя прамяні (ці, выказваючыся мовай гуманістаў, стрэлы Апалона), усё зноў ажывала.

Ён з'яўляецца то вярхоўным апекуном пастухоў, безклапотна забаўляючых сябе жалейкай; то богам лекавання, спрыяючым росту лякуючых хваробы траў; то богам музыкі, сьвятлом і цяплом пранізваючым усю жывую прыроду; то нарэшце богам-прадвесьнікам, лёгка паднімаючым таемную заслону будучыні, разліваючым сваё сьвятло ў далёкія цёмныя межы сусьвету. Лекары, паэты, мастакі карысталіся яго непасрэдным заступніцтвам.

Як бога лекавання, Аполопа-Геліяса клікалі Панам ці Пэанам; як бога музыкі і паэзіі – Ціфарэдам, а як правадыра скопішча муз – Музагетам; у долю яму далі вечнае юнацства і моц. Але ў ім жа часам бачылі і бога сьмерці, злятаючага разам з «ціхай стралой дальнавержца».



1. Юнона з немаўлём Марсам (згодна з Мальерам).



2. Дэметра з немаўлём Бахусам (згодна з Мальерам)




3. Дыяна (згодна з Брока).




4. Салісбюрыйская Багародзіца (згодна з Брока).

Мал. 66, 67, 68 і 69.
Перайначванні Боскай маці пры яе пераходзе ў розныя краіны.

У якасьці Музагета яго малявалі ў доўгім адзенні, спадаючым да зямлі, паверх якога было яшчэ накінута агульнае пакрывала з ахвярнікам богапрадвесніка, а ў званні Эліяса ён уяўляўся з прамянямі сонца вакол галавы, пры гэтым чатыры хуткія кані імчаць яго палаючую калясьніцу па скляпенню неба.



1. Індыйская багародзіца з немаўлём Крышнай-Хрыстом і з Сузор'ямі Задыяка знізу (згодна з Іереміасам).



2. Ягіпецкая богамаці Гатор з немаўлём Азірысам (згодна з Іереміасам).

3. Рамейскі метэарытны камень у выяве апостала Пятра (статуя ў саборы апосталаў у Рыме).



Мал. 70, 71 і 72.
Перайначванні Боскай маці пры яе пераходзе ў розныя краіны.

Нам кажуць, быццам яго выгадавала не маці, а багіня справядлівасьці Феміда, і не малаком, а нектарам і амврозіяй, ад якіх ён праз некалькі гадзін пасьля нараджэння ужо быў бліскучым юнаком. Шмат мясцовасьцей ён прайшоў перш, чым дасягнуў глыбокай Дэльфійскай даліны, дзе зьнішчыў жудасную пачвару, смярдзючага змея Піфона, за што і атрымаў ганаровае імя Піфаса, г.азн. Смярдзючага. Але дарунак прадвесьця яму даў сам яго бацька Зеўс, біблейскі Егова, і таму ў яго вяшчаннях бачылі адлюстраванне наканаванняў стваральніка сусьвету.



Мал. 73
Старажытнае перайначванне евангельскага Хрыста – Апалон Дэльфійскі са сваімі сімваламі: сузор'ем Рыб, крыламі ўзносячымі яго на неба, і лірай паэта.
(Згодна з Гіро: «Прыватнае і грамадзкае жыццё грэкаў».)

Аднойчы Апалон забіў за нешта некалькіх цыклопаў і гэтым абудзіў такі гнеў свайго бога-бацькі, што быў на некаторы час наогул выключаны са згуртавання жыхароў неба. Ён, як просты сьмяротны, пачаў служыць у гэты час на зямлі спачатку ахоўнікам статкаў у свайго сябра фесалійскага цара Адмета, а пазней у той жа якасьці ў Лаомедона ў Малой Азіі. Ад спалучэння Апалона з багінямі і дочкамі сьмяротных нарадзілася шмат нашчадкаў: ад Каранісы – Асклепій, ці Эскулап; ад Крэзы – Іён; ад Каліопы – Арфей і Гімен; ад Таліі – жрацы Кібелы, карыбанты.

Ён надаў дачцэ Глаўка Дэіфабе майстэрства варажбы ў пячоры паблізу горада Кумы ў паўднёвай Італіі, чаму яна і набыла вядомасць пад імем Кумскай Сівілы. Ёй належалі тыя тры сівілавы кнігі, у якіх знаходзіліся прадказанні пра лёсы Рамейскай дзяржавы. Тарквіній Ганарлівы купіў іх у Сівілы, і іх захоўвалі ў Капітоліі, як зрэнку вока да таго часу пакуль, пры Суле, іх не знішчыў вялізны пажар у Рыме.

Яго сястру напалову багіню Артэміду блыталі з Селенай, як і самога Апалона блыталі з Геліясам. Яе звалі Муніхія, г.азн. багіняй месяцовай ночы, Лікіяй, багіняй сьвятла, Дэльфініяй, Дафніяй і Алісай, г.азн. светлым вокам ночы. Яна была двайнічнай сястрой Апалона, народжанай богам-бацькам ад дзяўчыны Латаны, разам з ім, але раней яго. Як Апалон быў увасабленнем сонца, так і Артэміда служыла ўвасабленнем месяца.

Адпаведна з сімвалістыкай зацьменняў сонца і месяца, усе нечаканыя раптоўныя сьмерці лічыліся адбыўшыміся ад Артэміды ці Апалона; пра такіх нябожчыкаў казалі, што мужчыну ўразіў Апалон, а жанчыну – Артэміда «сваёй неадчуваемай стралой».

Багіняй палявання яе пачалі лічыць, напэўна, дзякуючы таму, што каля маладзіка яна набывала форму паляўнічага лука. Часьцей усяго яе малявалі ў

выглядзе стройнай панны, з высока-падпяразанай тунікай, з нагамі, абутымі ў лёгкія сандалі, але гэта, вядома, было ўжо ў больш позніх класікаў Рэнесансу.

Другой варыяцыяй класічных міфаў пра Хрыста быў напалову бог, адкрыўшы людзям віно.

Ніводзін із рамейскіх напаловубагоў не меў столькі розных мянушак пад час Эпохі Гуманізму, як Вакх, якога з гэтай нагоды называлі «шмат імённым». Ён быў, як і евангельскі Хрыстос, – сынам бога-бацькі і дзяўчыны (Семелы) і атрымаў потым найменне Дыфірамб, г.азн. «двойчы народжаны» (памёр і ажыў). Дзяцінства ён правёў весела – сярод німфаў, сатыраў, сіленаў, пастухоў і вінаробаў. А вырасшы, ён прайшоў усе краіны, да самай Індыі, і паўсюль навучаў народы апрацоўваць вінаград і навучаў іх шмат якім мастацтвам. Асабліва ж ён павучаў людзей стаяць за праўду і справядлівасць.



Мал. 74. Піфія, сьвятарка Апалона Дэльфійскага

У сьвіце Вакха, інакш Дыёніса, паўсюдна беглі сатыры, фаўны, вакханкі і сілены. Падчас аднаго із такіх сваіх шэсьцяў на выспе Наксас ён сустрэў Арыядну, дачку Мінаса і, захоплены яе хараством, абраў яе сабе ў жонкі. Але і да яе ў Дыёніса былі плады стасункаў з німфамі і багінямі, напрыклад, ад Афрадыты ў яго нарадзіліся Гіменэй і Прыап.

Такой была другая класічная варыяцыя паданняў пра Вялікага Цара-Месію, якая развівалася паралельна з міфам пра евангельскага Хрыста, ішоўшага павучаць праўдзе ў суправаджэнні сьвіты «распусніц» і даўшага запавет на «таемнай вячэры» піць чырвонае віно ў якасьці ўспаміну пра яго.

Наколькі разнастайнымі былі ўяўленні пра Вакха, такімі ж разнастайныя былі і цырымоніі, якімі суправаджалася шырока-пашыранае ўшанаванне гэтага напаловубога.

Сьвяты ў гонар Вакха – вэрхалы – адрозніваліся такой неўтаймаванай вольнасьцю, што рамейскія законы іх спачатку абмежавалі, а пазьней і цалкам забаранілі, напэўна, дзякуючы пашырыўшымся ад іх венерычным хваробам.

Вакху былі пасьвечаны: вінаградная лаза, плюшч і гранатнік. У ахвяру яму прыносіліся казлы і свінні. Яго выявы ў апісаннях класікаў адрозніваліся незвычайнай разнастайнасьцю. На адных класічных малюнках ён уяўляецца ў выглядзе чалавека сталага ўзросту ў доўгім, да падлогі, адзенні. На іншых ён намаляваны, наадварот, у выглядзе юнака, амаль з жаночымі рысамі. Яго хвалістыя

кучары перавіты плюшчам і вінаграднымі галінамі, а замест адзення накінута скура казулі. На яго твары ледзь заўважаемыя рожкі, адкуль і паходзіць яшчэ ў старажытнасьці выраз «ставіць рогі».

Трэцці варыянт тых жа міфаў пра заснавальніка хрысьціянскай літургіі распаўся яшчэ пад час сярэдневечча на паданні пра двух аднайменных напаловубагоў герміяў ці гермесаў. У Ягіпце яго ведалі пад назвай Гермій Тройчы Найвялікі, бацька ўсіх навук. А ў Рамеі ён вядомы проста пад найменнем Гермеса, але ўжо цалкам з іншымі якасьцямі.

У Рамеі Гермес быў таксама напалову богам, сынам Зеўса і Маі (што азначае – маці-карміцелька), дачкі волата Атласа. Ён стаў богам гандлю і апекуном сяброўскіх міжнародных стасункаў, богам абачлівасьці, хітрасьці і красамоўства, нават апекуном шэльмаў.

Яго нараджэнне ад дачкі Атласа адбылося пад час цёмнай ночы ў адасобленай, схаванай ад позіркаў пячоры аркадзкай гары Кілепы (у сучаснай Марэі). І адразу пасьля нараджэння выявілася яго спрытнасць. Пад час цёмнай ночы ён таемна выйшаў са сваёй пячоры і выкраў лепшую частку статкаў свайго брата Апалона. Выкраўшы потым у Зеўса скіпетр, у Афрадыты пояс, у Пасейдона трызуб, у Арэя меч, у Гефеста шчыты, а ў Апалона, акрамя статкаў, яшчэ і лук і стрэлы, ён усіх пакрыўджаных здолеў развесяліць і размясьціць на сваю карысць.

Аднойчы Зеўс, жадаючы схаваць сваю каханку Іё ад раўнівых перасьледаў Геры, ператварыў яе ў карову, але Гера, даведаўшыся пра гэта, даручыла ставокаму Аргусу назіраць за каровай ва ўсе вочы. Зеўс загадаў Гермесу вызваліць Іё із-пад нагляду Аргуса, але Аргус нават у самым глыбокім сне заплюшчваў толькі пяцьдзясят вачэй, а астатнія глядзелі. Аднак, Гермес зачараваў пільнага вартавога, прыемнымі гісторыямі, а потым пачаў выконваць на жалейцы такія дзіўныя рэчы, што Аргус заслухаўся, і яго вочы пачалі заплюшчвацца адзін за другім. Калі заплюшчылася апошняе вока, Гермес забіў пачвару і вызваліў Іё.

Ён зрабіў лютню не толькі Апалону, але і фіванскаму сьпеваку Амфіёну, і навучыў Паламеда пісаць літарамі. Ён прысутнічае ўсюды, дзе небяспечныя прыгоды патрабуюць развагі, накіроўвае на праўдзівы шлях збіўшыхся з яго, выяўляецца верным памагатым выгнаннікаў і іхным апекуном у чужой зямлі, сярод варожых людзей. Ад Гермеса і Афрадыты нарадзіўся Гермафрадыт, напалову мужчына, напалову жанчына.

На скрыжаваннях дарог Гермесу ставілі, як апекуну дзяржаўных і гандлёвых шляхоў, асобныя выявы ў выглядзе яго галавы, пастаўленай на каменны слуп. Кожны праходзячы побач з такой статуяй (гермай) павінен быў пакласьці тут у гонар яе каменьчык.

Ён быў распарадчыкам ахвяраванняў і сам прынёс у ахвяру некалькіх кароў са статка, выкрадзенага ім у Апалона.

* * *

Паглядзім зараз і на іншых багоў і напаловубагоў класічнага пантэона, як быццам бы ўжо не маючых водгаласаў у евангельскіх паданнях ці ў «Жыціях Сьвятых». Зародкі легендаў пра іх маглі з'явіцца нават пад час першых стагоддзяў нашай эры, існаваць на працягу ўсяго да-куміразмагальніцкага перыяду і прайсьці праз яго да вельмі позьняга часу. Але ў канчатковым выглядзе мы маем паведамленні пра іх толькі ад пісьменнікаў Эпохі Гуманізму ў Заходняй Яўропе.

Феміда, дачка Ўрана і Геі, увасабляла сабой правасуддзе. Яна доўга пярэчыла жаданням Зеўса, але зрабіўшыся нарэшце, яго жонкай, нарадзіла Астрэю (іншае імя Венеры).

На Алімпе, пастаянным месцазнаходжанні Феміды, яе звалі Нябеснай (Ураніяй). На працягу залатога стагоддзя яна, – паведамляюць нам, – асабіста судзіла і навучала людзей правасуддзю, а калі людзі страцілі свае першапачатковыя маральныя дасканаласьці, яна выдалілася зноў у сваё нябеснае жыллё. Гэта зноў – сузор'е Панны.

Дочкі Зеўса і Феміды – «Горы» – былі багінямі пор года. Звычайна прызнавалі трох Гор, выявы якіх суправаджалі атрыбутамі вясны, лета і восені (кветкамі, каласамі, гароднінай). Але на некаторых выявах сустракаецца і чацьвёртая Гора, з паляўнічай здабычай, хаця яна нідзе не названа асобным імем.

Яны суправаджаюць Афрадыту нароўні з харытамі і Апалона нароўні з музамі. Вясновая Гора мела найменне Хларыса, а ў латынянаў ёй адпавядае Флора.

Янус не быў вядомы грэкам, але вельмі высока шанаваўся латынянамі. Некаторыя аб’ядноўвалі Януса з Сатурнам, а іншыя сцвярджалі, што яны розныя і што Сатурн, прагнаны із Грэцыі, сам прыйшоў у Лацыум да Януса, і абодва яны кіравалі народам разам.

З астранамічнага боку гледжання даводзіцца безумоўна прыняць апошні варыянт, таму што Янус сваімі двума тварамі мог адлюстроўваць толькі Меркурый, да якога штогадова заходзіў Сатурн. Адзін із яго твараў – юнацкі – дапасаваўся да таго становішча, калі ён выглядаў із-за сонца раніцай, а другі – састарэлы твар, – калі ён рабіў гэта вечарам. Таму і звалі яго Біфронс (двухаблічны) ці Тэмінус (двайнічнік).

У яго гонар святкавалі першы дзень названага ў яго гонар месяца (студзеня), як пачатак новага года. Нума Пампілій, храналагічна налягаючы ў нас на Вялікага Цара Месію, прызначыў, – пераконваюць нас, – у Рамеі ўсенароднае ўшанаванне Януса... А 1 студзеня і да гэтага часу сьвяткуецца, грунтуючыся на Юліянскім календары, як дзень заснавальніка хрысьціянскай літургіі – Вялікага цара (Васіля Вялікага), ён жа відаць і Юльян.

Бог Пан у перакладзе азначае пастух, па царкоўнаму пастыр, як называў сябе і Хрыстос. Класічны бог зелянеючых далін і горных паш, ён аб’ядноўваўся з Дыёнісам (Вакхам), г.азн. іншай варыяцыяй Хрыста. Аднак, гэты пастыр паважае гульні і скокі, паважае пастухову жалейку, якую і называлі флейта Пана, таму што яна была яго вынаходніцтвам. Пана таксама атачаюць німфы і арэады, скачучыя пад гукі яго сірынксы, ці ратуючыяся ад заканых пераследаў гэтага бога.

Раўназначнай з ім боскасьцю ў латынянаў быў Фаўн, ці Фатус, якому аднак надавалі асобнае паходжанне. Месцы яго аракулаў знаходзіліся звычайна ў гаях. Прыходзіўшыя запытвалі яго, потым прыносілі яму ахвяры і праводзілі ноч на шкурах прынесеных жывёл. У тым, што бачылі ў сне, яны знаходзілі адказ аракула. А жыўшая з ім Фаўна раздавала адказы аракула толькі для жанчын.

Згодна з аднымі паданнямі яна была жонкай Фаўна, а згодна з іншымі – яго дачкой. Пра яе існуе шмат міфаў, але паходжанне і значэнне іх вельмі цёмнае. Яе атаясамляюць то з багіняй Опсай, то з Кібелай, то з маці Бахуса, Семелай, ці з маці Гермеса, Майяй, то з Геяй, то з Гекатай, то са шмат якімі іншымі багінямі. У яе гонар святкавалася асобнае сьвята 1-га траўня, пад час ночы, у вясёлых абставінах, з музыкай, спевамі, скокамі і з «Дыёнісавым плёнам», пры розных дзіўных звычаях і пры ўдзеле толькі адных жанчын.

У дадатак да гэтай апакрыфічнай класічнай тэагоніі, выкладзенай тут галоўным чынам грунтуючыся на кнізе Пеціскуса «Алімп», я паведамлю яшчэ пра Геракла-Геркулеса, асобную варыяцыю біблейскага Самсона – таксама адну із варыяцый «Вялікага цара».

Геракл ужо не лічыцца напаловубогам, хаця і быў такім. Ён нарадзіўся ад Зеўса і Алкмены, жонкі цара Амфітрыёна. Але Амфітрыён, як і Ёсіф, чалавек Марылі, не гневаўся на сваю жонку за яе боскае дзіцё. Наадварот, ён усімі сродкамі імкнуўся, каб лепшыя настаўнікі перадалі Гераклу ваярскія практыкаванні і вытанчаныя мастацтвы.

Першымі вычынамі Геракла былі: забіццё ільва, спусташаўшага на гары Кіферон статкі цара Тэстыя, і вызваленне свайго роднага горада Фівы ад даніны, прызначанай яму яго драпежнымі суседзямі архаменцамі. Потым Геракл выправіўся за парадай да аракула і той адказаў, што яму патрэбна выканаць 12-ць выпрабаванням дадзеных Эўрысфеям, каб заслужыць сабе неўміручасць. Геракл пайшоў, як Хрыстос, у пустыню і пасьля доўгага, зацятага змагання з самім сабой, з'явіўся да Эўрысфея, каб накласьці на сябе цяжкае выпрабаванне. Дванаццаць даручэнняў, дадзеных адно за другім, ён выканаў самай бліскучым чынам.

1) Перадусім ён задушыў так званага Нямейскага ільва, які ў лясах і на палях Аргаліды рабіў жахлівыя спусташэнні, не баючыся ні стрэл, ні дзідаў. Геракл ахапіў яго шыю сваімі магутнымі рукамі, паваліў, як біблейскі Самсон-сонца, на зямлю і задушыў яго. Злупіўшы скуру, Геракл надзеў яе на сябе. Гэта было навеяна сонечным зацьменнем у пашчы сузор'я Ільва пры заходжанні сонца.

2) У той жа вобласьці лютавала пачвара з сотняй галоў, якія адразу ж выраслі зноў, як толькі адну із іх знішчалі. Гэта – Гідра, празваная Лернайскай і зававліваючая ў балота людзей і жывёл (сузор'е Гідры пад Ільвом). Геракл адсякаў серпаватым мячом яе галовы, адну за другой, а Іалагай прыпякаў іх і тым перашкаджаў вырастанню новых.

3) Цар загадаў Гераклу дастаць яму лань, прысьвечаную Артэмідзе. Яна была з залатымі рагамі, на медзяных нагах, спаборнічаўшая шпаркасьцю з нагорным ветрам і звалася Керынейскай. Геракл нястомна пераследаваў яе на працягу цэлага года, параніў і пранёс на плячах па Аркадыі.

4) Эрымантыйскі люты кабан наводзіў жах на ўсю Фесалію. Геракл узваліў драпежніка да сябе на плечы і так хутка і нечакана з’явіўся са здабычай перад царом Эўрысфеем, што той ад перапалоху схаваўся ў бочку.

5) Гераклу было загадана ачысьціць увесь жывёльны двор Аўгія, дзе доўгі час стаялі тры тысячы валоў. Гною набралася неймаверная колькасць. Геракл пракапаў роў ад гэтага двара да рэк Алфей і Кладэй і пусьціў іхную ваду ў агароджу. Двор ачысьціўся сам сабой.

6) Эўрысфей загадаў Гераклу прагнаць Стымфалід, вялізных драпежных птушак, з жалезнымі крыламі, дзюбамі і кіпцюрамі, жыўшых каля возера Стымфала і здольных кідаць свае пёры як стрэлы, а дзюбамі прабіваўшыя нават медзяныя латы. Яны забівалі ў наваколлі шмат людзей і жывёл. Але Геракл павярнуўся і раптам пабачыў Афіну. Багіня ўручыла яму дзьве медзяныя трашчоткі і знікла. Стымфаліды папалохаліся іхнага жахлівага трэску і падняліся ў паветра, дзе Геракл сваімі стрэламі забіў шмат з іх на-ляту.

7) Эўрысфей загадаў Гераклу ўтаймаваць лютага быка (сузор'е Цяляці, адлюстроўваемае Арыёнам), спусташаўшага пашы на выспе Крыт. Геракл адолеў раз'юшаную жывёлу і з'явіўся ў Мікены са здабычай на плячах. Але Эўрысфей

выпусьціў быка, які не замарудзіў спустошыць палі ў пладаноснай Марафонскай даліне ў Атыцы.

8) Геракл быў выпраўлены за коньмі фракійскага цара Дыямеда, якія былі больш падобнымі на тыграў. Геракл адважна сустрэў лютых пачвар, знішчыў іхнага лютага правадыра, а яго коней, утаймаваўшы, даставіў да Эўрысфея, але цар загадаў прагнаць іх далей, у цясніны гор, на ахвяру дзікім звярам.

9) Цар загадаў Гераклу, чаго б гэта ні каштавала здабыць ваярскі тальмах Гіпаліты, царыцы амазонак. Геракл адшукаў Гіпаліту, пачаў змаганне з ёю і з усёю рацццю яе ваяўнічых сябровак і, здабыўшы тальмах, паднёс яго дачцэ Эўрысфея.

10) Цар выправіў яго на выспу Эрытыя на акіяне адбіць у валадара выспы Герыёна яго шматлікія статкі. Ні волат Герыён са сваімі трыма тулавамі, ні люты трохгаловы сабака, вартаваўшы статкі, не змаглі выстаяць пад ударамі яго булавы. Геракл забіў абодвух, статкі ж прывёў у Мікены.

11) Гераклу загадалі здабыць із саду Гесперыд некалькі залатых яблыкаў. Нікому не было вядома, дзе гэты сад, але Гераклу дапамог волат Атлас. Геракл прабраўся туды, забіў цмока, сьцярогшага плады, і набраў сабе залатых яблыкаў колькі пажадаў. За гэта Геракл павінен быў дапагчы Атласу і некаторы час трымаў за яго купал неба.

12) Цар загадаў Гераклу прывесьці із Аіда яго зубатага вартаўніка Цэрбера. Не вытрымалі тамтэйшыя медзяныя дзверы напору плячэй Геркулеса, таму што сама Афіна дапамагала яму. Павагаліся дзьверы пекла на сваіх падставах і паваліліся так, што ўсе скляпенні нябеснага царства патрэсліся да самога верху. Пераможна з'явіўся Геракл да Эўрысфея з Цэрберам і зноў аднёс яго на ранейшае месца. Гэты вычын нагадвае апусканне ў Пекла евангельскага Хрыста і навеяны землятрусам.

Такое заканчэнне мела рабства Геракла, прызнчанае для яго багіняй Герай.

Тут мы бачым ужо новы варыянт міфа пра Вялікага Цара Месію, побач з міфам пра прарока Іллю і пра евангельскага Хрыста, але тут міф ускладніўся.

Акрамя гэтых 12 вычынаў, адпавядаючых 12 месяцам года, Геракл здзейсніў і шмат яшчэ іншых. Так, у Ягіпце цар Бузірыс, сын Пасейдона, адпаведна з парадай аракула, прыносіў у ахвяру Зеўсу кожнага чужынца, прыходзіўшага ў яго зямлю. Геракла таксама звязалі і прызначылі Зеўсу, але герой разарваў свае повязі, забіў аракула, параіўшага такія ахвяры, а за ім і самога Бузірыса, і ўзяў удзел у паходзе Арганаўтаў.

Потым, ён вярнуўся ў Фівы, дзе запаў у вар'яцтва і нават ашалеў у сьвяцілішчы Дэльфійскага аракула. Але жрыца Апалона абвясьціла, што ён пазбавіцца ад хваробы, калі зноў праслужыць рабом тры гады. І вось, ён паступіў на службу да лідыйскай царыцы Амфале і акрыяў.

Цар горада Іліёна (Троі) Лаамедон абяцаў таму, хто вызваліць яго дачку, Гезіену, ад марской пачвары, адружыць яе з тым. Геракл выратаваў Гезіену, але абяцанага не атрымаў і таму пайшоў вайной на цара, заключыўшы хаўрус з іншымі героямі: Тэламонам, Пелеем і Анклесам. Тэламон першым залез на сьцяну. Троя была захоплена, Лаамедон і ўсё яго сямейства загінулі ад стрэл Геракла. Толькі Гезіена засталася жывой, ды яе брат, Падаркес: Гезіена, дастаўшыся пераможцу Тэламону, упрасіла яго захаваць жыццё свайму брату, што і было выканана.

А Геракл пачаў шукаць сабе адружання з Іёлай, дачкой эхалійскага цара Эўрытоса. Ён выканаў усе абавязкі, прызначаныя яе бацькам, але абяцанай Іёлы таксама не атрымаў. Ён адружыўся з нейкай Дыянірай, вытрымаўшы праз яе

*ўзвялічылі яе, усхвалілі яе мае царыцы і наложніцы. Хто гэта, гледзячая як світанак, прыгожая як месяц, светлая як сонца, грозная як палкі са сьцягамі?*

ЯНА (да публікі):

*Пайшла я ў арэхавы сад паглядзець на зеляніну пры струмені, паглядзець, ці распусьцілася вінаградная лаза, ці заквітнелі гранатавыя яблыкі і я не ведаю, як душа мая пацягнула мяне да каляснiц шляхетных майго народа.*

ХОР ЮНАКОЎ (ёй):

*Азірніся, азірніся, Святаградка! Азірніся, азірніся, каб мы паглядзелі на цябе.*

ХОР ДЗЯЎЧАТ (хору юнакоў):

*Што вы гледзіце на Святаградку, як на двухшараговы карагод?*

ХОР ЮНАКОЎ:

*О, якімі прыгожымі з'яўляюцца твае ногі ў сандалях, шляхетная дзяўчына! Акругленне тваіх сьцёгнаў як каралі, зробленыя рукамі мастака; твой пуп – круглая чарка, із якой не выліваецца духмянае віно; твой жывот як ворах пшаніцы, абстаўлены лілеямі; два твае сасцы як два казьляняткі, двайнікі серны; твая шыя як вежа са слановай косткі; твае вочы як азёрцы разважання, што каля брамы Дачкі Вялікіх; твой нос як вежа Белай Гары, стаячай тварам да Горада Спадчыннай Улады. Галава на табе як Гара Садоў, і прадкі волас на тваёй галаве як пурпур. Цар палонены тваімі косачкамі.*

ЁН (ёй):

*Якая ты прыгожая, якая ласкавая, любая, з тваімі харастмамі! Твой стан падобны на пальму і твае грудзі на вінаградныя гронкі. Я падумаў: узлез бы я на гэтую пальму, ухапіўся б за яе галіны. Твае грудзі былі б мне замест гронак вінаграду, і пах ад тваіх ноздраў – як ад яблыкаў. Твае вусны – як выдатнае віно.*

ЯНА (да публікі):

*Яно цячэ прама да майго сябра, цешыць вусны стомленых. Я належу майму сябру, і на мяне накіравана яго жаданне.* (Яму:) *ідзі, мой сябар, выйдзем у поле, будзем начаваць па вёсках. Ранняй раніцай пойдзем у вінаграднікі, паглядзім, ці распусьцілася вінаградная лаза, ці расчыніліся кветкі, ці заквітнелі гранатавыя яблыкі. Там я аддам табе мае ласкі. Мандрагоравыя яблыкі кахання ўжо выпусьцілі свой водар, і каля нашых дзвярэй розныя цудоўныя плады, новыя і старыя. Я зберагла іх табе, мой сябар. О, калі б ты быў мне братам, смактаўшым грудзі маёй маці! Тады я, сустрэўшы на вуліцы, цалавала б цябе, і мяне не асуджалі б. Я прывяла б цябе ў сядзібу маёй маці. Ты вучыў бы мяне, а я паіла б цябе духмяным віном, сокам гранатавых яблыкаў.* (Да публікі): *Вось, левая рука яго ў мяне пад галавой, а правая абдымае мяне.* (Хору дзяўчат): *Замаўляю вас, дзяўчыны Святаграда: не будзіце, не абуджайце каханне, пакуль яно не прыйдзе.*



Мал. 76.
Парэшткі Дыянісіевага храма-тэатра-цырка ў Афінах у наш час. (Згодна з Гіра: «Прыватнае і грамадзкае жыццё грэкаў».)

ХОР ЮНАКОЎ:

*Хто гэта выходзячая з пустыні, абапіраючаяся на свайго сябра?*

ЯНА (яму):

*Пад яблыняй разбудзіла я цябе. Там нарадзіла цябе твая маці, там нарадзіла цябе твая родная. Прыцісьні мяне, як пячатку, да твайго сэрца, прыкладзі як пячатку, на тваю руку, таму што каханне моцнае, як сьмерць, а рэўнасць лютая, як апраметная. Стрэлы яе палымяныя. Яна – полымя бога-Грамабоя. Вада мора не здолее патушыць каханне і рэкі не зальюць яго. Калі б хто меў жаданне купіць каханне за ўсе багацці сваёй сядзібы, то быў бы прагнаны з пагардай.* (Харам:) *Сястра наша малая, і няма ў яе грудзей. Што нам рабіць з нашай сястрой, калі будуць сватацца за яе?*

ХАРЫ:

*Калі б яна была сьцяною, то мы пабудавалі б на ёй палац са срэбра; калі б яна была дзьвярамі, то мы аздобілі б яе кедравай фанерай.*

ЯНА (харам):

*А я – як сьцяна, і сасцы ў мяне – як вежы. Таму я і была ў вачах яго як дасягнуўшая паўнаты. Вінаграднік быў у Цара-Міратворцы ў яго шматлюднай сталіцы. Ён аддаваў яго ў наём вартаўнікам. Кожны павінен быў даваць яму за плады яго тысячу срэбранікаў. А мой вінаграднік у мяне каля сябе. Тысячу срэбранікаў даю я табе, Цар-Міратворац, а дзьве сотні срэбранікаў – пільнуючым плады яго.*

ЁН (ёй):

*Жыхарка садоў! Таварышы мае прыслухоўваюцца да твайго голасу дай і мне паслухаць яго.*

ЯНА (яму):

*Бяжым, мой дружа, зробімся падобнымі на серну ці на маладога аленя на горах духмяных дрэваў.*

Абодва збягаюць.

* * *

Я лічу, што пры чытанні гэтай відавочна тэатральнай п'есы чытач ужо не раз задаваў сабе пытанне: якім жа чынам яна патрапіла ў шэраг кніг «Сьвятога пісання

Старога Запавету», якім чынам яна патрапіла ў Біблію, якую належыць чытаць у поўным пашаны настрої?

Са звычайнага боку гледжання гэта відавочна немагчыма, а з новага боку гледжання, які я тут абгрунтоўваю, – гэта цалкам натуральна. Першапачаткова набажэнствы не гатаваліся, як зараз, выключна на нішчымчым масле, а спрабавалі заваблівацъ у храмы і падахвочваць да царкоўнага ахвяравання больш простымі спосабамі. І галоўнымі із гэтых спосабаў былі: ап'яненне сьвятым напоем із закісшага вінаграднага соку і спадарожнічаўшыя яму вэрхалы. Царква, цырк, тэатр і месца публічнай прастытуцыі яшчэ не аддзяліліся адно ад другога (мал. 75-81).

І спатрэбілася, як я ўжо даводзіў у V томе, вялізнае пашырэнне храмавых венерычных захворванняў, каб ператварыць гэтую першапачатковую вясёлую літургію ў сучасную хрысьціянскую толькі з адной лыжачкай прычашчальнага віна замест ранейшай поўнай чаркі.

Біблейскія прароцтвы, як толькі ў нас атрымалася вызначыць, што яны дапасуюцца да VI-VIII стагоддзяў нашай эры, навочна паказваюць нам, як пачалася адплата за гэтую храмавую распушчанасць.

У той час, з аднаго боку ў дзяржаўных храмах-цырках акторы-сьвятары тэатральна малявалі сабой прыходы і выдаленні багаў і багінь, а з другога боку напалоханыя громамі Апакаліпсіса апазіцыянеры-ўцекачы ў Ягіпце і Заходняй Азіі, а магчыма нават і ў аддаленай Гішпаніі, заснавалі сваю асобную багазмагальніцкую секту. Шукаючы натхнення ўназіранні за рухамі нябесных сьвяціл, у зацьменнях сонца і ў з'яўленні нябесных мячоў-камет, яны ўжо тады стваралі сваю асобную прароцкую літаратуру, якая дзякуючы нейкай іроніі лёсу патрапіла ў тую ж самую Біблію, дзе змяшчаецца і «Песня песень».

Здзіўляючы кантраст паміж біблейскай прароцкай літаратуры і толькі што прыведзеным узорам я зараз пакажу. Яна, – як быццам, прывід сьмерці, – ужо заносіць сваю касу над гэтым першапачатковым вясёлым хрысьціянска-дыянісічным культам.

Вось, прароцтва Іезекі-Іл, г.азн. Пераможа Бог. Яно ўсё – відавочнае перайманне Апакаліпсіса.



1. Перад выхадам на падмосткі.

2. Трагічны актор.





3. Камічны актор.

Мал. 77, 78 і 79.

Рамейскія старажытныя акторы. Пастановы ладзіліся ў адпаведных масках. (Згодна з Гіра: «Прыватнае і грамадзкае жыццё грэкаў».)



Мал. 80

Старажытны рамейскі цырк-тэатр-царква. 1. Выява із Камедыі.



Мал. 81

2. Парэшткі старажытнага стадыёна ў Афінах. (Згодна з Гіра: «Прыватнае і грамадзкае жыццё грэкаў».)

Яго астранамічная частка ўжо выкладзена мной ў I томе «Хрыста». Яна дае для спалучэння планет, пазначанага ў першай частцы гэтай кнігі, поўневую поўнач

з 5 на 6 чэрвеня 453 года праз 58 гадоў пасьля Апакаліпсіса, і, акрамя таго, атрымліваецца прыдатным спалучэнне планет яшчэ пад час поўневай поўначы 16 чэрвеня 1307 года. Дата 453 года была праз 58 гадоў пасьля апакаліптычнага спалучэння планет у 395 годзе, а дата 1307 года праз столькі ж гадоў пасьля апакаліптычнага спалучэння планет 12 верасня 1249 года. Астранамічна абодва рашэнні задавальняюць. Сатурн, Юпітэр і Месяц былі пад нагамі Змеятрымальніка ў Скарпіёне, як і апісана, ды і Марс вымалеўваў тую ж эпіцыклічную пятлю, пры Сонцы, Меркурыі і Венеры – каля Двайнят («Херувімаў»), што бывае толькі ў чэрвені. Нават выказванне ў главе XXXVIII пра «Гога ў краіне Магог» (г.азн. Гуне ў Манголіі), валадара Русі-Масковіі (РАШ-МОСК), адпавядала б існаваўшаму ў XIV стагоддзі «мангольскаму ярму», аднак гэтае выказванне магло быць пазнейшым дадаваннем, а для асноўнага тэксту, відаць, патрэбна прыняць для Іезекі-Іла 6 чэрвеня 453 года, а для Апакаліпсіса 30 верасня 395 года.

Не паўтараючы ранейшых вылічэнняў, існуючых у маіх кнігах «Адкрыццё ў навальніцы і буры» і «Прарокі», і ўжо рэзюмаваных у І томе «Хрыста», я тут разгледжу толькі літаратурны бок «Іезекі-Іла».

Вось, некалькі вытрымак із яго.

**Із главаў V, VI і VII.**

– *Сын чалавека*! – *загадаў мне бог-Грамабой*[119], – *вазьмі сабе брытву цырульніка, пагалі сабе галаву і бараду і падзялі свае валасы адпаведна з вагой на тры роўныя часткі. Адну траціну спалі ў палымі на абложаным табой камені, калі скончыш дні яго аблогі. Другую траціну пасячы і раскідай вакол яго, а трэцюю частку развей па ветру, але пакінь із яе невялікую колькасць валасінак і завяжы іх ашчадна ў твой пояс.... Аднак, і з іх кінь некалькі ў полымя і паведамі дзецям Богазмагальніка* (г.азн. «Вялікага цара Месіі»):

– *За тое, што большая частка із вас горш чым паганцы, трэцяя частка із вас памрэ ад маравой язвы і будзе вынішчана голадам, трэцяя частка загіне ад мяча ў наваколлі вашага горада, а астатнюю траціну я развею па ўсіх вятрах! Слухайце ж мяне, горныя вяршыні Богазмагальніка! Вось, я сам падніму на вас меч, знішчу вашы храмы, разбуру вашы ахвярнікі, паб'ю вашы слупы ў гонар сонца і кіну трупы вашы перад вашымі стодамі, а косткі вашы раскідаю вакол вашых ахвярнікаў! Але я збяру із асяроддзя народаў вашы рэшткі! І згадаюць ацалеўшыя із вас пра мяне сярод чужых народаў!*

– *Так, надышло заканчэнне чатыром краям зямлі! Розка ўжо вырасла, ганарыстасць паспела для яе! Прыйшоў час, надышоў дзень! Набыўшы хай не цешыцца, і прадаўшы не смуткуе, ён ужо не вернецца да прададзенага ім, хаця б і застаўся жывым! Прарочае бачанне* (камета?) *не скасуецца, і ніхто не выратуе сваё жыццё няправасьцю*!

– *Пышнасць маю вы ператварылі ў прадмет ганарыстасьці, вы наладзілі ў маім* (нябесным) *храме розныя брыдоты і гнюсныя пастановы, і за тое я сам ператвараю мой храм у брыдоту. Я знішчу гонар магутных, апаганю іхныя сьвятыні! Цар будзе плакаць, князь прыйдзе ў жах, а просты народ будзе ламаць свае рукі ад роспачы.*

– «*Як яны паставіліся да мяне, так і я пастаўлюся да іх; як яны судзілі мяне, так і я буду судзіць іх*».

А вось, і яшчэ нешта падобнае.

*Із главы XVI.*

– *Сын чалавека, – сказў мне Грамабой, – паведамі Надзеі Заспакаення* (месіянскай царкве пятага стагоддзя): – *ты нарадзілася ў нізіннай краіне, бацька твой быў Слова Бога, а твая маці – Пакора, і ніхто не абразаў тваю пупавіну пры нараджэнні, не абмываў цябе і не абвіваў пялёнкамі! Нічыё вока не злітавалася над табой, і ніхто не*

---

[119] Па-жыдоўску – Іеве (יהוה), на-лаціне – Іевіс (Ю-Пітэр = Іеве-Патэр,) па-грэцку – Зеўс (г.азн. Жывучы). Я пакідаю грэцкае вымаўленне, як асноўнае.

*зрабіў табе літасьці, калі ты была кінута на полі ў дзень твайго нараджэння, як самая вартая жалю істота! Але, праходзячы побач, я пабачыў цябе, плаваючую ва ўласнай крыві* (ад абваліўшыхся на цябе перасьледаў), *і загадаў: – «Акрываўленая! жыві!»*

*І я расьціў цябе, як палявую расьліну. Твая худнеча знікла, і ты ператварылася ў прыгажуную із прыгажунь. Тваe валасы забуялі, грудзі папаўнелі, і надышоў час твайго кахання, апрануў я на цябе карункавае адзенне, абуў цябе ў кветкавыя сандалі і аперазаў ягіпецкай тканінай. Я надзеў бранзалеты на тваe рукі і каралі на тваю шыю. Я ўсунуў завушніцы ў тваe вушы і ўсклаў на тваю галаву вянок славы.*

*І пашырылася тваё імя паміж народамі, і хараство тваё было дасканалым у маім убранні.*

*Але вось ты паспадзявалася на магутнасць свайго хараства і кінулася ў распусту. Карыстаючыся сваёй славай, ты пачала аддавацца кожнаму праходзячаму. Ты ўзяла падараванае мной табе адзенне, разаслала яго для ўпрыгожвання сваіх ахвярнікаў і падманвала мяне на іх, як яшчэ ніколі не бывала і не павінна быць! Ты брала ўпрыгожванні із майго срэбра і золата і рабіла сабе з іх выявы для ўшанавання і адпадала з імі ад праўды. Ты апранала іхнае ўзорыстае адзенне і прыносіла ім, як ахвяру, маё масла, фіміям, мёд і хлеб із самай лепшай пшаніцы, якую я табе даваў, і гэтым завабілівала ў пастку маіх дзяцей і занявольвала іх з дапамогай тваіх таемстваў. І не згадала ты дні свайго юнацтва, калі ты была голая і валялася ў крыві перасследаў! Ты пачала ўсіх перасследаваць, ты наладзіла сабе кумірні і каплічкі на кожнай вуліцы!*

*На ўсіх перакрыжаваннях дарог ты наладзіла сабе прытоны распусты і ганьбавала хараство сваё, зазываючы да сябе кожнага сустрэчнага. Ты падманвала мяне з дзецьмі Прыгнятальнікаў, з тваімі велікарослымі суседзямі, падманвала з дзецьмі Правадыроў і асабліва ў зямлі Нізіннай, да самых яе раўнін. І ва ўсім гэтым ты дзейнічала не як прадажная жанчына, шануючая гасьцінцы, і не як падманлівая жонка, таемна прынімаючая замест свайго чалавека чужых, – не, ты сама давала гасьцінцы тваім каханкам, каб яны з усіх бакоў прыходзілі падманвалі мяне з табой!*

*За гэта выслухай жа мой прысуд, распутніца!*

*Вось, я збяру ўсіх тваіх каханкаў і пастаўлю цябе голай перад імі і яны пабачаць тваю ганьбу і ілжывасць, і тваё зневажэнне, яны спустошаць тваю кумірню і тваe каплічкі! Яны спаляць палымем тваe сядзібы і выканаюць над табой мой прысуд на вачах шматлікіх жанчын. І спыняцца тады тваe падманы, і ты не будзеш больш даваць гасьцінцы сваім каханкам! Ты дачка годная сваёй маці* (праваслаўнай царквы), *якая занядбала сваім чалавекам і ўсімі сваімі дзецьмі. Ты сястра, як і тваe сёстры, таксама занядбаўшыя і чалавекамі, і дзецьмі. Твая сястра «Захавальніца Веры»* (праваслаўная рэлігія?) *жыве са сваімі дочкамі на поўнач ад цябе. Твая малодшая сястра Садома* (мікалаіцства V стагоддзя?) *жыве на поўдзень са сваімі дочкамі, але і яна не рабіла таго, што рабіла ты! А Захавальніца Веры не нарабіла і паловы тваіх брыдот! Ты, зганіўшая сясьцёр сваіх, перасягнула іх і апраўдала іх перада мной!*

*І за гэта я вызвалю палонных Содомы і Захавальніцы Веры із падуладных ім мясцовасьцей, разам з тваімі палоннымі, каб ты была зганьбавана і сарамелася таго, што рабіла для ўсцехі сваіх каханкаў!*

*Але нават і пасарамаціўшы цябе, я памятаю мой адружальны хаўрус заключаны з табой пад час дзён тваёй юнацкасьці. Я аднаўлю яго пазней, і ты даведаешся, што я – Грамабой!*

**Із главы XXIII.**

*– Сын чалавека! Былі дзьве дочкі ў адной маці* (старажытна-месіянскай царквы). *Пад час ранняй маладосьці яны збіліся з праўдзівага шляху ў Краіне Прыгнёту, і завялі там іхныя цнатлівыя грудзі.*

*Старэйшая* (арыянская царква?) *была маім Качавым Намётам, а малодшая* (месіянская царква V стагоддзя?) *Шатамі майго адпачынку. Першая мела найменне Захавальніца Веры, а другая Надзеяй Заспакаення.*

*І захапіўся мой «Качавы Намёт»* (арыянская царква) *сваімі каханкамі і добразычліўцамі, валадарамі апранутымі ў парфіру, кіруючымі і кіраўнікамі горадоў, ададранымі прыгажунамі спрытна ездзячымі на конях. Яна апаганьвала сябе паганымі выявамі ўсіх, з кім яна злучалася, не пакінуўшы пры гэтым сваёй распусты і з Прыгнятальнікамі, каханкамі сваёй маладосьці, паведамляўшымі ёй свае заганы. Затое і аддаў я яе ў іхныя рукі* (г.азн. падпарадкаваў іхнай свецкай уладзе), *і агалілі яны і яе і дачок яе, і набыла яна зараз самае ганебнае імя паміж жанчынамі*.

*А сястра яе – Шаты Майго Адпачынку* (месіянская царква V стагоддзя) – *бачыла ўсё гэта, але зрабіла яшчэ горш чыя яна ў сваіх прыхільных сувязях.*

*Яна таксама заваблівала да сябе валадароў, кіраўнікоў і кіруючых гарадамі, апранаўшыхся ў парфіру і спрыяючых ёй, але не абмежавалася гэтым. Пабачыўшы мужчынскія выявы нападобе паганскіх багаў, напісаныя фарбамі на сьценах* (храмаў), *з доўгімі павязкамі па галовах, нешта накшталт царскіх целаахоўнікаў, падобных на сыноў «Брамы Госпада» із Дз'яблавай краіны, іхнай радзімы, яна закахалася ў іх і выправіла амбасадараў у іхнае царства. І прыйшлі сыны «Брамы Госпада» да яе на кахальны ложак* (падзялілі месіянскія чаканняі), *і яна захапілася мацней, чым наложніца, гэтымі людзьмі, у якіх целы як у аслоў, а пажаднасць як у жарабцоў, а потым адчула да іх агіду* (г.азн. пачала ўхіляцца ад хаўрусаў са свецкай уладай V стагоддзя).

«*Вось чаму, Шаты Майго Адпачынку, я падніму з усіх бакоў супраць цябе гэтых тваіх каханкаў, да якіх ты ўжо адчула агіду, дзяцей «Брамы Госпада», усерабаўнікоў, кіраўнікоў, вольнанаёмных і дзіданосцаў, а з імі і ўсіх тваіх валадароў, адборных прыгажуноў, ваявод і шляхетных асоб, і ўсіх спрытных вершнікаў. Яны прыйдуць на цябе на конях і калясніцах, з сякерамі і шматлікім войскам. Яны абступяць цябе колам у латах і шлемах са шчытамі і кальчугамі, і забяруць у цябе тваіх сыноў і дачок, а тое, што застанецца ад цябе – аддадуць на пажыранне полымю. Ты пайшла па шляху сваёй сястры, і за гэта я дам табе ў руку яе горкую Чарку, і ты вып'еш яе да дна, абліжаш яе чарапкі і раздзярэш ад роспачы свае грудзі.*

**Із главы XXIV.**

– «*Сын чалавека! Цар-город*[120] *кажа пра Надзею Заспакаення* (месіянскую царкву): «*Разбурана яна, дзьверы народаў ідуць пад маю ўладу, і я пабагацею ад яе знішчэння*!»

«*За гэтыя словы я вось іду на цябе, Цар-Горад! Я падніму супраць цябе шмат якія народы, як мора пад час бурану паднімае свае хвалі. Я прывяду на цябе з поўначы князя Брамы Госпада*[121] *цара над царамі. Пыл ад шматлікіх коней яго накрые цябе, Цар-Горад! І сьцены твае задрыжаць ад шуму яго вершнікаў, колёс і калясьніц, калі ён будзе заходзіць у твае брамы, як заходзяць ва ўмацаванне праз пралом. Ён вытапча твае вуліцы капытамі сваіх коней, пераб'е тваіх падданых і скіне на зямлю ўсе твае манументы, узведзеныя ў якасьці пазначэння тваіх былых перамог. Я прымушу замоўкнуць галасы тваіх песень, і гучання гуслей тваіх ужо не будзе чуваць у табе праз грукат твайго падзення. Здрыгануцца выспы, і ўсе валадары ўзбярэжжаў мора складуць із плячэй сваіх барвяніцы і карункавыя ўборы і, апрануўшыся ў адно трапятанне, сядуць на зямлю і будуць бедаваць па табе. Яны падымуць па табе горкі плач і скажуць*:

– «*Як загінула ты, знакамітая Цьвярдыня, заселеная мараходамі, валодаючая марамі, наводзіўшая жах на ўсіх насельнікаў выспаў і ўзбярэжжаў*»!

---

[120] Па-жыдоўску צר (ЦР) ці צור (ЦОР) – вядома, Цар-Горад, а ніяк не вартае жалю мястэчка на поўнач ад Палестыны, на скале.

[121] Ён названы Наву-хадано-сар, але гэтае імя складаецца із трох частак: Нева – напэўна, новы (поуіз); хадон – цяжка вызначаемае слова, і сор па-жыдоўску – ЦР – г.азн. цар.

«*Так, я накірую на цябе, Цар-Горад, марскую бездань, і накрые цябе шматлікая вада! Я скіну цябе да пайшоўшых у магілы, размяшчу ў апраметнай зямлі, у пустынях вечных, каб ты ўжо не вярнуўся на зямлю, і аднаўлю сваю славу ў краіне жывых*!»

**Ці не дадаванне ўжо гэта чытач, з часоў крыжовых паходаў? Ці не апісанне захопу Цар-Горада крыжакамі? Міжволі здаецца, што гэтая кніга вельмі дапоўнена і канчаткова адрэгавана толькі ў XIV стагоддзі нашай эры.**

Потым пасьля некалькіх астралагічных апісанняў неба аўтар заканчвае так:

**Із главы XLIII.**

«*І вось, Слава Бога Богазмагальніка* (ранішнія зараніца) *прыйшла зноў у сьвет па ўсходяму шляху, і ўся зямля асьвятлілася ёю, а голас Грамабоя даносіўся да мяне, як шум вялікай вады. Гэта было такое ж бачанне, якое з'яўлялася да мяне і раней, калі я прыходзіў абвясьціць пагібель Вялікай Цьвярдыні, і такое ж, якое было на рацэ Хабур. І я зноў паваліўся на свой твар. Але натхненне падняло мяне і прывяло мой позірк да ўнутранага двара палаца* (у паўночную вобласць неба). *Слава Будучага бога* (ранішнія зараніца) *ужо напаўняла яго, і мне чуўся адтуль* (у шуме ветру) *голас*:

*– Сын чалавека! Вось месца майго пасада, падножжа ног маіх! Тут я вечна буду жыць пасярод дзяцей Богазмагальніка, і не будуць больш апаганьваць маё імя ні яны самі, ні іхныя цары сваёй распустай і гідкімі ахвярамі на сваіх ахвярніках. Цары паставілі парог свой нароўні з маім парогам і вярхі брамаў сваіх нароўні з маімі брамамі, яны наладзілі пасярэдніцтва* (візантыйска-рымскай царквы*) паміж сабой і мной, і за гэта я загубіў іх у сваім гневе*.

«*Пакажы ж, сын чалавека, гэты палац нябёс дзецям Богазмагальніка. І калі яны засаромеюцца таго, што рабілі, патлумач ім яго малюнак і яго механізм, і ўсе яго ўваходы і выхады!»*

Я не маю намеру тут без канца распавядаць пра прароцтвы таго часу. Яны дастаткова аднастайныя, як гэта можна бачыць хаця б із кнігі «Ерамія».

«*Ідзі*, – загадвае Грамабой, – *і закрычы ў вушы Надзеі Заспакаення* (месіянскай царкве) *мае словы*: *Я зноў згадваю пра дні твайго юнацтва, пра тваю прыхільнасць да мяне, калі ты была маёй нарачонай і пайшла сьледам за мной у пустэльную і незаселеную зямлю*»...

«*Падымі ж твае вочы і паглядзі: каму і дзе не аддавалася ты з тых часоў? Каля дарог сядзела ты для праходзячых, як аравіцянін у пустыні! Ты апаганіла ўсю зямлю сваёй распустай, і за гэта былі мной затрыманы дажджы* (намёк на засуху). *Але вось, калі за ўсе твае хітрыкі, адступіўшаяся дачка Богазмагальніка, я даў табе, нарэшце, разводны ліст, тады вераломная твая сястра, Слава Грамабоя, не спалохалася гэтага і таксама пайшла распуснічаць з каменнымі і з драўлянымі стодамі* (г.азн. ушаноўваць іх) *і толькі на выгляд звярталася да мяне! І вось, ты выявілася больш праўдзівай, чым твая сястра. Вярніся ж да мяне, адступніца Богазмагальніка! Я не выкажу табе свай гнеў, я міласьцівы і не буду вечна абурацца!»*

Параўнаеце самі гэтае месца з XVI главой Апакаліпсіса (а потым і з XVII главой) і вы пабачыце, што ўсё яно ўяўляе із сябе толькі далейшае развіццё выказаных там думак і папрокаў, цытуючы із іх шмат літаральных выказванняў.



Мал. 82
Сузор'е Скарпіёна. (Са старажытнай лацінскай Астраноміі.)

Але «Пераможа Бог», як я ўжо паказаў астранамічным вылічэннем у папярэднім выкладанні[122], увесь напісаны пасьля Апакаліпсіса. Калі палічыць (для чаго, дарэчы, не існуе падставаў), што датаванне главаў у ім аднастайнае, то яго глава XVII, з дзвума, такімі ж як тут, распутнымі сёстрамі, павінна быць напісана яшчэ ў 429 годзе. Яна, відавочна, была ўжо вядома аўтару прароцтва Ераміі, хаця аўтар «Стралы Будучыні» быў нашмат маладзейшы чым аўтар «Пераможа Бог» і лічыў апошняга за аўтарытэт, запазычаючы ў яго і тэмы і цэлыя асобныя фразы[123]. Яго пераймальнасць бачна і ў наступнай за гэтым частцы IV, дзе «Ерамія» паведамляе пра камету:



Мал. 83
Сузор'е Ільва. (Са старажытнай лацінскай Астраноміі).

– «*Паднімайся сьцяг на Пуцяводным слупе*! – усклікае ён ад імя Будучыні. – *Бяжыце не спыняючыся! Я вяду на вас з поўначы вялікае бедства і пагібель! Вось, выйшаў, падымаючыся на вышыню, Леў* (сузор'е Ільва, мал. 83) *са свайго гушчару; вось паднімаецца са свайго месца Знішчальнік народаў* – Скарпіён (мал. 82), – *каб ператварыць вашу краіну ў пустыню, разбурыць вашы гарады і пакінуць іх непладзючымі! Падпяразвайцеся ж вяроўкамі ў якасьці пазнакі гаротнасьці, плачце і галасіце, таму што палаючая галавешка Будучыні* (мал. 84, камета Галея) *яшчэ не адышла ад вас*!»

---

[122] Гл. «Хрыстос», кн. I.

[123] Напрыклад: «Сын чалавека! Пакажы Надзеі Заспакаення ўсе правіны яе» (Іез. XVI,. 7). «Я апрануў на цябе (Надзея Заспакаення) карункавае адзенне, абуў у кветкавыя сандалі» (XVI, 10)... «Але ты паспадзявалася на магутнасць свайго харавства і пачала распутнічаць з кожным праходзячым» (XVI, 15).


Мал. 84.
Камета. (Із сярэднявечнага малюнка.)

Астранамічныя метады тут непасрэдна ўзяты із Апакаліпсіса, а адносна таго, што апакаліптычны і біблейскі Горад-Цар (Цор, але перароблены грэкамі ў Цір) з’яўляецца не чым іншым, як Цар-Горадам, наўрад ці можа зараз выклікаць сумневы ў разважлівага гісторыка пасьля ўсяго таго, што я паведаміў пра яго ў першых тамах «Хрыста».

Параўноўваючы ўсё гэта з «Песьняй Песень», як узорам тагачаснага дзяржаўнага культу, мы не можам не бачыць, што біблейскія прароцтвы былі толькі прэлюдыяй да куміразмагальніцтва Ільва Ісаўрыйскага, тым больш, што прарокі і называлі сябе багазмагальнікамі (па-жыдоўску – ізраільцянамі), а свайго родапачынальніка – Якавам-багазмагальнікам. А дапоўнены яны, як быццам бы, ужо пасьля захопу Цар-Горада крыжакамі.

# Глава XI

## Славянская гегемонія ў Вялікай Рамеі. Цары-заканадаўцы і іхныя нікчэмныя эпігоны.

І вось, наступіла эпоха «Трох Юстынаў» (518-578), г.азн., на-лаціне, цароў Заканадаўцаў, якім шмат хто прыпісвалі славянскае паходжанне. Падставай для такога погляду паслужыла надрукаванае напачатку XVII стагоддзі навукоўцам, даглядчыкам кніг Ватыканскай бібліятэкі Мікалаем Алеманам жыццяапісанне імператара Юстыніяна, «створанае абатам Феафілам, настаўнікам «цара Заканадаўцы», дзе былі пазначаны для Юстыніяна і яго радзіны імёны, якімі яны зваліся на радзіме і якія былі славянскімі. Так напрыклад, Юстыніян меў там імя Упраўва. Потым (у 1883 г.) ангельскі навуковец Брайс давёў, што гэты рукапіс складзены напачатку XVII стагоддзя, і трох цароў Заканадаўцаў зноў перавялі назад са славянаў і пачалі лічыць ілірыйцамі із вёсак верхняй Македоніі, недалёка ад сучаснага Ускюба, на мяжы Албаніі.

З Рымам у гэты час адбылося, – паведамляюць нам, – замірэнне, спыніўшае разрыў паміж дзвума цэрквамі, цягнуўшаяся пачынаючы з часоў Зенонава «Энатыкона» (г.азн. ад 482 года), дзе загадваецца абавязкова лічыць заснавальніка хрысьціянскай літургіі (г.азн. «Вялікага цара») аднасутным з богам-бацькай адпаведна са сваёй боскасьцю і аднасутным з людзьмі адпаведна са сваёй людзкасьцю. У грунт рэлігійнай палітыкі было пакладзена праваслаўе, што зноў аддаліла ўсходнія правінцыі, дзе працягвала трымацца арыянства.

Мы прапусьцім першага «Цара Заканадаўца» (Юстына I, на-лаціне), бо пра заканадаўчую дзейнасць яго нічога невядома, і пяройдзем непасрэдна да яго пляменіка Юстыніяна (527-565), які з'яўляецца цэнтральнай фігурай дадзенага перыяду.

Мы маем асобнага гісторыка для таго часу ў асобе Кесарыйскага Памагатага (Пракопа, па-грэцку), памёршага, – кажуць нам, – у шасьцідзясятых гадах VI

стагоддзя. Але гэта цалкам неверагодна. У сваім выкладанні «Памагаты» часта пераймае ў апакрыфістаў Эпохі Адраджэння. Яго «Гісторыя ў васьмі кнігах» лічыцца галоўнай крыніцай часоў Юстыніяна. Другі яго твор – «Пра пабудовы» – суцэльны панегірык імператару і ўтрымлівае пералік і апісанне шматлікіх і разнастайных пабудоваў, быццам бы ўзведзеных Юстыніянам ва ўсіх частках яго шырокай імперыі. А трэцці яго твор «Anecdota» ці «Таемная гісторыя» (Historia Arcana) – о, жах! – замест панегірыка выяўляецца раптам злосным памфлетам на дэспатычнае кіраванне «Ўпраўды» і яго Бога-падараванай жонкі (Тэадоры), дзе сам імператар, Тэадора, Велізарый і яго жонка змешваюцца з брудам. Супярэчнасць паміж апошнім творам і першымі дзвума такая ашаламляючая, што ўжо было ўзнята пытанне пра праўдзівасць «Таемнай гісторыі». Здавалася немагчымым, каб усе тры творы належалі адной асобе, і ўсё ж, адкінуўшы відавочнасць, справу вырашылі ў сэнсе праўдзівасьці і прыналежнасьці Памагатаму-Пракопу ўсіх трох кніг!

«Таемная гісторыя» малюе ў згушчаных фарбах распутнае жыццё «Боскага гасьцінца» Тэадоры пад час яе юнацства. Яе бацька быў, – паведамляе аўтар, – вартаўніком мядзведзяў у цырку, і яна ператварылася ў жанчыну, адорваўшую шмат каго сваім каханнем. Прырода надзяліла яе прыгажосьцю, грацыяй, розумам і дасьціпнасьцю. Яна забаўляла, чаравала і скандалізавала, Цар-Горад. Сумленныя людзі, сустрэўшы Тэадору на вуліцы, збочвалі з дарогі, «каб не апаганіць сваё адзенне дакрананнем да яе».

Але ўсё гэта, чытач, анахранізмы. Яшчэ ў IV томе «Хрыста», у главе «Цырк, тэатр і царква» я паказаў, што ў той час цырк і царква былі адным і тым жа, пра што сведчыць і сама іх агульная назва. Усё рэчаіснае, што мы ведаем пра паходжанне тэатра, падмацоўвае такую выснову, і калі там і ўтрымваліся ў вядомыя перыяды дзікія звяры для разарвання ерэтыкоў, то гэта было ў прамежкі паміж містэрыямі дзеля застрашэння публікі, як і вогнішчы інквізіцыі пазьней. А для вернікаў тут жа ладзіліся пастановы із біблейскай гісторыі накшталт сучасных гутарак сьвятара з дыяканам у праваслаўных цэрквах.

Якімі былі гэтыя рэлігійныя пастановы, мы толькі што бачылі із «Песьні Песень» Цара-Міратворца, якую я прывёў тут у поўным правільным перакладзе.

І я ўжо паказваў, што падобныя пастановы былі часткай тагачаснага рэлігійнага рытуалу, і што недарэмна гэтая п'еса была цалкам уключана ў склад Бібліі, і адпаведна з традыцыяй рэкамендуецца тэолагамі для нашага чытання, як адна із кніг **сьвятога** пісання. «Ён» у гэтай п'есе, – запэўніваюць нас хрысьціянскія сьвятары, – адлюстроўвае Хрыста, а «Яна» хрысьціянскую царкву, ды і рабіны запэўніваюць, што гэта не проста тэатральная кахальная пастанова, а боская і містычная. З іхнай думкай не можам не пагадзіцца і мы, прытрымліваючыся меркавання, што тагачасная рэлігія месіянцаў і хрысьціянаў мела яшчэ вакхічны характар, а таму падобныя тэатральныя пастановы былі вельмі добрым пралогам да далейшых містычных паслядзеянняў гледачоў на іхных «вечарынах, кахання (агапах)». Пытанне толькі ў тым: на якой мове даваліся пад час стара-хрысьціянскага перыяду гэтыя пастановы ў цар-гародзкім цырку-храме і іншых месцах ушанавання? Ці на жыдоўскай, як у мясцовасьцях сучаснай мусульманскай культуры на ўзбярэжжах Міжземнага мора, дзе гэтая мова была зразумелай ўсяму насельніцтву не вывучаючы яе, ці ужо ў перакладзе на грэцкую мову? Хутчэй усяго гэта было яшчэ ў арыгінале, і грэцкая мова, тулячыся на Іанійскіх выспах і ў гаванях Малой Азіі, была яшчэ дрэнна зразумелай для цар-гародзкім жыхароў, якія

перайшлі да яе, напэўна, толькі пасьля аддзялення Еўрапейскіх абласьцей ад Ягіпта і Сірыі пры Геракліі.

Усё гэта асьвятляе нам і клерыкальную характарыстыку каранаванай жонкі Юстыніяна Тэадоры, як цыркавой, г.азн. царкоўна-тэатральнай дзяўчыны, чагосьці накшталт сучасных індускіх баядэрак ці класічных вясталак (хаця апошнія і набылі адваротную характарыстыку ў класічных апакрыфістаў Эпохі Адраджэння).

Пасьля цыркавой дзейнасьці, – паведамляюць нам апакрыфісты – яна на некаторы час знікае са сталіцы ў Афрыку, і пасьля вяртання ў Цар-Горад з'яўляецца ўжо ў выглядзе не ранейшай легкадумнай «акторкі». Пакінуўшы падмосткі, яна вядзе «адасобленае жыццё, цікавячыся царкоўнымі пытаннямі і займаючыся прадзеннем поўсьці». Вось у гэты час яе і сустрэў Юстыніян, і яе харасто ўразіла яго. Імператар наблізіў яе да двара, падараваў ёй званне патрыцыі і хутка адружыўся з ею.

І вось, пасьля ўступлення Юстыніяна на пасад, яна зрабілася імператрыцай Візантыі і адкрыта ўзяла бок монафізітаў, у процілегласць вагаючамуся чалавеку, які на працягу вялікай часткі свайго доўгага валадарання прытрымліваўся двухістотнасьці Хрыста. І ўсё ж, яна была далучана да шэрагу сьвятых, і ў календары пад датай 14 лістапада мы чытаем: «Успенне прававернага цара Іустыніяна і памяць царыцы Феадоры».

Так, у вачах гісторыкаў Тэадора, як новая Марыля Магдаліна,ператварылася із прастытуткі ў сьвятую, ды і уся дзяржава зведала метамарфозу.

Шматлікія войны Юстыніяна, – кажуць нам, – былі часткова наступальнымі, часткова абарончымі. Наступальныя вяліся з германскімі дзяржавамі заходняй Яўропы, якія згодна з ранейшымі паданнямі спачатку паддобрываліся да Вялікай Рамеі, і зараз адпалі, а абарончая вайна была з Персіяй на ўсходзе і са славянамі на поўначы.

Вандалы, остготы і збольшага вестготы падначаліліся імператару. Міжземнае мора ператварылася амаль у візантыйскае возера. У сваіх указах Юстыніян называў сябе Цэзарам Флавіем Юстыніянам, царам Алеманскім, Гоцкім, Франкскім, Германскім, Анцкім, Аланскім, Вандальскім, Афрыканскім і, вырашыўшы пачаць вайну з готамі, ён, быццам бы, пісаў: «готы, захапіўшы гвалтоўна **нашу** Італію, вырашылі яе не аддаваць».

Адно із яго войскаў пачало заваёву ўваходзіўшай у склад остгоцкай дзяржавы Далмацыі. Другое войска, пасаджанае на караблі і меўшае ў якасьці правадыра Велізарыя, захапіла Сіцылію і, перанесшы вайсковыя дзеянні ў Італію, заваявала Неапаль і Рым. Сталіца остготаў Равена адчыніла брамы Велізарыю і іхны кароль быў перавезены ў Цар-Горад. Тады Юстыніян да свайго тытула «Цар Афрыканскі і Вандальскі» дадаў і «Гоцкі». Так Італія была заваявана Візантыяй.

Але ў гэты час у остготаў з'явіўся энергічны і таленавіты кароль Татыла, які хутка выправіў справу. Візантыйскія захопы ў Італіі і на выспах зноў перайшлі ў рукі остготаў. Міфічны Рым класікаў ператварыўся дзякуючы гэтаму, – пераконваюць нас, – у кучу парэшкаў (што было мельмі неабходна, каб неяк патлумачыць знікненне яго былой велічы). Велізарый быў адклікаsuccinctны із Італіі, і справу выправіў другі выбітны візантыйскі вайскавод Нарсэс, які некалькамі майстэрскімі дзеяннямі здолеў перамагчы готаў. Татыла загінуў у адным із баёў, і пасьля дваццацігадовай спусташальнай вайны ў 554 годзе Італія, Далмацыя і Сіцылія былі далучаны да імперыі. Так пачалася першая рэчаісная гісторыя Італіі.

«За час остгоцкай вайны, – кажуць нам, – прамысловасць і гандаль на доўгі час спыніліся ў ёй, а праз недахоп працоўных рук італійскія нівы заставаліся неапрацаванымі. Рым «ператварыўся» ў закінуты, разбураны, не маючы палітычнага значэння цэнтр, дзе знайшоў прытулак папа (якога тады яшчэ не было, гл. «Хрыстос», кн. V). Занядбанасць і адсталасць Рыма, – кажуць нам, – стала яго характэрнай рысай аж да Эпохі Адраджэння».

А з нашага боку гледжання гэта і было рэчаісным пачаткам італійскага Рыма, таму што класічны Рым з’яўляецца толькі чароўнай казкай пра Цар-Горад, сасланы ў Італію.

Апошняе заваёўніцкае пачынанне Юстыніяна было накіравана пад час года заканчэння остгоцкай вайны (554) супраць вестготаў на Пірэнейскай паўвыспе. Але ў рукі Цара-Заканадаўцы перайшоў толькі паўднёва-ўсходні кут Гішпаніі з гарадамі Карфагенай, Малагай і Кордовай.

Вынікам гэтых намаганняў Юстыніяна было павелічэнне прасторы яго манархіі амаль удвая, але яго ўсходнія войны былі менш удалымі.

Пярсідзкі цар Хазрой Анушырван, г.азн. Справядлівы, пачаў вайсковыя дзеянні супраць Рамеі. Пакліканы із Італіі Велізарый нічога не здолеў з ім зрабіць. Хазрой уварваўся ў Сірыю і дайшоў да берагоў Міжземнага мора. Юстыніян здолеў купіць перамір'е з ім на пяць гадоў коштам выплаты яму вялікай сумы грошай, але нарэшце, бясконцыя вайсковыя сутычкі змарылі і Хазроя. У 562 годзе паміж Рамеяй і Персіяй быў заключаны мір на пяцьдзясят гадоў.

Іншы характар мелі абарончыя войны на Балканскай паўвыспе. Славяне ў гэты час ўпершыню з'яўляюцца пад сваім уласным найменнем – склавены, і даходзяць у Грэцыі да Карынфскага пярэсмыку і да берагоў Адрыятычнага мора.

Але сусьветную вядомасць Юстыніян набыў дзякуючы не сваім войнам, а з нагоды сваёй заканадаўчай дзейнасьці, хаця яму і папярэднічалі, – кажуць нам, – Codex Gregorianus, Codex Hermogenianus і Codex Theodosianus. У красавіку 529 года кодэкс Юстыніяна, – кажуць нам, – быў «апублікаваны», г.азн. няйнакш, як прачытаны на пляцы, у дванаццаці кнігах, і зрабіўся адзіным абавязковым для ўсёй імперыі зборам законаў. А далей нам паведамляюць ужо проста недарэчнасць.

Пасьля апублікавання гэтага знакамітага кодэкса, у наступным 530 годзе, – кажуць нам, – юрысту Трыбаніяну было даручана скласьці новую камісію, якая павінна была перагледзець творы ўсіх класічных юрыстаў, зрабіць з іх выманні, адкінуць састарэлае, пагадніць супярэчнасьці і, нарэшце, размясціць увесь сабраны матэрыял у вядомым парадку. Для гэтай мэты камісіі давялося, кажуць, вывучыць каля двух тысяч кніг і больш трох мільёнаў радкоў. Яе праца, на ажыццяўленне якой адпаведна са сведчаннем, быццам бы, «самога Юстыніяна», ніхто із яго папярэднікаў не спадзяваўся і якая лічылася (сапраўды так!) немагчымай для чалавечага розуму, вызваліла ўсё старажытнае права ад залішняга шматслоўя і на працягу трох гадоў была закончана. Апублікаваны, – зноў, відавочна, з дапамогай абвяшчальніка на пляцы, – у 533 годзе і падзелены на пяцьдзясят кніг, збор законаў атрымаў назву Дыгесты (Digesta ) ці Пандэкт (Pandectale) і адразу ж уступіў у дзеянне.



Мал. 85
Магільні, высечаныя ў скале і вядомыя пад назвай "Турма Сакрата", хаця для гэтага рашуча адсутнічаюць якія б то ні было падставы. Яны знаходзяцца на паўднёвы-ўсход ад афінскага акропаля. Мы ніколі не павінны забывацца пра тое, што ні на адным разбураным храме Візантыі і Рыма няма надпісаў пра тое ў гонар каго ны пабудаваны і існуючыя зараз іхныя назвы дадзены "вынаходнікамі" грунтуючыяся на сваіх уласных здагадках, часта насурак мясцовым паданням.

Але ўсё ж цар «Упраўда» не дагадзіў навукоўцам XIX стагоддзя. Адзін французкі юрыст пісаў, – адпаведна з паведамленнем А. А. Васільева, якім я шмат карыстаюся ў маім выкладанні фактаў, – што «Трыбаніян прыклаў варварскую руку да дзіўных парэшткаў рымскай юрыспрудэнцыі», што ён «разарваў і знявечыў самае выдатнае стварэнне Рыма – яго грамадзянскае права», што ён «знішчыў Ульпіяна, Паўла, Папініяна, Гая, каб прыстасаваць іхныя парэшткі да патрэб грэцкай імперыі і вымусіць іх спрыяць аднаўленню сапсаваўшагася будынка». «Магчыма, мы абавязаны Трыбаніяну. – выказваецца ён, – знішчэннем тых каштоўных кніг, якія зведалі ў забыццё і пагарду пасьля кампіляцыі Юстыніяна?»

Але мы ўжо бачылі ў V кнізе «Хрыста», што ўсё гэтае «рымскае права» было распрацавана не Юстыніянам, а ламбардзкімі юрыстамі Эпохі Адраджэння. Юстыніяну ці, больш дакладна, яго юрысту Трыбаніяну магло належаць толькі нешта із таго, што ўвайшло ў біблейскую кнігу «Другазаконне», якая такім чынам і з'яўляецца сапраўдным кодэксам Юстыніяна, прыпісваемым зараз Майсею.

І толькі яно, напэўна, і ўвайшло ў сістэму выкладання Цар-Горадзкага ўніверсітэта VI стагоддзя. Курс быў, – запэўніваюць нас, – пяцігадовым. Галоўным прадметам вывучэння на працягу першага года былі «інстытуцыі», другога, трэццяга і чацьвёртага – «дыгесты» і, нарэшце, пятага год – «кодэкс».



Мал. 86
Раскопы Dorpfeld'а каля Гісарлыка на паўночным захадзе Малой Азіі, дзе ён адкапаў, адпаведна з яго думкай, ніжнія часткі будынкаў гамераўскай Троі. Пасярэдзіне знаходзіцца слупападобная рэштка ранейшай глебы, каб паказаць глыбіню раскопаў. А навакол гэтага слупа бачны знойдзеныя Дёрфельдам падставы сьцен першабытнага безцэментовага мура. Без апускання ў мора яны не маглі быць да такой ступені занесены зямлёй нават і на працягу 10 000 гадоў, а мора тут не было. Застаецца выказаць здагадку, што буйныя камяні, як больш цяжкія адпаведна са сваёй удзельнай вагой, маюць уласцівасць павольна загрузаць у размешчаную пад імі мяккую глебу, якая іх абцякае, як вада тонучыя рэчы. Прыклады падобнага апускання цьвёрдых цел нават і ў цвёрдыя, а не толькі ў сыпкія рэчывы фізіка паказвае, напрыклад, на вары, які пры рэзкім удары нават ламаецца, як шкло, а тым часам пры павольным, працяглым ціску больш цяжкіх цел паводзіць сябе як глейкае цела. Адпаведна з гэтым жа ўсе будынкі Ленінграда будуюцца на падземных плытах із пакладзеных цесна адно да другога бярвёнаў, з нагоды чаго абцяканне глебы ціснуючых на яе падмуркаў вельмі запавольваецца.

«*Вучні*, – пісаў, быццам бы, Юстыніян, – *вывучыўшы ўсе сакрэты права, ды не маюць нічога ўтоенага, але, прачытаўшы ўсё, што для нас створана Трыбаніянам і іншымі, ды зробяцца выдатнымі прамоўцамі і аберагальнікамі справядлівага суда, цудоўнымі майстрамі ў сваёй справе і шчаслівымі кіраўнікамі ў кожным месцы і ў кожны час*».

Звяртаючыся да прафесароў, ён таксама, быццам бы, пісаў:

«*Пачынайце з дапамогай боскай навучаць праву вучняў і адкрываць ім шлях, які мы адкрылі, каб яны, ідучы па гэтаму шляху, зрабіліся цудоўнымі служкамі справядлівасьці і дзяржавы і каб мы заслужылі на векі-вечныя найвялікшую славу*».

А звяртаючыся да навучаючайся моладзі ён, быццам бы, вымавіў:

«*З найвялікшай увагай і бадзёрай стараннасьцю прыміце гэтыя законы і пакажыце сябе такімі абазнанымі, каб вас падбадзёрвала самая прыгожая надзея быць, пасьля заканчэння поўнага курса права, у стане кіраваць дзяржавай у тых яе частках, якія вам будуць даручаны*».



Мал. 87

Ільвіныя вароты ў Мікенах у Аргалідзе; па абодва бакі іх ільвы (Гельмольт, IV, 250.)

Зразумела, што ўсё гэта – больш позьнія апокрыфы, а сапраўдны выгляд заканадаўства «цара Ўпраўвы» яшчэ доўга давядзецца аднаўляць. Хутчэй усяго ён мог быць падобным на «Кодэкс Амму-Рабі», пра які я буду разважаць у наступным томе.

Юстыніяну, – паведамляюць нам апакрыфісты. – давялося сутыкнуцца з юдэямі, паганцамі і ерэтыкамі. Да ліку апошніх ён, быццам бы, прылічыў маніхеяў, нестарыян, монафізітаў, арыян і розных прадстаўнікоў менш значных рэлігійных вучэнняў.

Арыянства сапраўды панавала тады на Захадзе сярод германскіх народаў, але мы не павінны забывацца, што Арый і Арон – адна і тая ж асоба. Змаганне з ім выявілася, – кажуць нам, – у форме вайсковых прадпрыемстваў на захадзе, якія скончыліся ўжо вядомымі нам поўнымі ці частковымі падпарадкаваннямі дзяржаваў.

А для канчатковага выкаранення рэштка ў не існаваўга ніколі «элінскага паганства», з якім патрэбна было нарэшце разабрацца, каб не бянтэжыць класікаў яго адсутнасьцю, Юстыніян «скасаваў у 529 годзе знакамітую філасофскую школу ў Афінах, гэтую апошнюю апору аджыўшага паганства». Афінскія прафесары зведалі, быццам бы, выгнанне, а маёмасць школы была канфіскавана. «У тым жа годзе, пад час якога св. Бенедыкт разбурыў апошняе паганскае нацыянальнае сьвяцілішча ў Італіі – храм Апалона ў сьвятым гаі на Монтэ Касіна – была разбурана і цьвярдыня антычнага паганства ў Грэцыі, і з гэтай пары Афіны канчаткова страцілі значэнне культурнага цэнтра і ператварыліся ў глухі правінцыйны горад».

Так «ў 529 годзе», адразу былі ліквідаваны калі не св. Юстыніянам і св. Бенядыктам, то аўтарамі Эпохі Адраджэння, як чароўная казка пра старажытны Рым, так і чароўная казка пра старажытную Грэцыю.

«Юдэі, – пераконваюць нас[124], – і блізкія да іх згодна з веравучэннем самарыцяне ў Палестыне, не пажадаўшыя змірыцца з урадавымі праследамі і

[124] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, I, стар. 146.

падняўшыя паўстанне, былі ўціхаміраны з вялікай жорсткасьцю. Сінагогі (зноў грэцкае, а не жыдоўскае слова, як і сінедрыён)[125] разбураліся, а ў застаўшыхся, быццам бы, забаранялася чытаць кнігі Старога запавету грунтуючыся на старажытным жыдоўскім тэксце, які патрэбна было замяніць грэцкім перакладам сямідзесяці тлумачоў. Грамадзянскія правы «юдэяў» скасоўваліся, усе нестарыяне таксама пераследаваліся». Монафізітаў спачатку як быццам бы мелі жаданне прызнаць, але партыя акімітаў (строга-праваслаўных)[126] падняла такі шум, што Юстыніян быў вымушаны, – кажуць нам, – часова саступіць і, нарэшце, вырашыў склікаць сусветны сабор, які і сабраўся ў Канстантынопалі ў 553 годзе.

Там, уласна кажучы, і было ўпершыню вырашана ў адмоўным сэнсе пытанне пра нестарыянства (г.азн. пра вяртанне Вялікага Цара на зямлю толькі ў якасьці чалавека) і было забаронена лічыць панну Марылю толькі хрыстародзіцай, а не богародзіцай. Разам з тым было асуджана і монафізіцства, прызнаваўшае, як кажуць, «толькі адну боскую прыроду ў Хрысьце». А таму і папярэднічаўшыя саборы, на якіх, быццам бы, абодва гэтыя пытанні былі ўжо вырашаны, мы павінны лічыць апакрыфічнымі. Калі яны абмяркоўваліся на Канстантынопальскім саборы 553 года, то гэта азначае, што раней яго гэтых пытанняў і не існавала. Але і тут мы павінны быць вельмі асьцярожнымі.

Справа ў тым, што гісторыкі Візантыі шмат у чым перасягнулі гісторыкаў «старажытнага Рыма» і значна больш дасьведчаныя за іх.

У той час, як латыністы, валодаючы незвычайнай памяццю, перадаюць нам са стэнаграфічнай дакладнасьцю толькі размовы старажытных рымскіх грамадзкіх дзеячаў паміж сабой, візантысты, валодаючы незвычайнай здольнасьцю пранікненнем у чалавечыя душы, знаёмяць нас нават і з патаемнымі думкамі старажытных усходне-рамейскіх дзеячаў.

«У навуцы, – выказваецца, напрыклад, не раз цытаваны намі А. А. Васільеў (стар. 143), – ужо абмяркоўвалася пытанне пра тое, якія ўнутраныя падахвочванні кіравалі Юстыніянам у яго царкоўнай палітыцы?» І вось, нарэшце, атрымалася выявіць яго патаемныя думкі. Выяўляецца, што «перадусім ён бачыў у сваёй асобе спадкаемцу рымскіх цэзараў і што ён лічыў сваім сьвятым абавязкам аднавіць адзіную імперыю ў межах І і ІІ стагоддзяў (а не нейкіх іншых!)». Акрамя таго, «як імператар хрысьціянскі, ён не жадаў дапусьціць таго, каб германцы-арыяне прыгняталі праваслаўнае насельніцтва[127], і «захоплены сваімі нязбытачнымі марамі, ён не зразумеў значэння ўсходняй мяжы»[128].

А ў некаторых візантыстаў мы сустракаем нават і проста ашамляючую празарлівасць, пераадольваючую ўсе перашкоды прасторы і часу, і дазваляючую ім чытаць думкі і пачуцці ў галовах і сэрцах мінулых рамейскіх дзеячаў, так жа лёгка, як вы чытаеце маю кнігу...

Але ці сапраўды гэтыя аўтары знайшлі (хаця б толькі ў дадзеным выпадку) у Юстыніянавых думках і пачуццях толькі простае адлюстраванне ў ім, як у люстэрку, сваіх уласных ідэй? І ці не больш мэгазгодным будзе і для нас, пакінуўшы збоку ўсе ўнутраныя падахвочванні ніколі нябачаных намі цароў,

[125] Сінагога ад συν-άγωγός (сюнагогас) – агульны кіраўнік, і сінедрыён ад συν-έδριον (сюнэдрыён) – агульны кіраўнік.
[126] Відаць, ад грэцкага ά-κῦμα (а-кюма) – бясплоднасць, нараджэнне дзяцей.
[127] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, І, стар. 129.
[128] Там жа, стар. 136.

заняцца толькі простым прывядзеннем фактычнай часткі нашых першакрыніц у лагічную сувязь паміж сабой?

Мы толькі-што згадвалі, што секта «Хрысьціянаў-вяртанцаў» (г.азн. несторыян), існуючая і зараз (вядома, ва ўдасканаленым выглядзе) у Азіі, аспрэчвала існаванне ў Вялікім Цару бога. Але ў такім выпадку, чым жа яна адрознівалася ад арыян, якія, згодна са сведчаннямі візантыстаў, таксама аспрэчвалі божую прыроду «Хрыста» (як зараз і магаметане), а прызнавалі яго толькі прарокам? Не лепш выглядае справа і з монафізітамі-аднаіснаснікамі (яны ж блажэнцы-еўціхіяне). Гэта быў антытэзіс арыян, таму што яны, прызнаючы таксама толькі адну сутнасць у Хрысце, лічылі яго чыста божай: ён быў для іх чысты бог у чалавечай выглядзе.

Але хіба не тое ж самае сцвярджаецца ў сучасным знаку веры праваслаўных, дзе Хрыстос называецца сынам боскім, адзінародным, што ад бацькі народжаным перш усіх стагоддзяў (!!), сьвятлом ад сьвятла, богам праўдзівым ад бога праўдзівага, народжаным, не створаным, аднасутным бацьку (а не маці)? Ні пра якую чалавечую існасць тут няма і згадкі, ён толькі ўчалавечыўшыся (г.азн. прыняўшы чалавечы выгляд) бог. Гэта азначае, што гэта монафізіцкі знак веры... А наступнае двухіснаснае праваслаўнае вучэнне пра Вялікага Цара, заснавальніка хрысьціянскай літургіі, як сінтэзіс арыянства і монафізіцтва, і вынікаючыя із яго вучэнні мы лягчэй усяго можам выказаць на рэчаісным прыкладзе.

Возьмем хаця б паўднёвую клуначную жывёлу – мула (Equus hinnus), ужываемую на поўдні Яўропы для перамяшчэння цяжараў. Гэта змяшанне жарабца і асліхі, ён больш падобен на асла, але іржэ як конь. Якая ў яго існасць: конская ці асліная?

Дакладна такое ж пытанне сярэднявечныя тэолагі паднялі (калі не пры Юстыніяне, то ужо перад крыжовымі паходамі) і пра Хрыста. Калі бацька яго бог, а маці «чалавек», то павінна быць і ў ім зліццё двух існасьцей – божай і чалавечай, як у муле зліццё рэчываў конскага і аслінага пачаткаў. Але, ж, мул ужо не конь і не асёл, а нейкая зусім новая парода жывёл. Дакладна так жа і Хрыстос павінен быць не богам і не чалавекам, калі як боская прырода бацькі так і чалавечая прырода маці зліліся ў ім, як у муле разам. Гэта выяўляецца нечым накшталт паганскага напалову бога. Гэта азначае, калі ён і бог і чалавек, то абедзьве гэтыя прыроды ў ім непадзельныя і ў той жа час незлітыя. Але ў такім выпадку, у якім жа яны стане?

Зразумела, што, загрузшы ў сваіх падобных разважаннях і зведваючы жорскую іронію супернікаў на грамадзкіх сходах, усе хрысьціянскія секты перасварыліся паміж сабой і, каб скончыць спрэчкі, аддалі анафеме адна адну.

Заданне пагадніць нестарыянства, прызнаваўшае толькі чалавечую прыроду ў Хрысьце, і монафізіцтва, прызнаваўшае толькі боскую, і паслужыла, – кажуць нам, – нагодай да склікання Юстыніянам пятага сусьветнага сабора ў 533 годзе, амаль праз дзьвесце гадоў пасьля сьмерці Цара-Месіі. На ім, дададзім, яшчэ не было лацінскіх прадстаўнікоў, што паказвае на тагачасную нязначнасць Рыма, а таксама тлумачыць і той факт, што пазней лацінская царква ўсё ж прызнала гэты сабор сусьветным.

Ёсць шмат падставаў схіліцца да думкі, што нагодай яго склікання была зусім не спрэчка пра фізічны стан двух існасьцей у Цару-Месіі, а нешта іншае.

Выкажам гэта спачатку згодна з меркаваннямі звычайных нашых гісторыкаў. Зусім і не падазраючы, што цырк, тэатр і царква былі тады адым і тым жа, яны

выказваюць пра яго шмат чаго на нашу карысць, нават і малюючы яго адпаведна з выглядам і падобным на  сучасныя тэатры.

Цэнтральным месцам у Цар-Горадзе, – пераконваюць яны, – быў; цырк, будучы самым паважаемым месцам для сходаў сталічнага насельніцтва. Там кожны новы імператар нярэдка з'яўляўся адразу пасьля ўкаранавання ў царскай ложы, і атрымліваў першыя прывітанні сабраўшагася натоўпу. Цыркавыя (г.азн. царкоўныя) партыі мелі назвы зялёныя, блакітныя, чырвоныя і белыя, і пазнейшая літаратурная традыцыя дапасуе гэтыя іхныя назвы грунтуючыся на носімых фарбах яшчэ да міфічных часоў Рамула і Рэма.

Іхнае першапачатковае паходжанне і асабліва колькасць чатыры з’яаўляецца вельмі цьмяным. Нас пераконваюць, што іхныя назвы адпавядаюць чатыром стыхіям: зямлі (зялёныя), вадзе (блакітныя), паветру (белыя) і полымю (чырвоныя), але ж якое дачыненне маюць да іх стыхіі? А пра колькасць гледачоў паведамляюць, што іх бывала да 50 000 чалавек.

Ужо даўно, – кажуць нам, – гэтыя цыркавыя (г.азн. царкоўныя) партыі, называўшыяся ў візантыйскі час дзімамі, зрабіліся, выразніцамі таго ці іншага палітычнага, грамадзкага ці рэлігійнага настрою. Натоўп у цырку набыў значэнне як бы грамадзкай думкі і народнага голасу. «Іпадром, – згодна са славамі Ф. І. Успенскага, – уяўляў сабой адзіную арэну, дзякуючы адсутнасьці друкавальнага станка, для гучнага выяўлення грамадзкай думкі, якая часам мела абавязковую магутнасць пастановы для ўрада». Часам сам імператар з'яўляўся ў цырк і даваў натоўпу тлумачэнні.

«У VI стагоддзі[129] самымі ўплывовымі былі дзьве партыі: блакітныя (венеты), прытрымліваўшыя двухіснасьці Вялікага Цара і зялёныя (прасіны), прытрымліваючыяся яго монафізіцтва. Яшчэ пад канец кіравання Анастаса, прыхільніка монафізітаў, у сталіцы ўспыхнуў супраць іх мяцеж, і двухіснасьцевая партыя, абвясьціўшы новага імператара, кінулася ў цырк (г.азн. царкву), куды прыйшоў і напалоханы Анастас, без дыядэмы. Ён ужо загадаў абвяшчальнікам паведаміць народу, што гатовы скласьці з сябе ўладу, але аднаіснаўцы ў цырку-царкве раптам узялі верх, і мяцеж спыніўся.

«Пасьля уступлення на пасад Юстына і Юстыніяна, – кажуць нам, – перамог двухісніцкі напрамак, а разам з ім і партыя блакітных. Тэадора ж была на баку партыі зялёных аднаіснаўцаў.

Здавалася, не было падставы адразу паўставаць і супраць цара і супраць царыцы. Але, раптам, у 532 годзе, сабраўшыяся ў цырку як быццам ашалелі. З крыкамі: «О, перамагай!», дзякуючы якім і сам гэты мяцеж носіць назву «Ніка!» (г.азн. «о, перамагай!») як блакітныя так і зялёныя кінуліся вынішчаць гарадзкія будынкі і помнікі мастацтва, пры гэтым, быццам бы, была спалена і базыліка св. Сафіі, на месцы якой пазьней быў пабудаваны знакаміты храм св. Сафіі. Схаваўшыся ў палацы, Юстыніян і яго дарадцы ўжо намерыліся ратавацца збяганнем са сталіцы. Але ў гэты крытычны момант з'явілася Тэадора. «Кожнаму чалавеку, з'явіўшамуся на сьвет наканавана памерці, – сказала яна, – але быць уцекачом таму, хто быў імператарам, невыносна... Калі ты, гасудар, маеш жаданне выратавацца, гэта не вельмі цяжка. У нас існуюць сродкі: вось – мора і вось – караблі. Толькі падумай, як бы пасьля збягання ты не аддаў перавагу выратаванню сьмерць. Мне ж больш падабаецца старажытнае выслоўе, што царская годнасць з’яўляецца выдатным пахавальным ўборам».

---

[129] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, I, стар. 152.

Імператар, – паведамляюць нам, – падбадзёрыўся дзякуючы яе словам, і справа ўціхамірвання мяцяжа, доўжыўшагася ўжо шэсць дзён, было даручана Велізарыю, які загнаў бунтуючыя натоўпы назад усярэдзіну цырка-царквы і перабіў там ад 30 да 40 тысяч мяцежнікаў. Паўстанне было ўціхамірана і Юстыніян зноў замацаваўся на пасадзе.

Царкоўныя гісторыкі Візантыі, не толькі (як мы бачылі толькі што) памятаючыя слова ў слова прамову царыцы Тэадоры да вагаючагася Юстыніяна, але і вольна чытаючыя самыя патаемныя думкі даўно памёршых грамадзкіх дзеячаў, здолелі, вядома, і тут знайсьці псеўда-падставы:

«Пляменікі Анастаса, – сцвярджаюць яны, – памёршага ў 515 годзе, г.азн. яшчэ 17 гадоў назад, лічылі сябе пакрыўджанымі пры ўспадкаванні пасада», а шмат хто былі абураны безсарамнымі вымагальніцствамі аўтара юстыніянавых законаў, гэтага «Старога плашча» (Трыбаніяна, па-грэцку), і прэфекта Яна. Але чаму ж натоўп кінуўся не на іх, а пабег паліць базыліку св. Сафіі і знішчаць помнікі мастацтва, г.азн. перадусім статуі імператараў і багаў, таму што іхныя скульптурныя выявы, хаця б пад маркай сьвятых, панавалі аж да іконазмагання Ільва Ісаўрыйскага (717-741 г.)? Чаму ніхто не чапаў на працягу цэлых шасьці дзён схаваўшагася Юстыніяна і яго праўніка «Старога плашча» і чаму пасьля шасьці дзён паўстанне пачало выдыхацца, не дасягнуўшы перамогі, хаця і крычалі камусьці невядомаму:

«– О, перамагай!»

Мы бачым, што звычайнае тлумачэнне тут выяўляецца вельмі непраўдападобным, калі разглядаць пытанне са звычайнага побытавага боку гледжання.

Але гэтая ж падзея набывае відавочны сэнс, калі мы параўнаем паміж сабой тое, што я ўжо вывеў для дадзенага часу ў першай кнізе «Хрыста».

Хай чытач згадае, што тады прайшло ужо 137 гадоў з часу з'яўлення Апакаліпсіса, які з нашага боку гледжання быў зародкам усёй тэалагічнай, а потым і класічнай грэцкай літаратуры, замяніўшай ранейшую жыдоўска-копцкую. Да таго часу ён ужо меў магчымасць моцна пашырыцца дзякуючы перапісванням, якія, вядома, неадкладна пачаліся дзякуючы яго палымяным выказванням, багаццю яскравых выяваў і небывалым да таго часу грымотам і маланкам на зямных цароў і на іхную дзяржаўную царкву – «Брама Госпадава».

Яго падрабязны правільны пераклад я зрабіў яшчэ знаходзячыся ў Шлісельбургскім умацаванні ў зняволенні, дзе астранамічна вылічыў і час стварэння яго VI главы: ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка 395 года[130]. Яе астранамічная частка, як я ўжо меў выпадак павядоміць нядаўна, змешчана ва ўводзінах да 1-га тома «Хрыста», а гістарычная акрэслена ў папярэднічаўшай главе. Вось чаму я тут абмяркую толькі яе філалагічную частку. У змесьце гэтай кнігі моцна адбіваецца біблейскі ўплыў. Яе фразеалогія яшчэ не распрацавана: амаль кожная фраза складаецца толькі із галоўнага сказа без дадатковых і пачынаецца, як у Бібліі, злучнікам «І»,– напрыклад, на заключэнні шостай главы:

«*І неба схавалася, згарнуўшыся як скрутак, і кожная гара і выспа ссунуліся са сваіх месцаў. І цары зямныя, і вяльможы, і заможныя, і моцныя, і вайскаводы, і рабы, і вольныя схаваліся ў пячоры і ў цясніны гор і казалі горам і камяням: упадзіце па нас і засланіце нас ад асобы прысутнага на (нябесным) пасадзе і ад гневу* (сузор'і) *Авена* (VI, 14-15)».

[130] Гл. маю кнігу «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры». 1907 г.

Апакаліпсіс захоплівае чытача не па-мастацкі апрацаванай грэцкай мовай, а шматлікасьцю нагрувашчаных адна на адну мудрагелістых алегарычных выяваў. Фантазія аўтара, вядома, магла быць распрацаванай і не на грэцкай літаратуры, а на жыдоўска-копцкай, тым больш, што ён жа цытуе там і «Песьню Майсея» (якой мы дарэчы не бачым у тэксце Бібліі). Ён відавочна быў азнаёмлены з ужо пашыранай тады жыдоўскай лірычнай паэзіяй і прозай, накшталт прыведзенай намі «Песьні Песень». А перайсьці на сваю родную грэцкую мову[131] ён мог знарок, з мэтай канспірацыі, таму што адрасаваў свой ліст невялікім згуртаванням сваіх аднадумцаў-грэкаў у Малой Азіі. Усё гэта падмацоўвае маю здагадку (а ніяк не поўнае перакананне), што Апакаліпсіс у рэчаіснасьці быў адной із першых кніг толькі-што ўзнікшай тады нацыянальнай грэцкай пісьмовасьці.

Дзякуючы ашаламляючаму ўражанню, якое і зараз вырабляе гэты невялікі твор, умяшчаючыся на 1½ ліста сучаснага друкаванага тэксту, і лёгкасьці яго перапісвання праз нязначнасць яго памеру, ён мог быць на працягу першага ж года перапісаны не менш як у 10 асобніках. Потым непазбежна пачынаў дзейнічаць ужо абгрунтаваны мной у VI кнізе «Хрыста» закон пашырэння рукапісаў дадрукарскага перыяду ў геаметрычнай прагрэсіі, г.азн. калі на працягу першага года было спісана з арыгінала 10 копій, і на працягу кожнага із наступных гадоў па 10 копій з кожнай новай копіі, то праз два гады існавала б ужо 100 копій, праз тры гады – 1000, праз чатыры гады – 10 000, праз пяць – 100 000 копій, і таму, увесь чытаючы па-грэцку сьвет таго часу быў бы ўжо азнаёмлены з гэтым творам, пасьля чаго засталося б толькі аднаўляць сапсаваўшыя асобнікі.

Такім чынам, да часу Юстыніяна (г.азн. праз 137 гадоў!), нават пры самым марудным перапісванні, па дзьве копіі за год, Апакаліпсіс стаў бы ўсім вядомай кнігай, і грэцкая рэлігійная пісьмовасць дзякуючы яго чытанню атрымала б магутны штуршок да хуткага развіцця.

Натуральнае жаданне кожнага здольнага да літаратурнай творчасьці пераймаць ў таго твора, які зрабіў на яго розум самае вялікае ўражанне, вымусіла б шмат каго, із ведаючых грэцкую мову, пісаць замест жыдоўскай мовы па-грэцку, і разам з тым грэцкая мова пачынала б набываць значэнне такой, пазнаёміцца з якой было б абавязковым для тагачаснага адукаванага чалавека.

Гэтая мова пачала б, нарэшце, канкураваць з біблейска-копцкай, асабліва пасьля таго, як на прыканцы VII стагоддзя з'явіўся другі геніяльны ягіпецкі пісьменнік Ян Дамаскі (676-777) са сваім паэтычным евангеллем, пачынаючымся ўсхваленнем «Слова», як асобнай стварающай сутнасьці. «*Напачатку было Слова, і Слова было ў бога, і Слова было бог, і без яго не адбылося нішто з існуючага*».

Мы бачым, што грэцкая літаратура з новага боку гледжання была заснавана не Арфеем і не Гамерам, а аўтарам Апакаліпсіса і працягнута стваральнікам евангелля Яна. І толькі ўжо потым, будучы распрацаванай у Візантыі на рэлігійных кнігах, яна перайшла і да свецкіх сюжэтаў, асабліва пад час крыжацкага перыяду. А пазьней яна была шмат папоўнена ў Заходняй Яўропе і нават заліта, як водамі патопу, творамі тамтэйшых эліністаў-апакрыфістаў, стварыўшых разам з класічнай лацінскай і ўсю класічную грэцкую літаратуру.

У дадзеным выпадку нам няма патрэбы разбіраць яе далейшы ход, а патрэбна толькі адзначыць, што чаканні другога прышэсьця Вялікага Цара павінны былі моцна хваляваць душы ўсяго насельніцтва Рамейскай імперыі да часу Юстыніяна, і ўсе папярэднічаўшыя саборы збіраліся не для спрэчак пра тое,

[131] Імя Ян – азначае Яніец, г.азн. грэк, хаця і сугучна з Іеговіян.

адзінасутным ці падобасутным богу-бацьку з'яўляецца Цар-Заступнік, але хутчэй усяго ў чаканні яго прыходу пад час астралагічна прадказанага дня. А пасьля таго, як гэты дзень скончыўся шчасліва, быў суд над выявіўшыміся ілжэ-прарокамі і абвяшчэнне ім анафемы за тое, што дарэмна напалохалі ўсіх, і разам з імі праклінаўся, вядома, і ўвесь той накірунак рэлігійнай думкі, якога яны прытрымліваліся.

Такой, напэўна, і была нагода збірання так званых трэццяга і чацьвёртага сабораў, а з імі і пятага (пры Юстыніяне). Да астралагічных падставаў апошняга я зараз і перайду.

Як у першай кнізе «Хрыста», так і тут, нядаўна, я ўжо падрабязна выказваўся, што ў 453 годзе за каля 80 гадоў да пятага сабора на біблейскай мове з'явілася пашыраная і нашмат папоўненая, версія Апакаліпсіса пад найменнем Пераможа бог (Іезекі-Іл, па-жыдоўску), із гістарычнай часткі якога я даваў выпісы і ў папярэднічаўшай частцы. Я ўжо паведамляў, як каля таго ж часу было напісана (453-456 г.) новае прароцтва ў тым жа духу пад назвай «Помніць Грамабой» (Захар-Ія), і як яшчэ трохі раней з'явілася прароцтва «Будучае Вызваленне» (Іса-Ія) і «Грамабой пускае сваю стралу» (Ерамія, 451 г.). Мы бачым, што да часу Юстыніяна ўжо сабралася і на жыдоўскай мове грозная апакаліптычная літаратура, чытанне якой не магло не ўздзейнічаць на псіхіку насельніцтва і асабліва зямных цароў. Яна дапоўніла ўзнікшую тады астралогію яшчэ новым варыянтам: тлумачэннем з'яўлення на небе камет, як мячоў бога-Грамабоя, паднятых на зямных цароў за іхныя грахі, а ў ліку галоўных царскіх грахоў, вядома, на першым месцы стаяў, хаця і не галасна, збіранне падаткаў.

Якое моцнае ўражанне на фоне апакаліптычнага светапогляду мелі каметы, лепш усяго бачна на прыкладзе біблейскага прароцтва Ерамія (якое ў перакладзе азначае проста: «бог-Грамабой пускае сваю стралу»).

Апісваючы сучасную яму дзяржаўную царкву Візантыі, як прастытутку, называючую сябе Брама Госпада (БАБ-ІЛУ, па па-руску – Вавілон), аўтар малюе камету Галея, як палаючую галавешку на небе:

«*Падпяразвайцеся вяроўкамі ў якасьці пазначэння гаротнасьці, плачце і галасіце,* – кажа ён, – *таму што падпаленая галавешка Будучыні яшчэ не адышла ад вас* (гл. I) *і калі яна да вас прыйдзе, самлее душа кожнага цара і князя, жахнуцца сьвятары і ўразяцца прарокі! Пякучы вецер панясецца із апусьцелых вышынь неба на дарогу дачкі майго народа, але ён наляціць не дзеля абвявання і асвяжэння яе! І яшчэ большая бура наляціць ад той галавешкі, калі Будучы вымавіць свой прысуд.*

*Вось, падымаецца яна, падобна палаючаму воблаку, калясніца яе як віхур, коні яе хутчэй за арлоў... Гора нам! гора! Мы ўсе загінем! Вымый жа злыя намеры із твайго сэрца, Горад Заспакаення, каб выратавацца! Да якой пары будуць жыць у табе кепскія думкі?...*

*Я адчуваю боль ва ўсіх маіх вантробах. Маё сэрца стогне, я не магу маўчаць, таму што ты, мая душа, ужо чуеш гук трубы і крыкі бітвы! Згуба ідзе за згубай! Я прадбачу, як у адно імгненне будуць разбураны мае шатры і намёты! Ці доўга яшчэ я буду бачыць гэты палаючы сьцяг, чуць* (у шуме ветру) *гук трубы? Мне здаецца, што я пазіраю на зямлю, – і яна пустая, на нябёсы – і няма ў іх сьвятла! Пазіраю на горы – яны дрыжаць, на ўзгоркі – яны вагаюцца! Пазіраю – і няма больш чалавека, і ўсе нябесныя птушкі разляцеліся! Урадлівы край мой стаў пустыняй і гарады яго разбурыліся перад тварам Будучага бога, перад яго палаючай галавешкай.*

*– Я выказаў вызначэнне,* – прамовіў Будучы бог, – *і не раскаюся ў ім і не адступлюся ад яго! Вось, бяжыць увесь горад ад шуму вершнікаў і стралкоў, усе яго*

*жыхары збеглі ў густыя лясы, пахаваліся на скалы! А ты, спустошаная* (рамейска-візантыйская царква), *што будзеш рабіць? Дарэмна прыбіраешся ты ў шыкоўныя адзенні, апранаеш на сябе залатыя ўпрыгожванні, падмалёўваеш румянамі свае павекі! Кінулі цябе твае каханкі, яны шукаюць тваёй душы!»* (глава III).

*Вось узыходзіць* (Арыён, мал. 88), *як леў ад раскошных берагоў Эрыдана на ўмацаваную сядзібу Бога. Я прымушу іх* («Брамц Госпада») *збегчы з яго і даручу яго майму абранаму... Хто ў стане перамяніць мой час і які пастыр адважыцца мне супрацьстаяць* (гл. L)»

«*Бяжыце ж із «Брамы Госпада», хай кожны выратуе сваю душу, таму што наступіў час помсты Будучага бога, і ён аддасць ім належнае. Яны былі Залатой Чаркай, ап'яняўшаю ўсю зямлю. Народы пілі з яе віно і шалелі* (гл. XXXI).

«*О ты, жывучая каля вялікай вады* (Візантыя, раскінуўшаяся на двух пралівах), *ты, маючая скарбы! Надышоў твой канец, перапоўнілася мера тваёй прагнасьці! Вось, я іду супраць цябе, Пагібельная Вяршыня, руйнуючая ўсю зямлю, я працягну да цябе маю руку і зрыну цябе са скал, і будзеш ты вяршыняй абгарэлай!.. Падыміце ж на зямлі сьцяг паўстання, трубіце ў трубы сярод народаў, клічце на яе і адпадальніцкую Арарацкую Арменію і Няметчыну*[132]! *Пастаўце супраць яе вайскавода* (Атылу) *і наганіце на яе яго коней як тапырычуючаяся саранчу*!




Мал. 88
Сузор'е Арыёна (са старажытнай астраноміі).

«*Узбройце супраць яе народы і цароў Вугоршчыны*[133], *усіх яе вайскаводаў і кіраўнікоў горадоў і ўсю падуладную ёй краіну! Зямля трасецца і дрыжыць... Ганец скача насустрач ганцу і вястун – насустрач вястуну, каб абвясціць уладару «Брамы Госпада», што цьвярдыня яго ўзята з усіх канцоў*».(Ерамія, LIV).

«*Выходзь жа із яе мой народ, ратуй кожны сваю душу ад полымя гневу Грамабоя! Я напаю да ап'янення іхных князёў і мудрацоў, губернатараў і кіраўнікоў гарадоў і ўсіх іхных ваяроў, і заснуць яны сном вечным і ніколі ўжо не прачнуцца*».

---

[132] אררט מני (АРРТ МІНІ) – тапырычушчаяся Арарацкая краіна, Арменія. А краіна כנז (АШКНЗ) – назва Германіі ў сярэдневечных жыдоў.

[133] מדי (МДІ) – звычайна перакладаюць Мідыя і лічаць за частку Персіі, але хутчэй МДІ азначае – мадзяр, вугорац.



Мал. 89
Вялікая Камета 1858 года ў выглядзе мяча, абудзіўшая ў народзе чуткі пра хуткую вайну. Такія былі і раней.

Такім з’яўляецца асноўны змест прароцтва «Ерамія», якое адпаведна са сваім характарам уяўляе сабой вельмі неаднастайную кнігу. Але апакаліптычны ўплыў у ім праглядаецца на кожнай старонцы. Тут у выглядзе палаючай галавешкі, як я ўжо даводзіў, апісана камета Галея, якой яна з'явілася ў 451 годзе за 80 гадоў да мяцяжу з лозунгам: «О, перамагай!»

А ў прароцтве Іса-ія, якое можна перакласьці – бог Ратавальнік (бог Езус), мы бачым камету ў форме мяча.



Мал. 90
Камета-Меч. (Са старажытнай лацінскай астраноміі.)

«*Прыходзьце і слухайце, народы! Слухайце, плямёны! Хай слухае Зямля і ўсё, што яе напаўняе, сусьвет і ўсё што нараджаецца ў ім*!

«*Вось, прыйшоў гнеў Будучага бога* (меч-кмета) *на ўсе народы, і лютасць яго на ўсё іхнае ваярства. Ён пракляў іх і аддаў на сьмерць*!... *Згорнуцца нябёсы, як скрутак папірусу, і ўсе зоркі нябесныя зваляцца... як завяўшыя лісты са смакаўніцы. Ужо меч на нябёсах упіўся крывёю* (з'явіўся над палаючым вечаровым зарывам).

«*Вось, ён ідзе на Рым* (Эдом) *і на зборышча, аддадзенае сьмерці. Вось, ён зрабіўся чырвоным ад крыві Авена і Казлянят* (мал. 91 і 92), *таму што здзяйсняецца ахвяраванне ў Будучага бога на яго агароджы* (камета ў Авене заходзіла за крывавую паласу світання на гарызонце).

«*Усе рэкі* (у Цьвярдыні «Брама Госпада») *ператворацца ў смалу, сама яна ў серу, і ўся краіна яе будзе палаючай смалой. І не будзе яна згасаць ні днём ні ноччу, і вечна будзе падымацца яе дым...*




Мал. 91.
Сузор'і Пярсея і Возніка з казлянятамі. (Са старажытнай астраноміі.)

«*І завалодаюць ёю пеліканы і вожыкі, і паселяцца ў ёй совы і крумкачы. Над ёй будзе працягнута верв* (нябесная паралель) *спусташэння і адвес* (нябесны мерыдыян) *знішчэння, і не застанецца ў ёй нікога із яе шляхты, каго было б магчыма абвясьціць царам, і ўсе князі яе ператворацца ў нішто. Яе палацы зарастуць калючымі расьлінамі, а вежы крапівай і дзядоўнікам, і яна сама будзе жыллём шакалаў і прыстанкам гіен. У ёй ваўкі будуць сустракацца з дзікімі кошкамі, сатыры пераклікацца адзін з адным і начныя прывіды знаходзіць сабе заспакаенне. Там будзе гнездавацца і наседжваць свае яйкі лятучы змей і, вывеўшы нашчадкаў, будзе збіраць іх пад свае шаты.*




Мал. 92
Сузор'е Авена. (Са старажытнай лацінскай астраноміі.)

«*Знайдзіце ўсё гэта ў Кнізе Будучага бога* (Апакаліпсісе) *і прачытайце! Ніводнае із гэтых прадказанняў* (Яна) *не замарудзіць здзейсніцца, і ніводнае не заменіцца іншым*» (Ісая, XXXIII)!...

Так заканчваецца прамой спасылкай на Апакаліпсіс сярэдняя частка прароцтва «Ісая». І, паглядзеўшы адпаведна з яе ўказаннямі на кнігу Яна, мы, сапраўды, знаходзім у ёй усё гэта, нават у некалькіх главах.

Такімі былі жахі папярэднічаўшага Юстыніяну пакалення, такой была тады маральная атмасфера ў Рамеі-Візантыі, якая павінна была яшчэ больш абцяжарыцца дзякуючы распаўсюджванню праз дыянісіянска-хрысьціянскія храмавыя оргіі венерычным хваробам і заваёўніцкай палітыцы Юстыніяна, патрабаваўшай вялікіх падаткаў. І як толькі мы станем на гэты бок гледжання, дык нам больш не будзе нічога патрэбна для таго, каб адразу зразумець сапраўдную фізіяномію паўстання з крыкамі камусьці нябачнаму: «О, перамагай!».

Камета Галея ў наш час, відаць, ужо моцна дысацыяравалася і з’яўляецца блізкай да свайго знікнення, а пры першых з'яўленнях, пачынаючы ад 451 года, яна без сумневаў была жахліва вялікай, таму што выклікала вялізную колькасць напалоханых апісанняў.

Яна з'явілася адпаведна са знойдзенымі ў Кітаі летапісамі (гл. IX у VI кнізе «Хрыста») у студзені 532 года, ці ж гэта была нейкая іншая камета якраз з перыядам роўным 121 году, зараз ужо распаўшаяся на метэарыты. Няма ніякіх сумневаў, што падобны меч на небе, гуляўшы сярод сузор'яў, вядома, не адзін месяц, выклікаў вялікія хваляванні розумаў пры месіянскіх жахах таго часу, што падмацоўвалася і прарочым з астралагічнага боку гледжання спалучэннем планет. Юпітэр тады ганяўся назад і наперад за Сатурнам пры заходзе ў паваротнае Сузор'е Рака, першапачатковы знак вяртання цара Месіі, дзе для яго быў прыгатаваны і Асёл. Марс пачынаючы са студзеня 532 года да верасня хадзіў узад і наперад паміж сузор'ем суда – Шалямі і сузор'ем сьмерці – Скарпіёнам, а сонца, вядучы за сабой Меркурый і Венеру, спяшалася далучыцца ў чэрвені да Сатурна і Юпітэра. І вось, калі Сонца, Сатурн, Юпітэр і Меркурый злучыліся разам у Раку, дзе астролагі

размяшчалі і Яськлі Хрыста, і асла з аслiхай, Венера ў выглядзе ранішняй зоркі з'явілася каля Пляяд у сузор'і Цяляці над узыходзячым Арыёнам, знакам арыянскага богазмагальніцтва, падмацоўваючы словы Апакаліпсіса «Перамагаючаму дам зорку ранішнюю». Але ўсё гэта, як працяглая з'ява, магчыма, толькі б паказытала нервы чакаўшаму другога прышэсьця Цара-Месіі насельніцтву Візантыі, калі б да гэтага не далучылася адна нечаканая жахлівая з'ява. Падчас вечаровай містэрыі ў цар-гародзкім цырку-царкве, як толькі на захадзе зайшло Сонца, із-за ўсходняга гарызонту ў сузор'і Сьмерці – Скарпіёне – выйшаў разам з чырвоным Марсам поўны месяц, але не звычайны, а «жудасны», падобны на крывавую пляму, як часта бывае пры яго зацьменнях, нагадваючы сабой словы Апакаліпсіса пра азнакі судовага, апошняга дня: «і стала сонца змрочным, як валасяны мяшок, а месяц як кроў». Адбылося поўнае месяцовае зацьменне 3 чэрвеня 532 года пры самым уваходжанні Месяца са знака нябеснага Суда – Шаляў у сузор'е сьмерці Скарпіёна (каля 270° сучаснай экліптыкальнай даўгаты). Сярэдзіна яго прыпадала на час каля 8 гадзін вечара адпаведна з цар-гародзкім часам, а заканчэнне, перад якім месяц набываў усе фарбы зямнога паўценю, павінна было ўжо прыпадць на поўную ноч каля 9 гадзін 42 хвілін.



Пры існаваўшым трывожным становішчы, якое навяваў вісячы на працягу паловы года нябесны меч, пры злавесным размяшчэнні планет і пры пераканання насельніцства, што Цар-Месія сапраўды днямі хутка прыйдзе на зямлю, такое новае ўскладненне сапраўды магло мець наступствам тое, што нехта із фанатыкаў, страціўшы цярпенне ад доўгага чакання, роспачна крыкнуў звяртаючыся да знака Вялікага Цара ўзыходзячага сузор'я Змеятрымальніка, пад нагамі якога ўсё адбывалася: «О, перамагай!» і пад гэтым лозунгам павёў усіх прысутнічаючых на паграм урадавых статуй і фіскальных установ дзяржавы.



Мал. 93.
Сучасны ўнутраны выгляд Храма Мудрасьці (Айя Сафія) у Цар-Горадзе.

А перапалоханаму імператару, яго жонцы, вайскаводу Велізарыю і ўсяму яго ваярству нічога не заставалася рабіць, як сядзець, схаваўшыся ў сваіх умацаваных памяшканнях.

Але вось, прайшло шэсць дзён. «Перамагаючы» не з'яўляўся нягледзячы на ўсе маленні вернікаў. Усё ў прыродзе было спакойна, як заўсёды. Правадыры паўстання разгубіліся. Расчараваныя паслядоўнікі адзін за другім пакідалі іх і на сёмы дзень падбадзёрыўшамуся імператару і яго войску было няцяжка справіцца з парэшткамі натоўпу, яшчэ чакаўшымі Цара-Месію ў сьвятым цырку.

Мы бачым, што ўсё недарэчнае набывае тут зразумелы выгляд і атрымлівае лагічнае тлумачэнне, калі мы паглядзім на гэтае пытанне «пры сьвятле зорак».

Апакаліпсіс і прароцкія кнігі Бібліі робяцца з новага боку гледжання непараўнальна больш надзейнымі першакрыніцамі для высвятлення рэлігійных плыняў старажытнага часу, чым клерыкальныя апокрыфы Эпохі Адраджэння. І ўсе яны тагачасную дзяржаўную царкву называюць распутніцай і, відаць, не ў адным толькі алегарычным сэнсе.

«– *Упала, упала Брама Госпада*! – усклікае аўтар Апакаліпсіса на прыканцы 395 года. – *Упала Вялікае ўмацаванне, зрабілася прыстанкам нячысьцікаў і кожнага нячыстага духу, кожнай нячыстай і агіднай птушкі за тое, што лютым вінам свайго блудадзейства яна напаіла ўсе народы. Цары зямныя распутнічалі з ёю, і купцы зямныя пабагацелі ад яе вялікай раскошы. Выйдзі із яе, мой народ, каб не браць табе ўдзел у яе грахах і не зведаць яе пакаранні. Пастаўцеся да яе так, як яна ставілася да вам! У чарцы, у якой яна гатавала вам віно, прыгатуйце ёй удвая*» (Ап. VIII)!

Але голас аўтара Апакаліпсіса на прыканцы III і ў IV стагоддзі быў яшчэ слабы, верагодна дзякуючы нязначнай пашыранасьці грэцкай мовы ў літаратуры, і толькі ў V стагоддзі мы бачым яго яскравыя адлюстраванні ў біблейскіх прароцтвах, малюючых дзяржаўную царкву (г.азн. цырк) нават і напачатку шостага стагоддзя цалкам такім жа, як больш позняя хрысьціянскія пісьменнікі малявалі культ Вакха-Дыёніса.

Біблейскія паданні гэтага часу пра моцнае развіццё гандлю Цар-Горада (па-жыдоўску – Горад-Цур ці Горад-Цар) таксама паказваюць на эпоху Юстыніяна[134].

Вось, напрыклад, радкі з таго ж прароцтва Параможа Бог (Іезекі-Іл).

«*Скажы, сын чалавечы, Цару-Гораду, размешчанаму каля ўваходу ў мора, гандлючаму з народамі на шматлікіх выспах: Цар-Горад! Ты кажаш пра сябе: «я дасканаласць прыгажосьці!» Так! У сэрцы мораў твае межы. Із германскіх кіпарысаў рабілася абшыўка для тваіх караблёў і із кедраў Белай Гары твае мачты... Узорыстая тканіна із Міц-Рыма ўжывалася на твае ветразі і служыла сьцягам. Яхантавая і пурпурная фарба із выспаў Элісы* (Эллады) *пакрывала тваю палубу... Розныя марскія караблі і карабельшчыкі рабілі твой гандаль. Гал, славянін*[135] *і лівіец знаходзіліся ў тваім войску і служылі ратнікамі. Яны вешалі ў цябе свой шчыт і шлем і складалі тваю веліч*» і г.д. і г.д. (Іезек., XXVII).

Гэтая кніга, як я ўжо астранамічна давёў у першым томе, напісана ў сярэдзіне V стагоддзя нашай эры, і біблейскі Цар-Горад у ёй – несумнеўна

[134] Пішацца то צר (ЦР), то צור (Цар) і тэолагамі няправільна вымаўляецца як Цір (магчыма з мэтай зацямніць сутнасць справы). А слова цар з’яўляецца ўсходнім скарачэннем слова Цэзар.

[135] פרס (ПРС) звычайна перакладаюць – перс. Але гістарычна немагчыма ні са старога, ні з новага боку гледжання, каб веліч горада Ціра складала пярсідзкае войска. Гэта сапсаванае פרס (ПРЗІ) – парызі, фрызы, француз, парыжанін... Дакладна гэтак жа і слова לוד (ЛЮД) – хутчэй усяго не міфічны лідыец, а назва славянскіх вояроў, – людзі.

з’яўляецца Цар-Горадам хрысьціянскіх пісьменнікаў. Вось як А. А. Васільеў апісвае яго гандаль пры Цару-Заканадаўцу (Юстыніяну, па-грэцку):

«Усходняя Рымская імперыя з такім цэнтрам, як Канстантынопаль, выявілася дзякуючы магутнасьці абставін у ролі пасярэдніка паміж захадам і ўсходам, і яе падобная роля працягвалася да эпохі крыжовых паходаў.

Галоўных гандлёвых шляхоў існавала два: адзін сухапутны, другі водны. Першы караванны шлях ішоў ад заходняй мяжы Кітая, праз Сагдыяну (сучасную Бухару), да пярсідзкай мяжы. Там тавары пераходзілі із рук кітайскіх купцоў у рукі пярсідзкіх, якія ўжо перамяшчалі іх далей у вызначаны мытны пункт на візантыйскай мяжы. Другі, водны шлях, ішоў такім чынам: кітайскія купцы на караблях везлі свае тавары да выспы Тапробана (зараз Цэйлон), на поўдзень ад паўвыспы Індастан, дзе тавары перагружаліся, пераважна, на пярсідзкія караблі. Апошнія везлі іх па Індыйскаму акіяну і Пярсідзкаму заліву да ўтокаў Тыгра і Еўфрата, адтуль угару па Еўфрату тавары даходзілі да размешчанага на гэтай рэчцы візантыйскага мытнага пункта. Асабліва важнай галіной гандлю быў кітайскі шоўк, на які існаваў вялізны попыт у Візантыі. Нават коканы шаўкавічнага чарвяка былі нарэшце дастаўлены ў яе і яна хутка засвоіла гэтыю справу: з'явіліся ўласныя плантацыі шаўкоўніцы. Галоўныя фабрыкі шаўковых тканін размяшчаліся ў Канстантынопалі, потым у сірыйскіх гарадах Бейруце, Ціры, Антыёхіі і, нарэшце, пазней ў Грэцыі. Шаўковая вытворчасць пачала даваць імперыі вялікія прыбыткі. Візантыйская шаўковая тканіна разыходзіліся па ўсёй Заходняй Яўропе і ўпрыгожвала палацы заходніх валадароў і прыватныя сядзібы заможных купцоў. Такім чынам, падчас Юстыніяна візантыйскі гандаль перажыў адзін із важных момантаў у сваім развіцці. У сувязі з гэтым на межах імперыі былі пабудаваны некалькі ўмацаванняў (castella): у паўночнай Афрыцы, на берагах Дуная і Еўфрата, у гарах Арменіі і на Крымскай паўвыспе. Яшчэ ў наш час захаваліся парэшткі ўмацаванняў на ўсім працягу былой Візантыйскай імперыі».

Усё гэта вельмі адпавядае апісанням Цара-Горада (Цара-Ціра ў прароцкай частцы Бібліі), ды і апакаліптычныя апісанні раскошы распутнай «Брамы Госпада» падмацоўваюцца гісторыкамі Візантыі. «Вялізная колькасць мармуру розных колераў і адценняў, – паведамляюць нам, – была прывезена ў Цар-Горад із найбольш каштоўных капальняў. Золата, срэбра, слановая костка і каштоўныя камяні павінны былі надаць яшчэ большы бляск будуемаму там Юстыніянам Храму Мудрасьці (Сафіі па-грэцку)». Ён запрасіў із малаазіяцкіх гарадоў двух архітэктараў: Квітнеючага (Анфімія) із Тралеса (Tralles) і Дарунак Ізіды (Ісідора) із Мілета. Яны рупліва ўзяліся за працу, маючы пад сваім наглядам да 10 000 працоўных, і ў снежні 537 года, у прысутнасьці імператара, адбылося ўрачыстае асьвячэнне Храма Мудрасьці (Сафіі). Больш позняя традыцыя паведамляе, што, быццам бы, уражаны Юстыніян пры ўваходзе туды прамовіў: «– Слава Богу, ганараваўшаму мяне магчымасьцю здзейсніць такую справу! Я перамог цябе, Саламон!»

А на самай справе і легенда пра Храм Саламона была сторана няйнакш як грунтуючыся на гэтым самым храме, які, аднак, з тых часоў не раз зведаў рэканструяванне. У былыя часы, – кажуць нам, – перад храмам знаходзіўся шырокі двор – атрыум, аточаны порцікамі, пасярод якога існаваў выдатны мармуровы фантан. Паабапал галоўнай часткі былі пабудаваны двухпавярховыя аркі з каштоўна ўпрыгожанымі калонамі са шматкаляровага мармуру, мармурам жа была выкладзена і частка сьцяны.

Галоўная цяжкасць для будаваўшых Храм Мудрасьці, із якога, фантастычна спісаны «Храм Саламона» ў Біблії, складалася ў пабудове вялізнага і разам з тым лёгкага купала, але першы купал абрушыўся яшчэ пры Юстыніяне і быў

адбудаваны зноў. Падарожнікі з захапленнем паведамлялі пра гэты храм. Так, рускі паломнік XIV стагоддзя, Стэфан Наўгародзкі, пісаў у сваіх нататках: «пра сьвятую Сафію, прамудрасьці боскай, розум чалавечы не ў стане ні сказаці, ні вымесьці». Нягледзячы на даволі частыя і моцныя землятрусы Храм Мудрасьці стаіць і зараз, ператвораны пачынаючы ад 1453 года ў мячэць. Вось, некалькі яго выяваў (мал. 93-95).



Мал. 94
Частка ўнутранага выгляду храма Сьвятой Мудрасьці (Айя Сафія) у Цар-Горадзе ў наш час.

Але Юстыніян будаваў і іншыя храмы. Прыблізна на адлегласьці пяці кіламетраў ад Равены, дзе пасьля остготаў, пачынаючы з паловы V да паловы VI стагоддзя, жыў візантыйскі намеснік у пустыннай ліхаманкавай мясцовасьці, а пад час сярэдневечча існаваў вялікі гандлёвы порт горада, узвышаецца, прыпісваемая яму, вельмі простая з выгляду царква «Апалінара (г.азн. прысьвечаная Апалону) in Classe», уяўляючая сабой згодна з формай сапраўдную старажытную базіліку. Збоку ад яе стаіць круглая званніца больш пазьняга паходжання, а ўсярэдзіне царква мае тры «караблі», г.азн. аддзяленні. Тут ва ўпрыгожаных скульптурнымі выявамі саркафагах, уздоўж царкоўных сьцен, былі пахаваны найбольш вядомыя арцыбіскупы Равэны. Мазаіка VI стагоддзя знаходзіцца ў глыбіні апсіды і малюе «прысьвечанага Апалону» апекуна Равены, стаячым з паднятымі рукамі на фоне мірнага краявіду і аточанага ягнятамі. Над ім, на блакітным, усеяным залатымі

зоркамі фоне «вялікага медальёна» красуецца крыж, абсыпаны каштоўнымі камянямі. Іншыя мазаікі гісторыкамі дапасуюцца да больш пазьняга часу.



Мал. 95
Храм Святой Мудрасьці (Ая Сафія) у Цар-Горадзе ў наш час; разрэз у даўжыню. (Згодна з Гнедзічу.)

Але самым важным манументам у Равене для меркавання пра мастацтва эпохі Юстыніяна з'яўляецца царква «Ажыўленага» (Віталя), якая амаль уся, зверху да нізу, пакрыта скульптурнымі і мазаічнымі ўпрыгожваннямі. На адной скульптуры намаляваны сам цар Упраўда, Юстыніян, аточаны біскупам, сьвятарамі і свецкімі асобамі. На другой мазаіцы намалявана яго жонка, «Боскі падарунак» – Тэадора, аточаная сваім, штатам.

У прыналежнасьці іх да часоў Юстыніяна, вядома, можна сумнявацца, але, вось ягіпецкія храмы, асабліва Дендэрскі, без сумневаў належаць яго часу, пра што сведчаць знакамітыя задыякі на іхнай столі, із якіх круглы астралагічна паказвае на 15 сакавіка 568 года, а чатырохкутны на 6 траўня 540 года. Грунтуючыся на іх лепш усяго рабіць высновы пра архітэктуру і скульптуры і нават пра рэлігійную сімвалістыку таго часу. Апошняя ў хрысьціянскіх краінах, вядома, абнаўлялася ў намаляванай частцы шмат разоў адпаведна новым ўяўленням наступных пакаленняў: даўніну ж пачалі шанаваць пачынаючы толькі з нядаўняга часу. Абодва гэтыя задыякі ўжо дадзены на малюнках і апісаны ў VI кнізе «Хрыста».

Юстыніян памёр у 565 годзе, і пасьля яго сьмерці зноў загаварылі, згодна са сведчаннем Яна Эфескага, пра набліжэнне заканчэння сьвету. І вось, нягледзячы на ўсе гэтыя храмы, ангельскі гісторык Філей так напісаў пра той час:

«Магчыма, не было перыяду ў гісторыі, калі грамадства знаходзілася ў стане такой усеагульнай дэмаралізацыі».

Бліжэйшымі спадкаемцамі Юстыніяна былі, як ужо сказана вышэй, Упраўда II (Юстын II) Малодшы (565-578 г.), потым Тыверый (Тыбрскі) II (578-582 г.), Маўрыкій (г.азн. Чарнявы), (582-602 г.) і «Цюлень» (Фака, 602-610 г.). Із іх больш іншых выдаваўся энергічны ваяр Маўрыкій, і вялікім уплывам на дзяржаўныя справы вызначалася Сафія, жонка Юстына II, нагадваўшая Тэадору.

Пяцідзесяцігадовы мір з Персіяй, заключаны ў 562 годзе Юстыніянам, быў парушаны пры Юстыну II, які не пажадаў далей плаціць умоўленую штогадовую суму грошай. У гэты час з мэтай агульных дзеянняў супраць Персіі амаль ці не завязаліся, – кажуць нам, – стасункі Візантыі з цюркамі, якія, з'явіўшыся незадоўга перад тым каля Каспійскага мора, завалодалі краем паміж Кітаем і Персіяй. Цюркская амбасада, – апавядаюць нам, – пасьля доўгага шляху прыбыла ў Цар-горад, дзе сустрэла ласкавы прыём і, быццам бы, прапанавала візантыйскаму ўраду пасярэдніцтва ў гандлі шоўкам паміж Кітаем і Цар-горадам, а следам за гэтым неяк стушавалася ў гісторыкаў без сьледу. Магчыма палічыць, што яе і не было.

У гэты час уся Балканская паўвыспа яшчэ была запалонена славянамі-аварамі (а не адваяна імі ў грэкаў, як нас пераконваюць, жадаючы патлумачыць адсутнасць у ёй «старажытна-грэцкай культуры» пад час сярэдневечча). Вялікая частка Італіі была населена арыянамі-ламбардцамі (лангабардамі). Рымская вобласць была цалкам аточана імі з поўначы, усходу і поўдня.

Самыя блізкія імператары пасьля Юстыніяна прытрымліваліся, – пераконваюць нас, – двухіснасьці цара-Месіі і пераследавалі аднаіснасных монафізітаў, напрыклад, пры Юстыну II. І ў гэты ж час упершыню пачалі набываць значэнне рымскія пантыфексы. Так у лісьце да імператара Маўрыкія вялікі пантыфекс Рыгор вінаваціць тагачаснага цар-гародзкага патрыярха Яна Посніка ў празмернай ганарыстасьці.

«*Я павінен*, – пісаў папа, – *усклікнуць: о, часы! о, норавы!* (o, tempora! o, mores!)! *У такі час, калі ўся Яўропа падпала пад уладу варвараў, калі гарады разбураны, умацаванні зьнішчаны, правінцыі спустошаны; калі палеткі застаюцца без рук, ідалашанавальнікі лютуюць і пануюць на пагібель вернікам, – і вось у такі час сьвятары дамагаюцца пышных тытулаў і ганарацца тым, што носяць новыя, бязбожныя імёны, замест таго, каб падаць у пыл, заліваючыся слязамі! Хіба я абараняю, набожнейшы гасудар, сваю ўласную справу? Няўжо я маю жаданне, кажучы гэта, адпомсціць за сваю асабістую крыўду? Не, я выказваюся ў абарону справы ўсемагутнага бога і справы сусьветнай царквы... Хто абражае сьвятую сусьветную царкву, у чыім сэрцы бушуе гонар, хто мае жаданне карыстацца асабістымі тытуламі і, нарэшце, мае намер сваім тытулам паставіць сябе вышэй прэрагатывы вашай улады, – таго патрэбна пакараць*».

А потым, калі гэтага шануемага смугляка-Маўрыкія забіў цюлень-Фака, Рыгор, павярнуўшы фронт, пісаў, – кажуць, – і яму:

«*Слава ў вышніх богу! Ды вяселяцца нябёсы і ды сьвяткуе зямля* (Псал. XCV, II). *Увесь народ, да гэтага часу моцна смуткуючы, ды ўзрадуецца вашым добранакіраваным здзяйсненням!.. Хай кожны атрымлівае асалоду пад ярмом набожнай імперыі. Таму што ў гэтым і складаецца адрозненне паміж валадарамі іншых народаў і імператарамі, што першыя пануюць над рабамі, імператары ж рымскай дзяржавы ўзначальваюць вольных*!»

Але толькі другі наступнік Рыгора дамогся таго, што Фака забараніў цар-гародзкаму патрыярху называцца сусьветным і абвясьціў, грунтуючыся на сведчанні адной першакрыніцы, каб «апостальскі пасад шчасьлівага апостала Пятра ў Італіі быў кіраўніком ўсіх цэркваў».

Так **упершыню** рымскія пантыфексы набылі сабе не толькі самастойнасць, але і вяршынство. У якасьці адзнакі такіх добрых дачыненняў паміж Рымам і Рамеяй на рымскім форуме равеннскім экзархам была ўзведзена да гэтага часу існуючая калона з хвалебным надпісам у гонар Факі. На чале візантыйскага кіравання Італіяй быў прызначаны генерал-губернатар з тытулам экзарх, якому былі цалкам падначалены грамадзянскія ўрадоўцы і рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Равене.

Такім чынам, заснаванне Равэнскага экзархата дапасуецца да заканчэння VI стагоддзя, да часу імператара Маўрыкія, а раней не існавала нават і гэтай аўтаноміі. Валодаючы неабмежаванымі паўнамоцствамі, экзарх карыстаўся царскай пашанай: яго палац у Равэне меў назву сьвяты (Sacrum Palatium), як месца царскага знаходжання. Калі экзарх прыязджаў у Рым, яму ладзілася царская сустрэча: сенат, сьвятарства і народ ва ўрачыстай працэсіі сустракалі яго за сьценамі горада. Усе вайсковыя справы, грамадзянская адміністрацыя, судовая і фінансавая частка Італіі, – усё знаходзілася пад поўнай уладай экзарха.

А Рым упершыню пачаў вылучацца на першы план толькі як месца пілігрымства да паваліўшагася там з неба з громам і бляскам апостала Каменя (апостала Пятра, па-грэцку). Але пра гэта я ўжо дастаткова выказваўся у V і VI томе.

Пачатак Афрыканскага ці, як яго часта называюць адпаведна з месцам рэзідэнцыі, Карфагенскага экзархата дапасуецца таксама да заканчэння VI стагоддзя, да часу імператара Маўрыкію, і Афрыканскі экзарх валодаў такімі ж неабмежаванымі паўнамоцтвамі, як і яго італійскі калега.

Зараз зноў крыху пагаворым і пра грэкаў у Візантыі.

Калі ў дваццатых гадах мінулага стагоддзя, – паведамляе А. А. Васільеў[136], – уся Яўропа была ахоплена пачуццём глыбокай сімпатыі да грэкаў, падняўшых Сьцяг паўстання супраць турэцкага ярма; калі пасьля гераічнага супраціўлення гэтыя ваяры за волю здолелі захаваць сваю самастойнасць і, дзякуючы дапамозе еўрапейскіх дзяржаваў, стварылі незалежнае грэцкае каралеўства; калі заангажаванае еўрапейскае грамадства бачыла ў гэтых героях сыноў старажытнай Элады і разлічала ў іх рысы Леаніда, Эпамінонда, Філапемена, – у гэты час із аднаго невялікага нямецкага горада прагучаў голас, які заявіў здзіўленай Яўропе, што ў насельнікаў новай грэцкай дзяржавы няма ніводнай кроплі сапраўднай элінскай крыві, што ўвесь вялікадушны парыў Яўропы дапамагчы адраджэнню сьвятой Элады заснаваны на непаразуменні. Чалавекам, які адважыўся адкрыта выступіць у такі момант са сваёй новай тэорыяй, дашчэнту руйнуючай вераванні тагачаснай Яўропы, быў прафесар усеагульнай гісторыі ў адным із нямецкіх ліцэяў, Фальмерайер.

У першым томе яго, выдадзенай у 1830 годзе, «Гісторыі паўвыспы Марэі пад час сярэдневечча» мы чытаем наступныя радкі:

«Элінскае племя ў Яўропе вынішчана цалкам. Прыгажосць цела, палёт духу, прастата звычаяў, мастацтва, рысталішчы, гарады, старажытная раскоша калон і храмаў, нават само імя гэтага племені, – усё знікла з паверхні грэцкага кантынента. Падвойны пласт парэшткаў і ціны двух новых, розных чалавечых рас пакрывае магілы старажытнага народа. Неўміручыя тварэнні яго духу і некаторыя парэшткі на роднай глебе з'яўляюцца зараз адзінымі сведкамі пра тое, чым некалі быў народ Эллiны. І калі б не гэтыя парэшткі, не гэтыя магільныя ўзгоркі і маўзалеі, не гэтая зямля і не злапомная доля яе насельнікаў, на якіх еўрапейцы нашага часу ў парыве чалавечага замілавання вылівалі ўсю сваю пяшчоту, сваё захапленне, свае слёзы і красамоўства, – то давялося б засведчыць, што адна пустая здань, бяздушная выява, істота, знаходзячаяся па-за прыродай рэчываў, усхвалявала глыбіню іхных сэрцаў. Ніводнай жа кроплі сапраўднай, чыстай элінскай крыві не цячэ ў жылах хрысьціянскага насельніцтва сучаснай Грэцыі. Скіфскія славяне, ілірыйскія арнауты, дзеці паўночных краін, кроўныя сваякі сербаў і баўгар, далмацінаў і маскавітаў, – вось, тыя народы, якія мы зараз называем грэкамі і генеалогію якіх, да іх уласнага здзіўлення, узводзім да Перыкла і Філапемена... Насельніцтва Грэцыі са

[136] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, I, стар. 175.

славянскімі рысамі твару ці з дугападобнымі бровамі і рэзкімі рысамі албанскіх горных пастухоў, вядома, не паходзіць ад крыві Нарцыса, Алківіяда і Антыноя; і толькі рамантычная, палкая фантазія ў нашы дні яшчэ можа мроіць пра адраджэнне старажытных элінаў з іхнымі Сафоклямі і Платонамі».

На Фальмсрайера напалі ўсе, але аспрэчыць яго не здолелі. Анатамічныя асаблівасьці сучасных грэкаў самі сведчаць за сябе. Пра пагалоўнае ж знішчэнне старажытных класічных грэкаў славянамі, ці пра цалкам знішчыўшую іх чуму, – як лічыў Фальмерайер, – можна разважаць толькі із роспачы. Але Фальмерайер меў рацыю, нечакана для самога сябе, назваўшы старажытную класічную Элладу «адной пустой зданню, бяздушнай выявай, істотай, знаходзячайся па-за прыродай рэчываў». Толькі што паказаная намі поўная адсутнасць асоб грэцкага паходжання ва ўладзе і ў войску Рамеі-Візантыі пачынаючы з самога яе заснавання таксама падмацоўвае нашу думку, што аж да дынастыі Камнінаў у XI стагоддзі нашай эры грэкі ў Візантыі былі толькі напалову дзікунамі, і ўся класічная Эллада – чароўная казка Эпохі Адраджэння. Нават і тэалагічная літаратура на грэцкай мове пачалася толькі з Апакаліпсіса на прыканцы IV стагоддзя нашай эры, а свецкая – яшчэ значна пазьней і пышна расцьвіла яна большай часткай ужо па-за межамі краін з карэнным грэцкім насельніцтвам, у Заходняй Яўропе.

Усё непаразуменне адбылося дзякуючы звычаю перапісчыкаў перад-друкарскага часу не пазначаць на сваіх копіях імёны іхных першапачатковых аўтараў, з нагоды чаго гэтыя імёны хутка губляліся і замяняліся фантастычнымі імёнамі ўяўных старажытных пісьменнікаў і навукоўцаў. А потым пад час эпохі інквізіцыі і самі аўтары пачалі выдаваць свае творы за старажытна-грэцкія.

# Глава XII

## Канец рамейскіх аўтакратаў. Славянская дынастыя Геркулеса, першага рамейскага «цара» (ΒΑΣΙΛΕΥΣ'Α). Першы пачатак агарянства ў Заходняй Азіі і Ягіпце і евангельскага хрысьціянства на Балканскай паўвыспе.

Будзем тут, як і ў мінулай частцы, спачатку карыстацца толькі грэцкімі апакрыфістамі і таму ўжываць і для гэтых цароў грэцкія найменні, хаця яны самі, верагодна і не азірнуліся б, пачуючы як ззаду іх клічуць такімі імёнамі. Потым у далейшых главах я назаву і іхныя біблейскія імёны, якія для іх, напэўна, былі б больш зразумелымі. Дам спачатку храналагічныя вехі гэтай дынастыі.

Пачнём з цара Геркулеса (Гераклія класічных, а з імі і еўрапейскіх гісторыкаў).

У асобе «цара Геркулеса» (610-641 г), і яго самых блізкіх спадкаемцаў Вялікая Рамея, – кажуць нам, – мела на сваім пасадзе дынастыю, відаць, армянскага паходжання. Ва ўсякім разе, апакрыфічны армянскі гісторык VII стагоддзя Себеас піша, што яго род знаходзіўся ў сваяцтве з армянскім родам Аршакідаў. Але гэтаму супярэчаць сведчанні іншых крыніц пра бялявыя, залацістыя валасы Гераклія, як у славян. Ён, – кажуць нам, – кіраваў пачынаючы ад 610 года да 641. Ад першай жонкі Еўдакіі, ці, магчыма ад галоўнай са сваіх шматлікіх законных жонак і наложніц свайго гарэма, ён меў сына Кастуся, які, праваладарыўшы некалькі месяцаў пасьля сьмерці бацькі, памёр у тым жа 641

годзе. У гісторыі ён вядомы як Кастусь II (часам Кастусь III, калі лічыць за імператара сына Кастуся Вялікага, таксама Кастуся, валадарыўшага, – кажуць нам, – у суваладаранні з братамі). Пасьля яго на працягу некалькіх месяцаў кіраваў другі сын «Геркулеса» ад яго другой жонкі Марціны, на імя таксама «Геркулес», але для адрознення ад бацькі названы гісторыкамі Гераклеон. Ён быў пазбаўлены пасада восенню 641 года і пасьля яго імператарам быў абвешчаны сын Кастуся II, Кастусь III, ён жа Кастусь IV ці, як яго звычайна завуць, Канстант II, валадарыўшы пачынаючы ад 641 года да 668. А на візантыйскіх манетах і ў заходніх афіцыйных дакументах ён заўсёды мае найменне Кастусь. Пасьля яго кіраваў яго энергічны сын Кастусь IV (ён жа V) з мянушкай Паганат, Барадаты (668-685) ці хутчэй усяго Паганат[137], паганствуючы, хаця некаторыя дапасуюць гэтую мянушку да яго бацькі Кастуся III (Канстанта II). А апошні прадстаўнік дынастыі цара Геркулеса, Юстыніян II, з мянушкай Рынатмет, г.азн. Адрэзаны нос, кіраваў два разы – ад 685 года да 695 і ад 705 года да 711. У 695 годзе ён, – кажуць, – быў пазбаўлены пасада і пасьля адразання носа сасланы ў крымскі Херсон, але пазьней з дапамогай баўгар здолеў вярнуць сабе пасад і пачаў жорстка помсціць тым, хто адрэзаў яму нос. Усталяваная ім тыранія, – кажуць нам, – мела наступствам, нарэшце, у 711 годзе, палацавую рэвалюцыю, падчас якой былі забіты як сам Юстыніян II, так і ўся яго сям'я. Такое сумнае заканчэнне ў 711 годзе мела Геркулесава дынастыя і разам з ёю заканчваецца наша біблейская першакрыніца – кніга «Цары», дзе Кастусь III адпавядае цару Сэдекіі, пра што будзе гаворка ў наступных главах, дзе я дам біблейскую версію гэтага перыяду Рамейскай гісторыі.

Пад час прамежку паміж гэтымі двума валадараннямі Юстыніяна II кіравалі два выпадковыя імператары – вайсковы правадыр Лявонцій (695-698), родам із Ісаўрыі, і Апсімар, атрымаўшы пры ўзвядзенні на пасад імя Тыверый (Тыверый III, пачынаючы ад 698 года да 705), якому некаторыя навукоўцы прыпісваюць германскае паходжанне.

Потым на візантыйскім пасадзе сядзелі тры выпадковыя імператары: армянін Вардан ці Філіпік (711-713); Арцемій, пераназваны пры каранаванні ў Анастаса (Анастас II, 713-715) і, нарэшце, Хвядос III (715-717). Час гэтай анархіі, панаваўшай у Візантыі пачынаючы ад 695 года, скончыўся ў 717 годзе ўзвядзеннем на пасад знакамітага Ільва Куміразмагальніка, з якога пачынаецца ўжо новая эпоха ў гісторыі Вялікай Рамеі.

Такой выяўляецца агульная храналагічная схема гэтага перыяду, а яго выбітныя падзеі знойдзем у наступных радках.

Падчас імператара Геркулеса, нягледзячы на яго гучнае імя, персы, – як нам паведамляюць, – яшчэ ў 611 годзе, г.азн. за 11 гадоў да славутага «збягання прарока Магамета із Мекі ў Медыну», ужо забралі ў Вялікай Рамеі Сірыю і завалодалі галоўным горадам візантыйскіх усходніх правінцый, Антыёхіяй. Дамаск таксама хутка перайшоў у іхныя рукі, персы пайшлі ў Палестыну і прыступілі ў красавіку 614 года да аблогі Эль-Кудса (псеўда-Ерусаліма), якая працягвалася дваццаць дзён, пасьля чаго, адпаведна з паведамленнем адной крыніцы, «злыя ворагі ўступілі ў горад з вялікай лютасьцю падобныя на раз'юшаных звяроў і раззлаваных цмокаў». Але ўсё гэта, як я ўжо паведамляў раней, прыдумана з мэтай пакончыць з апакрыфічным старажытным Ерусалімам у Палестыне.

Сапраўды, што можа быць прасьцей, як напісаць: «Хрысьціянскія сьвятыні разбураны, храм труны госпада пабудаваны Кастусём Вялікім і Аленай, спалены і

[137] Ад πώγω – барада, ці ад лацінскага paganus – паганскі, адкуль і рускае слова: паганы.

абрабаваны. Хрысьціяне зведалі бязлітаснае знішчэнне. Ерусалімскія жыды (вядома!) былі на баку персаў і пры захопе імі горада бралі ўдзел у знішчэнні хрысьціянаў, якіх, адпаведна з некаторымі паведамленнямі, загінула да 60 000. Адна із самых каштоўных сьвятыняў хрысьціянскага сьвету, святое жыватворнае дрэва, ці крыж госпада, была вывезена (з нейкай невядомай мэтай!) у Ктэсіфон. Сярод шматлікіх палонных, выпраўленых у Персію, знаходзіўся і ерусалімскі патрыярх Захарыя»[138].

Але гэта – si non e vero, e ben trovato. Спусташальная заваёва персамі Палестыны і разграм Ерусаліма ў той час з'яўляецца неабходнай для гісторыкаў апакрыфічнай царквы.

«Гэта было бедства нечуванае пасьля ўзяцця Ерусаліма пры Ціту і гэтым разам невыпраўнае, – лічыць і акадэмік К. П. Кандакоў. – Для гэтага горада ўжо не было пазней эпохі, падобнай часу Кастуся, і пазнейшыя шыкоўныя пабудовы ў яго сьценах, падобна так званай Амаравай мячэці, ужо не ўтвораць больш эпохі ў гісторыі. Пачынаючы з гэтага часу горад і яго ранейшыя пабудовы пераходзяць у мінулае, і самі крыжовыя паходы, настолькі вызначаючыяся рознымі вынікамі і, магчыма, рознай здабычай для самой Яўропы, адгукнуцца толькі закалотамі, блытанінай і распадзеннем у жыцці Ерусаліма» (нават найменьня якога тут тады не існавала, таму што ён меў назву Іліён – Горад св. Іллі, якое захавалася і ў яго тагачасным найменні Эліа-Капіталіна, і ў сучаснай мясцовай назве Эль-Кудс, г.азн. Ілля Сьвяты,– дадам я ад сябе).

«Пярсідзкае нашэсьце, – працягвае аўтар, – разам знішчыла прынесеную штучную грэка-рымскую культуру Палестыны, знішчыла земляробства, абязлюдзіла гарады, знішчыла на некаторы час ці назаўсёды кляштары і лаўры, спыніла гандаль. Гэтым нашэсьцем вызваліліся ад ранейшых повязей і баязні рабаўніцкія плямёны арабаў, і яны падрыхтаваліся да згуртавання ў будучым і паўсюднага наступлення. Пачынаючы з гэтага часу перыяд культурнага развіцця краіны спыніўся. Для яе пачынаецца тая смутная эпоха, якой лепш усяго было б даць назву сярэдневечча, калі б толькі яна не працягвалася аж да сучаснасьці».

Ці не праўда, чытач, як гэта падобна на апошнія радкі біблейскай кнігі «Цары»? Дык ці варта ж здзіўляцца таму, што я і дапасаваў заканчэнне «Царства Юдэйскага» да гэтага самага часу?

Але працягнем і далей наш выпіс.

«Лёгкасць заваёвы персамі Сірыі і Палестыны (ці, больш дакладна, іхнага самастойнага адпадзення) тлумачыцца, – лічыць А. А. Васільеў (т. I, 183), – монафізіцкім складам большай часткі насельніцтва гэтых абласцей». Частка пярсідзкага войска, прайшоўшы праз усю Малую Азію і заваяваўшы Халкідон на беразе Мармуровага мора каля Басфора, размясьцілася лагерам каля Хрысопаля (суч. Скутары), насупраць Канстантынопаля. Другое пярсідзкае войска заваявала Ягіпет. Александрыя была захоплена, напэўна, у 618 ці 619 годзе. А «ў Сірыі і Палестыне, монафізіцкае насельніцтва Ягіпта з лёгкім сэрцам перайшло на бок персаў» (таму што лічыла іх сваімі супляменнікамі і аднаверцамі: персамі ж тады называлі сучасных турак,– дададзім мы).

Адначасова з гэтымі жорсткімі стратамі на поўдні, таксама і на Балканскай паўвыспе, авара-славянскія згуртаванні на чале з аварскім каганам, рабуючы, дайшлі да самога Канстантынопаля і ўварваліся ў горад. Ісідар, біскуп Севільскі, так апісвае гэта ў сваёй хроніцы:

[138] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, I, 182.

«*Геракліій пачаў пяты год свайго кіравання* (616 г.), *напачатку якога славяне забралі ў рамеяў Грэцыю, а персы – Сірыю, Ягіпет і шматлікія правінцыі*». Аднак, небяспека з боку аварскага кагана на поўначы была скасавана з дапамогай выплаты вялікай сумы грошай і выдавання шляхетных закладнікаў, і пасьля гэтага, вясной 622 года[139], імператар пераправіўся ў Малую Азію, каб змагацца з «персамі».

Сучасныя нам гісторыкі лічаць, што ён (пачынаючы з 622 года да 628) здзейсніў тры пярсідзкія паходы, завяршыўшыяся дзіўным поспехам візантыйскай зброі і нагадаўшыя Ф. І. Успенскаму бліскучыя паходы Аляксандра Македонскага. «Геракліій, – кажуць нам, – далучыў да гэтай справы на сваім баку каўказскія народы і заключыў хаўрус з хазарамі, таму што паўночныя прыкаўказскія вобласьці Персіі былі адным із галоўных месцаў яго вайсковых здзяйсненняў».

На прыканцы 627 года, ён, – пераконваюць нас, – здабыў рашучую перамогу над персамі каля сучаснага горада Масула на рацэ Тыгр і ўступіў у цэнтральныя пярсідзкія вобласьці. Пярсідзкі цар Хасрой быў пазбаўлены пасада і забіты, а ўзышоўшы на пасад Кавад Шэрое пачаў з Гераклііем мірныя перамовы. Персы вярнулі Візантыі Сірыю, Палестыну і Ягіпет і, быццам бы, вывезенае імі жыватворчае дрэва. Геракліій з вялікай урачыстасьцю вярнуўся ў сталіцу, і да «вялікага задавальнення хрысьціянскага сьвету, жыватворчы крыж быў пастаўлены на ранейшае месца».

«Пераможная Візантыя вярнула сабе ўсе страчаныя ўсходнія правінцыі, – паведамляе нам А. А. Васільеў, – і каштоўная сьвятыня дрэва господава вярнулася на ранейшае месца».

І вось, – дадае ён[140], – Геракліій у 629 годзе ўпершыню афіцыйна назваў сябе **васілеўсам**. Гэтая грэцкая назва ўжо даўно ўжывалася ў частках імперыі размаўляючых на грэцкай мове. Але яна яшчэ не было прынята, як афіцыйны тытул. Да VII стагоддзя грэцкім эквівалентам для лацінскай назвы «імператар» быў «аўтакратар» (αὐτοκράτωρ), г.азн. «самаўладзец», што этымалагічна не адпавядае значэнню слова «імператар».

Чаму ж грэцкі тытул «цар» (Васіль, па-грэцку) з'явіўся так позна?

Ангельскі візантыіст Бьюры піша: «Пакуль па-за Рымскай імперыяй (г.азн. у Персіі) існаваў буйны незалежны васілеўс, імператары не жадалі браць тытул, які давялося б падзяляць з іншым манархам. Але як толькі гэты манарх быў зведзены на становішча залежнага васала і больш не было канкурэнцыі, рамейскі імператар адзначыў гэтую падзею, афіцыйна прыняўшы той тытул, які на працягу некалькіх стагоддзяў выкарыстоўваўся ў дачыненні да яго неафіцыйна»!

Якая, чытач, падумаеш, сціпласць!

А з нашага боку гледжання афіцыйным тытулам рамейскага цара да Геракліія хутчэй усяго было біблейскае слова Мелек, ці Кесар, і да грэцкай мовы ўрад натуральна перайшоў, толькі страціўшы сяміцкую мову свайго набажэнства, што, безумоўна, пазначыла карэнную рэформу набажэнства і рэзкую перамену рэлігійнай ідэалогіі. З нашага боку гледжання з гэтага моманту і пачалося дзяржаўнае хрысьціянства, як рэлігія кіруючых станаў, замест арыянства ці апакаліптычнага мікалаіцства, якога да таго часу прытрымліваліся рамейскія кесары. Запытаем перадусім, што азначае Кесар, ці, больш дакладна, Кайсар? Жыдоўскі корань гэтага слова ***Кашар*** у грэцкім вымаўленні ***кайсар*** азначае – моцны, устойлівы; па-грэцку – Кастусь. І вось, падобна таму як славянскае слова

[139] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, І, 184.
[140] Там жа.

«Кароль» паходзіць ад імя Карла Вялікага[141], а санскрыцкае Пітагор (настаўнік) выпрацавалася ад імя міфічнага настаўніка Піфагора, так і лацінскае ***Caesar*** і нямецкае ***Kaiser*** выпрацаваліся ад жыдоўскага наймення Кастусь, і раней яго гэты тытул не ўжываўся ні да каго.

Але, вось, рамейскія кайзеры (на-лаціне – цэзары) пры ўзнікненні агаранства раптам перастаюць называць сябе найменнем Кастуся Вялікага і замест Кастусёўцаў, абвяшчяюць сябе Васіліянцамі (па-грэцку – Басілеўсамі) у гонар заснавальніка хрысьціянскай літургіі Баз-Ілу (Васіля). Ці не зразумела із гэтага, што толькі з гэтага моманту і пачалося хрысьціянства, як дзяржаўная рэлігія? І мы не можам не адзначыць, што якраз пасьля таго часу жыў Марк Афінскі (626-725), які адпаведна з нашых меркаваннем стварыў із пашыраных тады паданняў пра Вялікага цара-Месію першае із хрысьціянскіх евангелляў – евангелле Марка на грэцкай мове.

А перад гэтым на дадатак яшчэ адбылося дзіва, таму інакш тое што адбылося, назваць немагчыма.

«Тым часам як імператар, – сведчыць Гібон, – святкаваў свае перамогі ў Канстантынопалі ці ў Ерусаліме ў 629 годзе, – адно малюсенькае мястэчка на мяжы Сірыі было разрабавана сарацынамі: звычайны і дробязны памежны выпадак, калі б ён не быў прэлюдыяй магутнай рэвалюцыі. Гэтыя разбойнікі былі апосталамі Мухамеда. Іхная фанатычная адвага выйшла із пустыні, і на працягу апошніх васьмі гадоў свайго валадарання Гераклій саступіў арабам тыя самыя правінцыі, якія ён вызваліў ад бясконца больш магутных персаў».

Але ж гэта, паўтараю, – дзіва! Як маглі бедныя разрозненыя пастухі аравійскіх пустынь, дзякуючы самой сваёй разрозненасьці не меўшыя ніякай магчымасьці арганізавацца, раптам перамагчы «магутную Рамею?» Гэта ж нашмат больш недарэчнае апавяданне чым тое, як юнак Давыд забіў каменем із прашчы гіганта Галіяфа!

«Напачатку VII стагоддзя ў межах Аравійскай паўвыспы і населенай арабамі Сірыйскай пустыні не было ніводнай палітычнай арганізацыі, заслугоўваючай назву дзяржава», – выказваецца так часта цытуемы намі А. А. Васільеў (І, 189). – Толькі ў самым яго далёкім кутку, на паўднёвым захадзе, у Емене, працягвала існаваць Сабейска-Хімьярское княства. Нам кажуць, што яшчэ ў першай палове VI стагоддзя хімьярскі князь, як апякун юдэйства, пачаў пераследаваць паўднёва-арабскіх хрысьціянаў, што мела наступствам ўмяшанне абісінскага хрысьціянскага цара, здабыўшага поўную перамогу і пачаўшага аднаўляць хрысьціянства ў Емене.

Але размешчанае на паўднёвым захадзе паўвыспы Хімьярскае княства не мела значэння для астатняга сьвету. Астатнія аравійцы жылі ва ўмовах радавога побыту. Кроўнае сваяцтва з'ўлялася адзіным падмуркам іхных натуральных інтарэсаў, а іхныя рэлігійныя ўяўленні былі вельмі прымітыўнымі. Плямёны мелі свае стоды і іншыя сьвятыя прадметы, напрыклад камяні, дрэвы, крыніцы. Яны верылі ў нябачныя дружалюбныя, але часьцей варожыя звышнатуральныя магутнасьці, асабліва ў дэманаў (джынаў). Уяўленні пра вышэйшую нябачную магутнасць характэрызаваліся ў іх нявызначанасьцю. Малітву, як форму шанавання, яны, відаць, цалкам не ведалі. Калі ж яны і звярталіся да нейкай боскасьці, то гэты зварот быў заклікам пра дапамогу ці помсту за панесеную крыўду ці несправядлівасць».

Качавое жыццё бедуінаў, праводзіўшых свае дні ў перавозімых з месца на месца намётах, вядома, не спрыяла ўладкаванню сталых, вызначаных месцаў для здзяйснення рэлігійнага культу, хаця б і вельмі прымітыўнага. А гарады былі

[141] А само імя Карл – відаць, ад жыдоўскага Цор-Эль, г.азн. цьвярдыня боская, а таксама – цар боскі.

рэдкімі і дробнымі, і маглі мець толькі мірны гандлёвы характар, пакуль два з іх – Мека і Ясрыб (Медына) не сталі месцам пілігрымства да аскепкаў здарыўшайся там метэарытнай катастрофы, пра якую я ўжо выказваўся у VI томе, і якая магла адбыцца толькі напярэдадні паходу Гераклія ў Персію ў 629 годзе, хаця пазьней мясцовыя жыхары і дапасавалі паданне метэарыта да часоў Бацькі Рыма.

«Гісторыя першапачатковага ісламу, – выказваецца А. А. Васільеў (I, 195) – належыць, дзякуючы стану крыніц, да адных із найбольш цёмных і спрэчных пытанняў у гісторыі».

Як прыклад супярэчлівасьці можна прывесьці думкі сучасных нам знаўцаў. Адзін із іх (Гольціэр), чытаючы, грунтуючыся на ўжо згаданым мной спосабе празарлівасьці візантыстаў, нават і думкі даўно жыўшых людзей, піша:

«Няма сумневаў, што ў душы Мухамеда ўжо жыла думка пра пашырэнне сваёй рэлігіі за межы Аравіі і пра ператварэнне свайго вучэння, абвешчанага тады толькі сваім самым бліжэйшым сваякам, у магутнасць, валадарачую над сьветам».

Другі навуковец (Грымэ) паведамляе, што «грунтуючыся на Каране можна лічыць канчатковай мэтай Мухамеда і іслама поўнае валоданне Аравіяй». Нарэшце, трэцці сучасны нам навуковец (Каэтану) піша, што прарок нават і не думаў пра далучэнне да свайго вучэння усёй Аравіі.

Здзіўленне гісторыкаў пры спробах патлумачыць «дзіўныя поспехі Магамета», абуджалася і той акалічнасьцю, што Аравія на працягу усяго свайго доўгага жыцця ніколі не прызнавала аднаго валадара, і што большасць плямён у паўночна-усходняй яе частцы былі хрысьціянамі, таму што гэтая рэлігія была пераважаючай у Месапатамскіх не арабскіх абласьцях уздоўж Еўфрата ў VII стагоддзі і моцна пашырылася ў параўнанні з прыйшоўшай у поўны заняпад афіцыйнай «рэлігіяй чараўнікоў».

«Напачатку Візантыя нават ставіла іслам (г.азн. агаранство), – выказваецца А. А. Васільеў (I, 196), – нароўні з іншымі хрысьціянскімі сектамі. Візантыйская апалагетычная і палемічная літаратура выступае супраць агаранства так жа, як супраць монафізітаў, монафелітаў і прадстаўнікоў іншых хрысьціянскіх вучэнняў». Нават апакрыфіст, які пісаў ад імя « жыўшага ў VIII стагоддзі пры мусульманскім двары і належаўшага да сарацынскай сям'і» знакамітага Яна Дамаскіна, не бачыў у ісламе новай рэлігіі, а толькі аналагічны з іншымі ерасямі прыклад адпадзення ад хрысьціянскай веры. Із візантыйскіх храністаў першым паведамляе сведчанні пра жыццё Мухамеда, «валадара сарацынаў і лжэпрарокаў», пісаўшы, быццам бы, напачатку IX стагоддзя Феафан, ды і ў яго гэтае месца з’яўляецца больш позняй ўстаўкай. А калі гэта нават і праўда, то як жа патлумачыць, што імя Магамета і імёны яго спадкаемцаў Абу-Бекра, Асмана, Алі і іншых не былі згаданы ніводным із адукаваных візантыістаў да IX стагоддзя?

Але тут мы бачым і яшчэ адно непаразуменне.

Звычайна, як адна із галоўных падстаў «дзіўных вайсковых поспехаў аравіцянаў у VII стагоддзі ў змаганні з Візантыяй і з Персіяй», згадваецца іхны запал, пераходзіўшы ў рэлігійны фанатызм. Арабы, быццам бы, «кінуліся на азіяцкія і афрыканскія вобласьці, выконваючы запавет свайго прарока, прадпісаўшага ім далучэнне ўсяго сьвету да новага веравучэння, і рэлігійнае натхненне вымусіла іх з пагардай ставіцца да сьмерці». Але падобныя погляды павінны быць прызнаны памылковымі. У VII стагоддзі перакананых мусульманаў было трошачкі, ды і гэтая меншасць заставалася ў Медыне да заканчэння мяркуемых гісторыкамі першых іхных вялікіх заваёў. Вялізная ж большасць

аравійцаў складалася із бедуінаў, ведаўшых іслам толькі на імя. Пра нейкі рэлігійны запал з іхнага боку не магло быць і гаворкі. «Рэлігійны фанатызм і рэлігійная няцярпімасць у ісламе, – выказваецца А. А. Васільеў, – выяўляецца з'явай больш позняй, неўласьцівай арабскай нацыі, і тлумачыцца ўплывам мусульманаў-празелітаў».

Вось чаму навейшыя дасьледчыкі, адпаведна з прыкладам Каэтона, шукаюць іншыя падставы для нястрыманага напору арабаў. «Бедная прырода Аравіі не была ў стане, – выказваецца ён, – задаволіць жыццёвыя патрэбы арабаў, якія, пад пагрозай галечы і голаду, павінны былі зрабіць роспачную спробу выратавацца з гарачай вязніцы сваёй пустыні».

Але, ж, грунтуючыся на такой нагодзе ўсю Расію павінны былі б даўно ўжо захапіць эскімосы, у якіх краіна яшчэ больш бедная! Падобныя тлумачэнні можна даваць толькі дзецям, ды і то толькі із роспачы. Гісторыя ўсіх заваёваў паказвае на цалкам адваротнае. І вось зараз пачала ўзнікаць трэццяя гіпотэза. «Быдучы пераважна, монафізіцкімі, усходнія правінцыі, – кажуць нам, – гатовы былі адпасьці ад Візантыі».

Ды і як не адпасьці! Падумайце толькі: адны сцвярджаюць, што ў сына боскага толькі божая існасць, а другія, што акрамя яе і чалавечая... Гэта ж цалкам немагчыма перанесьці!! Акрамя таго, «насельніцтва візантыйскіх абласьцей Сірыі і Палестыны, – кажуць нам, – у сваёй большай частцы належала да сяміцкай расы і таму арабы-заваёўнікі сустрэлі тут аднапляменнае насельніцтва, размаўляўшае на іхнай жа мове». Згодна са словамі аднаго навукоўца, справа, такім чынам, «не ішла пра заваяванне замежных уладанняў, падаткі ад якіх былі б адзінай бясспрэчнай выгадай, а пра вяртанне часткі сваёй бацькаўшчыны, знемагаўшай пад чужацкім ярмом».

Такім было б адзінае праўдападобнае тлумачэнне, але і яно не адпавядае рэчаіснасьці: валадарамі Цар-Горада аж да таго часу былі большай часткай самі ж азіяты. Евангелляў яшчэ не было, грэцкая літаратура яшчэ не была распрацавана, законы нават і на Балканскай паўвыспе былі яшчэ на біблейскай мове, ды і само агаранства, хутчэй усяго было злёгку пераіначаным арыянствам, г.азн. Законам Арона.

«Паведамленні пра тое, – выказваецца А. А. Васільеў, працамі якога я асабліва карыстаюся пры выкладанні фактычнай часткі гэтага прадмета, – быццам бы Мухамед звярнуўся пісьмова да сучасных яму валадароў, у тым ліку і да Гераклія, з прапановай прыняць іслам, і пра тое, быццам бы апошні даў яму зычлівы адказ, павінны быць прызнаны больш позняй прыдумкай. Але яно праўдападобнае, характарызуючы блізкасць абедзьвюх рэлігій, як і паведамленне пра дамову, на падставе якой, быццам бы, Сафроній здаў Ерусалім Амару і ў якой абумоўліваліся гарантыі для волі хрысьціянаў у іхным рэлігійным і грамадзкім жыцці».

Ужо пасьля сьмерці Гераклія, агаране ў 641 ці 642 годзе далучылі да сябе Александрыю, і пад канец саракавых гадоў Візантыя канчаткова павінна была адмовіцца ад Ягіпта, а агаране пачалі пашыраць свае захопы далей на захад уздоўж берага Паўночнай Афрыкі. Сірыйскі намесьнік і будучы каліф Маавія, – кажуць нам, – дзейна пачаў будаўніцтва караблёў, экіпажы якіх складаліся першапачаткова із мясцовага, звыклага да мора **грэка-сірыйскага насельніцтва**. Згодна з паведамленнямі, атрыманымі на працягу апошніх гадоў із папірусаў, высвятляецца, што «на прыканцы VII стагоддзя адным із галоўных напрамкаў дзейнасьці ягіпецкай адміністрацыі была пабудова караблёў і забеспячэнне іх дасьведчанымі маракамі».

Такім чынам, новая неспадзяванка! Выяўляецца, што Ягіпет аддзяліўся ад Візантыі якраз з дапамогай александрыйскага **грэцкага флоту**!

Пачынаючы з пяцідзясятых гадоў VII стагоддзя, г.азн. пры Кастусю III, агаране, няйнакш, як з дапамогай таго ж александрыйскага **грэцкага флоту**, далучылі да сябе важную візантыйскую марскую базу, – выспу Кіпр, перамаглі візантыйскі флот, знаходзіўшыся пад кіраваннем самога імператара каля паўднёвых берагоў Малой Азіі, захапілі выспу Родас, на якой знішчылі знакаміты калос Радоскі, даходзілі да Крыта і Сіцыліі і пачалі пагражаць Эгейскаму мору.

Дзякуючы вышэйпералічаным поспехам саракінаў, якіх зараз нам ужо прама даводзіцца лічыць не за магаметанаў із Аравіі, а за арыян із Ніжняга Ягіпта, Вялікая Рамея падзялілася на агаранскую, з месцам агульнанароднага ўшанавання ў Мецы, і на хрысьціянскую, з месцам агульнанароднага ўшанавання, відаць, яшчэ каля падошвы Вязувія, ці Этны, ці ў Рыме. А дзякуючы таму што ўлада рамейскіх імператараў была заснавана на тэакратычных забабонах, таму што з дапамогай адной вайсковай магутнасьці немагчыма было трымаць у падпарадкаванні аддаленыя краіны пры тагачасных шляхах стасункаў, такі падзел месцаў ушанавання меў наступствам і падзел свецкай улады. Рамейская імперыя страціла сваё становішча сусьветнай дзяржавы. Моцна паменшыўшыся тэрытарыяльна, яе візантыйская частка ператварылася ў дзяржаву, у якой найбольш актыўным было прыморскае грэцкае насельніцтва гандляроў-маракоў Малой Азіі, і выспаў Эгейскага мора.

Што ж да Балканскай паўвыспы наогул, то яна, разам з Пелапанэсам, у сваім этнаграфічным складзе мела яшчэ пераважна славянскі элемент. На лацінскім Захадзе Візантыі належалі толькі разрозненыя часткі Італіі, не ўвайшоўшыя ў склад Лангабардзкага каралеўства (напрыклад поўдзень Італіі з Сіцыліяй і іншымі выспамі гэтай часткі Міжземнага мора), Рым, як месца пілігрымства, акрамя Флегрэйскіх палёў і Этны, і Равенскі экзархат. У візантыйскіх валоданнях Італіі грэцкае насельніцтва жыло на поўдні і ў Сіцыліі, дзе яно значна павялічылася ў VII стагоддзі, бо туды беглі не жадаўшыя прынімаць агаранства заможныя жыхары Ягіпта і Паўночнай Афрыкі. «Рымская імперыя ператварылася ў грэцкую імперыю», – робіць выснову А. А. Васільеў[142], а разам з ім і іншыя навейшыя артадаксальныя гісторыкі.

А мы ад сябе дададзім: не ў грэцкую, а ў грэка-лацінскую, у тую самую, пра якую і распавядаюць нам класікі, дапасуючы яе да дапатопных часоў. Раней гэтага Рамея была яшчэ старасьвецкай, якой яна апісана ў Біблії, і яе літаратурнай міжнароднай агульна-рамейскай заканадаўчай і царкоўнай мовай была яшчэ жыдоўска-халдзейская, а не грэцкая і лацінская, як лічыцца да гэтага часу.

Яшчэ напачатку гэтага дасьледавання я прывёў асноўнае цверджанне Канта, што адзіным доказам праўдзівасьці нашых ведаў, нават і атрыманых шляхам непасрэдных досьледаў і назірання, з'яўляецца толькі іх **разумнасць**, г.азн. разумеемасць нашым розумам (інакш – лагічнасць). Тым больш гэта дапасуецца да ацэнкі праўдзівасьці нашых ведаў, атрымліваемых з чужых сведчанняў, якія ніколі не бываюць тоеснымі пры пераходзе ад распавядаючага да слухаючага, а заўсёды аперцэпцыйныя, г.азн. варыянтныя, так што пры цэлым шэрагу наступных перадач першапачатковае паведамленне сведкі робіцца непазнавальным.

Нешта падобнае павінна было адбыцца і пад час разбіраемага намі перыяда, якому больш позняя пагалоска надала ніколі не існаваўшага ў той час славутага

---

[142] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі, I, 202.

аравійскага прарока (Магамета, па-карэйшыцку) і неверагодныя вычыны разрозненых прыродай і малалікіх ад прыроды аравійскіх пастухоў, якія быццам бы заваявалі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў больш паловы вялікай Рамейскай імперыі, не меўшай сабе да таго часу ніякіх супернiц. Усё гэта вельмі падобна на казку пра тое, як сініца некалі запаліла мора, і калі да таго самага часу гісторыкі і дапасуюць вынаходніцтва «грэцкага полымя», гарэўшага падобна нафце на паверхні мора і спальваўшага плывучыя па яму драўляныя непрыяцельскія караблі, то пытанне робіцца яшчэ больш незразумелым: запальвалі ж мора якраз грэкі, а не сініца-Магамет і яго агаранскія каліфы.

Для амаль імгненнага адпадзення ад Цар-Горада ўсёй паўночнай Афрыкі і большай часткі Азіяцкіх правінцый было недастаткова, – як я ужо не раз даводзіў, – збягання аднаго непісьменнага правадыра аравійскага каравана са свайго роднага глухога горада ў другі, яшчэ больш глухі, каб даць пачатак цэлай «эры збягання» (гаджары ці хагары[143]). Для падзелу ранейшай агульнай рэлігіі на дзьве была неабходна больш сур'ёзная нагода. Тлумачэнні гісторыкаў, якія я сумленна прывёў у гэтай частцы, выглядаюць такімі нацягнутымі і наіўнымі, што паказваюць толькі на іхную няздольнасць даць праўдзівае тлумачэнне.

Матываваць такую катастрофу, супярэчыўшую натуральнай плыні чалавечай эвалюцыі, можна толькі далучэннем да справы сапраўдных нечалавечых магутнасьцей.

У папярэднім томе, падрабязна распавядаючы пра штогадовыя пілігрымствы ўсіх агаранаў на ўшанаванне аскепкаў метэарытнай катастрофы, замацаваных у куце Каабы ў цэнтральнай мячэці Мекі, я ўжо паказваў, што адзіным рацыянальным тлумачэннем распадзення Вялікай Рамейскай імперыі на агаранскую і хрысціянскую магла быць толькі метэарытная катастрофа ў Чырвоным моры, вырабіўшая паніку сярод рамейскіх уладаўцаў і рамейскага сьвятарства. А для таго каб выклікаць паніку яна павінна была суправаджацца скалынаннем паветра, раўназначным шырокаму землятрусу, здольнаму скалынуць сьцены ягіпецкіх і сірыйскіх храмаў і скінуць у Ягіпце, як тагачасным рэлігійным цэнтры Рамейскай імперыі, статуі і ахвярнікі стагоддзямі прысьвечаныя багам.

Водгаласы гэтай катастрофы мы і бачым у біблейскім апавяданні пра бяглянку Агар (Hagar, ці Хаджар, адкуль і Хэджара – эра збягання), прагнаную Бацькам-Рымам, г.азн. Рамейскай імперыяй разам з яе сынам Ізмаілам, родапачынальнікам «богапачутых» (ізмаэлітаў, па-біблейску). У пагадненні з гэтым з'яўляюцца і мекскія паданні, што камень, аскепкі якога там зараз захоўваюцца, быў кінуты ў часы таго ж «Бацькі-Рыма» з неба анёлам Гаўрыілам з вялікім бляскам і грукатам.

Толькі такой метэарытнай катастрофай і прытым катастрофай выключнай велічыні і можна патлумачыць інакш беспадстаўны імгненны падзел вялікай імперыі пры цару Геркулесу, а таксама і тое, чаму агаране не былі аддадзены анафеме адразу пры сваім з'яўленні. А катастрофа, дзякуючы самай сваёй уяўнай звышнатуральнасьці, павінна была ў наступных жа пакаленнях ператварыцца, калі не ў апавяданні пра сусьветны патоп, у выпадку гіганцкай хвалі ў Чырвоным моры і суправаджаўшых яе вялікіх дажджоў, то ў нешта накшталт затаплення войска Фараона, гнаўшагася за ўцекачамі із Ягіпта, якія беглі якраз у Аравію пад правадырствам Арона-Арыя, бацькі арыян, пры «вулканічным» вывяржэнні гары Сіная, ніколі не быўшай вулканам. У другім томе «Хрыста» я паказаў ужо, што

[143] Hagar, па-руску – Агар, – наложніца Абрама (Бацькі-Рыма).

апісанне збягання із Міц-Рыма ўтрымлівае ў сабе тыповыя асаблівасьці вывяржэнняў Вязувія, але гэта яшчэ не азначае, што туды пазьней не маглі дададзены і эпізоды із агаранскай метэарытнай катастрофы, калі ўсё дзеянне было перанесена із Італіі ў Аравію.

Пазначу таксама і кур'ёзнае супадзенне. У той час, калі семітычная частка насельніцтва Рамейскай імперыі пачала хадзіць на ўшанаванне мекскага Метэарытнага каменя, грэка-лацінская частка пачала пілігрымстваваць у Італійскі Рым на ўшанаванне паваліўшагася там Малога Каменя, па лаціна-грэцку **Пятра-Паўла**[144], адкуль і паўстаў міф пра **двух** апосталаў Хрыста – Пятра і Паўла – пацярпелых у Рыме ў той жа самы дзень года, 28 чэрвеня. Такіх кур'ёзных пераўтварэнняў у хрысьціянскай тэалогіі – больш, чым у Метамарфозах Вяргілія.

У біблейскай кнізе «Словы Дзённыя» Гераклій названы «Полымя Боскае» (Ёсія[145]) (II Параліпаменан, 21, 24) і дапасаваны да ліку цароў набожных.

«*Пад час дванаццатага года яго валадарання,* – гаворыцца там, – *былі разбураны перад яго тварам ахвярнікі, пабудаваныя валадарам, і статуі сонца, узвышаўшыяся над імі, і паламаны сьвятыя дрэвы, і балваны, і слупы. Іх пабілі ў пыл, і рассыпалі іх над трунамі*[146] *тых, хто прыносіў ім ахвяры, а косткі жрацоў спалілі на іхных ахвярніках* (II Параліпаменан XXXIV, 4-5).

А атаясамліваючы, як мы зрабілі грунтуючыся на іншых супастаўленнях (табл. на стр. 376), біблейскага цара «Полымя боскае» з імператарам Геркулесам візантыістаў, мы і атрымліваем для дванаццатага года яго валадарання якраз 622 год, на які і прыпадае час хіджры, г.азн. панічнага збягання падчас метэарытнай катастрофы, да аскепкаў якой да гэтага часу ходзяць на ўшанаванне.

А ў кнізе «Цары» гэтае апісанне яшчэ больш пашырана. Цару «Полымя Боскае» прыпісаны і іншыя вычыны, відавочна шляхам атаясамлення таго, што зрабіла метэарытнае полымя, са здзяйсненнямі жыўшага ў той час імператара. «Ён загадаў, – кажуць нам, – першасьвятару Перадвызначальніку[147] вынесьці із храма Валадара (як гэта прыпісваецца зараз Магамету ў Мецы) рэчы, зробленыя для дубровы і для ўсяго нябеснага ваярства, спаліць іх і прагнаць усіх кадзіўшых Валадару, Сонцу, Месяцу, Сузор'ям і ўсяму Нябеснаму ваярству. Ён разбурыў блудныя сядзібы». (II Цары XXIII, 4-7.) А потым, ужо пад час 18 года валадарання цара Геркулеса (г.азн. у 628 годзе візантыістаў, калі ён здзейсніў параможны паход у Персію) «Полымя Боскае» наладзіў Вялікдзень у «Святым Горадзе» (Ерусаліме), якога «не было ад дзён Суддзяў і ва ўсе дні цароў богаслаўячых і багазмагальніцкіх» (II Цары, XXIII, 22), г.азн. пачынаючы ад часу ўзнікнення Рамейскай імперыі...

Як гэта разумець, чытач? **Атрымліваецца, што жыдоўскі Вялікдзень, г.азн. святкаванне «сыходу із Ягіпта», было ўсталявана толька на шостым годзе Геджры, г.азн. супадае з часам узнікненні агаранства і з'яўляецца ўстановай у якасьці памяці збягання ад метэарытнай катастрофы**. Гэтае месца паўторана таксама і ў кнізе «Словы Дзённыя» (Параліпаменам, XXXV глава).

«Так было наладжана служэнне богу-Грамабою, – паведамляецца там між іншым, – каб здзейсніць вялікдзень і прынесьці ўсеспаленне на ахвярніку адпаведна з загадам цара «Полымя Боскае». І здзяйснялі дзеці Богазмагальніка,

---

[144] Петрус Паўлус (Petrus Paulus) азначае Малы Камень.

[145] יאשיהו (ІАШ-ІЕУ) – Полымя боскае, ці: «спальвае Бог» (the Lord burnus), згодна з Крудэнам.

[146] קברים (КБРІМ) – труны, магілы.

[147] חלק-יהו (ХЛК-ІСУ) – боскі падзел, наканаванне.

знаходзіўшыяся ў Сьвятым горадзе, вялікдзень і сьвята праснакоў на працягу 7 дзён, і не было такога вялікадня ў богазмагальнікаў ад дзён Самуіла Прарока (!!!), г.азн. пачынаючы ад часу памазання Савула».

І, сапраўды, пераглядаючы ўсе выпадкі, калі ў Бібліі згадваецца вялікдзень (табліца XI), мы бачым, што ён, узнікшы згодна з артадаксальнай тэрміналогіяй яшчэ падчас «збягання з Міц-Рыма», г.азн. быццам бы, пад час прамежку паміж 1491 і 1451 гадамі «да нараджэння Хрыста»... І раптам ён знікае з біблейскага гарызонту на тэрмін каля 800 гадоў і зноў аднаўляецца толькі падчас «Полымя Боскага» (Ёсіі) каля 650 года да тагож славутага нараджэння Хрыста!

Але гэта ж відавочная недарэчнасць, а таму мы павінны лічыць, што і Вялікдзень жыдоў быў усталяваны пачынаючы толькі ад 6 года Геджры, г.азн. ад 628 года нашай эры, перад тым як Гераклій прыняў грэцкі тытул цара – Васіль (βασιλεύς).

ТАБЛІЦА XI.

Біблейскія і евангельскія згадванні пра Вялікдзень.

1) У кнізе Сыход: XII, 11 – «гэта Вялікдзень Бога»... XII, 43 – «вось статут Вялікадня».., XI 1,31- «закаліце Вялікдзень»...

2) У кнізе Лявіт: XXIII, 5 – «Вялікдзень на 14 дзень месяца»...

3) У кнізе Лічбы; XXVIII, 6 – «на 14 дзень... Вялікдзень»... XXXIII 3 – «на другі дзень Вялікадня выйшлі сыны Богазмагальніка»... IX, 5 – «Наладзілі яны Вялікдзень пад час першага месяца»...

4) У кнізе Другазаконне: XVI, 2 – «за Вялікдзень пану Богу твайму».

5) Езус Навін: V, 10 – «здзейснілі Вялікдзень на 14 дзень»... V, 11 – «на другі дзень Вялікадня пачалі есьці».

А ў кнізе «Суддзі» слова Вялікдзень не згадваецца ніводнага разу. Яе тады яшчэ не ладзілі.

Потым з'яўляюцца згадванні пра яе толькі пад час валадарання цара Полымя Боскае (Ёсія), аднаго із апошніх цароў «юдэйскіх» і пры гэтым з адмысловай пазнакай, што яна «не ладзілася ад дзён Суддзяў» (II Цароў XXIII, 22); «пад час 18 года «Полымя Боскага» наладжаны гэты вялікдзень» (II Параліпаменан, XXV, 19). «І даў «Полымя Боскае» ў дарунак для ахвяравання велікоднага 30000 дробнай скаціны і 3000 валоў» (г.азн. столькі загінула пры катастрофе)». Уся XXV частка прысвечана апісанню пышнасьці гэтага першага вялікадня богазмагальнікаў і багаслявячых.

У прарокаў вялікдзень згадваецца тры разы. У Іезекііла: XLV, 21 – «павінен быць у вас вялікдзень». У Ездры: VI, 20 – «закалолі вялікодных ягнят»... VI, 19 – «здзейснілі вялікдзень вярнуўшыяся з палону».

У Евангеллях пра вялікдзень згадваецца не раз. У Мацвея: XXVI, 2 – «праз два дні будзе вялікдзень»... XXVI, 17 – «дзе загадаеш прыгатаваць вялікдзень»? У Марка: XIV, 1 – «належыла быць сьвяту вялікадня»... XIV, 12 – «хадзілі ў Ерусалім на сьвята Вялікадня»... XXII, 8 – «прыгатуйце нам Вялікдзень». У Яна 11,13 – «Набліжаецца Вялікдзень»... XI, 55 – там жаа... II,23 – «ён быў у Ерусаліме на сьвяце вялікадня»... XII, 1 – «за 6 дзён да вялікадня прыйшоў Езус»... XVIII, 28 – «каб можна было есьці вялікдзень»... XIX,4 – «была пятніца перад вялікаднем»...

Пачынаючы з гэтага ж часу, магчыма, і бярэ пачтак атаясамленне першапачатковага Ерусаліма (быўшага спачатку толькі залітым лавай Вязувія Геркуланумам) з палестынскім Ерусалімам, ці нават з Мекай, а міфы пра метэарытную катастрофу, як я ўжо згадваў, лёгка маглі аб’яднацца з падобнымі міфамі пра першыя вывяржэнні Вязувія. Ва ўсякім разе апісанне ў Бібліі намёта запавета, насімага па Аравійскай пустыні 40 гадоў багазмагальнікамі, да такой ступені падобна на малюнкі Каабы ў Мецы («Хрыстос», кн. V), што сумнявацца ў

адзінстве іх паходжання вельмі цяжка, але агаранства не змагло далучыць да сябе адпаўшую ад яго грэка-лацінскую частку імперыі.

Усе спробы ягіпецкіх караблёў завалодаць Канстантынопалем скончыліся няшчасьцем, пры гэтым галоўную ролю мела вынайдзенае сірыйскім грэкам Добра-пераможным (Калінікам) «грэцкае полымя», загараўшаяся на моры перад непрыяцельскімі караблямі. У 677 годзе ўжо састарэлы Маавія-Каліф, г.азн. намеснік божы заключыў з імператарам мір на ўмове выплаты яму вызначанай штогадовай даніны.

Паралельна з дзеяннямі пад Цар-Горадам і на ўсходняй мяжы ягіпецкія агаране каліфа, пачынаючы ад шасьцідзясятых гадоў VII стагоддзя, пачалі пасоўвацца і на захад у паўночнай Афрыцы, дзе напачатку VIII стагоддзя да іх перайшло ўмацаванне каля Геркулесавых Слупоў, меўшае назву Сэптэм (Septem, зараз гішпанскае умацаванне Сеўта). Напачатку таго ж VIII стагоддзя яны хутка далучылі да сваёй веры вялікую частку Іберыйскай паўвыспы.

Так натуральна, і без якога б то ні было ўдзелу Магамета і аравійскіх пастухоў, тлумачыцца падзел Вялікай Рамеі на агаранскую з намесьнікам бога (каліфам) на чале, і на праваслаўную з царом-базілеўсам, г.азн. васіліянцам, на чале. Пытанне можа быць толькі пра тое, хто ад каго аддзяліўся? І ці быў пераход ад аднаго веравызнання да другога здзяйснены шляхам ужывання войска ці проста спрэчкамі тэолагаў?

* * *

Нашы веды пра славянаў на Балканскай паўвыспе ў VII стагоддзі атрыманы толькі із кнігі «Дзівы сьвятога Зміцера Салунскага». Вядома, гэтая крыніца не надзейная. Ненашмат больш надзейнымі з’яўляюцца нашы паведамленні і пра баўгар таго часу. Нам паведамляюць, што праз боязнь іхных налётаў у імператара Кастуся III нават з'явіўся намер пакінуць Цар-Горад і з'ехаць у які-небудзь італійскі цэнтр. Ён выправіўся ў Італію і пасьля нядоўгага знаходжання ў Рыме, у Неапалі і на поўдні Італіі, заснаваўся ў сіцылійскіх Сіракузах, дзе і быў забіты, калі парыўся ў лазні (668 г.).

Разам з яго сьмерцю план перанясення сталіцы на захад быў пакінуты, і сын Кастуся III, Кастусь IV, застаўся жыць у Цар-Горадзе.

Якімі былі рэлігійныя плыні таго часу?

Яшчэ падчас сваіх пярсідзкіх паходаў Гераклій пачаў перамовы з монафізіцкімі біскупамі ўсходніх правінцый, каб шляхам дагматычных саступак утварыць агульную іерархію.

Праваслаўная царква пагаджалася прызнаць у Хрысьце пры двух існасьцях адну волю, ды і монафізіты, прызнаваўшыя ў Хрысьце існаванне толькі адной існасьці, зразумела, не мелі нічога супраць і адной волі. Так з'явілася, – кажуць нам, – монафеліцства[148]. Антыяхійскі і Александрыйскі патрыярхі-монафізіты гатовы былі пайсьці насустрач падобнаму замірэнню; цар-гародзкі патрыярх Сергій таксама пагадзіўся; рымскі вялікі пантыфекс Ганорый прызнаў слушным гэтае вучэнне; толькі Сафроній, узведзены ў сан «ерусалімскага» патрыярха і набыўшы такім чынам магчымасць мець шырокі ўплыў, даводзіў неабгрунтаванасць існавання адной волі ў Хрыста.

Наступнік Кастуся III, Кастусь IV, жадаючы, нарэшце, даведацца, колькі ж валь было ў Хрыста, склікаў у 680 годзе шосты сусьветны сабор у Цар-Горадзе, які,

---

[148] Ад μόνος – адзін і αθέλημα (фелема) воля.

– кажуць нам, калі не хлусяць, – вынес асуджэнне аднавольцам і прызнаў існаванне ў Хрыста двух існасьцей у адной асобе, і ў ёй жа двух воль.

На гэтым моманце, як я ўжо паведамляў, і заканчваецца наша біблейская першакрыніца – кніга «Цары», дзе абвяшчэнне ў Хрыста двух цел і двух воль прыраўноўваецца да Вавілонскага паланення багаслаўцаў.

Гэта азначае, «юдэі» былі тое ж, што і монафеліты.

Александрыйская, ерусалімская і антыяхійская патрыярхіі бралі жывы ўдзел у саборы: першыя дзьве выправілі ў Цар-Горад прадстаўнікоў, а антыяхійскі патрыярх Макарый асабіста прыехаў па сабор і выступіў на ім перакананым прыхільнікам монафеліцтва (юдэйства), за што і быў пазбаўлены саборам сану і адлучаны ад царквы. Пастанова шостага сабора паказала Сірыі, Палестыне і Ягіпту, насельніцтва якіх у сваёй большай частцы было монафізіцкім, што Цар-Горад адмовіўся ад царкоўнага аб’яднання з імі. Толькі тады Сірыя, Палестына і Ягіпет і адасобіліся канчаткова ад Візантыі.

Пераход да двухволля Хрыста, аддзяліўшага ў 680 годзе Візантыю без якой бы то ні было «арабскай заваёвы» ад Ягіпта, Сірыі і Палестыны, цалкам перамяніў дачыненні ў Малой Азіі, якая із краіны, амаль не патрабуючай сур'ёзнай абароны, ператварылася зараз у тэрыторыю, найбольш пагражаючую нападам з боку новых суседзяў. Гэтая акалічнасць вымусіла візантыйскі ўрад правесьці новы адміністрацыйны падзел, надаўшы пераважнае значэнне вельмі важнаму ў той час вайсковаму накірунку ўлады.

Для абароны супраць усходняй небяспекі ў VII стагоддзі былі створаны два наступныя буйныя ваяводствы, пазьней набыўшыя назву Фемы[149]: 1) Арменіякі (г.азн. Армянская) на паўночным усходзе Малой Азіі, на мяжы з Пярэніяй, і 2) Анатолікі (г.азн. Малаазіяцкая, ад грэцкага слова ἀνατολή – усход). Абедзьве гэтыя акругі мелі на мэце абарону імперыі супраць персаў. Потым быў усталяваны «Імператарскі богаахоўваючы Апсікій» (г.азн. ахоўная фема)[150], служыўшая вартавым сталіцы і займаўшая частку Малой Азіі, прылягаючу да Мармуровага мора. На Балканскай паўвыспе існавала акруга Фаакія, створаная супраць баўгар і славянаў, і Марская Ківірэацкая акруга, на паўднёвым узбярэжжы Малой Азіі і на выспах, супраць нападаў памацнеўшага арабскага флота. Потым, відаць, на прыканцы VII стагоддзі, у Грэцыі ўтварылася вайсковая акруга Элада ці Эладзікі (першае праўдзівае з'яўленне гэтага наймення) накіраванае супраць уварвання ў Грэцыю славянаў і, магчыма, акруга Сіцылія супраць марскіх нападаў сарацынаў, пачынаўшых пагражаць ужо заходняй частцы Міжземнага мора.

Звычайна, за нешматлікімі выключэннямі, на чале падобнай акругі – фема, стаялі стратэгі, г.азн. вайсковыя губернатары, аб’ядноўваючыя ў сваіх руках абедзьве ўлады, вайсковую і грамадзянскую.

Аднак, пераход ад «старога жыдоўскага запавету да новага грэцкага» прайшоў не без ускладненняў. У наступніка Кастуся Паганата Юстыніяна II з'явіліся два супернікі – Лявонцій і Тыберый – і потым трое выпадковых, мімалётных імператараў. На працягу шасьці гадоў на візантыйскім пасадзе пасьля Юстыніяна II пабывалі Вардан, ён жа Філіпік, Анастас II і Хвядос III (711-717 г.), – і ўсе яны былі, адзін за адным, гвалтоўна пазбаўлены пасада. У дзяржаве панаваў закалот. Вардан сваім монафеліцтвам парушыў добрыя дачыненні з Рымам, але

---

[149] Ад θέμα – вайсковая вобласць, накшталт існаваўшых у Расіі абласьцей: Войска Данскога і Войска Ўральскага.

[150] Пішуць θόφίκιο напэўна, ад ὦφ – фронт, твар; на-лаціне – opsequium – дапамога, улада, ахова.

Анастас здолеў аднавіць мір з Рымам коштам сваркі з агаранамі-монафелітамі. Асабліва няўдалымі былі вонкавыя справы: баўгары, помсцячы за сьмерць Юстыніяна, ставіўшагася да іх па-сяброўску, дайшлі да Канстантынопаля; агаране зацята прасоўваліся сухім шляхам із Малой Азіі і водным праз Эгейскае мора і па Прапантыдзе, моцна пагражаючы сталіцы. Імперыя перажывала крытычны момант. Хвядос III, адчуваючы сваю поўную немач перад насоўваючайся небяспекай, склаў з сябе імператарскі сан, і Леў, стратэг Анатолікі, уступіў у 717 годзе на чале ўрачыстага шэсьця ў Цар-Горад, дзе і быў каранаваны патрыярхам на царства. Такім чынам вайсковая ўлада, набыўшая такія шырокія паўнамоцтвы ў фемным уладкаванні імперыі, дала ёй і імператара-вазіліянца.

# Глава XIII

## Сярэднявечнае агаранства як адно із адзінаверчых адгалінаванняў першапачатковага апакаліптычнага месіянства.

Што азначае аднаверчае адгалінаванне? Пакажу гэта на прыкладзе. У вёсцы Мікольскай стаіць царква Мікалая Цудадзея і жыхары ходзяць у яе, як у свой «прыход». У вёсцы Міхайлаўская стаіць царква архістратыга Міхала і жыхары ходзяць у яе, як у свой «прыход». Аднак жа, абодва прыходу аднаверныя. Дакладна так і агаране маглі пілігрымнічаць у Меку, а тагачасныя хрысьціяне да італійскіх вулканаў ці ў Рым і быць усё ж аднавернымі.

З нагоды важнасьці тлумачэння гэтага пытання, я разбяру яго яшчэ і з боку гледжання агаранскіх першакрыніц, кіруючыся галоўным чынам выдатнай манаграфіяй А. А. Васільева «Палітычныя дачыненні Візантыі і арабаў».

Рэчаісная гісторыя агаранства пачынаецца з IX стагоддзя, і мы не можам не бачыць, што гэтае стагоддзе, – як слушна пазначае А. А. Васільеў[151], – асабліва вызначаецца нікчэмным уплывам арабскай нацыянальнасьці і пераважаючым значэннем спачатку персаў, а пазьней турак-малаазійцаў, назва якіх паходзіць ад слова таўрыкос ці турыкос, г.азн. быкавец, магчыма таму, што яны ўшаноўвалі бога ў выяве Аронава цяльца.

У Харасане ўтварылася партыя, якая імкнулася да ўніверсальнасьці агаранства з дэвізам «бог не ведае расавага адрознення»[152].

Партыя, выступаючая за роўнасць усіх народаў у ісламе, насіла асобную назву Shuubija. Яна квітнела ў X стагоддзі і не сумнявалася ў перавазе персаў перад арабамі[153].

Ці мела калі-небудзь «пры Амейядах» пераважаючае значэнне Сірыя? Ці гэта таксама міф? Ва ўсякім разе нават і ў IX стагоддзі Дамаск быў на ўзроўні правінцыйнага горада, маючы сваёй сталіцай Багдад у Іране. Самыя выгадныя месцы пры двары, у войску, фінансах і ў кіраванні правінцыямі былі даручаны персам, а не арабам.

---

[151] А. А. Васільеў. Палітычныя дачыненні Візантыі і Арабаў пад час Амарыйскай дынастыі. 1900.
[152] G. Van Vloten: Recherches sur la domination arabe. Le chiitisme et les croyances messianiques sous le Khalifat des Omayades. Amsterdam. 1894. P. p. 28, 32, 33.
[153] Goldziher. «Muhammetanische Studien». Band II. Halle. 1890, S. 31.

У адным вершы, – кажа А. А. Васільеў, – які дапасуюць да часоў апошняга амейядзкага каліфа Мервана II, між іншым, паведамляецца:

«Бяжы са сваёй сядзібы і кажы, павярнуўшыся назад: бывайце, арабы і іслам!»

Але ці сапраўды гэта не апокрыф?

Нават пры другім абасідзкім каліфе апісваецца выпадак, як арабы каля дзьвярэй палаца Мансура безнадзейна чакаюць дазволу зайсьці, тым часам як харасанцы вольна заваходзяць і выходзяць, насьміхаючыся над «неадукаванымі арабамі».

Але і Персія згодна са сваім геаграфічным становішчы не была прыдатнай для цэнтра сусьветнага агаранства. Каля паловы IX стагоддзя персы былі вымушаны ссаступіць свой уплыў новаму элементу – туркам.

Ужо Мамун (813-833 гг.) меў пры сабе шматлікую гвардыю із малаазійскіх турак, якіх, відавочна, дарэмна малююць рабамі. Гэта даволі смешна нават з псіхалагічнага боку гледжання, бяручы да ўвагі тое, што хутка яны без якога б то ні было бурнага перавароту выявіліся пануючым станам.

Пры Мутасыме (833-842) уся гвардыя і галоўная частка войска складалася із турак і берберАў, колькасць якіх даходзіла да 70 000 чалавек і якія, маючы зброю ў руках, наўрад ці пагадзіліся б быць на становішчы рабоў, і гэта бачна із фактаў. Так, напрыклад, у 841-849 гадах, калі два туркі Ашнас і Ітах выправіліся ў Меку пакланіцца тамтэйшым аскепкам метэарытнай катастрофы, каліф даў ім вярхоўную ўладу над усімі правінцыямі, праз якія яны пройдуць, і Ашнас насіў нават тытул султана[154]. Хіба гэта падобна на рабоў? А пры каліфу Мутаквіле яны садзяць на пасад і пазбаўляць пасада саміх каліфаў, як сваіх паслухмяных рабоў..

Адсюль зразумела, што агаранства і яго наступнік – магаметанства – магло пашырыцца ад Кордавы да Гайдэрабада, ні ў якім выпадку не із Аравіі, і мне было прыемна знайсьці ў А. А. Васільева такое месца, як бы рэзюмаваўшае мае ўласныя даўнія думкі:

«Глыбокую цікавасць уяўляе із сябе рэлігійная гісторыя каліфата ў IX стагоддзі. Мімаволі прыходзіць на розум паралель паміж іконазмагальніцкім рухам у Візантыі і рацыяналістычным накірункам у рэлігіі ісламу ў VIII і IX стагоддзях. Адпаведна з нашай думкай, вывучэнне таго і другога руху павінна даць для культурнай гісторыі абедзьвюх краін, з боку гледжання ўплыву іх адзін на аднаго, вельмі цікавыя вынікі»[155].

Я не магу, вядома, лічыць за праўдзівыя творы «Гутаркі паміж хрысьціянінам і мусульманінам» у Яна Дамаскіна і ў Хведара Абукары, ці апавяданне пра тое, што эмір Мамун адкрыта стаў на бок прадстаўнікоў рэлігійнага рацыяналізму і дэкрэтам 827 года афіцыйна абвясьціў, што тэза пра «стварэнне Карана» прызнаецца слушнай і для ўсіх абавязковай і што пазней у 851 годзе быў выдадзены эдыкт Мутавакіла, у якім догма «стварэння Карана» абвяшчалася ерэтычнай.

Усё гэта, хутчэй усяго, звычайныя прыёмы тэолагаў, каб асьвяціць нядаўнюю кнігу ўяўнай старажытнасьцю. Нават і ўся так званая «арабская» літаратура была па-сутнасьці не арабскай. Арабская мова заставалася толькі мовай пісання, якой карысталіся спачатку, як еўрапейцы лацінай, самі персы (а іхная ўласная, так званая нова-пярсідзкая пісьмовасць была распрацавана двума стагоддзямі пазьней). «Арабская» літаратура з’яўлялася шмат у чым перакладамі з

[154] Snouck Hurgronje. Mekka. I. S. 45. 1888. Haag.

[155] А. А. Васільеў, Палітычныя дачыненні Візантыі і арабаў за час Амарыйскай дынастыі. 1900 г. Стар. 7.

пярсідзкай мовы, і найбольш выбітныя прадстаўнікі «арабскай філалогіі» былі іранскага паходжання. Больш познія псеўда-арабскія гісторыкі былі шмат чым абавязаны сярэдневечным пярсідзкім летапісцам, ды і як у тэалагічных так і ў юрыдычных навуках персы былі настаўнікамі арабаў.

Свецкія навукі ў IX стагоддзі знаходзіліся пераважна ў руках арамеяў (рамеяў), і ўсё развіццё шырокай агаранскай літаратуры з яе шматлікімі разгалінаваннямі з'яўлялася пераважна справай замежнікаў і апрацоўкай замежных матэрыялаў. «Грэцыя, Персія і Індыя прыйшлі на дапамогу непладзючасьці арабскага розуму», – выказваецца адзін із вядомых арыенталістаў[156].

Нават адносна ведання арабскай мовы ў адмысловых рэлігійных працах арабскі элемент заставаўся ззаду не арабаў, і не дарэмна з'явілася думка, што ніводзін із мусульманаў, зрабіўшых нешта ў навуцы, не быў сямітам[157]. Ды і вучыцца яны ездзілі ў Візантыю.

Так, пры каліфу Ватыку быў выпраўлены ў Эфес вядомы арабскі навуковец Мухамед-ібн-Муса з мэтай наведаць пячоры, дзе, быццам бы, захоўваліся парэшткі сямі падлеткаў, пацярпелых, згодна з паданнем, пад час дзён перасоледаў рымскага імператара Дакія, і візантыйскі імператар даслаў чалавека, які служыў бы павадыром навукоўцу арабу. Пры ўваходзе ў пячоры наведвальнікаў сустрэў прыгожы валах, пагражаўшы наведвальніку жахлівымі бедствамі, калі ён пажадае дакрануцца да парэшткаў. І ўсё ж Мухамед пракраўся ў пячору, пабачыў усе целы і дакрануўся да іх. А сыходзячы ён, быццам бы, сказаў вартаўніку:

– «Мы чакалі, што ты пакажаш нам памёршых, якія мелі б выгляд жывых, а тут мы нічога падобнага не пабачылі».

«Той жа Ватык, – паведамляе А. А. Васільеў, – падрыхтаваў другую вялікую экспедыцыю з перакладчыкам Саламам на чале, ведаўшым трыццаць (!!!) моваў, углыб Азіі для дасьледавання сьцяны, узведзенай Аляксандрам Вялікім супраць народаў Гога і Магога. Гэтая экспедыцыя працягвалася больш дваццаці васьмі месяцаў і яе ўдзельнікі пасьля вяртання былі ўзнагароджаны каліфам, якому Салам даў падрабязную справаздачу. А ўжо вядомы нам з VI тома «Хрыста» д-р Шпрынгер усю справаздачу Салама пра падарожжа называе «eine unverschamte Mystification»[158], словы, якія патрэбна б вярнуць яму самому назад, калі б нават Салам і не існаваў на сьвеце, як ён сцвярджае.

Паведамляюць нам і пра тое, быццам бы Мамун прасіў імператара Феафіла даслаць да яго на час знакамітага візантыйскага навуковага геаметра і астранома – Ільва, каб скарыстацца яго шырокімі ведамі ў вобласьці матэматычных навук, чым таксама характарызуюць больш высокі стан культуры ў Персіі, чым у Сірыі і Аравіі. Але і пярсідзкія спробы стаць цэнтрам самастойнага агменю культуры не далі пажаданых вынікаў, дзякуючы нязручнаму геаграфічнаму становішчу краіны, і ўжо на прыканцы X стагоддзя цэнтр агаранскай літаратуры наогул (і паэзіі ў прыватнасьці) перайшоў бліжэй да Індыі – у Газну, да двара Махмуда, галоўнага валадара на Ўсходзе (паміж 997 і 1030 гадамі). «Там у залах і садах, – паведамляюць нам, – спявалі чатырыста паэтаў, на чале якіх стаялі вядомы Унсурп і вялікі Фірдусі». Але мы бачым, што ў тым жа IX стагоддзі і гішпанскі амайяд Абдарахман II упрыгожвае сваю сталіцу, будуе масты, мячэці, палацы, стварае

[156] Ed. Sachau. «Alberuni's India». An english edition with notes and indices by Ed. S. Preface. P. XXVIII. London 1888. Vol. I.
[157] Paul de Lagarde. «Gesammelte Abhandlungen». Leipzig, 1866. S. 8. Васільеў, стар. 9.
[158] А. А. Васільеў. Палітычныя дачыненні Візантыі і Арабаў. Стар. 10.

пышныя сады і апякуе паэтаў... Ці не адкінуўся ад яго цень і на далёкі ўсход? Неяк цяжка паверыць, што «Багдад быў забяспечаны суднаходным каналам, перасякаючым Месапатамію ад Еўфрата да Тыгра», што ён гандляваў па сушы, як і па моры, з Малой Азіяй, Сірыяй, Аравіяй і Ягіптам, пры гэтым караваны Цэнтральнай Азіі дасягалі сваёй сталіцы праз Бухару і Персію, і што пачынаючы з заканчэння IX стагоддзя там адбылася замена срэбнай валюты на залатую (!!)



Мал. 96.
Партрэт Візантыйскай працы, знойдзены ў саркафагу ягіпецкай муміі. (Гнедзіч, І, 167.)

Візантыйскія і арабскія хронікі таго часу напоўнены аднастайнымі апісаннямі бітваў, пазначаюць дакладныя лічбы забітых і ўзятых у палон, распавядаюць пра знішчэнне паселішчаў і пасеваў і пра жорсткае стаўленне да палонных. Усё гэта неяк супярэчыць росквіту багдадзкага гандлю, хаця апісанні войнаў могуць быць у значнай ступені і перабольшанымі, ды і самі хронікі апакрыфічнымі. Іншыя дакументы распавядаюць якраз пра процілеглае. Так у прыдворным візантыйскім статуце Кастуся Барвянароднага можна знайсьці формулы вельмі шчырых прывітанняў да амбасадараў із Багдада і Каіра. За імператарскім сталом статут Барвянароднага «сяброў агаранаў» ставіць вышэй чым «сяброў франкаў», а із усіх агаран ўсходніх ставіць вышэй чым заходніх.

Усё гэта толькі падмацоўвае маю выснову, зробленую яшчэ ў VI томе «Хрыста», што агаране і візантыйцы былі тады толькі аднаверцамі розных прыходаў, тым больш, што і адлучэнне агаранаў ад візантыйскай царквы наступіла толькі пры імператару Мануілу ў 1180 годзе.

Другі перыяд візантыйскага іконазмагання, падобна рацыяналістычнаму накірунку багдадзкіх каліфаў, закончыўся рэакцыяй на карысць праваслаўя ў 843 годзе. На яго пачатку імператар Феафіл выступіў дбайным супернікам абразашанавання і манаства і, як чалавек валодаючы літаратурным талентам, ухваляючы перасьлед абразоў, забяспечыў царкоўную літаратуру некалькімі гімнамі. Ён умеў шанаваць навуковыя спазнанні сваіх падданых і ўзнагароджваў іх. Вядомы візантыйскі навуковец астраном і геаметр Леў быў прызначаны Феафілам у мітрапаліты Фесалонікі пасьля таго, як ён набыў славу пры двары Мамуна. Архітэктура, як і іншыя шматлікія галіны ведаў, таксама карысталася ўвагай гэтага цара. Частка канстантынопальскіх сьцен ды летні палац Врыянтаў на азіяцкім беразе Басфора паблізу Віфініі засталіся помнікамі living рознабаковай дзейнасці гэтага валадара.

На працягу першых чатырох гадоў свайго валадарання Феафіл быў сучаснікам каліфа Мамулі (813-833 г. г.), і дзейнасць абодвух валадароў мае не адну агульную рысу.

Як Феафіл, так і Мамун цікавіліся рэлігійнымі пытаннямі і сваімі наватарствамі выклікалі моцную апазіцыю. Падобна Феафілу Мамун таксама аддаваўся паэзіі. Адзін паэт, прамаўляючы перад ім свой твор, быў здзіўлены тым, як ён лёгка падхопліваў у яго кожны верш і імправізаваў далей. Мамуну ж прыпісвалася і некалькі тэалагічных твораў. Архітэктура і іншыя накірункі ведаў квітнелі пры ім, і памянёны намі летні палац візантыйскага імператара быў, – кажуць нам, – пабудаваны адпаведна з узорам палаца багдадзкага каліфа.

Ды і ў Гішпаніі сучаснік Мамуна амейяд Абдарахман II таксама шанаваў паэзію і шчодра адорваў паэтаў, якія прыводзілі яму на дапамогу. Так амаль адначасова паэзія заквітнела ад Багдада да Гібралтара ў IX стагоддзі нашай эры... Але і пад час гэтага бліскучага перыяда нашы візантыйскія і лацінскія першакрыніцы нічога не паведамляюць пра Магамета і пра магаметанаў, а называюць іх па-грэцку агаранамі і ісмаэлітамі, а на-лаціне – большай часткай сарацынамі і зрэдку арабамі і маўрамі.

Так, у Жыцці Лукі Эладзкага, дапасуемага да 890 года нашай эры, паведамляецца, што яго продкі пераехалі із Эгіны ў Эладу з нагоды частых набегаў агаранаў[159]. У Жыціі Апанасіі Эгінскай, дапасуемым да IX стагоддзя, паведамляецца, што яе чалавек быў забіты пры набегу варварскіх людзей – маўрытанцаў[160].

Прадаўжальнік хронікі Феафана распавядае, што атрады імператара аднойчы захапілі ў Кападокіі да 25 000 ізмаэлітаў[161], а потым ён жа называе іх і агаранамі (стар. 130).

У прыдворным статуце Кастуся Парфірароднага распавядаецца пра яго ўрачысты заезд у сталіцу пасьля паходу на агаранаў[162]. У паданні пра 42 амарэйскіх пакутнікаў у агаранскім зняволенні (δεςμίον τῶν Ἀγαρηνῶν) Зонарыс таксама нічога не ведае пра магаметанаў, а толькі пра агаранаў. Ян Дыякан у «Здзяйсненнях неапалітанскіх біскупаў»[163] апісвае, як у 836 годзе сарацыны вымусілі сваім флотам беневентцаў зняць аблогу з Неапаля і заключылі з ім дамову.

Я не буду загрувашчваць сваю кнігу далейшымі напрыкладі, а толькі скажу чытачу: прагледзьце самі ўсю сапраўдную сярэднявечную грэцкую і лацінскую (і нават агаранскую) літаратуру і вы нідзе не знойдзеце згадванняў пра магаметанства ці пра Магамета-прарока. Вось чаму белетрыстычныя практыкаванні больш позьніх візантыйскіх ці агаранскіх аўтараў, накшталт, напрыклад, аўтара «Залатых Сенажацяў» Масудзі[164] павінны лічыцца апокрыфамі, калі яны згадваюць імя Магамета.

Прывяду, напрыклад, урывак із таго ж Масудзі (хаця па самому пачатку бачна, што гэта піша не Масудзі):

«*Масудзі кажа: кады Абу-Мухамед Абдалах ібн-Ахмед-ібн-Зейд із Дамаска паведаміў нам у Дамаску наступнае*.

[159] τῶ νἈγαρηνῶν (Migne: Patrologia Graeca». T. Ill, 442-444).
[160] Cum maurusii barbari homines in illas regiones irrupissent (Acta Sanctorum, Augustus T. Ill, p. 170).
[161] τῶν Ἰσμαηλιτῶν («Continuatio Theophili», p. 114, c. 23).
[162] «De ceremoniis Aulae Bizant». P. 503-508.
[163] «Gesta episcoporum Neapolitanorum (Monuraenta Germanica Histor. scriptor. rerum langobard.». P. 431).
[164] «Macoudi, Prairies d'ori». Vol, VII. P. p. 144-145.

*Калі Міамун выправіўся ў паход і спыніўся каля Бадзідуна* (Падэндона), *прыйшоў да яго пасланнік грэцкага цара і паведаміў яму*:

*– Цар прапануе табе на выбар: ці ён верне табе ўсе выдаткі падарожжа із тваёй вобласьці да гэтага месца, ці дазволіць табе вывесьці да сябе ўсіх маючыхся ў грэцкай зямлі мусульманскіх палонных без выкупу, без якіх бы то ні было дырхемаў і дынараў* (г.азн. без якой бы то ні было платы), *ці выправіць табе ўсе мусульманскія селішчы, якія разбурылі хрысьціяне, вярнуўшы іх у той стан, у якім яны былі раней, – толькі ты вярніся дадому са свайго паходу*.

*Тады падняўся Мамун, зайшоў у свой намёт, здзейсніў малітву з двума нізкімі паклонамі, запытаў Алаха, выйшаў і адказаў амбасадару*:

*– Што да тваёй прапановы вярнуць мне мае выдаткі, скажы грэцкаму цару так: я слухаю ўсявышняга Алаха, які паведамляе ў сваёй сьвятой кнізе: «Я пашлю* (Саламону), *–* прамовіў Бількіс, *– дарункі і пагляджу, з чым вернуцца пасланнікі». Калі яго пасланнік прыйшоў да Саламона, апошні адказаў: «Ці не маеце вы жадання дапамагчы мне багаццем? Тое, што даў мне бог, лепш за тое, што даў ён вам. Не, толькі вы самі можаце быць задаволены гасьцінцамі». А што да тваёй прапановы вызваліць усіх мусульманскіх палонных у грэцкай зямлі, то пад тваёй уладай знаходзяцца людзі толькі двух гатункаў: ці тыя, якія імкнуліся да бога і да вечнай асалоды, тады яны зараз дасягнулі таго, чаго жадалі; ці ж тыя, якія імкнуліся да даброт гэтага сьвету, тады ды не скіне бог іхныя кайданы! А што да тваёй прапановы аднавіць усе мусульманскія землі, разбураныя грэкамі, то, калі я вырву апошні із камянёў у грэцкай краіне, я ўсё ж не ўзнагароджу нават жанчыну, якая спатыкалася ў вас у сваіх кайданах і ўсклікала: «О, Мухамед! О, Мухамед!» Вяртайся ж да твайго гаспадара: паміж мной і ім знаходзіцца толькі меч. Служка! Бі ў барабан*».

Згодна з ўскліканнем «жанчыны ў кайданах» тут можна было б зрабіць выснову, што яна звяртаецца з маленнем да прарока Магамета, але ўжо адна тая акалічнасць, што прававерныя заўсёды моляцца проста Алаху, паказвае, што гэта пісаў не магаметанін. Ды і усё іхнае ліставанне, аж да імгненнага загаду: «служка! бі ў барабан!» – носіць чыста рамантычны характар, і патрэбна яшчэ даказаць, што барабаны ўжо існавалі ў той час.

Але калі б нават і сустрэлася недзе ў без сумневаў праўдзівых крыніцах слова Магамет, то не патрэбна забывацца на тое, што яно не імя, а тытул і азначае проста «славуты». І гэты ж ўрывак пачынаецца словамі: Абу-Магамет-Абу-Алах, г.азн. Славуты Бацька, служка Боскі, і нікому не прыходзіць у галаву атаясамляць яго з заснавальнікам магаметанства.

А такіх «славутых бацькоў» магло існаваць (ды і існавала) колькі заўгодна да рэдактара Карана, і з гэтым жа самым тытулам «жанчына ў кайданах» магла звяртацца і да самога Аль-Мамуна, называючы яго «славутым».

Нават і з хронікамі патрэбна быць вельмі асьцярожнымі. Вось, напрыклад, хаця б, візантыйская «хроніка Сымона Магістра». Доўгі час яна лічылася цалкам праўдзівай і навукоўцы, працаваўшыя ў вобласьці візантыйскай храналогіі, як напрыклад Круг і Муральт, клалі яе паведамленні ў грунт сваіх вызначэнняў часу. Але ў 1876 годзе Гірш у сваёй працы «Byzantische Studien» неаспрэчна давёў поўную неабгрунтаванасць «храналогій» Сымона: вызначэнні часу ўступлення на пасад візантыйскіх імператараў выявіліся тут запар няправільнымі. Із трыццаці шасьці іншых дат, якія існавала магчымасць праверыць іншымі спосабамі, дакладнымі выявіліся толькі дзесяць, із якіх сем прыпадаюць на час імператара

Ільва VI. Адным словам, аўтар хронікі браў свае даты не з нейкай першакрыніцы, а ствараў іх грунтуючыся на ўласных меркаваннях[165].

Непараўнальна больш цікава для дасьледчыка адзначаць такія выпадкі, якія знаходзяцца ў супярэчнасьці з існуючымі ўяўленнямі, і так ці інакш тлумачыць іх.

Вось, напрыклад, у Каране згадваецца пра сабеяў, а тым часам выяўляецца, што пад час сярэдневечча нават і ў Месапатаміі імя сабеяў не было вядома. Упершыню пра гэтую секту згадваецца толькі пры апісанні паходу Мамуна ў Тарэ ў 830 годзе. Я прывяду яго адпаведна з выкладаннем А. А. Васільева, які спасылаецца на Хвальсона.

«Падчас шляху да Тарса ў Паўночнай Месапатаміі ў горадзе Харане Мамун заўважыў некалькіх жыхароў, кідаючыхся ў вочы дзякуючы свайму незвычайнаму адзенню і доўгім валасам. Даведаўшыся, што гэта былі не хрысьціяне, ні жыды, ні персы, і што яны не верылі ў прарока і цалкам не належалі ні да адной із народнасьцей, апякаемых каліфам, Мамун абвясьціў рашэнне: яны павінны прыняць іслам, ці адну із дазваляемых у Каране рэлігій, ці будуць знішчаны. Частка харанітаў прынялі іслам ці хрысьціянства, іншыя скінулі сваё адзенне і абрэзалі валасы; але былі і такія, якія вырашылі застацца пры сваім веравызнанні. Тады адзін арабскі заканазнавец параіў ім назвацца сабеямі, пра якіх Каран згадвае. Гэта сапраўды іх выратавала. А да таго часу ў Паўночнай Месапатаміі імя сабеяў не было вядомым».

Само сабой зразумела, што сродак выратавання, прыдуманы арабскім заканазнаўцам дзеля падману валадара, такі па-дзіцячаму наіўны, што надаваць яму сур'ёзны сэнс можа толькі дзіцё. Гэтая секта, вядома, і з самага пачатку мела найменне сабеі, а таму і сведчанне пра яе магло патрапіць у Каран толькі ў тым выпадку, калі ён быў скампанаваны пасьля IX стагоддзя нашай эры.

А адносна «імгненнай заваёвы» агаранамі ўсіх усходніх, паўднёвых і заходніх узбярэжжаў Міжземнага мора, мы маем толькі такую дылему: ці гэта была проста ідэйная заваёва, грунтуючаяся на метэарытнай катастрофе каля Мекі, ці, як думаюць, «дзіўная, вайсковая заваёва».

Але нават і палічыўшы магчымым існаванне дзівоснасьці ў гісторыі, было неабходна існаванне ў апошнім выпадку першакласнага, адпаведна з тым часам, ваеннага флота далёкага плавання.

А што ж паведамляюць нам пра гэта гісторыкі?

«Пасьля сьмерці Магамета, – паведамляе А. А. Васільеў[166], – ісламіты пазбягалі марскіх падарожжаў, а каліф Амар нават прама забараняў іх, так што апошнія пачаліся толькі пры першых амейядах.

«Амаль не выклікае сумневаў, – працягвае А. А. Васільеў[167], – што першапачатковы флот (агаранаў) быў хутчэй грэка-сірыйскім, чым арабскім: матросы набіраліся із прыбярэжных заваяваных гарадоў Сірыі і Ягіпта. Як матросы, так і капітаны былі, большай часткай, хрысьціянамі ці рэнегатамі, і служылі агаранам за грошы ці дзеля надзеі на лёгкую здабычу. Яны былі першымі настаўнікамі агаранаў у марской справе».

Толькі напад грэкаў на Даміету ў 856 годзе ўпершыню вымусіў агаранаў сур'ёзна падумаць пра стварэнне ягіпецкага флота. І, сапраўды, згодна з некаторымі паведамленнямі, мы бачым, якая ліхаманкавая дзейнасць закіпела ў Ягіпце пасьля сыходу візантыйскіх караблёў.

---

[165] Hirsch, Byzantische Studien, 203. – А. А. Васільеў. Палітычныя дачыненні Візантыі і Арабаў пад час Амарыйскай дынастыі. 1900.

[166] А. А. Васільеў. Там жа, стар. 173.

[167] Там жа, кн. I, стар. 143.

«Пачынаючы з таго часу, – паведамляе Макрызі[168], – ягіпцяне пачалі рупліва клапаціцца пра флот, і гэта стала ў іх справай першай важнасьці. Былі пабудаваны галеры для вайсковага флоту і прызначаны пенсiён марскім ваярам нароўні з сухапутнымі. Эміры запрашалі ў флот стралкоў. Народ у Ягіпце пачаў рупліва навучаць сваіх дзяцей стральбе і розным вайсковым майстэрствам. У якасьці кіраўнікоў абіраліся дасьведчаныя ў вайсковай справе людзі, і наогул у флот не бралі ніводнага неразумнага ці неспрактыкаванага ў вайсковай справе чалавек. У народа тады было стараннасць змагацца супраць ворагаў бога і спрыяць урачыстасьці яго рэлігіі, тым больш, што служачыя ў флоце карысталіся пашанай і павагай. Кожны жадаў лічыцца мараком і рознымі захадамі імкнуўся быць залічаным у флот».

Такім чынам, толькі з нагоды нападу візантыйцаў на Даміетту ў 856 годзе адбылося першае з'яўленне ягіпецкага флоту, які толькі ў другой палове Х стагоддзя, падчас знакамітай фатымідзкай дынастыі, набыў значэнне.

А як жа раптам здарылася, што адпаведна з хранаграфіяй Тыяфана[169], сірыйскія агаране яшчэ раней таго захапілі Родас, пабілі там на кавалкі адно із сямі цудаў старажытнага сьвету – Калос Апалона і для чагосьці павезлі яго парэшткі з сабой? Ды і для якой мэты ім былі патрэбнымі гэтыя парэшткі? Якім чынам ягіпецкія агаране на 200 караблях выйшаўшы із Александрыі так жа яшчэ ў 669 годзе, напалі на Сіракузы і абрабавалі ўвесь горад[170]?

Мы бачым ва ўсім гэтым столькі супярэчнасьцей, што чытач не павінен здзіўляцца, калі я лічу ўвесь першы перыяд узнікнення каліфата і яго дачыненні з праваслаўем, патрабуючым сур'ёзнай перапрацоўкі.

Мы ведаем, напрыклад, што 19 лютага 842 года лічылася часам «аднаўлення праваслаўя» ва Ўсходняй царкве. Праўда, што навейшыя гісторыкі аспрэчваюць гэтую дату і дапасуюць «аднаўленне праваслаўя» да 11 сакавіка 843 года, але для нас, не звяртаючых увагу на такія дробязі, розніца ў адзін год цалкам не мае значэння.

Вось што паведамляе нам наша першакрыніца пра гэтую выдатную падзею. У Камбефізіуса, у «Гісторыі Монафеліцкай ерасі» знаходзіцца прамова на «сьвята Аднаўлення выяваў»[171], частку якой я памяшчаю ў перакладзе А. А. Васільева.

«*Падзвіжнік Аркасій выправіўся да Іянікія, жыўшага ў гарах Алімпа, і дамовіўся з ім ісьці да падзвіжніка Ісаі ў Нікамедыю, з якім яны заставаліся тры дні. Ісая параіў ім ісьці ў Канстантынопаль і пераканаць Мяфодзія аднавіць іконашанаванне. Прыйшоўшы ў Канстантынопаль, яны з Мяфодзіем і з усімі архірэямі і манахамі накіраваліся да Фядоры з прашэннем пра аднаўленне абразоў* (стар. 727-730). *Фядора таксама пагадзілася з гэтым, але прасіла Мяфодзія перш усяго вымаліць прабачэнне ў бога* (яе памёршаму чалавеку) *Феафілу за пераслед абразоў* (стар.700-731). *Мяфодзій, сабраўшы падзвіжнікаў, мітрапалітаў, біскупаў, прасвітараў, дыяканаў, манахаў і ўвесь праваслаўны люд ад малога да вялікага, горача маліўся на першым тыдні паста* (стар. 734). *Тое ж рабіла і Фядора. І вось, у пятніцу яна пабачыла сон, у якім ёй абвяшчалася прабачэнне Феафілу* (стар. 734-735). *Пасьля гэтага яна загадала сабраць усіх праваслаўных мітрапалітаў, архібіскупаў, ігуменаў, клірыкаў і парафіянаў у саборную царкву* (стар. 738). *Там падчас урачыстага набажэнства абразашанаванне было*

[168] Macrizi. Al-Hitat. II, p. 191. – Васільеў, кн. I, стар. 173.
[169] «Theophani Chronographia». I, 345.
[170] А. А. Васільеў, па «Amari Storia dei musulmani di Sicilia. 1854.»
[171] «Oratio historica in festum restitutionis imaginum (Bibliotheca patrum novum auctorium». T. II, 1642, p. 715-743.

*адноўлена, і было вырашана надалей штогадова ладзіць гэтае сьвята пад час першай нядзелі вялікага паста* (стар. 738-739).

*Так,* – распавядае аўтар Жыцця Іянікія, – *перасьлед спыніўся пасьля шасьці з паловай гадоў бязбожнасьці Ільва, пасьля васьмі гадоў і дзевяці месяцаў абыякавасьці Міхала, пасьля дванаццаці гадоў і трох месяцаў бязбожнай жорсткасьці яго сына Феафіла супраць набожнасьці, пасьля аднаго года аднаўлення* (ἀναθρώξεως) *набожнай жонкі яго Фядоры і сына яго Міхала. На другі год іхнага боганатхнёнага і дагоднага Хрысту валадарання царква, з ласкі боскай апрануўшыся ў сваё ўласнае ўпрыгожванне, якім яна была надзелена апостальскімі рукамі і якога яна была пазбаўлена рукамі бязбожных, прыняла Мяфодзія, боганатхнёнага архірэя, прадбачанага айцом Іянікіем, пасьля пазбаўлення пасады бязбожнага і блюзнерскага Яна*».

Само сабой зразумела, што гэтую першакрыніцу мы маем у такіх больш позьніх дакументах, даслоўнаму сэнсу якіх немагчыма надаваць ніякага значэння, а таму з'яўляецца пытанне: ці не з'яўлялася на самай справе аднаўленне праваслаўя ва ўсходняй царкве толькі яго ўсталяваннем? А калі так, то ці не было агаранства, відаць, вельмі блізкае да арыянства, з цэнтрам пілігрымства ў Меку замест Рыма, толькі мясцовай варыяцыяй апакаліптычнага хрысьціянства, панаваўшага да таго часу як у Ягіпце, так і ў Візантыі, і магчыма па ўсёй культурнай заходняй Яўропе? Тады будзе зразумелым і цырыманіял візантыйскага імператара Кастуся Парфірароднага (912-959), згодна з якім «сябры агаране» займалі за ўрачыстым імператарскім сталом больш высокае месца, чым «сябры франкі» (г.азн. Заходнія хрысьціяне)[172]. Зразумела будзе і тое, што **агаранства ніколі не аддзялялася ад візантыйскай царквы, а было адлучана толькі магаметанства і ўжо нашмат пазьней – у XI стагоддзі**.

Такім чынам, пачатая намі перапрацоўка біблейскай храналогіі, прывёўшы нас спачатку да легендарызацыі ўсёй класічнай эпохі Грэцыі і Рыма, а потым да перагляду магаметанства і ягіпецкай храналогіі, фатальна прыводзіць нас да перапрацоўкі і ўсёй ідэалагічнай і храналагічнай часткі гісторыі візантыйскай царквы.

Гэтаму пытанню нам і давядзецца прысвяціць далей асобны вялікі раздзел, а зараз разгледзім толькі біблейскія міфы.

# Глава XIV

## Папярэдні крытычны разбор біблейскіх гістарычных кніг. Іх храналагічныя супярэчнасьці і астранамічныя прыстасаванні.

Мы ўжо дастаткова бачылі ў папярэднічаўным нашым выкладанні, што біблейскія псеўда-гістарычныя кнігі «Цары» распавядаюць зусім не пра нейкіх дробных князькоў, прытуліўшыхся паблізу берагоў пустэльнага і сапраўды «Мёртвага» мора. Гэта – легенды пра цароў Вялікай Рамеі, г.азн. Візантыі, жыўшых каля знакамітых «праліваў» Чорнага мора, даводзяць сваё апавяданне да адпадзення Ягіпта і Малой Азіі да агаранства. Я ўжо рэзюмаваў доказы гэтай сваёй высновы ў І томе «Хрыста» на графіках, і паўтару абодва графікі і тут (стар. 328 і 376). Мы бачым, што храналагічная схема ў абодвух выпадках адна і тая ж, толькі

---

[172] «De Ceremoniis», II, 52, p. 739.

ўсім царам замест грэцкіх імёнаў дадзены жыдоўскія найменні, і ўсе падзеі сістэматычна апакрыфікаваны назад у сярэднім на 1200 гадоў.

Наколькі ж гістарычным з’яўляецца тое, што вышыта на гэтай схеме?

Перадусім возьмем не ўключаных сюды вялікіх заснавальнікаў багазмагальніцкага царства. Багазмагальніцкія (па-жыдоўску – ізраільскія) цары маюць найменні Савул, Давыд і Саламон, што па-руску азначае Пекла, Шанаванне і Заспакаенне. Цар Пекла валадарыў 40 гадоў, Цар Шанаванне таксама 40 і цар Заспакаенне таксама 40. Атрымліваецца, – як я ўжо выказваўся і раней, – роўнабаковы містычны трохкутнік, не хапае толькі Ўсёбачачага Вока ў яго сярэдзіне, г.азн. самога бога сярод гэтых трох яго зямных цароў. Я пытаю вас, чітач, ці можна лічыць гісторыю і храналогію, пабудаваную на такой фантастычнай канве, за рэчаісную?

З такім жа правам можна лічыць ягіпецкія піраміды не тварэннем чалавечай працы, зробленай адпаведна з загадзя «складзеным планам, а за кучы камянёў, выпадкова нанесеных плаваючымі крыгамі. Цалкам выпадкова ўсе камяні ў іх ляглі правільнымі шэрагамі і раптам, атрымаліся піраміды!

Вось чаму я без далейшых разважаннях і дапасаваў гэтых трох цароў да вобласьці міфалогіі, а тут толькі паўтару ўжо выказаную мной здагадку, што біблейскія апавяданні пра двух першых (Савула і Давыда) па-сутнасьці напаловудзіцячыя першапачатковыя фантастычныя раманы із жыцця Аўрэліяна і Канстанцыя Хлора (ці Дыяклетыяна), а трэцці цар – Саламон – з’яўляецца зборным царом, у вобразе якога мудрагеліста перамяшаліся паміж сабой розныя легенды із жыцця Вялікага цара Месіі, і нават Юстыніяна. Вывучаць іх можна толькі з гісторыка-літаратурнага боку гледжання, спрабуючы высветліць час узнікнення такіх міфаў, акрэсліць светапогляд іхных аўтараў і паказаць рэчаісныя факты, першапачаткова леглыя ў іхны падмурак, а ніяк не лічыць гэта за жыццяапісанні рэчаісных цароў.

Аднак, сьледам за імі, кнігі Цароў налічваюць яшчэ цэлы шэраг самаўладцаў, адны із якіх завуцца богаславячымі (па-жыдоўску – юдэйскімі), а другія багазмагальніцкімі (па-жыдоўску – ізраільскімі), валадарыўшымі ўжо не роўна па 40 гадоў, а розны час, як і бывае ў рэчаісным жыцці: часам толькі па некалькіх дзён ці месяцаў, часам па некалькі гадоў, а самы шматгадовы – Манашэ, – імя якога азначае, адпаведна з перакладам гебраіста Крудэна, «Забыты», валадарыў нават 55 гадоў. І я ўжо паказваў у першым томе, што працягласць валадарання гэтых цароў прыблізна адпавядае працягласьці валадарання адпавядаючых ім рамейскіх імператараў. Аднак, гэта яшчэ не азначае, што іхная асабістая характарыстыка ў жыдоўскіх анокрыфістаў была б той жа самай, як у грэцкіх і лацінскіх.

Кожны ж народ і кожны аўтар характарызуе гістарычных людзей са свайго індывідуальнага боку гледжання, суб'ектыўна, ды і із іхных здзяйсненняў выбірае тыя, якія пажадае, таму што апісаць **усе** здзяйсненні нейкага чалавека немагчыма.

Разгледзім жа прадмет спачатку з боку гледжання цвярозага розуму.

Вось факты.

Пасьля трох сваіх галоўных цароў: Пекла, Шанавання і Заспакаення, абраны боскі[173] народ, – кажуць нам, – падзяліўся на два царствы: на юдаістаў, г.азн. у перакладзе «богаславячых», і на ізраілітаў, г.азн. у перакладзе на

[173] Пазначу, што назва грэкаў элінамі сугучная з жыдоўскім спалучэннем ЭЛ-ЛІН (אל-לין), г.азн. знаходзячыся ў сядзібе бога, таму што дзеяслоў ЛІН ці ЛЮН (לין ці לון) азначае: заставацца для начлегу, жыць, даць прытулак і прытуліцца, так што назву «народ боскі» можна дапасаваць і да рамейцаў.

богазмагальнікаў». Першы цар богаславячых названы Рехеб-Эм (ён пераіначаны ў царкоўным перакладзе ў Раваама), гэта азначае Пашыральнік народа. А першы цар богазмагальнікаў мае імя Ірэб-Эм (па-царкоўнаму-Ераваам), што азначае Заступнік народа. Хіба тут не праглядаецца схематычны паралелізм першабытнага складальніцтва? Хіба гэта побытавыя імёны двух рэчаісных цароў, дадзеныя ім бацькамі ў дзяцінстве і якімі яны звалі сябе ў сям'і? Ці пры ўступленні на пасад цары абранага народа боскага набывалі новыя імёны, як пры пастрыжэнні ў манахі?

ТАБЛІЦА XII.

Храналагічная паслядоўнасць багазмагальніцкіх і багаслаўскіх цароў і час іхнай сьмерці адпаведна з Бібліяй, пачынаючы ад уцаравання Савула.

| Цары багаслаўскія | | | | | Цары багазмагальніцкія | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ра До к | Сума царава н. | Працяг. царава н. | Па-руску | Па-жыдоўску | Па-жыдоўску | Па-руску | Працяг. царава н. | сума |
| 1 | 40 | 40 | Пекла | Савул | Савул | Пекла | 40 г. | 40 |
| 2 | 80 | 40 | Пыл Шанавання | Давыд | Давыд | Пыл Шанавання | 40 г. | 80 |
| 3 | 120 | 40 | Заспакаіцель | Саламон | Саламон | Заспакаіцель | 40 г. | 120 |
| А. Незалежныя цары | | | | | | | | |
| 4 | 17 | 17 | Пашыральнік Народа | Раваам | Ераваам | Заступнік народа | 22 | 142 |
| 5 | 20 | 3 | Бацька бога | Аб-Ія | Надаб | Шчодры | 2 | 144 |
| 6 | 61 | 41 | Езус | Аса | Васа | Васіль (цар) | 24 | 168 |
| 7 | – | – | – | – | Ілій | Боскі | 2 | 170 |
| 8 | – | – | – | – | Замрый | Спявак | 7 дзн? | |
| 9 | 86 | 25 | Боскі суддзя | Іасафат | Арый | Глава | 12 | 182 |
| 10 | – | – | – | – | Ахаў | Брат Бацькі | 22 | 204 |
| 11 | 94 | 8 | Боскі Стралок | Іарам | Ахазія | Ўладальнік боскі | 2 | 206 |
| 12 | 95 | 1 | Уладальнік боскі | Ахазія | Іарам | Стралок боскі | 12 | 218 |
| 13 | – | – | – | (Узурпатара Эталія) | Егова (Іеуй) | Боскі | 28 | 246 |
| 14 | – | – | – | – | Іегаахаз | Бога-ўладальнік | 17 | 263 |
| 15 | 135 | 40 | Полымя боскае | Іегааш (Іааш) | Іааш (Іегааш) | Полымя боскае | 16 | 279 |
| 16 | 164 | 29 | Бога-бадзёры | Амасія | – | – | – | – |
| 17 | – | – | – | – | Ераваам II | Заступнік народа | 41 | 320 |
| 18 | – | – | – | – | Захарыя | Боская памяць | 6 м. | 320 |
| 19 | – | – | – | – | Салам | Мірны | 1 м. | 321 |
| 20 | – | – | – | – | Менаім | Дарунак народа | 10 | 331 |
| 21 | – | – | – | – | Факей | Бога-зоркі | 2 | 333 |
| 22 | – | – | – | – | Факх | Зоркі | 20 | 253 |
| 23 | – | – | – | – | Анархія (згодна з Halls'у) | – | 9 | 362 |
| 24 | 216 | 52 | Дапамога бога | Осія (Азарыя) | Осія | Ратавальнік боскі | 3? | 365? |
| 25 | 232 | 16 | Бога-бязгрэшны | Іёатам | 22 цары. Канец багазмагальніцкага царства | | Сума каля 365 адпаведна колькасьці дзён у годзе. | |
| 26 | 248 | 16 | Гаспадар | Ахаз | | | | |
| 27 | 277 | 29 | Бога-моцны | Езекія | | | | |
| 28 | 332 | 55 | Узнёслы | Манасія | | | | |
| 29 | 334 | 2 | Народны | Амон | | | | |
| 30 | 365 | 31 | Полымя боскае | Іёсія | | | | |
| 31 | $365^{1}/_{4}$ | $^{1}/_{4}$ года | Ўладальнік боскі | Іё-Ахаз | | | | |

<table>
<tr><td colspan="5">Сума $365^{1}/_{4}$ гадоў для незалежных богаслявячых цароў адпаведна колькасьці дзён юліянскага года</td><td rowspan="6">Сума валадарання незалежных багазмагальніцкіх цароў, роўная 365 гадам, адпаведна колькасьці дзён года, бачна і із падліку Usher'a, які лічыў, што Раваам запанаваў у -975. годзе, а Асія ў -730. Дадаўшы да іх рознасці час Савула, Давыда і Саламона, мы і атрымліваем 365 гадоў.</td></tr>
<tr><td colspan="5">Б. Цары паланення</td></tr>
<tr><td></td><td>11</td><td>11</td><td>Бога-пакорлівы</td><td>Іякім</td></tr>
<tr><td></td><td>$^{1}/_{4}$</td><td>$^{1}/_{4}$ года</td><td>Бога-прыгатаваны</td><td>Іехонія</td></tr>
<tr><td></td><td>11</td><td>11</td><td>Сьвяты</td><td>Седэкія</td></tr>
<tr><td colspan="6">Дадаўшы да 19 цароў, валадарыўшых над богаслаўцамі пасьля іхнага аддзялення ад богазмагальнікаў (слупкі I-V), яшчэ трох, валадарыўшых над імі да аддзялення, г.азн. Савула, Давыда і Саламона, таксама атрымаем 22 цары, адпаведна колькасьці літар жыдоўскага альфабэта.</td></tr>
</table>

Ды і сам падзел богазмагальнікаў на два царствы парадыруе класічна-апакрыфічны падзел Рамейскай імперыі на Заходнюю, псеўда-лацiскую, і ўсходнюю – псеўда-грэцкую.

А вось і яшчэ адна дзіўная з'ява. Цалкам адначасова, каля 215-218 года ад першага цара Ада, паўстаўшы вайскавод, на імя Егова (адпаведна з царкоўным вымаўленнем – Іiуй) забівае цароў абедзьвюх фракцый, выехаўшых разам яму насустрач. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу такая акалічнасць: першы цар меў найменне Боская Ўласнасць (Ахаз-Іе, ці па-царкоўнаму – Ахазія), а другі меў найменне Боскі Стралок (Іе-Рам, па-царкоўнаму – Іарам) – табл. XII, радкі 11 і 12. Але ў Боскай Уласнасьці папярэднік носіць найменне Боскі Стралок, а ў Боскага Стралка ўжо не папярэднік, а наступнік названы Боскай Уласнасьцю, адпаведна схеме:

| | | |
|---|---|---|
| Уласнасць | ╳ | Стралок |
| Стралок | | Уласнасць |

Але так атрымліваецца толькі ў Бібліі, а ў пераліку ў евангеліста Мацьвея (у гл. 1) абодвух гэтых цароў няма.

Што гэта, запытаю я вас: сур'ёзная гісторыя двух сапраўдных цароў, ці гульня ў два мячыкі, із якіх адзін перакідаецца з левай у правую руку, пакуль іншы ляціць з правай у левую, а потым абодва выкідваюцца прэч?

Я не буду пакуль спыняцца на супастаўленні сэнсу астатніх імёнаў, які чытач можа бачыць сам із табліцы XII, а перайду непасрэдна да разбору іхнай храналогіі.

Нягледзячы на яе ўяўную бязладнасць яе канчатковыя вынікі падведзены відавочна пад старонную ідэю, што паказвае на ўжо вельмі позьнюю апрацоўку. І гэта цалкам зразумела. Час незалежнага існавання той і другой фракцыі «Абранага народа боскага» не мог, вядома, на думку сярэднявечных кабалістаў, быць выпадковым, а павінен быў быць вызначаны нябеснымі сьвяцiламі і нябеснымі знакамі, што няцяжка бачыць із самога апавядання.

Перадусім пазначым, што сонца абыходзіць усё нябеснае скляпенне на працягу $365^{1}/_{4}$ дзён. Час гадоў валадарання прызначаных самім богам цароў «абранага народа», вядома, павінен сімвалізавацца днямі года. І вось, падлічваючы суму гадоў валадарання ўсіх багазмагальніцкіх і незалежных багаслоўскіх валадароў, якія як бы спадкаемнічалі адзін аднаму ад бацькі да сына (табл. XII, левая палова), мы бачым, што працягласць незалежнага багаслоўскага царства была, згодна з кнігай Цары, роўнай $365^{1}/_{4}$ гадоў і заканчваецца яна апошнім незалежным ні ад богазмагальнікаў, ні ад паланяльнікаў, царом Іе-Ахазам. Гэтая лічба відавочна прыраўнавана да $365^{1}/_{4}$ дням юліянскага года, г.азн. апрацавана ужо падчас ужывання юліянскага календара. Да гэтай жа лічбы падведзены і час існавання багазмагальніцкага царства.

ТАБЛІЦА XIII.

Генеалогія багаслоўскіх (юдаiсцкіх) цароў «Народа Боскага».

| | A. Згодна з пералікам I кнігі «Словы Дзённыя» (Параліпаменон I, III, 10-15) адпаведна з жыдоўскім літаральным вымаўленнем імён. | B. Згодна з пералікам евангеліста Мацьвея (I, 7-10) і адпаведна з грэцкім вымаўленнем. | |
|---|---|---|---|
| 1 | Сын Шаламона – Рэхеб-Эм | Саламон нарадзіў Раваама | 1 |
| 2 | Сын Рэхеб-Ама – Эб-Іе | Раваам нарадзіў Авію | 2 |
| 3 | Сын Аб-Іе – Аса | Авія нарадзіў Асу | 3 |
| 4 | Сын Асы – Іе-Шафат | Аса нарадзіў Іасафата | 4 |
| 5 | Сын Іе-Шафата – Іе-Рам | Іасафат нарадзіў Іярама | 5 |
| 6 | Сын Іе-Рама – Ахаз-Іе | Іярам нарадзіў Озію | 6 |
| 7 | Сын хазу-Іе – Іе-Аш | | |
| 8 | Сын Іе-Аша – Амас-Іе | | |
| 9 | Сын Амас-Іе – Азар-Іе | | |
| 10 | Сын Азар-Іе – Іе-Там | Озія нарадзіў Іятама | 7 |
| 11 | Сын Іе-Тама – Ахаз-Іе | Іятам нарадзіў Ахаза | 8 |
| 12 | Сын Ахаз-Іе – Езек-Іе | Ахаз нарадзіў Езекію | 9 |
| 13 | Сын Езек-Іе – Манашые | Езекія нарадзіў Манасію | 10 |
| 14 | Сын Манашые – Амон | Манасія нарадзіў Амона | 11 |
| 15 | Сын Амона – Іаш-Іе | Амон нарадзіў Іёсію | 12 |
| | Транскрыпцыя імёнаў: на правым боку – жыдоўская, на левай – грэцкая. | | |

Але акрамя астралогіі тут існуе і кабалістыка, у якой важная роля надаецца лічбе 22, уяўляючай сабой колькасць літар жыдоўскага альфабэта. А так як пасьля прыраўнення да лічбы $365^1/_4$ выявілася, што незалежных богаславячых цароў толькі 16, то да іх дадалі на прыканцы яшчэ 3-ох цароў Вавілонскага паланення, а напачатку дадалі і трох агульных з багазмагальнікамі Савула, Давыда і Саламона, чым і вывелі патрэбную колькасць 22.

Цікава пазначыць таксама, што і дадаванне Іе-Ахаза, валадарыўшага толькі $^1/_4$ года (тры месяца), відавочна, зроблена пазьней у выглядзе юліянскай папраўкі, таму што ў евангеллі Мацьвея пасьля пераліку богаслаўскіх цароў няма Іе-Ахаза пасьля Іёсіі, а сказана прама: «Іос-Ія нарадзіў Іякіма, а Іякім Іехонію і яго братоў перад сваім перасяленнем у Вавілон» (Мацв. I, 12). А пасьля перасялення ў Вавілон «Іехонія нарадзіў Салафіла, і Салафіл нарадзіў Зора-Бабеля» (Мацв. I, 12) (табл. XIII).

ТАБЛІЦА XIV.

Рэзалютыўная схема штучнасьці імёнаў і агульнай колькасьці цароў «Абранага Народа Боскага».

| I. Згодна з грэка-рускай транскрыпцыяй. | | | | II. Згодна з жыдоўскім сэнсам найменняў. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1– Савул – 1<br>2– Давыд – 2<br>3– Саламон – 3 | | | | 1– Пекла – 1<br>2 – Шанаванне – 2<br>3 – Заспакаенне – 3 | | | |
| 4 | Раваам | Іераваам | 4 | 4 | Пашыральнік народа | Заступнік народа | 4 |
| 5 | Авія | Надаў | 5 | 5 | Бацька Бога | Шчодры | 5 |
| 6 | Аса | Васа | 6 | 6 | Езус (Лекар) | Васіль (цар) | 6 |
| 7 | Іасафат | Іла | 7 | 7 | Боскі суддзя | Боскі (ці Бог) | 7 |
| 8 | Іарам | Замрый | 8 | 8 | Боскі стралец | Спявак (паэт) | 8 |
| 9 | Ахазія | Эмрый | 9 | 9 | Валадар боскі | Ўзвышаны | 9 |
| 10 | Іаас з узурпатаршай Гафоліяй | Ахаб з уладнай Іезабелай | 10 | 10 | Полымя Боскае з узурпатаршай Эталіей | Дзядзька з уладнай жонкай Ізабеллю | 10 |
| 11 | Амасія | Ахозія | 11 | 11 | Бога-бадзёры | Боскі Валадар | 11 |
| 12 | Азарыя | Іарам | 12 | 12 | Бога-дапамога | Боскі Стралок | 12 |
| 13 | Іатам | Іiуй | 13 | 13 | Бога-бязгрэшны | Егова | 13 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 14 | Ахаз | Іаахаз | 14 | 14 | Гаспадар | Боскі Стралок | 14 |
| 15 | Езекія | Іаас | 15 | 15 | Бога-моцны | Полымя Боскае | 15 |
| 16 | Манасія | Іераваам | 16 | 16 | Узняты | Заступнік народа | 16 |
| 17 | Амон | Захарыя | 17 | 17 | Народны («оні») | Памяць боская | 17 |
| 18 | Іёсія | Салам | 18 | 18 | Полымя боскае | Мірны | 18 |
| 19 | Іаахаз | Менаім | 19 | 19 | Уладальнік Боскі | Дарунак народу | 19 |
| 20 | Іякім | Факія | 20 | 20 | Бога-пакорлівы | Зоркі Боскі | 20 |
| 21 | Іехонія | Факей | 21 | 21 | Бога-прыгатаваны | Зоркі | 21 |
| 22 | Седэкія ці Сьвяты Боскі | Осія ці Езус | 22 | 22 | Сьвяты Боскі | Ратавальнік ці Збаўца боскі | 22 |
| Усіх 22 адпаведна з колькасьцю літар жыдоўскага адльфабэта, а без апошняга – Сьвятога боскага ці Боскага Ратавальніка – 21, г.азн. тры сядзьміцы адпаведна колькасьці сузор'яў паўночнай гемісферы неба, як іх лічылі пад час сярэдневечча «Пталямей» і інш. | | | | | | | |

Звернем увагу на тое, што ў хрысьціянскім перакладзе вялікі дойлід, Зора-Бабель (імя якога азначае Чужы Брамы Госпада, г.азн. чужы стара-рамейскай царквы), без дададзенага пазьней Іе-Ахаза, выяўляецца таксама 22-м царом і таму адпавядае Седэкіі нашай табліцы, імя якога ў перакладзе азначае Сьвяты боскі. Ён, – кажуць нам, – пабудаваў Храм богу Грамабою, а із евангелля вядома, што і «Хрыстос», хаця і цар богаслаўцаў, быў у той жа час і Дойлідам, сынам Дойліда (па-грэцку – тэктонам) і заснаваў хрысьціянскую царкву.

Акрамя гэтага намёку евангельскі пералік дае нам і новае цікавае ўказанне на механізм паступовага выпрацоўвання гэтай планамернай схемы багаслоўскіх і багазмагальніцкіх цароў із цароў заходне-рамейскіх і ўсходне-рамейскіх. Тут колькасць незалежных цароў богаслаўскай фракцыі «абранага народу боскага» выяўляецца роўнай 15 (табл. XIII) і яно якраз адпавядае 15 сузор'ям Пталамея, знаходзячыхся на поўдзень ад Задыякальнага Пояса (табл. XV).

Параўноўваючы абодва радаводы на табл. XIII, дастаўшыяся нам з часоў сярэдневечча, мы бачым пасярэдзіне іх цікавае адрозненне. Згодна з Мацьвеем пяты богаслаўскі цар Іарам «нарадзіў» Озію, ад якога і паходзяць астатнія шэсць цароў гэтай дынастыі». А ў кнізе «Словы Дзённыя» (Параліпаменон I, III, 10-15) гэты ж Озія падзяліўся на Ахаза-Іе, на Іе-Аша, Амас-Іе і Азар-Іе, і пры гэтым не на братоў, а на прадзеда, дзеда, бацьку і сына...

Хто ж наблытаў? Ці Мацьвей выпадкова аб'яднаў тут чатырох цароў у адным ці «Дзённыя Словы», а з імі і «Кніга Цароў Ізраільскіх і Юдэйскіх», падзялілі аднаго Озію на чатырох чалавек? Апіску Мацьвея тут вельмі цяжка дапусьціць, таму што (звернем на гэта сур'ёзную ўвагу!) колькасць богаслаўскіх цароў выведзена ў яго, не без намеру, роўнай 12. Яна вызначана грунтуючыся на кабалістычным спосабе: 12 знакаў Задыяка, 12 месяцаў на працягу года, 12 апосталаў Езуса і 12 сыноў богазмагальніка Ізраіля. Гэта азначае: ці Мацьвей тэндэнцыйна скараціў 15 богаслаўскіх цароў да 12 знакаў Задыяка, ці, наадварот, самі цары спачатку былі выведзены астралагічна, але пазнейшыя кабалісты наўмысная давялі іхную колькасць да 22 літар жыдоўскага альфабэту.

Мне здаецца, што радавод Мацьвея мае характар менш складанай, а гэта азначае і больш ранняй схемы; таму-та і біблейскія кнігі «Цары» былі адрэгаваны ўжо пасьля евангелля Мацьвея.

Паглядзім зараз крыху і на фізіялогію гэтых цароў.

Я ўжо паказваў ва ўводзінах, як, падзяліўшы агульны час валадарання нейкай дынастыі на колькасць яе цароў, мы атрымліваем сярэдні час нараджэння яе спадкаемцы, а адняўшы ад гэтага часу 3-4 гады, атрымліваем час іхнай стацевай спеласьці. Зірнуўшы на табл. XII, мы бачым, што пасьля Саламона незалежнае

існаванне як богаславячага, так і багазмагальніцкага царстваў працягвалася 245 гадоў, а колькасць паслядоўных цароў была 19. Але 245: 19 = 13 гадоў. А адняўшы адсюль 3-4 гады, бачым, што яны дасягалі стацевай спеласьці ўжо на 9 і 10 годзе ад нараджэння. Вось якімі былі раннімі! – Гэта прыдатна для казкі, але не для гісторыі.

Для складнасьці свайго выкладання я пакажу яшчэ на цікавую неадпаведнасць біблейскіх крыніц у характарыстыцы чатырох дадатковых богаслаўскіх цароў, ці, – як іх завуць, – «цароў паднявольных», «цароў паланення». Справа ў наступным.

У другой кнізе «Цары» сказана:

Пасьля Ёсіі зацараваў (дададзены) Іаахаз, яго сын (XXIII, 30).
Пасьля Іаахаза зацараваў Іякім (Блізкі), другі сын Ёсіі (XXIII, 34).
Пасьля Іякіма зацараваў Іехонія, яго сын (XXIV, 6).
Пасьля Іеховіі зацараваў Седэкія (Матафія), яго дзядзька (XXIV, 12).

Гэтым і скончылася дынастыя: цар Брамы Госпада Наву-Хадано-Цар (што азначае Прадракальнік Вялікі цар) пасьля трохгадовай аблогі ўзяў іхную сталіцу Сьвяты горад, забраў Седэкію ў палон у «Рыўлу», асьляпіў яго, а ўсіх яго дзяцей закалоў перад яго вачамі (XXV, 7).

А ў «Словах Дзённых » (Параліпаменон) паведамляецца проста:

Сыны Ёсіі – Іаханам, Іякім і інш.
Сыны Іякіма – Іехонія і Седэкія.
Сыны Іехоніі – Салафііл, Федайя і інш.
Сын Федайі – Зорабабель.

Ды і ў Мацьвея (I, 11-12) мы маем тое ж самае:

Ёсія нарадзіў Іякіма.
Іякім нарадзіў Іехонію.
Іехонія нарадзіў Салафііла.
Салафііл нарадзіў Зорабабеля.

Мы бачым, што ў «Словах Дзённых» радавод вялікага біблейскага дойліда Зора-Бабеля вядзецца мінуючы дадатковага Іяхаза, валадарыўшага $^1/_4$ года, толькі праз Іякіма і Іехонію, пры гэтым Зора-Бабель пададзены сынам Федая, а ў Мацьвея – сынам Федаева брата Салатыіла.

Пакінуўшы ўбаку гэтую маленькую блытаніну, як неістотную для нас, я звярну ўвагу чытача яшчэ раз на прыкладзены тут спіс старажытных сузор'яў, стварэнне якога прыпісваецца бацьку сярэднявечнай астраноміі багазмагальніку Пталамею, жыўшаму, быццам бы, яшчэ ў другім стагоддзі нашай эры.

Хаця ўсе творы Пталамея і носяць характар Эпохі Гуманізму, але ў падставе іхнай нябеснай картаграфіі змяшчаецца, без сумневаў, вельмі старажытная канва: частка ж гэтых сузор'яў згадваецца і ў Апакаліпсісе. І вось, акрамя ўжо паказанага мной супадзення 21 цара богазмагальнікаў (без забранага ў палон Осіі) з 15 сузор'ямі паўночнага паўшар'я неба, мы ўжо бачылі супадзенне і 21 незалежных юдаісцкіх цароў (без дададзенага Іе-Ахаза, валадарыўшага $^1/_4$ года) з 15 сузор'ямі паўднёвага неба Пталамея.

ТАБЛІЦА XV.

«Пталямеевы Сузор'і».

| Задыякальныя сузор’і: Рыбы, Авен, Цяля, Двайняты, Рак, Леў, Панна, Шалі, Стралок, Казярог, Вадаліў. | | | |
|---|---|---|---|
| Паўднёвыя сузор’і | | Паўночныя сузор’і | |
| 1-ая | 1. Кіт | Калясьніца (Вялікая Мядзьведзіца) .1 | 1- |
| | 2. Арыён | Малая Мядзьведзіца (ці малая Калясьніца) .2 | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| пяцё рка | 3. Рака Эрыдан | Дракон .3 | ая ся м ёр ка |
| | 4. Заяц | Цэфей .4 | |
| | 5. Вялікі Сабака | Валапас .5 | |
| 2-ая пяцё рка | 6. Малы Сабака | Паўночны Вянок .6 | |
| | 7. Карабель Арганаўтаў | Укленчаны Чалавек .7 | |
| | 8. Вуж ці Самка Гідры | Ліра (Падаючы Ястраб) .8 | 2- ая ся м ёр ка |
| | 9. Чарка | Лебедзь (Птушка, Крыж) .9 | |
| | 10. Крумкач | Пасад (Касіяпея) .10 | |
| 3-яя пяцё рка | 11. Ахвярнік | Пярсей .11 | |
| | 12. Цэнтаўр | Вазнічы і Каза .12 | |
| | 13. Воўк ці Барс | Змеятрымальнік (Эскулап) .13 | |
| | 14. Паўднёвы Вянок | Зьмей .14 | |
| | 15. Паўднёвая Рыба | Страла (Дзіда) .15 | 3- яя ся м ёр ка |
| Гэта сузор'і "Апраметнай", якія большую частку сутак знаходзяцца пад зямлёй з боку гледжання жывучых на ўзбярэжжы Міжземнага мора. | | Арол (Лунаючы Ястраб) .16 | |
| | | Дэльфін .17 | |
| | | Малы Конь .18 | |
| | | Крылаты Конь (Пегас) .19 | |
| | | Прыкаваная Жанчына (Андрамеда) .20 | |
| | | Дэльтадон (Трохкутнік) .21 | |

А калі мы бярам спіс цароў у Мацьвея, у якога іх толькі 12, то пераконваемся, што і тут яны ўзяты не выпадкова, а, як я толькі што выказваўся, адпаведна колькасьці 12 сузор'яў Задыяка, што больш гарманіруе з вялікім значэннем, прыпісваемым хрысьціянамі багаслаўскаму царству, як правобразу нябеснага царства, тым больш, што зоркі, праводзячыя вялікую частку кожных сутак у «апраметнай», г.азн. пад зямлёй, не могуць лічыцца знакам выключнай боскасьці пазначаемых імі чалавечых душ.

Гэта азначае, у павелічэнні 12 цароў да 15 сапраўды фігуруе больш позняя, чыста кабалістычная перапрцоўка першапачатковай астралагічнай схемы, у якой 12 сузор'яў задыяка, як у снабачанні, раптам ператварыліся ў 12 сыноў Якава-Богазмагальніка, у 12 богаславячых цароў, а потым, ужо з дапамогай кабалістыкі, колькасць іх даведзена да 15 і канчаткова да 22.

Але чаму ж, калі гэта так, мы не знаходзім цалкам дакладнага пагаднення ў працягласьцях іхных валадаранняў не толькі з часамі валадарання рамейскіх цароў, але нават і згодна з дваістым злічэннем самой кнігі «Цары»? Кніга ж «Цароў Багазмагальніцкіх і Богаслаўскіх» вядзе ім не простую, а складаную храналогію, нагадваючыю падвойную бухгалтэрыю ў сучасным злічэнні, пры якім кожная памылка зараз жа сама выкрываецца і атрымліваецца магчымасць яе выпраўлення.

Зірнуўшы на зробленыя мной із гэтых кніг храналагічныя выпісы (табл. XVI), чытач сам пераканаецца, што тут з відавочным намерам задумана і сістэматычна праведзена нешта вельмі сур'ёзнае.

Для кожнага богаславячага цара паслядоўна паказана, па-першае, непасрэдна час яго валадарання ў гадах ці долях года і, па-другое, пазначана, у якім годзе валадарання самага блізкага да яго па часу багазмагальніцкага цара ён зацараваў і ў якім годзе валадарання яго наступніка ён памёр. Дакладна тое ж зроблена і, наадварот, для кожнага багазмагальніцкага цара.

Гэта азначае, тут сапраўды падвойная бухгалтэрыя. Багазмагальніцкая храналогія абапіраецца на богаслаўскую, а богаслаўская на багазмагальніцкую, і ўсё гэта відавочна зроблена знарок, каб можна было выправіць якую б то ні было памылку пры перапісваннях.

Усё выкладзенае ў маіх выпісах я для навочнасьці другі раз рэзюмаваў у прыкладзенай таблічцы (стар. 317 (ТАБЛІЦА XVIII)), дзе супастаўлены вынікі прамога і ўскоснага падліку гадоў. У тых выпадках, дзе ўскосны падлік адсутнічае, пастаўлены знакі пытання. Параўноўваючы паміж сабой ўсе лічбы, дзе існуе наяўнасць таго і другога злічэння, мы бачым, што абодва яны цалкам супадаюць толькі тры разу, ды адрозніваюцца на адзінку (дапускаемае адрозненне, пры ігнараванні дробавых рэшткаў года) 6 разоў. А ва ўсіх астатніх 11 выпадках адрозненне ўжо не апраўдваецца ні пры якім спосабе падліку. Гэтай акалічнасьцю і тлумачацца частыя адхіленні часу валадарання богаслаўскіх і багазмагальніцкіх цароў ад адпавядаючых ім рамейскіх. І ўсё ж, увогуле, дыяграма іх паслядоўнага шэрага навочна паказвае, што гады іхнага валадарання спачатку былі скапіяваны з рамейскіх. Гэта азначае, у гэтым не можа быць ніякіх сумневаў.

ТАБЛІЦА XVI.

Резюміруючы храналагічны канспект богаслаўскіх і багазмагальніцкіх цароў.

| Богаслаўскія | Багазмагальніцкія |
|---|---|
| §1. Спачыў Саламон, і зацараваў РАВААМ яго сын (I кн. Цароў XI, 43). За ім засталіся толькі бога-слаўцы (Ц. XII, 20), ён валадарыў 17 гадоў. Наладзіў капліцы на ўзгорках і пад дрэвамі (Ц., XIV 21-23). Увесь час ваяваў з Ераваамам. | §2. Адпалі Богазмагальнікі ад Раваама, і зацараваў над імі ў першы ж год ІЕРАВААМ, сын Наватаў (I Цароў, XII, 20). Ён прызначыў сьвятароў не із лявітаў (Ц. XII, 31 і 13, 33), наладзіў капліцы на вышынях. Так працягвалася і ўвесь час у богазмагальнікаў. Усе іхныя цары трымаліся «ерасі Ераваама». Валадарыў 22 гады (I кніга Цароў, XIV, 20). |
| §3. АБ-ІЯ, сын Раваама, зацараваў на 18-ы год валадарання ІЕ-РАВА-АМА багазмагальніцкага. Валадарыў 3 гады. Ваяваў увесь час з Ераваамам (XV, 1). Грашыў. | §5. НАДАБ, сын Раваама, зацараваў на 2-і год АСЫ богаслаўскага і валадарыў 2 гады (1525). Прытрымліваўся ерасі Ераваама. |
| §4. АСА, сын Авіі зацараваў на 20-ы год ІЕРАВААМА і валадарыў 41 год. Быў справядлівы (XV, 4). Ваяваў з Васай увесь час.<br>Згодна з §2 ён зацараваў за 2-3 гады да сьмерці Іераваама, а згодна з §11 памёр на 4 год Ахаба. А ад сьмерці Іераваама да ўцаравання Ахаба прайшло згодна з §§ 5, 6, 7, 8 і 9 каля 40 гадоў. Але 40+2+4 даюць 46 гадоў, а тут, як мы бачым, пазначана толькі 41 год. Куды падзеліся 5 гадоў? Калі гэтая падвойная бухгалтэрыя правільная, то патрэбна са спіса багазмагальніцкіх цароў выключыць Надаба, Ілу і Замрыя, як дададзеных пазьней. | §6. Вааса, сын Ахіі, забіў Надаба на 3-ім годзе АСЫ богаслаўскага і валадарыў 24 гады. Прытрымліваўся ерасі Іераваама (XV, 33).<br>А із §7 у параўнанні з гэтым атрымліваецца толькі 26-3 = 23 гады.<br>§7. ІЛА (АЛЕ), сын Васы, зацараваў у Тырцэ на 26 годзе АСЫ Богаслаўскага і валадарыў 2 гады (XVI, 8).<br>А ў параўнанні з §8 атрымліваецца 27-26, г.азн. толькі 1 год.<br>§8. ЗАМРЫЙ, кіраўнік над паловай калясніц Ілы, г.азн. яго суваладар, забіў яго на 27 годзе Асы богаслаўскага і зацараваў на яго месца на працягу 7 дзён (XVI, 9-15). |
| | §9. АМРЫЙ, галоўны вайскавод, скінуў Замрыя, забіў яго на 31 годзе валадарання Асы богаслаўскага і валадарыў 12 гадоў, акрамя часу спрэчкі з Фамніем (Ц. XVII, 21). Перанёс сталіцу ў Самарыю.<br>А пры параўнанні гэтага § з §10 атрымліваецца, што Амрый валадарыў 38-31= 7 гадоў. А як жа тут пазначана 12? Куды падзеліся 5 гадоў? |
| §11. ІАСАФАТ, сын Асы, зацараваў на 4-ы год АХАБА Багазмагальніцкага і валадарыў 25 гадоў (Ц. XXII, 41-42). Ён быў дагодны богу, але не знішчыў капліčкі на вышынях | §10. АХАБ, сын Амрыя, зацараваў на 38 год Асы богаслаўскага і валадарыў 22 гады (XVI, 29). Адружыўся з Ізабелі, пачаў ушаноўваць Бэлу. Пры ім пачаў прарочыць Ілія. Пра Ахаба |

| | |
|---|---|
| (пірамідах). Меў намесьніка ў Ідумеі.<br>У параўнанні з §10 ён зацараваў за 18 гадоў да сьмерці Ахаба, а згодна з §12 памёр на 5 годзе Іарама багазмагальніцкага, ды паміж гэтымі двума на працягу 2 гадоў валадарыў Ахазія (§ 13). Гэта азначае, Іасафат валадарыў 18+5+2=25 гадоў. Тут першы раз падлік зроблены цалкам слушна. | паведамляецца выключна шмат (главы 16-22 Цароў і XVIII Параліпаменона).<br>У параўнанні з §4 ён зацараваў за 3 гады да сьмерці АСЫ богаслаўскага, а згодна з §13 памёр на 17 годзе яго сына ІАСАФАТА. Г.азн., валадарыў 20 гадоў. Як жа тут пазначаецца 22 гады? |
| §12. ЁРАМ Богаслаўскі, сын Іасафата, зацараваў на 5 годзе ІЯРАМА багазмагальніцкага і валадарыў 8 гадоў (Ц, VIII, 16-17). Пераймаў багазмагальніцкую ерась.<br>А ў параўнанні з §14 ён валадарыў 12-5, г.азн. 7 гадоў замест пазначаных тут 8. Недакладнасць дапушчальная. | §13. АХАЗІЯ багазмагальніцкі, сын Ахаба, зацараваў на 17 годзе ІАСАФАТА богаслаўскага і валадарыў 2 гады (I Цароў, XXII, 52). Памёр па слову Іліі Прарока (II Цароў, 1-17).<br>У параўнанні з §15 атрымліваецца не 2, а толькі 1 год. |
| §14. АХАЗІЯ Богаслаўскі, сын Іарама Богаслаўскага, зацараваў на 12 год ЁРАМА Багазмагальніцкага і валадарыў 1 год (Ц. VIII, 25-26). А далей, у гл. IX, 29, сказана, што ён зацараваў на 11 годзе ЁРАМА Багазмагальніцкага (§ 15) і пераймаў яго ерасі. Забіты Іеуем, адначасова з Іарамам багазмагальніцкім, сваім хаўруснікам (Ц., II, 27). Гэта азначае, валадарыў не 1 год, як сказана тут, а ва ўсякім разе, згодна з §15, не менш 20-12=8 гадоў? Куды ж падзяляліся 7 гадоў? Ці не на размяшчэнне наступнай за ім узурпатаршы Эталіі (§ 17)? | §15. ЁРАМ багазмагальніцкі, брат бяздзетнага Ахаба, зацараваў замест яго на 18 год ІАСАФАТА богаслаўскага і валадарыў 12 гадоў (Ц, III, 1).<br>У параўнанні з §11, ён зацараваў за 7 гадоў да сьмерці Іасафата богаслаўскага, а згодна з §14 памёр разам з яго сынам Ахазіяй, які валадарыў 1 год. Гэта азначае, валадарыў 8 гадоў, а тут дадзена 12 гадоў. |
| §17. ЭТАЛІЯ адначасова з Іеуем узурпавала ўладу Іааса, сына Ахаіі, на 6 гадоў (П., XI, 1,) | §16. ІЕУЙ (з вайскаводаў), зрабіў паўстанне, забіў багазмагальніцкага Іарама і богаслаўскага Ахазію (праз 1 год яго валадарання) і сеў на месца Іарама. Скасаваў шанаванне Бэла і валадарыў 28 гадоў (Ц, X, 36).<br>Згодна з §14 і 17 ён зацараваў разам з Эталіяй, а згодна з §19 памёр на 23 годзе Іааса богаслаўскага. Лічачы, што Эталія кірвала 6 гадоў, атрымліваем для яго 23+6=29 гадоў. Даволі пагадняецца з дадзенымі тут 28 гадамі. |
| §18. ІОАС Богаслаўскі, сын Ахазіі, зацараваў (з дапамогай сьвятара Іадая) на 7 год ІЕУЯ багазмагальніцкага і валадарыў 40 гадоў (Ц., XII, 1).<br>У параўнанні з §16 ён зацараваў за 21 год да сьмерці Іеуя, а згодна з §20 памёр на 2 год Іааса багазмагальніцкага. Але паміж Іаасам і Іеуем валадарыў яшчэ (§19) Іаахаз 17 гадоў. Г. азн., Іаас валадарыў 21+2+17=40. Тут гэтая падвойная бухгалтэрыя зноў дала пагадняючыяся вынікі. | §19. «ІО-АХАЗ, сын Іеуя, зацараваў на 23 годзе ІААСА Богаслаўскага і валадарыў 17 гадоў» (Ц, XIII, 1).<br>У параўнанні з §21 ён валадарыў 14 гадоў, а тут сказана 17. Куды ж дзеліся 3 гады? |
| §20. АМАСІЯ, сын Іааса богаслаўскага, зацараваў на 2-і год ІААСА Багазмагальніцкага і валадарыў 29 гадоў. (Ц., XIV, 2)<br>Згодна з §21 ён зацараваў за 14 гадоў да сьмерці Іааса багазмагальніцкага, а памёр згодна з §22 дваякa: па-першае на 15, а па-другое на 27 годзе валадарання яго сына Іераваама II (§23). У першым выпадку ён | §21. «ІОАС багазмагальніцкі, сын Іо-Ахаза, зацараваў на 37-ы год ІОАСА Богаслаўскага і валадарыў 16 гадоў» (Ц., XIII, 10).<br>А згодна з §18 ён зацараваў за 3 гады да сьмерці Іааса і згодна з §23 яшчэ валадарыў 15 гадоў. Але 15+3=18, а не 16, як тут. |

рамейска-візантыйскі цар падводзіўся ім пад паслядоўны знак Задыяка, і яму давалася найменне на тым спецыфічным жаргоне арабскай мовы, які мы завём жыдоўскай мовай, і які ніколі не існаваў у якасьці звычайная мова нейкага народа.

Жыдоўская мова, падобна лацінскай, не з'яўляецца «мёртвай» мовай дзякуючы ўжо аднаму таму, што, яна ніколі не была жывой, г.азн. размоўнай у нейкай краіне. Абедзьве гэтыя мовы былі тым жа, што і сучасная мова польскіх жыдоў, уяўляючая сабой толькі спецыфічны жаргон нямецкай мовы. Лацінская мова была пад час Эпохі Адраджэння проста жаргонам італійскай мовы, і на гэтым жаргоне стасавалася і пісала міжнародная інтэлігенцыя заходняй Яўропы. А жыдоўская мова была простым жаргонам арабскай мовы, на якім папярэднічаўшая Эпосе Адраджэння міжнародная інтэлігенцыя Ягіпта, Заходняй Азіі, Балканскай і Паўднёвай часткі Апенінскай паўвыспы і знаходзіўшыхся пад іхным уплывам Гішпаніі і Марока, пісала і стасавалася паміж сабой ў прамежак ад IV да VIII стагоддзя нашай эры. На вось гэтым інтэлігенцкім «жаргоне» старажытнасьці і былі напісаны большасць біблейскіх кніг падобна таму, як у наступны перыяд большасць кніг пісаліся «на-лаціне», хаця аўтарамі і былі галоўным чынам германцы і рамеі, пераіначыўшыя стара-італійскую мову не горш, чым сучасныя польскія і галіцыйскія жыды – нямецкую. А першая міжнародная інтэлігенцыя IV-VIII стагоддзяў у «Сусьветнай Рымскай імперыі», меўшая назву абраны народ бога, на столькі ж пераіначыла арабска-ягіпецкую мову.

Аўтары біблейскіх кніг не збіраліся нікога падманваць ці містыфікаваць; яны пісалі для сябе і для свайго кола. Але імкненне выказвацца алегорыямі і маляваць прадметы асобнымі значкамі (накшталт астралагічных пазначэнняў планет і сузор'яў, захаваўшыміся і да гэтага часу у нашых календарах, ці, яшчэ больш у алхімічнай сімвалістыцы), прывяло да таго, што наступныя чытачы, знайшоўшы пасьля сьмерці аўтара такую кнігу, мала што разумелі і, спрабуючы сваім яшчэ слабым інтэлектам разабрацца ў ёй, прыходзілі да такіх высноваў, што сучасны чытач ужо цалкам нічога не разумее.

Наш астранамічны метад дасьледавання прароцкіх кніг, паставіў на сваё месца час «абранага народа боскага», апісанага ў кнізе «Цары». Гэта заканчэнне трэццяга, усё чацьвёртае, усё пятае, усё шостае і пачатак сёмага стагоддзяў нашай эры. Статыстычнае ж параўнанне гадоў валадарання паказала, што цары «народа, абранага із усіх народаў», былі царамі тагачаснай культурнай Рамейскай імперыі. Але яны тут пералічаны разнамоўнымі сярэднявечнымі аўтарамі не пад іхнымі сучаснымі імёнамі (такіх жа і не было ў старажытнасьці, да з'яўлення «метрычных кніг»), а пад найменнамі, асобна дадзенымі ім грунтуючыся на іхных асабістых якасьцях, ці адпаведна колавароту задыякальных сузор'яў, пад якія іх сілком падводзілі, ці, нарэшце, арыентуючыся на нейкія сугуччы і кабалістычныя меркаванні.




Мал. 100
Задыякальныя сузор'і Дэндэрскага Задыяка.

Разгледзім жа зараз і некаторыя дэталі іхнага жыцця, карыстаючыся нашай дыяграмай (стар. 329) як мапай, і малюнкам 100, як павадыром па небу. І хай чытач, ужо перакананы маімі ранейшымі довадамі ў тым, што біблейскія «Цары» спісаны з цароў рамейскіх, не сярдуе на мяне за тое, што я паўтараю свае доказы на тысячы ладаў і па некалькі разоў на працягу гэтых сямі тамоў вяртаюся да таго ж пытання. Нават жа і да гэтага часу існуюць людзі, якія называюць усё гэта маімі «здагадкамі», і мне патрэбна выкарыстаць тут увесь свой арсенал. Пакуль пакінем у баку трох агульных з багаслаўцамі цароў: Савула (Пекла), Давыда (Пыл Шанавання) і Саламона (Міратворца), самага мудрага із усіх людзей, пры гэтым дзеля кур'ёзу пазначым, што ад жыдоўскага імя гэтага ж мудрага Саламона (Шалома, адпаведна з транскрыпцыяй – Шлме) паходзіць і рускае слова **шэльма**, і нямецкае der Schelm).

Перадусім пазначым, што ў «Царстве Богазмагальнікаў» было дванаццаць кален, адпавядаючых 12 знакам Задыяка; такім чынам, тут прама бярэ ўдзел астралогія. Калі яна, як можна чакаць, ужываецца і далей, то кожнаму цару павінен адпавядаць свой знак задыяка, як нябесны знак. Тады першы із багазмагальніцкіх цароў Заступнік народа – Ераваам, ён жа Ўстойлівы (Кастусь І) – павінен сімвалізавацца сузор'ем Авена, сядзібай Марса, а яго месяцам павінен быць першы месяц старажытнага года – сакавік, калі Авен згарае ў полымі світання, як вечаровая ахвяра. Параўнаўшы ўсю паслядоўнасць далейшых рымскіх цароў нашай дыяграмы з паслядоўнасьцю месяцаў і знакаў задыяка, мы праз 12 цароў прыходзім зноў да таго ж наймення «Ераваам ІІ», г.азн. Заступнік народа, а праз 12 знакаў Задыяка і 12 месяцаў мы зноў прыходзім да Авена і да месяца сакавіка. Мы бачым,

што зноў жа «Заступнік народа» налёг на Авена (гл. табліцу XXII). А ў грэцкім вымаўленні Іера-Баам, акрамя таго, азначае «сьвяты кліч»[181], ды і сам Авен быў сьвятым сузор'ем, і «Заступнікам народа».

Няўжо і гэта «проста выпадковасць»? Ужо занадта іх тут шмат, і яшчэ больш мы пабачым далей.

Біблейская характарыстыка першага цара богазмагальнікаў – Заступніка народа[182] – праўда, астралагічна не цалкам адпавядае характарыстыцы Авена, што і непазбежна пры гвалтоўным падвядзенні зямных падзей пад нябесныя. Яго здзяйсненні хутчэй нагадваюць уласьцівасьці планеты Марс, абраўшага Авена сваёй «начной сядзібай». А гістарычна яго дзейнасць цалкам адпавядае жыццю адпавядаючага яму рамейскага цара Кастуся I з біблейскага боку гледжання.

«Ён – паведамляе кніга «Цары», – усё жыццё ваяваў з богаслаўцамі, адхіліў ад набажэнстваў іхных лявітаў і прызначыў замест іх «сьвятароў вышынь» (пірамід, пры гэтым напісанне **ВМЕ** азначае па-жыдоўску, наколькі яго змаглі вызначыць габраісты, і капліцу на ўзвышшы, і проста надмагільны курган). Усё гэта адпавядае месіянскай характарыстыцы Кастуся I, якому прыпісваюць усталяванне хрысьціянства ў Вялікай Рамеі, пры яго змаганні з Ліцыніем.

Другі цар «богазмагальнікаў» – Надаў, наступнік Іераваама (адпавядаючы сузор'ю Цяляці і месяцу красавіку), – носіць імя, якое азначае згодна са сваім коранем Шчодры і адпавядае астралагічнай характарыстыцы гэтага сузор'я – «сядзіба поспеху». Гістарычна ён налягае на Кастуся II, валадарыўшага, як і Надаў, толькі два гады (дыягр. XX, стар. 329). Пра яго ў Бібліі паведамляецца толькі некалькі радкоў: ён трымаўся веравучэння Іераваама і быў забіты сваім наступнікам, змоўшчыкам Васай, гістарычна адпавядаючага яго брату і наступніку Канстанцыю II, а астралагічна сузор'ю Двайнят, пра якое пад імёнамі братоў Левіі і Сымона гаворыцца ў кнізе Быцця: «у гневе сваім яны забілі мужа (Арыёна – Арыяна), пераразалі жылы Цяляці (Быццё, XLIX, 5)».

ТАБЛІЦА XXII.

Наляганне біблейскіх багазмагальніцкіх цароў на багазмагальніцкіх жа «нябесных цароў» (г.азн. сузор'яў Задыяка, геацэнтрычна ідучых супраць Сонца)

| Нябесныя багазмагальніцкія цары | Зямныя багазмагальніцкія цары | Час іхнага апускання ў полымя вечаровага зарыва |
|---|---|---|
| Авен (Сядзіба Марса) | Іераваам I (Кастусь I) (Заступнік народа) | Сакавік (месяц Марса) |
| Цяля (Сядзіба Венеры) | Надаў (Кастусь II) (Шчодры) | Красавік (месяц Венеры) |
| Двайняты (Сядзіба Меркурыя) | Васа (Васіль) (Базіс) | Травень (месяц Меркурыя) |
| Рак (Сядзіба Месяца) | Іла (Юльян) (Бог, ці Сонца) | Чэрвень (месяц Месяца-Юноны) |
| Леў (Сядзіба Сонца) | Замрый (Іавіян) (Усхваляльнік) | Ліпень (месяц Сонца-Элія) |
| Панна (Сядзіба Меркурыя) | Амрый (Валентыніян) (Умбрыец) | Жнівень (месяц Меркурыя) |
| Шалі (Сядзіба Венеры) | Ахаб (Валент) (Брат бацькі і пры ім прарок Ілія). | Верасень (месяц Венеры) |
| Скарпіён і Змеятрымальнік (Сядзіба Марса) | Ахазія (Грацыян) (Уладальнік Боскі) | Кастрычнік (месяц Марса) |
| Стралок (Сядзіба Юпітара) | Іарам (Валентыніян II) (Стралок Боскі) | Лістапад (месяц Юпітара) |
| Казярог (Сядзіба Сатурна) | Іеуі (Ян Залатавуст) (Боскі) | Снежань (месяц Сатурна) |

[181] Ἰερο-βόαμα – сьвяты крык, ад βοάω – крычу.

[182] ירב־עמ (ірб-эм) – заступнік народа*

| | | |
|---|---|---|
| Вадаліў (Сядзіба Сатурна) | Іоахаз (Хвядос) (Боскі Ўладальнік) | Студзень (месяц Сатурна) |
| Рыбы (Сядзіба Юпітара) | Іаас (Аркадзь) (Полымя боскае) | Люты (месяц Юпітара) |
| Авен (Сядзіба Марса) | Ераваам II (Ганорый) (Заступнік народа) | Сакавік (месяц Марса) |
| Цяля (Сядзіба Венеры) | Захарыя (Кастусь III) (Боская памяць) | Красавік (месяц Венеры) |
| Двайняты (Сядзіба Меркурыя) | Солам (Ян) (Мірны) | Травень (месяц Меркурыя) |
| Рак (Сядзіба Месяцы) | Менаім (Валентыніян III) (Дарунак народа) | Чэрвень (месяц Месяца) |
| Леў (Сядзіба Сонцы) | Факія (Пятроній) (Богазоркі) | Ліпень (месяц Сонца) |
| Панна (Сядзіба Меркурыя) | Факх (Рэцымер) (Зоркі) | Жнівень (месяц Меркурыя) |
| Шалі (Сядзіба Венеры) | Осія (Ромул Аўгустул) (Ратавальнік) | Верасень (месяц Венеры) |
| Скарпіён (Сядзіба Марса) | Салманасар (Адаакр) (Забраўшы мір) | Кастрычнік (Месяц Марса) |
| На Салманасару перапыняецца «другі цыкл» катастрофай багазмагальніцкага царства. Салманасар – гэта Адаакр, пазбавіўшы пасада Осію, г.азн. Рамула Аўгустула каля 496 года нашай эры. Згодна з гэтай схемай із трох да-Іераваамавых цароў Савул-Пекла прыпадае на само падземнае задыякальнае сузор'е Казярога, адпавядаючае Сьнежню; Давыд-Пыл Шанавання – Вадаліву, заходзячаму ў студзені, і Саламон-Міратворац – Рыбам, сімвалізуючым Хрыста. | | |

Трэцці цар псеўда-богазмагальнікаў Васа (ВЭШЕ), валадарыўшы 24 гады, як і Канстанцый II (дыягр, стар. 329), астралагічна налягае згодна са сваім месцам, як я ўжо паведамляў, на сузор'е Двайнят. Аднак, яго наўрад ці можна цалкам атаясаміць з Канстанцыям II (339-361), а хутчэй з яго сучаснікам Васілём Вялікім (329-379). Яго жыдоўскае найменне Васа азначае, згодна з тлумачэннем тэолагаў, «у стварэнні», г.азн. стваральнік, але таму што цяжка дапусьціць існаванне падобнага імя, то я хутчэй схільны лічыць яго за асіміляванне грэцкага імя Васіль (г.азн. пастамент сонца) грунтуючыся на верхнім становішчы яго сузор'я ў задыякальным коле. Ён прытрымліваўся, як і ўсе іншыя багазмагальніцкія цары, таго ж Іераваамава веравызнання і змагаўся, – кажуць нам, – з багаслаўцамі усё жыццё. «Ён вынішчыў, – паведамляе кніга «Цары», – усіх нашчадкаў «Заступніка народа», як і Канстанцый II усіх сваіх сваякоў, нагадваючы гэтым евангельскага цара-Героя (Ірада – па-грэцку), і абраў сваёй сталіцай «Цірцу». Яе найменне нагадвае пра першакрыніцу сучаснай назвы Турцыя, і сапраўды Канстанцый пачынаючы з 335 года ўвесь час жыў у азіяцкіх правінцыях і ваяваў з пярсідзкімі «цюркамі» (Сапарам II). Больш нічога пра яго ў Бібліі не паведамляецца (І Ц., XV, 28).

Чацьвёрты псеўда-багазмагальніцкі цар – Элій (Іла), астральна адпавядае месяцу чэрвеню і сузор'ю Рака. Ён носіць гучнае імя Бог (АЛЕ), ці Сонца, ці проста Юлій і адпавядае ў гістарычным парадку наступніку Канстанцыя, Юльяну-Філосафу, таксама валадарыўшаму толькі два гады (дыягр. XX). Нягледзячы на свае выбітныя якасьці, як сябар навукоўцаў і пісьменнікаў і выбітны адміністратар і вайскавод, Юльян не папулярны сярод тэолагаў, а таму і ў Бібліі ён праходзіць як цень. Пра яго нічога не паведамляецца, акрамя імя, ды яшчэ таго; што праз два гады ён быў забіты начальнікам сваіх калясніц. Гэта астральна адпавядае шматлікасьці навальніц пад час чэрвеньскай пары года, а гістарычна таму, што Юльян, адпаведна са сведчаннямі гісторыкаў, быў забіты не то чалавекам, не то анёлам.

Пяты псеўда-богазмагальніцкі цар Замрый (што па-руску азначае Спявак гімнаў), астральна адпавядае месяцу ліпеню і сузор'ю Ільва. Ён забіў свайго папярэдніка і сеў на яго месца, вынішчыўшы, як леў здабычу, увесь род цара Васы, не пакінуўшы яму ніводнага «мочачагася да сьцяны, ні сваяка, ні сябра (I Ц., XVI, 11)». Усё гэта адпавядае ўсёспальваючай ліпеньскай спякоце паўднёвых краін, забіваючай чэрвеньскую расліннасць.

«*Калі ж ён пабачыў,* – працягвае Біблія, што яго аблажылі ворагі (навальнічныя хмары ліпеня?), *ён запаліў сваю сядзібу і загінуў у полымі* (адпаведна з перыядам ліпеньскіх навальніц, калі сонца бывае ў сузор'і Ільва, ці было вывяржэнне Вязувія).

А гістарычна гэты «Спявак гімнаў», адпавядае імператару Іявіяну, суперніку Юльяна, спадарожнічаўшага яму і памёршаму ад раненняў вельмі хутка пасьля знікнення Юльяна ў Месапатаміі. Гісторыя не паведамляе, што менавіта ён забіў Юльяна, але мімаволі тут згадваюцца апошнія словы Юлія Цэзара, калі на яго напалі змоўшчыкі: «І ты, Брут!», хаця Юлій Цэзар шмат у чым спісаны з Юльяна...

Шосты цар псеўда-богазмагальнікаў, носячы найменне «Глава» ці хутчэй Умбрыец, г.азн. Італьянец (Амры)[183], астральна адпавядае сузор'ю Панны і месяцу жніўню, калі сузор'е Панна апускаецца ў полымя вечаровага зарыва, перанёс (згодна з Бібліяй) сталіцу із Тэрцы ў Самарыю (г.азн. у Вартаўнічы горад), на гару гэтага наймення, чаму можна знайсьці астральную алегорыю ў тым, што сонца ў гэтым сузор'і пераходзіць із паўночнага паўшар'я на паўднёвае. Але і ён, як усе багазмагальніцкія цары, засмучаў бога «ўшаноўваючы выявы» (II Ц., XVI, 26). Гістарычна ж ён налягае на Валентыніяна, які таксама валадарыў 12 гадоў і які абраў сваёй рэзідэнцыяй лацінскую палову імперыі. І сапраўды, Самарыяй у асяроддзі сярэднявечных рабінаў звалася наогул ўся еўрапейская частка імперыі Кастуся І. Гэта азначае, краінай Самарыяй была Італія, а «Мора Самарыйскае» – гэта Тырэнскае мора. Што ж да горада Самарыя (што азначае Вартаўнічы горад), то гэта быў хутчэй усяго Рым.

Сёмы псеўда-багазмагальніцкі цар Ахаў адпавядае месяцу верасню і сузор'ю Шалі над Клюшнёй Скарпіёна, дзённай сядзібе планеты Меркурыя, хаця імя яго і гучыць у перакладзе даволі дзіўна: Дзядзька. А гістарычна (табл. XX на стр. 329) ён налягае на Валента (363-378). У яго біяграфію сьвядома дададзена доўгае апавяданне пра прарока Ілію (г.азн. прарока Сонца, прарока Эліяса) – аднаго са шматлікіх варыянтаў евангельскага Хрыста, які атаясамляецца таксама з Вялікім царом Месіяй (Рэ-Месу Міамунам) іерогліфаў і з Васілём Вялікім грэцкіх паданняў. Гэтае апавяданне ахоплівае XVII-XIX главу перадапошняй кнігі «Цары» і носіць відавочна-сімвалічны характар з намёкамі на нейкія надзвычай важныя зямныя падзеі, адбыўшыяся пры зямным цару-Дзядзьку, адпавядаючаму сузор'ю Шаляў. У ім жыццё прарока Эліяса (Іліі), цесна пераплецена з жыццём Цара-Дзядзькі і яго жонкі Ізабелі[184], імя якой, відаць, сімвалізуе яго царкву.

Але гэты Цар-Дзядзька ні ў якім разе не з'яўляецца ўвасабленнем правасуддзя, знакам якога з'яўляецца яго сузор'е і таму павінен быць узяты амаль цалкам із рэчаіснага жыцця і толькі перасаджаным у сузор'е Шаляў у якасьці адзнакі таго, што пры ім здзейснілася нейкае вялікае правасуддзе. І я ужо не раз паказваў у папярэднічаўшым выкладанні, што прарок Ілія, імя якога азначае па-жыдоўску бог, а па-грэцку Сонца, з'яўляецца астралізаваным евангельскім

[183] Умбры, ці этрускі, – жыхары сярэдняй Італіі.
[184] (АЙЗВЛ) (איז־בל) – напэўна, пераіначае ה־זו־בל (Е-ЗУ-БЛ) – бляск госпада.

Хрыстос, а Елісей – яго вучань і наступнік – ніхто іншы, як Ян Багаслоў, ён жа Залатавуст. Храналагічна Ахаў налягае на Валента, жыўшага ў Цар-Горадзе падчас «перасьледаў на хрысьціянаў», і, такім чынам, уся легенда пра Ілію распавядае пра падзеі, адбыўшыяся ў палове IV стагоддзя, калі жыў Вялікі Цар, із якога спісаны евангельскі Хрыстос. Уяўным суваладараннем Валента разам з Валентыніянам тлумачыцца і яго найменне: не цар-бацька, а цар-дзядзька.

Цар-Дзядзька, адпаведна са сведчаннем легенды, паставіў ахвярнік Марсу і дубраву Венеры, астралагічнай сядзібай якой і служыць сузор'е Шалі, тады як дзённай сядзібай Марса з'яўляецца налягаючае сваёй клюшнёй на Шалі сузор'е Скарпіёна. Ён больш за ўсіх іншых багазмагальніцкіх цароў раздражняў бога-Грамабоя, – паведамляе Біблія, – але потым замірыўся перад ім. За гэта бог і не навёў абяцаных ім бедстваў пад час яго дзён яго валадараня. (Валентыніян дажыў да 378 года).

Лічачы, што яго біяграфія не выяўляе адпаведнасьці з сузор'ем Шалі і з парой года – вераснем, я лічу, што на сузор'е Шалі тут сьвядома накладзены не сам цар-Дзядзька, а непарыўна злучаны з ім прарок Ілія-Сонца (варыянт евангельскага Хрыста). Я схільны бачыць у Цару-Дзядзьку (Ахаве) толькі дадатак да гэтага тэакратычнага суваладара. Што ж да астатніх дзеячаў, жыўшых, быццам бы, пад час валадарання біблейскага цара Ахава і яго жонкі Ізабэлі (па-грэцку – Іезавелі) – персаніфікацыі тагачаснай царквы, то яны так надзіва супадаюць з маімі вылічэннямі часу слупавання евангельскага «Хрыста» (ці таго, хто даў нагоду да міфа пра Хрыста), што іх адных было б дастаткова для атаясамлення Ахава з евангельскім Ірадам-Чацьвёртаўладнікам – з аднаго боку, і з Грацыянам ці з яго ўсходнім суваладаром Валентам – з другога, у залежнасьці ад таго, ці будзем мы лічыць у гэтым выпадку Святым Горадам Сусьвету, у якім заснаваў сваю царкву «Ратавальнік сьвету», Рым ці Цар-Горад (але ніяк не Эль-Кудс).

Восьмы псеўда-багазмагальніцкі цар, носіўшы найменне Валадар Боскі (Ахазія) астралагічна налягае на дзённую сядзібу планеты Марса – сузор'е Скарпіён, згараючы, як вечаровая ахвяра, у полымі світання ў лістападзе месяцы, і на Змеятрымальніка, топчучага Скарпіёна сваёй нагой (праз якую таксама праходзяць планеты, як праз дададковае трынаццатае задыякальнае сузор'е). Згодна з нашай дыяграме на стр. 329 ён налягае на Грацыяна (378-383), і таму ўсе падзеі, якія прыпісаны ў Бібліі яго валадаранню, патрэбна дапасаваць да ліку легенд пра той жа час. Але гэтыя легенды – на жаль! – не із жыцця людзей! Памяркуеце самі:

«*Ён* (г.азн. Валадар Боскі), – паведамляе кніга «Цары», – *зваліўся праз краты* (Каардынатную сетку!) *свайго церама* (неба? у выглядзе метэарыта?) *і захварэў. Прыхільнік Бэла-Марса* (таму што Скарпіён з’яўляецца астралагічнай сядзібай Марса і адпавядае месяцу кастрычніку), *ён выправіў пасланнікаў запытаць Валадара Нябеснага Кола* (Бэл-Збула, па-славянску – Вельзевула) *Скарпіёнава бога, ці акрыяе ён. Але прарок Ілія Сонца* (астралагічная сядзіба якога была высока ў сузор'і Ільва) *выйшаў насустрач пасланнікам са сваёй гары і прамовіў:*

– «*Хіба няма свайго бога ў багазмагальнікаў, што вы ідзеце запытваць да Скарпіёнава бога*[185]? *За гэта цар памрэ*! (Скарпіён лічыўся сузор'ем сьмерці).

[185] Гэта боскасць у Бібліі пастаянна сустракаецца з такімі эпітэтамі: 1)בעל־אל־ברית (БЭЛ-АЛ-БРІТ) – бог апраметнай (Суддзі, IX, 4). 2)בעל־פעור (БЭЛ-ПЕУР) – бог зяпы апраметнай, г.азн. пекла. 3)בעל־זבול (БЭЛ-ЗБУЛ) – бог колаабарачэння (сьвяцілаў), сапсавана ў בעל־זבוב (БЭЛ-ЗБУБ) – бог-шэршань. Усё гэта паказвае, што Бэлам быў Сатурн ці Марс. Але сядзібамі Сатурна былі Казярог і Вадаліў, а сядзібамі Марса – Скарпіён (як тут) і Авен. Акрамя таго, з легенды пра Валаама і яго асліху бачна, што Сатурн меў назву בלק

*– Які ён на выгляд*? *– запытаў Валадар боскі вярнуўшыхся пасланнікаў.*

*– Ён увесь у валасах* (праменях) *і падперазаны па сьцёгнах скураным поясам* (сваёй арбітай), *– адказалі яны*.

*– Гэта прарок Сонца* (Эліяс-Ілія), *– прамовіў цар. – Ён выправіў за ім «ротнага камандзіра»* (у знаку месяца ліпеня, калі сядзіба Сонца – сузор'е Ільва – рыхтуецца пагрузіцца ў полымя вечаровага зарыва), *з яго ротай* (50 днямі). *Пасланнік сказаў прароку-Сонцу на яго вышыні:*

*– Боскі Муж! Цар загадаў табе спусьціцца* (і сапраўды, у ліпені сонца пачынае патроху апускацца па арбіце).

*– Калі я Боскі Муж, – адказаў прарок-Сонца* (Элій-Ілія), *– то хай сыдзе полымя з неба* (вечаровы світанак) *і спаліць цябе і тваю роту.*

*І адразу гэта адбылося* (месяц ліпень згарэў у полымі вечаровага зарыва разам з сузор'ем Рака). *Валадар Боскі выправіў другога ротнага камандзіра* (у знаку месяца жніўня, калі сузор'е Ільва згарае ў полымі вечаровага зарыва), *з такім жа атрадам* (колькасьцю дзён), *але і з гэтым здарылася тое ж* (і месяц жнівень згарэў у полымі вечаровага зарыва разам з сузор'ем Ільва). *Цар выправіў трэццяга* (у знаку месяца верасня, калі сонца сапраўды апускаецца ў паўднёвае паўшар'е). *Гэты пачаў маліць прарока-Сонца, кажучы:*

*– Ды не будзе малакаштоўнай мая душа і гэтых служак тваіх перад табой*!

Тады Боскі Вястун (у знаку каметы ў сузор'і Панны, дзе адбываецца пераход усіх планет на поўдзень) сказаў прароку-Сонцу, каб ён пайшоў, і Ілля-Сонца абвясьціў Цару (у знаку Скарпіёна, апускаючагася ў полымя вечаровага зарыва ў кастрычніку), што той не паднімецца са свайго ложка. Лічачы Валадара Боскага (Ахазію) за Грацыяна, жыўшага паміж 378 і 383 гадамі, тады як прарок Ілія, ён жа Васіль Вялікі адпаведна з Жыціямі Сьвятых, памёр ужо ў 379 годзе, мы бачым тут толькі прыблізную храналагічную адпаведнасьць. Толькі – скажыце самі, – што тут рэчаіснага? Зразумела, што гэта чыста астральны міф, і нам застаецца толькі вырашыць, якая камета апісана тут пад імем Боскага Вестуна. Адзінай і прытым вялізнай каметай каля таго часу згодна з летапісам Ма-Туан-Лінь, знойдзеным у Кітаі, была камета Галея, назіраўшаяся між іншым 25 верасня 373 года. Пры сонцы ў Панне яна была над Скарпіёнам у Змеятрымальніку, і яе назіралі да красавіка 374 года. Гэта крыху рана для прадказання сьмерці Грацыяна ў 383 годзе, але затое цалкам адпавядае часу Вялікага Цара (Васіля Вялікага), памёршага, адпаведна са сведчаннямі грэцкіх тэолагаў, у 379 годзе.

Мы бачым, што апавяданне тут вельмі ўскладнілася ўвядзеннем ў яго прарока Сонца-Іліі (двайніка Езуса), і каметы, таму што нябесныя сьвяцілы не сядзяць вечна ў сваім сузор'і, як багазмагальніцкія задыякальныя цары, а вандруюць па небу. Але тое, што падзеі і тут адбываюцца на небе, хаця і ў узаемадзеянні з зямнымі падзеямі, тут цалкам відавочна, нягледзячы на лёгкае пераінчванне жыдоўскай транскрыпцыі, перарабіўшай Марса-Вельзевула ў Вельзевува. А прыметнік Тшбі да імя Эліяса-Іліі па-жыдоўску сугучна са словам «назад прыходзячы», што характарызуе як Сонца так і евангельскага Хрыста.

Зразумела, што тут у Бібліі апісана эпоха «Вялікага Цара».

Дзявяты псеўда-багазмагальніцкі цар – Іарам-Багазмагальніцкі – астральна адпавядае згодна з нашай паслядоўнасьцю месяцу лістападу і апускаючамуся ў

---

(БЛК), а Юпітарבל (БЛ), так што Для Марса не застаецца іншага выбару сярод трох вонкавых планет, як בעל (БЭЛ).

гэты час у полымя вечаровага зарыва сузор'ю Стралка, сядзібе Юпітара. Жыдоўскае напісанне яго імя ІЕУ-РМ, якраз і азначае Стралок бога-Грамабоя[186].

Згодна з нашай дыяграмай ён налягае на грацыянавага суваладара Валентыніяна II (375-392). Біблія яго таксама характарызуе, як прыхільніка іераваамавага веравызнання, г.азн. багазмагальніцтва. Але ён сябраваў з багаслаўцамі і заклікаў іхнага цара «Валадара Боскага» (Ахазію Багаслаўскага) ісьці разам з ім на вайну з «Бачачым бога» (Азаілам), царам Ашура (сузор'е Цяляці). Там Стралок Будучыні быў паранены на вышыні Ўзгорка Сведчання, як гэта было сказана і пра яго папярэдніка Ахазію Багазмагальніцкага (тут відавочна блытанае месца), а далей апісана толькі пазбаўленне яго пасаду паўстаўшым на багазмагальніцкіх цароў Іеуем ці Ееговай.

Дзясяты псеўда-багазмагальніцкі цар Іеуа (Егова па-жыдоўску, набожна пераіначаны грэцкімі перакладчыкамі ў Іiуя) астральна адпавядае Казярогу, кідаючамуся на Стралка, месяца студзень, калі сонца паварочвае свой шлях у накірунку на паўночнае паўшар'е неба. Яго імя падобна на імя агульна-месіянскага Бацькі багаў, Еговы-Юпітара, і адрозніваецца ад яго толькі канчатковай літарай[187], а яго час прыпадае на час Валентыніяна (375-392 г.) і Хвядоса I (370-392 г.), г.азн. на час дзейнасьці аўтара Апакаліпсіса. Але ён, як і Ян Залатавуст, ужо не із дынастыі папярэднічаўшых цароў і паводзіць сябе як іхны вораг. І само яго імя Егова, і яго гнеўны ход (апісанне якога я даю далей), усё паказвае, што аўтар апавядання астральна сімвалізуе яго не толькі ў выглядзе сузор'я Казярога, а і ў выглядзе планеты Юпітар, у суправаджэнні **грознай каметы**. Такая камета і была ў 390 годзе, за 5 гадоў да стварэння Апакаліпсіса.

У жніўні 390 года, калі сонца пераходзіла з Ільва ў Панну, яна, адпаведна са знойдзенымі ў Кітаі летапісамі Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь, знаходзілася ў Двайнятах, а потым прайшла паміж Ільвом і Паннай у Вялікую Мядзьведзіцу, пры гэтым дасягала вялізнай велічыні (100 локцяў). З такога боку гледжання я і размяшчаю тут легенду пра яе і пра сімвалізуемага ёю чалавека згодна з біблейскай кнігай «Цары», як узор замены рэчаіснасьці чыстай фантастыкай адпаведна са звычаем забабоннай сярэднявечнай творчасьці.

Калі б мы ставіліся да гэтага апавядання як да нечага побытовага, то атрымалася б нечуваная недарэчнасць, а калі мы ўявім сабе, што тут пад імем праходжання Еговы-Юпітара апісаны рух гэтай планеты разам з каметай і ў сувязі са становішчам іншых сьвяціл у 390 годзе, то атрымаецца наступнае.

Прарок Бог-Ратавальнік (Елісей па-жыдоўску, зноў у знаку Эліяса-Сонца) выправіў аднаго са сваіх юнакоў-вучняў (планету Меркурый?) з такім загадам:

– «*Вазьмі пасудзіну з маслам* (сузор'е Чарка), *вылі яе на галаву Юпітара*[188] *і скажы яму: імем бога-Грамабоя памазваю цябе ў цары над багазмагальнікамі, і збягай* (II Ц., IX, 3).

*Пасланнік зрабіў гэта, а Юпітар з каметай паехаў ва ўмацаванне, імя якога азначае Належачае Богу* (сузор'е Панны), *дзе ўжо знаходзіўся паранены* (каметай)

---

[186] Ад רמה (РМЕ) – кідаць стрэлы і ІУ – скарачэнне ІЕВЕ.

[187] יהוה (ІЕУЕ), а таксама і יהוא (ІЕУА) – Іiуй адпаведна з рускай Бібліяй. Гэтае слова азначае Існуючы і Вечнаіснуючы, адкуль біблейскі Егова, грэцкі Зеўс (Жывы) і лацінскі Юпітар (скарочанае Іеуе-Патэр – Вечна-існуючы бацька, а ў роднай склоне проста Іевіс).

[188] Па-жыдоўску – ІЕУА ці ІЕВА, на-лаціне, як толькі-што сказана, Іёвіс, а пасудзінай з маслам магло быць сузор'е Чаркі, узыходзячае раніцай над Юпітарам, заходзячым у Панну, пры гэтым ззянне світання лілося на Юпітар, як масла із чаркі.

*Боскі стралок* (у знаку Сатурна) *і куды прыйшоў таксама наведаць яго богаслаўскі цар Ахазія – «Уласнік» бога-Грамабоя* (у знаку Марса).

І гэта цалкам адпавядае астральнасьці апавядання. Сатурн пад імем Боскага Стралка ў 390 годзе знаходзіўся якраз у Панне, а Марс пад імем Боскага Валадара спяшаўся туды ж. Ён знаходзіўся ў верасні ў Ільве і далучыўся да абедзвюх планет у Панне ў кастрычніку ці лістападзе 390 года, ідучы амаль адпаведна з графікам 1842 года, змешчаным у IV кнізе «Хрыста» (стар. 45), калі сонца пайшло ў Скарпіёна.

Гэты ж астралагічны сэнс захоўваецца і далей.

«*Вартавы* (сузор'е Валапаса), *стаячы на вежы* (неба), *паведаміў Боскаму Стралку* (Сатурну):

– *Полчышча я бачу*! (Камету і планеты ў Панне.)

– *Вазьмі вершніка* (Месяц) – *сказаў Стралок Будучыні, – і выправі запытаць: «Ці з мірам*?»

– *Што табе да міру, – адказаў пасланніку Егова-Юпітар, суправаджаемы каметай – Паварочвай за мной*!

*Цар зноў выправіў* (Месяц прыйшоў туды другі раз), *але і з ім адбылося тое ж*.

– *Не вяртаецца і гэты*, – паведаміў цару вартавы, – *а строй войска, як у Еговы* (Юпітара), *таму што ён правадырнічае незвычайна*.

– *Запрагай*! – *загадаў Стралок Будучыні* (Сатурн) *і паехаў* (у штосутачным руху неба) *разам з Валадаром Боскім насустрач Егове-Юпітару з яго каметай, кожны на сваёй калясніцы* (як маляваліся планеты).

– *Ці з мірам Юпітар?», – запытаў Сатурн, калі пабачыў яго на полі Меркурыя* (у сузор'і Панны, астралагічнай сядзібе Меркурыя), *на тым самым Вінаградніку* (зорка Vindemiatrix – Вінаградніца ў сузор'і Панны), *які яго дзед Ахаў забраў у Меркурыя*[189] *згодна з парадай сваёй жонкі Ізабелі* (дзяржаўнай царквы – у знаку сузор'я Гідры),

– *Які можа быць мір пры самапрадажніцстве Ізабэлі, тваёй маці, і пры шматлікасьці яе вяшчунстваў*? – *адказаў яму Юпітар*.

– *Здрада! – крыкнуў Боскі Стралок* (Сатурн) *і, павярнуўшы калясніцу* (г.азн. пачаўшы адваротны рух), *пабег ад яго. Але Юпітар нацягнуў лук і ўразіў яго стралой* (знічкай) *паміж плячэй у сэрца і сказаў свайму саноўніку, сыну Пранізвацеля* (Казярогу?):

– *Кінь яго на зямлю* (Сатурн зайшоў за гарызонт).

*Ён прыехаў у Дзялянку Бога* (сузор'е Панны), *дзе царыца Бляск Госпада* (Венера ў хвасьце Гідры) *глядзела на яго праезд із вакна* (г.азн. із кратаў нябесных шырот і даўгот), *насурміўшы* (для бляску) *свае вочы і ўпрыгожыўшы* (світанкам) *галаву*.

– *Ці ўсё добра, Спявак Гімнаў, забіўшы свайго валадара?* – запытала яна.

*Ён падняў галаву да вакна са словамі:*

– *Хто там за мяне? Хто?*

*Да яго зазірнулі два валахі* (дзьве зорачкі?).

– *Скіньце яе! – загадаў ён.*

*Яе скінулі на зямлю* (Венера ў Гідры зайшла ў полымі вечаровага зарыва). *Ён праехаў над ёю, прыехаў* (у сузор'е Панны), *наліўся віна* (зайшоў у сузор'е Чаркі ў чырвонай палосе світання) *і загадаў:*

– *Знайдзіце гэтую праклятую і пахавайце, таму што яна ўсё ж царская дачка*.

---

[189] Па-жыдоўску НБУТ (נבנת) ад НБУ (נבו) ці НЕБА – Меркурый.

*Але ад яе* (г.азн. Гідры) *нічога не знайшлі, акрамя галавы і канцавін* (у верасні раніцамі бачна толькі галава Гідры, а вечарамі толькі яе хвост перад заходам; уся сярэдзіна згарае ў гэты час у полымі світання).

*Такім і было прадказанне бога-Грамабоя праз прарока Сонца* (Ілію), *паведаміўшага*: «*і будзе труп царыцы Бляск Госпада на пляцоўцы Меркурыя як гной на полі, так што ніхто не скажа: «вось царыца Бляск Госпада*» (ІІ Ц., ІХ, 47).

*Пасьля гэтага Юпітар уразіў* (мячом Каметы) *усіх* (зоркі), *застаўшыхся ад сядзібы Цара Дзядзькі ў Надзеле Бога, усіх яго вяльмож, знаёмых і сьвятароў.*

*– Прызначце, – загадаў ён, – сьвяточны сход для прыхільнікаў Бела-Марса* (у выглядзе пёрыстых хмар?).

*І не засталосяніводнага з іх, хто б не прыйшоў. Уся сядзіба Марса* (сузор'е Панны) *напоўнілася імі ад краю да краю.*

*– Прынясіце ім службовае адзенне* (чырвоныя ранішнія адценні), *– загадаў «Юпітар» захавальніку.*

*Прыхільнікі Марса прыступілі да здзяйснення ахвяр і ўсеспалення* (сузор'е Панны паднімаецца ў верасні із полымя вечаровага зарыва), *а Юпітар загадаў сваім бегунам і начальнікам:*

*– Біце іх, каб ніводны не выратаваўся!*

*Іх уразілі лязом мяча* (Каметы), *вынеслі ўсе выявы* (сузор'яў) *із сядзібы, спалілі іх, разбурылі сядзібу Марса і «рабілі із яе паганае месца, існуючае і да гэтага для* (сузор'е Гідры?) (ІІ Ц., Х, 27)».

Але нягледзячы на такую стараннасць, цар Юпітар «*усё ж не адступіўся ад ерасі Народазаступніка-Іераваама і ад Залатога Цяляці ў сядзібе Бога і ад таго, які ў сядзібе Суда* (у сузор'і Шаляў) (ІІ Ц., Х, 29).

Зноў, скажыце, што тут рэчаіснага? Пры рэчаісным падыходзе тут усё выглядае не маючай сэнсу фантасмагорыяй. Гэта азначае, што тут – чыста астральнае дадаванне. Шукаць аналаг Егове-Юпітару сярод якіх бы там ні было рэчаісных цароў было б безнадзейнай справай. Тут можна задацца толькі пытаннем: ці навеяны такія апавяданні выключна ходам каметы 390 года і зборам войска планет каля Панны? Ці нягледзячы на чыста белетрыстычную форму апавядання, дастаткова паказваючую, што тут замяшана астралогія, у яго патрапілі і гістарычныя дэталі? Відаць – так. Царыца Бляск Госпада – Ізабэль – тут відавочна тая ж самая асоба, якая названа гэтым імем у Апакаліпсісе (у 395 годзе) у лісьце да Тыатырскай царквы.

«*Я маю крыху супраць цябе за тое, што ты дазваляеш царыцы Бляск Госпада* (імя, часта надаваемае Янам Залатыя Вусны варагуючай з ім фракцыі візантыйскага сьвятарства), *завучай сябе прадвесніцай, вучыць і лавіць маіх служак, прастытуіраваць з імі і смакаваць прысьвечанае кумірам. Я даў ёй час пакаяцца ў сваёй прадажнасьці, але яна не паклялася. Вось, я кіну яе на насілкі, а прасьтытуіраваўшых з ёю ў вялікае засмучэнне, калі не пакаюцца ў сваіх учынках. Дзяцей яе пакараю сьмерцю* (цалкам як тут зрабіў Юпітар) *і даведаюцца ўсе, што я – выпрабоўваючы сэрцы і вантробы, і што аддаю кожнаму із вас адпаведна з вашымі ўчынкамі* (Ап. ІІІ, 20-23)».

Хто, адкуль гэта запазычаў? Ці аўтар Апакаліпсіса із другой кнігі Цароў, ці – наадварот? Існуюць розныя ўказанні на тое, што апакаліптычнае апісанне папярэднічала біблейскаму. У сваёй кнізе «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры»[190] я паказаў, што на прыканцы гэтага месца Апакаліпсіса было сказана: «*Перамагаючаму* (сімвалізуемаму сузор'ем Геркулеса забіваючым змей) *я дам уладу*

[190] Частка IV, гл. II, заўвага 15.

*над змеямі, ён будзе пасвіць іх жазлом жалезным і паб'е іх як гліняныя пасудзіны* (Ап. III, 26-27)». Перапісчыкі адразу ж пераіначылі грэцкае напісанне слоў «дам уладу над змеямі» (επί τῶν ὀφιῶν) у словы «над народамі» (επί τῶν ἐθνῶν), што здавалася ім больш зразумелым, таму што ўтаймаванне змей, вядома, уяўлялася ім бязнадзейнай справай. З гэтай міжвольнай заменай Апакаліпсіс і пашырыўся сярод хрысьціянаў, ды і тут мы бачым, што Юпітар-Егова таксама забівае не змеяў, а непаважаемых богам людзей.

Але калі чытач і не быў пераканаваны такімі ўскоснымі довадамі на карысць пасьля-апакаліптычнага паходжання легенды пра Іллю, Елісея і «Юпітара» з Ахазам і Ізабэллю, то ўсё ж адзінства сюжэтаў і нават найменне Ізабэль служыць дастатковай прыкметай таго, што абедзьве кнігі належаць да адной эпохі.

Я не магу тут не спыніцца крыху больш падрабязна на гэтай лягендзе, таму што яна храналагічна налягае якраз на трывожныя гады, наступіўшыя сьледам за слупаваннем «евангельскага Хрыста» 21 сакавіка 368 года, калі землятрусы і нябесныя знакі моцна ўзбудзілі чалавечую фантазію на берагах Міжземнага мора, і зрабілі думку людзей незвычайна ўспрымальнай да ўсяго цудоўнага, асабліва ў асяроддзі празелітаў слупаванага, але ажыўшага і потым знікшага цара Месіі, прыводзіўшых усё ў прамую сувязь з яго лёсам. А думка пра камету, кіруемую Юпітарам, навязваецца тут сама сабой.

Ці памятае яшчэ чытач пра тое, якую трывогу выклікалі чаканні апошняга вяртання каметы Галея ў 1910 годзе, калі вылічэнні Коуэла і Крамеліна паказалі, што 5 траўня каля 4 гадзін раніцы Пулкаўскага часу і юліянскага стылю гэтая камета будзе праходзіць якраз праз сыходзячы вузел сваёй арбіты і яе хвост можа закрануць зямлю, праходзячую тады як раз за гэтым пунктам? Я сам рабіў тады вылічэнні магчымых наступстваў такой падзеі[191]. Я грунтаўся на тым пастулаце, што хуткасць ($V_0$) нашай атмасферы, дасягнуўшы 30 метраў за секунду, характарызуе сабой жахлівы ўраган, зрываючы дахі з будынкаў і вырываючы з каранямі дрэвы, а адносная хуткасць ($V_1$) сустрэчы зямлі з каметай можа даходзіць да 80 000 метраў за секунду. Тады, лічачы шчыльнасць паветра $D_0=1$, знойдзем (грунтуючыся на формуле $D_1V_1^2=D_0V_0^2$), што шчыльнасць $D_1$ каметы, напор якой на зямлю вырабіў бы такое ж уздзеянне, як і зрываючы дахі ўраган, вызначыцца ў такім выглядзе:

$$D_1 = D_0 * \frac{30^2}{80\,000^2} = 0{,}0000001 * D_0$$

Гэта азначае, што нават пры шчыльнасьці $D_1$, роўнай адной дзесяцімільённай долі шчыльнасьці атачаючага нас паветра, камета, сытыкнуўшыся з зямлёй, магла б вырабіць такое ж разбураючае ўздзеянне, як самы моцны ўраган. А тым часам гэта – шчыльнасць тарычэлеевай пустаты, і, акрамя таго, паступальная хуткасць часьцінак каметнага хваста яшчэ ў сотні разоў перавышае хуткасць уласнага руху камет, так што для стварэння ўраганнага напору дастаткова была б і мільярднай долі яго шчыльнасьці ў параўнанні са шчыльнасьцю паветра каля зямной паверхні. Ніхто не скажа, каб шчыльнасць каметнага хваста не здольна дасягаць такой велічыні.

Аднак, бяручы да ўвагі тое, што напор будзе накіраваны толькі на верхнія пласты атмасферы, я тады ж супакойваў публіку, сцвярджаючы, што лічу пры гэтым магчымым перш усяго толькі «магнітныя абурэнні і свячэнні ў верхніх пластах атмасферы, накшталт паўночнага ззяння, а буры і ўраганы толькі ў тых

[191] Мікалай Марозаў: «Што можа прынесьці нам сустрэча з каметай?» 1909 год.

мясцовасьцях зямнога шара, дзе камета будзе выглядаць ляжачай (разам з сонцам за ёю) на гарызонце (г.азн. дзе раніца ці вечар).

На справе нічога выключнага не здарылася ад каметы Галея ў 1910 годзе, таму што вылічэнні Коуэла і Крамеліна выявіліся недастаткова дакладнымі і хвост каметы Галея прайшоў убаку ад зямлі, не закрануўшы ні яе, ні месяц.

Але, ж, на працягу гісторыі зямлі маглі быць і такія выпадкі, калі каметныя хвасты сапраўды закраналі зямлю, і тады маглі адбыцца калі і не буры і ўраганы, то надзвычай эфектныя светавыя з'явы электра-магнітнага характару, добра бачныя не толькі пасьля заходу сонца ці перад яго ўзыходам, але нават і пад час дня.

Ці не адбылося сапраўды нечага падобнага і ў дадзеным выпадку?

Летапісцы сярэдневечча не раз апісваюць цэлыя нябесныя пабоішчы з палкамі светавых вершнікаў, скакаўшых па ўсяму небу на працягу цэлых начэй, і ці сапраўды гэта толькі адна вольная фантазія? Праўда, апісанні шляхоў камет, нават і перыядычных, звычайна не даюць дадзеных для дакладнага вызначэння часу іхнага праходжання праз плоскасьць экліптыкі, хаця гэта прыблізна і можна зрабіць. Вось, напрыклад: калі вузлы каметы Галея мала перамяніліся за апошнія 1500 гадоў, то яна павінна была ў 373 годзе прайсьці праз свой сыходзячы вузел 26 юліянскага красавіка, а праз узыходзячы – 26 кастрычніка. А згодна з вылічэннямі Вайнда, грунтуючыхся на запісах Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь, праходжанне каметы Галея праз узыходзячы вузел было ў лістападзе ці снежні, з верагоднасьцю памылкі больш чым на месяц.

Адсутнасць апісання чаго-небудзь асаблівага на працягу гэтай ночы ў згаданых летапісах яшчэ не сведчыць пра тое, што хвост каметы Галея не закрануў зямлю. Кітай жа мог знаходзіцца тады на процілеглым паўшар'і зямной атмасферы, а ў Яўропе і Заходняй Азіі маглі адбыцца выключна эфектныя сьветавыя з'явы, накшталт тых, якія апісаны ў біблейскай кнізе Молаты (Макавеі, па-жыдоўску, хаця гэтая кніга і адсутнічае ў жыдоўскай Біблії). Але я пакіну да спецыяльнага дасьледавання гэтыя меркаванні, навеяныя на мяне біблейскім апавяданнам пра налёт «самаго Еговы», на цара Іарама Багазмагальніцкага, сучасніка Валентыніяна II, калі не яго двайніка, і вяртаюся да асноўнага пытання гэтай главы, да астатніх багазмагальніцкіх цароў, кіруючыся дыяграмай на стр. 328, як компасам.

Адзінаццаты псеўда-багазмагальніцкі цар Іа-Ахаз, успадкаваўшы цару Егове-Юпітару, згодна з сэнсам свайго імя азначае Ўласнасць Бога. Ён астралагічна адпавядае тагачаснаму месяцу студзеню і сузор'ю Вадаліва, якое, між іншым, з'яўлялася і знакам Яна Хрышчэльніка. А гістарычна (гл. графік, стар. 328 (таб. XX)) ён налягае на Хвядоса I (378-395). Як і ўсе астатнія псеўда-багазмагальніцкія цары, ён таксама быў прыхільнікам усіх богаў і іхных выяваў, хаця і прызнаваў разам з імі бацьку богаў за галоўны прадмет ушанавання.

Пад час яго дзён, – паведамляе апошняя Кніга Цароў, – разгарэўся гнеў Грамабоя на богазмагальнікаў, і ён аддаў іх у рукі Богазорца (Азаіла)[192] – цара госпада – і Сына Клічу (Бэн-Адада)[193], яго сына.

Але гэта было не доўга. «Уласны цар бога» памаліўся зеўсавай выяве[194], і той яго пачуў, і даў багазмагальнікам Ратавальніка. Яны выйшлі із-пад рукі Рыма[195] і жылі ў сваіх шатрах як учора і трэццяга дня» (XIII, 4).

---

[192] Ад חזה־אל (ХЗЕ-ЕЛ) – назіраць бога.

[193] Бэн-Адад (בן־אדד) – сын клічу, шуму.

[194] פני (ПНІ) – аблічча, выява.

[195] ארם А-РАМ замест ה־רם (Е-РМ) – Насарог-Казярог, эмблема Рыма

Вось і ўсё, што паведамляецца пра гэтага цара. Найменне напаўшага на яго цара Азаіла-Богазорца намякае на наяўнасць каметы пад час яго валадарання, працягваўшагася ад 378 да 395 года, таму што адпаведна з нашым агульным супастаўленнем ён тоесны з Хвядосам І.

Гэта і была вышэйапісаная камета 22 жніўня 390 года, калі сонца пераходзіла ў Ільва і ў Панну із сузор'я Двайнят, куды яна магла прыйсьці толькі із Цяляці. Яна была бачнай раніцамі каля Кастора і Палукса, дагнала сонца ў Ільве і, перайшоўшы на вечаровае неба, накіравалася да Вялікай Мядзьведзіцы, дзе і знікла каля нябеснага полюса. Пасьля выходжвання із-за сонца, яна была белай і вялізнай да «100 локцяў» згодна з кітайскімі летапісамі. Гэта было за 5 гадоў да з'яўлення Апакаліпсіса ў 395 годзе, і адсюль вынікае, што «Ўласнік Грамабоя» Іа-Ахаз адпавядаў на зямлі якраз Хвядосу І і ў такім выпадку ўяўляемым Ратавальнікам (УШІЕ) быў той жа Елісей (Ян Залатыя Вусны). Мімаволі здаецца, што і астатнія прарокі, з'яўляўшыяся да багазмагальніцкіх цароў, маюць каметнае паходжанне і толькі дапоўнены анекдатычнымі падрабязнасьцямі із рэчаіснага жыцця тагачасных навуковых славутасьцей. Возьмем хаця бы наступнага «багазмагальніцкага» цара.

Дванаццаты псеўда-багазмагальніцкі цар Іаас – адпавядае месяцу сакавіку і дванаццатаму сузор'ю Задыяка – Рыбам, а таксама змешчанаму над ім Крылатаму Каню Пегасу, які часам замяняў сабой сузор'е Рыб. Імя гэтага цара азначае Полымя Боскае. Згодна з нашай дыяграме ён адпавядае Аркадзю, пры якім Ян Залатавуст, ён жа прарок Елісей, быў абвешчаны Сусьветным Патрыярхам. Пра справы Іааса зноў нічога не паведамляецца, акрамя таго, што ён прытрымліваўся агульнай ерасі псеўда-богазмагальнікаў, прызнаючы не аднаго біблейскага бога, стваральніка неба і зямлі, але таксама і іншых жыхароў неба і ўшаноўваў іхныя выявы, варагуючы за гэта з багаслаўцамі. Выклікае цікавасць толькі апошняе дадаванне да яго біяграфіі (ІІ Ц., XV, 14), якое набывае сэнс толькі тады, калі мы згадаем, што Рыбы былі «сядзібай Юпітара» і знакам Хрыста, і ўсё перанясём з зямлі на неба.

Размяшчаю яе як узор тагачаснай рамейскай гістарыяграфіі.

«*Іаас, цар богазмагальнікаў, прыйшоў да Бога-Ратавальніка* (Елісея, па-жыдоўску, сімвалізуемага Месяцам у Авене), *захварэўшага сьмяротнай хваробай* (месяцовым зацьменнем у Авене 4 верасня 404 года)[196]. *Ён плакаў над ім і прамаўляў:*

*– Бацька мой! Бацька мой! О, калясьніца богазмагальніка і яго вершнікі*[197]!

*Вазьмі лук і стрэлы*, – загадаў яму Бог-Ратавальнік, – *адчыні вакно на ўсход і стрэль*.

*Ён адчыніў і стрэліў* (праляцеў метэарыт?).

*– Гэта страла тваёй перамогі над Арамам* (Казярогам?) – *паведаміў яму Бог-Ратавальнік, – ты пераможаш яго каля Струменя* (сузор'е рака Эрыдан, знак Ярдана, г.азн. адпаведна са старажытнай наменклатурай рака По ў Ламбардыі) *цалкам. Бі зараз стрэламі па зямлі.*

*Цар стукнуў тры разы і спыніўся* (тры метэарыты).

*Боскі Чалавек* (месяц у Авене) *угневаўся на яго і прамовіў*:

---

[196] Амаль поўнае (10"9) месяцовае зацьменне, сярэдзіна якога была ў 20 гадзін 56 хвілін (перад поўначчу) згодна з Грынвіцкім часам. А ў Цар-Горадзе яно адбылося ўжо пасьля паўночы 4 верасня 404 года, незадоўга да канчатковага выгнання Яна Залатавуста.

[197] Пазначу, што пры геацэнтрычных уяўленнях сузор'і здаюцца пераганяючымі сонца, месяц і планеты ў іхным штосутачным руху ад усходу да захаду.

*– Патрэбна было біць пяць ці шэсць разоў. Тады ты канчаткова знішчыў бы арамаў, а зараз пераможаш іх толькі тры разы.*

*Бог-Ратавальнік памёр* (месяц у стане зацьмення знік за аблокамі). *Процьмы тубыльцаў* (хмар) *прыйшлі ў тую зямлю на пачатку года і здарылася, што калі хавалі аднаго мужа, то, напалохаўшыся натоўпу людзей, кінулі яго ў труну Бога-Ратавальніка, ён дакрануўся да яго костак і ажыў із памёршых». А Іаас тры разы перамог Сына Клічу* (Бэн-Адада) *і вярнуў багазмагальнікам забраныя ў іх гарады* (II Ц., XIII, 25).»

Я лічу, што ўсё гэтае месца чыста астралагічнага паходжання, а із рэчаіснасьці ўзята толькі сьмерць Яна-Елісея пры Аркадзю-Іаасе, ды і то ў непазнавальна-фантастычным выглядзе. Крыху больш праўдападобным з'яўляецца наступнае апавяданне.

«*Багаслаўскі цар Амазія* (г.азн. уладар Усходняй паловы Раманскай імперыі Аркадзь) *выправіў да Іааса багазмагальніцкага пасланнікаў, кажучы*:

*– Выйдзі! Памерымся магутнасьцямі*!

*А Іаас багазмагальніцкі адказаў яму*:

*– Цярновы куст із Белай Гары* (ЛБНОН, па-французку – Mont Blanc) *выправіў сказаць яе кедру*:

*– Аддай сваю дачку ў жонкі майму сыну.*

*Але прыйшоў дзікі звер із Белай Гары і растаптаў цярновы куст. Ты пабіў Эдом*[198] (германцаў) *і заганарылася тваё сэрца*.

*Дык ухваляйся ж, седзячы ў сядзібе, інакш звалішся ты разам з багаслаўцамі*.

*Але не паслухаўся Амазія і быў пабіты. Іаас Багазмагальніцкі захапіў у палон Амазію ў Бэт-Самісе і пайшоў на Сьвяты Горад* (Цар-Горад). *Ён разбурыў яго сьцяну ад Яфрэмавай брамы да вугальнай на чатырыста локцяў і, забраўшы ўсё срэбра і золата і ўсе пасудзіны, знайшоўшыяся ў сядзібе Грамабоя, вярнуўся ў Самарыю*[199] (г.азн. у Вартаўнічы горад, сталіцу псеўда-багазмагальніцкіх цароў) (II Цары, XIV).

Чытач сам можа разгледзець гістарычную канву гэтай легенды. У 404 годзе на Італію са Швейцарыі наладзіў напад з процьмай варвараў германскі цар Радазэс. Ён аблажыў Фларэнцыю, але быў пераможаны суваладаром Ганорыя Стыліхонам і ў 405 годзе забіты. Гэта і ёсць «дзікі звер» з Мон-Блана (Белай гары, па-жыдоўску – з Лівана). Заканчэнне ж легенды пра разграм пры гэтым «Сьвятога Горада» ўяўляе, напэўна, больш позні дадатак. Нагодай да гэтага дадавання паслужыў, магчыма, папярэднічаўшы напад на Італію васальнага цара Албаніі Аларыха ў 400 годзе, пасьля таго як ён сапраўды разграміў поўдзень Балканскага паўвыспы, але, відаць, не змог разрабаваць Цар-Горад.

Усюды тут легенды астральнага паходжання мудрагеліста пераплятаюцца з легендамі побытавага характару, і толькі з дапамогай нашага метада існуе магчымасць разабрацца ў іх.

Супастаўленне апісаных у Кнізе «Цары» зацьменняў і камет у іх нябесна-тапаграфічнай і храналагічнай паслядоўнасьці вызначае нам час кожнага біблейскага цара, усталёўваючы ў дадзеным выпадку адзінства Іліі і Елісея з евангельскімі Езусам і з Янам Багасловам, і адзінства Іааса і Амазіі з візантыйска-рымскімі суваладармі Аркадзем і Ганорыем, а звера із Белай Гары з Радагесам. Сам Ліван вызначаецца тут як Манблан.

---

[198] Тут стаіць Эдам (אדום). Так у сярэднявечных рабінаў звалася заходне-рымская імперыя часоў германскага валадарства.

[199] שמרון (ШМРУН) – Самарыя, г.азн. Вартаўнічы горад.

Пойдзем жа яшчэ далей па задыякальнаму колазвароту багазмагальніцкіх цароў.

Трынаццаты цар псеўда-богазмагальнікаў – другі «Заступнік Народа» (Ераваам II) – зноў астралагічна налягае на Авена – сядзібу Марса і на месяц сакавік (як і Ераваам I), а гістарычна на Ганорыя (395-423).

Ганорый, згодна з хрысьціянскімі крыніцамі, адзначыў сваё валадаранне ў Італіі тым, што «загадаў пакараць сьмерцю свайго лепшага сябра і вайскавода Стыліхона, што мела наступствам спусташэнне Італіі вестготамі». Ён памёр у Равэне і валадарыў 28-29 гадоў ад 395 да 423 год. А яго біблейскі двайнік Ераваам II (імя якога, як я ўжо паведамляў, азначае Заступнік народа) валадарыў 40-41 год, не адыходзячы «ад ерасі свайго продка Іераваама I» (Кастуся Вялікага). «Але, – паведамляе другая кніга «Цары» (XIV, 25), – бог, шкадуючы свой народ, пашырыў межы яго царства да Акіяна[200], згодна з адкрыццём Яна (ІУНЕ).

Асабліва цікавым з’яўляецца тое, што яго валадаранню Бібліяй прыпісаны два прарокі: першы Ёна, праглынуты вялікай рыбай і вывергнуты пазьней ёю жывым на бераг (адна із легендаў пра Яна Залатавуста; II Ц., XIV, 25). Ён жыў якраз у гэты час. Другім прарокам таго часу быў Амос, што азначае: «Моцны». Дзеля ўсталявання храналогіі нам асаблівую цікавасць уяўляе «Амос, прапракаўшы пад час дзён Іераваама, сына Іаасава, за два гады перад землятрусам (Амос, I, 2).» Ён быў «пастухом Трубы» (каметы), прадказаўшым поўнае сонечнае зацьменне каля паўдня.

– «*Я зраблю*, – кажа ён, – *заходжанне сонца каля поўдня і азмрочу зямлю сярод белага дня. Я ператвару вашы сьвяты ў жалобу і ўсе вашы песьні ў плач* (Амос, VIII, 9)».

Гісторыкі ўжо даўно здагадаліся, што гаворка тут ідзе пра сонечнае зацьменне, але як ні імкнуліся знайсьці такое зацьменне грунтуючыся на традыцыйнай біблейскай храналогіі, нічога не выходзіла, акрамя нацягванняў, а з нашага боку гледжання гэта было знакамітае поўнае сонечнае зацьменне 19 ліпеня 418 года, прайшоўшае каля паўдня ад Паўночнай Гішпаніі праз Рым і Дарданэлы ў Месапатамію на 23 годзе валадарання Ганорыя.

Мы бачым тут, як уся палоса асабліва тыповых біблейскіх падзей, меўшых месца паміж Іераваамам I і Іераваамам II, на працягу больш стагоддзя, цалкам налягае на рамейскія падзеі IV і пачатку V стагоддзяў нашай эры, хаця і саслана на берагі Мёртвага мора і перанесена ў глыбіню стагоддзяў у сярэднім на 1250 гадоў[201].

Чатырнаццаты псеўда-багазмагальніцкі цар з найменнем «Памяць Грамабоя» (Захар-Іе) налягае (гл. стар. 339) (як Васа раней яго) на сузор'е Цяляці. Згодна з нашай дыяграмай ён двайнік Кастуся III, чалавека Платыдыі, валадарыўшага ў 423 ці 425 годзе таксама толькі 6 месяцаў, як і біблейскі Захарыя. Пра яго паведамляецца, што ён быў забіты «Таранам Народаў»[202], і гэтая мянушка зноў дае, як быццам бы, указанне на вялікую камету, зваліўшуюся, як сьценабітны таран, на

[200] ימ ה־ערבה (ІМ-Е-ЭРБЕ) – мора туманнай далечыні, бязмежнае, вечаровае мора. Ад ערבה (ЕРБЭ) – імглістая далечыня, вечар, захад, сугучна з Іберыяй.

[201] Лічачы, што Ганорый уступіў на пасад у +395 годзе, а яго двайнік Ераваам I згодна з Halles у -834 (згодна з Hyrn у -820) годзе, атрымліваем зрух роўны 1229 і ў 1215 гадам. А атаясамліваючы Кастуся I з Іераваамам I (г. азн. лічачы грунтуючыся на пачатку гэтага перыяда замест яго заканчэння) атрымліваем, згодна з Halles зрух роўны 1296, а згодна з Hyrn роўны 1271 гадам, таму што некаторых суваладароў Біблія лічыць спадкаемцамі адзін аднаго.

[202] קבל־אמ (КБЛ-АМ) – Таран Народа.

сузор'е Цяляці, яго апекуна. І, сапраўды, у летапісах Шэ-кэ і Ма-Туан Лін мы маем для 423 года два запісы, відавочна маючыя дачыненне да той жа самай каметы: 13 лютага яна была каля Андрамеды, у стане вечаровай бачнасьці, а 15 кастрычніка была вечарам каля Сонца ў Шалях, г.азн. геацэнтрычна была наперадзе сонца цэлых 9 месяцаў і павінна была праходзіць таксама і праз Цяля[203], Двайнят, Рака, Ільва і Панну.

Пятнаццаты псеўда-багазмагальніцкі цар Салам, г.азн. Мірны, налягае адпаведна са сваёй чаргой на сузор'е Двайнят, сядзібу Меркурыя, у якім Сонца бывае ў чэрвені. А гістарычна ён біблейскі двайнік Яна (423 г.). Ён зноў праходзіць як цень і валадарыць толькі адзін месяц. «Ён быў забіты, – паведамляе Біблія,– праз месяц валадарання сваім наступнікам Менаімам (Дарунак Народу). А толькі што апісаная камета 423 года на працягу месяца ішла таксама і па Двайнятах (гл. табл. на стр. 328 і 329 (таб. XX)).

Шаснаццаты цар псеўда-богазмагальнікаў Менаім (Дарунак Народа, II Ц., XV, 17) налягае на Рака, а гістарычна на Валентыніяна III (423-455). Ён «адкупіўся», – кажуць нам, – срэбрам ад нападаўшага на яго ашурскага (г.азн. із сузор'я Цяляці ці Тура)[204] цара Фула, імя якога азначае «Боб» (г.азн. ад той жа каметы 422-423 гадоў, якая прыйшла із Цяляці ў Рака напачатку яго валадарання) і лічылася правобразам Атылы – бізуна Боскага, – напаўшага ў 452 годзе на Італію, але адступіўшага, калі папа Леў І выплаціў яму вялікую даніну, як паведамляецца і пра «Боба».

Усё гэтае мільгаценне кароткачасовых валадароў паказвае, што пасьля сьмерці Ганорыя-Іераваама ў лацінскай частцы Рамейскай імперыі пачаўся смутны перыяд. Пасьля кароткачасовых валадаранняў Кастуся III і Яна, імператарам быў абвешчаны малалетні Дарунак-Народа (Менаім) Валентыніян III, і ўлада перайшла гадоў на дваццаць да яго апекуноў: Аэцыя і маці Платыдыі. Паралельна гэтаму і ў біблейскай версіі мы заўважаем храналагічны зрух. Там, у XV главе (радок 17) другой кнігі «Цары» паведамляецца, што Менаім зацараваў у Вартаўнічым горадзе на 39 годзе валадарання богаслаўскага цара Азарыі, а яго папярэднік Ераваам II памёр па 14 годзе валадарання таго ж Азарыі. Куды ж падзеліся патрэбныя тут 25 гадоў? Гэты пусты прамежак у Біблейскай гісторыі атрымаў назву паміжцараванне (праз адсутнасць лепшага тлумачэння), але тэолагі не паведамляюць, што ж адбывалася на яго працягу?

З нашага ж боку гледжання тут усё зразумела. Сучасныя гісторыкі ставяць кароткачасовых Захарыю і Салама на заканчэнне гэтага прамежку, а адпаведна з нашымі супастаўленнямі патрэбна іх ставіць на яго пачатак і дапасаваць увесь 24-гадовы недахоп непасрэдна да першых гадоў валадарання Менаіма, налягаючага (як у адным так і ў другім выпадку) на Валентыніяна III. Тады адразу тлумачыцца і дзіўная неадпаведнасць гадоў у падвойнай бухгалтэрыі багазмагальніцка-арыянскіх і богаслаўяча-нікейска-мікалаіцкіх цароў Бібліі.

Гэта было не паміжцараванне, а апека. І вось пасьля 24-гадовай апекі Аэцыя і Платыдыі ў Рыме нарэшце пачаў кіраваць гадоў на дзесяць і сам Валентыніян III (445-455), а ў царстве богазмагальнікаў пасьля адпаведнага храналагічнага зруху пачаткаў кіраваць Менаім. Згодна з хрысьціянскімі крыніцах Валентыніян III, сын Канстанцыя, суваладара Ганорыя і яго жонкі Платыдыі, быў абвешчаны імператарам ва ўзросьце шасьці гадоў, але доўга не меў ніякай улады. Нам

[203] «Хрыстос», т. VI. стар. 85.

[204] א־שור (А-ШУР) замест ה־שור (Е-ШУР), ці ה־תור (Е-ТУР) – цялец, бык, адкуль і слова турак.

паведамляюць, што ў 429 годзе, яшчэ ў перыяд апекі, вандалы забралі ў яго Афрыку, потым франкі Галію, а пасьля апекі саксы забралі ў яго Брытанію ў 449 годзе, і потым, у 452 годзе, Атыла прыйшоў у яго ўладанні. Нарэшце ў 454 годзе Валентыніян III забіў свайго суваладара і быўшага апекуна Аэцыя, і ў 454 годзе быў сам забіты.

А пра яго біблейскае адлюстраванне – Менаіма паведамляецца, перадусім, што і ён, як і яго продкі, не адыходзіў ад ерасі Іераваама, г.азн. арыянства. Пад час яго валадарання – як мы толькі-што паведамлялі – прыйшоў на зямлю Фул (што азначае Боб) із краіны Цяляці (камета Галея із гэтага сузор'я ці ж сам Атыла, быццам бы абвешчаны гэтай каметай). Напалоханы Менаім адкупіўся ад яго тысячай талентаў срэбра, наклаўшы на заможных людзей падатак па 50 сікляў на кожнага, і «боб» – кажуць нам – адышоў назад, «не застаўся ў зямлі». Але такі ж выкуп сабе зрабіў і Валентыніян III.

Больш нічога не паведамляецца пра «Цара Народа» ў Бібліі.

Тут мы зноў бачым у перамежку як нябеснае, так і зямное, пры гэтым усё нябеснае падмацоўвае нашу храналогію. Якраз у гэты час, у 451 годзе, была камета Галея, выклікаўшая прароцтвы Ісаі і Ераміі (451 года), і да гэтага ж часу Біблія дапасуе прарокаў Захарыю і Іезекііла (453 год), час якіх мы самастойна вылічылі астранамічным шляхам грунтуючыся на змешчаных у іх гараскопах.

Паглядзім зараз, што будзе і далей.

Сямнаццаты псеўда-богазмагальніцкі цар Факія, імя якога азначае Зоркі Боскі, налягае адпаведна са сваёй чаргой на сузор'е Ільва, а гістарычна на Пятронія Максіма (455 год). Аднак, і ён праходзіць, як цень, і ў II кнізе Цароў (XV, 28) толькі паведамляецца, што ён не адыходзіў ад ерасі Іераваама і праз два гады быў забіты Факхам, імя якога азначае проста Зоркі.

Васямнаццаты псеўда-богазмагальніцкі цар Факх-Зоркі налягае на сузор'е Панны, а гістарычна на Рэцімера (455-472). Ён зацараваў, згодна з Бібліяй, шляхам змовы, забіўшы разам з «Сьвятлом Боскім» і «Каменнай Камлыгай» (г.азн. пры метэарытных паданнях)[205] свайго аднайменца Факію (II Цары, XV, 25). Пад час яго валадарання таксама было нашэсьце ашурскага цара Тыглатпаласара (II Цары, XV, 29), імя якога азначае Пачвара-Перасяленец[206] і, ён перасяліў частку богазмагальнікаў у краіну Ашура (Цяляці).

Згодна з нашай дыяграмай (стар. 329) Факх налягае на Рэцімера, валадарыўшага, відаць, ад 455 да 472 года, пасьля чаго наступіла анархія на 3 гады, як вынік жахлівага вывяржэння Вязувія, адбыўшагася ў 472 годзе. У такім выпадку Пачварай-Перасяленцам будзе Гензерых, заснаваўшы Карфаген, захапіўшы Сіцылію і Корсіку, і разрабаваўшы Рым у 455 годзе. З яго ж спісаны і легендарны Ганібал, няправільна дапасуемы да мінус 274-183 гадаў, разам з сірыйскім царам Антыёхам, у кнізе Молаты (Макавеі, па жыдоўску), якога, таму, таксама варта дапасаваць да перыяду каля 460 года нашай эры.

Пасьля Зоркага (Факха-Рэцімера) наступіў, як я толькі што павядоміў, у Заходняй Рымскай імперыі перыяд анархіі гады на тры. А ў яе адлюстраванні –

[205] А-РГБ (א־רגב) замест ה־רגב (Е-РГБ) – каменная камлыга, камяк, і АР-ІЕ (אור־יה) – сьвет божы.

[206] Слова Тыглат паходзіць ад Т-ГЛУТ (ת־גלות), дзе ГЛУТ азначае – перасяленец, а Т гукавая прыстаўка, часта ўжываемая ў жыдоўскай мове; напрыклад, пры пераходах АУЕ (אוה) у ТАУЕ (אלה) – жаданне, АЛЕ (אלה) у ТАЛЕ (תאלה) – праклён і г.д. А слова Паласар згодна з жыдоўскай транскрыпцыяй ПЛА-СР (א־סרפל) паходзіць ад ПЛА-ЦР – Дзіва-цар. Гэта слова яшчэ сугучна з санскрыцкім pelasara – дзяржаўны цар, але наўрад ці тут санскрыцкае слова патрапіла ў Біблію, а не наадварот.

гісторыі народа Боскага – наступіў перыяд такой жа анархіі гадоў на восем. Сапраўды, у XVII главе кнігі «Цары» паведамляецца, што на 12 годзе валадарання Ахаза Богаславячага зацараваў у «Вартаўнічым горадзе» Асія. А згодна з главой XVI (стар. 1) і XV (стар. 27) відаць, што яго папярэднік Ахаз памёр на трэццім годзе валадарання таго ж Ахаза Богаславячага. Застаецца незапоўненым прамежак роўны 9 гадам, які габраісты і называюць з даўніх часоў перыядам анархіі. Зноў поўны паралелізм не толькі цароў і ўсіх выбітных падзей, але і «паміжцараванняў», і «анархіі», і «пачатку», і «заканчэння» абодвух параўноўваемых царстваў.

Апошні, дзевятнаццаты цар псеўда-богазмагальнікаў Асія, сын Іліі (што ў перакладзе гучыць даволі гучна: Ратавальнік – сын боскі), налягае на сузор'е Шаляў, а гістарычна на Рамула-Аўгустула.

Пасьля перыяду анархіі ў Лацінскай імперыі Ромул-Аўгустул быў узведзены на пасад у 475 годзе, але праз год ці два быў пазбаўлены пасада Адаакрам, які даў яму магчымасць жыць у віле, а потым, відаць, забраў жыццё. Гэта быў апошні італійскі цэзар. Пасьля яго лацінская частка Рамейскай імперыі аддзялілася ад старой Рамеі, і ўлада перайшла да мясцовых каралёў сярэднявечча, якія ўсё яшчэ лічылі сябе «рымскімі кезарамі» па-нямецку – кайзерамі).

Гэты апошні кароткачасовы імператар вялікай імперыі Дыяклетыяна І і адлюстраваўся ў асобе апошняга цара богазмагальнікаў Асіі, сыне Іліі.

Але і сам «сын боскі» прытрымліваўся «ерасі Іеравеама», хаця, – паведамляе Біблія, – і не так, як яго папярэднікі. Неўзабаве пасьля яго ўцаравання прыйшоў «Забраўшы Мір» (Салманасар, па-жыдоўску), цар краіны Цяляці (А-ШУР), і «Сын боскі» стаў яму падуладным, як Рамул Адаакру, але потым гадоў праз восем «Забраўшы Мір» заўважыў, што яго леннік выправіў таемных пасланнікаў да Мірымскага цара. Ён заняволіў Асію ў вязніцу, – як Адаакр Рамула, – а на дзявяты год з часу свайго ўцаравання перасяліў богазмагальнікаў у краіну Цяляці (Германію) і ў гарады Мідыі (напэўна, Мадзярыі).

«*І пачалі богазмагальнікі,* – паведамляе Біблія, – *рабіць адпаведна з законамі народаў, якіх прагнаў Грамабой ад сваёй асобы, пачалі выказваць непатрэбныя словы супраць свайго бога, паставілі статуі і дубравы на кожным высокім узгорку і пад кожным высокім дрэвам... Яны праводзілі сваіх дачок і сыноў праз полымя, гадалі і чарадзейнічалі...*» «*І прагнаў іх Грамабой ад сваёй асобы і не засталося ад народа-богазмагальніка нікога, акрамя калена Юдава* (богаслаўцаў-юдэяў). *Але і гэтыя богаслаўцы не выконвалі запаветаў Грамабоя, свайго бога, і дзейнічалі згодна з законамі, усталяванымі багазмагальнікамі* (арыянамі). *І адвярнуўся Грамабой ад усіх нашчадкаў Якава-богазмагальніка, аддаючы іх у рукі рабаўнікоў, і, нарэшце, прагнаў іх ад свай асобы* (ІІ Ц., XVII, 20). *А народы, паселеныя на іхным месцы, пачалі паважаць Грамабоя* (г.азн. прынялі хрысьціянства), *але служылі таксама і выявам, як і дзеці, і ўнукі іхныя, і гэта працягваецца да гэтага дня* (ІІ Ц., XVII, 18)».

Вось, як позна старазапаветная жыдоўская культура і літаратура замянілася новазапаветнай лацінскай на захадзе Яўропы!

Такое заканчэнне мае біблейскае апавяданне пра Царства Багазмагальніцкае. І мы бачым, што пры перасоўванні храналогіі каля 1220 гадоў наперад увесь другі перыяд яго гісторыі ад Іеравеама ІІ да Асіі налягае храналагічна цар за царам на другі перыяд Заходне-Рымскай гісторыі ад Ганорыя да Ромула-Аўгустула нават і са сваім зрухам на 24 гады, прыпадаючым на апеку Аэцыя і Платыдыі над непаўналетнім Валентыніянам III.

Дакладна гэтак жа храналагічна налягае цар на цара і першы перыяд ізраільскай гісторыі ад Раваама І да Раваама ІІ на рымскую гісторыю ад Кастуся І

да Ганорыя, калі гады валадаранняў яе суімператараў мы будзем ставіць не адначасова, а дадаваць адзін да аднаго, зрабіўшы з іх паслядоўны шэраг. Такая трансфармацыя цалкам дазволена для сярэднявечнага хранікёра, лічыўшага падзеі ў розных краінах выключна грунтуючыся на гадах валадарання адпавядаючага ім імператара, таму што ніякай вызначанай эры, накшталт нашай еўрапейскай ці магаметанскай, тады яшчэ не было распрацавана.

Кінем жа рэтраспектыўны пагляд на ўсё, што мы тут паведамілі.

Традыцыйная сьвятая «Гісторыя царства Ізраільскага ў Палестыне» была пастаўлена папярок дарогі да рацыянальнай гісторыі чалавецтва, заснаванай на эвалюцыйным пачатку, як крэпкае ўмацаванне, заснаванае на падмурку сьвятых кніг. Нават адна думка пра нетрываласць гэтага ўмацавання здавалася недапушчальнай: яна ж мела вялікія фарпосты і ў Месапатаміі, у выглядзе яе клінапісных гліняных плітак, і ў Ягіпце ў выглядзе яго іерагліфічных надпісаў... На працягу доўгага шэрагу стагоддзяў гэтае ўмацаванне здавалася непрыступным, а тым часам яно было толькі гістарычным міражом, простым адлюстраваннем Рамейскай гісторыі IV і V стагоддзяў у глыбіні часоў. Для таго, каб паказаць гэта, мне самаму давялося выдаткаваць шмат разумовых высілкаў і потым штурмаваць яе ў гэтых сямі кнігах з розных бакоў, а таму чытач не павінен папракаць мяне за тое, што я быў вымушаны вельмі раскідацца ў сваім выкладанні, і, як выказваўся адзін із варожых мне крытыкаў, відавочна ў жоўчным прыпадку ад немагчымасьці аспрэчыць мяне па сутнасьці, «як жанглёр перакідаў із адной рукі ў другую ўсе навукі».

Але на прывіднасць «біблейскай гісторыі народа богазмагальніка» яшчэ даўно паказалі мне мае шлісельбургскія вылічэнні часу існавання прарокаў Ісаі, Ераміі, Іезекіїла, Даніїла і Захарыі, грунтуючыся на змешчаных у іх астранамічных падрабязнасьцях, якія вымусілі мяне дапасаваць іхны час да вызначаных мной гадоў і дзён пятага і шостага стагоддзяў нашай эры. Аднак, калі я надрукаваў спачатку «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры» ў 1907 годзе, а потым кнігу «Прарокі» ў 1914 годзе, я не пераканаў, відаць, нікога, нягледзячы на тое, што мае астранамічныя вылічэнні не пакідалі ніякай магчымасьці сумнявацца ў іхнай праўдзівасьці. Мае высновы здаліся ўсім неверагоднымі і, наколькі мне вядома, я не набыў тады ніводнага перакананага прыхільніка.

І вось, у гэтай кнізе я разглядаю справу ўжо не з аднаго астранамічнага боку гледжання, а з усіх бакоў. Першы бок вывучэння – палітычна-эканамічны, з якога выразна бачна, што ў такой безнадзейнай пустэльнай мясцовасьці, як Палестына, ніколі не магло ўтварыцца якога заўгодна высока-культурнага цэнтра. Кожная ж культура патрабуе значнага папярэдняга назапашвання разнастайных дададзеных каштоўнасьцей карыснай фізічнай працы, якія пад час старажытнасьці маглі даставіць толькі ўрадлівая зямля і спрыяльнае становішча каля вялікай ракі, што рабіла магчымым моцнае развіццё транспарту і выгадны абмен прадуктаў сваёй краіны на замежныя. Нічога падобнага не было ў Палестыне, а таму пры позірку на пытанне з боку гледжання эканамічнага рацыяналізму (ці дыялектычнага матэрыялізму) не магло быць там пабудавана і пышнага Саламонава храма, і пышнага яго палаца, і ніякай іншай велічнай пабудовы, паглядзець на якую пажадала б «царыца Саўская», ці іншыя цары і царыцы. Стратыграфічны характар гэтай краіны не дае нам ніякай магчымасьці дапусьціць, што яна нават і за 8000 гадоў да нас была больш прыдатнай для культурнага жыцця, чым зараз. Яна на працягу ўсяго апошняга геалагічнага перыяду была глухменню. Нават жа і

шматлікія ахвяраванні жыдоўскіх магнатаў-сіяністаў і хрысьціянскіх заможных пілігрымаў «да труны господа» не здолелі стварыць у ёй на працягу тысячагоддзя ніякіх заўважаемых прыкмет мясцовай навуковай ці літаратурнай ініцыятывы. Так што ж там магло існаваць пад час старажытнасьці?

Потым я, яшчэ ў Шлісельбургу, разгледзеў гэтую справу і з лінгвістычнага, і з астранамічнага бакоў. Я прыйшоў да высновы, што ўсе імёны ізраільскіх цароў не маглі быць іхнымі сапраўднымі імёнамі, якімі называлі іх атачаючыя, а толькі пазнейшымі найменнямі гісторыкаў: «Заступнік Народа», «Прыхільна ахвяруючы», «Цар-Дзядзька» і г.д.

Ніякай апоры ў лінгвістыцы не знайшлося, а астраномія прама аспрэчвала ўсе агульнапрынятыя ў старажытнай гісторыі даты і перанесла адны падзеі да часу сярэдневечча, а іншыя – у вобласць чыста астральных сусьветаў.

Потым я разгледзеў пытанне і з чыста гістарычнага боку. Бязладная разнастайнасць перыядаў валадарання багазмагальніцкіх і богаславячых цароў быўшая цалкам такой жа, якая бывае пры рэчаісных дынастыях, паказала мне, што большасць із іх не чыста астральныя ці легендарныя цары (накшталт Савула, Давыда, і Саламона, кожнаму із якіх дадзена роўна па 40 гадоў валадарання, адпаведна са схемай роўнабаковага трохкутніка), а толькі моцна астралізаваныя і легендарызаваныя. Потым я скарыстаўся маімі ранейшымі вылічэннямі часу біблейскіх прарокаў, каб паглядзець, пры якім із лацінскіх цароў жылі адпавядаючыя ім багазмагальніцкія і пасьля першай жа прымеркі раптам пабачыў, што ўсё яны паслядоўна наляглі грунтуючыся на працягласьцях свайго валадарання на лацінскіх, як старыя пальчаткі на іхныя пальцы.

Я пачаў вывучаць іхныя біяграфіі і перакаўся, што ва ўсіх самых галоўных дэталях яны супалі з хрысьціянскімі біяграфіямі лацінскіх цароў. Дзірак у гэтых старых біблейскіх пальчатках выявілася толькі дзьве-тры, ды і яны былі не вельмі важныя, лёгка тлумачымыя адрозненнем поглядаў у рознаплямённых аўтараў ці памылкамі ў перадачах пры тагачасным недахопе пісьмовых дакументаў. Так Еравоам І выявіўся з боку гледжання жыдоўскага аўтара кнігі «Цары» заснавальнікам рэлігійнай **ерасі**, якой прытрымліваліся ўсе яго бліжэйшыя нашчадкі; а яго грэцкае адлюстраванне Кастусь І выявіўся з царкоўна-хрысьціянскага боку гледжання, наадварот, заснавальнікам яе **праўдзівай** царквы і таму прылічаны да ліку яе сапраўдных сьвятых і нават да гэтага часу прызнаецца такім, хаця свецкія гісторыкі і даводзяць зараз, што гэта няпраўда, і што ён быў да канца жыцця паганцам ці арыянінам. Пры апошнім ізраільскім цару, Асіі, адпаведна з біблейскімі апавяданнямі, адбылося перасяленне народа боскага, і гэтая важная падзея, цалкам налягла на «вялікае перасяленне народаў» пры Рамуле-Аўгустуле, якім яно апісана ў хрысьціянскіх дакументах. Біблейскі Салманасар (г.азн. Забраўшы Мір) налёг на Адаакра, а біблейскі Тыглатпаласар (Пачвара-Перасяленец) – на Атылу з яго гунамі. У Бібліі знайшліся і готы ў выглядзе хетаў (**ХТ**), і перыяд анархіі перад Осіяй, налёгшы на перыяд анархіі перад Рамулам-Аўгустулам. Толькі сваяцтва адзін з адным паслядоўных рамейскіх цароў выявілася моцна пераіначаным у Бібліі нейкімі яе наступнымі рэдактарамі, і тыя цары, якія былі братамі адпаведна з хрысьціянскімі крыніцамі, часта зроблены тут дзецьмі адзін аднаго... Але ўсе гэтыя непагадненні не перавышаюць непагадненняў, знаходзімых пра тых жа цароў і ў розных хрысьціянскіх крыніцах.

Асабліва ж дзіўным выяўляецца тут тое, што прарок Ілія (імя якога азначае Бог-Грамабой, па-жыдоўску і Сонца па-грэцку), вылечваўшы хворых, ажыўляўшы

памёршых, здзяйсняўшы разнастайныя вялікія дзівы і ўзнёсшыся потым жывым на неба, храналагічна налёг на евангельскага сына боскага, быццам бы здзяйсняўшага тое ж самае. А час слупавання апошняга, г.азн. прывязвання яго да ганебнага слупа[207] царом-Героем (Ірадам, па-грэцку) вылічыўся ў мяне, незалежна ад усіх гэтых меркаванняў, прыпадаючым якраз на 21 сакавіка 368 года, г.азн. на час валадарання Валента, які храналагічна налёг на біблейскага цара Ахава, пры якім, згодна з Бібліяй, і жыў Ілія. Нават мала гэтага. Вучань і наступнік Іліі Елісей налёг таксама пры гэтым цалкам на самага шануемага і самага таленавітага вучня евангельскага цара Месіі, на Яна Багаслова, які ў сваю чаргу налёг згодна з маімі астралагічнымі вылічэннямі часу напісанага ім жа Апакаліпсіса, на самага знакамітага із візантыйскіх прапаведнікаў хрысьціянства заканчэння IV стагоддзя нашай эры – Яна Залатавуста.

**Няўжо і зараз мне нехта скажа, што гэтых доказаў недастаткова, што ўсё гэта «выпадковыя супадзенні», і што старабіблейскае ўмацаванне па-ранейшаму застаецца непрыступным ні з геалагічнага, ні з палітычна-эканамічнага, ні з лінгвістычнага, ні з астранамічнага, ні з чыста гістарычнага із яго фарпастоў?**

Мне і раней не раз пярэчылі з нагоды маіх ранейшых дасьледаванняў над Апакаліпсісам і біблейскімі прарокамі:

– Навошта шукаць першакрыніцы біблейскіх лягенд у нябесных з'явах ці ў фактах рэчаіснага жыцця, калі ўсё гэта можна патлумачыць чыстай гульнёй фантазіі?

Але ж і гульня фантазіі, – адкажу я, – нават у снабачаннях не ў стане ствараць новыя, ніколі не бачаныя прадметы, для якіх у вас не існуе нават назваў. Ды і як вы перададзіце славамі такую легенду, калі для скамбінаваных у ёй прадметаў і падзей у вас няма назваў? Калі ж вы іх нават і прыдумаеце, то ніхто вас не зразумее, не бачыўшы папярэдне такіх прадметаў.

Кожнае слова мае сэнс для чуючага яго толькі ў тым выпадку, калі яно нагадвае яму пра нейкае ўжо папярэдне перажытае адчуванне, інакш яно пусты гук.

А старажытная фантазія працавала нашмат слабей за нашу ўжо дзякуючы аднаму таму, што ў яе арсенале было менш усім вядомых прадметаў для стварэння із іх мудрагелістых камбінацый. Яе выявы больш элементарныя, яе алегорыі больш простыя за нашы, як старажытная музыка больш простая за сучасную музыку. Нават і самы вялікі пісьменнік старажытнасьці не змог бы напісаць нешта падобнае на сучасны еўрапейскі раман, без наяўнасьці папярэднічаўшай яму менш складанай літаратуру, із якой ён меў бы магчымасць запазычыць дастатковы запас асацыяваных паведамленняў і моўных спалучэнняў. Скажу больш: да перыяду друкарства не магло распрацавацца беглае чытанне, а таму і беглае пісанне, якое патрэбна для добрага, распрацаванага літаратурнага складу, так што распрацаваны літаратурны склад нейкага рукапісу ўжо сам па сабе з’яўляецца дастатковым доказам на карысць яе стварэння ўжо пасьля вынаходніцтва друкарскага станка.

Перачытваючы біблейскую кнігу «Цары», здзіўляешся ў ёй сумесі трох розных гатункаў першабытнай творчасьці. Тут ёсць, па-першае, белетрыстыка ў выглядзе выкладання асобных размоваў цароў адзін з адным і з іхнымі

---

[207] Нагадаю яшчэ раз, што адпаведна з грэцкім тэкстам евангелляў, спосаб пакарання сьмерцю «цара юдэйскага» малюецца не такім, як згодна з перакладамі. Замест слова крыж там стаіць стаўрас (σταυρός), г.азн. колік ці слуп, а замест, укрыжаванне – слупаванне.

царадворцамі і пракамі, дзе гучаць элементарныя камбінацыі пачутых ці прачытаных некалі аўтарамі фраз. Па-другое, тут ёсць сімвалістыка (галоўным чынам астралагічная), дзе ўласцівасьці сузор'яў, папярэдне выпрацаваных у залежнасьці ад іхных назваў і адпавядаючых ім пор года (ці нават ад канфігурацыі іхных зорак, накшталт хваста Скарпіёна), пераносяцца з неба на зямлю і трансфармуюцца ў адпаведныя чалавекападобныя сутнасьці, асабліва калі пераходзяць із адной мовы на другую, без тлумачэння сэнсу іхных імёнаў. А, па-трэццяе, тут паўсюдна раскіданы кабалістычныя хітрыкі з мэтай надаць усяму паведамляемаму праўдападобную паслядоўнасць, карыстаючыся то гармоніяй лічбаў, то «лічбамі найменняў», то нейкімі разнастайнымі суадносінамі паміж чужымі прадметамі, нярэдка не маючымі з дадзеным апавяданнем нічога агульнага.

Усё гэта і складае асноўную канву старажытнага «складальніцтва», але і ў яе, то тут, то там, уплятаюцца малюнкі выбітных рэчаісных падзей тагачаснага ці ўжо мінулага, але яшчэ памятаемага жыцця. Толькі яны адны і могуць служыць нам матэрыялам для аднаўлення старажытнай гісторыі і нават для выпрацоўкі ўяўленняў пра выбітных асоб таго часу. Але гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі зярняткі рэчаіснасьці будуць старанна аддзены ад іхнай легендарнай абалонкі і калі будзе вызначаны нейкім праўдзівым метадам час стварэння дасьледуемай кнігі.

У дадзеным выпадку мы ўжо маем магчымасць паказаць эпоху некаторых із іх і ў прыватнасьці час стварэння кнігі «Цары». У гэтую кнігу, як мы бачым, патрапілі Ілія і Елісей, у вобразе якіх мы пазналі евангельскіх Езуса і Яна, а акрамя таго ў ёй яшчэ згадваюцца прарокі Ісайя[208] і Ерамія[209]. А мы ўжо дастаткова паказалі ў першым томе, што гэтыя творы былі напісаны ўжо пасьля Апакаліпсіса: першы з нагоды лістападаўскай каметы 442 года, другі – з нагоды чэрвеньскай каметы 451 года, і што словы Іса-Ія і Ерамія, азначаючыя ў перакладзе: «Боскае Выратаванне» і «Стралок бога-Грамабоя», уяўляюць сабой не імёны аўтараў, а загалоўкі саміх кніг. А ў кнігу «Цары» і ў больш позні яе плагіят «Словы Дзённыя» (Параліпаменон) гэтыя загалоўкі патрапілі ў якасьці імён аўтараў дадзеных кніг. Ды і самі імёны Іса-Ія (Ратавальнік) і Ерамія (Стралок Грамабоя) дзіўна нагадваюць зноў жа Езуса і яго вучня Яна. Відаць, абедзьве кнігі былі спачатку выдадзены іхнымі ананімнымі аўтарамі за творы гэтых настаўнікаў, а потым самі загалоўкі былі палічаны за найменні старажытных дахрысьціянскіх аўтараў, хаця як і Ісая, так і Ерамія да гэтага часу існуюць у пералічэнні **хрысьціянскіх** сьвятых, у чым можна пераканацца паглядзеўшы ў які заўгодна праваслаўны каляндар. Дык якім жа чынам яны маглі жыць пад час дахрысьціянскага перыяду?

Грунтуючыся на зробленых тут параўнаннях ужо можна зрабіць выснову, што «трохі ерэтычнае» (з боку гледжання багаслаўцаў) багазмагальніцкае царства мае вельмі шмат агульных рыс з «Сусьветнай Рымскай Імперыяй», а потым пасьля падзелу – з яе Заходняй палавінай. Таму і ў характарыстыку першага багазмагальніцкага цара Іераваама-Народазаступніка, астралагічна прыстасаванага да сузор'я Авена, ляглі некаторыя асноўныя рысы Кастуся І, абвясьціўшага арыянства дзяржаўнай рэлігіяй.

Кастусь І памёр, як нам кажуць, у Нікамедыі 22 траўня 337 года. А за 31 год да гэтага, г.азн. у 306 годзе, ён быў абвешчаны войскам «Аўгустам», але толькі за 25 гадоў да сьмерці, пасьля перамогі над Максенцыем, ён стаў сапраўдным

[208] Ісая – ІІ Цароў, XIX, 2 і XX, 1-11. Тое ж у «Словах Дзённых» (Параліпаменон) II, XXVI. 22; XXXII, 30, 32.
[209] Ерамія – ІІ Цароў, XXIII, 31; XXIV, 18. Тое ж у «Словах Дзённых» 11-35, 25-36, 12, 21.

валадаром імперыі, ды і то не цалкам. Ліцыній на ўсходзе не прызнаваў яго ўладу і быў пераможаны Кастусём толькі ў 323 годзе, за 14 гадоў да сьмерці апошняга. Акрамя таго, у жыцці Кастуся было яшчэ дзьве падзеі, якія з тэалагічнага боку гледжання могуць служыць падставамі для гістарычнай храналогіі. Першая з іх – гэта Міланскі эдыкт 313 года. Да-евангельскае «хрысьціянства», г.азн. пасьвячэнства, як званне, суправаджаемае абавязковым экзаменам і цырыманіялам, даючымі чалавеку права здзяйсняць набажэнствы (якое да таго часу мог вольна здзяйсняць кожны вядзьмак), было тады ўпершыню прызнана дзяржаўнай прэрагатывай пад уплывам вялікага ягіпецкага навукоўца Арыя. Яго імя, па-жыдоўску азначаючае Леў, і ў той жа час сугучна са славамі: Сьвет божы[210], адразу пазначае і яго нацыянальнасць і яго блізкія ўзаемадачыненні з міфічным сынам Якава-Богазмагальніка Юдай, эмблемай якога было сузор'е Леў. Вельмі магчыма, што менавіта яму, звычайна жыўшаму ў Александрыі, і належыць вучэнне першай часткі кнігі Быццё: «Спачатку стварылі багі[211] неба і зямлю...» і г.д., а таксама ўсталяванне «сядміцы тварэння» і запавета пра сьвяткаванне суботы. З гэтага боку гледжання евангельскія «юдэі» і «арыяне» спачатку былі адным і тым жа, ды і фарысеі (ПАРСІ) была толькі іншая больш позняя назва гэтага ж вучэння. Зразумела, што Стара-біблейская гісторыя магла пачацца менавіта толькі з Міланскага эдыкта ў 313 годзе.

Другая падзея – гэта Нікейскі сабор у 325 годзе, калі адбылося сутыкненне Арыя з «мікалаітамі», г.азн. прыхільнікамі Мікалая Цудадзея, якіх Арый, відаць[212], абвінаваціў у фабрыкацыі цудаў, за што і атрымаў – паведамляюць тэолагі – аплявуху ад «Цудадзея».

Такім чынам, час афіцыйнага валадарання Кастуся I можна пазначыць роўным і 31 году, і 24 гадам, і 14 гадам. А ў кнізе «Цары» яму, пад імем Іеравaама – Заступніка Народа, дадзена 22 гады (гл. стар. 329), лічба больш прыдатная да Міланскай эры, хаця і не вельмі дакладная. Але мы ўжо ведаем дзякуючы папярэдняму выкладанню, што і ў самой кнізе Цары часы асобных валадаранняў пазначаюцца з розніцай, нярэдка перавышаючай тры года, як гэта бачна із табліцы на стр. 317 (Табліца XVII), дзе паказаны перыяды, атрыманыя пры праверках часу валадарання багазмагальніцкіх цароў грунтуючыся на богаслаўскіх, і наадварот.

І вось мы бачылі на дыяграме (стар. 329), ды і дзякуючы ўсім параўнанням гэтай часткі, што ўсе шэсць першых цароў Бібліі налеглі на цароў рамейскіх, як дзьве копіі той жа самай геаметрычнай крывой, асабліва калі прымем да ўвагі сэнс астральных мянушак гэтых валадароў.

Сёмы цар Ахаў (Цар-Дзядзька) налёг у нас, як мы бачылі, на Валента (363-375 год), а яшчэ ў I томе я вылічыў, што месяцовае зацьменне, апісанае ў евангеллях пры слупаванні цара-Месіі (евангельскага Хрыста), адбылося пры Валенту 21 сакавіка 368 юліянскага года.

Сьледам за гэтым пачалася, разам з перасьледамі хрысьціян, гучная прароцкая дзейнасць яго паслядоўніка і вучня, Яна Залатыя Вусны, якая працягвалася на ўсходзе на працягу ўсяго валадарання Хвядоса Вялікага і завяршылася, як грымотным ударам, з'яўленнем Апакаліпсіса ў 395 годзе. У Бібліі евангельскі Хрыстос, як мы бачылі, апісаны пад імем прарока Эліяса (Іліі), што па-

---

[210] ארי־ה (АРЫЕ) – леў, Арый, сугучна з אור־יה (АЎР-ІЕ) – сьвет божы.

[211] Ужо і да мяне габраісты звярталі ўвагу на тое, што ў жыдоўскім арыгінале кнігі «Быццё» нідзе не сустракаецца слова бог (АЛЕ) у адзіным ліку, а ўсюды багі (АЛЕІМ).

[212] Гл. маю кнігу «Адкрыццё ў навальніцы і буры».

грэцку азначае Сонца, а па-жыдоўску «бог». А Ян Залатавуст апісаны пад імем Елісея. Падабенства ў апісанні абодвух у евангеллях і ў Бібліі дзіўнае.

Як Хрыстос перад павучаннем «быў спакушаемы» у пустыні, так і Ілія хаваўся ад цароў сярод гор, куды крумкач прыносіў яму ежу. Як Ян Хрызастом, адпаведна з «Жыціямі Сьвятых», кідаў грымоты на Рамейскую дзяржаўную царкву таго часу, якую ён называў Царыцай Бляск Госпада (Ізабэль), так і Ілія, адпавядаючы яго настаўніку Хрысту, грукатаў згодна з Бібліяй на тую ж самую царыцу Ізабэль, паказваючы гэтым пераемнасць абодвух дзеячаў. Як Ян атрымаў адкрыццё, гутарыў з богам на пустыннай выспе, сярод буры і землятрусу, так і Ілія, адпавядаючы яго настаўніку, евангельскаму Хрысту, гутарыў з ім жа на пустыннай гары, пасьля таго як над ёй пранёсся «вецер, раздзіраючы скалы, пасьля ветру землятрус, пасьля землятрусу полымя і пасьля полымя прайшоў павеў ціхага ветру, у якім і з'явіўся яму Зеўс (І Ц., XIX, 11)».

У гэтай біблейскай лягендзе прарок Ілія (сонца) усюды аналагічны евангельскаму Хрысту і, як і ён, узносіцца жывым на неба. А Елісей Бог-Ратавальнік з'яўляецца пры параўнанні Бібліі з Евангеллямі, яго прадаўжальнікам, пры гэтым здзяйсняемыя ім дзівы перавышаюць, згодна з Бібліяй, дзівы самога Іліі-Езуса, і згодна з лягендай ён памірае пры цару Полымя Боскае (Іааш), г.азн. пры Аркадзю (стар. 329), пры якім памёр і Ян Хрызастом. А пасьля гэтага мы пераходзім да новага цыкла накладанняў багазмагальніцкіх цароў на Заходне-Рымскіх пасьля іхнага адпадзення ад усходняй часткі імперыі.

Але ў гэтым другім цыкле ўжо не ўсё адпавядае рэчаіснасьці. Тут шмат блытанага і тэндэнцыйнага падвядзення пад астралогію.

Як Кастусь у першым цыкле названы Заступнікам Народа (Іераваам), так і тут гэтым жа астральным эпітэтам, належачым яго сузор'ю Авену, ахарэактыразаваны Ганорый (395-423), і дзеянне пераносіцца ў адлучыўшуюся Заходнюю палову імперыі. Пад канец яго валадарання 19 ліпеня 418 года адбылося поўнае сонечнае зацьменне ў сузор'і Рака пры камеце «Труба», і яно выдатна апісаны ў біблейскім прароцтве «Моцны (Амос)».

Я не пералічваю ў гэтым кароткім рэзюмэ ўсе астатнія паралелізмы жыдоўскіх легенд пра царства богазмагальнікаў з грэцкімі, якія выключна бяруць да ўвагі сучасныя гісторыкі Рамеі IV-VIII стагоддзяў. І павядомленага тут дастаткова для таго, каб прызнаць абедзьве «гісторыі» маючымі дачыненне да таго ж прадмета.

Я звярну ўвагу яшчэ толькі на адну акалічнасць.

17 траўня 451 года, пад час валадарання Валентыніяна III, адпавядаючага біблейскаму Менаіму, бачылі камету ў Цяляці каля Пляяд, якая была на небе на працягу амаль двух месяцаў, прайшоўшы праз Двайнят і Рака ў Ільва, і каля 13 ліпеня знікшая каля галавы Панны[213]. Гэта было ледзь ці не першае (а не шостае, як думаюць некаторыя) із верагодных з'яўленняў каметы Галея.

І ў гэтым жа, 451 годзе быў скліканы Халкедонскі сабор, асудзіўшы монафізітаў, прызнаваўшых існаванне ў Езусе толькі боскай сутнасьці і якія зваліся якавітамі, ці багазмагальнікамі. Пачынаючы ад гэтага часу яны аддзяліліся ад дзяржаўнай царквы і пашырыліся па Сірыі, Месапатаміі і Ягіпту, утварыўшы жыдоўскую, чыста месіянскую царкву і прамежкавыя паміж ёю і праваслаўем – армянскую, абісінскую і копцкую.

---

[213] Гл. «Хрыстос», у кнізе VI: Летапісы Шэ-кэ і Ма-Туан-Лінь.

Вось гэтымі-та рамейскімі стараверамі ўжо нашмат пазьней і былі напісаны біблейскія кнігі, якія такім чынам з'яўляюцца прадуктамі рамейскай творчасьці. Такім чынам, і дасьледуемая тут намі кніга «Цары» з'яўляецца толькі першапачатковай спробай выкладання гісторыі Вялікай Рамеі. Яна не мае значэння рэчаіснай гісторыі, як і кніга «Быццё» не ўяўляе сабой гісторыю чалавецтва ад яго пачатку на зямлі, але яна з'яўляецца першым зародкам гісторыі народаў і характарызуе як рамейскую гістарычную літаратуру сярэдневечча, так і метады яе выкладання.

# Глава XVI

## Паралелізм не астралізаваных дынастычных падзей у царстве Богаславячым (Юдэйскім) і ў царстве Ўсходне-Рымскім (Рамейскім).

Перанясёмся зараз зноў з лацінскага захаду Яўропы на яе грэка-славянскі ўсход з быўшай там семітычнай гегемоніяй ад IV да VII стагоддзя нашай эры.

Ужо шмат разоў на працягу гэтага майго доўгага дасьледавання я перасьцерагаў чытача супраць аднаго вельмі шкоднага ў гістарычнай навуцы гіпнатычнага надання, прыладай якога з'яўляецца ўласнае імя прадмета. Яно наогул з'яўляецца самым звычайным і самым пашыраным спосаб надання. Як толькі ззаду вымавяць ваша імя вы неадкладна павернецеся, як на спружыне; толькі пачуўшы імя вашага знаёмага і ў вашым уяўленні неадкладна мільгане яго выява. Дакладна так жа бывае і ў астатніх выпадках, якімі з'яўляюцца назвы рэк, гарадоў і г.д., уяўленні пра якія акрамя таго ў кожнага суб'ектыўныя, у залежнасьці ад таго, якую іхную частку яны лепш ведаюць, ці проста апперцэпцыйныя, калі чуючы іхнае найменне ніколі іх не бачыў, а памятае назву з дзяцінства, накшталт, напрыклад, таго, як шмат хто, чуючы слова «свірасьцель» лічаць, што гаворка ідзе пра знаёмую ім птушку, а пабачыўшы яе ў заалагічным садзе – не пазнаюць яе.

А такіх пустазвонных слоў, ўжываемых намі механічна, лічачы іх добра вядомымі, непараўнальна больш у гаворцы кожнага із нас, чым мы самі лічым. Асабліва ж іх шмат у гістарычнай навуцы. Усе гэтыя Анібалы, Актавіяны, Юліі Цэзары, Карлы Вялікія – для нас пустазвонныя імёны. Калі б гэтыя людзі ажыўшы, з'явіліся перад намі, то мы толькі паглядзелі б на іх са здзіўленнем. А нам жа, тым часам, здаецца, што мы маем пра іх цалкам выразнае ўяўленне!

Так, дарэчы, бывае і пры кожнай моўнай перадачы. Выявы і ўяўленні ў галаве слухаючага ніколі не бываюць тоеснымі з выявамі і ўяўленнямі ў галаве распавядаючага.

Аднойчы мне даслалі із аднаго выдавецтва карэктурныя лісты маіх уласных успамінаў з дзвума дзясяткамі ілюстрацый, зробленых незнаёмым мне мастаком да розных месцаў майго апавядання, просячы паказаць месцы, да якіх яны дапасуюцца. Але малюнкі да такой ступені не адпавядалі таму, што ўяўляў я сам у сваім уяўленні і што меў жаданне перадаць чытачу, што я рашуча не меў ніякага разумення пра тое, на якой старонцы іх размясьціць, а калі, нарэшце, зразумеў, куды патрэбна размясьціць два ці тры малюнка, то перадусім зарагатаў.

Дзякуючы гэтаму ж, калі пра нейкую із вядомых нам толькі на імя асоб нешта паведамляюць, назваўшы яе іншым імем, то часам патрабуецца шмат увагі

да дэталяў апавядання, каб зразумець, што гэта ўжо вядомая нам асоба. І, наадварот, калі адным і тым жа імем называюцца дзьве розныя асобы, то нам цяжка бывае іх раз'яднаць у нашым уяўленні; мімаволі здаецца, што гэта – два выпадкі із жыцця таго ж самага чалавека. Дакладна тое ж можна сказаць і пра назвы месцаў, асабліва гарадоў, калі мы звяртаем увагу толькі на іхнае найменні, а не на іхны сэнс. Вось, напрыклад, горад Кесарыя ці Цэзарэя. Згодна з сэнсам, гэта горад Цэзара, г.азн. тое ж, што і Цар-Горад... Вось, горад Цір, па-жыдоўску ЦУР, г.азн. таксама Цар-Горад. Ці маем мы права без дастатковых доказаў дапасаваць гэтыя назвы да трох розных сталічных гарадоў?

Ды і наадварот. Вось, напрыклад, у перыяд вялікай рускай рэвалюцыі, значная колькасць гарадоў атрымала новыя найменні. Пецярбург, пераназваны яшчэ пры цару Мікалаю ў Петраград, ператварыўся потым у Ленінград, Гатчына спачатку стала Троцкам, а праз некалькі гадоў ператварылася ў Чырвонагвардэйск і г.д. і г.д. Гісторыку праз некалькі соцень гадоў давядзецца выдаткаваць вялікія намаганні (ці, хутчэй, заўсёды мець пад рукой слоўнік) для таго, каб атаясаміць іхныя пасьля рэвалюцыйныя найменні з дарэвалюцыйнымі, а не падвоіць ці патроіць тыя ж самыя гарады.

Такога генеральнага пераназвання гарадоў мы не ведаем пад час старажытнсьці; яно бывае толькі пры выключна рэзкіх пераходах ад занадта ўжо аджыўшага грамадзкага ўладкавання да яго антытэзы; але, ж, акрамя рашучых грамадзкіх рэвалюцый бываюць рэвалюцыі і ў сьветапоглядзе, звычайна ў залежнасьці ад нейкіх уражваючых уяўленне фізічных катастроф, і тады арнатыўнае найменне нейкага горада, накшталт «Вечны горад», «Сталіца сьвету», і г.д., можа быць перанесена на цалкам новае месца знаходжання.

У гэтым дачыненні вельмі цікава прасачыць міграцыю эпітэта, азначаючага згодна з Cruden: «Бачанне Заспакаення» ці «Надзея Заспакаення» (па-жыдоўску – Ерусалім)[214]. Яго можна вывесьці і ад сумесі грэцкага з жыдоўскім, як Іерон Салім[215], пры гэтым атрымаецца горад Сьвятога Заспакаення. Гэтага слова зусім няма ў так званым «Пяцікніжжы Майсея», г.азн. у Кнігах Быццё, Сыход, Лявіт, Лічбы і Другазаконне. Там ёсць, сярод іншых найменняў, толькі горад Іевус (יבוס), які атаясамляецца з Ерусалімам толькі таму, што ў біблейскай жа Кнізе «Езус» паведамляецца:

«*І былі гарадамі сыноў Веніямінавых: Ціла, Алеф, Іевус, г.азн. Ерусалім, Гівет і Крыт*» (XVIII, 28); ды яшчэ раней, што «*Йевусеі* (ІВУСІ) *жывуць з богаслаўнымі ў Ерусаліме да гэтага дня*» (XV, 63). Гэтае ж выказванне літаральна перапісана і ў кнізе Суддзі (I, 21 і XIX, 10). Калі б не было гэтых чатырох (ці нават трох) тлумачэнняў у дужках, то нікому і ў галаву не прыйшло б, што ў Пяцікніжжы, пад найменнем Іевус маецца на ўвазе той жа горад, які ў астатніх біблейскіх кнігах мае назву Ерусалім і ніколі Іевус.

Ну, а калі дадаванне ў дужках: «Іевус, г.азн. Ерусалім» зроблена тэндэнцыйна, згодна з уласнай неабгрунтаванай здагадкай некага із больш позніх рэдактароў жыдоўскай Бібліі? Тады ўся сувязь паміж абодвума назвамі адразу знікае, і горад Іевуса давядзецца перакладаць: Urbs Iovis, г. азн. горад Юпітара Грамабоя[216].

---

[214] ירושלמ (ІРУШЛМ) ад יראה־שלמ (ІРАЕ-ШЛМ) у сэнсе Надзея Заспакаення.

[215] Ἱεροσολύμα ці Ἱερουσσαλήμ г.азн. Сьвяты Салім, сьвятое Заспакаенне.

[216] Па-жыдоўску – יבוס (Івус), па-латыні – Jebusaeus, па-грэцку – Ἰεβουσαῖος па-ангельску – Jebsiite, па-французскі – Jebuseen, па-руску – Іевус.

Сам гэты горад нідзе не апісваецца самастойна, а пра яго жыхароў – прыхільнікаў Юпітара-Іёвіса згадваецца некалькі разоў і заўсёды няўхвальна:

«*Я выпраўлю анёла і праганю... готаў* (хетаў), *парызееў* (parisiens)... *і іевусееў*», г.азн. прыхільнікаў Юпітара, – паведамляе кніга «Сыход» (XXX, 2). «*Хеты* (готы) *і іевусеі жывуць на гары*», – паведамляе кніга Лічбы (XII, 30). А ў кнізе Суддзяў вельмі вызначана паведамляецца пра іхны горад, як пра самы распутны (XIX, 1) і потым загінуўшы ад катастрофы (Захарыя, IX, 7). Усё гэта прымушае прызнаць яго за адзін із гарадоў, загінуўшых ад вывяржэння Вязувія, а тры дадаванні ў дужках у кнізе Параліпаменон пра тое, што, быццам бы, гэта і быў горад «Святога Заспакаення», паказваюць толькі на то, што яго атаясамілі пазьней з нейкім іншым горадам, меўшым такі эпітэт з непараўнальна больш вялікім правам.

І мы не можам не бачыць, што ў кнізе «Цары» горадам Сьвятога Заспакаення – Іерон-Салім – звалі Цар-Горад, а ўжо потым і Элія Капіталіну, г.азн. горад Сьвятога Іллі (Эль-Кудс), на пустэльным узбярэжжы Мёртвага Мора.

Толькі з гэтым тлумачэннем, скасоўваючым у нас даўняе гіпнатычнае наданне, і можна чытаць біблейскія кнігі.

Мы ўжо бачылі, што царства Богаславячае (па-жыдоўску – юдэйскае) з'яўляецца астралізаваным адлюстраваннем усходняй часткі рымскай імперыі. Але гэтае адлюстраванне некалькі больш каламутнае чым папярэднічаўшае, асабліва ў сваёй самай старажытнай частцы. Тут відавочна шмат такога, што можа быць названа рэчаісным. Разгледзім жа яго.

Адпаведна размяркаванню багазмагальніцкага народа Бібліі на 12 кален, з дадаваннем яшчэ трынаццатага ў выглядзе нашчадкаў Дыны, дачкі Якава Богазмагальніка, сусветная імперыя Дыяклетыяна была падзелена яшчэ пры Канстанцыі II, сыне Кастуся I, на 13 дыяцэзій. Пасьля сьмерці ў 306 годзе Канстанцыя Хлора, «вярхоўнага імператара Сусветнай Рымскай імперыі», яго вайскавод, нараджэнец Дакіі, Ліцыній (ён жа Публій-Флавій-Галерый-Валяр'ян) быў у 307 годзе абвешчаны легіёнамі адзінаўладцам Усходу, а сын Канстанцыя Хлора, Кастусь I застаўся імператарам астатняй часткі імперыі, хаця некаторыя із італійскіх легіёнаў абвясьцілі ў якасьці яго суімператара яшчэ і Максенцыя, пераможанага Кастусём у 312 годзе і ўтапіўшагася пры гэтым у Тыбры.

Ліцыній валадарыў на ўсходзе да 324 года, каля 17 гадоў, незалежна ад Кастуся I, але потым быў ім пераможаны і праз год (у 325 годзе) забіты. Такое заканчэнне меў першы падзел Сусветнай імперыі Дыяклетыяна.

Як адбіўся ў Бібліі гэты падзел імперыі? Вельмі арыгінальна. Кастусь I, як мы ўжо бачылі, фігуруе тут пад імем заснавальніка царкоўнай ерасі Іераваама (Заступніка Народа), а Ліцыній – пад імем Раваама (Пашыральніка народа). Але сынам Саламона (калі яго атаясаміць на час з Канстанцыем Хлорам) зроблены ўжо не ерэтык Кастусь, а прававерны Ліцыній, г.азн. радавод перавернуты навыварат разам з усім апавяданнем пра нагоды падзелу.

«*Усе богазмагальнікі* – паведамляе XII глава I кнігі «Цары» – *прыйшлі на Хрыбет каб уцараваць Раваама* (Ліцынія).

*– Бацька твой*, – сказалі яны яму, – *прызначыў нам цяжкае ярмо. Палегчы яго*».

*Але ён параіўся з моладдзю і адказаў праз тры дня:*

*– Калі мой бацька прыгнятаў вас сваім ярмом, то я яшчэ павялічу яго; калі ён біў вас бізунамі, то я буду біць вас скарпіёнамі*.

*А народ яму адказаў:*

*– Клапаціся ж сам пра сваю дынастыю. Што нам за справа да рода Давыдава*?

*І выбраў сабе царам Іераваама* (Кастуся I), *пакліканага із Міц-Рыма*».

Раваам-Ліцыній сабраў у Горадзе Міру (які ў кнізе «Цары», відаць, яшчэ не сасланы на бераг Мёртвага мора) застаўшыхся вернымі яму 180 000 адборных ваяроў, каб ваяваць з Іераваамам-Кастусём, але прарок Чуючы бога-Грамабоя (ШМЕ-ІЕ) сказаў яму:

– «*Не ваюйце з братамі вашымі*!

*І яны пайшлі назад згодна са словам Грамабоя. А Ераваам* (Кастусь I) *забудаваў Хрыбет на гары Еф-Рым* (накшталт Вязувія) *і пасяліўся там і, акрамя таго, пабудаваў «Боскае Аблічча*» (ФНУ-АЛ), *кажучы*:

– *Калі народ будзе хадзіць на ўшанаванне ў Горад Міру, то можа вярнуцца да Раваама*».

А Ераваам тым часам валадарыў у Горадзе Міру. На яго хадзіў Шушак, Міц-рымскі цар і захапіў скарбы царскага палаца і залатыя шчыты целаахоўнікаў Саламона, а Раваам зрабіў замест іх медзяныя.

«*І была вайна паміж Раваамам і Іераваамам ва ўсе дні іхнага жыцця* – заканчвае сваё апавяданне кніга «Цары» (І Ц., XIV, 30), – *і быў ён пахаваны ў горадзе Давыда*».

Гэтая паралель наўрад ці пакідае сумневы, што ў выглядзе падзелу царства Богазмагальнікаў на багазмагальніцкае і богаслявячае апісаны з адметнага боку гледжання падзел сусветнай імперыі Канстанцыя Хлора паміж Ліцыніем і Кастусём I.

Дакладна гэтак жа і далей.

Але што ж такое ўяўляе із сябе «Хрыбет»[217], на якім Іераваам-Кастусь пабудаваў новую сталіцу? У класікаў яго называюць «Неапаль Флавія», г.азн. Новы горад Кастуся, таму што лацінскім імем Кастуся і было Флавій (Гай-Флавій-Валер-Кастусь). А дзе ж гэты горад? Атаясамляць, яго з арабскім мястэчкам Наблус больш чым сьмешна. А параўноўваючы паміж сабой жыццяапісанне Іераваама і жыццяапісанне Кастуся, зараз жа знаходзім і рашэнне: гаворка ідзе пра італійскі Неапаль, які такім чынам і быў пабудаваны Кастусём, пакуль той быў яшчэ толькі заходнім імператарам. А Міц-Рымам ў кнізе «Цары» называецца, відаць адзін Ягіпет.

Калі Кастусь I пазбавіў Ліцынія пасады, то ён, згодна з хрысьціянскімі крыніцамі, прызначыў на яго месца цэзарам яго сына, які аднак чымсьці не дагадзіў старажытным гісторыкам, таму што яны ўсе маўчаць пра яго далейшае жыццё. Мне невядома нават яго лацінскае ці грэцкае імя. Згодна з Бібліяй жа пасьля сьмерці Раваама над богаслаўцамі зацараваў на два гады, паралельна гэтаму «сыну Ліцынія», сын Раваама, які носіць больш чым дзіўнае імя «Бацька Бога» (АБ-ІЯ). Ці не таму пра яго і маўчаць?

Згодна з нашай храналогіяй гэта было ў 325-327 гадах нашай эры, падчас Нікейскага сабора і, што больш усяго здзіўляе, сынам і спадкаемцай гэтага Бацькі Боскага названы Аса, г.азн. Езус, што па-жыдоўску азначае Ратавальнік ці Лекар, і гэты Езус (адпаведна са сваім радаводам – сам Бог) валадарыць над біблейскімі богаслаўцамі Ўсходу 41 год, г.азн. памірае ў 368 годзе, да якога мы дапасавалі і слупаванне евангельскага Езуса. Ніякага іншага адпаведнага цэзара вы тут не знойдзеце. Храналагічна на цара Асу налягае толькі евангельскі «Цар юдэйскі» Езус, калі мы палічым, што ён сваімі суайчыннікамі лічыўся цэзарам ад часу пазбаўлення ўлады яго бацьку і што пад час слупавання ў 368 годзе яму было не

---

[217] שקמ (ШКМ) – азначае: спіна, хрыбет. Лічыцца габраістамі за Неапаль – Флавій класікаў, горад сховішча, дзе, быццам бы, пахаваны патрыярх Ёсіф, – яго змешваюць з Наблусам сучасных арабаў.

менш 41 года. Гэтаму параўнанню адпавядае і біблейская біяграфія цара-Езуса (Асы):

«Сэрца яго бацькі, – паведамляе IV глава Першай кнігі Цары, – не было так аддана богу-Грамабою, як сэрца Давыда, яго продка, але дзеля апошняга бог даў яму Свяцільню ў Сьвятым горадзе, паставіўшы яго сына пасьля яго» (І Ц., ХУ, 4). «Ён (Аса) рабіў дагоднае перад вачамі бога, як яго продак Давыд, ён прагнаў (храмавых) распутнікаў са сваёй зямлі і знішчыў усіх стодаў, якіх зрабілі яго бацькі, хаця «вышыні» (піраміды) і не былі знішчаны[218]. Ён занёс у сядзібу Грамабоя ўсе залатыя і срэбныя рэчы і пасудзіны, прысьвечаныя богу ім і яго бацькай. «На яго раззлаваўся Васа (Канстанцый II) і пачаў будаваць Рым (**РМЕ**), каб не дазволіць нікому ні сыходзіць ад Асы-Езуса ні прыходзіць да яго». Аса ўзяў усё золата і срэбра свайго палаца і храма і выправіў іх арамейскаму цару Бэн-Ададу, жыўшаму ў Дымішку, кажучы: «Вось, я пасылаю табе ў якасьці гасьцінца срэбра і золата. Скасуй свой хаўрус з Васай». Бэн-Адад паслухаўся яго, напаў на Васу, і той перастаў будаваць Рым і застаўся ў Турцыі (Антыёхіі).

Але ўсе гэтыя размовы, відавочна, ніхто не стэнаграфаваў, а таму смешна надаваць ім нейкае гістарычнае значэнне.

Вось, і ўсё, што ёсць пра Асу, акрамя празаічнай нататкі, што «пад старасць у яго хварэлі ногі». Ён памёр на 4 годзе валадарання Ахава (Валента), што зноў прыводзіць нас да 368 года, часу слупавання евангельскага Езуса.

Ці дастаткова гэтых сведчанняў для таго, каб сказаць, што цар юдэйскі Аса спісаны з евангельскага Езуса, ці што апошні спісаны з яго? Адносна таго, што Езус паходзіў з царскага роду, паведамляецца і ў Евангеллі Мацьвея: на яго крыжы, згодна са сведчаннем ўсіх Евангелляў, быў напісаны гэты ж самы тытул. Нават яго асуджэнне было ў сувязі з такім пытаннем. Тое моцнае ўражанне, якое вырабіла яго няўдалае слупаванне падчас месяцовага зацьмення 21 сакавіка 368 года, вельмі адпавядае гэтаму ўяўленню. Калі ж мне скажуць, што ў той жа кнізе Царстваў я ўжо пазнаў Езуса ў вобразе адначасовага з Асай прарока Іліі, то я адкажу, што кніга «Цары» сцэментавана із двух самастойных сборнікаў-хронік, а таму ў ёй лёгка могуць фігураваць па два разы тыя ж самыя асобы пад рознымі найменнямі, як цалкам самастойныя.

Пяройдзем зараз да Іасафата, які адпаведна з дыяграмай (табл. XXIII, на стр. 377) храналагічна налягае на Хвядоса I.

У XXXII главе I кнігі «Цары» пра Іасафата (імя якога азначае Суддзя бога-Грамабоя) паведамляецца, што «ён ішоў добрымі шляхамі Асы, свайго бацькі, хаця народ і здзяйсняў яшчэ ахвяры і каджэнні на вышынях». Ён пабудаваў крэпкія караблі ў Тартэсе (у Гішпаніі), каб яны хадзілі ў краіну Афір (Афрыку) за золатам, але яны пабіліся ў Эцыён-Гебры[219]. У яго дні ў Ідумеі (Італіі) не было свайго цэзара, а толькі намесьнік Іасафата.

Вось, і ўсё.

Памёр ён у Горадзе Міру, і час яго валадарання вызначаны роўным 25 гадам, г.азн. ад 368 да 393 года, што амаль налягае на Хвядоса I, асабліва калі прыняць да ўвагі яго існаванне паплечнікам Валента ад 368 года.

---

[218] Я выключаю тут радкі: «імя маці яго: Мааха, дачка Авесалома» (XV, 10), таму што некалькімі радкамі вышэй (XV, 2) яна ж названа яго бабуляй, маці яго бацькі. Згодна з гэтай жа нагодай я выключаю і радок 18-ы, дзе ён пазбавіў гэтую Мааху звання царыцы і пасёк яе балвана.

[219] עציון־גבר (ЭЦІУН-ГБР) – ці не Гібралтар?

Цікавым тут з’яўляецца згадванне, што ў гэты ж час упершыню з'явіліся караблі далёкага ўзбярэжнага плавання.

Пасьля Іасафата згодна з Бібліяй (II Цароў, VIII, 16) над богаслаўцамі зацараваў Іарам (што азначае Боская Вышыня ці Боскі Стралок). Ён валадарыў адпаведна з Бібліяй восем гадоў. Адпаведна з прамым злічэннем ён павінен быў запанаваць у 393-394 годзе і закончыць сваю ўладу ў 402 годзе. Гэта амаль налягае на валадаранне Аркадзя, які паказаны пад імем Іааса і ў ліку багазмагальніцкіх цароў. Ён жа, відаць, паўтораны і тут, хаця час валадарання яго вызначаны тут толькі роўным восьмі гадам замест трынаццаці.

«Ён хадзіў шляхамі багазмагальніцкіх цароў, – паведамляе другая Кніга Цары, – таму што дачка Ахава была яго жонкай (паралельна ўладалюбнай Еўдаксіі, жонцы Аркадзя). Пад час яго дзён аддзялілася Ідумея (г.азн. Заходняя, лацінская частка), паставіла над сабой свайго цара. Ён пахаваны ў Горадзе Міру (Цар-Горадзе). Вось і ўсё пра Аркадзя гэтым разам, але сьледам за тым мы бачым яго ж паўтораным у выглядзе Іааса – Полымя Боскага ў наступнай блытаніне.

У радаводзе Езуса (у першай частцы Евангелля Мацьвея) паведамляецца, што сынам богаслявячага Іарама быў Озія, а сынам Озіі Іатам. А ў біблейскай кнізе «Цары» замест аднаго Озіі паслядоўна ўстаўлены паміж Іарамам і Іатамам цэлых чатыры цара: Ахазія, як сын Іарама, Іаас як сын Ахаіі, Амазія як сын Іааса, Азарыя, як сын Амазіі і, нарэшце, Іатам, як сын Азарыі, ён жа Озія. Акрамя таго, паміж Ахазіяй і Іаасам дададзена яшчэ ўзурпатарша Эталія, маці Ахазіі, быццам бы захапіўшая ўладу ў Іааса. Адпаведна гэтай блытаніне, пры храналагічным супастаўленні дынастый богаслаўскага царства з багазмагальніцкім, адбыўся зрух храналогіі, які гебраіст Hales вызначае роўным 11 гадам.

Ужо адна гэтая акалічнасць паказвае нам, што тут мы маем справу з больш позняй тэндэнцыйнай перапрацоўкай і таму было б цяжка супаставіць чатырох дададзеных цароў з рэчаіснымі візантыйскімі, пасьля Аркадзя. Тут можна задацца толькі пытаннем: адкуль узялося такое дадаванне? А адказаць на такое пытанне можна толькі адной здагадкай.

Ахазія, сын Эталіі і Іарама, забіты паўстаўшым Іуем-Еговай на працягу першага ж года пасьля свайго ўцаравання, не знаходзіць сабе рэчаіснага прадстаўніка ў гісторыі і таму павінен лічыцца дададзеным толькі як рамантычная падрабязнасьць першапачатковай легенды, сутнасць якой у наступным. Эталія (ЭТЛ-ІЕУ, што па-жыдоўску азначае Адтэрміноўка Грамабоя), пазначае царкву, ўзурпаваўшую дзяржаўную ўладу. Яна, згодна з дадаваннем існуючым толькі ў «Словах Дзённых» (Параліпаменоне II, XI, 1-20) забівае ўсіх дзяцей свайго сына, але верная богу царква «Сядміца Грамабоя» (ІЕУ-ШБЕ), сястра Ахазіі, таемна хавае яго малалетняга сына Іааса ў сваім спальным пакоі разам з яго карміцелькай.

Яго хаваюць на працягу 6 гадоў у сядзібе бога, а на сёмы год сьвятар Багазорац (Іадай) бярэ сотнікаў і бегуноў, паказвае ім гэтага сямігадовага дзіцёнка і кажа:

– «*Атачыце вашага цара з усіх бакоў, кожны са зброяй у сваёй руцэ, і забівайце кожнага, хто пажадае прайсьці праз вашы шэрагі*.

*Усё закрычалі з воплескамі:*

*– Жыве цар!*

*Узурпатара Эталія, пачуўшы галасы бягучага народа, пайшла паглядзець у храм Грамабоя. І, вось, цар стаіць там каля слупа адпаведна са старым звычаем, і побач яго князі і трубачы, а ўвесь народ вяселіцца.*

*З крыкамі: «змова! змова!» яна разадрала свае адзенні.*

*– Выведзіце яе! – загадаў Багазорац.*

*Яе правялі праз конскі ход да палаца, і там яна была забіта, а Багазорац аформіў запавет паміж царом і Грамабоем, каб яго народ быў народам Бога. Усе пайшлі потым у сядзібу Юпітара, разбурылі яе, паламалі ўсе яго выявы, а яго жраца на імя «Дарунак» забілі перад яго ахвярнікам. Іаас, прыйшоўшы дадому, сказаў:*

*– Усё срэбра, колькі каму прыйдзе на сэрца, нясіце ў сядзібу Грамабоя. Хай бяруць яго сьвятары ад сваіх знаёмых і выпраўляюць кожнае пашкоджванне.*

Але таму што да 23 года яго валадарання сьвятары не выправілі пашкоджанняў, а марнавалі срэбра, то ён з Іадаем зрабіў скрыню з адтулінай і паставіў яе каля ахвярніка па правы яго бок. І калі срэбра там збіралася шмат, прыходзіў туды царскі пісар з першасьвятаром, яны даставалі срэбра і аддавалі будаўнікам, якія працавалі ў храме. Нехта Богаглядзячы (камета?), цар пярсідзкі (із Пярсея?), пайшоў у гэты час на «Вінаграднае тачыла» і меў жаданне аблажыць горад Давыда, але Іаас узяў усё золата, знойдзенае ў скарбніцах сваёй сядзібы і свайго храма, і адкупіўся ім ад яго. Вораг адышоў, але служкі Іааса пазьней наладзілі змову і забілі Іааса па дарозе на 40-м годзе яго валадарання. Яны ўцаравалі яго сына Амазію (што азначае «Бадзёрасць Грамабоя»), і ён валадарыў 29 гадоў, ідучы адпаведна з добрымі слядамі свайго бацькі. Толькі народ і пры ім здзяйсняў ахвяры і каджэнні на вышынях (пірамідах). Але і супраць Амазіі праз 15 гадоў наладзілі змову яго прыдворныя, і забілі яго, уцараваўшы яго сына Азарыю. Гэты, – паведамляе Біблія, – валадарыў цэлых 52 гады ў Сьвятым Горадзе і рабіў годнае ў вачах Грамабоя, хаця вышынь (г.азн. пірамід) не скасаваў. За гэта бог наслаў на яго праказу, і ён пасяліўся ў лякарні да канца свайго жыцця. Народам кіраваў яго сын Іатам, шаснаццаць гадоў валадарыўшы ў горадзе Ўмілаванага» (ІІ Ц., XV, 15). А ў 15 радку той жа кнігі «Цары» Іатам называецца ўжо не сынам Азарыі (ЭЗР-ІЕ), а сынам Озіі (ЭЗ-ІЕУ), ўзяўшымся невядома адкуль. У «Словах Дзённых» гэта непаразуменне выпраўлена і Азарыя пераназваны ў Озію, хаця ЭЗ па-жыдоўску азначае «дапамога», а ЭЗР – моц. Зусім іншага кораня!

Тут заканчваецца блытанае дадаванне, замяшчаючае некалькімі царамі аднаго Озію ў радаводзе Мацьвея. Яно відавочна дапісана ўжо пасьля стварэння Евангелля Мацьвея, г.азн. не раней Х стагоддзя нашай эры, бо інакш немагчыма ўявіць, каб такі набожны аўтар, як Мацьвей, адважыўся б прапусьціць із біблейскіх кніг у радаводзе самага Езуса некалькіх продкаў, із якіх Іаас быў нават выключна набожным сярод усіх астатніх цароў. А дапусьціць памылку ў Мацьвея немагчыма, таму што ў радку 17 гл. І ён паказвае і іхную суму: ад Давыда да перасялення ў Вавілон 14 пакаленняў (а не 17, як атрымліваецца у кнізе Цары і ў Параліпаменоне).

У чым жа сэнс гэтага пасьля-Мацьвеева дадавання ў Біблію?

Сьвятар Богабачачы, зрынуўшы ўзурпатаршу «Адтэрміноўку Боскую» і заступаўшыся за непаўналетняга «Боскае Полымя» (Іааса), храналагічна і якасна налягае зноў жа на таго ж Яна Залатавуста, змагаўшагася з Еўдаксіяй, ўзурпаваўшай уладу свайго слабахарактарнага чалавека Аркадзя, і цалкам прыбраўшай яго ў свае рукі. Тут алегорыя зразумелая. Цар «Полымя боскае» – гэта Аркадзь, тое ж, што і Іарам Юдэйскі, а выратаваўшая яго сястра Сядміца Грамабоя – гэта богаслявячая царква. Узурпатарша «Адтэрміноўка Грамабоя» – гэта Еўдаксія, увасабленне варожай Залатавусту секты дзяржаўнага візантыйскага сьвятарства і прыхільнікаў Мікалая Цудадзея. З той жа Еўдаксіі спісана ў кнізе «Багазмагальніцкіх Цароў» Ізабэль – жонка Ахава-Валента, евангельская Ірадыяда, загубіўшая Яна Хрышчэльніка. Апошні цар гэтага блытанага месца Азарыя,

раптоўна замяняючыся, як у сне, Озіяй, пад канец свайго валадарання храналагічна налягае на Хвядоса II, валадарыўшага таксама каля 50 гадоў (401-450) спачатку як суваладар Аркадзя, і гэта падмацоўваецца і прароцтвам Амоса, «Пастуха Трубы» (каметы 418 года), прадказаўшага знакамітае сонечнае зацьменне 19 ліпеня 418 года «пад час дзён Озіі, цара Юдэйскага» (Амос, I, 1).

Сярэдні ж цар Амазія-Бадзёрасць Грамабоя – заходзіць клінам паміж Аркадзем і Хвядосам II, не знаходзячы сабе рэчаіснага прадстаўніка ў рамейскай гісторыі.

Мне здаецца, што кампілятар II кнігі «Цары», складаючы яе карыстаўся асобнымі нататкамі на асобных лістах, пераблытаў іх і памылкова паставіў лісток Амазіі раней лістка Азарыі (Хвядоса II), тады як патрэбна было пакласьці лісткі наадварот, паставіўшы Амазію на месца наступніка Хвядоса II, Маркіяна (450-457), і зрабіць яго такім чынам сучаснікам Валентыніяна III у Італіі (423-455). Тады і Звер із Белай Гары (Mont Blanc, Манблан) выявіцца Атылай, які ў 452 годзе разбурыў Аквілею на поўначы Італіі, перамогшы дасланае дзеля яе абароны войска Маркіяна. Пазначым, што Маркіян з часоў Хвядоса II плаціў гунам даніну і бітва з Атылай пераіначылася тут у бітву з багазмагальнікамі. Пры Маркіяне ж быў склікан ў 451 годзе Халкідонскі сусьветны сабор хрысьціянскага сьвятарства, асудзіўшы монафізіцтва, якое было прызнана дзяржаўным веравучэннем у 449 годзе на так званым «разбойніцкім саборы» ў Ефесе пад час апошняга года Хвядоса II (г.азн. Азарыі, «пакаранага праказай»). У гэтым выпадку мы пазбягаем патрэбы пераназываць Азарыю ў Озію, як зроблена ў Кнізе «Словы Дзённыя». Озіяй выяўляецца Амазія, імя якога азначае тое ж самае, што і Озія: Магутнасць ці Ўмацаванне Бога, і адновіцца парушаны паралелізм рамейскіх і багаславячых цароў, асабліва калі мы будзем лічыць, што да гадоў валадарання Амазіі-Озіі дададзена па апісцы 20 гадоў (29, замест 9).

Паглядзім і далей.

Пасьля Маркіяна на візантыйскі пасад уступіў Леў I, невядома чаму празваны «вялікім». Ён валадарыў каля 17 гадоў ад 457 да 474 года і адбіўся ў Бібліі пад імем «Правяднік Боскі» (Іо-Там), валадарыўшы 16 гадоў. Ён пабудаваў, – паведамляе кніга «Цары» (XV, 35), – верхнюю браму ў сядзібе бога-Грамабоя, але і пры ім, нягледзячы на яго асабістую набожнасць, народ прыносіў ахвяры і каджэнні на ідалаўшаноўваючых пірамідах (БМЕ). Больш нічога пра яго не паведамляецца.

Пасьля яго па візантыйскі пасад уступіў Зянон, таму што быў адружаны з Арыяднай, дачкой Ільва I. У 474 годзе ён зрабіўся рэгентам свайго малалетняга сына Ільва, але пасьля яго хуткай сьмерці абвясьціў сябе імператарам. Яго адразу ж пасбрабаваў пазбавіць пасада супернік Васіліск, але праз год ён зноў вярнуў пасад і стаў вядомы ў царкоўнай гісторыі сваім эдыктам «Энатыконам» (432 г.), загадваючым ўсім не пачынаць ніякіх спрэчак пра монафізіцтва Езуса. Потым гэты эдыкт быў асуджаны папай Феліксам II і канстантынопальскі патрыярх Акакій, прыхільнік гэтага эдыкта, быў адлучаны ад царквы. Зянон валадарыў 16-17 гадоў, паміж 474 і 491 гадамі, і пад час першых жа годаў яго валадарання Заходне-Рымская частка імперыі ўпала пад нашэсьцем Адаакра-Салманасара.

У Бібліі ён адбіўся пад імем «Валадара» (Ахаза), ужо без дадавання слова «Боскі» (Ахаз-Ія), як бачым для іншых цароў.

«*Ён хадзіў,* – паведамляе Біблія, – *шляхамі цароў багазмагальніцкіх і нават сына свайго правёў праз полымя, пераймаючы брыдоты народаў, якіх Грамабой адрынуў ад*

*сваёй асобы. Ён прыносіў ахвяры і каджэнні ў ідалашануючых храмах, і на Вышынях* (пірамідах) *і пад кожным зялёным дрэвам*.

Арамейскі цар, на імя Імклівы (**РЦІН**) пайшоў на яго разам з багазмагальніцкім царам, каб заваяваць Сьвяты Горад. Яны трымалі яго ў аблозе, але не здолелі ўзяць, а ідумеяне ўступілі пад час яго дзён у Элат (**АІЛІТ**), дзе і жывуць «да сёняшняга дня». Ахаз паехаў да Пачвары-Перасяленца, цара Краіны Цяляці, з золатам і срэбрам, якое знайшлося ў сядзібе Грамабоя і ў скарбніцах царскай сядзібы, кажучы:

– «*Я сын і раб твой. Прыйдзі і абарані мяне ад цара Багазмагальнікаў і ад «Імклівага*».

Цар Краіны Цяляці паслухаўся яго, узяў Дымішк, перасяліў яго жыхароў у Кір (на р. Куру?), а «Імклівага» забіў. Прыехаўшы да Пачвары-Перасяленца, цар-Валадар пабачыў там ахвярнік і выправіў яго малюнак і выяву да першасьвятара Урыі (г.азн. Боскага Адкрыцця), каб ён пабудаваў такі ж у Храме Грамабоя і, вярнуўшыся, асабіста прынёс на ім у ахвяру прасвіркі і свечкі і абрасіў яго крывёй мірнай ахвяры, а медзяны ахвярнік, стаяўшы перад тварам Грамабоя, перасунуў і паставіў узбоч свайго новага ахвярніка, на поўнач ад яго, каб ён застаўся бяздзейным да далейшага распараджэння.

Ці можна лічыць, што легенда пра ахвярнік навеяна Энатыконам Зянона і што пад Пачварай-Перасяленцам патрэбна тут разумець Адаакра?

ТАБЛІЦА XXIII

Паралелізм часоў валадарання ўсяго шэрага паслядоўных цароў багаславячых (па-жыдоўску – юдэйскіх) з усім шэрагам паслядоўных рамейскіх цароў да пачатку агаранства (адпаведна з усходне-рымскім злічэннем).

| | Число лет царствования царей богославных (иудейских) 60 55 50 45 40 35 30 25 20 15 10 5 | | Число лет царствования царей православных (восточных) 5 10 15 20 25 30 35 40 45 50 55 60 |
|---|---|---|---|
| 8-я дин. египтологов. | Начало царства богославного (иудейского). | | Начало эллино-сирийско-египетской (ромейской) теократии. |
| | Ровоам 17л. | | 17л. Лициний (307-324) |
| | Аб-Ие (т.е. Отец Господа Бога) 4г. | | 9 л.? „Сын Лициния" (324-333) |
| | Аса (Иисус) 41г. | Рождение Иисуса 21 марта 368 года | 45 л. „Великий Царь" (Василий Великий; 333-378) |
| | Иосафат 25л. | | 17 л. Феодосий Великий (378-395) |
| | Иорам с нечестивой женой. „Отделение Эдома 8л. | Появление Апокалипсиса. | 13 л. Аркадий с нечестивой женой. „Отделение Зап. Империи" (395-408) |
| | Четверо вставных „Израэльских" царей. | | Четверо вставных Западно-Римских царей. |
| 10-я династия египтологов. | Озия (?)50л. | Амосово Солнечное затмение 19 июля 418 г. | 41г. Феодосий II Законодатель (408-400) |
| | Пропущен | | 7л. Маркиан (450-457) |
| | Иотам 16л. | Весна Вавилонских пророков | 17л. Лев I (457-474) |
| | Ахаз 16л. | | 17л. Зенон (474-491) |
| | Езекия 29л. | Страшная чума в Константинополе | 27л. Анастасий (491-518) |
| | Манассия 55л. | Комета Даниила 568 г. Постройка Храма Мудрости в Царь-Граде. | 60л. Три Юстина под ряд (518-578) |
| | Пропущен | | 4г. Тиверий (578-582) |
| | Амон („Они") 2г. | | 20л. Маврикий (582-603) |
| | Узурпатор, убийца Амона. ? | | 7л. Фока Узурпатор, убийца Маврикия (603-610) |
| | Иосия 31г. | | 31г. Гераклий (610-641) |
| | „Ассирийцы" убили Иосию в Мессопотамии под предводительством Нево (Навуходоносора) | | Магометане отняли у Гераклия Египет под предводительством Халифа Омара |
| | Иоахаз 3мес. | | 3мес. Константин III (641) |
| | Иоаким 11л. | | 27л. Констанс (641-668) |
| | Иоаким II 3мес. | | Отсутствует |
| | Седекия 11л. | | 11л. Константин-Паганат (668-679) |
| | Подчинение земли Иудейской Нево (Навуходоносору). | | Подчинение Сирийских владений Вост. Империи Моавию-Халифу (679) |

Яго наступнік Анастас I, запанаваўшы ў Канстантынопалі пасьля Зянона і валадарыўшы 27 гадоў (ад 491 да 518 г.), вядомы ў хрысьціянскіх крыніцах больш за ўсё тым, што абудзіў у сьвятарскім асяроддзі закалоты сваім заступніцтвам

монафізітам, прызнаваўшых у Езуса толькі адну ўвасобленую боскую сутнасць, як гэта было ўсталявана на так званым «разбойніцкім саборы сьвятарства» ў Эфесе ў 449 годзе.

Яго адлюстраванне ў Бібліі «цар Умацаванне Грамабоя» (Іезекія) зацараваў, адпаведна з яе сведчаннем, на 30-м годзе свайго жыцця і валадарыў (адпаведна з кнігай «Цары») 29 гадоў. Ён абвяшчаецца там самым набожным із усіх цароў, вымушаючы гэтым лічыць, што кнігу «Цары» пісаў монафізіт.

«*Ён скасаваў піраміды* (БМУТ), – паведамляе яна (XVIII, 4), – *спыніў служэнне Астарце*[220], *пабіў Медзянага Змея, якога зрабіў Майсей, і якому да яго дзён кадзілі дзеці багазмагальніка, называючы яго медзяніцай*.

Ён спадзяваўся на Грамабоя, бога богазмагальнікаў, і такога цара, як ён, не было паміж усімі царамі богаслаўцаў, ні да, ні пасьля яго. Бог-Грамабой заўсёды быў з ім, і ён меў поспех, куды б ні хадзіў. Ён адмовіўся плаціць даніну цару Правадыру (АШУР) і перамог прыхадняў (ПЛШТІН).

«*На чатырнаццаты год яго валадарання* (такім чынам, атаясамляючы яго з Анастасам, каля 505 года нашай эры) *прыйшоў*, – паведамляе Біблія, – *Востры Меч* (СНЕ-ХРБ), *цар Зямлі Валадара і захапіў умацаваныя гарады краіны богаславячых* (камета ў Задыяку).

*– Я саграшыў*! *– сказаць яму Езекія. – Адыдзі! Я прынясу ўсё, што прызначыш мне*.

*Той прызначыў 300 талентаў срэбра і 30 золата. Езекія аддаў яму ўсё, што знайшлося ў яго палацы і ў сядзібе Бога, абадраўшы нават яе дзьверы. Але Востры Меч выправіў да яго трох пасланнікаў* (планет), *якія паведамілі голасна перад усім народам*:

*– Слухайце слова вялікага цара, цара Краіны Правадыра! Так кажа ён: хай не абнадзейвае вас Езекія: ён не можа выратаваць вас ад маёй рукі. Заключыце са мной хаўрус, перадайцеся мне, і тады хай кожны есь плады сваёй смакаўніцы і вінаграднай лазы і хай п'е ваду са студняў, пакуль я не прыйду і не забяру вас у такую ж зямлю, як і ваша, у зямлю пладоў і вінаграднікаў, маслін і мёду, дзе будзеце жыць і не памрэце. Ці выратавалі багі іншых народаў свае землі ад рукі цара-Правадыра, каб вы маглі думаць, быццам бы Грамабой выратуе ваш горад ад маёй рукі*»?

*Народ маўчаў. А Езекія разадраў свае адзенні, апрануўся ў плахту, зайшоў у сядзібу Грамабоя, і выправіў начальніка палаца, пісара і старэйшых сьвятароў да прарока Ісаі* (XIX).

*А Ісая загадаў адказаць яму:*

*– Так кажа Грамабой, Бог Богазмагальніка, цару Вострыму Мячу: занядбала цябе і пасмяялася над табой Панна, дачка Пуцяводнага Знака. Яна пакруціла галавой услед табе. Каго ты бэсціў? На каго ты так высока падняў свае вочы? На багазмагальніцкага сьвятога* (сузор'е Авена). *Са сваімі шматлікімі калясніцамі ты падняўся на вышыню гор, на хрыбет Белай гары і прамовіў: «Я ссяку яго высокія кедры і выдатныя кіпарысы і прыду ў гай саду яго*». *Але за тое, што пыха твая дайшла да маіх вушэй, я пакладу мой пярсцёнак у твае ноздры і мае цуглі ў твой рот і вярну цябе на тую ж дарогу, якой ты прыйшоў*».

(Да гэтага моманту, чытач, яшчэ можна было лічыць, што тут – нейкі чыста гістарычны раман. А вось, далей ужо відавочна, што гэта раман – астралагічны, і вострым мячом названа камета.)

---

[220] קרת את־ה־אשרה (КРТ АТ-Е-АШРЕ) – скасаваў культ Ашэру. Слова Ашэра, уласна кажучы, азначае: даючая асалоду, багіня асалоды. Сугучна з Астартай (עשתרת) – планетай Венерай, ад ЭШТ (עשת) – ззяць. Адсюль эпітэт עשתרות קרנים (ЭШТРУТ КРНІМ) – Астарта праменяносная. Акрамя таго, яна ж мае значэнне багіні прыплоду, і ў яе гонар пры храмах здзяйсняліся адзюльтэры, верагодна са сьвятарамі, у асобных намётах (II Цары, XXIII 6-7).

*І здарылася так, што ў тую ж ноч анёл Грамабоя ўразіў* (дадждом метэарытаў-дзідаў) *сто восемдзесят тысяч у стане Краіны Правадыра. Раніцай падняліся і вось усе яны мёртвыя. «Востры меч» вярнуўся ў «Шыкоўную сядзібу»* (НІНУЕ), *і калі ён схіляўся ў сядзібе Бога-Арла* (Сонца, сядзібай якога быў Леў), *яго ўласныя сыны забілі яго мячом, а самі збеглі ў Арарацкую Зямлю* (АРЦ АРРЕ).

Як разумець гэтае апавяданне пра цара «Востры меч», у міфічным характары якога наўрад ці ў каго-небудзь узнікнуць сумневы?

Разглядаючы нябесныя з'явы часоў Езекіі-Анастаса (491-518), мы не можам не звярнуць увагу на тое, што якраз у гэты перыяд, у 501 годзе, існуюць два запісы ў знойдзеным у Кітаі летапісе, вядомым пад назвай «Лясны Конь» (Ма-Туан-Лінь). Першы запіс паведамляе, што назіралася камета на гарызонце ў лютым 501 года пры сонцы ў Вадаліве. А другі запіс, што бачылі камету ў красавіку пры Сонцы ў Авене. Само сабой зразумела, што гэта была адна і тая ж камета, назіраўшаяся на працягу трох месяцаў, ад лютага да траўня. Ход яе па сузор'ях не паказаны, а біблейскае апісанне сведчыць за тое, што яна выйшла із-за сонца, знаходзіўшагася ў Вадаліве, г.азн. упершыню з'явілася ў Рыбах, потым у Авене (зямлі Правадыра), прайшла па Цяляці, Двайнятах, Раку і Ільву. У ім яна і знікла перад пасмяяўшайся над ёю Паннай праз тры месяца бачнасьці, якія ўвасоблены ў вобразе трох пасланнікаў «Вострага мяча» з іхнымі пагрозамі.

Такое заканчэнне мае чароўная казка пра Езекію-Цвёрдасць Грамабоя. Мы бачым тут і прарока Ісаю, час кнігі якога мы ўжо вызначылі астранамічным шляхам прыпадаючым на 451 год нашай эры. Ці магчыма, што аўтар дажыў і да 501 года? Чаму ж і не? Яму ў гэты час магло б быць гадоў восемдзесяць, а гэта далёка не выключны ўзрост. Гэта азначае, што час Езекіі, як налягаючага храналагічна на Анастаса, падмацоўваецца і астранамічным шляхам. Што ж да таго, што ў кнізе «Цары» ён згадваецца ў якасьці сучасніка багазмагальніцкага Осіі (II Ц., XVIII, 9), г.азн. Рамула-Аўгустула, зацараваўшага адпаведна з хрысьціянскімі крыніцамі за 16 гадоў да яго ўцаравання, то гэты невялікі анахранізм лёгка патлумачыць адсутнасьцю вызначанай храналогіі пад час сярэдневечча.

Пасьля Езекіі, – паведамляе нам Біблія, – над багаслаўскім народам зацараваў дванаццацігадовы Манасія (**М-НШЕ**), імя якога адпаведна таму, як вымаўляць у ім жыдоўскую літару Ш, мае два значэнні. Пры вымаўленні Манасія гэта азначае: Вышэйшы Валадар, а пры вымаўленні Манашыя, як робяць зараз гебраісты, яно азначае «Забыты». Аднак, першае значэнне больш дапасуе да яго, таму што ён «зноў аднавіў ідалашануючыя цэрквы, знішчаныя яго бацькам, паставіў ахвярнік Юпітару, наладзіў гай Венеры, ушаноўваў увесь шэраг сьвятых і пабудаваў ім ахвярнікі ў абодвух дварах сядзібы Грамабоя». «Ён разліў шмат нявіннай крыві, правёў праз полымя свайго сына (як засьцярогу ад вулканічнага вывяржэння), варажыў і прызначыў выклікальнікаў памёршых (XXVI, 6)».

– «*За гэта*, – сказаў пра яго Грамабой праз сваіх пракракаў, – *я навяду такое зло на Сьвяты горад, што зазвініць у абодвух вушах у слухаючага пра яго. Я выдзяру яго так, як выдзіраюць зараснікі і раскідаюць іх, і аддам рэштку маёй долі на раскраданне і рабаванне ўсім яго непрыяцелям*».

Час валадарання Манасіі пазначаецца выключна доўгім – роўным 55 гадам. І якраз у адпаведнасьці з гэтай даўгавечнасьцю, яго аналагам на нашай дыяграме (стар. 377) з'яўляецца вельмі шматгадовы імператар Юстыніян. Згодна з хрысьціянскімі крыніцамі, ён быў сынам ілірыйскага селяніна Юстына (што

адпаведна з сэнсам слова: «справядлівы» неадрозніваецца ад Юстыніяна, і таму ён лёгка мог быць аб’яднаны з ім, асабліва па-жыдоўску). У 518 годзе, калі яго высокаадукаванаму пляменіку Юстыніяну было ужо 35 гадоў, Юстын зрабіўся візантыйскім імператарам, прытым яго пляменік, відаць, быў ужо яго суваладаром, таму што ў Бібліі мы бачым іх абодвух аб’яднанымі ў адну асобу – Манасію. Акрамя таго, мы не павінны забывацца на тое, што пад час сярэдневечча не існавала звычая пазначаць аднайменных валадароў нумарамі: першы, другі і г.д., а таму і пры пераемнасьці трох Юстынаў ці Юстыніянаў пад час гэтага перыяда Рамейскай гісторыі, калі Юстыніяну папярэднічаў аднайменны дзядзька (Юстын 518-527) і ўспадкаваў (565-578) аднайменны пляменік (Юстын жа), яны ўсе тры лёгка маглі быць аб'яднаны на жыдоўскай мове ў аднаго, быццам бы валадарыўшага каля 59-60 гадоў, ад 518 да 578 года.

Абодва крайнія Юстыны нічым не выдаваліся, але затое сярэдні із іх, Юстыніян, час самастойнага валадарання якога можна пазначыць ад 527 да 565 года, быў адным із самых выбітных дзеячаў у візантыйскай гісторыі. У 532 годзе ён жорстка ўтаймаваў паўстанне ў Цар-Горадзе, што і дало нагоду да біблейскага выказвання, што яго псеўда-двайнік Манасія «разліў шмат нявіннай крыві». У 534 годзе ён падпарадкаваў царства вандалаў у Афрыцы і ў 553 годзе перамог остготаў у Сярэдняй Яўропе, але больш усяго ён выдаецца складзеным пры ім пад кіраваннем Трыбаніяна, зборам законаў «Codex Justiniani», г.азн. таго, які зараз мае назву «рымскае права». Нам кажуць, што ў гэтым кодэксе астролагі былі прыраўнаны да атрутнікаў, а тым часам яны і былі галоўнымі складальнікамі большасьці кніг Бібліі і таму зразумела, што і ў кнізе «Цары», адпавядаючы яму Манасія абвешчаны вялікім грэшнікам, а пабудаваныя ім цэрквы – ідалаўшаноўваючымі. Цалкам у пагадненні з біблейскім апісаннем, Юстыніян пабудаваў вельмі шмат храмаў і, між іншым, знакаміты Храм Мудрасьці (Сафіі) у Цар-Горадзе, які даў нагоду да падання пра Храм Саламона, таму што ён і да гэтага часу называецца туркамі: Храм Сулеймана. Такім чынам, адпаведнасць візантыйскага цара з храналагічна налягаючым на яго біблейскім тут вельмі поўная, нягледзячы на тройцу Юстынаў у адным Манасіі.




Пасьля сьмерці Манасіі, – паведамляецца ў XXI главе кнігі «Цары», – над богаслаўцамі зацараваў яго сын Амон, імя якога азначае «Справядлівы», а па-грэцку якраз «**Юстыніян**» ці «**Юстын**». Адсюль атрымліваецца, што адпаведна з біблейскай традыцыяй толькі-што згаданы «Кодэкс законаў» напісаны не Юстыніянам, а яго наступнікам, маючым па-жыдоўску найменне Амон, як зваўся і бог-бацька, Юпітар (Юпітар-Амон, г.азн. Юпітар Справядлівы). І цікавае супадзенне! Яго імя фігуруе і ў клінапісах, як імя заканадаўцы. Згадайце толькі знакаміты кодэкс законаў Хаму-Рабі (больш дакладна Амму-Рабі, г.азн. Амона-Настаўніка (але пра яго я буду падрабязна распавядаць толькі ў наступным томе). Гэта азначае, Манасія і Амон – адна і тая ж асоба. Але тут выйшла блытаніна: яму дадзены час валадарання роўны толькі 2 гадам, што больш усяго адпавядае згодна з нашай дыяграмай Тыберыю (578-582), але, хутчэй, дзякуючы сугучнасьці з **ЕМУН** (המון) – «яны», гэтае імя адразу замяшчае сабой трох рамейскіх цароў: Тыверыя (578-582), Маўрыкія (582-603) і Факу (603- 610). Сумарнае іхнае валадаранне – 32 гады, скарочана ў ім усяго да 2 гадоў. Падобна свайму бацьку, – паведамляе кніга «Цары», – ён рабіў непрыемнае ў вачах бога-Грамабоя і служыў выявам, як яго бацька. Адзін із яго прыдворных забіў яго ў палацы (і, вядома, сёў на яго месца), але народ перабіў усіх браўшых удзел у змове супраць Амона і пасадзіў на пасад Ёсію, яго сына.

Із адпавядаючых гэтаму біблейскаму «адзінству трох візантыйскіх цароў», Тыверый характарызуецца ў хрысьціянскіх крыніцах як імкнучыся да скасавання грамадзкай бязладзіцы ў краіне, а Маўрыкій як пазьней пазбаўлены пасада сваім набліжаным Факой, сеўшым замест яго на 7 гадоў.

Успадкаваўшы Факу Гераклій (610-641) валадарыў 31 год. Уціскаемы персамі і аварамі ён быў вымушаны адмовіцца ад яшчэ належаўшых Візантыі гішпансіх уладанняў. У 620 годзе ён купіў мір у авараў, рассяліўшыхся да таго часу ад Паўднёвай Расіі да берагоў Дуная. У 628 годзе ён здзейсніў шэраг паходаў на персаў і адкінуў іх у Месапатамію, але каля 632 года паўстаўшыя перад гэтым (у

622 г.) агаране аддзялілі ад Рамеі Сірыю, Месапатамію і Ягіпет і абвясьцілі прадметам свайго ўшанавання аскепкі метэарытнай катастрофы ў Мецы ў Аравіі.

Гераклій адбіўся ў біблейскай гісторыі багаслаўскага народа набожным царам Ёсіяй, імя якога азначае «Полымя-бога-Грамабоя». Ён, – паведамляюць нам, – валадарыў таксама 31 год, «не ўхіляючыся ні направа, ні налева ад шляху Давыда, свайго бацькі». Пад час яго дзён Міц-рымскі цар Нехао (падобна на грэцкае нікао (νικάω) – перамагаю) пайшоў супраць цара зямлі Праваднра на раку Прут (פרת), лічымую гісторыкамі замест Дуная-Прута за Еўфрат.

«*Полымя бога-Грамабоя*» (Ёсія) *выступіў супраць яго* (ці за яго), *але быў забіты* (XXIII, 29) *у гэтай вайне*».

Імя Ёсія (**І-АШ-ІЕУ**) азначае тое ж, што і Іаас (**ІЕУ-АШ**) і цікава, што да толькі-што прыведзенай кароткай фактычнай біяграфіі Іааса дададзена тая ж самая легенда, як і да біяграфіі ўжо апісанага намі дадатковага Іааса (гл. стар. 377 гэтай часткі). Той зацараваў сямі гадоў, а гэты – васьмі. Той загадаў сьвятару Ідаю (што азначае Багазорац), каб ён разам з пісарам цара забіраў са скрыні ахвяраванні ў храме бога-Грамабоя ў выглядзе назапашанага там срэбра і, пералічыўшы яго, аддаваў працаваўнікам для выпраўлення храма, не патрабуючы ў іх справаздачы, таму што яны сумленныя (XII, 16). А гэты, аднайменны з ім цар, дакладна так жа дае праз пісара загад свайму сьвятару Хелкію (што азначае «Доля Боская»), каб ён «забраў усё срэбра, прынесенае ахвыравальнікамі ў храм бога-Грамабоя, і перадаў яго ў рукі працаўнікам для выпраўлення пашкоджванняў і не патрабаваў у іх справаздачы, таму што яны дзейнічюць сумленна (XXII, 7).

Абодва выказваюць адны і тыя ж фразы, але ў другім апавяданні дададзена і новая дэталь:

«*Першасьвятар у храме бога-Грамабоя знайшоў у ім новую Кнігу Закона* (верагодна, агаранскі статут) *і прачытаў яе перад царам. Цар разарваў свае адзенні, пачуўшы словы гэтай кнігі, першасьвятар жа пайшоў да прарочыцы Хелды* (сугучна са словам Халдэй), *і яна сказала:* «*Так кажа бог-Грамабой: навяду на гэтае месца ўсе словы, якія вы чыталі ў кнізе за тое, што жыхары яго пакінулі мяне і кадзілі іншым багам. А цару паведамі: «за тое, што памякчэла тваё сэрца, калі ты пачуў, што тваё месца будзе прадметам жаху і праклёну, і за тое, што ты разадраў свае адзенні і плакаў перад мной, не пабачаць вочы твае гэтага бедства*» (XXII, 20).

А ў наступнай главе (II Цары, XXIII) апісваецца шмат у чым амаль тымі ж словамі, як і ў біяграфіі цара Езекіі, знішчэнне Іаасам куміраўшанавання. Ён звольніў сьвятароў пірамід (**БМЕ**) «*кадзіўшых сонцу і месяцу, сузор'ям і ўсяму нябеснаму ваярству* (XXIII, 5), *разбурыў каля боскіх храмаў, блудзілішчныя намёты, якія ткалі жанчыны для культа Астарты-Венеры* (XXIII, 7)». «*Ён паведаміў усяму народу: наладзьце вялікдзень Грамабою, богу вашаму, як напісана ў знойдзенай кнізе Запавету, таму што не здзяйсняўся такі вялікдзень на працягу ўсіх дзён цароў багазмагальніцкіх і багаславячых*» (II Цары, XXIII, 22).

І я ўжо згадваў, што ўпершыню вялікдзень (г.азн. сьвята літасьці[221]) храналагічна супадае з эрай агаранскай геджры, г.азн. з эрай збягання ў 622 годзе, на 12-м годзе валадарання Гераклія, ён жа біблейскі цар «Полымя бога-Грамабоя». Атрымліваецца, што абодва паданні – адно і тое ж: Намёт «скініі запавету», вандраваўшы 40 гадоў па Аравійскай пустыні і пазней знікшы не пакінуўшы сьледу, існуе і зараз у выглядзе Мекскай «Каабы», а яе скрыжалі выяўляюцца аскепкамі метэарытнага каменя, здымак із якіх я размясьціў у VI томе «Хрыста».

[221] פסח (ПСХ) – літасць, таксама: пераход праз што-нібудзь, мінанне.

Толькі гэтая больш позняя легенда (пра другія скрыжалі, дадзеныя Майсею замест першых, атрыманых ім на Вязувіі-Сінаі, але пабітых пры выглядзе ідалаўшанавання яго народа), няправільна пастаўлена ў Быцці, як непасрэдны працяг падзей каля падэшвы вулкана. Але так часта здараецца ў легендарнай творчасьці, якая не звяртае ўвагі ні на месца, ні на час падзей, ляжачых у яе падмурку.

Пасьля забойства Гераклія, у Рамеі, – паведамляюць нам, – зацараваў у 641 годзе на тры месяцы яго сын Гераклій-Кастусь, а ў біблейскай «краіне богаславячых», аналагічна яму, зноў жа на тры месяцы зацараваў Іахаз, імя якога азначае Богаўласнік. Яго захапіў у палон той жа міц-рымскі цар Ніка (**НКЕ**), званы ў нас Нехао, і ён памёр у яго ў палоне, не пакінуўшы за сабой іншых сьлядоў у гісторыі. На яго месца Ніка-Няхао ўцараваў Эліакіма (г.азн. Бога-ўстойлівага), пераназваўшы яго ў Іякіма (Устойлівы бога Грамабоя), які пачаў плаціць яму даніну, размяркаваўшы яе на сваіх падданых і робячы «непажаданае перад Грамабоем, а Грамабой выпраўляў за гэта на яго процьму халдэяў (**КШДІМ**), арамейцаў, арабаў (**МУАБ**) і аманіцян (**ЭМУН**), каб прагнаць богаславячых ад сваёй асобы за непавінную кроў, якою продак Эліакіма Манасія напоўніў Сьвяты Горад (XXIV, 2).

А пра яго аналаг у хрысьціянскай гісторыі Канстанса II (641-668) грэцкія крыніцы паведамляюць, што ў 648 годзе каліф Асман забраў у яго вобласць Картагену, потым у 649 годзе Каір, а ў 654 годзе ён зведаў паразу ад арабаў паблізу берагоў Лікіі. Толькі ў 657 годзе ён падначаліў сабе, аднак, частку Славоніі і ў 663 годзе наладзіў сабе рэзідэнцыю ў Сіракузах, дзе і быў забіты.

**Гэты пераезд блізка да Італіі быў паказальным. Там тады існавала мала заўважаемае да таго часу глухое мястэчка Палатына, на беразе Тыбра. Але ў ім гэтак жа, як і ў Мецы, відаць, зваліўся буйны метэарыт, атрымаўшы назву апостала Пятра (г.азн. каменя-пасланніка), і дзякуючы гэтаму і там пачаў ствараццa буйны цэнтр пілігрымства, а разам з ім і культуры – сучасны горад Рым, уся ранейшая гісторыя якога з'яўляецца чыстым міфам, як я гэта ужо не раз даводзіў у V томе.**

А ў біблейскім апавяданні пра аналага Канстанса II – Іаахаза – мы чытаем, што пад час яго дзён уладу атрымаў цар Брамы Госпада (ББЛ), агаранскі Новы цэзар (Навуханосар[222], па-жыдоўску), і быў яму Іякім падуладным тры гады, але потым аддзяліўся ад яго. Асабліва пазначым, **што тут упершыню ў жыдоўскай Бібліі з'яўляецца слова «Брама Госпада» (па-жыдоўску – Вавілон**), але, відаць, ужо не ў дачыненні да пантыфікальнай рымскай царквы, а да агаранства, як дзяржаўнай рэлігіі Ўсходу, замяніўшага там месіянства-багаслоўе. Такім чынам, біблейскі Эліакім храналагічна адпавядае Канстансу, хаця б час валадарання

[222] Cruden дае Навуходаносару (Nebuchadnez-zar) значэнне «Стогны і слёзы асуджэння», ці проста; «Смутак суда», але з гэтым цяжка пагадзіцца. Па-жыдоўску мы маем נבו-ארדכ־צר (ІБУ-КДР-А-ЦР), і гэта згодна са Штэйнбергам складаецца, як і паказана тут, із трох слоў, дзе пачатковае НБУ чытаецца зараз НЕВО і пазначае Меркурыя, бога, вядучага запісы пра падзеі на небе і на зямлі (Ісая, XLVI, I). Але ці не лепш палічыць, што гэта проста слова: новы (nuovo) ці, яшчэ лепш, скарочанае Наўя (נביא) – прарок, як я і перакладаю тут. А канчатковае слова ЦР, бясспрэчна пазначае цара наогул і цэзара ў прыватнасьці. Гэтыя два словы не выклікаюць сумневаў. Штое ж да сярэдняга слова КДРА, ці згодна з іншай транскрыпцыяй КДНА, то Штэйнберг выводзіць яго ад kadr – магутны, хаця па-жыдоўску כדר (КДР) азначае – трывога. Але ці не лепш выказаць здагадку, што спачатку пісалася קדר (КДР) – цемнаскуры, як называюць агаранаў-ізмаэлітаў у кнізе Быццё (XXV, 13) і ў Ісаі (LX, 7 і XXI, 17). Сама ж арабская мова ў рабінаў завецца לשון קדר (ЛШУН КДР). Тады слова Навуходаносар будзе азначаць Агаранскі новы цэзар.

апошняга (27 гадоў згодна з візантыйскімі крыніцамі) з'яўляецца амаль утрая большым чым адзінаццацігадовае валадаранне Іаахаза згодна з Бібліяй.

Пасьля Іякіма на тры месяцы зацараваў – згодна з Бібліяй – над богаслаўцамі Іякім II, інакш Іехонія, што азначае Апраўданы богам Грамабоем (ІЕУ-І-КІН). Але ён зліваецца з Іякімам I, таму што таксама здаўся «агаранскаму цару-прароку» (званаму ў нашых напалову-перакладах Навухаданосарам), цару «Брамы Госпада», з усім сваім сямействам і прыдворнымі і рабамі. Узяўшы «Сьвяты Горад» на восьмым годзе свайго валадарання, Агаранскі «цар-прарок» забраў да сябе ўсіх мастакоў і дойлідаў, пакінуўшы ў горадзе толькі просты народ. Ён прызначыў цараваць над ім дзядзьку Іехоніі – Матанію (г.азн. Дарунак боскі), пераназваўшы яго ў Седэкію (што азначае Праведнік бога Грамабоя). І быў, – паведамляе кніга Цары (XXIV, 20) – «Аблічча божае[223] над сьвятым горадам і над усёй богаславячай краінай», што добра падмацоўваюць нашы супастаўленні біблейскіх і рамейскіх цароў. «Аблічча над краінай» без сумневаў была каметай, і якраз такую мы знаходзім ў летапісах камет, змешчаных у VI томе Хрыста. «У 667 годзе (г.азн. напярэдадні ўцаравання Седэкіі, – адпавядаючага Кастусю Паганату, 668-679) Ма-Туан-Лін адзначае ў траўні камету ў вобласьці Возніка і Цяляці, знікшую пад Пляядамі 12 чэрвеня.

Потым Халдэі[224] ці, больш правільна, Кушыты, г.азн. ягіпцяне, абложвалі той жа Сьвяты Горад Міру разам са сваім агаранскім царам-прарокам, абкапаўшы яго валам да адзінаццатага года валадарання Седэкіі. Пад час гэтага года і сам Седэкія і яго войска выбеглі ноччу прэч ад горада, але халдэі (ці кушыты) схапілі іх на дарозе і павезлі судзіць у Рыву, якую лічаць за сучасняе мястэчка Рыбле, каля ракі Аронта. Там яго прысудзілі да асляплення, закулі ў медзяныя ланцугі і завялі ў Браму Госпада», а потым праз некалькі гадоў спалілі ўсе лепшыя сядзібы Горада Міру, яго храм і палац, а ўсіх шляхетных і навукоўцаў перасялілі ў «Браму Госпада» (забыўшыся, што яны ўжо былі пераселены пры Іякіму II), і зноў пакінуўшы «толькі рольнікаў і працаўнікоў у вінаградніках».

Так, згодна з Бібліяй, скончыла сваё існаванне Богаславячае царства пры цару «Богадараваным», пераназваным у «Бога-праведніка». Тут жа мы знаходзім і цікавую перамену ў значэнні слова Вавілон (ББЛ). У Апакаліпсісе яно пазначала Рамейскую пануючую царкву, а ў толькі-што прыведзеных радках мы бачым ужо іншае ўжыванне гэтага слова. Пад Брамай Госпада (ББЛ) тут ужо мяркуецца агаранская царква, замяніўшая сабой ў Ягіпце і Заходняй Азіі візантыйскую. Яна і зрабілася пры Каліфах, г.азн. царах-прароках, дзяржаўнай царквой на Ўсходзе, пачынаючы ад Ягіпта і заканчваючыся Месапатаміяй, Аравіяй, Сірыяй і Малой Азіяй. Значэнне Брамы Госпада – як знака рэлігійнага прыгнёту – засталося ранейшым, але яна ўжо напоўнілася новым зместам, пры якім хрысьціянскія аўтары пачалі паказваць на апакаліптычны Вавілон, як на сінонім ісламу, і шукаць яго сталіцу ў Месапатаміі, замест Цар-Горада, ды і горад Міру (Ерусалім), як быццам бы, перайшоў ужо тады із Цар-Горада ў сучасны Эль-Кудс, г.азн. горад св. Іліі ў Палестыне. А гэта паказвае, што апошнія главы кнігі «Цары» напісаны вельмі позна.

Адпавядаючы Седэкіі апошні незалежны рамейскі цар Бібліі – Кастусь Паганат – валадарыў згодна з візантыйскімі крыніцамі, як і гэты, 11 гадоў (668-679)

---

[223] אף (АФ) – аблічча, твар.

[224] Па-жыдоўску КШДІ (כשדי) ці КУШДІ – больш сугучна з КУШІТ – верхне-ягіпцянін, эфіёп, – чым з халдэем, як звалі курдаў.

да падначалення часткі сваёй імперыі Маавіі Каліфу, заснавальніку дынастыі Амеядаў (біблейскаму Навухаданосару), уступіўшаму на пасад пасьля сьмерці Асмана ў 656 годзе, пра што я ужо паведамляў у агульным выкладанні Рамейскай гісторыі. А тут нагадаю толькі пра аднаго.

Імя Нево-Кадра-цар г.азн. Агаранскі цар-прарок, адпаведна са сваім сэнсам раўназначнае Каліфу[225], сустракаецца ў Бібліі яшчэ і ў прарокаў. Так, у прароцтве Ераміі (XXXII, 28) гаворыцца ад імя бога: «*Я аддам гэты горад* (Ерусалім) *у рукі кушытаў* (КШДІМ*) і ў рукі «Агаранскага цара-прарока», цара «Брамы Госпада*» (Вавілона). У прароцтве «Іезекііл» мы знаходзім (XXVI, 7) ад імя таго ж бога-Грамабоя: «*Прывяду супраць Цар-горада* (горада ЦР) *ад поўначы* (?) в*аладара «Брамы Госпада*» *Агаранскага цара-прарока, цара над царамі, з коньмі і калясьніцамі з вершнікамі і шматлікім народам… Капытамі коней сваіх ён здратуе твае вуліцы і будуць скінуты на зямлю помнікі тваёй магутнасьці* (XXVI, 12). Мы бачым, што тут ад імя старажытнага аўтара ўжо прадказваецца пагібель самаго Цар-Горада ад агаранаў, а таму і ўсё прароцтва даводзіцца лічыць складаўшымся паступова шляхам шматлікіх дадаванняў да першапачатковага ядра, уяўляўшага пашыраны пераклад Апакаліпсіса з грэцкай мовы на жыдоўскую. А ў прароцтве Суд Боскі (Дані-Іл) гэтае ж найменне «Агаранскі Цар Прарок» (г.азн. Каліф), ператварыўшаяся ў намінальнае, ужыта ў якасьці наймення цара, якому сніліся дзіўныя сны (II, 1; IV, 28; і г.д.). Адсюль зразумела, што і ў Дані-Іле ўжо ёсць главы агаранскай эпохі.

Рэзюмую ж у нешматлікіх словах усе гэтыя нашы параўнанні гісторыі двух адгалінаванняў абранага народа Боскага з гісторыяй Усходняй і Заходняй Рамеі.

Хрысьціянскія аўтары лічаць час падзелу «Рымскай» імперыі ад часу з'яўлення Апакаліпсіса ў 395 годзе, калі ў ёй запанавалі суваладары: Аркадзь і Ганорый. А жыдоўскі аўтар пачынае іхны падзел яшчэ ад суваладарання Кастуся і Ліцынія, хаця абедзьве палавіны, меўшыя адпаведна з грэцкімі аўтарамі увесь час асобных суваладароў, і аб'ядноўваліся пазьней не раз часова пад уладай аднаго із двух – пазбаўляўшага пасада забіваўшага другога.

Тая акалічнасць, што гісторыя Рамеі даведзена ў Бібліі да часу каліфата, г.азн. да прызначэння агаранства ў якасьці дзяржаўнай рэлігіі ў яе азіяцкіх і афрыканскіх уладаннях, паказвае, што паслядоўныя папаўняльнікі біблейскіх рукапісаў, рэдагаваўшыя і супастаўляўшыя дайшоўшыя да іх паданні пра здзяйсненні рамейскіх цароў, жылі ўжо пазьней заканчэння VII стагоддзя, і, магчыма, працягвалі свае дадаванні аж да надрукавання Бібліі. Дзякуючы тагачаснаму звычаю рабіць свае паведамленні незразумелымі для непасьвечаных і, акрамя таго, падводзіць усе зямныя падзеі пад астралогію, яны давалі ўсяму паслядоўнаму шэрагу рамейскіх цароў астралагічныя найменні, згодна з, быццам бы, заступаўшыміся за іх сузор'ямі Задыяка. З гісторыяй лацінскіх імператараў ад Кастуся I да Ромула-Аўгустула яны былі знаёмыя даволі добра, і таму канчатковы рэдактар, падводзіўшы хcraналогію, памыліўся толькі ў тым, што цэзараў-суваладароў палічыў за спадкаемцаў адзін аднаго і такім чынам адпаведна падоўжыў суму іхных валадаранняў. З візантыйскай жа гісторыяй ён быў азнаёмлены нашмат горш, верагодна таму, што жыў ужо ў Гішпаніі, пад час перыяду яе маўрытанскай культуры.

У гэтым дачыненні ў кнігах «Цары» і «Словы дзённыя (Параліпаменон)» толькі пачатак і заканчэнне добра супадаюць з грэцкімі апокрыфамі, а ў сярэдніх частках у іх нярэдка заўважаюцца асобныя блытаніны, якія можна патлумачыць

[225] Каліф-расул-Алах – намесьнік – прарок-бога.

часткова недакладнасьцю і ўрыўкавасьцю ведаў аўтараў па рамейскай гісторыі і збольшага тэндэнцыйным падвядзеннем зямных падзей пад астралагічныя і кабалістычныя гіпотэзы самога аўтара.

Мы ніяк не павінны лічыць, што старажытныя пісьменнікі лепш за нас ведалі пра папярэднічаўшыя ім падзеі ў аддаленых ад іх краінах ці нават у сваёй уласнай краіне за два, ці за тры пакаленні да іх. Цалкам наадварот. Яны не мелі магчымасьці карыстацца тымі разнастайнымі дакументамі, якія былі сабраны і надрукаваны з часоў Эпохі Адраджэння да нашых уласных дзён. Каб пераканацца ў гэтым, паглядзіце толькі на геаграфічныя мапы сярэдневечча, да чаго яны фантастычныя. Не больш, чым яны, былі падобнымі на рэчаіснасць і падзеі, апісваемыя тады ў гэтых пераіначаных краінах.

У руках кампілятараў дасьледуемых зараз намі кніг знаходзіліся толькі асобныя запісы па рамейскай гісторыі, з указаннем часу ад пачатку жыцця кожнага цара асобна. Яны ведалі толькі некаторыя легенды з часоў яго валадарання і самі, на дадатак, былі астролагамі, глыбока верыўшымі, што ўсе зямныя падзеі папярэдне вызначаюцца разнастайнымі камбінацыямі нябесных сьвяціл паміж сабой ці нябеснымі знакамі накшталт камет і зацьменняў.

Яны ўжо былі здольнымі вылічыць рухі Сонца і Месяца, Юпітара і Сатурна назад і наперад даволі дакладна на стагоддзе ці два і былі ўпэўнены, што могуць гэта рабіць не толькі для іх, але і для Марса, Венеры і Меркурыя, ад «стварэння свету і да яго заканчэння». І яны карысталіся гэтым для ўяўнага аднаўлення таго, пра што ў іх не было дакументаў, але памыляліся нават і ў саміх сваіх астралагічных вылічэннях. І не дзіўна, калі нейкі сярэднявечны астролаг, вылічыўшы з дапамогай тагачасных недасканалых метадаў камбінацыі ўсіх вядомых яму рухомых нябесных сьвяціл, раптам прыйшоў да высновы, што яны паўтараюцца праз некаторую колькасць стагоддзяў і што пагэтаму, адпаведна гісторыі «Сусветнай рымскай імперыі», на столькі ж стагоддзяў раней яе на зямлі існавала іншая імперыя з такой жа колькасьцю цароў, валадарыўшых столькі ж гадоў і меўшых аналагічныя лёсы.

Аднак, мы не павінны забягаць сваім уяўленнем так далёка, калі можам патлумачыць звычайным шляхам узнікненне чароўнай казкі пра існаванне некалі абранага народа боскага на пустэльным узбярэжжы Мёртвага Мора (рэкі якога пры тым жа, быццам бы, цяклі тады малаком і мёдам).

Прасьцей палічыць, што нейкі астролаг сярэдневечча, жыўшы пад час трывожнага перыяду рэлігійных звад, разважаў пра лёсы Рамейскай імперыі, пагадняючы яе дынастычныя запісы з плынню планет па сузор'ях Задыяка. Ён, прастадушна мудруючы, напісаў усе свае псеўда-гістарычныя высновы для сябе па-жыдоўску, замяняючы ўласныя імёны рамейскіх цароў рознымі сімвалічнымі назвамі. Мімаволі кіруючыся сваім староннімі ідэям, ён часам выкідваў таго ці іншага цара, як запісанага памылкова; аб’ядноўваў двух ці некалькіх аднайменных у аднаго ці, наадварот; падзяляў аднаго на двух. Потым ён памёр. Яго нататкі, не меўшыя ў сабе пазначэнняў ні часу, ні месца, ні імя аўтара, пад час наступнага пакалення патрапілі ў рукі камусьці новаму, які, прачытаўшы іх, прыйшоў да высновы, што знайшоў каштоўную кнігу, тлумачыўшую справы глыбокай старажытнасьці.

Кніга пашырылася ў шматлікіх копіях сярод месіянскага насельніцтва, і такім чынам стварылася легенда пра абраны народ бога, цары якога былі продкамі Езуса. Іхны радавод і патрапіў потым на прыканцы VIII стагоддзя ў канчаткова

рэдагаваўшаяся толькі тады евангелле Мацьвея. Але акрамя таго ў першапачатковы спіс і апавяданне на працягу часу былі дададзены і папаўненні, і змены, і новыя эпізоды. І вось, складзеныя грунтуючыся на ім «Здзяйсненні Ўсходне-Рымскіх» (Рамейскіх) цароў, пераплеценыя як дзьве пасмы валасоў у жаночай касе са здзяйсненнямі заходне-рымскіх цароў, і стварылі асноўную частку біблейскай кнігі «Цары» і кнігі «Словы дзённыя» (Параліпаменон). А потым, на Другім Нікейскім саборы, працаваўшым над рэдагаваннем сьвятых кніг цэлых пяць гадоў (783-787), і была створана із усяго папярэднічаўшага камплекта разрозненых рукапісаў сучасная кананічная Біблія Старога і Новага Запавету, у якой з нашага боку гледжання «Кнігі Цары» і «Словы Дзённыя» быліаднымі із самых апошніх. Але і пасьля яго, пад час рукапіснага перыяду, яшчэ дадаваліся ўрыўкі і змены аж да XV стагоддзя, калі адзін із усіх існаваўшых тады варыянтаў яе рукапісаў выпадкова замацаваў для ўсеагульнага ўжывання друкавальны станок Гутэнберга.

Сучасныя ўяўленні пра тое, што яшчэ пад час першых стагоддзяў хрысьціянства месіянцы (г.азн. сучасныя жыды) ужо аддзяліліся ад хрысьціянаў у непрымірымую рэлігію, з’яўляюцца сумнымі непаразуменнямі пярэдадня крыжовых паходаў, калі дзьве секцыі (г.азн., у царкоўным вымаўленні, секты) той жа самай рэлігіі не пазналі свайго агульнага паходжання, і хрысьціянская трыіпастасная зграя пачала жорстка пераследаваць аднаіпастасную. Мы ўжо бачылі тут, што пад імем прарока Іліі ў месіянцаў фігуруе той жа хрысьціянскі Езус, а іншымі варыянтамі яго з'яўляюцца і багаслаўскі цар Аса, і Езус Навін, і іерагліфічны Вялікі цар Месія (Рэ-Месу Міамун) і чэці-мінейскі Васіль Вялікі, і што ўсё гэта легенды пра сапраўднага заснавальніка першапачатковага набажэнства рамейскага цара Юльяна Філосафа, у якіх засталіся толькі нікчэмныя дробкі ад сапраўдных здзяйсненняў заснавальніка першага дзяржаўна-рэгуляванага культу, замяніўшага ранейшае вольнае шаманства.

# Глава XVII

## Малаазіяцкая гегемонія. Дынастыя Ільва Ісаўрыйскага. Скасаванне розных выяваў богаў і багінь у імя адзінага нябачнага бога.

Далейшае выкладанне нам даводзіцца рабіць грунтуючыся ўжо выключна на грэцкіх першакрыніцах, і прытым – на апакрыфічных.

Пазначым перш усяго, як я рабіў і раней, храналагічныя вехі гэтага перыяду ў сувязі з агульнай храналогіяй, дадзенай раней (агульная табліца II, на стр. 17).

«Да нядаўняга часу, – выказваецца А. А. Васільеў у «лекцыях па гісторыі Візантыі» (1,219), – родапачынальнік новай дынастыі імператар Леў III (717-741) «богалом»[226] ва ўсіх гістарычных працах меў найменне ісаўрыец, а яго дынастыя ісаўрыйскай. Аднак, на прыканцы XIX стагоддзя быў выказаны погляд, прыняты зараз некаторымі навукоўцамі, што Леў III быў не ісаўрыец, а сірыец. Справа ў тым, што галоўная крыніца пра паходжанне гэтага «цара-куміразмагальніка» – храніст пачатку IX стагоддзя Феафан – піша: «Леў Ісаўрыец... паходзіць із Германікіі, на самай жа справе із Ісаўрыі».

[226] Па-грэцку – Эйконакласт, разбівацель божых выяваў, асабліва статуй, таму што Эйконэ па-грэцку спачатку азначала скульптуру, а не абраз у сучасным царкоўным сэнсе.

А лацінскі пераклад Феафана, зроблены рымскім бібліятэкарам Анастасам у другой палове таго ж IX стагоддзя, паведамляе, не згадваючы ні словам пра Ісаўрыю, што Леў паходзіць із жыхароў Германікіі і быў родам сірыец (genero Syrus, г.азн. юдэй). «Жыццё Стэфана Новага» таксама называе Ільва «родам сірыец» ('ό συρογενής). А Германікіяй гісторыкамі лічылася не Германія, а, без асаблівых доказаў, паўночная Сірыя на ўсход ад Кілікіі, хаця (як мы бачылі яшчэ ў другім томе «Хрыста», 376), Асірыяй у Бібліі звалася Германія. Адзін арабскі гісторык таксама называе Ільва «хрысьціянскім жыхаром Мараша», умеўшым правільна размаўляць па-арабску і па-рамейску.

Сірыйскае і агаранскае паходжанне Ільва Куміразмагальніка, такім чынам, робіцца вельмі верагодным. А далейшыя храналагічныя вехі гэтага перыяду такія.

Сын Ільва III – Кастусь V Капранім (741-775) – першы раз быў адружаны з дачкой хазарскага кагана. Ад гэтага адружання ў іх быў сын Леў IV, часта называемы Хазарам (775-780), які быў адружаны на грачанцы із Афінаў Ірыне. Яна, пасьля сьмерці чалавека, пачала кіраваць дзяржавай з нагоды непаўналецця свайго сына Кастуся VI, абвешчанага імператарам (780-797). А калі ён стаў паўналетнім, паміж ім і Ірынай пачалася барацьба, скончыўшаяся тым, што маці пазбавіла пасада свайго сына і, стаўшы аднаўладнай валадаркай імперыі (797-802), аднавіла статуі і выявы богаў, г.азн. адпаведна з біблейскай тэрміналогіяй запала ў ерась Іераваама-Кастуся I.

Жонкі імператараў (г.азн., напэўна, абраныя са шматлікіх прызнаных жонак і наложніц) насілі і раней у вялікай Рамеі тытул «аўгуст», г.азн. сьвятая асоба, і падчас непаўналецця сыноў ажыццяўлялі імператарскую ўладу ад імя сваіх сыноў. Але першым у рэчаіснай гісторыі чалавецтва прыкладам жанчыны, самастойна кіраваўшай з усёю паўнатой вярхоўнай улады, была Ірына. Гэта тады было дзіўнай навіной, і цікава пазначыць, што ў афіцыйных дакументах яна звалася не Ірына-Імператрыца, а «Ірына-Верны Імператар» (васілеўс). Але гэта было яшчэ занадта нязвыкла, каб магло сысьці ёй дарэмна. Палацавая рэвалюцыя 802 года, на чале якой быў адзін із самых высокіх яе грамадзянскіх саноўнікаў Нічыпар, пазбавіла Ірыну пасада, якая хутка і памёрла ў выгнанні, і з ёю скончылася дынастыя Ільва-Куміразмагальніка. Такім чынам, пад час перыяда ад 717 да 802 года Візантыя мела на пасадзе не грэцкую (да жаночай рэвалюцыі грачанкі Ірыны), а сірыйскую ці германскую дынастыю з дамешкам хазарскай крыві ў асобе жонкі Кастуся V. Вось, якімі з’яўляюцца храналагічныя вехі гэтага перыяду, а яго палітычная гісторыя, згодна са сведчаннямі грэцкіх апакрыфістаў, была такой.

Агаранскае сухапутнае войска, яшчэ пры двух папярэдніках Ільва-Куміразмагальніка, прайшло праз усю Малую Азію на захад і захапіла там гарады Сарды і Пергам, ужо недалёка ад узбярэжжа Эгейскага мора. А праз некалькі месяцаў пасьля ўступлення Ільва на цар-гародзкі пасад, у 717 годзе, агаране, пайшоўшы із Пергама на поўнач, дайшлі да Гелеспонта і пераправіліся праз яго на еўрапейскі бераг пад сьцены сталіцы. У той жа час моцны ягіпецкі флот із 1800 караблёў рознага тыпу, як паведамляюць візантыйскія хронікі, прайшоўшы праз Гелеспонт і Прапантыду, таксама наблізіўся да сталіцы з мора. Пачалася сапраўдная аблога Цар-Горада. Аднак, «грэцкае полымя», запальваўшае мора то тут то там ноч за ноччу[227], і незвычайна суровая зіма з 717 на 718 год знервавалі агаранскія войска і флот. Баўгары таксама змагаліся супраць іх у Фракіі і праз год з

[227] Верагодна,– нафтай, разлітай па паверхні вады, як і зараз пры забаўляльных шпацырах часта робіцца каля Баку.

невялікім пасьля пачатку аблогі, падчас якой між іншым упершыню згадваецца пра знакаміты ланцуг, перагароджваўшы варожым караблям доступ у Залаты Рог, агаране выдаліліся із-пад Цар-Горада.

І цікава, што праз чатырнаццаць гадоў пасьля таго, на захадзе Яўропы, Карл Мартэл, майярдом франкскага валадара, адбіў і гішпанскіх агаранаў каля Пуацье.

Дзякуючы такім няшчасьцям, у палове VIII стагоддзя сярод агаранаў пачаліся ўнутраныя закалоты. Амеяды былі скінуты Абасідамі, перанёсшымі сталіцу і цэнтр усяго кіравання із Дамаска і Ягіпта ў далёкі ад візантыйскай мяжы Багдад, на рацэ Тыгр. І мы бачым, што рух глыбей у Азіі быў такім чынам – проста іхным адступленнем ад больш моцнага суперніка, а ніяк не вайсковым наступам з Усходу на Захад.

Не асабліва зразумелымі з'яўляюцца, з боку гледжання натуральнай падставасьці, і тагачасныя вайсковыя дзеянні на поўначы Балканскай паўвыспы.

Калі гаворка ідзе пра сутыкненні паміж Рамейскай імперыяй і баўгарамі ў VIII стагоддзі, то пад імі патрэбна разумець балканскіх славянаў. Адзін заходні паломнік да сьвятых месцаў, які лічыцца за сучасніка Ільва-Куміразмагальніка, прыбыўшы ў пелапанэскі горад Манемвасію, піша, што ён знаходзіўся ў славянскай зямлі (in Slavinia terrae). Славяне ж жылі тады і каля Дырахіума, і каля Афінаў, а іхнае цюркскае паходжанне – проста легенда. У творы «Пра Фемы», прыпісваемым Кастусю Парфірароднаму (945-959), паведамляецца пра VIII стагоддзе:

«*Аславяніўся ўвесь Пелапанэс і зрабіўся варварскім, калі чума пашырылася па ўсяму сусьвету*». (Гаворка ідзе пра эпідэмію 746-747 гадоў, занесеную із Італіі і апустошыўшую поўдзень Грэцыі і Цар-Горад, але із гэтага ніяк немагчыма зрабіць выснову, каб да таго часу Пелапанэс быў грэцкім: кніга ж «Пра Фемы» напісана праз 200 гадоў пасьля чумы.)

Такім чынам, Пелапанэс VIII стагоддзя ў вачах саміх сярэднявечных жыхароў імперыі быў славянскім, і на прыканцы VIII стагоддзя імператрыца Ірына выправіла нават адмысловую экспедыцыю супраць славянскіх плямён, «насяляўшых» Фесалоніку, Грэцыю і Пелапанэс, браўшых удзел у змове супраць яе. Із гэтага бачна, што славяне ў VIII стагоддзі жылі паўсюль на Балканскай паўвыспе, уключаючы і Грэцыю, а таму, бачачы яе сучаснае грэцкае насельніцтва, мы павінны лічыць яго новым, а не вярнуўшымся назад пасьля часовага славянскага засілля.

Гэта падмацоўваюць і нашы іншыя паведамленні.

«Пасьля таго, як на працягу VII стагоддзя Імперыя страціла свае ўсходнія правінцыі, – выказваецца А. А. Васільеў, – Сірыю з Палестынай і Ягіпетам, яна дзякуючы менавіта гэтаму стала больш «грэцкай» па мове. **Была патрэба**, нарэшце, даць для агульнага карыстання падданных праўнік на грэцкай мове **замест** ранейшага арыйскага (г.азн. біблейска-халдзэйскага) праўніка V стагоддзя».

Так выказваецца сам А. А. Васільеў у сваіх «лекцыях па гісторыі Візантыі»[228], прызнаючы гэтым, разам з астатнімі сучаснымі візантыістамі, што ранейшае заканадаўства, аж да паловы VIII стагоддзя, у Вялікай Рамеі (г.азн. у Вялікім Рыме) было на біблейскай мове і што толькі пачынаючы ад Ільва-Куміразмагальніка рамейскія прывілеяваныя класы перайшлі да грэцкай мовы і Рамея стала Візантыяй.

[228] Том І, стар. 225.

«І вось, – працягвае А. А. Васільеў, – быў апублікаваны ад імя «мудрых і набожных імператараў Ільва і Кастуся» заканадаўчы зборнік пад назвай «Эклога», які заходнія навукоўцы дапасуюць да заканчэння кіравання Ільва (739-740). Ён мае назву: «Скарочанае выманне законаў, учыненае Ільвом і Кастусём, мудрымі і набожнымі царамі, із інстытуцый, дыгестаў, кодэкса і навэл Вялікага Юстыніяна і іх выпраўленне ў сэнсе большага чалавекашанавання».

У прадмове да іх паведамляецца, што законы, выдадзеныя папярэднімі імператарамі, былі напісаны ў шматлікіх кнігах і што іхны сэнс для адных з'яўляецца цяжкім для разумення, а для іншых цалкам незразумелым, асабліва для тых, хто не жыве ў богаахоўваемым імператарскім горадзе.

«*Суддзі*, – тлумачыць «Эклога», – *павінны ўстрымлівацца ад якіх бы то ні было чалавечых захапленняў, не пагарджаць жабраком і не пакідаць без абвінавачання моцнага, робячага няпраўду... Ім патрэбна ўстрымлівацца ад якога б то ні было падарунка.*

*Усе службоўцы па судовых справах павінны былі атрымліваць вызначаны пенсіён із імператарскай «божай скарбніцы» з тым, каб ужо нічога не браць ад якой бы то ні было асобы, судзімай імі*».

Так упершыню пачалося свецкае дзяржаўнае судаводства, асобна ад рэлігійнага суда. Яго пачатак, як бачыць чытач, належыць толькі Ільву-Куміразмагальніку.

У «Эклозе» ідзе гаворка пра адружанне, заручыны, пра пасаг, пра тэстаменты і пра ўспадкаванне без тэстаменту, пра апеку, пра дараванне рабам волі, пра продаж, пра куплю, пра найманне і пра сьведак. Толькі адна глава ўтрымлівае артыкулы крымінальнага права з целапашкоджваючымі пакараннямі, напрыклад, адсячэннем рукі, падразаннем языка, асляпленнем, адразаннем носа. Вонкавай асаблівасьцю Эклогі з'яўляецца шматлікасць спасылак на сьвятое пісанне для падмацавання таго ці іншага юрыдычнага цверджання, адкуль і бачна, што раней судзілі грунтуючыся на біблейскім Чатырохкніжжы, якое і да гэтага часу мае назву «Кнігі закону». На працягу ўсяго VIII і IX стагоддзяў, аж да ўступлення на пасад Македонскай дынастыі (867 г.), «Эклога» служыла адзіным кіраўніцтвам пры юрыдычным выкладанні замест ранейшых інстытуцый і неаднаразова зведала навуковыя перапрацоўкі; пазней яна была ўключана ў склад судовых кніг праваслаўнай царквы. Толькі з яе з'яўленнем пачынаецца дакладная гісторыя грэка-рымскага права, працягваўшагася да ўступлення на пасад Македонскай дынастыі, г.азн. да эпохі так званай «рэстаўрацыі» Юстыніянава права, а на справе яго стварэння.

Да часу Ільва-Куміразмагальніка вялікая частка навукоўцаў дапасуе і яшчэ тры невялікія заканадаўчыя помнікі: Земляробчы закон (νόμος γεωργικός), Вайсковы закон (νόμος στρτιωτικός) і Марскі радоскі (νόμος ροδίων ναυτικός). Гэтыя тры помнікі старажытнасьці, існуючыя у шматлікіх і адрозных адна ад адной рэдакцыях, часта размешчаны ў рукапісах сьледам за «Эклогай» ці іншымі юрыдычнымі помнікамі, але ні імёны іхных складальнікаў, ні час іхнага стварэння не паведамляюцца.

Самае вялікае значэнне із гэтых помнікаў мае Земляробчы закон. Ён апісвае крадзяжы лесу, палявых і садовых пладоў, правіны і недагляды пастухоў, пашкоджванні свойскай жывёлы і страты ад іх для суседзяў, напрыклад патраву і г.д.

На падставе Земляробчага закона можна зрабіць выснову, што ў Рамеі таго часу, побач з працягваўшым існаваць прыгонным насельніцтвам, таксама існавала і дробная сялянская ўласнасць і вясковая злучына.

«Радоскі марскі закон» уяўляе сабой статут гандлёвага мараплаўства, і ў ім, між іншым, ідзе гаворка пра размеркаванне страт на ўладальніка карабля і на ўладальнікаў тавара, у выпадку калі дзеля выратавання карабля і астатняга грузу частка яго будзе выкінута за борт; вызначаецца адказнасць гаспадара карабля, яго наёмшчыка і пасажыраў за цэласць карабля і груза, і гаворыцца, што ў выпадку буры ці марскога разбою ўсе яны павінны быць прыцягнуты да пакрыцця страт. Гэта было тады нечым падобным на страхаванне. Шматлікія асаблівасьці тагачаснага Марскога закону тлумачацца тым, што марскія разбоі сталі ўжо звычайнай з'явай, і таму гаспадары караблёў і купцы маглі працягваць гандаляваць толькі на ўмовах агульнасьці рызыкі. Той факт, што ў юрыдычных помніках XIII-XIV стагоддзяў пра гэты закон няма ніякіх згадванняў, артадаксальнымі гісторыкамі тлумачыцца тым, што, быццам бы, да таго часу візантыйскі марскі гандаль знік. Але чаму б яму было знікаць, а не развівацца? І ці не прасьцей палічыць, што да XIV стагоддзя ён быў яшчэ па-за законамі і сам Радоскі кодэкс напісаны ўжо пасьля XIV стагоддзя?

Вайсковы закон складаецца із пераліку пакаранняў, накладаемых на вайскоўцаў за паўстанне, непадпарадкаванне, збяганне, блудніцтва і г.д. Яны вызначаюцца вялікай суровасьцю і могуць служыць доказам строгай вайсковай дысцыпліны таго часу, калі гэты кодэкс быў напісаны.

Дзяржаўнае ўладкаванне Вялікай Рамеі ў VIII стагоддзі яшчэ мела чыста вайсковы характар. У Малой Азіі тады існавалі пяць вайсковых губернатарстваў: 1) фема Анатолікі – на паўднёвым-захадзе Малой Азіі, 2) Фракійская фема, у заходняй частцы Малой Азіі, вылучаная із заходніх абласьцей шырокай фемы Анатолікі і атрымаўшая сваю назву ад размешчаных там еўрапейскіх гарнізонаў із Фракіі, 3) фема Апсікій каля Мармуровага мора, 4) фема Вукеларый, уяўляючая сабой ўсходнюю палову Апсікія і названая так ад букеларыяў, як звалася некаторая частка рымскага і замежнае войска на службе імперыі, і 5) фема Арменіякі на мяжы з Арменіяй.

Такім чынам, да пачатку IX стагоддзя ў Малой Азіі існавала пяць фем, якія ў першакрыніцах (напрыклад пад 803 г.) пазначаюцца, як «пяць усходніх фем». А еўрапейскіх фем на прыканцы VIII стагоддзя, відаць, было чатыры: Фракія, Македонія, Элада і Сіцылія. Гэта былі, як я ўжо паведамляў, – вайсковыя акругі і, вядома, не замяніўшыя ранейшую «грамадзянскую» ўладу на вайсковую, як спрабуюць пераканаць нас візантыісты, а наадварот: гэта быў вайсковы пралог да грамадзянскасьці, вырастаючай толькі са слабеючай дыктатуры.

Акрамя таго, не драмала і будаўніцтва. Пад канец свайго валадарання Леў-Куміразмагальнік, – кажуць нам, – прызначыў на жыхароў імперыі адмысловы падатак для аднаўлення пашкоджаных моцным землятрусам сьцен сталіцы, і яны былі выпраўлены, як пра гэта сведчаць захаваўшыяся да начага часу надпісы на вежах царгродзкай унутранай сьцяны з імёнамі Ільва і яго сына-суваладара Кастуся.

Такім чынам, гістарычна праўдзівымі ўнутранымі справамі Ільва-Куміразмагальніка могуць быць прызнаны: «Эклога», прызначэнне адмысловых падаткаў і выпраўленне сталічных сьцен. Але галоўнае, чым ён уславіўся, гэта куміразмагальніцтва, г.азн. вынішчэнне статуй усіх богаў і сьвятых.

Гісторыя куміразмагальніцкага руху падзяляецца на два перыяды: першы перыяд працягваўшыся ад 726 да 780 года і закончыўся сёмым сусьветным саборам 787 года; другі перыяд, працягваўся ад 813 да 843 года і закончыўся так званым «аднаўленнем», ці больш дакладна: **усталяваннем** праваслаўя.

«Вывучэнне іконазмагальніцкай эпохі, – выказваецца А. А. Васільеў (I, 234), – уяўляе вельмі вялікую цяжкасць дзякуючы стану першакрыніц. Усе творы іканазмагальнікаў, акты імператараў, здзяйсненні іконазмагальніцкіх сабораў 753-754 і 815 гадоў, багаслаўскія іконазмагальніцкія трактаты і г.д. былі знішчаны перамогшымі абразапрыхільнікамі. Рэшткі іконазмагальніцкай літаратуры вядомы нам толькі із урыўкаў, змяшчаемых у творах абразапрыхільнікаў з мэтай аспрэчвання куміразмагальніцтва. Пастановы іконазмагальніцкага сабора 753-754 года знойдзены толькі ў здзяйсненнях сёмага сусьветнага сабора. Пастановы сабора 815 года былі знойдзены толькі ў адным із трактатаў патрыярха Нічыпара. Такім чынам, усе дайшоўшыя да нас першакрыніцы пра іконазмаганне маюць тэндэнцыйны, варожы яму характар, дзякуючы чаму і значэнне гэтага перыяду ацэньвалася рознымі навукоўцамі вельмі па-рознаму.

Перадусім падымалася пытанне пра падставы не зусім зразумелага для VII-VIII стагоддзяў руху супраць статуй і абразоў, які працягваўся з некаторымі прамежкамі больш за сто гадоў і меў для імперыі вельмі сур'ёзныя наступствы. Адны лічылі, што імператар Леў-Куміразмагальнік вырашыў знішчыць царкоўныя статуі і абразы, спадзеючыся такім захадам скасаваць адну із галоўных перашкод для збліжэння хрысьціянаў з месіянцамі (юдэямі) і мусульманамі, якія вельмі адмоўна ставіліся да выяваў. Іншыя (як напрыклад Шварцлозе) бачылі ў куміразмагальніцкай палітыцы не адны толькі рэлігійныя інтарэсы. Жадаючы быць адзіным паўнаўладным валадаром ва ўсіх баках «жыцця імперыі, – выказвалі яны здагадку, – Леў III спадзяваўся з дапамогай забароны «сьвятых выяваў» вырваць народ із-пад моцнага ўплыву царквы, для якой выявы богаў служылі галоўным сродкам уплыву на народ. Трэцція (напрыклад Lombard) бачылі ў іканазмагальніцтве толькі чыста рэлігійную рэформу, меўшую на мэце спыніць «поспехі падымаўшага галаву паганства ў новай форме шанавання ранейшых выяваў» і «вярнуць хрысьціянскай рэлігіі яе першапачатковую чысьціню».

Але калі чытач сур'ёзна падумае над пытаннем, то сам пабачыць, што ўсе гэтыя тлумачэнні па сутнасьці нічога не тлумачаць. І застаецца толькі прыняць яшчэ новае, чацьвёртае тлумачэнне.

Мы толькі-што бачылі, як Леў-Куміразмагальнік прызначыў адмысловы падатак для выпраўлення сьцен Цар-Горада, разбураных адбыўшымся пры ім моцным землятрусе, пра што сведчаць і захаваўшыяся да гэтага часу надпісы на іхных вежах. Але ж гэтыя самыя землятрусы разбуралі не адны гарадзкія сьцены, а і статуі богаў і іхныя тагачасныя мазаічныя «выявы». Не людзі, а падземныя магутнасьці былі першымі іконазнішчальнікамі, і кожны землятрус прыпісваўся гневу бога-Бацькі. Тагачасныя падземныя штуршкі былі, відаць, асабліва разбуральнымі ў Малой Азіі, даходзячы да Цар-Горада, і не асабліва вялікія ў Грэцыі, як бачна із таго, што ўсе наступныя за Ільвом імператары-ідалазмагальнікі былі родам з усходу. Аднавіцель ідалазмагання ў IX стагоддзі Леў V быў із армянаў, сьледам за ім былі Міхал II і яго сын Феафіл із Фрыгіі, ва ўнутранай вобласьці Малой Азіі. А аднаўляльнікамі абразашанавання абодва разы былі жанчыны: Ірына – грачанка із Афінаў, і Хвядора – із Пафлагоніі, мала-азіяцкай вобласьці на беразе Чорнага мора, недалёка ад сталіцы, а не із сярэдзіны паўвыспы. І гэтая асаблівасьць не можа быць пастлумачана выпадковасьцю.

Гэта азначае куміразмагальніцтва VIII і IX стагоддзяў было ў сувязі з землятрусамі і перажыло яшчэ раней працяглую эвалюцыю. Хрысьціянскае

мастацтва, паказваючае чалавечыя фігуры з дапамогай мазаікі, фрэскі, статуі ці разьбы, даўно ўжо бянтэжыла шмат каго із назіраўшых ці чуўшых, як у гневе іх ламаў на кавалкі і раскідаў нейкі магутны і вялікі невядомы бог. У VI стагоддзі ў Антыёхіі пасьля землятрусу нават адбылося сапраўднае паўстанне, накіраванае супраць статуй.

Паведамляюць, што агаранскі каліф Язід II яшчэ за тры гады да Эдыкта Ільва выдаў у сваёй дзяржаве ўказ, загадваючы знішчыць статуі і абразы ў цэрквах яго хрысьціянскіх падданых. Адзін храніст і самога імператара Ільва называе «сарацына-думаючым» (σαρακηνόφρων), ды і секта паўлікіянаў, жыўшая пасярэдзіне Малой Азіі і далей на ўсход, таксама адмаўляла выявы ў храмах, што прыводзіць справу ў сувязь з мекскай метэарытнай катастрофай 622 года. У Візантыі ў VIII стагоддзі малярства і скульптура, відаць, набылі моцнае развіццё і, як заўсёды, спачатку абедзьве мелі рэлігійнае адценне. Выявы ў цэрквах гатаваліся із мазаік, фрэсак, разьбы на слановай костцы, із дрэва ці із бронзы. Былі намаляваныя абразы і абразы-статуі, а невялікія выявы размяшчаліся ў рукапісах. Абраз і статуя праніклі і ў хатняе жыццё: вытканыя выявы сьвятых упрыгожвалі параднае адзенне візантыйскай арыстакратыі, і нам перадаюць, што аднойчы на тозе аднаго сенатара была намалявана ўся гісторыя Езуса Хрыста.

Упершыню Леў III загадаў знішчыць статую Хрыста ў 726 годзе, стаяўшую над уваходам у яго імператарскі палац, што мела наступствам абурэнне жыўшых там жанчын. Але толькі ў 730 годзе ён склікаў сабор, на якім быў прыняты эдыкт супраць боскіх выяваў, і патрыярх Анастас падпісаў яго.

Гэта быў першы такі эдыкт. Здавалася б, што падобны напад на звыклых і шануемых куміраў павінен быў выклікаць бунты насельніцтва і суровыя рэпрэсіі з боку імператара, але ўсе першакрыніцы маўчаць і пра тое, і пра другое. А гэта можна патлумачыць толькі тым, што эдыкт імператара сустрэў поўную спагаду насельніцтва, бачыўшага ў знішчаемых абразах і статуях падставу гневу вялікага бога-Грамабоя і скалынальніка зямлі, ад чаго бурыліся не адны храмы, але і іхныя ўласныя сядзібы.

А таму і адказы куміразмагальнікам, размешчаныя ў трох знакамітых «Словах супраць знішчальнікаў абразоў» ад імя Яна Дамаскіна, жыўшага тады, быццам бы, у межах арабскага Каліфата павінны лічыцца за апокрыфы.

Але ўсё ж эдыкт меў наступствы. У Італіі, да якой, не даходзілі малаазіяцкія землятрусы, вялікі рымскі пантыфекс Рыгор III (731-741), апошні із зацьверджаных візантыйскім імператарам, склікаў у Рыме сабор і адлучыў іканазмагальнікаў ад царквы. Такім чынам куміршануючая Сярэдняя Італія выйшла із-пад уплыву Візантыі і канчаткова засяродзілася на заходнееўрапейскіх інтарэсах. Толькі Паўднёвая Італія засталася за Візантыяй.

Але гэтым справа не закончылася. Пад час валадарання Кастуся V Капраніма (741-775), наступніка Ільва III, пры якім вастрыня першага перапалоху прайшла, прыхільнікі майстэрстваў пачалі сцвярджаць, што землятрусы былі накіраваны зусім не супраць куміраў, а якраз супраць самаго памёршага імператара. Справа моцна абвастрылася. Кастусь V Капранім, атрымаўшы яшчэ пры жыцці бацькі выхаванне ў куміразмагальніцкім накірунку, сустрэўшы супраціўленне куміршануючых манастэрыёнцаў, пачаў пераследаваць манастэрыёны. Ніводзін із іконазмагальніцкіх імператараў не зведаў за гэта ў творах абразашанавальнікаў такім бэшчанняў, як «шматгаловы цмок», «жорсткі пераследнік манаскага чыну», «Ахаў і Ірад», ды і найменне Капранім, што азн. Гаўняк яму далі, быццам бы за тое,

што яшчэ будучы немаўлём ён спаражніўся ў саму сьвятую хрысцільню пры сваім хрышчэнні.

У момант яго ўступлення на пасад, еўрапейскія правінцыі, забываўшыяся пра бяду, ужо прытрымлваліся абразашанавання. Сам зяць Капраніма Артавазд падняў паўстанне ў абарону статуй і абразоў і вымусіў яго пакінуць сталіцу. На працягу года кіравання Артавазда абразашанаванне было адноўлена. Але тут, напэўна, адбыўся новы землятрус, разбіўшы статуі і прыпісаны гневу на іх бога-Скалынальніка землі, і Кастусь здолеў прагнаць Артавазда і вярнуць сабе пасад.

Ён склікаў сабор у 753 ці 754 годзе. Але із Рыма, Антыёхіі, Александрыі і некаторых іншых месцаў не прыехаў ніхто, баючыся, відавочна, новага землятрусу! А прыехаўшыя, памятаючы перажытыя жахі, выдалі такую пастанову, захаваўшуюся ў здзяйсненнях сёмага сусьветнага сабора:

«*Кожная выява, зробленая із якога заўгодна рэчывы, а роўна і пісаная фарбамі з дапамогай бязбожнага мастацтва маляроў, павінна быць вывергнута із хрысьціянскіх храмаў. Яна чужая ім і заслугоўвае пагарды. Ды не адважыцца ніякі чалавек займацца такой бязбожнай і нядобрай справай. Калі ж нехта ад гэтага часу адважыцца наладзіць выяву і ўшаноўваць яе, ці паставіць яе ў храме, ці ва ўласнай сядзібе, ці ж будзе хаваць такую, – калі гэта біскуп, прасвітар, ці дыякан, ды будзе пазбаўлены пасады, а калі манастэрыёнец ці парафіянін, то ды будзе аддадзены анафеме і ды будзе ён вінаватым перад імператарскімі законамі, таму што ён супернік божых загадаў і вораг бацькоўскіх дагматаў*».

Цалкам як у магаметанаў!

Анафема абвяшчалася і таму, хто «*спрабуе ўявіць з дапамогай рэчыўных фарбаў ўласцівасьці бога Слова... хто малюе аблічча сьвятых, не прыносячыя ніякай карысьці, таму што гэта неразумная задума і вынаходніцтва дз'ябла падспутства*».

Пад канец свайго рашэння сабор, быццам бы, абвясьціў:

«*Новаму Кастусю і набожнейшаму імператару – шматлікія гады!.. Набожнейшай і найяснейшай імператрыцы – шматлікія гады! Вы зацьвердзілі сьвятыя дагматы шасьці сусьветных сабораў! Вы знішчылі балванашанаванне!..»* Анафеме былі аддадзены і патрыярх Герман, «*прыхільнік дрэва*», і Мансур (г.азн. быццам бы Ян Дамаскін), «*думаючы па-сарацынску, задумваючы злачынствы супраць імперыі, настаўнік бязбожнасьці, скажона тлумачыўшы боскае пісанне*».

Заканчэнне тут як быццам бы апокрыфічнае, але ці праўдзівы пачатак – вырашыць зараз цяжка, фактам жа з'яўляецца тое, што такая пастанова вырабіла моцнае ўражанне. Выявы спальваліся, замазваліся і зневажаліся рознымі спосабамі. Статуі разбіваліся, асабліва жаночыя, накшталт Панны Марылі. Супраць куміршанавальнікаў быў пачаты такі жорсткі перасьлед, што суправаджаўся пакараннямі сьмерцю, катаваннямі, турэмнымі заняволеннямі, канфіскацыямі і выгнаннямі, які цяжка патлумачыць чым-небудзь іншым, як тым, што ўсё насельніцтва баялася загінуць дзякуючы іхнай дзейнасьці ад новага землятрусу. Замест замазаных абразоў у цэрквах з'явіліся выявы дрэў, птушак, звяроў ці выявы палявання, цырка, тэатра і г.д. Згодна са сведчаннем «Жыція сьвятых», Блахернскі храм у Цар-Горадзе, распісаны па-новаму, ператварыўся «ў гароднінную краму і птушкарню».

Адначасова з пераследам статуй і абразоў ішло і пераследаванне мошчаў. Захавалася сатыра той эпохі, у якой згадваецца пра дзесяць рук пакутніка Пракопа, пра пятнаццаць сківіц сьвятога Хведара, пра чатыры галавы сьвятога Рыгора, із якіх усе былі сапраўднымі, таму што адна галава належала яму пад час дзяцінства, другая юнацтва, трэццяя ў спелым веку, а чацьвёртая ў старасьці. Змаганне з

рэлігійнымі пустынікамі, якія, напэўна, павучалі, што землятрусы адбываюцца не дзякуючы існаванню абразоў, а дзякуючы грахам зямных цароў, згодна з Апакаліпсісам, было такім напружаным, што некаторыя нават лічаць спрэчным, як дакладней назваць пераўтвараючую дзейнасць дадзенага перыяду; ці было гэта іконазмаганне ці манахазмаганне? Пустынікі зведвалі розныя абразы: іх вымушалі апранацца ў свецкае адзенне, адружвацца. Яны, трымаючы за рукі жанчын лёгкіх паводзін, павінны былі ісьці да іпадрама пры насмешках сабраўшагася народу. Манастэрыёны ператвараліся ў жаўнерні і арсеналы. Іхныя маёнткі канфіскаваліся. І ўсё гэта мела наступствам тое, што шматлікія пустынікі ішлі ў месцы не закранутыя імператарскай палітыкай. На думку некаторых навукоўцаў, пад час эпохі Ільва і Кастуся ў адну толькі Індыю перасялілася каля 50 000 рэлігіёзнікаў (перанясучы туды Хрыста ў выглядзе Крышны, і тройцу ў выглядзе Трымурці, а таксама і той рэлігійны рытуал, які быў у Візантыі да яе пераходу да іконазмагальніцтва, – дададзім мы ад сябе).

Пяцігадовае кіраванне наступніка Кастуся V, Ільва IV Хазара (775-780) з'яўляецца, у параўнанні з часам яго бацькі, некаторым заспакаеннем ва ўнутраным жыцці імперыі, – напэўна, паралельна з заспакаеннем зямной кары. Быўшы сам прыхільнікам іконазмагання, Леў не адчуваў вострай варожасьці да монастерыёнцаў, якія пры ім зноў набылі некаторы ўплыў. За час свайго кароткачасовага валадарання ён не паспеў яскрава праявіць сябе як іконазмагальнік, а яго маладая жонка афінянка Ірына, на радзіме якой засталіся цэлымі ўсе статуі, была нязменнай прыхільніцай ушанавання як статуй так і абразоў, і на яе з надзеяй звярталі свае позіркі ўсе іхныя прыхільнікі. Так са сьмерцю Ільва IV (780 г.) скончыўся, верагодна з заспакаеннем першага парыву сейсмічнай актыўнасьці ў заходняй Азіі, першы перыяд іконазмагання.

Але, нягледзячы на выразную сімпатыю да абразашанавання, Ірына на працягу першых трох гадоў свайго кіравання не распачынала ніякіх крокаў да яго афіцыйнага аднаўлення. Гісторыкі, не прызнаючыя ўплыву сейсмічных катастроф ці эндэмічных хвароб на псіхіку чалавека, імкнуцца патлумачыць марудлівасць Ірыны не баязню паўтору гневу бога-Грамабоя, а ўнутранымі і вонкавымі цяжкасьцямі імперыі, «якая, – кажуць яны, – павінна была весьці змаганне і з прэтэндэнтам на пасад, і з агаранамі, і з жыўшымі ў Грэцыі славянамі. Але хіба гэта тлумачэнне?

Толькі праз чатыры гады пасьля пачатку кіравання Ірыны цар-гародзкім патрыярхам быў абраны Тарасій, заявіўшы пра патрэбу склікання сусьветнага сабору для аднаўлення абразашанавання, і да рымскага вялікага пантыфекса Адрыяна I была выпраўлена амбасада з запрашэннем прыбыць на збіраемы ў Цар-Горадзе сход. Але ён выправіў толькі сваіх прадстаўнікоў.

Сабор сабраўся ў 786 годзе. Але цар-гародзкія ваяры, відаць усё яшчэ баяўшыяся статуй і абразоў, уварваліся ў храм з аголенымі мячамі і вымусілі распусьціць сход. Хітрая Ірына разаслала непакорлівых пад рознымі падставамі па дробных атрадах у правінцыі, а ў сталіцы замяніла іх іншымі.

І вось, у наступным жа, 787 годзе сабор быў скліканы ў віфінскім горадзе Нікеі. Колькасць яго біскупаў была большай чым трыста. Гэта быў сёмы і апошні із так званых сусьветных сабораў.

Ушанаванне статуй і абразоў было на ім адноўлена. Анафема абвяшчялася ўсім, што абзывае сьвятыя выявы стодамі і пераконваючым, што хрысьціяне звяртаюцца да іх, як да багоў, і было аспрэчана, што кафалічная царква некалі

ўшаноўвала стодаў. «Сьвечаяся шчасьцем набожнейшая імператрыца ўзяла, – адпаведна са сведчаннем «Здзяйсненняў» гэтага сабора – яго рашэнне, падпісала і потым перадала яго суваладарачаму з ёй сыну, каб падпісаў і ён». Біскупы абвясьцілі шматгоддзі «новаму Кастусю і новай Алене». У дачыненні да мошчаў было пастаноўлена, што, калі ў адноўленых храмах яшчэ адсутнічаюць сьвятыя мошчы, то патрэбна гэта выправіць (бяручы кавалачкі ад ужо існуючых мошчаў і кладучы іх пад ахвярнік). Тут жа ўпершыню былі забаронены падвойныя, г.азн. складаючыяся із мужчын і жанчын манастэрыёны[229].

Так першы перыяд куміразмагальніцства скончыўся аднаўленнем выяваў пры Ірыне ў 787 годзе.

Але, нягледзячы на новае аб’яднанне ўсходняй і заходняй царквы, адбылася падзея, якая ішла з гэтым у разрэз. У 800 годзе вялікі рымскі пантыфекс Леў III каранаваў Карла Вялікага Рымскім (г.азн. Рамейскім) імператарам. Як магло гэта здарыцца, калі рамейскія імператары яшчэ жылі ў Цар-горадзе?

Нават самыя артадаксальныя гісторыкі зараз прызнаюць[230], што ў розумах людзей таго часу не было нават і ўяўлення, быццам бы дзьве імперыі могуць адначасоваа існаваць на зямной паверхні. Дагмат «адзінай імперыі» грунтаваўся на дагмаце адзінага бога, таму што «імператар у якасьці яго часовага намесьніка выконваў боскія паўнамоцтвы на зямлі».

«*Адзіны бог на небе і адзіны цар, яго намесьнік, на зямлі*!»..

Але тут упершыню да справы далучылася жаночае пытанне.

«У Візантыі ў 797 годзе Ірына пазбавіла пасада свайго сына, імператара Кастуся, – працягвае А. А. Васільеў[231], – і сама стала самаўладнай дзяржаўнай валадаркай, што ішло ў поўны разрэз з традыцыямі Рымскай імперыі, дзе жанчына ніколі не кіравала ад свайго імя, а толькі ад імя чалавека ці непаўналетняга сына ў якасьці апякункі».

І раптам жанчына, абвясьціўшы сябе імператарам і генералісімусам усяго войска, пачынае аддаваць загады ваярам, і ваяры іх выконваюць!.. Як жа ім не сорамна?.. Праўда, што гэта не проста жанчына (накшталт жанчыны-гусара, пра якую існуе паданне ў рускім войску), а памазанка боская, як і ўсе ранейшыя імператары з часу з'яўлення цароў не адпаведна з правам абвяшчэння войскам, а згодна з правам нараджэння і «літасьці боскай». Але ўсё ж, практычна ўлада заўсёды трымалася на рэчаіснай вайсковай магутнасьці.

– «Не жаночая гэта справа» – лічылі ўсё, бачачы жанчыну-цара, і большасць не верыла ў трываласць такой навіны.

Але, відавочна, Ірына была настолькі прывабнай, што атачаўшыя яе пасад і асабіста ведаўшыя яе вайскаводы занядбалі дзеля яе ўсімі традыцыямі і папрокамі – накшталт таго, што знаходзяцца пад жаночым чаравікам. А больш аддаленыя, не ведаўшыя яе асабіста, лічылі такое становішча за нечувалы скандал, і з цікавасьцю чакалі моманту, калі ён, нарэшце, скончыцца. Толькі гэтым і можна патлумачыць усё тое, што адбылося на працягу бліжэйшых гадоў.

«З боку гледжання вялікага рымскага пантыфекса Ільва, – выказваецца А. А. Васільеў, – імператарскі пасад лічыўся вакантным, таму што на ім жанчына, і таму Карл, прынімаючы імператарскі вянок, толькі заняў вольны пасад адзінай Рымскай імперыі і зрабіўся законным наступнікам не італьянскага Ромула-Аўгустула, а цар-гародзкага Кастуся VI.

---

[229] А. А. Васільеў, «Лекцыі па гісторыі Візантыі», I, 247.
[230] Там жа, 530.
[231] «Лекцыі па гісторыі Візантыі». I, 250.

Цікавым падмацаваннем гэтага з'яўляецца тое, што ў заходніх аналах, сучасных 800 году і наступных стагоддзяў, якія вяліся адпаведна з гадамі візантыйскіх (г.азн. рамейскімі) valадароў, непасрэдна за імем Кастуся VI, сына Ірыны, значыцца імя Карла».

Атрымліваецца, што з'яўленне жанчыны-імператрыцы было такой нязвыклай і непрыстойнай пад час тых стагоддзяў з'явай, што на захадзе адпаведна з гэтай нагодай быў прыняты «Салічны закон», згодна з якім «жанчыны не мелі права ўспадкоўваць пасад». Із гэтага ж вынікае, што і Семіраміда, і царыца Саўская, і царыца Зенобія – міфы, створаныя ўжо пасьля ірынінскага часу. Раней такія прыдумкі нікому не прыйшлі б нават у галаву.

«Але калі такім быў погляд Карла на жаночае пытанне, – працягвае А. А. Васільеў, – то як жа паставілася да яго самавольнага абвяшчэння сваім імператарам Візантыя?»

Яна паставілася так жа, як і патрэбна было згодна з поглядамі таго часу. Не адмаўляючы, вядома, праваў сваёй Ірыны на пасад, яна разглядала абвяшчэнне Карла сваім імператарам, як адну са шматлікіх у яе гісторыі спроб паўстання супраць пануючага валадара і не без падставаў баялася, як бы ён адпаведна з прыкладам ранейшых паўстанцаў не пайшоў на Канстантынопаль, каб магутнасьцю пазбавіць Ірыну імператарскага пасада і заняць яго самому. Такім чынам, з боку гледжання візантыйскага ўрада каранаванне Карла імператарам было толькі паўстаннем некаторых заходніх правінцый адной і той жа непадзельнай імперыі супраць яе законнага валадара.

Вядома, і Карл разумеў неўстольвасць свайго новага становішча: у Візантыі пасьля сьмерці Ірыны будзе абраны новы імператар, правы якога на такі тытул будуць прызнаны неаспрэчнымі на Ўсходзе. Прадбачачы ў будучыні падобныя цяжкасьці, ён нават пачаў перамовы з Ірынай, прапануючы ёй адружыцца з ім і, адпаведна са словамі хронікі, «злучыць, усходнія і заходнія вобласьці». Іншымі словамі, Карл разумеў усю важнасць прызнання яго новага тытула з боку Візантыйскай імперыі.

Ірына прыхільна паставілася да яго прапановы. Але да справы далучылася анты жаночая партыя ў самым Цар-Горадзе. Патрыцый Аэцый пазбавіў Ірыну пасада, пасьля яе пяцігадовага валадарання і выдаліў у выгнанне. Планы Карла на адружанне з ёю і на злучэнне пад адной уладай Захаду і Ўсходу праваліліся.

Вось калі, адпаведна са сведчаннем саміх гісторыкаў, Рымская імперыя падзялілася на заходнюю і ўсходнюю! Гэта быў другі крок яе падзення пасьля першага: агаранскага падвойвання, як выніку катастрофы 622 года. Першае з'яўленне жанчыны на імператарскім пасадзе выявілася раўназначным метэарытнай катастрофе!

Пасьля пазбаўлення Ірыны пасада на яго сеў Нічыпар (802-811). Паміж ім і Карлам пайшлі перамовы, напэўна, пра прызнанне імператарскага тытула і за Карлам. Але толькі ў 812 годзе пасланнікі візантыйскага імператара Міхала I Рангаві (811-814) віталі Карла ў Ахене тытулам су-імператара-васілеўса. І само сабой разумеецца, што падобнае «адзінства ў двух асобах» было толькі чыста намінальным. Абедзьве часці псеўда-адзінай імперыі зажылі зараз цалкам асобным жыццём. Хутка і самая ідэя пра іхнае адзінства на Захадзе пачала забывацца.

І вось, для абгрунтавання праваў заходняй часткі называцца «Рымскай імперыяй» была створана із варыянтаў гісторыі Цар-Горада тая чароўная казка пра магутны італійскі Рым, якую выкладаюць нам класікі, дапасуючы ўзнікненне гэтага горада да 753 года да пачатку нашай эры, г.азн. за 1037 гадоў да эры Дыяклетыяна

(284 год нашага еўрапейскага злічэння), за 1083 гады да таго часу, калі быў абвешчаны сталіцай Рамейскі Рым, інакш кажучы Цар-Горад, ці Ўмацаваны горад (па-грэцку – Канстантынопаль).

А ў рэчаіснасьці італійскі Рым спачатку ўзнік як месца пілігрымства, для ўшанавання там пасланага з неба метэарытнага каменя, як было і ў Мецы. Мы не павінны забывацца, што па-грэцку выказванне «апостал Пятро» (ἀπόστολος πέτρος) зусім не імя чалавека, накшталт нашых Пятроў, а азначае проста: «Пасланы (богам) камень». Яго падзенне, – пераконваюць нас – адбылося пры Нуме Пампіліі, які, адпаведна з нашымі схемамі, атаясамляецца (табл. IV на стр. 73) з Кастусём II, ці з Канстанцыем, г.азн. каля часу «Нікейскага Сабора» (325 год). Але нават і тады італійскі горад Рым меў яшчэ назву не Рым, а проста Палаціна, што адначасова азначае і «месца забівання чаго-небудзь у зямлю» (palatio) і «месца панічнага збягання куды патрапіць» (геджра). Адсюль паходзіць і прыслоўе palatium – «бегаючы бязладна туды і сюды», а таксама і багіня Палатуя-убівальніца, якую ўшаноўвалі на Палацінскім узгорку, зародку сучаснага Рыма.

Да часу Карла Вялікага Рым ужо пачаў квітнець дзякуючы прынашэнням забабонных пілігрымаў, але легенды пра яго вялікае мінулае яшчэ выпрацаваліся не цалкам, а таму і імператарская годнасць, набытая Карлам для Захаду, была недаўгавечнай. Падчас узнікшых смут пасьля распадзення Карлавай манархіі яна стала набыткам выпадковых асоб і напачатку X стагоддзя цалкам знікла, каб пад час яго другой паловы зноў з'явіцца ў выглядзе «Сьвятой Германскай Рымскай Імперыі».

«Такім чынам, толькі пачынаючы з 800 года, можна ўпершыню гаварыць пра Ўсходнюю Рымскую імперыю, што і робіць, напрыклад, ангельскі візантыіст Бьюры, які, як ужо было заўважана вышэй, назваў трэцці том сваёй гісторыі Візантыі, ахапліваючы падзеі ад 802 года, г.азн. ад года пазбаўлення Ірыны пасада, да пачатку Македонскай дынастыі, «Гісторыяй Усходняй Рымскай імперыі», тады як першыя два тамы яго працы названы «Гісторыя пазнейшай Рымскай імперыі». (Я знарок перапісваю ўсё гэта ўласнымі словамі А. А. Васільева, як часта раблю тут і ў іншых выпадках, каб пазбегнуць аперцэпцыйных адхіленняў у выкладанні асноўных гістарычных фактаў, служачых падмуркам для маіх высноваў, якія адны і маюць тут самастойнае значэнне.)

Мы ўжо бачылі, як ранейшыя гісторыкі-літараеды, грунтуючыся выключна на прачытаных імі кнігах і баязліва пазбягаючыя якіх бы то ні было ўласных лагічных меркаванняў, цалкам не бралі да ўвагі агульнае значэнне з'яўлення Ірыны на рамейскім пасадзе. Але гэты момант сапраўды вельмі важны. Ён сведчыць пра паслабленне ці нават поўнае знікненні ў той час гарэмнага ўладкавання сям'і ў аддзяліўшайся ад агаранаў еўрапейскай частцы адукаванага грамадства. Гэта было першае гучнае прызнанне за жанчынай такой жа чалавечай існасьці, як і ў мужчыны, і той жа гістарычны момант выяўляе яшчэ, што латынізаваная франкска-германская Заходняя Яўропа зрабілася каля 800 года нашай эры канкурэнтам славяна-грэцкага Ўсходу дзякуючы знойдзеным у ёй мінеральным багаццям і з'яўленню ў ёй земляробства і прамысловасьці адпаведна з пашырэннем жалезных прылад працы. Дзякуючы такім перамяніўшымся (асабліва пасьля адпадзення сірыйска-ягіпецкіх агаранаў) суадносінам магутнасьцей, непазбежна павінна было адбыцца адпадзенне Захаду ад Усходу. Ад гэтага моманту Вялікая Рамея, як мы пазначылі, ужо знікае, і на гістарычных падмостках застаюцца толькі тры яе асобныя часткі: сірыйска-ягіпецкая агаранская, грэка-славянская і лаціна-франкска-

германская. Агульны нарыс рацыянальнай гісторыі агаранскай і лаціна-франкска-германскай часткі я ўжо даў у V томе «Хрыста», а тут мне застаецца толькі разабраць грэка-славянскую, якая, уласна кажучы, адна і мае права называцца Візантыйскай імперыяй. Ірына тут была не нагодай, а толькі зачэпкай для другога падзелу.

З нашага боку гледжання гэты ж перыяд і быў часам стварэння евангельскага хрысьціянства. У I томе «Хрыста» я ўжо паказаў, што «Апакаліпсіс» быў напісаны толькі ў 395 годзе пры рамейскім цару Аркадзю; што біблейскія прарокі прарочылі пра блізкае вяртанне цара-Месіі пад час прамежку ад V да VIII стагоддзя ўключна; што першае із евангелляў – евангелле Марка, пачаўшае евангельскую эру хрысьціянства, напісана толькі Маркам Афінскім (626-725), што евангелле Яна напісана Янам Дамаскім (676-777), а іншыя евангеллі, а таксама «Здзяйсненні» і «Лісты апосталаў» – яшчэ пазьней, ужо ў IX і X стагоддзях. Усё гэта цалкам адпавядае гістарычнай характарыстыцы вывучаемага намі зараз часу. Ірына, якая валадарыла ад 797 да 802 года, была адной із першых евангельскых хрысьціянак, і гэта цалкам зразумела; сентыментальныя раманы, першымі із якіх і былі евангеллі, заўсёды асабліва моцна ўздзейнічалі на ўяўленне жанчын і выклікалі іх спагаду.

Усё, што пазьней сцвярджалася гісторыкамі (бяручы за падмурак мала абгрунтаваныя здагадкі) пра яе ўладапрагнасць і пра тое, быццам бы з яе згоды быў асьлеплены паўстаўшы супраць яе адзіны сын, дае мала даверу псіхалагічна адукаванаму чалавеку, але тое, што яна была хутка пазбаўлена пасада і закончыла сваё жыццё ў якасьці «нарачонай Хрыста» у жаночым манастэрыёне – вельмі праўдападобна.

# Глава XVIII

## Барацьба куміразмагальнікаў і прыхільнікаў абразоў і статуй у Вялікай Рамеі VIII і пачаткі IX стагоддзяў.



Басфор

Куміразмагальніцства сучаснымі гісторыкамі аддзяляецца ад агаранства, але ці справядліва?

Без сумневаў, яно было амаль на стагоддзе пазьней пачатку геджры, але ў гістарычным маштабе гэта ўжо і не такі вялікі прамежак часу.

Пасьля таго, як мы пераканаліся, што ніякі Магамет з Каранам у руках не прыходзіў пераможна із Аравійскіх пустыняў у больш культурныя вобласьці Азіі і Афрыкі ў VII стагоддзі нашай эры, увесь ідалазмагальніцкі рух даводзіцца выводзіць, як і патрэбна было чакаць, грунтуючыся на цьвярозым розуме, із цэнтра тагачаснай рэлігійнай культуры, Цар-Горада. Яго афіцыйнага ініцыятара Ільва Ісаўраніна звычайна клічуць іконазмагальнікам, чым надаюць уяўленне, быццам бы да яго ў Візантыі існавалі толькі абразы, накшталт нашых сучасных. Але гэта проста недагляд асоб не вельмі добра ведаючых грэцкую мову, таму што абразам (εἰκών) па-грэцку называецца кожная скульптурная ці намаляваная выява. Кожная статуя Венеры ці Юпітара-Грамабоя, кожны мазаістычны партрэт імператара ці імператрыцы, кожная статуя жывёлы па-грэцку мае назву ікона (абраз).

І калі мы будзем браць да ўвагі шмат разоў паказаную намі акалічнасць, што Арый і Арон, вылепіўшы выяву двух цяльцоў для ўшанавання народам, былі адной і той жа асобай, і што ў Вялікім Цары (Васілю Вялікім, па-грэцку), усталяваўшаму пад час таго ж IV стагоддзі хрысьціянскае набажэнства, мы маем першакрыніцу міфаў пра евангельскага «Ратавальніка», то мы пазначым наступнае.

Ні пры Дыяклетыяне, ні пры Юльяне, ні пры Юстыніяне, ні нават пры самім Гераклії (610-641), калі Ягіпет перайшоў да агаранства, выявіўшымся тады толькі ў пілігрымствах да аскепкаў мекскай метэарытнай катастрофы, мы не бачым ніякіх указанняў на сістэматычнае вынішчэнне нейкіх боскіх выяваў ранейшага часу. А такія выявы, без сумневаў, існавалі і тады; хаця і не ў такой вытанчанай форме, як у творах, прыпісваемых Фідыю і з'явіўшыхся на сьвет не раней Эпохі Адраджэння.

Гэта азначае, што першы агульна-ўрадавы паход на «рэчывыя выявы нерэчывых богаў» быў зроблены толькі пры Ільве Ісаўрыйскім у палове VIII стагоддзя нашай эры, а магаметанскае вынішчэнне, распачатае не раней XI стагоддзя, было толькі яго адлюстраваннем у глыбіні Азіі.

Як цікавае супадзенне, мы пазначым тут, што ў гэты самы час адбылося вывяржэнне на выспе Сантарын, попел якога даляцеў да Канстантынопаля, але мы не маем паведамленняў пра землятрус, які знішчыўшы статуі богаў, даў бы нагоду да іхнага ўсенароднага знішчэння і рабавання. У гэты ж самы час, – кажуць нам,– было вынайдзена і «грэцкае полымя», г.азн. вадкасць, гарэўшая на паверхні вады і здольная падпальваць плаваючыя на ёй драўляныя караблі.

Напэўна, – як я ўжо выказваўся, – гэта была проста нафта, але яе першае ўжыванне пад час ночы павінна было прывесьці ў жах варожых рамейцам забабонных маракоў, на ўласныя вочы бачыўшых як візантыйцы запальваюць мора. Яна, – кажуць нам, – была ўжыта ўрадам Ільва Ісаўраніна якраз супраць яго ўласных маракоў, паўстаўшых на абарону выяваў сваіх богаў. Нам смешна тут перадаваць наіўныя да недарэчнасьці паданні пра характар яго іконазмагання, накшталт, напрыклад, «гістарычнага сведчання» Рыгора Гамартола пра тое, як імператар, зняўшы выяву Хрыста, стаяўшую над бронзавай брамай яго палаца, кінуў яе ў мора, напісаўшы на ёй пагарджаючыя словы:

«*Ратавальнік! Выратуй сябе і нас*!»

«*Але Міжземнае мора*, – паведамляе Гамартол, – *і рака Тыбр* (нават супраць сваёй плыні) *асцярожна даставілі гэтую выяву ў Рым*»[232].

Усё гэта – тыповыя сярэднявечныя прыдумкі...

Не верыцца і таму, што быццам бы Леў Ісаўранін спаліў за абразашанаванне «шыкоўную бібліятэку з усёй калегіяй яе прафесараў», як пра гэта «сведчыць» не толькі той жа Гамартол, але і Кедрынас[233].

Усё гэта звычайныя прыёмы сярэднявечных аўтараў ачарніць сваіх супернікаў, але з'яўляецца вельмі праўдападобным меркаванне Баронія[234], грунтуючыся на тым адным, што яно – цалкам нечаканае з боку гледжання сучасных яму поглядаў. Калі б агаранства таго часу было блізкім да магаметанства, як кажуць зараз, то здавалася б, што Леў Ісаўранін нідзе не знайшоў бы сабе лепшага прыхільніка, як у асобе Дамаскага каліфа і ў яго двара. А тым часам мы бачым цалкам адваротнае. Галоўным абаронцам «боскіх выяваў», – паведамляюць нам аднагалосна ўсе аўтарытэты царквы, – быў высокі саноўнік Дамаскага каліфа Ян Дамаскін, які сваім супрацівам «іконазмагальніцтву» так раздражніў імператара Ільва, што той спрабаваў нават абылгаць яго перад каліфам, напісаўшы яму, быццам бы Ян намераны аддаць яго краіну іконазмагальнікам-візантыйцам[235].

Праўда, што гэтае паданне пра жарснага іконашанавальніка Яна не заслугоўвае вялікай увагі, таму што яно ўсё напоўнена дзівамі, але факт, што хрысьціянін Ян Дамаскін, які, адпаведна з нашымі меркаваннямі[236], быў і аўтарам евангелля Яна, займаў адказнае месца пры двары Дамаскага каліфа, неаспрэчны, і гэта служыць новым довадам таго, што ізмаэлітства тады было аднаверчай рэлігіяй з візантыйскім хрысьціянствам і нават шырока карысталася, хаця б толькі да таго часу, выявамі богаў і сьвятых у сваім рэлігійным рытуале.

Нам кажуць, што пачатае Ільвом Ісаўранінам знішчэнне боскіх выяваў не сустрэла спагады ў Заходняй Яўропе і ён памёр непапулярным нават і ў асяроддзі ўсходняга насельніцтва імперыі, пакінуўшы пасад у 741 годзе свайму сыну Кастусю Капраніму[237].

Каб вырашыць спрэчную справу свайго бацькі, ён склікаў сабор із 300 біскупаў, які таксама абвясьціў усе выявы, вырабляемыя для рэлігійных мэт з дапамогай мастацтва скульптара ці маляра, незаконнымі, паганскімі і балванаўхвальнымі, як я ўжо меў выпадак паведамляць раней[238].

Але тым, відаць, і абмяжоўваецца праўдзівая частка паведамленняў іконашанавальнікаў (нашых адзіных першакрыніц) пра рашэнні гэтага сабора, ад якога не засталося, як і ад іншых сярэднявечных, ніякіх уласных дакументаў. Усё астатняе, як напрыклад, паведамленне пра тое, што на ім ганьбавалі Яна Дамаскіна рознымі «ганебнымі» эпітэтамі[239], носіць прыкметы звычайнага багаслаўскага паклёпу на свайго суперніка, які працягваўся аж да XX стагоддзя.

Падбадзёраны такім рашэннем, Кастусь Капранім, апаганіўшы сваё ўласнае хрышчэнне, – паведамляюць нам, – загадаў не толькі знішчыць статуі, але і

---

[232] G. Hamartol, 148, 15.

[233] Там жа, 148, 13; Cedren, 454.

[234] Baronius, 727 (18-20)

[235] «Vita Ioannis Damascensis», 15-30.

[236] «Хрыстос», кніга I.

[237] Па-грэцку Копрас азначае – выпаражненне.

[238] Hardouin, IV, 380, 415.

[239] «Theophani Chronographia», 643 год.

замазаць усе боскія выявы на сьценах праваслаўных храмаў[240]. Усё белае сьвятарства падначалілася яго рашэнню, але манастэрыёнцы запрацівіліся яму. За гэта, – як я ўжо паведамляў, – іх аддалі на розныя пакаранні[241]. Кляштарскія мошчы выкідваліся ў мора, а месца, дзе яны ляжалі, «належала апаганьванню» адпаведна са спосабам цара Капраніма. Так, напрыклад, было з мошчамі сьвятой Яўхіміі ў Халкідоне, але хвалі Эгейскага мора «вельмі асьцярожна (!)» перанеслі яе на выспу Лемнас[242], дзе і зберагглі[243].

Такі паход на рэчаісных богоў працягваўся і далей на працягу ўсяго доўгага валадарання Кастуся Капраніма, аж да яго сьмерці ў 775 годзе. А лацінскі захад, за выключэннем Ламбардыі, увесь гэты час заставаўся па-за богазмагальніцствам, хаця і не адлучваў яго ад царквы.

Кастусю Капраніму ўспадкаваў у 785 годзе яго сын Леў IV, які хаця і быў праціўнікам ушанавання абразаў, але быў больш верацярпімым. Дзякуючы заступніцтву яго жонкі, аматаркі мастацства Ірыны, некаторыя манастэрыёнцы і прыхільнікі абразашанавання былі прызначаны нават на япіскапіі, хаця, быццам бы, з умовай хаваць свае думкі[244]. Але, нягледзячы на агульную мяккасць прыроднага характару Ільва IV, яго непрыхільнасць да выяваў богаў дайшла да таго, што калі быў знойдзена абраз пад падушкай яго жонкі Ірыны, ён загадаў секчы плёткамі некаторых важных саноўнікаў, браўшых удзел у гэтай справе, і разлучыўся, быццам бы, з імператрыцай, хаця яна і адмовілася ад якога б то ні было ўдзелу ў гэтай справе.

Але пасьля чатырох з паловай гадоў Леў IV памёр, і кіраванне перайшло ў рукі Ірыны, як апякункі яго сына Кастуся VI, хлопчыка дзесяцігадовага веку. Імператрыца, – як я паведамляў ужо вышэй – адчувала, што для ажыццяўлення яе таемных жаданняў ёй патрэбна дзейнічаць асьцярожна. Значная колькасць візантыйскіх біскупаў, памятаючы катастрофу 622 года, была яшчэ супраць выяваў богаў. Моцная стодазнішчальная партыя была і сярод парафіянаў, ды і войска ў 780 годзе яшчэ прытрымлівалася поглядаў памёршага імператара Кастуся, памяць пра якога жыла ў яго асяроддзі, як пра гераічнага вайскавода. Спачатку Ірына адважылася толькі выдаць указ з абвяшчэннем агульнай волі сумлення[245]. Манастэрыёнцы, яшчэ знаходзіўшыяся ў выгнанні, былі вернуты, абразы і статуі зноў пастаўлены на свае месцы, і сярод захопленага народа пайшло шмат апавяданняў пра цуды ад іх.

У Канстантынопалі быў склікаены сабор напачатку жніўня 786 года, але на працягу тыдня да прызначанага дня супернікі абразашанавання склікалі свае сходы дзеля супраціўлення. Пачаўся бунт сярод некаторай часткі імператарскай гвардыі і іншага войска, падтрымліваўшага стодазнішчальную партыю, а на наступны дзень замяшаннэ пашырылася. Калі Тарасій, іконашанавальніцкі патрыярх Ірыны, і іншыя сябры сабора сабраліся ў царкве; шмат жаўнераў і іншага народу, падахвочваныя іконазмагальніцкімі біскупамі, кінуліся на іх і вымусілі іх шукаць сховішча ў сьвяцілішчы. Жаўнеры, якім быў дадзены загад утаймаваць мяцеж, адмовіліся выконваць загад. Імператрыца часова адмовілася ад сваёй справы.

240 «Theophani Chronographia», 643 год.
241 Там жа, 675 год.
242 Там жа, 675 год.
243 Там жа, 688 год.
244 Там жа, 696 год.
245 «Theophani Chronographia»,704 год.

Але, вось, – як я ўжо меў выпадак паведаміць, – мяцежных жаўнераў яна выправіла на радзіму, і ў верасні наступнага года сабраўся новы сабор із 350 біскупаў разам са шматлікімі манастэрыёнцамі і прадстаўнікамі іншага сьвятарства, сабраўшаўшагася ў Нікеі.

Першыя месцы па вартасьці былі аддадзены рымскім пасланнікам і першае паседжанне адбылося 24 верасня, а апошняе адбылося ў Канстантынопалі 23 кастрычніка.

Шмат хто із біскупаў, браўшых ўдзел у іканазмаганні мінулых валадаранняў, выступілі першымі для анафематствання сваіх уласных памылак і пакорліва дамагаліся дапушчэння да дэбатаў. Некаторыя з іх казалі, што яны да гэтага часу ніколі не мелі магчымасьці правільна абмеркаваць гэтае пытанне, і былі падмануты хлуслівымі сведчаннямі, ці ж пакутавалі слепатой розуму. Узнікла пытанне, да якога разраду ерэтыкоў патрэбна прылічыць іконазмагальнікаў. Тарасій настойваў на далучэнні іх да разраду **маніхеяў, маркіянітаў і монафізітаў**, таму што гэтыя секты таксама працівіліся абразашанаванню. Манастэрыёнская партыя заяўляла, што іконазмагальніцтва горшае за самую горшую із ерасяў, таму што яно адмаўляла ўвасабленне Ратавальніка[246]. Супраць іконазмагальнаў падымаліся гучныя выкрыкі, як супраць бязбожнікаў, юдэяў і ворагаў праўды, і калі была зроблена прапанова назваць іх саракінамі, то пачуліся адказы, што і такая назва занадта добрая для іх[247].

Згодна са звычайнай практыкай сабораў, на карысць абразашанавання былі прыведзены «старажытныя сведчанні» і двойчы было прачытана такое апавяданне, якім ужо не раз карысталіся як палемічныя, так і павучальныя пісьменнікі.

«*Адзін састарэлы манах на гары Елеонскай*[248], – гаварылася там, – *быў моцна спакушаемы нячыстым духам. Аднойчы нячысьцік з'явіўся да яго і, узяўшы з яго клятву захаваць у таямніцы іхную размову, абяцаў яму спыніць свае напады, калі толькі манах адмовіцца ад ушанавання абраза найсьвяцейшай Панны, вісеўшай у яго келлі. Манах папрасіў часу для абдумвання гэтай прапановы і, нягледзячы на дадзеную клятву маўчаць, звярнуўся за парадай да аднаго славіўшагася сваёй сьвятасьцю старца, які спачатку пасварыўся на яго за тое, што ён даў клятву дз'яблу, а потым сказаў, што ён зрабіў добра, парушыўшы гэтую клятву, і што для яго было б лепш наведаць кожнае блудзілішча ў Ерусаліме, чым адмовіцца ад ушанавання выяваў Ратавальніка і яго маці*».

Із гэтага павучальнага апавядання была выведзена з агульнай згоды дваякая мараль: па-першае, што можна парушаць нават клятвы, калі яны дадзены спакушальнікам, і, па-другое, што тыя, якія раней давалі клятву ў адданасьці іконазмагальніцкай ерасі, нiколькі не звязаны ёю[249].

На пятым паседжанні сабора рымскія легаты прапанавалі, каб быў прынесены які-небудзь абраз для ўшанавання яго тут жа ўсімі сябрамі сабора. Гэта было зроблена на наступны дзень. Усе без выключэння пакланіліся, і на тым жа паседжанні былі прачытаны пастановы іконазмагальніцкага сабора 754 года, пры

---

[246] Hardouin, IV, 50-60. Акрамя «Consiliorum Collectio», Жаў Гардуен (1648-1729) напісаў вялікае дасьледаванне: «Chronologia ex nummis antiquis restituta» і «Prolegomena ad ceosurum vetarum scriptorum», дзе ўпершыню давёў, што ўсе старажытныя манеты-медалі і класічныя творы напісаны ў XII стагоддзі манахамі

[247] Hardouin, IV, 189, 292

[248] Там жа, 208, 319.

[249] Там жа, 209.

гэтым кожны параграф суправаджаўся такім безумоўным аспрэчваннем, што яно, было пазьней прызнана «носячым на сабе пячатку надання сьвятым духам»[250].

На сёмым паседжанні гэтае рашэнне сабора было падпісана. Ім усталёўвалася, што выявы крыжа, ратавальніка і богамаці, анёлаў і сьвятых, ці намаляваныя, ці мазічныя, ці нейкага іншага падобнага роду, павінны быць выстаўляемы для цалавання і ўшанавання, хаця і не для сапраўднага абагаўлення, належачага толькі боскай сутнасьці. Пастанаўлялася прыносіць каджэнні і свечкі крыжу, евангеллям і іншым сьвятым прадметам, таму што пашана, выказваемая выяве, мае дачыненне і да першаўзора, і той, хто ўшаноўвае выяву, ушаноўвае гэтым самым тую сутнасць, якая на ім малюецца. Супраць усіх праціўнікаў абразашанавання была абвешчана анафема са шматлікімі захопленымі ускліканнямі ў гонар новых Кастуся і Алены, разам з праклёнамі супраць іконазмагальнаў і розных ерэтыкоў[251]. Гэтыя ўсклікaнні паўтараліся і на восьмым паседжанні, калі сябры сабора з'явіліся ў адзін із палацаў Канстантынопаля, і рашэнне было падпісана як імператарам, так і яго маці. Гэты сабор, набыўшы значэнне сёмага сусьветнага сабору, пастанавіў, – паведамляюць нам, – яшчэ 22 каноны, маючыя дачыненне галоўным чынам да царкоўнай і кляштарскай дысцыпліны[252].

Але патрэбна заўважыць, што выявы, ухваленыя Нікейскім саборам, – кажуць нам усходнікі, – не былі творамі скульптуры, як гэта тлумачаць заходнікі, а толькі творамі малярства і іншымі выявамі на **плоскай** паверхні і гэтага абмежавання ўсходняя царква прытрымліваецца і зараз.

Такім чынам, рэстаўрацыя была ўжо толькі палавіннай. Яна аднавіла ў Візантыі своеасаблівае ўмоўнае малярства, але загубіла скульптуру, збегшую на захад Яўропы, дзе не прынялі такога абмежавання.

Кастусь VI, – кажуць нам, – вырас у атачэнні жанчын і валахаў у поўным падпарадкаванні сваёй маці. Ірына мела намер адружыць яго на адной із дачок Карла Вялікага. Але хутка пасьля Нікейскага сабора, не аднавіўшага статуі, сватанне было спынена Ірынай, згодна з грэцкімі паданнямі – да вялікага абурэння франкскага караля («Theophani Chronographia», 705, 718 г.), а згодна з лацінскімі паданнямі (Einhard, 786 год) – самім Карлам, да вялікага абурэння Ірыны, якая потым заахвоціла свайго сына адружыцца з адной армянскай князёўнай Марынай.

У дваццацігадовым узросьце Кастусь скінуў апеку сваёй маці, і на працягу некалькіх гадоў імперыя была хвалюема пераваротамі. Нарэшце, яго пераканалі зноў дапусьціць сваю маці да ўдзелу ў кіраванні, і яна працягвала ставіцца да яго як і раней. Ён закахаўся ў адну прыгожую прыдворную даму Фядоту і вырашыў развесьціся са сваёй жонкай Марынай, каб адружыцца са сваім новым захапленнем. Патрыярх Тарасій спачатку пярэчыў гэтаму жаданню, але Кастусь, быццам бы, пагражаў, што, калі царква адмовіцца зрабіць для яго гэтае паслабленне, то ён адновіць статуі[253].

Так, прынамсі, сведчыць Кедрынас (Cedrenus, 172), а Хведар Студыт (з. 26), наадварот, сцвярджае, што ён пагражаў аднавіць ідалазмагальніцства. Ва ўсякім разе патрыярх Тарасій не адважыўся яму запярэчыць, Марына была заняволена ў

[250] Там жа, 321, 325.
[251] Hardouin, IV, 469-472.
[252] Там жа, 485.
[253] Літаральна: τοῦς ναούς τῶν ε'ἰδάγων ἁνοίγω (адкрыю храмы выяваў) таму што слова ε'ἰδάγον паходзіць ад ε'ἰδω – бачу і літаральна азначае – бачнасць.

кляштар, і другое адружанне імператара было здзейснена ў верасні 795 года. Але ўсё ж чамусьці справа закончылася тым, што юны імператар праз два года быў схоплены і аслеплены.

Пасьля пазбаўлення пасада свайго сына Ірына валадарыла яшчэ на працягу пяці гадоў. Адпаведна са сведчаннямі грэцкіх пісьменнікаў яна была занятая планам аб'яднання імперый з дапамогай адружання з Карлам Вялікім; але ў 802 годзе была пазбаўлена пасада, як я ўжо паведамляў, сваім сакратаром Нічыпарам і выпраўлена ў выгнанне на выспу Лесбас, дзе і памёрла праз некалькі месяцаў.

Нічыпар, схільны да іконазмагання, забараніў цар-гародзкаму патрыярху стасавацца з папай, чым абудзіў крайнюю незадаволенасць у асяроддзі свайго сьвятарства. У 811 годзе ён быў забіты ў вайне з баўгарамі, і яго сын Стаўракій, пасьля менш чым двухмесяцовага валадарання, быў заняволены ў кляштар, дзе хутка і памёр. Імператарскую ўладу быў вымушаны прыняць Міхал Рангаві, які зноў аднавіў абразашанаванне, але іконазмагальніцкая партыя працягвала існаваць, і падчас нападу баўгар цудоўным чынам адбіла іх: у той час, калі іконашанавальнікі спрабавалі адхіліць небяспеку хроснымі хадамі і малітвамі, іконазмагальніцкія жаўнеры схіліліся замест таго перад магілай свайго Капраніма, молячы яго выратаваць дзяржаву. У адказ на іхную малітву ён сам з'явіўся да іх на кані і рушыў супраць варвараў, хаця, як паведамляе Феафан, і жыў у гэты час у апраметнай разам з чарцямі[254].

Міхал пасьля двухгадовага валадарання таксама быў пазбаўлены пасада і пастрыжаны, а замест яго на пасад быў пасаджаны вайскавод, на імя Леў.

Але візантыйскае богабойства і тут яшчэ не скончылася. Хаця Міхал I (811-813) і пераследаваў супернікаў боскіх выяваў, але яго наступнік Леў Армянін (813-820) зноў пачаў знішчаць абразы, што было цалкам зразумела.

Сапраўды, як ён мог не знішчаць абразоў?

Яго валасы, – паведамляюць нам, – былі калючымі як цярноўнік, так што калі патрыярх дакрануўся да іх, ускладаючы на яго карону, то параніў сабе рукі, і таму, вядома, ад яго немагчыма было чакаць ніякага дабра. Ён загадаў знішчаць, спальваць і пакрываць брудам усе абразы, да якіх яго прыхільнікі маглі знайсьці доступ. Яго забіў уласны вайскавод, і на пасад быў узведзены Міхал Заіка (820-829), пры якім, адпаведна з нашымі ранейшых высновамі, Хведар Студыт напісаў евангелле Мацьвея. Але і новы цар не аднавіў у сваёй сталіцы выявы. Яшчэ горшымі сталі справы пры яго наступніку Феафілу (829-842), загадаўшаму, каб у храмах замест абразоў былі пастаўлены свецкія карціны. Але, вось, і ён, нарэшце, памёр, і на пасад уступіў Міхал III П'яніца, і, дзякуючы яму, на сабраным у 829 годзе саборы іконазмагальнікі былі канчаткова аддадзены анафеме разам з іншымі ерэтыкамі.

Гэта і была знакамітая «ўрачыстасць праваслаўя», усталяваўшая формулу адлучэння ўсім ерэтыкам, якая здзяйсняецца ва ўсходняй царкве і да гэтага часу.

Такой з’яўляецца ў кароткім нарысе гісторыя абразазнішчэння ў Візантыі ў VIII стагоддзі і яго заканчэння ў IX стагоддзі, як малююць нам гэта тэолагі. Але чытач сам бачыць, што ўсё гэта падобна на цела без душы. Вось такі-та, – паведамляюць нам, – зрабіў тое, вось такі-та пайшоў туды і пакалаціў вось такога... А якой жа была псіхіка, логіка і натуральная падстававасць усіх гэтых здзяйсненняў – не бачна цалкам, ды і не можа быць усталявана, пакуль мы не выпрацуем правільную храналогію для разнастайных і заўсёды суб'ектыўных

[254] «Theophani Chronographia», 781 год.

паведамленняў, самавольна раскіданых сярэднявечнымі гісторыкамі па розных стагоддзях і краінах.

Такі магутны і па сваёй прыродзе рацыяналістычны рух, як змаганне з рэчыўнымі багамі, не мог не мецъ сур'ёзных падставаў і мы, сапраўды, знаходзім іх у самой эвалюцыі чалавечай псіхікі, па меры пашырэння адукаванасьці ў асяроддзі прывілеяваных станаў Вялікай Рамеі, нават і паміж самімі служкамі культу.

Мы ніколі не павінны забывацца, што першай стадыяй чалавечага мышлення быў анімізм усяго існуючага. Чаму дзяўчынкі некалькі гадоў носяцца з лялькамі, а хлопчыкі расстаўляюць цацачных конікаў, а потым перастаюць імі цікавіцца? Толькі таму, што пад час першых гадоў жыцця ў іх яшчэ моцна трымаецца першапачатковае ўяўленне, што ўсё навакол мае сваю сьвядомасць, аналагічную нашай, што кожная лялька, дрэва, хмурынка і камень маюць сваю душу, хаця і не размаўляюць. І часта дзецям здаецца, што нейкая жывёла валодае больш высокімі ведамі, чым чалавек.

Парэшткі гэтага анімізму праглядаюцца амаль ва ўсіх народных казках і ўвесь час праяўляюцца ў паэзіі.

На поўначы дзікай стаіць самотна на голай вяршыні хвоя.  
І дрэмле, калыхаючыся, і снегам сыпучым апранута, як рызай, яна.  
І сніцца ёй усё, што ў пустыні далёкай, у тым краі, дзе сонца ўзыход,  
Адна і сумная на ўцёсе гаручым прыгожая пальма расьце.

Так піша Лермантаў. Для дзіцяці і для першабытнага чалавека гэты верш раўназначны апісанню рэчаіснасьці, а для дарослага – алегорыя, выклікаючая ў нас паэтычнае ўражанне менавіта таму, што прымушае гучаць ужо адышоўшыя ў вобласць падсвядомасьці парэшткі нашага дзіцячага ўсеагульнага анімізму, г.азн. адушаўлення ўсёй прыроды. Без гэтых парэштакаў такі верш не вырабляў бы на нас ніякага ўражання.

Такі ўсеагульны анімізм пад час старажытнасьці прывёў нашых продкаў, ды і зараз прыводзіць дзікуноў, да рэлігійнага фетышызму. Яны ўшаноўваюць дрэва, пра якое з нейкай нагоды ўзніклі таямнічыя апавяданні, камень, у абрысе якога бачаць нешта нагадваючае чалавечую ці звярыную галаву, і больш усяго нейкую вылепленую ці зробленую чалавечую фігуру, пры паглядзе на вочы якой першабытныя людзі, як дзеці пры паглядзе на ляльку, не могуць пазбавіцца ад уражання, што яна ўсё бачыць, і пры паглядзе на рукі якой не могуць пазбавіцца ад уяўлення, што яны могуць і схапіць іх.

Менавіта такой уяўляецца і паганска-хрысьціянская да-іконазмагальніцкая рэлігія не толькі візантыйскага простага народа, але і тагачасных псеўда-адукаваных станаў. Гэта быў пан-анімізм.

Але памаленьку сама практыка такога культу пачала паказваць шмат каму поўную немач і нежыццёвасць гэтых рэчыўных мясцовых багаў. Самі скульптары, вырабляўшыя адну статую за другой, прызвычаіліся ставіцца да іх, як да ўсякага іншага свайго твора. Яшчэ і раней існаваўшае ўяўленне пра сьвет нябачных істот, непараўнальна больш магутных, чым насяляючыя бачымы намі сьвет, прывяло да таго, што і самі статуі багаў пачалі лічыцца маючымі магутнасць толькі таму, што яны адлюстроўвалі сваёй выявай нябачных багаў. А пасьля гэтага застаўся толькі адзін крок да адмаўлення існавання якой бы то ні было магутнасьці і ўлады за такімі статуямі. І такі крок непазбежна вымусілі зрабіць сейсмічныя скалынанні зямной паверхні ў схільных да гэтага краінах, разбіваючы час ад часу не толькі самі статуі, але і іхныя сьвяцілішчы.

Рух супраць фетышызму, павінен быў натуральна ўзнікнуць сярод найбольш адукаванай часткі рамейскага насельніцтва і павінен быў сустрэць, як і ўсё перадавое, супраціўленне «забабоннага натоўпу».

Усё гэта мы і бачым у толькі што выкладзеным намі нарысе абразазмагальніцкага руху. Леў Ісаўранін паўстаў не на абразы, накшталт нашых, а на паганскае хрысьціянства, г.азн. на існаваўшы аж да яго часу фетышызм, падобны на той класічны пантэон, які мы дарэмна дапасуем да перуяду амаль за тысячу гадоў да яго часу.

Але адсутнасць выяваў для ўшанавання вышэйшых магутнасьцей так мала адпавядала тагачаснай псіхіцы візантыйскага насельніцтва, што нарэшце замест ранейшых статуй давялося ім даць псеўда-партрэты, пра якія ўжо немагчыма было сказаць, што яны самі і ёсць багі; акрамя таго, яны валодалі яшчэ той перавагай перад статуямі, што хаця б і падалі пры землятрусах, але не разбіваліся, і сьвятары, падняўшы іх із зямлі, маглі з урачыстасьцю паказваць насельніцтву, як «цудоўна яны выратаваліся» пры ўсеагульнай разбурэнні.

Каран султана Магамета быў наступствам рамейскага куміразмагання, а не яго папярэднікам, пераляцеўшым па паветры із пустыняў Аравіі ў заселеныя месцы.

# Глава XIX

## Водгаласы рамейскага куміразмагальніцства ў Заходняй Яўропе. Пераход Вялікага Цара-Месіі ад стану ўсыноўленага богам чалавека ў стан сапраўднага сына боскага на Франкфурцкім саборы 794 года, пасьля пашырэння евангелля Яна (Дамаскіна, 676-777 гг.). Падробленыя декрэторыі Ісідора, як першааснова царкоўнай псеўда-гісторыі першых трох стагоддзяў нашай эры.

Рамейскае куміразмагальніцства не магло не адбіцца ў Заходняй Яўропе. Вялікі пантыфекс Адрыян, атрымаўшы «Здзяйсненні Нікейскага сабора» пра аднаўленне абразоў, выправіў іхныя копіі Карлу Вялікаму, чакаючы, што яны будуць прыняты і франкамі. Але адбыўшаяся перад тым скасаванне адружання паміж дачкой караля і сынам Ірыны не спрыяла прыхільнаму стаўленню яго да ўсходніх пастановаў, і ён пераслаў дакументы для вынясення рашэння Алкуіну, які знаходзіўся тады ў Англіі. Той зрабіў некалькі заўваг пра Нікейскія пастановы ў выглядзе ліста, і з іх, лічыцца, утварыўся пазьней трактат у чатырох кнігах ад імя Карла Вялікага пад назвай «Каралінгскіх кніг», якія ўпершыню былі надрукаваны ў 1549 годзе Жанам дзю-Ціле, хаця каталікі і сцвярджаюць, што яны – падроблены твор аднаго рэфарматара і з іхным познім паходжаннем немагчыма не пагадзіцца.

На думку аўтара, вельмі зневажальным з'яўляецца для «сьвятога таемства прычашчэння», і для крыжа, «знака нашага выратавання і знака нашага хрысьціянскага спавядання», і для сьвятых пасудзін, і для сьвятых кніг, што шанаванне выказвае ім, ставіцца на адзін узровень з ушанаваннем абразоў. Павага, выказваемая сьвятым парэштках, ўяўляючым сабой часткі цела сьвятых людзей ці

наогул рэчам, нейкім чынам злучаных з імі, не можа служыць падставай для выказвання падобнай жа павагі абразам, якія з'яўляюцца простым творам мастака. Хрыстос і яго сьвятыя, – пераконваў ён, – не патрабавалі такога шанавання. Хаця больш адукаваныя людзі і здольны ставіцца да абразоў без балванахвальства, накіроўваючы сваю павагу да таго каго яны пазначаюць, аднак неадукаваныя, не могучыя разабрацца ў прыватнасьцях, лёгка могуць пераходзіць да абагаўлення таго, што яны бачаць, без якой бы то ні было думкі пра прадмет, стаячы па-за межамі выявы. Правіна ў падобным граху павінна падаць не на тых, хто адмаўляецца ўшаноўваць выявы, а на тых, хто прымушае да падобнага ўшанавання. Абразы, на думку аўтара, могуць быць дазволенымі толькі ў выглядзе ўпрыгожванняў, ці ў якасьці гістарычных успамінаў. Дарэмна сцвярджаюць, што быццам бы без іх немагчыма памятаць пра бога. Вельмі дрэннай з'яўляецца памяць, якая мае патрэбу ў нагадванні пра бога з дапамогай абразоў, і не надзейнымі з'яўляюцца тыя людзі, якія не здольны падняцца духам вышэй рэчыўнага тварэння, акрамя як з дапамогай самога рэчыўнага і створанага прадмета.

Але ўсё гэта – ужо ідэі пярэдадня рэфармацыі, а таму не могуць характарызаваць ідэалогію VIII стагоддзя, тым больш, што франкфурцкі сабор займаўся, перадусім, – кажуць нам, – вучэннем Аргельскага біскупа Фелікса ў Каталоніі пра дачыненне чалавечай прыроды Хрыста да божай прыроды яго бога-Бацькі. Да таго самага часу некаторыя пісьменнікі і ўся гішпанская літургія карысталіся ў дачыненні да Хрыста тэрмінам усынаўленне (adoptio) і зваліся адапцыяністамі. Яны былі адгалінаваннем нестарыян, таму што адпаведна са сваім духам абодва вучэнні, бясспрэчна, падобныя паміж сабой. Але адапцыяністы не пярэчылі супраць называння панны Марыі Deipara (г.азн. багароўная) і Феатокас (гэта азначае Багародзіца) і дапускалі **аб'яднанне** ў Хрысьце двух існасьцей – божай і чалавечай. Ён не можа, – казалі яны, – быць ва ўласным сэнсе сынам боскім па сваёй чалавечай сутнасьці, калі толькі мы не будзем лічыць, што яго цялесная існасць запазычана ад самой існасьці бога. Ён з'яўляецца проста сынам Давыдавым і толькі дзякуючы ўсынаўленню – сынам боскім.

Фелікс Аргельскі набыў вядомасць у якасьці галоўнага пашыральніка гэтага вучэння і вінавацiў Беата і Этэрыя, распрацаваўшых вучэнне пра божую плюс чалавечую прыроду Хрыста, у тым, што яны змешваюць у ім абедзьве гэтыя сутнасьці, як вінаробы віно і ваду (sicut vinum et aqua)[255]. Другім правадыром адапцыянізму быў Эліпанд, біскуп таледзкі і прымат Гішпаніі: пад час агаранскага валадарства.

Адсюль мы бачым, што першымі вынаходнікамі двух існасьцей Хрыста былі абат Беат і Этэрый, хаця сабор, быццам бы сабраны супраць адапцыяністаў у Нарбоне ў 788 годзе, прызнаецца зараз фіктыўным. На наступны за ім Франкфурцкі сабор ад адапцыяністскай партыі не з'явіўся ніводны прадстаўнік, але ўсё ж Алкуін, выкліканы із Англіі, выступіў супраць іхнага вучэння і сабор сваім першым канонам у поўным пагадненні асудзіў іх, як ерась, якая «павінна быць канчаткова выкараненай із цэрквы». А Алкуін сцвярджае, што дзеля паслядоўнасьці Фелікс, падобна Несторыю, павінен быў бы падзяліць Хрыста, на два сыны: аднаго – сапраўднага і другога – намінальнага[256]. Але тая ж самая асоба не можа быць у адзін і той жа час сапраўдным і ўсыноўленым сынам аднаго і таго ж бацькі.

[255] Alcuin, «Epistolae», I, 793.
[256] Там жа, I, 11; IV, 5.

Сыноўства Хрыста грунтуецца не на яго сутнасьці, а на асобе. Дзьве яго сутнасьці не складаюць двух сыноў, таму што яны самі не адлучныя, а непадзельна злучаны ў адной асобе. Увесь Хрыстос ёсць сын боскі і ўвесь ён – сын чалавечы. Тут няма месца для ўсынаўлення. Хрыстос быў сапраўдным богам пачынаючы ад самага моманту свайго чалавечага зачацця. Але акрамя таго, – заканчвае Алкуін сваю смешную сафістыку, – увесь гэты прадмет, як звыш натуральны, не можа быць памераны чалавечым розумам. Хрыстос ёсць праўдзівы сын бога-бацькі, хаця яго цела і не паходзіць ад бога, і аспрэчваць магчымасць такога выпадку азначае падрываць боскую ўсемагутнасць[257].

Такім чынам, упершыню ідэя пра тое, што Хрыстос з'яўляецца не ўсыноўленым богам чалавекам, а сапраўдным богам і ў той жа час сапраўдным чалавекам, узнікла на Захадзе толькі на прыканцы VIII стагоддзя і выпрацавана ад імя навукоўца часу Карла Вялікага, Алкуіна (735-804). Спачатку пра Вялікага цара было дзьве думкі: адны казалі: «ён бог», і другія: «ён чалавек», а Алкуін прызнаў праўдзівым як тое так і іншае і гэтая недарэчнасць была канчаткова прызнана Заходняй царквой толькі на прыканцы VIII стагоддзя. Вось чаму можна сумнявацца і ў тым, каб яна была прызнана раней таго часу і на Ўсходзе.

Да пастановаў франкфурцкага сабора далучыўся сабор, сабраўшыся ў Фрывуле пры вялікім пантыфексе Паўліяне Аквілейскім, у 796 годзе, і сабор, сабраўшыся ў Рыме пры пантыфексе Ільве III, у 799 годзе. На фрывульскім саборы было пастаноўлена, што «Ратавальнік» «адзін і той жа як сын чалавечы, так і сын боскі; не ўяўляемы, а сапраўдны сын боскі; не ўсыноўлены, а ўласны; уласны, а не ўсыноўлены ў кожнай са сваіх існасьцей, ён нязлітна і непадзельна сын бога і сын чалавека»[258].

У акругу, у якой Фелікс падтрымліваў старую думку, былі выпраўлены Лейдрад, ліёнскі архібіскуп, Нефрыд, нарбонскі біскуп і Бенедыкт, абат аніянскі. Яны з поспехам працавалі над усталяваннем у царкве гэтай бязглуздзіцы і над аспрэчваннем усынаўлення і, сустрэўшы ва Ўргеле самога Фелікса, падгаварылі яго, запэўніўшы ў бяспецы, выправіцца ў Францыю, каб там ён меў магчымасць адказаць за сябе перад саборам, які меркавалася склікаць у Э-ла-Шапэле.

Там супраць яго выступіў Алкуін, які быў спецыяльна пакліканы із яго адзіноты ў Туры. Спрэчка адбывалася на працягу шасьці дзён. Фелікс, нарэшце, адрокся ад усынаўлення Езуса богам, асудзіў Несторыя і заклікаў сваё сьвятарства і народ быць вернымі сапраўднай веры[259]. Але дзякуючы таму што нехта выказаў падазрэнне адносна яго ўстойлівасьці, то яму ўсё ж не было дазволена вярнуцца ў сваю дыяцэзію, і ён быў выпраўлены пад нагляд ліёнскага арцыбіскупа.

А Лейдрад і яго таварышы зноў выправіліся ў Каталонію дзеля выкаранення яго ерасі, і Алкуін сведчыць, што падчас двух наведванняў яны набылі там 20 000 вяртанцаў – біскупаў, сьвятарства і парафіянаў[260].

Вось калі і як узнікла дзіўнае вучэнне, што евангельскі Хрыстос у адзін і той жа час «і бог і чалавек, і не злучана, і не падзелена»!

На прыканцы валадарання таго ж Карла Вялікага ўзнікла пытанне: адкуль жа выходзіць «святы дух»? Пры ўсынаўленні Хрыста было зразумелым, што ён

---

[257] Alcuin, II-V, у шмат якіх месцах (у выданні Patrologiae Cursus completus, томы 100 і 101).
[258] Hardouin, IV. 756.
[259] Alcuin, «Epistolae», 92 і 176.
[260] Alcuin, «Epistolae», 92.

выходзіць толькі ад бога-бацькі, а пры яго тоеснасьці з сынам, – як было вырашыць?

На грэцкім усходзе яшчэ быццам бы 2-і сусьветны сабор вызначыў, што дух сьвяты «выходзіць ад бога-бацькі», не кажучы нічога пра сына, што і зразумела, калі Хрыстос тады яшчэ не лічыўся «сынам боскім». На Фрыўльскім саборы, у 786 годзе, Паўлін, – кажуць нам, – падтрымаў новае вызначэнне, «ганьбячы тых ерэтыкоў, якія шэпчуць, што сьвяты дух належыць толькі бацьку і выходзіць толькі ад бацькі», і абараняўся супраць абвінавачвання яго ў навізне, таму што гэта быццам бы не было дадаваннем да Нікейскага сімвала, а толькі тлумачэннем яго, і сабор прыняў спавяданне веры, у якім выкладалася вучэнне пра падвойнае паходжанне[261].

Аднак, нават і для IX стагоддзя гэтыя спрэчкі пра сьвяты дух здаюцца апокрыфамі, таму што пра непагадненне паміж усходняй і заходняй цэрквамі па гэтаму прадмету мы не чуем да нашмат больш пазьняга часу, калі гэтае пытанне было «зноў» адноўлена і мела наступствам іх падзел. Спачатку ж сьвяты дух (Sanctus spiritus) выходзіў толькі із віннага спірту, як паказвае і сама яго назва, калі ап'яняючае ўздзеянне віна лічылася «таемствам боскім».

Мы бачым адсюль, што ўскосным вынікам рамейскага куміразмагальніцства было на Захадзе абуджэнне пытання пра асобу самога Хрыста і што гэтае пытанне было вырашана кур'ёзным пагадненнем абодвух ранейшых думак. Але гэта яшчэ не азначала, што спрэчкі тэолагаў пра асобу Хрыста адцягнулі Захад Яўропы ад пытання пра шанаванне выяваў багаў і напалову багоў, г.зн. сьвятых.

У франкскай царкве існавалі асобы, якія даводзілі свой супрацію абразам нашмат далей, чым гэта дапускалася франкфурцкім і парыжскім саборамі. Так Агабард, архібіскуп ліёнскі, прыводзіць шмат сведчанняў са старажытных пісьменнікаў, асабліва із Аўгустына, і імкнецца паказаць, што старажытная царква ўжывала абразы толькі ў якасьці ўспамінаў, а не для нейкай рэлігійнай мэты.

«*Выява*, – выказваецца ён, – *малюе толькі цела. Калі б наогул можна было абагаўляць людзей, то гэты гонар патрэбна было б хутчэй выказваць ім жывымі, калі яны знаходзяцца ў стане яднання цела і душы. Той, хто абагаўляе статую ці абраз, выказвае богашанаванне не богу, анёлам ці сьвятым, а самой выяве. Думаць інакш азначала б аддавацца спакушэнню дз'ябла, які імкнецца да аднаўлення балванахвальства. Чакаць ад рэлігійных выяваў дабра не менш недарэчна, чым збіраць войска із намаляваных жаўнераў, ці чакаць зямных пладоў ад выявы жніва ці збору вінаграду*».

Агабард не наклікаў на сябе нейкага асобнага ганьбавання з нагоды гэтых сваіх думак, але адзін із яго сучаснікаў, Клаўдый Турынскі, сваім рашучым супрацівам ужыванню выяваў у храмах выклікаў не мала замяшанняў у франкскай царкве[262]. Ён жыў пры двары Людовіка ў Аквітаніі і ў 814 годзе быў прызначаны ім на турынскую катэдру. Знайшоўшы, што цэрквы яго дыяцэзіі былі перапоўнены абразамі і прынашэннямі па зароку, ён адразу выгнаў іх, не зрабіўшы ніякага абмежавання нават на карысць маючых гістарычную каштоўнасць выяваў. Мошчы і крыжы зведалі тую ж долю. Ён аспрэчыў ушанаванне сьвятых, малітвы пра іх заступніцтва і звычай пасьвячэння ім цэркваў. Ён паўстаў супраць звычаю паломніцтва да сьвятых месцаў і пераконваў, што было б памылкай чакаць

---

[261] Hardouin, IV, 850, 855.

[262] Паведамленні пра Клаўдыя запазычаны із трактатаў Ёны і Дунгала супраць яго, таму што яго «Apologeticus» не існуе. А Дунгал і Ёна знаходзяцца ў Bibliotheca Patrum Lugdun., т. XIV, дзе дадзены і галоўныя месцы із Клаўдыя (pp. 197-199). Ёна знаходзіцца там жа, у томе CVI, а Дунгал у CV той жа «Patrologia».

карысьці ад наведвання апостала Пятра, таму што здольнасць дараваць грахі, дадзеная апосталам, належала ім толькі на працягу іхнага жыцця, і пасьля іхнай сьмерці пакінула іх. Папа Пасхалій выказаў яму сваё незадавальненне, але Клаўдый паставіўся лёгка да гэтага, заяўляючы, што тытул «апостальскі» належыць не таму, хто займае сядалішча апостала, а таму, хто робіць апостальскія справы.

Франкскае сьвятарства было збянтэжана яго дзеяннямі. Некаторыя прасілі Людовіка даследаваць думкі біскупа. Наладзілі сабор із біскупаў, але Клаўдый, якога запрасілі, адмовіўся з'явіцца на яго, і выказаўся пра сабор, як пра сход аслоў.

Супраць яго ў 827 годзе пісаў дыякан Дунгал, сцвярджаючы, што абразы ўжываліся ў цэркве ад самага пачатку, але не здолеў, вядома, прывесьці ніводнага прыкладу раней Паўліна Ноланскага, які жыў, быццам бы, каля 400 года. Згодна з прашэннем Людовіка аспрэчваннем Клаўдыя заняўся і біскуп арлеанскі Ёна, але і Клаўдый, і імператар, памёрлі раней, чым было закончана аспрэчванне.

Аднак, нягледзячы на падобныя непагадненні, якія ў іншых месцах паслужылі падставай да шматлікіх анафем, франкская царква заставалася ў непарушным камунікаванні з Рымам, хаця і працягвала трымацца свайго асобнага меркавання да заканчэння IX стагоддзя.

Так, пачаўшаяся на Ўсходзе змаганне з выявамі богаў і сьвятых не мела на захадзе Яўропы сур'ёзных наступстваў, хаця асобныя спробы да гэтага працягваліся аж да пачатку рэфармацыі. Чаму так здарылася? Відавочна, таму, што на заходзе Яўропы за ўвесь той прамежак часу не было буйных сейсмічных узрушэнняў, знішчаючых статуі, а да філасофскага ўсьведамлення адсутнасьці карысьці ад рэлігійных выяваў чалавецтва і там яшчэ не дарасло.

Разгледзім зараз і іншы бок тагачаснага рэлігійнага жыцця.

Каля таго ж IX стагоддзя царкоўныя законы атрымалі незвычайныя дадаванні, меўшыя пазьней за сабой вельмі важныя наступствы.

У больш старажытных зборніках дэкрэтальныя лісты заўсёды пачыналіся зваротам вялікага пантыфекса Сірыцыя да Гімерыя «ў 385 годзе». Але ў IX стагоддзі пісьменнік, называючы сябе Ісідорам, склаў амаль сотню лістоў, напісаных ім ад імя «больш старажытных» рымскіх біскупаў, пачынаючы ад Клімента і Аналекта, і ад «сучаснікаў апосталам», разам з некалькімі лістамі ад уяўляемых карэспандэнтаў уяўляемым папам і са здзяйсненнямі да таго часу невядомых старажытных сабораў[263].

Фальшывасць гэтых дакументаў лёгка была даказана грубымі анахранізмамі і прамахамі, накшталт таго, што асобы, аддзеленыя паміж сабой цэлымі стагоддзямі, паказваюцца лістуючыміся паміж сабой, а самыя старажытныя біскупы Рыма цытуюць Біблію грунтуючыся на перакладзе Ераніма, і некаторыя із іх, жыўшыя яшчэ ў той час, калі Рым быў паганскім, скардзяцца на замах парафіянаў на царкоўную ўласнасць з дапамогай слоў, якія відавочна выдаюць пісьменніка каралінгскага перыяду. Некаторыя із падробленых дакументаў, змешчаных у гэтым зборніку, маюць дачыненне да сьвятога пісання, да лацінскіх царкоўных пісьменнікаў, да набажэнскіх кніг, да канонаў, да дэкрэталіяў, да Хвядосава кодэкса і да пантыфікальных кніг (г.азн. да шэрага легендарных жыццяапісанняў рымскіх біскупаў, падоўжанага Анастасам-кніжнікам і звычайна дапасуемага да яго імя). Усе намаганні падробшчыка былі накіраваны галоўным чынам на збіранне матэрыялаў (большай часткай із вельмі сумнеўных крыніц) і ў наданні ім вонкавага характару праўдападобнасьці.

[263] У іх таксама існуюць прыдуманыя імёны пісьменнікаў пазьней Сірыцыя.

Час стварэння гэтай кнігі патрэбна лічыць паміж VI Парыжскім саборам, адбыўшымся ў 829 годзе, таму што падробшчык шмат чаго запазычыў ад гэтага сабора, і Квіерсійскім саборам, адбыўшымся ў 857 годзе, дзе гэтыя дэкрэталіі, – паведамляецца, – ужо прыводзіліся ў якасьці аўтарытэтных дакументаў Карлам Лысым. Тое, што яны былі франкскага паходжання, даводзіцца асаблівасьцямі мовы, і зараз наогул лічаць, што яны напісаны ў Мецы, а Гінкмар нават паведамляе, што гэты зборнік быў прывезены із Гішпаніі Рыкульфам, занімаўшым Мецкую катэдру ад 787 да 814 года.

У ім высока ставяцца прывілеі сьвятарства, асабліва біскупаў, і ўлада «папы» пашыраецца значна далей таго, што прызнавалася за ёю да таго часу. Вялікі рымскі пантыфекс выстаўляецца як вярхоўны кіраўнік, заканадавец і суддзя царквы, адзіны біскуп усяго хрысьціянскага сьвету. Па ўсіх справах можна звяртацца да яго з апеляцыямі, і толькі ён адзін мае права вырашаць важныя ці заблытаныя справы. Без яго дазволу не маюць права збірацца нават правінцыйныя саборы, і іхныя пастановы не могуць мець без яго згоды ніякага значэння. Біскупы абвяшчяюцца вольнымі ад якога б то ні было мірскога суду. Да дрэнных біскупаў патрэбна ставіцца, як да пакарання боскага, якое паслужыць да вечнай выгоды для падначаленых яму, суд над імі павінен быць перададзены богу. Ніякі парафіянін не можа абвінаваціць біскупа, ці нават царкоўнага служку, таму што вучань не вышэй свайго настаўніка, і авечка не павінна абвінавачваць свайго пастуха. Дакладна так жа і царкоўны служка, абвінаваціўшы свайго біскупа ў ганебных учынках, быў бы як сын, узброіўшыся супраць свайго бацькі, і яго абвінавачванні не могуць быць нават выслуханымі. Для таго, каб давесьці вінаватасць біскупа, патрабуецца семдзесят два сведкі, а іхная кампетэнтнасць вызначаецца з такой строгасьцю, якая відавочна мела на мэце скасаваць якое б то ні было сведчанне.

Але была і такая ступень у іерархіі, да якой дэкрэталіі паставіліся вельмі строга: гэта былі мітрапаліты. У тагачаснай франкскай сістэме суд над біскупам належаў мясцоваму мітрапаліту, ад якога была магчымай апошняя апеляцыя да валадара, але ў дэкрэталіях мітрапаліт зроблены не маючым магчымасьці нешта зрабіць без згоды сваіх жа супадпарадкаваных (суфраганаў). Ён нават не меў магчымасьці сабраць іх без дазволу вялікага рымскага пантыфекса.

Можна толькі запытаць, з якой мэтай зроблена гэтая падробка першапачаткова? Ці ў інтарэсах рымскага пантыфікату, якому прыпісвалася вяршынство, па-сутнасьці не маючае абмежаванняў, ці ў інтарэсах біскупаў, якіх дэкрэталіі вызвалялі не толькі ад якога б то ні было свецкага кантролю, але таксама і ад кантролю мітрапалітаў і правінцыйных сабораў, перадаючы вырашэнне іхных спраў больш аддаленаму трыбуналу Рыма, як адзінаму суддзі? Думкі больш старанных дасьледчыкаў гэтага пытання схіляюцца на карысць таго, што знакамітыя дэкрэталіі прыдуманы біскупамі у інтарэсах біскупаў, што такім спосабам мелася на ўвазе абараніць уласнасць сьвятарства супраць вонкавага замаху і зацьвердзіць прывілеі клерыкальнай іерархіі на падставах незалежных ад свецкай улады, пры гэтым мітрапаліты асабліва зведалі напад за тое, што былі галоўнымі прыладамі, з дапамогай якіх каралінгаўскія валадары маглі мець кантроль над біскупамі.

Але якімі б ні былі падставы, не цяжка бачыць, што няма ніякага адрознення паміж здзяйсненнем аўтара гэтых дэкрэталіяў і здзяйсненнямі іншых прыдумляўшчыкаў разнастайных старажытна-гістарычных дакументаў і

незлічоных пісьменнікаў Эпохі Адраджэння, якія падстаўлялі сьвету свае прыдумкі ад імя старажытных аўтараў.

Навейшыя абаронцы рымскай царквы даводзілі, быццам бы ілжэ-дэкрэталіі не зрабілі ніякіх пераменаў у рэчаіснай сістэме царкоўнага кіравання[264]. Але на такія доказы ім адказвалі, што сістэма дэкрэталіяў, наадварот, уяўляла сабой прамую процілегласць таму, што непасрэдна папярэднічала ім у кіраванні франкскай царквой. І сапраўды, маляванне больш позніх папскіх дамаганняў у тым сэнсе, быццам бы яны перайшлі адпаведна з неперапыняючымся паданнем ад апостальскіх часоў, не магло не вырабіць моцнага ўплыву ў IX стагоддзі, і адрозненне паміж ранейшай і наступнай эпохай у гісторыі пантыфікату з лішкам даводзіць пра іхны вялікі ўплыў[265].

Пашыраныя пад час стагоддзя цалкам незнаёмага з крытыкай, – выказваецца Робертсан, – яны былі прыняты без якіх бы то ні было сумневаў, хаця і ўзнікалі пытанні меўшыя дачыненне да іхнай абавязковасьці. У наступным стагоддзі на іх рабіў спасылкі прумскі абат Рэгіна, і імі працягвалі карыстацца складальнікі падобных жа твораў аж да XII стагоддзя, калі Грацыян паклаў іх у грунт сваёй кнігі «Decretum», гэтага шырокага збору сярэднявечных царкоўных законаў, і тое, што пабудавана на гэтым грунце, існуе і да гэтага часу.

Такімі былі на захадзе Яўропы водгаласы тых падзей, якія адбыліся на Ўсходзе. Вернемся ж да яго зноў.

# Глава XX

## Змаганне сямітаў, грэкаў і армянаў за царгародзкі пасад у IX стагоддзі нашай эры. Новы выбух куміраборства.

Пасьля пазбаўлення Ірыны пасада ў 802 годзе ў візантыйскім аскепку ранейшай адзінай Вялікай Рамеі зноў з'явіліся куміразмагальніцкія тэндэнцыі, але толькі неяк бязладна.

Палацавая рэвалюцыя, пазбавіўшая ўлады Ірыну, пасадзіла на пасад, як мы ўжо паведамлялі, Нічыпара I (802-811). Але ён у 811 годзе загінуў у бітве з баўгарамі, і на працягу некалькіх месяцаў 811 года кіраваў яго цяжка паранены на вайне сын Стаўракій. Яшчэ да сваёй сьмерці ён быў пазбаўлены пасада Міхалам I, належаўшым да грэцкага роду, але і сам Міхал I (811-813) быў пазбаўлены пасада сваім вайскаводам Ільвом, армянінам (813-820), які таксама быў забіты, і на пасад быў узведзены правадыр гвардыі Міхал Гугнівы (820-829), родам із горада Амарэя ў малаазіяцкай правінцыі Фрыгія, дзякуючы чаму яго дынастыя, даўшая трох прадстаўнікоў, і набыла назву амарэйскай ці фрыгійскай (820-867). Пасьля сьмерці Міхала II валадарыў яго сын Феафіл (829-842), адружаны са знакамітай другой аднавіцельніцай праваслаўя Хвядарай із малаазійскай правінцыі Пафлагонія. А апошнім прадстаўніком з'яўляецца іхны сын Міхал III (842-867), вядомы ў гісторыі, як я ўжо паведамляў, з мянушкай «П'яніца».

Такім чынам, на працягу перыяду ад 802 да 867 года на пасадзе сядзелі два сяміты, адзін грэк, адружаны з сяміткай, адзін армянін і тры фрыгійцы напалову-грэкі. Так усходнія элементы зноў набылі значную ролю ў кіраванні дзяржавай.

---

[264] Напрыклад, Dolinger, II, 41-3, згодна са словамі Джэмса Робертсана.

[265] Джэмс Робертсан: Гісторыя Хрысьціянскай Царквы, стар. 787 рускага перакладу.

А што ж у гэты час рабілася на Азіяцкім Усходзе? Нам кажуць, што сучаснікам Карла Вялікага і Ірыны быў у Багдадзе знакаміты Гарун-аль-Рашыд, а потым Валяр'ян (813-833), пры якіх пярсідзкі ўплыў набыў выключную перавагу і прывідная арабская нацыянальнасць адступіла на задні план. На сухапутнай мяжы было спакойна, але дзеянні ягіпецкага агаранскага флоту ў Міжземным моры мелі наступствам страту выспы Крыт, большай часткі Сіцыліі і шэрага важных пунктаў у Паўднёвай Італіі.

Самым цікавым момантам таго часу з'яўляецца паўстанне Тамаша пад час валадарання Міхала II, меўшае ўжо евангельскую афарбоўку. Ён абвясціў сябе прыхільнікам абразашанавання і евангельскага хрысьціянства. І вось, падняліся «рабы на гаспадароў».

На бок Тамаша перайшоў, – кажуць, – увесь флот Эгейскага мора і аблажыў сталіцу з сушы і з мора. Жыўшыя ў Фракіі і Македоніі славяне, пасьля прыбыцця Тамаша на еўрапейскі бераг, далучыліся да яго. Але нечакана з'явіўшыяся з поўначы баўгарскія славяне пад правадырствам Амуртага пабілі сухапутнае войска Тамаша. Вымушаны бегчы, ён быў схоплены і аддадзены на пакаранне сьмерцю. Рэшткі яго прыхільнікаў былі знішчаны. Такое заканчэнне ў 823 годзе мела доўжыўшаяся больш двух гадоў псеўдарэлігійнае паўстанне, пасьля чаго Міхал адчуў сябе на пасадзе больш-менш трывала.

Уплыў хрысьціянскай дэмагогіі, узвялічваўшай бедных духам і грымеўшай супраць заможных, адбіўся тут яскрава ў эканамічным боку руху, але, зведаўшы паразу, гэта прывяло да супрацьлеглых наступстваў. Ён спустошыў большасць дробных землеўласнікаў і аддаў іхную зямлю ў рукі заможных суседзяў, што і было адной із важнейшых падставаў з'яўлення ў X стагоддзі вялізных зямельных уладанняў, непакоіўшых імператарскую ўладу ў Малой Азіі.

У гэты ж час крыніцы пазначаюць і першы напад русаў, г.азн. рускіх, на Цар-Горад у 860 годзе і пачатку 861 года.

Патрыярх Фоцій, ці нехта ад яго імя, называе «скіфскі народ грубым і варварскім», «зацятым і грозным морам», «паўночнай жахлівай навальніцай».

Адначасова з вайсковымі сутыкненнямі на Ўсходзе ішло зацятае змаганне імперыі з заходнімі агаранамі. Ужо на самым пачатку IX стагоддзя, пры імператары Нічыпару I, афрыканскія агаране дапамагалі жыўшым на Пелапанэсе славянам падчас іхнага паўстання і аблогі горада Патр (Патраса). Пад час валадарання Міхала II агаране із Гішпаніі заснавалі на Кіпры новы горад, аточаны глыбокім ровам (па-арабску – хандах, адкуль і паходзіць назва выспы Кандыя). Ён ператварыўся ў гняздо піратаў, рабаваўшых і руйнаваўшых выспы Эгейскага мора і ўзбярэжныя мясцовасьці і наносіўшыя гэтым вялікую шкоду палітычным і эканамічным інтарэсам імперыі.

Зацьвердзіўшыся ў Палерма, агаране паслядоўна захапілі вялікую частку Сіцыліі, так што да канца Амарэйскай дынастыі із вялікіх сіцылійскіх гарадоў у руках новых евангельскіх хрысьціянаў заставаўся толькі горад Сіракузы. Але ці сапраўды гэта былі заваёвы, а не рэшткі ранейшага агаранства, аднавернага з арыянствам, не перайшоўшымі да новага евангельскага адгалінавання?

Вайсковыя ж сутыкненні з саракінамі, г.азн. царыстамі ці намесьнікаўцамі[266], адбываліся за ўладу, а не за рэлігію, як і паміж хрысьціянскімі дзяржавамі.

---

[266] Ад סרכ (ЗРК) – Сарак, г.азн. пярсідзкі намеснік, якому падначальваліся сатрапы-саракіны (סרכין); лацінскае – сарацыны, ад зендзкага – Сара і пярсідзкага Сэр – кіраўнік, цар. У перакладзе гэта азначае – манархісты, царысты.

Візантыя ўтрымала за сабой ў IX стагоддзі Венецыю, вялікую частку Кампаніі з неапалітанскім герцагствам і дзьве паўднёвыя паўвыспы Італіі. Але Венецыя і Кампанія знаходзіліся толькі ў некаторай залежнасьці ад Візантыі, маючы аўтаномнае кіраванне, а поўдзень Італіі быў непасрэдна падначалены імперыі. Вялікая частка Італіі была пад уладай арыян-лангабардаў якія на прыканцы VII стагоддзя дайшлі да берага Тарэнцкага заліва і гэтым раз'ядналі абедзьве візантыйскія паўднёвыя паўвыспы Італіі, якія зараз маглі стасавацца паміж сабой выключна морам. Пасьля італійскіх заваёўваў Карла Вялікага і яго ўкаранавання ў Рыме ўся Апенінская паўвыспа, за выключэннем візантыйскіх уладанняў, фармальна перайшла пад уладу заходняга імператара. У рэчаіснасьці ж яго ўлада не пашыралася на паўдзень ад мяжы пантыфікальнай вобласьці і Спалецкага герцагства. Нават Беневенцкае герцагства засталося самастойным.

Пасьля заваёвы Сіцыліі сарокіны пачалі здзяйсняць марскія напады на італіскае ўзбярэжжа, іхныя піраты ў саракавых гадах IX стагоддзя, з'явіліся нават ва ўтоцы Тыбра і, захапіўшы вялікую здабычу, выдаліліся.

Дрэнна было і на Балканскай паўвыспе. Нічыпар у 811 годзе распачаў супраць Баўгарыі вялікую экспедыцыю, але зведаў жахлівую паразу. Ён, як я ўжо паведамляў, быў забіты, яго сын Стаўракій цяжка паранены, войска з усімі правадырамі знішчана.

Толькі пры Ільве V з Баўгарыяй быў заключаны шматгадовы мір і зроблена дакладнае вызначэнне мяжы ў Фракіі. Яе сьляды ў выглядзе парэшткаў земляных акопаў захаваліся і да нашага часу. Леў V адбудаваў спустошаныя рамейскія гарады і пабудаваў у сталіцы новую сьцяну для лепшай абароны горада.

Грэцкае сьвятарства выправілася ў Баўгарыю дзеля пашырэння свайго новага евангельскага хрысьціянства. Каля 864 года цар Барыс прыняў новае веравызнанне і быў нарачоны Міхалам. **Так упершыню замест мянушак у людзей пачаліся трывала замацоўвацца нязменныя імёны**. За царам хрысьціліся і яго падданыя.

Грэцкае сьвятарства адправілася ў Баўгарыю для казання свайго новага евангельскага Хрысьціянства. Каля 864 года цар Барыс прыняў новую веру і быў нарачоны Міхалам. Так упершыню замест мянушак пачаліся ў людзей трывалыя нязменныя імёны. За царам хрысціліся і яго падданыя.



Мал. 101
Мячэць Эль-Майед у Каіры. (Гнедзіч I, 388). Узор храмаў сучасных нам усходніх іконазмагальнаў, давёўшых змаганне з выявамі жывых істот да абсурду.

Першыя візантыйскія валадары гэтага перыяду (802-867) не з'яўляліся прыхільнікамі куміразмагальніцства, і таму магло здацца, што адноўленае Ірынай абразашанаванне паступова замацоўваецца. Імператар Нічыпар прытрымліваўся палітыкі рэлігійнай памяркоўнасьці. Але пустыніцкае манаства ўсё ж перажыло пры ім цяжкі момант падчас абрання на месца памёршага Тарасія новага патрыярха Нічыпара, прызначанага непасрэдна із парафіянаў. Супраць гэтага паўстаў знакаміты Хведар Студыт, верагодны аўтар евангелля Мацьвея, апяваўшага скапецтва, і яго паслядоўнікі. Аднак, свецкая ўлада ўзяла верх, і Хведар Студыт з некаторымі із сяброў быў выпраўлены ў спасылку, але хутка быў вернуты наступнікам Нічыпара Міхалам I Рангаві (811-813).

Потым Леў Армянін у 813 годзе пазбавіў Міхала Рангаві пасада і зноў пачаў праводзіць у жыццё куміразмагальніцкую палітыку.

«Вы бачыце, – выказваўся ён, адпаведна са сведчаннем аднаго сучасніка,– што ўсе валадары, прызнаваўшыя выявы і ўшаноўваўшыя іх, памёрлі ці ў выгнанні, ці на вайне. Толькі не шаноўваўшыя штучных богаў памёрлі сваёй сьмерцю і з пашанай перанесены ў імператарскія магільныя скляпы у храм Апосталаў. Я таксама маю намер пераймаць іхны прыклад, каб пасьля доўгага жыцця, майго і майго сына, наша царства захавалася да чацьвёртага і пятага пакалення».

У Цар-Горадзе ў 815 годзе ім быў скліканы другі богазмагальніцкі сабор, пастанова якога захавалася ў адным із апалагетычных твораў патрыярха Нічыпара.

«Замацаваўшы і зацьвердзіўшы пачутае богам вучэнне сьвятых бацькоў і ідучы за шасьцю сьвятымі сусветнымі саборамі, цар, – згодна са словамі аўтара, – асудзіў, непагадняючуюся з паданнем ці, яшчэ больш дакладна, не маючую карысьці вытворчасць выяваў і іх ушанаванне, аддаючы перавагу служэнню ў духу і праўдзе». Паказаўшы далей на тое, што «дзякуючы жаночай прастаце» было адноўлена шанаванне «бяздушнага дрэва», запальванне перад ім свечак, курэнняў, водараў, сабор забараніў «не маючае за сабой ніякай падставы вырабніцства ілжэіменных выяваў каталіцкай царквы, скасаваў ўшанаванне іх, усталяванае патрыярхам Тарасіем, асудзіў запальванне ім свечак і свяцільняў і прынашэнне водараў. Але на заканчэнні свайго рашэння сабор 753-754 года ўсё ж устрымаўся ад назвы іх стодамі, сцвярджаючы, што такое зло адрозніваецца ад другога горшага.

Ці не быў падставай гэтага другога выбуху куміразмагальніцтва новы землятрус? У мяне няма пра яго паведамленняў, але гэта вельмі верагодна, таму што абодва куміразмагальніцкія перыяды працягваліся каля аднаго пакалення і характарызаваліся разлютаванасьцю. Першы мінулы перыяд працягваўся каля пяцідзесяці гадоў, а другі – не поўныя трыццаць гадоў (815-843), пры гэтым перасьлед статуй і абразоў і іхных прыхільнікаў пры Ільве V вёўся таксама з вялікай жорсткасьцю. Некаторыя із іконнікаў звалі Ільва «поўзаючай змяёй» і параўноўвалі яго час з «зімой і густым туманам». А пры яго наступніку Міхалу II рэлігійныя спрэчкі ўжо затухлі. Параўноўваючы час Ільва V з часам Міхала, сучаснікі сцвярджалі:

«Полымя пагасла, але дым застаўся». «Разам з поўзаючай змяёй не быў знішчаны хвост ерасі і ўсё яшчэ курчыўся». «Зіма прайшла, але не наступіла поўная вясна» і г.д.

Пры Міхалу памёр і знакаміты змагар за абразы Хведар Студыт.

Пераемнік Міхала II, імператар Феафіл, «чалавек багаслаўскі адукаваны, вызначаўся дбайным шанаваннем багародзіцы і дагоднікаў і падараваўшы царкоўнай літаратуры некалькі спеваў», з'яўляецца ў рэлігійным жыцці імперыі апошнім імператарам-іконазмагальнікам. Яго жонка Хвядара была дбайнай прыхільніцай абразоў. Калі ў 842 годзе ён памёр, яна стала валадаркай дзяржавы з нагоды маленства іхнага сына Міхала, і першым яе здзяйсненнем было аднаўленне выяваў. Скліканы Хвядарай сабор, рашэнні якога таксама не дайшлі да нас, аднавіў абразашанаванне 11 сакавіка 843 года. Гэты дзень і да гэтага часу сьвяткуецца праваслаўнай царквой як «урачыстасць праваслаўя». Ды і сапраўды толькі 843 год і быў сапраўдным пачаткам сучаснага нам хрысьціянства, хаця і ў гэты час яшчэ не існавала адлучэння агаранаў ад царквы, ды і пра «Магамета» не было нават і згадак ў візантыйцаў.

Абразашанавальным было ўсё насельніцтва заходніх абласьцей Візантыі, Італіі і Грэцыі, адкуль паходзіла і першая аднавіцельніца праваслаўя імператрыца Ірына, і гэта можна патлумачыць толькі тым, што, як я паведамляў, сейсмічныя ўзрушэнні, знішчаўшыя статуі і размаляваныя выявамі сьвятых сьцяны храмаў туды не даходзілі. А пустынніцкае манаства, якое патрэбна адрозніваць ад камуністычнага манаства ў гарадах, дзе норавы былі вельмі лёгкімі, далучылася да абаронцаў абразоў, таму што прыпісвала землятрусы не ім, а, наадварот, грахам зямных цароў.

Галоўным падмуркам абразашанавання дактрыны рэчаісных евангелістаў, Яна Дамаскіна і Хведара Студыта, было Сьвятое Паданне і, вядома, Апакаліпсіс, з чаканнем хуткага прыходу цара Месіі, з мэтай пакараць зямных цароў. З іхнага боку гледжання, абразы мелі не толькі адукацыйную каштоўнасць, але і «пераносілі на сябе сьвятасць і заслугі намаляванага на іх Хрыста, багамаці ці сьвятых, чаму і валодалі цудадзейнымі здольнасьцямі».

Але гэта яшчэ не азначае, што, аднаўляючы абразы, іхныя прыхільнікі спрыялі зараджэнню малярства новага часу ў Рамеі. Магло быць нават наадварот, таму што яны надалі мастацтву аднастайнасць. Знішчаючы ж выявы хрыста, багамаці, сьвятых, іконазмагальнікі Візантыі не скасавалі малярства наогул, а толькі пачалі пісаць на сьценах храмаў жанравыя выявы нападобе паляўнічых малюнкаў ці выявы іпадромаў з дрэвамі, птушкамі і звярамі. Ад іхнай эпохі да нас дайшлі некалькі вырабаў са слановай косткі, эмалі і цікавыя мініяцюры. Візантыіст Дыль бачыць у іх імкненне да назірання прыроды і да рэалізму, але яно з нашага боку гледжання не з’яўляецца вяртаннем да антычных традыцый, а, наадварот, падрыхтоўкай майстэрства Эпохі Гуманізму. А абразашанавальнікі пачалі пісаць адны толькі псеўда-партрэты.

**Адным із важных вынікаў іконазмагальніцкай эпохі з'яўляецца знікненне ва ўсходняй царкве статуйных выяваў.** Нават і «ўрачыстасць праваслаўя» на саборы 843 года пры імператрыцы Хвядары ўжо не аднавіла іх. Так мастацкая скульптура ў Візантыі была перарвана ў самым зародку да пачатку крыжовых паходаў. Абразазмаганне адбілася таксама і на візантыйскіх манетах і пячатках. У VIII стагоддзі пад яго ўплывам ствараецца для манет і пячатак зусім новы эпіграфічны тып, із адных надпісаў, без якіх бы то ні было асобавых выяваў. Замест іх часам з'яўляецца крыж. А з аднаўленнем абразашанавання таксама былі адноўлены на пячатках і выявы асоб, калі не лічыць, што яны з'явіліся тады ўпершыню, а больш старажытныя пячаткі з партрэтамі – ці падробкі, ці належаць больш позьнім імператарам.

Так абразазмагальніцтва аддаліла ад Візантыйскай імперыі Італію і з'явілася адной із нагод часовага падзелу цэркваў у IX стагоддзі.

Справа была ў тым, што патрыярх Ігнат, ужо праславіўшыся сваёй стараннасьцю ў абарону абразашанавання, быў пазбаўлены пасады Міхалам, і на патрыяршы пасад сеў свецкі чалавек, вельмі адукаваны прадстаўнік свайго часу, Фоцій. Утварыліся дзьве партыі: адна за Фоція, другая за Ігната, не згаджаўшагася самому пакінуць патрыяршаства. Яны аддалі адзін аднаго праклёну, і гэта вымусіла Міхала III склікаць сабор, на які ён запрасіў знакамітага рымскага Вялікага пантыфекса Мікалая I. Той выправіў замест сябе на сабор легатаў, якія насуперак жаданню пантыфекса прызналі Ігната пазбаўленым пасады, а Фоція законным патрыярхам, а скліканы ў Рыме новы сабор пракляў Фоція і аднавіў Ігната. Потым у 867 годзе новы сабор у Канстантынопалі аддаў анафеме і Рымскага пантыфекса

за яго ерэтычнае вучэнне пра выпусканне сьвятога духа евангельскім Хрыстом і за незаконнае ўмяшанне ў справы Канстантынопальскай царквы. Пантыфекс і патрыярх і асабіста аддалі адзін аднаго анафеме. Такім чынам адбыўся часовы падзел цэркваў. Але ў 867 годзе Міхал III памёр, а з яго сьмерцю становішча перамянілася. Новы імператар Васіль I скінуў Фоція і аднавіў Ігната, што мела наступствам замірэнне з Рымам.

Такімі былі галоўныя падзеі ў Рамеі ў сярэдзіне IX стагоддзя, калі праваслаўная царква ўпершыню пачала вымалёўвацца ў тым выглядзе, якой мы яе зараз маем.

Жаданне ўсебакова асьвятліць гэты надзвычай важны момант вымушае мяне тут не раз вяртацца да тых жа падзей, так бы мовіць, то справа, то злева, але гэта было патрэбна з нагоды нявызначанасьці існуючых уяўленняў.

# Частка II

## Грэка-хрысьціянская Рамея (Візантыя)





Мал. 102
Цар-Горад. Абеліск Хвядоса і абеліск Калос.

# Глава I

## Плыні месіянска-хрысьціянскай думкі сярэдневечча у тэндэнцыйным выкладанні больш позьніх клерыкальных

апакрыфістаў. Усходнія секты апакаліптычнага хрысьціянства: Тысячагоднікі. Якабіты. Нестарыяне. Паўлікіяне.



Мал. 103.
Знакаміты «нерукатворны партрэт Хрыста», з дапамогай цуда з'явіўшыся на яго ручніку, пасьля выцірання ім свайго поту на твары, як узор нашых «помнікаў старажытнай гісторыі».

Вернемся крыху назад.

Само сабой зразумела, што непазбежная сьмерць Вялікага Цара-Месіі, якога лічылі несьмяротным, павінна была мець наступствам вялікія бязладдзі і спакусу сярод вернікаў. Нешматлікія бачыўшыя яго памёршым і ўдзельнічаўшыя ў пахаванні, павінны былі расчаравацца, а дзясяткі, калі не сотні тысяч не бачыўшыя гэтага з нагоды аддаленасьці сваіх краін, павінны былі прызнаць кожнага паведамляючага пра сьмерць Вялікага цара, падманшчыкам.

Із разнастайных спалучэнняў гэтых двух крайніх меркаванняў паміж сабой павінны былі ўзнікнуць шматлікія варыяцыі ўяўленняў. Гэта мы і бачым, пачынаючы з V стагоддзя нашай эры, калі, уласна кажучы, і пачалося апакаліптычнае хрысьціянства і месіянства.

Першай із такіх рэчаісных сектаў можна лічыць тысячагадавікоў (па-грэцку – хіліястаў). Гэта было вераванне, што Месія асабіста прыйдзе валадарыць на зямлі ў Ерусалім і што яго зямное цараванне будзе працягвацца на працягу тысячы гадоў. Такое ўяўленне цалкам пагаднялася з юдэйствам і месіянствам сярэдневечча, а хрысьціянскі хіліязм адпаведна Апакаліпсісу лічыў, што Новы Ерусалім будзе не палестынскім і не рамейскім, а павінен апусьціцца з неба.

Сярод абаронцаў гэтага вучэння, згодна з паданнем, быў і Папій, біскуп Гіерапольскі, які лічыцца слухачом апостала Яна (г.азн., па-нашаму, Яна Залатавуста). На прыканцы другога стагоддзя «рэчаіснага» хрысьціянства гэтыя думкі, відаць, зрабіліся агульнымі ў хрысьціянскай царкве. Перасьледы Дэцыя (г.азн. Дзясятага цара), – паведамляюць нам, – спрыялі пашырэнню папулярнасьці «тысячагадовікаў» сярод тых, якія, адчувалі набліжэнне заканчэння сьвету, але ў такім выпадку і Дэцыя даводзіцца дапасаваць адпаведна з эрай Дыяклетыяна не раней, як да часу валадарання Зянона (474-491), а адпаведна з эрай Апакаліпсіса да часу валадарання Юстыніяна (527-565). Сьледам за «тысячагадавікамі», хаця б і не супярэчачы ім, узнікаюць якабіты і нестарыяне, але паміж абодвума выйшла нейкая блытаніна.

Нестарыяне, – кажуць нам, – узніклі яшчэ ў палове V стагоддзя і без сумневаў яны былі першапачатковым хрысьціянствам, таму што лічылі «Цара Юдэйскага» **простым чалавекам**, у якім толькі маральна жыў бог. Яны клікалі Хрыста не богачалавекам, а баганосцам, і яго маці не багародзіцай, а хрыстародзіцай. Рэчаіснасць гэтай плыні хрысьціянскай думкі даводзіцца і тым, што перажыткі нестарыян (што азначае – бога-вяртанцы) існуюць і да гэтага часу. Якабіты ж, – адпаведна са сведчаннем царкоўнікаў, – узніклі з часу Эфескага сусьветнага Сабору 531 года, «асудзіўшага нестарыян», але канчаткова іхнае вучэнне было распрацавана, – кажуць нам, – толькі праз дзесяць гадоў (у 541 годзе) Якавам Барадэем, прызнаваўшым за Хрыстом, наадварот, **толькі боскую** існасць. Але калі такое (таксама монафізіцкае, але толькі ў процілеглым сэнсе) вучэнне ўзнікла толькі ў 641 годзе, то як жа паверыць таму, быццам бы яшчэ стагоддзе назад (у 551 годзе) яно ж пад найменнем «монафізіцтва было асуджана 4-ым сусьветным саборам? Тут відавочнае непагадненне нашых гістарычных першакрыніц, і гэтае непагадненне павялічваецца яшчэ і тым, што якабіты, – як кажа нам і Джэмс Робертсан[267], – былі пад час сярэдневечча ўзнагароджаны самай высокай ступенню прыхільнасці з боку агаранаў, калі Ягіпет і Сірыя падпалі пад валадарства каліфаў, ды і у заходніх краінах Азіі яны спакойна жылі пад кіраваннем асобнага патрыярха, у Амідзе.

Але ж агаране, мяркуючы грунтуючыся на Каране, прытрымліваліся процілеглай думкі і, як і нестарыяне, прызнавалі ў «Хрысьце» толькі чалавека? Як жа гэта атрымалася, што яны пасябравалі якраз са сваёй антытэзай?

Паглядзім зараз і на далейшае.

На чале вяртанцаў-нестарыян, – кажуць нам, – стаяў біскуп, меўшы назву па-грэцку каталікос, які і пасьля заснавання Багдада Алмансурам у 762 годзе, меў свой пасад у гэтым горадзе. У VIII стагоддзі «вяртанцы» зацвердзіліся ў Ягіпце, ды і на Ўсходзе яны дзейнічалі з вялікім ажыўленнем. Іхныя місіянеры даходзілі, быццам бы, морам із Індыі нават у Кітай і прайшлі праз пустыні да яго паўночнай мяжы. Так, камень знойдзены ў Сін-Ган-фу ў 1625 годзе езуітамі, мае доўгі, часткова сірыйскі, часткова кітайскі надпіс, у якім пералічаны імёны місіянераў працаваўшых у Кітаі, і паведамляецца гісторыя хрысьціянства ў гэтай краіне ад 636 года да 781 года. У VIII стагоддзі, – сведчыць ён, – вяртальніцсва карысталася вялікай прыхільнасьцю з боку кітайскіх імператараў, і там было пабудавана шмат цэркваў.

У надпісе існуе і канспект тамтэйшай хрысьціянскага вучэння і звычаяў, у якіх можна заўважыць адценне нестарыянства. Масгейм у сваёй «Царкоўнай

[267] Джэмс Робертсан, Гісторыя Хрысьціянскай царквы, гл. XXX, стар. 685.

гісторыі татар» дае копію гэтага надпісу згодна з Кірхерам, а Пацье (Pauthier) выдаў яе на рэчаісных мовах з перакладам і факсіміле пад назвай: «L'Inscription Syrochinoise de Sin-Gan-Fou». Але дзякуючы таму, што ён быў вядомы толькі ў копіі езуіцкіх місіянераў, то некаторыя лічаць яго падробкай іхнага таварыства, тым больш, што місіянеры, выпраўленыя каля 980 года каталікосам у гэтую самую краіну, пабачылі, што ніякіх цэркваў там не існавала, а із тубыльцаў ім быў вядомы толькі адзін чалавек, вызнаваўшы іхную рэлігію. Езуіты ж сцвярджалі, што сенсацыйны камень, на які яны спасылаюцца, быў выкапаны із зямлі кітайскімі працаўнікамі пры будаванні падмурка адной пабудовы і размешчаны «ў адным» кітайскім храме. «Акрамя таго, – згодна з іхным меркаваннем, – падробку б яны прыгатавалі ў значна больш спрыяльным выглядзе для сваіх уласных інтарэсаў». Што ж да самога факта існавання сярэднявечнага хрысьціянства ў Кітаі, то пра яго існуюць сведчанні і іншага роду, прыведзеныя ў Mosheim'a ў «Historia Tartarorum Ecclesiastica», 9-13.

Патрыярх Цімафей, займаўшы сваю катэдру ад 777 да 820 гады быў асабліва дзейным у наладжванні місій. Прапаведнікі якіх ён выпраўляў, пашырылі, – кажуць нам, – хрысьціянства ў Гірканіі, Татарыі, Бактрыі і іншых краінах цэнтральнай Азіі, дзе яно існавала доўга. У гэтых аддаленых краінах існавалі біскупы і мітрапаліты, прызнаваўшыя сваю залежнасць ад патрыярха, і дзеля палягчэння пасьвячэнняў было ўсталявана асобнае звычаёвае правіла: калі было немагчыма сабраць дзеля такой справы больш двух біскупаў, то кананічную лічбу тры можна дапаўніць кнігай Евангелля, заступаючай месца трэццяй асобы пасьвячаючых[268].

Але ж гэта, чытач, дакладнае апісанне пашырэння будызму, г.азн. рэлігіі абуждэнцаў ці вяртанцаў з таго сьвету! Патрэбна толькі перакласьці грэцкае слова «нестарыяне» на рускую мову! Тыповай асаблівасьцю вучэння будыстаў якраз і з’яўляюцца пастаянныя вяртанні чалавечых душ з таго свету для адраджэнняў, адпаведна з іхнымі справамі, то ў выглядзе людзей, то ў выглядзе жывёл, то ў выглядзе розных духоўных істот, пакуль ачысціўшыся яны не паяднаюцца з Будай. (г.азн. Будзіцецем-Абуджэнцам) – Хрыстом.

Шмат турбот даставіла гісторыкам-тэолагам і секта, сучасная агаранству і вядомая пад назвай паўлікіяне. Іхнае вучэнне было прадметам гарачых спрэчак больш позніх тэолагаў. Новыя рымска-каталіцкія пісьменнікі спрабавалі адкрыць у вобразе паўлікіянаў нават папярэднікаў пратэстанцкіх рэфарматараў і абвінавачвалі лютаранаў у маніхэйстве, да якога далучаліся паўлікіяне. Нам кажуць, што назва паўлікіян паходзіць ад імя Павел[269], але з гэтым можна і не пагадзіцца, перакладаючы гэтую назву словам «малачаснікі», што азн. лічыўшых, што да заканчэння сьвету засталося мала часу. Але калі нават і палічыць, што паўлікіяне былі адэптамі нейкага Паўла, то ўсё ж пытанне пра тое, ад якога Паўла ўзнікла гэтая назва, не знайшло сабе ў тэолагаў задавальняючага рашэння. Некаторыя з іх выводзяць яго ад імя Паўла Самасацкага, невядомага антыяхійскага біскупа III стагоддзя, ці ад аднаго маніхэя больш позняга, але дакладна невядомага часу; іншыя прыпісваюць іх аднаму армяніну каля часоў Юстыніяна II. А больш позція паўлікіяне выводзілі сябе ад апостала Паўла, якога лічылі сваім настаўнікам. Але ў такім выпадку і самога апостала Паўла давялося б дапасаваць да часу не раней, як да V стагоддзя, на што тэолагі не маглі пагадзіцца, хаця шэраг фактаў і сведчыў на

[268] Mosheim «Historia Tartarorum Ecclesiastica», 15.

[269] Грэцкае ж слова παῦλα і азначае – блізкі канец, што можна патлумачыць у сэнсе чакаемага блізкага заканчэння сьвету.

карысць падобнага меркавання. Вось, хаця б адзін із іх, у паведамленні патрыярха Фоцыя[270].

У вёсцы Мананала, паблізу Самасат, – паведамляе ён, – жыў каля 653 года нейкі Кастусь, у якога адзін вандруючы дыякан пакінуў рукапіс, змяшчаўшы евангеллі і лісты апостала Паўла. Прачытаўшы гэтыя кнігі, Кастусь стаў павучаць сваёй сістэме веры, меўшай назву маніхейства. Ён зваўся таксама Сільванам, а правадыры, ўспадкаваўшыя яму, насілі імёны Ціта, Цімафея і іншых супрацоўнікаў апостала Паўла. Іхныя галоўныя злучыны мелі найменне цэркваў, у якіх, адпаведна з грэцкімі паданнямі, сапраўды працаваў апостал Павел з яго паплечнікамі. Утварыўшаяся, быццам бы, ад гэтага паўлікіяне ставілі ў падмурак сваёй рэлігіі лісты апосталаў Паўла, Якава, Яна, Юды і апостальскія здзяйсненні. Яны лічылі годнымі толькі евангеллі Лукі і Яна, адкідалі Стары запавет і асабліва бэсьцілі апостала Пятра, як здрадзіўшага свайму госпаду і праўдзе і іхная варожасць была не без падстаўнай, – выказваецца Пятро Сіцылійскі, – таму што апостал Пятро павучаў супраць вучэння апостала Паўла[271].

Але мы ўжо бачылі ў першай кнізе «Хрыста», што евангелле Яна належыць Яну Дамаскаму (676-777) а евангелле Лукі – Луцэ Эладзкаму (850-946), а таму паўлікіяне маглі ўзнікнуць не раней X стагоддзя нашай эры. І да гэтага ж прыводзіць і прыпісваемы ім светапогляд.

Паўлікіяне, – кажуць нам, – лічылі рэчыва вечным і вучылі, што існуюць два багі, – адзін, паходзячы ад цемры і полымя, стваральнік і валадар рэчаіснага сусьвету, бог Старога запавету і царквы; а другі – вярхоўны прадмет іхнага шанавання  – бог меўшага настаць у будучым духоўнага сусьвету[272]. Згодна з іхным вучэннем, душа чалавека мае нябеснае паходжанне і заняволена ў матэрыяльным целе, як у вязніцы. Яны – як і якавіты – не толькі адмаўлялі багародзіцы ў выключных ушанаваннях, але і адмаўлялі яе другое дзявоцтва, сцвярджаючы, што «Ратавальнік» нічога не ўзяў на сябе ад яе сутнасьці, а прынёс сваё цела з неба і што яго нараджэнне было толькі ўяўным[273]. Яны паўставалі супраць звання «прасвітар», і іхныя настаўнікі не адрозніваліся ні адзеннем, ні ладам жыцця ці іншымі перавагамі. Гэта былі толькі «натарывусы», на абавязку якіх было перапісваць творы, вызнаваемыя аўтарытэтнымі. Яны аспрэчвалі таемствы, плявалі на крыж і нападалі на абразашанаванне, але выказвалі павагу кнізе Евангеллі, як утрымліваючай словы Хрыста[274]. Тытул хрысьціяне яны надавалі выключна самім сабе, называючы належачых да дзяржаўнай царквы рымлянамі, маючымі толькі палітычную рэлігію. Іхныя ўласныя месцы спраўлення набажэнстваў не мелі назву храмаў ці цэркваў, а малітоўнымі сядзібамі.

Іхны уяўляемы першанастаўнік Павел-Кастусь абраў, – кажуць нам, – сваім месцазнаходжаннем Півас у Арменіі, дзе на працягу 27 гадоў назбіраў шмат прыхільнікаў. Пра ўсё гэта было, быццам бы, павядомлена імператару Кастусю Паганату (668-685), які выправіш у Півас саноўніка на імя Сымон з загадам пакараць ерасіярха сьмерцю і размяркаваць яго паслядоўнікаў сярод сьвятарства і па кляштарах. Сымон захапіў Кастуся і ён «быў забіты, падобна Галіяфу, каменем

[270] Phot. 1,4. Я выкладаю грунтуючыся на Джэмсу Робертсану – «Гісторыя Хрысьціянскай царквы», стар. 688.

[271] II Пятра, III, 16; Petrus Siculus, 62. А абвінавачанне ў «здрадзе праўдзе» грунтавалася на лісьце Паўла Галатам, II, 11 і наст.

[272] Petri Sicil., 16-18; Phot., I, в.

[273] Petrus Sicilus 10; Hamartol,6,

[274] Там жа, I, 7; Georg. Hamartol., 13.

із рукі нейкага юнака, яго ўласнага ўсыноўленага сына Юста», а Сымон сам спакусіўся паўлікіянствам, якое, як мы бачым, было сучасным пераходу Ягіпта і Сірыі да агаранства, і правёў тры гады ў Канстантынопалі ў стане вялікай душэўнай трывогі. Ён, нарэшце, збег адтуль, кінуўшы ўсю сваю ўласнасць, і пасяліўся ў Ківасе, дзе пад імем Ціта зрабіўся наступнікам Паўла-Кастуся. А Юст выправіўся да біскупа суседняга горада Калогі (зараз Калагісар) і паведаміў яму пра набажэнства сваёй секты, заканчваўсяяся вэрхалам. Біскуп паведаміў пра гэтую справу імператару Юстыніяну II (685-695) і грунтуючыся на гэтым паведамленні як Сымон, так і сам Юст, разам са шматлікімі іхнымі пасьлядоўнікамі былі пакараны сьмерцю праз спаленне на вялікім вогнішчы, па абвінавачванню ў звальным граху[275], як пра гэта паведамляе Канстантынопальскі патрыярх Фоцій (891 г.)

Здавалася б, што тая агіда з якой паўлікіяне ставіліся да статуй і абразоў, павінна была б мець наступствам прыхільнае стаўленне да гэтай партыі абразазмагальніцкіх імператараў, але магчыма дрэнная пагалоска пра іхныя набажэнствы мела наступствам тое, што Леў і яго сын перасялілі частку іх із Арменіі ў Фракію. Вяршынство сярод застаўшыхся перайшло да нейкага Вана, меўшага мянушку «брудны»[276] за амаральнасць.

«Але калі паўлікіяне ўпалі да такой ступені нізка, – паведамляе Робертсан[277],- сярод іх з'явіўся наватар у асобе маладога чалавека на імя Сергій, далучаны да паўлікіянства адной «жанчынай-багасловам». Гэтая жанчына, «пазначыўшы яго сабе як чалавека, якога было б нядрэнна далучыць да ерасі», пачала з ім размову і запытала яго, чаму ён не чытае сьвятое пісанне. Ён адказваў, што такі занятак з’яўляецца дазваляемым не для простых хрысьціянаў, а толькі для сьвятарства.

– Гэта не так, як ты лічыш, – адказала яна, – таму што ў бога адсутнічае захапленне. Ён жадае, каб усе людзі прыйшлі да спазнання праўды».

Яна пачала пераконваць яго, што сьвятарства пераіначыла словы бога, і што нават тым сьвятарам, якія здзяйснялі дзівы, Хрыстос скажа пад час жахлівага суда: «Я не ведаю вас».

Сергій пачаў чытаць сьвятое пісанне пад кіраўніцтвам сваёй настаўніцы і пачаў дапасоўваць да пануючай царквы ўсё тое, што там паведамлялася супраць аддзяўшагася Ізраіля, а на паўлікіянаў пачаў глядзець, як на праўдзівую царкву хрыстову. Ён прыняў імя Ціхік і пераіначыў маральнасць паўлікіянаў процілегла таму, што заснаваў Ваан. На працягу 34 гадоў, ад уцаравання Ірыны да валадарання Феафіла, Сергій нястомна працаваў на карысць паўлікіянства. Ён сам называў сябе ззяючай сьвяцільняй, зіхацячым сьвятлом, жіццёдаючай зоркай і Параклетам, г.азн. Заступнікам (як дадаваннем да сьвятога Духу)[278]

Імператар Нічыпар прыхільна ставіўся да гэтай секты і, як паведамляе Феафан, браў удзел у чароўных звычаях разам з «маніхеямі, завучых сябе паўлікіянамі», з мэтай дамагчыся перамогі сваёй зброі. Але пры Міхалу Рангаве супраць іх зноў былі абвешчаны суровыя пакаранні, і тыя із іх, якія зацята трымаліся сваіх памылковых поглядаў, аддаваліся, быццам бы, на сьмяротнае пакаранне, пры гэтым царкоўнікі спасылаліся на самаго іхнага апостала Паўла. Сапраўды ў яго «Лісьце да Рымлянаў» (пад якімі ў яго патрэбна разумець не жыхароў італійскага горада Рыма, а рамеяў, г.азн. візантыйцаў), гэты апостал, кім

[275] Phot., I. 10.
[276] Theophan., 662.
[277] Гл. стар. 691 пераклада Лапухіна.
[278] Phot. 1, 21. Гэты ж самы тытул, – кажуць нам, – бралі сабе Сымон Вяшчун, Мантон, Менэс і Магамет.

бы мы яго ні лічылі, выказваецца пра прадстаўнікоў нейкага культу, не называючы іхнага наймення, так:

«*Адчыняецца гнеў боскі з неба на бязбожнасць людзей, душачых няпраўдай праўду. Усё, што можна ведаць пра бога, для іх зразумела, таму што сам бог паведаміў ім гэта. Але яны, спазнаўшы бога, паглыбіліся ў свае мудраванні. Завучы сябе мудрымі, страцілі розум і славу нятленнага бога замянілі на выяву, падобную сьмяротнаму чалавеку, і птушцы, і чатырохногаму, і паўзуну, і служылі стварэнню замест стваральніка. І аддаў іх за гэта бог пад уладу ганебных захапленняў: жанчыны іх замянілі натуральнае ўжыванне ненатуральным, і мужчыны, адрокшыся ад натуральнага выкарыстання жанчын, распальваліся пажаднасьцю адзін на аднаго, атрымліваючы ў саміх сябе належную адплату* (у выглядзе заразлівых хвароб) *за сваю памылку... Яны ведаюць, што здзяйсняючыя такія справы заслугоўваюць сьмерці, аднак не толькі самі іх робяць, але і ўхваляюць робячых*» (Рамеям I, 18-32).

Але абвінавачванне тут, як быццам бы, адрасавана не паўлікіянам, а самімі паўлікіянамі дзяржаўнай рамейскай царкве...

Леў Армянін (813-820), нягледзячы на сваё абразазмагальніцтва, працягваў пераслед паўлікіянаў. За сьмерць некалькіх сваіх правадыроў яны адпомсцілі забіццём прэфекта і біскупа, энергічна дзейнічаючых супраць іх. Яны, – паведламляюць нам царкоўнікі, – жывучы ў стане пастаяннай варожасьці са сваімі суседзямі, пры кожным спрыяльным выпадку (падобна саракінам) выходзілі за межы свайго месцажыхарства, рабавалі і забівалі. Забіраемыя імі палонніцы, быццам бы, аддаваліся дзеля звальнага граху, іхныя дзеці ці забіваліся, ці прадаваліся саракінам. Сам Сергій быў забіты сваёй жа ўласнай сякерай рукой чалавека, які застаў яго пры сячэнні дроў[279]. Яго пераўтварэнні мелі наступствам падзел секты на два варагуючыя адгалінаванні, і пасьля яго сьмерці яго паслядоўнікі, жадаючы ачысьціць сябе ад нараканняў ў прыналежнасьці да ваанітаў, працягвалі з імі крывавае змаганне, пакуль аднаму «спадарожніку ў вандраванні Сергія», называемаму Фядотам, не атрымалася пераканаць абодва бакі згадаць пра іхную агульную веру.

Пасьля аднаўлення абразашанавання пры рэгенцтве Хвядоры паўлікіяне зноў падпалі пад пераследы. Паведамляюць, што не менш чым сотні тысяч із іх была адсечана галава, былі патоплены ці пасаджаны на кол[280]. Сярод забітых быў і бацька Карвея, камандыра гвардыі пры прэфекту Ўсходу. Карвей, даведаўшыся пра лёс свайго бацькі, адмовіўся ад вернасьці імператару і з пяццю тысячамі таварышаў шукаў выратавання ў агаранскіх абласьцях. Ён пашырыў і ўмацаваў некалькі іхных гарадоў, із якіх Тэфрыка быў самым важным і зрабіўся галоўным месцазнаходжаннем секты. Паўлікіяне із іншых краін збіраліся ў адкрыўшаяся для іх жыллё, і колькасць сектантаў яшчэ больш павялічылася за кошт ўцекачоў, шукаўшых выратавання ад імператарскіх законаў, і іншых асоб, якіх прываблівала распушчанасць нораваў, дазваляўшаяся ў асяроддзі сябраў секты. Паўлікіяне, **зліваючыся** з саракінамі, трывожылі сваіх суседзяў у межах імперыі пастаяннымі нападамі. Пад правадырствам Карвея яны, разам з саракінамі, здабылі вялікую перамогу над Міхалам, сынам Хвядоры, пад сьценамі Самасаты, а пад час валадарання імператара Васіля, Хрысахір, зяць Карвея каля 867 года накіраваўся з войскам складаўшымся із паўлікіянаў і сарокінаў у Малую Азію, разрабаваў Акіру,

[279] Petr. Sicil., 71 Phot., 224.
[280] Cedrenus, 641.

Нікею, Нікамедыю і іншыя гарады, і аддаў абразы і мошчы сваім паслядоўнікам для здзекавання, а Эфескі храм аддаў пад стайню для сваіх коней.

Васіль быў вымушаны прасіць у яго замірэння, Хрысахір пагадзіўся на яго толькі пад умовай, каб цар аддаў Усход «рабам госпада». Імператару не заставалася іншага выбару, як працягваць вайну. Ён уварваўся ў паўлікіянскую вобласць і захапіў некалькі гарадоў, але быў вымушаны спыніць аблогу Тэфрыкі. Хрысахір зноў пайшоў у імператарскія ўладанні, але яго войска было параможана адным із вайскаводаў Васіля. Рана ад дзіды прымусіла яго саскочыць з каня і, калі ён ляжаў ашаломлены ад падання, візантыйцы дабілі яго. Яго галава была прынесена да імператара, які працяў яе трыма стрэламі. Тефрыка была разбурана, але рэштка секты, – кажуць нам, – працягвала захоўваць сваю незалежнасць яшчэ на працягу цэлага стагоддзя і пасьля гэтага.

Такім чынам, у той час цяжка было разабрацца, хто быў паўлікіянін і хто саракін.

Паўлікіянства падтрымлівалася нашчадкамі тых, якія былі перaселены ў Фракію Кастусём Капранімам. Маючы на мэце абараніць нова-заснаваную царкву Баўгарыі ад асіміляцыі з фракійскімі суседзямі, Пятро Сіцылійскі, каля 870 года, звярнуўся да архібіскупа баўгарскага з творам, які і з’яўляецца галоўнай крыніцай нашых ведаў пра паўлікіян.

Грунтуючыся на ім складзены і гэты нарыс з дадаваннямі грунтуючыся на Фоціі і Кедрынасе, але мы бачым, што ўсё яны – крыніцы вельмі познія і мала надзейныя.

# Глава II

## Славянска-македонская дынастыя і першая сутычка паміж Усходняй і Заходняй царквой на грунце прыраўнання апошняй Евангельскага Хрыста – каля 869 года – да бога-бацькі.

Кім быў Васіль Македанянін?

Розныя крыніцы прыпісваюць родапачынальніку Македонскай дынастыі рознае паходжанне. Грэкі паведамляюць пра македонскае паходжанне Васіля, армяне пра армянскае, а ісламіты лічаць яго славянінам. Ва ўсякім разе ён вырас у Македоніі, дзе жыло шмат і армянаў, і славянаў, а таму, прымаючы да ўвагі сведчанні агаранскіх крыніц, можна бачыць у Васілю нашчадка армяна-славянскай сям'і. Яна, – кажа А. А. Васільеў (I,276), – магла быць армянскай адпаведна з продкамі, але паступова, шляхам адружанняў са славянамі, якіх было шмат у Македоніі, моцна аславяніўшайся.

З'явіўшыся нікому невядомым юнаком у Цар-Горад шукаць шчасьці, Васіль звярнуў на сябе ўвагу імператара-спартоўцы Міхала III сваім вялікім ростам, вялізнай дужасьцю і ўменнем аб'язджаць дзікіх коней. Наблізіўшы яго да сябе, Міхал цалкам падпарадкаваўся свайму фаварыту. Васіль неўзабаве быў абвешчаны суваладаром і каранаваны імператарскай каронай. Заўважыўшы пазьней, што Міхал пачаў падазрона ставіцца да яго, Васіль пайшоў насустрач небяспецы. Ён загадаў сваім прыхільнікам забіць цара і сам зрабіўся імператарам ад 867 да 886 года. А потым храналагічныя вехі гэтага перыяду былі такімі. Пасьля Васіля

кіравалі яго сыны Леў VI Філосаф ці Мудры (886-912) і Аляксандр (886-913), які перажыў на год свайго брата. Потым зацараваў сын Ільва VI, Кастусь VII Парфірародны (913-959), праводзіўшы амаль увесь свой час за літаратурнай працай ў атачэнні найбольш асьвечаных людзей свайго часу, перадаўшы на доўгія гады кіраванне дзяржавай у рукі свайго цесьця, кіраўніка флота Рамана Лакапіна (919-944). У 944 годзе сыны Лакапіна Хрыстафор, Стэфан і Кастусь пазбавілі свайго бацьку пасады і заняволілі яго ў кляштар, але і самі ў сваю чаргу былі пазбаўлены пасады ў 945 годзе Кастусём Парфірародным, які, пасьля гэтага пачаў кіраваць самастойна ад 945 да 959 года.

Пасьля сьмерці яго сына Рамана II (959-963) засталіся яго ўдава Феафана і два непаўналетніх сыны, Васіль і Кастусь. Феафана аддала сваю руку таленавітаму вайскаводу Нічыпару Факу, які і быў абвешчаны імператарам ад 963 да 969 года. Пасьля яго гвалтоўнай сьмерці на пасад быў узведзены энергічны вайскавод, армянін згодна з паходжаннем, Ян Цымісхій (969-976), адружаны на Хвядары, сястры Рамана II і дачцэ Кастуся Парфіроднага. Толькі пасьля сьмерці Яна Цымісхія імператарамі зрабіліся два сыны Рамана II, Васіль II, празваны Баўгарабойцам (976-1025), і Кастусь VIII, інакш IX (976-1028). Галоўнае кіраванне дзяржавай знаходзілася ў руках Васіля II, пры якім імперыя дасягнула самай высокай ступені сваёй магутнасці і бляску, а з яго сьмерцю пачынаецца эпоха заняпаду Македонскай дынастыі. Пасьля сьмерці Кастуся VIII імператарам быў састарэлы сенатар Раман III Аргір (1028-1034), адружаны на Зоі, дачцэ Кастуся VIII. Пасьля яго сьмерці заўдавелая Зоя адружылася са сваім каханкам Міхалам Пафлаганянінам, які і быў, адпаведна з патрабаваннем Зоі, абвешчаны імператарам пад імем Міхала IV (1034-1041). Яго кіраванне і кароткачасовае валадаранне яго пляменіка, Міхала V Калафата (1041-1042), выклікалі незадавальненне ў імперыі. Калафат быў пазбаўлены пасада і асьлеплены, і на працягу двух месяцаў 1042 года Візантыя назірала на пасадзе незвычайнае гледзішча: дзяржавай кіравалі дзьве сястры: заўдавеўшая ў другі раз Зоя і яе малодшая сястра Хвядора. Аднак, Зоя ў тым жа 1042 годзе адружылася ў трэцці раз, і яе новы чалавек Кастусь IX Манамах, абвешчаны імператарам, кіраваў ад 1042 да 1054 года. Састарэлая Зоя памёрла раней свайго трэццяга чалавека, і адхіленая на гэты час ад улады яе малодшая сястра Хвядора пасьля сьмерці чалавека апошняй, Манамаха, зрабілася з нагоды адсутнасьці мужчынскіх спадкаемцаў самаўладнай валадаркай імперыі (1054-1056). Пасьля імператрыцы Ірыны, аднавіцельніцы абразашанавання на прыканцы VIII і пачатку IX стагоддзі, Зоя і Хвядара з'яўляюцца ў летапісах візантыйскай гісторыі другім і трэццім прыкладам таго, як на пасадзе сядзела жанчына ў якасьці самаўладнай і поўнаўладнай імператрыцы рамеяў. Са сьмерцю Хвядары канчаткова спынілася дынастыя славяна-македонскіх імператараў, займаўшых пасад на працягу 189 гадоў.

А царская ўлада жанчын зараз ужо не абуджала вялікіх нараканняў дзякуючы прэцэдэнту Ірыны.

Такім з’яўляецца агульны дынастычны нарыс таго перыяду. Пяройдзем зараз і да яго зместу.

Разгледзім спачатку палітычную гісторыю.

Распачатыя напачатку сямідзясятых гадоў IX стагоддзя ўдалыя вайсковыя паходы на ўсходзе Малой Азіі супраць паўлікіян аддалі ў рукі заснавальніка новай дынастыі імператара Васіля Македаняніна іхны галоўны горад Тэфрыку. А агаране,

наадварот, забралі ў візантыйцаў Сіракузы, пасьля чаго ў Сіцыліі ва ўладанні Візантыі заставаўся толькі горад Таарміна на ўсходнім узбярэжжы.

Адразу пасьля ўцарвання Ільва VI Мудрага (886-912) пачалася няўдалая для Візантыі баўгарская вайна, у сувязі з якой упершыню ў гісторыі з'яўляюцца мадзяры (г.азн. вугорцы ці ўгры). А на прыканцы яго кіравання каля Цар-Горада з'явілася і рускія.

На захадзе агаране на самым пачатку X стагоддзя завалодалі горадам Регіумам, на італійскій беразе Месінскага праліва, пасьля чаго праліў апынуўся цалкам у іхных руках. У 902 годзе яны ж заваявалі апошні значны ўмацаваны пункт візантыйскай Сіцыліі – Таарміну.

Яшчэ на прыканцы IX стагоддзя крыцкія піраты пачалі спусташаць узбярэжжа Пелапанэса і выспы Эгейскага мора, і гэта заахвоціла візантыйскі ўрад звярнуць увагу на свой флот, які давялося значна палепшыць. Цікава, што Кастусь Парфірародны, ці той, хто піша ад яго імя, пазначае наяўнасць у яго флоце сямісот рускіх матросаў.

Апошнія гады яго кіравання пазначыліся бязлітаснымі сутыкненнямі з Сейф-ад-Даулай, якія пасьля некалькіх адчувальных для грэкаў параз закончыліся паразай агаранаў у паўночнай Месапатаміі і пераходам візантыйскага войска праз Еўфрат. Згодна з меркаваннем французкага гісторыка Рамбо «ён адкрыў як для ўсходу, так і для франкаў – эру крыжовых паходаў».

Пад час кароткачасовага кіравання Рамана II (959-963) яго вайскавод Нікіфар Фака захапіў выспу Крыт і тым самым знішчыў гняздо яго піратаў, даймаўшых насельнікаў выспаў і ўзбярэжжа Эгейскага мора.

А пры валадаранні самога Нічыпара Факі (963-969) візантыйскае войска захапіла Кілікію, і ў той жа час візантыйскі флот забраў у агаранаў выспу Кіпр. А ў 969 годзе была захоплена Антыёхія, і хутка пасьля гэтага ў рукі візантыйцаў перайшоў і другі важны цэнтр Сірыі – Алепа. Да нас дайшоў цікавы тэкст дамовы, заключанай паміж візантыйскім вайскаводам і валадаром Алепа, якой забяспечваўся вольны пераход хрысьціянаў у агаранства і агаранаў у хрысьціянства, як быццам бы гэта былі два адгалінаванні той жа самай царквы.

Паходы Факі супраць усходніх агаранаў былі ў вышэйшай ступені ўдалымі. Адна візантыйская хроніка піша:

«*Ён пашырыў зямлю рамеяў. Саракіны і армяне збеглі, персы баяліся, і адусюль прыносілі яму падарункі і малілі заключыць з імі мір. Ён прайшоў да Эдэсы на рацэ Еўфрат, і напоўнілася тая зямля войскам рамеяў. «Сірыя і Фінікія былі патаптаны рамейскімі коньмі, ён здабыў вялікія перамогі, і меч хрысьціянаў насіўся падобна сярпу*».

Пры Васілю II (976-1025), наступніку Яна Цымісхія, агульнае становішча спраў у дзяржаве не спрыяла энергічнай палітыцы на Ўсходзе. Малаазіяцкія паўстанні Варды Скліра і Варды Факі і працягваўшаяся больш трыццаці гадоў баўгарская вайна мелі наступствам тое, што агаране перайшлі ў наступленне. Спробы імперыі адваяваць Сіцылію скончыліся нічым, але цікава, што ў сіцылійскай экспедыцыі брала ўдзел, між іншым, варага-руская дружына, знаходзіўшаяся на службе Візантыі, і прысутнічаў знакаміты герой скандынаўскіх саг Гаральд-Гардрад.

З гэтага ж моманту ліквідуецца непраўдападобная ранняя гісторыя Арменіі. Згодна са словамі акадэміка Н. Я. Мара, дзякуючы саракінам армянскія «феадалы падпалі пад вынішчэнне, велічныя творы хрысьціянскага дойлідства былі разбураны, і ўся культурная праца папярэдніх стагоддзяў была зведзена да нічога».

Так сцвярджаюць і ўсе гісторыкі, але ці сапраўды яна – гэтая ранейшая культура – існавала? Ва ўсякім разе, Арменія пачынаючы толькі з VIII стагоддзя нашай эры пачынае сваё безперапыннае дзяржаўнае жыццё, калі і не із нічога, то ab ovo, а так услаўленая Эчміядынская кляштарская бібліятэка узнікла толькі дзякуючы ініцыятыве імператара Аляксандра II (ці, больш дакладна – яго міністра).



Мал. 104.
Старажытны Цар-Горад. Вялікая гарадзкая сьцяна на заходняй частцы яго паўвыспы ў яе сучасным выглядзе.

У палове IX стагоддзя, – кажуць вам, – агаранскі каліф, маючы патрэбу ў дапамозе суседзяў для свайго змагання з Візантыяй, падараваў армянскаму валадару Ашоту із роду Багратыдаў тытул «князя князёў». Так пачалося армянскае царства із дынастыі Багратыдаў. Даведаўшыся пра яго і візантыйскі імператар Васіль I выправіў Ашоту царскі вянок і заключыў з ім хаўрусніцкую і сяброўскую дамову, называючы сваім любым сынам і запэўніваючы яго, што сярод усіх іншых дзяржаваў Арменія заўсёды застанецца яго асабліва блізкім хаўруснікам.



Мал. 105.
Старажытны Цар-Горад. Паўднёва-заходні кут вялікай гарадзкой сьцяны Цар-Горада. Мармуровая брама (Мермер-Кудэ)

Ашот III у другой палове X стагоддзя перанёс афіцыйную сталіцу сваёй дзяржавы ва ўмацаванне Ані, якое пасьля гэтага паступова пачало ўпрыгожвацца пышнымі пабудовамі і ператварылася ў вялікі культурны цэнтр. Але пад час саракавых гадоў XI стагоддзя, пры імператары Кастусю IX Манамаху, сталіца Ані перайшла пад уладу Візантыі. Так быў пакладзены канец валадарству Багратыдаў, апошні прадстаўнік якіх, будучы вераломна запрошаны ў Цар-Горад, атрымаў ад Візантыі замест згубленай Арменіі грашовую пенсію і палац на Басфоры. Тады ж туркі-сельджукі пачалі ўрывацца і ў Арменію і паступова заваёўваць яе.



Мал. 106.
Старажытны Цар-Горад. Заходняя гарадзкая сьцяна. Выгляд са знешняга боку (Рэстаўрацыя)

Пасьля ўцаравання Ільва VI (886) упершыню на прыканцы IX стагоддзя ў міжнародных стасунках еўрапейскіх дзяржаваў пачалі браць удзел, як я ўжо

паведамляў, вугорцы ці вугры, якіх візантыйскія крыніцы часта клічуць туркамі, а заходнія – аварамі (сугучна са словам “яўрэй”).

Гэта было, згодна са словамі К. Грота, «першае выступленне мадзяраў на вачах Яўропы ў хаўрусе з адным із самых культурных народаў».



Мал. 107.
Старажытны Цар-Горад. Заходняя гарадзкая сьцяна. Выгляд з унутранага боку (Рэстаўрацыя)

Пачынаючы ад сьмерці Ільва VI і да сьмерці баўгарскага князя Сымона ў 927 годзе Візантыя знаходзілася ў стане амаль неспыняючайся вайны з Баўгарыяй. Сымон ужо спрабаваў захапіць Цар-Горад. Дарэмна патрыярх Мікалай Містык, жадаючы запалохаць яго, пагражаў яму хаўрусам Рамеі з Руссю, печанегамі, аланамі і «заходнімі туркамі», г.азн. мадзярамі. Баўгарскае войска, нанёсшы грэкам цэлы шэраг жорсткіх параз, захапіла Адрыянопаль, прайшло на поўдзень да Дарданэл і да Сярэдняй Грэцыі і падышло да сьцяны Цар-Горада, які знаходзіўся ў крайняй небяспецы. Сымон нават паспрабаваў наладзіць стасункі з афрыканскімі агаранамі для супольнай аблогі сталіцы. За выключэннем яе і Салуні ўся Фракія і Македонія знаходзіліся ў яго руках. Аднак, небяспека з боку ўзнікшай сербскай дзяржавы, пачаўшай перамовы з Рамеяй-Візантыяй, вымусіла баўгарскага цара часова адыйсьці ад Цар-Горада, і ў 927 годзе ён, падчас сваіх новых прыгатаванняў да паходу супраць Візантыі, памёр.

Пры ім Баўгарыя дасягнула самых вялікіх памераў. Яе мяжа працягнулася ад Чорнага мора да Адрыятычнага і ад ніжняга Дуная да глыбіні Фракіі і Македоніі, не даходзячы крыху да Салуні. Але яна была недаўгавечнай, і ў заходняй Баўгарыі царом быў хутка абвешчаны паўстанец Шышман. У зацятым змаганні Нічыпара Факі і Яна Цымісхія з баўгарамі браў удзел згодна з запрашэннем Факі і рускі князь Святаслаў, які так далёка зайшоў у Рамейскую тэрыторыю, што рускі летапіс заўважае: «за малым бо не дайшоў Цараграда». Але пазьней Ян Цымісхій, выступіўшы для абароны Баўгарыі супраць рускага ўварвання, пасьля сваёй перамогі над Святаславам далучыў да сябе ўсю ўсходнюю Баўгарыю.

Заваяваныя баўгары паднялі паўстанне пасьля яго сьмерці, але яно з такой жорсткасьцю было ўтаймавана новым імператарам Васілём II, што ён атрымаў найменне Баўгарабойца.

Так, у 1018 годзе першае баўгарскае царства было ператворана ў рамейскую правінцыю з імператарскім намесьнікам на чале, але з захаваннем некаторай унутранай аўтаноміі. На заселеныя баўгарамі землі пачала распаўсюджвацца

элінізацыя. Аднак, баўгарская народнасць захавала сваю нацыянальнасць, дзякуючы ўзнікненню ў XII стагоддзі другога баўгарскага царства.

Візантыйскія крыніцы паведамляюць нам пра ўдзел рускіх у рамейскім войску у выглядзе дапаможных атрадаў пачынаючы ад пачатку X стагоддзя і з гэтым пагадняецца месца ў дамове 911 года, існуючае ў рускім летапісе «пра дазвол рускім, калі яны пажадаюць, служыць у войску візантыйскага імператара».

Адзін жыдоўскі сярэднявечны тэкст пра хазара-руска-візантыйскія дачыненні ў X стагоддзі, перакладзены на рускую мову акадэмікам П. К. Какоўцавым, паведамляе пра «Хальгу (Хельгу) цара Русі», г.азн. пра Алега і пра яго няўдалы паход на Цар-горад. Але ўсё ж гэты паход сумнеўны бяручы да ўвагі адсутнасць візантыйскіх паведамленняў. Іншая справа пра Ігара, імя якога, акрамя рускіх летапісаў, захавалася як у грэцкіх, так і лацінскіх крыніцах. Першы паход Ігара ў 941 годзе скончыўся поўнай паразай. Рускія караблі, дзякуючы пагібельнаму ўздзеянню грэцкага полымя, былі, большай часткай, знішчаны. А гадоў праз 16 пачалося збліжэнне, што непасрэдна праявілася ў тым, што пад час валадарання Кастуся VII Парфірароднага, у 957 годзе, руская вялікая княгіня Вольга прыехала ў Канстантынопаль, дзе была прынята з вялікімі ўрачыстасьцямі, як паведамляе пра гэта афіцыйны запіс у зборніку X стагоддзя «Пра цырымоніі візантыйскага двара».

Потым адбылося і яшчэ большае збліжэнне. Вялікі рускі князь Уладзімір прыняў хрышчэнне і адружыўся з візантыйскай царэўнай Ганнай у 988 ці 989 годзе. Абодва бакі бязбаязненна вялі паміж сабой гандаль, пакуль этнаграфічныя перамены, адбыўшыяся ў другой палове XI стагоддзя ў стэпах паўднёвай Расіі не пазбавілі рускую дзяржаву магчымасьці падтрымваць прамыя стасункі з Візантыяй.

Ад часу Васіля I уяўляе цікавасць яго ліставанне з заходнім імператарам Людовікам II, із якога бачна, што паміж імі адбывалася гарачая спрэчка пра няправільнасць прысваення Людовікам імператарскага тытула. Такім чынам, яшчэ ў другой палове IX стагоддзя адчуваліся наступствы «няправільнага» ўкаранавання Карла Вялікага імператарам рымскім у 800 годзе. Нават жа і пры Ільве VI у паўднёвай Італіі існавалі дзьве рамейскія фемы: Калабрыя і Лангабардыя, у якіх пад час X стагоддзя існавала шмат візантыйскіх манастэрыёнаў і цэркваў.

Але ў гэты ж час германскі валадар Атон I у 962 годзе быў каранаваны імператарскай каронай ў Рыме і заснаваў «Сьвятую Рымскую імперыю германскай нацыі». Ён здзейсніў нечаканы, але няўдалы напад на візантыйскія паўднёва-італійскія вобласьці. І із памфлета яго пасланніка ў Цар-Горад Ліутпранда, звычайна называемага:«Паведамленне пра Канстантынопальскае пасланніцтва» (Relatio de legatione Constantinopolitana), відаць, што ў Візантыі яшчэ працягваліся спрэчкі пра тытул заходняга валадара, і Ліутпранд апраўдваў свайго валадара.

«*Каму служыў Рым*, – чытаем мы ў яго, – *якому вы* (візантыйцы) *жадаеце даць волю? Хіба не служыў ён куртызанкам? І вось, у той час калі ўсе спалі ці знаходзіліся ў стане немачы, мой валадар, найяснейшы імператар, вызваліў Рым ад гэтага ганебнага рабства*».

Аднак, наступны візантыйскі імператар Ян Цымісхій не толькі больш не спрачаўся пра тытул германскага імператара, але заключыў з ім мір і дамогся адружання яго сына і спадчынніка, будучага імператара Атона II, з візантыйскай прынцэсай Феафана. Паміж абодвума імперыямі ўсталяваўся хаўрус і менавіта ў гэты перыяд пачала ўзнікаць легенда пра тое, што старажытным класічным Рымам

быў не рамейскі Цар-Горад на Басфоры, а італійскі пантыфікальный Рым на рацэ Тыбр.

«*Атон II меў жаданне,* – паведамляе гісторык Брайс, – *зрабіць сяміўзгоркавы горад Вялікіх Пантыфексаў сталіцай імперыі, паставіўшы Германію, Ламбардыю і Грэцыю на ўзровень падначаленых правінцый. Ніхто да такой ступені не забываўся пра сучаснасць для таго, каб жыць у сьвятле антычнага ўладкавання, як імператар Атон; нічыя душа не была да такой ступені ахоплена палымяным містыцызмам і той глыбокай павагай да славы мінулага, на якім грунтавалася ідэя сярэднявечнай імперыі, як душа гэтага імператара*».

Але які́м бы ні быў, – выказваецца А. А. Васільеў (I, 303), – вялікім прэстыж старажытнага Рыма, усё ж уяўленне Атона II неслася галоўным чынам да Рыма ўсходняга, да таго казачна-шыкоўнага двара Візантыі, адкуль паходзіла яго маці Феафана. Ён называў сябе imperator romanorum, а будучую сусьветную манархію – Orbis Romanus».

Але малады летуценнік на пасадзе нечакана памёр на самым пачатку XI стагоддзя маючы дваццаць два гады ад нараджэння, а ў Італіі з'явіўся такі вораг Візантыі, які хутка стаў пагрозай для Ўсходняй імперыі. Гэтым ворагам былі нарманы, г.азн., вядома, французы із Нармандыі, а не скандынавы, як лічаць тыя, каму няма справы да геаграфічных адлегласьцяў. Войску Васіля II у перамозе над імі выказалі істотную дапамогу рускія, служыўшыя ў шэрагах візантыйскага войска. Іх перамога пры Канах да такой ступені ўмацавала становішча Візантыі ў паўднёвай Італіі, што імператар Міхал IV Пафлагонец, у перыяд трыццатых гадоў XI стагоддзя, падрыхтаваў экспедыцыю для адваротнага адваявання ад агаранаў Сіцыліі, у якой, быццам бы, браў удзел і скандынаўскі герой Гаральд Гардрад і варага-руская дружына. Але, не гледзячы на іхны ўдзел, візантыйскае пачынанне не дало вынікаў.

Галоўнай падзеяй царкоўнага жыцця Візантыі за час Македонскай дынастыі з'яўляецца канчатковы падзел цэркваў – на ўсходне-праваслаўную і заходне-каталіцкую, завяршыўшыся ў палове XI стагоддзя пасьля амаль двухстагоддзевых спрэчак. Вось як распавядаюць пра гэта заходнія першакрыніцы.

Паважаемымі таварышамі імператара Міхала III (842-846) былі, – паведамляе нам Джэмс Робертсан у сваёй «Гісторыі Хрысьціянскай Царквы»,– атлеты, вершнікі, музыканты, блазны і скакунні. Ён сам запісваўся ў якасьці ўдзельніка на публічныя каляснічных спаборніцствы і настойваў на прыняцці сваіх прызоў «із рук абраза». Атрыманае ім у спадчыну багацце хутка было выдаткавана, і пасьля спроб папоўніць свой апусьцеўшы скарб рабаваннем царкоўных упрыгожванняў ён дайшоў да таго, што быў вымушаны пераплавіць у манету нават залатыя ўпрыгожванні імператарскага адзення.

Ён заснаваў блюзнерскую царкоўную іерархію, кіраўніком якой быў нейкі Багалюб (Феафіл, па-грэцку), вядомы таксама пад мянушкай Парася. Пад кіраваннем гэтага Багалюба-Парасяці было дванаццаць мітрапалітаў, у ліку якіх быў і сам імператар. Яны прынімалі блюзнерскія пасьвячэнні, апраналіся ў каштоўныя царкоўныя ўборы і спявалі непрыстойныя песьні пад музыку, складзеную падобнай на царкоўныя спевы, па-блюзенску пераіначвалі судовыя царкоўныя працэсы і пазбаўленне пасады біскупаў, мелі свае ўпрыгожаныя каштоўнасьцямі напасадныя пасудзіны, у якіх здзяйснялі прычашчэнне на гарчыцы і воцаце[281]. Аднойчы яны сустрэлі на вуліцы патрыярха Ігната на чале ўрачыстай

---

[281] Hardouin, «Concilia», V, 893,906. Constantin Porphirogen, IV, 38; V, 21;. Cedreiius, 553.

працэсіі. Багалюб-Парася, седзячы верхам на асле, назойліва перадражніваў яго, а яго таварышы дрынькалі на сваіх арфах, здзекуючыся над патрыярхам і давалі аплявухі суправаджаўшым яго сьвятарам. Пасьля сьмерці свайго апекуна, яны былі выкліканы на сабор 869 года, дзе апраўдвалі сябе тым, што дзейнічалі баючыся гневу імператара і выказвалі шкадаванне пра свае грахі[282].

Такімі былі абставіны дзяцінства патрыярха Фоція, займаўшага свой «пасад» ад 857 да 891 года.

Стрыечны ўнук патрыярха Тарасія, ён быў спачатку пасланнікам да багдадзкага каліфа і зараз занімаў пасаду сакратара дзяржавы і протаснатарыя[283]. Дзякуючы сваім сталым заняткам: ён набыў такую вучонасць, што яе тлумачылі дэманскім паходжаннем. Яму апакрыфуюць нават і зараз твор «Мірна-біблон» (тысячакніжжа), змяшчаючы ў сабе заўвагі пра 280 твораў класічнай і царкоўнай літаратуры, з іхным скарочаным выкладаннем, цытатамі і тлумачэннямі. Але яно напісана цалкам у стылі падобным на нашы найноўшыя крытычныя агляды, так што і час яго не можа быць раней Эпохі Адраджэння.

За выключэннем таго, што можна здабыць із яго ўласных твораў, нашы паведамленні пра Фоція запазычаны выключна ад яго супернікаў.

Адзін із іх распавядае, што новы патрыярх браў удзел у папойках Міхала і не сарамеўся быць побач з Багалюбам-Парасём[284], а іншы «сведчыць», што аднойчы, калі імператар быў мярцвецкі п'яны ад пяцідзесяці чарак віна, Фоцій выпіў шэсцьдзесят, але не выявіў ніякіх прыкмет ап'янення, і апісанне гэтай папойкі суправаджаецца такімі непрыстойнасьцямі, што іх нязручна паведамляць. Падобна Ігнату, ён быў абаронцам абразашанавання. Абразазмагальнікі, напрыклад, сцвярджалі, што кожны народ мае розныя выявы твару Хрыста адпаведна з тыпам свайго ўласнага, а таму не існуе ніводнага сапраўднага. А Фоцій казуістычна адказвае, што ў такім выпадку можна б, грунтуючыся на адрозненнях у перакладах, даводзіць, што не існуе ніводнага сапраўднага евангелля, а грунтуючыся на тым, што кожны народ лічыць, быццам бы Хрыстос увасобіўшыся прыняў яго ўласнае падабенства, магчыма аспрэчыць і саму гісторыю ўвасаблення. Але сутнасць справы была не ў гэтых анекдотах. Падстава царкоўнай звады пры Васілю Македаняніну была зусім іншая. У гэты час у Рымскай царкве было абвешчана, што не толькі бог-бацька вылучае із сябе сьвяты дух, але таксама і яго сын, Хрыстос, і гэта было занесена ў «знак веры». Такім чынам, Вялікі Цар-Месія толькі зараз быў канчаткова прыраўнаваны да бога. Патрыярх Ігнат, які жадаў паяднання з Рымам, ахвотна прыняў гэтую навіну, а Фоцій, шукаўшы яднання з агаранамі, лічыўшымі Хрыста толькі чалавекам усыноўленага богам, не пагаджаўся з цверджаннем пра вылучэнне ім сьвятога духу із сябе. Цар Міхал III, не жадаўшы разрыву з агаранамі, прымусіў Ігната да адрачэння і Фоцій, пасьвечаны сіракузскім мітрапалітам Рыгорам ва ўсе ступені сьвятарства на працягу шасьці паслядоўных дзён, быў абвешчаны патрыярхам пад час сьвята Каляд.

[282] Hardouin, «Concilia», V, 893, 905.
[283] Гэты тытул адпаведна з літаральным перакладам азначае «кіраўнік целаахоўнікаў».
[284] Hardouin, «Concilia», V, 976.



Мал. 108.
Старажытны Цар-Горад. «Залатая Брама» (рэстаўрацыя).

Прыхільнікі Ігната, зацята стаяўшыя на тым, што Езус вылучае із сябе сьвяты дух і таму з'яўляецца праўдзівым богам, склікалі сабор, на якім Фоцій, не прызнаваўшы гэтага, быў адлучаны, а ён склікаў другі сабор, адлучыўшы ад царквы Ігната і прыраўноўваўшых Езуса да бога-бацькі. Маючы на мэце замацаваць сваё становішча Фоцій выправіў паведамленне пра сваё пасьвячэнне ў Рым з прашэннем, каб вялікі рымскі пантыфекс выправіў легатаў на хутка маючы адбыцца «сусьветны сабор» у Цар-Горадзе, скліканы, быццам бы, для зьнішчэння абразазмагальніцкай партыі, зноў спрабаўшай падняць сваю галаву. Пантыфекс Мікалай, толькі што перад тым узведзены на катэдру «апостала Пятра», пабачыў у гэтым звароце да яго спрыяльны выпадак для пашырэння свайго ўплыву і ўявіў сабе ўсю справу, як зварот да яго рашэння. Ён пісьмова адказаў імператару ў тоне незалежнага валадара і ў выглядзе намёку на кошт, які ён жадаў бы за сваё спрыянне, настойваў на вяртанні яму правінцый выведзеных із пад яго юрысдыкцыі і вотчын рымскай царквы ў Калабрыі і Сіцыліі. У Цар-Горад у якасьці легатаў Рымам былі выпраўлены два біскупы, Радаальд Порцкі і Захар Анагнійскі, з інструкцыямі правесьці дазнанне справы і дапускаць Фоція да стасункаў не інакш як у якасьці парафіяніна.

Міхал, раздражнёны тонам пантыфекса, прыняў легатаў без ушанаванняў. Яны былі затрыманы ў Канстантынопалі на працягу некалькіх месяцаў. Але, нарэшце, у 861 годзе адбыўся сабор, называемы грэкамі «перша-другім», і складаўшыся, як і нікейскі сабор (напэўна, шмат у чым спісаны з яго) із 380

біскупаў. На ім Фоцій быў прызнаны патрыярхам, а Ігнат, трымаўшы сябе непахісна і па-ранейшаму патрабаваўшы, каб легаты пантыфекса прагналі з патрыяршаства «блудніка», калі толькі жадаюць быць праўдзівымі суддзямі, а не падкупленымі.

Аднак, нягледзячы на адмаўленне Фоціем прызнаць дадаванне filoque да «знака веры», даючае права Хрысту вылучаць із сябе сьвяты дух, і на прызнанне за ім гэтага права Ігнатам, сабор апраўдаў Фоція, а Ігната пазбавіў патрыяршага адзення і вымусіў падпісаць крыжом прызнанне, што ён атрымаў свой сан незаконна, і выконваў свае абавязкі тыранічна. Ён падпісаў, але потым збег у адзенні раба і знайшоў сховішча сярод жыхароў грэцкіх выспаў. Адбыўшыся ў той час землятрус быў патлумачаны народам як нябесны знак на карысць Ігната, а Фоцій наклікаў на сябе абвінавачванне ў бязбожнасьці.

Рашэнні сабора былі выпраўленні да вялікага пантыфекса Мікалая, з прашэннем ад імператара пра іхнае зацьверджанне, ды і Фоцій у той жа самы час звярнуўся ў Рым з лістом, у якім абараняў сваё пасьвячэнне паралельнымі выпадкамі сваіх папярэднікаў. Нічыпар і Тарасій, напрыклад, таксама былі ўзведзены ў патрыяршы сан непасрэдна із парафіянаў, а Амброс на Захадзе і Нектарый, на Ўсходзе былі нават абраны на біскупства да свайго хрышчэння. А на апошнім саборы ён жа, Фоцій, сам зацьвердзіў закон, забараняўшы прызначэнне парафіянаў на біскупства, акрамя як пад умовай праходжання патрабуючыхся прыступак. На заканчэнні ліста аўтар ад імя Фоція, – выяўляючы гэтым, што ён не Фоцій, – з іроніяй паказвае на амаральнасць саміх рымлянаў і моліцца, каб Рым не працягваў заставацца і на далей прыстанкам блуднікаў, зладзееў, п'яніц, прыгнятальнікаў, забойцаў і прыхільнікаў рознага бруду, збегшых туды да ігнацьевай партыі.

Яго супернік Ігнат таксама выправіў да пантыфекса сваё ўласнае данясенне, і пантыфекс Мікалай, карыстаючыся гэтай акалічнасьцю, напісаў у напышлівым тоне як імператару, так і патрыярху, што Рымская царква з’яўляецца кіраўніком усіх. На саборы, адбыўшымся ў 863 годзе, Мікалай акрамя таго абвясьціў Фоція пазбаўленым якой бы та ні было духоўнай пасады і пагражаў, што ў выпадку непаслушэнства ён будзе адлучаны ад «хрыстовай царквы» без надзеі на аднаўленне да сьмяротнага ложка. А ўсе саборныя пастановы супраць Ігната былі абвешчаны несапраўднымі, і пантыфекс патрабаваў, каб ён быў прызнаны патрыярхам.

Міхал з абурэннем адказваў на гэты ліст, сцвярджаючы, што сваім зваротам да Рыма ён зусім не меў на ўвазе прызнаваць яго сваім суддзёй і здзекаваўся над лацінскай мовай, як над варварскім жаргонам. У адказ на гэта Мікалай абвінаваціў імператара ў непавазе да боскіх сьвятароў, а на яго думку пра лацінскую мову адказаў, што такія словы з’яўляюцца абразлівымі для таго, хто стварыў усе мовы, і, акрамя таго яны смешныя, выходзячы ад чалавека, які называе сябе імператарам рымлянаў. Ён прапанаваў Міхалу ўстрымлівацца ад браня ўдзелу ў духоўных справах і спаліць свой апошні ліст, а ў адваротным выпадку сам ён, пантыфекс, павесіць арыгінал яго ў Рыме на ганебны слуп і спаліць на вачах ўсіх народаў, якія знаходзяцца там.

Міхал, раздражнёны яго супрацівам, шукаў нейкіх сродкаў для далейшага націску на Рым. Імператарскі тытул Карла Вялікага, – выказваўся ён, – быў прызнаны ў Цар-Горадзе толькі ў якасьці імператара франкаў, а не Рыма, і яго наступнікі не дамагліся ад Усходу якога-небудзь вышэйшага тытула, чым тытул rex

(кароль)[285]. Міхал зараз прапанаваў прызнаць Людовіка імператарам, калі ён прызнае сабор, які быў такім непрыемным для вялікага пантыфекса, і Людовік, відаць, быў гатовы прыняць гэтыя ўмовы.

Але хутка адбыліся падзеі, не даўшыя магчымасьці ажыццявіцца гэтаму пагадненню.

Напачатку IX стагоддзя, як мы ўжо бачылі, сярод баўгар была спроба пашырэння хрысьціянства, але з малым поспехам. Кажуць, што адзін грэк-манах, на імя Куфара, якому спрыяла рамейская імператрыца, патрапіў у рукі баўгарскага князя Багорыса, і імператрыца прапанавала яму памяняць на гэтага манаха сястру самога Багорыса, якая тады знаходзілася ў Цар-Горадзе ў якасьці паланянкі і была далучана да хрысьціянства. Абмен адбыўся і, пасьля вяртання ў сваю краіну, былая паланянка працягвала справу пачатую Куфарай. Яе брат Багорыс не схіляўся, аднак, на яе перакананні, пакуль не наступіў голад, падчас якога, пасьля марнага звяртання да іншых божышчаў, ён звярнуўся, нарэшце, да бога хрысьціянаў, і гэтым спыніў голад. Новадалучаны князь папрасіў Міхала даслаць яму маляра для ўпрыгожвання яго палаца і ў Баўгарыю быў выпраўлены манах на імя Мяфодзій, намаляваўшы яму выяву жахлівага суда. Выява пекла так застрашыла князя, што ён адразу адрокся ад сваіх стодаў, і шмат хто із яго падданых зрабілі тое ж. Але Багорыс, – кажуць нам, – адчуваў няёмкасць пры назіранні супернічання накірункаў: грэцкага, рымскага і армянскага хрысьціянства і, жадаючы нейкага павучання, напісаў у Рым. Мікалай у адказ накіраваў у Баўгарыю двух біскупаў з лістом, у якім даваў адказ на прапанаваныя яму пытанні ў ста шасьці пунктах, і замест конскага хваста, які быў нацыянальным сьцягам Баўгарыі, загадваў прыняць крыж.

Далучэнне да справы вялікага пантыфекса абудзіла абурэнне ў Цар-Горадзе тым больш, што Мікалай заяўляў дамаганне на Баўгарыю на той падставе, быццам бы тамтэйшы народ сам пажадаў прызнаў над сабой яго ўладу, і што ён забяспечваў яго сьвятарствам. Фоцій рашуча настойваў на сваім уласным праве, засноўваючы яго на далучэнні баўгар да хрысьціянства менавіта грэкамі. Ён склікаў сабор у Цар-Горадзе і ў лісьце, звернутым да патрыярхаў Александрыі, Антыёхіі і Ерусаліма, бэсьціў замах Рымскага пантыфекса на Баўгарыю.

«*На працягу двух апошніх гадоў*, – паведамляў Фоцій, – *людзі з Захаду, краіны цемры, уварваліся ў гэтую частку нашай паствы, пераіначваючы евангелле згубнымі навінамі і сцвярджаючы, што сьвяты дух выходзіць таксама і ад сына, – хлусня, вышэй якой не можа існаваць нічога і заслугоўваючая дзесяці тысяч анафем*».

Рымлянаў ён называў адрачэнцамі і служкамі антыхрыста і прапанаваў усходнім патрыярхам выправіць да сябе ў Цар-Горад упаўнаважаных дзеля супольнага супрацiву. Сабор, скліканы Фоціем, адбыўся ў 867 годзе. Ён адказаў на рымскія анафемы анафемай на самога Мікалая.

Усё гэта пагражала падзелам цэркваў, але раптам адбыліся падзеі, адразу перамяніўшыя рэчаіснасць.

Хаця радавод Васіля Македаняніна пазьней і выводзіўся лісліўцамі і ад пярсідзкіх Аршакідаў, і ад Аляксандра Вялікага, і ад Кастуся, але ён у рэчаіснасьці быў **славянскага** племені. У якасьці ўзнагароды за яго вычыны, як вершніка, змагара і п'яніцы, імператар Міхал узвёў яго ў вартасць патрыцыя і адружыў яго з адной са сваіх уласных наложніц, із чаго мы дарэчы бачым, што прызнаныя наложніцы існавалі ў рамеяў нават і пад час хрысьціянскага перыяду заканчэння IX

---

[285] Ρήξ а не Βασιλεύς Гл. Baronius et Raynaldus, «Annales Ecclesiastici, cum Pagi Critica». 1738. XIII, 65.

стагоддзя. Але потым, быццам бы, ён будучы у п'яным стане даў загад забіць Васіля і ўзвысіць на яго месца аднаго лодачніка. Васіль, адчуўшы небяспеку, вырашыў не марудзіць і Міхал, які напіўся да непрытомнасьці за вячэрай у яго прысутнасьці, быў забіты саўдзельнікамі Васіля 24 верасня 867 года[286].

Праз два дні пасьля сьмерці Міхала Фоцій быў пазбаўлены пасады. Васіль аднавіў Ігната ў годнасьці патрыярха з вялікай пышнасьцю і выправіў ліст у Рым, у якім аўтарытэт наступніка апостала Пятра прызнаваўся ў тэрмінах, патуль незвычайных для Цар-Горада.

Супраць Фоція і яго прыхільнікаў былі вымаўлены анафемы з дадаваннем да іхных імёнаў самых ганьбуючых эпітэтаў. Усе творы і дакументы на яго карысць былі спалены, і асуджэнне пазбаўленага пасады патрыярха, быццам бы, было падпісана віном із прычашчальнай чаркі[287].

Але і Ігнат з такой жа рашучасьцю, як і Фоцій, быў гатовы бараніць юрысдыкцыю сваёй катэдры над Баўгарыяй, і, нягледзячы на ліслівыя лісты рымскаму пантыфексу, на працягу кароткага часу усё лацінскае сьвятарства было адтуль прагнана.

Новы пантыфекс Ян VIII пісаў баўгарам, пераконваючы іх вярнуцца да стасавання з рымскай царквой, якую яны абралі спачатку, і перасьцерагаў іх ад небяспечнай сувязі з рамейцамі. «Яны, – пісаў ён, – заўсёды знаходзіліся ў той ці іншай ерасі». Адбылося б новае моцнае супрацьстаянне, калі б яму не перашкодзіла сьмерць Ігната ў кастрычніку 877 года.

І вось, на падмостказ зноў з’явіўся Фоцій, але ўжо вельмі дыпламатычна.

Згодна са «сведчаннем» жыццяапісацеля Ігната[288], ён стварыў прыдуманы радавод цара Васіля, даводзячы лінію яго продкаў да пярсідзкіх цароў. Падроблены радавод, – паведамляюць нам, – быў напісаны ім старажытнымі літарамі на старажытным жа на выгляд пергаменце і загорнуты ў адзін стары рукапіс. Ён быў занесены ў палацавую бібліятэку яе бібліятэкарам, які заявіў Васілю, што прачытаць гэты дакумент мог толькі Фоцій. А другое апавяданне сцвярджае, што прыхільнасць імператара была здабыта з дапамогай чараў, здзейсненымі над яго ежай і піццём[289].

І вось, Фоцій зноў быў узведзены на патрыяршую катэдру ў якасьці наступніка Ігната. Ён паведаміў пра сваё уступленне на пасаду пантыфексу Яну VIII і прасіў, каб той даслаў легатаў на новы сабор, павінны сабрацца ў Цар-Горадзе. Ян скарыстаўся гэтым выпадкам, як прызнаннем таго, што права Фоція на патрыяршы пасад залежыць ад яго рашэння і палічыў, што візантыйцы будуць гатовы пагадзіцца на ўсё каб здабыць яго спрыянне. У якасьці легатаў былі выпраўлены два біскупы і адзін сьвятар з лістамі і інструкцыямі ў якіх гаварылася, што Фоцій можа быць адноўлены, калі толькі дасць задавальненне за свае памылкі і папытае літасьці ў сабора, пры гэтым настойліва патрабавалася, каб ён адмовіўся ад якіх бы то ні было дамаганняў на Баўгарыю.

Гэты сабор, адбыўшыся ў Цар-Горадзе ў 878 годзе, згодна з колькасьцю сабраўшыхся іерархаў і агульнай пышнасьцю атачэння перасягаў нават некаторыя із сусьветных сабораў. Дэлегаты пантыфекса Яна VIII, прысутнічаўшыя на ім, не толькі пагадзіліся на скасаванне асуджэння Фоція і на аднаўленне стасункаў з ім

[286] G. Hamartoli Continuatio, 749-750.
[287] Hardoniu, «Coucilia», V, 922.
[288] «Vita Ignatii», 1004.
[289] Hardouiu, «Concilia», V, 1149.

рымскай царквы, але і выслухалі без пярэчанняў прачытаны на саборы знак веры без дадавання ўжо пашыранага на Захадзе filioque. На апошнім паседжанні пантыфікальныя легаты нават усклікнулі:

«*Хто не прызнае Фоцiя сьвятым патрыярхам і не будзе мець з ім стасункаў, ды будзе разам з Юдай, ды не будзе прылічаны да хрысьціянаў*!»

«*Услаўленнем Фоція,* – піша яго каталіцкі гісторык Гергенрэтэр, – *пачаліся паседжанні сабора і тымі ж услаўленнямі закончыліся*».

Вельмі раздражнёны Рымскі пантыфекс выправіў у 879 годзе ў Канстантынопаль свайго легата, які павінен быў настаяць на паходжанні сьвятога духа і ад Хрыста, і патрабаваць латынізацыі баўгарскай царквы. Аднак, ні імператар Васіль, ні Фоцій ні ў чым яму не саступілі і яго легат нават зведаў арышт. Атрымаўшы паведамленне пра гэта, пантыфекс Ян VIII у сваім храме Нябеснага Каменя (па-грэцку – Апостала Пятра) з евангеллем у руках і пры шматлікім народзе абвясьціў Фоцію анафему.

Так адбыўся першы недоўгачасовы падзел цэркваў, але стасункі паміж Візантыяй і Рымам пасьля гэтага не спыніліся, хаця і вызначаліся выпадковасьцю і нявызначанасьцю.

Васіль, згодна са сведчаннем аднаго гісторыка, быццам бы, «пераканаў і рускіх каля 880 года (г.азн. за сто гадоў да хрышчэння Русі Уладзімірам у 988 г.) зрабіцца ўдзельнікамі ратавальнага хрышчэння» і прыняць архібіскупа пасвечанага патрыярхам Ігнатам. Пры Васілю ж, – кажуць нам, – была далучана да хрысьціянства вялікая частка славянскіх плямён, і настойліва праводзілася гвалтоўнае далучэнне жыдоў да хрысьціянства.

Вельмі цікавай асобай з царкоўнага боку гледжання з'яўляецца ў гэты час імператар Нічыпар Фака (963-969). Яшчэ да свайго ўступлення на пасад ён захапляўся пустыніцкімі ідэаламі, насіў плахту і падтрымліваў пастаянныя стасункі са знакамітым заснавальнікам вялікага манастэрыёна на Афоне, Апанасам Афонскім. Візантыйскі гісторык Леў Дыякан піша, што ён быў «непахісна ўстойлівы ў малітвах да бога і ў начных няспаннях, захоўваў цвёрдасць духу ў спевах і не меў ніякай схільнасьці да суетнасьці». Пазней на магільні Нічыпара было між іншым напісана, што ён «усё перамог, выключаючы жанчыну».

Найбольш вядомай яго імпрэзай з'яўляецца знакамітая навэла 964 года пра манастэрыёны і злучаныя з імі рэлігійна-дабрачынныя ўстановы. Вельмі магчыма, што да абразазмагальніцкага перыяду манастэрыёны, як я ўжо паведамляў, мелі зусім іншы характар, чым зараз; але з усталяваннем праваслаўя яны набылі сучасны выгляд. Ужо навэла Рамана I Лекапена выказвала намер трохі абмежаваць павелічэнне манастэрыёнскага землеўладання, а навэла Нічыпара Факі 964 года, пазначаючы «відавочную хваробу ў кляштарах і іншых сьвятых сядзібах», у выглядзе бязмернай скнарнасьці, забараняе будаваць новыя манастэрыёны і рабіць на карысць старых ахвяраванні і ўнёскі. Але хутка пазьней Васіль II адмяніў закон Факі, «як накіраваны на абразу і пакрыўджанне не толькі цэркваў і богадагодных сядзіб, але і самога бога». Акрамя таго, Нічыпар Фака забараніў у Апуліі і Калабрыі лацінскі царкоўны звычай і загадаў прытрымлівацца рамейскага, пасьля чаго рымскі пантыфекс пачаў называць яго толькі імператарам грэкаў, а тытул імператар рамеяў, г.азн. рымскага, як афіцыйна тытулаваўся візантыйскі валадар, перанёс на германскага Атона.

**Вось калі Ўсходняя Рамея афіцыйна стала грэцкай!**

Толькі пры Нічыпару Факу афонскае манаства ўмацавалася. Апанас Афонскі пабудаваў там першы, – як кажуць тэолагі, – кінабіён, г.азн. кляштар на камунальных пачатках. Анахарэты, незадаволеныя ўладкаваннем у іх кінабіёна[290], само найменне якога па-грэцку сугучна з сабакаром, падалі скаргу наступніку Нічыпара Факі, Яну Цымісхію на Апанаса, абвінавачваючы яго ў тым, што ён парушыў старажытныя пустынніцкія звычаі сьвятой гары, але Цымісхій, разабраўшы справу, зацьвердзіў статут, дазваляўшы на Афоне як анахарэцтва, так і кінабіёнства. У XI стагоддзі там ўжо з'явіліся і рускія ўцекачы, і ўпершыню афіцыйна Афон быў названы Сьвятой Гарой.

Пытанне пра падзел цэркваў, рэзка пастаўленае, як мы бачылі, яшчэ ў IX стагоддзі, знайшло сваё канчатковае рашэнне толькі ў палове XI стагоддзя. Клюнійскі рух ахапіў тады шырокія колы заходне-еўрапейскага сьвятарства. Ён паставіў сваім заданнем рэформу царквы ў сэнсе знішчэння распутнага жыцця сьвятарства, яго свецкіх звычаяў і звычак, накшталт законных і незаконных шлюбаў і перадачы храмавых пасад па спадчыне і па сваяцтву. Але галоўным чынам справа пачалася і пашырылася, відаць, з нагоды з'яўлення ў манастэрыёнах венерычных хвароб. Гэты рух пачаў набываць вялікія поспехі ў паўднёвай Італіі, што было ў вышэйшай ступені непрыемна для ўсходняй царквы. Акрамя таго, вялікі рымскі пантыфекс Леў IX меў і палітычныя падставы для таго, каб узяць удзел у паўднёва-італійскіх справах. Паміж ім і цар-гародзкім патрыярхам Міхалам Керуларыем адбыўся абмен гнеўнымі лістамі. Пантыфекс у сваім лісьце спасылаўся на прызнаны зараз гісторыкамі падробленым «Дар сьвятога цара Кастуся» (Donatio Constantini), быццам бы даўшаму рымскаму біскупу разам з духоўнай і свецкую ўладу над усім сьветам.

Жарсьці разгарэліся. Памацнеўшы захад Яўропы не меў жадання далей прызнаваць вяршынство саслабелага Ўсходу і летам 1054 года, без нейкага новага сабора, пантыфікальныя лягаты паклалі на ахвярнік храма Сафіі ў Цар-Горадзе пантыфікальную грамату, у якой патрыярху «Міхалу і саўдзельнікам яго, прэбываўшых у памылках і прадзёрзкасьцях, абвяшчалася анафема разам з усімі ерэтыкамі, разам з дз’яблам і анёламі яго». У адказ па гэта Міхал Керуларый склікаў сабор, на якім была абвешчана анафема рымскім легатам і сутыкаўшымся з імі асобам, прыйшоўшым ў «богашануемы град, падобна граму, ці буры, ці лепш, падобна дзікам, каб скасаваць праўду».

Такім чынам у 1054 годзе адбылося канчатковае адпадзенне заходняй царквы ад усходняй. Тры ўсходнія патрыярхі: антыяхійскі, александрыйскі і ерусалімскі падтрымлівалі і пасьля 1054 года цар-гародзкага патрыярха.

Усходняя царква атрымала грэцкую гегемонію.

* * *

«Васіль I задумаў, – кажуць нам, – адрадзіць заканадаўчую справу Юстыніяна, прыстасаваўшы яго да перамяніўшыхся ўмоваў і дапоўніўшы новымі артыкуламі».

Засноўваючыся на чароўнай казцы пра старажытны класічны і, быццам бы, італійскі Рым і пра яго заканадаўцу Нуму Пампілія, звычайна лічаць, што першы чалавечы кодэкс законаў быў напісаны на-лаціне, а не па-жыдоўску (ці па-халдэйску), як Біблія. Але мы ўжо бачылі, што Італія пры Юстыніяне была яшчэ глухой правінцыяй Рамейскай імперыі, а таму павінны прызнаць, што кодэкс Юстыніяна і ўяўляе сабой грунт біблейскай кнігі «Лявіт» ці ж «Другазаконне».

---

[290] Уласна кажучы койнабіён (κοινόβιον) – агульнапражыванне, а не кінабіён, таму што кінобіён (κυνόβιον) цо-грэцку азначае: сабачнік, цынічнае сужыццё згодна ўзорам сабак.

А зараз, калі Ягіпет і Сірыя адышлі разам са сваімі мовамі (блізкімі да біблейскай) да агаранства, у еўрапейскай частцы імперыі дзякуючы Апакаліпсісу і евангеллям грэцкая мова зрабілася дзяржаўнай у цэркве, а таму з'явілася патрэба выкласьці і свецкія законы на гэтай жа мове.

Сам імператар характарызаваў сваю спробу як «ачышчэнне старажытных законаў» (ἀνακάθαροις τῶν παλαιῶν νόμων).

Ведаючы, што задуманая заканадаўчая справа запатрабуе шмат часу, Васіль абнародаваў да яе завяршэння «Прахірон» (ὁ πρόχειρος νόμος), г.азн. «Кіраўніцтва да права», што мела на мэце даць жадаючым у рукі кароткае выкладанне самых галоўных законаў дзяржавы і ўсталяваць у імперыі правасуддзе, «якім, згодна са словам Саламона (як паведамляецца ва ўводзінах да «Прахірона»), узвышаецца народ» («Прыпавесьці», XIV, 34).

Пад канец кіравання Васіля быў складзены і другі заканадаўчы зборнік, «Эпанагога» (Ἐπαναγωγή), г.азн. «Уводзіны», які некаторымі навукоўцамі завецца прагледжаным і дапоўненым выданнем «Прахірона».

А што із сябе ўяўлялі ранейшыя заканадаўчыя зборнікі, адзін із 60 скруткаў, згадваемы ў «Прахіроне», другі із 40 скруткаў згадваемы ў «Эпанагозе», цалкам невядома. Можна лічыць, як я ўжо выказваўся, што гэта і былі біблейскія кнігі «Лявіт» ці « Другазаконне».

Але «Эпанагога» ніколі не была нават апублікавана і значна адрозніваецца ад «Прахірона». У яе пачатку занесены цалкам новыя, цікавыя раздзелы пра царскую ўладу, пра ўладу патрыярха, і пра іншыя дзяржаўныя і царкоўныя ўлады, даючыя нам уяўленне пра падмурак дзяржаўнага і грамадзкага ладу ў Візантыі таго часу і пра дачыненне царквы да дзяржавы. Называючы ва ўводзінах куміразмагальніцкую «Эклогу» імператараў-абразазмагальнікаў «балбатнёй ісаўраў, накіраванай на супрацьдзеянне боскаму вучэнню і на знішчэнне законаў», і паведамляючы пра яе поўнае скасаванне, «Эпанагога» ўсё ж такі ў некаторых частках карыстаецца ёю.

І гэта ж сведчыць што «балбатня ісаўраў», г.азн. азіятаў, а не грэкаў, была да таго часу агульна-рамейскім заканадаўствам, і грэцкая мова не мела да таго кіруючай ролі ва Ўсходняй Рамеі.

Урыўкі «Эпанагогі» былі перакладзены і на славянскую мову. Так, у дакументах па справе патрыярха Нікана, пры цару Аляксею Міхайлавічу, прама прыводзяцца яе пастановы пра царскую ўладу.

Працы Васіля далі магчымасць яго сыну і наступніку Ільву VI Мудраму выдаць і яго «Васілікі», г.азн. царскія законы, з'яўляючыяся найбольш поўным помнікам візантыйскага заканадаўства і пачаткам наступнага апакрыфічнага кодэкса, прыпісанага Юстыніяну.

Нам кажуць[291], што яшчэ ў VIII стагоддзі і напачатку IX у Візантыі стварылася вялікая магутнасць у выглядзе сялянскай злучыны із дробных сялянскіх уласнікаў, здольная, як здавалася, процістаяць дамаганням трохі саслабеўшага буйнога землеўладання. Але гэта наўрад ці так. Нават і пад час эпохі Македонскай дынастыі, у X стагоддзі, на першым плане стаіць магутны стан «моцных людзей» (δυνατοί), магнатаў, якіх часта клічуць па-славянску проста «ўласьцелі». Уласьцелям супрацьпастаўляецца стан «ўбогіх людзей» (πένητες), якіх можна

[291] А. А. Васільеў. Лекцыі па гісторыі Візантыі (І, 320), із якой я непасрэдна выпісваю шмат і іншых фактаў па гісторыі Ўсходняй Рамеі ў якасьці падмацавання маіх агульных высноў пра аперцэпцыйнасць сучасных артадаксальных уяўленняў.

параўнаць з «беднымі» (pauperes) сярэднявечнай Заходняй Яўропы і з «сіротамі» Маскоўскага перыяду рускай гісторыі.

Валадары эпохі Македонскай дынастыі, пачынаючы ад Рамана I Лакапіна (919-944) і заканчваючы часам Васіля II (1025), выступалі энергічнымі змагарамі за справу дробнага землеўладання і сялянскай злучыны супраць уласьцелей, таму што уласьцелі, маючы на сваіх шырокіх тэрыторыях вялікую колькасць прыгонных, маглі часам выставіць із іх супраць імператара сапраўднае войска.

Але імператарам даводзілася абараняць не толькі сялянскія інтарэсы, а таксама і вайскова-маёнткавае землеўладанне. Яму ў IX і X стагоддзях таксама пачала пагражаць небяспека з боку уласьцелей, якія імкнуліся скупляць і ваярскія маёнткі, нароўні з сялянскімі дзялянкамі.

Захады, распачатыя валадарамі Македонскай дынастыі супраць натуральнага развіцця буйнога землеўладання, былі вельмі простымі і аднастайнымі. Яны складаліся ў простай забароне, уласьцелям укупацца ў сялянскія злучыны і набываць асобныя сялянскія і ваярскія пляцоўкі.

«*Калі мы дасягнулі такіх поспехаў супраць нашых вонкавых, ворагаў,* – піша імператар Раман, – *то як нам не знішчыць унутраных ворагаў прыроды, чалавецтва і добрага ўпарадкавання справядлівым лязом сапраўднага заканадаўства*?»

Аднак, і такі строгі ўказ цара Рамана не спыніў развіццё буйнога землеўладання і растварэння дробных сялянскіх гаспадарак і злучын. Навэла Кастуся Парфіraроднага афіцыйна заяўляе, што зямельныя законы не выконваліся.

А як ставіліся да ўласьцелей імператары паказвае такі выпадак. Аднойчы, пры сваім праездзе праз Кападокію, Васіль II Баўгарабойца быў шыкоўна прыняты з усім войскам у шырокім маёнтку Яўстафія Малеіна. Пачуўшы небяспеку ў яго багацці, цар павёз яго з сабой ў сталіцу, дзе той і скончыў жыццё, а ўсе яго шырокія землі былі канфіскаваны. Іншы выпадак паведамляемы ў адной навэле Васіля. Даведаўшыся ў Малой Азіі, што нехта Філакалес, зрабіўшыся із простых сялян шляхетным і заможным і дасягнуўшы высокіх службовых чыноў, скупіў усё паселішча, дзе ён жыў, і ператварыў яго ва ўласны маёнтак, перамяніўшы нават саму яго назву, Васіль загадаў разбурыць яго пышны палац, зраўняўшы яго з зямлёй, а бедным вярнуць іхныя ранейшыя набыткі. Ды і самога Філакалеса ён вярнуў у першабытны стан простага селяніна.

Знакамітая навэла 996 года скасавала нават і саракагадовую даўнасць, якой абараняліся землеўласнікі, не меўшыя апраўдваючых дакументаў на тое, як яны набылі свае маёнткі.

Акрамя гэтай навэлы 996 года Васіль II выдаў закон меўшы назву алеленгій, што ў перакладзе азначае «зарука адзін за аднаго (ἀλληλέγγυον), пераносячы адказнасць за нявыплату падаткаў беднымі на іхных заможных суседзяў. Але алеленгій праіснаваў толькі кароткі час. У першай палове XI стагоддзя імператар Раман III Аргір, заняўшы пасад дзякуючы адружанню на Зоі, дачцэ Кастуся VIII, будучы сам не чужы уласьцельскім інтарэсам і жадаючы знайсьці шлях да замірэння з вышэйшым сьвятарствам і землеўласніцкай шляхтай, скасаваў ненавісны для уласьцелей закон.

Але ўсё ж ні сялянская злучына, ні вольнае, не прымацаванае да зямлі, сялянства не зніклі із тэрыторыі імперыі, і з гэтымі інстытутамі даводзіцца сустракацца ў больш позні час.

На падставе сведчанняў арабскага географа IX стагоддзя Ібн-Хардадбега і іншых крыніц па гісторыкі Візантыі ў IX стагоддзі налічваюць ужо дваццаць пяць

вайсковых акруг, із якіх, праўда, яшчэ не ўсе фемы. А Кастусь Парфірародны ў сваім творы «Пра фемы» (у X стагоддзі) дае спіс ужо дваццаці дзевяці фемаў: сямнаццаць азіяцкіх, лічачы чатыры марскія фемы, і дванаццаць еўрапейскіх, уключаючы сюды яшчэ і Сіцылію, із якой, як было павядомлена вышэй, пасьля далучэння выспы да агаранаў вылучылася ў X стагоддзі фема Калабрыя. У лік гэтых жа дванаццаці еўрапейскіх фем у Кастуся Парфіраbooднага ўваходзіць і Херсонская фема ў Крыму. Пры Ільве VI Мудрым усе ваяводы-стратэгі ўсходніх фем, куды ўваходзілі і марскія фемы, атрымлівалі вызначанае ўтрыманне із дзяржаўнай скарбніцы, тым часам як стратэгі заходніх фем атрымлівалі сваё ўтрыманне із прыбыткаў падначаленай ім акругі, а не са скарбу.

Так ваяводзкае фемнае ўладкаванне дасягнула свайго найвялікшага развіцця пры Македонскай дынастыі, а пасьля яе яно паступова пачынае знікаць адпаведна развіццю сельджукскіх заваёваў у Малой Азіі, а потым і дзякуючы перамяніўшымся ўмовам візантыйскага жыцця пад час эпохі Крыжовых паходаў.

* * *

Пад час гэтай эпохі з асаблівай выразнасьцю выявіліся найбольш характэрныя рысы візантыйскага вучэння: **блізкасць свецкага элемента з багаслаўскім**, г.азн. аб’яднанне свецкай мудрасьці з новымі павевамі хрысьціянства, універсалізм і энцыклапедычнасць. Ажыла і згуртавала каля сябе лепшыя культурныя магутнасьці Вышэйшая царгародзкая школа, гэты сталічны цэнтр асьветы, навукі і літаратуры. У ёй вывучаліся сем навук, прызнаных самастойнымі, як у Візантыі, так і ў школах Заходняй Яўропы. Яны мелі назву «сем вольных мастацтваў» (septem artes liberales) і падзяляліся на два згуртаванні: trivium – граматыка, рыторыка і дыялектыка – і quadrivium – арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка. Вывучалася, мяркуюць, і філасофія.

Жадаючы зрабіць адукацыю больш даступнай, кесар Варда абвясьціў яе безкаштоўнай для вучняў, а прафесары атрымлівалі шчодрую ўзнагароду із дзяржаўнага скарба. Цэнтрам навукова-літаратурнага руху пад час другой палавіны IX стагоддзя зрабіўся аспрэчваўшы вылучэнне Хрыстом сьвятога духу Фоцій. Маючы ознабаковыя веды не толькі ў вобласьці багаслоўя, але і граматыкі, і філасофіі, і прыродазнаўчых навук, і права, і медыцыны, ён сабраў каля сябе шмат імкнуўшыхся да ведаў асоб.

Асабліва важнай працай, дайшоўшай да нас ад яго імя, з'яўляецца яго «Бібліятэка» ці, як яна часта называецца, «Мірыо-біблон» (г.азн. тысяча кніг). У ёй маюцца падрабязныя цытаты са шматлікіх твораў, з якімі мы знаёмы толькі дзякуючы гэтай кнізе, г.азн. якіх, уласна кажучы, ніколі не існавала да Фоція, ці да аўтараў, якія пісалі ад яго імя пазьней. Акрамя «Бібліятэкі» ад яго ж імя засталіся працы ў вобласьці багаслоўя і граматыкі, а таксама шмат павучанняў і лістоў. У двух павучаннях ён паведамляе ў якасьці сведкі пра першы напад рускіх на Канстантынопаль у 860 годзе, а ў іншых прыпісаных яму больш пазніх кнігах заўважаецца нават спроба замірыць свецкія навукі з багаслаўскімі.

Вучань Фоція, імператар Леў VI Мудры, не меў, – кажуць нам, – вялікага літаратурнага таленту і пакінуў толькі некалькі павучанняў і царкоўных сьпеваў. Але ён заступаўся за навукоўцаў і ўсіх адукаваных людзей, і яго «царскі палац» часта ператвараўся ў акадэмію і ліцэй. Пасьля яго Кастусь VII Парфірародны, праводзіўшы вялікую частку свайго часу ўбаку ад дзяржаўных спраў (кіраўніком якіх быў Раман I Лакапін), таксама здолеў зрабіцца цэнтрам літаратурнага і навуковага руху, у якім асабіста браў дзейны ўдзел. Ён пісаў сам, падахвочваў

пісаць іншых і імкнуўся пашырыць свецкую адукаванасць. Ён захапляўся малярствам, музыкай і выдаткаваў вялікія сродкі на стварэнне збораў, змяшчаўшых у сабе ўрыўкі розных паведамленняў. **Гэта была першая ў сьвеце рэчаісная бібліятэка**. З яго імем злучана таксама пабудова шмат якіх шыкоўных пабудоваў.

Да нас дайшло нямала твораў дапасуемых да часу Кастуся Парфірароднага. Некаторыя із іх былі, – кажуць нам, – напісаны ім самім, некаторыя пры яго асабістым удзеле і, нарэшце, трэцція складзены адпаведна з яго прапановай. У творы «Пра кіраванне дзяржавай» паведамляюцца таксама цікавыя сведчанні пра геаграфію чужых краін і пра стасункі Візантыі з суседнімі народамі. У гэтым жа творы даюцца, між іншым, назвы дняпроўскіх парогаў і цікавыя паведамленні пра печанегаў. Шмат геаграфічных ведаў ўтрымліваецца і ў творы «Пра фемы».

Да яго ж часу дапасуецца і вялікі твор «Пра цырымоніі візантыйскага двара», дзе сабраны разнастайныя паведамленні пра хрышчэнне, адружанне, укаранаванне і пахаванне імператараў, пра розныя царкоўныя ўрачыстасьці, пра прыёмы замежных пасланнікаў, пра рыштунак вайсковых экспедыцый, пра пасады і чыны і г.д. Яны ўяўляюць вялікую цікавасць пры вывучэнні не толькі жыцця візантыйскага двара, але і ўсёй дзяржавы. Візантыйскае прыдворнае ўладкаванне, паступова ўзнікшае і распрацаванае са звычаяў Рамейскай імперыі ад часоў Дыяклетыяна, зрабіла ўплыў на прыдворнае жыццё і Заходняй Яўропы, і славянскіх дзяржаваў, уключаючы Расію. Ды і ў прыдворных цырымоніях сучаснай Турцыі можна заўважыць візантыйскі ўплыў.

Так, у X стагоддзі візантыйская цывілізацыя і літаратура на грэцкай мове пачалі свой бліскучы перыяд, і прадстаўнікі Захаду паехалі вучыцца на бераг Басфора.

У палове XI стагоддзя, пры Кастусю Манамаху, справа вышэйшай адукацыі ў сталіцы яшчэ больш пашырылася. Ранейшая адзіная Вышэйшая школа была пры ім падзелена на дзьве. Першая пры цэркве Пятра навучала філасофіі, г.азн. мела на мэце даць жадаючым агульную адукацыю. На чале яе быў пастаўлены знакаміты навуковец і пісьменнік таго часу Міхал Псёл (г.азн. Заіка). У другой школе, размешчанай пры манастэрыёне Рыгора, пабудаваным у агароджы палаца, выкладаліся юрыдычныя навукі. Дзяржава ўжо даўно адчувала вялікі недахоп адукаваных і дасьведчаных урадоўцах, асабліва юрыстаў: праз недахоп юрыдычных школ маладыя людзі набывалі свае веды нярэдка непасрэдна ад юрыстаў-практыкаў, натарывусаў і адвакатаў, якія самі не вызначаліся глыбінёй ведаў. Заснаваны пры Кастусю Манамаху «юрыдычны ліцэй» і павінен быў дапамагчы гэтай настойлівай дзяржаўнай патрэбе. На чале яго быў прызначаны вядомы ў той час Ян Ксіфілін. Як і раней, выкладанне было дармавое, прафесары ж атрымвалі ад урада добры пенсіён, шаўковае адзенне, велікодны гасьцінец і харчаванне. Доступ у ліцэй быў адкрыты для ўсіх жадаючых меўшых адпаведную падрыхтоўку, без адрозненняў паходжання ці багацця, для шляхетных і нешляхетных, для заможных і бедных. Перасьледуючы, галоўным чынам, практычныя мэты, гэтая школа павінна была дастаўляць дзяржаве адукаваных і ведаючых законы ўрадоўцаў.

Так позна пачалася пераемная свецкая адукацыя на зямным шары! І пачалася яна, як і патрэбна было чакаць, на берагах Басфора ў Цар-Горадзе. Узніклі перапісчыкі рукапісаў.

Пастаўлены на чале агульнаадукацыйнай школы Кастусь Заіка, звычайна называемы адпаведна з яго царкоўным найменнем Міхал Псёл, нарадзіўся ў

першай чвэрці XI стагоддзя і, вызначаючыся выбітнымі здольнасьцямі, настолькі вылучыўся, што зрабіўся адным із самых уплывовых людзей у дзяржаве.

Пад час эпохі закалотаў і пачаўшагася заняпаду вайсковай магутнасьці імперыі, пры частых пераменах імператараў, што нярэдка азначала і перамену накірунку палітыкі, ён умеў добра прыстасавацца да перамяняючыхся акалічнасьцей. Ён служыў пры дзевяці імператарах і не спыняўся перад лісьлівасьцю ім, каб паспяхова прадоўжыць літаратурную і навуковую працу. Ад яго імя існуе шмат твораў у розных накірунках ведаў, па багаслоўю, па філасофіі (дзе асабліва вылучаецца імя Платона), па прыродазнаўчых навуках, філалогіі, гісторыі, праве і паэзіі. У гэтых прамовах і лістах апісваюцца падзеі пачынаючы са сьмерці Яна Цымісхія да апошніх гадоў жыцця аўтара, і, нягледзячы на некаторую прыхільнасць у выкладанні, яны да гэтага часу з'яўляюцца першакрыніцай для гісторыі XI стагоддзя. Псёл быў прадстаўніком свецкай навукі, прасякнутай элінізмам, і смела можа заняць першае месца ў культурным руху Візантыі XI стагоддзя падобна таму, як у IX стагоддзі яго займаў Фоцій, а ў X стагоддзі – Кастусь Парфірародны.

З эпохай Македонскай дынастыі ў XI стагоддзі злучана ўяўленне пра візантыйскі эпас, г.азн. пра грэцкія быліны, героем якіх увесь час з'яўляецца Васіль Дыгеніс Акрыт. Яго мянушка Двухродны тлумачыцца тым, што бацька яго быў араб-агаранін, а маці – грачанка-хрысьціянка. Акрытамі ж зваліся ў візантыйскія часы абаронцы крайняй мяжы дзяржавы, ад грэцкага слова акра (ἄκρα) – мяжа. Усё яго жыццё прысьвечана змаганню з памежнымі рабаўнікамі. Усюды Двухродны б'ецца за хрысьціянаў і імперыю. У яго ўяўленні праваслаўе і Раманія (г.азн. Візантыя) – два неадлучныя адзін ад аднаго разуменні. Апісанне яго палаца дазваляе нам бліжэй пазнаёміцца з багаццем становішча, у якім жылі буйныя зямельныя ўласнікі ў Малой Азіі і якое так моцна абурала Васіля II Баўгарабойцу. Паблізу Трапезунда да гэтай пары паказваюць яго магілу, засьцерагаючую, – як абвяшчае народнае паданне, – нованароджаных дзяцей ад чараў.

Быліна складзена пра яго падобна таму як і песьні пра Роланда з часоў Карла Вялікага, ці раман пра Сіда з часоў змагання хрысьціян з агаранамі на Пірэнейскай паўвыспе.

Яна дайшла да нас у некалькіх рукапісах, із якіх самы старажытны адносіцца да XIV стагоддзя і адбілася нават у рускай літаратуры, дзе мы маем «Здзяйсненні і жыццё Даўгенія Акрыта», маючае не самае апошняе значэнне для гісторыі старажытнай рускай літаратары, таму што старажытна-рускае жыццё і літаратура найбольш выпрабавалі на сабе магутнасць візантыйскага ўплыву як царкоўнага, так і свецкага. І цікава, што ў рускім перакладзе паэмы пра Дыгеніса мы часам знаходзім такія эпізоды, якія да гэтага часу яшчэ не знойдзены ў яе грэцкіх тэкстах.

# Глава III

## Смутны час. Першае з'яўленне на гістарычных падмостках магаметанаў. Ідэалогія і грамадзкае значэнне хрысьціянскіх царкоўных таемстваў. Калі было ўведзена аднаадружанне ў хрысьціянаў?

Адразу пасьля сьмерці Васіля Баўгарабойцы ў 1025 годзе ў імперыі пачаўся перыяд закалотаў, і ўсе цары гэтага часу (XI стагоддзе) былі грэкамі адпаведна з паходжаннем. Імператрыца Зоя паслядоўна ўзвяла на пасад трох сваіх чалавекаў і ў 1056 годзе, пасьля сьмерці яе сястры Хвядары, Славяна-Македонская дынастыя спыніла сваё існаванне, ператварыўшыся ў грэцкую, дзякуючы пачаўшайся элінізацыі Ўсходняй Рамеі, страціўшай Ягіпет і Сірыю.

У 1056 годзе ўжо састарэлая імператрыца Хвядара згодна з патрабаваннем прыдворнай партыі абрала з дапамогай адружання ў імператары вельмі сталага векам патрыкія Міхала Стратыётыка, пасьля чаго хутка і памёрла. Але гэты абраннік прыдворнай партыі змог утрымацца на пасадзе ўсяго толькі год з невялікім (1056-1057), таму што супраць яго паўстала войска ў Малой Азіі, абвясьціўшае імператарам свайго вайскавода, Ісака Камніна, прадстаўніка заможнага землеўласніцкага рода. Гэта была першая на працягу разглядаемага перыяду перамога вайсковай партыі над грамадзянска-тэакратычным цэнтральным урадам. Міхал Стратыётык быў вымушаны адмовіцца ад пасада і скончыў сваё жыццё прыватнай асобай.

Але перамога вайсковай партыі была кароткачасовай. Яе стаўленік Ісак Камнін кіраваў усяго ад 1057 да 1059 года і, расчараваўшыся ва ўладзе, адрокся ад пасада і пастрыгся ў манастэрыёнцы.

Яго наступнік Кастусь Х Дука (1059-1067), г.азн. Правадыр ці Герцаг[292], быў таленавітым фінансістам, цікавіўшымся пераважна справамі грамадзянскага кіравання. «Гэта быў, – кажуць нам артадаксальныя візантыісты, – нешчасьлівы час панавання бюракратаў, рытараў і навукоўцаў». Пасьля яго сьмерці, у 1067 годзе дзяржавай на працягу некалькіх месяцаў кіравала яго жонка Еўдаксія ў якасьці рэгентшы з трыма сынамі. Але вайсковая партыя знайшла для яе чалвека ў асобе вайскавода Рамана Дыягена, родам із Кападокіі, які і зрабіўся імператарам (1067-1071). Потым ён патрапіў у палон да турэцкага султана, і імператарам пад час яго адсутнасьці быў абвешчаны сын Еўдаксіі Міхал Дука, вучань Міхала Псёла. Насельнікі далі яму мянушку Парапінак, г.азн. Пачатвяральнік, таму што з нагоды голаду кошты на хлеб пры ім выраслі ў чатыры разы. Еўдаксія пастрыглася ў манашкі, а вярнуўшыся із палону ранейшы цар Дыяген, насуперак урачыста дадзенай яму гарантыі асабістай бяспекі, быў асьлеплены і хутка памёр.

„Пачатвяральнік“ (1071-1078), меўшы схільнасць да навук і сам пісаўшы вершы, аднавіў бюракратычны рэжым свайго бацькі Кастуся Дукі. Але стратыг адной із малаазійскіх фем Нічыпар Травянік (Батаніят) у сваю чаргу вымусіў Пачатвяральніка пайсьці ў кляштар, пасьля чаго быў каранаваны і кіраваў ад 1078 да 1081 года. Аднак, буйная землеўласніцкая арыстакратыя правінцыі не прызнала

---

[292] Не магу не зрабіць з гэтай нагоды некалькі лінгвістычных параўнанняў. Дука – па-грэцку Дукас (Δούκας), на-лаціне – дукс (dux), па-французску – дзюк (duc), відавочна, паходзіць ад слова doctus – навуковец, адкуль і рускае “дока”. Аналагічна гэтаму і слова граф паходзіць ад грэцкага графо (γράφω) – пішу і азначае пісьменнік, адкуль міжнародныя словы: географ, гісторыёграф і г.д. А па-французку граф няправільна завецца comte, ад лацінскага comitus – спадарожнік цара. Рускае слова князь спачатку было кòнезь, г.азн. коннік, вершнік, аналагічна французкаму chevalier – кавалер, і нямецкаму Reiter – рыцар. Рускае слова цар – сяміцкае “сар”, французкае sir, ангельскае сэр – таго ж кораня як лацінскае цэзар, грэцкае кесар, нямецкае Kaiser і, магчыма, таго ж кораня, як і біблейскае цур ці цар – уцёс, умацаванне. Слова кароль, адкуль імёны Карл і Караліна, паходзіць ад італійскага слова caro – ласкавы (агульнавядомае: caro mio), аналагічна таму, як Herzog паходзіць ад Herz – сэрца і спачатку азначала: шчыры сябар цара. Так філалагічныя сьляды і без «сведчанняў старажытных сведак» даюць нам магчымасць усталяваць паходжанне і гісторыю шмат чаго.

яго правы на пасад. У розных частках імперыі з'явіліся прэтэндэнты, і Аляксей Камнін, пляменнік ужо раней валадарыўшага Ісака Камніна, паставіў сабе мэтай дамагчыся пасада. «Травянік» адрокся ад пасада і быў пастрыжаны ў манаства. А Аляксей Камнін у 1081 годзе быў павянчаны на царства і, закончыўшы смутны час у Візантыі XI стагоддзя, пачаў сабой эпоху Камнінаў. Яго ўступленне на пасад азначала перамогу вайсковай партыі і буйнага правінцыйнага землеўладання.

Такімі з’яўляюцца храналагічныя вехі гэтага перыяду (г.азн. проста дынастычныя плёткі хранікёраў), а палітычны змест таго часу ў Візантыі характарызуецца перадусім першым выступленнем на малаазіяцкія абшары магаметанаў з Каранам у руках, як скарочанага і папулярызацыйнага варыянту разросшайся тады і ўжо састарэлай Бібліі, і з дамешкам евангельскіх ідэй ад імя прарока Магамета. Я ўжо даводзіў у VI томе, што сапраўдным перативаральнікам агаранства ў магаметанства быў Магамет Заваёўнік (Махмуд Газні, 998-1030), сучаснік правадыра Сельджука, знаходзіўшагася каля 1000-га года на службе ў аднаго із туркестанскіх ханаў. Пад уладай яго ваяўнічых нашчадкаў і пад сьцягам толькі што ўзнікшага Карана аб’ядналася ўся Заходняя Азія, ад Афганістана да мяжы Візантыйскай імперыі ў Малой Азіі ўключна з Ягіпецкім каліфатам Фатымідаў. Пры Кастусю Дуку і пасьля яго сьмерці, падчас сямімесяцовага рэгенцтва яго жонкі Еўдаксіі, другі адпаведна са злічэннем, султан сельджукідаў Алі-Арслан (каля 1077г.) заваяваў Арменію са сталіцаю Ані, частку Сірыі, усю Кілікію і Кападокію.

Паход супраць іх Рамана Дыягена (г.азн. Бога-народжанага Рымляніна) скончыўся фатальнай для яго бітвай у жніўні 1071 года каля Мантыкартэ (зараз Мелазгерд), на поўнач ад возера Ван. Раман Дыяген быў захоплены ў палон туркамі-магаметанамі. Але Каран, калі тады нават і быў ужо вядомым, яшчэ не лічыўся ерэтычнай кнігай, і забарона магаметанамі храмавых выяваў на самай справе было толькі адраджэннем ранейшага візантыйскага куміразмагальніцтва ў больш удасканаленым выглядзе. Вось чаму запалонены цар Раман быў сустрэты з пашанай паланіўшым яго Алі-Асланам, які заключыў з ім «вечнае» замірэнне і сяброўскую дамову, галоўныя пункты якой мы ведаем із арабскіх крыніц:

1) Раман Дыяген атрымлівае волю за выплату вызначанай сумы;

2) Візантыя павінна штогадова плаціць Алі-Аслану вядомую суму грошай і вярнуць яму ўсіх палонных турак.

Але, як мы бачылі, вярнуўшыся «Бога-народжаны Рымлянін» Дыяген знайшоў пасад ужо занятым Міхалам Дукай і, зведаўшы асьляпленне, хутка памёр.

Яго параза Алі-Асланам была сьмяротным ударам для велічы рамеяў у Малой Азіі, самай надзённай і важнай часткі Візантыйскай дзяржавы.

«Хаця наступствы, – выказваецца Гельцер, – ва ўсіх іхных жахлівых памерах сталі бачнымі не адразу, але ўсё ж частка Малой Азіі, Арменія і Кападокія, – вобласьці, быўшыя радзімай стольках імператараў і вайскаводаў Вялікай Рамеі і складаўшыя галоўную магутнасць дзяржавы, былі назаўсёды згублены, і магаметанін раскінуў на развалінах старажытна-рымскай пышнасьці свае качавыя намёты. Зыбка цывілізацыі падпала пад варварства ісламa і цалкам агрубела».

Але цікава, што і пасьля катастрофы 1071 года і ўступлення на пасад Аляксея Камніна ў 1081 годзе, розныя візантыйскія хрысьціянскія партыі не толькі не бачылі ў магаметанах рэлігійных ворагаў, але не задумваліся, – як сведчыць сам А. А. Васільеў (I, 343), – запрашаць іх да сябе на дапамогу, і тым самым усё глыбей уводзіць іх ва ўнутранае жыццё дзяржавы. Падтрымліваючы, напрыклад, Нічыпара Травяніка ў яго імкненні захапіць пасад, яго магаметанскае войска дайшло з ім да

Нікеі і Скутары, насупраць Цар-Горада, і, пасадзіўшы яго на пасад, як на свой, вярнулася ў Малую Азію.

Наступнік Алі-Аслана перадаў малаазіяцкія вобласьці Сулейману-Кутулмышу, і ў іх утварыўся пад уладай сельджукідаў зноў «Румскі султанат», г.азн. у перакладзе: Рымская імперыя, таму што султан па-біблейску шэлтан (שלתון) азначае: валадар, на-лаціне – Imperator, іерагліфічна – сутэн (і ні ў якім выпадку не фараон; такога слова нават не існуе на ягіпецкіх мовах).

Атрымліваецца, што сельджукі толькі аднавілі Вялікую Рамею куміразмагальніцкага перыяду. У іх адміністрацыйнай, рэлігійнай і літаратурнай мовай зноў зрабілася карэйшыцка-халдэйская (таму што як Біблія, так і Каран толькі дзьве яе гаворкі, блізкія адна да адной). Але гэта простая і рацыянальная ідэя да такой ступені супярэчыла пераіначаным уяўленням пра мінулае Рамеі, што яе простае аднаўленне палічылі за навіну, а не за вяртанне да мінулага, і жыдоўскія аўтары пачалі называць Румскі султанат (каб не выклікаць у розуме чытача непажаданых набліжэнняў) Іканійскім султанатам на імя нікчэмнага мястэчка Кенія ў сухой мясцовасьці на адлегласьці 150 кіламетраў ад паўднёвага берага Малой Азіі, без рачных сродкаў паведамлення з астатнім сьветам. Але размяшчаць тут сталіцу Малой Азіі – як геаграфічная так і стратэгічная недарэчнасць. А таму і назва мястэчка Іконія ці Конія хутчэй патрэбна выводзіць ад жыдоўскага ІКІН (יכין) – умацаванне (па грэцку: Канстантынопаліс) і шукаць для сталіцы Румскага султанату больш зручнае месца.

І вось, новая «Рымская імперыя», межы якой вельмі хутка пачалі даходзіць на поўначы да чарнаморскага і на поўдні да міжземнаморскага ўзбярэжжа, зрабілася грозным ворагам агрэчыўшагася аскепка ранейшай Вялікай Рамеі. Уласнымі сродкамі Візантыя не была здольнай змагацца з адрадзіўшымся старым Рымам абразазмагальніцкага перыяду.

У сувязі з аднаўленнем гэтага даевангельскага Рыма на падставе карана, Міхал Пачатвяральнік яшчэ пад час першых гадоў свайго кіравання выправіў ліст да Рыгора VII, першага рымскага пантыфекса, прыняўшага тытул папы, просячы дапамогі Захаду і абяцаючы за гэта папе аб'яднанне цэркваў. Рыгор VII, прыхільна паставіўшыся да прапановы ўсходняга імператара, разаслаў па заходняй Яўропе шэраг лістоў да валадарачых князёў і да «ўсіх хрысьціянаў» (ad omnes christianos), дзе, між іншым, гаварылася пра тое, што паганцы моцна абмежавалі хрысьціянскую імперыю і з жудаснай жорсткасьцю спустошылі ўсю ўжо амаль да самых сьцен Цар-Горада. Заклікі Рыгора Гільдэбранда, як вядома, не дала ніякага рэчаіснага выніку. Заходняя дапамога для Візантыі тады не сабралася, ды і сам папа быў зацягнуты ў зацятае і працяглае змаганне за інвестытуру з германскім валадаром Генрыхам IV, так што яму было не да Цар-Горада.

Такім чынам, на момант уступлення на пасад Аляксея Камніна было цалкам відавочна, што пасоўванне магаметанаў-сяльджукаў з усходу пагражае агрэчыўшайся Візантыі смяротнай небясьпекай. І калі чытач не толькі будзе займацца літараедствам, а сур'ёзна падумае пра сутнасць справы, то ён зразумее, у чым была падстава рыцарскіх паводзін султана (г.азн. па-ягіпецку – сутэна) кораніста-агараніна Алі-Аслана да хрысьціянскара цара Раманам Дыягена і таго, што магаметане так лёгка змаглі замацавацца ў Малой Азіі. Нагадаем, што ў той час, калі Рым і Цар-Горад ужо не раз аддавалі адзін аднаго анафеме, наваўтварыўшыяся магаметане (што азначае – славутыя) у Візантыі яшчэ ніводнага разу не адлучваліся ад царквы аж да 1180 года нашай эры. Дакладна так жа і

печанежскія князі атрымлівалі ў той час прыдворныя візантыйскія чыны, і акрамя іх пры Кастусю Дуцэ, – кажуць нам, – на Дунаі з'явіліся яшчэ нейкія «вузы» і частка іх таксама паступіла на службу да візантыйскага імператара, атрымаўшы ў якасьці надзелу казённыя землі ў Македоніі. Гэта азначае, што печанегі і вузы лічыліся ў Візантыі таго часу аднаверцамі, толькі іншага царкоўнага «прыходу». І гэта ж мы можам сказаць пра нарманаў і іхнага правадыра Роберта Гюіскара, прыбыўшага, відавочна, як я ўжо выказваўся, не са Скандынавіі, а із французкай Нармандыі, і забраўшага у Візантыі паўднёвую Італію, а ў агаранаў – Сіцылію.

Вясной 1071 года Бары, галоўнае месца апірышча візантыйскага валадарання ў Італіі, быў вымушаны здацца Гюіскару, які дзякуючы гэтаму набыў у Апуліі важны апорны пункт для канчатковага падначалення ўжо невялікіх парэштках візантыйскага валадарства ў краіне. А падначаленне Паўднёвай Італіі развязала яму рукі і для адваявання Сіцыліі ад агаранаў-саракінаў.

Аднак, гэтыя падзеі не знішчылі ў Паўднёвай Італіі візантыйскага ўплыву. Нават і зрабіўшыся герцагам Апуліі, Роберт Гюіскар лічыўся законным спадкаемцай візантыйскіх васілеўсаў і захаваў у заваяванай ім краіне візантыйскую адміністрацыю. У нарманскіх дакументах сустракаецца назва: фема Калабрыя. На чале гарадоў стаяць стратыгі ці экзархі, нарманы ганарацца візантыйскімі тытуламі. Грэцкая мова ў набажэнстве захавалася па ўсёй Калабрыі і ў некаторых месцах лічылася афіцыйнай. Заваёўнікі і заваяваныя жылі побач адзін з адным, кожны захоўваючы сваю мову, свае звычаі і норавы. Бяручы да ўвагі слабасць Візантыі, нарманскі заваёўнік пачаў нават марыць і пра імператарскую карону ўсходняга васілеўса.

Калі мы храналагічна супаставім, адбыўшаяся вясной 1071 года падзенне Бары з фатальнай для будучага лёсу Візантыі бітвай пры Мантыкартэ ў жніўні таго ж года, то прыйдзем да высновы, што 1071 год з'яўляецца адным із самых важных у гісторыі Рамейскай імперыі.

«Пад час гэтага года Візантыя страціла Паўднёвую Італію на Захадзе і падпісала смяротны прысуд хрысьціянскаму валадаранню ў Малой Азіі на Ўсходзе. Паменшыўшаяся ў сваіх памерах, пазбаўленая крыніцы сваіх галоўных жыццёвых магчымасьцей ішоўшых із Малой Азіі, Усходняя Рымская імперыя, нягледзячы на некаторы ўздым пры Камнінах, ужо не была ў стане выконваць ранейшую сусьветную ролю і, сапраўды, пачынаючы з другой паловы XI стагоддзі яна як у палітычным так і ў эканамічным дачыненні, памаленьку пацягнулася на шлейках за Заходняй Яўропай».

Так выказваецца адзін із нашых самых адукаваных візантыістаў А. А. Васільеў, ад якога я тут запазычыў усю фактычную частку майго выкладання, дадаючы да яе толькі свае меркаванні агульнага характару.

Але вось у гэтых меркаваннях і заключаецца ўся сутнасць справы: зборнік асобных фактаў яшчэ не з’яўляецца навукай, а толькі матэрыялам для навукі, знаходзячай у паслядоўнасьці падзей лагічны сэнс.

А сэнс падзей тут такі.

**За ўвесь перыяд, ад часу геджры ў 622 годзе і аж да крыжовых паходаў на прыканцы XII стагоддзі, мы ніводнага разу не бачым сур'ёзнай рэлігійнай варожасьці паміж агаранамі і візантыйскімі хрысьціянамі. Нават нягледзячы на частыя войны паміж краінамі належачымі да агаранскай і праваслаўнай веры, іхныя цэрквы ніводнага разу не адлучалі адна другую.**

Нават сам Магамет, якога зараз, лічаць жыўшым у VII стагоддзі, падпаў пад адлучэнне, як мы ўжо бачылі ў VI томе, толькі праз 500 гадоў пасьля геджры, у 1180 годзе.

Але як жа патлумачыць такую найвялікшую недарэчнасць са старога боку гледжання?

Як патлумачыць і тое, што пасьля няшчасьця крыжовых паходаў і аж да XIX стагоддзя Атаманская імперыя, маючая характар сямейнага ўладкавання падобнага на біблейскі і ва ўсім асноўным родная па духу з іконазмагальніцствам, заняла якраз усю тэрыторыю ранейшай Рамейскай імперыя ў тых жа самых межах?

Адказ на гэта просты.

Шматжонны лад жыцця магаметанскага Рыма быў толькі адраджэннем такога ж ладу, існаваўшага у першапачатковым Рыме (Рамеі). Жыхары Атаманскай імперыі не прыхадні, а прамыя нашчадкі жыхароў імперыі Кастуся I і Юстыніяна II. Толькі адзенне іхнае перамянілася.

Асабліва ж цікавай тут выглядае наступная акалічнасць.

Артадаксальныя гісторыкі, накіраваўшы сваю галоўную ўвагу на пытанні належачыя вобласьці абстрактнай цікавасьці, накшталт таго, хто із цароў з кім адружыўся і якое імя мела яго маці, не пацікавіліся першарадна важным пытаннем: якім было сямейнае ўладкаванне кіруючых і культурных станаў часу Кастуся I і яго наступнікаў аж да Ірыны? У шостым томе «Хрыста» я ўжо дастаткова паказаў, што Каран з’яўляецца папулярным і скарочаным выкладаннем Бібліі, зроблены некім для нейкага «Славутага» (Магамета, па-карэйшыцку) і што сямейна-гарэмнае ўладкаванне магаметанаў нічым не адрозніваецца ад сямейнага ўладкавання Давыда і Саламона Бібліі і што перажыткам гэтага ўладкавання з'яўляюцца і старажытныя церамы рускіх цароў і баяр, дзе знаходзілася жаночая частка сям'і. Зразумела, што пры такіх умовах не магло быць нават і гаворкі пра грамадзянскую раўнапраўнасць жанчыны ці на заняцце ёю нейкай адказнай дзяржаўнай пасады.

Але вось, не бачачы на працягу ўсяго часу старажытнай гісторыі ніводнай жанчыны-губернатара, жанчыны-суддзі, жанчыны-патрыярха, жанчыны-літаратара, за выключэннем некалькіх міфічных паэтак, ці хутчэй імправізуючых спявачак – мы раптам бачым некалькі старажытных **царыц**! Праўда, што царыцу Саўскую, царыцу Зенобію ці царыцу Дыдону можна дапасаваць да вобласьці міфаў, але нам ніяк немагчыма адмаўляць рэчаіснае існаванне апісанай тут царыцы Ірыны (780-802), якую даводзіцца лічыць першай царыцай на працягу чалавечай гісторыі, так жа як пад час наступнага за ёю пакалення існавала першая і вялікая рымская пантыфіцына Джавана ў Рыме (855-857). Сам іхны трагічны лёс сведчыць на карысць таго, што гэта было тады вельмі нязвыкла і непрыстойна. А ўзнікшы ў той жа перыяд «салічны закон», ні ў якім выпадку не з’яўляецца ўпершыню ўзнікшым, а толькі пісьмова замацаваўшым раней існаваўшае звычайнае права, згодна з якім жанчыны не мелі права ўспадкоўваць зямельную маёмасць і, у прыватнасьці, царскі пасад, паказвае, што гэтыя жаночыя спробы прыраўнаць сябе да мужчын атрымалі як у рэлігійным, так і ў дзяржаўным жыцці рашучы адпор сярод мужчынскай часткі насельніцтва.

Із гэтага бачна, што скасаванне ў асяроддзі хрысьціянскага насельніцтва ранейшай гарэмнай шматжонкавасьці і фактычна апраўданай Бібліяй і Каранам сям'і адбылося толькі ў VIII-IX стагоддзях нашай эры, з нагоды чаго і змаглі з'явіцца гэтыя два прэцэдэнты. Гэта адбылося пад сьцягам ушанавання нябеснай Панны-Мадоны, якая із Сузор'я Панны персаніфікавалася ў зямную Панну-Марылю. Ужо выкладзеныя мной у першым томе доказы таго, што евангелле Марка напісана Маркам Афінскім (каля 700 года нашай эры), што евангелле Яна належыць Яну Дамаскаму (каля 750 года), г.азн. амаль напярэдадні Ірыны (780-

802), і што астатнія два евангеллі дапасуюцца да часоў пантыфіціны Джаваны, – паказваюць, што толькі ў гэты час фізічная моц перастала лічыцца сінонімам права, і ў галовах мужчын з'явілася ідэя, што фізічна слабая жанчына мае такія ж правы на існаванне і на дзейнасць, як і перавышаючы яе мязавай магутнасьцю мужчына.

Адсюль мы бачым, што гарэмнае ўладкаванне сям'і вышэйшых станаў знікла адначасова з усталяваннем евангельскага хрысьціянства ў VIII-IX стагоддзях нашай эры, пасьля заканчэння абразазмагальніцства, і можна палічыць – у сувязі з яго заканчэннем. Таму што, толькі ў евангельска-хрысьціянскіх краінах і забаронена мець адразу больш чым адну жонку, а ў астатніх мясцовасьцях зямнога шара не існавала такой забароны аж да сучаснасьці. Евангельскае ж хрысьціянства замацавала манагамную сям'ю з дапамогай абавязковага звычая адружання, абвешчанага містычным таемствам, без якога і па-за якім якія б то ні было фізіялагічныя стасункі паміж мужчынамі і жанчынамі лічыліся грахом.

Із гэтага вынікае, што таемства адружання магло быць усталявана толькі на апошнім «сусьветным» царкоўным саборы 787 года пры Ірыне, замацаваўшы сабой ўжо узнікшае каля стагоддзя назад пад уплывам евангелляў імкненне жанчын да раўнапраўя.

Толькі тады хрысьціянскае сямейнае ўладкаванне і адасобілася як ад агаранскага так і ад паганскага, а пераход старазапаветных месіянцаў, г.азн. арыян (інакш – юдэяў і жыдоў) да аднажонства адбыўся, напэўна, ужо пад уплывам хрысьціянскай аднаадружанасьці.

Усё гэта вымушае лічыць, што і іншыя таемствы хрысьціянскай царквы былі ўсталяваны на паслядоўных саборах. Іх – таксама сем, як і сем сусьветных сабораў. Але гэта яшчэ не дае нам права сцвярджаць, што на кожным саборы было ўсталявана па аднаму таемству: лічба сем сама па сабе лічылася містычнай і як бы ўсёахопліваючай: пад час сярэдневечча было сем планет, сем металаў, сем дзён тыдня і г.д. А таемствамі як у каталікоў, так і ў праваслаўных лічацца: хрышчэнне, памазанне, прычашчэнне, спавяданне, пасьвячэнне, адружанне і асьвячэнне безнадзейна хворага царкоўным маслам.

У чым жа быў сэнс гэтых «таемстваў»?

Відавочна, што за імі прызнаваўся нейкі карысны ўплыў на таго чалавека, над якім яны выконваліся. У некаторых выпадках гэта нават не вельмі цяжка вызначыць адразу, не маючы патрэбы ў якой бы то ні было дапамозе «сведак старажытнасьці», якія ў большасьці выпадкаў апынаюцца ілжэсведкамі.

Адразу можна пабачыць, што, напрыклад, таемства хрышчэння не без падставаў замяніла звычай абразання, сэнс якога таксама зразумелы. Гэтай аперацыяй над дзетародным органам лічылася засьцерагалі дзіцёнка ад венерычных захворванняў, узнікаўшых пры бязладных стацевых стасунках, але хутка выявілася, што яна мала дапамагае і нават наадварот: пры старажытнай забруджанасьці прылад часта маглі здарацца нагнаенні і нават заражэнні крыві, меўшыя наступствам хуткую сьмерць абрэзанага, і вось замест неапраўдаўшага надзей сродку і было прыдумана ў асяроддзі больш ініцыятыўнай хрысьціянскай часткі насельніцтва проста абмыванне ў вадзе, што нібы-та аказвае пры вядомым рытуале таямнічае ўздзеянне, чаму і названа таемствам. Але хутка выявілася, што і яно не гарантуе ад захворванняў пры бязладных стацевых стасунках. Што ж рабіць? Чым дапамагчы?

Хрышчэнню пачалі надаваць іншае таямнічае ўздзеянне: дараванне чалавеку здольнасьці не губляць шлях у рай пасьля сьмерці. А для папярэджвання ўздзеяння

злых духаў, узнагароджваючых венерычнымі захворваннямі, усталявалі таемства адружання. Толькі выканаўшыя яго уздзеянне парачкі гарантуюцца ад захворванняў. Верныя адзін аднаму пары сапраўды перасталі пакутаваць ад захворванняў стацевых органаў. Так усталявалася манагамічная сям'я.

А ад таемства хрышчэння застаўся след толькі ў тым, што яно пачынаючы з дзяцінства на ўсё жыццё замацоўвала ўласнае імя чалавека, з'явіўшаяся на места ранейшых, атрыманых ад знаёмых перамяняемых мянушак, хаця падобнае ж замацаванне рабілася, відаць, і раней пры звычаі абразання арыян. Мірапамазанне было таксама таемствам, таму што яно містычным спосабам рабіла із чалавека напалову бога і першапачаткова практыкавалася толькі пры ўзвядзенні на сьвятарскую пасаду, якою лічылася і царская. Яно было ўсталявана магчыма яшчэ на першым Нікейскім саборы ў 325 годзе, з часу якога і замацавалася ўяўленне пра «памазанца боскага», г.азн. «аўгуста» – на-лаціне, сьвятога – па-руску, «хрыста» – па-грэцку, і «назара-боскага» (назарэя) – па-жыдоўску[293].

Але гэтае адрозненне цароў і сьвятароў ад астатніх сьмяротных даволі хутка спынілася. Напэўна, яшчэ пад час перыяду апакаліптычнага хрысціанства[294] месіянцы, паўстаўшыя на зямных цароў, пачалі мазаць у якасьці пасьвечаных асоб ўсіх сваіх прыхільнікаў. Гэтая акалічнасць скасавала практычнае значэнне і самаго таемства памазання, і для выпраўлення справы на нейкім больш позьнім саборы было прыдумана новае асобнае таемства: сьвятарства, якое вызначаецца царкоўнікамі так: «пераемнае рукапакладанне пастаўленне сьвятаром кандыдата на царкоўнаслужэнне, таямніча даючае яму паўсядзёную прысутнасць сьвятога духа для здзяйснення ўсіх іншых таемстваў і на навучанне людзей у веры і набожнасьці», пры гэтым былі ўсталяваны тры таямнічыя ступені: дыякан, г.азн. служка; іярэй – г.азн. сьвятар, і біскуп, г.азн. назіральнік. Сюды ж далучалася і каранаванне цароў і царыц.

Такім чынам, усталяванне таемства адружання, – як замацаванне аднажонства і скасаванне бязладнага канкубінату; таемства хрышчэння – як усталяванне трывалых пажыццёвых імёнаў, і таемства памазання, як асьвячэнне нешматлікіх выбраннікаў, а пасьля яго вульгарызацыі, таемства сьвятарства, як забарону здзяйсняць набажэнствы кожнаму жадаючаму без праходжання папярэдніх приступак іерархіі ці ва ўсякім разе без умення чытаць і пісаць, – мелі сур'ёзнае культурнае значэнне. А астатнія тры таемствы – прычашчэння, як таямнічае паяднанне з Хрыстом; пакаянне перад сьвятаром, як таямнічае скасаванне ў выпадку прабачэння брыдоты граху са саграшыўшага, і ялеяасьвячэнне (г.азн. памазанне паміраючага маслам, як таямнічае гарантаванне яму ўваходу на нябесную цьвердзь) прайшлі ў гісторыі хрысьціянства як звычаі, вядома, абуджаючыя забабоны, але непасрэдна не ўплываўшыя на паўсядзённае жыццё людзей.

Вызначыць час іхнага ўсталявання таксама было б цікава, але гэтая цікавасць нішто ў параўнанні з тым, на якім саборы была ўсталявана аднаадружанасць, а шматжонцы былі адлучаны ад царквы, і калі ў Візантыі былі забаронены адружанні

---

[293] На-лаціне augustus – асьвечаны, глыбока шануемы, адкуль прыслоўе auguste – сьвятое, французкае auguste, рускае – аўгусьцейшы, па-грэцку χριστός (Хрыстос) – памазанец, асвячоны гэтым звычаем, пасьвечаны ў таямніцы акультных ведаў, ад χρισίς (хрысіс) – намазванне маслам ці румянамі, і ад χρίσμα (хрысма) – аліўкавае масла. Па-жыдоўску נזריה (НЗР-ІЕ) – Назарэй, пасьвечаны богу, ад נזר (НЗР) – сьвятарства.

[294] Апакаліпсіс 1, 6: «Хрыстос зрабіў нас (саміх) царамі і сьвятарамі».

з рознымі іншаверцамі. Можна толькі здзіўляцца, што ніводзін із гісторыкаў (наколькі мне вядома) яшчэ грунтоўна не распрацаваў гэтую ў выйшай ступені важную тэму як з рацыяналістычнага, так і з храналагічнага боку гледжання.

У большасьці народаў аднашлюбнасць, вядома, уводзілася адначасова з прыняццем евангельскага хрысьціянства, а калі ж яна ўведзена ў саміх хрысьціянаў і месіянцаў? Я тут давожу, што звычай адружання быў прызнаны таемствам хутчэй усяго толькі падчас імператрыцы Ірыны на VII Сусьветным саборы ў 787 годзе і што толькі пачынаючы з таго часу сярод хрысьціянаў была ўсталявана манагамія. Але я і сам разумею, што гэтае пытанне заслугоўвае больш глыбокай распрацоўкі асабліва з псіхалагічнага боку гледжання.

# Глава IV

## Пустынніцтва, манастэрыёнства і манаства.

Патрэбна строга адрозніваць адзін ад аднаго камунальнае неадружанае манаства ад папярэднічаўшага яму: адзінкавага манаства-пустынніцтва і ад манастэрыёнства.

Пустынікі былі сапраўднымі манахі, а першапачатковыя манастэрыёнцы былі сямейнымі людзьмі, прысьвяціўшымі сябе галоўным чынам астралогіі і жыўшыя каланіяльна. Абавязковая неадружанасць пры камунальным жыцці была ўсталявана ўжо значна пазьней і прывяла да сумных наступстваў.

Фізічная цяжкасць стацевага ўстрымання ў згуртаванні людзей несастарэлага ўзросту павінна была мець наступствам пашырэнне ненатуральных заганаў. І гэта мы бачым пад час Эпохі Адраджэння. Немагчыма не надаваць сур'ёзнага значэння той характарыстыцы распутнага манаскага супольнага жыцця, якую малююць сатырыкі таго часу, асабліва Рабле (1495-1553), які ў маладосці сам быў манахам, але потым збег з кляштара і стаў доктарам у Ліёне.

Ніхто яшчэ не сцвярджаў, каб апавяданні гэтага знакамітага пісьменніка былі не сатырай (г.азн. простым згушчэннем адмоўнай рэчаіснасьці), а пасквілямі. І іншыя ж сатырыкі апісваюць камунальнае манаства, – як мужчынскае так і жаночае, – падобным жа чынам.

Не лепш характарызуюць яго і апісваючыя пабытовае жыццё.

Абаты мужчынскіх манастэрыёнаў, як і біскупы цэркваў, згодна са сведчаннымі гісторыкаў сярэдневечча, – бавілі час у паляваннях і азартных гульнях, ім падабалася віно, блазны і жанчыны лёгкага нораву. Аналагічная характарыстыка пашыраецца і на абатыс жаночых манастэрыёнаў, і часта ў дакументах чуюцца скаргі на іхную амаральнасць. А пра раскошу тых і другіх хадзілі легенды.

Калі ўпершыню былі напісаны сучасныя кляштарскія камунальныя статуты?

Толькі напачатку IX стагоддзя ў Францыю з'явіўся нехта Віціца, пасьля вядомы пад імем сьвятога Бенядыкта Аніянскага. Ён быў, – кажуць нам, – готам згодна з паходжаннем, сын акруговага Магелонскага кіраўніка ў Сентыманіі. Хлопчыкам ён быў узяты да двара Піпіна, у якога служыў падчашым і потым працягваў служыць ў Карла Вялікага. Яшчэ ў той час ён наладзіў сабе шыкоўны манастэрыён, у якім царква была ўпрыгожана мармуровымі слупамі, а каля яе было пабудавана некалькі каштоўных «адасобленых капліц», і ўсё, што мела дачыненне да начынення і набажэнства, вызначалася незвычайнай шыкоўнасьцю. Карл Вялікі,

дапамагаўшы яму ў гэтым, вызваліў яго ўстанову ад якіх бы то ні было падаткаў і ад юрысдыкцыі як біскупаў, так і мясцовых грамадзянскіх улад. Але ці сапраўды гэта быў сапраўдны аднастацевы кляштар **падчашага**?

Калі гэта нават і сапраўды было так, то ўсё ж толькі пазьней былі складзены ад яго імя ў двух кнігах «кляштарскія статуты Ўсходу і Захаду», а потым, у трэццяй кнізе, былі дадзены статуты і для жаночых манастэрыёнаў, і з усяго гэтага была зроблена так званая «Гармонія статутаў»[295]. Усё гэта яшчэ пазьней было апакрыфікавана ў V стагоддзе нашай эры на імя так званага «ранейшага сьвятога Бенядыкта», які жыў, быццам бы, у Нурсіі яшчэ паміж 480 і 543 гадамі, за 300 гадоў да яго двайніка, «другога сьвятога Бенядыкта».

І цікава, што калі мы час жыцця Бенядыкта Нурсійскага (480-543) будзем лічыць не адпаведна з нашай «хрысьціянскай» эрай, а згодна з эрай Дыяклетыяна (ад 284 года), то і атрымаем час жыцця Бенядыкта Аніянскага. Атрымаецца 764-827 гадады, г.азн. час Карла Вялікага. Дакладна так жа з’яўляюцца апакрыфічнымі ўсе цьмяныя сведчанні пра заснаванне статутных кляштароў на Ўсходзе Вялікім Царам (Васілём Вялікім), пры якім маглі існаваць толькі агульныя, г.азн. складаючыяся із сумесі неадружаных мужчын і дзяўчын першапачатковыя манастэрыёны, звычайныя да IX стагоддзя, таму што толькі пачынаючы з IX стагоддзя мы і маем камунальнае манаства адной стаці, ды і то фактычна вельмі свецкага тыпу. І такі тып аднастацевага манастэрыёнства са свецкім адценнем існаваў пасьля IX стагоддзя, не ў адной Францыі. Існуюць паведамленні, што і ў Англіі на чале манастэрыёнаў стаялі таксама магутныя парафіяне, а манастэрыёнцы і манастэрыёнкі характарызаваліся бязладным жыццём і п'янствам. Схільнасць да прыгожага манастэрыянскага адзення трымалася на працягу ўсяго сярэдневечча, як сведчыць і Альдгельм, вельмі асуджаючы гэтую раскошу[296]. Сам Клавесгускі сабор асуджаў у манастэрыёнах схільнасць да мірскіх прычосак і іхную моду ўпрыгожваць ногі шматкаляровым шыццём.

А калі ў іншых краінах і няма такіх жа выкрываючых дакументаў, то гэта сведчыць толькі пра тое, што там такое жыццё яшчэ лічылі нормай. Нават жа самі царкоўныя пісьменнікі прызнаюць, што толькі на так званым II Нікейскім саборы ў 787 годзе было забаронена ўладкоўваць (гэта азначае існаваўшыя да той пары) двухстацевыя манастэрыёны, г.азн. камуны неадружаных асоб абодвух стацей, што і вяло да камунальнага адружання. Але і раздзяленне абодвух стацей, відаць, мала дапамагло, таму што праз два гады «Капітулярый» 789 года[297] забараняе манастэрыёнкам пісаць і пасылаць сардэчныя вершы. Зараз цяжка вызначыць, ці паслухаліся гэтай забароны манастэрыёнкі і манастэрыёнцы, але і без пісання сардэчных вершаў, відаць, атрымалася не лепш, таму што праз 47 гадоў Э-ля-Шапельскі сабор 836 года робіць выснову, што жаночыя манастэрыёны з'яўляюцца публічнымі сядзібамі (lupanaria) і што абатысы самі падахвочваюць жывучых у гэтых рэлігійных установах манастэрыёнак спакушаць наведвальнікаў (сс. XII, XIII).

І вось, сабор 789 года ўпершыню загадвае, каб у манастэрыёнах не было ніякіх «цёмных куткоў, зручных для кахальнага граху» (с. XIV).

Такімі з’яўляюцца дакументальныя факты, якія прызнаюцца і самімі гісторыкамі царквы. А сярод іх асноўным фактам застаецца той, што толькі на

[295] «Concordia Regularum» («Patrologia», з. III).
[296] Aldhelm, «De laudibus virginitatis», 58, 58 («Patrologia»), LXXXIX.
[297] Pertz, I, 68, з. III.

Нікейскім саборы 787 года манастэрыёны было загадана рабіць аднастацевымі, і ў іх з'явіліся замест натуральных ненатуральныя заганы і разнастайныя галюцынацыі эратычнага характару, якімі поўняцца «Жыцці Сьвятых».

Вось чаму даводзіцца прызнаць, што і хрысьціянскія манастэрыёны, як і ўсё астатняе, з часу свайго ўзнікнення перажылі вялікія метамарфозы.

Найбольш натуральным шляхам для эвалюцыі манаства з'яўляецца такі.

У кожным месцы, дзе адбываліся нейкія незвычайныя фізічныя з'явы, напрыклад, паданне эфектнага метэарыта, ці газы, выходзячыя з зямлі (не кажучы ўжо пра пастаянныя вулканы, якіх у Яўропе, паўночнай Афрыцы і заходняй Азіі мы ведаем па сутнасьці толькі тры), ахвотна пасяляўся містык ці шэльма, які абвяшчаў пра свае таямныя стасункі з прысутнічаючым тут магутным богам, здольным прадказваць будучыню, выкрываць розныя таямніцы і нават аберагаць ад небяспек людзей, прыносіўшых яму ахвяры, за кошт якіх, вядома, жыў і сам жрэц. Ніякага зароку неадружанасьці ён, вядома, не даваў, быў хутчэй усяго шматжонцам і калі пілігрымаў да такога месца было шмат, то тут натуральна ўзнікала цэлае мястэчка на камунальных пачатках, таму што прыносімыя богу прадукты прыналежалі ўсім яго жрацам. Відаць, падобныя культы пачынаючы з IV стагоддзя нашай эры, калі развілася астралогія, былі злучаны з варажбой па зорках, таму што, як я ужо не раз паведамляў, першапачатковым найменне кляштароў было манастэрыёны, дзе асноўным коранем служыць сірыйскае слова «астэр» – зорка, а дадаваемае слова «мона» азначае – вылічваць, і ўсё цалкам азначае: месца зорказлічэння, па нашаму – абсерваторыя[298].

Такім чынам, першапачатковыя кляштары, якія для адрознення я буду называць іхным сапраўдным грэцкім найменнем манастэрыёны, былі адружанымі злучынамі служак культу, не цураўшыхся і тагачаснай навукі і з гэтага боку гледжання яны маглі быць і аранжарэямі старажытных і сярэднявечных ведаў, асабліва алхіміі, магіі, медыцыны, астралогіі. Іх падтрымлівала і свецкая ўлада, якая іх забабонна баялася.

А другі род манаства – пустынніцка-адзіночны – наўрад ці мог узнікнуць раней з’яўлення Апакаліпсіса ў 395 годзе з яго грымотамі на зямных цароў, паставіўшымі гэтую секту ў варожыя дачыненні са свецкімі уладамі, што мела наступствам збяганне чакаючых вяртання Хрыста і яго жахлівага суда ў пустэльныя месцы.

Трэцці ж род манаства, складаўшыся із сінтэзу першага і другога роду, як тэзы і антытэзы, г.азн. аднастацевае супольнае манаства, мог з'явіцца ў тым выглядзе, якім мы яго маем, не раней IX стагоддзя нашай эры.

Паглядзім жа, наколькі факты адпавядаюць гэтай дыялектычнай схеме.

Вось што паведамляюць нашы найбольш надзейныя першакрыніцы. «У шмат якіх манастэрыёнах Францыі абаты адкрыта жылі з жонкамі ці наложніцамі. Мірскія абаты, – паведамляе пастанова Трульскага сабора (908 год), – з іхнымі жонкамі і дзецьмі, з іхнымі жаўнерамі і сабакамі жывуць у будынках манастэрыёнаў, у якасьці выканання прадказання, што брыдота запусьцення паселіцца на такім месцы, дзе яна не павінна б быць». Гэта, вядома, заканчэнне першабытнага стану адружаных манастэрыёнаў. «Толькі ў X стагоддзі, – кажуць нам усе гісторыкі, – у шмат якіх краінах пачаліся пераўтварэнні, і на чале гэтага

[298] Кляштар (μον-αστήριον) ад АСТР (אסתר) – зорка, па-грэцку – ἀστήρ, па-французку – astre. Адсюль жа і імя Эсфір. А слова מנה (мона) азначае – вылічваць.

новага руху стаў Бомскі абат Бернон, заснавальнік і абат гігнійскага манастэрыёна. Ён ужо здзейсніў пераўтварэнне двух манастэрыёнаў, калі ў 912 годзе быў запрошаны ў Клюні герцагам Аверні Вільгельмам для заснавання там новага манастэрыёна. Бернон абраў для гэтага будынак, дзе **былі паляўнічыя прылады герцага**.

Ён пачаў справу з маленькай злучыны із дванаццаці чалавек. У 927 годзе Бернону ўспадкаваў яго вучань Адон, слава якога настолькі перавысіла славу яго настаўніка, што некаторыя сябры клюнійскага ордэна называлі сваім заснавальнікам не Бернона, а яго. Да статута псеўда-сьвятога Бенедыкта (г.азн. варыянта Бенедыкта Аніёнскага, VIII стагоддзя) Адон, – кажуць нам, – дадаў шмат новых правіл, нярэдка вельмі недарэчных. Так, напрыклад, ад манастэрыёнцаў патрабавалася пасьля заканчэння абеду збірацца разам і з'ядаць усе кавалачкі ад свайго хлеба, таму што адзін паміраючы манастэрыёнец аднойчы ў жаху ўсклікнуў перад сьмерцю, быццам бы дз’ябал у ліку яго грахоў выстаўляе перад ім цэлы мяшок кавалачкаў, якія ён у свой час не пажадаў з'есьці. Акрамя таго, тут упершыню былі ўсталяваны перыяды строгага маўчання, так што адзін манастэрыёнец нават дазволіў злодзеям украсьці яго каня і двое дазволілі «паланіць сябе нарманам», не лічачы сябе маючымі права закрычаць і пазваць на дапамогу». З мэтай стасавання паміж сабой імі быў распрацаваны шэраг знакаў.

Слава клюнійскага манастэрыёна пашырылася паўсюдна. Яго абат Майёл пасьля сьмерці Бенядыкта VI, у 974 годзе, адмовіўся нават ад пантыфікальнага пасада. Пяты абат Адылтон, з якога, відаць, і спісаны набожны Еранім, адпаведна са сваёй славай (994-1049) быў роўным з Адонам. Рымскія пантыфексы ставіліся да яго як да роўнага сябе, каралі і імператары дамагаліся яго сяброўства і кіраваліся яго парадамі, біскупы выпраўляліся ў Клюні, каб у якасьці простых пілігрымаў карыстацца яго павучаннямі. Фульберт Шартрскі называе яго «арханёлам манастэрыёнцаў», а другі яго сучаснік Адальберт Леонскі ў сатырычнай паэме называе яго «клюнійскім царам».

Вось калі, чытач, з’явіліся першыя аднастацевыя кляштары! Толькі пачынаючы ад XI стагоддзя нашай эры. А ранейшыя двухстацевыя, з манастэрыёнцамі і манастэрыёнкамі, мелі цалкам іншы характар, і манастэрыёнкі, напэўна, больш усяго былі падобнымі на індускіх баядэрак.

Пераўтварэнне манастэрыёнскага жыцця, пачатае ў клюнійскім манастэрыёне, пашыралася ў XI стагоддзі ва ўсіх накірунках. Прабудзілася агульнае імкненне да манаства, шмат хто аддавалі ў манастэрыёны сваіх дзяцей, а некаторыя нават выракалі сябе і сваіх нашчадкаў на становішча прыгонных нейкага манастэрыёна, у надзеі атрымання адплаты на небе. Князі ці біскупы часта звярталіся да пасярэдніцтва манастэрыёнцаў дзеля ажыццяўлення нейкага пераўтварэння. Шмат якія манастэрыёны згодна з уласным жаданнем прынялі клюнійскі статут, і хутка ўтварылася «клюнійская кангрэгацыя», – першы (за выключэннем асобнай сістэмы сьвятога Калумба) узор той арганізацыі, з якой, відаць, і спісана Пахомііянская, быццам бы, заснаваная яшчэ пад час першага стагоддзя ў Ягіпце сьвятым Пахоміем. Справа ўсталявання гэтай арганізацыі была закончана шостым абатам Гугам, які, зрабіўшыся наступнікам Адылона ў дваццаціпяцігадовым узросьце, кіраваў злучынай на працягу шасьці дзесяткаў гадоў. Колькасць манастэрыёнаў, знаходзіўшыхся ў сувязі з Клюнійскім у Францыі, Германіі, Італіі, Англіі і Гішпаніі, на прыканцы XII стагоддзя даходзіла да двух тысяч.

Не цяжка бачыць, што гэтая сістэма камунальнага жыцця пустыніккаў дарэмна прыпісваецца Пахомію із Фіваіды. Нам паведамляюць, што Пахомій нарадзіўся яшчэ ў 292 годзе і пасьля далучэння да не існаваўшага тады хрысьціянства стварыў кодэкс правіл, напісаных на медзяной дошцы, якая зберагалася (але не захавалася) яго вучнямі ў Ягіпце. Пахомій заснаваў грунтуючыся на гэтых правілах таварыства на адной выспе Нілу, маючай назву Тавена, якая была паказана яму «голасам бога з неба». Гэтае таварыства хутка пашырылася, так што яшчэ да сьмерці заснавальніка яно складалася із васьмі манастэрыёнаў з трыма тысячамі насельнікаў, із якіх тысяча чатырыста былі ў галоўнай установе, а напачатку наступнага стагоддзя ўся колькасць насельнікаў была ўжо не меншай чым пяцьдзясят тысяч. Так, – пераконваюць нас, – узніклі кляштары «ў III стагоддзі пасьля нараджэння Хрыста».

Але ці можам мы гэтаму паверыць? Вядома, не. Усе ж характэрныя рысы гэтых манастэрыёнаў – такія ж, як і клюнійскага, і на іхнае поўнае падабенства паказваюць самі гісторыкі (гл. Робертсан, стар. 299 і 1021 рускага перакладу Лапухіна).

Манастэрыёнцы, – паведамляюць нам царкоўнікі, – і тут жылі ў келлях, у кожнай із якіх размяшчалася па трое[299]. Яны знаходзіліся ў безумоўным падпарадкаванні кіраўніку, які меў назву авой (абат) ці архімандрытам. Ва ўсім існавала строгая роўнасць, так што лічылася важным парушэннем дысцыпліны выказвацца пра «мой» плашч, ці кніга, ці нават пяро. Манастэрыёнцы (як і ў Клюні) займаліся земляробствам, пляценнем кошыкаў і вяровак і іншымі падобнымі промысламі, маліліся па некалькі разоў на дзень, пасьцілі на чацьвёрты і шосты дзень тыдня і прычашчаліся ў суботу і ў нядзелю. Елі яны ўсе разам, пры гэтым трапезе папярэднічала сьпяванне псалмоў. Яны елі моўчкі, з пакрываламі на тварах, так што ніхто не мог бачыць сваіх суседзяў ці наогул нешта навокал, акрамя размешчанай перад ім стравы. Статут не абмяжоўваў колькасць ежы, пастанаўляючы толькі, што кожны манах павінен працаваць адпаведна з колькасьцю з'едзенага, але большасць із іх даводзілі сваё ўстрыманне і далей за межы літаральных пастаноў. Яны ніколі не распраналіся, і адзіна падчас прычашчэння дазвалялі сабе развязваць свае паясы. Спалі яны, – заканчвае апакрыфіст, – у сваім адзенні ў крэслах, размяшчаючыся так, каб трымаць амаль усё цела ў стаячым становішчы.

Дакладна так жа і заснаванне жаночых кляштарскіх камун у X стагоддзі было дапасавана да чацьвёртага. Паведамлялася, што ў Пахомія была сястра, якую слава яго ўстановы заахвоціла наведаць Тавену. І вось, для яе манахі Тавены, быццам бы, пабудавалі жаночы манастэрыён. На працягу не вельмі вялікага прамежку часу яна ўжо выявілася настаяцельніцай вялікай злучыны, кіраваўшайся статутам, які яе брат склаў адпаведна з узорам свайго ўласнага, і жаночы манастэрыён знаходзіўся ў падначаленні яму, хаця ён, быццам бы, і не наведваў яго. Пасьля гэтага першага прыкладу ўтварэнне падобных злучын адбывалася хутка, пры гэтым пустынніцы наогул зваліся нонпамі, г.азн. прарокамі.[300]

Чытач бачыць сам, што ўсе гэтыя падрабязнасьці ўзнікнення аднастацевых кляштарскіх камун у IV стагоддзі нашай эры з’яўляюцца цалкам апакрыфічнымі і

---

[299] Гэтыя паведамленні пра жыццё манастэрыёнцаў узяты збольшага із паведамлення Бронзавай табліцы і часткова із Іеранімава перакладу «Правілаў Пахомія» («Patrologia», XXIII).

[300] Па-грэцку – νόνις, па лаціне – nonna, а таксама – nonnus, для мужчын; відавочна, ад сірыйскага נון (НОН) – рыба, знак Хрыста, фігуральна – прарок.

што тады маглі існаваць толькі двухстацевыя манастэрыёны. У Сірыі, – кажуць нам, – аднастацевыя манастэрыёны былі заснаваны яшчэ Іларыёнам, вучнем і пераймальнікам Антонія, на працягу пяцідзесяці гадоў жыўшага ў пустыні, паблізу Газы. У Месапатаміі яны прыпісваюцца сьвятому Яфрэму. Яўстафій, севастыйскі біскуп, заснаваў, – кажуць нам, – манастэрыёны ў Арменіі, Васіль Вялікі ў Понце і Кападокіі, і калі Апанас Вялікі пры сваім наведванні Рыма ў 340 годзе прыйшоў туды з некалькімі ягіпецкімі манастэрыёнцамі, першымі, толькі толькі з'явіўшыміся на Захадзе, дзяўчыны гэтага горада прыйшлі ў такое захапленне пры іхным выглядзе, што пачалі сотнямі пастрыгацца ў манастэрыёнкі, і першай із іх была Марцэліна (г.азн. Марселька), сястра сьвятога Амброса. Захапленне, з якім Амброс, зрабіўшыся біскупам, бараніў справу неадружальнасьці, падтрымлівалася, – кажуць нам, – і яго сястрой. Ён, быццам бы, напісаў нават разважанні з гэтай нагоды, даводзячы, што маладыя жанчыны павінны рабіцца манастэрыёнкамі нават насуперак волі сваіх бацькоў, і падмацоўваў свае довады апавяданнямі пра пакаранні, спасьцігшыя асоб, адважыўшыхся адгаворваць сваіх сваячак ад такога кроку. Міланскія дамы спрабавалі абараніць сваіх дочак ад захаплення такімі размовамі, гвалтоўна трымаючы іх у сядзібах, але натоўпы дзяўчат із іншых краін (некаторыя нават із Маўрытаніі!) збіраліся для атрымання пасьвячэння із рук міланскага біскупа. Невялікія выспы на берагах Італіі і Далмацыі пакрыліся манастэрыёнамі. Марцін заснаваў манаства ў Галіі, пабудаваў манастэрыён паблізу Піктовіі і Тура і за яго труной ішлі дзьве тысячы яго субратаў. У Афрыцы манаства было заснавана блаж. Аўгустынам пад час апошняга дзесяцігоддзя IV стагоддзя, але Сільвін, каля 450 года, сведчыць, што яно яшчэ не карысталася спагадай у Афрыцы, і манастэрыёнцы (відаць, не супольныя, а пустынніцкія) пераследаваліся ў гэтай краіне.

Але ўсе гэтыя паведамленні мы маем толькі ад апакрыфістаў Эпохі Адраджэння, і яны малююць нам не рэчаіснасць, а толькі царкоўныя ідэалы таго часу.

Адным із галоўных апокрыфаў з гэтай нагоды з'яўляецца паданне пра набожнага Ераніма, падмацаванае некалькімі прыпісанымі яму творамі XI стагоддзя. Яго першакрыніцай, напэўна, служаць, як я ўжо выказваўся, легенды пра Адылона (994-1049), абата Клюнійскай манастэрыёнскай камуны.

Еранім вучыўся, – кажуць нам, – у Рыме, пры Данату, тлумачальніку Вяргілія. Дасягнуўшы сталага веку, ён адчуў у сабе пакліканне да рэлігійнага жыцця і быў ахрышчаны. Павандраваўшы па Галіі і іншых краінах, ён у 374 годзе выдаліўся ў Халкідонскую пустэльню, на ўсход ад Сірыі, дзе і пачаў аддваць сябе самога на суровыя самаабмежаванні. Але захапленні пачуццёвасьці, якім ён, «згодна з яго ўласным прызнаннямі», аддаваўся да свайго хрышчэння, ажылі ў пустыні, дзе ён спадзяваўся знайсьці вызваленне ад жаночых спакус. Ён змагаўся супраць іх пастом і малітвай і, жадаючы далучыць да гэтых вычынаў нейкі ўтаймоўваючы занятак, пачаў вывучаць жыдоўскую мову пад кіраўніцтвам аднаго схіленага жыда, пры гэтым гэтая мова, – кажуць нам, – падыходзіла для яго мэты «самой нешматлікасьцю свайго альфабэта, немузычнасьцю слоў і неўпрыгожанай прастатой сьвятых пісанняў».

Еранім з рэўнасьцю аддаваўся раней таго класічнай літаратуры і з пагардай ставіўся да сьвятога пісання за яго прастату. Але накірунак яго заняткаў быў параменены неардынарным выпадкам, калі ён яшчэ знаходзіўся ў Антыёхіі. Ён

цяжка захварэў і палічыў, што памёр. Будучы пастаўленым перад тварам нябеснага суддзі і запытаны пра званне, ён адказваў, што ён хрысьціянін.

– «Ты падманваеш»! – адказаў яму суддзя. – Ты не хрысьціянін, а цыцэронец, таму што дзе твой скарб, там і тваё сэрца».

Еранім быў жорстка пабіты, але, згодна з яго моцным прашэннем і згодна з заступніцтвам атачаючых сьвятых, яго жыццё было пашкадавана з нагоды яго маладосьці. Ён пакляўся, што ніколі зноў не разгарне паганскую кнігу і пасьля вяртання ў сьвет жывых пабачыў, як ён распавядае, што яго плечы былі ў сіняках і цела яго пакутавала ад атрыманых удараў. Так ён стаў хрысьціянінам.

Рэлігійныя спрэчкі таго часу, – кажуць нам, – «парушалі нават спакой пустыні». Еранім спрачаўся з суседнімі манастэрыёнамі пра справы Мялеція, Паўліна і Віталя пра валоданне антыяхійскай катэдрай і пра ўжыванне тэрміна «іпастась», але пакінуў пустэльню ў 377 годзе і правёў некаторы час у Канстантынопалі. Потым ён пасяліўся ў 382 годзе ў Рыме, дзе выконваў абавязкі царкоўнага сакратара ў вялікага пантыфекса Дэмаса, дапамагаючы яму ў яго навуковых занятках.

І вось, гэтае згадванне пра Дэмаса вырашае для нас пытанне і пра час пабожнага Ераніма. Рымскіх пантыфексаў з імёнамі Дэмас было толькі два: адзін апакрыфічны Дэмас, дапасуемы да 366-384 гадоў, і другі рэчаісны Дэмас 1047-1048 гады. А дзякуючы таму, што Еранім не мог быць супрацоўнікам апокрыфа, то гэта азначае што і жыў ён толькі ў палове XI стагоддзя нашай эры, што пагадняецца і з характарам яго пісанняў. Ён, згадаўшы пра свае ранейшыя спакусы, больш усяго імкнуўся да схілення жанчын пераходзіць да аскетычнага ладу жыцця. Калі ж яму пачалі рабіць заўвагі, чаму ён абмяжоўвае сваё вучэнне толькі слабейшай паловай, Еранім даволі вынаходліва адказаў, што калі б мужчыны пыталіся ў яго пра сьвятое, то ён не стаў бы і выдаткаваць час на жанчын. Тых дзяўчат, якія дзейнічалі адпаведна з яго павучаннямі, ён абсыпаў самымі вытанчанымі ўхваламі. Ён запэўніваў, што маці, пасьвячаючая сваю дачку на неадружанае жыццё, «робіцца цешчай бога». Прыпісваемая яму ўхвала манастэрыёнцы Паўле пачынаецца так:

«*Калі б усе часткі майго цела былі ператвораны ў языкі і ўсе мае суставы пачалі вымаўляць чалавечымі галасамі, то і тады я не быў бы ў стане сказаць нешта годнае дабрачыннасьцей сьвятой і шануемай Паўлы*».

Другую сваю сястру «Яўстахію» ён называе «каштоўнай пярлінай», «каштоўным пэрлам царквы». Яна, адпаведна з яго сведчаннем, «збіраючы кветкі свайго дзявоцтва», адпавядае той добрай глебе ў прыпавесьці, якая прыносіла старазовы плён, тым часам як яе сястра Паўліна, памёршая адружанай, была падобнай на тую, якая прыносіла сам-трыццаць, а яе маці, аўдавелая Паўла, была падобна той, якая прыносіла сам-шэсцьдзесят. З не меншым захапленнем ён ухваляе Дэметрыю, із аднаго «высокага Анікійскага рода», якая напярэдадні дня прызначанага для яе вяселля, раптам абвясьціла здзіўленаму нарачонаму пра сваю рашучасць прыняць цнатлівае жыццё.

– «Што за захапленне было тады ва ўсім сямействе»! – усклікае Еранім. – «Як бы ад пладзючага кораня адразу ўзнікла шмат нявінніц, і натоўп прыслужніц і залежных асоб пайшлі следам за прыкладам сваёй гаспадыні. У кожнай сядзібе запалала рэўнасць пра спавяданне дзявоцтва. Не, я выказваюся занадта недастаткова: усе цэрквы па Афрыцы скакалі, так бы мовіць, ад радасьці. Слава гэтага вычыну дасягнула не толькі да гарадоў, селішчаў і вёсак, але нават да намётаў варвараў. Усе выспы паміж Афрыкай і Італіяй напоўніліся пагалоскай, і весялосць пашыралася без перашкод усё далей і далей.... Рым скінуў з сябе свае сумныя адзенні, лічачы далучэнне свайго дзіцяці знакам боскай міласьці

да яго самога, узнагародай за тыя бедствы, якія ён зведаў за апошні час... Берагі Міжземнага мора і краін Усходу абвяшчаліся ўслаўленнем Дэметрыі... Нават зараз ты атрымала, о дзяўчына, больш, чым ты ахвяравала: толькі адна правінцыя ведала цябе, калі ты была нарачонай, зараз увесь сьвет пачуў пра цябе, калі ты зрабілася хрыстовай паннай»[301].

Чытач сам бачыць, што склад гэтых «лістоў Ераніма» – склад Эпохі Адраджэння, і таму Еранім не мог жыць раней XI стагоддзя. Да той жа высновы прыводзяць і яго працы. Падчас знаходжання ў Рыме ён адпаведна з жаданнем Дэмаса (г.зн. няйнакш, як Дэмаса II, 1047-1048 гадоў) выпраўляў існаваўшы лацінскі пераклад евангелляў грунтуючыся на грэцкім і потым выпраўляў лацінскі пераклад Старога запавету згодна з тэкстам «сямідзесяці». Гэтая праца абудзіла моцную нянавісць супраць яго з боку асоб, у якіх абажанне распасьціралася на самі недахопы перакладаў, якія яны абвыклі ўжываць. Сама спроба рабіць якія б там ні было выпраўленні ў перакладзе Сямідзесяці, за якім прызнавалася боганатхнёнасць, лічылася дзёрзкай бязбожнасьцю. Але евангеллі, як я ўжо даводзіў у I томе гэтага дасьледавання, былі закончаны толькі ў XI стагоддзі, а таму і сам Еранім з усім, што пра яго паведамляюць, жыў няйнакш, як у тым жа XI стагоддзі, пад час якога ўпершыню з'явіліся мужчынскія і жаночыя інтэрнаты. Хутчэй усяго ён спісаны з Адылона, дзейнічаўшага таксама пры Дэмасе, але толькі нумарацыя гэтага Дэмаса II перароблена ў Дэмаса I.

Заснавальнікі манастэрыёнства, хаця і былі часьцей усяго мала адукаванымі для таго, каб абмяркоўваць багаслаўскія спрэчкі, аднак да іх часта звярталіся за парадай пры вырашэнні найбольш цяжкіх пытанняў.

Толькі навейшае камунальнае манастэрыёнства і з’яўлялася ўстановай выключна царкоўна-хрысьціянскай. А цалкам процілеглае яму па характары жыцця манаскае пустынніцтва, відаць, было і раней ва ўсходніх рэлігіях, якім, дарэчы, можна прыпісаць таксама хрысьціянскае паходжанне, але, як і заўсёды бывае пры апакрыфікаванні, жыццё ўяўляемых «старажытных» манастэрыёнцаў пачало даводзіцца амаль да абсурду.

Ад жадаўшых паступіць у манастэрыёнскую злучыну патрабавалася, – пераконваюць нас, – каб яны давялі сваю рашучасць шляхам падначалення розным абразам, пагардзе, грубага стаўлення да сябе і зневажаючых заняткаў. Так, паведамляюць, быццам бы яшчэ Яну, парады якога пазьней ўплывалі на палітыку Хвядоса Вялікага, яго пробашчам было загадана два разы на дзень палівацъ сухую палку, і на працягу года ён рупліва выконваў гэты загад пры ўсіх неспрыяльных умовах надвор'я, носячы ваду із крыніцы, знаходзіўшайся на адлегласьці трох кіламетраў. Быдучы, нарэшце, запытаны сваім пробашчам, ці пусьціла расьліна корань, Ян (будучы Залатавуст) завяршыў сваё паслухмянства сціплым адказам, што ён яшчэ не ведае. Але гэты адказ так уразіў пробашча, што ён вырваў з яго рук палку (і, напэўна, пабіў яго ёю).

«Хаця б, – піша нехта ад імя таго ж набожнага Ераніма, – твой маленькі пляменік павесіўся табе на шыю, хаця б твая маці, з распушчанымі валасамі і ў разадраным адзенні, агаліла перад табой грудзі, якімі яна цябе карміла, хаця б твой бацька лёг на парог, – наступі на твайго бацьку і выходзь, бяжы з сухімі вачамі ў манастэрыён да знака крыжа! Адзіны род набожнасьці складаецца ў тым, каб быць жорсткім у такой справе».

[301] Еранім, «Ліст» 130.

Гэтае апакрыфічнае ўсхваленне схімніцтва выклікала, нарэшце, і апакрыфічнае ганьбаванне яго ад імя некаторых сабораў. Пісалі, што Гангрскі сабор аддаў анафеме тых, якія асуджаюць адружанне, як быццам бы несумяшчальнае з выратаваннем. Ён забараніў нявінніц ставіць вышэй адружаных і пастанавіў, што жанчыны не павінны кідаць сваіх чалавекаў на той падставе, быццам бы адружанае сужыццё грэшнае. Ад імя Сарагоскага сабора (381 года) нехта вызначыў мінімальны ўзрост для манастэрыёнца роўны сарака гадам, але, потым, ад імя трэццяга сабора (Карфагенскага, 397 г.) нехта паменшыў яго да дваццаці пяці гадоў.

Супраць жабрацтва манахаў-пустыннікаў таксама з'явіліся пратэсты ад імя старажытных.. Склалася выслоўе, што «працуючага манаха непакоіць адзін нячысьцік, а бяздзейнага цэлы легіён». Але заняткі, прадпісваемыя іх, былі не разумовымі. Калі адзін філосаф запытаў Антонія, як ён мог жыць без кніг, той адказваў, што для яго ўсё створанае з’яўляецца кнігай, і ў ёй ён можа чытаць словы бога, калі толькі пажадае. Але гэтай схільнасьці да сузіральнага жыцця не выяўлялася сярод масы асоб, уступаючых у камунальнае манастэрыёнства. Адны ішлі туды проста пераймаючы камусьці, другія праз расчараванне ў каханні, з нагоды пакут сумлення ці нейкага нечаканага ўзрушэння, трэцція праз жаданне вылучыцца і здабыць славу сьвятасьці, ці праз нежаданне атрымліваць сродкі для жыцця нейкім сапраўдным рамяством. Але спосабы, выкарыстоўваючыся ў манастэрыёнах з мэтай пазбегнуць спакус, служылі нават да іхнага абуджэння. Часьцей усяго ў жыццяапісаннях згадваюцца думкі манахаў пра блюзнерства і амаральнасць. Шмат хто даходзілі да поўнага вар'яцтва ад устрымання, што вельмі хваравіта дзейнічала на захапляючыяся тэмпераменты, шмат хто пускаліся ў поўную роспач, даходзячы да думак пра самагубства, якое часам і здзяйснялі. Жыццяапісанні манахаў з аднаго боку перапоўнены апавяданнамі пра змаганне з чарцямі, а з другога – паведамленнямі пра сяброўства з дзікімі звярамі. Так, распавядаецца, напрыклад, што Макарыя Малодшага аднойчы наведала ільвіца, паклаўшая сваіх сьляпых дзіцянят да яго ног, каб яны маглі атрымаць зрок. Сьвяты, памаліўшыся, выканаў яе прашэнне, і маці выказала яму сваю ўдзячнасць прынясеннем у якасьці падарунка авечай скуры.

Манастэрыёны пачалі будавацца і ў гарадах пасьля пашырэння Евангелляў, г.азн. пачынаючы ад XI стагоддзя нашай эры, як дзеля прынашэнняў, якіх тут можна было чакаць, так і дзякую нейкім іншым выгодам. Але манахі пачалі браць удзел у дзяржаўных справах, так што для выгнання іх із гарадоў быў нават прыняты закон ад імя Хвядоса, быццам бы, дзякуючы ініцыятыве суддзяў, якія знаходзілі падобных жыхароў схільнымі перашкаджаць справам правасуддзя[302]. Некаторыя крывадушныя манастэрыёнцы, з'яўляўшыяся ў дзіўным адзенні і ў дзіўных выглядзе, часта спекулявалі на даверлівасьці і шчодрасьці жыхароў, абвіваючы сябе цяжкімі ланцугамі, паказваючы ўяўныя мошчы і распавядаючы жудасныя байкі пра спакусы, якія яны, быццам бы, зведалі з боку злых духаў, пры гэтым таемна вялі жыццё ў ляноце і распусьце[303].

Адукаванасць манастэрыёнцаў пад час сярэдневечча была нізкая, і нешматлікія із іх маглі чытаць. Невуцтва, якое ўжо зведала пагарду ў каталіцкім сьвятарстве, нават ухвалялася сярод іх, як знак асаблівай сьвятасьці[304]. З нагоды

[302] Codex Theodosianus, XVI, III, 1.
[303] Hieronim, «Epistolae, XXII»,
[304] 28. Sozomen, IV, 28.

гэтага яны маглі быць накіроўваемы кожным, хто быў здольным уплываць на іхныя розумы. Апакрыфіст ад імя Лібанія выказваецца пра іх, як пра «трутняў, жывучых у бяздзейнасьці на кошт іншых людзей», і вінаваціць іх у тым, што яны захапілі значную частку зямлі ў сваё валоданне пад ілжывай падставай рэлігіі.

Такімі былі манастэрыёнцы-супольнікі, а процілеглыя ім манахі-адзіночкі, таксама апакрыфікаваныя ў глыбокую старажытнасьць, характарызаваліся іншым. Так «пасучыяся анахарэты» ў Месапатаміі і Палестыне жылі, – кажуць нам, – у горах ці пустынях, без якога б то ні было даху, аддавалі сваё амаль голае цела спёцы і холаду і сілкаваліся травой ці карэннямі, пакуль не гублялі ў целе і ў душы чалавечы выгляд. Іншыя напускалі на сябе выгляд юродзівых і здзіўлялі жыхароў гарадоў дзіўнымі паводзінамі з мэтай паказаць сваю пагарду да мірскай славы.

А напачатку пятага стагоддзя, – кажуць нам, – з'явіўся асобны род пустыніцства – слупніцства.

Першым із іх быў, быццам бы, Сымон, родам із памежнай вобласьці паміж Сірыяй і Кілікіяй. Ён пабудаваў сабе слуп і размясьціўся на яго вяршыні, меўшай усяго каля метра ў дыяметры[305], і, верагодна ў якасьці пераймання слупаванню «Хрыста», практыкаваўся ў падобным родзе акрабатыкі трыццаць сем гадоў, прынімаючы ежу толькі «раз на тыдзень» і «нічога не еўшы на працягу усяго вялікага паста, выказваючы прароцтвы і здзяйсняючы шмат іншых дзіваў».

Праз некаторы час суседняя злучына манастэрыёнцаў (г.азн. ужо не адзіночнікаў) выправіла пасланніка сцягнуць яго са слупа гвалтоўна. Але Сымон, пачуўшы пра такі наказ, «падняў над ім адну са сваіх голых ног, і выпраўлены прызнаў гэта за доказ таго, што лад жыцця стоўпніка быў богадагодным».

Слава Сымона, – кажуць нам, – зрабілася тады бязмежнай. Із самых аддаленых краін, – із Персіі і Эфіопіі, із Гішпаніі, Галіі і нават із Брытаніі, – сходзіліся натоўпы народу зірнуць на гэта, і ўжо пры яго жыцці, у майстэрнях Рыма, выраблялiся яго невялікія абразы, ужываўшыяся для адганяння нячысьцікаў. Пярсідзкі цар выправіў да яго нават сваіх асобных пасланнікаў. Ён, – кажуць нам, – стасаваўся са свайго слупа з біскупамі і імператарамі і меў вялікі ўплыў на грамадзкае жыццё як царквы, так і дзяржавы.

Нарэшце, да яго з'явіўся сам дз’ябал у выглядзе анёла і ад імя бога загадаў яму падняцца, падобна Іліі, на палаючай калясьніцы ў згуртаванне анёлаў і сьвятых, якія былі паказаны як бы гатовымі прыняць яго. Сымон зноў падняў правую нагу, каб уступіць на калясніцу, але ледзь ён зрабіў пры гэтым знак крыжа, як усё знікла. Аднак, дз’ябал усё ж узнагародзіў яго скулой на яго сьцягне. Сымон у выглядзе пакаяння вырашыў, што нага, якую ён падняў для чорта, ніколі не дакранецца да слупа і на працягу астатніх гадоў свайго жыцця трымаўся там на адной назе. Ён, – кажуць нам, – памёр у 460 годзе ў сямідзесяцідвухгадовым узросьце і ўся прырода аплаквала яго. Птушкі выдавалі сумныя крыкі на прасторы некалькіх кіламетраў; людзі і жывёлы напаўнялі паветра стогнамі, і нават горы, лясы і даліны пакрыліся густой імглой. Нарэшце, з'явіўся анёл, з тварам падобным на маланку і ў адзенні, белым як снег, і размаўляў перад слупам з нейкімі сямю старцамі на такіх дзіўных мовах, што немагчыма было нічога зразумець. А пасьля заканчэння іхнай размовы «каштоўнае цела» Стоўпніка было вывезена ў Антыёхію, для таго каб служыць абаронай гораду замест яго сьцен, нядаўна, перад тым разбураных землятрусам.

---

[305] Так патрэбна, напэўна, разумець слова «перыметр» у Евагрыя.

Так, – кажуць нам, – пачаўся гэты род набожнасьці, але ці сапраўды ў V стагоддзі, а не пазьней? Пра стоўпнікаў у Сірыі і Грэцыі згадваецца нават і ў дванаццатым стагоддзі[306]. І цяжка дапусьціць, каб падобная неверагодная дурасць магла існаваць на працягу цэлых стагоддзяў.

Усё гэта, як бачыць сам чытач, было антытэзісам камунальнага манастэрыёнства, і аб’ядноўваць гэтыя дзьве з'явы пад адным імем манаства ніяк немагчыма. Гэта – пустыніцтва, а не манастэрыёнства.

Каля стагоддзя пазьней узнікнення Клюнійскай злучыны ў XI стагоддзі ўзнікла яшчэ другая знакамітая манастэрыёнская камуна, заснаваная Рамуальдам із герцагскага роду Равэны. У сваім раннім жыцці ён вызначаўся распутнымі паводзінамі, але ў дваццацігадовым веку, напэўна – з нагоды венерычнай хваробы папалохаўшай яго, раптам цалкам перамяніўся і ў 1018 годзе заснаваў Камальдольскі манастэрыён у Апенінах. Бачанне анёлаў, узыходзячых па ўсходах Якава, заахвоціла яго, – кажуць нам, – прыняць для сваіх манахаў белае адзенне, тым часам як адзенне бенедыктынцаў было чорным. Ён памёр у 1027 годзе ва ўзросьце 120 гадоў ад нараджэння, і яго адэпты ўтварылі асобны ордэн.

Другім манастэрыёнскім пераўтваральнікам быў Ян Нуальберт, шляхетны фларэнтыец, раптоўнае далучэнне якога адбылося не ад венерычнай хваробы, якія без сумневаў не аднаго распутніка ператварылі ў святошу, а, кажуць нам, ад таго, што ён у 1028 годзе пабачыў падчас малітвы як укрыжаванне нахіліла да яго сваю галаву. Ён чамусьці вырашыў апранаць сваіх манахаў у шэрае, але гэта ім не спадабалася, і шэры колер пазьней быў пераменены ў карычневы і, нарэшце, у чорны. Ён памёр у 1093 годзе.

* * *

Такімі былі першыя рэчаісныя аднастацевыя манастэрыёны-камуны, адпаведна з вобразам і падабнымі на якія аўтары Эпохі Адраджэння ператварылі ранейшыя двухстацевыя супольнасьці. Яны хутка набылі багацці дзякуючы забабонам сваіх сучаснікаў і пачалі змаганне з біскупамі, выказваўшымі дамаганні на іхныя землі і багацці. Паміж абодвума гуртамі сьвятарства узнікла моцная варожасць, асабліва калі сабор у Сэн-Дэні ў 997 годзе прапанаваў манастэрыёнам плаціць прыходзкаму сьвятарству дзесяціны, якія ім належалі. Манастэрыёны Сэн-Дэні паднялі сапраўдны бунт і з дапамогай насельніцтва разагналі сабраўшыхся прэлатаў. Старшыня сабора Сігуін, сенскі архібіскуп, падчас свайго збягання адтуль быў забрызканы брудам і забіты. А правадыр манастэрыёнцаў Або выправіўся ў Рым і дамогся ад вялікага пантыфекса Рыгора V пастановы, каб біскуп арлеанскі не меў права наведваць Флерыйскі манастэрыён інакш, як згодна з запрашэннем абата.

Як тут было не нарабіць дакументаў, сведчыўшых пра існаванне аднастацевых манаскіх злучын яшчэ пад час самых першых стагоддзяў хрысьціянства?

Рэзюмуем жа ўсё павядомленае ў некалькіх словах.

Калі мы будзем грунтавацца не на адных чужых аперцэпцыях і на балбатні загрузшых ў неверагодных дэталях больш позьніх манахаў, распавядаўшых ад імя вельмі старажытных царкоўных «славутасьцей», а на цьвярозым розуме і этна-псіхалагічных меркаваннях, грунтуючыхся на эвалюцыйнай тэорыі, то атрымаем наступную схему, із якой недапушчальна выходзіць пры распрацоўцы дэталей.

[306] Джэмс Робертсан, Гісторыя Хрысьціянскай царквы, I, стар. 323.

Сучасныя аднастацевыя кляштары з’яўляюцца перараджэннем першапачатковых двухстацевых манастэрыёнаў, якія ў сваю чаргу з’явіліся, пры дастатковай гушчыні насельніцтва і наладжванні зручных шляхоў стасункаў павінны былі ўтварыцца каля «цудадзейных месцаў». Спачатку гэта сапраўды былі месцы, дзе хаця б раз адбыліся незвычайныя з'явы прыроды, уразіўшыя ўяўленне першабытнага чалавека, не кажучы ўжо пра пастаянныя фізічныя дзівы накшталт газаў, выходзіўшых із зямлі; а пазней гэта былі штучна створаныя месцы падробленых дзіваў, калі была дастаткова распрацавана магія і штукарскія прыёмы.

Пасяліўшыяся каля іх чараўнікі, без сумневаў яшчэ пад час да хрысьціянскага перыяду жыўшыя разам са сваімі шматлікімі жонкамі і дзецьмі, хутка памножыліся, добра сілкуючыся і добра апранаючыся дзякуючы ахвярным прынашэнням атачаючага забабоннага насельніцтва.

Сам спосаб існавання ад прынашэнняў, якія рабіліся не асабіста таму ці іншаму із пасяліўшыхся чарадзееў, а ўяўляемаму богу гэтага месца, рабіў непазбежным пастаяннае размеркаванне атрымліваемага прыбытку паміж усімі сябрамі цудадзейнага мястэчка, г.азн. прыводзіў да камуны. Але маёмасная камуна, пры існаванні ў ёй індывідуальных сем'яў, г.азн. сваіх **уласных** жонак і дзяцей, магчыма толькі ў тым выпадку, калі яны ўсе цалкам забяспечаны матэрыяльна, і паміж імі няма змагання за існаванне. Акрамя таго, вялікай перашкодай для захавання камунізму пры асобных дробных спробах яго ажыццяўлення заўсёды служыла імкненне жанчын перасягаць адна адну ўборамі, што магло быць скасавана толькі ўвядзеннем уніформы, што мы і бачым у жаночых кляштарах з іхнымі аднастайнымі рызамі, а таксама ў былых інстытутах і пансіёнах. У мужчын жа, пасьля таго як імкненне да ўбораў стала (ды і то толькі ў навейшыя часы) лічыцца фатаўствам і выклікаць папрокі, вялікай перашкодай да камунальнага жыцця было ўладалюбства і жаданне здавацца больш адважнымі ці разумнымі за астатніх. І асабліва ўсё гэта павінна было праяўляцца ў цеснай сумесі мужчын і жанчын рознага ўзросту, дзе для флірту былі ўсе ўмовы.

У выніку атрымалася такая дылема: ці 1) усё мястэчка павінна было распасьціся на асобныя сем'і, з дэвізам французкай буржуазіі XIX стагоддзя: «la famille et la proprіete», што было немагчыма пры агульнай крыніцы забеспячэння ад стала мясцовага бога; ці 2) перайсьці да камунальнага адружання, што, відаць, і ўтварылася напачатку сярэдневечча, ператварыўшы такія мястэчкі ў месцы для спатканняў і для чужой публікі, утрымліваўшай іх сваімі прынашэннямі, пры гэтым мужчынская частка ператварылася, як паведамляецца ў біблііі, у кадэшэй (קדש) г.азн., як выказваецца Штэйнберг, у сваім жыдоўска-халдэйскім слоўніку, «вырачаных на распусту шляхам прысьвячэння (відавочна, з прыходзіўшымі да свяцілішча жанчынамі) у гонар Багіні кахання».

Я скажу між іншым, што ад гэтага ж слова “**кадэш**” паходзіць і рускае “**кудзесьнік**” ці “**чудесный**”, адзін із заняткаў якога – прадказанне будучыні – так добра ахарактарызаваў Пушкін у сваім вершы «Песня  пра прарочага Алега»:

– «Скажы мне, кудзеснік, улюбёнец богаў,
Што здарыцца ў жыцці са мной?»

А той адказаў Алегу, што ён прыме сьмерць ад свайго каня.

Але тут чарадзей намаляваны ўжо толькі ў сэнсе прарока, а яго венерычныя заняткі пакінуты ў цені. Але мы не можам сцвярджаць тое ж, калі мы гаворым, напрыклад, пра палестынскі Ерусаліму, мясцовая назва якога Эль-Кудс, г.азн. Ілля Чараўнік, яшчэ мае толькі-што пазначаны намі грунтуючыся Штэйнбергу жыдоўскі

сэнс: горад Іллі Распутніка. Тое ж самае мае дачыненне і да гішпанскага Кадыкса (Cadiz), і да двух Кадэсаў у Палестыне, і г.д.

Па-грэцку слова *кадэш* перакладаецца ў Бібліі словам *порнас* (πόρνος), ад якога паходзіць і міжнародны тэрмін парнаграфія, што адно дастаткова характарызуе яго значэнне[307].

Усюды ў сэнсе прафесійнага культавага блудадзея.

Гэтымі «пасьвечанымі багіні кахання» чараўнікамі-распутнікамі поўніцца ўся Біблія, якая, як я ўжо дастаткова паказаў у ранейшых тамах, з'яўляецца першапачаткловай гісторыяй не малюсенькага кутка зямлі на ўзбярэжжы Мёртвага мора, а ўсёй Міжземнаморскай імперыі Дыяклетыяна, г.азн. Візантыі ці, больш дакладна, Вялікай Рамеі, родапачынальнікам якой у Бібліі лічыцца патрыярх Аб-Рам, г.азн. Бацька Рыма, пераіначаны тэолагамі ў Аўраама.

І ўсё гэта, як я ўжо паказаў раней з дапамогай астранамічных вылічэнняў часу шмат якіх дакументаў, змяшчаючых дастатковыя астранамічныя паведамленні, дапасуецца ўжо да сярэдневечча, пачынаючы ад заканчэння III стагоддзя нашай эры.

Вось чаму надзвычай цікава параўнаць паміж сабой хаця б некаторыя паведамленні пра першапачатковых храмавых распутнікаў, пераўтварыўшыхся ў сучасных манахаў-супольнікаў.

Возьмем, перадусім, хаця б адну нататку пра кляштары (г.азн. пра манастэрыёны па-грэцку).

– «*Ты пабудавала сабе блудзілішчныя сядзібы*», – гаворыцца пра візантыйскую дзяржаўную царкву ў прароцтве Іезекі-Іл (г.азн. Пераможа бог), першая глава якога дае становішча планет пад час ночы з 4 на 5 чэрвеня 453 года нашай эры, г.азн. час імператрыцы Пульхерыі-Выдатнай і яе чалавека Маркіяна-Каморніка.

«*І рабілі богаслаўцы* (юдэі, па-жыдоўску) *дрэннае перад вачамі бога-Грамабоя пад час дзён Пашыральніка народа* (г.азн. Ліцынія, 307-324 г., па-жыдоўску – РХБ-ЭМ). *Яны ладзілі ў сябе вышыні* (храмы-піраміды) *і абелізкі для назірання неба і гаі Зорнай багіні кахання*[308] *на кожнай высокай вяршыні і пад кожным цяністым дрэвам. І кадэшы* (г.азн. цудадзеі, прысьвечаныя на распусту ў гонар зорнай багіні-кахання) *жылі ў зямлі богаслаўцаў і здзяйснялі ўсе брыдоты народаў, якіх бог-Грамабой прагнаў ад асобы богазмагальнікаў* (І Цароў, XIV. 22-24...

Першыя згадванні пра змаганне з гэтымі сьвятымі-кадэшамі, стацевыя стасункі парафіянак з якімі магчыма нават лічыліся асьвячэннем іхнага ўлоння, накшталт сярэднявечнага права першай ночы, упершыню забараняюцца згодна з Бібліяй толькі пры цару Асе, г.азн. Езусе, імя якога па-жыдоўску азначае Ратавальнік і лекар. Згодна з нашай храналогіі ён атаясамляецца з «Вялікім царом», фігуруючым у «Жыціях Сьвятых» як заснавальнік хрысьціянскага набажэнства ў сярэдзіне IV стагоддзя нашай эры, і з Вялікім Царам-Месіяй (Рэ-Месу-Міамунам) іерогліфаў, дарэмна дапасуемага да перыяду за 1400 гадоў да пачатку нашай эры.

---

[307] У славянскім і рускім перакладзе Бібліі замест гэтага слова мы ўсюды чытаем распутнік, у лацінскім – scortator, прафесійны блуднік, у французкім – prostitue, прастытут, у нямецкім – Hurer, у ангельскім – fornicator, у гішпанскім – fornicario, у італійскім – prostituto.

[308] ו במות ו מצבית אשרים (БМУТ У МЦБІТ у АШРІМ), пры гэтым БМУТ азначае надмагільны курган, якімі і былі піраміды, МЦБІТ – статуі, пастаменты для назірання, абеліскі, і АШРІМ – множны лік ад אשרה (АШРЕ – багіня кахання, тое ж самае, што אשתרה (АШТРЕ) – Астрэя-Астарта – ад грэцкага АСТЭР – зорка, адкуль і слова астраномія. У царкоўных перакладах слова АШРЕ-АШТРЕ – зорка, цалкам няправільна перакладаецца дуброва ці гай. Атрымліваецца зусім незразумела. Гэта не гаі, а сьвяцільні Венеры.

«*Цар Аса быў прыемны богу-Грамабою*, – паведамляе I кніга Цароў (XV, 11), – *як продак яго Ўмілаваны цар* (Давыд, па-жыдоўску). *Ён выгнаў са сваёй зямлі кадэшаў-блуднікаў, забараніў усе статуі богаў, якія рабілі яго продкі і нават Мэку, сваю метраполію*[309], *пазбавіў дзяржаўнага становішча за тое, што прыгатвала статую Астарты* (г.азн. Зорнай багіні кахання). *Ён раздрабніў гэту статую і спаліў яе каля «Цёмнага струменя», але пірамі́ды не былі ім скасаваны*» (I Цароў, XV, 11-14).

І ўсё ж блуднікі-кадэшы перажылі яго, бо ў той жа кнізе «Цары» паведамляецца, што іх выкараніў толькі яго наступнік Хвядос Вялікі (378-395), маючы ў Бібліі найменне Боскі Суддзя (Іасафат), будаўнік караблёў далёкага плавання. А піраміды і пры ім служылі для рэлігійных мэт (I Цароў, XXII, 44-47). І ў адпаведнасьці з гэтым мы чытаем у Апакаліпсісе пра вялікую цьвярдыню Браму-Госпада (г.азн. пра дзяржаўную царкву 395 года), як пра «маці распутнікаў і брыдот зямных» (Ап. 75), і яна ж завецца Мікалаіцкай (г.азн. Нікейскай) царквой.

Але і гэтым справа яшчэ не заканчваецца. Апакаліптычная маці храмавых распутнікаў-манастэрыёнцаў толькі часова затаілася. Яна вярнулася да новага жыцця пры наступніках Хвядоса I, таму што ў другой і апошняй кнізе «Цары» мы зноў чытаем пра забарону кадэшэства якраз пасьля часу ўжо апісанай мной у VI томе метэарытнай катастрофы паблізу Мекі ў 622 годзе, даўшай пачатак агаранству. І гэта тым больш цікава, што і само імя гэтага горада на дзіва сугучна з Мекай, якую Цар Лекар (Аса), як мы толькі што бачылі, пазбавіў звання сталіцы за статую багіні кахання, і мімаволі прыходзіць у галаву думка пра больш позьняе дадаванне ў Біблію ўсяго гэтага месца пра забарону кадэшаў і вэрхалаў царом-лекарам і Хвядосам I, тым больш, што Апакаліпсіс напісаны якраз у год яго сьмерці.

Вось як распавядае Біблія пра апошнюю забарону храмавага кадэшаства каля пачатку агаранскай Геджры, г.азн. эры панічнага збягання каля прыбярэжных краінах Чырвонага мора. Гэтае месца я прыводзіў ужо раней, але паўтару і тут з нагоды яго выключнай важнасьці для гэтых маіх меркаванняў.

«*Цар Полымя-Боскае* (Ёсія, па-жыдоўску, храналагічна налягаючы на Гераклія, 640-644) *выкінуў сьвятое дрэва* (напэўна, сумленны і жыватворны крыж госпада) *із сядзібы боскай за сьцены сьвятога горада і спаліў яго каля Чорнага Струменя, а попел яго выкінуў на агульныя могілкі. Ён разбурыў келлі распутнікаў пры храме бога-Грамабоя, дзе жанчыны ткалі завесы для сьвятога дрэва, выгнаўшы сьвятароў із багаслаўячых гарадоў. «Полымя Боскае» апаганіў піраміды, на якіх яны здзяйснялі свае курэнні, ад Узгорка да Крыніцы Закляцця і разбурыў іншыя піраміды, што стаялі каля брамаў: тую, якая каля ўваходу ў Браму Езуса, цара-Захавальніка гэтага горада*[310], *і тую, якая на левым баку каля гарадзкой брамы. Ён апаганіў музычныя прылады* (тымпаны), *што ў даліне Дзяцей сну*[311] *і загадаў, каб ніхто не праводзіў свайго сына ці дачку праз полымя да цара-бога* (напэўна, намёк на хрышчэнне полымем, пра якое згадваецца ў евангеллях, перажыткам чаго ў рускіх захавалася пераскокванне праз вогнішча пад час масьляніцы). *Ён скасаваў коней, якіх ставілі богаслаўячыя цары ў дарунак Сонцу перад уваходам у храм, а калясніцы Сонца спаліў полымем. Ён разбурыў тыя ахвярнікі, якія ўладкавалі богаслаўячыя цары на даху капліцы Валадара*[312], *разбурыў*

[309] מעכה אמו (МЭКЕ АМУ), дзе АМУ ўзята не ў значэнні маці, як перакладаюць тэолагі, а ў значэнні метраполія. Так מא-עיר – горад-маці, інакш אמה – сталіца.

[310] שרעשוהי-ה-עיר (ІЕУШЭ-ШР-Ы-ЭЙР) – Езус Цар-Захавальнік.

[311] בני-ה-נם (БНІ-Е-НУМ) – дзеці дрымоты.

[312] Тут слова אחז (АХЗ) наўрад ці ўласнае імя Ахаз, а хутчэй слова агульнага значэння: валадар, лавец, гаспадар.

*ахвярнікі, якія зрабіў Пазабыты*[313] *цар на абодвух дварах у сядзібе бога-Грамабоя, і адломкі іх кінуў у Чорны Струмень. «Полымя боскае» апаганіў піраміду перад сьвятым горадам направа ад Гары згубы, якую багазмагальніцкі цар Міратворац*[314] (адпавядаючы, відаць, кароткачасоваму заходняму суваладару Яну, 423 г.) *уладкаваў Зорнай багіні Кахання* (Астарце-Венеры), *гэтай брыдоце егіпцянаў, і піраміду «Як бы Сышоўшаму»*[315], *цару-богу, гэтаму паскудству перша-народа, поскудзі паганскіх народаў. Ён пераламаў усе статуі, знёс з твару зямлі гаі Астарты і напоўніў гэтыя месцы чалавечымі косткамі.* «*Полымя Боскае» ўзяў на гары косткі памёршых і спаліў іх на ахвярніку-пірамідзе, уладкаваным у сядзібе бога Заступнікам Народа* (адпаведна з нашымі атаясамленнямі Кастусём Сьвятым), *завёўшым богазмагальнікаў у грэшную ерась. Ён спаліў сьвятое дрэва і апаганіў ахвярнік адпаведна са словам бога, якое вымавіў боскі чалавек, прадказаўшы гэтыя падзеі*» (II Цароў,XXIII, 5-16).

«*Потым «Полымя Боскае» выправіўся ў Вартаўнічую краіну, разбурыў і там усе пірамідныя храмы, пабудаваныя багазмагальніцкімі царамі, закалоў усіх сьвятароў на іхных ахвярніках, спаліў на іх чалавечыя косткі і вярнуўся ў Сьвяты горад* (XXVII, 20)».

Такім адпаведна са старазапаветнай Бібліяй было заканчэнне храмавых прафесійных блуднікаў, храналагічна дапасуемае да часу жахлівай метэарытнай катастрофы ў Чырвоным моры ў 622 годзе, якая адна магла быць нагодай пачатку эры панічнага збягання (Геджры) і пілігрымства дзеля ўшанавання аскепкаў метэарытнага каменя ў Мецы. Паведамляючы пра ўсё гэтае буянства «Боскага Полымя», біблейскае паданне не дае ніякага тлумачэння паведамляемым фактам. «Зараўнаваў, маўляў, «Полымя Боскае» пра бога і пачаў буяніць направа і налева» ні з таго, ні з гэтага. Але ў рэчаіснасьці так не бывае, і таму нам застаецца тут зрабіць толькі адну здагадку: біблейскі цар Полымя Боскае быў не столькі рэчаіснай асобай, колькі палымяным выбухам гіганцкага рою метэарытаў, хутчэй усяго пад час ночы, суправаджаемы ўсё руйнуючым ураганам, раўназначным землятрусу, і ўсё гэта было персаніфікавана толькі пазьней, як, напрыклад, і кожны выключны ўраган мог быць пераўтвораны пазьнейшымі вуснымі пераказамі ад пакалення ў пакаленне ў волата Ура-Гана, разбурыўшага цэлыя гарады. А біблейскі Ўра-Ган пасьля сваёй персаніфікацыі мог быць яшчэ аб'яднаны з валадарыўшым у той час (610-641) рамейска-візантыйскім імператарам Геркулесам[316]. У выніку ж, сапраўды, магло атрымацца, што той, хто ў грэцкіх паведамленнях фігуруе пад імем Геркулеса, выявіўся ў біблейскіх кнігах пад імем Боскае Полымя, як самай памятнай падзеі яго часу.

З такога боку гледжання ўяўляе надзвычайную цікавасць не толькі наша агульнасхематычнае, адпаведна з табліцай (стар. 377 таб. XXIII), храналагічнае наляганне «Боскага Полымя» на імператара Гераклія, але і наступная першарадна важная з гістарычнага боку гледжання акалічнасць, пра якую я ўжо выказваўся, але паўтару яшчэ з мнеманічнай мэтай.

Сьледам за толькі што прыведзеным месцам Бібліі мы бачым такія радкі:

«*Загадаў Полымя Боскае ўсяму народу: Здзейсьніце вялікдзень* (г.азн. велікоднае паломніцтва) *Грамабою, вашаму богу, як напісана*, (у знойдзенай незадоўга перад гэтым Кнізе Запавету).

---

[313] Згодна з Cruden слова מנשה (М-НШЭ) – той, хто забыты (he that is forgotten).

[314] Тут гаворка ідзе, як быццам бы, не пра Саламона (שלם-שלמה), а пра Салома, імя якога ў адрозненні ад першага пішуць שלום ці שלם

[315] כמש (К-МУШ) – як сышоўшы, як зьнікшы. Згодна з Cruden “as taking away”, што менш дапасуе.

[316] Гераклій азначае – Геркулес боскі.

*Ён сказаў так таму, што* ***не быў здзяйсняемы вялікдзень з часоў суддзяў, судзіўшых богазмагальнікаў, калі ў іх яшчэ не было цароў і ва ўсе дні багазмагальніцкіх і богаслвячых цароў. Толькі на васямнаццатым годзе цара Боскае-Полымя быў здзейснены вялікдзень***».

Але васямнаццатым годам Гераклія былі 627-628 гады нашай эры, г.азн. пяты ці шосты год эры панічнага збягання («геджры») агаранаў, што і павінна было быць з этнапсіхалагічнага боку гледжання, таму што само сабой зразумела, што грамадзкія пілігрымствы да рэшткаў катастрофы маглі пачацца толькі праз некалькі гадоў, калі першы жах мінаваў і ўзнікла цікавасць, а потым і забабоны, якія тамтэйшыя жыхары скарысталі ў сваіх інтарэсах.

Але і такая катастрофа не выкараніла прафесійных храмавых распутнікаў, таму што мы маем пра іх у той жа Бібліі і ў кнігах Новага Запавету недвухсэнсоўныя нататкі[317]. Асабліва цікавымі яны з'яўляюцца ў лістах псеўда-апостала Паўла, распрацаваны клерыкалізм якога характарызуе эпоху ўжо блізкую да крыжовых паходаў.

«*Ніякі распутнік не мае* (нябеснай) *спадчыны*» (Ефесеям, V, 5).

«*Не ешце з тым, хто, застаючыся «братам», застаецца распутнікам»* (I Карынф. V, 11).

«*Ні распутнікі, ні балванашанавальнікі не ўспадкуюць царства бога*» (I Карынфянам VI, 9).

Не размяшчаю астатніх такіх жа месцаў пра распутнікаў, а таксама і месцаў пра распутніц, як быццам бы таксама культавага характару, а нагадаю тут толькі пра ўказанні Бібліі на існаванне пры сярэднявечнай месіянска-хрысьціянскай царкве блудзілішчных сядзіб[318], якія і былі, відаць, першапачатковымі двухстацевымі кляштарамі, да забароны іх на Нікейскім саборы 787 года, без сумневаў дзякуючы моцнаму, калі не ўсеагульнаму развіццю ў іх венерычных хвароб. Але і зрабіўшыся аднастацевымі, кляштары не сталі нашмат больш прыстойнымі, як гэта добра мы бачылі вышэй і як яшчэ лепш можна бачыць із вялізнай колькасці сатыр на іх пад час Эпохі Гуманізму.

# Глава V

## Хрысьціянскія звычаі пад час сярэдневечча ў Яўропе. Мова набажэнстваў. Трансфармацыя вакхічных агап у звычай прычашчэння, усталяванне нядзельнага дня замест ранейшай суботы, сьвяты ў гонар сьвятых, усталяванне «боскага суда», пачатак апакрыфічнай літаратуры, адкрыццё труны Хрыста ў Палестыне і пабудова над ім храма ў 1010 годзе нашай эры, і г.д.

---

[317] Напрыклад, у старым запавеце: Другазаконне XXIII, 17; I кніга Цароў (III, па-руску) XIV, 24; XV, 12; XXII, 46; Ёў. XXXVI, 14. А ў Новым Запавеце: у лістах Паўла, I Карынфянам V, 9, 11; VI, 9; VI, 18; Ефесеям V, 3; Габрэям XII, 16; XIII, 14 і I Цімафею 1,10.

[318] Іезекііл, XVI, 15, 23, 26, 28, 31, 33, 39; XXIII, 5, 12.

Па ўсяму Захаду, ад пачатку евангельскага хрысьціянства ў IX стагоддзі, пры набажэнстве ўжывалася лацінская мова. Таму што яе разумела ўсё насельніцтва Італіі, Гішпаніі і нават Францыі, таму тут не было патрэбы перакладаць Біблію, Евангеллі і літургію на іншыя мовы. Ды і пасьля заваёвы іншамоўных варвараў лацінская мова заставалася мовай самай высокай цывілізацыі па ўсёй Заходняй Яўропе і асабліва мовай сьвятарства, якое на працягу доўгага часу папаўнялася выключна із асяроддзя раманізаваных народаў. Цесная сувязь, усталяваная з Рымам пры Піпіну і Карлу Вялікім, замацавала ўжыванне лацінскай мовы ва ўсёй франкскай царкве.

І вось, звычай, спачатку ўзнікшы дзякуючы лакальным акалічнасьцям, пачаў лічыцца як бы правілам, і лацінская мова – адзіна прыдатнай для набажэнстваў, хаця і было відавочна, што гэта не так. Яшчэ Карл Вялікі, нягледзячы на сваю адданасць рымскім звычаям, пярэчыў супраць выключнасьці старажытных моваў.

«*Хай ніхто,* – гаворыцца ў яго капітуляцыі на Франкфурцкім саборы, – *не лічыць, што богу немагчыма маліцца акрамя як на трох мовах* (грэцкай, лацінскай і жыдоўскай), *таму што богу можна маліцца на якой бы то ні было гаворцы, і молячыся будзе пачуты, калі толькі ён просіць належнага*».

А на Ўсходзе Яўропы звычайнай царкоўнай мовай евангельскіх хрысьціянаў пачынаючы з IX стагоддзя стала грэцкая, і яна працягвала заставацца такой і пры агаранстве ў краінах, дзе арабскія мовы ўжываліся ў звычайных побытавых справах. Толькі **монафізіты Ягіпта** пры спраўленні сваіх набажэнстваў ужывалі копцкую мову, а **нестарыяне – сірыйскую**, г.азн. амаль тую ж, як у Бібліі і Каране.

Пры набажэнстве ў лацінскай царкве памаленьку пачалі ўжывацца арганы. Сень-Гальскі жыццяапісальнік Карла Вялікага сведчыць, што гэтая прылада, «вырабляючая як грымоты, так і салодкія гукі ліры», прывезеная грэцкімі пасланнікамі імператару, узбудзіла сярод франкаў жаданне рабіць і самім падобныя прылады. Пры Людовіку Набожным аднаму венецыянскаму сьвятару Рыгору было даручана зрабіць орган у Э-ля-Шапеле, і ён, быццам бы, выканаў сваё заданне «з цудоўным майстэрствам». Франкі хутка зрабіліся такімі майстэрскімі ў вырабніцтве арганаў, што каля стагоддзя пазьней Кастусёвага гасьцінца Піпіну вялікі рымскі пантыфекс Ян VIII папрасіў фрейзінгскага біскупа даслаць яму такую прыладу разам з чалавекам, майстэрскім у яе ўжыванні, таму што паўночныя арганы былі па вартасьці вышэй тых, якія вырабляліся ў Італіі[319].

Аднак архібіскуп Балдрык, толькі напачатку XII стагоддзя, згадвае пра адзін арган у Фекампе, як першы, які ён бачыў, хаця шмат падарожнічаў па Францыі (і наведваў таксама Англію).

Да больш ранняга перыяду дапасуецца пачатак выкарыстання царкоўных званоў. Згодна з некаторымі пісьменнікамі яны былі ўладкаваны ў цэрквах яшчэ ў VII стагоддзі Сабініянам, пераемнікам Рыгора Вялікага па рымскай катэдры і на працягу VIII стагоддзя ўжо ўжываліся ў Францыі і іншых заходніх краінах. Званы часта згадваюцца і Бедай Высокашаноўным. У капітуляры 789 года існуе нават забарона «хрышчэння званоў», але яно рабілася і пазьней, пры гэтым званам даваліся хрысьціянскія імёны, і яны забяспечваліся хроснымі бацькамі.

Вучэнне пра прычашчэнне нават і ў гэты перыяд часта абмяркоўвалася з такой гарачнасьцю і заахвочанасьцю, што немагчыма не прыйсьці да высновы пра яго параджэнне менавіта ў VII і VIII стагоддзях. Прычашчэнне-*сімвал* вітаецца адной партыяй, а ператварэнне віна ў сапраўднае цела і кроў абвяшчаецца другой.

---

[319] Iohannis Epistola I, ад 873 года (Patrologia, CXXVI). Робертсан, I, 732.

У поглядах таго часу, – кажуць тэолагі, – заўважалася схільнасць да вучэння пра пераўтварэнне, але самі ж дадаюць папраўку, пазначаючы, што гэта «не знаходзіла яшчэ вызначанага праяўлення»[320], г.азн., папросту кажучы, такой думкі яшчэ не існавала. Толькі больш позні апакрыфіст ад імя Яна Дамаскіна, аспрэчваючы тэрмін «сімвал», як не адпавядаючы Пісанню, заяўляе, што асвячоныя часткі робяцца «самім абагаўлёным целам госпада»[321]. Замест звычайнага хлеба, які спачатку ўжываўся для закускі прычашчальнага віна, на Захадзе былі ўведзены праснакі. Яны гатаваліся з вельмі далікатнай мукі без закваскі, круглыя па форме і з пячаткай зверху, зробленай з дапамогай асобнай прылады. З асьвечаным хлебам ладзіліся розныя звычаі, яго давалі нават і памёршым і хавалі разам з імі. Да XII стагоддзя **віно** і на Захадзе давалася ўсім прычашчаючымся, а потым каталіцкая царква яго скасавала.

Але чаму ж скасавала? Магчыма,– таму, што пры вялізнай колькасьці вернікаў ужо нехапала на ўсіх па поўнай чарцы, а супраць невялікай колькасьці публіка пратэставала?

Толькі з часоў Рыгора Вялікага (540-640) ўпершыню пачалася, – кажуць нам, – распрацоўка вучэння пра чысцілішча і асабліва ўкаранілася ў ангельскай царкве, але толькі ў VIII стагоддзі нейкаму Дрытгельму было дазволена пабачыць на ўласныя вочы пакаранні ў пекле і жыццё ў чысцілішчы, а таксама і шчаслівае існаванне набожных у раю, і гэтае бачанне ўпершыню ў вершаванай форме было выкладзена пры Карлу Вялікім яго дарадцай Алкуінам. З'явіліся і іншыя апавяданні падобнага ж роду, і праз шэсць стагоддзяў гэтыя бачанні невядомых ірландзкіх ці нортумберлендзкіх манастэрыёнцаў завяршыліся вялікай паэмай Дантэ.

У хрысьціянскай царкве паступова ўводзілася сьвяткаванне нядзельнага дня замест суботы, і на працягу гэтага дня не дазвалялася адчыняць ні суды, ні торжышчы; мужчыны павінны былі ўстрымліватца ад палявання, жанчыны ад шыцця, вышывання, ткання, прадзення, выбівання ільну, стрыжкі авечак ці адкрытага мыцця бялізны. Супраць парушальнікаў былі ўсталяваны пакаранні. Так Весекскі кароль Іна (688-725 г.) пастанаўляе, што калі прыгонны чалавек будзе працаваць у «дзень госпада» згодна з загадам свайго гаспадара, то павінен быць вызвалены; калі ж адпаведна са сваёй уласнай воляй, то павінен «зведаць на сваёй скуры». Пра гэта ў 788 годзе нават зваліўся ліст з неба ад самога бога, але Карл Вялікі ў наступным жа годзе бязбожна загадаў у сваім капітуляры знішчыць яго. Пры Людовіку Набожным на саборах паведамлялі і пра пакуты, якія прызначаліся людзям за працу пад час нядзельнага дня. Так, некаторыя былі забіты маланкай, некаторыя пашкодзілі сабе часткі цела, некаторыя былі спалены раптам загарэўшымся полымем. Ад сьвятарства, шляхты і самога імператара патрабавалася паказваць добры прыклад належнага выканання гэтага дня.

Такім цяжкім быў пераход ад сьвяткавання біблейскай суботы да сьвяткавання евангельскай нядзелі, паклаўшы першую выразную мяжу паміж месіянцамі, гэтымі першапачатковымі юдэямі ўсіх народаў, і хрысьціянамі евангельскага спавядання. І мы бачым, што пераход ад суботы да нядзелі адбыўся не лёгка, а з дапамогай моцных караючых захадаў.

Кожная думка пра пакіданне днём адпачынку ранейшай суботы зведвала асуджэнне. Нехта ад імя Рыгора Вялікага выказваецца пра яе як пра вучэнне антыхрыста, які, – паведамляе ён, – будзе патрабаваць выканання абодвух дзён:

---

[320] Джэмс Робертсан, Гісторыя Хрысьціянскай царквы, стар. 733.
[321] «De fide ortodox». IV, 1.

суботы і дня госпада, таму што субота ў такім выпадку будзе заяўляць дамаганне на суперніцтва з ажываннем «Ратавальніка». А нядзеля згодна з агульнай тагачаснай думкай пачыналася з вечара суботы, і працягвалася да адпаведнай гадзіны нядзелі, як і кожныя суткі пачыналіся з вечара. Толькі ў палове X стагоддзя працягласць нядзелі пашырылася, і яна пачала працягвацца ад трох гадзін папаўдні суботы – да сьвітання панядзелка, пры гэтым і ўсе астатнія суткі пачыналіся зранку, а жыдоўская субота выявілася пакрыўджанай: пачаўшыся вечарам пятніцы яна павінна была закончыцца ў 3 гадзіны папаўдні.

У IX стагоддзі ўпершыню было ўсталявана некалькі сьвят у гонар «багародзіцы». «Прынясенне хрыста ў храм» перамянілася ў «ачышчэнне панны Марылі». Нараджэнне багародзіцы было прызначана на 8 верасня як на Ўсходзе, так і на Захадзе, калі сузор'е Панны заходзіла за сонца. У грэцкай царкве яшчэ было ўсталявана асобнае сьвята: Увядзенне багародзіцы ў храм (21 лістапада) а на Захадзе яно было прынята толькі не раней XIV стагоддзя. У Гішпаніі бачанне, з’явіўшаяся Ільдэфонсу ў Таледа, паслужыла нагодай для прызначэння сьвята «Чаканне найсьвяцейшай панны Марылі» (18 снежня). На 15 жніўня таксама было прызначана сьвята Ўспення, г.азн. сьмерці багародзіцы, такім спосабам: з нагоды маўчання евангелляў у пытанні пра сьмерць панны Марылі, спачатку было прыдумана паданне, згодна з якім яна правяла свае апошнія гады разам з Янам Багасловам у Ефесе і пахавана там у цэркве. А калі выявілася, што яе там няма, то вырашылі, што яна была пахавана ў Іесафатавай даліне і адтуль узнесена прама на неба. Святкаванне гэтага «Ўспення» на Захадзе было зацьверджана толькі менцкім саборам у 813 годзе, ды і то сумнеўна. У яго каноне ўпершыню згадваюцца і іншыя сьвяты, якімі з’яўляюцца: фаміны тыдзень следам за вялікаднем, дзень Ушэсьця, сьвята Троіцы і наступны за ім тыдзень, народзіны Яна Хрышчэльніка, сьвята апосталаў Пятра і Паўла, сьвятога Ремігія, Мартына, Андрэя, трохдзённае сьвята Нараджэнння Хрыста, абразанне госпада, богаз'яўленне, ачышчэнне панны Марылі, храмавыя сьвяты кожнай царквы ў памяць яе асьвячэння, а таксама сьвяты ў гонар пакутнікаў і спаведнікаў, парэшткі якіх спачывалі ў той ці іншай дыяцэзіі ці прыходзе.

Разам з павагай да памяці сьвятых павялічылася і павага да парэшткаў. 2-і нікейскі сабор пастанавіў, каб ніводная царква не асвячалася без нейкіх парэшткаў і ставіць непавагу да іх у віну праціўнікам абразоў. Асаблівай павагай карысталіся парэшткі ад Хрыста і яго маці. У розных месцах захоўваліся кашулі і хусткі, якімі была павязана галава Хрыста ў труне. У Цэнтульскім кляштары пры абату Ангілберце, памёршым у 801 годзе, знайшліся нават часткі ясьляў, у якіх ляжаў нованароджаны Хрыстос, свечкі, запальваўшыяся пры яго нараджэнні, яго адзенне і сандалі, камень, на якім ён сядзеў падчас насычэння пяці тысяч народа сямю хлябамі і дзвума рыбамі, часткі хлеба, якія ён даваў сваім вучням, часткі яго крыжа і губкі, на якой яму падавалі воцат, часткі валос і адзення панны Марылі. У гонар крыжа былі ўсталяваны сьвяты яго здабывання і яго ўзвядзення. Адным словам наіўнае ашуканства публікі было ўзведзена ў прынцып разам з пісаннем разнастайных твораў ад імя старажытных аўтарытэтаў.

Карл Вялікі неаднаразова асуджаў прызначэнне новых сьвятых акрамя ужо прызнаных царквой, будаванне ім помнікаў каля дарог, пашырэнне апакрыфічных апавяданняў і ўводзянне новых імёнаў для анёлаў акрамя тых, якія згадваліся ў Бібліі. Стварэнне легендарных паданняў пра сьвятых зрабілася самай пашыранай складальніцкай літаратурай X і XI стагоддзяў. Апошняя частка легенды звычайна

паказвала сьвятога пераможцай над рознымі спакусамі і нячысьцікамі. Ад імя Рыгора Нэскага пачалі ганіць дрэнныя бакі, злучаныя з пашырыўшымся звычаем паломніцтва да сьвятых месцаў. Так, Баніфацый у VIII стагоддзі пісаў архібіскупу Кутберту, што са шматлікім ангельскіх жанчын збіраўшыхся ў Рыме, толькі некаторым атрымлівалася не страціць там сваю годнасць; што рэдка можна знайсьці горад у Ламбардыі ці Францыі, дзе б не пасялілася нейкая паўшая ў Рыме паломніца і сваімі дрэннымі паводзінамі не ганьбіла б родны край[322].

Шалонскі сабор у 813 годзе забараніў сьвятарству хадзіць нават у Рым ці ў Тур без дазволу свайго біскупа, каб пазбегнуць нагод да граху ад чакаўшых яго там распутніц.

У гэты ж час царква пачала ладзіць і паядынкі пад фірмай «суда боскага». Іх пачалі ладзіць там, дзе вінаватасць абвінавачваемай асобы не была відавочнай. Да паядынку прыступалі з вялікай урачыстасьцю. Абвінаваўца кляўся ў праўдзівасьці выказваемага ім абвінавачвання; абвінавачваемы, які на працягу трох дзён рыхтаваўся з дапамогай пасту і малітваў, сцвярджаў, што нявінны. Самымі ўрачыстымі славамі яго заклiналі не набліжацца да пасада боскага, калі ён усведамляе сваю вінаватасць. Абодва бакі прычашчаліся, і сьвятарства памазвала маслам іхную зброю. **Так узніклі турніры, дуэлі і гладыятарскія баі.**

Выпрабаванне «судом боскім» ужывалася царквой і ў грамадзянскіх справах, як напрыклад у спрэчках пра межы ўласнасьці. Атон Вялікі аднойчы выкарыстаў паядынак як сродак для вырашэння юрыдычнага пытання: ці бяруць удзел пасьля сьмерці бацькі дзеці яго памёршага сына ў спадкаемстве яго жывых дзяцей? Асобам, якія былі няздольнымі пераадолець такое выпрабаванне з нагоды састарэлага веку, стаці, цялеснай немачы, манаскага ці царкоўнага становішча, дазвалялася выставіць асобых ваяроў, якія звычайна лічыліся станам ганебных людзей. Выпрабаванне халоднай вадой рабілася шляхам кідання абвінавачваемага ў палонку на прывязанай да яго вяроўцы, з дапамогай якой яго можна было выцягнуць назад. Яго патапленне было доказам вінаватасьці, адваротнае ж лічылася доказам невінаватасьці. У крыжовым выпрабаванні абвінавачваемы ці яго падстаўная асоба падымаў правую руку, пры гэтым спяваліся псалмы, і калі заўважалася апусканне ці дрыгаценне яго рукі, то гэта лічылася доказам вінаватасьці. Сярод іншых спосабаў выпрабавання ўжываліся яшчэ трыманне рукі на полымем, хаджэнне ў тонкім адзенні паміж двума падпаленымі вогнішчамі і прыняцце прычашчэння.

Так царква карысталася абуджанымі ёю ж самою забабонамі, каб пашыраць функцыі сваёй дзейнасьці.

Да IX стагоддзя дапасуецца пачатак цэлага згуртавання аўтараў, пісаўшых каментары на набажэнскія звычаі царквы. Першым із іх быў Амальгарт ці Амалярый, мецкі хор-біскуп, які каля 820 года, – кажуць нам, – склаў трактат «Пра службы царквы», у якім прыстасаваў і да іх сістэму містычнага тлумачэння, якая быццам бы ўжо даўно ўжывалася да Бібліі і Евангелля. Усе падрабязнасьці набажэнства, кожную пасаду, кожнае адзенне сьвятарства, упрыгожванні царквы, сьвятыя перыяды і сьвяты, – усё гэта Амальгард абвяшчае змяшчаючым у сабе сімвалічныя знакі. Да паловы IX стагоддзя сьледам за ім, – кажуць нам, – выступілі з падобнымі ж літургічнымі творамі Рабан Маўр і Валафрыд Страбон (г.азн. касавокі), абат кляштара Рэйхенау, памёршы ў 849 годзе.

---

[322] Bonifac. Epistola, 63 (Patrologia, т. LXXXIX)

У IX жа стагоддзі ўпершыню было складзена некалькі зборнікаў із жыццяапісанняў сьвятых, размешчаных па парадку календара і носіўшых назву Мартыролагаў.

Сярод іхных складальнікаў перадусім называюць Адэна В'енскага, Узуарда Сэн-Жэрменскага ў Парыжы і Ноткера Сэн-Гальскага. Адразу з'явілася шмат жыццяапісанняў. Перапісваліся ранейшыя апавяданні, складаліся новыя, і паміж імі дзякуючы яшчэ не распрацаванаму мастацтву пісаць не толькі было шмат падабенства ў падрабязнасьцях, але нават цэлыя апавяданні пра некалькі сьвятых былі часам тоеснымі ва ўсім, акрамя імёнаў.

З таго часу, як Дыянісій Парыжскі, заснавальнік тамтэйшай царквы, быў атаясомлены з Дзіянісіем Арэапагітам Новага Запавету, іншыя цэрквы таксама імкнуліся надаць сваім заснавальнікам паважаемы характар старажытнасьці. Так, першы біскуп Ліможскай царквы Марцыял быў прылічаны спачатку ад імя Рыгора Турскага да супрацоўнікаў Дзіянісія із «трэццяга стагоддзя», а потым і да самога апостальскага Дзіянісія. На адным саборы ў Ліможы, у 1023 годзе, узнікла нават пытанне, як звалі гэтага сьвятога? Біскуп Ярдан зваў яго спаведнікам, а Гут, абат царквы Марцыяла, настойваў на тым, што ён быў адным із сямідзесяці вучняў.

Сярод найбольш дбайных абаронцаў апошняй думкі быў і летапісец Адэмар, атрымаўшы сваё выхаванне ў кляштары св. Марцыяла. У вельмі рэзкім лісьце ён абвяшчае сваё перакананне ў тым, што легендарнае жыццё гэтага сьвятога мае апостальскую старажытнасьць і не менш праўдзівае, чым і чатырохевангелле (з чым немагчыма не пагадзіцца!). Ён цвёрда заяўляе, што ніхто не можа пазбавіць апостальскай годнасьці таго, каго лічыў субратам-апосталам сам апостал Пятро. Гэтая справа разглядалася саборамі ў Пуацьеры і ў Парыжы, і кожны, хто аспрэчваў тытул апостала за Марцыялам, прыраўноўваўся яго прыхільнікамі да евіянітаў, якія праз варожасць да апостала Паўла абмяжоўвалі колькасць апосталаў першапачатковымі дванаццаццю чалавекамі. А вялікі рымскі пантыфекс Ян XVIII абвясьціў нават, што было б утрапёнасьцю сумнявацца ў праве сьвятога на тытул, які быў дадзены не толькі таварышам першых апосталаў, але і сьвятому Рыгору за далучэнне Англіі і іншым за іхную гераічныя працу ў якасьці місіянераў. Апостальская вартасць Марцыяла была зацьверджана таксама і саборамі ў Буржэ і Ліможы ў 1031 годзе, і біскуп Ярдан, сумняваўшыся ў гэтым, быў вымушаны замірыцца з рашэннем.

Так колькасць сьвятых паступова павялічвалася. Вялікі рымскі пантыфекс тады яшчэ не прысвойваў сабе выключнага права ўзводзіць людзей у сьвятыя, кожны мітрапаліт кананізаваў іх карыстаючыся сваёй уласнай уладай, пакуль Аляксандр III у 1170 годзе не абвясьціў, што «нават хаця б цуды былі здзяйсняемы чалавекам, усё ж незаконна ўшаноўваць яго ў якасьці сьвятога без зацьверджання рымскай царквой». Але ў чыіх бы руках ні знаходзілася фармальная санкцыя, характар сьвятасьці надаваўся галоўным чынам самім насельніцтвам. Калі паміраў набожны чалавек, каля яго пачыналі адбывацца цуды, і над яго магілай будавалася капліца. Біскупы ахвотна слухаліся «народнага голасу», і такім чынам спіс сьвятых паступова павялічваўся.

Усё больш і больш павялічвалася і ўшанаванне Мадоны. Пятро Даміяні (1007-1072 г.) выказваецца пра яе, як пра «абагаўлённую», як «пра ўзнесеную на пасад бога бацькі і пастаўленую на сядалішча самой тройцы». «Табе, – выказваецца ён, – дадзена ўся ўлада на небе і на зямлі! Не існуе немагчымага для цябе, таму што

ты набліжаешся да залатога пасада чалавечага замірэння, не толькі просячы, але і загадваючы, як гаспадарыня, а не як прыслужніца».

На прыканцы X стагоддзя адзін французкі пілігрым сустрэўся з пустыннікам, які паведаміў яму, што ў вулканічным полымі на адной выспе на Міжземным моры аддаваліся на пакуты душы грэшнікаў і можна было часта чуць, як люта завывалі дз'яблы, калі іх новая здабыча была выдзіраема ад іх дзякуючы малітвам сьвятых, і, асабліва, манахаў клюнійскага кляштара. Пасьля прыбыцця ў сваю краіну пілігрым паведаміў пра гэта і абату Адылону, які ў 998 годзе прызначыў з гэтай нагоды сьвята «Ўсіх сьвятых» у клюнійскім кляштары з малітвай за спакой усіх верных душ, і святкаванне гэтага дня ўжо напачатку наступнага стагоддзя пашырылася па ўсёй каталіцкай царкве.

Мошчы і іншыя сьвятыя рэчы ўтарапёна шукаліся паўсюдна. У Францыі на працягу X стагоддзя былі нечакана знойдзены сандалі Хрыста, зваліўшыяся недзе ў Анжу; знайшлі частку жазла Майсея, патрапіўшага ў нейкую камору ў Сан-Се, і галаву Яна Хрышчэльніка, якая неяк закацілася із Палестыны ў Сэн-Жан-д'Анжэль. У Вандоме апынулася адна са слязінак, пралітых Хрыстом над Лазарам, якая была падабрана анёлам і перададзена Марыі Магдаліне. У некаторых месцах паказваліся нават мошчы Аўраама і валасы ад барады Ноя, і ўсё гэта рабілася значнай крыніцай абагачэння для кляштароў і тых цэркваў, якія валодалі імі.

Радульф Лысы ў 1027 годзе паведамляе пра аднаго чалавека, які, вандруючы пад рознымі імёнамі, накапаў шмат костак і абвясьціў іх парэшткамі сьвятых, пры гэтым ад іх «здзяйснялася шмат вылячэнняў у якасьці доказу таго, што і дз'ябал можа здзяйсняць дзівы». А народ наваколля, – працягваў ён, – збіраўся да яго мошчаў, і «кожны шкадаваў пра тое, што ў яго не было нейкай хваробы, ад якой ён мог бы знайсьці вылячэнне». Ашуканец дзякуючы гэтаму ўвайшоў у вялікую павагу да мясцовага маркіза, які заснаваў для яго кляштар у Сузе, але калі сабралася некалькі біскупаў для асьвячэння гэтага кляштара, із ра́кі падробленага сьвятога выскачыла некалькі чарцей, чорных як эфіёпы, і кінуліся бегчы. Так падман быў адкрыты, але просты народ працягваў верыць гэтым парэшткам, нягледзячы на іхных чарцей[323].

Не раз узнікалі і іншыя спрэчкі пра сапраўднасць мошчаў. Цела Рыгора Вялікага, – згодна з паведамленнямі першых баячнікаў, – спачатку знаходзілася ў храме Пятра ў Рыме і адтуль было таемна вынесена ў Суасон, але пазьней тры яго галавы знайшліся яшчэ ў Сансе, Канстанцы і Торас-Новасе ў Партугаліі. Манахі Монтэ-Касіна адмаўляліся прызнаць праўдзівасць тых мошчаў св. Бенядыкта, якія з'явіліся ў Флеры, пры гэтым сам сьвяты падмацаваў іхную думку сваімі ўласнымі словамі ў сонным бачанні.

Рым, як і раней, быў галоўным месцам паломніцтва, але пачынаючы з IX стагоддзя ў Палестынскім Эль-Кудсе, пераназваным у Ерусалім, упершыню пачалося велікоднае дзіва загарання полымя без чалавечага ўдзелу[324] і паломніцтва пачалося і туды, асабліва ўзмацніўшаяся з нагоды набліжэння 1000 года ад так званага «нараджэння хрыстова» і агульнага чакання пад час гэтага года канца сьвету.

---

[323] Radulf Glaber, IV, 3 (1027 г.).

[324] Першае сведчанне пра «ерусалімскія самазапальваючыяся агні», якімі зараз, вядома, нікога не здзівіш пасьля вынаходніцтва электрычнага асьвятлення, існуе ад імя французкага пілігрыма Кернарда, дапасуемага да 810 года (Patrologia, CXXI, 572).

Памерці сярод сьвятых месцаў Палестыны здавалася найлепшым дабраславеннем, але і пасьля таго, як трывога з нагоды заканчэння сьвету ўжо мінула, паломніцтва ў Ерусалім працягвала падтрымлівацца адпаведна з традыцыяй. У 1010 годзе маці каліфа Гакема, хрысьціянка, упершыню пабудавала там царкву Труны Госпада, з нагоды чаго на Ўсход пацягнуліся вялікія натоўпы паломнікаў, нясучы з сабой падарункі для дапамогі такой справе. Яны вярталіся адтуль з рознымі сьвятымі парэшткамі аж да апошніх гадоў XI стагоддзя, калі пачаліся крыжовыя паходы.

Артадаксальная хрысьціянскія тэолагі адпаведна са сваім звычайным спосабам апакрыфікавання, вядома, сцвярджаюць, што маці Гакема пабудавала царкву Труны Госпада і аднавіла ў ёй саму труну на месцы стаяўшага тут жа «старажытнага» храма таго ж самага імя, які «быў разбураны валадаром-ерэтыком». Але хто ж быў гэты хуліган? Знайшлі, вядома, і яго!

Тэолагі ўмелі пры патрэбе прыдумаць тлумачэнне. Для падтрымання бесперапыннасьці «Труны Госпада», на самай справе адкрытай, згодна з іхнымі ж уласнымі сведчаннямі, толькі ў той час, больш позьнім «гісторыкам царквы» патрэбна было для адпору скептыкам давесьці, што храм маці Гакема быў пабудаваны не праз сотні гадоў пасьля разбурэння першапачатковага, а адразу пасьля гэтага. І вось, было прыдумана не вельмі ўдалае апавяданне, што разбурыў яго ў прыпадку ўтрапёнасьці (ці не кулакамі ўжо?) сам сын гэтай маці каліф Гакам, а маці яго адразу ж выправіла бяду і пабудавала тут новы, лепшы. Радульф Лысы сцвярджае[325], што Гакема падбілі на гэтую справу «юдэі», за што і паплаціліся агульнай нянавісьцю хрысьціянаў. А адпаведна з іншымі паведамленнямі[326] Гакам быў раз'юшаны на тагачаснага патрыярха Захарыя за тое, што той не выказаў жадання пасьвяціць у біскупы манаха Яна, і спагнаў сваю злосць на храме Труны Госпада. А маці яго, як мы бачылі, адразу ж аднавіла разбуранае ў гневе сынам.

Усё гэта, вядома, так наіўна прыдумана, што не заслугоўвае сур'ёзнага абмеркавання, і перад намі застаецца толькі голы факт: **Магільня Хрыста ў Эль-Кудсе, называемага хрысьціянамі памылкова Ерусалімам, была прыдумана нейкім вынаходлівым мясцовым клерыкалам дзеля прыцягнення пілігрымаў толькі каля 1010 года нашай эры** пры каліфу Гакеме, а «ўсё, што да гэтага – ад нячысьціка».

Пачатак XI стагоддзя і ў іншых месцах пазначыўся незвычайнай дзейнасьцю ў царкоўным будаўніцтве, што мела важны ўплыў на развіццё архітэктуры. Ранейшая вялікая царква, пабудаваная Карлам Вялікім у Аахене, была візантыйскага тыпу, як і ў Равэне, і шматлікія старажытныя цэрквы ўздоўж Рэйна таксама выяўляюць візантыйскія асаблівасьці ў купале. І гэта працягвалася на Захадзе да XI стагоддзя, таму што храм сьвятога Марка ў Венецыі, маючы моцны адбітак таго ж усходняга стылю, быў пабудаваны ўжо паміж 977 і 1071 гадамі. Але ў агульным царкоўная архітэктура ў Італіі пасьля X стагоддзя была ўжо рымскай, і ў ёй захоўваўся план базілікі. Ды і іншыя заходнія дзяржавы пачынаючы з XI стагоддзя працягвалі падтрымліваць стыль рымскага мастацтва, хаця ўжо мелі і свае ўласныя рысы.

Можна думаць, што мастацтва афарбоўкі і размалёўвання шкла, якое пазьней набыло вялікае ўжыванне ў справе ўпрыгожвання цэркваў, было вынайдзена

---

325 Radulf Glaber, III, 7.

326 Besant and Palmer, Jërusalem, 1872 г., а таксама Джэмс Робертсан„ Гісторыя Хрысьціянскай царквы, пераклад Лапухіна, I, 1036.

таксама каля XI стагоддзя, хаця дакладны час і невядомы. Магчыма самае ранняе паведамленне пра гэта знаходзіцца ў гісторыі Рыма, дзе гаворыцца, што каля заканчэння X стагоддзя арцыбіскуп рэймскі Адальберт упрыгожыў свой саборны храм вокнамі, «змяшчаючымі розныя гісторыі».

Ад XI ж стагоддзя мы маем першыя праўдзівыя паведамленні пра адлучэнне і анафему, для ўзмацнення баязні якіх на дапамогу заклікалася і грамадзянская ўлада, дадаваўшая да царкоўных пакаранняў і грамадзянскія. Пад адлучэннем на захадзе Яўропы разумелася пазбаўленне пераваг, даючыхся царквой, а анафема аддавала грэшніка праклёну[327].

Павійскі сабор 850 года пастанавіў, што адлучаная асоба павінна быць пазбаўлена права займаць якую б то ні было пасаду ў дзяржаве і павінна быць пазбаўлена якіх бы то ні было стасункаў з хрысьціянамі. Анафема ж накладала на чалавека яшчэ далейшыя пакаранні: той, супраць каго яна вымаўлялася, не меў права перадаваць спадчыну, не мог звяртацца за абаронай да свецкіх судоў, таму што ён не дапускаўся да прысягі. Ніводзін сьвятар не меў права блаславіць адружанне такога чалавека, яму адмаўлялася ва ўсіх таемствах, і ён пазбаўляўся права быць пахаваным згодна з хрысціянскім звычем[328]. Формулы праклёну рабіліся больш распрацаванымі, і ў якасьці доказу таго, якое ўражанне яны выраблялі на зведаўшых іх людзей, перадаваліся апавяданні, што некаторыя з іх пасьля анафемы раптам памipалі ці чэзлі пад пакутамі доўгай і безнадзейнай хваробы.

Так было на захадзе Яўропы...

А штое ж было на Ўсходзе?

Відаць, крытычная думка там яшчэ драмала, з нагоды чаго ні анафематызаванне, ні інквізіцыя, не ўжываліся супраць прыватных асоб. Але і на захадзе Яўропы перыяд баязні перад анафемай не працягваўся больш чым некалькі чалавечых пакаленняў.

Імператары і каралі, графы і герцагі Германіі былі дастаткова моцнымі для таго, каб знайсьці сабе абаронцаў нават і пад прысудам. Нягледзячы на ўсе царкоўныя намаганні, яны прымушалі сваіх капеланаў служыць пры сабе абедні і займалі сваё грамадзянскае становішча як і раней, хаця і былі адлучаны ад царквы. Каб уціхамірыць такіх магутных грэшнікаў, Заходняя царква ўвяла інтэрдыкт, згодна з якім цэлая акруга ці каралеўства падпадалі пад адлучэнне за сваіх нязгодлівых валадароў. Там зачыняліся цэрквы, замаўкалі званы, і народ пазбаўляўся усіх рэлігійных адпраўленняў. Самым раннім вядомым прыкладам выканання такога прысуду ў рэчаіснасьці быў інтэрдыкт пры Алдуіне, біскупе ліможскім, у 994 г.

Так артадаксальная хрысьціянская царква пачала аджываць свой век, але павінна было прайсьці яшчэ больш чатырох стагоддзяў да таго часу, калі пачалася рэфармацыя.

# Глава VI

[327] Падобным жа чынам тлумачыць абедзьве формы адзін ліст шпейерскага грамадзяніна да Кёльнскага архібіскупа Герберта, дапасуемага да 1000 года нашай эры.
[328] «Conclavium Regioticinum», з. XII.

# Рэчаісныя і прывідныя метамарфозы хрысьціянскага храма і набажэнства.

Сьледам за шырокім пашырэннем евангельскага хрысьціянства ў Яўропе напярэдадні крыжовых паходаў натуральна сьледам наступіла і павелічэнне вонкавага бляску царквы ва ўсім маючым дачыненне да спраўлення яе набажэнстваў. Храмы будаваліся і ўпрыгожваліся з вялікімі выдаткамі, сьвятары апраналіся ў пышныя ўборы, і было выпрацавана шмат новых звычаяў і цырымоній. Але масы народа былі далучаны да хрысьціянства іхнымі царамі без ідэалагічнага тлумачэння новага веравызнання, так што розумы насельніцтва па-ранейшаму цалкам былі прасякнуты паганскімі разуменнямі. Служкі новага культу спрабавалі схіліць да сябе народ сцэнічнымі цырымоніямі свайго набажэнства, чаму і на царкоўныя звычаі вернікі глядзелі як і на іншыя тэатральныя пастановы. Павучанні слухаліся як прамовы выступоўцаў, красамоўныя прапаведнікі ўзнагароджваліся як і акторы, апладысментамі, тупатам ног, маханнем хустак і ўхваляючымі крыкамі. Нешматлікіх асабіста чытаўшых евангелле хрысьціянаў гэта абурала, але, не маючы магчымасьці палемізаваць непасрэдна, яны пісалі свае пярэчанні ад імя старажытных аўтараў. Так, напрыклад, нехта (адпаведна са складам – аўтар Эпохі Адраджэння) жаліцца ад імя пабожнага Ераніма на ўсё толькі-што павядомленае. Ён ганіць «пышнасць, праяўляюмую ў цэрквах (як быццам бы пад час ранейшых часоў), асуджае іхныя мармуровыя сьцены і слупы, іхныя пазалочаныя столі, іхныя ахвярнікі, упрыгожаныя каштоўнасьцямі» і супрацьстаўляе гэтую пышнасць неразборлівасьці пры абранні служачых там асоб, з абурэннем аспрэчваючы доказы служак культу, якія з дапамогай старазапаветных традыцый баранілі каштоўнасць ўпрыгожванняў у хрысьціянскіх цэрквах.

Такое перасоўванне існуючага ў даўно мінулае, вядома, служыла вельмі ўдалым захадам супраць інквізіцыі, тым больш, што напачатку Эпохі Адраджэння, напэўна, яшчэ памяталася першапачатковая гісторыя хрысьціянскіх храмаў. Я ужо не раз коратка акрэсліваў яе, але паўтараю і тут.

Сама аднолькавасць лацінскай назвы цырк і царква (circus)[329] паказвае нам, што абедзьве гэтыя ўстановы спачатку былі адным і тым жа, і, дзякуючы адсутнасьці даху яны прызначаліся для пастаноў пад адрытым небам.

Тып накрытых хрысьціянскіх цэркваў, базылік, з'явіўся ўжо пад час сярэдневечча, і гэта былі прадаўгаватыя будынкі адрынавага тыпу, якія мы і бачым у класічных храмах Грэцыі і Ягіпта. Дзеля трываласьці яны звычайна падзяляліся двума шэрагамі слупоў на сярэднюю частку і два ніжэйшыя прыдзелы. На іхным аддаленым ускрайку ладзілася месца, адпавядаючае падмосткам і меўшае назву па-грэцку *віма*, а на-лаціне *трыбуна*. Яно адрознівалася ад астатняга памяшкання ўзвышэннем сваёй падлогі, заканчваўшайся напаловукруглым уступам, меўшым назву *абцыс*. Частка будынка перад трыбунай ужывалася і ў якасьці простай

---

[329] Царква ў сэнсе храма мела назву «цырк», а ў абстрактным сэнсе – як калектыў людзей, яна на-грэка-лаціне мела назву ecclesia, ад грэцкага ἑκκάλεω – склікаю, і азначала проста «сход». А па грэка-жыдоўску яна звалася сінагогай ад συνάγω – збіраю – з тым жа значэннем сходу (з якой заўгодна мэтай). Большая частка не ведаючых грэцкую мову і не падазраюць, што сінагога не жыдоўскае, а грэцкае слова, як і сінедрыён па-грэцку азначае якая заўгодна «рада» (ад συνεδρεύω – разам засядаю). Што можа быць лепшым доказам маёй высновы, што і Кастусь Сьвяты, і Васіль Вялікі, і Юстыніян Заканадавец збіраліся няйнакш як у сваіх «сінагогах», судзілі правініўшыхся ў сваіх «сінедрыёнах», а богаслужылі ў сваіх «цырках»?

біржы, а на трыбуну ставіўся і трыбунал суддзі з ахвярнікам перад ім[330]. Такое размяшчэнне грамадзкага сходу аднолькава лёгка было прыстасаваць і для набажэнства, і для розных грамадзкіх мэт. А дах быў з двума схіламі для сцёку вады пры дажджу, як у нашых адрынах.

Потым у Цар-Горадзе пачала ўжывацца новая форма царкоўнай архітэктуры, галоўнай асаблівасьцю якой быў крыжападобны выгляд і купал (мал. 109), ўзвышаючыся над сярэдняй часткай падобна скляпенню неба. Гэты стыль у больш позьнія часы не толькі пачаў пераважаць у грэцкай царкве, уключаючы і славянскія краіны, але быў уведзены і ў Равэне, а пад уплывам равэнскіх узораў быў пашыраны і на іншыя краіны заходняй Яўропы. Бяручы да ўвагі цяжкасць пабудавання купалаў такі храм мог быць пабудаваны толькі пры Кастусю XII (1445-1453), а ніяк не пры Кастусю I. Пра гэта ж сведчыць і характар малярства, адпавядаючы Эпосе Рэнесансу (мал. 110).

Такой была ракавіна смаўжа, але і яна не засталася ў спакоі.

«*Насуперак звычаю, пашырыўшамуся пазьней*, – выказваецца Джэмс Робертсан, – *старажытныя цэрквы жыўшых у ёй, будаваліся ўваходам на ўсход*».

[330] Джэмс Робертсан, Гісторыя Хрысьціянскай царквы. Пераклад А. П, Лапухіна. 1890. Стар. 325.



Мал. 109.
Мячэць Кахрыэ-Джамі (былая хрысьціянская царква. (Гнедзіч, Г, 384.))



Мал. 110.
Хрысьціянская мазаіка ў мячэці Кахрыэ-Джэмі ў Цар-Горадзе.

З выгляду гэта не важна, а ў рэчаіснасьці красамоўна. Цалкам зразумела, што такі паварот усяго будынка задам наперад мог адбыцца толькі ў момант рэзкага пераіначвання ідэалогіі хрысьціянскай царквы, і таму можна сказаць з упэўненасьцю, што гэта было не раней сабора 787 года, калі ўсталявалі абразашанаванне пасьля ідалазмагальніцства. А магчыма, што тады ж і пачатак сутак перанеслі з вечара на раніцу ў сувязі са скасаваннем вэрхалаў.

Самая блізкая да ўваходу частка (меўшая назву прытвор) была адкрыта для ўсіх прыходзячых. Яна аддзялялася «прыгожай брамай» ад сярэдняй часткі, у якой размяшчаліся «вернікі», а ў задняй частцы, на месцы адпавядаючаму таму, што ў грамадзянскіх базыліках прызначалася для адвакатуры, размяшчаўся клірас сьпевакоў, крыху ўзвышаўшыся над узроўнем падлогі і аддзелены асобнымі кратамі ад сьвяцілішча. Жанчыны зараз сядзелі асобна ад мужчын, часам у зачыненых галярэях, асабліва ва ўсходніх краінах[331], і царква звычайна атачалася дваром, змяшчаўшым сядзібы сьвятарства і іншыя будынкі, сярод якіх у саборах была хрысьцільня.

Для ўпрыгожвання царквы з пашырэннем кола вернікаў, выкарыстоўваліся з ранніх гадоў малярства і скульптура. Напачатку сярэдневечча звычайна маляваліся выявы са Старога запавету, але гісторыкі тлумачаць гэта не тым, што тады яшчэ не было евангелляў, а тым, што, быццам бы, гэта рабілася ў якасьці «іншапазначаючых выяваў евангельскіх падзей». Так, выяву вады, выбіваемай са скалы Майсеем, пачалі тлумачыць (хаця гэта і смешна) знакам хрышчэння; Майсей, прыносячы манну з неба, быццам бы, азначаў эўхарыстыю, а ахвяра Ісака, быццам бы, папярэднічала ўкрыжаванню[332]. Усе сьцены цэркваў былі пакрыты выявамі із Бібліі, а заможныя асобы ўпрыгожвалі падобнымі выявамі сваё адзенне. Апакрыфічны Пабожны Аўгустын сведчыць, што ў яго час было шмат

[331] Augustin, «De Civitate Dei», II, 28.
[332] «De Moribus Ecclesiae Catholicae», I, 34.

«прыхільнікаў такіх выяваў». А выявы Хрыста ці яго ўкрыжавання і пакут зрабіліся вядомымі толькі пад час сярэдневечча.

Стварэнне хрысьціянскай літургіі злучаюць з імем «Вялікага цара» (Васіля) на Ўсходзе і з імем «Ежы несьмяротных» (Амброса) на Захадзе, хаця нават і згодна з Пальмерам да іхных твораў прылічваецца шмат чаго, што належыць ужо больш позьняму часу. Гімны ці псалмы Амброса зрабіліся ўзорамі падобных твораў у заходняй царкве і, з нагоды іхнай агульнай назвы «Амбросавы стыль», шматлікія больш позьнія п'есы няправільна былі прыпісаны яму.

З нашага ж боку гледжання як «Вялікі цар», так і «Ежа несьмяротных» – толькі дзьве розныя легенды пра аднаго і таго ж заснавальніка першапачатковай хрысьціянскай літургіі, у містыку якой уваходзіла таемства прычашчэння. Адпаведна ж з самім вызначэннем класікаў Ежа несьмяротных; (амврозія) – у спалучэнні з нектарам давала людзям неўміручасць, як і спяваецца пры выкананні звычая: «цела Хрыстова прыміце, крыніцу неўміручасьці спазнаеце!» І цікавым выглядае супадзенне: для жыцця Амброса даецца час 340-397 гады, а для жыцця «Вялікага цара» 329-379 гады, г.азн. адрожненне ў межах недакладнасьці нашых сведчанняў пра той аддалены час. Абодва змагаліся з арыянамі, як евангельскі Хрыстос з фарысеямі, абодва заснавалі праваслаўную літургію, але тым часам як месцам дзейнасьці «Вялікага цара» (Васіля) грэкі лічаць нейкі Цар-Горад (Цэзарэя-Кесарыя), нам паказваюць для з'яўлення «Ежы несьмяротных» (Амброса) – Мілан. Ці не з’яўляеца гэта вынікам звычая нашых продкаў перацягваць славутасьці да сябе? Дакладна так жа і скасаванне на Захадзе падзелу першапачатковай літургіі на літургію абвешчаных і літургію верных не магло адбыцца без агульнага дэкрэта. Яно зараз тлумачыцца тым, што ў V стагоддзі на Захадзе гэты падзел на два рангі стаў непатрэбным з нагоды агульнага пашырэння хрысьціянства. Але чаму ж яно існуе да гэтага часу на Ўсходзе? Відавочна перамена адбылася ўжо пасьля падзелу цэркваў.

Для хрышчэння пад час сярэдневечча былі распрацаваны новыя звычаі, і паміж імі памазанне «ялеем» у якасьці пазнакі таго, што ахрышчваемыя рабіліся «царамі і сьвятарамі бога»[333]. Сьвята Багаз'яўлення зрабілася самым звычайным часам хрышчэння і распаўсюдзілася як у Афрыку, так і ў краінах заходняй Яўропы. Потым гішпанскія біскупы пачалі хрысціць і на сьвята Каляд, і пры сьвяткаванні розных сьвятых. Але гэта сустракала цяжкасьці, і нехта апакрыфічна склаў нават дэкрэтальны ліст да Гімерыя (псеўда 385 г.), паказваючы на гэты звычай як на адвольны і патрабуючы, каб хрышчэнне не здзяйснялася інакш як пад час Вялікадня і сьвята Тройцы. Але гэтае абмежаванне закранала матэрыяльныя інтарэсы служак культу і таму не прыжылося. Хрысьціянскія «Шанавальныя вечарыны» (Агапы)[334], замяніўшыя сабой, – кажуць нам, – паганскія памінкі продкаў ці «агульныя парадненні» (parentalia), здзяйсняліся ў IV стагоддзі (Робертсан, I, 329) з такой непрыстойнасьцю, што біскупы і саборы на працягу апошняй часткі гэтага стагоддзя, напэўна, нават лічачы грунтуючыся на эрэ Дыяклетыяна з 284 года, намагаліся скасаваць іх[335]. Але агапы так укараніліся, што скасаванне іх было справай не із лёгкім. Так, напрыклад, 3-і карфагенскі сабор у 397 годзе (той жа эры, г.азн. у 681 годзе) не адважыўся забараняць іх, а толькі

---

333 Апакаліпсіс, 1 9; 1 Ліст Пятра, II, 5, 9.

334 Агапы, г.азн. ласкі, ад грэцкага ἀγαπάω (агапао) – кахаю-лашчуся; для братэрскай жа павагі ўжываецца слова φιλία (філіа) – шанаванне-сяброўства, адкуль у нас філантрапія, філасофія і г.д.

335 Conclavum Laodiceae 372 г, (?), з. 28. Пра агапы ёсць у Suicer'а пад словам ἀγάπη.

спрабаваў палепшыць, наколькі гэта было магчыма, і сведчанні пра іхнае існаванне сустракаюцца і пазьней.

Звычай шанавання хрысьціянскай суботы слабеў пад час сярэдневечча, і Лаадыкійскі канон лічыць забарону працы ў гэты дзень прыкметай юдэйства.

Вялікдзень паўсюль выконваўся ў нядзельны дзень, але вылічэнні яго часу адрозніваліся ў розных цэрквах часам на месяц ці нават больш. Толькі пачынаючы з VI стагоддзя сучаснае александрыйскае вылічэнне было прынята ў Рыме.

Поўная адсутнаць хрысьціянства на працягу першых трох стагоддзяў пасьля пачатку нашай эры даводзіцца і тым, што сьвяты нараджэння Хрыстова і найбольш знакамітых сьвятых, як напрыклад Пятра і Паўла, Яна Хрышчэльніка і Стэфана, з'явіліся толькі ў IV-VI стагоддзях, ды і то, магчыма, грунтуючыся на эры Дыяклетыяна.

Потым было знойдзена шмат парэшткаў, у тым ліку і прарока Самуіла і нават патрыярха Ёсіфа. Тады сьвятыя самі з'яўляліся ў бачаннях і паведамлялі людзям месца свайго пахавання. Ад іхных трупаў рабілмся цуды, з'явіліся зарабляўшыя на іх і каб перашкодзіць ім, Хвядос у 386 годзе, – кажуць нам, – пастанавіў, што ніхто не мае права гандляваць целамі пакутнікаў. З'явіліся паломніцтвы да сьвятых месцаў, якія, адпаведна са ведчаннем Рыгора Нэскага, асабліва былі прывабнымі для жанчын, таму што яны не маглі здзяйсняць іх без суправадэння мужчын і пастаянна стасаваліся з імі на заезных дварах.

Новыя і большай часткай дзівацкія ідэі і звычаі, зацверджаныя ў царкве (адпаведна з нашымі высновамі не раней XI стагоддзя), выклікалі, нарэшце, здзекі з боку вальнадумцаў, якія, не адважваючыся выказвацца ад свайго імя і нават ад чужога ў абарону цьвярозага розуму, рабілі гэта ў выглядзе палемікі таго ці іншага сьвятога з уяўляемым ерэтыком. Асабліва яны паважалі прыкрывацца ўжо згаданымі намі пабожнымі Еранімам і Аўгустынам, з нагоды чаго і з'явілася ў IV і V стагоддзях шмат ерэтыкоў, прыдуманых спецыяльна для здзеквання над тэолагамі Эпохі Адраджэння ці дзеля давядзення таго, што можна прыдумаць нешта лепшае, чым існаваўшая тады тэалогія, хаця на выгляд атрымлівался, быццам бы сьвяты сароміў ерэтыка даўніх часоў.

Вось, для прыкладу два ўзоры – адзін із Аўгустына, другі з Амброса.

«*Сярод заходніх супернікаў новай царквы*, – выказваецца Аўгустын, – *быў рымскі манах Явініян, які пачаў* (быццам бы, яшчэ каля 388 года) *адмаўляць заўсёдную цнатлівасць маці Хрыста і вучыў, што калі адружаныя і неадружаныя асобы роўныя ў іншых дачыненнях, то яны роўныя таксама і ў маральным дачыненні. Яго думкі,* – выказваецца аўтар, відавочна падзяляючы іх таксама, *– знаходзілі спрыяльную глебу ў Рыме, дзе ён набыў шматлікіх прыхільнікаў і перakанаў адружыцца шматлікіх асоб абодвух стацей, прыняўшых перад тым неадружанае жыццё».* Перakанаўча распрацаваўшы яго меркаванні апакрыфіст ад імя Ераніма сароміць Явініяна – чым бы вы думалі? Простым пытаннем: «А чаму ж ты, Явініян, сам не адружыўся?»[336]

Дзеля ўнікнення свайго артыкула ад інквізіцыйнага вогнішча гэтага жарту было дастаткова... але ці дастаткова для доказу пра заўсёдную цнатлівасць панны Марылі?

А вось – другі прыклад ад імя Амброса.

[336] Augustin, «De Haeres», 72. Еранім называе Явініяна Эпікурам, вінавацiць у тым, што ён перамяніў манаскую строгасць на жыццё ў раскошы, і малюе смешную выяву яго блішчачага, прыбранага і вясёлага знешняга выгляду. Ён пытае яго: «Калі ты лічыш адружанне аднолькава добрым з недружаннем, то чаму ты не адружыўся?» (Adversus Jovinian., I, 40.)

«*Вігілянцый*, (г.азн. Пільны), *сын гаспадара гасьцініцы ў Калагуры* (зараз Гура, на французкім боку Пірэнеяў), *вінаваціў*, – выказваецца Амброс, – *самога Ераніма ў арыгеніцсве, жадаў скасавання ўсіх начных няспанняў, выключаючы велікоднае, і выказваўся пра іх, як даючых нагоду для вялікіх непрыстойнасьцей. Ён таксама адмаўляў карысць паста, устрымання і манаства, лічыў зарок цнатлівасьці крыніцай маральнага псавання, вучыў, што лепш мець уласнасць і паступова выкарыстоўваць яе на набожныя і дабрачынныя мэты, чым адразу ахвяраваць усё, і што лепш здзяйсняць справы дабрачыннасьці седзячы дома, чым пасылаць грошы ў Ерусалім*».

Усё гэта выкладзена ўяўляемым Амбросам вельмі добра. А як жа аспрэчвае гэта Еранім? Простай лаянкай. Нагадаўшы Вігілянцыю, што ён некалі быў служкай у гасьцініцы, пабожны паведамляе, што ён і зараз выкарыстоўвае да сьвятога пісання тыя ж спосабы падробкі, якімі карыстаўся, падаючы гасьцям дрэннае віно, і робіць тыя ж падманы, якія ён рабіў пры размене грошай.

«*Ты паўстаеш супраць паста і ўстрымання толькі таму, што гэта наносіць шкоду твайму ранейшаму занятку*».

Зноў, чытач, пярэчанне цалкам дастатковае, каб абараніць кнігу і аўтара ад спалення, а ў сэнсе сапраўднага аспрэчання «Пільнага» яно ні на што не прыдатнае.

Падобныя ж спрэчкі мы чытаем і з іншымі «ерэтыкамі першых стагоддзяў». Па ўсяму бачна, што аўтарамі гэтых твораў былі першыя пратэстанты Эпохі Адраджэння.

Ніякіх такіх «ілжэнастаўнікаў» не магло існаваць да таго часу, але спосаб пісаць апокрыфамі прывёў да таго, што ў гісторыкаў царквы, мала здольных да крытычнага мышлення, цалкам пацямнела ў галовах, і яны палічылі хітрыкі вальнадумцаў за чыстую гістарычную праўду.

# Глава VII

## Пашырэнне евангельскага хрысьціянства сярод «мос-арабаў» Гішпаніі на прыканцы IX стагоддзя Яўлогіем і Пятром Аміенскім.

Хрысьціяне Гішпаніі ў IX стагоддзі былі вядомы пад найменне муст-арабы ці мос-арабы[337] і жылі ў сяброўскіх дачыненнях з агаранамі. Шмат хто із іх служылі пры каліфах, а іхныя манастэрыёнцы і сьвятарства, ведаўшыя як арабскую, так і лацінскую мовы, выкарыстоўваліся ў дыпламатычных стасунках.

Калі адбывалася адружанне паміж асобамі, вызнаючымі дзьве рэлігіі, то кожны чалавек заставаўся пры сваёй, а пытанні, натуральна ўзнікаўшыя тут у дачыненні да рэлігіі дзяцей, вялі да цяжкасьцей.

Але вось, у IX стагоддзі, пры пашырэнні евангелляў, з'явілася секта хрысьціянаў, якая лічыла такое сваё яднанне з агаранамі нязручным. Яе сябры прыйшлі да высновы, што пасаду пры агаранскім двары немагчыма займаць без непрыстойных для хрысьціянаў саступак, таму што тыя, хто займаў такія пасады, быў абавязаны ўстрымлімвацца ад адкрытага знаменавання сябе крыжом і засьцерагацца выказвацца пра дзьве існасьці Хрыста, каб не абуджаць сьмех.

---

[337] Гэтае слова складалі із mixti arabibus, а таксама instituti arabes, але абодва словавырабленні з'яўляюцца занадта нацягнутымі і тэндэнцыйнымі. Хутчэй гэта азначае майсеевы-арабы (Mus'arabi), г.азн. першапачатковыя месіянцы да-евангельскага напрамку.

Сьвятары хрысьціянаў жаліліся, што іхнае юнацтва аддае перавагу халдэйскай літаратуры перад царкоўнай і больш знаёма з арабскай мовай, чым з лацінскай.

Каля сярэдзіны IX стагоддзя, – кажуць нам, – у Кардове, пад час валадарання Абдарахмана II пачаўся перасьлед евангельскіх хрысьціянаў, але ўсе яго падрабязнасьці носяць характар апокрыфаў, таму што ў гэты час яшчэ не існавала легендаў пра Магамета[338], а дакументы нам ужо паведамляюць пра яго. Першым пакутнікам за Хрыста тут, – кажуць нам, – быў манах, на імя Дасканалы (Перфект). Сустрэўшыся аднойчы з некалькімі агаранамі ў наваколлі горада, ён патрапіў у цяжкае становішча. Яго, быццам бы, запыталі, што ён думае пра Магамета. Ён паспрабаваў спачатку ўхіліцца ад адказу, таму што не меў жадання абражаць іх. Але яны працягвалі настойваць і запэўнівалі яго, што яны не будуць лічыць за абразу яго адказ і вось ён ім адказаў, што хрысьціяне глядзяць на Магамета як на аднаго із ілжывых пракокаў, пра якіх прадказана ў Пісанні і заўважыў, што некаторыя часткі яго гісторыі вельмі скандальныя і даводзяць памылковасць яго дамаганняў.

Агаране з нагоды дадзенага імі абяцання часова задушылі свой гнеў, але калі юнак з'явіўся сярод народа ён быў схоплены, прыцягнены да суддзі па абвінавачванню ў блюзьнерстве супраць прарока і пакараны сьмерцю. Наступнай, – паведамляюць нам каталікі, – ахвярай быў адзін купец, які нават і не даваў ніякай падставы да перасьледу, а трэцці, малады манах, на імя Ісак, сам наклікаў на сябе сваю долю. Выправіўшыся да суддзі свайго горада, ён заявіў яму пра жаданне прыняць рэлігію Карана і папрасіў пра некаторае навучанне ў гэтай вучэнні. А калі Каран быў яму патлумачаны, ён пачаў з вялікім запалам выкрываць яго памылковасць, за што і быў пакараны сьмерцю.

Пакаранне сьмерцю Ісака мела наступствам незвычайную ўзрушанасць сярод хрысьціянаў. Духоўныя асобы, манахі, манастэрыёнцы, манастэрыёнкі і парафіяне натоўпамі накіроўваліся да агаранскіх трыбуналаў, бэсьцячы прарока як ашуканца, блудніка, чарадзея і заяўляючы, што яго паслядоўнікі знаходзяцца на прамым шляху да пагібелі. Акрамя тых, хто самаахвотна аддаваў сябе на сьмерць за новую веру, пад пераслед падпадалі і дзеці ад змяшаных адружанняў адпаведна з даносамі сваіх агаранскіх сваякоў, якія лічылі іх адрачэнцамі.

Але ўсе гэтыя паданні характарызуюць, аднак, толькі тую эпоху. Гэта ж быў першапачатковы пярыяд пашырэння евангелляў: евангелле Мацьвея, як мы бачылі, з'явілася толькі ў 826 годзе[339] і пераход да евангелізму не мог адбыцца без цяжкасьцей.

Прамыя выхадкі супраць евангельскіх хрысьціянаў усё ўзмацняліся. Хто із іх з'яўляўся на вуліцы, той зведваў абразы, яго закідвалі брудам ці камянямі. Агаране баяліся дакрануцца нават да самога адзення евангельскага хрысьціяніна, як да нейкай апаганьваючай рэчы.

Каліф Абд-ер-Рахман, жадаючы, па магчымасьці, суцішыць узрушанасць мірнымі сродкамі, прасіў дапамогі арцыбіскупа таледзкага Реканфрыда, выдаўшага наказ, каб ніхто із хрысьціянаў не звяртаўся да агаранскага суддзі дзеля палемікі з ім без асобнага паклікання. Але гэты наказ быў сустрэты з абурэннем больш дбайнай партыяй евангельскіх хрысьціянаў, кіруемай Саўлам, кардаўскім біскупам. Рэканфрыд заняволіў у турму аднаго таледзкага манаха-сьвятара, на імя Яўлогій, але ён і із вязніцы пісаў лісты. Ён навучаў усіх, хто мае нейкія мірскія сувязі,

[338] Гл. «Хрыстос», кн. VI.

[339] «Хрыстос», кн. І.

парваць іх разам і адважна далучыцца да новай веры ў надзеі падзяліць пазней шчасьлівае існаванне сваіх субратаў у раі.

Нарэшце, быў склікáны сабор, на якім пастанавілі, каб ніхто самаахвотна не наклікаў на сябе сьмерці сваёй рэлігіяй. Усе адбыўшыяся бедствы ён звальваў на Яўлогія і яго прыхільнікаў, прыпісваў паводзіны пакутнікаў гонару, выказаў сумневы на іхнае права звацца пакутнікамі і заявіў, што ад рукі агаранаў не можа быць ніякага пакутніцтва, таму што яны ж не балванашанавальнікі, а ўшаноўваюць таго ж адзінага, сапраўднага бога і прызнаюць яго законы[340].

Так упершыню падзяліліся агаране і хрысьціяне ў Гішпаніі ў IX стагоддзі, а раней абедзьве рэлігіі, як бачыць сам чытач, былі аднаверчымі, як у наш час два «прыходы» той жа рэлігіі.

Яўлогій і Пятро Алвар былі галоўнымі правадырамі евангельскага хрысьціянства, і абодва яны (асабліва Алвар із Кардовы) пісалі ў вельмі ўзвышаным тоне. Яўлогій нават аспрэчвае адрозненне праводзімае паміж паганцамі і агаранамі, кажучы, што агаране не менш за паганцаў адмаўляюць сына боскага і пераследуюць верачых у яго. Алвар, на падставе прароцтваў, даводзіць, што Магамет (якога тады яшчэ не было!) з’яўляецца папярэднікам антыхрыста, не дапускае ніякага адхілення ад заяўлення хрысьціянамі свайго спавядання перад няверными і патрабуе, каб хрысьціяне паўсюль паведамлялі агаранам праўду сваёй веры, не із павагі да іх, а з мэтай зрабіць іхную няверу невыбачаемай.

Із гэтага мы бачым, што калі ад гэтага часу і пачалася варожасць паміж агаранамі і евангельскімі хрысьціянамі, то вінаватымі былі ў ёй самі хрысьціяне сваёй надакучлівасьцю.

Абдэрахману ўспадкаваў у 852 годзе яго сын Славуты (Магамет), які ў першы ж дзень свайго валадарання звольніў усіх евангельскіх хрысьціянаў, займаўшых пасады пры яго двары ці наогул на дзяржаўнай службе. Ён загадаў, каб усе «нядаўна пабудаваныя цэрквы» хрысьціянаў былі разбураны, і забараніў якую б то ні было звычаёвасць ці начыненне ў старых цэрквах. Яўлогій, абраны на таледзкую катэдру, быў арыштаваны ў 859 годзе за спрыянне адной маладой навадалучанай хрысьціянцы Леакрыціі збягання ад сваіх бацькоў, якія былі агаранамі, і пакараны сьмерцю. Але ўсе гэтыя перасьледы агаранаў на хрысьціянаў, – відаць адна са шматлікіх багаслоўскіх казак, таму што адзін нямецкі абат, вандраваўшы па Кардове ў 954 годзе, у якасьці пасланніка, сведчыць, **што евангельскія хрысьціяне мірна жылі з агаранамі і нават здзяйснялі звычай абразання**[341].

У выніку ўсяго гэтага мы бачым, што першыя непаразуменні паміж агаранамі і евангельскімі хрысьціянамі пачаліся не на Ўсходзе, а ў Гішпаніі. Ды і то пасьля 954 года.

# Глава VIII

## Калі спынілася распуста ў манастэрыёнах? Місіянеры X і XI стагоддзяў. Узнікненне рэлігійнай нецярпімасьці, як першы вынік усталявання дзяржаўнага адзінабожжа.

[340] Hadruin, V 37-38 і Baronius, 852, 10.
[341] «Vita Ioannis abbati Gorizensis», c.c. 123-124 (Peztz, IV).

**Царкоўныя апакрыфісты часу крыжовых паходаў і наступных за імі гадоў, дзеля самаапраўдання перарабіўшы пераследы сваімі ўласнымі папярэднікамі іншаверцаў у пераследы іншаверцаў на іх, да такой ступені трывала замацавалі ў наступных пакаленнях патрэбныя сабе небыліцы, што яны патрапілі нават і ў сьвецкія гісторыі**. Толькі на прыканцы XIX стагоддзя ўпершыню пачала звяртацца ўвага на этнапсіхалагічную недарэчнасць клерыкальных апавяданняў пра пераследы **шматбожнікамі** хрысьціянаў. Да сваіх шматлікіх багоў паганцы заўсёды ахвотна дадавалі нават і не аднаго новага бога. У іх не было ніякай падставы сердаваць, калі ім паведамлялі, што ў бога-бацькі нарадзіўся яшчэ новы сын пад час валадарання Актавіяна Аўгуста. Атачаючыя ж людзі віншуюць кожнае, нават і не вельмі высокае сямейства, з нараджэннем новага дзіцяці, а не лаюць яго. Дык грунтуючыся ж на чым, напрыклад, шматбожніку Нярону заманулася, яшчэ да з'яўлення Апакаліпсіса (дзе ўпершыню з'явіліся гнеўныя словы на зямных пароў, варожых паляцеўшаму на неба цару-памазанцу), спальваць на вогнішчах людзей вітаўшых Зеўса-Грамабоя з прырашчэннем яго сямейства? Здавалася б, Нярон павінен быў бы першым пабудаваць ахвярнік Хрысту!

Але лагічных і псіхалагічных недарэчнасьцей так шмат у старажытнай гісторыі з боку гледжання яе звычайнай храналогіі, што прывесьці яе ў прыродазнаўча-навуковы выгляд, г.азн. высьветліць падстававасць паслядоўных падзей, можна, толькі ўсталяваўшы іншую храналогію, як гэта робім тут мы.

Толькі пасьля з’яўлення Апакаліпсіса 30 верасня 395 юліянскага года з яго грымотамі на зямных цароў мог пачацца натуральны адпор з іхнага боку і маглі дэкрэтавацца іхныя карніцкія захады супраць «бунтуючых апакаліптычных фанатыкаў». Але гэтыя пустынікі, як я ўжо паказаў раней, не мелі нічога агульнага з манастэрыёнцамі, г.азн. з супольнымі рэлігійнікамі, як іх тады і звалі (religiosi, а не monachi[342]).

Нам кажуць, што нават у X стагоддзі кляштары ў Англіі былі запоўнены адружанымі рэлігіёзнікамі, сярод якіх панавалі чыста мірскія інтарэсы. «Кляштарскага» жыцця, у навейшым сэнсе гэтага слова, яшчэ не існавала і ангельцы, жадаўшыя весьці замкнёнае жыццё, выдаляліся ў адасобленыя месцы, ці ішлі ў чужацкія аднастацевыя манастэрыёны, сярод якіх найбольш паважаемым сховішчам быў манастэрыён Флёры, на Луары, ператвораны ў аднастацевы толькі Одынам клюнійскім[343]. Такой была рэчаіснасць, калі на Вялікабрытанскіх выспах пачалася пераўтваральніцкая дзейнасць Дунстана.

«Дунстан, – паведамляюць нам, – нарадзіўся каля 925 года ад шляхетных бацькоў у наваколлі Гладстанберы, прайшоў усю вучонасць таго часу і дасягнуў незвычайнага мастацтва ў каліграфіі, малярстве, скульптуры, музыцы, механіцы і ў мастацтве металічных вырабаў, так што яго веды наклікалі на яго нават абвінавачанне ў

---

[342] Цікава параўнаць словавытворнасць. Па-ангельску кляштар зараз friary, відавочна ад французкага frere – брат, і азначае – братэрства, таксама convent – сход, потым cloister – месца заняволення, а першапачаткова monastery – месца назірання за зоркамі. Па-французку ён зараз le convent – сховішча, ад couver – сядзець на яйках, хавацца, таксама cloitre – пустыніцтва, а першапачаткова mon-asler – месца назірання зорак. Па-нямецку ён kloster – ад таго ж кораня, па-італійску convento – сход і mon-astro – месца назірання зорак. Манах да гэтага часу па-французку мае назву le religion і le moine, па-ангельску religius і friar (субрат). Па-нямецку таксама маем назвы Ordensman (Ордэнскі чалавек) і Mönk. Усе гэтыя адрозненні найменняў паказваюць на вялікія метамарфозы адбыўшыяся ў манастэрыянстве.

[343] Джэмс Робертсан, I, 95.

чарадзействе. Ён пабудаваў шыкоўнае абацтва ў сваім горадзе, якое насяліў бенедыктынскімі манахамі, і дасягнуў высокага сану і магутнага ўплыву ў дзяржаве. Ад вялікага рымскага пантыфекса Яна XII ён атрымаў рымскую тогу і з дазвалення яго і караля пачаў пераўтварэнні ў асяроддзі сьвятарства».

Адружанае сьвятарства, дзе толькі было магчыма, скасоўвалася ім, і ўсе вышэйшыя пасады аддаваліся выключна неадружаным, прывозіўшымся із Флёры і іншых іншаземных кляштароў, каб служыць для ангельцаў прыкладам сапраўднага рэлігійнага жыцця.

Вінчэстарскія канонікі, адпаведна з паведамленнямі іхнага жыццяапісальніка Этэльвольда, былі ў той час аддадзены раскошы і распуцтву і, не задавальняючыся правільным адружаным жыццём, яшчэ мелі права замяняць сваіх жонак па жаданню. Але ўсё на сьвеце мае сваё заканчэнне і гэты, відавочна, першапачатковы і вельмі старажытны прывілей сьвятарства ўсіх культаў, нарэшце, знайшоў сабе праціўнікаў у X стагоддзі нашай эры ў Заходняй Яўропе. Адзін біскуп, маючы асобныя паўнамоцствы ад вялікага рымскага пантыфекса Яна XIII (965-972), запатрабаваў ад «рэлігіёзнікаў» з'явіцца да яго і да асобнага ўпаўнаважанага ад караля. Кінуўшы на падлогу некалькі манаскіх клабукоў, ён запатрабаваў ад сабраўшыхся клерыкалаў надзець іх, ці адмовіцца ад сваіх пасад. Толькі трое із іх пагадзіліся на гэта, а астатнія аддалі перавагу жыццю як іхныя бацькі і дзяды з жонкамі, за што і былі вызвалены ад царкоўных пасад, нават з пенсіямі[344] із царкоўнай уласнасьці, і заменены манахамі.

Аднак, пры наступным жа каралю, Эдуарду-Пакутніку, наступіла рэакцыя. Некаторыя вяльможы прагналі ўсіх манахаў пасяліўшыхся ў манастэрыёнах размешчаных на іхных землях і зноў пасялілі ў іх рэлігіёзнікаў з жонкамі і дзецьмі. Для абмеркавання гэтага супраціўлення былі скліканы саборы. На першым жа із іх у Вінчэстэры Дунстан здабыў бліскучую перамогу з дапамогай Укрыжавання, якое ў яго руках асабіста вымавіла словы, забараняўшыя адружанне рлігіёзнікам, прывёўшы ў стан трапятання ўсіх сабраўшыхся. Пазнейшыя тэолагі патлумачылі такую гаманлівасць крыжа чэрававяшчаннем яго носьбіта.

А далей атрымалася яшчэ горш.

У Кёльне, дзе справа адружанага сьвятарства была красамоўна абаронена адным шатландзкім ці ірландзкім біскупам, на імя Беарнгельм, Дунстан урачыста заявіў сходу, што ён даручае справу на вырашэнне самому богу. І вось, у памяшканні, дзе засядаў сабор, неадкладна правалілася падлога, пры гэтым некаторыя яго супернікі былі забіты, і шмат хто цяжка паранены. А сам Дунстан і атачаўшыя яго прыхільнікі выратаваліся на бэльцы, на якой яны стаялі. Зноў манашае сьвятарства часова перамагло, але і гэтая ўрачыстасць была далёка няпоўнай. За выключэннем Вустэра і Вінчэстэра больш яшчэ нідзе катэдральныя саборы не былі абезшлюблены.

На Энгэмскім саборы, у 1009 годзе, зноў было заяўлена, што шматадружанасць рэлігіёзнікам непрыстойна, што духоўныя асобы не павінны браць больш чым адну жонку адначасова, ці разводзіцца з адной, каб зараз жа браць іншую. Але і гэта падзейнічала мала. Так клерыкалы Англіі працягвалі жыць адружаным жыццём і ў XI стагоддзі, і іхныя дзеці лічыліся законнымі[345].

Царкоўная гісторыя Шатландыі на працягу таго перыяду пакрыта змрокам невядомасьці, на які жаліліся ўсе дасьледаваўшыя гэты прадмет, і пры адсутнасьці

---

[344] Джэмс Робертсан, Гісторыя хрысьціянскай царквы, I, 952.
[345] Там жа, I, 954.

праўдзівых паведамленняў яе аўтары часта паглыбляліся ў казачныя меркаванні. Нацыянальнае славалюбства ў прысваенні сваёй краіне знакамітых асоб, не абмяжоўвалася тут толькі тымі выпадкамі, у якіх двухсэнсоўны тэрмін Scottus мог даваць некаторую верагоднасць дамаганням на прыналежнасць дадзенай асобы да шатландзкага народа. Так, напрыклад, было з вядомым Філосафам Янам, найменне якога Erigena тлумачылася нават у сэнсе паходжання із горада Air'a. Так, спрабавалі давесьці, што Алкуін быў із Шатландыі, што жыццяапісальнік Карла Вялікага Эйнгарл быў таксама шатландцац, з сугучным імем Кінеард, і што Рабан Маўр быў мельрозскім манастэрыёнцам. Адзін із найбольш крытычных пісьменнікаў – Скінер[346], хаця і прызнае ангельскае паходжанне Алкуіна, усё ж уяўляе, што ў тым жа стагоддзі жыў нехта Альбін, ураджэнец Шатландыі, якому і належыць стварэнне «Каралінгскіх кніг».

Але калі ўсе гэтыя дамаганні шатландзкіх клерыкалаў на высокую ступень рэлігійнай культуры ў іхнай краіне пад час сярэдневечча вельмі сумнеўныя, то не выклікае сумневаў існаванне там адной варыяцыі рэлігіёзнікаў. Гэта былі кулдэі (ад слова культ, адсюль жа і халдэі і калдуны), у вобразе якіх некаторыя спрабавалі знайсьці прэцэдэнт для прэсвітарыянскай формы царкоўнага кіравання. Іхная назва, што азначае «служкі культу», упершыню сустракаецца ў Ірландыі і ў Шатландыі, і яны былі, сапраўды, асобным родам манастэрыёнцаў, звычайна жыўшых сумесна згуртаваннямі па дванаццаці, адпаведна лічбе знакаў Задыяка, з пробашчам на чале кожнага. Але і яны таксама адружваліся і перадавалі свае прывілеі дзецям. У шмат якіх выпадках мы бачым іх таксама дзейнічаючымі пры катэдральных саборах як, напрыклад, у арцыбіскупскай царкве Ёрка, і ў некаторых іншых месцах, як у Сэнт-Андрусе, дзе яны выказвалі дамаганні на ўдзел у абранні біскупаў. Яны трымалі пад сваім наглядам аж да XII стагоддзя шатландзкую ці ірландзкую звычаёвасць, існаваўшую ў Ёрку да часу Алкуіна, і здзяйснялі свае службы ў аддаленым куце царквы. Але нягледзячы на такія іхныя асаблівасьці, усе спрэчкі, узнікаўшыя паміж імі і біскупамі, мелі дачыненне не да нейкага непагаднення ў справе рэлігіі, а толькі да спрэчак пра матэрыяльную ўласнасць ці пра службовыя перавагі.

«Апостал славянаў» Кірыл (г.азн. Малы Гасподзь), меўшы таксама найменне Філосаф, быў родам із Фесалонік. Ён павучаў спачатку сярод хазараў (адкуль і імя Хазрой, а потым і слова гусар), жыўшых на Ўкраіне і ў Крыму каля 843 года. Нам кажуць, што яны самі запрасілі яго, таму што не ведалі, як ім ставіцца да супернікаў месіянцаў (агаранаў і хрысьціянаў). Яго намаганні на карысць хрысьціянаў сярод хазараў, – кажуць нам, – былі вельмі паспяховымі, і чутка пра яго дайшла да мараўскага караля, які папрасіў даслаць да яго Кірыла. І вось, у 863 годзе ён і Мяфодзій выправіліся ў Маравію, і нягледзячы на тое, што грэцкія і лацінскія місіянеры звычайна пашыралі сярод варварскіх народаў у якасьці царкоўнай мовы грэцкую ці лацінскую, Кірыл і Мяфодзій не толькі ў размовах з народам пачалі ўжываць славянскую, але і пераклалі на яе літургію і евангеллі, пры гэтым Кірыл прыстасаваў да славянскай пісьмовасьці копцкі алфабэт з невялікімі дадаваннямі, і гэта навіна моцна спрыяла поспеху яго місіі. Мараўскі кароль Радзіслаў прыняў хрышчэнне, яго падданыя пераняплі яго прыклад, і насельніцтва так паважна паставілася да новай рэлігіі, што ў Маравіі сьвятары пачалі звацца «князямі».

[346] Skinner, «Ecclesiastic history of Scottland». 1788.

Праз некаторы час паведамленне пра тое, што Кірыл павучае не на-лаціне, дайшло да вялікага рымскага пантыфекса Мікалая, які запатрабаваў да сябе як Кірыла так і Мяфодзія. Але яны прыбылі ў Рым ужо пасьля яго сьмерці (у 868 г.), і невядома, што было б там, калі б адкапаныя імі, быццам бы, у Херсанесе, і прывезеныя туды парэшткі сьвятога Клімента, не нарабілі там так шмат цудаў, што прававерʼе абодвух місіянераў было дастаткова даказана. Вялікі пантыфекс Адрыян задаволіў жаданне Радзіслава пра славянізацыю мараўскай царквы і прысьвяціў Мяфодзія ў мараўскія арцыбіскупы. Кірыл быў таксама пасьвечаны ў біскупы, але ўжо не вярнуўся дахаты і памёр у Рыме, дзе і пахаваны каля парэштkaў знойдзенага ім Клімента.

Мараўскі пасад перайшоў да Святаполка, які значна пашырыў межы свайго каралеўства і далучыў да яго вялікую частку Аўстрыі і Вугоршчыны (у геаграфічных межах XIX стагоддзя). І па меры таго, як пашыралася яго вобласць, шмат хто із хрысьціян, прыняўшых евангелле на-лаціне, прызналі славянскае пастырства Мяфодзія. Але гэта абудзіла раўнівасць германцаў, якія і дамагліся ў 873 годзе наказу ад вялікага пантыфекса Яна VIII пра забарону славянскай мовы ў царкоўным набажэнстве. Мяфодзій настойваў на сваім, і з нагоды ўзнавіўшагася даносу быў зноў выкліканы ў 879 годзе у Рым. Але ён зноў з поспехам апраўдаўся перад саборам, зрабіўшы некаторыя дагматычныя саступкі. Яго довады на карысць славянскай мовы ў славянаў былі такімі паспяховымі, што пасьля вяртання ў Маравію ён прывёз ад пантыфекса Яна ліст Святаполку, у якім ухваляецца Кірылаў альфабэт і ўзаконьваецца ўжыванне славянскай літургіі на той падставе, што сьвятое пісанне наказвае: «хваліце госпада ўсе народы», паказваючы гэтым, што ўхвалы яму не павінны абмяжоўвацца толькі трыма мовамі (жыдоўскай, грэцкай і лацінскай).

У гэтым жа самым лісьце было заяўлена, што Мяфодзій зацвярджаецца на арцыбіскупстве і над мараўскай царквой, з якой евангелле перайшло ў Багемію, даволі арыгінальным спосабам.

Багемскі князь Барзівой наведаў аднойчы мараўскі двор. Святаполк прыняў яго з гонарам, але за абедам прызначыў яму і яго сьвіце месца на падлозе, як паганцам. Мяфодзій, сядзеўшы за царскім сталом, звярнуўся да яго з выказваннем шкадавання, што такі магутны князь вымушаны сядзець і сілкавацца падобна свінапасу. Пасаромлены Барзівой зараз жа ахрысьціўся са сваімі трыццаццю таварышамі, а яго жонка Людзьміла, таксама, відаць, сядзеўшая на падлозе, заслужыла потым нават тытул сьвятой.



Мал. 111 і 112.
Узоры партрэтыстыкі пярэдадня Эпохі Гуманізму ў Яўропе. Карл IV (1346-1378), як спадчынны прынц (налева) і як імператар германскі і асьветнік Чэхіі (направа) Звярніце ўвагу на падабенства з візантыйскімі і рускімі абразамі.

Такім было першапачатковае хрысьціянства на ўсходзе і захадзе Яўропы. Паданні пра яго зноў навочна сведчаць нам, што сярэднявечныя хрысьціянскія насельнікі манастэрыёнаў зусім не былі неадружанымі, а хутчэй уяўлялі сабой пантагамічныя злучыны абодвух стацей, ці спробы да іх мужчынскай часткі насельніцтва пры супраціве жаночай часткі, асабліва пасьля нараджэння першага дзіцяці, якое маці зацята лічылі сваім уласным, а не камунальным, і разам з тым пачыналі патрабаваць і рэчыўнай уласнасьці. І вось, дзеля падтрымання прынцыпу, а магчыма і дзеля паслаблення венерычных хвароб давялося падзяліць абедзьве стаці па розных злучынах, далей адна ад адной. Іншага выйсьця не было.

* * *

Паглядзім зараз і на аддалены ўсход Яўропы.




Мал. 113 і 114.
Узоры партрэтыстыкі пярэдадня Эпохі Гуманізму, у Яўропе. Гоаст, Мараўскі маркграф (налева) і Венцаслаў IV (Венцаль 1378-1419); германскі імператар і чэшскі кароль (направа).

Гісторыя першага пашырэння хрысьціянства ў Расіі ўся размалявана больш позьнімі паданнямі. Адпаведна з грэцкімі пісьменнікамі, Васіль Македанянін, заключыўшы мір з рускімі, выправіў у іхную краіну біскупа і іншых місіянераў. Біскуп кінуў перад здзіўленымі гледачамі евангелле ў полымя і праз некалькі гадзін дастаў кнігу цэлай. Гэта, – кажуць нам, – перакапала рускіх, але не надоўга і Ўладзімір Сьвяты ў 986 годзе выправіў пасланнікаў для новага азнаямлення з хрыстовай рэлігіяй у Германію, у Рым і ў Цар-Горад. І вось, у Цар-Горадзе, падчас набажэнства, здзіўленыя пасланнікі раптам пабачылі крылатых юнакоў, якія лёталі па царкве і крычалі: «сьвяты, сьвяты, сьвяты пан Бог усемагутны!» Захопленыя такім незвычайным гледзішчам, яны паспяшаліся дахаты, паведамілі ўсё свайму цару Ўладзіміру, і ён вырашыў прыняць хрысьціянства ад грэкаў, але чамусьці задумаўся, пачаў марудзіць і нават раптам пайшоў ваяваць з імі. Узяўшы грэцкі горад Корсунь (відаць, старажытны Херсон, хаця некаторыя і бачаць у ім Керч), ён, – кажуць нам, – пасватаўся у 988 годзе да грэцкай прынцэсы Ганны, сястры імператара Васіля II. На паказаную яму цяжкасьць з нагоды адрознення іхных рэлігій, ён адказаў, што готавы прыняць хрысьціянства дзеля такой дзяўчыны, але раптам асьлеп з нагоды помсты сваіх ранейшых богаў за адступніцтва. Аднак, яго нарачоная ведала сродак супраць іх. Дзякуючы яе настойліваму прашэнню ён пагадзіўся хрысьціцца сьляпым і раптам, у той самы момант, як ён атрымаў

ускладзенне рук ад карсунскага біскупа, яго вочы пачалі бачыць. Хутка было здзейснена адружанне і Корсунь зрабіўся пасагам для нарачонай Ўладзіміра. Згодна са «сведчаннем» не бачыўшых гэтага рускіх летапісцаў, Уладзімір, прыняўшы імя Васіля, пакінуў сваё ранейшае распутнае жыццё, аддаўся строгаму выкананню хрысьціянскіх абавязкаў і разам з Ганнай увайшоў у лік сьвятых рускай царквы, але не быў прыняты ў іншыя цэрквы, таму што згодна са «сведчаннем» латынянаў, яго жыццё і пасьля таго засталося распутным. Ды і ці не міф ён?



Мал. 115 і 116.
Узоры партрэтыстыкі пярэдадня і пачатку Эпохі Гуманізму ў Яўропе. Кароль Ян чэшскі (1311-1346) (адпаведна з рукапісам Венскай бібліятэкі). Вацлаў чэшскі (928-935), далучаны да сьвятых. Звяртаю ўвагу чытача на падабенства з візантыйскімі і рускімі абразамі.

Нестар паведамляе, што ў Кіеве, ён загадаў узяць Перуна-Грамабоя, галоўнага рускага бога (ён жа Юпітар латынянаў і Егова Бібліі) і, прывязаўшы яго да хваста каня, валакчы па вуліцах. Шмат хто із народа плакалі пры выглядзе такога ганьбавання Грамабоя, а калі на наступны дзень іх паклікалі хрысьціцца ў Дняпры, то «яны разважылі, што калі б прапанаваная ім замена рэлігіі не была б добрай справай, то князь і баяры не прынялі б яе». Хутка было здзейснена агульнае хрышчэнне народа. Некаторыя, – паведамляе не бачыўшы гэтага Нестар, – стаялі ў вадзе па шыю, а некаторыя толькі па грудзі, трымаючы на руках сваіх малых дзяцей. Сьвятары чыталі малітвы з берага, называючы адразу цэлыя згуртаванні хрысьцячыхся адным і тым жа імем. У краіне былі заснаваны біскуптвы, цэрквы

будаваліся адпаведна з візантыйскім узорам грэцкімі архітэктарамі, знаходзіліся парэшткі, заводзіліся школы, і шмат дзяцей было абавязана іх наведваць, хаця, згодна са сведчаннем летапісцаў, маці плакалі плачма пасылаючы іх у школу як на сьмерць. Там вывучалася святое пісанне ў славянскім перакладзе Кірыла і Мяфодыя.



Мал. 117 і 118.
Узоры партрэтыстыкі пярэдадня і пачатку Эпохі Гуманізму ў Яўропе. Вацлаў (Венцаслаў, 928-935) чэшскі (згодна з іншай выявай) і каралева Лізавета чэшская, з 1311 года жонка Яна чэшскага (згодна з рукапісам чэшскай бібліятэкі).

Пра неадружанасць сьвятарства ці пра пабудову кляштарскіх злучын у той час не было нават і гаворкі ў Расіі. Ці спынілася, прынамсі, хаця б шматжонства, ці перасталі гаспадары частаваць сваімі маладымі дочкамі шляхетных гасьцей, якія спыняліся ў іх на начоўку? Пра гэта нічога не вядома.

Пасьля сьмерці Ўладзіміра ў 1015 годзе, падзел яго ўладанняў паміж дванаццаццю сынамі і наступіўшыя потым крывавыя сямейныя разлады затрымалі, – кажуць нам, – пашырэнне хрысьціянства ў Расіі. Але Яраслаў, які нарэшце зрабіўся адзінаўладным валадаром, дбайна працягваў справу. Ён загадаў перакласьці некаторыя павучальныя грэцкія кнігі, заахвочваў стварэнне самастойных рэлігійных твораў (невядома якіх і грунтуючыся на якіх першакрыніцах) і нават, быццам бы, сам браў удзел у кніжных працах.

Такім, – кажуць нам, – быў пачатак хрысьціянства ў Расіі, прыйшоўшага туды із Візантыі толькі напярэдадні крыжовых паходаў. Усё гэта, вядома, напалову казка, але яна не супярэчыць рэчаіснасьці, прынамсі з храналагічнага боку, ды і царкоўная літаратура і малярства Расіі маюць грэцкі характар, хаця і не без уплыву латынізма. Само ж слова царква – лацінскае, а не грэцкае (circus, а не κύκλος ці κίρκος) і крыж (crux, польскае «кшыж», а не σταυρός) таксама лацінскага паходжання.

Так жа і на Балканах.

Хаця Багемія, як мы ўжо бачылі, лічылася ў X стагоддзі паміж хрысьціянскімі краінамі, аднак жа хрысьціянства яе было яшчэ вельмі невыразным. Пасьля сьмерці князя Радзіслава ў 925 годзе, яго маці хрысьціянка Людзьміла, – кажуць нам, – прыняла на сябе апеку над яго двума сынамі, Вячаславам і Баляславам, а ўдава Радзіслава, Драгаміра, якая была дбайнай паганкай, дамаглася пакарання Людзьмілы сьмерцю, але, адпаведна са сведчаннем Касьмы Пражскага[347], неўзабаве была паглынута расступіўшайся зямлёй разам са сваёй калясніцай і коньмі за тое, што вымавіла блюзнерства праязджаючы подач з царквой у Празе, што вельмі часта здаралася раней, а зараз ужо няма.

Яе сын Балеслаў, празваны «жорсткім», пачаў за гэта выганяць сьвятарства і разбураць цэрквы і манастэрыёны, якія тады былі яшчэ двухстацевымі. Толькі ў 950 годзе, пасьля доўгага змагання супраць Атона I, ён быў вымушаны, нарэшце, саступіць і аднавіць разбураныя ім цэрквы. А яго сын Баляслаў Набожны прыняў нават рашучыя захады для скасавання паганства і заснаваў у 973 годзе пражскае біскупства.

Другім пражскім біскупам быў багемец шляхетнага паходжання, вучыўшыся пры Адальберце, магдэбургскім арцыбіскупе, і прыняўшы імя гэтага прэлата замест свайго ранейшага багемскага імя Войцах. Ён пабачыў, што ў асяроддзі яго паствы сьвятарства жыло ў адружаным стане і наложніцстве, і ўвесь народ аддаваўся шматжонству і адружанню ў блізкіх ступенях сваяцтва. Адальберт вырашыў скасаваць усё гэта, але яго няцярпімасць і прагнасць да ўлады выклікалі супраціў. Змарыўшыся ад непасільнага змагання, ён каля 997 года выправіўся на місіянерства ў Прусію, але таксама безпаспяхова. Хаця кожны раз, калі прусы не жадалі яго слухаць, ён дэманстратыўна звяртаўся са сваімі павучаннямі да іхных кароў і аслоў, якія ўхвальна ківалі яму галовамі ў якасьці пазначэння сваёй згоды, але такое падмацаванне яго праўдзівасьці ніколькі не паўплывала на непакорлівых варвараў[348].

Славянская літургія, дазволеная вялікім рымскім пантыфексам Янам VIII (872-882) для Маравіі, была зацьверджана таксама і ў Багеміі, што абудзіла ў XI стагоддзі супраціў папы Рыгора VII.

«*Богу дагодна было,* – выказваўся ён, – *каб сьвятое пісанне не выстаўлялася паўсюдна, каб не зрабіцца штодзённым і не давала нагоды да памылкі і каб ужыванне тубыльнай мовы давалася толькі ў выглядзе асобных часовых акалічнасьцей, якія зараз даўно спыніліся»*[349].

Аднак, яго забарона не прышчаплялася дзякуючы таму, што, калі народ славянскага племені датыкаўся з межамі Грэцкай імперыі, самі папы знаходзілі для сябе выгадным задавальняць яго нацыянальныя пачуцці дапушчэннем зразумелага

[347] Pertz, «Monumenta historica», IX, 1826.
[348] Vita Adalberti apud Pertz, «Monumenta Gerinaniae Historica», IV, 30.
[349] «Epistola», 32.

для народу набажэнства, хаця ва ўсіх іншых месцах яны імкнуліся пашырыць міжнародную лаціну. Толькі дзякуючы канкурэнцыі з Візантыяй славянская літургія і працягвае ўжывацца ў шматлікіх цэрквах Ілірыі да сучаснасьці.

Для далучэння палякаў было зроблена вельмі мала да таго часу, пакуль у 965 годзе іхны князь Мячэслаў адружыўся з Дамброўкай, дачкой Баляслава Жорсткага. Праз два гады Дамброўка пераканала свайго чалавека прыняць хрысьціянскую веру, і ён пачаў прымушаць да яе ўсіх сваіх падданых пад пагрозай суровых пакаранняў. Кожнаму, хто працягваў ужываць мясное на працягу Вялікага паста, ён загадаў выдзіраць зубы і паведамляючы пра гэта нямецкі летапісец Цітмар біскуп мерзебургскі, ухвальна дадае, што пры дзейнасьці ў асяроддзі такога грубага народа, як славянскі, да якога патрэбна ставіцца як да быдла і біць яго, як ленаватых аслоў, суровыя сродкі абыходжання былі значна больш карыснымі, чым мяккія спосабы[350] уздзеяня.

Хаця спачатку хрысьціянства ў Польшчы было запазычана із грэцкіх крыніц, але чацьвёртая жонка Мячэслава ці Мешка II, Ода, дачка аднаго германскага маркіза, схіліла яго на карысць лацінства.

Аднак, пасьля яго сьмерці, у 1034 годзе, у Польшчы пачаліся закалоты. Паганства зноў падняло ў ёй галаву, з'явілася шмат адрачэнцаў ад хрысьціянства, цэрквы і манастэрыёны спальваліся. Палякі, нарэшце, вырашыліся прапанаваць сваю карону Казіміру, сыну памёршага караля, які знаходзіўся ў выгнанні ў германскім абацтве Браунвейлере, і хрысьціянства было канчаткова замацавана.

А што ж адбывалася ў самой Германіі?

Германскія валадары на працягу ўсяго X стагоддзя, асабліва Атон Вялікі, імкнуліся да скасавання паганства ў паўночнай частцы сваіх уладанняў. Але яго захады мелі вельмі малы ўплыў на жыўшыя там славянскія плямёны з нагоды таго, што германскія місіянеры не ведалі славянскай мовы. Час ад часу адбываліся вялікія паўстанні супраць чужацкай улады, цэрквы разбураліся і сьвятарства забівалася. Нават у 1047 годзе новая вера здавалася цалкам выкараненай у гэтай краіне[351].

Да гэтага часу мы ўжо некалькі разоў назіралі прыклады, калі хрысьціянства пашыралася ў «варварскіх краінах» дзякуючы адружанню іхных князёў на князёўнах-хрысьціянках. Тое ж самае адбылося, – кажуць нам, – і ў Вугоршчыне.

У 972 годзе яе князем стаў Гейза, які адружыўся з Сарольтэ, дачкой Гіулы і пад яе ўплывам схіліўся да хрысьціянства. Але далучэнне Гейзы было сумнеўным. Прызнаючы сябе хрысьціянінам, ён адпаведна з прыкладам біблейскіх ізраільцянаў працягуваў прыносіць ахвяры стодам. Калі біскуп Бруна пратэставаў супраць гэтага, ён адказваў, што дастаткова заможны для таго, каб рабіць ахвяры і тым, і другім багам. Але яго сын Вайка, якому было дадзена імя Стэфан, зрабіўся знакамітай асобай у вугорскай гісторыі. Ён атрымаў добрае выхаванне і ў 997 годзе ўзышоў на пасад. Паганская партыя, супрацівіўшаяся яму, была ўціхаміранa, і ў 1000 годзе ён дамогся ад Атона III прызнання за сваімі ўладаннямі ступені каралеўства, і яно, пашыранае дадаваннем Трансільваніі і часткі Валахіі (вядомай пад назвай Чорная Вугоршчына), было пастаўлена пад асабістае заступніцтва Мадонны. Вайка засноўваў біскупскія катэдры, будаваў кляштары і храмы і выкарыстоўваў розныя захады да таго, каб кожныя дзесяць вёсак складаліся разам для заснавання сваёй уласнай царквы. У кожнага, хто працаваў у нядзелю,

[350] Thietmar, VI, 35 etc. Робертсан, I, 96.
[351] Adam Bremen, I, 10.

забіраліся коні, валы і прылады, ужываемыя для працы; за размовы ў цэрквах людзі высокага стану падлягалі выгнанню з яе з ганьбаваннем, а людзі простага звання публічна за яе дзвярамі зведвалі пакаранне пугай.

Але Вайка-Стэфан памёр у 1038 годзе, і паганства, душыўшаяся на працягу першай палове XI стагоддзя так настойліва, што кароль Андрэй у 1048 годзе нават прызначыў сьмяротнае пакаранне за ўшанаванне іншых багоў, двойчы зноў аднаўлялася і набывала пануючае становішча ў Вугоршчыне, калі-нікалі цалкам замяняючы сабой хрысьціянства.

Не менш цяжка пашыралася новая вера і на ўзбярэжжах Балтыйскага мора.

Заваёвы Карла Вялікага прывялі франкаў у блізкае суседства з паўночнымі народамі. Ён пабудаваў царкву ў Гамбургу, а ўвага яго сына Людовіка Набожнага была накіравана і да Норд-Альбінгіі. Сама яго палітыка рабіла пажаданым хрышчэнне прыбалтыйцаў, таму што, пакуль германцы аддзяляліся толькі Эльбай ад трымаўшыхся рэлігіі сваіх бацькаў, у іх была пастаянная спакуса адрачыся ад гвалтоўна навязанага ім хрысьціянства, а разам з ім і падданства, знакам якога яно было. Але справа пачалася з датчанаў.

Місіянеры ў Даніі, – кажуць нам, – намалявалі тамтэйшаму каралю духоўныя і зямныя даброты хрысьціянства з такім поспехам, што ён прыбыў у 826 годзе ў Інгельгейм са сваёй каралевай і з вялікай сьвітай набліжаных і прыняў хрышчэнне ў Менцы. Потым місіянеры пачалі паспяхова хрысціць і падданых, даючы кожнаму белую кашулю. Усе радаваліся як веры так і кашулям. І толькі адзін раз, калі скончыўся запас звычайнага хрысцільнага адзення, навадалучаны нарман адкрыта выказаў цару Людовіку сваё абурэнне з нагоды таго, што яму давялося атрымаць адзенне із больш грубай матэрыі.

– «Я ўжо купаўся тут дваццаць разоў, – паведаміў ён, – і заўсёды давалі мне адзенне із белай матэрыі, а такі мяшок, як гэты, прыстойны хутчэй нейкаму свінапасу, а не ваяру. Калі б мне не было ганебна ісьці голым, то я кінуў бы тут і ваша адзенне, а разам з ёю і вашага Хрыста»[352].

«Апостал Севора» Анскар (інакш Ансгарый, памёршы ў 865 годзе) абраў цэнтрам сваёй дзейнасьці сярод датчанаў Надэбі, насупраць Шлезвіга, і наладзіў там школу для хлопчыкаў, пры гэтым вучні часта купляліся ім у бацькоў. Але дацкі кароль Гаральд сваёй пераменай рэлігіі абудзіў абурэнне сярод сваіх суайчыннікаў, асабліва пасьля таго, як стаў разбураць мясцовыя шматбожныя храмы, і варожая яму партыя скарысталася гэтым настроем. Ён быў прагнаны і выдаліўся ў адну акругу ў Фрызіі падараваную яму імператарам, а Ансгарый таксама быў вымушаны пакінуць Гадэбі і выправіўся ў Швецыю. Пасьля шматлікіх выпрабаванняў ён прыбыў нарэшце ў Бірку (г.азн. прыстань) на возеры Мэлорэ, але без спрыяння з боку ўлады меў там невялікі поспех. Ён вярнуўся назад і пасяліўся ў Гамбургу, дзе таксама купіў некалькі хлопчыкаў дзеля выхавання іх адпаведна з духам хрысьціянства, але і тут была няўдала. Праз некаторы час, Гамбург зведаў напад вялікага атраду нарманаў і Ансгарый быў вымушаны бегчы, хаця і не надоўга. Неаднаразовыя палітычныя місіі ад Людовіка Набожнага зрабілі «паўночнага апостала» вядомым дацкаму каралю Горыку (інакш, Эрыку), які даўно быў адным із самых моцных паўночных спусташальнікаў і кіраваў тым самым войскам, якое спаліла і абрабавала Гамбург. Ансгарый набыў на яго моцны ўплыў і ён даў місіянерам дазвол павучаць у яго ўладаннях і пабудаваць царкву ў Шлезвігу.

[352] Pertz, «Monumenta Germaniae Historica», II, 508.

Зараз, пры спрыянні ўлады, справа далучэння пайшла хутка. Дацкія гандляры, прыняўшыя хрышчэнне ў Гамбургу ці Дорштадце, адкрыта ўшаноўвалі там хрысьціянства. Потым Ансгарый разам з амбасадай ад Эрыка паехаў да Олафа Шведзкага, маючы ў руках гарачы рэкамендацыйны ліст. Але, высадзіўшыся ў Швецыі, ён знайшоў там не вельмі спрыяльны стан рэчаў. Незадоўга да яго адзін швед заявіў у нацыянальным сходзе, быццам бы ён атрымаў наданне ад богаў, загадаўшых яму перадаць сваім суайчыннікам, што калі яны жадаюць цешыцца пастаянным дастаткам, то павінны аднавіць старажытную веру і прагнаць усе іншыя рэлігіі. Аднак, Ансгарый вырашыў працягваць справу. Запрасіўшы да сябе караля на абед і размясьціўшы яго да сябе падарункамі, ён папрасіў дазволу павучаць. І вось, адусюль пачалі збірацца далучаныя, будаваліся цэрквы, і Ансгарый знайшоў магчымасць вярнуцца ў Данію, пакінуўшы на чале шведзкай місіі Гумберта.

Пад час яго адсутнасьці Эрык загінуў у крывавай бітве з паганскай партыяй. Найбольш магутныя із сяброў Ангарыя падзялілі долю свайго караля, вялікая частка Даніі была зараз у руках ворага. Але Эрык II, успадкаваўшы частку ўладанняў свайго бацькі, выказаў такую ж гарачую спагаду да евангелля, якую меў і яго бацька. Місіянеры аднавілі сваю працу. Хрысьціянства зараз пашыралася хутчэй, чым калі-небудзь. Шлезвігскай царкве было дазволена набыць звон, і ў Рыпе, другім горадзе Даніі, на беразе процілеглым Брытаніі, была заснавана другая царква[353].

Так хрысьціянства пашыралася сярод паўночных народаў, як і ўсюды, зверху ўніз, шляхам далучэння да яго спачатку каралёў і шляхты.

Але нават і ў X стагоддзі далучэнне Даніі абмяжоўвалася толькі межамі мацерыка, а выспы ўсё яшчэ заставаліся паганскімі, пакуль у 966 годзе адзін місіянер, на імя Попо, карыстаючыся гасьціннасьцю караля Гаральда Зялёнага Зуба, не «пачаў спрэчку з некаторымі із яго гасьцей», сцвярджаўшых, што існуюць і іншыя багі, акрамя Хрыста. Але яны былі пасаромлены. У якасьці доказу выключнай праўдзівасьці сваёй рэлігіі Попо, – запэўніваюць нас тэолагі, – надзеў на руку распаленую да-чырвонага жалезную пальчатку і насіў яе без шкоды для сваёй рукі да таго часу, пакуль кароль не абвясьціў сябе перакананым. Аднак, нягледзячы на такое дзіва, Зялёны Зуб не прымаў хрышчэння, пакуль Атон Вялікі не нанёс яму паразу ў 972 годзе, і не настаяў на гэтым, як на ўмове замірэння. І вось, выйдучы із хрысцільні, дацкі кароль цалкам перамяніўся. Ён пачаў прымушаць сваіх падданых да прыняцця евангелля з такой празмернасьцю, якая мела наступствам два паўстанні пад правадырствам яго ўласнага сына Свейна. Пасьля пяцідзесяцігадовага валадарання Зялёны Зуб быў пазбаўлены пасады і памёр ад атрыманай у бітве раны.

Свейн, хаця і быў ахрышчаны ў дзяцінстве, але не быў перакананым і перасьледаваў хрысьціянскую веру на працягу шматлікіх гадоў. Толькі на прыканцы свайго жыцця, дзякуючы паразе ў Англіі, ён вярнуўся да рэлігіі сваіх юнацкіх дзён. Нарэшце, у 1014 годзе яму ўспадкаваў Канут, які як у Англіі, так і ў паўночных уладаннях Даніі імкнуўся «загладзіць грахі свайго бацькі». Для дацкіх пілігрымаў у Рым там быў нават наладжаны шпіталь.

Хрысьціянства, укаранёнае Ансгарыем у Швецыі, доўга абмяжоўвалася наваколлем Біркі, і на працягу сямідзесяці гадоў пасьля сьмерці гэтага «паўночнага

[353] Mabillon, «Acla Sanctorum Ordinis s. Benedicti». Paris. 1668-1701. Гл. Жыццяапісанне Ангарыя ад імя яго вучня Рымберта.

апостала» краіна наўрад ці калі-небудзь наведвалася місіянерамі. Там узнікла нешта сярэдняе паміж паганствам і хрысьціянствам, цікавым прыкладам чаго служыць адна застольная, яшчэ і зараз існуючая песьня, дзе ўхвалы Тройцы выказваюцца ў тым жа стылі, які ужываўся пры ўслаўленні богаў Валгалы.

Для пашырэння евангелля ў Швецыі важнае значэнне мела валадаранне Олафа Стотконунга, то бок, «каленнага» караля, таму што ён, быццам бы, зрабіўся каралём яшчэ на каленях сваёй карміцелькі. Гэта было на прыканцы X стагоддзя, і ён памёр каля 1024 года, паклікаўшы ў сваю краіну шмат сьвятарства із Германіі і Англіі. Олаф меў жаданне разбурыць старажытны паганскі храм ва Ўпсале, але падданыя ўпрасілі яго абмежавацца толькі пабудовай царквы для яго ўласнай рэлігіі, не прымушаючы гвалтоўна да хрысьціянства. У гэты ж час, – каля 1015 года, – кажуць нам, – старажытныя рунічныя літары былі заменены сярод шведаў на лацінскі альфабэт. Але ці можна сцвярджаць, што там некалі існавала і паганская пісьмовасць? Наўрад ці. Пытанне пра час рун патрэбна перагледзець.

Гвалтоўныя захады, якімі Олаф імкнуўся пашырыць евангельскае хрысьціянства, узбудзілі, як і ў іншых выпадках, агульную нянавісць да яго сярод прыхільнікаў старажытнай рэлігіі. Толькі каралём Інге ў 1075 годзе было забаронена балванашанаванне, і хрысьціянства пасьля шматлікіх ваганняў было канчаткова зацьверджана ў Швецыі.

Сярод нарвежцаў першыя далучаныя ахвотна прызнавалі Хрыста богам Англіі, а ў сябе дома больш усяго спадзяваліся на свайго старога Одына, якога лічылі ўсё яшчэ валадарачым над іхнай прыморскай зямлёй.

Каб далучыць іх усіх да хрысьціянскай веры, нарвежскі кароль Гака, выхаваны па-хрысьціянску пры ангельскім двары, вырашыўся ў 938 годзе зацвердзіць сваю веру сярод падданых такім арыгінальным спосабам. На вялікім паганскім сьвяце Юла (г.азн. Колы) ён публічна выпіў у гонар нацыянальных богаў, але зрабіў пры гэтым знак крыжа над сваёй чарай, пры гэтым Сігурт, яго галоўны дарадца, патлумачыў сабраўшамуся грамадству, што гэты крыж з’яўляецца молатам іхнага бога Тора.

Паганская партыя, аднак жа, не паверыла тлумачэнню.

Восем із яе правадыроў наладзілі напад на існаваўшае ў краіне хрысьціянскае сьвятарства і пад час наступнага Юльскага сьвята Гака быў вымушаны піць у гонар богаў, не робячы больш знака бога Тора. Смерць яго была аплакана адным скальдам у знакамітай песьні, услаўляйшай яго прыняцце ў паганскую Валгалу і абвяшчаючай, што бяручы да ўвагі тую памяркоўнасць, якую ён выказваў да старажытнай рэлігіі, яго адданасць хрысьціянству была забыта і даравана старажытнымі багамі.

Канчаткова зацьвердзіў хрысьціянства ў Нарвегіі толькі Олаф Трыгтвезен, уславіўшыся ў паўночных летапісах як наймацнейшы і найадважнейшы із людзей. У адным месцы ён сустрэў восемдзесят паганцаў, якія лічыліся ведзьмакамі. Ён зрабіў спачатку спробу пераканаць іх, калі яны былі цьвярозымі, потым другую, калі яны былі вельмі п'янымі і, пераканаўшыся што іх немагчыма было схіліць да хрысьціянства ні ў тым, ні ў другім стане, то ён падпаліў будынак у якім яны былі сабраны. Іншаму зацятаму паганцу і чараўніку ён пасадзіў у горла змея, які праеў усё яго цела і зрабіўся нагодай яго сьмерці. А калі адзін юны герой, на імя Эндрыд, пагадзіўся, каб пытанне пра яго рэлігію было вырашана вынікам спаборніцтва паміж ім і супернікам прызначаным яму з боку караля, то супернікам яму выступіў сам Олаф. У спаборніцтве, працягваўшымся тры дні, ён бліскуча перамог Эндрыда

ў плаванні, ныранні, стральбе із лука, гульні ў мяч і, падрыхтаваўшы яго такім чынам да прыняцця хрысьціянскага вучэння, скончыў яго навучанне тлумачэннем пачаткаў веры. Дзякуючы аднаму бачанню Олаф абраў апекуном Нарвегіі сьвятога Мартына і загадаў, каб чарка, звычайна ўжываўшаяся пры піцці ў гонар Тора, на будучы час была прысьвечана піццю ў гонар гэтага сьвятога.

Імклівасць Олафа ў пашырэнні хрысьціянства, нарэшце, каштавала яму пасада. Зігрыда, прыгожая ўдава аднаго шведзкага караля, з такой суровасьцю адкідаўшая сватанні дробных князёў Швецыі, што аднаго із іх нават спаліла ў сваім замку з мэтай астудзіць іншых ад жадання дамагацца яе рукі, задумала адружыцца з Олафам і з гэтай мэтай наведала яго двор. Але з нагоды яе адмовы хрысьціцца, ён адмовіўся адружвацца з ёю, за што яна вырашылася яму адпомсціць. Яна адружылася са Свейнам Дацкім і новы чалавек, дзякую яе настойлівым перакананнням, вырашыў распачаць паход супраць Нарвегіі. Адбылася марская бітва. Карабель Олафа «Доўгі цмок» пасьля роспачнай абароны быў захоплены, пры гэтым кароль і дзевяць іншых асоб, якія толькі і засталіся із усяго экіпажа, кінуліся ў мора.

Олаф знік у вадзе, але не патануў. Амаль праз пяцьдзясят гадоў пасьля гэтага, адзін нарвежац, на імя Гаўд, заблудзіўшыся на сваім шляху сярод пяскоў Ягіпта, атрымаў у сне паведамленне пра шлях да кляштара, дзе да свайго здзіўлення знайшоў састарэлага абата са сваёй уласнай краіны. Пытанні абата да яго былі такімі, што паломнік мімаволі запытаў яго: ці не ён сам кароль Олаф? Адказ быў ўніклівым, але ўсё ж справа была відавочнай: абат даручыў Гаўду, пасьля вяртання ў Нарвегію, перадаць свой меч і пояс аднаму ваяру, шукаўшаму сьмерці разам з Олафам, але быў выцягнуты із вады. Ён прасіў перадаць яму, што пад час таго фатальнага дня ніхто не выявіў большай адвагі.

Гаўд выканаў дадзенае яму даручэнне, і нарвежскі ветэран, атрымаўшы дасланыя яму падарункі і хвалу, застаўся ў поўнай упэўненасьці, што ягіпецкі абат, даслаўшы яму меч і пояс, быў у тым бою яго царуючым валадаром.

Хроснік гэтага Олафа, таксама Олаф, сын Гаральда, стаўшага каралём у 1015 годзе, працягваў яго справу. Із Англіі было запрошана шмат місіянераў, і на чале іх біскуп, на імя Грымкіл, г.азн. двухрогі (з нагоды формы яго мітры) склаўшы кодэкс царкоўных законаў для Нарвегіі. Адзін вялізны ваяр, адпаведна з загадам караля, пабіў статую Тора на кавалкі. І вось, із яе нутра ва ўсе бакі кінуліся бегчы агідныя жывёлы, знаходзіўшыяся ў ёй сабе жыллё і сілкаваўшыяся штодзённымі прынашэннямі. Усе атачаючыя назіраючы такую брыдоту пагадзіліся прыняць хрышчэнне.

Праз год пасьля сьмерці гэтага караля, яго цела было выкапана двухрогім Гімкілам. На ім не выявілася ніякіх прыкмет раскладання, у яго нават падраслі валасы і ногці. Ён быў прызнаны сьвятым і перанесены ў пабудаваную ім раней царкву сьвятога Клімента ў Нідаросе. У наступным стагоддзі арцыбіскуп Эйстэйн (ці Аўгустын) пабудаваў там сабор і паклаў над ахвярнікам яго мумію. Олаф быў абраны апекуном Нарвегіі, дзякуючы шматлікім дзівам далёка пашырылася яго слава, і да яго труны сцякаліся пілігрымы із далёкіх краін, каб атрымаць вылячэнне.

Перад тым правесьці ацэнку «гістарычнасьці» ўсіх гэтых паданняў паслухаем зараз і тое, што нам паведамляюць пра сярэднявечнае пашырэнне хрысьціянства ў Ісландыі, Грэнландыі, ды і ў самой Амерыцы яшчэ за 600 гадоў(!!!) да яе адкрыцця Калумбам на Панамскім пярэсмыку ў 1502 годзе.

Нам паведамляюць, быццам бы «Ледзяная Краіна» (Ісландыя) зрабілася вядомай нарвежцам яшчэ ў 860 годзе, калі на яе бераг быў выкінуты адзін нарвежскі карабель. Потым, пасьля перамогі Гаральда Светлавалосага пры Гафурсфёрдзе ў 883 годзе, часова аб'яднаўшай Нарвегію, шмат якія яе дробныя князі былі вымушаны шукаць сховішча ў іншых краінах. Перасяленцы із іх у Ісландыю належалі да найбольш цывілізаванага стану нарвежцаў, і жыццё на новай радзіме набыло вельмі культурны характар. Зямля была падзелена на пляцоўкі, жыхары заняліся гандлем, абменьваючы розныя вырабы сваёй выспы на хлеб, лес і іншыя патрэбныя ім рэчы. Там існавалі свае нацыянальныя і правінцыйныя сходы, пры гэтым кіраўніком выспы быў «праўнік», абіраўшыся на ўсё жыццё, і яго абавязкам было дзейнічаць у якасьці абаронцы законаў. З яго ўладай злучалася і пасада жраца. У рэлігійным жа дачыненні, хаця і было ўсталявана ўшанаванне Одына, але наогул дапускалася поўная воля рэлігіі.

У 981 годзе адзін ісландзец на імя Торвальд, які быў спачатку піратам, прывёз з сабой на выспу саксонскага біскупа, на імя Фрыдрых, які яго далучыў да хрысьціянства. Была пабудавана царква і павучанні Фрыдрыха былі прыняты добра, хаця большасць яго празелітаў і адмовіліся ад хрышчэння, сарамеючыся агалення пры выкананні гэтага звычая і апранання белага адзення, якое ў іхнай краіне насілі толькі дзеці. Але хутка прыхільнікі Одына былі даведзены да варожасьці грубым спосабам, якім Торвальд працягваў пашыраць сваю рэлігію. Праз пяць гадоў ён сам і яго біскуп былі прагнаны і знайшлі сховішча ў Нарвегіі, дзе Торвальд, сустрэўшыся з адным із тых, хто найбольш люта супрацівіўся яму ў Ісландыі, забіў яго. І ўсё ж хрысьціянства паступова пачало выціскаць сабой і ў Ісландыі апошнія парэшткі паганства.

У 1121 годзе там быў заснаваны першы манастэрыён, і сьвятарства, атрымаўшае выхаванне ў Германіі, Францыі і Англіі, прыносіла з сабой у Ісландыю веды і рукапісы чужых краін. Так на гэтай аддаленай выспе захавалася літаратура летапісаў, паэм і саг; самая старажытная літаратура скандынаваў, складаючая адзіную крыніцу паведамленняў пра большую частку паўночнай гісторыі.

Із Ісландыі, – кажуць нам, – хрысьціянства пашырылася і ў яшчэ больш аддаленую краіну. У 982 годзе, адзін нарвежац, на імя Эрык Чырвоны вырашыўся пашукаць бераг, які за некалькі гадоў перад тым быў заўважаны на захадзе нейкім Гунбёрнам, і падгаварыў шмат каго са сваіх суайчыннікаў выправіцца разам з ім. Ён назваў яго Грэнландыяй (зялёнай краінай), і наладжанае ім там селішча хутка заквітнела.

Было, – кажуць нам, – пабудавана трынаццаць цэркваў на ўсходняй частцы Грэнландыі, чатыры на заходняй і, акрамя іх тры ці чатыры манастэрыёны. На чале Грэнландзкай царквы паслядоўна стаяла шаснаццаць біскупаў. Але раптам пачынаючы з паловы XV стагоддзя, якраз перад тым як Калумбу прыйшло ў галаву адкрываць Амерыку, «Грэнландыя была страчана і цалкам забыта еўрапейцамі». Лёд, – кажуць нам, – настолькі сабраўся (у чаканні Калумба!) каля яе берагоў, што зрабіў іх цалкам недаступнымі, і сямнаццаты біскуп, прызначаны для яе царквы, не быў у стане высадзіцца на бераг. Акрамя таго, насельніцтва гэтай краіны было спустошана «чорнай сьмерцю» і – выказваюць здагадку старыя гісторыкі – саслабелыя нармандзкія жыхары Грэнландыі былі знішчаны эскімосамі із мацерыка паўночнай Амерыкі, продкамі сучасных яе жыхароў». Такое сумнае заканчэнне мела «першае Грэнландскае царства». Не лепш было і з самай Амерыкай.

Нарманы, – кажуць нам, – прадоўжылі свае адкрыцці із Грэнландыі ў напрамку амерыканскага мацерыка. У 1000 годзе, яшчэ за 500 гадоў да Калумба, сын Эрыка Чырвонага Лейф, заахвочаны паведамленнем Біёрна, сына Герывульфа, пра свае прыгоды пры пошуках Грэнландыі, выправіўся, быццам бы, на караблі ў паўднёвым накірунку і даследаваў некалькі берагоў, аднаму з якіх была дадзена назва Вінланд (то бок «Краіна вінаграду»), таму што адзін із яго таварышаў, нараджэнец паўднёвай Германіі, знайшоў сярод расьлін краіны і вінаградную лазу. Так, нават і на берагах самай Амерыкі, – кажуць нам, – было пабудавана некалькі селішчаў. У 1121 годзе адну экспедыцыю ў Віналанд, быццам бы, суправаджаў нават і біскуп, на імя Эрык, і зацьвердзіў сярод тубыльцаў хрысьціянскую веру.

Але ўсё гэта зноў знікла да часу Калумба, і толькі ўжо ў найновыя часы аматары старажытнасьці «знайшлі і ў Амерыцы сьляды хрысьціянства, укаранёнага нарманамі пад час сярэдневечча».

Выяўляецца, што там павучаў адзін ірландзкі біскуп, на імя Ян і таксама (чамусьці) быў закатаваны. А скептыкі сцвярджаюць, што ўсё гэтае апавяданне паўстала дзякуючы перамяшанню амерыканскага Вінланда з краінай вендаў у паўночнай Германіі, дзе гэты Ян сапраўды быў біскупам Мекленбурга. Такім чынам, і ўсё, што паведамляецца пра адкрыццё «нарманамі» Грэнландыі (забытай потым бліжэй да паловы XV стагоддзя) і самой (таксама забытай потым) Амерыкі і пра яе дакалумбава нарманскае хрысьціянства, ужо лічыцца за міф.

А мы дададзім да гэтага, што міфам жа мы павінны лічыць, нават і адкрыццё нарманамі «Ледзяной зямлі» – Ісландыі – пад час сярэдневечча, таму што ніякія, не толькі рэгулярныя, штогадовыя, але нават і выпадковыя стасункі з ёю былі фізічна немагчымымі да адкрыцця компаса Флавіем Джойя (паміж 1320 і 1330 гадамі нашай эры). Раней яго компас быў цалкам невядомы ў Яўропе.

Легкадумнае меркаванне пра вынаходніцтва компаса кітайцамі і арабамі яшчэ «задоўга да Флавія Джойя» з'яўляецца адным са звычайных гістарычных жартаў, з якімі пара развітацца. Няма ні найменшага сумневу, што магнітны жалязняк шмат разоў бываў у руках самых старажытных людзей, але для таго, каб заўважыць яго арыентыруючыя ўласьцівасьці і дапасаваць да мараходства, было неабходна каб ён патрапіў у рукі дасьведчанага прыродазнаўцы-эксперыментатара. Арыентавацца адным бокам на поўнач, а другім на поўдзень кавалак магнітнага жалезняку можа толькі будучы ў падвешаным стане на нітачцы з магчымасьцю вячэння ў вызначанай плоскасьці ці плаваючы ў такім жа становішчы на драўлянай дошчачцы ў пасудзіне з вадой. Але калі яго арыентуючая здольнасць была адкрыта адным із гэтых спосабаў, то не магло замарудзіцца і ператварэнне компаса ў той выгляд, у якім мы яго маем. І калі б Флавій Джойя толькі перанёс яго з плоціка на іголку, то было б смешна называць яго вынаходнікам компаса і пазначаць гэта як новую эру ў мараплаўстве. Даводзіцца прызнаць, што як кітайцы так і арабы пачалі ўжываць компас не раней XV стагоддзя, пасьля таго як ён ужо пачаў ужывацца ў Яўропе.

Нават і з Ферэрскімі выспамі на палове шляху да Амерыкі да компаса былі немагчымымі папярэдне надуманыя стасункі, таму што кожны, каго б туды занёс буран, ужо не ведаў бы, як яму вярнуцца назад.

Патрэбна быць наіўным дзіцём для таго, каб дапусьціць існаванне безкомпаснага мараплаўства інакш, як пры ўмове бачання берага. А па-за бачнасьцю берага можна плыць мэтанакіравана не больш чым двое-трое сутак, ды і то пры поўнай упэўненасьці, што на працягу ўсяго гэтага часу будзе пастаяннае

надвор'е і спадарожнічаючы вецер. Так, было магчымым пры пастаянным усходнім ветры і пастаянным ясным надвор'і Міжземнага мора адважыцца на переезд праз Тарэнцкі праліў, дзе прамежак нябачнасць таго ці другога берага прапрацягваецца не больш за некалькі гадзін, і існуе магчымасць, кіруючыся сонцам, накіраваць карабель прыблізна ў патрэбным накірунку, тым больш, што процілеглы бераг доўгі і папярочны да шляху. Можна было таксама рызыкнуць (хаця для гэтага і даводзілася быць роспачным мараком), каб пераплысьці без компаса із Туніса на Сіцылію пры тых жа ўмовах надвор'я. Але толькі звар'яцелы адважыўся б зрабіць спробу пераезду ў Ісландыю па паўночнай частцы Атлантычнага акіяна, дзе каля 400 кіламетраў патрэбна плыць ад Ферарскіх выспаў і каля 300 кіламетраў ад Шэтландзкіх да Ферарскіх, не маючы пад рукой компаса, не кажучы ўжо пра меркатараву мапу, вынайдзеную толькі ў 1569 годзе, а таксама пра секстант для вызначэння геадэзічнай шыраты, і хранометра для вызначэння геадэзічнай даўгаты для месца знаходжання карабля.

Патрэбна ж мець хаця б невялікую здольнасць думаць!

Плыць без компаса па адкрытаму мору ва ўмовах хмарнага надвор'я – тое ж самае, як ісьці ў загадзя вызначанае аддаленае месца з завязанымі вачамі. А калі, у дадатак, вы яшчэ не ведаеце дакладны накірунак у якім патрэбна ісьці, – а гэта немагчыма ведаць без дакладнай меркатаравай мапы, – і не маеце магчымасьці праверыць месцазнаходжанне вашага карабля падчас шляху з дапамогай секстанта і хранометра, то такая справа ператвараецца ў цалкам безнадзейную.

Уявіце сабе, што вы прыехалі на бераг мора, вам далі ветразёвы карабель і матросаў і паказваюць кудысьці на паўночны-ўсход пальцам, кажучы: «едзьце ў гэтым накірунку і вы праз некалькі сутак прыедзеце на адну выспу, калі вецер будзе ўвесь час спадарожны». Але вецер пераменлівы, карабель дрэйфуе ў бакі, марскія плыні непрыкметна адхіляюць вас ад патрэбнага накірунку. Нават жа і пры ўмове існавання компаса, без дакладнай меркатарскай мапы, грунтуючыся толькі на адным указанні нябачнага месца пальцам з вашага берага, усе шанцы будуць за тое, што вы праз тыдзень праплывеце збоку ад патрэбнай вам выспы, цалкам яе не заўважыўшы, і паплывеце ў бяскрайнюю далечыню. А без компаса ў адкрытым моры, дзе не існуе ніводнай кропкі апірышча, як вы будзеце ведаць, асабліва пад час хмарнага надвор'я, накірунак, на які вам паказалі пальцам на вашым родным беразе? І ці не патпіце вы, не заўважаючы таго, назад, ці ў нейкую із бакавых краін? Гэта ж, паўтараю, усё адно, калі б вы стаялі каля рулі з завязанымі вачамі. Мне даводзілася пабываць у падобных становішчах у сярэдняй Расіі. Нават і без компаса, калі ноч была зорнай ці сонца ззяла на небе, я заўсёды прыходзіў, куды мне патрэбна, без дарог у прыволжскім вялікім лесе праз некалькі кіламетраў адлегласьці; а вось, аднойчы, выправіўшыся без гэтай прылады на лыжах пад час хмарнага ціхага надвор'я і не маючы ніякай магчымасьці правяраць на працягу шляху ўзяты спачатку накірунак, я праблукаў там палову сутак, перш чым выпадкова атрымалася выбрацца на знаёмае месца. Дакладна цалкам ў такім жа становішчы знаходзіцца і марак без компаса ў адкрытым моры.

І я сцвярджаю, – і кожны марак са мной пагадзіцца, – што да вынаходніцтва компаса і хаця б вельмі недакладных марскіх мап і спосабаў вызначэння месца знаходжання карабля ў моры, падарожжы ў Ісландыю із Нарвегіі, Даніі і Шатландыі з нейкімі гандлёвымі ці іншымі мэтамі былі немагчымы. І нават калі б нейкі сярэднявечны карабель быў занесены буранам на гэтую выспу, то ўжо ніхто не ведаў бы ў якім накірунку патрэбна плыць каб вярнуцца дахаты. Ісландыя

фактычна не магла быць каланізаванай раней заканчэння XIV стагоддзя нашай эры. І калі дасьледчыкі скандынаўскіх літаратур знайшлі там захаваўшыміся некалькі саг паганскай эпохі, то гэтым даводзіць толькі тое, што хрысьціянства прыйшло туды не ў X ці XI стагоддзі, як нас пераконваюць, а не раней заканчэння XVI стагоддзя, калі ўжо пашырыліся меркатаравы мапы,і астранамічныя спосабы вызначэння геадэзічнай шыраты і даўгаты карабля ў адкрытым моры, ды і само хрысьціянства страціла сваю сярэднявечную няцярпімасць.

Усё тое, што нам паведамляюць пра нармандзкую Ісландыю, калі яно мае хаця б кроплю праўды, павінна было адбыцца на некалькі стагоддзяў пазьней. Але тады ўзнікае пытанне: ці не пазней жа на некалькі стагоддзяў адбылося і тое, што я тут павядоміў са слоў летапісца і навейшых гісторыкаў пра пашырэнне хрысьціянства, а разам з ім свецкай і духоўнай літаратуры як у Швецыі, так і ў Нарвегіі, і ў Даніі, і ў Расіі? І ці не вельмі паглыблены ў старажытнасьць, а збольшага і перабольшаны, усе паданні пра нарманаў, што па-нямецку азначае проста: паўночныя людзі, якімі для паўднёўцаў маглі быць і французкія нармандцы, і ангельцы (northmen), і самі прыбалтыйскія немцы, а не толькі адны скандынавы?

Дакладна гэтак жа цяжка рбіць высновы без далейшых дасьледаванняў на падставе новай храналогіі і пра сутнасць таго хрысьціянства, якое пашырылася спачатку праз місіянераў. Клерыкальныя гісторыкі, вядома, лічаць несумнеўным, што яно было такім жа, як і перад рэфармацыяй: з манахамі, манашкамі, мошчамі, абразамі, а ў каталікоў і са статуямі, і з панаваннем аднажонкавай сям'і. Не будзем спрачацца пра абразы і статуі, без іх, вядома, не абыйшлося па ўсёй Яўропе, але падумаем пра тое, што накладае адменны адбітак на нашу сучасную псіхіку: на тагачаснае сямейнае ўладкаванне.

Цяжка ж сумнявацца, што паганская сям'я ў шляхетных асоб была, як і ў біблейскіх месіянцаў і ў каранічных магаметанаў, шматжонкавай з тымі ж наложніцамі і каханкамі, і магчыма нават, як паведамляюць пра старажытных паганцаў, з частаваннем шляхетных наведвальнікаў сваімі дочкамі і жонкамі, лічачы гэта для іх і для сябе за гонар (як, дарэчы, лічылася і у асяроддзі хрысьціянскіх прыдворных, калі самаўладны валадар ганараваў іхную жонку сваёй увагай).

Самі ж місіянеры і рэлігіёзнікі лічыліся тады чымсьці накшталт напалову багоў, а таму першапачаткова не толькі мелі такое ж сямейнае ўладкаванне, як і шляхетныя, але, напэўна, валодалі і правам першай ночы, як спосабам асьвячэння маладой для яе далейшага сямейнага жыцця, і кожны веруючы чалавек лічыў за гонар аддаць на час сваю жонку «сьвятому». І наўрад ці гэтыя «сьвятыя» самаахвотна адмовіліся б ад сваіх прывілеяў раней таго, чым мікробы венерычных хвароб і іншыя заразлівыя эпідэміі, прыпісваемыя стацевым дачыненням, вымусілі іх зрабіцца монагамістамі.

Але нават, калі місіянеры X і XI стагоддзяў і былі неадружанымі ці аднажонцамі, то справа ад гэтага ніколькі не перамяняецца. Усюды мы пазначалі ў нашым кароткім нарысе першапачатковага далучэння да хрысьціянства ў асяроддзі шматбожных народаў Яўропы, што яно пачыналася не ад рабоў, а ад гаспадароў, не ад падданых, а ад іхнага валадара, які разбіваў свайго ранейшага бога і жалезнай рукой вымушаў сваіх падданых прыняць «хрыстову веру». Без гэтага місіянеры ніколі нічога сур'ёзнага не здолелі б зрабіць.

І вось, лагічна із гэтага вынікае такое, яшчэ ніколі не закранутае гісторыкамі, пытанне: а што ж рабілі толькі-што пералічаныя намі Ўладзіміры сьвятыя, Балеславы набожныя, Мячэславы польскія, Каікі вугорскія, Гаральды «Залатыя Зубы», Олафы шведзкія і Олафы нарвежскія са сваімі гарэмамі, прымаючы хрыстову веру, калі яна ў вуснах пакліканых ці прыйшоўшых да іх місіянераў не была таксама гарэмнай верай? Сама адмутнасць нейкіх паведамленняў пра разгон ці гвалтоўнае перасяленне ў кляштар усіх княжых і баярскіх жонак, акрамя адной, і пра іхнае галашэнне і бунты пры гвалтоўным заняволенні ці вяртанне назад да сваіх бацькоў, паказвае, што паганскае ўладкаванне сям'і не перамянялася рэзка ў Яўропе пры пераходзе яе рознапляменных народаў у хрысьціянства, а гэта азначае што і самі прапаведнікі былі спачатку людзьмі «лёгкіх паводзін», а пераход да едзінажонкавай сям'і са спыненнем распушчанага жыцця, з узнікненнем нават яе антытэзіса – ухвалення манаства і нават скапецства – павінен быць прыпісаны, як я ужо не раз імкнуўся паказаць у розных месцах гэтай працы, не хрысьціянскай рэлігіі, а пашырэнню злучаных з ёю спачатку венерычных хвароб. І яны былі непазбежнымі пры ранейшай дазволенасьці мімалётных сувязей, асабліва са служкамі культу, прывёйшай да ліста ад імя апостала Паўла да Цімафея, што біскуп «павінен быць не зганьбаваным, адзінажонцам, пільным, цьвярозым і добрых паводзін» (Цімафею, III, 2). Само сабой зразумела, што гэты ліст, калі ён лацінскага паходжання, павінен быў быць напісаны да царкоўнай рэвалюцыі першага рымскага папы, Рыгора Гільдэбранда (1073-1085), які цалкам скасаваў адружанне лацінскага сьвятарства, і, відаць, яно належыць пераходнаму часу прыкладна X стагоддзя, калі менавіта і расквітнелі царкоўныя місіі для далучэння паганцаў. Але і тут мы бачым, што адружанне сьвятарства было забаронена рымскай царквой толькі на прыканцы XI стагоддзя, а на Ўсходзе каля таго ж часу было ўведзена аднажонства сьвятароў з мэтай супраціўлення іхнай ранейшай прафесійнай распусьце.

# Глава IX

## Элінізаваныя рэшткі ранейшай Вялікай Рамеі падчас крыжовых паходаў.

Паглядзім спачатку на палацавую хроніку дадзенага перыяду, гэты напаловукрымінальны раман із тых, якімі нашы перша-гісторыкі асабліва цікавіліся. Вось што нам яны паведамляюць.

Пад час кіравання Аляксея I Камніна (1081-1118) дзяржава пераадолела цэлы шэраг вонкавых небяспек, часам пагражаўшых самаму існаванню імперыі. А яго спадкаемца Ян II (1118-1143) быў вымушаны адразу ж пражыць цяжкія хвіліны: была выкрыта змова супраць яго, на чале якой стаяла яго сястра Ганна і ў якой брала ўдзел яго маці. Змова не атрымалася. Ян вельмі міласьціва паставіўся да вінаватых, вялікая частка якіх страціла толькі маёмасць. Ён быў, згодна са словамі Мікіты Ханіята, «вянком усіх цароў, паважна сядзеўшых на рымскім пасадзе із рода Камнінаў». Ён быў сціплым. Ранейшых забаваў і вялізнага марнавання сродкаў пры ім не было. Поўнай процілегласьцю яму з'явіўся яго сын і наступнік Мануіл I (1143-1180).

«Перакананы прыхільнік Захаду, латынафіл, паставіўшы для сабе ідэалам тып заходняга рыцара, спрабаваўшы спасьцігнуць таямніцы астралогіі, новы імператар, – выказваецца А. А. Васільеў у сваёй кнізе «Візантыя і крыжакі», – адразу цалкам перамяніў суровае прыдворнае становішча бацькі. Весялосць, каханне, прыёмы, раскошныя сьвяты, паляванне, паядынкі-турніры, ладзіўшыяся згодна з заходнім узорам, – усё гэта шырокай хваляй разлілося па Канстантынопалю. Наведванні сталіцы замежнымі валадарамі, Конрадам III германскім, Людовікам VII французкім, румскім султанам Кылыч-Арсланам і рознымі лацінскімі князямі Ўсходу, каштавалі вялікіх грошай.

Вялізная колькасць заходне-еўрапейскіх выхаднікоў з'явілася пры візантыйскім двары і ў іхныя рукі пачалі пераходзіць найбольш выгадныя і адказныя месцы ў імперыі. Два разы Мануіл быў адружаны з заходнімі прынцэсамі: яго першая жонка была сястрой жонкі германскага валадара Конрада III, Берта Заульцбахская, пераіменавая ў Візантыі ў Ірыну; другая жонка была дачкой антыяхійскага князя, Марыля, згодна з паходжаннем француженка, выдатная прыгажуня. Усё кіраванне Мануіла было абумоўлена яго захапленнем заходнімі ідэаламі, яго марай аднавіць адзіную Рымскую імперыю шляхам адбірання пры пасярэдніцтве папы імператарскай кароны ў германскага імператара, і яго гатоўнасьцю заснаваць унію з заходняй царквой.

Сыну і спадкаемцу Мануіла, Аляксею II (1180-1183), ледзь было дванаццаць гадоў, калі памёр бацька. Рэгенткай была абвешчана яго маці Марыля Антыяхійская, але галоўная ўлада перайшла ў рукі пляменіка Мануіла, протанайяснейшага Аляксея Камніна.

Новы ўрад таксама шукаў апірышча ў лацінскім элеменце, і народнае раздражненне расло. Супраць магутнага протанайяснейшага Аляксея ўтварылася моцная партыя, на чале якой стаў Андронік Камнін, пляменік Яна II і стрыечнік Мануіла I, належаўшы да малодшага адхіленага ад пасада адгалінавання Камнінаў. Ён абвясьціў сябе прыхільнікам грэцкага нацыяналізму і пасьля сьмерці Мануіла задушыў яго малалетняга сына Аляксея II і Марылю Антыяхійскую, наладзіў бойню латынянаў у Цар-Горадзе, і пазней сам быў пазбаўлены пасада і забіты. Такое заканчэнне мела дынастыя Камнінаў, і пасьля яе пачалася дынастыя Анёлаў.

Але ўсё гэта, як бачыць сам чытач, толькі палацавы крымінальны раман «сям'і Камнінаў», а не гісторыя Рамеі-Візантыі, з якой яго дарэмна змешваюць. Вернемся ж назад і паглядзім, што рабілася ў гэты перыяд за сьценамі палаца. Возьмем спачатку Захад.

Герцаг Апуліі, Роберт Гюйскар, закончыўшы з заваяваннем паўднёва-італійскіх рамейскіх уладанняў, перанёс вайсковыя дзеянні на Адрыятычнае ўзбярэжжа Балканскай паўвыспы супраць парэшткаў Вялікай Рамеі. Ужо маючы значны флот, ён выступіў у паход супраць Аляксея ў Дырахій (зараз Дурацца) у Ілірыі, галоўны горад аднайменнай фемы-дуката (г.азн. герцагства), справядліва лічыўшайся ключом да імперыі на захадзе[354]. Ад Дырахія пачыналася пабудаваная яшчэ пад час сярэдневечча вайсковая Эгнацієва дарога (via Egnatia), ішоўшая на Салунь і далей на ўсход да Цар-Горада. Цалкам натуральна, што галоўная ўвага была накіравана Робертам на гэтае месца. «Паўночныя людзі» (норманны[355]),

[354] Гэта, наколькі мне вядома, першае згадванне пра «герцагства». Слова дука паходзіць ад лацінскага dux – правадыр, адкуль і французкае duc.
[355] Яшчэ раз пакажу, што грунтуючыся на стратэгічных і этнаграфічных меркаваннях немагчыма палічыць, каб гэтыя «нарманы» былі скандынаўскімі дружынамі. Вядома, асабіста Гюйскар мог быць родам ці із Нарвегіі ці

заваяваўшы выспу Корфу, аблажылі Дырахій з сушы і з мора. Але прыйшоўшыя венецыянскія караблі, заключылі хаўрус з рамеямі, вызвалілі абложаны горад з боку мора, а на сушы Гюйскар перамог прыйшоўшае на чале з Аляксеем сухапутнае войска, у склад якога ўваходзілі македонскія славяне, туркі і нават варага-ангельская (!!) дружына. Толькі паўстанне ў паўднёвай Італіі вымусіла Роберта выдаліцца.

Такім чынам яго наступальная спроба на Балканскай паўвыспе зведала паразу. Але пытанне пра паўднёва-італійскія ўладанні Рамеі-Візантыі было пры ім вырашана канчаткова. Роберт здолеў аб'яднаць у адно цэлае розныя тамтэйшыя графствы і ўтварыць Апулійскае герцагства. Ён, згодна са сведчаннем Шаландона, «адкрыў для славалюбства сваіх нашчадкаў новую дарогу: пачынаючы з гэтага часу італійскія «нарманы» будуць накіроўваць свае позіркі на ўсход і за кошт грэцкай імперыі Боемунд, праз дванаццаць гадоў, задумае стварыць для сябе княства».

Гэтая ж падзея стала падмуркам і венецыянскай «марской кар'еры». Венецыя, дапамогшая флотам Аляксею Камніну, атрымала ад яго вялізныя гандлёвыя прывілеі, стварыўшыя для рэспублікі св. Марка вельмі выключнае становішча. Акрамя шыкоўных падарункаў венецыянскім цэрквам і ганаровых тытулаў з вызначаным утрыманнем дожу і венецыянскаму патрыярху з іхнымі наступнікамі, імператарская грамата Аляксея надавала венецыянскім купцам права куплячня і продажу на ўсёй прасторы імперыі і вызваліла іх ад усіх мытных, партовых і іншых, злучаных з гандлем, збораў.

Візантыйскія ўрадоўцы не мелі права аглядаць іхныя тавары. У самой сталіцы венецыянцы атрымалі цэлы квартал і тры марскія прыстані, дзе венецыянскія караблі маглі вольна грузіцца і выгружацца. Грамата Аляксея дае цікавы спіс найбольш важных у гандлёвым дачыненні візантыйскіх месцаў, прыморскіх і ўнутраных, адкрытых для Венецыі, у паўночнай Сірыі, Малой Азіі, на Балканскай паўвыспе, у Грэцыі і на выспах, заканчваючы Цар-Горадам, які ў дакуменце названы Мегалапалем, г.азн. Вялікім Горадам, як і ў Апакаліпсісе вялікае ўмацаванне Брама Госпада (Вавілон, па-жыдоўску). Адносна гэтага прывяду толькі два выказванні; «Упаў, упаў Вавілон, Вялікі Горад, за тое, што лютым віном свайго блудадзейства напаіў усе народы (Ап. XIV, 8)» і «Гора, гора табе, Вавілон, Вялікі горад! (Ап. XVIII, 10)». І калі гэтае найменне ужываецца ў афіцыйным дакуменце, то без сумневаў яно было ўсевядомым і агульнапрынятым у Рамеі. А Канстантынопалем, напэўна, пачалі клікаць гэты горад толькі хрысьціянскія тэолагі з мэтай затушаваць яго адзінства са старажытным класічным Рымам і з «Фінікійскім Царом горадам (горад Цур, пераіначаны з той жа мэтай у горад Цір) ці ж гэта проста азначае: умацаванне.

Паглядзім зараз, што ж адбывалася ў той час на ўсход ад Рамеі. Там на гістарычныя падмосткі выйшаў загадкавы ўкраінскі народ. Грэцкія аўтары называюць яго бісенамі, лаціны – пацынакамі, а рускія печанегамі (печнікамі?), і даюць ім прастору ад Ніжняга Дона да Ніжняга Дуная, а ў наступным IX стагоддзі

---

із французкай Нармандыі, але няйнакш як у якасьці выхадца-авантурыста ці нашчадка выхадца-авантурыста, паступіўшага на італійскую службу, і зрабіўшагася правадыром (dux) мясцовага войска, з якімім і дзейнічаў. Немагчыма ж, напрыклад, панаванне ў нас немцаў пры цару Мікалаю I назваць нямецкай заваёвай Рускай імперыі ў сярэдзіне XIX стагоддзя? Тое ж самае можна сказаць і пра нарманаў у Кіеўскім княстве, у Англіі і г.д. Гэтае пытанне яшчэ патрабуе сур'ёзнай распрацоўкі грунтуючыся не толькі на адной «літары старажытных паведамленняў», але і з рацыяналістычнага боку гледжання.

яны разам з хазарамі (гусарамі?) праваліліся скрозь зямлю, не пакінуўшы ні найменшага сьледу на яе паверхні. Але ніякіх катастрафічных землятрусаў тады не было, і таму можна думаць, што слова печанегі толькі адменная назва вугорцаў і казакаў[356], таму што Ганна Камніна называе іх скіфамі, г.азн. качэўнікамі, тулягамі.

Калі перамога над «нарманамі» і сьмерць Гюйскара дазволілі Аляксею вярнуць візантыйскую тэрыторыю на захадзе да Адрыятычнага ўзбярэжжа, то на іншых межах, дзякуючы нападу малаазійцаў (турак) і «печанегаў», імперыя значна паменшылася ў сваіх памерах. Ганна Камніна піша, што на «ўсходзе ў гэты час мяжой Рамейскай дзяржавы быў суседні Басфор, а на захадзе Адрыянопаль».

Нам паведамляюць, што перша-ўкраінцы (печанегі) у сваіх дзеяннях супраць Візантыі знайшлі сабе хаўруснікаў і ўсярэдзіне самой імперыі ў асобе жыўшых на Балканскай паўвыспе паўлікіян, напэўна, аднаверных з «печанегамі».

Цэнтрам паўлікіянства на Балканскай паўвыспе зрабіўся горад Філіпопаль. Яны адкідалі статуі, абразы, сьвятых, ушанаванне крыжа, манаства і звычаі царквы, але прызнавалі Месію-Хрыста і акрамя бога і стваральніка лічылі моцным і яго ворага – сатану. У X стагоддзі яны пашырыліся па Баўгарыі дзякуючы пераўтваральніку гэтага вучэння Багамілу, згодна з імем якога візантыйскія пісьменнікі называлі іх пазьней багамілами, таксама адкідаўшымі і выявы, і таемствы і, – кажуць, – быццам бы яшчэ лічыўшымі рэчаісны сьвет стварэннем сатаны, а не бога.

Із Баўгарыі багамільства пазьней перайшло ў Сербію і Босьнію, а потым і ў Заходнюю Яўропу, дзе паслядоўнікі гэтага вучэння насілі розныя назвы: патарэны ў Італіі, катары ў Германіі і Італіі, пабліканы (г.азн. паўлікіяне) ці альбігойцы ў Францыі і г.д.

Замест таго, каб абараняць візантыйскія межы ад паўночных варвараў, багамілы, наадварот, паклікалі «печанегаў» для змагання супраць Візантыі. Да печанегаў далучыліся і куманы, г.азн. полаўцы, верагодна першапачатковыя паляне і палякі.

Змаганне з печанегамі-скіфамі, нягледзячы на часовыя поспехі, было вельмі цяжкім для Візантыі. Аднойчы яны дайшлі нават да сьцен Цар-Горада.

Становішча імперыі зрабілася яшчэ больш крытычным, калі з поўдня пачаў пагражаць сталіцы пірат Чаха, жыўшы пад час маладосьці ў Цар-Горадзе пры двары Нічыпара Батаніка і надзелены візантыйскім чынам. Ён збег у Малую Азію пры ўступленні на пасад Аляксея Камніна. Завалодаўшы Смірнай і некаторымі іншымі гарадамі заходняга ўзбярэжжа і выспамі Эгейскага мора з дапамогай створанага ім флота, Чаха задумаў здзейсніць удар і па Цар-Гораду і наладзіў дачыненні з печанегамі на поўначы і з мала-азіяцкімі сельджукамі на ўсходзе. Упэўнены ў поспеху свайго прадпрыемства, ён ужо загадзя назваў сябе імператарам, упрыгожыў сябе знакамі царскай вартасьці і марыў зрабіць Цар-Горад цэнтрам сваёй дзяржавы. Каб больш выразна зразумець усе тагачасныя ўзаемадачыненні партый, не патрэбна выпускаць із-пад увагі таго, што як печанегі, так і сельджукі, г.азн. туркі ці таўрыкі (жыхары Таўра і Антытаўра), былі агаранамі, ужо аб’яднаныя пілігрымствамі у Меку і прыйшоўшыя да ўсьведамлення свайго рэлігійнага сваяцтва.

Напалоханы Аляксей звярнуўся да палавецкіх ханаў (г.азн. да польскіх правадыроў, якіх рускія летапісы клічуць Тугор-ханам і Банякам). Даўшы Аляксею

[356] Галоўнай першакрыніцай пра печанегаў служыць кніга, прыпісваемая імператару Кастусю Барвянароднаму: «Пра кіраванне імперыяй».

слова, полаўцы выканалі яго. 29 красавіка 1091 года адбылася, – кажуць нам, – кровапралітная бітва, у якой украінскія «печанегі» былі пераможаны.

«Можна былоназіраць, – паведамляе Ганна Камніна, – незвычайнае відовішча: цэлы народ, лічыўшыся не дзясяткамі тысяч, а перавышаўшы ўсякую колькасць, з жонкамі і дзецьмі цалкам загінуў пад час гэтага дня». Толькі-што згаданая бітва знайшла водгук у складзенай тады візантыйскай песьні:

«Праз адзін дзень скіфы (як і Ганна Камніна заве печанегаў) не пабачылі траўня».

Аляксей з урачыстасцю вярнуўся ў сталіцу. «Скіфы» ж, паспеўшыя выратавацца на Ўкраіну, за Балканы, былі настолькі паслаблены, што на працягу трыццаці гадоў не распачыналі нічога супраць Візантыі.

Чаха, не паспеўшы сваім флотам дапамагчы ім, адступіў. А імператар настроіў супраць яго нікейскага султана, які, запрасіўшы Чаху на баль, уласнаручна забіў яго, пасьля чаго заключыў мірнае пагадненне з Аляксеем. Такімі сяброўскімі былі дачыненні паміж агаранамі і хрысьціянамі нават і ў 1091 годзе і, гэта азначае, што яны не аддавалі адзін аднаго анафеме і адлучэнню, што ўпершыню адбылося толькі ў 1180 годзе.

Пад час жахлівых дзён 1091 года Аляксей шукаў сабе хаўруснікаў не толькі ў асобе полаўцаў (палякаў), але і людзей лацінскага захаду. На захад імператарам былі накіраваны лісты, запрашаючыя ісьці да яго з усіх бакоў у наёмнае войска.

У сувязі з выкладзенымі падзеямі, – выказваецца А. А. Васільеў, – гісторыкамі разбіраецца вядомы ў літаратуры ліст Аляксея Камніна да яго старога знаёмага, праязджаўшага за некалькі дзён перад тым праз Цар-Горад, графа Роберта Фландрскага. У гэтым лісьце імператар малюе роспачнае становішча «найсвяцейшай імперыі грэцкіх хрысьціянаў, моцна ўціскаемых печанегамі і туркамі»; распавядае пра забойствы і зневажанні хрысьціянскіх дзяцей, юнакоў, жонак і паннаў, пра тое, што амаль уся тэрыторыя імперыі ўжо захоплена ворагамі.

– «Застаўся амаль толькі адзін Канстантынопаль, які ворагі пагражаюць забраць у нас у самы блізкі час, калі да нас не падаспее хуткая дапамога боская і верных хрысьціянаў лацінскіх». Імператар «бегае перад тварам турак і печанегаў» із аднаго горада ў другі і аддае перавагу аддаць Цар-Горад лепш у рукі латынянаў, чым паганцаў. Ліст пералічвае доўгі шэраг сьвятыняў, захоўваемых у сталіцы, і нагадвае пра назапашаныя ў ёй незлічоныя багацці і каштоўнасьці.

«Спяшайцеся з усім народам вашым, напружце ўсю вашу моц на тое, каб такія скарбы не патрапілі ў рукі турак і печанегаў... Дзейнічайце, пакуль маеце час, каб хрысьціянскае царства і, што яшчэ больш важна, труна госпада, не былі для вас страчаны і каб вы маглі атрымаць не асуджэнне, але ўзнагароду на небесі. Амэн!».

Гэты дакумент, малюючы ў такіх яскравых фарбах крытычнае становішча Візантыі каля 1090 года, выклікаў цэлую літаратуру. Справа ў тым, што ён дайшоў да нас, як і большасць першакрыніц да-друкаванай эпохі, толькі ў выглядзе вельмі позняй копіі і прытым толькі ў лацінскай рэдакцыі. Думкі візантыстаў падзяліліся. У той час, як В. Г. Васілеўскі і Ф. І. Успенскі лічаць яго сапраўдным, іншыя (із навейшых – француз Рыан) лічаць яго падробленым. А трэцція прызнаюць існаванне нейкага, не дайшоўшага да нас арыгінала, адрасаванага Аляксеем Камнінам да Роберта Фландрскага, грунтуючыся на якім лацінскі ліст быў складзена некім на Захадзе для ўзрушэння крыжакоў незадоўга да іхнага першага паходу[357].

---

[357] Chalandon, 311, 334, 339 (там і гісторыя пытання).

Аднак, такім чынам можна апраўдаць які заўгодна апокрыф, і таму даводзіцца да з'яўлення новых доказаў спыніцца толькі на фальшывасьці.

Яшчэ да часу першага крыжовага паходу, акрамя памянёных народаў, пры Аляксею Камніну пачалі набываць некаторае значэнне сербы і мадзяры. У другой палове XI стагоддзя Сербія дамаглася незалежнасьці, якая была аформлена прыняццем сербскім князем каралеўскага тытула (краля). Гэта было першае сербскае каралеўства са сталіцай ў Скадры (Скутары). А Вугоршчына пачала імкнуцца да ўзбярэжжа Далмацыі, што выклікала незадаволенасць як з боку Венецыі, так і з боку Візантыі.

І ў гэты ж час Аляксей Камнін раптам пачуў пра набліжэнне да мяжы сваёй дзяржавы першых крыжацкіх, атрадаў...

Навошта яны ішлі?

Немагчыма, як след, зразумець сэнсу крыжовых паходаў, калі разглядаць іх толькі з боку гледжання развіцця паломніцтва хрысьціянаў у Палестыну ці адказ на толькі-што прыведзены апакрыфічны ліст. Ужо ў першым крыжовым паходзе можна адзначыць існаванне мірскія мэтаў і зямных інтарэсаў.

«Нягледзячы на амаль бесперапыннае змаганне з арабамі, – выказваецца А. А. Васільеў[358], – на працягу доўгага часу **ні Візантыя, ні Заходняя Яўропа не бачылі ў мусульманах прадстаўнікоў новай асобнай рэлігіі, а лічылі іх за сектантаў, якіх было так шмат у імперыі і якіх збліжалі з арыянамі**» (г.азн., па-нашаму, з жыдамі).

Пад час эпохі Карла Вялікага, напачатку IX стагоддзя, у Палестыне існавалі гасьцініцы і лякарні для хрысьціянскіх паломнікаў, будаваліся новыя цэрквы, кляштары, для чаго Карлам выпраўлялася ў Палестыну вялікая «міластыня»; а пры цэрквах уладкоўваліся бібліятэкі. Паломнікі бесперашкодна ездзілі «да сьвятых месцаў». Пераход Палестыны ў другой палове X стагоддзя (969 год) пад уладу ягіпецкай дынастыі Фатымідаў не меў ніякіх істотных перамен для спрыяльнага становішча ўсходніх хрысьціянаў і ў бяспекі прыязджаўшых туды паломнікаў.

Але раптам, – кажуць нам, – у XI стагоддзі абставіны рэзка перамяніліся і дзякуючы якой жа нікчэмнай нагодзе!

«Звар'яцелы фатымідзкі халіф ал-Хакім, гэты ягіпецкі Нярон[359] раптам пачаў жорсткія пераследы хрысьціянаў і юдэяў на ўсёй прасторы сваіх уладанняў. Адпаведна з яго загадам, у 1009 годзе храм Успення і Галгофа ў Ерусаліме былі разбураны. Царкоўныя сьвятыні і багацці былі раскрадзены, манахі прагнаны, паломнікі зведалі перасьледы». Згодна са сведчаннем тагачаснага хрысьціянскага арабскага (і, напэўна, падробленага) гісторыка, выканавец суровай волі ал-Хакіма «спрабаваў знішчыць саму труну госпада, нават знішчыць яе след. Ён разбіў і разбурыў вялікую яе частку». «Напалоханыя хрысьціяне і жыды натоўпамі ціснуліся ў мусульманскіх канцылярыях, абяцаючы адрачыся ад хрысьціянства і перайсьці ў мусульманства».

Але ці сапраўды ўсё гэта праўда? Адразу ж пасьля апісаных тут пераследаў паміж Візантыяй і Фаціміdамі быў, – паведамляюць нам самі ж візантыісты, – заключаны мір і візантыйскія імператары «аднавілі» храм Успення ў палове XI стагоддзя пры імператару Кастусю Манамаху. Але ці не азначае гэта, што ён толькі тады і быў пабудаваны, а звар'яцеласць ал-Хакіма спецыяльна прыдумана для таго, каб новай пабудове надаць выгляд аднаўлення чагосьці старажытнага? Гэта ж звычайны прыём усіх апакрыфістаў. А фактам з'яўляецца толькі тое, што паломнікі працягвалі мець вольны доступ у «Сьвятую зямлю», і першакрыніцы гэтага часу

[358] А. А. Васільеў, Візантыя і крыжакі, стар. 24.
[359] Барон Разен, Імператар Васіль-Баўгарабойца СПБ., 1883, стар. 4& і стар. 48.

пазначаюць сярод іншых асоб, аднаго із найбольш знакамітых пілігрымаў – Роберта Дз'ябла, герцага Нармандзкага. І ў гэты ж час, г.азн. пад час трыццатых гадоў XI стагоддзі, у Ерусалім прыязджаў і знакаміты вараг той эпохі Гаральд Гардрад.

«Храм Успення» меў тады «належную прыгажосць», пра што сведчыць, напрыклад, рускі паломнік ігумен Даніла, наведаўшы Палестыну пад час першых гадоў XII стагоддзя, г.азн. пад час першых гадоў існавання Ерусалімскага каралеўства, заснаванага ў 1099 годзе пасьля першага Крыжовага паходу. Гэты Даніла пералічвае нават слупы храма, згадвае пра выкладзеную мармурам падлогу і шэсць дзьвярэй і дае цікавыя паведамленні пра мазаікі. У яго ж мы знаходзім сведчанні і пра шматлікія іншыя цэрквы і «сьвятыні» Палестыны, злучаныя з новазапаветнымі ўспамінамі. Згдна са сведчаннем яго і сучаснага яму англа-саксонскага паломніка Зевульфа «паганыя сарацыны» былі непрыемнымі толькі тым, што, хаваючыся ў горах і пячорах, часам рабілі напады дзеля рабавання на праязджаўшых па дарогах пілігрымаў.

«Агаранская памяркоўнасць у дачыненні да хрысьціянаў выяўлялася і на Захадзе». Калі, напрыклад, на прыканцы XI стагоддзя гішпанцы забралі ў арабаў горад Таледа, то знайшлі хрысьціянскія храмы ў горадзе агульнапрызнанымі, і набажэнствы ў іх здзяйсняліся бесперашкодна. А пад канец таго ж XI стагоддзя, калі «нарманы» заваявалі ў агаранаў Сіцылію, яны, нягледзячы на больш чым двухстагоддзевае панаванне апошніх на выспе, знайшлі там вялізную колькасць хрысьціянаў, гэтак жа вольна як і агаране, выпраўляўшых сваю веру.

Але, вось, у процівагу Евангеллю загрымеў Каран. Памацнеўшыя ў XI стагоддзі туркі-сельджукі, перамогшы візантыйскае войска пры Манцікерте (1071), заснавалі ў Малой Азіі Румскі (Рымскі) султанат і пачалі пашыраць свае ўладанні. В 1078 годзе сын пераможцы пры Манцікерте, Алі-Аслан, захапіў Ерусалім. Хутка пасьля гэтага туркі ў Сірыі спакусілі Антыёхію, зацвердзіліся ў Нікеі, Кізіку, Смірне, а ў Эгейскім моры захапілі выспы Хіяс, Лесбас, Самас, Родас. Толькі-што пашырыўшыся ў асяроддзі арыян (яны ж – агаране) Каран з яго дэвізам «Няма бога, акрамя бога, і (султан) Махмуд – яго прарок», вырабляў абразазмагальніцкі ўплыў, падахвочваючы знішчаць розныя выявы ў храмах. Становішча еўрапейскіх паломнікаў у Ерусаліме і ў іншых месцах пагоршылася. Візантыйскія імператары пасьля Манцікертскай паразы ўжо не маглі справіцца з туркамі аднымі ўласнымі намаганнямі. Іхныя позіркі накіраваліся на Захад, галоўным чынам на папу, які, як духоўны кіраўнік заходне-еўрапейскага сьвету, быў здольным сваім уплывам заахвоціць заходнееўрапейскія народы да інтэрвенцыі.

Акрамя ідэйнага боку справы, г.азн. дапамогі ўсяму хрысьціянскаму сьвету, папы, вядома, мелі на ўвазе і інтарэсы каталіцкай царквы ў сэнсе яе далейшага ўзмацнення і магчымасьці вяртання ўсходняй царквы ва ўлонне царквы каталіцкай. Пачатковая думка візантыйскіх імператараў атрымаць з Захаду толькі дапаможныя наёмныя атрады ператварылася пад уплывам папскага павучання ў ідэю пра крыжовы паход Заходняй Яўропы на Ўсход, г.азн. пра масавы рух заходне-еўрапейскіх народаў пад кіраўніцтвам іхных найбольш выбітных вайсковых правадыроў.

Яшчэ да Камнінаў, пад пагрозай вяртання ўжо перажытага абразазмагальніцтва, а разам з ім і пагрозы для ўласнай улады, стаўшай непадзельнай з евангельскім хрысьціянствам і з яго аднажонкавым сямейным уладкаваннем, імператар Міхал VII Дзюка-Пачатвяральнік звярнуўся з лістом да

першага рымскага папы Рыгора VII[360], просячы яго пра дапамогу і абяцаючы яму за гэта аб’яднанне цэркваў. Папа даслаў цэлы шэраг лістоў з абяцаннямі дапамагчы гінучай імперыі. У лісьце да графа Бургундзкага ён пісаў:

«*Мы спадзяёмся, што пасьля падначалення нарманаў, мы пераправімся ў Канстантынопаль на дапамогу хрысьціянам, якія, быўшы моцна прыгнечаны частымі ўкусамі саракін, прагна просяць, каб мы ім падалі руку дапамогі». У другім лісьце Рыгор VII згадвае «пра варты жалю лёс гэтай вялікай імперыі». У лісьце да германскага валадара Генрыха IV папа пісаў пра тое, што «вялікая частка заморскіх хрысьціянаў вынішчаецца паганцамі ў нечуванай паразе, падабна быдлу і што род хрысьціянскі знішчаецца. Яны пакорліва моляць нас пра дапамогу, каб хрысьціянская вера ў наш час, – чаго не дай, божа! – цалкам не загінула». «Паслухмяныя папскаму перакананню, італьянцы і іншыя еўрапейцы* (ultramontani) *ужо рыхтуюць войска звыш 50000 чалавек і, паставіўшы, калі магчыма, на чале экспедыцыі папу, маюць намер падняць супраць ворагаў бога і дайсьці да труны господа*».

«*Да гэтай справы*, – піша далей першы рымскі папа, – *мяне асабліва падахвочвае таксама і тая акалічнасць, што Канстантынопальская царква, раней непагаджаўшаяся з намі адносна выходжання сьвятога духу, імкнецца зараз да пагаднення з апостальскім пасадам*».

Із гэтага добра бачна, што гаворка ідзе не толькі пра вызваленне «Сьвятой зямлі». Даваемая папай дапамога абумаўліваецца аб'яднаннем цэркваў, сьвятая вайна супраць ісламу стаяла на другім месцы, і папа, узбройваючы заходняе хрысьціянства на змаганне з мусульманскім усходам, меў на ўвазе «схізматычны» Ўсход. Ён для Рыгора VII быў больш жудасным, чым іслам. Лічачы лісты Рыгора VII першай задумай крыжовых паходаў, мы павінны пазначыць сувязь паміж гэтым планам (1078 г.) і падзелам цэркваў 1054 года.

Справа, пачатая на Захадзе Рыгорам VII, набыла шырокія памеры, дзякуючы перакананаму і дзейнаму папе Урбану II.

У лістападзе 1095 года ў Клермоне (у Аверні, у сярэдняй Францыі) адбыўся знакаміты сабор, на які з'ехалася так шмат народу, што ў горадзе не знайшлося дастаткова месца для ўсіх прыбыўшых. Натоўп размясьціўся пад голым небам. Пасьля заканчэння сабору, на якім было разгледжана шмат найбольш важных бягучых спраў, Урбан II звярнуўся да сабраўшыхся з прамовай, праўдзівы тэкст якой да нас не дайшоў, а «яе аднаўляльнікі даюць нам тэксты, моцна адрозніваючыяся адзін ад аднаго». Папа, – кажуць, нам, – быццам бы заклікаў натоўп падняць зброю дзеля вызвалення «труны господа» і ўсходніх хрысьціянаў. З крыкамі»: «Бог гэтага хоча!» (Deus lo volt! – у хроніцы) натхнёны натоўп кінуўся да папы. Згодна з яго прапановай, будучым удзельнікам паходу былі нашыты на адзенне чырвоныя крыжы (адкуль і назва «крыжакі»); ім было абяцана дараванне грахоў; пакінутая ў сядзібах іхная маёмасць абвяшчялася пад абаронай царквы. Крыжацкі зарок лічыўся неадмяняемым і яго парушэнне вабіла за сабой адлучэнне ад царквы. Стварыўся шырокі рух на Ўсход, сапраўдныя памеры якога на Клермонскім саборы яшчэ немагчыма было і прадбачыць.

А для тых каго пажадалі вызваліць, год Клермонскага сабору быў самым спакойным часам, які толькі перажывала імперыя з пачатку валадарання Аляксея Камніна! У 1095 годзе імператар у дапамозе не меў патрэбы. Ідэя пра паход для вызвалення сьвятых месцаў, ужо даўно не належаўшых імперыі, яму і ў галаву не прыходзіла. Для папства ж, толькі нядаўна ўтварыўшагася із Рымскага

---

[360] Да яго існавалі толькі «вялікія рымскія пантыфексы».

пантыфікату, крыжовыя паходы адчынялі шырокія гарызонты: у выпадку поспеху прадпрыемства, яны вернуць ва ўлонне каталіцкай царквы «схізматычную» Візантыю.

Я выказваўся пра крыжовыя паходы ў пятым томе майго «Хрыста», але для складнасьці гэтага выкладання, перадам і зараз амаль уласнымі словамі нашага вядомага візантыіста А. А. Васільева, таму што, паўтараю, я не прэтэндую на адкрыццё новых гістарычных фактаў і дакументаў, невядомых да гэтага часу, а толькі на рацыяналізацыю таго, што ўжо і без мяне вядома спецыялістам у кожнай разгляданай мной вобласьці.

Мы бачылі толькі што, як заклік папы Ўрбана натхніў толькі набрыдзь. Сабраўся натоўп, большай часткай, із лайдачых людзей, дробных рыцараў, не маючых сядзібы валацуг з жонкамі і дзецьмі, амаль без зброі, і рушыў праз Германію, Вугоршчыну і Баўгарыю да Цар-Горада. Гэтае невуцкае зборышча пад правадырствам Пятра Ам'енскага і другога прапаведніка, Вальтэра Галяка, не ведаўшае, дзе яно праходзіць, і не прывучанае да падпарадкавання і парадку, толькі рабавала і руйнавала прамежкавыя краіны. Падышоўшы да Цар-Горада і размясьціўшыся ў яго наваколлі, крыжакі пачалі згодна са сваім звычаем займацца рабаваннем. Напалоханы імператар паспяшаўся пераправіць іх у Малую Азію, дзе яны і былі без цяжкасьці перабіты туркамі каля Нікеі. А Пятро Пустынік яшчэ да катастрофы збег назад у Цар-Горад.

Але гэтая авантура ўсё ж моцна ўзбудзіла ўяўленне заходне-еўрапейскай ваеншчыны. Летам 1096 года на Захадзе пачаўся крыжацкі рух графаў, герцагаў і князёў, г.азн. сабралася ўжо сапраўднае войска.

Адна частка такіх згуртаванняў накіравалася сухім шляхам у Цар-Горад, другая частка – морам. Па дарозе сухапутныя крыжакі, падабна папярэднічаўшаму згуртаванню Петра Ам'енскага, рабавалі праходзімыя мясцовасьці і рабілі разнастайныя гвалты. Паміж прыйшоўшымі латынянамі і грэкамі адразу стварылася атмасфера ўзаемнага недаверу і недобрзычлівасьці. Яны сустрэліся не толькі як схізматыкі, але і як палітычныя супернікі, якія пазьней павінны будуць вырашыць паміж сабой спрэчку зброяй.

Пасьля таго, як крыжакі паступова сабраліся каля Цар-Горада, Аляксей Камнін, хітра сустрэўшы іх як сваіх вызваліцелей ад уяўляемага ярма, хутчэй пераправіў і іх у Малую Азію. У чэрвені 1097 года крыжакам здалася Нікея, якую яны павінны былі адпаведна з дамовай заключанай з імператарам перадаць візантыйцам. Наступная перамога крыжакоў пры Дарылеі (зараз Эскі-Шэхір) вымусіла турак ачысьціць заходнюю частку Малой Азіі і адыйсьці ўнутр краіны, пасьля чаго саслабелай Рамеі прадаставілася поўная магчымасць аднавіць сваю ўладу на мала-азіяцкім узбярэжжы. Нягледзячы на прыродныя цяжкасьці, кліматычныя ўмовы і супраціў агаранаў, крыжакі пасунуліся далёка на ўсход і паўднёвы ўсход, Балдуін Фландрскі завалодаў у верхняй Месапатаміі горадам Эдэсай і ўтварыў із яго вобласьці сваё княства, руіны якога і лічацца за парэшткі старажытнай Асіра-Вавілоніі.

Потым пасьля доўгай аблогі крыжакам здаўся галоўны горад Сірыі Антыёхія. Пасьля бязлітаснай аблогі «латыняне» 15 ліпеня 1099 года ўзялі штурмам Ерусалім і разрабавалі яго. Шмат скарбаў было вывезена ў Яўропу, і завяваная краіна, распасьціраўшаяся на вузкай берагавой паласе ў вобласьці Сірыі і Палестыны, атрымала назву Ерусалімскае каралеўства, валадаром якога быў

абраны Готфрыд Бульёнскі, пагадзіўшыся прыняць тытул «Абаронцы Труны Госпадавай». Новая дзяржава была ўладкавана адпаведна з заходнім узорам.

Але тут зноў адбылося нешта незразумелае са звычайнага боку гледжання. Візантыя, устрывожаная з'яўленнем лацінскіх княстваў у Антыёхіі, Эдэсе і Трыпалі, заключае супраць крыжакоў звяз з туркамі. У сваю чаргу і крыжакі, абсталяваўшыся ў сваіх новых уладаннях, баючыся ўзмацнення Рамейскай імперыі з боку Малой Азіі заключаюць звязы з туркамі супраць Візантыі. Хто ж тут каго лічыў за ерэтыкоў?

Ганна Камніна пакінула напісанае не без гумару апавяданне пра тое, як антыяхійскі князь Баэмунд, вяртаючыся ў Францыю морам праз Візантыйскія парты, для сваёй большай бяспекі ад нападу грэкаў, прыкінуўся памёршым, быў пакладзены ў труну і ў труне здзейсніў сваё падарожжа амаль аж да Італіі.

Урачыста сустрэты ў Яўропе, як герой і змагар за сьвятую справу, ён сабраў новае войска і пачаў вайсковыя дзеянні ўжо не супраць агаранаў, а адкрыта супраць Візантыі. Але ён пад Дурацо зведаў паразу і быў вымушаны заключыць з Аляксеем мір на ўмовах дапамогі імперыі супраць усіх яе ворагаў, будуць гэта хрысьціяне ці агаране.

Пры спадкаемцы Аляксея Камніна, Яну II, Малая Арменія, пашырыўшая свае межы між іншым і на кошт Візантыі, уступіла ў хаўрусніцкія дачыненні з лацінскімі князямі на Ўсходзе, выявіўшы гэтым сваё варожае стаўленне да імперыі. Ян Камнін выступіў у паход, жадаючы пакараць яе і разам з тым вырашыць пытанне пра Антыяхійскае княства, якое не падначалілася яму, насуперак дамове Аляксея Камніна з Боэмундам.

Паход Яна завяршыўся поўным поспехам. Кілікія была заваявана, і армянскі князь са сваімі сынамі выпраўлены ў Цар-Горад. Павялічаная далучэннем Малой Арменіі візантыйская тэрыторыя дасягнула тады межаў Антыяхійскага княства. Аблажаная Антыёхія была вымушана прасіць у яго замірэння, якое і было падаравана Янам на ўмове прызнання сюзэрэнітэту імперыі. Антыяхійскі князь атрымаў із рук імператара інвестытуру на саступаемыя землі, а ў адзнаку узяцця Антыёхіі рамеямі на яе цытадэлі быў падняты імператарскі штандар.

Ян памёр у 1143 годзе, прызначыўшы спадкаемцай свайго малодшага сына Мануіла. Разам з яго сьмерцю лацінскія валадары на Ўсходзе пазбавіліся ад пагражаўшай ім небяспекі, а сельджукі, якія не знаходзілі ў асобе Мануіла належнага адпору, зноў пачалі пагражаць яму на ўсходняй мяжы.

Заключыўшы пад час першых гадоў свайго кіравання звяз з агаранскімі эмірамі Кападокіі, Мануіл бачыў сваім ворагам у Малой Азіі толькі румскага султана, з якім і пачаў вайну. Імператарскае войска паспяхова дайшло да Іконіі (Коніі), але паведамленне пра новы крыжовы паход, які ўяўляў пагрозу як для імператара, так і для султана, вымусіла абодвух заключыць мір.

У 1144 годзе адзін із агаранскіх валадароў Масула – атабегаў, як зваліся стаўшыя незалежнымі сельджукскія намесьнікі, – Зенгі, нечакана захапіў Эдэсу ў Месапатаміі. А валадар Сірыі Магамет Нур-Эддын, каля 1150 года, завалодаўшы Дамаскам, пачаў пагражаць Ерусалімскаму каралеўству. Потым знакаміты Саладын (1137-1193), султан Сірыі і Ягіпта, пасьля сьмерці Магамета-Нур-Эддына завалодаў яго Дамаскам і прыгатаваўся да паходу на Ерусалімскае каралеўства, што зрабіла моцнае ўражанне за Захадзе.

Новыя крыжакі вырашылі ў 1147 годзе пайсьці да Цар-Горада сухім шляхам, якім ішлі ўжо крыжакі першага паходу, і іхны рух суправаджаўся такімі ж гвалтамі і рабаваннямі, як і першы раз.

Калі германскае войска спынілася каля сьцен сталіцы, Мануіл выкарыстаў усе намаганні на тое, каб пераправіць яго ў Азію да прыходу французкага згуртавання, што і атрымалася. У Малой Азіі немцы адразу адчулі недахоп харчавання, а потым, зведаўшы напад турак, былі перабіты. Толькі вартыя жалю парэшткі германскага войска са сваім правадырам Конрадам III Гагенштаўфенам вярнуліся ў Нікею.

Але падступіўшыя да сталіцы французы яшчэ больш напалохалі Мануіла. Людовік VII, з якім не задаўга да паходу ўступіў у перамовы апулійскі граф Ражэр, перакаўшы французкага караля ісьці на Ўсход праз яго італійскія ўладанні, быў асабліва падазроны для рамейскага імператара, як магчымы таемны хаўруснік Ражэра. А Ражэр, ведаючы, што Мануіл быў у гэты час цалкам паглынуты сваімі стасункамі з крыжакамі, нечакана захапіў выспу Корфу і спустошыў цэлы шэраг іншых візантыйскіх выспаў.

Мануіл толькі і марыў пра тое, як бы хутчэй пераправіць і французаў у Малую Азію. Была пашырана чутка, быццам бы немцы там дзейнічаюць пасьпяхова. Людовік пагадзіўся пераправіцца праз Басфор і нават прынёс Мануілу ленную прысягу. Але апынуўшыся ў Малой Азіі, ён даведаўся ад Конрада III праўду пра горкі лёс германскага войска. Іхнае французка-нямецкае войска пайшло далей, але пасьля цэлага шэрага выпрабаванняў і бедстваў зведала паразу пад Дамаскам. Расчараваны Конрад на грэцкім караблі пакінуў Палестыну і накіраваўся ў Салунь, дзе знаходзіўся Мануіл, рыхтуючыся да вайсковых дзеянняў супраць «нарманаў». Сустрэўшыся ў Салуні з Мануілам і абмеркаваўшы становішча, ён канчаткова заключыў з ім хаўрус з мэтай агульных дзеянняў супраць Апуліі і яе Ражэра. А застаўшыся ў Азіі Людовік, бачачы поўную немагчымасць нешта зрабіць з застаўшымся ў яго войскам, таксама праз некалькі месяцаў вярнуўся ў Францыю.

Бліскуча пачаты другі крыжовы паход скончыўся самым вартым жалю чынам. Агаране на Ўсходзе не толькі не былі паслаблены, але, наадварот, нанёсшы некалькі параз крыжакам, умацаваліся духам і спадзяваліся нават на набыццё ўсіх іхных уладанняў на Ўсходзе.

І вось, **толькі ў гэты час грэцкае сьвятарства пачало настойваць на адлучэнні агаранаў** (перазваных да таго ж у магаметанаў, – напэўна, адпаведна з імем султана Махмуда Газні) ад сваёй царквы.

Я ўжо паведамляў у VI томе (стар. 577), як цар-гародзкі патрыярх Хвядос і разам з ім Яўстафій Фэсалоніцкі супраць волі імператара Мануіла склікалі ў Цар-Горадзе мясцовы сабор, які, «загарэўшыся рэўнасьцю пра Хрыста», вымавіў у 1180. году:

«*Адлучэнне богу Магамета, пра якога кажуць, што ён ёсць бог усёвыкуты, які не нараджаў, не народжаны і якому ніхто не падобны*».

Пры гэтым сьвятарства зрабіла наіўную падробку: замест бог усясферны, па-грэцку – голасфайрас ὁλόσφαιρος), яно паставіла сугучнае з ім слова голасферас (ὁλόσφηρος) – усёвыкуты.

Аўтар таго часу Мікіта Ханіят паведамляе, што паміраючы Мануіл Камнін настойліва патрабаваў, каб слова **ўсёвыкуты** было выкінута і дамогся гэтага, так што ў чыне адлучэння магаметанаў, заснавальнікам якіх у той час мог быць толькі Махмуд-Газні (пачатак XI стагоддзя), засталося толькі:

«*Адлучэнне богу Магамета і ўсяму яго вучэнню і ўсім яго паслядоўнікам*!».

Так, праз 36 гадоў пасьля захопу масульскім валадаром на Еўфраце Эдэсы і далейшага наступлення агаранаў пад новым найменнем магаметанаў з толькі тады з'явіўшымся Каранам у руках замест Бібліі і Евангелля, адбыўся фатальны для Рамеі-Візантыі рэлігійны разрыў, і арыяне-агаране, ператварыўшыся ў мусульманаў, пачалі аднаўляць старую Вялікую Рамею амаль на ранейшых яе полігамічных пачатках і з заканадаўствам на карэйшыцкай гаворцы той жа біблейскай мовы.

Імператар Мануіл да самой сьмерці супрацівіўся адлучэнню ад царквы агаранаў нават і пад новым іхным найменнем магаметане. Але, вось, ён памёр у 1180 годзе, анафема супраць бога Махмуда прагрымела і ўсё ж не выратавала Візантыю.

«Разам з Мануілам, – згодна са словамі Гецберга, – навекі пагрузіўся ў магілу старажытны бляск і старажытная веліч Візантыі».

А ў аўтара XII стагоддзя Яўстафія Салунскага, сучасніка Камнінаў і Анёлаў, мы чытаем:

«Згодна з боскім прызначэннем, са сьмерцю васілеўса Мануіла Камніна загінула ўсё, што яшчэ заставалася цэлым у рамеяў, і ўсю нашу зямлю накрыў змрок, як бы пры зацьменні сонца».

Так характарызуе аўтар паступовы пераход грэцкіх парэшткаў Вялікай Рамеі пад уладу крыжакоў. А вось, і пралог да гэтага.

Пасьля сьмерці Мануіла на пасадзе апынуўся яго дванаццацігадовы сын Аляксей II (1180-1183); валадаркай была абвешчана яго маці Марыля Антыяхійская; усімі справамі дзяржавы распараджаўся ўлюбёнец апошняй протааўгусьцейшы Аляксей Камнін, пляменік Мануіла. Бязлітаснае змаганне прыдворных партый і працягваўшаяся лацінскае засілле прывялі да таго, што ў сталіцу быў пакліканы знакаміты Андронік, даўно ўжо меўшы славалюбівыя задумы завалодаць імператарскім пасадам і выступіўшы зараз у ролі абаронцы слабога, «аточанага злымі дарадцамі Аляксея II і змагара за грэцкія нацыянальныя інтарэсы. І незадоўга да яго ўступлення ў сталіцу там адбылася разаніна 1182 года грэкамі латынянаў, якую часам называюць «Канстантынопальская лазня».

Мы спынімся крыху на цікавай асобе Андроніка, якая характарызуе жыццё выэйшых станаў у Рамеі той эпохі.

«Прыгожы і вытанчаны, атлет і ваяр, добра адукаваны і чароўны ў стасунках, асабліва з жанчынамі, якія яго шанавалі, Андронік, – выказваецца Дэль, – быў той геніяльнай натурай, якая магла б стварыць із яго адраджэнца зняможанай візантыйскай імперыі, для чаго яму, магчыма, нехапала маральнага пачуцця».

А сучаснік Андроніка Мікіта Ханіят пісаў пра яго:

«*Хто нарадзіўся із такой моцнай скалы, каб быць у стане не паддацца струменям слёз Андроніка і не быць зачараваным лісьлівасьцю прамоваў, якія ён выліваў падобна цёмнай крыніцы*?».

Той жа гісторык у іншым месцы параўноўвае Андроніка са «шматаблічным Пратэем», старцам-прадракальнікам старажытнай міфалогіі, вядомым сваімі пераўтварэннямі.

Знаходзячыся, нягледзячы на вонкавае сяброўства з Мануілам, у яго на падазрэнні і не знаходзячы сабе поля дзейнасьці ў Візантыі, Андронік вялікую частку валадарання Мануіла правёў у тулляннях па розных краінах Яўропы і Азіі. Быдучы выпраўленым спачатку імператарам у Кілікію, а потым да межаў

Вугоршчыны, Андронік, абвінавачаны ў палітычнай здрадзе і ў замаху на жыццё Мануіла, быў зняволены ў царгародзкую турму, дзе правёў некалькі гадоў і адкуль, пасьля шэрага незвычайных прыгод, яму, карыстаючыся закінутай вадасцёкавай трубой, атрымалася збегчы для таго, каб зноў быць злоўленым і зняволеным яшчэ на некалькі гадоў у вязніцу. Зноў збегшы із зняволення на поўнач, Андронік знайшоў сховішча ў Расіі, у галіцкага князя Яраслава Ўладзіміравіча. Рускі летапіс пазначае пад 1162 годам:

«*Прыбёгшы із Цара-Горада братан цараў кюр* (г.азн. кір – гаспадар) *Андронік да Яраслава ў Галіч і прыняў яго Яраславаў з вялікім шанаваннем, і даў яму Яраслаў некалькі гарадоў на суцяшэнне*».

Адпаведна з паведамленнямі візантыйскіх крыніц, Андронік сустрэў у Яраслава ветлівы прыём, жыў у яго сядзібе, еў і паляваў з ім разам і нават браў удзел у яго радах з баярамі. Аднак, яго знаходжанне пры двары галіцкага князя здалося небяспечным Мануілу, таму што неспакойны сваяк ужо наладжваў стасункі з Вугоршчынай, з якой у Візантыі пачыналася вайна. Мануіл, адчуваючы небяспеку, вырашыў прасіць Андроніка вярнуцца да яго, і ён, згодна са сведчаннямі рускага летапісу, «з вялікім гонарам», быў адпушчаны Яраславам із Галічыны ў Цар-Горад.

Атрымаўшы ў кіраванне Кілікію, Андронік нядоўга прабыў на новым месцы. Праз Антыёхію ён з’ехаў у Палестыну, дзе ў яго ўзнік сур'ёзны раман з Хвядорай, сваячкай Мануіла, удавой ерусалімскага караля. Угневаны імператар аддаў загад асляпіць Андроніка, але ён, будучы своечасова папярэджаны пра небяспеку, збег з Хвядорай за мяжу і на працягу некалькіх гадоў туляўся па Сірыі, Месапатаміі, Арменіі і некаторы час правёў нават у далёкай Іберыі.

Нарэшце, пасланнікам Мануіла атрымалася захапіць горача кахаемую Андронікам Хвядару з яго дзецьмі, пасьля чаго ён сам, не будучы ў стане перанесьці такой страты, звярнуўся з прашэннем пра прабачэнне да імператара. Прабачэнне было дадзена, і Андроніка прызначылі валадаром малаазіяцкай вобласьці Понт, на ўзбярэжжы Чорнага мора, што з'явілася як бы ганаровым выгнаннем небяспечнага сваяка. Але ў гэты час, у 1180 годзе, памёр Мануіл, пасьля якога імператарам быў абвешчаны яго малалетні сын Аляксей II, калі Андроніку было ўжо шэсцьдзесят гадоў.

«Такой, – паведамляе А. А. Васільеў, – была ў галоўных рысах біяграфія асобы, на якую насельніцтва сталіцы, раздражнёнае латынафільскай палітыкай Марыі Антыяхійскай і яе ўлюбёнца Аляксея Камніна, ускладала ўсе свае надзеі. Вельмі спрактыкавана выстаўляючы сябе абаронцай патаптаных правоў малалетняга Аляксея II, нібы патрапіўшага ў рукі злых валадароў, і абвясьціўшы сябе сябрам рамеяў, Андронік здолеў прыцягнуць да сябе сэрцы насельніцтва. Адпаведна са сведчаннем Яўстафія Салунскага, ён для большасьці «быў даражэй самога бога, ці, прынамсі, стаяў адразу за ім». Падрыхтаваўшы ў сталіцы належнае становішча, новы правадыр народа рушыў да Цар-Горада.

Атрымаўшы паведамленні пра гэта сталічны натоўп даў волю сваёй нянавісьці да латынянаў. Ён з азвярэннем кінуўся (у 1182 годзе) на лацінскія сядзібы і пачалося знішчэнне, не разлічаючы ні стаці ні веку; натоўп граміў не толькі прыватныя сядзібы, але і лацінскія цэрквы і дабрачынныя ўстановы. У адной лякарні былі, перабіты ляжалыя ў ложку хворыя, папскі пасланнік пасьля здзекаў быў абезгалоўлены, шмат латынянаў было прададзена ў рабства на турэцкіх рынках. Гэтым збіццём латынянаў, вядомым у візантыстаў пад назвай «Канстантынопальская лазня 1182 года», адпаведна са словамі Ф. І. Успенскага,

была «калі не пасеяна, то атрымала падмацаванне фанатычная варожасць Захаду да Ўсходу».

Аляксей Камнін быў заняволены патрыётамі ў вязніцу і асьлеплены. Для ўмацавання свайго становішча Андронік пачаў паступова знішчаць сваякоў Мануіла і загадаў задушыць імператрыцу-маці – Марылю Антыяхійскую. Потым, вымусіўшы абвясьціць сябе суімператорам і даўшы, пры лікуючай публіцы, урачыстае абяцанне ахоўваць жыццё імператара Аляксея II, ён праз некалькі дзён аддаў загад таемна задушыць яго. Дзякуючы гэтаму ён у 1183 годзе, маючы ўжо шэсцьдзесят тры гады ад нараджэння, стаў адзінаўладным імператарам рамеяў, але, пачаўшы сваё валадаранне пакараннямі сьмерцю, ён і далей ужо не мог яе падтрымваць інакш як шляхам нечуваных жорсткасьцей, на што і была накіравана ўся ўвага імператара.

Просты народ, які яшчэ так нядаўна ўрачыстымі крыкамі сустракаў свайго выбранніка, адвярнуўся ад яго, як ад чалавека не выканаўшага таго што абяцаў, і пачаў шукаць новага прэтэндэнта на пасад. Прадстаўнікі шляхетных візантыйскіх радоў, перасьледуемых Андронікам, збеглі ў Італію і падахвочвалі італійскія ўрады да адкрыцця вайсковых дзеянняў супраць Візантыі, яшчэ пры жыцці Андроніка.

Пачалася дзесяцідзённая аблога Фесалонік «нарманамі» з мора і сушы. У жніўні 1185 года ўмацаванне была ўзята, і пераможцы вырабілі ў гэтым другім пасьля Цар-Горада горадзе імперыі жахлівы разгром і збіццё. Гэта было помстай латынянаў за «Канстантынопальскую лазню» 1182 года.

Пасьля некалькіх дзён рабавання нарманскае войска пайшло далей на ўсход у накірунку да Цар-Горада. Настрой у горадзе перамяніўся, незадаволенасць расла і вось у 1185 годзе ўспыхнула палацавая рэвалюцыя ўзвёўшая на пасад Ісака Анёла. Спроба Андроніка збегчы не атрымалася. Ён зведаў жахлівыя пакуты і абразы, якія перанёс з незвычайнаю цярплівасьцю. Новы імператар нават не дазволіў, каб разадраныя парэшткі Андроніка ганараваліся хаця б нйкага пахавання.

Такім было заканчэнне дынастыі Камнінаў.

Дынастыя Анёлаў, узведзеная на пасад рэвалюцыяй 1185 года на змену Камнінаў, паходзіла ад Кастуся Анёла, із малаазіяцкага горада Філадэльфія, чалавека нешляхетнага паходжання, адружанага з дачкой імператара Аляксея і даводзіўшагася дзедам Ісаку II Анёлу, першаму імператару із гэтага рода, такім чынам па жаночай лініі роднага Камнінам. Але ў 1195 годзе супраць Ісака была складзены змова яго братам Аляксеем, які пры падтрымцы некаторай часткі шляхты і войска пазбавіла імператара пасада. Пазбаўлены пасада і асьлеплены, ён быў заняволены ў вязніцу, а імператарам зрабіўся яго брат, вядомы ў гісторыі, як Аляксей III Анёл, часам Анёл-Камнін (1192-1203).

Але сын пазбаўленага пасада Ісака II, малады царэвіч Аляксей здолеў збегчы на пізанскім караблі із Візантыі ў Італію, адкуль ён паехаў у Германію да двара германскага валадара Піліпа Швабскага, адружанага з Ірынай, дачкой пазбаўленага пасада Ісака Анёла і сястрой збегшага ў Заходнюю Яўропу Аляксея. Гэта было перад пачаткам чацьвёртага крыжовага паходу.

Калі пасьля зацятага штурму латынянаў і роспачнага супраціву сталіцы, Цар-Горад 13 красавіка 1204 года перайшоў у рукі заходніх рыцараў, Рамея была знішчана і на яе месцы ўтварылася Феадальная Лацінская імперыя са сталіцай у Цар-Горадзе і з шэрагам васальных дзяржаваў у розных абласьцях Усходняй імперыі.

Пра яе я ўжо пісаў у V томе гэтай маёй працы, але паўтару, асноўнае і тут.

Галоўныя пункты дамовы, – як я ўжо паведамляў у V томе, – былі наступнымі: ва ўзятым горадзе будзе лацінскі ўрад. Утвораная із шасьці венецыянцаў і шасьці французаў рада абярэ імператарам таго, хто, згодна з іхнай думкай, лепш усяго зможа кіраваць краінай «дзеля славы бога і сьвятой рымскай царквы і імперыі». Імператару павінна належаць адна чвэрць заваёваў у сталіцы і па-за ёй, а таксама два сталічныя палацы, астатнія тры чвэрці заваёў павінны быць падзелены напалову паміж Венецыяй і рыцарамі. Кіраўніцтва храмам Сафіі і абранне патрыярха будзе перададзена той краіне, із якой не будзе абраны імператар. Усе рыцары, атрымаўшыя буйныя ўладанні і больш драбныя надзелы, павінны прынесьці імператару феадальную прысягу. Адзін толькі дож Дандола будзе вызвалены ад якой бы то ні было прысягі. Такім быў падмурак, на якім была заснавана будучая Лацінская імперыя.

Мікіта Акамінат прысвячае загінуўшаму Цар-Гораду чуллівы і доўгі зварот са спасылкамі на старазапаветны «Плач Ераміі»:

«*О горад, горад*! – пачынае ён. – *Вока ўсіх гарадоў, прадмет апавяданняў ва ўсім сьвеце! Гледзішча вышэй сьвету, карміцель цэркваў, правадыр веры, даведнік праваслаўя, апякун асьветы, ёмішча якой бы то ні было выгоды! І ты выпіў чарку гневу ад рукі госпада, і ты зрабіўся ахвярай полымя, яшчэ больш лютага чым полымя, упаўшае раней на пяць гарадоў*! і г.д.»[361]

«Падзел Раманіі» (Partitio Romaniae, як латыняне і грэкі звалі Ўсходнюю імперыю), быў праведзены ў агульным на грунце выпрацаванай у сакавіку 1204 года пастановы. Болдуін атрымаў паўднёвую Фракію і невялікую частку паўночна-заходняй Малой Азіі, прылягаючую да Басфора, Мармуровага мора і Гелеспонта, з некаторымі выспамі ў Эгейскім моры, як, напрыклад, Лесбас, Хіяс, Самас і некаторыя іншыя. Такім чынам, абодва берагі Басфора, і, Гелеспонта ўваходзілі ў склад уладанняў Балдуіна.

Выключныя выгоды атрымала ад «падзелу Раманіі» Венецыя, набыўшая некаторыя месцы на Адрыятычным узбярэжжы, напрыклад Дырахіум, Іянійскія выспы, большую частку выспаў Эгейскага мора, некаторыя месцы на Пелапанэсе, выспу Крыт, некаторыя гавані ў Фракіі ў Галіполі на Гелеспонце і шэраг месцаў пасярэдзіне Фракіі. Дандола, атрымаўшы візантыйскі тытул «дэспата», быў вызвалены ад васальнай прысягі Балдуіну і зваўся «валадарам чвэрці з паловай усёй Раманіі», г.азн. яе трох восьмых (quartae partis et dimidiae totius imperii Romaniae dominator), і гэты тытул заставаўся за венецыянскімі дожамі да паловы XIV стагоддзя.

Паводле дамовы храм Сафіі быў аддадзены ў рукі венецыянскага сьвятарства, і цар-гародзкім патрыярхам быў абраны венецыянец Тамаш Маразіні. Чацьвёрты крыжовы паход, стварыўшы «каланіяльную імперыю» Венецыі на Ўсходзе, падняў Венецыянскую рэспубліку на вышэйшую ступень яе палітычнай і эканамічнай магутнасьці.

Баніфацый Манферацкі атрымаў Афіны. Яны пад час сярэдневечча былі яшчэ глухім, правінцыйным горадам, і Партэнонам тады яшчэ зваўся сабор у гонар панны Марылі. Але падчас лацінскай заваёвы напачатку XIII стагоддзя афінскім арцыбіскупам быў ужо знакаміты Міхал Акамінат, брат гісторыка Мікіты Акаміната, пакінуўшага нам шмат прамоваў, вершаў і лістоў, даючых вялікі матэрыял для ўнутранай гісторыі імперыі ў часы Камнінаў і Анёлаў і пра стан Атыкі і Афінаў пад час сярэдневечча. Гэтыя правінцыі ў творах Міхала малююцца

[361] Niceta Choniat, 763.

ў вельмі змрочным асьвятленні, з варварскім славянскім насельніцтвам, з варварскай гаворкай і з бяднасьцю яе насельніцтва.

А на Пелапанэсе, які часта называюць Марской зямлёю – Марэяй, утварылася княства Ахейскае, абавязанае сваім уладкаваннем французам. Двор ахейскага князя вызначаўся пышнасьцю і, згодна са сведчаннем адной першакрыніцы, «выглядаў больш вялікім, чым двор нейкага вялікага караля». Адпаведна са сведчаннем іншай першакрыніцы, «там так жа добра размаўлялі па-французку, як і ў Парыжы».

Гадоў праз дваццаць пасьля ўзнікнення на рамейска-візантыйскай тэрыторыі лацінскіх феадальных дзяржаваў і ўладанняў папа Ганорый III у адным лісьце ў Францыю згадваў пра стварэнне на Ўсходзе «як бы новай Францыі» (ibique noviter quasi nova Francia est creata)[362].



Мал. 119.
Умацаванне Містра (Misistra) часоў лацінскай Федэрацыі, паблізу Спарты, на паўвыспе Марэя.

Пелапанэскія феадалы акрамя храмаў і цыркаў будавалі і ўмацаваныя замкі з вежамі і сьценамі згодна з заходне-еўрапейскім узорам, із якіх больш вядомым з'яўляецца Містра, на ўступах Тайгета, у старажытнай Лаконіі, недалёку ад антычнай Спарты (мал. 119).

Пра гэты час лацінскага валадарання на Пелапанэсе паведамляе шмат цікавага «Марэйская хроніка» (XIV стагоддзя), якая дайшла да нас у розных версіях: грэцкай (вершаванай), французкай, італійскай і гішпанскай. Яна зрабіла ўплыў нават і на Гётэ, які ў трэццім акце другой часткі свайго «Фаўста» пераносіць падзеі ў Спарту, дзе развіваецца гісторыя кахання Фаўста і Алены:

Забыты былі шмат гадоў адгоры гор,
Што на поўнач ад Спарты ганарліва высяцца
Паблізу Тайгета, дзе ручаём зіхатлівым
Спускаецца Эўрот у даліну ціхую,

[362] «Epistolae Honorii III» (ад 20 траўня 1224 г.).

Дзе лебедзі селяцца ў чаротах яго.
У цясніны тыя нядаўна малады народ
Аднекуль з'явіўся із паўночных краін,
І моцны замак там яны пабудавалі
І, як жажаюць, краінай кіруюць з гор сваіх.

У палітычным дачыненні Ўсходняя Рымская імперыя як адзінае цэлае перастала існаваць, саступіўшы месца цэламу шэрагу феадальных дзяржаваў, і ніколі ўжо, нават і пасьля яе аднаўлення пры Палеалогах, не здолела вярнуць сабе ранейшую вайсковую магутнасць. Але арыгінальнае аб’яднанне лацінскага Захаду і грэцкага Ўсходу, з падзелам на невялікія самастойныя княствы, даваўшае магчымасць вольным розумам лёгка пераходзіць туды, дзе іх шанавалі і бегчы адтуль, дзе іх пераследавалі, мела вынікам, як пазьней было і ў Германіі пад час XVIII і XIX стагоддзяў, пышную літаратурную творчасць. Толькі яна набыла форму апокрыфаў і вядома зараз пад імем грэцкай класічнай літаратуры, толькі дзякуючы непаразуменню дапасаваная да глыбокай старажытнасьці.

Але паглядзім спачатку, што было перад гэтым распадзеннем імперыі ў 1204 годзе.

«Царкоўнае жыццё Візантыі падчас імператараў Камнінаў і Анёлаў выяўляецца, – выказваецца А. А. Васільеў, – па-першае, у выглядзе спроб вырашыць шэраг рэлігійных пытанняў і сумневаў, хваляваўшых візантыйскае сьвятарства і грамадства і, па-другое, дачыненнямі ўсходняй царквы і заходняй, г.азн. Канстантынопальскага патрыярхата да папства».

Якімі былі перадусім унутраныя стасункі паміж царквой і імперыяй?

Мікіта Акамінат прыводзіць такія словы Ісака Анёла:

«*На зямлі няма ніякага адрознення ва ўладзе паміж богам і імператарам; царам усё дазволена рабіць, таму што яны атрымалі царскую ўладу ад бога, і паміж богам і імі няма адлегласьці*».

Той жа пісьменнік, паведамляючы пра царкоўную дзейнасць Мануіла Камніна, выказвае агульную думку пра візантыйскіх імператараў, як пра «бязгрэшных суддзях здзяйсненняў божых і чалавечых». Падобныя погляды падзялялі ў другой палове XII стагоддзя і духоўныя асобы. Вядомы грэцкі кананіст антыяхійскі патрыярх Фёдар Бальзамаў, жыўшы пры апошніх Камнінах і першым Анёле, пісаў, як і рускія тэолагі напярэдадні рэвалюцыі:

«*Імператары і патрыярхі павінны быць паважаемы, як настаўнікі, дзякуючы свайму сьвятому памазанню. Ад яго паходзіць ўлада прававерных імператараў навучаць хрысьціянскі народ і, падобна сьвятарам, падносіць богу курэнне... У гэтым іхная слава, якая, падобна сонцу, бляскам свайго праваслаўя яны павінны навучаць сьвет ад аднаго яго канца да другога*». «*Улада і дзейнасць імператараў маюць дачыненне як да цела так і душы* (чалавека), *тады як улада і дзейнасць патрыярха маюць дачыненне толькі да адной душы*».

Гэта азначае, цар вышэй патрыярха... І толькі адзін бок у царкоўным жыцці бянтэжыў імператараў: гэта – празмернае павелічэнне царкоўнай і кляштарскай маёмасьці, супраць чаго ўрад і рабіў час ад часу адпаведныя захады.

Аднойчы Аляксей Камнін (1081-1118) для патрэб дзяржаўнай абароны і для ўзнагароды асоб, дапамагаўшым яму завалодаць пасадам, канфіскаваў частку кляштарскіх маёнткаў і перачаканіў у манеты некаторыя царкоўныя пасудзіны. Аднак, саступаючы ўзніклай з нагоды гэтага незадаволенасьці, ён потым вярнуў цэрквам кошт узятых пасудзін і асудзіў свае паводзіны асобнай «навэлай».

Афонская гара была абвешчана вольнай «да заканчэння стагоддзяў» ад якіх бы то ні было падаткаў і іншых «уціскаў»; грамадзянскія ўрадаўцы не павінны мець ніякіх стасункаў са святой Гарой. Выспа Патмас, згодна са словамі Шаландона (I, 289), зрабілася «маленькай рэлігійнай, амаль незалежнай рэспублікай, дзе маглі жыць адны толькі манахі».

А калі гэтае апошняе паведамленне не заснавана на нейкім апокрыфе, то, як быццам бы, адпадае другая із двух астранамічна атрыманых магчымасцей (Т. I, 55) часу напісання Апакаліпсіса, **г.азн. адпадае нядзеля 12 верасня 1249 года** – быўшая больш чым праз сто гадоў пасьля Камнінаў, і застаецца прыдатнай толькі, як я і вылічыў, дата 30 верасня 395 года.

Толькі-што акрэслены мной клерыкальна-самаўладны дэспатызм, выклікаў у якасьці наступства, нарэшце, супраціўленне выявіўшая пры Камнінах, між іншым, у з'яўленні розных антыправаслаўных вучэнняў, з якімі імператары павінны былі немінуча ўступіць у змаганне. Гэтая рыса эпохі Камнінаў знайшла адлюстраванне і ў так званым Сінодыку, г.азн. у пераліку ерэтычных асоб і супраць-царкоўных вучэнняў, які штогод чытаецца ва ўсходняй царкве і зараз, пад час тыдня праваслаўя, калі ўсе неправаслаўныя вучэнні аддаюцца анафеме. Значная колькасць адрачоных імёнаў і вучэнняў у Сінодыку і дапасуецца менавіта да часу Аляксея і Мануіла Камнінаў. Так пачаўся рэлігійны фанатызм з абодвух бакоў, які выступаў адзін супраць другога, як тэза і антытэза.

Галоўнае змаганне царквы было накіравана супраць ужо не раз згаданых мной паўлікіянаў і багамілаў, зацьвердзіўшыхся на Балканскай паўвыспе, асабліва ў акрузе Філіпаполя. Першыя із іх з'яўляліся несумнеўнымі наступнікамі абразазмагальнікаў, таму што адмаўлялі ўсе знешнія звычаі, шанаванне сьвятых, абразоў, крыжа і карысць сьвятаў у іхны гонар, а другія – багамілы дадавалі яшчэ да гэтага, што наш матэрыяльны сьвет створаны не богам, а сатаной, і толькі душы створаны богам. Аднак, ні пераследы ерэтыкоў, ні арганізаваныя імператарам публічныя спрэчкі з імі, ні спаленне кіраўніка багамільскага вучэння, манаха Васіля, не прывялі да знікнення супраць-царкоўных вучэнняў. Імператар, – кажуць нам, – звярнуўся да вядомага Яўхіма Зігабена з прашэннем назваць усе існуючыя ерэтычныя вучэнні, асабліва вучэнне багамілаў, і аспрэчыць іх, і таму Зігабен, быццам бы, і напісаў свой твор «Дагматычная Паноплія (г.азн. поўнае ўзбраенне) праваслаўнай веры».

Узмацніліся і непагадненні з Захадам.

Скліканы ў сталіцы імператарам сабор, здавалася б, павінен быў знішчыць усе незадавальненні паміж латынянамі і грэкамі і знайсьці спосабы да злучэння цэркваў. Але выйшла наадварот. Да нас дайшла «Размова» на саборы Мануіла з патрыярхам, вельмі цікавая для характарыстыкі поглядаў апошняга. У гэтай «Размове» патрыярх дае папе назву «смярдзячага бязбожнасьцю» і аддае перавагу ярму агаранаў перад ярмом латынянаў. Апошняе выказванне патрыярха, адлюстроўваўшае, відавочна, вызначаны царкоўны і грамадзкі настрой той эпохі, будзе не раз паўтарацца і ў будучыні, напрыклад у XV стагоддзі, у момант ужо падзення Візантыі. Мануіл быў вымушаны саступіць і абвясьціў, што ён будзе аддаляцца ад латынянаў, «як ад змяінай атруты». Саборныя разважанні, такім чынам, не мелі наступствам ніякага пагаднення. Было нават вырашана парваць якія б то ні было стасункі з папай і яго аднадумцамі.

Пры Анёлах жа ў Візантыі разгарэлася гарачая багаслаўская спрэчка пра прычашчэнне, і ў гэтай спрэчцы браў удзел сам імператар. Адпаведна са

сведчаннямі гісторыка той эпохі, Мікіты Акаміната, узнікла такое вельмі мудрае пытанне:

«*Цела Хрыстова, якім мы прычашчаемся, ці такое ўжо нятленнае* ('άφθαρτον), *якім яно стала пасьля пакут і ажывання, ці тленнае* (φθαρτον), *якім яно было да пакут?» Іншымі словамі: «прынімаемая намі «эўхарыстыя» ці падлягае звычайным законам стравапераўтварэння, пад якія падпадае кожная іншая ўжываемая чалавекам ежа, ці ж прычашчэнне не падлягае стравапераапрацоўцы*?».

Аляксей Анёл, а з ім і ўсе праўдзіва-праваслаўныя абурыліся ад адной думкі пра стравапераўтварэнне прычашчэння, назвалі гэта «дзёрзкім зневажаннем праўды» і прынялі вучэнне пра – «нятленнасць прычашчальнага хлеба і віна нават і ў нашых страўніках».

Такімі былі рэлігійныя спрэчкі хрысьціянаў напярэдадні распадзення імперыі на дробныя рэспублікі і герцагствы пры крыжаках!

У эканамічнай эвалюцыі гэтага перыяду выяўляецца цікавым першы вопыт вынаходніцтва і ўжывання пры Аляксею Камніну дзяржавай фальшывай манеты. Побач з ранейшымі паўнаважкімі залатымі манетамі – намісмамі ці солідамі (па-руску – златніцы) – ён пусьціў у абарачэнне нейкі сплаў із медзі і золата, насіўшы найменне намісмы і павінны быў ужывацца нароўні з апошняй. Новая манета ў параўнанні з ранейшай, каштаваўшай 12 срэбных міліарысіяў, прыраўноўвалася па каштоўнасьці ўсяго да чатырох міліарысіяў, г.азн. была ўтрая больш таннай. А падаткі Аляксей жадаў атрымліваць добрай паўнавартаснай манетай... Падобныя захады канчаткова абудзілі незадаволенасць яшчэ не звыкшагася з такімі пераменамі насельніцтва.

А якімі ж былі асьвета, навука і літаратура ў Візантыі пад час эпохі Камнінаў і Анёлаў?

Нам кажуць, быццам бы «вывучэнне антычнай літаратуры з'яўляецца адметнай рысай таго часу». Але тут жа мы бачым і супярэчнасць. Мова часу Камнінаў, – сведчыць А. А. Васільеў[363], – была штучнай, напышлівай, часам цяжкай для чытання і нялёгкай для разумення, адарванай ад жывой гутаркавай гаворкі».

Але падобная ж мова заўсёды характарызуе пачатак літаратуры, а не яе заканчэнне! Згадайце толькі нашу літаратуру, перачытайце Традзьякоўскага і яго сучаснікаў! Ды і накірунак пісьмовасьці быў яшчэ рэлігійным і прыдворна-гістарычным, як і ў кожнай толькі-што распрацаванай пісьмовасьці.

Сам імператар Аляксей Камнін пісаў багаслаўскія разважанні супраць іншаверцаў. Пераўжыўшы яго і меўшы важную ролю ў дзяржаўных справах пры яго сыне, Нічыпар Врыенны, задаўся мэтай напісаць гісторыю свайго папярэдніка. Сьмерць перашкодзіла яму выканаць увесь план, і ён паспеў скласьці толькі нешта падобнае на сямейную хроніку ці мемуары, маючы на мэце паказаць падставы ўзвышэння рода Камнінаў, і не дайшоў нават да ўступлення Аляксея на пасад. Мова Врыенія яшчэ пазбаўлена той штучнай закругленасьці, якая ўжо ўласціва яго адукаванай жонцы Ганне, старэйшай дачцэ імператара Аляксея. Яна з'яўляецца аўтарам «Алексіяды», першага значнага помніка літаратурнай творчасьці эпохі Камнінаў, дзе яна задалася мэтай апісаць годнае ўхвалы кіраванне свайго бацькі «Вялікага Аляксея, светача сусьвету, сонца Ганны». У пятнаццаці кнігах вялікага твора, выйшаўшага ў сьвет ад яе імя і, – кажуць нам, – закончанага напачатку кіравання Мануіла, Ганна дае выяву паступовага ўзмацнення рода Камнінаў яшчэ

[363] А. А. Васільеў, Візантыя і крыжакі, стар. 104.

да ўступлення Аляксея на пасад і даводзіць выкладанне да яго сьмерці. Панегірычная тэндэнцыя на карысць бацькі праходзіць праз усю «Алексіаду», маючая на мэце паказаць чытачу перавагу Аляксея, гэтага «трынаццатага апостала», перад усімі іншымі прадстаўнікамі рода Камнінаў. Мова «Алексіяды», згодна з выказваннем Крумбахера, «амаль цалка муміепадобная, уяўляючая поўную процілегласць выступаўшаму ў той час у пісьмовасьці народнаму говару». Ганна нават просіць прабачэння перад чытачамі, калі ёй даводзіцца запісаць «варварскія імёны» заходніх ці рускіх (скіфскіх) правадыроў, якія «псуюць узвышаны выгляд гісторыі сваімі дзікімі гукамі ».

Сам імператар Мануіл, захапляўшыся астралогіяй, напісаў яе апалогію супраць нападаў з боку сьвятарства і, акрамя таго, быў аўтарам розных багаслаўскіх твораў. Павагай да навук і літаратурных талентаў вызначалася і нарачоная Мануіла Ірына, якой прысьвяціў шмат вершаў яе адмысловы паэт і, напэўна, настаўнік Хведар Прадром у гонар якой склаў сваю вершаваную хроніку Кастусь Манасі, называючы яе ў пралогу «сапраўдным сябрам літаратуры». Толькі прыпісваемы часам Андроніку I «Дыялог супраць юдэяў», на думку гісторыкаў, належыць больш пазняму часу, а ў праўдзівасьці пералічаных яны не сумняюцца.

І, вядома, сям'я Камнінаў толькі адлюстроўвала на сабе агульны культурны ўздым, выявіўшыся асабліва ў развіцці літаратуры, якая з'яўляецца адной із адметных прыкмет той эпохі.

З часу Камнінаў і Анёлаў гісторыкі і паэты, багаслаўскія пісьменнікі і пісьменнікі ў розных накірунках псеўда антычнасьці, і сухія храністы, упершыню пакінулі нам свае не апакрыфічныя творы, даючыя магчымасць назіраць тагачасныя літаратурныя інтарэсы.

Сучаснік Камнінаў, гісторык Ян Кінам, пад уплывам Пракопа, пакінуў нам апісанне падзей кіравання Яна і Мануіла (ад 1118 да 1176 гг.), з'яўляючыся, такім чынам, пераймальнікам Ганны Камнін. Быўшы зацятым абаронцай правоў усходне-рымскага імператарства і перакананым супернікам папскіх дамаганняў і імператарскай улады германскіх валадароў, ён між іншым, пакінуў нам годнае ўвагі апавяданне.

Заўважаемымі фігурамі ў літаратуры XII і пачатку XIII стагоддзяў з'яўляюцца і два браты, Міхал і Мікіта Акамінаты, із фрыгійскага горада Хон (у Малой Азіі), у сувязі з чым ім часам даецца найменне Ханіяты. Старэйшы брат, Міхал, відаць, апакрыфічны, таму што цытуе яшчэ не існаваўшых у той час Арыстыда, Аякса, Дыягена, Перыкла, Фемістокла, і піша ў высокім стылі, напоўненым антычнымі і біблейскімі цытатамі, перасыпаўшы яго метафарамі і тропамі. У адным із павучанняў ён выказваецца:

«*О, горад Афіны! Маці мудрасьці! Да якога невуцтва ты апусціўся!... Калі я звяртаўся да цябе з уступнай прамовай, якая была такой простай, натуральнай, то выявілася, што я паведамляў пра нешта табе незразумелае ці, як быццам бы на чужой мове, пярсідзкай ці скіфскай*».

Больш праўдзівымі выглядаюць творы яго брата Мікіты Акаміната, і ён займае галоўнае месца ў шэрагу гістарычных пісьменнікаў XII і пачатку XIII стагоддзяў. Самым галоўным яго творам з'яўляецца вялікая гістарычная праца памерам у 20-ці кнігах, апісваючая падзеі з часу ўступлення на пасад Яна Камніна да першых гадоў лацінскай імперыі (ад 1118 да 1206 гг.). Яго «Гісторыя» таксама напісана напышлівай, мудрагелістай, але маляўнічай мовай. Перакананы ў поўнай культурнай перавазе «рымляніна» г.зн. візантыйца, над заходнім «варварам», ён

заслугоўвае, як гісторык, большага даверу, чым напрыклад «самы бліскучы светач візантыйскага навуковага сьвету з часоў Міхала Псёла», арцыбіскуп фэсалоніцкі Яўстафій. Прыпісваемая яму літаратурная творчасць распадаецца на дзьве часткі: да першай із іх патрэбна дапасаваць каментары да «Іліяды» і «Адысеі», каментар да Піндара і да некаторых іншых; да другой часткі належаць: гісторыя заваёвы Фесалонік нарманамі ў 1185 годзе і знакамітае разважанне пра патрэбу рэформы манастэрыёнскага жыцця. Другая частка, вядома, нашмат больш праўдзівая.

Не малое значэнне ў гэты час мае і Ян Пеці, творы якога напісаны рытарычнай мовай, перапоўненай міфалагічнай, літаратурна-гістарычнай і гістарычнай мудрасьцю і поўныя самаўсхвалення. Яго алегорыі да «Іліяды» і «Адысеі» пасьвечаны жонцы імператара Мануіла, германскай прынцэсе Берце-Ірыне, якую аўтар называе гамерычнейшай (ὁμερικωτάτη) царыцай, г.азн. найвялікшай прыхільніцай «наймудрэйшага Гамера, мора слоў», сьветлым поўневым месяцам, сьвятлоносіцай, якая з'яўляецца не хвалямі акіяна абмытай (Венерай), але як бы ўзнікаючай у бляску із пурпурнага ложка самога сьвятланосца» (Сонца). Але гэта – ужо цалкам апокрыф.

Не заўсёды праўдзівай асобай для эпохі першых трох Камнінаў з'яўляецца і вучоны паэт Хведар Прадром (г.азн. па-грэцку: «Богададзеная прадмова») ці часам, як ён сам сябе называў, дзеля абуджэння жалю і дзякуючы няшчырай пакоры, Птахапрадромам, г.азн. бедная богададзеная прадмова. Адны навукоўцы лічаць гэтую «Прадмову» за двух пісьменнікаў, іншыя за трох і, нарэшце, трэцція – за аднаго. Згодна са словамі Дыля – чалавек, назваўшы так сябе, належаў да прадстаўнікоў гібеўшага ў Цар-Горадзе «літаратурнага пралетарыяту», таму што выказвае шкадаванне пра тое, што ён не шавец ці кравец, не фарбоўшчык ці булачнік, якія ядуць, а толькі выслухоўвае ад першага сустрэчнага іранічныя заўвагі: «Еш свае творы і сілкуйся імі, мый любы! Хай сілкуе цябе літаратура, небарака!»

У прыпісваемых яму творах ён выяўляецца і раманістам, і агіёграфам, і складальнікам лістоў, і прамоўцай, і аўтарам астралагічнай паэмы, і аўтарам рэлігійных вершаў, і філасофскіх твораў, і сатыр, і жартоўных п'ес. Шмат якія із іх уяўляюць сабой творы на той ці іншы выпадак, з нагоды перамогі, нараджэння, сьмерці, вяселлі і г.д., але яны з'яўляюцца вельмі каштоўнымі дзякуючы рассыпаным у іх указанняў на тыя ці іншыя твары, на тыя ці іншыя падзеі. Уяўляюць цікавасць гэтыя творы і дзякуючы нататкам адносна жыцця простага народа ў сталіцы.

Найбольш вядомы яго твор, гэта – доўгі, высакамоўны вершаваны раман «Раданф і Дасіка», чытанне якога можа выклікаць смяротную нуду. Але празаічныя досьледы Прадрома, сатырычныя дыялогі, памфлеты, эпіграмы нашмат лепшыя. У гэтых творах заўважаецца дастаткова тонкая назіральнасць над сучаснай яму рэчаіснасьцю, надаючая ім цікавасць для гісторыі грамадства і асабліва для гісторыі літаратурных колаў эпохі Камнінаў.

Вядома, усе яны напісаны, напэўна, рознымі аўтарамі, але лёгка аб’яднаны пад яго фігуральным найменнем «Прадром», г.азн. «Прдмова да далейшага».

Сухая візантыйская хроніка таксама мае ад часоў Камнінаў, – згодна са словамі А. А. Васільева і іншых візантыстаў, – некалькіх прадстаўнікоў, пачынаючых сваё выкладанне звычайна непасрэдна ад «стварэння сьвету». Рыгор Кедрын давёў выкладанне падзей да пачатку кіравання Ісака Камніна (у 1057 г.), паведаміўшы пра час пачынаючы ад 811 года амаль літаральна словамі яшчэ не

выдадзенага ў грэцкім арыгінале храніста другой паловы XI стагоддзя Яна Скіліцы. Ян Занара (у XII стагоддзя), напісаў «Кіраўніцтва па сусьветнай гісторыі», відавочна разлічанае на больш высокія патрэбы, і, грунтуючыся на лепшых першакрыніцах, давёў выкладанне да ўступлення на пасад Яна Камніна ў 1118 г. Напісаная палітычнымі вершамі хроніка Кастуся Манасі (у першай палове XII стагоддзя), прысвечаная нявестцы Мануіла – Ірыне, выкладае падзеі да ўступлення на пасад Аляксея Камніна (1081 г.).

І нарэшце, Міхал Гліка (у XII стагоддзі) напісаў Сусьветную хроніку да сьмерці Аляксея Камніна (у 1118 г.).

Але вось пытанне: чаму ўсе гэтыя аўтары заканчвалі тым жа самым часам? Нам кажуць, што гэта быў першы культурны рух, падобнага якому Візантыя не ведала пад час папярэдніх эпох, і з гэтым немагчыма не пагадзіцца: гэта пярэдадне таго, што мы называем класіцызмам.

А сам класіцызм мог з'явіцца толькі ўжо пры новых умовах жыцця, пра якія мы будзем яшчэ раз разважаць у адной із наступных главаў.

# Глава X

## Латынізаваная частка ранейшай Вялікай Рамеі. Ерусалімскае парламентарнае каралеўства XII стагоддзя – як ключ да разумення шмат чаго далейшага ў развіцці еўрапейскай і азіяцкай культуры[364].

Зробім спачатку невялікае філалагічнае ўступленне.

Галоўны горад гэтага каралеўства крыжакі звалі Ерусалімам, г.азн. Горадам сьвятога Замірэння ці «Надзеяй Заспакаення», але гэта не сапраўднае найменне, а толькі арнатыўны эпітэт, дапасоўваўшыся, відаць, у розны час да розных гарадоў.

У Пяцікніжжы ён цалкам невядомы, і толькі ў адным месцы кнігі Суддзяў (XIX, 10) было сказана, што такое найменне меў горад Юпітара ці Зеўса (Іевуса)[365] Грамабоя, які там хутчэй усяго атаясамляецца з горадам раскапаным каля падэшвы Вязувія і які зараз мае назву (хаця і без відавочных доказаў, што ён некалі насіў такое імя) Пампея.

Да гэтага ж горада, відаць, дапасуецца эпітэт Ерусалім (г.азн. Горад сьвятога Замірэння) і ў біблейскіх прарокаў, дзе Цар-Горад завецца Цурам (у грэцкім вымаўленні – Цірам), адкуль і грэцкае слова – тыран і рускае слова цар (цур).

Але гэты ж самы Цар-Горад у біблейскіх кнігах «Цары» зноў атрымлівае тытул Гарада Сьвятога Замірэння (Ерусаліма) і нават не называецца інакш.

Усё гэта паказвае, што ў дапасаванні эпітэта «горад Сьвятога Замірэння» (Ерусалім) на працягу стагоддзяў, і пры адпавядаючых ім пераменах месца рэлігійных пілігрымстваў, адбылося ва ўсякім разе не менш трох перамен. Такую

---

[364] Першакрыніцамі служаць: Дадзю, Гісторыя манархічных устаноў у Лаціна-Ерусалімскім каралеўстве (пер. із французкага); Rohricht, Geschichte des Konigreiche Jerusalem; Яўген Шчэпкін, Ерусалімскае каралеўства.

[365] Іевус, г.азн. Jovis, па-жыдоўску – ІВУС (יבוס), а жыхары яго і яго наваколля мелі назву зеўсіянцы, па-грэцку – ἰεβουσαῖοι, на-лаціне – jebusaei, па-жыдоўску – ІВУСІ (יבוסי), па-французку – jebussens, па-ангельску – jebusites і па-рускі – евусеі. Але атаясаміць яго з Ерусалімам магчыма толькі грунтуючыся на адным радку: і прыйшоў (лявіт) у наваколле гарада Іевуса, г.азн. Ерусаліма, і з ім пара наўючаных аслоў і наложніца яго (Суд., XIX, 10).

назву спачатку меў той горад, раскапаныя парэшткі якога мы зараз называем Пампеяй, потым Цар-Горад і, нарэшце, сучасны палестынскі Ерусалім, атрымаўшы гэтую назву толькі незадоўга да крыжовых паходаў.

Справа ў тым, што ў асяроддзі палестынскіх жыхароў ён і да гэтага часу мае назву Эль-Кудс, ад жыдоўскага выказвання Эліа-Кадэш, г.азн. Сьвяты Ілля[366], а ў лацінскіх сярэднявечных пісьменнікаў і на манетах ён завецца заўсёды Aelia Capitolina, г.азн. Іллінка Пануючая. Адсюль жа паходзіць і найменне Іліён, таксама ў перакладзе горад Іліі, а іншая яго назва Троя паходзіць ад жыдоўскага ТРО-ІЕ, г.азн. Брама Грамабоя[367].

Ад назвы Эль-Кудса горадам прарока Іліі – Іліёнам – паходзіць і назва вядомай Гамеравай паэмы Іліяда, а ад слова Троя паходзіць і імя Траян. Із гэтага можна бачыць, што цалкам дарэмна лічаць развaліны каля Дарданэльскага праліва за гэты горад. Іліяда – гэта паэма з часоў крыжовых паходаў, а слова Траян відавочна ўжывалася і да Готфрыда Бульёнскага, з нагоды чаго яно пранікла нават і ў рускія быліны.

Мы падышлі зараз да часу крыжовых паходаў.

Апакаліптычнае хрысьціянства ўжо перажыло шмат трывог. Прайшлі стагоддзі з часу з'яўлення Апакаліпсіса ў 395 годзе, і ўсё яшчэ не былі выкананы шматразовыя прадказанні прыходу «Езуса», даўно ператварыўшагася ва ўяўленні тэолагаў у грознага напалову бога напалову чалавека павіннага судзіць жывых і памёршых. Апошні раз астролагі і кабалісты, а з імі і ўсё сьвятарства, і іхная паства, чакалі яго прыходу ў тысячным годзе нашай эры. Але, вось, прайшоў і гэты лімітавы тэрмін: Сатурн прайшоў праз сярэдзіну Цяляці, Юпітар праз сярэдзіну Стралка, а Марс закончыў да траўня сваю эпіцыклічную пятлю ў Раку, пачатую яшчэ на прыканцы 999 года, прайшоў, да верасня ўсё сузор'е Ільва і ўступіў у Панну. Із яе ён да «Нараджэння Хрыстова» прыйшоў у сузор'е Скарпіёна, а потым у Стралка, у якім і злучыўся з сонцам і Юпітарам. Фатальны 1000-ы год скончыўся, фатальны тэрмін прайшоў, і ніштo ў прыродзе не перамянілася. Усе жахі і малітвы зніклі дарэмна, і цэркве нічога не заставалася рабіць, як канчаткова перайсьці да евангельскага вучэння пра літасьцівага бога.

Ці не быў гэты год і тым паваротным момантам, калі хрысьціянская царква адлучылася ад месіянскай (г.азн. юдэйскай), напэўна, яшчэ аб'яднанай з агаранскай царквой, ад якой яна ж і сапраўды адрозніваецца толькі ў дробязях? Мне здаецца, што гэта вельмі верагодна.

Як Каран так і Талмуд, прызнаюць евангельскага Хрыста ў якасьці прарока, і толькі аспрэчваюць ушанаванне яго як бога. Нават – больш таго: сучаснае магаметанскае шматжонства і ёсць шматжонства Саламона, Давыда і астатніх біблейскіх цароў, а таму і падстава першапачатковага шматжонкавага «юдэйскага» сацыяльнага ўладкавання сям'і такая ж як магаметанская, а ніяк не сучасная жыдоўская, якая на працягу ўсяго праўдзівага гістарычнага перыяду носіць характар сям'і хрысьціянскай, заснаванай на аднаадружанасьці. Роднасць магаметанскага Карана і Бібліі сама кідаецца ў вочы пры іх параўнальным вывучэнні. Мы ўжо бачылі пры разбіранні Карана, што ў ім існуюць усе самыя важныя біблейскія легенды, што там фігуруюць і Аўраам з Ісакам, і Майсей з Аронам, і Ной з патопам, адным словам, усё, за выключэннем прарокаў Ісаі, Ераміі, Іезекііла і г.д., якія згодна з нашай храналогіяй дапасуюцца да першай паловы

[366] אליהקדש (АЛ-ІЕ КДШ) – сьвяты Ілля і ў той жа час сугучна з выказваннем Ілля Бог-Грамабой.
[367] ТРЫ-ІЕ (יה-תרע) – Брама Грамабоя, па-грэцку – Τροία, на-лаціне – Troja.

сярэдневечча. Светапогляд агаранаў і светапогляд арыян адзін і той жа, і не менш аднолькавымі выглядаюць законы і рэлігійная лірыка Карана і Бібліі. Сучаснае юдэйства гэта ўжо палавінны пераход ад агаранства да евангельскага хрысьціянства, апакаліптычная прыступка да яго, без якой апошняе не магло б нават і аформіцца. А таму і ўзнікненне юдэйства павінна быць лагічна дапасавана да больш позьняга часу, чым узнікненне агаранства. Да сярэднявечнага талмуда не было гебраў, г.азн. жыдоў, а толькі іберы і арабы, і абодва былі адным і тым жа, хаця і ў розных мясцовасьцях: іберы ў Гішпаніі, Партугаліі і Марока, а арабы ў Ягіпце і ў прылеглых да яго краінах.

Абедзьве мясцовасьці былі ў гэты час ужо культурна злучаны паміж сабой, чаго не магло быць раней з'яўлення ветразёвых караблёў далёкага прыбярэжнага плавання з рызыкоўнымі пераходамі ад Апуліі ў Грэцыю, а потым і ад Сіцыліі да Туніса, таму што на адных вёслах далёка не заплывеш, нават і па рацэ. Гэта я з упэўненасьцю магу сцвярджаць грунтуючыся на ўласным досьведзе плавання ў лодках, а неверуючаму мне прапаную замест спасылак на сведчанні старажытных паспрабаваць асабіста праплыць на вёслах хаця б сотню кіламетраў. Досьвед жа і назіранне ляжаць у грунце сучаснай навукі, дык хай жа чытач і паспрабуе перш, чым спрачацца са мной.

Такім чынам, узнікненне аднаадружанага юдэйства адбылося пазьней канчатковага развіцця агаранства, г.азн. першапачатковага магаметанства, а пачатак шматадружанага юдэйства, наадварот, быў на самым заканчэнні IV стагоддзя адначасова з пачаткам апакаліптычнага хрысьціянства, ад якога на працягу некалькіх стагоддзяў яно нічым істотным не адрознівалася. Абодва аднолькава прадказвалі прыход Вялікага Рэ-Месу, г.азн. Цара Месіі (Re Massia італьянцаў), грунтуючыся на спалучэнні нябесных сьвяціл, чым асабліва і вызначаліся навукоўцы месіянцы із Ягіпта, якія ў грэкаў мелі назву халдэі (ці калдэі, адкуль і рускае “калдуны”). Шматразовыя расчараванні патрабавалі шматразовых тлумачэнняў няспраўджвання прадказанняў, пры гэтым збянтэжанымі і ўстрывожанымі прарокамі прыдумляліся бясконцыя адгаворкі, із сумы якіх выпрацавалася евангельская тэалогія VIII-X стагоддзяў. І верагодна адным із апошніх тлумачэнняў у 1000 годзе нашай эры было тое, што «бог не з'явіўся, таму што яго труна захоплена ерэтыкамі». Інакш, чым жа патлумачыць, што менавіта якраз пасьля непрыходу Хрыста ў 1000-м годзе і пачаліся першыя заклікі да крыжовых паходаў «дзеля вызвалення труны госпада?».

Але дзе ж знаходзілася гэта труна?

Пры атаясамленні цара Месіі (ён жа Вялікі Цар – Васіль Вялікі, па-грэцку) з Рэ-Месу Міамунам давялося б шукаць яго ў Ягіпце, але сярод шматлікіх роспачных спрэчак і непазбежных з імі псіхалагічных аперцэпцый, месца труны ва ўяўленні аддаленых еўрапейцаў перанеслася ў наваколлі Мёртвага Мора, верагодна дзякуючы самай яго мёртвай прыродзе, грунтуючыся на здагадцы нейкага вандраўніка. Патрэбна труна ў выглядзе пячоры? Вядома яна і была адразу ж знойдзена ў Эль-Кудсе, які пасьля гэтага і атрымаў у хрысьціянаў назву Ерусалім, тады як мясцовыя жыхары і да гэтага часу называюць яго Эль-Кудсам, а візантыйцы называлі Элія-Капіталіна, г.азн. горад Вярхоўнага Сонца ці Вярхоўнага Іллі, г.азн. Юльяна, Іліён (адкуль зноў жа магчыма западозрыць, што Юльян і Вялікі Цар Святцаў, заснавальнік праваслаўнай літургіі, былі адной і той жа асобай, і што Іліяда ўзяла шмат чаго ўзяла із гісторыі крыжовых паходаў).

Але калі ўся старажытная гісторыя пра «Святую Зямлю» з'яўляецца міфам, то ад якога ж моманту пачынаецца яе рэчаісная гісторыя? Якраз ад крыжовых паходаў, калі ў гэтай краіне ўзнікла Ерусалімскае каралеўства (1099-1187), цікавае тым, што тут упершыню мы сустракаемся з прадстаўнічымі ўстановамі ў Азіі, абмяжоўваючымі ўладу вярхоўнага валадара, з палатай ленных рыцараў і з палатай гараджанаў. Таму нам надзвычай важна пазнаёміцца з яго грамадзянскім жыццём не толькі дзеля тлумачэння міфаў, але і дзеля разумення адпаведнай эвалюцыі дзяржаўных установаў у самай Яўропе, а таксама і легендаў «пра консульскія манархіі старажытнасьці».

Каб не быць тэндэнцыйным, я буду непасрэдна рэфераваць фактычную частку грунтуючыся на манаграфіі Яўгена Шчэпкіна «Ерусалімскае каралеўства»[368].

Сутнасць справы такая.

Пасьля заваёвы «Святой Зямлі» крыжакамі яны ўтварылі ў Сірыі:

Каралеўства Ерусалімскае ад Аскалона да Бейрута, княства Антыяхійскае, графства Трыпаліс і графства Эдэса. Кароль Ерусалімскі быў тут толькі першым паміж роўнымі. І ў яго былі яшчэ свае буйныя бароны: княства Галілея з галоўным горадам Тыверыядай, графства Яфа, сіньёрыя Сээт (Сідон) і сіньёрыя Монраяль (Керак). І кожная із гэтых бароній падзялялася на лены:

Граф Яфы і Аскалона павінен быў выстаўляць 100 рыцараў», г.зн., гэтае графства падзялалася на 100 рыцарскіх ленаў. Із іх граф валодаў 26-ю ленамі непасрэдна, як сваёй доляй, і наймаў 26 рыцараў, каб яны адбывалі за яго вайсковую службу, а 74 лены ён раздаваў на ленных жа ўмовах іншым. Так, сярод яго васалаў сір д'Ібелін трымаў, напрыклад, феад роўны 10 рыцарскім ленам і выстаўляў 10 вершнікаў, і ўсе гэтыя 4 буйныя бароніі разам давалі Ерусалімскаму каралю 340 рыцараў. І акрамя таго, ад яго ж залежалі некаторыя маленькія сеньёрыі, як Аккон, Цір, Бейрут, Манфор. Іх усіх на сярэднявечнай феадальнай мове можна было б назваць бароніямі, таму што яны карысталіся правам вышэйшага суда (haute justice) і кляпання манеты. Тыя гарады, якія належалі каралеўскай долі, таксама былі прыцягнуты да выканання вызначаных, чыста феадальных павіннасьцей, напрыклад Ерусалім выстаўляў 41 рыцара, гарады ж галоўным чынам выстаўлялі пехацінцаў (сяржантаў). Із усёй ерусалімскай бароніі кароль набіраў 5000 пехацінцаў, тады як колькасць рыцараў не перавышала 600.

Улада Ерусалімскага караля была спачатку выбарчай і абмежаванай па сутнасьці. Годфрыд Бульёнскі бачыў крыніцу сваёй улады ў абранні яго баронамі, і пасьля яго сьмерці Балдуін І толькі дзякуючы іхнаму прызнанню стаў каралём-сеньёрам над баронамі Антыёхіі, Трыпаліса і Эдэсы. Ён называў свайго брата герцагам Годфрыдам, а сябе – першым ерусалімскім каралём латынянаў. Адсюль тытул – Rex Hierusalemi Latinorum.

Калі памёр Балдуін І (1118 г.), некаторыя леннікі запатрабавалі адтэрмінаваць абранне караля да прыбыцця яго брата Эсташа дэ-Булонь, да якога павінна была б перайсьці па спадчыне, прынамсі, баронія. Але пад уплывам сьвятарства права баронаў на абранне караля ўзяло верх: царква жадала, каб прыкмета ўлады «Боскай літасьцю» была не ў спадчыннасьці пасада, а ў памазанні караля на валадаранне ерусалімскім патрыярхам. Так і быў абраны Балдуін II. А пасьля яго сьмерці (1131 г.) засталася спадчынніца Мелісанда, чалавек якой,

[368] Яўген Шчэпкін, Ерусалімскае каралеўства. (Кніга для чытання па гісторыі сярэдневечча, пад рэд. П. Г. Вінаградава. 1903.)

Фулькон Анжуйскі, уступіў за яе ў правы спадчыны. З гэтай пары абранне ператварылася ў просты ўрачысты звычай.

У феадальнага ерусалімскага караля былі звычайныя службовыя асобы: сенешаль, канэтабль, маршал і г.д.; быў свой феадальны двор (la haute court), а ў надзвычайных выпадках адпаведна з жаданнем караля і патрыярха склікаліся асобныя «парламенты» (нарады), у якіх бралі ўдзел бароны, біскупы, абаты, чужацкія каралі-крыжакі і г.д.

Але што ж гэта былі за асізы, якім прысягалі ерусалімскія каралі, як асноўным законам дзяржавы?

Да нас яны не дайшлі, і іх даводзіцца аднаўляць грунтуючыся на тых прыватных запісах ці трактатах юрыстаў-феадалаў, якія ўзніклі ці, ва ўсякім разе, захаваліся на выспе Кіпр. Гвідо Лузіньян, апошні кароль ерусалімскі, са згоды Рычарда Ільвінае Сэрца, перакупіў гэтую выспу ў тампліераў. Сюды, як жывы звычай, былі перанесены, – кажуць нам, – і асізы Ерусалімскага каралеўства із Акона, дзе засядалі феадальныя палаты пасьля страты Палестыны. З нагоды гэтага, напрыклад, пад найменнем «Ассіз Верхняй Палаты» (Assises de la Haute Cour), г.азн. палаты леннікаў, вядомы, галоўным чынам, трактаты юрыстаў-феадалаў Кіпрскага каралеўства XIII стагоддзя – Піліпа Неварскага і Жана д'Ібеліна. Пад найменнем «Ассіз Палаты буржуа» (Assises de la Cour des Bourgeois), г.азн. палаты гараджанаў, захаваўся на Кіпры трактат невядомага юрыста, узнікшы, як лічыць, яшчэ да страты Ерусаліма на глебе самой Палестыны. Дакладна так жа да заснавання Кіпрскага каралеўства узнікла, напэўна ў межах самага Ерусалімскага каралеўства невялікая кніга, прысьвечаная асабістаму праву і вядомая пад загалоўкам «Le livre au Roi». У гэтай «Кнізе караля» выкладанне вельмі сьціснутае, і мова бліжэй да зборніка законаў, чым да юрыдычнага трактата.

ТАБЛІЦА XXIV

Храналагічныя вехі Ерусалімскага Каралеўства XII стагоддзя.

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Готфрыд Бульёнскі (1089-1100) | 12 гадоў. |
| 2 | Балдуін I (1100-1118) | 18 гадоў. |
| 3 | Балдуін II (1118-1131) | 13 гадоў. |
| 4 | Яго дачка Мелісанда з чалавекам Фульконам Анжуйскім (1131-1143) | 12 гадоў. |
| 5 | Балдуін III (1143-1162) | 19 гадоў. |
| 6 | Амальрых (1162-1173) | 11 гадоў. |
| 7 | Балдуін IV (1173-1184) | 11 гадоў. |
| 8 | Гвіда Лузіньян, апошні ерусалімскі кароль (1184–1186), а потым (пасьля захопу Ерусаліма Саладынам) кароль Кіпрскі да 1195, пасьля чаго яго нашчадкі валадарылі на Кіпры, як у феадальным каралеўстве, да 1473 года. | |

Такімі з'яўляюцца галоўныя запісы пра ерусалімскія асізы. Пад канец крыжовых паходаў, у траўні 1291 года, быў страчаны Аккон (S. Jean d'Akre), як апошняе валоданне хрысьціянаў у Сірыі, і з таго часу паданні Ерусалімскага каралеўства трымаліся толькі на выспе Кіпр, дзе больш за 300 гадоў кіравала дынастыя Гвідо Лузіньяна. Вось гэтая традыцыя і дайшла да нас у працах кіпрскіх юрыстаў, знойдзеных у Венецыі.

Што ж яны разумелі пад Ерусалімскімі асізамі? Жан д'Ібелін паведамляе з гэтай нагоды наступнае паданне.

«*Князі і бароны, заваяваўшыя Ерусалімскае каралеўства, абралі было каралём і сеньёрам герцага Годфрыда Бульёнскага, які, дарэчы, не пажадаў насіць Залаты вянок*

*там, дзе Езус Хрыстос насіў цярновы, і па-ранейшаму называў сябе толькі герцагам. Жадаючы, каб каралеўства мела добрае ўладкаванне, а яго насельніцтва кіравалася і судзілася адпаведна са справядлівасьцю і розумам, Годфрыд усталяваў дзьве свецкія палаты для суда – «Верхнюю Палату»* (la haute court) *із васальных рыцараў і «Палату гараджанаў»* (la court de la bourgeoisie) *із лепшых гараджанаў. На чале Верхняй Палаты, дзе разглядаліся справы васалаў, стаў у якасьці валадара і суддзі сам Годфрыд; на чале «Палаты гараджанаў», дзе разбіраліся справы астатняга насельніцтва, ён прызначыў сваім намесьнікам залежнага чалавека. Усё гэта было ўсталявана з агульнай згоды сеньёра, яго васалаў і гараджанаў. Для кожнай із Палат былі ўсталяваны свае адменныя асізы і звычаі»*.

«*Усе ўсталяваныя ў Ерусалімскім каралеўстве асізы, парадкі і звычаі запісваліся прапіснымі літарамі, і першая літара кожнай асізы была ўпрыгожана золатам, а ўсе загалоўкі распісаны пунсовай фарбай. Такімі былі асізы Верхняй Палаты і асізы Палаты буржуа. На кожнай із хартый знаходзілася пячатка і подпіс караля, патрыярха і віконта ерусалімскага. Іх называлі «Пісьмёны Труны Госпада*» (lettres du S. Sepulcre), *таму што яны захоўваліся каля Труны ў шырокім каўчэгу. Калі для даведкі даводзілася адкрываць гэты каўчэг, то пры гэтым павінны былі прысутнічаць дзевяць асоб: сам кароль ці яго намесьнік* (нехта із самых высокіх леннікаў) *і двое із блізкіх леннікаў* (hommes liges), *патрыярх ці яго намесьнік* (прыёр Труны Госпада), *два канонікі, віконт Ерусаліма і двое прысяжных із Палаты буржуа*».

Гэты ж кіпрскі юрыст д'Ібелін, суправаджаўшы Людовіка IX у крыжовы паход у 1254 годзе, яшчэ паведамляе:

«*Пад час кіравання сямі ерусалімскіх каралёў, валадарыўшых там на працягу 86 гадоў* (відавочна, з часу Готфрыда Бульёнскага, якога ён не лічыць), *былі складзены і ўсталяваны асізы, і да страты Сьвятой Зямлі імі карысталіся так, як зараз гэтага ўжо немагчыма зрабіць, таму што ўсё, што мы пра іх ведаем, мы ведаем толькі грунтуючыся на чутках ці са звычаю. Асіза – гэта вядомая форма закона і павінна выконвацца і сапраўды выконваецца ў Ерусалімскім каралеўстве і ў каралеўстве Кіпрскім лепш, чым усе законы, дэкрэты і дэкрэталіі*».

«*Пачынаючы ад Готфрыда Бульёнскага, пры 7 ерусалімскіх каралях*, – працягвае далей аўтар, – *акрамя чарговых паседжанняў Палаты леннікаў і буржуа, збіраюцца надзвычайныя соймы* (парламент) *із прэлатаў, васалаў, гараджанаў, і імі выпрацоўваюцца асізы*[369], *якія запісваюцца і захоўваюцца каля Труны Госпада. Так утвараецца, нягледзячы на існаванне асноўных пісаных законаў – Пісьмёнаў Святой Труны, – звычайнае права Ерусаліма. Узяцце Ерусаліма Саладынам у 1187 годзе знішчыла пісанае права, і асізы з тых часоў жывуць нароўні са звычаямі толькі ў традыцыях феадальных і гарадзкіх палат* (у Акконе і ў Ніказіі на Кіпры), *у памяці* (!!) *выбітных юрыстаў із асяроддзя леннікаў і буржуа і ў прыватных запісах гэтых пісьменных людзей*».

Наш кіпрскі юрыст вядзе ад Готфрыда ледзь не ўсе асноўныя законы і ўстановы Ерусалімскага каралеўства, падобна таму, як усё ўладкаванне Кіпрскай дзяржавы паданне прыпісвае дзейнасьці Гвідо Лузіньяна.

Жан д'Ібелін мяркуе існаванне ў Ерусалімскім каралеўстве ад самага пачатку стройнай феадальнай арганізацыі леннікаў і камунальны лад гарадоў, хаця гэтаму ўяўленню супярэчыць апавяданне Вільгельма Цірскага, згодна са сведчаннем якога нават на прыканцы валадарання Балдуіна Першага горад быў так мала населены, што жыхароў ледзь хапала на абарону брамы, веж і сьцен. Праўда, у таго ж Вільгельма Цірскага, у грамаце ад 1100 года рыцары (milites) ужо

[369] Праф. Вінаградаў: «Чытанні па гісторыі сярэдневечча», вып. II, стар. 63.

супрацьстаўляюцца гараджанам (burgenses) і згадваецца нават віконт палаты буржуа, але ўсё гэта былі толькі зародкі гарадзкой злучыны. Гэта азначае, што ўяўленні Ібеліна пра гарадзкія ўстановы Годфрыда патрэбна моцна паменшыць: асізы гараджан і 37 палат буржуа па гарадах Ерусалімскага каралеўства, пра якія паведамляе паданне, маглі ўзнікнуць толькі крыху пазьней. Тое ж самае патрэбна сказаць і пра Верхнюю Палату караля (la haute cour) і адпавядаючыя ёй 22 палаты ў бароніях іншых сеньёраў.

Законы, абавязковыя для кіраўніцтва, – выказваецца Яўген Шчэпкін, – павінны былі існаваць, вядома, ужо пры Годфрыду, але ж для гэтага падыходзілі і яго айчынныя. Ерусалімскае пісанае права, калі яно тады наогул існавала, магло існаваць толькі ў зародку сьціплага памеру, а крымінальнае права, якім яно выкладзена ў Ібеліна і іншых, ва ўсякім разе не магло ўваходзіць у асізы Годфрыда. Чым інакш патлумачыць, напрыклад, што толькі пры Балдуіне II сойм у Наблусе (Неаполіс у Самарыі), скліканы ў 1120 годзе каралём і патрыярхам із баронаў, біскупаў, абатаў і народа, знайшоў патрэбным выдаць у 25 пунктах пастановы супраць амаральнасьці, крадзяжоў і разбояў? А Вільгельм Цірскі паведамляе, што знайшоў іх «у архівах цэркваў».

«Але аддаючы пад сумневы кадыфікацыю ассіз яшчэ пры Годфрыдзе Бульёнскім, – працягвае сваё апавяданне Яўген Шчэпкін, – цяжка аспрэчваць існаванне Пісьмёнаў труны госпада. Пра іх паведамляе і папярэднік Жана д'Ібеліна, Піліп Неварскі, ні словам не згадваючы, дарэчы, пра заканадаўчую дзейнасць Годфрыда. Ён запазычыў свае паведамленні пра існаванне «Пісьмёнаў труны госпада» ад людзей, якія бачылі іх да 1187 года, г.азн. да падзення Ерусаліма. А калі Саладын узяў горад, яны (быццам бы!) загінулі «і ніколі потым не было там ні пісьмовых ассіз, ні звычаяў, ні куцюмаў».

Наогул жа можна сказаць, што нідзе ў Яўропе феадальны прынцып не дасягнуў такога крайняга развіцця, як у абласьцях, заваяваных крыжакамі.

І гэта зразумела. «Тут, – зноў выказваюся словамі Яўгена Шчэпкіна, – акрамя звычкі да феадальных устаноў, прынесеных з Захаду, былі ў наяўнасьці і ўсе тыя вонкавыя ўмовы, якія звычайна абвастралі гэтую сістэму: факт заваёвы і падзелу, набіранне апалчэнняў із найбольш дзейных элементаў Яўропы, слабасць каралеўскай улады, не асьвячанай традыцыяй, і даволі незалежнае становішча свецкіх баронаў далёка ад славалюбівай Рымскай царквы. На Ўсходзе (асабліва на Кіпры) феадальны двор леннікаў узяў, нарэшце, верх над каралём, і васалы вывучалі свае usui, і coutumes, і assises з мэтай не даць магчымасьці каралеўскай уладзе разрастацца шляхам дробных парушэнняў права. Самі прыёмы мышлення пра феадальныя дачыненні і ўстановы выпрацоўваліся тут грунтуючыся не на варожым ім рымскім праве, а паўтаралі сабой ход феадальнай думкі, якой яна расчынялася падчас судовых спрэчак перад Палатай леннікаў. Усё, што мог даць арганізаванага феадалізм, пакінуты сам па сабе, ён даў на Ўсходзе.

Гэта была ўжо своеасаблівая арыстакратычная рэспубліка, із тых, якія далі нагоду для стварэння легендаў пра антычныя рэспублікі.

Сэрцам грамадства ў Сірыі быў не столькі кароль, колькі яго Палата, г.азн. сукупнасць леннікаў. Палата захоўвала асізы і звычаі ў сваёй памяці, тлумачыла іх, а пазьней стала нават крыніцай закона, таму што, пасьля страты «Пісьмёнаў труны госпада», звычаі, прызнаваемыя Палатай за асізы, былі прыраўнаваны да «Знікшых Пісьмёнаў». Гарантыяй Палаты замацоўваліся ўсе падараванні ў краіне. Раздачы ленаў, вырабляемыя сеньёрам без парукі васалаў (hommes liges), мелі моц толькі да той пары, пакуль сам ён быў жывы, і наадварот, лены, раздадзеныя за парукай

Палаты, абавязкова зацьвярджаліся за яго спадкаемцамі. Так, трактат пра «асізы гараджанаў» абвяшчае незаконным збор роўны 7½ су за ўхіленне ад ачысткі вуліц толькі таму, што кароль Балдуін I усталяваў яго без рады сваіх васалаў і сваіх гараджанаў. Няма чаго і казаць пра тое, што ўся юрысдыкцыя выходзіла ад Палаты. Яе сведчанне (record) пра факт дарэння і ўладання замяняла сабой пісьмовы прывілей.

Якія ж сродкі былі ў руках асобнага васала, каб прымусіць свайго сеньёра падначаліцца прысуду Палаты? Калі сеньёр не выконвае рашэнне ці пастанову Палаты, то яго васалу даваліся тры сродкі прымусу 1) заклінаць сеньёра клятвай, якую ён даў – выконваць асізы; 2) далучыць іншых леннікаў таго ж сеньёра, каб прымусіць яго да выканання пастаноў Палаты; 3) адмаўляцца ад службы, да якой абавязваў яго лен. А якая ж была гарантыя ў асобнага ленніка супраць самаволі гэтай Палаты? Ён мог толькі абвясьціць усю Палату «не праўдзівай» (fausser la court), але гэты сродак быў амаль невыканальным. Калі леннік меў жаданне зганьбаваць Палату і сказаць, што яе суд ці меркаванні, ці сведчанні, несправядлівыя і незаконныя, тады, каб давесьці сваю заяву, ён павінен выйсьці на паядынак з усёй Палатай і перамагаць, па чарзе, аднаго за другім, усіх яе сябраў, нават тых, хто не браў удзел у разборы справы. Такім чынам, Палата была ўсемагутнай.

Да асаблівасьцей феадалізму ў Палестыне патрэбна дадаць яшчэ і крайняе развіццё там грашовых ленаў, і таму ўсе знаходзімыя там манеты, прыпісваемыя больш раннім часам, павінны быць дапасаваны да Ерусалімскага каралеўства. Крыжакі-рыцары не паглыбляліся ў падрабязнасьці земляробчай гаспадаркі, а задавальняліся толькі рэнтай ад сірыйцаў і арабаў, якія засталіся на землях у якасьці прыгонных.

Так натуральна выпрацаваўся адменнае дзяржаўнае ўладкаванне гэтага каралеўства. Паглядзім зараз, якім было яго насельніцтва.

«Ураджэнцы паўночнай і паўднёвай Францыі, брэтонцы і правансальцы, ламбардцы, венецыянцы, тасканцы, сіцылійцы, латарынгцы, фрысландцы, немцы, скандынавы, ангельцы, валлісцы, шатландцы, вугорцы і г.д., – выказваецца той жа аўтар, – зьліліся ў Сірыі ў пануючыя станы. А пад іхнай уладай ці каля іх працягвалі жыць рэшткі тубыльных плямён – сірыйцы, армяне, грэкі, арабы, туркі. Сярод ісламістаў[370] пераважалі арабы, якія сталі аселым, мірным насельніцтвам, а туркі сустракаліся рэдка. Ісламіцтва зусім не было пераважаючай рэлігіяй у Сірыі. Не кажучы ўжо пра рэдкіх ізраэлітаў і грэка-праваслаўных, тут былі якабіты, прызнаваўшыя ў Хрысьце толькі адну прыроду; былі нестарыяне, якія лічылі Марылю маці толькі чалавека, а не бога, і мараніты, прызнаваўшыя ў Хрыста толькі адну волю, а не дзьве: божую і чалавечую. Сярод пануючых станаў лікава заўсёды пераважалі тут французы, а тубыльцы-магаметане ўсіх наогул прыхадняў з захаду называлі франкамі. Пачынаючы з часоў Карла Вялікага франкскі народ увасабляў для сірыйцаў і арабаў каталіцкую Яўропу.

Але працяглае раз'яднанне з радзімай, сям'ёй і звычайнымі заняткамі шкодна адклікалася на норавах жыхароў Ерусалімскага каралеўства. Змяшанае насельніцтва Палестыны, нарадзіўшаяся ад франка-бацькі і маці-сірыянкі, звалася пуланамі (а-пулійцамі). Пад уплывам клімату і тубыльнага насельніцтва пулланы

[370] Ісламіцтва азначае – аддане сябе богу.

хутка пачалі губляць еўрапейскія звычкі сваіх продкаў, і Якаў Вітрыйскі вымаўляе над імі строгі прысуд:

«Яны, – выказваецца ён, – выраслі ў раскошы, спешчаныя, ахвотней ідуць у паслабляючыя ўсходнія лазні, чым на змаганне з няверНымі; адзенне ў іх шыкоўнае, мяккае, норавы распушчаныя; яны гультаяватыя, маладушныя і баязлівыя. Ісламіты іх не баяцца, і калі, б не дапамога франкаў, і не прыток новых асоб із Захаду, дык адны пулланы не ў стане былі б супраціўляцца ім. Ахвотней усяго яны захоўваюць мір са сваімі суседзямі, але паміж сабой у пастаянных сварках і заклікаюць «няверных» на дапамогу адзін супраць другога. Да сьвятыняў Палестыны і Ерусаліма яны абыякавыя; пакуты пілігрымаў не расчульваюць гэтых напаловуісламітаў, якія імкнуцца толькі праўдай і няпраўдай абагачацца за кошт падарожнікаў. Тыя сірыйскія дзяўчаты, з якімі часта адружваліся пулланы, пераходзілі ў хрысьціянства толькі вонкава і сярод такой перамяшанай сям'і не было ні хрысьціянства, ні ісламітства, а толькі самыя грубыя забабоны».

А штое ж сталася з тубыльным насельніцтвам Палестыны?

Толькі ў нешматлікіх гарадах (Трыпалісе, Бейруце, Сідоне) ісламіты атрымалі дазвол жыць і займацца сваімі промысламі: прадзеннем поўсьці і тканнём. Уся астатняя іхная маса пад уладай франкаў засталася ў вёсках на становішчы коланаў (прыгонных), апрацоўваўшых землі гаспадароў і плаціўшых ім вызначаную частку свайго ўраджаю. Па гарадах сірыйцы-хрысьціяне займаліся прамысламі, у вясковых абласьцях садоўніцтвам і земляробствам, напрыклад вырошчваннем цукровых плантацый. Адпаведна са звычаямі Ерусалімскага каралеўства там, дзе яны жылі густой масай і складалі асобныя злучыны, яны мелі свае ўласныя суды. Такія ж саступкі, як сірыйцам-хрысьціянам, франкі зрабілі і юдэйству. У Ерусалімскім каралеўстве і на Кіпры жыды карысталіся неабмежаванай грамадзянскай воляй. У паўночнай частцы Ерусалімскага каралеўства важную долю насельніцтва складалі армяне, якія разам з выбітнымі здольнасьцямі да гандлю злучалі ваяўнічасць, чыста рыцарскую, але пад уладай крыжакоў былі адпаведна са сваім становішчам прыраўнаваны да сірыйцаў.

Буркгардт із Монтэ-Сіёна, наведаўшы Ўсход каля 1280 года, хваліць урадлівасць густанаселеных частак Лівана і Антылівана з іхнымі пашамі, садамі і вінаграднікамі. Мясцовасць вакол Курдзкага ўмацавання[371], адпаведна з яго свечаннем, густа забудавана сялянскімі сядзібамі, пакрыта масьлінамі і вінаграднікамі і пладзючымі фруктовымі садамі, гаямі, сенажацямі і вадой. Раем здалася яму потым берагавая паласа каля Трыпаліса; нідзе ён не бачыў такой колькасьці віна, аліў, фіг і цукровага трыснягу. Аднак, земляробства не было так разьвіта, каб пазбавіць краіну ад патрэбы завозіць хлеб з Захаду. Сеялі, як і зараз, толькі пшаніцу і ячмень, ды некаторыя струкавыя расьліны: бабы, гарох, чачавіцу.

А садоўніцтва дасягала тут высокай ступені дасканаласьці. Ужо напачатку сярэдневечча віны Палестыны лічыліся самымі моцнымі і смачнымі пры двары візантыйскіх імператараў. Масьліны раслі не толькі ў садах на раўніне Трыпаліса і па схілах Фавора. За Ярданам гэтыя дрэвы сустракаліся густымі гаямі, і алівы збіраліся, галоўным чынам, на масла. Із фруктовых дрэваў звычайнымі былі: дулі, лімоны, апельсіны, гранаты, міндаль. Усё ўзбярэжжа і асабліва вобласць Трыпаліса славіліся сваімі плантацыямі цукровага трыснягу. Тут франкі навучыліся ў сірыйцаў здабываць цукар, выціскаючы сок з трыснягу асобнымі прэсамі нападобе

[371] Адно із галоўных умацаванняў на паўначы Сірыі.

млыноў. Для гэтых прац часта ўжываліся ісламіты-палонныя. Цір славіўся сваімі цукраварнямі.

На мяжы паміж сельскагаспадарчай і звычайнай прамысловай дзейнасьцю знаходзілася гадоўля шаўкоўнічых чарвякоў, дасягнуўшае ў Сірыі высокай ступені росквіту яшчэ пры панаванні візантыйцаў, ды і франкі ўжо ведалі тутавае дрэва ў паўднёвай Італіі і Сіцыліі. Цэнтрам гэтага промыслу быў Трыпаліс, дзе на прыканцы XIII стагоддзя працавала не менш 4 тысяч ткацкіх станкоў для шоўку. Да ткацкай прамысловасьці дапасаваліся фарбавальні. У даліне Шарыят Эль-Кебіры, пераназванай у Ярдан, разводзілася індыга, а каля берагоў знаходзілі знакамітага пурпуровага смаўжа. Шклянымі вырабамі славіўся Цір.





Мал. 120.
Горад Іллі-Прарока (Элія Капіталіна, Эль-Кудс, г.азн. Элі-Кадэгі, у хрысьціянаў – Ерусалім). На пярэднім плане да «Кедронскай даліны» спускаецца Элеонская, г.азн. Іліёнская, гара (ад старажытнай назвы гэтага горада Іліён і Элія, гамераўская Троя, г.азн. Брама Боская; ТР-ІЕ, па-жыдоўску). Перад горадам направа, у цені, – часткі агароджы так званага Гефсіманскага саду, а налева – абеліск на квадратнай падставе – так званая магільня Авесалома. На заднім плане сам горад з паўднёвага боку, асветлены перадзаходзячым сонцам. За сьцяной, на сярэдзіне якой замуравана «Залатая брама», бачыцца «мячэць Амара» з купалам каля 26 метраў вышыні і 17 метраў у дыяметры. Яе лічаць пабудаванай на месцы міфічнага «Саламонава храма (г.азн. храма Замірэння). Трохі правей і далей гэтага будынка бачны амаль такі ж купал хрысьціянскай «Царквы труны Госпада».

Нешматлікія сяляне, перасяліўшыяся з Захаду, уяўлялі ў Ерусалімскім каралеўстве выключэнне адпаведна са сваім параўнальна незалежным становішчам. Часьцей усяго яны рабіліся вольнымі арандатарамі і плацілі за зямлю франку-рыцару грашамі ці сельскагаспадарчымі прадуктамі. Захавалася, напрыклад, грамата ерусалімскага караля Балдуіна III ад 1153 года, вызначаючая

ўмовы, на якіх Жэрар-дэ-Валанс атрымаў ад яго дазвол засяліць адзін хутар (casale) лацінскімі асаднікамі. Асаднікі атрымлівалі ад прадпрымальніка сядзібу і надзел зямлі ў поўную спадчынную ўласнасць, але павінны былі за гэта плаціць каралю з ураджаю сваіх палёў $^{1}/_{7}$ долю, із вінаграднікаў і садоў $^{1}/_{4}$, а з насаджэнняў масьлін нават $^{2}/_{3}$. Пятнаццаты хлеб з іхных хлебных печак таксама належаў каралю.

А маса вясковага насельніцтва, застаўшаяся ад ісламіцкага валадарання, знаходзілася, як я ўжо згадваў, у прыгоннай залежнасьці і складала адно цэлае з зямельнымі дзялянкамі, на якіх жыла. Сірыйскі прыгонны мог быць нават адарваны ад сям'і, прададзены, падораны ці дадзены ў абмен сваім гаспадаром іншаму. Звычайна рыцарскі лён падзяляўся для мэт гаспадарання на хутары, а асобны хутар (casale) падзяляўся на «плугі» (charruess), г.азн. пляцоўкі зямлі, для штогадовай апрацоўкі якіх хапала пары валоў. Да хутара прылягалі лясы і сенажаці, знаходзіўшыяся ў агульным карыстанні сялян, а часам і вінаграднікі, фруктовыя сады, насаджэнні масьлін. Прыгонныя, апрацоўваючыя такі хутар, неслі павіннасьці працай, прадуктамі зямлі і нават грашамі. Яны дастаўлялі ў замак рыцара курэй, яйкі, хлеб і мёд.

Толькі гараджанам на Ўсходзе адчынялася шырокае поле дзейнасьці. Узнік «ленны гандаль», пасярэднічаўшы паміж Усходам і Захадам. На берагах Сірыі здзяйсняўся зараз памен вырабаў Яўропы і Азіі. Караблі купцоў Генуі, Пізы, Амальфі, Манпелье і Марсэля плылі звычайна ўздоўж заходняга берага Італіі да Месіны і пасьля працяглага адпачынку плылі далей на грэцкія выспы: Кандыю, Родас, Кіпр, адкуль, не заходзячы ў Афіны, дасягалі сірыйскага берага каля Ціра і Аккона. З другога боку, сюды ж прыводзілі караванныя шляхі із азіяцкага Поўдня і Ўсходу.

Із Яўропы на Сірыйскі бераг прывозілася зброя, сукны, коні, хлеб, а із Сірыі грузілася ў Яўропу садавіна, віны, цукар, бавоўна, шоўк і поўсць армянскіх авечак і коз. Але асабліва важным было для Яўропы закупленне вострых прыправаў, водараў і фарбаў, радзімай якіх былі аддаленыя часткі Азіі. Адзін просты пералік левантскіх тавараў для Яўропы сведчыць, наколькі шырока разгалінаваўся гэты гандаль і як ён ужо глыбока пашырыўся на азіяцкі Ўсход.

«Знакамітая амбра прывозілася із Аравіі. Арабы часта знаходзілі кавалкі гэтага цьвёрдага, шараватага, падобнага на воск, рэчыва, якое пры награванні выпускала тонкі водар. Пра яе паходжанне на Ўсходзе хадзіла шмат фантастычных апавяданнаў і гэта не дзіўна: амбра сустракалася то ў хвалях мора, то на беразе, то сярод скал, куды, магчыма, яе заносілі птушкі, а часам і ў вантробах рыб, праглынуўшых араматычныя кавалачкі. У рэчаіснасьці ж, гэта было хваравітае ўтварэнне ў целе кашалота. На ўсходзе із амбры выраблялі ружанцы, крыжы, цэлыя статуэткі».

Бальзамам славіўся Ягіпет. Тут у садзе, належаўшым султану, надразалася кара бальзамавага дрэўца ці абрывалася лісьце, адгалінаванні, і із іх збіраўся каштоўны сок. Лепшы гатунак бальзаму раздаваўся султанам у якасьці гасьцінца валадарам, вяльможам і ў шпіталі, а ў продаж ішла толькі рэштка ці тое, што садоўнікі выціскалі із абрэзкаў. Гэтае араматычнае рэчыва ўжывалася і як лекі, і для мэт набажэнства, напрыклад у царкоўным ялеі. Гваздзіка, як лекі і прыправа, была вядомай яшчэ з часоў каралінгаў, але яна заўсёды была ў два-тры разы даражэй за перац, таму што адзіным месцам, дзе раслі гваздзічныя дрэвы, былі аддаленыя Малукскія выспы. Імбір ішоў із Індыі, а карыца із Кітая і Цэйлона. Лепшы ладан здабываўся із драўнянай смалы на Кіпры і ў Малой Азіі, а лепшы мускус – у Тыбеце з сумкаватай залозы мускуснага быка (самца кабаргі). Мускатны арэх прыходзіў, магчыма, із Зондскіх выспаў, рэвень – із Кітая сухім шляхам праз

пустыні цэнтральнай Азіі, а перац – із Малабарскага берага Індыі і Цэйлона; гэта была найболей пашыраная прыправа.

Пад час сярэдневечча перцам часам плаціліся пошліны, але яго кошт быў такім высокім, што для бедных станаў ён заставаўся недаступным. Шафран і цукровы трыснёг сустракаліся і ў паўднёвай Яўропе і ў Палестыне, але лепшыя гатункі ўсё ж дастаўляліся купцамі-ісламітамі із Персіі і Ягіпта. Фіміям (араматычны сок дрэва Boswelia) прывозіўся таксама із Аравіі, як і амбра. На берагах Пярсідзкага заліва быў вынайдзены спосаб рафініравання цукру, а адтуль сірыйцы пашырылі яго на Захад і на Ўсход. З нагоды свайго вялікага кошту цукар ужываўся пад час сярэдневечча спачатку больш як лекі пры грудных хваробах, і толькі пазьней у продажы з’явілася садавіна ў цукры, хаця у Візантыі ўжо ў часы Камнінаў было ў звычаі піць ваду з цукрам.

Побач з водарамі і вострымі прыправамі Ўсход дастаўляў у Заходнюю Яўропу іншы маскатэльны тавар – фарбы і розныя смолы. Корань галанга, вядомы як лекі і гарачачая прыправа, прывозіўся із Кітая і паўднёвай Азіі. Індыга ўдала разводзіўся для афарбоўкі паблізу Кабула і ў Персіі, а камфара прыходзіла із Кітая і, магчыма, із Суматры, дзе здабываліся самыя каштоўныя гатункі. Адзін, від кашанілі сустракаўся і ў паўднёвай Яўропе, і ў Грэцыі, і ў Арменіі, і гэтая казурка давала чырвоную фарбу; таксама і марэна разводзілася як у Яўропе, так і на Ўсходзе, напрыклад у Грузіі. Квасцы для фарбавання, залачэння і дублення атрымліваліся із Малой Азіі, камедзь – з Інда-Кітая і Індыі з Карамандэльскага берага, дзе на некаторых пародах дрэў тысячамі размнажалася асобная тля (Coccus Lacca), якая праточвала кару галін і, дзякуючы змешванню з выступаючым на паверхню смалістым сокам, надавала яму чырвоны колер; такая камедзь ішла на афарбоўку і паліраванне. На прыгатаванне лакаў і на араматычнае курэнне ў пакоях ужываўся і другі смалісты сок дрэў – масьціка, здабываўшаяся пераважна на выспе Хіяс. Чырвоны сандал, даваўшы добрую фарбу, сярэднявечныя вандраўнікі знаходзілі на Карамандэльскім беразе, але арабы часьцей згадваюць пра той жоўты і белы сантал (Santalum album), духмянае дрэва якога ішло на курыва. Яго можна было знайсьці ў абедзьвюх Індіях. Іншае духмянае дрэва алоэ (Aquilaria agallocha) – было родам із Інда-Кітая; у Кітай і Індыю яно завозілася ў якасьці курэння пры набажэнстве, а ў Яўропе выкарыстоўвалася для дробных вырабаў, напрыклад на скрыначкі, і лічылася ў спісе лекаў.

Да леванцкіх тавараў таксама дапасавалі каштоўныя камяні, жэмчуг, каралы, шкло, слановую костку, шоўк, бавоўну, дываны і ўсходнія тканіны. У Ягіпце знаходзілі смарагды, у Персіі – бірузу, у Індыі – сапфіры і дыяменты; на Цэйлоне – тапазы, рубіны, гранаты, аметысты, у Пярсідзкім заліве і ў праліве паблізу Цэйлона – жэмчуг. Радзімай шоўку лічыўся Кітай, але пад час Эпохі крыжовых паходаў тутавыя дрэвы і шаўкавічныя чарвякі разводзіліся і ў Сярэдняй Азіі, і ў Персіі, і ў Сірыі, і нават на Сіцыліі.

Мы бачым, што Сірыя ў той час зрабілася як бы караван-сараем паміж заходняй Яўропай і далёкім Усходам. Але зразумела, што яна змагла набыць такі статус толькі пасьля таго, як Заходняя Яўропа стала больш заможнай і ў яе з'явіліся ветразевыя караблі далёкага плавання, і зразумела таксама, што пасьля адкрыцця марскога шляху ў Індыю і Кітай Сірыя і яе галоўны горад Антыёхія павінны былі зноў зрабіцца глухменню.

Само сабой зразумела, што левантскі гандаль не спыняўся на берагах Міжземнага мора. Із Паўночнай Італіі праз Альпы тавары ўсходу ішлі ў Германію

праз Рэгенсбург, Нюрнберг, Аўгсбург, Ульм. У Венецыі быў вялізны склад нямецкіх купцоў (Fondaco dei Tedeschi), куды збіраліся як вырабы германскай прамысловасьці для вывазу, так і леванцкія каштоўныя тавары для ўвозу. Для пашырэння ўсходніх тканін і вострых прыпраў у Францыі італійскія купцы наведвалі не толькі яе паўднёвыя гавані, але і людны кірмаш у Шампані.

Леванцкі гандаль тады быў такім важным для ўсіх еўрапейскіх краін, што ніякія забароны і абмежаванні з боку каталіцкай царквы не змаглі ні спыніць яго, ні скараціць. Царква знаходзіла заганнымі мірныя дачыненні з ісламітамі, а дастаўленне ім баявых прыпасаў лічыла проста злачынствам. Дарэмна, аднак, выдавалі свае забароны папы Аляксандр III і Інакенцій III: Венецыя, Генуя, Каталонія па-ранейшаму забяспечвалі Ягіпет вайсковымі матэрыяламі. У 1308 годзе папская курыя забараніла, нарэшце, які б то ні было гандаль з няверными, але ніхто не звярнуў на гэта ўвагі. Гэты захад нават не здолеў спыніць гандаль рабамі. Хаця, згодна з законамі Генуі, рабы-ісламіты з берагоў Чорнага мора маглі вывозіцца ў Ягіпет толькі ісламітамі ж, аднак генуэзскія гаспадары караблёў абыходзілі закон, аддаючы караблі ў найм усходнім рабагандлярам. Толькі продаж ісламітаў на Захад у рукі хрысьціян быў дазволены царквой, і таму нявольніцы і рабы, прададзеныя Кіпчацкай ардой, ці палонныя саракіны із Сірыі тысячамі траплялі на рынкі Генуі і Венецыі. Нават пераходзячы ў хрысьціянства яны не заўсёды атрымлівалі волю.

Разгаліноўваючыся па Яўропе і Азіі, левантскі гандаль меў наступствам развіццё грашовай гаспадаркі, выпрацаванне розных манетных адзінак і вэксальных абаротаў, выкліканых да жыцця крыжовымі паходамі. Кожны крыжак браў з сабой грошы ў манеце сваёй радзімы, і дзякуючы гэтаму да гэтага часу у Палестыне знаходзяць ад гэтай эпохі манеты Фландрыі, Артуа, Беарна, Праванса, Кастыліі, Арагоніі і розных італійскіх гарадоў, манеты германскіх імператараў і арцыбіскупаў Кёльна і Майнца, манеты ангельскага кляпання і візантыйскія тыпы, адчаканеныя нарманамі ў Неапалі, Салерна і Беневенце. У Палестыне крыжакі ўжо знайшлі ці ўвялі ў абарачэнне грэцкую і арабскую манеты, а бароны зноў заваяваных феадаў пачалі кляпаць сваю ўласную, па большай частцы медзяную і дробную срэбную манету для абарачэння ў краіне. Для буйных гандлёвых аперацый, асабліва з Усходам, узнікла асобная залатая манета – bisantii sarracenati, якая кляпалася ў Акконе, Ціры, Трыпалісе. На іхных франкскім золаце былі вычаканены надпісы із Карана з імёнамі каліфаў і гадоў геджры. Іхнае кляпанне было прывілеем венецыянцаў, і я ўжо выказваўся, што да гэтага ж часу мы павінны дапасаваць і тыя манеты, калі не вырабленыя, то «знойдзеныя» еўрапейскімі вандроўнікамі старога часу (калі Эль-Кудс быў яшчэ мала даступны), носячыя лацінскія і жыдоўскія назвы і дапасуючыяся да глыбокай старажытнасьці.

Разам з Людовікам IX у Палестыну прыбыў папскі легат, які палічыў, што абарачэнне манет з надпісамі із Карана з’яўляецца абразай для хрысьціянства. Ён пад пагрозай адлучэння ад царквы забараніў іхнае ўжыванне і тады дзеля таго каб гандлёвыя дачыненні з Усходам не зведалі шкоды ад недахопу прыдатнай манеты, венецыянцы пачалі кляпаць золата, хаця і адпаведна з арабскімі ўзорамі і з надпісамі арабскімі літарамі, але толькі гэтыя надпісы сталі хрысьціянскімі: у сярэдзіне такой манеты можна знайсьці нават крыж.

Шматлікасць гатункаў грошай мела наступствам развіццё прамыслу мянял і разумення пра грашовы курс, г.азн. пра прапорцыю, у якой мяняліся розныя гатункі манет. Для пераводу ў Палестыну вялікіх сум грошай пачалі ўжывацца

вэксэлі і траты (г.азн. перавод сумы грошай, аддадзенай, напрыклад, банкіру ў Генуі ў адным манетным гатунку, на другога банкіра ў Палерма з выплатай у іншай манеце). Банкірскія аперацыі, злучаныя з крыжовымі паходамі, у вялікіх памерах рабілі рыцары-тампліеры.

Вось як позна і вось дзякую якім нагодам з'явілася гандлёвая металічная манета! Усё, што знаходзіцца па гэтай частцы ў нашых музеях і носіць нашмат ранейшае датаванне, павінна быць ці падробкамі, ці проста медалямі.

Леванцкі гандаль выклікаў да існавання і цэлую сетку еўрапейскіх асад на берагах Сірыі, Архіпелага і Чорнага мора. Як у гандлі, так і ў гарадзкім жыцці Палестыны бачная роля выпала на долю генуэзцаў, пізанцаў і венецыянцаў.

У 1097 г. генуэзцы на 12 галерах зайшлі ў гавань св. Сымона і дапамаглі сваім флотам крыжакам пры аблозе Антыёхіі. За гэтыя паслугі Баэмунд падараваў ім у горадзе 30 сядзіб, царкву св. Яна, кірмаш і фантан. Падчас аблогі Ерусаліма ў 1099 годзе дзейныя генуэзцы былі са сваім флотам у Яфе і адтуль падтрымалі крыжакоў. Яны ж заваявалі для караля Балдуіна ў 1101 годзе горад Арзуф і Кайсарыя, а ў 1104 годзе Аккон (С. Жан д'Акр). У якасьці ўзнагароды генуэзцы атрымалі ва ўласнасць трэцюю частку кожнага із гэтых гарадоў з адпавядаючай часткай прыгарадных мясцовасьцей і, акрамя таго, у Акконе, адну траціну ад пошлін, збіраемых у гавані, а ў Эль-Кудсе, атрымаўшым найменне Ерусалім, і ў Яфе – асобныя кварталы і права на адну чвэрць у кожным горадзе, які будзе захоплены з іхнай дапамогай. Генуэзцы запатрабавалі ў Балдуіна дазволу прыбіць у нішы царквы Труны Госпада, ззаду галоўнага ахвярніка, дошку, на якой залатымі літарамі быў выразаны пералік усіх гэтых падараванняў.

Менш шчаслівымі ў набыцці асад былі пізанцы, а венецыянцы з цягам часу пакінулі ззаду сябе ўсе іншыя італійскія гарады па майстэрству здабываць гандлёвыя выгоды із дапамогі, рабімай крыжакам. У 1100 годзе яны прыплылі на 200 караблях да гавані Яфа і заключылі з Годфрыдам Бульёнскім дамову, згодна з якой ахоўнік Труны Госпада дараваў ім у кожным горадзе каралеўства царкву і месца, зручнае для кірмаша, і поўнае вызваленне ад пошлін. Акрамя таго, у кожным горадзе, які будзе захоплены з іхнай дапамогай пад час бліжэйшай кампаніі, яны павінны былі атрымаць яго траціну ў поўную ўласнасць. Так узнікла квітнеючая пазьней венецыянская асада ў Сідоне. Пад час валадарання Балдуіна II у якасьці ўзнагароды за новую дапамогу супраць ісламітаў Венецыя дамаглася і новых ільгот. Згодна з дамовай 1123 года венецыянцы ў Ерусаліме атрымалі квартал, роўны ўладанням самога караля, а ў кожным горадзе каралеўства вуліцы, кірмашовы пляц, царкву, лазню і пякарню, з поўным вызваленнем ад якіх бы то ні было ўвазных і вывазных пошлін. Наступнай вясной быў захоплены Палестынскі Цір, і яго траціна была  адразу ж перададзена венецыянцам. Яго ўмацаванае становішча давала Венецыі вялікую перавагу перад яе суперніцамі – Генуяй і Пізай.

Гандлёвыя асады італійскіх гараджанаў у берагавых гарадах Сірыі мелі афіцыйную назву камуна, хаця іхныя жыхары і не мелі незалежнага самакіравання. Сядзібы, склады для тавараў, кірмашовыя пляцы, крамы, царква і ўсё, што было вельмі патрэбна камуне, не належала жыўшым ў ёй грамадзянам, а складала грамадзкую ўласнасць іхнай дзяржавы на Захадзе, г.азн. Венецыі, Пізы і Генуі, якія і аддавалі маёмасць асадам толькі ў часовае карыстанне і за вызначаную плату. Таму і вышэйшыя службовыя асобы ў такіх псеўда-камунах прызначаліся метраполіяй. Спачатку гэтыя ўрадаўцы мелі назву віконт, пазьней (у генуэзцаў і

пізанцаў) консул, а ў венецыянцаў – бальі (bajulus, bailo). Яшчэ пазьней, над усімі асадамі адной і той жа вобласьці прызначаўся толькі адзін консул ці бальі, жыўшы ў галоўнай псеўда-камуне. Выключнае становішча такіх камун адбівалася пераважна ў судаводстве: іхныя сябры па грамадзянскіх і дробных крымінальных справах не падлягалі суду палаты гараджанаў усяго горада, а сваім уласным прысяжным, пад старшынством віконта камуны.

У Ерусалімскім каралеўстве перамяшаліся не толькі плямёны, але і іхныя мовы і культуры. Літаратура, адзенне, лад жыцця крыжакоў і асаднікаў Сірыі насіў адбітак узаемадачыненняў Усходу і Захаду. Із Палестыны ўсе запазычванні і навіны хутка заносіліся ў Італію і Францыю. Сярэднявечная французкая мова ўзбагацілася ў гэты час словамі арабскага паходжання. Грандыёзныя падзеі паднялі ўзровень гістарычнай і геаграфічнай літаратуры. Першыя гістарычныя паведамленні пра гэты час далі самі ўдзельнікі крыжовых паходаў Раймунд Агільскі, Фушэ Шартрскі і г.д. і яскрава перадалі рэлігійнае адушаўленне першых крыжакоў. Потым з'явіліся шырокія гістарычныя працы, сплятаўшыя асобныя апавяданні ў адзін мастацкі твор. Такой была праца цірскага арцыбіскупа Вільгельма. Распавядаючы гісторыю крыжовых паходаў, ён не выяўляе ні нянавісьці да ісламу, ні наіўнага захаплення ваярскімі вычынамі, як хранікёры браўшыя ўдзел у першым крыжовым паходзе. Арцыбіскуп паважае Ерусалімскае каралеўства, як сваю радзіму, але не захапляецца ілюзіямі энтузіястаў, а выказвае свае меркаванні цьвяроза, адпаведна з палітычнымі і вайсковымі меркаваннямі.

Сірыйскія феадальныя каралеўствы мелі наступствы нечаканым для саміх кіраўнікоў крыжовых паходаў. Яны пераіначылі ўсе асноўныя пагляды заходняй часткі чалавецтва, ляжаўшыя ў падставе сярэднявечнага ўладкавання. Геаграфічны гарызонт пашырыўся за межы Міжземнага мора. У Палестыне і ў грэцкіх феадальных дзяржавах таго ж узору нараджаўся той працэс закісання, які да XIII стагоддзя ахапіў усю культурную масу Заходняй Яўропы і спарадзіў першыя пробліскі Рэнесансу. У гэтым гістарычная заслуга сірыйскіх асад, заснаваных крыжакамі, купцамі і рыцарамі. Яны выпрацавалі новую закваску для еўрапейскіх метраполій. Іхнае гістарычнае існаванне стварыла ў сваім выніку не толькі новыя ідэі, але і новыя тыпы людзей для іх ажыццяўлення. Але яны не змаглі абудзіць азіяцкі Ўсход, кантынентальная прырода якога не спрыяла развіццю мараплаўства, што было тады галоўным стымулам да ўскладнення чалавечай псіхікі.

# Глава XI

## Лаціны і рамеі пад час эпохі крыжацкіх дзяржаваў. Аднастайнасць іхнай эвалюцыі пад час феадальнага перыяда з іншымі феадальнымі дзяржавамі.

Чацьвёрты Крыжовы паход, скончыўшыся захопам і разгромам Цар-Горада, меў наступствам раздрабненне Візантыйскай імперыі і заснаванне ў яе межах цэлага шэрагу дзяржаў, часткова франкскіх, часткова грэцкіх, із якіх першыя атрымалі феадальнае ўладкаванне.

Сучасныя гісторыкі напаўняюць усё XIII стагоддзе сутычкамі паміж існуючымі тады валадарамі і заключэннем паміж імі разнастайных хаўрусаў, забываючы пра іхнае мірнае жыццё і культурніцкую дзейнасць.

Пагаворым яшчэ раз пра чыста грэцкія дзяржавы.

Заснавальнікам Нікейскай імперыі, гэтай «імперыі ў выгнанні» быў Хведар Ласкар. Там знайшла сабе прыстанак і царгародзкая патрыярхія. Туды ж збеглі пры нашэсьці крыжакоў шматлікія візантыйскія прадстаўнікі грамадзянскай і вайсковай шляхты, бачныя дзеячы царквы і іншыя ўцекачы, не пажадаўшыя падначальвацца іншаземнай уладзе. Збегшы із Афінаў ад латынянаў мітрапаліт гэтага горада Міхал Акамінат, рэкамендуючы ў лісьце ўвазе Хведара Ласкара аднаго еўбейца, між іншым заўважае, што той таемна з'ехаў у Нікею, аддаючы перавагу жыццю выгнаннікам у палацы рамейскага валадара знаходжанню на радзіме, кіруемай чужакамі.

Становішча новай дзяржавы ў Віфініі было ў найвышэйшай ступені небяспечным, таму што з усходу яму пагражаў займаўшы ўсю ўнутраную частку Малой Азіі Румскі султанат (г.азн. «Рымская імперыя») сельджукідаў, якому таксама належала частка міжземнаморскага ўзбярэжжа на поўдні і чарнаморскага ўзбярэжжа на поўначы; а з захаду пагражала Лацінская імперыя.

Успыхнуўшае на Балканскай паўвыспе грэка-баўгарскае паўстанне вымусіла крыжакоў вярнуць у Яўропу выпраўленае ў Малую Азію войска. Там у бітве пад Адрыянопалем, у красавіку 1205 года, баўгарскі цар Калаян, ён жа Ян, з дапамогай быўшых у яго войску палавецкіх (куманскіх) вершнікаў, нанёс рашучую паразу крыжакам, пры гэтым загінулі лепшыя прадстаўнікі заходняга рыцарства, і сам лацінскі імператар Балдуін быў узяты баўгарамі ў палон і знік для гісторыкаў без весткі.

Але і для самаго баўгарскага Яна гэтая вайна скончылася фатальна. Пры аблозе Салуні (у 1207 годзе) ён загінуў «уражаны, – кажуць нам манахі, – цудоўным чынам дзясніцай вялікапакутніка Зміцера Салунскага». Паданне пра гэтае дзіва было занесена імі і ў чэцці-мінейскія паданні, існуючыя на грэцкай і славянскай мовах і ў рускіх хранографах.

Гэта выратавала ад знішчэння Нікейскую дзяржаву. Хведар Ласкар, пазбавіўшыся ад небяспекі з боку заходняга суседа, дзейна пачаў упарадкоўваць сваю дзяржаву. Нікея зрабілася цэнтрам яго імперыі і царкоўным цэнтрам. У дамове, заключанай каля 1220 года паміж ім і венецыянскім прадстаўніком у Цар-Горадзе, мы знаходзім яго афіцыйны тытул, прызнаваемы, відавочна, Венецыяй: «Хведар Камнін Ласкар, верны ў Хрысьце-богу і вечна найясьнейшы імператар і кіраўнік рамеяў (Theodoras, in Chrislo Deo fidelis imperator et moderator Romeorum et semper augustus Comninus Lascarus)».

Нікея, зрабіўшаяся сталіцай новай імперыі, уславлена ў летапісах візантыйскай гісторыі «дзякуючы двум скліканым у ёй сусьветным саборам». Але ўсе яе «пышныя палацы і шматлікія цэрквы і кляштары», пра якія нам паведамляюць гісторыкі Эпохі Гуманізму, акрамя нязначных гарадзкіх сьцен, відавочна, праваліліся скрозь зямлю, таму што ў сучасным вартым жалю турэцкім мястэчку Існіке (пераіначанае наймене Нікеі) можна знайсьці толькі невялікую, сьціплую царкву «Успення найсьвяцейшай панны», верагодна IX стагоддзя, з цікавымі мазаікамі. А тым часам візантыйскія і заходнія гісторыкі XIII стагоддзя адзначаюць шырокія памеры і багацце Нікеі, дзякуючы чаму мімаволі задаешся пытаннем: ці пра Існіке паведамляюць яны? Літаратура XIII-XIV стагоддзя захавала нават два адмысловыя панегірыкі такому гораду, і першы із іх належыць пяру імператара Хведара II Ласкара, які між іншым звяртаецца да Нікеі з такімі словамі: «*Ты перавысіў усе гарады, таму што рамейская дзяржава, шмат разоў*

*падзеленая і пераможаная замежным войскам... толькі ў табе заснавалася, зацьвердзілася і ўмацавалася*».

Другі панегірык быў напісаны вядомым дзяржаўным дзеячом Візантыі заканчэння XIII і XIV стагоддзя, дыпламатам, палітыкам, багасловам, астраномам, паэтам і мастаком Хведарам Метахітам, імя якога заўсёды злучаецца ў навуцы з захаваўшыміся да нашага часу мазаікамі Канстантынопальскага кляштара Хоры (зараз мячэць Кахрыэ-Джамі). Ён надрукаваны Sathas'ом у Bibliqtheca graeca medii aevi (I,139). Але нашмат большую цікавасць уяўляе адзін дакумент, які дазваляе нам да некаторай ступені пазнаёміцца з уяўленнем Хведара Ласкары пра імператарскую ўладу. Гэта так званы «Сіленцыум» (σιλέντιον), як у візантыйскі час называліся публічныя выступленні імператараў, вымаўляемыя імі ў палацы пры пачатку паста, у прысутнасьці самых шляхетных асоб імперыі, дзе Мікіта Акамінат паведамляе ад імя Ласкара: «Мая імператарская ўлада была дадзена мне звыш, як бацьку над усёй рамейскай дзяржавай, хаця з часоў Рамея і пачала саступаць шмат каму. Дзясніца госпада ўсклала на мяне ўладу»... «Ды будзе ў нас адзіным статак і адзіным пастыр».

Мы бачым, што і ў Нікеі яшчэ працягвалі існаваць тэакратычныя традыцыі, а таксама і імкненне лічыць гэты аскепак за ранейшую Рамею. Але зараз яе канкурэнтам стала і агаранская частка Малой Азіі, якая таксама лічыла сябе прадаўжальніцай старажытнага Вялікага Рыма, адпаведна з мясцовай назвай Рума.

Для турэцкага Румскага султанату, відавочна лічыўшага толькі сябе адраджэннем агаранскага Рыма часоў куміразмагальніцтва, з'яўленне ў Азіі зноў хрысьціянскага Рыма, у выглядзе Нікейскай імперыі, вядома, было ў вышэйшай ступені непрыемнай навіной, таму што ставіла перашкоду да далейшага пасоўвання румцаў на захад да ўзбярэжжа Эгейскага мора. Да гэтай асноўнай падставы вострых дачыненняў паміж двума прэтэндэнтамі на працяг ранейшага Вялікага Рыма далучылася яшчэ тая акалічнасць, што цесць Хведара Ласкара, Аляксей III Анёл, збег да кумскага султана, молячы яго дапамагчы яму вярнуць страчаны пасад. Пачаліся вайсковыя дзеянні паміж двума Румамі, якія пераважна адбываліся ў Антыёхіі на рацэ Меандр. У адбыўшымся сутыкненні султан быў забіты, а знайшоўшы прыстанак у «турак» (г.азн. румцаў) былы імператар Аляксей III узяты ў палон і скончыў свае дні ў адным із нікейскіх кляштароў.

Мікіта Акамінат напісаў у гонар Хведара з нагоды гэтай перамогі напышлівае ўхвальнае слова, а Міхал Акамінат, між іншым, таксама пісаў яму:

«*Сталіца, выкінутая варварскай паводкай са сьцен Візантыі на берагі Азіі ў выглядзе вартага жалю аскепка, прынята, кіруема і выратавана табой... Табе патрэбна было б вавек называца новым будаўнікам і насяліцелем горада Кастуся... Бачачы ў табе адным выратавальніка і агульнага вызваліцеля і называючы цябе такім, зведаўшыя крушэнне пад час усеагульнага патопу імкнуцца ў тваю дзяржаву, як у ціхую гавань... Нікога із цароў, цараваўшых над Канстантынопалем, я не лічу роўным табе, хіба із навейшых вялікага Васіля Баўгарабойцу, а са старажытнейшых шляхетнага Гераклія*».

Паглядзім зараз на паўночны захад.

Заснавальнікам Эпірскага дэспатата ў 1204 годзе быў Міхал I Анёл. Яго першапачатковыя ўладанні распасьціраліся ад Дырахіума на поўначы да Карынфскага заліва на поўдні, г.азн. занімалі ўяўляемую тэрыторыю старажытнага Эпіра, Акарнаніі і Этоліі. Сталіцай новай дзяржавы зрабіўся горад Арта. Дэспат Міхал I глядзеў на сябе таксама, як на цалкам незалежнага працягвальніка вялікай Рымскай імперыі, і не прызнаваў якога б то ні было вяршэнства Нікейскага

Хведара. Царква ў дэспатаце таксама кіравалася самастойна і Міхал І выдаў пастанову, каб мясцовыя мітрапаліты пасьвячалі біскупаў.

Акрамя яго і Фэсалоніцкі кароль Хведар падпісваў свае граматы поўным тытулам рамейскага валадара: «Хведар, у Хрысьце Бога васілеўс і самаўладзец рамеяў, Дука» (г.азн. герцаг).

Такім чынам, пачынаючы ад 1223 года, калі была абвешчана Фесалонікская імперыя, у сваёй падставе адмаўляўшая Нікейскую імперыю, на хрысьціянскім Усходзе з'явілася пяць Рымскіх імперый: тры грэцкія, Эпірская, Фэсалоніцкая і Нікейская, адна Лацінская ў Цар-Горадзе, слабеўшая з кожным годам, і адна агаранская, якой належала будучыня.

Для гісторыі грэцкай Рамеі ў гэты час уяўляе цікавасць Ян Арсень ІІ, як носьбіт ідэі Вяліка-Баўгарскага царства, якое павінна было б, здавалася, аб'яднаць усё праваслаўнае насельніцтва Балканскай паўвыспы і набыць сваю сталіцу ў Цар-Горадзе. Само сабой зразумела, што падобныя планы ішлі ў разрэз з надзённымі інтарэсамі абодвух грэцкіх імперый і павінны былі мець наступствам варожыя сутыкненні. Рашучая бітва адбылася ў 1230 годзе каля мястэчка Клакотніцы (зараз Сяміджэ), паміж Адрыянопалем і Філіпаполем, і закончыўшаяся поўнай перамогай Асеня, якому значна дапамагла палавецкая (польская) конніца. Сам Хведар Салунскі патрапіў у палон.

Да нас дайшоў надпіс на белым мармуровым слупку ў тырнаўскай царкве Сарака Пакутнікаў, дзе баўгарскі цар паведамляе пра вынікі сваёй перамогі ў такіх велічных выразах:

«*Я, Ян Асень, у Хрысьце Богу верны цар і самаўладзец баўгарам, сын старога Асеня цара... выйшаў на бойку ў Раманею і пабіў грэцкае войска, і самога цара, спадара Хведара Камніна, я ўзяў яго з усімі баярамі, і ўзяў усе землі ад Адрыянопаля да Драча, як грэцкую, так і албанскую і сербскую. Толькі гарады навакол Цар-Горада і сам Цар-Горад трымалі Фрузі* (г.азн. парызы, франкі), *але і тыя падначаліліся руцэ маёй вялікасьці, таму што іншага цара, акрамя мяне, няма, і толькі дзякуючы мне яны працягвалі сваё існаванне*».

Із дапасуемай да таго ж часу граматы Асеня, дадзенай дубравіцкім купцам пра волю іхнага гандлю ва ўладаннях цара, відаць, што ўся ранейшая Еўрапейская Рамея (акрамя Цар-Горада ), амаль уся Сербія і ўся Баўгарыя ўваходзілі ў сферу ўплыву Асеня.

У гэты ж час, які можна назваць пралогам да Рэнесансу (ці, больш дакладна, прама да класіцызму) адбылося цікавае збліжэнне двух далёкіх адзін ад аднаго цароў, нікейскага імператара Яна Ватаца і заходняга імператара Фрыдрыха ІІ Гагенштаўфена.

Фрыдрых, захапляўшыся прыродазнаўчымі навукамі і варожы папскаму Рыму, не пабаяўся заключыць «хаўрус з грэкамі, сьмяротнымі ворагамі як папства, так і Лацінскай імперыі». Дачыненні паміж Фрыдрыхам і Янам Ватацам сталі такімі цеснымі, што ўжо пад канец трыццатых гадоў грэцкае войска ваявала ў Італіі за Фрыдрыха.

У адным лісьце Фрыдрых нават усклікае:

«*О, шчаслівая Азія*! *О, шчаслівыя дзяржавы Ўсходу! Яны не баяцца зброі сваіх падданых і не баяцца ўмяшання пап*».

А ў другім яго лісьце, дайшоўшым да нас як на грэцкай, так і на лацінскай мовах, да таго ж Ватаца, мы знаходзім такое месца:

«*Як! Гэты так званы цар сьвятароў* (Sacerdotum princeps), *штодня аддае на адлучэнне тваю вялікасць, безсаромна называе перад тварам усіх ерэтыкамі*

*праваслаўнейшых рамеяў, ад якіх хрысьціянская вера дайшла да крайніх межаў сусьвету*!»...

А ў лісьце да эпірскага дэспата Фрыдрых пісаў:

«*Мы жадаем бараніць не толькі наша права, але і права нашых сяброўскіх і паважаемых суседзей, якіх чыстая і сапраўдная павага да Хрыста злучыла разам, асабліва ж грэкаў, нашых блізкіх і сяброў... А папа называе набожнейшых і прававерненейшых грэкаў бязбожнікамі і ерэтыкамі*!».

Фрыдрых папярэджвае Ватаца, што рымскія біскупы «не архірэі Хрыста, а драпежныя ваўкі, дзікія зьвяры, пажыраючыя народ Хрыста». Толькі пасьля сьмерці Фрыдрыха II абставіны перамяніліся, і «хаўрус, пра які ён марыў, стаў успамінам».

Пад час трыццатых і саракавых гадоў XIII стагоддзя з усходу з'явілася грозная небяспека ў выглядзе нашэсьця татар, якіх таксама называюць манголамі (у візантыйскіх крыніцах «тахары, татары, атары»). Тым часам як арда Батыя, – згодна са сведчаннямі гісторыкаў, – рынулася ў межы сучаснай Еўрапейскай Расіі і, у 1240 годзе завалодаўшы Кіевам, перайшла Карпаты і толькі із Чэхіі была вымушана павярнуць назад у рускія стэпы, другая мангольская арда, ішоўшая ў больш паўднёвым накірунку, захапіла ўсю Арменію з Эрзерумам і ўварвалася ў вобласьці Малой Азіі, пагражаючы межам Румскага султаната сельджукаў і ўладанням Трапезунтскай імперыі. На фоне агульнай небяспекі ад манголаў узнік хаўрус трох малаазіяцкіх дзяржааў: Румскага султанату, Нікейскай і Трапезунтскай імперый. Сельджукі былі пераможаны манголамі, пасьля чаго румскі султан быў вымушаны адкупіцца выплатай даніны, а імператар Трапезунтскі ператварыўся ў мангольскага васала.

Із гэтага прыкладу бачна, што хаўрусы паміх хрысьціянамі і агаранамі не асабліва бянтэжылі і ў XIII стагоддзі іхных удзельнікаў. Праз некалькі гадоў, як паведамляе заходні гісторык XIII стагоддзя Мацьвей Парыжскі, татары выправілі амбасаду і да папы Інакенція IV з прапановай хаўрусу супраць Яна Ватаца, зяця Фрыдрыха II, паўстаўшага супраць рымскай царквы. І калі гэтая татарская амбасада і не завяршылася поспехам, то яна, ва ўсякім разе, была добра прынята ў Рыме.

Тым часам Ян Ватац, пазбаўлены ад небяспекі мангольскага ўварвання з усходу, звярнуў усю сваю ўвагу на Балканскую паўвыспу і дасягнуў значных вынікаў.

Са сьмерцю Асеня II у 1241 годзе мінула бліскучая пара «другога» Баўгарскага царства. Ян Ватац пераправіўся з войскам на еўрапейскі бераг і за некалькі месяцаў забраў у Баўгары ўсе заваяваныя Асенем II македонскія і фракійскія вобласьці. Ён прайшоў далей да Салуні і ў 1246 годзе захапіў гэты горад. Салунская дзяржава спыніла сваё існаванне. У наступным годзе Ватацам былі заваяваны некаторыя фракійскія гарады, належаўшыялі Лацінскай імперыі і наблізіўшыя Нікейскага імператара непасрэдна да Канстантынопаля. І калі не лічыць сярэдняй Грэцыі і Пелапанэса, то для аднаўлення імперыі Ватацам нехапала толькі Цар-Горада.

Здарыўшыся ў гэты час голад у Румскім султанаце вымусіў турак вялізнымі натоўпамі накіроўвацца ў нікейскія ўладанні і набываць за вялікія кошты патрэбныя рэчы. Турэцкае золата, срэбра, усходнія тканіны, розныя каштоўнасьці і іншыя прадметы раскошы пацяклі ў рукі нікейскіх грэкаў і напоўнілі дзяржаўны скарб. Асаблівым попытам карысталіся ўсходнія і італійскія тканіны, на куплю якіх

насельніцтва выдаткавала вялізныя грошы. Бачачы гэта, Ян Ватац забараніў сваім падданым, пад пагрозай пазбаўлення правоў прыналежнасьці да стану, купляць замежныя матэрыі, а задавальняцца «толькі тым, што родзіць зямля рамеяў і што ўмеюць вырабляць рукі рамеяў». Але пра гэтую забарону даволі хутка забыліся.

Імя Яна Ватаца карысталася ў нашчадкаў такім шанаваннем і павагай, што ён праз некаторы час ператварыўся нават у «сьвятога». З яго імем пачалі злучаць цуды і было складзена «Жыццё св. Яна цара Міласьцівага». І ён жа, раздваіўшыся, ператварыўся ў сьвятога VII стагоддзя Яна Міласьцівага. Яшчэ і ў наш час сьвятарства і жыхары Магнэзіі і яе наваколля штогадова збіраюцца 4 лістапада ў мясцовую царкву і ўшаноўваюць яго памяць. У рускім «Поўным календары Ўсходу», складзеным арцыбіскупам Сергіем, пад 4 лістапада пазначана: «памяць Яна, дукса Ватадзі».

«Апошнімі валадарамі Нікейскай імперыі, – паведамляе А. А. Васільеў, – былі сын і ўнук Яна Ватаца Хведар II Ласкар (1254-1258) і Ян IV Ласкар (1258-1261). Згодна са сведчаннямі нашых крыніц, трыццацітрохгадовы Хведар, «будучы, паводле звычаю, пасаджаны на шчыт», быў абвешчаны імператарам са згоды войска і шляхты. Ён, магчыма, з'яўляўся ледзь ці не адзіным «візантыйскім» валадаром, звяртаўшым увагу на «элінізацыю» войска, насуперак укаранiўшамуся звычаю карыстацца войскам чужых народаў.

Наступнікам Хведара II быў яго непаўналетні сын Ян IV (1258-1261), не здолеўшы, нават з дапамогай прызначанага рэгента, даць рады з дзяржаўнымі справамі. Міхал Палеолаг скарыстаўся акалічнасьцямі і ў 1259 годзе быў абвешчаны і каранаваны ў імператары.

Галоўная вонкавая небяспека для балканскіх уладанняў Нікейскай імперыі пагражала з боку Эпірскага дэспатата, здолеўшага настроіць супраць імперыі сіцылійскага караля, свайго сваяка, пабочнага сына Фрыдрыха II Манфрэда і ахейскага князя Вільгельма Вілгардуэна. Пасьля шэрага паспяховых вайсковых здзяйсненняў Міхала Палеалога супраць кааліцыі, адбылася рашучая бітва ў 1259 годзе ў заходняй Македоніі, каля горада Касторыі. У войску Міхала, акрамя грэкаў, бралі ўдзел туркі, куманы, славяне. Добра ўзброенае войска заходніх рыцараў збегла перад лёгка ўзброенымі віфінскімі славянскімі і ўсходнімі атрадамі. «Тут туркі ваявалі супраць грэкаў на грэцкай глебе і ў дадзеным выпадку на грэцкай службе». Міхал Палеалог з нагоды гэтай бітвы ўсклікае:

«*Разам з імі і іхнымі хаўруснікамі, меўшымі пры сабе правадыра ў асобе князя ахейскага, каго я перамог? Аламанаў, сіцылійцаў, італьянцаў, прыйшоўшых із Апуліі, із краіны япігаў, із Віфініі, Эўбеі і Пелапанэса*».

У жніўні 1261 года цар Міхал без намаганняў завалодаў Цар-Горадам, дзе, сустрэты радаснымі крыкамі насельніцтва, быў праз некаторы час другі раз каранаваны ў храме Сафіі. Балдуін II збег на Эўбею. Паспелі з'ехаць са «сьвятога горада» лацінскі патрыярх і галоўныя прадстаўнікі каталіцкага сьвятарства. Так Міхал VIII, Палеалог, зрабіўся аднаўляльнікам Візантыйскай імперыі і заснавальнікам апошняй візантыйскай дынастыі – Палеолагаў.

Сталіца із Нікеі была перанесена назад у Цар-Горад. Лацінская імперыя знікла, праіснаваўшы пяцьдзясят сем гадоў.

Але некаторыя яе асобныя княствы і герцагствы яшчэ доўга існавалі пад заходнім пратэктаратам.

* * *

Якой была літаратура і навука пад час эпохі Нікейскай імперыі? Пасьля распадзення Рамеі ў 1204 годзе на цэлы шэраг самастойных лацінскіх і грэцкіх уладанняў, Нікейская дзяржава зрабілася цэнтрам не толькі будучага палітычнага аб'яднання элінаў, але і агменем дзейнага культурнага жыцця.

У адным із твораў Хведара Ласкара мы чытаем, што Карынф славіцца музыкай, Фесалія мастацтвам ткання, Філадэльфія шавецкім майстэрствам, а Нікея філасофіяй. Як і пад час эпохі Камнінаў, адукаваныя людзі XIII стагоддзя пісалі за нешматлікімі выключэннямі на школьнай грэцкай мове, адарванай ад размоўвай. Бацькі царквы былі тымі ўзорамі, пад ярмом якіх жылі і думалі сярэднявечныя адукаваныя людзі наогул і грэкі XIII стагоддзя ў прыватнасьці.

Самай выбітнай фігурай у культурным жыцці Нікейскай імперыі безумоўна з'яўляецца Нічыпар Блемід. Яго пяру прыпісваецца вельмі шмат багаслаўскіх твораў у вобласьці дагматыкі, палемікі, аскетыкі, экзэгетыкі, літургікі, царкоўнай паэзіі, павучанняў, жыццяў. Яго «пераклады некаторых псалмоў», прызначаныя для набажэнскіх мэт, зрабіліся з часам неабходным складнікам усяночнага няспання ў грэцкай царкве, каб пазьней з'явіцца ў паўднёваславянскіх, а потым у рускай царкве. Не малую цікавасць уяўляюць, сабой і свецкія творы Нічыпара. Яго палітычны трактат «Царская статуя» (Βασιλικός ἀνδριάς) мае на мэце намаляваць ідэал валадара, які мог бы служыць узорам разнастайных вартасьцей і ўчыннасьцей. Цар у ім малюецца ў якасьці «найвышэйшай службовай асобы, прызначанай богам для таго, каб клапаціцца пра падначалены яму народ і вясьці яго да вышэйшай выгоды». З'яўляючыся «падмуркам народа», ён абавязаны мець на ўвазе дабрабыт падданых, не зведваць пачуцця гневу, пазбягаць лісліўцаў, апекавацца пра войска і флот. Падчас міру ён павінен рыхтавацца да вайны, таму што моцная зброя з’яўляецца самай лепшай абаронай. Яго павінны характарызаваць заклапочанасць пра ўнутранае ўпарадкаванне дзяржавы, рэлігійнасць і праўдзівы суд. «Хай жа цар, – піша Блемід пад канец трактата, – прыхільна прыме гэтае маё слова, а ад больш разумных людзей хай выслухае лепшыя парады, якія потым складзе і старанна захавае ў глыбіні сваёй душы».

Ф. І. Успенскі справядліва піша: «У Блеміда няма ніякай ідэі пра сучасныя яму патрэбы; ён жыве ў казачным сьвеце, за тры дзевяць зямель, у трыдзясятым царстве; для яго няма пачуцця сучаснага жыцця і вылучаемых часам патрэб. Абстрактны цар Блеміда павінен быць мудрым, пазбаўленым чалавечых захапленняў і жаданняў. Ён размяшчае яго ў становішча, цалкам адарванае ад жыцця і звычайных побытавых патрэбаў, і таму яго парады і павучанні не могуць адпавядаць рэчаісным патрэбам...»

Із філасофскіх твораў, прыпісваемых Блеміду, найбольш вядомымі з’яўляюцца «Скарочаная фізіка» і асабліва «Скарочаная логіка». Апошняя, пасьля сьмерці аўтара, пашырылася па ўсёй імперыі і, памаленьку, зрабілася падмуркам навучання і самым паважаемым філасофскім падручнікам не толькі на Ўсходзе, але і ў Заходняй Яўропе.

Логіка і Фізіка Блеміда важныя не толькі для вывучэння філасофскіх накірункаў у Візантыі XIII стагоддзя, але і з боку гледжання вывучэння цёмнага пытання пра ўплыў Візантыі на развіццё заходне-еўрапейскай думкі.

Калі да гэтых яго прац дадаць яшчэ два невялікія геаграфічныя творы нападобе падручнікаў: «Гісторыя зямлі» і «Ўсеагульная геаграфія», а таксама некалькі вершаў свецкага характару, то мы пабачым усю разнастайнасць літаратурнай спадчыны, пакінутай ім нашчадкам.

Сярод яго вучняў асабліва выдаваўся Рыгор Акрапаліт, галоўным літаратурным творам якога з'яўляецца гісторыя падзей пачынаючы з часу ўзяцця Цар-Горада крыжакамі да аднаўлення Візантыйскай імперыі (ад 1203 да 1261 года). Із дробных жа твораў Акрапаліта, большай часткай рытарычных і багаслаўскіх, можна пазначыць толькі надмагільную прамову імператару Яну Ватацу.

Усе гэтыя творы былі напісаны на той умоўна-класічнай, літаратурнай, штучнай мове, якая страціла апошнюю сувязь з народнай размаўляльнай гаворкай. Але ў літаратуры таго ж XIII стагоддзя можна паказаць на прыклады, калі пісьменнікі карыстаюцца і размаўляльнай мовай і народнымі вершаванымі памерамі, і даюць нам цікавыя ўзоры новых павеваў у літаратуры.

Напісаныя народнымі («*палітычнымі*») вершамі з нагоды адружання Яна Ватаца з дачкой Фрыдрыха II і цалкам нядаўна выдадзеныя «чатырохрадкоўі» Мікалая Ірыніка, не адрозніваючыся ад звычайнай тады літаратурнай мовы, нагадваюць згодна з тонам і зместам вясельныя песні новагрэцкай народнай паэзіі.

Да той жа эпохі крыжовых паходаў, асабліва пасьля чацьвёртага паходу, калі на тэрыторыі Усходняй імперыі ўтварылася некалькі лацінскіх феадальных уладанняў, можна дапасаваць некаторыя вершаваныя, напісаныя гутаркавай мовай, творы, ўяўляючыя сабой род раманаў, дзе ў фантастычных абставінах апісваецца, галоўным чынам, пачуццё кахання і рыцарскія прыгоды.

Вось, напрыклад, згодна з А. А. Васільевым, адзін із іх: «Бельтандр і Хрысанца», першапачатковая рэдакцыя якога дапасуецца, напэўна, да XIII стагоддзя, хаця дайшоўшы да нас тэкст носіць сьляды больш позняй апрацоўкі і, можа належыць XV стагоддзю.

Нейкі імператар – Радафіл – меў двух сыноў: Філарма і Бельтандра.

Малодшы сын, вызначаўшыся прывабнасьцю і адвагай, Бельтандр, не вынесшы перасьледаў з боку бацькі, пакінуў сваю краіну для пошукаў шчасьця на чужыне. Прайшоўшы па вобласьці памежнай з Турцыяй і прыйшоўшы ў Арменію, ён дасягнуў Тарса. У яго наваколлі ён натрапіў на невялікую рэчку, у вадзе якой зіхацела зорка прывёўшая Бельтандра ў шыкоўны, поўны разнастайных цудаў замак, маючы назву Замак Шанавання, дзе ён дазнаецца із надпісаў на двух статуях пра наканаванае каханне паміж ім і Хрысантай, «дачкой вялікага караля вялікай Антыёхіі». Намерыўшыся агледзець усе «горкія і салодкія прыгажосьці Замка Шанавання», ён, згодна з запрашэннем яго валадара, «Цара кахання, меўшага на галаве вянок і трымаўшага ў руцэ вялікі скіпетр і залатую стралу», паўстаў перад яго пасадам.

Даведаўшыся пра жыццё Бельтандра, цар загадвае яму выбраць із сарака дзяўчын самую прыгажую і ўручыць абранніцы галіну, «сплеценую із жалеза, золата і тапазу». І тут апісваецца цікавая выява «спаборніцтва прыгажосьці», нагадваючая суд Парыса і паўтараючая вядомы візантыйскі звычай абрання найбольш годнай нарачонай для цара.

Але калі Бельтандр уручыў галіну найбольш прыгожай, згодна з яго думкай, дзяўчыне, раптам усё што яго атачала, і сам цар кахання, і сорак дзяўчын зніклі «як сон». Пакінуўшы замак, ён праз пяць дзён дасягнуў наваколля Антыёхіі, дзе сустрэўся з каралеўскім сакаліным паляваннем. Антыяхійскі валадар бярэ яго да сябе на службу і набліжае да двара, і раптам у асобе яго дачкі Хрысанты ён нечакана пазнае тую дзяўчату, якой ён уручыў галіну ў Замку Кахання.

Маладыя людзі запальваюцца каханнем адзін да аднаго і, нягледзячы на ўсе строгасьці, атачаўшыя жыццё жанчын на Ўсходзе, паміж імі ў палацавым садзе

ноччу здараецца спатканне, скончыўшаяся для Бельтандра вельмі сумна. Пад раніцу варта, заўважыўшы яго, схапіла і заняволіла ў вязніцу. Але Хрысанта падгаварыла сваю верную прыслужніцу сказаць, што Бельтандр прыходзіў у сад дзеля яе.

Бацька Хрысанты, даведаўшыся пра гэта, дараваў Бельтандра, і з таемнай згоды Хрысанты было здзейснена фіктыўнае адружанне паміж ім і прыслужніцай. Але яго таемныя спатканні з Хрысантай працягваліся і праз дзесяць месяцаў закаханая пара з прыслужніцай і некалькімі вернымі слугамі бягуць із Антыёхіі. Пры паспешнай пераправе праз бурную раку гінуць як прыслужніца так слуга, а насілу выратаваўшыяся закаханыя дасягаюць берага мора, дзе знаходзяць грэцкі карабель пасланны Радафілам, бацькам Бельтандра на пошукі збегшага сына. Яго старэйшага, любага брата, ужо не было ў жывых. Прызнаўшы ў чужаземцу сына свайго імператара, карабельнікі адразу ж прымаюць яго з Хрысантай на карабель і хутка давозяць да сталіцы, дзе іх з вялікай радасьцю сустракае ўжо неспадзяваўшыся пабачыць яго Радафіл.

Раман заканчваецца апісаннем урачыстага вяселля Бельтандра і Хрысанты, пры гэтым біскуп здзяйсняе звычай адружання і ўскладае імператарскі вянок на галаву Бельтандра.

«Адны навукоўцы, – дадае А. А. Васільеў, – лічылі, што падставай для гэтага рамана паслужыў адзін французкі рыцарскі раман да гэтага часу яшчэ невядомы ці згублены. У якасьці замка Кахання, па-грэцку Эротакастрон, бачылі Chateau d'amor правансальскай паэзіі. Ва ўласных імёнах Радафіла і Бельтандра пазнавалі народныя заходнія імёны Радольфа і Бяртрана (Bertrand). Была нават думка, што ўвесь раман пра Бельтандра і Хрысанту з'яўляецца толькі грэцкім перакладам французкага апавядання пра вядомага французкага рыцара XIV стагоддзя Бяртрана Дзюгеклена, сучасніка стагадовай вайны, так што ўвесь гэты твор не раней XV стагоддзя. Крумбахер, схільны да таго каб да заходне-еўрапейскіх крыніц дапасаваць усё, што сустракаецца ў сярэдне-грэцкай народнай паэзіі пра Замак Кахання, Эрас і г.д., піша з нагоды гэтага рамана, што ён напэўна быў напісаны грэкам, доўга жыўшым у вобласьці даўно знаёмай з французкай культурай. А згодна са словамі французкага візантыііста Дыля, падстава рамана пра Бельтандра і Хрысанту застаецца чыста візантыйскай, і франкскім баронам, якія прыйшлі ў ролі заваёўнікаў, грэцкая цывілізацыя дала значна больш, чым ад іх атрымала і чым лічаць зараз.

Аднак, з гэтым цяжка пагадзіцца. І імёны галоўных герояў не грэцкія, і «Замак Шанавання» чыста правансальскі. Але ў такім выпадку раман напісаны не раней XV стагоддзя, а таму скептычна можна паставіцца і да прыналежнасьці XIII стагоддзю вядомай грэцкай паэмы пра Дыгеніса Акрыта, а таксама і да напісанага «палітычнымі» вершамі «кахальнага апавядання» пра Калімаха і Хрысарое.

Але тут мы ўсё ж бачым пераход да той літаратуры, якую мы, дапасуючы да глыбокай старажытнасьці, называем класічнай.

* * *

А якім было грамадзкае ўладкаванне ў Візантыі таго часу?

У гістарычнай навуцы феадалізм доўгі час разглядаўся як з'ява, належачая выключна заходне-еўрапейскаму сярэднявеччу, як тыповая асаблівасьць адрозніваючая сярэднявечную гісторыю Заходняй Яўропы ад гісторый іншых краін. Пры гэтым нярэдка лічылі, што на Захадзе феадалізм быў з'явай аднолькавай

па сваёй сутнасьці для ўсіх народаў і забываліся на тое, што на самым Захадзе феадальныя ўмовы, склаўшыяся ў той ці іншай краіне, мелі свае асаблівасьці.

Зараз значэнне тэрміна «феадалізм» пашырылася, і навука ўжо звярнула ўвагу на тое, што наяўнасць феадалізуючых працэсаў можа быць канстатавана «ў значна больш шматлікіх дзяржавах, у розных плямён і народаў, жыўшых на розных частках зямлі і пад час вельмі розных эпох іхнай гісторыі». Параўнальна-гістарычны метад прывёў да знішчэння аднаго із доўга панаваўшых у навуцы забабонаў пра прыналежнасць агульнай сацыяльна-палітычнай і эканамічнай з'явы, названай феадалізмам, выключна сярэднім вякам Захаду. Выявілася, што гэта толькі «вядомая прыступка, пераважываемая ўсімі народамі ў іхным гістарычным развіцці». Вядома, далёка не ўсюды феадальны працэс развіваўся ў адпаведнасьці са штампам, напрыклад французкага ці ангельскага. Перанясенне гэтага пытання із цесных рамак заходне-еўрапейскай, сярэднявечнай гісторыі ў вобласць гісторыі ўсеагульнай дало магчымасць разважаць пра феадалізм у старажытным Ягіпце, у арабскім халіфаце, у Японіі, на выспах Ціхага акіяна, і, нарэшце, у нас у Расіі. Для кожнай краіны, пры наяўнасьці вядомых умоваў, феадалізм у той ці іншай стадыі свайго развіцця з’яўляецца з'явай, непазбежнай, напэўна, нават не толькі на адным нашым Зямным Шары, але і на іншых планетах, таму што законы арганічнага і як яго завяршэння, сацыяльнага жыцця павінны быць таксама ўсюды адзінымі, як і законы стыхійнай прыроды.

Першае вызначэнне феадалізму, застаючаяся, наогул, справядлівым і да нашага часу, было зроблена яшчэ ў дваццатых гадах XIX стагоддзя французкім гісторыкам Гізо. Ён звёў яго да трох складнікаў: да ўмоўнага землеўладання, да прыналежнасьці вярхоўнай улады землеўласніку і да феадальнай іерархіі. А М. Я. Карэеў пісаў: феадалізм ёсць «асобная форма палітычнага і эканамічнага ўладкавання, заснаванага на земляробстве, ад чаго ў той ці іншай ступені залежыць і ўсё астатняе, пачынаючы ад замены дачыненняў падданства дачыненнямі васальнасьці з яе іерархічнай градацыяй і заканчваючы заменай вольнай дамовы паміж землеўласнікам і земляробам прыгоннай залежнасьцю апошняга ад першага».

І вось, шмат што із заходне-еўрапейскага феадалізму раптам адбілася як у люстэрку ў класічных апісаннях жыцця «першых трох стагоддзяў старажытнай Рымскай імперыі». Сапраўды, прэкарый ці бенефіцый, патранат і імунітэт перанесены апакрыфістамі і туды.

Бенефіцый і там азначае якую заўгодна маёмасць, знаходзіўшуюся толькі ў часовым ці пажыццёвым карыстанні ўладальніка. Сярод умоваў такога валодання на першым месцы стаяла вайсковая служба ўладальніка, так што бенефіцыем звычайна звалася зямельнае падараванне пад умовай вайсковай службы. У перыяд ужо склаўшагася феадалізму бенефіцый ператварыўся ў феад, ці лен, г.зн. у зямлю, аддадзеную ў спадчыннае валоданне – пры выкананні вызначаных умоваў. Ад гэтага слова «феад», корань якога да гэтага часу з’яўляецца прадметам спрэчак, і паходзіць умоўная назва «феадалізм».

Патранат, г.зн. звычай аддаваць сябе пад абарону больш моцнага чалавека, таксама перанесены із сярэдневечча ў класічную старажытнасьць; імунітэт, як саступка некаторых дзяржаўных правоў прыватным асобам, з вызваленнем іх ад нясення тых ці іншых дзяржаўных павіннасьцей і забаронай заезду ва ўладанне імуніста ўрадавым агентам, таксама перанесены із сярэдневечча у міфічны старажытны магутны Рым.

А ў Рамеі, з якой і спісаны увесь неіснаваўшы класічны Рым, гэтая сацыяльная з'ява ўсталявалася толькі ў апошні час.

Лацінскаму слову «бенефіцый» на Ўсходзе, – лічыць А. А. Васільеў[372], – адпавядала грэцкае слова «харыстыкій» (рускае – падараванне, пенсіён), а бенефіцыарыю, г.азн. асобе, нададзенай зямлёй на ўмове нясення вайсковай службы, граматычна адпавядала грэцкае слова «харыстікарый». Але ў візантыйскі час, асабліва пачынаючы з Х стагоддзя, харыстыкарны спосаб падаравання зямлі ужываўся звычайна да манастэрыёнаў[373], якія раздаваліся ў выглядзе падараванняў духоўным і свецкім асобам.. Такую асаблівасьць візантыйскага бенефіцыя-харыстыкіі можна вывесьці із абразазмагальніцкай эпапеі, калі ўрад у сваім змаганні супраць манаства выкарыстоўваў секулярызацыю манастэрыёнскіх зямель, што дало ў рукі імператара магутную крыніцу для зямельных падараванняў. Гэтая акалічнасць, напэўна, і была нагодай таго, што першапачатковы сэнс рамейскага харыстыкія, як падаравання зямель наогул, а не толькі кляштарскіх, як бы згубіўся, і харыстыкій пачаў разумецца асобна ў сэнсе падаравання каму-небудзь манастэрыёна.

Харыстыкарная сістэма, – адпаведна са словамі П. В. Безабразава, – палягала ў тым, што ўладальнік манастэрыёна, хто б ён ні быў – імператар, біскуп, ці прыватная асоба, – аддаваў свой манастэрыён у пажыццёвае валадаранне нейкай асобе, набываўшай пасьля гэтага найменне харыстыкарыя. Харыстыкарый атрымліваў усе прыбыткі з земляў і манастэрыёнскіх збораў з вернікаў і быў абавязаны за гэта ўтрымліваць брацію, рамантаваць будынкі, адным словам – весьці ўсю гаспадарку. А лішак прыбыткаў ішоў на карысць самога харыстыкарыя.

Навэла Хвядоса II, уключаная, напэўна, апакрыфічным шляхам у кодэкс Юстыніяна, замацоўвае вайсковую службу памежных жаўнераў (limitanei milites), як неад’емную ўмову валодання зямельнымі дзялянкамі, і, паказваючы сваю апакрыфічнасць, спасылаецца пры гэтым на «старажытныя пастановы» (sicuit antiquitas statutum est). Яна, відаць, спісана з навэл Рамана Лакапіна, Кастуся Парфірароднага, Рамана II і Нічыпара Факі, якія, сапраўды, імкнуцца ўсталяваць трываласць і непарушнасць ваярскіх дзялянак, забараняючы іх перадачу людзям, не маючым дачынення да вайсковай службы. Ф. І. Успенскі, надаючы першараднае значэнне славянскаму ўплыву на ўнутранае жыццё Візантыі, піша з гэтай нагоды:

«Калі ў Х стагоддзі ў арганізацыі стратыёцкіх (г.азн. жаўнерскіх) пляцовак заўважаюцца сляды супольнага пачатку, то, бясспрэчна, гэта паказвае не на рымскае паходжанне ўстановы, а на славянскае, і першыя яго праяўленні павінны быць дапасаваны да эпохі славянскіх паселішчаў у Малой Азіі».

Такім чынам згодна і з Успенскім **славянскі ўплыў у Вялікай Рамеа быў і раней Х стагоддзя нашай эры**.

Пачынаючы ад ХІ-га ж стагоддзя ў візантыйскіх помніках самастойна з'яўляецца і такі тэрмін, які раней дапасаваўся ў выглядзе толькі другараднага эпітэта да харыстыкіі і толькі пазьней пачаў ужывацца асобна ў сэнсе царскага падаравання. Такім тэрмінам быў «***пронія***». Яго даўно выводзілі ад нямецкага слова Frohne (паншчына, цягла), але яно існуе і ў грэцкім слоўніку, дзе пронія (πρόνοιτα) азначае: «турбота, апека». Набыўшы асобнае значэнне царскага падаравання, ён не згубіў у Рамеі і свайго першапачатковага сэнсу, падобна таму як

[372] Лацінскае валадарства на Ўсходзе, стар. 59.

[373] Па-грэцку – μοναστηριόν на-лаціне – monasterium; як я ужо не раз выказваўся, – адпаведна з першапачатковым сэнсам, астралагічная ўстанова, а не гаспадарчая, якой стала пазьней.

і на Захадзе бенефіціальная сістэма не скасавала ўжыванне слова benefitium у звычайным сэнсе – «добрадзейства».

Асоба, атрымаўшая манастэрыён у падараванне (харыстыкій), абяцала за гэта клапаціцца пра яго, апекаваць, г.азн. па-грэцку – «пронію». Атрымаўшы такое падараванне часам меў найменне не толькі харыстыкарый, але і пранаіт (προνοητής), г.азн. апякун. А звычайна пад тэрмінам пронія ў Візантыі разумелася «падараванне служылым людзям населеных земляў і іншых прыносячых прыбытак угоддзяў у якасьці ўзнагароды за зробленую паслугу і пад умовай выканання вызначанай службы за падараванне», пры чым пад гэтай службай мелася на ўвазе, галоўным чынам, вайсковая служба, абавязковая для праніяра.

Пад час эпохі Камнінаў сістэма проніі ўжо была звычайнай з'явай. А ў сувязі з крыжовымі паходамі і з пашырэннем заходне-еўрапейскага ўплыву ў Візантыі, асабліва пад час лацінафільскага імператара Мануіла, на Ўсходзе з'яўляюцца і заходне-еўрапейскія феадальныя назвы нападобе леннік (λίζιος) ад сярэднявечнага лацінскага слова ligius). І цікава пазначыць, што калі крыжакі чацьвёртага паходу, г.азн. заходнееўрапейскія феадалы, пачалі ўладкоўвацца на захопленых імі тэрыторыях Рамейскай імперыі, яны знайшлі мясцовыя зямельныя дачыненні вельмі падобнымі да заходніх і без цяжкасьцей прыстасавалі іх да сваіх феадальных рамак. Падараванні візантыйскіх валадароў у адным дакуменце пачатку XIII стагоддзя маюць назву проста феад (de toto feudo, quod et Manuel quondam defunctus imperator dedit patri meo)[374].

Іншы дакумент таго ж часу сведчыць, што заходнія заваёўнікі працягвалі трымаць заваяванае насельніцтва ў ранейшых умовах жыцця, нічога больш ад яго не патрабуючы, як тое, што яно звычайна выконвала ў часы грэцкіх імператараў[375].

Такім чынам, вывучэнне разумення пра рамейскую пронію ў сувязі з харыстыкіем і вайсковымі дзялянкамі, заслугоўвае самай глыбокай увагі ў сэнсе тлумачачых аналогій з заходнімі, славянскімі і мусульманскімі краінамі, дадаючы сюды і больш познюю Атаманская дзяржаву.

Тэрмін «пронія» з'яўляецца даволі звычайным у сербскіх помніках. Калі ж звярнуцца да рускай гісторыі, то часам яе супастаўляюць з рускім «кармленнем». Але ў рускім «кармленні» службовы характар не злучаецца з тэрыторыяй, і пад «кармленнем» разумеецца толькі кіраванне горадам ці воласьцю з правам браць з іх прыбыткі (кармленне і пошліны) на сваю карысць. Таму візантыйская пронія адпавядае хутчэй «маёнтку» Маскоўскай дзяржавы, г.азн. зямлі, дадзенай служывым людзям, спецыяльна за вайсковую службу.

Прыгоннае права таксама было добра вядома ў Рамеі. Апакрыфічныя кодэксы ад імя Хвядоса і Юстыніяна ўтрымліваюць цэлы шэраг указаў, як бы ад IV стагоддзя, у якіх патранат прыватных асоб, называемы ў кодэксах patrocinium, сурова караўся, таму што бедныя людзі, аддаваўшыя сябе пад абарону заможным, жадалі гэтым самым пазбавіцца ад нясення розных дзяржаўных павіннасьцей, чаго дзяржава дапусьціць не магла. У навэлах ад імя Юстыніяна і ад імя больш пазніх рамейскіх імператараў з'яўляецца і раўназначны патрацыніі грэцкі тэрмін «прастасія» (προστασία) г.азн. «прадстаўніцтва, абарона», і яна падпадала пад забарону ў якой бы форме ні выяўлялася. Але, нягледзячы на забараняючыя захады

---

374 Tafel et Thomas. «Urkunden», I, 513.

375 Debemus in suo statu tenere, nihil ab aliquo amplius exigentes, quam quod facere consueverant temporibus grecorum imperatorum (Tafel et Thomas. «Urkunden», II, 57).

цэнтральнага ўрада, буйныя землеўласнікі-уласьцелі працягвалі выгадную для іх практыку патранату, з'яўляючыся як бы пасярэднікам паміж дзяржавай і падатковым насельніцтвам, і з гэтым звычаем імператарская ўлада справіцца не змагла. Інстытут імунітэту (immunitas), г.азн. забароны дзяржаўным урадаўцам браць удзел у справах феадала, вядомы таксама ў Рамеі пад імем экскусіі (ἐξκουσσεία), якое ўяўляе сабой не што іншае, як агрэчанае лацінскае слова excusatio з аналагічным значэннем.

Дзякуючы таму, што да самага апошняга часу навукоўцы, асобна дасьледаваўшыя экскусію, грунтаваліся на тым, што самы ранні дакумент, даруючы экскусію, дапасуецца толькі да паловы XI стагоддзя (1045 года), то гісторыкі не бачылі ў гэтым інстытуце, адарваным столькімі стагоддзямі ад старажытна-рымскага часу, перажытку ранейшага рымскага імунітэту, і паходжанне экскусіі імкнуліся патлумачыць іншымі ўплывамі. Так Н. Сувораў вядзе пачатак рамейскіх імунітэтаў ад заходняга ўзору, перайшоўшага ў Візантыю ужо ў германскай абалонцы. Згодна з яго думкай, немагчыма ўсталяваць гістарычную сувязь паміж гэтымі познімі рамейскімі імунітэтамі і імуністамі старажытнага рымскага права. «Калі нават і выказаць здагадку – выказваецца ён, – што германскі імунітэт мае рымскія карані, то ў Візантыю ён перайшоў ужо ў франкскай аболанцы». Другі дасьледчык, П. Я. Якавенка, прыходзіць да думкі, што гэтая ўстанова ўзнікла і развілася ў Рамеі самастойна, але ўсё ж таксама адмаўляецца прывесьці ў сувязь экскусію з рымскім імунітэтам. А з нашага боку гледжання, аспрэчваючага само існаванне старажытнага класічнага Рыма, інакш і быць не можа: гэты тэрмін толькі апакрыфікаваны ў легенды пра не існаваўшую дзяржаву.

Із візантыйскага часу да нас дайшлі дакументы з падараваннем імунітэтаў-экскусій пераважна манастэрыёнам. Із іх мы бачым, што палёгкі, даваемыя даравальнымі граматамі рамейскіх цароў, зводзіліся галоўным чынам да забароны заезду ў вызначаныя мясцовасьці імператарскім урадоўцам, да падатковых выключэнняў і судова-адміністратыўным палёгкам, г.азн., іншымі словамі, мы маем перад сабой сапраўдны сярэднявечны імунітэт заходняга феадальнага ўзору.

Існуюць хрысабулы, г.азн. залатыя булы, Македонскай эпохі, заканчэння IX і X стагоддзяў, дадзеныя афонскім манастэрыям, у якіх мы бачым усе прыкметы экскусіі. Так, хрысабул Васіля I (867-886) абараняе ўсіх «абраўшых пустэльнае жыццё» на Афоне як «ад вайскаводаў, так і ад царскіх людзей да апошняга чалавека, якому даручана служба, а таксама і ад прыватных людзей і вясковых жыхароў да мелючага на млыне, каб ніхто не трывожыў гэтых манахаў і не заходзіў ва ўнутраныя месцы Афонскай гары».

А ў дакументах пра размежаванне спрэчных зямель на Афоне ў X стагоддзі ўтрымліваюцца спасылкі і на недайшоўшыя да нас хрысабулы імператараў яшчэ да абразазмагальніцкай эпохі, г.азн. VII і пачаткі VIII стагоддзя, напрыклад Кастуся IV, звычайна празываемага Паганатам, Юстыніяна II Рынатміта, а таксама першай аднавіцельніцы абразашанавання, імператрыцы Ірыны і яе сына Кастуся. Вядома, немагчыма дакладна сказаць, пра што паведамлялі гэтыя недайшоўшыя да нас хрысабулы, але на падставе іхнага зместу адносна прыналежнасьці афонцам вядомых земляў можна выказаць здагадку, што ў дадзеных хрысобулах гаворка ішла таксама і пра імунітэт.

А калі мы паглядзім на яшчэ больш раннія часы, то пабачым, што манастэрыёнскія вотчыны ці, як іх часам зараз клічуць, «манастэрыі-княствы»,

развіваліся яшчэ пачынаючы з часу Юстыніяна Вялікага, г.азн. з VI стагоддзя і іхныя імунітэты могуць быць пастаўлены ў сувязь з тымі разнастайнымі прывілеямі, якія былі ўсталяваны яшчэ ў IV стагоддзі для сьвятарства Кастусём Вялікім і яго наступнікамі, – калі гэта не апокрыфы.

Н. Паўлаў-Сільванскі параўнаў заходні патранат з рускім закладніцствам і заходні імунітэт з «баярскім самасудам», і цалкам правільна.

Буйное землеўладанне, г.азн. заходне-рымскія латыфундыі, з'яўляюцца таксама адной із характэрных прыкмет унутранага ўладкавання Рамейскай імперыі. Магутныя правінцыйныя магнаты і тут былі калі-нікалі такімі небяспечнымі для цэнтральнай улады, што яна была вымушана пачаць з імі зацятае змаганне, далёка не заўсёды заканчваўшаяся перамогай урада.

Будучы перакананым ворагам свецкага буйнога землеўладання, Юстыніян II, – кажуць нам, – у той жа час ставіўся варожа і да павелічэння царкоўна-манастэрыёнскай уласнасьці. Яго час лічаць самым важным этапам у працэсе ўзнікнення ў імперыі буйнога царкоўна-манастэрыёнскага землеўладання, якое ў спалучэнні з экскусіямі-імунітэтамі стварае адмысловыя, як бы феадальныя, манастэрыёны-княствы і манастэрыёны-сеньёрыі, якія, адпаведна з параўнаннем К. Н. Успенскага, заступалі ў Візантыі месца герцагстваў і графстваў Заходняй Яўропы.

Згодна са славамі В. Г. Васільеўскага можна выказаць здагадку без асаблівай небяспекі памыліцца, што перад пачаткам куміразмагальніцтва ўсходняя царква не саступала заходняй царкве памерамі сваіх зямельных багаццяў. Франкскія каралі рана пачалі жаліцца, што іхны скарб застаецца пустым, што іхнае багацце перайшло да біскупаў і сьвятарства. На прыканцы VII стагоддзя. – кажуць нам, – цэлая трацina пазямельнай маёмасьці ў Франкскай дзяржаве належала царкве. Лічаць, што нешта падобнае было і ў Рамейска-Візантыйскай дзяржаве ў той жа час.

Пад час эпохі куміразмагальніцтва манастэрыёнскаму феадальнаму землеўладанню быў нанесены моцны ўдар бязлітаснымі канфіскацыямі зямель і перавядзеннем манастэрыёнцаў і розных прыпісаных да манастэрыёнаў людзей у мірскі стан, што мела наступствам адбыванне імі дзяржаўных павіннасьцей.

Але пасьля заканчэння куміразмагальніцтва і пачынаючы ад уступлення на пасад Македонскай дынастыі акалічнасьці перамяніліся. Колькасць манастэрыёнаў зноў пачала павялічвацца, і яшчэ хутчэй пачала павялічвацца колькасць зямлі паступаючай у іхнае валадаранне. Феадалізуючыя працэсы ў царкоўна-кляштарскай вобласьці, часова прыпыненыя куміразмагальніцкімі імператарамі, зноў пачалі развівацца ў накірунку, непажаданым і часам небяспечным для цэнтральнай улады, і зноў давялося змагацца з імі.

Дакладна так жа і ў палітычным жыцці краіны вельмі яскравую аналогію з заходне-еўрапейскімі феадальнымі валадарамі, герцагамі (duces) і графамі (comites), уяўляюць сабой экзархі заканчэння VI стагоддзя, якія пры імператару Маўрыкіі (582-602) сталі на чале двух шырокіх тэрытарыяльных экзархатаў: равенскага і афрыканскага ці карфагенскага. Як вядома, гэтыя генерал-губернатары, будучы перадусім вайсковай ўладай, засяродзілі ў сваіх руках адміністрацыйныя і судовыя функцыі і з'яўляліся вырашаючай інстанцыяй пры разборы царкоўных спраў у сваім экзархаце. Валодаючы неабмежаванымі паўнамоцтвамі, яны карысталіся царскімі ўшанаваннямі: іхныя палацы зваліся сьвятымі (sacrum palatium), як звалася толькі месца царскага знаходжання. Калі

равенскі экзарх прыязджаў некуды, яму ладзілася царская сустрэча. Адным словам, у асобе экзарха перад намі – самастойны валадарачы князь, злучаны з імператарам толькі вельмі слабымі васальнымі повязямі. Таму не дзіўна, што із экзархаў выходзілі прэтэндэнты на імператарскі пасад, падымаўшыя паўстанні, як напрыклад у Карфагене ці ў Равене, хаця і не заўсёды ўдалыя. Але напачатку VII стагоддзя паўстанне афрыканскага экзарха Гераклія ў выніку ўзвяло на візантыйскі пасад новую дынастыю ў асобе сына толькі-што званага экзарха, таксама Гераклія на імя.

Цікава, што Маўрыкій, пры якім утварыліся два амаль незалежныя экзархаты, падчас моцнай хваробы, здарыўшайся з ім за некалькі гадоў да сьмерці, склаў тэстамент, у якім ён падзяліў дастаўшуюся яму імперыю паміж сваімі дзецьмі: старэйшаму сыну ён адпісаў Цар-Горад і ўсходнія вобласьці, а другому сыну – Італію і выспы; астатнія ж вобласьці размеркаваў паміж малодшымі сынамі. Гэты тэстамент, застаўшыся, відаць, невядомым пры жыцця Маўрыкія, і не выкананы з нагоды перавароту 602 года, пазбавіўшага яго пасада, уяўляе сабой спробу тыповага феадальнага падзелу, якія часта здараліся на Захадзе пад час эпохі Меравінгаў і Каралінгаў, і на Русі пад час ўдзельнага перыяду.

Працэс узнікнення фемнага ўладкавання ў сувязі з вонкавымі небяспекамі VII стагоддзя, калі на чале першапачаткова вельмі буйных тэрыторый стала вайсковая ўлада стратэгаў, надзеленая шырокімі паўнамоцтвамі і забраўшая паступова сабе грамадзянскія функцыі, таксама можа даць матэрыял для феадальных аналогій. Падобныя правінцыйныя стратэгі, часам передаваўшыя ў IX-X стагоддзях сваё званне па спадчыне ад пакалення да пакалення, з'яўляліся як бы спадчыннымі ўладальнікамі той ці іншай вобласьці і ўжо дзякуючы аднаму гэтаму выходзілі із пад непасрэднага кантролю імператарскай улады. Тут ужо праглядаецца чыста васальны характар дачыненняў, добра вядомы ў заходнім дзяржаўным жыцці ў выглядзе спадчынных абласных валадароў, графаў і герцагаў.

З'явіўшыяся на фоне бесперапыннага змагання на ўсходняй мяжы, асабліва пад час X стагоддзя, так званыя акрыты, г.азн. абаронцы асобных дзялянак мяжы дзяржавы (ад грэцкага слова акра – 'άκρα – мяжа), меўшыя часам напаловузалежнае ад цэнтральнага ўрада становішча, параўноўваюцца не без падставаў з заходне-еўрапейскімі маркграфамі, г.азн. уладальнікамі памежных абласьцей-марак (па-руску – **украйны**). На ўсходняй мяжы Рамеі, у нічым не забяспечаным, знаходзячыяся ў хранічным рабаўніцка-вайсковым становішчы, людзі сапраўды маглі лічыць сябе, адпаведна са словамі французкага гісторыка Рамба, «не ў правінцыях асьвечанай манархіі, а сярод феадальнай анархіі Захаду». А ангельскі гісторык Бёры (Bury) кажа, што вечнае змаганне з саракінамі на Ўсходзе выпрацавала там новы тып ваяра, каваларыя (καβαλλάριος), г.азн. конніка ці рыцара (Ritter, chevallier), «сэрца якога імкнулася да прыгод і прызвычаілася дзейнічаць незалежна ад загадаў імператара ці вайсковага начальства»...

Пад час X стагоддзя шмат хто із акрытаў валодалі шырокімі даменамі і былі падобнымі хутчэй на феадальных баронаў, чым на рымскіх службовых асоб. Вядомыя малаазіяцкія роды Факадаў, Скліраў, Маляінаў, Філакалесаў, з якімі непрымірыма і напружана, у той ці іншай форме, змагаўся Васіль II, з'яўляюцца прадстаўнікамі буйных малаазіяцкіх феадалаў, якія былі, дзякуючы сваім шырокім зямельным уладанням, не толькі сацыяльнай анамаліяй у дзяржаве, але і стваралі для валадарачай дынастыі сур'ёзную палітычную небяспеку, дзякуючы таму што яны заўсёды былі здольнымі згуртаваць вакол сябе свае вайсковыя атрады. Пранiяр

жа, атрымоўвалы пронію на ўмове вайсковай службы, меў права ці нават быў абавязаны ўтрымліваць вайсковую дружыну, якую, пры спрыяльных умовах, мог даводзіць да значных памераў. Знакамітыя навэлы македонскіх валадароў у абарону дробнага землеўладання лішні раз паказваюць на тую грозную небяспеку, якую з дзяржаўнага боку гледжання набыло тады развіццё буйнога землеўладання.

І сапраўды, смутны перыяд XI стагоддзя, да ўступлення на пасад Аляксея Камніна, характарызуецца змаганнем буйных малаазіяцкіх феадалаў (абапіраўшыхся на сабранае імі войска) з цэнтральным урадам і заканчваецца тым, што прадстаўнік буйнога землеўладання ў асобе Аляксея Камніна завалодаў пасадам і заснаваў працягулую дынастыю. Але той жа Аляксей быў вымушаны прызнаць Трапезунтскую вобласць амаль незалежным ад сябе ўладаннем, і падчас свайго кіравання часам выкарыстоўваў вельмі суровыя захады супраць свецкіх і духоўных прадстаўнікоў буйнога землеўладання.

Даволі моцная рэакцыя супраць феадалаў у Рамеі заўважаецца пры Андроніку I, але ранейшая сістэма зноў перамагла пры Анёлах. І я ўжо паведамляў, што да эпохі крыжовых паходаў феадалізуючыя працэсы ў Візантыі ўжо набылі такія вызначаныя формы, што заходнія крыжакі, захапіўшыя пасьля чацьвёртага паходу вялікую частку Візантыйскай дзяржавы, нічога новага для сябе ў яе ўпарадкаванні не знайшлі.

Усе гэтыя факты я тут узяў, з некаторымі сваімі ўласнымі меркаваннямі, у вельмі скарочаным выглядзе із выдатнай кнігі А. А. Васільева «Лацінскае валадарства на Ўсходзе». Яны тут маюць вялікае значэнне для мяне не самі па сабе, а выключна ў якасьці доказу таго, на чым я ўвесь час настойваю ў гэтым сваім дасьледаванні: **грамадзкая эвалюцыя народаў не абумоўлена выпадковасьцямі. Яе агульны ход залежыць ад тэрытарыяльных і кліматычных умоваў, але ідзе адпаведна з эканамічнымі законамі і пераемна безперапынна. Пераход ад першабытнага звярынага, чыста рэфлекторнага існавання да культурнага, гуманітарнага – адбываецца ў разумовай вобласьці абавязкова шляхам пераходу праз містыку да рацыяналізму, а ў сацыяльнай вобласьці абавязкова шляхам пераходу ад першабытнага статка праз феадалізм і клерыкальныя манархіі да абагулення сацыяльнага ўладкавання**.

**І гэта праўдзіва не для адной Зямлі, а для ўсіх планет, на якіх таксама з'яўляецца абавязковым арганічнае жыццё ва ўсёй яго разнастайнасьці, даходзячае да з'яўлення асэнсаванай і культурнай істоты з такімі ж псіхічнымі асаблівасьцямі і з такою ж навукай, як і ў нас**.

# Глава XII
# Адваротны пераход балканскай рэшткі Вялікай Рамеі пад малаазіяцкую куміразмагальніцкую ўладу, як было пры Ільве Ісаўрыйскім.

Паўтару зноў, ужо не раз згаданую мной, абмоўку.

Заданнем сапраўднага дасьледавання не з'яўляецца адшуканне нейкіх новых гістарычных фактаў, а новая сістэматызацыя і новае асьвятленне тых, якія ўжо існуюць і добра вядомы спецыялістам. Вось чаму я ужо не раз паўтараў, што бяру для выкладання фактаў ці непасрэдна самі дакументы, ці ў кожным асобным раздзеле карыстаюся, як асноўным, аўтарам абраным мной са шматлікіх

прачытаных ці прагледжаных гісторыкаў, аб'ектыўнасьці якога я цалкам давяраю. І часта, каб пазбегнуць папрокаў у тэндэнцыйнасьці, я перадаю ўжо ўсталяваўшыяся гістарычныя тэндэнцыі і факты ўласнымі словамі свайго кіраўніка, толькі тлумачачы іх са свайго боку гледжання. І гэта тым больш зручна для чытача, што ў выпадку сумневаў ён мае магчымасць звярнуцца непасрэдна да паказванага мной твору, не ездзячы ў Рым ці ў Брытанскі музей, каб знайсьці там першапачатковую першакрыніцу маіх паведамленняў, якую большай часткай я і сам не бачыў (калі яе няма ў бібліятэцы нашай Акадэміі Навук, ці ў Дзяржаўнай публічнай, ці ў Пулкаўскай абсерваторскай, якімі я карыстаўся).

У раздзеле Візантыі я асабліва карыстаўся нашым вядомым візантыістам А. А. Васільевым і зараз буду карыстацца ім (вядома, толькі ў фактычнай частцы).

«Канстантынопаль, гэты акропаль сусьвету, царская сталіца рамеяў, быўшаяся, дзякуючы жаданню боскаму, пад уладай латынянаў, зноў апынулася пад уладай рамеяў – гэта даў ім бог праз нас».

Такія словы мы чытаем у аўтабіяграфіі ўжо згадваемага намі Міхала Палеалога, першага імператара адноўленай Візантыйскай імперыі[376], тэрытарыяльныя памеры якой былі ўжо значна меншымі, чым пад час эпоху Камнінаў і Анёлаў.

Каб апраўдаць неадпаведнасьць ранейшых фантастычных апісанняў раскошы Цар-Горада з наступным яго станам, гісторыкі звалілі ўсю віну на латынянаў.

«Сталіца, – выказваецца А. А. Васільеў у сваёй кнізе «Знікненне Візантыі» (стар. 10), – не акрыяўшы ад разграму 1204 года, перайшла ў рукі Міхала ў стане заняпаду і разбурэння. Лепшыя будынкі стаялі разрабаванымі; цэрквы былі пазбаўлены свайго каштоўнага начыння. Улахернскі палац, стаўшы з часу Камнінаў імператарскай рэзідэнцыяй і захапляўшы сваім каштоўным убраннем і мазаікамі прыезджых замежнікаў, знаходзіўся ў стане глыбокага запусьцення, будучы ўсярэдзіне, адпаведна з выказваннем адной грэцкай крыніцы, абкурадымленым «італійскім дымам і чадам» падчас баляў лацінскіх валадароў, і «выявіўся пагэтаму незаселеным».

[376] Imp. Michaelis Paleologi, De vita sua opusculum («хрысьціянскае Чытанне», 1885 г. II, 535, і А. А. Васільеў, «Знікненне Візантыі», стар. 9).



Мал. 121.
План Цар-Горада, намаляваны ў 1422 годзе. Цёмная палоса справа – Басфор. Заліў ад яго, ідучы налева, – Залаты Рог. На поўнач ад яго – прадмесьце Галата. Хатка ўгары направа, на другім беразе Басфора,– зародак сучасняга вялікага азіяцкага прадмесьця Цар-Горада – Скутары. Вялікі храм на ўсходнім боку Цар-Горада –Храм Мудрасьці (Сафія).

«Пасьля рэстаўрацыі Палеалогаў імперыя набыла амаль выключна мясцовае значэнне нацыянальнага грэцкага сярэднявечнага царства, якое па-сутнасьці з'яўлялася працягам Нікейскага, хаця зноў заснавалася ва ўлахернскім палацы Візантыйскай дзяржавы», – выказваецца Б. А. Панчанка[377]. – «Вакол гэтага саслабелага ў вайсковым дачыненні перажытку «магутнага Рыма» ўзмацняюцца больш маладыя народы, асабліва сербы XIV стагоддзя пры Стэфану Душану, і асманскія туркі, г.азн. малазійцы (таўрыкі)».

[377] Б. А. Панчанку, Лацінскі Канстантынопаль і папа Інакенцій ІІІ «Летапіс гістор.-філал. таварыства пры Новарасійскам універсітэце».

Але калі ў сферы палітычных міжнародных стасункаў Візантыя Палеалогаў займае другараднае месца, то ў сферы ўнутранага жыцця яна і тады мела буйнае значэнне.

«У асяроддзі вычашчыннага лёсам ад дамешку азіяцкіх нацыянальнасьцей насельніцтва развіваецца грэцкі патрыятызм. Імператары працягваюць яшчэ насіць звычайны тытул «васілеўса і аўтакратара рамеяў», але некаторыя выбітныя людзі пераконваюць іх прыняць новы тытул – **валадар элінаў**. Вось калі ўпершыню з'яўляецца праўдзівае згадванне слова эліны!

«Адчуваецца, – працягвае А. А. Васільеў, – што ранейшая шырокая **рознапляменная** дзяржава ператварылася хаця і ў сціплую адпаведна з тэрытарыяльнымі памерамі, але ужо у грэцкую адпаведна са складам насельніцтва дзяржаву». І ў гэтым пачуцці элінскага патрыятызму XIV-XV стагоддзяў можна не без падставаў бачыць адну із нагод узнікнення чароўнай казкі пра старажытную класічную Эладу, дзякуючы апакрыфічна прыпісаным ёй рукапісам тагачасных еўрапейскіх аўтараў. «Эпоха Палеалогаў, калі ў імперыі мудрагеліста перамяшаліся элементы Захаду і Ўсходу, адзначана высокім уздымам разумовай і мастацкай культуры, – сведчыць той жа А. А. Васільеў. – Візантыя за гэты час дала не мала навуковых і адукаваных людзей, пісьменнікаў, арыгінальных адпаведна з талентам, у самых разнастайных галінах ведаў. Мазаікі ў Канстантынопальскай мячэці Кахрыэ-джамі (ранейшым візантыйскім кляштары Хоры), у пелапанэскай Містры і на Афоне дазваляюць ацаніць важнасць мастацкай творчасьці пры Палеалогах. Гэты мастацкі ўздым часта супастаўляецца з ранняй эпохай італійскага Гуманізму і Адраджэння, на падставе чаго ставіліся ў навуцы тыя і іншыя пытанні».

Але «час Палеалогаў, – працягвае аўтар, – належыць да найменш зразумелага перыяду візантыйскай гісторыі, нагодай чаго з'яўляецца», – што ж вы думаеце? – «шматлікасць і разнастайнасць крыніц». І калі вам гэта здасца нечаканасьцю, то цалкам дарэмна! Справа ў тым, што кожнае самастойнае апавяданне з’яўляецца аднабокім, а таму добра мець для гісторыі толькі адно апавяданне і слепа ісьці за ім, не натыкаючыся ні на якія супярэчнасьці. Так аўтары і робяць пры выкладанні ранняй гісторыі ўсіх дзяржаў. А калі сустракаліся два самастойныя і таму не падобныя і часта супярэчачыя адзін аднаму выкладанні, то ў старажытнай гісторыі яны да гэтага часу звычайна дапасуюцца да розных стагоддзяў ці народаў, як, напрыклад, было з біблейскім выкладанем Рамейскай гісторыі ў кнізе «Цары».

Але час Палеалогаў выявіўся такім блізкім да нас, што падзел гэтай дынастыі на цэлы шэраг рознагачасовых і розна-мясцовых дынастый было немагчыма зрабіць, а таму А. А. Васільеў і слушна выказаўся, што іхны час з'яўляецца найменш зразумелым (г.азн. псеўда-высветленым) у гісторыі Рамеі, і якраз дзякуючы **шматлікасьці першакрыніц**.




Мал. 122.
Агульны план Цар-Горада ў 1453 годзе падчас яго аблогі магаметанамі, (згодна з Бундэльмонта.)

Нас тут мала цікавіць сямейная хроніка гэтай дынастыі, і мы разгледзім толькі дачыненні паміж ёю і ісламітамі. Ёсць доказы, што нават і тады паміж праваслаўнымі і агаранамі яшчэ не існавала непераадольнай прорвы, нягледзячы на адлучэнне апошніх пад найменнем магаметанаў грэцкай царквой. Так, цар Ян Кантакузі нават адружыў сваю дачку з асманскім султанам. Былі і іншыя выпадкі добрых дачыненняў.

Аднойчы, напрыклад, Мануіл II (1411-1425), яшчэ да ўцаравання, атрымаўшы ад бацькі ў кіраванне Фесалонікі, наладзіў адтуль стасункі з насельніцтвам аднаго македонскага горада, захопленага войскам султана Мурада, з мэтай збіцця турэцкага гарнізона і вызвалення ад «турэцкага ярма». Султан даведаўся пра гэта і намерыўся пакараць яго, а Мануіл, пасьля не маючай вынікаў спробы знайсьці сховішча каля напалоханага бацькі, накіраваўся непасрэдна ў рэзідэнцыю Мурада і прынёс яму пакаянне. Той прыхільна прыняў прыхадня, правёў з ім некалькі дзён і, на развітанне забяспечыўшы дарожнымі прыпасамі і каштоўнымі гасьцінцамі, выправіў назад да бацькі з лістом, у якім прасіў яго «дараваць сыну тое, што ён зрабіў праз недасведчанасць». А ў сваёй вымаўленай на дарогу прамове Мануілу ён сказаў:

«Кіруй з мірам тым, што табе належыць, і не шукай чужога. Калі ж у цябе будзе нейкая папатрэба ў грашах ці ў іншым спрыянні, то я заўсёды з радасьцю буду гатовы выканаць тваё прашэнне».

Пасьля доўгага і цяжкага валадарання Мануіл пад час апошняга года свайго жыцця аддаліўся ад дзяржаўных спраў, каб прысьвяціць увесь свой час вывучэнню сьвятога пісання. Хутка пасьля гэтага з ім здарыўся ўдар, а за два дні да сьмерці ён пастрыгся ў манахі пад імем Мацьвея. У яго не было дзяцей ні ад адной із трох жонак. Самыя высокія саноўнікі Цар-Горада спынілі свой выбар на Кастусю,

адным із братоў Яна VIII, быўшым у той час марэйскім дэспатам. Ён прыехаў да іх на каталонскіх караблях і з урачыстасьцю быў сустрэты насельніцтвам.

Гэта быў апошні із рамейскіх імператараў. Ён упаў пры ўзяцці Цар-Горада туркамі ў траўні 1453 года, калі на месцы грэка-хрысьціянскай улады была заснавана агаранская ўлада Асманаў. Із братоў, якія перажылі Кастуся, Зьміцер Палеалог патрапіў пазней у палон да Мухамеда II, які і адружыўся з яго дачкой.




Мал. 123.
Цар-Горад хутка пасьля пашырэння ў ім магаметанства, прыблізна каля 1520 года. (згодна з Гельмольтам, V, 139.)

* * *

Зараз вернемся трохі назад, каб паглядзець на міжнародныя стасункі гэтага перыяду.

Візантыйскі гісторык XV стагоддзя Рыгор Франдызі піша:

«Пад час валадарання Міхала Палеалога з нагоды войнаў вядомых у Яўропе супраць італьянцаў, пачаліся небяспекі для Рамейскай дзяржавы з боку турак у Азіі». І шчасьцем для імперыі ў яго час было тое, што самі «туркі» ў XIII стагоддзі перажывалі смутную эпоху свайго існавання».



Мал. 124
Царква «Сьвятога сына богамаці» (св. Зьміцера, па грэцку) у Салоніках, дарэмна дапасуемая да V стагоддзя нашай эры. Яна – не раней XV стагоддзя.

У трыццатых і саракавых гадах XIII стагоддзя з усходу з'явілася грозная небяспека татарскага ці, як зараз кажуць, мангольскага нашэсьця. Малаазійскі Румскі султанат сяльджукаў, межаваўшы з усходняй часткай Нікейскай імперыі, быў пераможаны «манголамі», і ў другой палове XIII стагоддзя, г.азн. у часы Міхала VIII, сельджукіды былі простымі намесьнікамі пярсідзкіх валадароў, уладанні якіх распасьціраліся ад Індыі да Міжземнага мора. Але гэтая дзяржава пакуль не ўяўляла непасрэднай небяспекі для Візантыі і дзякуючы ёй адзін толькі Румскі султанат страціў сваю ранейшую магутнасць.



Мал. 125.
Парэшткі старажытнай царквы, маючай назву Пантанасой у Містры, у Марэі. Выгляд з Поўдня.

Пазьней, пад час эпохі двух Андронікаў, галоўнай з'явай на Ўсходзе патрэбна лічыць узмацненне турак-асманаў. Пачынаючы ад заканчэння XIII стагоддзя яны пачалі моцна ўціскаць невялікія заставаўшыяся яшчэ ў руках Візантыі малаазіяцкія ўладанні. І ў выніку адбыўся вельмі арыгінальны эпізод.

*самым стварыць надзею на будучае элінскае адраджэнне XIX стагоддзя. Напярэдадні ўсеагульнага знішчэння ўся Элада збірала сваю разумовую энергію, каб засьвяціцца апошнім бляскам*».

Ах! Як усё гэта эфектна, але на справе падобна на гук пустога бачонка...

І вось, знайшоўся, нарэшце, у 1912 годзе адзін разумны чалавек, гісторык мастацтва Ф. І. Шміт, выказваўшы ў выглядзе агульнага цьверджання, што пры эканамічным і грамадзянскім заняпадзе дзяржавы Палеолагаў адраджэнне мастацтва ў XIV стагоддзя было відавочна немагчымым[381].

Гэта азначае, што ўсе галашэнні грэцкіх аўтараў наконт эканамічнай разрухі ў парэштках Візантыі XIV стагоддзя павінны быць таксама рашуча аднесены ў вобласць больш позьніх апокрыфаў, як і апавяданне пра стварэнне сусьвету богам на працягу шасьці дзён, пасьля чаго ён «пачыў ад усіх спраў сваіх».

Але магчыма само навукова-літаратурнае адраджэнне таго часу – міф?

Каб пераканацца ў адваротным, я проста коратка рэферую, каб пазбегнуць абвінавачванняў у тэндэнцыйнасьці, дзьве апошнія главы кнігі А. А. Васільева «Знікненне Візантыі».

Вось якім было гэтае «знікненне».

«*Шмат хто із прадстаўнікоў радоў, займаўшых імператарскі пасад, г.азн. Палеолагаў і Кантакузінаў, праявілі сябе на ніве вучэння і асьветы. Міхал VIII Палеолаг пісаў на карысць вуніі, быў аўтарам канонаў галоўных пакутнікаў, пакінуў нам знойдзеную сярод рукапісных скарбаў маскоўскай сінадальнай бібліятэкі* (і таму, напэўна, падробленую) *«аўтабіяграфію» і заснаваў у Канстантынопалі граматычную школу. Аматарам навук і мастацстваў і апекуном навукоўцаў і мастакоў быў Андронік II Старэйшы. Некаторыя мяркуюць стварэнне пад яго заступніцтвам мастацкай школы, адкуль выйшлі такія выдатныя помнікі мастацтва, як мазаікі кляштара Хоры* (зараз мячэць Кахрыэ-джамі) *у Канстантынопалі. Асабліва выдаваўся сваёй адукаванасьцю і літаратурным талентам Мануіл. Мудрагелісты багаслоў, майстар класічнай мовы, майстэрскі дыялектык і выдатны стыліст, ён пакінуў нам вялікую літаратурную спадчыну ў выглядзе шэрага прамоваў з нагоды розных выпадкаў чалавечага жыцця і напісаную ім у трохі жартаўным тоне «Выяву вясны на каралеўскай тканай заслоне*».

---

[381] Th. Schmidt, «La Renaissance de la peinture bysantine au XIV siecle». «Revue archeologique». 1912. II, 127-128.



Мал. 138.
Сучасны стан Храма Мудрасьці (Сафіі) у Цар-Горадзе. Паўночная сьцяна цэнтральнай часткі.



Мал. 139.
Сучасны стан Храма Мудрасці (Сафіі) у Цар-Горадзе. Паўночна-усходні бок бакавога бабінца.

Такі храм мог быць створаны не раней Эпохі Адраджэння, хутчэй – усяго пры Кастусю XII (1448-1453), а не пры Кастусю I (306-337).

Яшчэ ў палове XIX стагоддзя французкі дасьледчык яго асобы Berger de Xivrey налічвае, лічачы і лісты, 109 належачых яму літаратурных твораў. Але самае першае месца сярод імператараў, вядомых у гісторыі візантыйскай літаратуры, мае супернік Яна V, Ян VI Кантакузін, закончыўшы пасьля вымушанага адрачэння свае дні ў якасьці манастэрыёнца пад імем Іаасафа і прысьвяціўшы гэты час навуковым заняткам і літаратурнай дзейнасьці. Галоўным яго творам з'яўляюцца чатыры кнігі «Гісторый», ахопліваючыя падзеі пачынаючы ад 1320 да 1356 года, дзе аўтар, абвясьціўшы ва ўводзінах грунтам сваёй працы адну толькі праўду, часта адыходзіць ад яе. Так, паведамляючы пра падзеі, у якіх ён браў толькі другарадны ўдзел, ён ставіць сябе ў цэнтры ўсяго выкладання і на прыканцы імкнецца перабольшана апраўдаць і ўзвялічыць дзейнасць сваю і сваіх сяброў і прыхільнікаў і, наадварот, зняважыць, ачарніць і абсмяяць сваіх ворагаў.

Эпоха Палеолагаў дала згуртаванне цікавых і выбітных гісторыкаў, із якіх большасць ставіла за мэце апісаць гістарычныя падзеі таго часу, асвятляючы іх заўсёды са староннягa боку гледжання.

Сапраўдны сын эпохі Палеолагаў, Пахімер уяўляе із сябе першага візантыйскага гісторыка, для якога цэнтр цяжару палягае ў выяве тонкіх, заблытаных дагматычных спрэчак.

«*Здаецца,* – піша Крумбахер, – *як быццам бы гэтыя людзі, з жахам адварочваючыся ад роспачных падзей палітычнага жыцця імперыі, шукалі суцяшэння і палёгкі ў абстрактных дасьледаваннях дагматычных пытанняў рэлігіі, хваляваўшых тады ўсе розумы*».

Але гэта, чытач, зноў ужо гуд удару палкай па пустому бачонку: сярод усеагульнага знішчэння і згалеласьці людзі ў рэчаіснасьці падаюць духам, губляюць бадзёрасць, а не марнуюць час на спакойнае пісьменніцтва пасярод усеагульных стогнаў і ныцця сваіх сяброў, родных і знаёмых.

«*У яго,* – працягвае А. А. Васільеў, – ***упершыню*** *мы знаходзім* ***атычныя назвы месяцаў*** *замест звычайных хрысьціянскіх*».

Напачатку XIV стагоддзя Нічыпар Каліст Ксантапул напісаў першую «Царкоўную гісторыю», выкладаючую падзеі «ад нараджэння Хрыста» да пачатку VII стагоддзя, і некалькі твораў із вобласьці царкоўнай паэзіі. У XIV стагоддзі жыў і Нічыпар Рыгора, які згодна з разнастайнасьцю і аб'ёмам ведаў, дасьціпнасьцю і мастацтву ў дыялектыцы перасягаў усіх грэка-рамеяў часу Палеолагаў і можа быць справядліва супастаўлены з лепшымі прадстаўнікамі Заходняга Адраджэння. Асабліва захапляючыся астраноміяй, што заахвоціла яго нават прапанаваць імператару сваю (неправедзеную ў жыццё) каляндарную рэформу, Рыгора, пасьля некалькіх гадоў паспяховай выкладальніцкай дзейнасьці, напісаў шмат разнастайных твораў, із якіх значная частка яшчэ не выдадзена. Перайшоўшы на бок вуніі, ён зведаў за гэта нямала цяжкіх выпрабаванняў у выглядзе перасьледаў з боку ўлад і суровага заняволення. Асаблівую цікавасць уяўляе яго вялікая «Рымская гісторыя» ў 37 кнігах. І хай чытач не думае, што гэта гісторыя «старажытнага магутнага італійскага Рыма» (тады пра яго яшчэ мала ведалі, і Рымам звалі Візантыю-Рамею). Яна ахоплівае падзеі толькі ад 1204 да 1359 года, г.азн. час «Нікейскай» і «Лацінскай» імперый (адпаведна з сучаснай тэрміналогіяй, апасаючайся як бы пры слове «Рымская» чытач не прыйшоў да тых жа высноваў, што і я, што старажытны Рым спісаны з Цар-Горада). Свае рэлігійныя сімпатыі Рыгора перанёс і ў сваю «Рымскую гісторыю», якая таму з'яўляецца толькі партыйным творам, нападобе мемуараў. Гэта, згодна са славамі Крумбахера, «суб'ектыўна напісаная выява велічнай дзейнасьці розумаў».



Мал. 140

Выгляд на горы Тайгет паблізу Спарты ў Грэцыі напачатку траўня, калі вяршыні яшчэ пакрыты снегам.

Другая няўдалая аблога Цар-Горада султанам Мурадам II у 1422 годзе дала нагоду Яну Канану напісаць асобны твор, дзе аўтар, выкладаючы апавяданне на мове блізкай да народнага вымаўлення, прыпісвае, – як я ўжо згадваў, – выратаванне сталіцы ад агаранаў заступніцтву панны Марылі. А Ян Анагност, у процілегласць Канану, напісаў згодна з усімі правіламі літаратурнага мастацтва і выяўляючы заклапочанасць пра чысьціню грэцкай мовы, вельмі праўдападобнае апавяданне пра захоп Салуні туркамі ў 1430 годзе.

Мы бачым, што ў гэты час ужо выпрацоўваліся грэцкія класічныя гаворкі.

Рыгор Франдзі, Дука, Лаонік Халкакандыл і Крытавул, служачы першакрыніцамі для гісторыі захопу Цар-Горада, з'яўляюцца разам з тым і першакрыніцамі для эпохі Палеолагаў наогул.

Твор Франдзі апісвае падзеі пачынаючы ад 1248 да 1476 года, г.азн. пачынаючы ад апошніх гадоў Нікейскай імперыі і заканчваючы ўжо агаранскім часам. Нянавісць да «турак» і праходзячая праз усю кнігу прыхільнасць да Палеолагаў з'яўляюцца адметнымі яго рысамі.

Грэк із Малой Азіі, Дука, пакінуў нам напісаную, адпаведна са сведчаннем Крумбахера, «памякчанай народнай грэцкай мовай» гісторыю перыяду пачынаючы ад 1341 да 1462 года, г.азн. ад уступлення на пасад Яна V і да заваёвы агаранамі выспы Лесбас». Напачатку сваёй кнігі ён размясьціў кароткі агляд «сусьветнай» гісторыі ў выглядзе генеалагічнага нарысу ад Адама да Палеолагаў, із якіх найбольш падрабязна выкладаецца валадаранне трох апошніх імператараў.

Афінянін, згодна з паходжаннем, Лаонік Халкакандыл (Халкандыл), паставіўшы ў цэнтры сваёй працы не двор Палеолагаў, а маладую і моцную Асманскую дзяржаву, напісаў «Гісторыю» ў дзесяці кнігах, выкладаючую падзеі пачынаючы ад 1298 да 1463 года, у якой апісаў ужо не гісторыю дынастыі Палеолагаў, а гісторыю асманаў.

Нарэшце, Крытавул, падобна Лаоніку, напісаў хвалебную біяграфію Мухамеда II, выкладаючую падзеі пачынаючы ад 1451 да 1467 года. Ужо із аднаго гэтага мы бачым, што адукаваныя грэкі не лічылі агаранскую адміністрацыю за нешта варожае сабе.

Далейшым развіццём стылю гэтых аўтараў з'яўляюцца Герадот і Фукідыд, няправільна дапасаваныя да глыбокай старажытнасьці.

Эпоха Палеолагаў, выставіўшая некалькі гісторыкаў, амаль не дала храністаў, калі не лічыць Яфрэма, напісаўшага ў XIV стагоддзі, з гістарычнага боку гледжання не маючую ніякай карысьці, вершаваную хроніку (каля 10 000 вершаў), ахопліваючую час ад Юлія Цэзара да аднаўлення імперыі Палеолагамі ў 1261 годзе.

У XIV стагоддзі Зьміцер Кідон, жывучы, большай часткай, у Фесалоніках і Канстантынопалі і браўшы дзейны ўдзел у рэлігійных спрэчках сваёй эпохі, на прыканцы XIV стагоддзя вёў ліставанне з імператарам Манулам II. Будучы прыхільнікмм ідэі збліжэння з італійскім Рымам, ён напісаў твор на звычайную ў той час тэму «Пра выходжанне сьвятога духу», і некаторыя іншыя».

І нарэшце, апошні буйны палеміст візантыйскай царквы і першы царгродзкі патрыярх пад турэцкім валадараннем, Генадзь Схаларый, выдаў цэлы шэраг палемічных твораў. Прыпісваемыя яму філасофскія працы, быццам бы паўстаўшыя

дзякуючы спрэчцы з Гемістам Плетанам, на тэму пра арыстоцелізм і платанізм, набліжаюць яго да прадстаўнікоў гуманізму і дазваляюць аднаму грэцкаму навукоўцу (Сафе), забыўшыся пра старажытную Эладу, назваць яго «апошнім візантыйцам і першым элінам».

Візантыйская царкоўная містыка, заснаваная, як і заходне-еўрапейская, на творах так званага Дыянісія Псеўда-арэапагіта (аўтара, яшчэ не патлумачанага навукай), перажыла да гэтага часу буйную эвалюцыю і выклікала да дзейнасьці некалькі пісьменнікаў містыкаў, на чале якіх патрэбна паставіць Мікалая Кавасіла. Яму прыпісваюць два існуючыя і ў рускім перакладзе творы: «Сем слоў пра жыццё ў хрысце» і «Тлумачэнне боскай літургіі».



Мал. 141

Мапа наваколля Тэрмапілаў, паказваючая недарэчнасць апавядання Герадота (VII, 176, 198, 216) пра тое, як спартанец Леанід з 300 вояроў абараняў гэты праход супраць незлічонага войска Ксеркса. Ксеркс меў магчымасць абысьці яго па ўзгорках і атачыць Леаніда.

Само сабой зразумела, што шмат якія із дапасуемых і да гэтага позьняга часу твораў таксама належаць яшчэ больш позняму часу. Так, мы ведаем, што творы Платона апакрыфічныя і рэчаісна абвешчаны толькі ў 1481 годзе Марчэліно Фічыні»[382]. А тым часам мы чытаем, што ў вобласьці філасофіі эпосе Палеолагаў (г.азн. яшчэ XIV стагоддзю) належыць ужо памянёны намі знакаміты візантыец Гeміст Плетан[383], прадстаўнік ажыўшага ў той час захаплення старажытным элінізмам, прыхільнік і знаўца Платона ў форме неаплатанізму, летуценнік, задумаўшы стварыць з дапамогай багоў антычнай міфалогіі новую рэлігійную сістэму.

---

[382] «Хрыстос», III, 138.

[383] Г. азн. поўная поўната, таму што γεμίστος азначае – напоўнены, набіты, а πλῆθος – поўнасць, а слова Платон азначае – Шырокі.

Мімаволі ўзнікае пытанне: ці не гэты Плетан даў нагоду і да міфа пра старажытнага Платона? Абодва ж імені вельмі сугучныя (πλῆθος, πλάτος). Вядома, з боку гледжання артадаксальных гісторыкаў платанізм з’явіўся раней Плетана. «Цікавасць да антычнай філасофіі, асабліва да Арыстоцеля, а пачынаючы ад XI стагоддзя і да Платона, не знікала, – кажуць нам, – у Візантыі. Міхал Псёл у XI стагоддзі, Ян Італ у XII, Нічыпар Блемід у XIII, прысьвяцілі, – пераконваюць нас, – частку свайго часу вывучэнню філасофіі, і першы больш схіляўся у бок Платона, другі і трэцці – у бок Арыстоцеля. І гэтае змаганне двух філасофскіх накірункаў, арыстоцелізма і платанізма, давала сябе, – кажуць нам, – моцна адчуваць у Візантыі XIV стагоддзя падчас ісіхацкіх спрэчак». Але ці сапраўды ўсе падобныя спрэчкі не апокрыфы? І ці не ператворыцца пры больш старанным дасьледаванні платанізм у плетанізм?

Вось кароткая гісторыя Плетана.

Атрымаўшы першапачатковую адукацыю ў Цар-Горадзе, ён, – кажуць нам, – правёў вялікую частку свайго амаль стагадовага жыцця ў Містры, гэтым культурным цэнтры Марэйскага дэспатата, адкуль ён здзейсніў падарожжа ў Італію, суправаджаючы імператара Яна VIII пры яго вандраванні на Ферара-Фларэнтыйскі сабор. Свае дні Плетан закончыў таксама ў Містры, адкуль яго цела было перавезена адным італійскім мецэнатам у невялікае італьянскае мястэчка Рыміні, дзе знаходзіцца і зараз ў царкве Сан-Франчэска. Вельмі магчыма, што ён і быў аўтарам хаця б некаторых твораў, прыпісваемых Платону, і, ва ўсякім разе, ён набыў такі ўплыў на Казіма Медычы і італійскіх гуманістаў, што з'явіўся ініцыятарам заснавання Платонаўскай (больш правільна Плетанаўскай) акадэміі ў Фларэнцыі.

«Яго знаходжанне ў Фларэнцыі, – кажуць нам, – можна разглядаць, як адзін із самых важных момантаў у гісторыі перанясення старажытна-грэцкай навукі ў Італію і асабліва з'яўленні платонаўскай філасофіі на Захадзе». Яго вялікая праца ў выглядзе ўтопіі «Трактат пра законы (Νόμων συγγραφή)», не дайшоўшая да нас у поўным выглядзе, уяўляў сабой, – кажуць нам, – цікавую для настрояў XV стагоддзя і, вядома, загадзя вырачаную на правал спробу аднавіць паганства на развалінах хрысьціянскага культу з дапамогай элементаў неа-платонаўскай філасофіі. Ён задаўся, – кажуць нам, – мэтай стварыць для людзей такія ўмовы жыцця, якія дазволілі б ім жыць добра і шчасьліва. Але для таго, каб адказаць на пытанне, у чым жа складаецца чалавечае шчасьце, Плетан лічыць патрэбным зразумець як прыроду самога чалавека, так і сістэму сусьвету, часткай якой і з’яўляецца чалавек.

Усё гэта вельмі супадае з тым, што мы ведаем пра Платона. А таму і мая здагадка, што Платон у сваёй падставе спісаны з Плетана, але моцна дапоўнены пасьлядоўнікамі, не з'яўляецца неверагоднай, а, наадварот, выглядае вельмі праўдападобнай.

У вобласьці рыторыкі, якая часта бывае злучана з філасофіяй, вылучаецца Нічыпар Хумн, напісаўшы цэлы шэраг рытарычных твораў і некалькі філасофска-рэлігійных твораў, у якіх ён галоўным чынам нападае на Платона і неаплатонікаў і абараняе Арыстоцеля. Ён, – згодна з думкай А. А. Васільева, – павінен быць разглядаемы як адзін із прадвеснікаў грэка-італійскага Гуманізму.

Для мовазнаўства час Палеолагаў, – самае імя якіх аднозначнае з археолагамі, – таксама даў не мала цікавых прадстаўнікоў, з'яўляючыміся згодна са сваім характарам і складам думак прадвеснікамі новай эры і меўшымі, адпаведна са

словамі самаго Крумбахера, меншую сувязь з іхнымі візантыйскімі папярэднікамі, чым з першымі дзеячамі класічнага Адраджэння на Захадзе. Нам кажуць, што ў той час, як тлумачальнікі і перапісчыкі пачынаючы ад XI да XII стагоддзяў захоўвалі амаль у недатыкальнасьці рукапісныя паданні александрыйскага і рымскага часу, візантыйцы эпохі Палеолагаў пачалі «перарабляць» творы старажытных аўтараў адпаведна з іхнымі ідэямі ці часам грунтуючыся на новых прыдуманых вершаваных шаблонах. Але ці на самай справе яны толькі пераіначвалі, а не стваралі класіцызм, апакрыфуючы свае творы ў глыбокую старажытнасьць? Нават і самі артадаксальныя гісторыкі прызнаюць, што гэтае «пераіначванне», такое прыкрае з класічнага боку гледжання (таму што выяўляе ў нібы-та старажытных аўтараў словы і факты, відавочна належачыя новаму часу), павінна быць патлумачана і ацэнена грунтуючыся на умовах таго часу, калі людзі пачыналі, хаця б груба і не вельмі майстэрскі, не задавальняцца чыста механічнымі прыёмамі ранейшай працы, а шукаць новыя шляхі для праяўлення асабістай творчасьці.

Із філолагаў манастэрыёнец Максім Плануд (у сьвеце Мануіл), сучаснік двух першых Палеолагаў, прысвячаўшы свой вольны час навуцы і выкладанню, наведаўшы ў якасьці пасланніка Венецыю, меў шмат родных рыс з узнікаючым тады культурным рухам на Захадзе, асабліва дзякуючы свайму веданню лацінскай мовы і лацінскай літаратуры. Ён пераклаў вялікую колькасць лацінскіх твораў на грэцкую мову і гэтым спрыяў культурнаму збліжэнню Ўсходу і Захаду пад час эпохі Адраджэння. У гісторыях візантыйскай літаратуры да прадстаўнікоў філалогіі звычайна дапасуецца і сучаснік Андроніка II, Хведар Метахіт, шматстайная дзейнасць якога выходзіць далёка за сьціплыя межы філалогіі. Прыпісваемыя яму шматлікія і разнастайныя філасофскія і гістарычныя эцюды, рытарычныя і астранамічныя творы і шматлікія вершы і лісты да розных выбітных сучаснікаў «дазваляюць бачыць у ім самага яскравага, пасьля Нічыпара Рыгоры, візантыйскага гуманіста XIV стагоддзя». Яго філасофскія заняткі дазваляюць Ф. І. Успенскаму бачыць у ім папярэдніка і падрыхтоўшчыка грэка-рамейскага платанізму XV стагоддзя.

Да часу Палеолагаў належыць таксама адзін буйны юрыдычны помнік, маючы значэнне да сучаснасьці: гэта – вялікая кампіляцыя фесалонікскага юрыста і суддзі XIV стагоддзя Кастуся Арменапула, вядомая пад назвай «Шасьцікніжжа» (hexabiblos), дзякую таму што падзяляецца на шэсць кніг, ці, як часта кажуць: «Ручная кніга законаў» (manuale legum). Яна ўтрымлівае грамадзянскае і крымінальнае права з некаторымі дадаткамі нападобе, напрыклад, вядомага «Земляробчага закона». Пасьля 1453 года «Шасьцікніжжа Арменапула» пашырылася і на Захадзе і захоўвала яшчэ і напачатку XX стагоддзя значэнне судовага дапаможніка ў Грэцкім каралеўстве і ў Бесарабіі.

Некалькі медычных трактатаў, напісаных не без агаранскага ўплывы, таксама належаць да часу Палеолагаў. Адзін такі трактат заканчэння XIII стагоддзя меў вялікі ўплыў нават і на заходнюю медыцыну і ўжываўся на медычным факультэце Парыжскага ўніверсітэта аж да XVII стагоддзя. Вывучэнне матэматыкі і астраноміі таксама квітнела ў той час, і шмат хто із тагачасных культурных дзеячоў, уяўляўшых сабой амаль заўсёды энцыклапедыстаў, прысьвячалі частку свайго жыцця навукам, даючы матэрыял для пярсідзкіх і арабскіх твораў, вялікая частка якіх заснавана, як зараз агульнапрызнана, на грэцкіх узорах.

Мануіл Алабол і Мануіл Філ, сучаснікі першых Палеолагаў, з'яўляюцца прадстаўнікамі тагачаснай паэзіі, вельмі штучнай, часта знаходзіўшай свае тэмы ў

сферы прыдворных інтарэсаў і таму часам вельмі лісліvай, нагадваючы першых паэтаў рускай літаратуры, а таксама часта даючы ўжо вельмі доўгія паэмы.

Грэцкая вершаваная версія Марэйскай хронікі, зяшчаючая больш чым 9 000 вершаў, дае (пры паведамленні пра заваёву латынянамі Пелапанэса) цікавы прыклад тагачаснай грэцкай народнай мовы, ужо увабраўшай у сябе цэлы шэраг слоў і выказванняў із раманскіх моваў, накшталт таго як было і ў нашага Традзьякоўскага:

Элефанты і леанты і марскія сабакі
І арлы, пакінуўшы монты, учыняюць бойкі.

Да гэтай жа эпохі дапасуецца вершаваны раман (каля 4 000 вершаў) «Лівістр і Радамна», моцна нагадваючы згодна з сюжэтам і ідэямі вядомы ўжо нам раман «Бельтандр і Хрысанца». Гэтаму Лівістру было адкрыта ў сне, што яму ў жонкі прызначана Радамна, і ён яе знайшоў у асобе індыйскай прынцэсы. Ён дамагаецца яе кахання і, перамогшы ў двубоі суперніка, атрымлівае Радамну ў жонкі. Але дзякуючы чароўніцтву яго супернік выкрадае ў яго Радамну, так што толькі пасьля цэлага шэрага прыгод Лівістр яе знаходзіць.

У гэтым рамане паўсюдна адчуваецца перамяшанне франкскай культуры з грэка-ўсходнім упарадкаваннем жыцця, нават больш чым у Бельтандры і Хрызанце. У той час, як у «Бельтандры» яны яшчэ не цалкам зліліся, у «Лівістры» франкская культура ўжо глыбока пашырылася ў візантыйскай глебе, і сама пачала падначальвацца грэцкаму ўплыву. Пры гэтым немагчыма не адзначыць, што раман «Лівістр і Радамна» дайшоў да нас толькі «ў пазней апрацаваным выглядзе», і гэта зноў наводзіць на сумневы ў яго праўдзівасьці.

Але ўсё ж, нягледзячы на магчымасць шматлікіх больш позніх апокрыфаў, эпоха Палеолагаў у разнастайных галінах літаратуры характарызуецца кіпучай і плённай дзейнасьцю лепшых культурных прадстаўнікоў таго часу, якія не раз даюць выпадак гісторыкам прыводзіць іх у паралель з сучаснымі ім дзеячамі італійскага Адраджэння.

Такі ж моцны (і са звычайнага боку гледжання нечаканы) уздым патрэбна адзначыць і ў сферы мастацтва гэтай «Дынастыі археолагаў».

Адраджэнне візантыйскага мастацтва пры Палеолагах, у выглядзе такіх помнікаў, як роспісы Кахрыэ-джамі, Містры, Афона і іншых, было такім нечаканым і незразумелым са звычайнага боку гледжання, што навукоўцы для тлумачэння пытання пра першакрыніцы новых формаў мастацтва той эпохі стварылі некалькі фантастычных гіпотэз.

Першая «заходняя» гіпотэза, бяручая да ўвагі лацінскія ўплывы на розныя бакі грэка-рамейскага жыцця пачынаючы ад часу чацьвёртага крыжовага паходу і збліжаючы візантыйскія помнікі з італійскімі фрэскамі Трэчэнта і з тым, што Джота ў Італіі жыў менавіта ў той момант, калі з'яўляліся першыя творы «адноўленага» ўсходняга мастацтва пры Палеолагах, – прыходзіць да высновы пра магчымасць уплыву італійскіх майстроў Трэчэнта на візантыйскае мастацтва, чым і тлумачыць яго новыя формы ў XIV стагоддзі.

Але зараз візантыісты даводзяць ужо адваротную з'яву, г.азн. уплыў візантыйскіх узораў на італійскае мастацтва XIII стагоддзя.

Другая, «сірыйская» гіпотэза, створаная на пачатку XX стагоддзя аўстрыйскім гісторыкам мастацтва Стжыгоўскім, зводзіцца да таго, што лепшыя творы візантыйскага мастацства часу Палеолагаў з'яўляюцца толькі простымі копіямі арыгіналаў старажытнага сірыйскага мастацтва, якое ў IV-VII стагоддзях, –

сцвярджае ён, – «дало нямала новых формаў, успрынятых візантыйцамі», і калі пагадзіцца з гэтай тэорыяй, то ні пра якое адраджэнне мастацтва ў Грэка-Рамеі XIV стагоддзя не можа быць і гаворкі, і ўсё звядзецца выключна да добрых копій із добрых старажытных, але невядомых узораў». Гэтая тэорыя, якую Н. П. Кандакоў называе «археалагічнай гульнёй», знайшла мала прыхільнікаў сярод навуковага сьвету.

Французкі візантыіст Дыль аспрэчвае абедзьве толькі што павядомленыя тэорыі і бачыць карані «аднаўлення мастацтва пры Палеолагах у тым агульным культурным уздыме, які так, характэрны для іхнай эпохі» і (дададзім ад сябе) ні ў якім выпадку не адпавядае таму эканамічнаму разбурэнню, пра якое пішуць аўтары палітычнай гісторыі Візантыі гэтага часу. Ён знаходзіць нагоду «аднаўлення візантыйскага мастацтва ў момант яе эканамічнага заняпаду і напярэдадні нацыянальнага прыніжэння грэкаў» у абуджэнні, – чаго б вы думалі? – ні больш ні менш як «вельмі жывога пачуцця элінскага патрыятызму, а таксама ў паступовым развіцці тых новых накірункаў у мастацтве, якія з'явіліся ў Візантыі пачынаючы з XI стагоддзя, г.азн. ад часу дынастыі Камнінаў». «Таму, – выказваецца Дыль, – для таго, хто ўважліва глядзіць на рэчы, вялікі рух у візантыйскім мастацтве XIV стагоддзя не будзе з'явай раптоўнай і нечаканай: ён нарадзіўся дзякуючы яго натуральнай эвалюцыі ў выдатна дзейнічаючым і жывучым асяроддзі. І калі замежны ўплыў мог часткова дапамагчы яго бліскучаму росквіту, то ўсё ж ён распрацаваўся із сябе самога, із глыбокіх каранёў, якімі ён апускаўся ў мінулае, са сваіх моцных і арыгінальных уласцівасьцей».

Зноў жа – тут толькі гучныя, але пустыя фразы, а таму пазьней праф. Д. У. Айналаў справядліва пазначае, што рашэнне пытання, зробленае Дылем, не можа лічыцца метадалагічна правільным і прымальным, таму што яно заснавана не на аналізе мастацкіх помнікаў, а толькі ўскосна выводзіцца із нечага мяркуемага.

У выніку гэтага Д. У. Айналаў прыходзіць да высновы, што пытанне пра паходжанне новых формаў у візантыйскім малярстве XIII-XIV стагоддзяў можа набыць рашэнне толькі шляхам іхнага гісторыка-параўнальнага дасьледавання. Назіраючы ўласьцівасьці горнага і архітэктурнага ландшафту ў мазаіках Кахрыэ-джамі  ў Цар-Горадзе і сабора св. Марка ў Венецыі, ён пазначае вялікую падобнасць іхных формаў з формамі ландшафтнага малярства пачатковага італійскага адраджэння і прыходзіць да высновы, што візантыйскае малярства XIV стагоддзя не можа быць прызнана самастойнай з'явай візантыйскага мастацтва, а толькі адлюстраваннем новага развіцця італійскага малярства, якое ў сваю чаргу вырасла на глебе ранейшага візантыйскага мастацтва.

Адным із перадатачных цэнтраў уплыву ранняга заходняга мастацтва на позне-візантыйскае з'яўляецца – на яго думку – Венецыя.

Такімі з’яўляюцца галоўныя тэорыі пра падставы аднаўлення візантыйскага мастацтва пры Палеолагах. Ад гэтай эпохі да нас дайшло шмат разнастайных помнікаў. Із манументальных пабудоваў можна пазначыць сем цэркваў у пелапанэскай Містры, некаторыя кляштарскія цэрквы Афона, шмат цэркваў у Македоніі, належаўшай у XIV стагоддзі Сербіі, і ва ўласнай Сербіі. Із мазаічнага і фрэскавага малярства засталіся ужо не раз згаданыя намі знакамітыя мазаікі Кахрыэ-джамі  ў Канстантынопалі і Фрэскі Містры, Македоніі, Сербіі. Ды і на Афоне таксама сустракаюцца мазаікі і фрэскі заканчэння XIII, XIV і XV ст.ст., хаця росквіт афонскага мастацтва дапасуецца ўжо да XVI стагоддзя і часта прыводзіцца ў сувязь з дзейнасьцю загадкавага візантыйскага мастака, «Рафаэля візантыйскага

малярства», Мануіла Панселіна із Фесалонікі, праўдзівы час жыцця якога, дарэчы, невядомы. Ад той жа эпохі Палеолагаў дайшло да нас шмат абразоў і рукапісаў з мініяцюрамі. Такім з’яўляецца знакаміты Мадрыдзкі рукапіс XIV стагоддзя ад імя візантыйскага храніста Скіліцы, які ўтрымлівае да 600 цікавых мініяцюр, сярод якіх асаблівую цікавасць маюць каля дваццаці, ілюструючыя прыём рускай вялікай княгіні Вольгі ў Візантыі, вайну грэкаў з рускімі, паход Святаслава з яго выявай, перамовы з князем Уладзімірам і г.д.

Падводзячы вынік гэтаму нарысу культурна-асьветнічнага руху пры Палеолагах, мы перадусім павінны будзем прызнаць такую яго магутнасць, напружанасць і разнастайнасць, якіх мы не сустракалі пад час ранейшых перыядаў, калі агульнае становішча імперыі было, згодна са словамі гісторыкаў, значна больш спрыяльным для культурных праяваў. Адсюль зразумела, што нашы ўяўленні пра эканамічны заняпад Візантыі XIV стагоддзя, дзякуючы паслабленню яе вайсковай магутнасці, вельмі няправільныя. Тлумачэнне тут можа быць толькі адно: нягледзячы на паслабленне гэтай магутнасьці, грэцкая рэштка Вялікай Рамеі эканамічна квітнела, як часта бывала і ў іншых дзяржавах, напрыклад у раз'яднанай Германіі першай паловы XIX стагоддзя. Пры гэтым мы павінны перадусім аспрэчыць тое, што генуэзскае гандлёвае мараплаўства цалкам замяніла грэцкае. Гэта геаграфічна недарэчна. Зірніце толькі на мапу: які пункт больш зручны на ёй для цэнтра марскога гандлю пры існаванні безкомпаснага, а таму выключна прыбярэжнага мараплаўства паміж Азіяцка-Афрыканскім Усходам і Еўрапейскім Захадам? Аддаленыя Генуя з Венецыяй ці Цар-Горад з грэцкім Архіпелагам і пралівамі? Вы адразу пабачыце, што – Канстантынопаль і, акрамя яго, Афіны і Смірна. І раз Цар-Горад, Смірна і Афіны былі цэнтрамі, хаця б і рэшткавых дзяржаваў, то яны фактычна не маглі не мець свайго гандлёвага флота, тым больш, што грэцкі архіпелаг адпаведна з самой сваёй прыродай прыстасаваны да таго, каб быць радзімай адважных маракоў. Гэты геаграфічны довад адзіна надзейны, а таму перакрывае цэлыя тамы «сведчанняў» псеўда-сучаснікаў дынастыі Палеолагаў. Цар-Горад, Смірна, Афіны і архіпелаг павінны былі да заканчэння свайго існавання мець свой гандлёвы флот і сваіх грэцкіх маракоў. А венецыянскія і генуэзскія караблі далёкага плавання на шляху ў Чорнае мора непазбежна павінны былі спыняцца ў Цар-Горадзе і, як заўсёды бывае ў партовых гарадах, пакідаць у ім частку сваіх прыбыткаў.

У ранейшым выкладанні я ўжо не раз паказваў, што Адысея з’яўляецца паэмай з часоў венецыянскага і генуэзскага мараплаўства, а зараз я павінен дадаць, што гэты ж перыяд быў таксама і часам нацыянальнага грэцкага мараплаўства. Самі факты не раз адбываўшыхся збіванняў грэкамі венецыянскіх асаднікаў паказваюць на іхнае суперніцтва з мясцовымі марскімі канкурэнтамі. Дакладна так жа і паэма Іліяда, г.азн. паход на горад Іліён ці горад Іллі-прарока, з’яўляецца паэмай пра захоп крыжакамі Эліі Капіталіны, якую назву меў у грэкаў сучасны Эль-Кудс, г.азн. горад Іллі Сьвятога, ён жа Ерусалім сучасных нам хрысьціянаў. Такім чынам, і з'яўленне ў гэтым Ерусаліме Эль Кудсе, а таксама і ў парэштках розных умацаванняў на берагах Чорнага мора, рэштак грэцкіх ваз і іншых твораў павінна быць дапасавана да часу крыжацкіх дзяржаў. Яны дастаткова сведчаць пра тое, што не адны венецыянцы і генуэзцы панавалі ў дадзеных пунктах, але таксама і грэцкія маракі і купцы.

Нам цікава тут пазначыць, што і другое найменне горада Іліён – Троя – у перакладзе з біблейскай мовы, паказальна. Троя, лацінскае – Troia, грэцкае – Τροία,

па-жыдоўску – ТРА-ІЯ (תרע־יה), азначае – «Брама Госпада», г.азн. тое ж самае, як і Вавілон (Баб-Ілу – Брама Госпада).

Італьянскае Адраджэнне (Rinascimento), прынамсі ў адной частцы гэтага складанага культурнцкага працэсу, характарызуецца падвышанай цікавасьцю да грэцкай літаратуры і грэцкай мовы. **Бясспрэчна, не ў рэстаўрацыі старажытнасьці заключалая сутнасць Рэнесанса**, як лічыў у свой час Фойгт, **што зводзіла б усе рысы гуманістычнага накірунку да пераймання старажытнасьці, да «працэсу рэцэпцыі», да адсутнасьці новых ідэй**. Значэнне культуры Рэнесансу не ў тым, што пад час яе ўзнікла жаданне аднавіць ці рэстаўраваць антычную культуру, як пазьней пісаў Картынг; Рэнесанс з'яўляецца разуменнем значна больш шырокім, глыбокім і жыццёвым.

Каб зразумець яго, патрэбна перадусім пазнаёміцца з тым уплывам, які зрабілі на яго сярэднявечная рамейская традыцыя і візантыйскія грэкі, у прыватнасьці. Не цікавасць да міфічнай класічнай старажытнасьці і азнаямленне з ёю выклікалі Адраджэнне, а, наадварот, тыя жыццёвыя ўмовы італійскага жыцця, распрацаваўшыя гэты культурніцкі рух. Не будзе лішнім нагадаць, што ў нас яшчэ некалькі дзясяткаў гадоў таму назад існавала думка, перайшоўшая нават на старонкі падручнікаў сярэдняй школы і выкладаўшаяся ў выглядзе даказанага цьверджання, быццам бы італійскае Адраджэнне было пачата грэкамі, збегшымі туды із Візантыі перад турэцкай небяспекай, пасьля захопу Цар-Горада ў 1453 годзе.

Але гэта не зусім правільна.

Карыфеі так званага ранняга італійскага Гуманізму, Пятрарка і Бакач'ё, жылі яшчэ ў XIV стагоддзі. А што ж уяўлялі сабой вядомыя грэцкія пісьменнікі, скульптары і маляры, імёны якіх злучаны з эпохай ранняга Адраджэння, г.азн. XIV і самага пачатку XV стагоддзя?

Бернарда, прыняўшы ў Калабрыі пастрыжэнне пад імем Варлаама і прабыўшы некаторы час у Салуні, на Афоне і ў Цар-Горадзе, уяўляе сабой фігуру, пра якую нярэдка згадваюць першыя гуманісты. У Авіньёне з «Варламам» зблізіўся Пятрарка і пачаў у яго вучыцца грэцкай мове, каб у арыгіналах чытаць грэцкіх аўтараў. У адным са сваіх лістоў ён выказваецца пра Варлама:

«Гэта быў чалавек, які настолькі ж валодаў выдатным дарам грэцкага моўнага мастацтва, наколькі быў пазбаўлены гэтага дарунку ў лацінскай мове. Быдучы заможны ідэямі і вызначаючыся вострым розумам, ён памыляўся ў выказваннях, здольных перадаць яго думкі».

А Бакач'ё ў сваім творы «Генеалогія богаў» называе Варлама чалавекам «з маленькім целам, але з вялізнымі ведамі, якога ў грэкаў не было ўжо шмат стагоддзяў», і безумоўна давярае яму ва ўсім, што мае дачыненне да Грэцыі. Аднак, наўрад ці можна пагадзіцца з тым перабольшваннем уплыву Варлама на Адраджэнне, які мы часам сустракаем на старонках замежнай і рускай літаратуры. Гэта хутчэй усяго быў толькі настаўнік грэцкай мовы, могучы служыць у якасьці даведкавага лексікона, «змяшчаўшага ў сабе, згодна з меркаваннем Карэліна, вельмі недакладныя веды». Сярэднявечны схаластык, ён мог падзяліцца са сваімі заходнімі сябрамі толькі веданнем грэцкай мовы і ўрыўкамі эрудыцыі. Яго ўзвялічылі з нагоды надзеяў і спадзяванняў, у якіх выказалася самастойная эвалюцыя Гуманізму, але якіх ён не быў у стане «апраўдаць».

Другім грэкам, меўшым некаторую ролю пад час эпохі ранняга Адраджэння, быў памёршы ў шасьцідзесятых гадах XIV стагоддзя вучань Варлама, Лявонцій

Пілат, быўшы падобна свайму настаўніку родам із Калабрыі. Пераязджючы із Італіі ў Грэцыю і назад, выдаючы сябе ў Італіі за грэка із Салуні, а ў Грэцыі за італьянца і не ўжываючыся нідзе, ён прабыў тры гады ў Фларэнцыі з Бакач'ё, які, як я ўжо згадваў, вучыўся ў яго грэцкай мове і здабываў ад яго сведчанні для сваёй «Генеалогіі богаў».

Мы бачым, што абодва гэтыя дзеячы элінізму былі не із Грэцыі, а із італійскай Калабрыі, і таму нам важна кароценька прасачыць эвалюцыю элінізму і ў паўднёвай Італіі, і на Сіцыліі, грэцкае насельніцтва якіх павялічылася за некалькі значных перасяленняў. У VIII стагоддзі вялікая колькасць грэцкіх манастэрыёнцаў прыбыла ў Італію, ратуючыся ад перасьледу імператараў-куміразмагальнікаў, а ў IX-X стагоддзях грэцкія ўцекачы із Сіцыліі, заваяванай арабамі, запоўнілі паўднёвую Італію. Гэта была, верагодна, галоўная крыніца элінізацыі Італіі, таму што яе візантыйская культура пачынае квітнець толькі пачынаючы з X стагоддзя, «як калі б яна была толькі прамым працягам і спадчынай грэцкай культуры Сіцыліі»[384]. Росквіт гэтай культуры абдымае перыяд ад другой паловы IX да другой паловы X стагоддзя, але ён працягваецца і пазьней, пад час эпохі «нарманаў»... Грэцкая паўднёвая Італія пад час сярэдневечча дала шэраг пісьменнікаў, якія накіроўвалі сваю працу не толькі на клерыкальную «жыццяапісальную» літаратуру, але і царкоўную паэзію, а таксама «захоўвалі паданні навукі». У другой палове XIII стагоддзя Ражэр Бэкон пісаў папе пра паўднёвую Італію, што ў ёй «святарства і народ былі чыстымі грэкамі ў шмат якіх месцах». Адзін старажытны французкі хранікёр сцвярджае для таго ж часу, што ў Калабрыі і Апуліі нават сяляне размаўлялі толькі па-грэцку.

Такім чынам, для першапачатковага тэхнічнага азнаямлення з грэцкай мовай і з грэцкай літаратурай італьянцам XIV стагоддзя не было патрэбы звяртацца да Візантыі. У іх для гэтага побач існавала першакрыніца ў паўднёвай Італіі, якая і дала Італіі Варлама і Лявонція Пілата.

Сапраўдны ўплыў Візантыі на Італію пачынаецца толькі ад заканчэння XIV стагоддзя і працягваецца толькі на працягу XV стагоддзя, калі туды прыязджаюць сапраўдныя візантыйскія гуманісты, якімі з'яўляюцца Мануіл Хрысалар і асабліва Геміст Плетан і Вісарыён Нікейскі.

Нарадзіўшыся каля паловы XIV стагоддзя ў Канстантынопалі Мануіл Хрысалар ужо ў сябе на радзіме набыў славу выбітнога выкладчыка, рытара і філосафа. Малады італійскі гуманіст Гуарына выправіўся ў Цар-Горад з асобнай мэтай паслухаць Хрысалара і, навучыўшыся ў яго грэцкай мове, прыступіў да вывучэння грэцкіх аўтараў.

Прыехаўшы ў Італію з палітычнай місіяй адпаведна з даручэннем імператара, Хрысалар, слава якога ўжо дайшла да Італіі, быў сустрэты там з захапленнем, і італійскія гуманістычныя цэнтры наперабой адзін перад адным запрашалі яго да сябе. На працягу некалькіх гадоў ён выкладаў у Фларэнтыйскім універсітэце, дзе яго слухала цэлая пляяда тагачасных гуманістаў. Пераехаўшы, згодна з запрашэннем жыўшага тады ў Італіі імператара Мануіла II, на кароткі час у Мілан, ён пасьля гэтага быў прафесарам у Павіі. Правёўшы некаторы час у Візантыі, ён вярнуўся ў Італію, здзейсніў, згодна з даручэннем імператара, вялікае падарожжа ў Англію, Францыю і, магчыма, у Гішпанію, і потым зблізіўся з папскай курыяй. Накіраваны папай у Германію для перамоваў пра павінны хутка адбыцца сабор, ён, даведаўшыся, што сабор адбудзецца ў Канстанцы, прыехаў

[384] P. Batiffol, «L'abbaye de Rossano». Paris. 1891. IX.

туды і там памёр у 1415 годзе. Хрысалар, відавочна, меў вялікі ўплыў дзякуючы сваёй выкладніцкай дзейнасьці і ўменню передаваць слухачам свае шырокія веды. Пакінутыя ім творы ў выглядзе богаслаўска-царкоўных трактатаў, грэцкай граматыкі, некаторых перакладаў, напрыклад «літаральнага перакладу Платона», і шэраг яго лістоў не выяўляюць у ім вялікага літаратурнага таленту. Але ўплыў яго на гуманістаў быў вялізным і яны пашыралі яму незвычайныя ўхвалы. Гуарыно параўноўвае яго з сонцам, асьвяціўшым Італію, знаходзіўшуюся ў глыбокім змроку і жадаў бы, каб удзячная Італія ўзводзіла яму на яго шляху трыумфальныя аркі. Яго клічуць «князем грэцкага красамоўства і філасофіі». Да ліку яго вучняў належалі самыя буйныя дзеячы новага накірунку. Французкі гісторык Адраджэння Monnier, згадваючы водгукі гуманістаў пра Варлама і Пілата, піша:

«Хрысалар – не тупая башка, не вашывая барада, не грубы калабрыец, гатовы дзіка рагатаць над тонкімі досьціпамі Тэрэнцыя. Гэта сапраўдны грэк. Ён із Візантыі і шляхетнага паходжання. Ён – навуковец, і акрамя грэцкай мовы ведае і лацінскую. Ён – важны, мяккі, рэлігійны і разважлівы. Ён як быццам бы народжаны для ўчыннасьці і для славы, і азнаёмлены з апошнім словам навукі пра высокія прадметы. Словам, гэта – настаўнік, гэта першы грэцкі прафесар, які, аднаўляючы традыцыі, заняў катэдру ў Італіі».

Аднак, значна шырэйшы і глыбейшы ўплыў на Італію ў XV стагоддзя мелі іншыя знакамітыя прадстаўнікі візантыйскага Адраджэння, Геміст Плетан і Вісарыён Нікейскі. Пра першага із іх, як ініцыятара заснавання Платонаўскай акадэміі ў Фларэнцыі і пашырэння платонаўскай філасофіі на Захадзе, я ўжо выказваўся. Ды і другі з іх уяўляе сабой першарадную велічыню ў культурным руху таго часу.

Як і Рыгор Трапезундскі, стварыўшы Альмагест пад імем Пталямея, Вісарыён Нікейскі нарадзіўся на самым пачатку XV стагоддзя таксама ў Трапезундзе, дзе і атрымаў першапачатковую адукацыю. Выпраўлены для далейшага вучэння ў Цар-Горад, ён там пачаў вывучэнне грэцкіх паэтаў, прамоўцаў і філосафаў. Сустрэча з італійскім гуманістам Філельфа, таксама слухаўшым тады лекцыі на берагах Басфора, пазнаёміла Вісарыёна з гуманістычным рухам у Італіі. Ужо манахам ён працягваў свае заняткі ў Пелапанэсе, у культурнай Містры, пад кіраўніцтвам знакамітага Плетана. У якасьці нікейскага арцыбіскупа ён, – як я ўжо паведамляў, – суправаджаў імператара на Ферара-Фларэнтыйскі сабор і меў моцны ўплыў на ход гэтай нарады, паступова схіляючыся на бок вуніі.

«Я не лічу справядлівым, – пісаў Вісарыён падчас сабора, – раз’ядноўвацца з латынянамі насуперак якім бы то ні было разумным падставам».



Выгляд на Афіны і іхны акропаль з паўднёва-ўсходняга боку, із даліны Ілісэ. (Згодна з фотаздымкам.)
На вышыні храм Афінскай Нявінніцы. Знізу на левым баку Адэон Ірада Атыка, да якога прылягае Эўменона Стоа. Спераду на левым боку 16 карынфскіх слупоў Алімпіёна, храма Алімпійскага Зеўса; далей з правага боку арка Адрыяна, утвараючая мяжу паміж старым горадам і «Адрыянопалем». На схіле, справа за Алімпіёнам, можна разлічыць лавы Дыёнісава тэатра; над імі грот, у наш час капэла Panagia Speliotissa.



Мал. 142.
Сучасныя Афіны.

Падчас свайго знаходжання ў Італіі, патрапіўшы ў атачэнне кіпучага жыцця Адраджэння, ён вельмі зблізіўся з папскай курыяй, а адпаведна з талентам і адукаванасьцю не саступаў італійскім гуманістам і падтрымліваў з імі шырокія стасункі. Пасьля вяртання ў Цар-Горад Вісарыён хутка пераканаўся ў неспагадлівым стаўленні да папы вялізнай масы грэцкага насельніцтва і ў

немагчымасці правесьці справу вуніі на Ўсходзе так, як яму было б пажадана. Атрымаўшы паведамленне пра прызначэнне яго кардыналам рымскай царквы, адчуваючы ненадзейнасць свайго становішча на радзіме і саступаючы жаданню зноў патрапіць у цэнтр гуманізму, ён назаўсёды пакінуў Візантыю і перасяліўся ў Італію.

Там, у Рыме, сядзіба Вісарыёна зрабілася цэнтрам гуманістычнага камунікавання. Яго сябрамі былі найбольш выбітныя прадстаўнікі Гуманізму, як напрыклад Поджыо Брачыяліні і Валла. Апошні зваў Вісарыёна за яго цудоўныя веды абедзьвюх старажытных моваў «лепшым грэкам із латынянаў і лепшым латынянінам із грэкаў» (latinorum graecissimus, graecorum latinissimus). Рупліва купляючы кнігі ці загадваючы іх для сябе перапісваць, Вісарыён стварыў у сябе дома цудоўную бібліятэку, у складзе якой былі як творы айцоў усходняй і заходняй царквы, так і творы гуманістычнай літаратуры. Пад канец жыцця ён падараваў гэтае самае вялікае для таго часу, кнігасховішча гораду Венецыі, дзе яно і з'явілася адным із галоўных падмуркаў знакамітай зараз бібліятэкі сьвятога Марка, на ўваходных дзвярах якой да гэтага часу можна бачыць намаляваны партрэт Вісарыёна.

Амаль уся літаратурная дзейнасць Вісарыёна працякала ў Італіі. Акрамя шматлікіх твораў багаслаўскага характару, у вобласьці палемікі і экзэгетыкі, Вісарыён пакінуў значна больш характэрныя для яго, як гуманіста, псеўда-пераклады класічных аўтараў – Дэмасфена, Ксенафонта і метафізікі Арыстоцеля.

Ён уяўляў сабой «лепш, чым хто б та ні быў іншы із буйных дзеячоў яго часу, прыклад аб’яднання грэцкага генію з геніем лацінскім, з чаго і выцякае Адраджэнне» – піша пра яго Васт[385].

«Вісарыён жыў, – піша ён далей – на мяжы двух эпох. Гэта – грэк, зрабіўшыся латынянам, кардынал, заступаючымся за навукоўцаў, багасловам-схаластыкам, ломаючым дзіды на карысць платанізму, руплівым прыхільнікам візантыйскай старажытнасьці, спрыяўшым больш чым хто б там ні было, зараджэнню сучаснасьці (l'age moderne). Ён злучаны з сярэдневеччам сваім ідэалам, які ён імкнецца ажыццявіць у хрысьціянскім яднанні і крыжовым паходзе, і разам з тым ён пануе над сваім стагоддзем, ён яго з жарам падштурхоўвае на новыя шляхі прагрэсу і Адраджэння».

Адзін із сучаснікаў Вісарыёна, Міхал Апосталіс, нават стварае із яго, у сваім захапленні, як бы, напалову-бога. У сваёй надмагільнай прамове яму ён напісаў:

«Вісарыён быў адлюстраваннем боскай і сапраўднай мудрасьці».

Але Візантыя дадала сваю долю да гісторыі Адраджэння не толькі шляхам насаджэння ведання грэцкай мовы і літаратуры шляхам урокаў і лекцый, не толькі дзейнасьцю сваіх талентаў, адкрываўшых Італіі новыя гарызонты, якімі былі Плетан і Вісарыён. Яна дала Захаду амаль усе грэцкія рукапісы, прыпісваемыя зараз міфічнай антычнай літаратуры, не кажучы ўжо пра тэксты візантыйскага часу і айцоў грэцкай царквы.

Італійскія гуманісты на чале з вядомым апакрыфістам-бібліяфілам Паджыо Брачыяліні, аб'ехаўшы Італію і Заходнюю Яўропу, «знайшлі» там да трыццатых гадоў XV стагоддзя, г.азн. да эпохі Фларэнтыйскага сабора, амаль усе творы міфічных лацінскіх класікаў, якія мы зараз ведаем. А з часу з'яўлення ў Італіі Мануіла Хрысалара, ўзбудзіўшага захопленае стаўленне да міфічнай старажытнай Элады, у Італіі ўзнікла моцнае імкненне да набыцця грэцкіх кніг. Вяртаўшыяся із Візантыі італійцы, ездзіўшыя туды вучыцца грэцкай мудрасьці, **абавязкова**

---

[385] H. Vast, «Le cardinal Bessarion», IX.

прывозілі з сабой і грэцкія класічныя рукапісы, напісаныя імі самімі ці іхнымі настаўнікамі.

Першым з іх быў слухач Хрысалара ў Канстантынопалі Гуарыно, прывёзшы у Італію некалькі «старажытных» кніг. Але чым Паджыо быў для збірання падробленых помнікаў рымскай літаратуры, тым для грэцкай літаратуры быў Джавані Аўрыспа, які, выправіўшыся ў Візантыю, прывёз із Канстантынопаля, Пелапанэса і выспаў не менш 238 рукапісаў, г.азн., іншымі словамі, цэлую бібліятэку, якая складалася із большасьці вядомых нам грэцкіх класічных пісьменнікаў. І ўсе гэтыя кнігі знайшліся там толькі ў адным асобніку, чым (адпаведна з тэорыяй памнажэння агульна-цікавых рукапісаў у геаметрычнай прагрэсіі) і даводзіцца, што яны былі нядаўняга паходжання і іх яшчэ не паспелі перапісаць адпаведна з прагрэсіяй $\mathbf{a}^{x}$, дзе **a** адпавядае колькасьці перапісаных на працягу першага дзесяцігоддзя асобнікаў, а **x** адпавядае колькасць дзесяцігоддзяў прайшоўшых да знаходкі.

Так шляхам апокрыфаў XV і нават XVI стагоддзя і стварылася старажытна-«класічная літаратура», якую, дарэчы, ўсю можна размясціць у адной вялікай кніжнай шафе (пра што не патрэбна забывацца пры яе колькаснай ацэнцы)!

Наша ж новая літаратура ў высока-культурных краінах за адзін ці два гады дае нашмат большую колькасць арыгінальных твораў як у белетрыстыцы, так і ў навуцы!

Аднак, калі ў колькасным дачыненні класічная літаратура такая нікчэмная параўнальна з сучаснай і нават з літаратурай эпохі Адраджэння, то магчыма яна перасягае іх у якасным дачыненні?

І гэтага ніяк немагчыма сказаць, калі мы пазбавімся ад гіпнозу пад уздзеяннем якога прызвычаіліся яе разглядаць. Уяўленне пра яе веліч з’яўлецца толькі нашым «умоўным рэфлексам», а пры безстароннім вывучэнні яна адразу ж станавіцца як колькасна, так і якасна, на сваё сапраўднае храналагічнае месца: росквіт эпохі Гуманізму, як першая прыступка сучаснай нам літаратуры.

Вось, напрыклад, перада мной ляжыць шыкоўна выдадзены том, «Эпіграмы» ўслаўленага Марцыяла, дапасуемага да першага стагоддзя нашай эры, у перакладзе таленавітага паэта А. А. Фета, у выданні 1891 года. На левых старонках дадзены праверaны лацінскі тэкст, а на правых пераклад.

Перадусім звяртае на сябе ўвагу, што на левым, лацінскім, баку знаходзіцца нямала вершаў, якія на правым заменены кропкамі, г.азн. пакінуты без перакладу. Амаль усе яны прысьвечаны жанчынам і выключна цынічныя, што мы пастаянна знаходзім і ў сатырыкаў Эпохі Гуманізму. Для ўзору памяшчаю толькі адну 98-ю Эпіграму памерам у два радкі:

Cantasti male, dum fututa es, Aegli,
Jam cantas bene: basianda non es.
(Дрэнна спявала, Эгля, пасьля савакупленняў,
Зараз спяваеш добра: гэта азначае – не цалаваная.)

Але тут яшчэ, дзякуючы адсутнасьці звычкі да такога жанру, чалавек, не чытаўшы Раблэ і іншых сатырыкаў Эпохі Гуманізму, атрымлівае памылковае ўражанне нечага арыгінальнага. А калі пераходзіш да не цынічных эпіграм, дапушчальных і ў сучаснай літаратуры, то пачынаеш мімаволі драмаць ад наводзячай дрымоту нуды.

Вось, хаця б напрыклад, эпіграма адвакату (№197):

Калі ўсе загалосяць, прамаўляць пачынаеш ты, Нявой,
І патронам сябе і абаронцам уяўляеш.

Але тады ж, прамоўцы – усе. А зараз
Усе, вось, маўчаць... Дык вымаві ж нешта!

Ці няпраўда чытач, вельмі непараўнальна? А такіх «эпіграм з дазволу сказаць» шэрагам 678 штук!

Дык чаму ж здзіўляцца, калі ў грамадзкіх бібліятэках усіх краін сучасныя раманы, апавяданні і вершы, як арыгінальныя, так і перакладзеныя хутка псуюцца ад пастаяннай цікавасьці чытачоў і іхнага сапраўднага чытання, – класічная літаратура нават у перакладзе самых вядомых пісьменнікаў і нягледзячы на яе школьную рэкламу застаецца на працягу дзясяткаў гадоў не разрэзанай і без адзінага запатрабання? І калі існуе хаця б кропля праўдзівасьці ў старажытнай прыказцы: «голас народа – голас боскі», то ўжо адзін гэты факт дастаткова пазначае невысокую (вядома, адпаведна з узроўнем нашага часу) якасць класічнай літаратуры, такой нязначнай і адпаведна з колькасьцю, у параўнанні з навейшай.

# Частка III

## Вялікі Вавілон сярэднявечнага клерыкалізму



Мал. 143.
За агароджай старой царквы.

# Уступленне

## Псіхалогія ілжывасьці і прыкідвання.
## Старонка із курса псіхіятрыі.

Складаную механіку ўяўляе сабой чалавечы мазг, вельмі часта ў яго дзейнасьці немагчыма адрозніць праўду ад хлусні і рэчаісных уражанняў ад галюцынацый. Самыя геніяльныя думкі часта ўзнікаюць у ім сярод відавочнага трызнення. Мне ўжо даводзілася выкладаць асновы сучаснай псіхатэрапіі для

тлумачэння евангельскіх паданняў пра некаторыя дзівы «сына боскага», а зараз мне патрэбна пазнаёміць чытача і з сучасным вучэннем пра самыя звычайныя душэўныя хваробы, асабліва здольных набыць заразлівы эпідэмічны характар, як, напрыклад, рэлігійнае вар'яцтва.

Якім чынам у нашым розуме правільныя адлюстраванні з'яваў рэчаіснага сьвету здольны раптам замяняцца зданямі нашага ўласнага ўяўлення?

Назіранні паказваюць, што вельмі часта гэта адбываецца пад уздзеяннем нечаканага перапалоху. Вось, напрыклад, нядаўна надрукавана выдатная кніжка П. М. Зіноўева: «Душэўныя хваробы ў малюнках і выявах». Бяру із яе прыклад, запазычаны аўтарам із нямецкай кнігі Крэмера «Пра істэрыю».

Гаворка ідзе пра выпадкі раптоўнага вар'яцтва ад перапалоху, якія адбываліся пры разрыве артылерыйскіх снарадаў паблізу падчас ураганнага агню па акопах на працягу вайны 1914-1918 гадоў.

«Амаль побач са стаяўшым у акопе Гумліхам, – паведамляе Крэмер, – разарваўся цяжкі снарад, і хутка пасьля гэтага санітар, які знаходзіўся паблізу, пабачыў, што Гумліх робіць рукамі рухі як быццам бы грае на піяніна. Адначасова ён пачаў спяваць песьні, усклікаючы ў прамежках паміж імі:

– Зараз я іду да бацькі! Хіба вы не чуеце, як грае музыка?

Ён пачаў рабіць спробы вылезці із акопа. Толькі з вялікімі намаганнямі змаглі ўтрымаць яго і выправіць на перавязачны пункт, які знаходзіўся ў каменнавугальнай ходні таксама моцна абстрэльваемага горна-прамысловага мястэчка. Па дарозе туды Гумліх пытаўся ў кожнага сустрэчнага санітара:

– Дзе можна купіць бульбы?

Ён зайшоў у ходню з трывожным выразам твару і няцьвёрдым поглядам, быў вельмі блеклы, заламваў рукі. Спачатку ён аглядаўся па баках, як быццам чагосьці шукаў, потым рашуча падышоў да лекара з пытаннем:

– Ты Густаў?

І потым зараз жа:

– Не, ты не Густаў. Дзе ж ён?

Жыва, але манатонным, скардзячымся голасам ён пачынае распавядаць, што выпраўлены маці са сваім малодшым братам дастаць бульбы, а на вуліцы Густаў адбіўся ад яго. Далейшая яго размова была запісаная стэнаграфічна:

– Тут феерверк. І кабель ляжыць на вуліцы, але нічога не бачна, увесь час валішся. Нам патрэбна бульбы, толькі, вось, няма Густава; ён, напэўна, на музыцы.

– Дзе гэта вы чуеце музыку? – пытаюць яго.

– Ды гэта там, знадворку. Яны вырабляюць такі шум, такі жудасны шум! Але што ж гэта Густаў так затрымаўся? Толькі б ён своечасова прыйшоў, каб можна было дастаць бульбы. Інакш бацька будзе сварыцца. Бацька галодны, а ў нас больш няма хлебных картак.

Увесь час ён дапытліва аглядаецца вакол сябе. Лекар паказвае яму перавязнае пасьведчанне, на якім каля яго прозвішча пазначана «нярвовы шок», і пытае:

– Што гэта азначае?

Хуткі адказ:

– Гэта сяброўская картка спажывецкага таварыства, мне патрэбна купіць бульбы.

– Як ваша імя?

– Гэта напісана на картцы.

– Вы із Лейпцыга?

– Так.

Із гэтай і далейшых размоваў бачна, што вёску, дзе знаходзіцца пункт, ён лічыць за Лейпцыг; вясковую вуліцу –.за адну із вуліц Лейпцыга; варонкі ад

снарадаў – за ямы для пракладання кабелю; грукат бамбавання – за музыку і феерверк. Яму робяць раптоўную і рэзкую заўвагу:

– Але, тут жа вайна!

Ён некалькі секунд тупа глядзіць перад сабой, а потым яго рысы раптам робяцца больш выразнымі, як быццам бы ён зразумеў.

– Крыг[386]? А, гер Крыг Петарштрасэ[387]? Ды, гэта гандляр, ён мае імя Крыг.

– А што на вас надзета?

– Гэта? Гэта мая шэрая летняя куртка.

– А гузікі на рукаве?

– Гузікі? Так... Як сюды патрапілі гузікі? Мне патрэбна дастаць бульбы.

І зноў гісторыя пра Густава і хлебныя карткі. Пакінуты на працягу чвэрці гадзіны сам па сабе, ён стаіць пасярод ажыўленай штурханіны перапоўненай ходні, каля сьцяны, у напружанай паставе, з неўразумела растапыранымі рукамі і нахіленай галавой, і глядзіць шырока расчыненымі вачамі на нейкую пляму, уяўляючы сабой выяву поўнага аслупянення. На зноў прапанаваныя яму пытанні ён зноў пачынае манатонным голасам жаліцца з нагоды бульбы, і на сьмех, які іншы раз не былі ў стане задушыць стаяўшыя вакол яго жаўнеры, не рэагуе цалкам, не звяртаючы ўвагі таксама і на параненых.

Праз паўгадзіны ён быў накіраваны на галоўны перавязачны пункт. Выпраўляўшы яго санітар, вярнуўшыся назад, паведаміў, што на працягу усёй цяжкай дарогі па перапоўненай варонкамі мясцовасьці, пад безперапынным агнём, Гумліх паводзіў сябе хутчэй як суправаджаючы, чым як суправаджаемы, дбайна выцягваючы свайго спадарожніка із варонак, у якія той некалькі разоў трапляў. Калі праваднік, нарэшце, паказаў яму, як цэль да якой яны ішлі, санітарны вагон, і паведаміў, што там сядзіць яго Густаў, Гумліх з бачнай палёгкай пабег да вагона і адразу ўскочыў у яго.

Далейшы лёс яго невядомы, але вось некалькі радкоў пра вынік іншага падобнага выпадку.

Відмайер быў дастаўлены на франтавы нярвовы прыёмны пункт адразу ж пасьля пачатку псіхоза. Тут ён ляжыць на ложку, вырабляючы разнастайныя тэатральныя рухі цела: нешта шукае, як быццам бы апранае на сябе зброю. Тэмп рухаў павольны, вырабляючы ўражанне стомленасьці. Ён паведамляе сваё імя, нешта лапоча пра непагоду, а акрамя гэтага – нічога. Пакінуты сам на сябе, ён заплюшчвае вочы і больш ні на што не рэагуе. Толькі аднойчы ён паскардзіўся на галаўны боль. На працягу бліжэйшых двух дзён ён вельмі шмат спіць, цалкам аглушаны і толькі тэатральнымі жэстамі дае зразумець, што ў яго баліць галава. На трэцці дзень пасьля прыёму ў лазарэт, у восем гадзін вечара, адбылося яго «абуджэнне», зрабіўшае на ўсіх вельмі моцнае ўражанне. Дзяжурны санітар, паведамляючы пра яго, выказваўся:

– «Гэта было, як абуджэнне ад наркозу.

Відмайер прабудзіўся, як ад спання, ён здаваўся вельмі здзіўленым, пытаўся, дзе ён і што з ім адбылося. Пачынаючы з моманту абуджэння ён стаў зусім іншым чалавекам, чым быў да таго: спакойным, простым, зразумелым і правільна паведамляючым пра сябе. Ні сьледу тэатральнасьці і істэрычных рыс.

У апісаных выпадках, – паведамляе аўтар, – важна пазначыць наступныя асаблівасьці: 1) раптоўнае развіццё захворвання, 2) змрокавы стан усведамлення,

---

[386] Kreig, па-нямецку, – вайна.

[387] Вуліца ў Лейпцыгу.

характэрызуемы поўнай стратай бачнай сувязі паміж перажываемым і папярэднічаўшым, 3) асаблівую тэатральнасць і падкрэсленасць, як бы знарочыстасць паводзін хворых і, нарэшце, 4) раптоўнае «абуджэнне», характэрызуемае пераменай манеры сябе трымаць.

Калі прааналізаваць псіхоз Гумліха грунтуючыся на яго змесце, то высвятляюцца яшчэ некаторыя цікавыя рысы. Наколькі можна зразумець, бяручы да ўвагі паводзіны і прамовы Гумліха, ён перажывае нешта нагадваючае сон, знаходзячыся ў некаторай сувязі з адбываючымся навокал. Толькі замест бамбавання Гумліх чуе музыку, а замест вайсковага начальства баіцца бацьку. Із гэтых двух матываў (музыка і баязнь перад бацькай), як бы падстаўленых у яго сьвядомасьці замест адкінутых абставін вайны, лёгка і натуральна развіваецца змест ладзімай ім пастановы. Замест грознай рэчаіснасьці з'яўляецца нядаўняе мінулае, пры гэтым выбіраецца сітуацыя, да некаторай ступені адпавядаючая перажываемаму хворым пачуццю і яшчэ даходзячым да яго сьвядомасьці ўрыўкам небяспечных знешніх уражанняў, але ўсе рысы гэтай сітуацыі набываюць характар бяспечнасьці.

Хворы працягвае знаходзіцца пад уплывам прыгнятаючай трывогі, ён чуе турбуючы яго шум, ён адчувае навісаючую над ім магутнасць і вымушаючую яго рабіць не тое, што ён жадае. Усё гэта дазваляе яму без вялікіх прыдумак тлумачыць сваю трывожную ўзрушанасць, адкінуўшы, аднак, ад апошняй трагічны жах за сваё жыццё і ператварыўшы ўсё ў сваё дзіцячае перажыванне. Павучанні і пярэчанні пра неадпаведнасьці, якія маглі б выдраць яго із гэтай суцяшаючай ілюзіі, кожны раз безвынікова адскокваюць ад яго, таму што ён хутка імправізуе разнастайныя дапамагаючыя прыдумкі. Перавязкавае пасьведчанне з абяззбройваючай прастатой ператвараецца ў сяброўскую картку спажывецкага таварыства, шэры паходны мундзір у новую шэрую летнюю куртку, і нават фатальнае слова «вайна» набывае няшкоднае значэнне, у якасьці імя нейкага гандляра ў Лейпцыгу.

Такім чынам, псіхоз Гумліха мае і сэнс, і мэту. Яго заданне – вывесьці слабанярвовага, недаросшага да ўмення ўстойліва пераносіць выпрабаванні вайны маладога жаўнера із невыноснага для яго становішча. Гэтае заданне выконваецца ў двух накірунках: з аднаго боку, Гумліх атрымлівае магчымасць дамагчыся сваёй душэўнай хваробай сапраўднага вызвалення ад вайсковай службы, а з другога – ён адразу ўнутрана вызваляецца ад вайны і ўсіх яе жахаў. У першым накірунку дзейнічае драматычнасць несьвядома выконваемай ім ролі, мэта якой прыцягнуць да яго становішча спачуваючую ўвагу атачаючых, у другім накірунку дзейнічае псіхапаталагічны працэс, які Фрэйд назваў «выцісканне».

Гэтае «выцісканне», – дададзім мы ад сябе, – па сваёй псіхалагічнай сутнасьці блізка з уласцівым кожнаму чалавеку імкненнем не думаць пра перажытую ці нават перажываемую непрыемнасць. У тых выпадках, калі непрыемнае перажыванне дасягае асаблівай магутнасьці і робіцца цалкам непераносным для суб'екта, а крыніца гэтага перажывання застаецца незнішчаемай, мозг чалавека па-за валявымі намаганнямі цалкам выціскае рэчаіснасць у вобласць несьвядомага, у мазгавыя паўшар'і із вобласьці неспячага ўсведамлення, базуемай па нашых уяўленнях у мазжачку. У дадзеным выпадку не спячае ўсведамленне пад уплывам моцнага перапалоху цалкам знікае, а выціснуты ім «комплекс»[388]

[388] Комплексам Юнг называе сукупнасць думак і пачуццяў, уступаючых тым ці іншым шляхам у сувязь з якім бы то ні было эфектыўным перажываннем. Фрэйд малюе комплексы як злучаныя ўнутраным адзінствам

ранейшых думак і пачуццяў, злучаных адзін з адным, працягваў у пераіначаным выглядзе сваё існаванне ў змрокавым стане вялікага мозгу, ўяўляючым сьвядомасць ужо цалкам іншага роду, аналагічную сну ці перажыванням падчас гіпнозу.

Але вернемся зноў да апавядання пра перажыванні Гумліха.

«Бацька для яго змрокавага ўсьведамлення, – выказваецца І. М. Зіноўеў, – мае выразна падвойнае значэнне. З аднаго боку, ён з'яўляецца бяскрыўдным замяшчальнікам выціснутага вайсковага начальства, а з другога, – выконвае для Гумліха тую ж ролю, якую звычайна дзеці ўскладаюць на бацькоў – ролю надзейнай апошняй абароны, ролю чалавека, прынімаючага бягучага ад жаху дзіцёнка ў свае магутныя абдымкі».

Гэтае вяртанне да перажыванняў дзяцінства атрымала ў псіхіятрыі назву пуэрылізм. Яно ўяўляе самы пашыраны накірунак, у якім развіваюцца псіхагенныя змрокавыя станы, і гэтыя станы выяўляюцца не толькі ў форме закончаных выяваў, а яшчэ больш часта ў агульным перабольшаным перайманні паводзін маленькага дзіцяці. Пуэрылізм, акрамя таемнай мэты больш выразна выканаць сваю ролю перад атачаючымі, мае і ўнутраны сэнс для хворага, энергічна выціскаючы непрыемную рэчаіснасць і ставячы на яе месца пажаданую для чалавека ў небяспечным становішчы сітуацыю адсутнасьці адказнасьці і знаходжання пад абаронай. Дзіцёнак павінен гуляць і смяяцца, а разблытванне цяжкага становішча ён мае права перадаць іншым.

Але чытач ужо бачыць, што ролю індывідуальнага бацькі можа выконваць і агульны бацька – бог, а калі пасьля шматлікіх горкіх расчараванняў пры зваротах да яго заступніцтва знікла вера ў яго, і ў яго сына, то яго добрая жонка, будзе заўсёды «наша заступніца і спадарыня».

Так ад псіхіятрыі мы прыходзім да натуральнай тэалогіі і бачым, што першапачатковае аддане сябе «на волю боскую» з адмаўленнем ад самаабароны павінна было развіцца, як у гэтага Гумліха, сярод катастроф, перад якімі былі нямоглымі якія б то ні было чалавечыя намаганні. І вось, як бы адказваючы на гэтую думку і на тое, што я паведамляў раней пра ўплыў вулканічнай дзейнасьці Вязувія на развіццё біблейскай тэалогіі, той жа аўтар працягвае:

«Гэтыя пуэрыльныя рысы добра выяўляюцца ў змрокавых станах, назіраўшыхся ў асоб, патрапіўшых у катастрафічныя становішчы. Вось, выпадкі вострых псіхозаў, узнікшых падчас аднаго із землятрусаў. У сем гадзін раніцы, хутка пасьля землятрусу, можна было бачыць, як займаючы бачнае становішча немец, пазбегнуўшы сьмерці, у адной начной кашулі паліваў у садзе кветкі із лейкі. Другі, купец, страціўшы сямейства і сядзібу, ішоў пасьля катастрофы па набярэжнай, таксама ў адной кашулі і панталонах, трымаючы ў руках вялікага селядца і ўвесь час пра сябе пасмейваючыся. На трэццяга няшчасьце, здавалася, не вырабіла ніякага ўражання. Ён цалкам нічога «не ведаў» пра яго, хаця бачыў сваю абваліўшуюся сядзібу і чуў, як яго сябры размаўлялі паміж сабой пра пагібель яго сям'і. Калі з ім загаворвалі, ён адказваў неадпаведна пытанню і ўвесь час смяяўся. А да гэтага ён быў выдатным сем'янінам. У адной сям'і застаўся цэлым толькі сямнаццацігадовы юнак. Напорам паветра яго выкінула ў вакно, пасьля чаго ён, апынуўшыся ў поўнай цэласьці на суседнім лужку, адразу падняўсяў і кінуўся на ўцёкі, нікольні не клапоцячыся пра сваю сям'ю. Недзе, зусім у іншым месцы, ён пачаў удзельнічаць у ратавальных працах, але пры гэтым паводзіў сябе безсэнсоўна, як блазан. Псіхічная блытанасць працягвалася ў яго больш тыдня. На працягу усяго часу ён цалкам не турбаваўся пра тое, што здарылася, не пытаў нічога пра сваё сямейства, не цікавіўся

---

псіхічныя фармаванні, якія, застаючыся па-за ўсведамленнем, актыўна ўдзельнічаюць ва ўсіх жыццёвых станах суб'екта.

тым, ці жывы нехта із яго родных ці не, і цалкам нічога не ведаў пра тое, што адбылося. Цэлымі днямі ён безсэнсоўна блукаў без сюртука, але ў накрухмаленай кашулі. А 65-гадовы сакратар банка на працягу ўсёй ночы крычаў, заклікаючы даўно памёршых бацькоў:

– Тата! Мама! Тата! Мама!

Лекара ён лічыў маршалам, а наведаўшага яго сына назваў бацькай...»

«Пуэрылістычныя станы, – паведамляе далей той жа аўтар, – развіваюцца часам і ў асоб, якія знаходзяцца ў зняволенні, калі ім пагражае пакаранне сьмерцю. Такія людзі выяўляюць часта нават рысы як бы наўмыснай безсэнсоўнасьці ці прыкідлівасьці. Хворыя выказваюць і робяць відовочную несусьвеціцу, не ведаюць пра свой узрост, лічаць лічбы з вельмі вялікімі памылкамі і г.д. Пры гэтым адны з іх жаляцца на галаўны боль, ляжаць у ложку, павярнуўшыся тварам да сьцяны, і часта адмаўляюцца адказваць на пытанні, як бы не разумеючы іх, іншыя ж паводзяць сябе неразумна-наіўна, звяртаюцца да лекара на ты і ўжываюць дзіцячыя моўныя выказванні. Яны малююць дзіцячыя фігуркі, цэлы дзень гуляюць, як малыя дзеці, пераключаючы ўвагу на кожную дробязь, здзяйсняюць з іншымі хворымі розныя выхадкі, нагадваючыя дзіцячыя свавольствы, і г.д. Асабліва характэрнай з'яўляецца іхная рэакцыя, якую яны даюць на спробы высьветліць стан іх разумовых здольнасьцей. Паказваемыя ім рэчы яны часта называюць не тымі найменнямі, на прашэнне прывітацца, адчыніць дзьверы, запаліць свечку і г.д. рэагуюць ці не маючымі сэнсу ці пераіначанымі рухамі (спрабуюць запаліць свечку не тым канцом і г.д.). Яны часта выяўляюць бачную цяжкасьць у выбары слоў для адказу, лічаць раскладзеныя на стале грошы не адпаведна з пазначанымі на іх  лічбамі, а згодна з колькасьцю манет, ці здзяйсняюць самыя простыя аперацыі злічэння так, як сапраўдны неразумны ніколі не будзе лічыць, напрыклад: 2+2=5; 3*3=15».

«Псіхалагічны механізм узнікнення падобных станаў асабліва празрысты. Хворы ў роспачы і жаху, ён не бачыць выйсьця, толькі недзе ў куточку сьвядомасьці хаваецца думка, што, магчыма, вар'яцтва выратуе яго. І вось, сапраўды, пажаданы псіхічны разлад развіваецца, і менавіта ў той форме, у якой ён ўяўляецца невуцкаму ўсьведамленню зняволенага. Тут мы падыходзім да мяжы, за якой хвароба заканчваецца і пачынаецца яе сімуляцыя, пры гэтым патрэбна падкрэсліць, што рэзкай мяжы паміж той і іншай няма: псіхагенія непрыкметна пераходзіць у сьвядомы падман».

Чытач бачыць сам, што праявы вострага псіхозу, маючага назву раптоўнага упадзення ў дзіцячы стан, падчас катастроф тлумачаць цэлы шэраг хрысьціянскіх рэлігійных догмаў, накшталт «бог адзіны ў трох асобах», аналагічна вышэйпрыведзеным арыфметычным неадпаведнасьцям і г.д. А калі гэтыя катастрофы бываюць усеагульнымі, накшталт землятрусу ці вострай маравой язвы, то і псіхоз непазбежна робіцца ўсеагульным. Ім можна патлумачыць значную частку зместу Апакаліпсіса, у якім і паведамляецца пра землятрус:

«*І адбыліся маланкі і грамы, і гукі, і адбыўся вялікі землятрус, якога не было з тых часоў, як людзі на зямлі, і Вялікі Горад распаўся на тры часткі, і гарады паганцаў абваліліся, і вялікая Брама Госпада* (Баб-Ілу) *была згадана перад богам, каб даць ім выпіць чарку з віном яго гневу і лютасьці, і кожная выспа збегла, і горы разваліліся, і град* (камянёў) *велічынёй з талент паваліўся з неба на людзей, і лаялі людзі бога за пашкоджванні ад гэтага граду, таму што раны ад яго былі цяжкімі*» (Апак. XVI, 18-21).

А ў іншым месцы:

«*Калі Авен зняў* (з неба) *шостую пячатку* (воблакаў), *я зірнуў, і, вось, адбыўся вялікі землятрус, і сонца стала змрочным, як валасяная торба, і месяц зрабіўся як крывавая пляма, і зоркі нябесныя пападалі на зямлю, падобна таму як смакаўніца, устрасаемая моцным ветрам, губляе свае няспелыя плады, і нябеснае скляпенне згарнуўшыся як скрутак, і кожная гара і выспа ссунуліся са сваіх месцаў, і цары зямныя, і*

*вяльможы, і заможныя, і моцныя, і вайскаводы, і рабы, і вольныя – усе схаваліся ў пячоры і цясьніны гор і казалі горам і камяням: упадзіце на нас і схавайце нас ад твару седзячага на нябесным пасадзе і ад гневу Авена*!» (Ап. VI, 12-16).

Цалкам такія ж ці яшчэ больш дэталізаваныя апісанні землятрусаў і вулканічных вывяржэнняў я ўжо паказаў у другой кнізе «Хрыста». Із іх выразна бачна, што адносна залежнасьці біблейскага і хрысьціянскага апакаліптычнага веравучэння ад вялікіх сейсмічных узрушэнняў Міжземнаморскага этнічнага басейна, адбыўшыхся напярэдадні ўзнікнення Апакаліпсіса і біблейскіх кніг, не можа быць ніякіх сумневаў. А тая акалічнасць, што ўсё гэта здзяйснялася не да пачатку нашай эры, а на працягу яе IV стагоддзя, дастаткова даказана мной у папярэднічаўшых тамах астранамічнымі вылічэннямі тых месцаў «сьвятога пісання», якія відавочна з'яўляюцца не прыдумкамі і не сімвалізмамі, а выспачкамі рэчаіснасьці, падняўшыміся над узроўнем напалову затапіўшага іх хваравітага трызнення.

Пяройдзем зараз ад біблейска-хрысьціянскай тэагоніі да непарыўна злучанай з ёю (згодна з першакрыніцамі) еўрапейскай сярэднявечнай гісторыі. Калі першая з’яўляецца тыповай праявай той формы вострага эндэмічнага вар'яцтва, якая называецца пуэрылізмам, то другая носіць яскравыя сляды іншай, ужо не вострай, а хранічнай хваробы, якая звычайна называецца істэрыяй, і якая моцна пашырана сярод мала культурных пластоў чалавецтва і да сучаснасьці.

«Тыпы, маючыя назву істэрычных, – выказваецца д-р Ясперс, – вельмі шматстайныя. Але кожны, хто пажадае апісаць істэрыка адной характэрнай рысай, скажа: істэрычная асоба замест таго, каб задавальняцца сваім рэчаісным становішчам і жыццёвымі магчымасьцямі, адчувае патрэбу выглядаць перад іншымі і сабой не у тым выглядзе, чым яна з’яўляецца на самай справе, а ў тым, якім жадала б быць. Замест непасрэднага перажывання рэчаіснасці ў яе выступае нешта штучнае, выконваемае, акторскае, са здольнасьцю цалкам жыць у сваім тэатры, цалкам быць паглынутым у дадзены момант сваёю гульнёй, і дзейнічаць такім чынам з выглядам шчырасьці. Із гэтага лёгка можна вывесьці і ўсе астатнія рысы такой асобы».

«Істэрычная асоба, нарэшце, як быццам бы цалкам губляе сваё ўнутранае ядро, яна робіцца складаючайся толькі із перамяняемых абалонак. Адна тэатральна пастанова замяняецца ў яе іншай. Як у сябе самой, так і ў іншых яна стварае веру ў наяўнасьці сваіх інтэнсіўных перажыванняў з дапамогай празмерна выразных рухаў, сапраўдны псіхічны грунт якіх, аднак, адсутнічае. Каб стварыць у сябе ўпэўненасць у сваім вылучным значэнні, істэрычныя людзі павінны заўсёды мець ролю, яны імкнуцца ўсюды зрабіць сябе цікавымі нават коштам страты свайго гонару. Яны няшчасныя, калі нават на працягу кароткага часу на іх не звяртаюць увагу, не спачуваюць ім, таму што ў такім выпадку адразу пачынаюць адчуваць сваю пустэчу. Яны бязмерна раўнівыя і ім падабаецца роля пакутнікаў і прыгнечаных, пры гэтым пры наяўнасьці вядомых акалічнасьцей могуць быць бязлітаснымі ў прычыненні сабе пакут нават коштам наўмысных пашкоджанняў, толькі б забяспечыць адпаведнае ўздзеянне на іншых. Каб узмацніць перажыванне і знайсьці новыя магчымасьці вырабляць уражанне, істэрычная асоба хапаецца – спачатку сьвядома – за хлусню, якая, аднак, хутка ператвараецца ў неўсведамляемую «паталагічную ілжывасць» (pseudologia phantastica). Так узнікаюць самаабвінавачанні і намовы на іншых, хлестакоўшчына, пры гэтым хворыя падманваюць не толькі іншых, але і сябе, і губляюць усведамленне рэчаіснасьці. Фантазія робіцца іхнай рэчаіснасьцю.

«Варта дапоўніць, – дадае да гэтага П. М. Зіноўеў, – што шмат якія адгалінаванні істэрычнага характару маюць у сабе нейкі адбітак няспеласьці, дзіцячасьці, прымітыўнасьці, выяўляючайся ва няўстойлівасьці і пераменлівасьці іхнага настрою і

захапленняў, крайняй унушальнасьці і паслабленай здольнасьці супраціўлення ўплыву моцных перажыванняў»[389].

І вось, праглядаючы першакрыніцы, нашай старажытнай гісторыі, мы паўсюдна знаходзім у іх сьляды той жа самай душэўнай хваробы, якую псіхіятры клічуць «паталагічная ілжывасць» і якую мы так часта сустракаем, нават і зараз, у атачаючым жыцці, калі яно не апраўдвае чыіх-небудзь надзеяў. Так, у жонкі раптам «расчыняюцца вочы» на свайго чалавека, «калі ён не апраўдаў яе дзявочых чаканняў бліскучага, забяспечанага жыцця, і ўсё ёй пачынае ўяўляцца ў ім у перакручаным выглядзе. У шэрагу папрокаў яна прыпісвае яму ўчынкі, якіх ён не здзяйсняў, словы, якія ён ёй ніколі не выказваў, і падахвочванні, якія яму ніколі не прыходзілі ў галаву, а пры самым найменшым пярэчанні яна яшчэ больш распальваецца і з поўнай перакананасьцю кажа яму, што ў давяршэнне да ўсяго астатняга ён яшчэ не маючы сораму падманшчык.

Тое ж самае робіць палітычны прамоўца ці пісьменнік-палеміст, крытыкуючы свайго суперніка. І ў яго «расчыняюцца вочы» не толькі на яго суперніка і на ўсіх яго прыхільнікаў, «несумнеўных ашуканцаў і шарлатанаў», але ён пачынае бачыць сваімі «расплюшчанымі вачамі» і ніколі не існаваўшыя дакументы, служачыя ў якасьці падмацавання яго ўласных думак і ў якасьці аспрэчвання думак яго супернікаў. Усе разумныя і знакамітыя людзі, – сцвярджае ён самаўпэўнена, – былі на яго баку, і ён як пад гіпнозам прыдумляе ад іхнага імя цэлыя прамовы і дакументы. А калі яму раптам, пад час хвіліны працьверажэння, і з'яўляецца думка, што ён усё гэта сам жа прыдумаў, то ён зараз жа апраўдвае сябе тым, што для выкрывання падманшчыка цалкам дапушчальна і нават практычна неабходна ўжываць тую ж самую зброю. Але і яго супернік, пярэчачы, ужывае для свайго апраўдання той жа сафізм, і ў выніку назапашваецца такая піраміда збольшага істэрычнай падсьвядомай і збольшага цалкам сьвядомай хлусні, што наступны безстаронні дасьледчык (якім можа быць толькі той, хто ўжо падняўся вышэй узроўню звычайных палемістаў ці зрабіўся абыякавым да вынікаў іхнай састарэлай для яго спрэчкі) наогул не будзе ў стане разабрацца і прыйдзе да самых фантастычных уяўленняў, **пакуль не пачне глядзець на свае першакрыніцы з псіхіятрычнага боку гледжання**.

Шматлікія сьляды гэтай паталагічнай ілжывасьці (pseudologia phantastica) бачны паўсюдна не толькі ў багаслаўскіх палемічных творах, але і ў большасьці аўтараў, апісваючых сучасныя ім бурныя праявы грамадзкага жыцця, асабліва пад час сярэдневечча ў Яўропе і пад час Эпохі Адраджэння. І нават зараз шмат хто із нас, не ў стане цалкам пазбавіцца ад яе. Можна прама сказаць, што кожны раз, калі спакойнае абмеркаванне нейкага не толькі грамадзкага, але і навуковага пытання пераходзіць у так званую «гарачую спрэчку», паталагічная ілжывасць прамоваў пачынае ўдасканальвацца і замяняць у спрачаючыхся іхнае натуральнае імкненне да праўды імкненнем да вонкавай перамогі над супернікам, і ў выніку спрэчкі кожны застанецца пры сваёй думцы, якой бы ні была яна недарэчнай.

Асабліва ж паталагічная ілжывасць узбуджаецца увагай староннія слухачоў да схільнага да гэтай хваробы суб'екта, які звычайна з'яўляецца як бы адзіным у трох асобах, адпаведна таму, у якім становішчы ён знаходзіцца: у адзіноце, удваіх ці ў перамяшанай кампаніі мужчын і жанчын. У кожным із гэтых становішчаў у яго асобны характар. І калі вы жадаеце пераканаць яго ў нейкай праўдзе, пра якую ён яшчэ ніколі не думаў, то абавязкова павінны загаварыць з ім пра яе сам-насам, а не

[389] Зіноўеў, стар. 160.

пры публіцы, як я не раз знарок рабіў, калі меў жаданне пераканаць у нечым свайго схільнага да спрэчак таварыша, асабліва ў эміgranцкім асяроддзі.

Гэтую ж акалічнасць заўсёды патрэбна мець на ўвазе і пры ацэнцы гістарычных дакументаў. Найменш надзейнымі із іх з’яўляюцца тыя, якія маюць найменне «Словы і Прамовы» таго ці іншага старажытнага аўтарытэта. У большасьці выпадкаў усё гэта суцэльныя праявы толькі-што апісанай паталагічнай ілжывасьці, аўтарам якой была нават не славутасць, а нейкі больш позьні, невядомы аўтар, пісаўшы сваю псеўдалогію ад імя нейкага аўтарытэта.

Не пазбеглі праяваў гэтай хваробы і ўсе літаратурна апрацаваныя буйныя творы па грэцкай і рымскай гісторыі да пачатку крыжовых паходаў, а таму і ніводны із іх, супярэчачы закону натуральнай эвалюцыі чалавечай культуры ў нейкай із яе шматлікіх праяў, не можа служыць аспрэчваннем таго ці іншага асноўнага сацыялагічнага закона, выводзімага тэарэтычна, а павінны быць прызнаным чыста паталагічным.

Няма ніякіх сумневаў, што зародкам якой бы то ні было псіхапатычнай ілжывасьці дарослага чалавека з'яўляецца пераймальнасць дзіцянства, а гэтая пераймальнасць узнікла із мімікрыі, назіраемай нават і на сярэдніх прыступках жывёльнага сьвету. Я ўжо не згадваю пра тыя праявы пераймальнасьці, якія выпрацаваліся шляхам натуральнага адбору ў змаганні за існаванне, як напрыклад, набыццё некаторымі звычайнымі мухамі выгляду джалячых вос, дзякуючы чаму іх пазбягаюць ластаўкі. У гэтай мімікрыі псіхалагічны фактар не мае ніякай ролі. Я не буду згадваць таксама і пра тое, як, напрыклад, жучок, напалоханы тым, што вы ўзялі яго ў руку, прыкідваецца памёршым: што можа быць патлумачана простай непрытомнасьцю. Але, ж, пачатае міжвольна, суправаджаецца, асабліва ў больш развітых псіхічных істот сьвядомым працягам. Так паўтараецца і нерухомы стан, калі, апрытомнеўшы, нехта бачыць, што ён выратаваў яго ад сьмяротнай небяспекі.

Ва ўсякім разе, першападставай кожнай неўсведамляемай прыкідлівасьці з'яўляецца адчуванне сваёй слабасьці, якое ўласціва кожнай жывёле пад час яго дзіцячага ўзросту, а потым схільнасць да прыкідлівасці ці праходзіць ці ператвараецца ва ўмоўны рэфлекс. У апошнім выпадку ў чалавека выпрацоўваецца здольнасць амаль заўсёды адчуваць сябе не тым, чым ён з’яўляецца на самай справе, а тым, чым яму пажадана было б быць. У выніку такой звычкі да вечнага акторства чалавек часта здаецца на выгляд адважным, а ў выпадку сапраўднай небяспекі выяўляецца вартым жалю баязліўцам; ён запэўнівае ў сваім вечным сяброўстве, а як толькі яно робіцца нявыгадным, адразу кідае свайго сябра, і г.д. І гэта звычка выстаўляць сябе лепшым, чым ёсць на самай справе, заўсёды прыносіць больш усяго гора таму, хто не здолеў ад яе пазбавіцца пасьля таго перыяду, як перастаў гуляць у лялькі.

У іншых выпадках першапачатковая мімікрыя больш бяскрыўдная і нават карысная. У праўдзівага па натуры дзіцяці адчуванне дзіцячай бездапаможнасьці выклікае натуральнае жаданне пераймаць дарослым. У павярхоўнага – гэта выяўляецца ў вонкавай пераймальнасьці, напрыклад у курэнні тытуню (перасільваючы першапачатковую млоснасць), а ў больш разумных – у імкненні набываць тыя веды і таленты, якія характарызуюць найбольш паважаемых ім людзей, і ісьці адпаведна з іхным шляхам. Але чым больш таленавітым з’яўляецца фармуемы із адоранага дзіцяці чалавек, асабліва ў навуцы і літаратуры, тым больш у яго бывае недаверу да сваіх магчымасьцей і здольнасцей, а таму ўзнікае імкненне праверыць сябе пад выглядам цалкам чужога сабе чалавека, і падобныя

прыкідлівасць асабліва часта сустракаецца ў таленавітых паэтаў і белетрыстаў пры першых іхных дэбютах і выяўляецца выдаваннем свайго твору ананімна ці пад псеўданімам.

Так, згодна з падлікамі Яўгена Лана[390], Вальтар Скот у 1814 годзе надрукаваў свой раман Веверлей, схаваўшы сваё імя. Рычардсан у 1741 годзе надрукаваў сваіх «Памэлу» і «Кларысу Гарлоу» ананімна. Поп таксама адважыўся выступіць без маскі і выдаў свае «Крытычныя досьледы» ў 1711 годзе ананімна; толькі на сёмым выданні ён вырашыў паставіць сваё імя. Юм ананімна дэбютаваў у 1739 годзе двума тамамі «Досьледаў пра чалавечую прыроду» і пачынаючы з 1742 года, ананімна друкаваў свае «Ночы», меўшыя такі вялікі ўплыў на еўрапейскую паэзію сярэдзіны XVIII стагоддзя. Адзін із лепшых прадстаўнікоў «Азёрнай школы» Кэміпбэль выпусьціў сваю першую кнігу «Паэмы» ў 1813 годзе так сама без імя, як і яго паплечнік Чарльз Лэмб (Lamb), рэстаўраваўшы ў ангельскай літаратуры XVI стагоддзе. Пачынаў сваю кар'еру пад маскай і Альфрэд Тэнісан. Яго «Паэмы» выйшлі ў 1827 годзе ад імя «Двух Братоў», якімі па сутнасьці і з'яўляліся Альфрэд і яго два браты. Ананімна спачатку надрукаваў свае раманы і Бульвер-Літон. А калі іхны поспех вымусіў крытыкаў загаварыць пра аўтара, ён упершыню паставіў сваё імя на рамане «Caxtons». Рэскін выбраў для сваіх першых нарысаў у «London Architectural Magazin» у 1837 годзе псеўданім Rata Phusin, а першыя два тамы сваіх «Сучасных мастакоў» выпусьціў пад псеўданімам «Craduate of Oxford». Асьцерагаючыся некаторых крытыкаў, здзекваўшыхся над шатландцамі пішучымі ангельскія раманы, Вільям Блэк ананімна выступіў са сваім раманам «A Daughter of Heth», поспех якога быў вельмі велікім. Грант Ален падпісваў свае першыя раманы псеўданімам Wilson і Power, а калі яго слава пашырылася, вырашыўся пакінуць сваю кар'еру навукоўца і выступіў пад сваім імем. Пачынаў з ананімнага дэбюту і Томас Гардзі, выпусьціўшы ў 1871 годзе раман «Роспачныя сродкі», а Голсуорсі стаў падпісваць творы сваім імем толькі пасьля таго, як надрукаваў першыя чатыры кнігі, прыкрыўшыся псеўданімам Джон Сінджон.

«Мы не будзем памнажаць гэты пералік – выказваецца Яўген Лан, – ён дастаткова доўгі. Пазначым толькі цікавую асаблівасьць у выбары псеўданімаў жанчынамі-пісьменніцамі. Яны часта бяруць мужчынскія імёны, баючыся, што жаночае імя перашкодзіць папулярнасьці. Знакамітыя сёстры Бронтэ (Brontë), выпусціўшы свой дэбютны том паэм пад псеўданімам Эліса і Бэля, пісалі пазьней, што спыніліся на мужчынскім псеўданіме толькі таму, што крытыка ставіцца да пісьменніц «з прадузятасьцю». Грунтуючыся на тых жа меркаваннях папулярная ангельская пісьменніца Станард выбрала сваім псеўданімам Джон Вінтэр пад якім і выдала дзясяткі сваіх раманаў, як і міс Грэг, вядомая ў гісторыі літаратуры як Сіднэй Грайер. Мэры Эванс таксама перамяніла сваё імя і прозвішча на мужчынскі псеўданім, каб быць уключанай у гісторыю літаратуры як Джордж Эліёт і г.д. «Няўпэўненасць у сваіх здольнасьцях прымушала ўсіх першых пісьменніц клапаціцца пра тое, каб змаганне за прызнанне іхнага таленту не ўскладнялася спагадліва пагардлівым стаўленнем крытыкі да жаночай творчасьці».

«Цалкам відавочна, – працягвае Яўген Лан, – што першае выступленне пад псеўданімам ці ананімна абумоўліваецца баязню тых непрыемнасьцей, якія могуць быць следствам правалу кнігі. Папулярная ангельская пісьменніца Дэсманд Гумфрэй, вядомая

[390] Яўген Лан, Літаратурная містіфіцація, 1930 г. Із яе я бяру шмат прыкладаў, а ён у сваю чаргу карыстаўся працамі; 1) Octave Delpierre. Supercherie litteraire. Londres 1872. 2) Ludovic Lalanne. Curiosites litteraires. Paris. 1845. 3) I. M. Querard, des supercheries litteraires devoilees. Paris. 4) Augustin Thierry, Des grandes mystifications litteraires. Paris. 1913.

пад псеўданімам Рыта (Rita), «патлумачыла ўтойванне свайго імя нежаданнем, каб, «грамадства», у якім яна круцілася, даведалася пра чакаемы ёю літаратурны правал. Для шмат якіх «псеўданімаў» наступствы правалу маглі быць нават і нашмат больш сур'ёзнымі, чым пачуццё ніякавасьці ў «грамадстве», але ва ўсіх без выключэння выпадках жаданне схавацца пад абарону псеўданіма ўзнікае на падставе, што нязручнасьці, злучаныя з выданнем твора «без маскі» і непрыемнасьці ад гэтага не будуць перакрыты магчымым поспехам, які мог бы абараніць аўтара ад непажаданых наступстваў».

Але, вось, апасенні аўтара не апраўдаліся і твор набывае такое пашырэнне, якое можа паслужыць дастатковай абаронай. І адразу ноблымэн, асьцерагаўшыся асуджэння збоку свайго атачэння, урадавец ці клірык, не жадаўшы, каб кіраўніцтва ведала пра яго літаратурны правал, пісьменнік-дэбютант, асьцерагаючыся «правалу», ці пісьменнік, працуючы пад забралам у неспрыяльным для яго палітычным становішчы, – агаляе свой твар, і псеўданім ператвараецца ў літаратурнае прозвішча. Прысуджаны да пакарання за памфлет «Самая кароткая расправа з іншадумцамі», Дэфр, стоячы каля ганебнага слупа, абвітага гірляндамі кветак, мог не хаваць, што з'яўляецца аўтарам і новага памфлета «Гімн ганебнаму слупу», які адкрыта раздаваўся тут публіцы яго прыхільнікамі. Стэрн, схаваўшыся пад псеўданімам «Містар Ёрык», пры выданні «Сентыментальнага падарожжа», толькі пасьля поспеху сваёй кнігі паведаміў сакрэт свайго псеўданіма. Калі Браўнінг ператварыўся ў славутага паэта, ён прызнаўся ў аўтарстве і ананімна выдадзенай ім пад час маладосьці паэмы «Паліна». А Поп, прыкрыўшыся із асьцярожнасьці ананімам у сваёй паэме «Adress'd to a Friend», выдадзенай часткамі на працягу 1733-1734-х гадоў, калі ён быў ужо вядомым паэтам, скарыстаўся нават своеасаблівым яе прыкрыццём; ён знарок выкарыстаў няправільную рыфму ў адным із радкоў[391], каб ніхто не здолеў западозрыць яго ў аўтарстве, таму што ён празрыста намякаў у гэтай паэме на адну высокапастаўленую духоўную асобу. Дрэнная рыфма вырабіла сваё ўздзеянне, і майстэрскага ў рыфмоўцы Попа, згодна з успамінамі Харта, ніхто не западозрыў у яе аўтарстве. Калі ж апасенні паэта пра наступствы яго асабістага выпаду супраць духоўнай асобы не апраўдаліся, ён паведаміў пра свой ананім. Знакаміты Сэмюэль Джонсан, пісаўшы свае палітычныя трактаты ананімна, упершыню абвясьціў пра сваё аўтарства, калі грамадзкае меркаванне зацьвердзіла за ім славу «літаратурнага дыктатара».

Так, няўпэўненасць у сабе аўтара стварае яму цэтлік, на які ён перакладае ўсю адказнасць, а калі яго цэтлік уславіўся, аўтар выяўляе сябе. Нават сам Сэнт Беф, асьцерагаючыся «прыдзірак» крытыкі да свайго першага вертэраўскога томіка вершаў 1829 года, назваў яго «Жыццё і вершы Жозэфа Дэлорма», прыпісаўшы ў прадмове гэтую кнігу памёршаму студэнту-медыку і дадаўшы яго біяграфію. «Бацька амерыканскай літаратуры» Вашынгтон Ірвінг таксама пачаў сваю пісьменніцкую кар'еру містыфікацыяй[392], каб потым – пасьля яе поспеху – паведаміць пра сябе, і ніколі больш да містыфікацый не звяртаўся. У 1809 годзе ў нью-ёркскіх газетах з'явіліся аб'явы, паведамляўшыя, што ў Нью-Ёрку ў «Калумбійскім гатэлі» адзін археолаг, Дзітрых Нікэрбокер, з'ехаў, не заплаціўшы грошы, а таму ўладальнік гатэля знайшоўшы ў нумары яго рукапіс, вырашыў надрукаваць яго, каб пакрыць страты. Не задавальняючымся гэтым Ірвінг размясьціў у філадэльфійскіх газетах шэраг аб'яваў, у якіх уяўны ўладальнік нью-ёркскага гатэля Сэт Гендэрсайт апісаў прыкметы знікшага археолага і звяртаўся да

[391] Зарыфмаваўшы слова «name» з «Prury Lane».
[392] Яўген Лан, стар. 129.

ўсіх з прашэннем паказаць яго месцазнаходжанне. Кніга Ірвінга мела вялікі поспех, і праз некалькі месяцаў ён паведаміў пра сакрэт сваёй містыфікацыі. Калі Эдуард Говард зведаў няўдачу са сваімі першымі раманамі, ён выдаў у 1836 годзе новы раман «Матрос Рэтлін» з пазнакай на вокладцы: «выдадзена капітанам Марыэтам». Вялікая папулярнасць гэтага фантастычнага марака забяспечыла раману Говарда поспех, пасьля якога аўтар назваў сваё імя. Ва ўсіх такіх выпадках мы бачым толькі фігавы лісток першай сарамлівасьці аўтараў, а ніяк не жаданне фальсіфікаваць гістарычную рэчаіснасьць.

Цалкам іншая справа апокрыф. Вось, некалькі яго прыкладаў.

Дзеля таго, каб элементарны курс фізіялогіі «Nature's Cabinet unlock'd» не прайшоў незаўважаным, невядомы аўтар, выдаўшы гэтую кнігу ў Англіі ў 1657 годзе, прыпісаў яе знакамітаму фізіку той эпохі д-ру Браўну (Brown) і дадаў да прадмовы некалькі выразаў із «Religio Madici», услаўленай кнігі гэтага набожнага навукоўцы, каб у чытача не было сумневаў у аўтарстве Браўна.

У кнізе, меўшай назву «Historia Regnum Britanniae», дайшоўшай да нас у дзясятках спісаў, Джафрэй упершыню размясьціў генеалогію караля Артура. Але гэтаму каралю ён прыпісаў зашмат вычынаў і гісторыкі (Жыро Кембрыйскі і іншыя) западозрылі падробку. А Джафрэй, каб адвесьці ад сябе падазрэнні ў вольным стаўленні да фактаў, заявіў, што крыніцай гісторыі караля Артура і яго дынастыі з'яўляецца старажытнейшая хроніка, атрыманая ім, як бы, ад біскупа оксфардзкага Вальтэра. «Я забараняю Вільяму із Мальмсберы і Генрыху із Гунтынгдона, – нахабна заявіў ён у адказ на іхныя падазрэнні, – выказвацца пра каралёў брытанскіх, таму што ў іх не было ў руках кнігі, якую прывёз мне із Брэтані Вальтэр, біскуп Оксфардзкі».

У асобе «геніяльнага містыфікатара Чатэртона» расчыняецца рэдкая паталагічная форма рамантыкі – поўнае творчае атаясамленне сябе з шануемымі ім старажытнымі аўтарамі. А малады Айрланд, паспрабаваўшы падрабіць Шэкспіра, а потым стаўшы самым пасрэдным літаратарам, і Колан, адказаўшы у маладосьці паспяховай падробкай Мальера на няўвагу з боку тэатра да яго арыгінальных п'ес, і сам Мак Ферсан, падараваўшы гісторыі літаратуры самы яскравы помнік ангельскага рамантызму, – усе яны, і нямала іншых, былі натхняемы да падробак не толькі інстынктам літаратурных актораў, але і жаданнем праверыць свае творчыя здольнасьці на такім жанры, да якога іх вабіў прыродны талент, тым больш, што гэты жанр гарантаваў ім і патрэбную абарону ў выпадку правалу.

Але вядомы і іншыя матывы містыфікацый.

Так, Мерымэ задумаў, захапляючыся славянамі, паехаць на Ўсход, каб апісаць іх. Але для падарожжа патрэбныя былі грошы.

«І я тады задумаў, – прызнаецца ён сам, – спачатку апісаць наша падарожжа, прадаць кнігу, а потым выдаткаваць ганарар на праверку таго, наколькі я быў праўдзівым у сваім апісанні».

І вось, у 1827 годзе ён выдаў зборнік песень пад назвай «Guzla» (г.азн. «Гусьлі») пад маркай перакладаў із балканскіх моваў. Яму было ў гэты час дваццаць чатыры гады. Змест яго «Гусьляў» добра вядомае дзякуючы «Песьням заходніх славян» Пушкіна, але наўрад ці так жа добра вядомымі з’яўляюцца акалічнасьці, суправаджаўшыя выданне гэтай кнігі. Напісаўшы свае песьні, Мерымэ абставіў іх выданне шэрагам засьцярог, каб у выдаўцы не ўзнікала падазрэнняў у містыфікацыі. Ён звярнуўся за парадай да аднаго із журналістаў – Лінгаі, якога ніхто не мог западозрыць у ашуканстве, і даў да іх прадмову, у якой

згадваў, што, займаючыся збіраннем песень напаловудзікіх народаў, ён, «адпаведна з парадай сябра», адважыўся іх апублікаваць у перакладах. Ён забяспечыў свае песьні падрабязнымі каментарамі, нарысам пра «вампіраў» і пра «ліхое вока», а ў давяршэнне ўсяго далучыў і біяграфію іхнага уяўляемага апавядальніка «Іякінфа Маглановіча». Апошні, згодна са сведчаннем Мерымэ, нарадзіўся ў Зоніградзе і быў сынам шаўца, не навучыўшага яго нават грамаце. Ва ўзросьце васьмі гадоў ён быў выкрадзены багемцамі і вывезены ў Боснію, дзе далучаны да мусульманства. Пасьля некалькіх прыгод, ён патрапіў да аднаго каталіцкага місіянера, які вярнуў яго ў хрысьціянства, хаця «рызыкаваў сесьці за гэта на кол, таму што туркі не заахвочваюць дзейнасць місіянераў». Збегшы ад свайго апекуна, Іякінф склаў спачатку «баладу» на тэму пра сваё збяганне, акампануючы на Guzla (г.азн. гусьлях), і спяваў гэтую баладу і іншыя песьні, пераходзячы із вёскі ў вёску па Далмацыі. Потым ён вырашыў адружыцца, але на яго бяду ў яго каханую закахаўся адзін із абшарнікаў-марлакаў, і Іякінф забіў яго за тое, што той замінаў яму выкрасьці нарачоную, таму што адпаведна са звычаямі краіны нарачоную там выкрадаюць. Пасьля расправы з супернікам Іякінф і яго маладая жонка збеглі да гайдукоў у горы і разбойнічалі разам з імі, таму што гайдукі – «асобны род бандытаў». Акрыяўшы ад атрыманай у сутычцы раны, ён спусьціўся з гор, купіў ферму і зажыў мірным жыццём. Згодна са сведчаннем Мерымэ, ён пазнаёміўся з Іякінфам, калі таму было ўжо шэсцьдзесят гадоў, і ён спяваў яму народныя песні, акампануючы на Guzla (гуслях), пры гэтым «уся яго выява падчас спявання дыхала дзікім харовством». Пяць дзён пражыў апавядальнік у Мерымэ, а потым, не папярэджваючы, знік, захапіўшы з сабой два ангельскія пісталеты, але не звярнуўшы ўвагу на кашалёк.

Дамаляваўшы такой рыскай партрэт быўшага гайдука, Мерымэ забяспечыў свой зборнік таксама і літаграфіяй, паказваючай дзікага з выгляду горца з вялізнымі вусамі, са стрэльбай у руцэ і з пісталетамі, тырчачымі за поясам. Гэта і быў яго ваяўнічы «апавядальнік».

У колах спецыялістаў «Guzla» была ацэнена высока. Нямецкі славіст Гергарт пажадаў перакласьці іх на нямецкую мову і адзначыў «тонка схопленыя французкім перакладчыкам асаблівасьці метра далмацкага вершаскладання». М. Матыч прысьвяціў баладам некалькі старонак у нямецкім «Архіве славянскай філалогіі». Ангелец Боурынг, выдаваўшы «Рускую анталогію» і пераклаўшы падроблены ж «Краледворскі рукапіс», папрасіў у Мерымэ яго падарожныя нататкі. Пушкін надрукаваў свой пераклад яго пятнаццаці песень у «Бібліятэцы для чытання» ў 1835 годзе пад назвай «Песьні Заходніх славян», і ў якасьці прыкладу яго перакладаў і стылю ўсёй падробкі дадаю тут парачку.

I. БАЧАННЕ КАРАЛЯ

Кароль ходзіць вялікімі крокамі назад і наперад па палатах;
Людзі ядуць – каралю толькі не спіцца; караля султан аблажыў,
Галаву адсекчы яму пагражае і ў Стамбул выправіць яе жадае.
Часта ён падыходзіць да акенца: ці не пачуе нейкі шум?
Чуе, вые начная птушка: яна чуе бяду немінучую;
Хутка ёй давядзецца шукаць новы дах для сваіх птушанят гаротных.
Не сава вые ў Ключы-горадзе, не месяц Ключ-горад асьвятляе, –
У царкве боскай грукочуць барабаны, уся свечкамі асьвечана царква.
Але ніхто барабанаў не чуе, ніхто сьвятла ў царкве Боскай не бачыць.
Толькі кароль тое чуў і бачыў;
Із палат сваіх ён выходзіць і ідзе адзін у боскую царкву.

Спыніўся на дзядзінцы, дзьверы адчыняе... Жахам у ім напоўнілася душа?
Але вялікую вымаўляе ён малітву і спакойна ў царкву боскую заходзіць.
Тут ён бачыць цудоўнае бачанне: на памосьце валяюцца трупы,
Паміж імі цячэ кроў ручаямі, як струмені васені дажджлівай.
Ён ідзе, праступаючы праз трупы; кроў да шчыкалаткі яму дасягае...
Гора! у царкве туркі і татары і здраднікі, ворагі багумілы[393]
На амвоне сам султан бязбожны: трымае ён на-гала шаблю,
Кроў па шаблі свежая струмяніцца ад вострыя да самай ручкі.
Караля раптоўны атачыў холад; тут жа бачыць ён бацьку і брата:
Перад султанам стары бедны справа зняважана стоячы на каленях,
Падае яму сваю карону; злева, таксама стоячы па каленях,
Яго сын Радывой пракляты, бусурманскай чалмой накрыты
(З той самай вяроўкай, якой ён задушыў няшчаснага старца),
Край крыса ў султана цалуе як халоп, пакараны фалангай[394].
І султан бязбожны, усміхаючыся, узяў карону, растаптаў нагамі
І прамовіў потым Радывою: «Будзь над Босніяй маёй ты валадаром
Для гяур-хрысьціянаў беглербеем»[395]. І адрачэнец біў чалом султану,
Тройчы падлогу акрываўленую цалуючы.
І султан паслугачоў паклікаў і загадаў: «даць каптан Радывою!
Не аксамітавы каптан, не парчовы, а садраць на каптан Радывою
Скуру з брата яго роднага».
Бусурмане на караля накінуліся, да-гала ўсяго яго распранулі,
Ятаганам яму скуру распаролі, пачалі здзіраць рукамі і зубамі.
Агалілі мяса, і жылы, і да самых костак абадралі,
І апранулі скурай Радывоя.
Гучна пакутнік богу ўзмаліўся: «Маеш рацыю ты, божа, мяне караючы!
Цела маё аддай на разарванне, толькі памілуй мне душу, Езусе!»
Пры гэтым імені царква задрыжэла, усё раптам заціхла, пацямнела,
Усё знікла – быццам не бывала.
І кароль вобмацкам у поцемках неяк да дзвярэй дабраўся,
І з малітвай па вуліцу выйшаў.
Было ціха. Із высокага неба горад белы месяц асьвячаў.
Раптам узнялася із-за горада бомба, і пайшлі бусурмане на прыступ.

## II. ЯНКА МАРНАВІЧ

Што ў раз'ездах бей Янка Марнавіч? Што яму дома не сядзіцца?
Чаму двьве ночы запар ён пад адным дахам не начуе?
Ці ворагі ў яго магутныя? Ці баіцца ён кроўнай помсты?
Не баіцца бей Янка Марнавпч ні ворагаў сваіх, ні кроўнай помсты,
Але ён блукае, як гайдук валацуга, з той пары, як Кірыла памёр,
У царкве Спаса яны братаваліся[396] і былі згодна з богам браты;
Але Кірыла нешчасьлівы памёр ад рукі яго абранага брата.
Вясёлым было баляванне, шмат пілі мёду і гарэлкі;
Захмялелі, ашалелі госьці, два магутныя беі палаяліся.
Янка стрэліў са сваёй пістолі, але рука яго п'яная дрыжала:

[393] Багумілы – хрысьціянская секта, не прызнаваўшая стары запавет, таемствы, крыж і абразы. Іх заснавальнік грэцкі манах Васіль спалены ў Цар-Горадзе пры імператару Аляксею Камніну ў 1118 годзе. Парэшткі гэтай секты існавалі яшчэ ў XIII стагоддзі.
[394] Фланга – палачныя ўдары па пятках (заўвага аўтара).
[395] Радывой ніколі не меў гэтага сану і ўсе асобы каралеўскага сямейства былі вынішчаны султанам (заўвага аўтара).
[396] Звычай братання ў сербаў і іншых заходніх славянаў асвячаецца і духоўнымі звычаямі (заўвага аўтара).

У ворага свайго не патрапіў ён, а патрапіў ён у свайго сябра.
З таго часу ён тужачы блукае, нібы вол, уджалены змяёй.
Нарэшце, ён на радзіму вярнуўся і зайшоў у царкву сьвятога Спаса.
Там дзень цэлы ён маліўся богу. Горка плачучы і жаласна галосячы.
Ноччу ён прыйшоў да сябе ў сядзібу і павячэраў са сваёй сям'ёю,
Потым лёг і жонцы сваёй гаворыць: «паглядзі, жонка, ты ў вакенца,
Ці бачыш царкву Спаса адсюль?» Жонка паднялася, у вакенца паглядзела,
І адказала: «на двары поўнач, за ракой густы туман,
За туманам нічога не бачна». Павярнуўся Янка Марнавіч
І ціха пачаў чытаць малітву.
Памаліўшыся, ён зноў ёй гаворыць: «Паглядзі, што ты бачыш у вакенца?»
І жонка, паглядзеўшы, адказвала: «Бачу, вунь, малы агеньчык
Ледзь-ледзь міргаціць у цемры за ракой».
Усміхнуўся Янка Марнавіч і зноў пачаў ціха маліцца.
Памаліўшыся, ён зноў і жонцы гаворыць: «Адчыні-ка, жонка, ты вакенца
Паглядзі, што там яшчэ бачна?» І жонка, паглядзеўшы, адказвала:
«Бачу я на рацэ ззянне, набліжаецца яно да нашай сядзібы».
Бей уздыхнуў і з ложка зваліўся, – тут і сьмерць яму здарылася.

## III. ГАЙДУК ХРЫЗІЧ

У пячоры, на вострых каменнях[397], затаіўся адважны гайдук Хрызіч,
Із ім жонка яго Кацярына, з ім яго два любыя сыны.
Ім немагчыма із пячоры выйсьці; пільнуюць іх ворагі злыя.
Калі ледзь яны галаву паднімуць – у іх прыцэляцца адразу сорак стрэльбаў.
Яны тры дні, тры ночы не елі, пілі толькі ваду дажджавую,
Назапашаную ў западзіне каменя.
На чацьвёрты ўзышло чырвонае сонца і вада ў западзіне вычарпалася,
Тады прамовіла, уздыхнуўшы, Кацярына: «Пан Бог! памілуй нашы душы!»
І звалілася мёртвая на зямлю.
Хрызіч, гледзячы на яе, не заплакаў, сыны плакаць пры ім не адважыліся –
Яны толькі вочы выцíралі, калі ад іх адварочваўся Хрызіч.
На пяты дзень старэйшы сын ашалеў, пачаў глядзець ён на памёршую маці,
Быццам воўк на спячую казу, яго брат, бачачы тое, напалохаўся;
Закрычаў ён старэйшаму брату: «Любы брат! не губі сваю душу:
Ты напіся гарачай маёй крыві, а памром мы галоднай сьмерцю, –
Будзем мы выходзіць із магілы, кроў смактаць нашых ворагаў спячых».
Хрызіч падняўся і прамовіў: «Дастаткова! Лепш куля, чым голад і смага».
І ўсе трое са скалы ў даліну збеглі, як шалёныя ваўкі.
Семярых забіў із іх кожны, сямю кулямі кожны з іх прастрэлены,
Галовы ворагі ў іх адсеклі і на калы свае насадзілі –
А і тут глядзець на іх не адважваліся: такім жахлівым для іх быў Хрызіч з сынамі

## IV. БАНАПАРТ І ЧАРНАГОРЦЫ

«Чаркнагорцы? Што такое? Банапарце запытаў:
Ці праўда, гэтае племя злое не баіцца нашай магутнасьці?
«Дык пашкадуюць жа нахабнікі: паведаміць іхным старшынам,
Каб стрэльбы і кінжалы ўсе неслі да маіх ног».
Вось, ён шле на нас пяхоту з сотняй гармат і марцір,
І сваіх мамлюкаў роту, і калматых кірасір.
Нам здавацца няма жадання – чаркнагорцы такія!

[397] Гайдук – кіраўнік, узначальваючы. Гайдукі не маюць прыстанку і жывуць разбоямі (заўвага аўтара).

Для коней і для пяхоты, камяні ёсць у нас і равы!...
Мы заселі ў нашы норы і гасьцей няпрошаных чакаем;
Вось, яны ўступілі ў горы, вынішчаючы ўсё наўкола.
.........................................................................................
Ідуць цесна пад скаламі. Раптам – замяшанне!.. Глядзяць:
У сябе над галовамі чырвоных шапак бачаць шэраг.
«Стой! Палі! Хай кожны скіне чаркнагорца аднаго!
Тут літасьці вораг не просіць: не літуйце ж нікога!»
Стрэльбы грымнулі – зваліліся шапкі чырвоныя з шастоў;
Мы пад імі ніцма ляжалі, затаіўшыся паміж кустоў.
Дружным залпам адказвалі мы французам... «Гэта што?»
Здзівіўшыся яны сказалі: «Ці рэха, ці што?» Не, не тое!
Іхны палкоўнік паваліўся, з ім сто дваццаць чалавек.
Увесь атрад яго збянтэжыўся, хто, як мог, пусціўся бегчы.
І французы ненавідзяць з той пары наш вольны край,
І чырванеюць, калі пабачаць шапку нашу незнарок.

## V. ПЕСЬНЯ ПРА РЫГОРА ЧОРНАГА

Не два ваўкі ў яры грызуцца – бацька з сынам у пячоры сварацца.
Стары Пятро сына дакарае: – «Бунтар ты, злыдзень пракляты!
Не баішся ты пана Бога! Дзе табе з султанам цягацца,
Ваяваць з белградскім пашой! Ці з двума галавамі ты нарадзіўся?
Прападай ты сабе пракляты, ды навошта ты ўсю Сербію губіш?»
Адказвае Рыгор панура: – Із розуму, стары, бачна выжыў,
Калі выказваеш вар'яцкія прамовы!
Стары Пятро больш разлаваўся, больш ён сварыцца, бушуе.
Намерыўся ён выправіцца ў Белград, туркам выдаць свавольнага сына,
Паведаміць сховішча сербаў.
Ён з цёмнай пячоры выходзіць; Рыгор старога даганяе:
«Вярніся, бацька, вярніся, даруй мне мімавольнае слова».
Стары Пятро не слухае, пагражае: – «Вось ужо, разбойнік, табе будзе!
Сын яму наперад забягае, стараму кланяецца ў ногі.
Не зірнуў на сына стары Пятро. Даганяе зноў яго Рыгор
І хапае за сівую касу: – « Вярніся, дзеля пана Бога:
Не даводзь ты мяне да спакусы!»
Адпіхнуў стары яго злосна і пайшоў па белградзкай дарозе.
Горка, горка Рыгор заплакаў, пісталет з-за пояса дастаў,
Узвёў цынгель, ды і стрэліў тут жа.
Закрычаў Пятро, захістаўшыся: – «Дапамажы мне, Рыгор, я паранены!»
І зваліўся на дарогу нежывы. Сын бягом у пячору вярнуўся;
Яго маці выйшла яму насустрач. – «Што, Рыгор, куды дзеўся Пятро?»
Адказвае Рыгор сурова: – За абедам стары п'яны напіўся
І заснуў на белгродзкай дарозе. Здагадалася яна, загаласіла:
– «Будзь жа богам пракляты ты, чорны, калі забіў ты бацьку роднага!»
З той пары Рыгор Пятровіч сярод людзей прызываецца Чорны.

## VI. КОНЬ

Што іржэш ты, мой конь заўзяты, што ты шыю апусьціў,
Не ўстрашаеш грывай, не грызеш свае цуглі?
Ці я цябе не даглядаю? Ці ясі аўса ты не ўволю?
Ці збруя не чырвоная? Ці павады не шаўковыя,
Не сярэбраныя падковы, не пазалочаныя страмёны?

Адказвае конь сумна: таму я прыціх,
Што я чую тупат далёкі, трубны гук і спеў стрэлаў;
Таму я іржу, што ў полі ўжо не доўга мне гуляць,
Жыць у красе і ў пяшчоце, сьветлай збруяй выхваляцца;
Што ўжо хутка вораг суровы збрую ўсю маю забярэ
І срэбныя падковы з лёгкіх ног маіх здзярэ;
Таму мой дух і ные, што замест гунькі,
Скурай ён тваёй пакрые мае запацеўшыя бакі.

* * *

Я размісьціў тут гэтыя ўзоры падробак Мерымэ ніяк не дзеля запаўнення некалькіх старонак маёй кнігі, а каб навочна паказаць чытачу ўнутраную псіхалагічную спружыну важнейшага роду літаратурных містыфікацый. Яна тут вельмі добра бачна.

Мерымэ быў няздольным да цалкам арыгінальнай творчасьці, але ў яго існаваў талент пераймальніка. А пераймальнасць натуральна накіроўваецца на тое, што здаецца аўтару арыгінальным, г.азн. чужым атачаючаму яго асяроддзю і што асабліва застаецца ў памяці, падобна незвычайным гукам. Пры гэтым акрамя зместу, падрабляецца і стыль.

Гэта я і называю **інстылізацыяй**.

У дадзеным выпадку аўтара ўразілі, верагодна яшчэ пад час юнацтва, нейкія із прачытаных ім сапраўдных песень балканскіх славян, у якіх ён пабачыў «дзікае хараство» замест ужо абрыдлага ў XIX стагоддзі «класічнага хараства». Апошняе таксама здавалася арыгінальным у свой час і таму выклікала струмень падробак ад імя старажытных грэкаў і латынянаў у XV і XVI стагоддзях, а праз трыста гадоў, вядома, апусьцілася на ўзровень штодзённасьці. І ён «інстылізаваў» ад імя «заходніх славянаў» шэраг песень, намаляваўшы фальклор гэтых малавядомых тады народаў, вядома, не такім, якім ён быў у рэчаіснасьці, а якім маляваўся ў яго ўяўленні.

Такая пераймальная творчасць наогул лягчэйшая, чым цалкам самастойная, падобна таму, як шлях з праводнікам ці арыентуючыся на аддаленыя сігналы лягчэй цалкам самастойнага шукання дарогі па незнаёмай мясцовасьці. Вось чаму таленавітыя інстылісты-містыфікатары, відаць, ніколі не маглі стварыць выбітных твораў цалкам самастойнага стылю і зместу.

У дадзеным выпадку, як чытач ужо бачыў, паэтычныя інстылізацыі Мерымэ выклікалі нават псеўда-адваротны іхны пераклад Пушкіным на адну са славянскіх моваў, на рускую.

У «Бібліятэцы для чытання» яны былі выдадзены без прадмовы, але ў першым жа выданні сваіх вершаў (1835) ён палічыў патрэбным забяспечыць іх і спадарожнічаючымі артыкуламі, дзе паведаміў імя іхнага «збіральніка», пазначыўшы, што «паэт Міцкевіч, крытык зоркі і тонкі, і знаток славянскай паэзіі, не ўсумніўся ў праўдзівасьці гэтых песень, а нейкі навуковы немец напісаў пра іх вялізную дысертацыю».

«Мне было вельмі пажадана ведаць, – піша Пушкін далей, – на чым заснавана вынаходства гэтых дзіўных песень».

Відавочна, некаторыя падазрэнні ў Пушкіна былі, але, ва ўсякім разе, можна лічыць, што ён выявіўся больш легкаверным, чым Гётэ, які адразу адчуў тут містыфікацыю. Мерымэ цалкам меў рацыю, калі дадаў да другога выдання сваіх «Гусьляў» іранічную прадмову, у якой згадваючы пра тых, каго яму атрымалася ашукаць, называе і Пушкіна.

Тут няцяжка бачыць, што ўяўляемая «экскурсія на Ўсход» была распачата маладым Мерымэ ў пошуках матэрыяла, даючага мастаку магчымасць пераскочыць праз завучаныя каноны «класікаў». На Ўсходзе – згодна з яго думкай – мастаку адкрывалася шмат шляхоў для змагання з класіцызмам – хаця б маляваннем таго «дзікага характва», пра якое ён пісаў, замест уяўляемых класічных салонаў Аспазіі і Сафо. Еўрапейскі рамантызм пачатку XIX стагоддзя быў наступным – і цалкам лагічным – крокам пасьля русаізму. Агаленне захапленняў экзатычных герояў у вачах еўрапейца набывала такія пышныя формы, што Ўсход не мог не прыцягваць іхную ўвагу. Ягіпецкі і Сірыйскі паходы Напалеона, вядома, не прайшлі безвынікова. Пра «янычараў» у Францыі і ў Яўропе ведалі добра, а змаганнем за незалежнасць у Грэцыі чытач быў падрыхтаваны да ўспрымання іншай рамантычнай экзотыкі. Але экзатычны фальклор усё ж з'яўляўся занадта тонкай стравай для непадрыхтаванага густу класікаў. Для таго каб ён вытрымаў выпрабаванне, патрэбен быў «Эрнані», праз тры гады пасьля «Гусляў»[398].

Няма сумневаў, што некаторую ролю ў выбары Мерымэ меў і Макферсон. Падроблены гэтым паэтам народны эпас «старажытнай Шатландыі», прыводзіўшы яго ў захапленне, не мог не навесьці маладога пісьменніка на думку выпрабаваць свае выключныя стылізацыйныя здольнасьці пры падробцы менавіта народных песень. А пра тое, што Мерымэ ведаў і захапляўся Макферсонам, нам вядома із ліста яго сябра Ж. Ж. Ампера, будучага гісторыка Рыма, да Жуля Бастыда, пісаўшага ў 1825 годзе:

«Я працягваю вывучаць разам з Мерымэ макферсонаўскага «Ассіяна». Якое шчасьце даць французкі пераклад!»

Да таго часу склалася ўпэўненасць у падробленасьці гэтага кельцкага эпасу, асабліва пасьля кнігі Малькольма Лэнга. Магчыма, што і Мерымэ ведаў пра гэта, але як бачна із прыведзенага ліста Ампера, цікавіўся толькі мастацкім бокам песень Макферсона і адважыўся выпрабаваць свае здольнасьці ў тым жа накірунку.

Згаданая вышэй прадмова Пушкіна да «Песень заходніх славянаў», змешчаная ў першым выданні яго твораў у 1835 годзе, суправаджаецца французкім лістом Мерымэ, вельмі для нас цікавым. Жадаючы даведацца, «на чым грунтуецца вынаходніцтва гэтых дзіўных песень», Пушкін звярнуўся з пытаннем пра гэта да С. А. Сабалеўскага, з якім Мерымэ быў «коратка знаёмы». А Мерымэ ў лісьце да Сабалеўскага, пазначаным 18 студзеня 1835 года, ахвотна і ласкава адказвае на зададзеныя яму пытанні: «Guzla» напісана мной грунтуючыся на двух матывах, із якіх першы – паздзекавацца над couleur locale, у які мы з галавой кінуліся ў 1827 годзе». Другім жа матывам было раздабыць у заходне-еўрапейскіх славянафілаў (як было ўжо павядомлена вышэй) грошы для падарожжа на Ўсход. І вось, узброіўшыся ўсяго толькі двума кнігамі для засваення «мясцовага славянскага каларыту», Мерымэ прыступіў да стварэння сваіх балад. Гэта былі: брашура французкага консула ў Бонялуцы, намагаючагася давесьці, што баснякі – «ганарлівыя свінні», пры гэтым ён цытаваў некалькі ілірыйскіх слоў, і «Вандраванне ў Далмацыю» італійскага абата Форці. Аўтар першай кніжачкі, як мяркуе Мерымэ, ведаў пра Ілірыю не больш, чым і ён, стваральнік «Guzla», а із другой кнігі ён, не бянтэжачыся, запазычыў для сваіх нататак нямала матэрыялу. «Часам ён непасрэдна спісваў цэлыя абзацы. Свой выдатны ліст С. А. Сабалеўскаму Мерымэ заканчвае так: «Перадайце Пушкіну мае выбачэнні. Я ганаруся і разам з тым сароемаюся, што падмануў яго».

[398] Яўген Лан, стар. 99.

«Як добры паляўнічы, містыфікатар ішоў ва ўсе стагоддзі па сьлядах пісьменніцкай папулярнасьці», – выказваецца Яўген Лан, із кніжкі якога я запазычыў гэтае апавяданне. – Да Рэнесансу набожны манах падрабляў творы «айцоў царквы», не спыняючы сваёй працы нават і тады, калі ваяўнічая царква пачала адыходзіць на новыя пазіцыі і калі разам з паслабленнем яе эканамічнага значэння слабела і яе палітычная роля. Пад час гэтай эпохі містыфікацыя існавала ў выглядзе «ідэалагічных рэзерваў» і дапамагала клерыкалам XVI стагоддзя ўтрымліваць свае пазіцыі, абагачаючы баявы рыштунак царквы шматлікімі падробкамі: сьвятым Бярнардам, падробленым у 1449 годзе Жанам Гарландам; палемічнай кнігай сьвятога Апанаса, накіраванай супраць ерэтыкоў і напісанай біскупам Вігіліусам, каментарамі сьвятога Амброса да лістоў апостала Паўла, падробленымі данатыстам Ціхонівусам у 1532 годзе і г.д., і г.д.»[399].

Што ж да літаратурнай класічнай містыфікацыі, то яна магла ўзнікнуць толькі тады, калі крыжовыя паходы і крыжацкія лацінскія дзяржавы ў Эладзе, рассыпаўшыся як феерверк, зрабілі падзеі ў гэтай краіне чароўнай казкай Заходняй Яўропы. Таму і стварэнне тых твораў, якія зараз прыпісваюцца класічным пісьменнікам, пачынаецца з таго моманту, калі гуманізм супрацьпаставіў апакрыфічным творам «айцоў» і незлічоным багаслаўскім «опусам» іхных каментатараў апакрыфічныя ж творы «свецкіх» пісьменнікаў Грэцыі і Рыма. Толькі ў 1465 годзе ў Італіі быў наладжны першы друкарскі станок і ўжо праз трыццаць гадоў гісторыя літаратуры зарэгістравала падробку лацінскіх аўтараў. Толькі ў 1498 годзе Апнівус дэ-Вітэрбэ (Annius de Viterbe) надрукаваў у Рыме зборнік твораў Фабія, Піктара, Семпронівуса, Катона і іншых, якія ён, як быццам бы, знайшоў у Мантуі, а на справе стварыў сам. Яшчэ ў 1400 годзе гуманісты не ведалі арыгіналаў Платона, таму што першы псеўда-пераклад некалькіх яго дыялогаў напісаў Бруні для Казьмы Медычы ў 1421 годзе, працуючы адначасова над выпраўленнем «Этыкі» Арыстоцеля, якая да яго існавала толькі ў лацінскім перакладзе. Той жа Бруні надрукаваў у 1406 годзе некалькі прамоваў Дэмасфена, а да часу папы Мікалая V, уступіўшага на пасад у 1447 годзе, колькасць грэцкіх класікаў, стаўшых вядомымі (у арыгіналах) заходняму сьвету, пісаўшаму яшчэ толькі на-лаціне, была вельмі нязначнай. Грэцкіх паэтаў наогул не было вядома нават пад час першай паловы XV стагоддзя ні на Захадзе, ні на Ўсходзе. Лацінскі тэкст «Іліяды» 1369 года, паўтораны Валой у 1445 годзе, быў, – выказваецца Яўген Лан (стар. 106) – не перакладам, а зараджэннем грэцкай Іліяды. Толькі заканчэнне XV стагоддзя і пачатак XVI далі ўжо шмат твораў грэцкіх класікаў, нібы-та ў лацінскім перакладзе. Нямала навукоўцаў авалодала тады і грэцкай мовай, але ўсё ж гэтыя перадумовы былі недастатковымі, каб майстры стылізацыі і мімікрыі выступілі з грэцкімі падробкамі, а таму і падраблялі іх у выглядзе лацінскіх перакладаў, як Мерымэ па-французку славянскія песьні.

Нашмат лепш тады стваралі лацінскіх класікаў. У 1519 годзе французкі навуковец De Boulonge падрабіў дзьве кнігі Валера Флака, а адзін із выдатных навуковых-гуманістаў Сігонівус надрукаваў у 1583 годзе невядомыя да яго ўрыўкі із «De Consolatione» Цыцэрона. Гэтая сімуляцыя была зроблена, – выказваецца Яўген Лан, – з такім майстэрствам, што выявілася толькі праз два стагоддзі, ды і то выпадкова: быў знойдзена ліст Сігонівуса, у якім ён прызнаваўся ў сваёй містыфікацыі. У тым жа стагоддзі адзін із першых нямецкіх гуманістаў,

[399] Яўген Лан, Літаратурная містыфікацыя. Гэтая кніжка была выдадзена ў 1930 годзе, нашмат пазьней таго, як я давёў у сваёй працы «Хрыстос» падробленасць усёй класічнай і клерыкальнай літаратуры аж да сярэдневечча.

пазнаёміўшым Германію з рымскімі класікамі, Пралюцывус (Prolucius), напісаў сёмую кнігу «Каляндарнай міфалогіі» («Fasti») Авідыя. Гэтая містыфікацыя была збольшага выклікана навуковай спрэчкай пра тое, на колькі кніг падзяляліся гэтыя Fasti; нягледзячы на сведчанні ад імя ранейшага аўтара, што кніг у яго 6, некаторыя навукоўцы Рэнесансу, грунтуючыся на кампазіцыйных асаблівасьцях, настойвалі на тым, што гэтых кніг павінна быць 12.

Дакладна так жа галандзец Мерула (Merula), аўтар «Сусьветнай гісторыі», неаднаразова цытаваў доўгія абзацы із рукапісу Пізона і із граматыкі часоў Траяна, ніколі не існаваўшай. Францысканец гісторык Гевара (Guevara) надрукаваў знойдзены ім у Фларэнцыі філасофскі раман, героем якога быў Марк Аўрэлій. Яго раман меў вельмі вялікі поспех, і лічаць, што ён паслужыў матэрыялам Лафантэну для адной із яго навэл «Дунайскі селянін». Толькі старанны аналіз паказаў, што тут – містыфікацыя.

На прыканцы XVI стагоддзя гісторыкі яшчэ мала асьвятлілі пытанне пра пашырэнне ў Гішпаніі хрысьціянства. Для папаўнення прабелу, гішпанскі манах Хігера (Higuera) пасьля вялікай і складанай працы напісаў хроніку ад імя не існаваўшага ніколі рымскага гісторыка Флавівуса Дэкстара. Цікавай з’яўляецца гісторыя і трагедыі, выдадзеныя ў XVIII стагоддзі галандзкім навукоўцам Хіркенсом (Heerkens) пад імем Люцыя Вара, як бы трагічнага паэта эпохі Аўгуста. Трагедыя мела значны поспех, але праз некаторы час выпадкова было ўсталявана, што венецыянец Карарыо (Corrario) выдаў яе яшчэ ў XVI стагоддзя ад свайго ўласнага імя, імітуючы старажытна-рымскую трагедыю і нікога не спрабуючы ўвесьці ў зман. Выключна ўдалай у стылістычным дачыненні была містыфікацыя, зробленая гішпанцам Марэна (Marchena). Прыкамандыраваны да французкага войска на Рэйне, ён разам з некалькімі прыяцелямі забаўляўся ў 1800 годзе стварэннем на лацінскай мове разважанняў даволі непрыстойнага характару. Із іх ён і сфабрыкаваў потым цэлае апавяданне і звязаў яго з тэкстам XXVI главы Петроніева «Сатырыкона» ў тым месцы, дзе Энкольпіус з Квартылай глядзяць у шчылінку на гульні Гітана і Паніхіс. Амаль немагчыма адрозніць, дзе заканчваецца Пятроній і пачынаецца Марэна. Свой урывак з петроніевым тэкстам ён і выдаў, паказаўшы ў прадмове і ўяўлямае месца знаходкі – бібліятэку St. Galli. І гэта – не адзіная падробка сатыр Пятронія. За стагоддзе да Марэны французкі афіцэр Надо (Nodot) выдаў «поўны» Сатырыкон, нібы-та «грунтуючыся на рукапісе тысячагадовай даўнасьці, купленай ім пры аблозе Белграда ў аднаго грэка», але ніхто не бачыў ні гэтага, ні больш старажытных рукапісаў Пятронія. Таксама перавыдаваўся Катул, падроблены ў XVIII стагоддзі венецыянскім паэтам Карадыно (Corradino), які, як быццам бы, знайшоў у Рыме спіс Катула больш правільны і вялізны, чым раней вядомыя. Заслугоўвае ўвагі таксама містыфікацыя нямецкага студэнта XIX стагоддзя Вагенфельда (Wagenfeld). Ён, нібы-та, пераклаў з грэцкай на нямецкую гісторыю Фінікіі, напісаную фінікійскім гісторыкам Санханіатонам і перакладзеную на грэцкую мову Філанам із Бібласа. Гэтая знаходка вырабіла вялізнае ўражанне, дзякуючы таму што Санханіатон існаваў да таго часу толькі ў выглядзе невялікага ўрыўка. Адзін із прафесароў напісаў прадмову да гэтай кнігі, пасьля чаго яна была выдадзена з факсіміле грэцкага тэксту, а пасьля выдання, калі ў Вагенфельда запатрабавалі грэцкі рукапіс, ён адмовіўся яго паказаць.

У такім жа становішчы выяўляюцца і ўсе лацінскія і грэцкія старажытныя класікі, і, акрамя таго, яны зусім не такія ўжо шматлікія, як уяўляе публіка. Калі ж

іх перадрукаваць звычайным шрыфтам, то ўсе яны памесьцяцца ў адну ці дзьве кніжныя шафы. Потым пачынаючы ад заканчэння XVIII стагоддзя колькасць класічных апокрыфаў пачынае рэзка памяншацца, і падставы гэтага занадта відавочныя, каб на іх спыняцца падрабязна. Калі ў XVI і XVII стагоддзях немагчыма было і ўявіць сабе адукаванага, адпаведна з тым часам, чалавека, не ведаўшага грэцкай і лацінскай моваў, то пад час наступных двух стагоддзяў новыя культурныя праблемы паслабілі ўвагу да антычнага сьвету, а выдатныя нацыянальныя літаратуры далі Яўропе такія імёны, якія ў гісторыі яе культуры пакінулі непамерна больш глыбокі след. Па сьлядах гэтых імёнаў зараз і накіраваліся містыфікатары. Так, у 1798 годзе Дэпрэё (Despreaux) падрабіў цэлы том пасьмяротных твораў Лафантэна пад назвай «Ocuvres posthumes de J, La Fontaine», выдаючы сябе за іхнага рэдактара. У 50-х гадах мінулага стагоддзя на лонданскіх аўкцыёнах пачалі з'яўляцца ў вялікай колькасьці лісты Байрана, Шэлі і Кітса. Адзін кнігапрадавец купіў 25 такіх лістоў і выдаў з прадмовай Роберта Браўнінга. Ніхто не выказваў сумневаў у іхнай праўдзівасьці і толькі Пальгрэў выпадкова звярнуў увагу на тое, што аддзін з іх яму знаёмы. Гэта быў урывак із артыкула яго бацькі, размешчанага ў часопісе 1840 года. Толькі пасьля гэтага быў зроблены больш старанны аналіз абнародаваных лістоў, дзякуючы якому стала немагчымым сумнявацца ў падробленасьці ўсяго іхнага зборніка.

Імкненне містыфікатараў вырабіць сенсацыю не пакінула ў супакоі і цені навукоўцаў. Так, 15 ліпеня 1867 года ў Французкай акадэміі навук Мішэль Шаль (Chasles) прачытаў ліст Паскаля да ангельскага Фізіка Бойля, у якім Паскаль выкладае гіпотэзу пра ўзаемнае прыцягванне цел. На наступным жа паседжанні Шаль абвясьціў і другі «навазнойдзены» ліст Паскаля, адрасаваны самому Ньютану, пад час бытнасьці апошняга студэнтам. У гэтым лісьце Паскаль знаёміць і Ньютана са сваімі меркаваннямі з нагоды... прыпісваемага апошняму **закона прыцягнення**!

Цяжка сабе ўявіць тое ўражанне, якое вырабілі гэтыя лісты на навукоўцаў. Ньютона абвінавацілі ў тым, што ён скарыстаўся ідэямі Паскаля, даверліва павядоміўшага іх яму. Фай, Элі дэ-Бамон аспрэчылі магчымасць іхнай падробкі, а хімік Балор пасьля іхнага хімічнага аналізу заявіў пра старажытнае паходжанне чарніла. Пазьней Шаль надрукаваў і яшчэ некалькі лістоў Паскаля: да філосафа Гасэндзі, да Гобса, да каралевы Хрысьціны Шведзкай і г.д. Сенсацыя перакінулася за межы Францыі. Ангельскі фізік Дэвід Брустэр (Brewster) ад імя ангельскай навукі запратэставаў супраць прыніжэння заслуг Ньютана і супраць легкавернасьці Шаля. Шаль энергічна пярэчыў супраць усіх довадаў і праз некаторы час паведаміў пра новы ліст – гэтым разам Галілея да Паскаля, адкуль было бачна, што думка пра закон прыцягнення цікавіла Галілея яшчэ на адзінаццаць гадоў раней, чым Паскаль нібы-та паведаміў гэта Ньютану. Калі экспертыза ўсталявала тут фальшывасць, Шаль са сваімі аднадумцамі зноў запратэставаў. І толькі пасьля таго як у новых лістах Ньютана, прадстаўленых Шалем са сваёй калекцыі аўтографаў, былі знойдзены фразы, скапіяваныя із «Гісторыі сучаснай філасофіі» Саверлена, Шаль здаўся і праз два з лішкам гады пасьля надрукавання першага ліста Паскаля, ён з той жа катэдры Акадэміі Навук прызнаў сябе ахвярай містыфікацыі.

Аўтарам усіх гэтых лістоў выявіўся нейкі Врэн-Люка (Vrain Lucas), вельмі адукаваны чалавек, вельмі па-майстэрску падрабіўшы ўсю калекцыю, прададзеную ім знакамітаму геаметру Шалю[400].

[400] Augustin Thierry, «Les Grandes Mystification Litteraires». Paris 1911, 1913, p. 268.

Падобныя злосныя містыфікацыі характарызуюць звычайна злосных адпаведна з натурай людзей, але часьцей усяго бываюць містыфікацыі дзеля нажывы. Нямала для гэтага было падроблена і раманаў. Так, з той жа мэтай у 1823 годзе ў Германіі выйшлі псеўда-пераклады раманаў Вальтара Скота «Walladmor» і «Schloss Avalan», аўтарам якіх быў Вільгельм Герынг (Haering). Падраблялі Вальтара Скота і ў Францыі. Калі ён памёр, набыўшы сусьветную вядомасць, у Францыі былі выдадзены чатыры кнігі, пазначаныя яго імем, і як бы перакладзеныя з ангельскай: спачатку «Allan Cameron» і «Aime Verd», напісаныя ў рэчаіснасьці нейкім Калэ (Calais), а потым яшчэ дзьве: «Le proscript de Hebrides» і «La Pithie des Haighlands».

А праз год вядомасць Фенімара Купера таксама выклікала ў Францыі падробку. На тытуле значылася: Фенімор Купер «Red-wood», «амерыканскі раман», а напісаў яго нехта, выдаўшы свой твор за французкі пераклад ангельскай кнігі. Філдынгу пашанцавала ў Галандыі. У 1749 годзе там быў выдадзены раман на французкай мове: «Le veritable ami ou la vie de David Simple», якога Філдынг ніколі не пісаў.

Не пазбег падробак і Мальер. У студзені 1845 года ў адным із французкіх тэатральных часопісаў быў надрукаваны ліст адваката із Руана Геро-Лагранжа, паведамляўшага пра знойдзены ім новы рукапіс Мальера «Docteur amoureux». Сенсацыя, выкліканая гэтай знаходкай, была вельмі вялікай: п'есу пажадалі ставіць у Адэоне. Ролі былі аддадзены лепшым акторам, і пачаліся рэпетыцыі.

П’еса мела вялікі поспех не толькі ў асяроддзі публікі, але і ў крытыкаў. Лепшыя тэатралы – Іпаліт Люка, Эцьен Араго і іншыя – не сумняваліся ў яе сапраўднасьці і далі бліскучыя водгукі пра яе літаратурныя вартасьці. Першы – Люка – пісаў у «Le Siecle»: «Аўтарства Мальера сумневаў не выклікае... У Закаханым лекары мы знаходзім пяць-шэсць сітуацый із яго іншых камедый... П’еса цікавая, напісана з вялікім гумарам і непараўнальна вышэй, чым «Medecin Volant». Літаратурна-тэатральныя колы пагадняліся ў сваёй высокай ацэнцы. Толькі адзін Тэафіль Гацье працягваў упарціцца, прыпісваючы п’есу таму самаму маладому чалавеку, які яе даставіў, г.зн. Колану. Але зборы не памяншаліся, і можна думаць, што містыфікацыя стала б вядомай не хутка, калі б сам Колан не прагаварыўся пра сваё аўтарства. Чуткі пра падробку пашырыліся, выведка ў Руане пра адваката Геро-Лагранжа аспрэчыла яго існаванне на сьвеце і пасьля гэтага стала вядомай уся гісторыя знаходкі. Выявілася, што Колан, якому было дваццаць тры гады, выкарыстаў містыфікацыю пасьля таго, як яго трагедыя із рымскага жыцця «Virginie» была адкінута тэатрам Адэон, і на дасыланне невялікай п'есы «Sous le Masque» дырэктар адказаў маўчаннем. А надаць рукапісу старажытны выгляд яму дапамог адзін палеограф. Пасьля гэтай авантуры з «Закаханым лекарам» аўтар ужо заняўся навуковай працай і чытаў курс рыторыкі ў Алжырскім каледжы. У Алжыры былі пастаўлены яго дзьве новыя п'есы, а праз трыццаць гадоў пасьля гісторыі з падробленым Мальерам яго тэатральныя творы ставіліся нават і ў Парыжы, хаця ніводны з іх не меў асаблівага поспеху. Таленавіты аўтар «Закаханага лекара» выявіўся сярэднім драматургам. Як сімулянт ён быў на вышыні, а як самастойны пісьменнік і навуковец – пасрэднасць.

Яшчэ больш сярэднім пісьменнікам выявіўся той, чыё імя злучана з падробкай п'есы Шэкспіра. Пад час 90-х гадоў XVIII стагоддзя ў Лондане была добра вядомай кніжная крама бібліяфіла-букініста Сэмюэля Айрланда, якая з'яўлялася адмысловым літаратурным клубам, а сам Сэмюэль Айрланд нагадваў

нашага выдаўцу XIX стагоддзя Смірдына. У Сэмюэля быў сын Вільям-Генры, які, скончыўшы школу, паступіў клеркам у кантору і адначасова са службай шмат часу надаваў пошукам рэдкіх кніг. У снежні 1794 года Сэмюэль Айрланд быў вельмі ўзрадаваны знаходкай, якую яму ўручыў сямнаццацігадовы Вільям. Качаючыся ў паперах свайго патрона па канторы, юнак «знайшоў іпатэку (дамова на заклад зямельнай дзялянкі), заключаную паміж Шэкспірам і стратфардзкім землеўласнікам Фрэзерам[401]. Подпіс Шэкспіра, рэдакцыя дамовы, папера і чарніла не выклікалі ніякіх сумневаў у сапраўднасьці. Праз тры месяцы Вільям паведаміў бацьку, што ў таго ж патрона ён знайшоў шмат вельмі цікавых дакументаў, маючых дачыненне да Шэкспіра: тэатральныя нататкі, некалькі кантрактаў з акторамі, кнігі з пазнакамі Шэкспіра на палях, перапісаны асобнік «Караля Ліра» з варыянтамі, невыдадзеныя фрагменты «Гамлета» і два «кахальныя» лісты Шэкспіра, адрасаваныя міс Hathway, пры гэтым у адзін быў дададзены локан паэта. Радасць Сэмюэля Айрланда ўявіць няцяжка. У яго краме была наладжана выстава знойдзеных каштоўных рукапісаў і рэліквій. Вядомы біёграф Сэмюэля Джонсана Басвель апусьціўся перад вітрынай на калені; увесь літаратурны і навуковы Лондан перабываў у краме. Вестка пра знаходку дакацілася да палаца, і абодва Айрланды былі прыняты адной із асоб каралеўскай сям’і. Захапленне шекспіролагаў не паддавалася апісанню; толькі Эдмунд Мэлан, адзін із лепшых знаўцаў Шэкспіра, трымаўся ўзбоч ад крамы на Норфалк-стрыт, адмаўляючыся наведаць выставу. Хутка пачаў сумнявацца і Басвель, але гэтая акалічнасць не паўплывала на Сэмюэля Айрланда, выпусціўшага па падпісцы зборнік з навазнойдзенымі матэрыяламі. А сьледам за гэтым Вільям здзівіў бацьку яшчэ адной новай знаходкай: ён змог адшукаць напісаную белымі вершамі невядомую трагедыю Шэкспіра «Wortigern and Rowena», нацыянальную трагедыю пра бітву ангельцаў з піктамі і шатландцамі пасьля адплывання із Англіі рымскіх легіёнаў Ганорыя. Пачуўшы пра знаходку, два лепшыя тэатры Англіі – Друрыленскі і Кавентгардэнскі – выправілі ў краму прадстаўнікоў прасіць п'есу для пастаноўкі. На чале Дрюрыленскага тэатра стаяў Шэрыдан – знакаміты аўтар «Школы ліхаслоўя», і Айрланд аддаў трагедыю яму. Лепшыя артысты Англіі – Джон Кембль і «вялікая Сіданс» – атрымалі ў ёй ролі. Была напісана музыка Вільямам Лілі, пралог і эпілог. Але ўжо на першых рэпетыцыях зрабілася відавочным, што трагедыя нікуды не варта. Мэлан стварыў адмысловы памфлет, здзекуючыся над даверлівасьцю тэатра. Першая пастанова была прызначана на 2 красавіка 1796 года. Зала была перапоўнена. Але пасьля першых жа выяваў пазбаўленыя таленту вершы пачалі выклікаць сьмех. Здавалася, што Кембль, выконваючы ролю, здзекуецца над тэкстам. І калі ён, на працягу п'есы, павінен быць вымавіць: «Я б меў жаданне, каб гэты змрочны фарс хутка скончыўся», гледачы пачалі рагатаць. Трагедыя правалілася, паўторнага спектакля не было.

Некаторыя із сяброў вырашылі дамагчыся ў Вільяма праўды і ён прызнаўся ў падробцы. Бацька прагнаў яго із сядзібы, працягваючы настойваць на тым, што п'еса з'яўляецца сапраўднай, нягледзячы на прызнанне сына, якога стары абвінаваціў у хлусні. У адказ на гэта Вільям Айрланд надрукаваў брашуру з усёй гісторыяй містыфікацыі. Пайшоўшы із сядзібы бацькі, ён перамяніў шмат прафесій, пасьля чаго напісаў некалікі сярэдняй вартасьці раманаў, п'ес і, між іншым, не дрэнны памфлет на бібліяфілаў.

[401] Карыстаюся перакладам Яўгена Лана ў яго кнізе «Літаратурныя містыфікацыі».

Чытач бачыць тут ужо фальсіфікатара-маніяка, якім без сумневаў з'яўляецца не адзін толькі Вільям Айрланд. У некаторых выпадках містыфікатарам выяўляецца занадта адданы некаму чалавек, складаючы ад яго імя нешта чуллівае. Такім з'яўляецца верш, надрукаваны ў 1765 годзе ад імя Марылі Сцюарт. У ім шатландзкая каралева (пісаўшая не самыя лепшыя вершы), развітвалася з Францыяй – «радзімай, выпеставаўшай маё дзяцінства, каб праз некалькі тыдняў пайсьці на эшафот». Гэты верш, нібы-та, быў знойдзены ў рукапісах Бэкінгема і адзін час быў настолькі папулярным, што калі яго аўтарам выявіўся журналіст Керлан (Querlon), некаторыя біёграфы Марылі Сцюарт працягвалі прыпісваць ёй гэтую развітальную песьню.

Літаратурнай містыфікацыяй з'яўлялася і надрукаваная Берсенэ (Bersenay) і Эмберам (Imbert) ліставанне Людоніка XVI з братамі і са шматлікімі гістарычнымі асобамі, надрукаванае ў 1803 годзе. Падроблены былі і лісты м-м дэ-Пампадур – цэлых чатыры тамы лістоў, нібы-та напісаных знакамітай фаварыткай Людовіка XV у перыяд ад 1746 да 1762 гг.

Гісторыя літаратуры ведае ўжо столькі аналагічных падробак, што пералічыць іх немагчыма. І я толькі пазначу, што шмат якія раманы, напісаныя ў мемуарным выглядзе, выдаваліся за сапраўдныя мемуары. Так, Дэфо спачатку выдаў свайго Рабінзона Круза за праўдзівыя ўспаміны «марака із Ёрка». Праз год ён надрукаваў сваю другую містыфікацыю – «The Memoirs of a Cavalier or a Military Journal. 1632-1646» – успаміны ангельскага афіцэра пра сваё знаходжанне ў Германіі і пра грамадзянскую вайну ў Англіі, прыпісаўшы аўтарства аднаму рэчаіснаму палкоўніку Эндр'ю Ньюпарту, пры гэтым дадаў і яго партрэт на тытульны ліст. Але калі зацікавіліся біяграфіяй гэтага палкоўніка, то выявілася, што Ньюпарт нарадзіўся ў 1622 годзе, тады як у «Мемуарах» аўтар паведамляе, што ён нарадзіўся ў 1608 годзе. Аднак, гэтае «несупадзенне» дат яшчэ не вымусіла сумнявацца ў праўдзівасьці мемуараў, і толькі характэрныя для Дэфо дэталі выкрылі аўтара. Ды і трэцці яго раман «Дзённік Чумнога года» з'яўляецца містыфікацыяй. У ім гараджанін, правёўшы быццам бы, увесь 1665 год у зачумленым Лондане, апісвае бачаныя ім падзеі, але яго кніга, згодна са словамі выдаўцы, не магла быць надрукаванай у свой час праз шматлікія гвалты над лекарамі пад час тых дзён.

Наколькі вялікім пад час XVIII стагоддзя было імкненне пісаць ад чужога імя, паказвае і тое, што сам Свіфт, аўтар «Гулівера», надрукаваў свае раман у выглядзе мемуараў з прадмовай нейкага Рычарда Сімпсена, пісаўшага, што аўтарам гэтай кнігі з'яўляецца яго блізкі прыяцель містар Gulliver. У першым выданні 1726 года быў дадзены і партрэт самога Гулівера, а пад партрэтам быў надпіс Captain Gulliver of Redrix (ва ўзросьце 58 гадоў). Цікава пазначыць, што прозвішча свайго героя Свіфту не давялося нават і прыдумляць. У Лондане знаходзілася кніжная крама Лоутана Гулівера, якую і Філдынг і Арбэтнот абралі для некаторых твораў у якасьці псеўданіма.

Класічныя ўзоры фальшывых мемуараў мы знаходзім асабліва ў Францыі. Некаторыя выдавецтвы там нават спецыялізаваліся на падобных мемуарах; такімі былі ў Парыжы «L'advocat», і інш. На прыканцы 20-х і напачатку 30-х гадоў парыжскі кніжны рынак выкідваў адну містыфікацыю за дугой. З'явіліся «Мемуары Людовіка XVIII, сабраныя герцагам *** у дванаццаці тамах, у падставу якіх была памешчана кніга (падробленых) мемуараў таго ж Людовіка, напісаная баронам Лямот-Лангам (Lamothe-Langon), але хто з'яўляўся аўтарам

дванаццацітамовых мемуараў, да гэтага часу невядома. Лямот-Лангон служыў спачатку прэфектам Каркасона, але быў звольнены і спецыялізаваўся на фальшывых успамінах. Ён з'яўляецца аўтарам «Гістарычных і анекдатычных мемуараў герцага Рышэлье», выдадзеных у 1829 годзе ў шасьці тамах, і «Вытрымак із мемуараў князя Талейрана». Наступныя за гэтым чатырохтомныя мемуары Талейрана былі надрукаваны ў 1838 годзе і ахапілі эпоху консульства і імперыі.

У тым жа годзе былі надрукаваны два тамы «Ўспамінаў арыстакраткі», агента герцага Равіга, якая назірала ў Англіі за сям’ёй Бурбонаў, а аўтарам падробкі быў той жа Лямот-Лангон разам з Амадэем Пішо (Pichot) і Фер’е (Ferrier). Поспех іх быў такім вялікім, што ў тым жа годзе былі надрукаваны яшчэ чатыры тамы пад загалоўкам «Memoires d’une femme de qualite sur Louis XVIII, sa cour el son regne». Акрамя Лямот-Лангона і Пішо, у гэтай падробцы браў удзел і Шарль Надз’е. А ў наступным годзе выйшаў яшчэ працяг: «Revelations d’une dame de qualite sur les annees 1830 і 1831», напісаны ў двух тамах тым жа Лямот-Лангонам. Ён жа напісаў яшчэ чатырохтамовыя ўспаміны пра Марылю-Антуанэту ад імя прыдворнай дамы графіні Д’Адэмар (d’Adhemar), выдадзеныя ў 1836 годзе, і выпусьціў у наступным годзе ў Лондане мемуары Сафі Арну (Arnould) у двух тамах, а ў Парыжы – трохтамовыя мемуары герцагіні Дзю-Бэры. Дапамагалі яму Гінар (Hinard), Грымо (Grimaud) і Фер’е, а для захавання адзінства стылю іхнае рэдагаванне была даручана згаданаму намі Пішо. Матэрыяламі для іх з’яўляліся кнігі пра Дзю-Бары, надрукаваныя ў Лондане да рэвалюцыі, анекдоты пра яе, яе лісты і кніга «Vie d’une courtisane de dix-huitieme siecle». Майстэрскім аўтарам фальшывых мемуараў быў таксама і былы дыпламат дэ-Вілламарэ (de Villamarest), на якога ў свой час звярнуў увагу Напалеон. Атрымаўшы ў сваю дырэктыву каля сотні старонак успамінаў Бур’ена (Bourienne), сакратара, а потым міністра Напалеона, Вілламарэ надрукаваў у 1829-1830 годзе ў Парыжы дзесяць тамоў «Мемуараў г. Бур’ена пра Напалеона, дырэкторыю, консульства, імперыю ў рэстаўрацыі», меўшых поспех скандала, дзякуючы некаторым анекдотам, накшталт таго, як Напалеон «жадаў мець дзіцёнка» ад жонкі аднаго пяхотнага афіцэра Фурэ ((Foures) і за сняданкам гаварыў Бур’ену: «Неразумная ніяк не можа яго зрабіць». А калі гэтай даме паказалі на шэраг пераваг, злучаных для яе з нараджэннем дзіцёнка ад Банапарта, яна адказала: «Слова гонару! Гэта не па маёй віне!» Той жа Вілламарэ напісаў «Мемуары камерысткі Жазэфіны пра прыватнае жыццё гэтай імператрыцы, яе радні і двара», выдадзеныя ў 1833 годзе ў двух тамах, а таксама мемуары вядомага італійскага кампазітара Бланджыні (Blangini), надрукаваныя ў 1835 г. Падробленымі выявіліся і сямітамовыя мемуары маркізы дэ-Крэкі (Crequi) за перыяд часу ад 1710 да 1800 год, надрукаваныя ў 1834 годзе і прыпісаныя Кузэну (Cousin) і дэ-Куршану (Courchamps), імя якога злучана і з мемуарамі знакамітага Джузэпэ Бальзама, вядомага пад імем графа Каліостро, вялікага духазорца, дурыўшага перад Французкай рэвалюцыяй велікасвецкія салоны шмат якіх еўрапейскіх краін. Падарожнічаючы па Яўропе, ён зваў сябе то графам Феніксам, то графам Пеллегрыні, меў высокіх апекуноў, а сярод вучняў – кардынала дэ-Роган, разам з якім апынуўся замяшаным у вядомай справе пра «выкраданне караляў». Ад суда ён здолеў вызваліцца. У 1789 годзе ён патрапіў у Рым, дзе быў прысуджаны інквізіцыяй за «чарадзейства» да пакарання сьмерцю, але папа замяніў яму сьмерць на пажыццёвае заняволеннем, і ў 1795 годзе ён памёр у турме пяцідзесяці двух гадоў. І вось, у 1841 годзе ў парыжскай газеце «Presse» было абвешчана пра друкаванне яго нявыдадзеных мемуараў, быццам бы перакладзеных із італійскага

рукапісу «par un gentilhomme». Першы эпізод пад назвай «Val funeste» быў надрукаваны раней, а ў кастрычніку таго ж года з’явіўся артыкул, у якім вельмі пераканаўча даводзілася, што два эпізоды із гэтых псеўда-мемуараў псеўда-Каліостра амаль цалкам запазычаны із польскіх раманаў Патоцкага. Дэ-Куршан патлумачыў непрыемнае супадзенне тым, што, ужо даўно пераклаўшы італійскія мемуары Каліостра, ён аддаў свой пераклад аднаму польскаму магнату графу Паку, які камусьці яго даручыў, а гэты невядомы паведаміў Патоцкаму. Потым Куршан быў вымушаны перамяніць гэтую версію і ў выніку «Прэса» дала яму позву пра вяртанне авансу і пра выплату шкоды, зробленай газеце містыфікацыяй у памеры дваццаці пяці тысяч франкаў, і суд з поўнай праўдзівасцю выявіў фальшывасць «мемуараў Каліостра», якія дзякуючы гэтаму і не былі надрукаваны.

Для таго, каб паказаць інтымнае жыццё двара Напалеона, містыфікатары выдалі ў 1830-1831 годзе шасьці тамовыя мемуары яго першага лакея Канстанта, у стварэнні якіх брала ўдзел некалькі аўтараў, сярод якіх быў і навуковец антыквар Ракфор (Roquefort). Ангельскі каралеўскі двор таксама прыцягнуў да сябе ўвагу французкіх містыфікатараў, і ў 1820 годзе выйшлі мемуары «Бергамі, каханка ангельскай каралевы Караліны», напісаныя Вату (Vatout).

У мяне няма магчымасці пералічыць усе мемуары, падробленыя ад імя вядомых асоб, пра якія паведамляюць гісторыкі гэтага роду літаратуры. Згадаю толькі пра мемуары ката Сансона (Sanson), якія ўпершыню былі надрукаваны ў 1830 годзе і ў свой час былі перакладзены на шмат якія еўрапейскія мовы. «Сансоны» – паведамляе Яўген Лан, грунтуючыся на кнізе якога «Літаратурная містыфікацыя» я непасрэдна рэфераваў вялікую частку павядомленых на папярэднічаўшых старонках фактаў, – гэта дынастыя французкіх катаў. Да Вялікай рэвалюцыі ў Францыі, налічваўшай каля ста сямідзесяці катаў, вядома было некалькі дынастый гэтых «выканаўцаў высокіх спраў» (executeurs des hautes oeuvres), як яны афіцыйна называліся. Самай галоўнай і самай даўняй із іх лічылася дынастыя Сансонаў – катаў Парыжа, Тура і Рэймса.

«Французкі гісторык Ленотр здолеў высветліць, што ў архіўных матэрыялах імя Сансон ўпершыню згадваецца ў 1688 годзе: Шарль Сансон, па мянушцы Лонгваль, указам Людовіка XIV прызначаецца катам Парыжа. Яго сын Шарль афіцыйна ўспадкоўваў яму на гэтай пасадзе ў 1707 годзе і ў 1726 годзе праз натарыуса перадаў тытул ката свайму сямігадоваму сыну Шарлю-Жану-Батысту, да паўналецця якога выконваў абавязкі ката яго афіцыйны памагаты. У 1740 годзе Шарль-Жан-Батыст прыступіў да выканання абавязкаў, але, разбіты паралічам праз чатырнаццаць гадоў, ён больш працаваць не мог, і хаця яго старэйшы сын Шарль-Анры фактычна замяшчаў яго пачынаючы ад 1751 года, але тытул перайшоў да Шарля-Анры, калі трэцці «monsieur de Paris» ад нараджэння Сансонаў памёр. Афіцыйна Шарль-Анры быў прызначаны катам Парыжа пасьля сьмерці бацькі ў 1778 годзе, а ўсе шэсць яго братоў атрымалі прызначэнне на пасаду катаў у розных гарадах. Калі грымнула рэвалюцыя, ён займаў пасаду ката ўжо адзінаццаць гадоў, у 1789 годзе ён з тым жа тытулам перайшоў на службу рэспублікі і толькі ў верасні 1794 года праз хваробу склаў свае абавязкі. Такім чынам, перад яго вачамі прайшла ўся рэвалюцыя, і сучаснікі далі яму мянушку «Краевугольны камень рэвалюцыі». Яго наступнікам быў прызначаны яго сын Анры, пасьля сьмерці якога ў 1840 годзе афіцыйна атрымаў пасаду «выканаўца службовых прысудаў» апошні кат із роду Сансонаў – Клеман-Анры».

Лёгка сабе ўявіць, як прывабна было раманісту напісаць мемуары таго із гэтых «спадароў Парыжа», які служыў пры рэвалюцы і гэта было зроблена Бальзакам у 1829 годзе. Бальзак тут сабраў шмат матэрыялаў, маючых дачыненне

да рэвалюцыйнай эпохі, але чытач, пад час тых гадоў ужо распешчаны мемуарамі «скандальнага» тыпу, напісанымі ад імя герояў той жа эпохі, амаль не звярнуў увагі на бальзакаўскія «Ўспаміны ката». Гэтыя псеўда-мемуары поспеху не мелі. Не мелі поспеху і ўспаміны парыжскага ката Шарля-Анры, выдадзеныя ў наступным, 1830 годзе і «надрукаваныя Грэгуарам». Гэта быў аднастайны збор бясталанна выкладзеных анекдотаў, маючых дачыненне да рэвалюцыі і ніякай цікавасьці не ўяўляўшых.

«Іншы лёс чакаў трэцюю падробку гэтага роду, надрукаваную ў 1863 годзе ў шасьці тамах пад назвай: «Сем пакаленняў катаў», 1688-1817. Мемуары Сансонаў, прыведзеныя ў парадак, адрэдагаваныя і надрукаваныя А. Сансонам, катам пры Францускім судзе». Гэтым разам «Мемуары ката» мелі вялізны поспех. Адно толькі іхнае ілюстраванае выданне разышлося ў колькасьці васьмідзесяці тысяч асобнікаў, і ўсе шэсць тамоў былі перакладзены на замежныя мовы. Іхным уяўным аўтарам быў Анры-Сансон, афіцыйна заняўшы ў 1840 годзе пасаду, на якую меў права згодна з усталяванай традыцыяй. Але ён цалкам не рэдагаваў успамінаў сваіх продкаў і не даваў сваіх уласных. Праслужыўшы катам сем гадоў, ён быў звольнены ў 1847 годзе, і ў гісторыі роду Сансонаў гэта быў першы і апошні выпадак. Справа ў тым, што Клеман-Анры быў схільны жыць шырока і, нягледзячы на атрыманае ім па спадчыне багацце, хутка патрапіў у залежнасць ад ліхвяроў. Аднойчы яны пасадзілі яго ў Клішы за невыплату абавязкаў, згаджаючыся вызваліць толькі з адной умовай: Сансон павінен быў аддаць ім пад заклад запазычаных грошай сваю гільятыну. Разлічваючы хутка расплаціцца, ён пагадзіўся, аддаў гільятыну, але на сваё няшчасьце хутка атрымаў загад ад судовых уладаў з'явіцца з ёю для выканання абавязкаў. Крэдыторы не пагадзіліся аддаць яе яму да вяртання пазыкі і ўрад звольніў недарэчнага ката, прызначыўшы на яго месца іншага. Дынастыя Сансонаў спынілася. Клеман-Анры знік, але напачатку 60-х гадоў яго знайшоў нейкі журналіст, прапанаваўшы яму ад імя выдавецтва вялікую суму за права скарыстацца пры друкаванні «Мемуараў ката» імем апошняга Сансона, як рэдактара ўспамінаў сваіх продкаў. Прозвішча журналіста, задумаўшага гэтую кнігу, было д'Альбрэз (Olbreuse). Сансон пагадзіўся даць для яе сваё імя. Д'Альбрэз напісаў да яе прадмову, у якой паведаміў, што, ён, апошні із Сансонаў, паставіў перад партрэтамі сваіх продкаў чарку з вадой і, бяручыся за гэтыя ўспаміны, урачыста памыў рукі для таго каб змыць кроў «сваіх блізкіх». Склаўшы пасьля гэтага тры-чатыры першыя главы, д'Альбрэз знясіліў сваю фантазію і адшукаў нейкага раманіста (прозвішча яго невядома), які, па-сутнасьці, і напісаў усе мемуары. А Сансон за сваё «маўчанне» атрымаў каля трыццаці тысяч франкаў. Містыфікацыя выкрылася ў 1875 годзе, і, такім чынам, кніга ператварылася ў звычайны гістарычны раман і нават не без цікавасьці».

Як цалкам адмысловая нагода да містыфікацыі з'яўляецца «Манашка» Дзідро. У гэтым рамане аўтар выступае ў ролі мараліста, але майстэрства, з якім напісана кніга, вымушае забыцца пра яе тэндэнцыйнасць.

Намінальны аўтар і гераіня рамана – Сюзана, – шаснаццацігадовая дзяўчына, аддадзена сваёй маці у кляштар. Яна наіўная, але дастаткова назіральная для таго каб чытач прыйшоў у жах пры апісанні ёю закулісных бакоў кляштарскага жыцця. Яна не толькі агаляе сістэму духоўнага гвалту за сьценамі прыстанку, але і расчыняе такія таямніцы кляштарскага жыцця, пра якія Францыя XVIII стагоддзя ўжо ведала із працэсаў, але забывалася праз кароткі тэрмін.

Фрыдрых Грым – адзін із самых слынных супрацоўнікаў «Энцыклапедыі», паведамляе такую гісторыю стварэння гэтага рамана. Адзін із адданых сяброў энцыклапедыстаў маркіз Круамар (Croimar) пайшоў у адстаўку і ў 1759 годзе з'ехаў у свой нармандзкі маёнтак. Для ўсіх сяброў згуртавання ад'езд Круамара з'явіўся вялікай стратай. Нягледзячы на настойлівыя прашэнні энцыклапедыстаў вярнуцца

ў Парыж, той цвёрда вырашыў заставацца ў Нармандыі. І вось, Дзідро выкарыстаў для яго вяртання містыфікацыю. Ён згадаў, што, незадоўга перад ад'ездам Круамара, адна маладая манашка із Ланшан звярнулася да абароны суда супраць яе пасялення ў кляштар, куды яна была аддадзена бацькамі супраць сваёй волі. Круамар вельмі абураўся адмоўным рашэннем суда і Дзідро вырашыў выкарыстаць гуманнасць прыяцеля ў інтарэсах сваіх сяброў. Ад імя міфічнай манашкі Сюзаны Сіманэн, збегшай із кляштара, ён напісаў яму ліст з прашэннем пра дапамогу і абарону. Маркіз прыняў вельмі блізка да сэрца становішча няшчаснай дзяўчыны і паміж імі пачалося ліставанне. Адпаведна з прашэннем Сюзаны Круамар адрасаваў свае лісты на імя ўдавы афіцэра мадам Мадэп, якая жыла ў Версалі, а яна перасылала іх да Дзідро, не ведаючы пра змест і праз яе ж ішлі адваротныя лісты ад Дзідро, па-майстэрску падрабляўшага жаночы почырк; частка яго лістоў Круамару была ад імя Сюзанны, а другая ад імя мадам Мадэн. Калі Круамар пажадаў больш падрабязна даведацца пра біяграфію Сюзанны, Дзідро і перад гэтым не спыніўся, і апісваючы няшчасьці беднай дзяўчыны, захапляўся так, што сябры заставалі яго плакаўшым над адваротнымі лістамі маркізу. Але той усё ж падмануў чаканні Дзідро: замест таго, каб вярнуцца ў Парыж, ён прапанаваў Сюзанне прыехаць да яго ў маёнтак у якасьці кампаньёнкі яго дачкі.

Бачучы, што містыфікацыя набывае нечаканы паварот, Дзідро вырашыў выракчы Сюзанну на сьмерць і ў бліжэйшым жа лісьце ад імя мадам Мадэп паведаміў пра тое, што няшчасная дзяўчата памёрла. Круамар быў глыбока засмучаны і прасіў «удаву афіцэра» даслаць яму нататкі, якія, як быццам бы, вяла Сюзанна пра сваё знаходжанне ў кляштары. Невядома, ці выправіў Дзідро Круамару гэтыя ўспаміны, г.азн. напісаны ім раман «La Religieuse», які з'явіўся толькі ў 1796 годзе, праз восем гадоў пасьля таго як маркіз вярнуўся і Парыж і выявілася містыфікацыя.

І амаль кожны із містыфікатараў, звяртаючыся да падробкі аўтабіяграфічных твораў, прыпісваемых прыдуманым аўтарам, працуе над імі так жа, як працаваў Дзідро. Асноўныя сведчанні пра ўяўляемага аўтара паведамляюцца ў прадмове, нярэдка тамсама даецца і яго характарыстыка, г.азн. ствараюцца першыя рыскі выявы, якая вымалёўваецца толькі із самога твора. Часам прадмовы не бывае, але гэта не перашкаджае таму, каб із таленавітай падробкі вырасла правільная і закончаная выява. Цалкам відавочна, што эфектыўнасць твора стаіць у непасрэднай залежнасьці толькі ад ступені майстэрства з якім містыфікатар распрацоўвае выяву галоўнага, асноўнага свайго героя, прыдуманага аўтара.

Такія містыфікацыі мяжуюць з псеўданімнымі творамі. Злосныя ж містыфікатары звычайна пішуць не раманы.

Нямала злосных апокрыфаў ведае гісторыя царквы, якой не атрымоўвалася ў шэрагу выпадкаў усталяваць рэчаіснасьць невядомых да таго часу і зноў адкрытых ёю пісьменнікаў. Незлічоныя падробкі, аўтарамі якіх несумнеўна з'яўляюцца багасловы, закранулі нават і індусаў.

Адна із іх увяла ў зман і Вальтэра, які знайшоў у Парыжскай нацыянальнай бібліятэцы кнігу «Ezur-Vedam», каментуючую Веды. Ён не сумняваўся, што гэтая кніга «была напісана брамінамі да паходу ў Індыю Аляксандра Македонскага», і яе французкі пераклад, як бы із санскрыцкага рукапісу быў выдадзены у 1778 годзе. Але праз некаторы час атрымалася ўсталяваць яго падробленасць. Усё было напісана каталіцкімі місіянерамі, заданнем якіх было пераічванне вучэння брамінаў. Ды і ў Індыі ў бібліятэцы місіянераў былі знойдзены падробленыя

каментары такога ж рэлігійна-палемічнага характару да іншых частак Ведаў, таксама прыпісаныя брамінам. Аналагічнай падробкай быў уведзены ў зман і ангельскі санскрытолаг Джонс («Jones»), які пераклаў зноў адкрытыя ім вершы із Пураны, выкладаючыя гісторыю Ноя і напісаныя нейкім індусам у выглядзе старажытнага санскрыцкага манускрыпта. **Ды і наогул уся старажытная літаратура настолькі недарэчная для той стадыі разумовага і літаратурнага развіцця, якая існавала за 2000 гадоў да нашага часу, што яе цалкам даводзіцца далучыць да містыфікацый.**

Навукоўцы Эпохі Адраджэння не задавальняліся «знаходкамі» рукапісаў ужо вядомых да іх пісьменнікаў, яны паведамлялі адзін аднаму пра «адкрыццё» імі і новых невядомых да таго часу аўтараў, як зрабіў у XVI стагоддзя Мюрэ, даслаўшы Скалігеру свае ўласныя вершы пад імем забытых лацінскіх паэтаў Attius'a і Trabeas'a. Нават гісторык Ж. Бальзак стварыў прыдуманага лацінскага паэта. Вялікі майстар лацінскай версіфікацыі, ён уключыў у выданне сваіх лацінскіх вершаў, надрукаваных у 1665 годзе, пасьля яго сьмерці, адзін усхваляючы Нярона і, як бы, знойдзены ім на напалову спарахнелым пергаменце і прыпісаны невядомаму сучасніку Нярона. Гэты верш на працягу доўгага часу не выклікаў ніякіх падазрэнняў і ўключаўся ў анталогію лацінскіх паэтаў, пакуль не здолелі давесьці яго падробленасць.

Пералічваць аналагічныя падробкі – азначала б даць поўны каталог усёй лацінскай і грэцкай літаратуры, і таму мы падзначым толькі ўжо даўно доказаныя. Перадусім варта згадаць пра надрукаваны Мантэск'ё ў 1729 годзе французкі пераклад выдатнай грэцкай паэмы ў духу Сафо, вельмі хутка перакладзенай з яго перакладу і на іншыя еўрапейскія мовы. У сваёй прадмове аўтар «Духу законаў» паведамляе, што гэтыя сем песень, маючыя агульнае найменне Temple de Cnide, напісаны невядомым паэтам, жыўшым пасьля Сафо, і знойдзены ім у бібліятэцы аднаго грэцкага біскупа. Толькі значна пазьней Мантэск'ё прызнаўся ў сваёй містыфікацыі. Не менш спрактыкавана былі падроблены ў 1826 годзе знакамітым італійскай паэтам Леанарду дзьве грэцкія оды ў стылі Анакрэона, напісаныя, як бы невядомымі да таго паэтамі. Ён жа надрукаваў і сваю другую падробку – пераклад лацінскага пераказу грэцкай хронікі, прысвечанай гісторыі айцоў царквы і апісанню гары Сінай.

Але ледзь не самай удалай із падробак антычных класікаў варта прызнаць містыфікацыю П'ера Луіса (Louys), аддзеленую ад нас параўнальна невялікім прамежкам часу. Томік яго «Песень паэткі Білітыс» надрукаваны ў 1894 годзе, а раней яе асобныя песьні друкаваліся ім у «Mercure de France». У прадмове да зборніка Луіс паведаміў пра знойдзеныя ім «песьні» гэтай невядомай грэцкай паэткі шостага стагоддзя да нашай эры і згадаў пра тое, што нейкі d-r Heim нават знайшоў яе магілу ў Palaemo Limisso. Два нямецкія навукоўцы – Эрнст і Віламовіц-Мюлендорф – адразу ж прысьвяцілі новаадкрытай паэтцы артыкулы, і імя яе было занесена ў «Слоўнік пісьменнікаў» Лале і Жыдэля, як аўтара «элегій і пастараляў», а ў наступным выданні «Песень» Луіс размясьціў і яе партрэт, для якога скульптар Ларану скапіяваў адну із тэракот Луўра. Поспех Білітыс быў такім вялікім, што шмат хто із наведвальніц Луўра шукалі ў антычных залах бюст «новай Сафо», а адна із пісьменніц з выхоўваючай мэтай памясьціла некалькі з іх у «Revue des jeunes filles», як узоры высокага элінскага мастацтва. Яшчэ ў 1908 годзе не ўсім было вядома пра містыфікацыю Луіса, таму што ў тым годзе ён сам атрымаў ад

аднаго афінскага прафесара ліст з прашэннем паказаць, дзе захоўваюцца арыгіналы песень Білітыс.

Але містыфікатары знаходзілі «невядомых паэтаў» не толькі ў антычным сьвеце. Я ўжо паведамляў, што антычнасьцю, нарэшце, насыціліся. Пачалі «адкрываць» выдатных пісьменнікаў, жыўшых і пад час эпохі сярэднявечча і ў новы час. Сярод такіх адкрыццяў ледзь ці не самымі значнымі з'яўляюцца Чатэртонавы «Паэмы Роулея». Аўтар нядоўга падманваў дасьледчыкаў, але, усё ж, яго містыфікацыя павінна заняць месца ў першым шэрагу выдатных падробак.

«Томас Чатэртон, – паведамляе Яўген Лан[402], – жыл нядоўга. Васямнаццаці гадоў ён пакончыў з сабой. Яго жыццё, паэтычны лёс і гісторыя яго містыфікацыі ўяўляюць для нас асаблівую цікавасць, таму што спадчына, пакінутая гэтым хлопчыкам, не дазваляе сумнявацца, якога вялікага паэта ў ім страціла Англія». У адным із старажытных ангельскіх гарадоў, Брыстолі, у музыканта, паэта і фантазёра Томаса Чатэртона, спевака брыстольскага сабора, у 1752 годзе нарадзіўся сын, якому далі імя Томас. Дзядзька Томаса служыў дзякам у старажытнай рэдкліфскай царкве, «гонары Брысталя і заходніх земляў». Усё дзяцінства Томаса злучана з гэтай рэдкліфскай царквой – пышным узорам готыкі. Пачынаючы ад малых гадоў ён дыхаў паветрам сярэднявечча. Для ўражлівага хлопчыка, зжыўшагася са статуямі рыцараў і манахаў і праводзіўшага ўсе забавы ў цэркве, нібы не існавала Брыстоля XVIII стагоддзя. Сярэднявечная готыка не толькі дала штуршок развіццю яго эстэтычнага густу, але і строга абмежавала кола яго інтарэсаў. Ён жыў у мінулым і меў жаданне пра гэтае мінулае ведаць як магчыма больш. Аддадзены ў школу пры Кальстонскім шпіталі, размешчаным каля парэшткаў старога кармеліцкага кляштара, ён вельмі шмат чытаў. Ужо ў восем гадоў ад нараджэння ён мог вучыцца цэлы дзень не адрываючыся. Яго творчая фантазія была запоўнена выявамі сярэднявечнай Англіі; ён нібы-та спяшаўся прачытаць усё, што малявала яму побыт і норавы XV стагоддзя, і грунтуючыся на невялікіх згадваннях у справаздачах магістрата пра тых ці іншых жыхароў сярэднявечнага Брыстоля ён спрабаваў аднавіць даўно забытыя выявы яго жыхароў. Адзінаццаці гадоў ад роду ён упершыню выступіў у друку. У двары рэдкліфскай цэрквы нехта разбурыў крыж, і Чатэртон паслаў у мясцовую газету сатыру на «царкоўных вандалаў». А летам 1764 года ён ужо паведаміў аднаму са сваіх таварышаў па школе пра тое, што знайшоў у адной са скрынь рэдкліфскай цэрквы шмат старажытных рукапісаў.

Так, у дванаццацігадовага Чатэртона ўжо аформіліся ўсе тыя выявы, якія ён дадаў да сваёй містыфікацыі. Некалі, у XV стагоддзі рэдкліфскую царкву рэстаўраваў брыстольскі купец Кеніндж. Грунтуючыся на старажытных дакументах Чатэртон змог аднавіць некаторыя падзеі яго біяграфіі: купец некалькі разоў пабываў мэрам горада пад час эпохі Генрыха VI і аднойчы быў накіраваны Брысталем у парламент. Яго асоба ў Чатэртона зведала грунтоўную творчую перапрацоўку. Ён стварыў із яго асьвечанага апекуна навук і мастацтваў, атачыў яго часткова гістарычнымі асобамі, пра якіх ён даведаўся із гарадзкіх справаздач, частквава прыдуманымі, сярод якіх стварыў выбітную фігуру паэта Томаса Роулея (Rowley), прыходзкага сьвятара, і аматара старажытных рукапісаў, зрабіўшагася чымсьці нападобе хатняга паэта пры Кеніндж. Гэты ўяўляемы Роулей і пісаў нібы-та для хатняга тэатра свайго брыстольскага купца інтэрлюдыі «Эла», «Годвін» і інш. Сам Кеніндж таксама, згодна з задумай хлопчыка, займаўся літаратурай і Роулей нярэдка ўсхваляе свайго апекуна ў вітальных вершах. У гэтым уяўляемым кружку ўдзельнічалі і іншыя паэты: прыдуманы канонік Джон Ікэм, часам пісаўшы супольна з Роулеем, і Джон Лідгэт – вядомы паэт той эпохі.

Па меры стварэння ўсіх гэтых інтэрлюдый і і паэм, хлопчык усё часьцей і часьцей паведамляў таварышам па школе і свайму настаўніку пра зробленую ім «знаходку» ў редкліффскай царкве старажытных манускрыптаў: твораў Роулея, апісанняў некаторых

[402] Яўген Лан, Літаратурная містыфікацыя, стар. 181.

гарадзкіх падзей, лістоў, нататак, рахункаў і г.д. У 1767 годзе ён паказаў аднаму алавяніку Бэргаму пергамент, упрыгожаны гербамі, на які, нібы-та, мелі права яго продкі, а таксама паэму, напісаную адным із гэтых продкаў. Потым ён перадаў Барэту, збіраўшаму матэрыял маючы дачыненне да гісторыі Брыстоля, копіі розных дакументаў, маючыя дачыненне да редкліффскай царквы, і дзьве паэмы прыдуманага ім Роулея: і «Бітва пры Гастынгсе» і «Парламент духаў». А ў наступным годзе ў «Брыстальскай газеце Фарлея» з’явілася новая падробка: у сувязі з адкрыццём моста праз раку Эван Чатэртон ананімна выправіў рэдактару апісанне існаваўшага там старажытнага маста пад час эпохі Генрыха II, як бы скапіяванае са старых рукапісаў. Сьледам за тым ён перадаў Кэткату некалькі копій «Трагічных інтэрлюдый Роулея»: «Эла», «Брыстольская трагедыя» і інш. Адну із копій «Элы» ён выправіў лонданскаму выдаўцу Додэлі, але той нічога не адказаў. Потым Чатэртон выправіў Горэсу Уольпалю копію ўрыўка із «The Ryse of Peynteynge in England» – твор, нібы-та напісаны Роулеем для Кеніджа, дзе ён выкладаў гісторыю нейкага Эфліма, маляра па шклу, узятага ў палон датчанамі. Уольпаль не западозрыў тут ніякай містыфікацыі, і ў адваротным лісьце даў вельмі высокую ацэнку «вершам абата Джона», запытаўшы Чатэртон а і пра тое, дзе ім былі знойдзены рукапісы.

Але другі дасланы ўрывак таго ж твору выклікаў у Уольпаля падазрэнне. У той час грамадзкая думка ўжо схілялася да высновы пра містыфікацыю Мак Ферсона і таму Уольпаль насьцярожыўся. Параіўшыся з Грэем, ён прызнаў другі ўрывак падробленым, пра што вельмі мякка паведаміў юнаку ў Брыстоль і выправіў яму рукапіс. Якраз у той час Чатэртон пачаў супрацоўнічаць у лонданскім часопісіку «Гарадзкі і вясковы часопіс», куды пасылаў свае артыкулікі і невялікія вершы. У гэтым часопісе яму атрымалася размясьціць і адзіную паэму ад імя Роулея, «Элінор і Джюг», надрукаваную яшчэ пры жыцці юнака.

У наступным, 1770 годзе ён пераехаў у Лондан. Яго літаратурны заробак быў такім мізэрным, што нярэдка ён на працягу трох дзён нічога не еў. У жніўні таго ж года ён атруціўся.

Яго смерць прайшла, вядома, незаўважанай. Але памаленьку пашырылася чутка пра тое, што ў Брыстоле захоўваюцца старажытныя рукапісы, а юнак, «знайшоўшы» іх, памёр ад голаду. Праз шэсць гадоў пасьля яго сьмерці Сэмюэль Джонсан, аспрэчваўшы, як мы бачылі, сапраўднасць Асіяна, прыехаў у Брыстоль і даследаваў рукапісы памёршага паэта – «паэмы Роулея». Сваю думку пра Чатэртона ён сфармуляваў так: «Гэта – самы вылучны юнак із усіх, якіх я калі-небудзь ведаў. Можна толькі дзівіцца таму, як гэты дзіцёнак здолеў напісаць такія рэчы».

Нягледзячы на тое, што да «Паэмам Роулея», выдадзеным праз год, была дададзена выдаўцом прадмова, у якой паведамлялася пра містыфікацыю, вакол пытання пра падробку завязалася спрэчка. Чацьвёра навукоўцаў багасловаў – Сымон, Шэрвін, Брайян і Міль – аспрэчвалі містыфікацыю. Але пергаменты Чатэртона былі падроблены вельмі немайстэрскі – хлопчык не быў дасьведчанным ў дэталях містыфікацыі. Паказаны былі і філалагічныя памылкі.

Штое ж да мастацкіх вартасьцей паэм Чатэртона ад імя Роулея і да здольнасьці геніяльнага хлопчыка перадаць дух сярэднявечча – пра гэта не было спрэчкі. Англія страціла, згодна са сведчаннем Мэлана (Malone), «самага вялікага генія з часоў Шэкспіра».

Але і далёкі ад Заходняй Яўропы азіяцкі Ўсход таксама не пазбег увагі містыфікатараў. У якасьці перакладу із арабскага манускрыпта, у 1786 годзе была выдадзена аповесць «Vateck», якая, згодна са сведчаннем Байрана, «перавышае ўсе еўрапейскія перайманні». Але ў гэтай містыфікацыі сам аўтар быў не вінаваты. Імя яго было Бэкфард (Beckford) і напісаў ён сваю аповесць за трое сутак, нават не думаючы пра падробку, па-французку, а ангельскі перакладчык Гелі (Henley) надрукаваў яе падчас яго адсутнасьці ў Англіі, як пераклад із арабскага рукапісу. Раззлаваны Бэкфард выдаў тады ў Лазане «Vateck’a» па-французку і на гэтай мове

аповесць неаднаразова перавыдавалася. Вялікі поспех у сярэдзіне XVIII стагоддзя мела таксама кніга «Эканомія чалавечага жыцця», напісаная, як бы, брамінам і перакладзеная, быццам бы, із індускага манускрыпта. Гэтая кніга неаднаразова перакладалася на некалькі еўрапейскіх моваў, пры гэтым яе еўрапейскага аўтара не атрымалася ўсталяваць і да сучаснасьці.

Із псеўда-арабскага рукапісу была перакладзена і «Гісторыя заваёвы Гішпаніі маўрамі», выдадзеная ў двух тамах у 1600 годзе ад імя Абул-Касіма – адна із самых старых арабскіх падробак. Значэнне гэтай псеўда-арабскай хронікі для псеўда-гісторыі Гішпаніі было вельмі вялікім. Кнігай Абул-Касіма, яе уяўляемага аўтара і сучасніка заваёвы, карысталіся ўсе гісторыкі XVII стагоддзя як матэрыялам, не выклікаючым ніякіх сумневаў, аж да пачатку XVIII стагоддзя, калі было даказана, што яе псеўда-перакладчык Мігель-дэ-Луна (Miguel de Luna) сам напісаў усю гэтую гісторыю, містыфікаваўшы еўрапейскіх навукоўцаў. Вялікую сенсацыю зрабіла таксама знаходка італійскага антыквара Курцыо (Curzio). У 1637 годзе ён надрукаваў «Фрагменты этрускай старажытнасьці», быццам бы, грунтуючыся на манускрыптах, знойдзеным ім закапанымі ў зямлю. Але знаходка хутка была выкрыта: усталявалі, што Курцыо, каб надаць пергаменту старажытны выгляд сам закапаў падроблены ім дакумент у зямлю. Такі ж лёс, г.азн. выкрыццё, напаткаў і выдадзеную напачатку XVIII стагоддзя рыфмаваную старажытную хроніку па гісторыі Бельгіі – «Analecta Belgica». Але асабліва цікавай была гісторыя раскрыцця наступнай падробкі. У 1762 годзе капелан Мальтыйскага ордэна Вела (Vella), суправаджаючы ў Палерма арабскага пасланніка, пры наведванні ім аднаго із абацтваў, пабачыў там у бібліятэцы старадаўні арабскі рукапіс. Гэтая знаходка наштурхнула яго на думку «дапамагчы нейкай падробкай гісторыкам Сіцыліі знайсьці матэрыялы для асьвятлення яе двухстагоддзевага арабскага перыяду. Калі пасол з’ехаў у Афрыку, Вела распусьціў чутку, што гэты дыпламат знайшоў старажытны арабскі рукапіс утрымліваючы ліставанне паміж уладамі Аравіі і арабскімі губернатарамі Сіцыліі. Для таго, каб заручыцца даверам і заступніцтвам арцыбіскупа Гераклеі, ён папярэдне падрабіў для яго сваё, як бы, ліставанне з арабскім дыпламатам, знайшоўшым згаданы рукапіс. І вось, у 1786 годзе ва ўсіх еўрапейскіх газетах было абвешчана пра выданне італійскага перакладу знойдзенага рукапісу. Праз тры гады кніга дзякуючы «намаганням і дапамозе» арцыбіскупа Гераклеі была выдадзена. Арцыбіскуп Гераклеі пажадаў выдаць таксама і арабскі арыгінал, але для таго, каб схаваць сваё няведанне арабскай мовы, Вела падрабіў арабскі манускрыпт так, што нічога ў ім немагчыма было разабраць. Нямецкі арыенталіст Гагар (Hager) западозрыў містыфікацыю і Вела павінен быў перад адмысловай камісіяй давесьці сваё веданне арабскай мовы. Арцыбіскуп Гераклій, ужо пасьвечаны ў містыфікацыю, быў вымушаны ратаваць не толькі аўтара падробкі, але і свой прэстыж, і ён стварыў камісію із асоб, таксама не вельмі дасьведчаных у арабскай мове. Перад такімі экспертамі Вела вытрымаў экзамен, але хутка засарамеўся і сам вырашыў прызнацца ў падробцы. Ён быў пакараны пятнаццацігадовым заняволеннем і канфіскацыяй усёй сваёй маёмасьці; другі том яго кнігі «Kitab, divan mesr» ніколі не ўбачыў сьвету.

«Жанр вандраванняў, здзейсненых не існаваўшымі асобамі і потым апісаных ад іхнага імя, узнік яшчэ шмат стагоддзяў назад[403]. Ледзь ці не самым старажытным узорам

---

[403] Зноў цытую грунтуючыся на перакладах Яўгена Лана. Вельмі прашу прабачэння перад аўтарам, калі запазычаў у яго занадта шмат. Але для мяне было цяжка здабыць яго першакрыніцы, і таму я непасрэдна скарыстаўся яго перакладамі, не правяраючы іх адпаведнасць арыгіналах.

гэтага жанру літаратурнай падробкі з'яўляецца ўслаўленая кніга «Вандраванне сэра Джона Мандэвіля», напісаная на прыканцы 60-х гадоў XIV стагоддзя па-французку і набыўшая вельмі вялікае пашырэнне ў Францыі і Англіі пад час сярэдневечча.

«Сэр Мандэвіль, быццам бы, выправіўся із Сэнт-Альбона ў Ерусалім, Кітай, Акіянію – краіну пяці тысяч выспаў – і паведаміў так шмат чаго пра гэтыя далёкія краіны, што сярэднявечны чытач мог лічыць сябе задаволеным. Ніводзін із падарожнікаў не сабраў у сваёй кнізе столькі паведамленняў пра невядомыя землі – нават сам Марка Пола. Мандэвіль бачыць людзей шыпячых як змеі, бачыць людзей з сабачымі галовамі, ці з такімі нагамі, якія замяняюць ім парасоны, і г.д. Калі падарожнік, як бы, сумняваецца ў тым, што яму могуць не паверыць, ён спасылаецца на Плінія, засьведваючы, што сам праверыў яго паведамленні. Пры гэтым ён па-майстэрску перамяжоўвае цуды з рэчаіснымі фактамі, паведамляе пра «дрэва, вырабляючае поўсць» (бавоўна), пра круглую форму зямлі, пра маленькія ногі ў жанчын Кітая, пра магнітную стрэлку і г.д., нанізваючы ўсё, што можна было знайсьці ў папярэдніх падарожнікаў.

«Вялізны поспех «Мандэвіля» перш усяго засьведчваецца той колькасьцю копій, якія захаваліся ў бібліятэках да нашага часу; гэты спіс налічвае да трох соцень. Папулярнасьці кнігі Мандэвіля спрыяла, вядома, і тая акалічнасць, што напісана яна была не на-лаціне, а па-французку, і такім чынам яна была даступнай не толькі клірыкам, чаго і жадаў аўтар. У прадмове ён звяртаецца з прашэннем да ўсіх, хто «быў за морам», дадаваць папраўкі да яго кнігі, а дзякуючы таму што шмат хто із «быўшых за морам» не ведаюць лаціны, то ён і абірае французкую мову. Пяць стагоддзяў еўрапейскія навукоўцы не сумняваліся ў існаванні сэра Мандэвіля. Толькі пад канец мінулага стагоддзя было даказана, што падарожнік, такі папулярны пад час сярэднявечча, прыдуманы доктарам Жанам Бургундзкім, па мянушцы Барадаты, памёршым у 1372 годзе і пахаваным у Льежы. Такім чынам, сэра Мандэвіля можна лічыць першаўзорам дасьледчыкаў, ніколі не быўшых у апісаных імі краінах.

«Нярэдка аўтары выкарыстоўвалі і апісанне падарожжаў па сваёй радзіме, прыпісваючы кнігу нейкаму замежніку, і адкрываючы гэтым сабе магчымасць паказаць з новага боку гледжання сваё звыклае становішча, свой побыт і сацыяльнае ўладкаванне. У падобным выглядзе ў 1807 годзе Соусі (Southey) даў трохтамовае апісанне Англіі ад імя гішпанца дона Мігеля Альварэца Эспрыэлья (Esriella), «Лісты із Англіі», а ў 1823 годзе аналагічную падробку выдаў у той жа Англіі Пэтмор (Patmore) – ад імя француза, графа Соліні (de Soligny)».

Але падобную мімікрыю хутчэй патрэбна лічыць за асобны прыём мастацкай літаратурнай творчасьці, а не за жаданне ашукаць публіку зместам сваёй кнігі.

Я не магу не звярнуць тут увагу чытача на тое, што наогул звычай выдаваць нейкую кнігу ад свайго імя і на сваю адказнасць узнік не так ужо даўно.

Аж да вынаходніцтва друкавальнага станка, калі рукапіс аўтара мог давацца для чытання ці перапісвання толькі із рук у рукі па знаёмству, на ім наогул не пазначалася імя аўтара, якое лічылася загадзя вядомым, калі аўтар дзякуючы тым ці іншых нагодам не выдаваў свой твор за адкрыты ім у нейкім склепе чужы. Так без імя аўтараў маюцца ў нас усе біблейскія кнігі. Ні на «Быцці», ні на «Сыходзе», ні на «Лявіце», ні на кнігах «Эсфір, Руф, Ёў», «Цары» ці «Словы Дзённыя» (так званы Параліпаменон), не напісана: «стварэнне вось такога-та аўтара». Псеўда-прароцтвы Іезекі-іл, Дані-іл, Іса-ія, Захар-ія, як я ўжо паказаў у першым томе «Хрыста», зусім не імёны аўтараў, а пакінутыя без перакладу загалоўкі саміх кніг:

Іезекі-іл азначае: «Пераможа бог», Дані-іл азначае: «Праўда боская», Іса-ія азначае: «Бог-Езус» ці «Бог-Ратавальнік», Захар-ія азначае: «Помятае бог» і г.д.

Упершыню імя аўтара мы знаходзім у Апакаліпсісе, дзе проста сказана: «Я, Ян, бачыў і чуў усё гэта», а потым мы знаходзім імёны аўтараў пры ўсіх евангеллях, але яны напісаны яшчэ не аўтарамі, а наступнымі перапісчыкамі іхнага рукапісу, каб задаволіць попыт публікі жадаючай ведаць, наколькі кампетэнтны той, хто паведамляе гэтыя сведчанні пра зямное жыццё «Сына боскага». І мы адразу ж заўважаем, што тут жа адбылася і першая містыфікацыя: аўтары, жыўшыя ў VIII-X стагоддзях, былі абвешчаны непасрэднымі вучнямі самога Хрыста, да якіх прылічаны і аўтар Апакаліпсіса.

Мы маем, такім чынам, у «Новым Запавеце» і першы літаратурны твор з імем аўтара, і першыя літаратурныя містыфікацыі: дапасаванне аўтараў да неналежачай ім старажытнасьці, хаця самі аўтары і не з'яўляюцца тут сімулянтамі, ды і дапасаваўшыя іх да далёкіх стагоддзяў, відаць, зрабілі гэта не з мэтай ашукаць каго-небудзь, а грунтуючыся на сваіх легкадумных здагадках.

Падобнымі неўсведамляемымі апокрыфамі павінен быць перапоўнены ўвесь наш перыяд перад эрай кнігадрукавання, калі вялікая колькасць назапашаных ананімных рукапісных твораў павінна была перадусім выклікаць у калектараў жаданне іх класіфікаваць, дапасуючы аднастайныя згодна са стылем творы нейкаму аднаму із мяркуемых старажытных аўтараў і ствараючы гэтым самым уяўныя старажытныя славутасьці. А яны пазней пачалі выклікаць стварэнне іхных перайманняў у асяроддзі наўмысных містыфікатараў і сімулянтаў. У гэтым выпадку даводзіцца здзіўляцца толькі нязначнай велічыні маючайся грэцкай і лацінскай класічнай літаратуры, зарэгістраванай на працягу першага стагоддзя друкарства.

Усе мы пачынаючы з дзяцінства прызвычаіліся лічыць яе нечым вельмі шматлікім, а пры праверцы праўдзівымі падлікамі выяўляецца, што ўсю грэцка-лацінскую класічную літаратуру можна размясціць (як я ўжо не раз выказваўся) у адной ці двух кніжных шафах, тады як сучасныя нацыянальныя літаратуры культурных краін патрабуюць для сябе вялізных будынкаў і тысяч такіх шафаў.

Але мы не будзем разглядаць апокрыфы заснаваныя на памылцы калектараў, як не маючыя ў сабе наўмыснага падману; памыліцца можа самы сумленны чалавек. Мы зноў звернем увагу на тых, у якіх маюцца прыкметы ілжывасьці і прыкідваемасьці аўтараў.

Схільнасць да сімуляцыі, прыкідлівасьці і акторства, як я ўжо раней паказаў, з'яўляецца характарыстыкай яшчэ да-чалавечага жывёльнага сьвету. Яна ўтварылася, як сродак самаабароны пад час перыяду дзіцячай слабасьці кожнай жывой істоты, і ў якасьці здольнасьці перайшла да першабытнага чалавека непасрэдна спадчынным шляхам, а ў выглядзе антытэзіса да гэтага, развілася і патрэба ў праўдзівым стаўленні да сябе з боку атачаючых. «Добра, калі я падману некага, але дрэнна, калі нехта ашукае мяне», – гэта ўяўлялася відавочным для першабытнага чалавека, яшчэ не дайшоўшага да ўяўлення, што іншыя людзі такія ж, як ён сам. Але вось, наступіў момант, калі праўдзівасць стала ў шмат каго дамінуючай не толькі на словах, вымаўляемых згодна са спосабам папугая, але і на справе. Інстынкт сімуляцыі і інстынкт праўдзівасьці сутыкнуліся паміж сабой; у асяроддзі больш развітых у альтруістычным сэнсе душах зараз ужо перамагае апошні, а ў менш развітых яшчэ першы. У вобласьці слова ўплыў абодвух выступае асабліва яскрава, і дзякуючы гэтаму, назіраючы за адсоткавым зніжэннем

фантастычнай псеўдалогіі ў літаратуры дадзенай краіны, мы маглі б нават рабіць высновы і пра яе маральную эвалюцыю, калі б гэтаму не перашкаджаў шэраг стронніх, так бы мовіць, пабытовых акалічнасьцей. Аднаму, як мы бачылі, перашкаджалі саслоўныя забабоны, напрыклад у XVII стагоддзя ў Францыі, калі, назіраючы ў сваім асяроддзі пагарду да літаратурнай працы, Ларашфуко і Дэ-Лафайет друкавалі свае творы ананімна; другому перашкаджаў палітычны рэжым, як, напрыклад, атрымалася ў васямнаццатым стагоддзі ў Англіі з услаўленымі «Лістамі Юніуса» і з памфлетамі Свіфта і Дэфо; трэццяму – перашкаджала пагроза службовых непрыемнасьцей, якіх, не без падставаў, маглі асьцерагацца ўрадоўцы і вайскоўцы. У вобласьці вольнай думкі і вучэння псеўданім з'яўляўся самым лепшым шчытом супраць рэлігійнай нецярпімасьці. А навічкам заўсёды перашкаджала выступіць адкрыта няўпэўненасць у сваіх пісьменніцкіх здольнасьцях.

Ва ўсіх гэтых выпадках адчуджэння сваёй уласнай літаратурнай прадукцыі няма яшчэ нічога хваравітага і шкоднага ў грамадзкім сэнсе; непасрэдна часта назіраецца нават карысць, як, напрыклад, у часы інквізіцыі, калі якую б то ні было не хрысьціянскую ідэалогію была магчымасць, не асьцерагаючыся быць спаленым на вогнішчы, надрукаваць толькі пад маркай літаратурнага твора да-хрысьціянскага, лацінскага ці грэцкага аўтара. Але пасьля часовай карысьці хутка наставаў, як і ад кожнай, нават вымушанай няпраўды, перыяд шкоды.

Падмануўшы суперніка, аўтар таксама падманваў і ўсіх прагнуўшых разам з ім сьвятла праўды. Ён надаваў пераіначаныя ўяўленні пра даўно мінулыя часы, прыпісваючы ім ідэалогію і літаратуру, характэрызаваўшую толькі яго ўласны час, і абцяжарваў адкрыццё эвалюцыйных законаў чалавечага грамадзкага жыцця.

Я не магу тут устрымацца ад таго, каб, заканчваючы гэты раздзел псіхалогіі прыкідлівасьці і падману, яшчэ раз не скарыстацца кніжкай Яўгена Лана «Літаратурная містыфікацыя», хаця, можа, аўтар і не пагадзіцца са мной, што ўся псеўда-вялікая класічная грэцкая і лацінская літаратура з'яўляецца літаратурнай містыфікацыяй Эпохі Гуманізму. Да гэтых высноваў я прыйшоў яшчэ падчас заняволення ў Шлісельбургскім умацаванні, але ён настолькі шмат выліў вады на мой млын у сваёй кніжцы, што я не магу ўстрымацца, каб не зрабіць із яго ўжо ў карэктуры яшчэ адно выйманне:

«Гісторыя сусветнай літаратуры, ведаючы пра фальсіфікацыю шматлікіх яе помнікаў, імкнецца пра яе забыцца», – няблага выказваецца ён на старонцы 5 сваёй кнігі і працягвае: – «Эразм з гарыччу жаліўся яшчэ ў XVI стагоддзі, што не існуе ніводнага тэксту «айцоў царквы» (**г.азн. першых IV стагоддзяў хрысьціянства**), які можна было б безумоўна прызнаць праўдзівым. Лёс помнікаў (грэцкай і лацінскай) старажытнай літаратуры такіж незайздросны».

І вось, я буду далей даводзіць, што яшчэ больш сумнеўнай з'яўляецца праўдзівасць старажытных помнікаў азіяцкай літаратуры і што ёсць усе шанцы за тое, што нават асноўная частка знакамітай «Тысяча і адной ночы» напісана па-француэку Галонам для прыдворных французкага караля ў прамежак паміж 1707 і 1713 гадамі і што знойдзеныя пазьней яе арабскія рукапісы з'яўляюцца на самай справе выпраўленымі і моцна дапоўненымі перакладамі із яго французкага арыгінала... Але гэта яшчэ будзе падрабязна абмяркоўвацца мной у апошнім томе гэтага майго дасьледавання, калі я зноў выведу на падмосткі «Хрыста», пераіначанага азіяцкімі багасловамі ў «будзіцеця» – Буду.

Аднак, мы пакуль пакінем у спакоі азіяцкі Ўсход і крыху затрымаемся ў Яўропе.

Яскравыя прыклады фантастычнай ілжывасьці; (pseudologia phantastica) асабліва часта сустракаюцца ў «Жыціях Сьвятых»

Праўда, што сярод чыста галюцынацыйных праяўленняў кашмарнага ці эратычнага характару ў творах царкоўных аўтараў Эпохі Гуманізму, напісаных ад імя апакрыфічных сьвятых, і сярод відавочна вар'яцкіх мудраванняў, якімі поўняцца нашы нібы-та свецкія сярэднявечныя першакрыніцы грамадзкіх і разумовых плыняў, адносімых за межы Эпохі Гуманізму – сустракаюцца час ад часу, як выспачкі сярод бяскрайняга мора фантазіі, вельмі праўдападобныя на выгляд паведамленні. Паміж паведамленнем пра назіранне на небе «сумленнага і жыватворчага крыжа» на адной старонцы і паведамленнем пра з'яўленне із-пад зямлі сатаны ў выглядзе казла на другой, мы знаходзім часта праўдападобныя паведамленні пра паход нейкага імператара на другога, суседняга з ім. Але імёны абодвух заўсёды выяўляюцца на іхнай роднай мове простымі мянушкамі, накшталт Бога-Пакліканы, Годны, Моцны, Чорны, і толькі ў розумах незнаёмых з іхнымі мовамі людзей яны набываюць выгляд не маючых ніякага сэнсу ўласных імёнаў: Дыяклетыян, Валент, Кастусь, Нярон і г.д.

Але ці праўда, што ўсе гэтыя «богапрызваныя», «годныя», «моцныя» і «чорныя» – больш рэчаісныя людзі, чым з'яўляючыяся над імі на небе жыватворчыя крыжы і выскокваючыя пад імі із-пад зямлі злыя духі ў выглядзе казлоў, пачынаўшыя з імі размовы?



Мал. 144.
Тып старажытнай рускай царквы.

У кожнай жа галюцынацыі існуюць і праўдападобныя дэталі і ў кожным жа трызненні сустракаюцца і цалкам лагічныя выказванні. Адсутнасць абсурду ў нейкім паведамленні яшчэ не з'ўляецца доказам рэчаіснасьці дадзенага паведамлення, і калі тое ж самае апавяданне паўтараецца ў розных аўтараў амаль тымі ж словамі, то гэта яшчэ не азначае, што ўсе яны атрымалі яго ад асобных рэчаісных сведак, а не запазычалі із адной і той жа псеўдалагічнай першакрыніцы.

Аднагалоснае паўтарэнне адной і той жа хлусні шматлікімі асобамі яшчэ не робіць яе праўдай. Яно паказвае толькі на адну першакрыніцу.

З гэтага боку гледжання найлепш кіравацца лінгвістычнымі слядамі ў імёнах дзейнічаюх асоб і ў месцах іхнага дзеяння і асабліва грунтавацца на такіх правераных астранамічным шляхам дакументах, якія даюць не аднабаковае, а featured разнабаковае асьвятленне той жа падзеі, падобна малюнкам, паказваючым выгляд

таго ж будынка не з аднаго і таго ж месца, а з розных бакоў, з нагоды чаго ён і здаецца з першага позірку непазнавальным!

Так мы і рабілі ва ўсім гэтым дасьледаванні.

У адным із папярэднічаўшых тамоў, распавядаючы пра заходнюю хрысьціянскую царкву, я паказаў, як позна яна адзялілася ад свецкага тэатра і ад публічнай сядзібы, якія пад час сярэдневечча, аж да Рыгора Гільдэбранда, цалкам з ёю зліваліся. І гэта ж давялося мне зараз сказаць пра візантыйскую царкву ды нават і пасьля крыжовых паходаў.

Але акрамя публічнай сядзібы тут панавала як сьвядомае, так і несьвядомае ашуканства. Я не буду ужо згадваць пра шматлікія з'яўленні абразоў, нерукатворныя выявы і пра цудадзейныя нятленныя трупы, якія выдаваліся за захаваныя ў такім выглядзе, як быццам бы яны толькі-што заснулі. Мне згадваецца выпадак, калі мяне яшчэ адзінаццацігадовага хлопчыка маці ўзяла ў адзін із кляштароў. Мяне паставілі каля зачыненай срэбнай труны, дзе, як мне паведамілі, ляжаў нейкі нятленны сьвяты, «нібы толькі што туды пакладзены». Збоку гэтай срэбнай труны была зроблена круглая адтуліна, велічынёй з даўнейшы пятак, для пацалункаў сьвятога локця, прылягаўшага шчыльна да адтуліны.

– Чаму ж сьвяты такі чорны? – запытаў я, пабачыўшы пад адтулінай нешта накшталт аспіднай дошкі.

– Ад вуснаў грэшнікаў, – спакойна адказала мне стаяўшая тут манашка.

Я з захам прыклаўся да чорнага прадмета і доўга потым абціраў сабе незаўважана вусны із баязні, што грахі грэшнікаў перайшлі на мяне і мае вусны таксама пачарнелі, як цела сьвятога. І я выцягваў іх час ад часу, каб паглядзець на іх, і толькі прыйшоўшы дахаты, пераканаўся ў люстэрку, што яны ў поўным парадку.

Згадваючы зараз той спакойны і марудлівы адказ манашкі, я яскрава разумею, што ён быў звычайным для чарговага вартавога каля гэтага трупа, даўно падрыхтаваным і ўжываўшымся ўсімі манашкамі аднагалосна і гэтак жа спакойна, незлічоную колькасць разоў на такія ж незразумелыя пытанні наведвальнікаў.

Як магчыма патлумачыць такі цалкам сьвядомы, даўно абдуманы і ўпэўнена-вымаўляемы падман? Толькі тым, што «добрая мэта апраўдвае благія сродкі»? Ці гэта нейкая закаранелая звычка да хлусні? Наўрад ці ўсе маладыя манашкі і манахі, ідучы ў такі прыстанак, загадзя ішлі туды з мэтай падманваць, а не грунтуючыся на шчырым жаданні паслужыць усемагутнаму богу. Які ж дэградацыйны маральны працэс быў патрэбен для таго, каб адпаведна са словам свайго сьвятара замірыцца з фактам, што напалову гнілыя трупы выдаюцца імі за нятленныя, калі гэтымі ж трупамі некалі былі падмануты і яны самі?

Сьвядомы падман і круцельства з'яўляюцца арганічна прыкрымі чалавеку і кожнае дзіцё, якому няправільна распавядаюць ужо чутую ім казку, адразу ж папраўляе апавядальніка і аднаўляе апавяданне літаральна ў першапачатковым выглядзе. Гэта азначае, жаданне праўдзівасьці не з'яўляецца нададзеным нам пазьней умоўным рэфлексам, а першапачаткова прыроджаным пачуццём. Умоўным рэфлексам з'яўляецца, наадварот, толькі звычка да ілжывасьці, набытая ўжо пасьля дзіцячага ўзросту ад пакутуючых гэтай хваробай дарослых знаёмых і родных. Ілжывасць з'яўляючаяся спачатку толькі сродкам слабога целам ці воляй абараніцца ад гвалту моцнага. А потым яна развіваецца як хлусня супраць хлусні ў праўдзівага па натуры чалавека, калі ён пераконваецца, што праўдзівасць – дрэнная

зброя ў змаганні супраць майстэрскага падманшчыка і што ў выпадку калі ён будзе прытрымліваццa толькі яе адной, то ён заўсёды будзе ім загублены ці пераможаны.

Але ж ніякага такога апраўдання не мог даць сабе служка ўсемагутнага бога, перакананы ў тым, што хаця «вораг чалавечага роду і моцны», але бог мацней. Сапраўды веруючы ва ўсёбачучага і ўсёчуючага бога-бацьку і такога ж ўсёбачучага і ўсёчуючага бога-сына і яго маці, не мог не ўсведамляць, што яны бачаць і чуюць і яго ўласную хлусню дзеля іхнай недарэчнай абароны, і што ён, такім чынам, не верыць у іхную усемагутнасць. Ён жа мог быць перакананым, што яны пакараюць яго за гэта, а не пахваляць «на жахлівым судзе». Адсюль зразумела, што ўся манаская царкоўная іерархія на Ўсходзе і Захадзе, зверху да нізу, была падборам адпачатку сьвядомых ашуканцаў, якія служылі замест бога самім сабе і сваім саўдзельнікам у падмане, ці ж яна складалася із разумова і маральна абмежаваных і слабавольных людзей, некалі шчыра верыўшых у сьвятасць царкоўных рэліквій і зацягнутых іхнымі настаўнікамі ў калектыўны падман астатняга насельніцтва. Мімаволі асіміляваўшыся з імі дзякуючы працягламу, спачатку міжвольнаму (з унутраным пратэстам і бояззю) сужыццю, пазьней яны ўжо без якога б то ні было пратэсту самі пачалі даваць хлуслівыя адказы, як у прыведзеным выпадку са мной, ужо машынальна, рэфлектыўна, думаючы пра іншае і не аддаючы сабе справаздачы ў тым, што яны паведамляюць сьвядомую хлусню. Інакш пратэстанты супраць трупаўшанавання «з’яўляліся б у кляштарах дзясяткамі, калі не сотнямі, кожны год, і чуткі пра сапраўдны стан пакладзеных у срэбныя і залатыя труны напалову гнілых (ці выродліва, як палкі, засохлых) трупаў, пашырыліся б сярод публікі адпачатку гэтага жахлівага культу і перашкодзілі б яму існаваць на працягу тысячы гадоў па ўсёй Яўропе і частку Азіі і Афрыкі.

Толькі ў германскіх краінах Лютар і Кальвін выкрыўшы сапраўдны стан каталіцкай царквы, стварылі больш разумную адпаведна са сваім часам і сумленную згодна са сваёй сутнасьцю тэалогію. А на Ўсходзе калектыўнае кляштарскае шарлатанства з яго з’явіўшыміся і нерукатворнымі абразамі, з яго абкручанымі ватай цудадзейнымі напалову-шкілетамі не знайшло сярод тысяч сваіх служак (якія не маглі, паўтараю, не ведаць выдатна пра сапраўдны стан сваіх, як бы, сьвятых рэліквій) ніводнага пратэстуючага кіраўніка. А калі такія і знаходзіліся час ад часу, то былі навекі заняволены з дапамогай цароў у нейкіх кляштарскіх сховішчах астатнімі сваімі саўдзельнікамі ў гэтым калектыўным падмане.

І вось, на славянскім Усходзе давялося чакаць таго часу, калі ў абставінах жахлівага крушэння Рускай імперыі, грунтаваўшайся на такім маральна прагніўшым падмурку, за агляд кляштарскіх цудаў узялася рэвалюцыйная ўлада. А грэцкі Ўсход яшчэ і зараз стаіць на чарзе такога ж пакарання, калі застанецца і надалей згодна са сваім яшчэ больш нізкім маральным узроўні, чым ён быў у царскай Расіі. Вазьміце хаця б боскае полымя, штогадова загараючаяся згодна з малітвай палестынскага патрыярха на ілжэ-ерусалімскім ахвярніку. Ці можа існаваць большая іронія лёсу?! Падробленае нябеснае полымя, штогадова сыходзячае на падроблены ахвярнік у падробленым Ерусаліме!

Але ў дадзеным выпадку нам важна не полымя, а нешта цалкам іншае. Нам важна вырашыць, які падбор ганаровых спадкаемнічаючых адзін аднаму падманшчыкаў быў патрэбны ў палестынскай царкве для таго, каб ад пакалення да пакалення ерусалімскіх патрыярхаў (гл. табл. напачатку гэтага тома) не выявілася сярод іх ніводнага, хто б абурыўся гэтым неверагодным шарлатанствам і не

абвясьціў бы ўсім і кожнаму, якім спосабам здзяйсняецца такі фокус, перадаючыся традыцыйна ад аднаго штукара да другога на працягу больш тысячагоддзя?

Так ілжывыя ідэі, дасягнуўшы панавання, зараз жа ператвараюцца ў змову апантанымі імі людзей супраць усяго насельніцтва. Перамогшыя фанатыкі, бачачы немач таго ў што верылі, хутка ператвараюцца ў прынцыповых ілгуноў, раўніва працягваючых выдаваць свой падман за праўду і бязлітасна знішчаючых усіх, хто спрабуе хаця б намякнуць на тое, што яны, ці іхныя настаўнікі, памыліліся.

Такімі былі людзі, якія стаялі на чале грэцкай маральнай, рэлігійнай, а з ёю і разумовай культуры пад час сярэдневечча.

У хаўрусе з падпарадкаваўшайся ім свецкай уладай яны знішчылі на грэцкім Усходзе дзеля ажыццяўлення сваёй маніі ўсе вытанчаныя мастацтвы, якую б то ні было скульптуру, якое б то ні было свецкае малярства і вытанчаную літаратуру. Пад іхных супольным валадараннем там не маглі з’явіцца ні Капернік, ні Ньютан, ні Дарвін, ні Лавуазье, для існавання якіх быў патрэбны еўрапейскі Захад. Толькі на ім, дзе дзякуючы аддзяленню цэнтра свецкай улады, усталяваўшайся згодна з геаграфічнымі ўмовамі ў Германіі і Францыі, і цэнтра духоўнай улады, ўсталяваўшайся згодна з геафізічнымі падставамі у аддаленым ад яе Рыме, ні стараверчая напалову паганская да Рыгора Гільдэбранда, ні абнаўленчая манаская пасьля яго каталіцкая царква не здолела задушыць вольную чалавечую думку. А на грэцкім Усходзе, дзе цэнтрам як духоўнай, так і свецкай улады быў той жа самы Канстантынопаль, свецкая ўлада была непазбежна заўсёды пад непасрэдным уплывам і ціскам царкоўнай, якая ўжо ператварылася, як мы бачылі, у змову сьвятарства супраць астатняга насельніцтва. Вось чаму свецкая грэцкая літаратура з яе Сафокламі, Арыстафанамі, Гамерамі, Арыстоцелямі, Эўклідамі і г.д. магла ўзнікнуць толькі па-за Канстантынопалем, у той перыяд, калі лацінскі Захад падчас крыжовых паходаў вызваліў ад Візантыйскай улады значную частку грэцкай тэрыторыі. А потым, калі ісламіты, відавочна ўяўляўшыя сабой толькі адгалінаванне іконазмагальнікаў, выціснулі латынянаў із Балканскай паўвыспы, атычная гаворка грэцкай мовы стала міжнароднай літаратурнай мовай на еўрапейскім Захадзе, і на ёй там пачала распрацоўвацца сапраўдная навуковая літаратура ў форме апакрыфаў. А на грэцкім Усходзе працягвалі панаваць галоўным чынам псіхапатычныя багаслаўскія і багаслаўска-гістарычныя творы, малюючыя ранейшую сярэднявечную візантыйскую духоўную культуру ў цалкам пераіначаным выглядзе. І як прыкмета звядзення гэтага масавага вар’яцтва пачалося распадзенне яго першапачатковай вар’яцкай апакаліптычнай ідэалогіі на некалькі варагуючых адзін з адным варыянтаў.

Разгледзім жа і гэты працэс.

# Раздзел I

## Прыдуманыя і апакрыфічныя ерасі першых чатырох стагоддзяў



Мал. 145.
Старажытны змей мудрасьці. Сузор’е Цмока, абвіваючае полюс экліптыкі.

# Глава I

## Людзі самых высокіх ведаў (гнастычныя вучэнні і іхныя адгалінаванні: магутныя, прывіднікі, змеявікі, каініты, осла-шанавальнікі, агапісты каханкі, чараўнікі).

Хто такія **гностыкі**? Іхнае найменне паходзіць ад грэцкага слова **гносіс** (γνῶσις), г.азн. самыя высокія веды, і пазначае валодаючых імі людзей. Іхных найлепшым выразнікам гісторыкі лічаць Валянціна Філосафа, памёршы, быццам бы, яшчэ ў 160 годзе нашай эры. Але яго творы вядомы толькі ў выкладанні палемізуючага з ім Ірынея, біскупа Ліёнскага, памёршага, быццам бы, яшчэ ў 202 годзе нашай эры, а творы самаго Ірынея вядомы толькі ў выданні Эразма Ратэрдамскага, надрукаванага толькі ў 1526 годзе; і невядома адкуль іх узяў сам Эразм.

Імя Ірыней азначае – Прымірыцель і з’яўляецца, відавочна, мянушкай, таму што ён, згодна са сведчаннямі яго біёграфаў, заміры́ў сваімі творамі варагаваўшыя

паміж сабой хрысьціянскія секты. У якасьці характарыстыкі філасофскай думкі і пашыраных ў XVI стагоддзі нашай эры рэлігійных уяўленняў, творы Прымірыцеля-Ірынея (па-жыдоўску – Саламона) вельмі каштоўныя, а як узор філасофскіх вучэнняў II стагоддзя яны не маюць ніякага значэння, таму што толькі з дапамогай цуда мог бы захавацца рукапіс паслужыўшы грунтам для іхнага друкавання, не памножыўшыся і не ператварыўшыся ў некалькі варыянтаў на працягу 1300 гадоў... А цуды ў рэчаіснай гістарычнай навуцы павінны быць адкінуты.

Гэта азначае, і «Пяць кніг супраць ерасей»[404] гэтага хрысьціянскага Саламона-Міратворцы з’яўляюцца ці творам самога Эразма Ратэрдамскага ці некага із сучасных яму навукоўцаў. Тут уласныя рэлігійна-філасофскія ўяўленні аўтара Эпохі Адраджэння толькі апакрыфікаваны, адпаведна з тагачасным звычаем, у глыбокую старажытнасьць і нават пададзены ў выкладанні, як бы, палемізуючага з імі айца царквы для таго, каб і аўтар, і чытачы, ды і самі кнігі не маглі быць аддадзены анафеме.

У чым жа з’яўляецца сутнасць гнастыцызму?

Аўтар «Пяці кніг супраць ерасяў» характарызуе гэты светапогляд менавіта такім, які ён і быў здольным, грунтуючыся на эвалюцыйных меркаваннях, выпрацавацца, ніяк не ў другім, а хіба толькі ў XVI стагоддзі, пад час эпохі самога Эразма Ратэрдамскага.

Найбольш распрацаваная із гнастычных сектаў – гэта:

**Магутныя-валентынііяне.** «Найвышэйшая істота, бяздонная і вечная Глыбіня Прасторы[405], выказваецца ўяўляемы іхны «Магутны Філосаф» (Валянцін, на-лаціне) – вырабляе са свайго ўнутранага зместу – Маўчання, праяўляючагася ў Думцы і Літасьці,[406] 30 безцялесных сутнасьцей: перадусім – Розум і яго сяброўку – Ісціну[407], потым Слова і Жыццё[408] і, нарэшце, Мудрасць (Сафію – па-грэцку), як трыццатую безцялесную існасць. Яна пажадала непасрэдна сузіраць свайго ствральніка – бяздонную і вечную Глыбіню Прасторы. Але на яе дарозе паўстала Мяжа (Ερος – па-грэцку) і, не будучы ў стане праз яго пераступіць, яна спарадзіла, акрамя спрыяння свайго чалавека Волі, самую нізкую, «жыдоўскую» Мудрасць[409], а тая праз створанага ёю Стваральніка (Дэміурга[410]) вырабіла ўвесь фізічны сьвет і, нарэшце, чалавека, у якім засяродзіла тры пачаткі: матэрыяльны, запазычаны ад рэчыўнай прыроды, душэўны – ад Стваральніка (Дэміурга) і духоўны – ад самой «жыдоўскай мудрасьці». Тыя людзі, у якіх пераважае матэрыяльны пачатак, маюць назву гілікі (едакі); яны ўсе вырачаны на пагібель. Тыя людзі ў якіх пераважае душэўны пачатак, маюць назву псіхікі (душэўныя), аднолькава здольныя як да дабра так і зла; яны ратуюцца верай і справамі, але ніколі не могуць дасягнуць найвышэйшай асалоды. А тыя, у якіх пераважае духоўны пачатак, маюць назву пнеўматыкі (натхнёныя), і толькі яны адны дасягаюць найвышэйшай асалоды».

Але хто ж быў гэты «Стваральнік» Валянціна Філосафа? Гэта быў, – сведчылі шматлікія гностыкі, – біблейскі бог. А евангельскі Хрыстос быў пасланны

---

[404] Ірыней. Пяць кніг супраць ерасей, пераклад. П. Прэабражэнскага. 1871 г.

[405] Βιθος – глыбіня.

[406] Па грэцку Σίγη – маўчанне, Χαρις – літасць і ἐννςοῖα – думка.

[407] Νους – розум і Αλήθεια – жыццё.

[408] Λόγος – слова і Ζόη – жыццё.

[409] Мудрасць па-жыдоўску мае найменне Ахамот (ה־המות) і звычайна гэтае слова пакідаецца без перакладу.

[410] Дэміург азначае – стваральнік (δεμιουργός)

бяздоннай і вечнай Глыбінёй Прасторы для таго, каб вызваліць сьвет ад тыраніі біблейскага бога, а ён сам не быў ні богам, ні чалавекам. Яго духоўная прырода была выцяканнем Глыбіні Прасторы гэтай вярхоўнай боскасьці і таму была ніжэй сваёй першакрыніцы. Але яна, адпаведна з самой сваёй сутнасьцю, не магла жыць у рэчыўным, а такім чынам грубым, здольным да зла чалавечым целе. Гэта азначае, пры разважаннях пра Хрыста даводзіцца прызнаць, што цела, якім ён быў, відаць, надзелены, было толькі зданню, і ўсе яго дзеянні былі толькі ўяўнымі, чаму гэта частка гностыкаў і звалася **прывіднікі** (дакеты, па-грэческу[411]). А калі ў яго было рэчаіснае цела, – дадавалі яны, – то яно належала звычайнаму чалавеку, на якое выцяканне Глыбіні Прасторы (тоеснае, як быццам бы, са сьвятым Духам хрысьціянаў) сышло толькі падчас хрышчэння і пакінула пры яго ўкрыжаванні.

Чытач бачыць сам, што такая складаная філасофская распрацоўка пра ствараючую магутнасць Сусьвету не магла ўзнікнуць пад час першых стагоддзях нашай эры, калі ўяўленні пра Сусьвет абмяжоўваліся зямной і марскай паверхняй і накрываючым іх скляпеннем блакітнага неба, а ўяўленні пра іхнага стваральніка былі цалкам антрапаморфнымі, будзь ён класічным Юпітарам-Грамабоем з усім сваім сямейством сыноў і дачок і іхнымі перамяшаннямі з чалавечымі дзяўчынамі, ці хрысьціянскі бог-Грамабой, лётаючы на аблоках і нават адзіны ў трох асобах.

Перанесеныя ў першыя стагоддзі нашай эры, такія пагляды на ствараючую магутнасць сусвету здаюцца як бы кветкамі, зрэзанымі ў полі са сваіх сцёблоў і пастаўленымі без каранёў у цесную пакаёвую вазу, дзе яны могуць толькі завянуць, а ніяк не вырасьці і даць насенне. Яны маглі і нават павінны былі натуральна ўзнікнуць толькі пад час Эпохі Гуманізму ў Яўропе, няправільна называемай Эпохай Рэнесансу, таму што гэта было не адраджэнне, а першае нараджэнне абагульняючых філасофскіх ідэй навуковай і вытанчанай літаратуры.

Але чаму ж, – запытае мяне нехта зноў, – гэтыя ідэі выкладзены пісьменнікамі Эпохі Гуманізму не ў дадатным сэнсе, а ў выглядзе аспрэчання такіх, быццам бы, «ерэтычных» вучэнняў, створаных старажытнымі хрысьціянскімі пісьменнікамі, «рэчаісныя творы якіх быццам бы зніклі без сьледу»?

І я зноў адкажу, што паднімаць такое пытанне можа толькі той, хто забыўся пра інквізіцыю і пра лёс Джардана Бруна (1548-1600), спаленага гэтай установай за вучэнне пра бясконцасць сусьвету. Цалкам жа зразумела, што калі б тады нехта выкладаў гнастыцызм у дадатным сэнсе, ад свайго ўласнага імя, то яго зараз жа спалілі б на вогнішчы духоўныя валадары, разам з яго кнігай. Нават калі б ён уявіў свой рукапіс як знойдзены ў сваім сямейным архіве ці куплены ў праходзіўшага побач вандруючага грэка, то яна ўсё адно была б спалена, а ён быў бы прысуджаны да царкоўнага каяння з прызначэннем суровага пакарання за яе пашырэнне. Прагледзьце маю папярэднічаўшую главу.

Здавалася б, што становішча мысляроў таго часу было цалкам роспачным. Але чалавечая думка заўсёды была нашмат больш вёрткай, чым уяўлялі сабе абмежаваныя мазкі яе супернікаў.

Не маючы магчымасці выкладаць некаторыя са сваіх ідэй ні адкрыта, ні ўскосна ад імя старажытных аўтарытэтаў, мысляр таго часу пачаў прапагандаваць іх ад імя саміх прызнаных царквой сьвятых, якія як бы змагаліся з існаваўшымі пры іхным жыцці старажытнымі вальнадумцамі, і нярэдка ў выглядзе дыялогаў. Само сабой зразумела, што ён пакідаў за сьвятым апошняе слова, супраць якога, як быццам бы, філосаф нічога не здолеў запярэчыць, хаця згодна з самім утрыманнем

[411] Ад δωκέω (докеа) – здавацца.

апошняе слова сьвятога было звычайна простай і нічога не даводзячай лаянкай і аўтар мог разлічваць, што кожны глыбокадумаючы чытач і сам здолее на яе запярэчыць адваротнай, і гэтым разам цалкам заслужанай сьвятым, лаянкай.

І гэта не адны мае здагадкі. Пад час майго ранняга юнацства, калі самаўладдзе пад ціскам рускай царквы не дапускала ў Расію ніякіх неправаслаўных кніг, а толькі пярэчанні ці здзекванні над імі рускіх клерыкалаў, я сам не раз чытаў з вялікай цікавасьцю гэтыя царкоўныя творы, старанна выпісваючы з іх кожную цытату із Рэнана, Малешота, Феербаха і іншых тагачасных знакамітых вальнадумцаў, з пагардай адкідаючы варожую ім частку, як паходзячую ад відавочных падманшчыкаў і перасьледнікаў вольнай чалавечай думкі.

І без сумневаў, што з такім жа настроем чыталіся і творы пра розныя вальнадумствы, напісаныя палемічна ад імя іхных перасведчыкаў: інакш гэтая арыгінальная літаратура не была б пярэдаднем рэфармацыі.

Толькі з такога боку гледжання і робяцца зразумелымі анты-ерэтычныя творы, выдадзеныя ў 1526 годзе Эразмам Ратэрдамскім ад імя міфічнага Ірынея і цалкам надрукаваныя толькі Дындорфам у 1859-1862 гадах, а таксама і аналагічныя ім творы, якія з'явіліся ў рукапісах не раней XVI стагоддзя ад імя Епіфана Кіпрскага, меркуемага сучасніка Яна Залатавуста.

Само сабой зразумела, што пад такім набожна-палемічным вэлюмам было магчыма пад час самага разгару інквізіцыі безпакарана пісаць не толькі вольнадумныя філасофскія трактаты, але нават і непасрэдныя здзекванні над недарэчнасьцямі тыранічна валадарыўшага афіцыйнага багаслоўя.

Да гэтай вобласьці я дапасую, напрыклад, і прыдумку пра існаваўшую, як быццам бы ў другім стагоддзі нашай эры секту **хрысьціянаў-змеявікоў**[412], працягваўшую сваё існаванне, згодна з прастадушным нямецкім царкоўным гісторыкам Гізелерам (1793-1857), аж да VI стагоддзя[413], пры гэтым яе прыхільнікі, быццам бы, сцвярджалі што Змеем, укрыжаваным Майсеем на крыжы ў трэццяй кнізе «Быцця», быў сам Хрыстос, прыйшоўшы вызваліць людзей ад невуцтва, у стане якога быццам бы меў жаданне іх трымаць біблейскі «ствальнік» Йалдабаат – сын цемры і хаосу[414].

Да гэтай жа катэгорыі здзекаванняў ад імя сьвятых над біблейскім вучэннем яшчэ ў большай ступені патрэбна дапасаваць і прыдумку пра секту **хрысьціянаў-каінітаў**, г.азн. шанавальнікаў біблейскага братазабойцы Каіна, быццам бы існаваўшую яшчэ пад час першых стагоддзяў нашай эры, калі адпаведна з нашымі гісторыка-астранамічных вылічэннямі яшчэ не існавала і самога хрысьціянства. Гэтыя хрысьціяне, – пераконваюць нас, сцвярджалі, што кнігі Бібліі і Евангелляў былі напісаны згодна з наданнем біблейскага Стваральніка-Йалдабаата з мэтай пераіначыць усю гісторыю чалавецтва і што праўдзіва рэлігійнымі людзьмі былі толькі тыя, якія ў Бібліі ганяцца, напрыклад Каін, Ісаў, садаміцяне, Карэй і асабліва Юда Іскарыёт, які здрадзіў свайму настаўніку выдатна ведаючы, што наступствам гэтага будзе вызваленне людзей ад біблейскага «Стваральніка», пра што і было сказана ў евангеллі ад Юды, адзіна шануемым і зберагаўшымся ў асяроддзі каінітаў[415].

---

[412] Афітаў – па-грэцку, ад ὄφις (офіс) – змей.
[413] Gieseler, «Lehrbuch der Kirchengeschichte» (1824 –1857 г.г. Т. 1; 190).
[414] Irenaeus, I, 39; Epiphanius, Haeres, 37.
[415] Irenaeus., J, 31, 1.

Смешна ж нават і падумаць, каб не толькі ў першым але нават і ў наступных стагоддзях, акрамя хіба найноўшага часу, калі пашырыліся ідэі пра тое, што «ўсё (а такім чынам і братазабойства Каіна) здзяйсняецца згодна з воляй бога», і калі вальнадумства пачало суправаджацца таксама і спробамі пустога арыгінальнічання, толькі тады і магло з'явіцца уяўленне пра такую хрысьціянскую секту.

Сюды ж можна дапасаваць і іранічныя паведамленні Муцыя Фелікса (§9) і Тэртуліяна[416], шматлікія творы якога выдадзены толькі Ohler'ом у 1853 годзе, пра тое, быццам бы паганцы II стагоддзя нашай эры абвінавачвалі хрысьціянаў ва ўшанаванні **галавы Асла**, падмацаваннем чаго лічаць малюнак знойдзены хутка пасьля гэтага (у 1856 годзе) у «Палацы Кесараў» і захоўваемы зараз у Кірхеравым музеі ў Рыме. Гэта былі **хрысьціяне-аслашанавальнікі**, верагодна ўшаноўваючыя Ясьлі Хрыста ў сузор'і Рака, каля якіх знаходзяцца дзьве зорачкі Аслы, ці ж гэта, проста, – жарт.

Аднак можна думаць, што пад маркай твораў уяўляемых «вальнадумцаў першага і другога стагоддзяў хрысьціянства» не ўсё з'яўляецца здзекаваннем аўтараў Эпохі Адраджэння над сучаснай ім тыранічнай рэлігіяй ці жаданнем выказаць свае ўласныя думкі ад імя сьвятых, няўдала змагаючыхся з вальнадумцамі, хаця і пакідаюць за сабой апошняе слова. Пад гэтай формай выкладання маглі перадавацца і сапраўдныя факты із мінулай гісторыі царквы, якія яна пасьля сваёй рэфармацыі жадала б замаўчаць, як несумяшчальныя з яе новай ідэалогіяй і звычаевасьцю.

Ці не давядзецца дапасаваць да гэтага шэрагу і паведаменне ад імя Юстына Пакутніка[417] і моцна трымаўшаяся ў асяроддзі публікі абвінавачанне сярэднявечных хрысьціянаў у тым, што яны суправаджалі свае «кахальныя ночы» агульным канкубінатам і чарадзейнымі звычаямі? Юстын, вядома, сцвярджае, што гэтага не было і што «паганцы» набылі такія паведамленні пра хрысьціянаў не ад іх саміх, а ад іхных рабоў... Але ці сапраўды сведчанні «рабоў» мы павінны лічыць заўсёды няпраўдзівымі?

Зразумела, што і гэтае сведчанне немагчыма дапасаваць да больш ранняга часу, чым той, калі быў знойдзены рукапіс Юстына, старажытнасьць якога мне невядома, але, бяспрэчна, час напісання яго твораў ідзе не далей у глыбіню стагоддзяў ад часу іхнага друкавання, чым і ўсіх астатніх рукапісаў, якія я разбіраў. А таму і паведамленне «Юстына» пра хрысьціянскія вэрхалы, г.азн. пра «кахальныя ночы» (агапы, па-грэцку), калі яно праўдзівае, павінна лічыцца дапасуючымся не раней, як да сярэдневечча, ці нават да яго заканчэння.

Я не магу тут прамаўчаць і пра тое, што із твораў, дапасуемых некалі да I стагоддзя нашай эры, акрамя кніг Новага «Запавету, самімі тэолагамі называліся толькі творы рымскага біскупа Клімента (псеўда 91-100 гады), але і іх даводзіцца прыпісаць значна больш позняму часу. Яго «другі ліст» да карынфянаў, знойдзены толькі ў 1875 годзе, і яго два лісты да «нявінніц», напісаныя па-сірыйску, і без мяне аспрэчваюцца гісторыкамі разам з яго «клементынамі», выкладаючымі «вучэнне юдэйскіх хрысьціянаў» і «хрысьціянаў-паганцаў». Ці не належаць яны Кліменту, які называецца другім (1046-1047)? Так было б больш праўдзіва, але і на гэта ў мяне няма довадаў. Падробленым лічацца зараз таксама і «Пастыр» Ерамея і ліст св. Варнавы, якія раней прызнаваліся таксама за належачыя першаму стагоддзю нашай эры.

---

[416] Tertulian:, «Apologiae», 16.

[417] Iustinus Martyr:, «Apologiae», I, 26. Існуе рускі пераклад (Юстын-Пакутнік, 1892 г.).

У выніку, як мы бачым, для першых двух стагоддзяў у нас не існуе ніякай не толькі хрысьціянскай, але і «паганскай» літаратуры, і таму мы **a priori** можам ставіцца і да ўсіх іншых паведамленняў пра хрысьціянскіх вальнадумцаў першых стагоддзяў нашай эры як да казак з «Тысячы і адной ночы».

Такім, напрыклад, з’яўляецца паведамленне пра хрысьціянскага чараўніка Сымона-Вешчуна, (г.азн. кудзесьніка[418]), які, верагодней усяго, уяўляе толькі сярэднявечную пародыю на апостала Сымона Пятра. Адсюль **хрысьціяне-чараўнікі**.

Ад імя таго ж, надрукаванага Эразмам Ратэрдамскім, «старажытнага ліёнскага біскупа Ірынея»[419] нам паведамляецца, што гэты прапаведнік Хрыста, не аддзяляўшыся як цень ад аднайменнага з ім Сымона Пятра, купіў сабе ў горадзе Ціры прастытутку на імя Грачанка (Алена, па-грэцку), якая, падобна жонцы апостала Пятра, зрабілася яго вечнай спадарожніцай у вандраваннях.

Разам з Пятрам ён прыехаў у Рым, дзе ў яго гонар нават была ўзведзена статуя на выспе Тыбра, на якой згодна з кнігай, прыпісваемай Юстыну Пакутніку[420], існаваў надпіс: Simoni Deo Sancto (Сымону-сьвятому богу). Але яшчэ раней, чым было надрукавана гэтае паведамленне «Юстына», на той жа самай выспе быў знойдзены ў 1373 годзе адломак статуі з надпісам Semoni Sanco Deo, г.азн. з тым жа самым надпісам, як у Юстына, але толькі з выкарыстаннем карыстаючыся першабытнай арфаграфіяй. Із гэтага вынікала б зрабіць выснову, што твор ад імя Юстына напісаны аўтарам, які ўжо ведаў пра такую знаходку і, такім чынам, жыўшым пасьля 1373 года, але імкненне ранейшых гісторыкаў лічыць кожны дакумент, фальшывасць якога не даведзена, за сапраўдны выклікала дзякуючы гэтай нагодзе цэлы шэраг думак. Адны із філолагаў, прытрымліваючыяся сваёй недарэчнай ідэі, што рымская арфаграфія была ад пачатку нязменнай, прыйшлі да высновы, што выказванне Semoni Sanco з’яўляецца тут проста давальным склонам ад Semo Sancus і што гэты Сема Санкус быў старажытным сабінскім богам, які атаясамляўся з Геркулесам, а іншыя аўтарытэты, як напрыклад Герыкэ, абвясьцілі, што Сема Санкус сапраўды «Сьвяты Сымон», але не апостал Сымон Пятро, а Сымон Вяшчун, яго неправаверны двайнік.

У нас няма патрэбы паглыбляцца тут у дэталі гэтых спрэчак, таму што з нашага боку гледжання Сымон Вяшчун і Сымон Пятро[421] – толькі дзьве розныя аперцэпцыі паваліўшагася ў Рыме метэарытнага каменя (Пятра апостала, па-грэцку), а таму і апісаны тут аскепак старажытнай статуі быў аперцэпцыйнай скульптурнай выявай уяўляемага апекуна сярэднявечнага Рыма, узведзенай яму як богу пад час пантыфікальнага перыяду рымскай гісторыі[422]. Нам цікава тут толькі прасачыць, якое вучэнне прыпісвалася гэтаму каменю ад імя Ірынея аўтарам «Пяці кніг пра ерасі», надрукаваных упершыню, як я ўжо паведамляў, толькі Эразмам Ратэрдамскім у XVI стагоддзя.

Сымон, – кажуць нам, – вучыў, што бог, як ствараючая магутнасць, існуе вечна ў прасторы непрыступнага сьвету. Ад яго ўзнікла Думка[423], а ад спалучэння бога і думкі узніклі пакаленні мужчынскіх і жаночых нярэчыўных існасьцей[424].

---

[418] Слова кудзеснік паходзіць ад жыдоўскага кадэш – пасьвечаны; Хрыстос – па-грэцку.

[419] Irenaeus, I, 13.

[420] Iustin, «Apologiae» I, 26. 56.

[421] Сымон Пятро азначае — Знак-Камень, апостол Пятро азначаезначит — Камень-Пасланнік.

[422] «Хрыстос», кн. I, частка I, гл. VI.

[423] Эннія (‘έννοια), па-грэцку – думка, мышленне.

[424] Эанаў – па-грэцку.

Думка, выходзячы із Паўнаты Ўсяго[425], зрабіла шмат сваіх вестуноў (анёлаў, па-грэцку), якімі і быў створаны сьвет. Але вестуны Думкі, не ведаючы ні пра бога, ні пра сваю маці-Думку, учынілі над ёй розным абразы і заняволілі яе ў паслядоўны шэраг рэчыўных цел. Спачатку Думка адушавіла форму выдатнай Грачанкі (Алены, жонкі Менелая), потым знайшла сабе сховішча ў іншай Грачанцы (Алене), спадарожніцы Сымона Вешчуна, але ўвесь час яна заставалася чыстай духоўнай існасьцю[426], не беручы ўдзел у зневажэннях, якія зведвалі насіўшыя яе целы. Усе людзі знаходзяцца ў падначаленні стварыўшых сьвет «вестунам Думкі», і імі былі створаны старазапаветныя законы, прароцтвы і разлічэнне дабра і зла з мэтай утрымваць людзей у рабстве[427]. А Сымон (г.азн. метэарытны персаніфікаваны камень з неба) быў не што іншае, як вярхоўны бог, адкрыўшы сябе самаранам, як бог-Бацька юдэям, як бог-Сын паганцам, як сьвяты дух[428].

Ён сышоў з вышэйшага неба дзеля выратавання сваёй «загінуўшай авечкі» – Думкі – ад заняволення яе ў цялеснай вязніцы і дзеля збавення людзей ад ярма яе непамятаючых вестуноў. Праходзячы праз розныя нябесныя сферы (чым ўжо прызнаецца шарападобнасць землі і механічны рух планет), гэты камень набываў на кожнай сферы асобную форму (г.азн. Сатурна, Юпітара, Марса, Сонца, Венеры, Меркурыя, Месяца), а на зямной паверхні набыў форму чалавека[429], які быў вядомы як Езус Месія. Ажывання яго цела не было, а яго душа ўзнеслася праз усе сферы да «Паўнаты Ўсяго». Тыя, якія аддаваліся яму і аддаваліся Думцы, не мелі патрэбы ў выкананні якіх бы то ні было маральных правіл, таму што ратаваліся божым дарам. Але дзякуючы таму што іхная душа, пераходзячы праз сем нябесных сфер да «Поўнаты Ўсяго», сустракала на кожнай асобнага вестуна, здольнага перашкодзіць ёй узносіцца далей, то іх патрэбна было схіляць да сябе – згодна з творам, прыпісваемым Тэртуліяну, – ахвяраваннямі[430]. Спадарожніца Сымона Грачанка (Алена) і была не што іншае, як Сьвяты Дух[431] і абагаўлялася паганцамі пад найменнем Мінервы ці Афіны, багіні розуму і вынаходлівасьці, а сам Сымон (г.азн. Камень-Знак) абагаўляўся пад імем Зеўса ці Юпітара, г.азн. бога Бацькі.

Ад імя Юстына[432] дадавалася, што Сымона ўшаноўвалі, як вярхоўнага бога, амаль усе «самаране», ды і у іншых краінах былі прыхільнікі, а ад імя Арыгена яму пярэчылася, што гэтая рэлігія мела ва ўсім сьвеце наўрад ці больш 30 паслядоўнікаў[433].

Такім чынам мы бачым, што «Пяць кніг супраць ерасяў» ад імя Ірынея з'яўляюцца нашай галоўнай першакрыніцай для азнаямлення з усімі філасофска-тэалагічнымі ўяўленнямі, існаваўшымі пад час Эпохі Гуманізму, калі тупое наданне біблейскіх і евангельскіх паданняў ужо перастала задавальняць чалавечую думку. У іх мы знаходзім і іншыя перайначванні той жа самай тэагоніі ад імёнаў Менандра, Керынфа, Сатурніна і Васіліда, пры гэтым апошні, распрацоўваючы тыя ж ідэі, прыйшоў, нарэшце, да высновы, заснаванай на містычным уяўленні пра лічбу сем, адпаведна колькасьці дзён тыдня, што ад вярхоўнага бога сышлі сем

[425] Па-грэцку – плеромы, ад πλερόω (плероо) – напаўняю.
[426] Ірыней, I, 23, 2.
[427] Там жа, I, 33, 3; Hippolit. VI, 19.
[428] Ірыней I, 23, I; Epiph. Haeres XXI, 1.
[429] Ірыней 1, 23, 3. Hippolit. VI, 19; Epiphanius, XXI, 33.
[430] Tertullian: «De Prescription», 33.
[431] Epiphan. XXI. 1.
[432] Iustin, «Apolog.» I, 26.
[433] Origen, «Contra Cels.», I, 57; VI, II

нярэчыўных існасьцей: розум, слова, думка, мудрасць, магутнасць, праведнасць і замірэнне. Яны стварылі другі шэраг такіх жа існасьцей, а ад другога шэрага ўзнік трэцці і гэтак далей, пакуль не ўтварылася 365 станаў не маючых цела існасьцей адпаведна з колькасьцю дзён у годзе.

Але не адны вольныя мысляры Эпохі Гуманізму звярталіся да арыгінальнага прыёму выкладаць свае ідэі ў выглядзе палемікі з імі розных слупоў атачаючага іх хрысьціянства. У кнізе, напісанай ад імя Тэртуліяна, «Супраць Маркіёна» мы бачым твор аднаго із першых хрысьціянскіх антысемітаў. Аўтар гэтай кнігі прызнае існаванне трох пачаткаў усяго атачаючага: абсалютна добрага вярхоўнага Вечнага бога, абсалютна злога і вечнага ж дз’ябла, і прамежкавага паміж імі біблейскага Стваральніка (дэміурга па-грэцку), стварыўшага гэты сьвет і ўсіх яго насельнікаў із першапачатковага хаосу без ведама і згоды вярхоўнага вечнага бога. Тое, што чалавек называе сваёю душой, з’яўляецца целам гэтага «стваральніка», і ён абраў сваім народам юдэяў, якіх аўтар ужо лічыць асобнай расай, а не проста рэлігійнай сектай. Каб забяспечыць валадаранне гэтага народа над астатнімі, біблейскі Стваральнік меў жаданне выправіць свайго сына-Месію, але вярхоўны бог, пашкадаваўшы чалавецтва, выправіў замест яго свайго ўласнага сына, Хрыста, які раптам з’явіўся ў Капернаумскай сінагозе «пад час пятнаццатага года Тыверыя Кесара» і назваўся тым самым Месіяй, пра якога, як быццам бы, прадказвалі жыдоўскія пракорі[434].

А біблейскі «Стваральнік», пераканаўшыся, што магутнасць гэтага падробленага Месіі перавышае яго ўласную, наладзіў супраць яго юдэяў, і Хрыстос быў укрыжаваны, хаця цела яго будучы эфірным і не магло пакутаваць. Хрыстос потым пайшоў у пекла, дзе яго віталі ўсе паганцы: Каін, Ісаў, садаміцяне і іншыя, і яны былі ім абаронены ад помсты Стваральніка і выратаваны, а біблейскія праведнікі так і засталіся ляжаць у пекле «на ўлонні Аўраама». Ад імя Епіфана Кіпрскага[435] паведамлялася, што гэтае вучэнне было моцна пашырана ў яго час і лічыцца царкоўнымі гісторыкамі знікшым у VI стагоддзі, тым часам як добра распрацаваная тут навейшая ідэалогія пра ўкрыжаванне Хрыста, яго спусканне ў пекла і іншыя асаблівасьці паказваюць нам на вельмі пазняе паходжанне гэтага дакумента.

«Пры пасярэдніцтве гностыкаў, – выказваецца Баумгартен-Крузіус[436], – былі ўведзены ў царкву навукі, літаратура і мастацтвы, і калі гнастыцызм выканаў гэтае сваё прызначэнне, яго розныя формы спынілі сваё існаванне ці працягвалі гібець у якасьці састарэлых вераванняў».

І мы не можам не пагадзіцца з такімі словамі, якія, аднак, набываюць слушны сэнс толькі ў тым выпадку, калі мы дапасуем узнікненне гнастычных вучэнняў да пачатку Эпохі Гуманізму ў Заходняй Яўропе.

# Глава II

## Рэчаісныя падставы развіцця апакрыфічнай літаратуры пачынаючы ад часу крыжовых паходаў. Тэртуліяне,

[434] Tertullianus, «Advers. Marcion,», III, 15; IV, 2, 3, 6, 7
[435] Epiphanius, XLI.
[436] 32 Baumharten-Crusius, «Dogmengeschichte».

артэманіяне, чарачнікі («калікстыяне»), «беднякі-аратыя», сатурнініяне.

Мы толькі што бачылі, што пазнавальныя (гнастычныя) секты I і II стагоддзяў нашай эры былі чыстай прадумкай аўтараў Эпохі Гуманізму ў Заходняй Яўропе, якія служылі для таго, каб схаваць за імёнамі старажытных ерэтыкоў свае ўласныя філасофскія ідэі, не памяшчаючыяся ў вузкія рамкі тагачаснай каталіцкай тэалогіі і якія было магчымым апублікаваць толькі пад маркай набожнай і грымотна-пераможнай на выгляд, хаця па-сутнасьці і цалкам незадавальняючай, і даходзячай да лаянкавай беззмястоўнасьці, палемікі з імі.

Цалкам іншае ўяўляюць із сябе паведамленні пра больш пазьнія варыяцыі хрысьціянскага вучэння, якія хутчэй могуць быць разглядаемы не як ухіленні ад ужо існаваўшай складана развітай догмы, а як паслядоўныя ступені яе ўласнага развіцця, хаця б вывучэнне іхнай сапраўднай сутнасьці і сапраўднага часу іхнага знікнення із жыцця ўяўляецца вельмі цяжкім, таму што ад іх да нас дайшлі толькі паросшыя мохам і нярэдка пераіначаныя да непазнавальнасці парэшткі ў творах пісьменнікаў, зноў той жа Эпохі Гуманізму, яшчэ жыўшыя праз сотні гадоў пасьля часу, да якога дапасуюцца паведамляныя імі падзеі.

І ўсё гэта цалкам зразумела з этнапсіхалагічнага боку гледжання.

Жадаючы засланіцца арэолам даўнасьці, кожная новая фаза развіцця хрысьціянскай аўтарытарнай тэалогіі натуральна абвяшчяла сябе толькі вяртаннем да першапачатковай чысьціні, да як быццам бы пераіначанага вучэння саміх апосталаў, а не ўласнай навіной, супраць якой кожны меў права пярэчыць згодна з ўзорам рускіх старавераў часоў маскоўскага патрыярха Нікана (1605-1676), пярэчыўшых яму: «нашы бацькі ратаваліся хрысцячыся і двума пальцамі, дык навошта ж ты нам загадааеш хрысціцца дробкай?»

А выдаць кожную навіну за старажытны забыты звычай было лёгка, таму што сапраўдна старажытныя пісьменнікі нехаця запісвалі толькі незвычайныя падзеі. На сваіх жмутках папірусу, драўлянай кары, гліняных дошчачках ці лапатках барана яны не мелі месца для марнаслоўя ці запісвання ўсім вядомых рэчаў. Не мелі яны магчымасці для гэтага і пад канец сярэдневечча, калі пісалі ўжо на паперы і пергаменце, складанае прыгатаванне якіх рабіла іх вельмі каштоўным матэрыялам і іх ужывалі толькі для паведамлення нечага незвычайнага ці патрэбнага.

Шмат хто зараз цалкам не разумеюць гэтага, і таму я зноў патлумачу справу больш падрабязна, чым рабіў раней.

Возьмем хаця б пергамент, які лічыцца больш старажытным чым папера і разгледзім яго ў тым выглядзе, у якім мы маем самыя старажытныя яго ўзоры. Для кожнага ж яго ліста патрэбна было:

1) злупіць скуру із маладога цяляці не старэйшага чым 6 тыдняў ці з маладога баранчыка,

2) размачваць яе да 6 сутак у цякучай вадзе,

3) здзерці мяздру асобным скрабком,

4) разрыхліць поўсць з дапамогай гнаення скуры ў сырой яме і пасыпаннем вапны на працягу ад 12 да 20 сутак,

5) абадраць разрыхліўшуюся поўсць,

6) праквасіць голую скуру ў аўсяных ці пшанічным вотрубах, каб выдаліўся із яе лішак вапны,

7) прадубіць скуру раслiннымі дубільнымі экстрактамі, каб яна пасьля высыхання стала мяккай,

8) выраўнаць няроўнасьці, шаруючы скуру пемзай, папярэдне пасыпаную крэдай.

Такім было прыгатаванне **кожнага ліста** пергаменту! На адзін асобнік гэтай маёй кнігі спатрэбілася б апрацаваць такім чынам 58 бараноў і на кожную тысячу яе асобнікаў 58 тысяч бараноў! Якая белетрыстыка ці вытанчаная літаратура магла б пышна заквітнець на такім цяжка вырабляемым матэрыяле, хаця б ён, як лічаць легкадумныя людзі, і быў вядомы яшчэ Енаху, сыну Іярэда і нашчадку Сіфа, узятаму жывым на неба яшчэ да сусветнага патопу і напісаўшага на ім не ўтапіўшуюся нават і ў вадзе сусветнага патопу «Кнігу Енаха», поўны тэкст якой быў у XIX стагоддзя адкрыты на эфіёпскай мове і выдадзены Дыльманам у 1858 годзе, праз 7000 гадоў пасьля ўшэсьця яе аўтара на неба!

Які літаратурны склад ці «шляхетная класічная мова» з яе складанымі дадатковымі сказамі маглі распрацавацца пры такім недахопе агульнадаступных матэрыялаў для практыкаванняў у пісанні, раней вынаходніцтва таннай анучкавай паперы? Само ж прыгатаванне яе із ануч паказвае ўжо на такое вялікае пашырэнне ільняной і баваўнянай бялізны сярод насельніцтва, што яе парэшткі выкідаліся на сьметнікі, як ні на што не прыдатныя рэчы, і падбіраліся бадзяючыміся анучнікамі для збыту на паперні, як гэта было яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя, да вынаходства драўнянай паперы.

Нават і простае хуткапісанне, неабходнае для ўзнікнення вытанчанай літаратуры, не мела ніякай магчымасьці распрацавацца пад час пергаментнага перыяду пісьмовасьці, а таму гэты матэрыял і ўжываўся толькі на невялікія рэлігійныя, прароцкія, медычныя, алхімічныя запісы ці на нататкі пра незвычайныя падзеі і важныя перамены, а ніяк не на апісанне атачаючага паўсядзённага жыцця.

І вось, дзякуючы імкненню нават і навейшых тэолагаў, накшталт Лютара, Кальвіна і іншых, выдаваць свае навіны за аднаўленне першапачатковай апостальскай рэлігіі, адбылося наступнае. Успаміны пра эмбрыянальныя формы хрысьціянскай рэлігіі, існаваўшыя да вынаходніцтва друкарства, набылі форму паведамленняў пра выпадковыя хваробы першапачаткова існаваўшай дасканала распрацаванай рэлігіі, якія былі пераадолены прадстаўнікамі сапраўднай веры хутка пасьля іхнага ўзнікнення. Пастлумачу гэта такой здагадкай.

Будзем лічыць, што старажытныя хрысьціянскія храмавыя агапы (г.азн. «кахальныя ночы»), пра якія згадваюць, як я ўжо паведамляў у папярэднічаўшай главе, Юстын Пакутнік[437] і шмат якія іншыя царкоўныя пісьменнікі, былі тоеснымі з вэрхаламі класічных аўтараў. Пакуль усё гэта было звычайнай з’явай, практыкаваўшайся яшчэ бацькамі і дзядамі і вядомай кожнаму тагачаснаму юнаку і дзяўчыне, нікому і ў галаву не прыходзіла марнаваць каштоўныя лісты пергаменту (гатуемыя такім цяжкім і складаным шляхам, як я толькі-што паказаў) на апісанне ўсяго адбываўшагася там згодна з узорам сучасных белетрыстаў і рэалістаў, у якіх паперы так шмат, што яны пішуць толькі на адным баку ліста, пакідаючы адваротны бок чыстым. Захавацца гэта магло толькі ў вуснай эратычнай паэзіі таго часу, накшталт, напрыклад, біблейскай «Песьні песень», але гэтая вусная паэзія натуральна хутка спыніла б сваё існаванне пасьля таго, як з нагоды пашырэння

[437] Iustini Martyri, «Apologiae», I, 26. Існуе ў рускім перакладзе: «Юстын.Пакутнік», 1892 г.

якой-небудзь усеагульнай венерычнай хваробы такія храмавыя «кахальныя ночы» былі забаронены. А сам факт забароны, як нешта незвычайнае, лёгка (і нават непазбежна) павінен быў патрапіць на чый-небудзь пергамент, таму што дзеля такой падзеі мела сэнс выдаткаваць і на ім некалькі дзясяткаў радкоў у чаканні нейкай наступнай незвычайнай падзеі.

Не бачачы ў гэтым запісе ніякіх згадванняў пра папярэднія дзесяцігоддзі ці нават стагоддзі існавання агап і няправільна разумеючы першапачатковую «апостальскую» царкву згодна з узорам сваёй уласнай, гісторык Эпохі Гуманізму мімаволі палічыў бы забарону вэрхалаў не за скасаванне першапачатковай стадыі развіцця сваёй уласнай рэлігіі, а за узнікшае ў ёй злоўжыванне, якое было хутка спынена, як ерэтычнае. А ў выпадку якіх-небудзь згадванняў пра вэрхалы і да іхнай ліквідацыі, пад імем агап, ён пасьля некаторага непаразумення прыйшоў бы да высновы, што пад грэцкім словам **агапэ** (ἀγαπή) у дадзеным выпадку патрэбна разумець не закаханасць, як выходзіць згодна з карэнным сэнсам гэтага слова, а проста падабанне-прыязнь, хаця б для пазначэння гэтага па-грэцку і існавала асобнае слова **філія** (φιλία), г.зн. сяброўская прыхільнасць.

Я свядома пачаў з гэтага прыкладу, як з простай здагадкі, але ўсё ж вельмі цяжка патлумачыць хрысьціянскі звычай прычашчэння віном і легенду пра таемную вячэру Хрыста не лічачы гэта перажыткам срарадаўніх храмавых вэрхалаў, знішчаных у каталіцкай царкве толькі пад час Эпохі Гуманізму.

Але калі гэтая здагадка нават і не мае для сябе цалкам дастаткова падставаў, то цэлы шэраг паведамленняў, сустракаючыхся ў царкоўных аўтараў пра хрысьціянскія ерасі пачатку сярэдневечча і нават яго сярэдзіны, мае несумнеўны характар не выпадковых хвароб, быццам бы, дарослага ад самога свайго нараджэння і згодна з падмуркам здаровага царкоўнага арганізма, але папярэдніх стадый і развіцця нейкай шматстагоддзевай эндэмічнай псіхічнай хваробы, якой на шчасьце было ахоплена не ўсё насельніцтва (нічога ніколі не разумеўшае ў хрысьціянскай тэалогіі), а толькі яго духоўныя кіраўнікі і прывілеяваныя станы.

Сапраўды, калі чытаеш сучасныя кнігі пра эвалюцыю хрысьціянскай ідэалогіі на грэцкім Усходзе пад час старажытнасьці і пад час сярэдневечча, то мімаволі здаецца, што патрапіў у сядзібу вар’ятаў, дзе большасць маньякаў у дадатак пакутуюць яшчэ прыпадкамі буянага вар’яцтва. І калі дасьледчык іхнага трызнення не жадае таксама з’ехаць з глузду, імкнучыся разабрацца ў іхных хворых душах і знайсьці нейкія прыкметы сэнсу ў іхным рэлігійным трызненні, то яму тут не застаецца рабіць нічога іншага, як паставіцца да прадмета свайго дасьледавання з чыста медычнага боку гледжання. Тут патрэбна шукаць паслядоўнасьці не ў самой тыпова псіхапатычнай праваслаўнай ідэалогіі візантыйскай царквы, а ў яе развіцці як эндэмічнай хваробы ад пакалення да пакалення, адкідаючы із паведамленняў галюцінатараў усё тое, што супярэчыць паталагічным законам развіцця эндэмічных псіхічных хвароб і адносячы хрысьціянскую царкоўную ідэалогію сярэдневечча у вобласць вар’яцкіх з’яваў, характарызуючых, галоўным чынам, толькі больш позні стадыі развіцця такіх хвароб, а апавяданні пра розныя дзівы і чартаўшчыну – да вобласці галюцынацый.

Але перш чым зрабіць гэты гісторыка-паталагічны аналіз рэлігійнага вар’яцтва нашых продкаў, грунтуючыся на сведчаннях саміх вар’ятаў, разгледзім спачатку становішча, у якім яны жылі.

Што такое ўяўлялі сабой раннія еўрапейскія кляштары?

У папярэднічаўшым раздзеле я ўжо выказваўся, што, адкінуўшы тэндэнцыйныя паведамленні пісьменнікаў-манахаў Эпохі Адраджэння і новага часу, ствараўшых іх адпаведна з вобразам і сэнсам сучасных, і звярнуўшыся перадусім да першапачатковага, карэннага значэння гэтага слова, мы знаходзім наступнае.

Слова **кляштар** (манастыр), французкае **monastere**, ангельскае **monastery**, італьянскае **monasterio**, лацінскае **monasterium** і грэцкае **μοναστήριον** (монастэрыён) тэолагі выводзяць ад грэцкага слова μονοσ (монас) – адзін, але гэта цалкам немагчыма. Калі першы склад гэтага слова і сугучны з грэцкім словам монас, тым жа самым, якое мы маем і ў слове манархія (адзінаўладдзе), то яго сярэдзіна і заканчэнне «астэрыён» уяўляюць сабой ніяк не яго флексію – ні ў якой мове такой флексіі няма, – а цалкам самастойны лінгвістычны корань са значэннем сузор'е, ад ἀστήρ (астэр) – зорка, па-грэцку, і ад אסתר (**АСТР**) – зорка, па-жыдоўску. Ён жа захаваўся і ў імені Esther – **Эсфір**, ды і ў міжнародных словах: астраномія, г.азн. зорказаконне, астралогія – зоркаўслаўленне і г.д.

**Ніякага іншага значэння для галоўнага кораня ў слове кляштар няма ні на адной чалавечай мове, і ні на адной не існуе хаця б трошачкі падобнага флексійнага заканчэння,** а таму мы без якіх бы то ні было ваганняў павінны сказаць, што першапачаткова кляштары прызначаліся дляназіранняў за начнымі сьвяцiламі і былі, такім чынам, першапачатковымі абсерваторыямі. Дадаванне склада «мон» хутчэй усяго з'яўляецца вульгарызаваным грэцкім лінгвістычным коранем «ном» (νόμ-ος) – закон, той жа самы, як і ў слове астраном, і ў гэтым выпадку слова кляштар спачатку вымаўлялася номастыр (νομαστηρίον) г.азн. законазорнасць. Ці ж гэтае слова жыдоўскага паходжання מנא-אסתר (МНА-АСТР), вымаўляемае менестэр, г.азн. зоркалічыльнік. Але калі нават вы і аспрэчыце такое меркаванне, то з нагоды бязспрэчнасьці значэння асноўнага кораня «астэр» вам усё ж нічога не застанецца рабіць, як патлумачыць выточную назву кляштароў у сэнсе абсерваторый.

Дакладна так жа і слова «манах», у яго першапачатковым значэнні, не можа выраблятца ад грэцкага слова «монас», таму што яно з'яўляецца толькі пераінчваннем першапачатковага слова μον-αστηρίος (монастэрыос) – манастырскі ці хутчэй усяго νομαστηρίος – законазорнік.

Такім чынам, само словаўтварэнне паказвае, што першапачатковыя манастэрыёны былі асадамі зорка-назіральнікаў, назіраўшых начамі і, такім чынам, спячых пад час дня, што рабіла іх малаздольнымі да звычайнай штодзённай дзейнасьці і асабліва да ўтрымання сям'і. Яны будаваліся большай часткай асобна ад гарадзкога шуму змарнаванымі жыццём ці зведаўшымі сардэчныя няшчасьці заможнымі людзьмі. А дзякуючы таму, што астралогія зьлівалася тады з культам (сам корань якога КЛТ з'яўляецца тым жа, што і КЛД у слове «калдаўство»), то гэтыя мястэчкі адразу набылі характар сьвятасьці ў вачах атачаючага насельніцтва, і да іхных ахвярнікаў (дзе званніцы, магчыма, былі спачатку абсерваторыямі, і разам з тым і гнамонамі), пачалі збірацца прынашэнні каючыхся грэшнікаў і гэтая акалічнасць паступова мела наступствам іхнае перараджэнне із чыста астралагічных навуковых установаў у тыя лядачыя звар'яцелыя сядзібы, якімі мы і ведаем іх у наш час. Але нават і пад час Эпохі Адраджэння, ад якой мы маем пра іх першыя праўдзівыя паведамленні, яны былі яшчэ прыстанкамі навук і літаратуры, паглыбленыя занятці якімі ўсё яшчэ лічыліся несумяшчальнымі з пабытавымі клопатамі сямейнага чалавека, асабліва таму, што жанчыны лічыліся пад час

сярэдневечча адпаведна са сваёй прыродай нyздольнымі да схаластычных і містычных навук і могучых толькі перашкаджаць такім незразумелым для іх заняткам.

Аднак жа, абавязковай неадружанасьці ці зароку прысвяціць сябе назаўсёды кляштарскаму жыццю не патрабавалася ад монастырыёнцаў аж да эпохі крыжовых паходаў. Вось чаму я вышэй і прапанаваў называць сярэднявечныя кляштары іхным грэцкім найменнем: **ман-астерыёны**, а манахаў таго часу **ман-астерыёнцамі**, каб адзінства назвы з сучаснымі **кляштарамі** і **манахамі** не выклікала ў нас мімвольнага адзінства і ўяўленняў, і давала б волю для незаахвочаных дасьледаванняў. Няма нічога горшага, як адсутнасць самастойнай назвы для нейкага адасобленага на справе прадмета, і выкарыстанне для яго іншага, у што ён паступова перараджаецца.

Ці маем мы нейкія парэшткі манастэрыёнскай літаратуры, г.азн. літаратуры таго часу, калі манастэрыёны яшчэ не перарадзіліся ў кляштары і не сталі замест сховішчаў навук сховішчам звычаёвасьці і непазбежна спадарожнічай ёй разумовай тупасьці?

Шматлікія запісы і нават зборнікі медычнага, алхімічнага, матэматычнага ці астралагічнага характару без сумневаў бяруць свой пачатак ад манастэрыёнаў, і ад іх жа могуць весьці свой пачатак і летапісныя зборнікі. Але ні ў якім выпадку немагчыма дапасаваць да манастэрыёнскага перыяду літаратуры такія кнігі, як напрыклад: Жыццяапісанні сьвятых першых стагоддзяў, перапоўненыя ўжо рэлігійнымі галюцынацыямі, ці трактаты вар'яцкага характару пра адзінага бога ў трох персонах, ці складаныя гістарычныя камбінацыі, накшталт Царкоўнай гісторыі Набожнага Усёшануючага (Яўсевія Памфіла, па-грэцку), ці Царкоўную гісторыю Навуковага Ратавальніка ўлады (Сакрата Схаластыка), таму што ўсе прыёмы выкладання гэтай літаратуры і іхны светапогляд выяўляюць праявы ўжо цалкам развітай рэлігійнай псеўдалогіі, а не першых яе прыступак.

Каб даць нарыс паслядоўнага развіцця гэтай хваробы, я скарыстаюся тут першымі трыма кнігамі «Гісторыі хрысьціянскай царквы» Кентэрберыйскага каноніка Джэймса Робертсана, які і сам не быў чужым рэлігійнаму псіхозу. Гэтая кніга існуе і ў рускім перакладзе – прафесара С-Пецярбургскай духоўнай акадэміі А. П. Лапухіна. Уласна кажучы, пісаць гісторыю сярэднявечнай хрысьціянскай царквы – гэта тое ж самае, што пісаць гісторыю сядзібы для вар'ятаў грунтуючыся на сведчаннях жывучых у ёй маньякаў. Аднак, калі, чытаючы іхныя сведчанні, заўсёды мець на ўвазе, што яны выходзяць ад вар'ятаў і разумець іх сведчанні не літаральна, а псіхіятрычна, усталёўваючы магчымыя першакрыніцы дадзеных вар'яцкіх з'яваў ці галюцынацый, то і з такіх на выгляд непрыдатных сведчанняў можна выцягнуць пры іхнай рацыяналістычнай апрацоўцы вельмі каштоўныя высновы, асабліва, калі мы далучым да іх сведчанні і сімулянтаў гэтай утрапёнасьці, а на справе цалкам здаровых людзей.

Вось, напрыклад, твор «Супраць Гермагена», аўтар якога мае найменне: «Пяты-Сёмы Квітнеючы Тэртуліанец» (Quintus-Septimus Florens Tertulianus), памёршы, быццам бы, яшчэ ў 230 годзе нашай эры. У гэтай брашуры выстаўляецца (нейкім сімулянтам праваслаўя) недарэчнасць вар'яцкай ідэі праваслаўных настаўнікаў пра стварэнне сьвету із нічога. Аўтар «папракае» спачатку нейкага маляра Гермагена ў адлюстраванні на яго малюнках паганскіх істот, а потым у тым, што той прыпісвае паходжанне зла якасьцям матэрыі, із якой богу давялося ствараць сьвет, і такім чынам прызнае матэрыю не створанай богам. Але гэта

відавочна няшчыра, таму што сам жа аўтар ад імя Гермагена прыводзіць неаспрэчныя доказы яго, нібы-та, паганскага цьверджання: 1) бог не мог стварыць сьвет з яго злом із самога сябе, таму што зло было б тады часткай бога, 2) бог не стварыў сьвет із нічога, таму што добра ведае, як патрэбна ствараць, і стварыў бы сьвет, без зла, і 3) адсюль зразумела, што бог ствараў сьвет із чагосьці ўжо існаваўшага акрамя яго і недасканалага.

Чытач бачыць сам, што гэтыя разважанні належыць якраз да таго роду літаратурных прыёмаў, які выкарыстоўваліся для магчымасьці надрукавання ўласнага непагаднення аўтара з вар'яцкім вучэннем пазньйшай хрысьціянскай царквы пра стварэнне сьвету із нічога. Не маючы магчымасьці выказаць сваю думку непасрэдна, аўтар выказвае яе ад імя ўяўляемага маляра, якога і лае за гэта. Але лаянка, як кожны разумее, не довад таго што лаючы мае рацыю і, акрамя яе для большага забеспячэння кнігі ад спалення прыводзяцца і ўпіканні з боку «Пятага-Сёмага» за паганскія выявы, быццам бы, створаныя тым жа самым хітрым ерэтыком Гермагенам.

Спроба аспрэчання вар'яцкай ідэі пра адзінага бога ў трох пярсонах робяцца аўтарам артыкула, напісанага нейкім тэолагам ад імя Навацыяна, жыўшага, быццам бы, у III стагоддзі. Яна носіць назву «Пра Сямуху» і надрукавана толькі ў 1728 годзе Jackson'ам. Аўтар сцвярджае ў ёй, што бога-Бацьку, бога-Сына і бога-Сьвятога Духа патрэбна разумець не як трох асобных персон у адной персоне, а як розныя праявы той жа самай персоны. А смутны ўспамін пра ўзнікненне вар'яцкай ідэі пра Сямуху грунтуючыся на больш здаровых і першапачатковых тэалагічных уяўленнях захаваўся нават у некалькіх паданнях.

Першым із іх даводзіцца лічыць паведамленне пра **артэманіянцаў** (парусніках), быццам бы існаваўшых яшчэ ў III стагоддзі нашай эры. Нам кажуць, што яны былі перадусім «матэматыкамі», разумеючы гэтае слова ў шырокім сэнсе, і «паслядоўнікамі» (г.азн. хутчэй родапачынальнікамі) цалкам распрацаванай толькі ў XV стагоддзі нашай эры філасофіі «Найлепшага Завяршальніка» (Арыстоцеля, па-грэцку), вучыўшай, што асноўным заданнем сапраўднай навукі з'яўляецца не проста запамінанне фактаў, а вывядзенне агульных законаў прыроды, якімі яна кіруецца, пры гэтым боскасць ёсць нішто іншае, як «Першы-Рухавік». Смутныя паведамленні пра парусьнікаў змяшчаюцца ў «Малым Лабірынце», прыпісваемага то Арыгену, то Кайю Рымскаму, то Іпаліту, біскупу Порто. Але праўдзівасць гэтых сведчанняў дастаткова кампраметуецца змешчаным у іх паведамленнем, што біскуп парусьнікаў Натанііл быў пабіты за сваё вальнадумства анёламі пад час спання да такой ступені, што сінякі засталіся на яго целе і пасьля абуджэння, і што дзякуючы гэтаму ён вярнуўся ва ўлонне праваслаўнай царквы[438]. Ды і арыстоцелева вучэнне пра бога, як пра Перша-Рухавік магло быць распрацавана толькі пад час Эпохі Гуманізму. Аднак, вельмі праўдападобна, што асноўнае цьверджанне гэтага вучэння, быццам стваральнік сьвету існуе толькі ў адной персоне, як у ісламітаў, а не ў аб'яднаўшыхся трох, як у сучасных праваслаўных хрысьціянаў, з'яўляецца ўспамінам, пад маркай ерасі, пра першую прыступку развіцця хрысьціянства. Згодна з тымі ж першакрыніцамі яно трымалася да рымскага «біскупа» (г.азн. назіральніка) Зефірына, дапасуемага без усякіх довадаў да 202-218 гадам «ад Нараджэнння Хрыста», пры гэтым і сам час «Нараджэнння Хрыста» тут наўрад ці супадае з сучасным царкоўным злічэннем. А слова «нарус» было сінонімам перша-рухавіка.

438 Labyrinth, ap. Euseb. V, 20 (Robertson, p. 76).

У такім жа сэнсе першапачатковай стадыі, а не мімалётнай памылкі, даводзіцца лічыць, відаць, і прыхільнікаў «рымскага біскупа» Чарачніка (Калікста), дапасуемага да 218-223 гадам пасьля таго ж няпэўнага «Нараджэнння Хрыста», які, быццам бы, як паказвае яго імя, увёў у набажэнства прычашчальную чарку і заснаваў хрысьціянскую секту, практыкаваўшую стацевыя празмернасьці. Да яе, – кажуць нам, – належалі і яго папярэднікі на рымскім епіскапальным пасадзе Зефірын, Эпігон, Клеамен – вучні Ноэта ў Рыме, і Савелій (Сібілій), прасвітар лівійскага Пентаполіса, як гэта нам паведамляюць кнігі, напісаныя ад імя Теадарыта «Пра ерасі (II, 9)» і ад імя Арыгена (у «Філосафенуме»). Пад назвай савеліянства гэта вучэнне, – кажуць нам, – існавала, як секта, да V стагоддзя нашай эры, і сцвярджала, што тры персоны боскасьці з'яўляюцца толькі яго трыма праявамі, параўнальныя з трыма праявамі чалавека ў яго целе, душы і духу, і з трыма праявамі сонца ў яго рэчыве, сьвятле і цеплыні[439].

Але гэта зноў ужо больш позьнія прыдумкі пісьменнікаў Эпохі Адраджэння, спрабаваўшых асэнсаваць сярэднявечную вар'яцкую ідэю.

За ўспаміны пра першапачатковую стадыю развіцця хрысьціянства даводзіцца прызнаць і паведамленне ад імя Ірынея і Іпаліта пра жабруючых хрысьціян (ебіёнітах, па-жыдоўску)[440], якія лічаць Хрыста простым чалавекам, сынам Ёсіфа і Марылі, высокае прызначэнне якога яму было адкрыта толькі пры яго хрышчэнні прарокам Іліяй, як сцвярджалі, быццам бы, і месіянцы[441] пра свайго Месію.

Адпаведна з аднымі першакрыніцамі ебіёніты, быццам бы, сцвярджалі, што хрысьціянства адрозніваецца ад закона Майсея толькі нешматлікімі неістотнымі дадаваннямі, а іншыя лічылі яго, наадварот, толькі аднаўленнем ранейшай сапраўднай сістэмы Майсея, із якой прызнавалі толькі «Пяцікніжжа»[442].

Ім таксама прыпісвалася некаторымі аўтарамі стацевая распушчанасць, як дэталь іхага веравучэння[443] і, акрамя таго, непрызнаванне якой бы то ні было прыватнай уласнасьці і вегетарыянства. Яны, – кажуць нам, – прытрымліваліся звычая абразання, выконвалі суботні адпачынак і існавалі ў Сірыі і Персіі да заканчэння IV стагоддзя пасьля «Нараджэнння Хрыста», практыкуючы храмавыя оргіі. А легендарны рымскі навуковец Цэльз, напісаўшы, як быццам бы ў II стагоддзі, капітальны сярэднявечны твор «De Medicina», згодна са сведчаннем не менш легендарнага Арыгена, цалкам усіх хрысьціянаў называў «сівілістамі», таму што яны карысталіся Сівільскімі (Севільскімі?) прароцкімі кнігамі і абвінавачваў іх у вялікіх непрыстойнасьцях[444].

Успамін пра першапачатковую астралогію, як падмурак першапачатковага апакаліптычнага хрысьціянства, захаваўся, відаць, у лягендзе пра Сатурніна (г.азн. нашчадка Сатурна), вучыўшага, што «невядомы бог-Бацька» на мяжы царства сьвятла і царства цёмнага хаатычнага рэчыва стварыў сем анёлаў, кіруючых сямю планетамі, якія стварылі із хаоса сьвет, падзяліўшы яго часткі паміж сабой[445]. Але і гэтае вучэнне, перададзеная ад імя нашай галоўнай першакрыніцы Ірынея,

[439] Epiphanis. Haeres. II. 9-10.

[440] Ад жыдоўскага ЕБІАНІМ – бедныя. Яны таксама мелі найменне юдэйствуючыя, таму выконвалі звычаі абразання, святкаванне суботы і пастановы пра кашэрную і трэфную ежу.

[441] Iustin Martyr, «Dialog, contra Triphon», 8.

[442] Epiphanius, XXX, 18.

[443] Epiphanius, XXX, 2.

[444] Όρίγεν, Κατά, Κέλσον V, 61.

[445] Irenaeus I, XXIV, 2.

далучыла да сябе, відаць, шэраг больш позніх уяўленняў, якім, напрыклад, павінна быць прыпісаная ебіёнітам думка, быццам толькі-што памянёныя духі планет, імкнучыся да ідэалу, утварылі людзей. Але іхныя людзі былі здольнымі толькі поўзаць, як чарвякі, па зямлі, пакуль «невядомы бог-Бацька» не накіраваў у адну іхную частку іскру свайго боскага жыцця[446], а сатана прыстасаваў для сябе другую частку, каб нападаць на першую. Каб выратаваць яе ад сатаны і ад падначалення «юдэйскаму богу», і быў пасланны на зямлю богам-Бацькай незямны Розум, апрануты ў прывіднае цела і атрымаўшы найменне «Хрыстос».

Чытач бачыць сам, што ў гэтых разважаннях – самая апошняя стадыя развіцця тэалагічнага хрысьціянскага мышлення, ужо заблытаўшагася ў адстаўшых ад жыцця біблейскіх і евангельскіх супярэчнасьцях, і што яна толькі навязваецца першым стадыям эвалюцыі хрысьціянства.

І мы бачым, што для сур'ёзнага гісторыка-дасьледчыка сапраўды нічога іншага не застаецца тут рабіць, як прызнаць усе без выключэння творы, прыпісваемыя першым тром стагоддзям нашай эры, за творы пісьменнікаў Эпохі Гуманізму ў Яўропе, аднесеныя так далёка назад сьвядома дзякуючы баязні быць спаленымі сваімі духоўнымі ўладамі, ці (у выпадку іх поўнага прававерʼя) дзякуючы жаданню падмацаваць свае ўласныя набожныя прыдумкі аўтарытэтам старажытнага сьвятога, ці проста таму, што кожны ляжаўшы ў кляштарскіх бібліятэках ананімны, адпаведна са звычаем, рукапіс губляў у наступным пакаленні імя свайго аўтара і натуральна прыпісваўся потым нейкай старажытнай славутасьці.

Вось чаму, даючы толькі ў вельмі кароткім выглядзе псеўда-біяграфічныя дэталі ўяўляемых заснавальнікаў розных хрысьціянскіх сектаў сярэднявечча, разгледзім, аналагічна папярэднічаўшаму, галоўным чынам толькі змест прыпісваемых ім вучэнняў.

# Глава III

## Арыгеніты-гараскапісты.

Да заканчэння IV стагоддзя, – кажуць нам, – сярод паганцаў было пашырана апавяданне, быццам бы апостал Пятро, пры пасярэдніцтве магічных чараў адкрыў, што хрысьціянства будзе існаваць да 365 года і потым загіне[447]. Гэты перыяд пазьней быў павялічаны да 398 года, але паганцы, адпаведна са сведчаннем апавяданнікаў, былі расчараваны пасьля таго, як прайшоў і 398 год. Мы бачым тут пазьнейшыя водгаласы слупавання «Вялікага Цара» ў 368 годзе і зʼяўлення Апакаліпсіса ў 395 годзе. У абодвух выпадках пачатак нашай эры дапасаваны толькі на ±3 гады, як і лічылі некаторыя нават пад час Эпохі Адраджэння.

І ў гэты ж час, – паведамляюць нам, – Аларых і яго готы, якія былі арыянамі, грамілі паганскія храмы. Да часу іхнага нашэсьця на Грэцыю дапасуюць і знішчэнне Елеўсінскіх містэрый у гонар багіні ўрадлівасьці, у якіх бралі ўдзел толькі пасьвечаныя. У бедствах, напаткаўшых тады Рым, хрысьціяне бачылі помсту свайго бога, таму што Аларых падчас паходу туды, быццам бы, паведаміў, што ідзе не згодна са сваёй уласнай воляй, а яго падахвочвае захапіць гэты горад

[446] Irenaeus, I, XXIV, 1; Hippolit, I, e.
[447] Augustin, «De civitate Dei», XVIII, 53-54.

нейкі Вялікі. У шмат якіх месцах, дзе была пашырана хрысьціянская рэлігія, старыя багі яшчэ займалі, – кажуць нам, – сваё ранейшае становішча, і шмат якія чыста паганскія ідэі і звычаі існавалі сярод хрысьціянаў. Шчасьлівы Аўгустын жаліцца, напрыклад, што хрысьціяне ў Афрыцы бяруць удзел у тамтэйшых паганскіх цырымоніях і забавах.

Да часу з’яўлення Апакаліпсіса пад час валадарання Ганорыя дапасуецца гісторыкамі і скасаванне гладыятарскіх відовішчаў у Рыме, але нашы першакрыніцы паведамляюць пра падставы гэтага па рознаму. Калі імператар, – кажуць адны, – пасьля сваёй Палентыйскай перамогі святкаваў трыумф падобнымі гульнямі, усходні манах Тэлемах, прыбыўшы ў Рым, выскачыў на арэну і паспрабаваў разлучыць змагаючыхся, але быў да сьмерці пабіты камянямі, якія (невядома адкуль!) дасталі гледачы, раз’юшаныя за гэтае перапыненне іхнай забавы. Імператар адчуў, што такая сьмерць (асабліва пры цудоўным з’яўленні камянёў на падмостках!) раўназначная пакутніцтву, і з мэтай супакоіць свой народ, «лютасць якога саступіла месца пакаянню», скасаваў нялюдзкае відовішча.

А Азанам сцвярджае, што скасаваць іх Ганорыя пераканаў паэт Прудэнцый[448].

Я пакідаю чытачу выбар паміж гэтымі двума легендамі і, не вырашаючы пытанне пра сапраўдны час скасавання гладыятарскіх спаборніцтваў, спісаных, вядома, з сярэднявечных рыцарскіх турніраў, перахожу да легендаў пра Арыгена, дапасуемага да V стагоддзя.

Маркел Анкірскі, – кажуць нам, – называў яго бацькам арыянства[449], а яго праваслаўнасць абараняў сьвяты Апанас. Нітрыйскія манахі знаходзілі ў яго працах падмацаванне для свайго містычнага настрою, а Пахомій перасьцерагаў сваіх вучняў супраць Арыгена, як самага небяспечнага са спакуснікаў, вучэнне якога можа прывесьці чытача да пагібелі.

Але ўсе іхныя творы, як звычайна, мы маем толькі ў выглядзе асобных рукапісаў ужо друкарскай эпохі і гэты позні час і адзінкавасць знойдзеных рукапісных асобнікаў самі па сабе сведчаць на карысць іхнай апакрыфічнасьці, і разам з тым даводзяць, што імя Арыгена тады ўжо грукатала.

Дык хто ж быў гэты Арыген? – На захадзе Яўропы пад час сярэдневечча ён быў вядомы толькі на імя, якое па-грэцку азначае: народжаны «Стваральнікам часу», г.азн. Горам (сынам Азірыса і Ізіды, помснікам за забітага Азірыса), а на-лаціне яго імя азначае Першапачатковы, Арыгінальны (ці сугучна з гэтым), што ўжо адно магло выклікаць з’яўленне апокрыфаў, засланяючыся такім псеўданімам (не кажу ўжо пра Маркела Анкірскага, які відаць раскладаў гэта імя на арые-ген, г.азн. родапачынальнік арыян).

Нехта (згодна са складам аўтар Эпохі Адраджэння) піша ад імя Шчасьлівага Ераніма пра яго з захапленнем, як пра «нястамляемага александрыйца, асуджанага ў Рыме не за навізну свайго вучэння, не за ерась, як нагаворваюць на яго шалёныя сабакі, але за тое, што яго ворагі былі не здольныя перанесьці славу яго красамоўства і вучонасьці». І ён збліжае яго з апосталам Пятром.

Але гэта не спадабалася некаму іншаму з той жа Эпохі апокрыфаў і ён, разам з некалькімі аднадумцамі, выступіў супраць «ілжэ-Ераніма» ад імя Епіфана Кіпрскага[450]. Памылкі, прыпісваемыя ім Арыгену, падведзены там пад восем

[448] Ozanam (I, 161), «Contra Simnach.». (Patrologia, LXXIII.)
[449] Ад Арыя-ген.
[450] Epiphan. ad Hieronim, Epist. LI, 4, 5.

частак, а больш усяго ён быў абвінавачаны ў вучэнні пра перадіснаванне душ, у дапушчэнні выратавання дз'ябла і злых духаў і ў пераіначаным тлумачэнні сьвятога пісання, даходзячы да поўнага адмаўлення ў ім літаральнай праўды.

Потым пайшлі і іншыя непагадненні. Так, нехта ад імя біскупа Руфіна стварыў, як бы, пераклад трактата Арыгена «Пра пачаткі»[451], але меў неасьцярожнасць паведаміць (з мэтай апраўдання ад абвінавачванняў у спагадзе), быццам бы выключыў адтуль дадаванні ерэтыкоў, ці пераіначыў іх так, каб яны мелі магчымасць пагадніцца з праваслаўем. У адказ на гэта, нехта ад імя Шчасьлівага Ераніма заявіў, што ніхто не мае права падобнымі спосабамі прыводзіць Арыгена да пагаднення са сваімі ўласнымі поглядамі. А Руфін замаўляў чытачоў і перапісчыкаў, пад пагрозай вечнага полымя, не рабіць ніякіх далейшых перамен у змененым творы Арыгена «Пра пачаткі».

Потым, нейкі прыхільнік Ераніма, якому не спадабалася тое, што пісалі пад час Эпохі Адраджэння ад імя Арыгена, напісаў ад імя свайго ўлюбёнца нешта накшталт іеранімава выбачэння ад ухвал Арыгену.

«Я хваліў яго, – выказваецца ён, – толькі як тлумачальніка, але не як дагматычнага настаўніка, – хваліў за яго геній, а не за яго веру, хваліў як філосафа, а не як апостала... Калі вы верыце мне, то я ніколі не быў орыгенітам. Калі ж вы не верыце мне, то я зараз перастаў ім быць».

Мы ахвотна верым аўтару гэтага «Адрачэння ад Арыгена» ва ўсім, акрамя таго, што ён жыў у V стагоддзі нашай эры, а таксама не можам не ўсумніцца ў праўдзівасьці іншых апакрыфічных паведамленняў, дзе паведамляецца, між іншым, быццам бы рымскі пантыфекс Анастас у 398 годзе асудзіў ужо даўно памёршага Арыгена і пераклады яго твораў, заяўляючы, што да з'яўлення гэтых перакладаў ён нават не ведаў, «хто такі Арыген і што ён пісаў». Цікавей жа ўсяго тое, што пісаўшыя ад імя Ераніма і ад імя Руфіна працягвалі і далей сваё змаганне за Арыгена гнеўнымі апалогіямі, у якіх іхнае, быццам бы, ранейшае сяброўства згадвалася толькі дзеля вымаўлення дакораў адзін аднаму. Пісаўшы ад імя Аўгустына быў, нарэшце, так засмучаны гэтай спрэчкай, што замоўк, выказаўшы толькі сваё засмучэнне «з нагоды такога непрыстойнага відовішча». Потым пісаўшы ад імя Руфіна, відаць, памёр, а пісаўшы ад імя Ераніма, узрадаваўшыся, што больш ніхто яму не адкажа, назваў яго Сруніем (бурчуном), і ў сваёй прадмове да кнігі прарока Іезекііла, выказваецца пра яго такімі словамі:

«Скарпіён гэты пахаваны пад глебай Сіцыліі разам з Энкеладам і Парфірыёнам; шматгаловая гідра перастала шыпець супраць нас»[452].

Такімі з'яўляюцца нашы найбольш праўдзівыя паведамленні пра вучэнне Арыгена. Чытач сам бачыць, што тут усё поўніцца супярэчнасьцямі. Тлумачэнне такога непагаднення можа быць толькі адно: як творы прыпісваемыя Руфіну, так і творы прыпісваемыя Ераніму (ці Аўгустыну і Епіфану), і ўся палеміка паміж імі наконт Арыгена напісаны ад іхнага імя рознымі аўтарамі Эпохі Адраджэння і выяўляюць іх уласныя думкі, а не тых легендарных дзеячаў заканчэння IV стагоддзя, ад імя якіх яны выказваюцца.

Пяройдзем зараз да паданняў і пра асобу Арыгена.

«Народжаны богам Горам, сынам багіні Ізіды і помснікам за забітага Азірыса (г.азн. Осіі-цара)», ён нарадзіўся, – кажуць нам, – у Александрыі, каля 185 года, і

---

[451] Photius Bibliothec. Cod. 8
[452] «Patrologia», XXVIII, 16-17,

пачынаючы з самога дзяцінства быў старанна выхаваны як літаратурна, так і рэлігійна.

Калі мы будзем лічыць, што толькі-што пазначаны год быў дадзены адпаведна з эрай Дыяклетыяна, то атрымаем для яго нараджэння 469 год, а калі будзем лічыць ад заснавання ў 800 годзе Карлам Вялікім Усходняй Рымскай імперыі, то атрымаем 985 год, што ўжо магчыма для настаўніка, так добра знаёмага з евангеллямі. Але шмат шанцаў за тое, што ўсё апавяданне пра яго, як пра існаваўшага некалі чалавека, уяўляе адну із варыяцый легендаў пра Арыя ці нават пра Яна Залатавуста, калі не пра самага «Вялікага Цара».

Нам кажуць, быццам бы ён быў амаль сучаснікам вялікага астранома Пталямея Александрыйскага і жыў таксама ў Александрыі, але пазьней яго[453].

«Пераследы Сявера» яшчэ не існаваўшых тады хрысьціянаў (быццам бы) «асабліва лютавалі там падчас яго дзяцінства і яго бацька Леанід быў адной із яго ахвяр. Арыген таксама прагнуў пакутніцтва і быў выратаваны толькі дзякуючы клапатлівасьці сваёй маці, якая вымушала яго заставацца заўсёды ў сядзібы, хаваючы нават яго адзенне».

Потым ён стаў настаўнікам, але, на жаль, сярод асоб, прыходзіўшых паслухаць яго лекцыі, было шмат маладых жанчын, якімі ён спакушаўся. Каб пазбегнуць іхных спакушэнняў, ён згадаў словы евангелля Мацьвея (які з’явіўся толькі праз 600 гадоў пасьля пазначаемага для яго тэолагамі часу) пра тое, што некаторыя «самі робяць сябе лягчэнцамі дзеля царства нябеснага», і вылягчаў сябе. Ён, – кажуць нам, – хаваў гэта, аднак жа слых пра тое дайшоў да ведама біскупа Зьміцера і ён ухваліў яго ўчынак. Яго слава, як настаўніка, увесь час павялічвалася. У дапаўненне да багаслаўскіх павучанняў, ён выкладаў, падобна Абеляру (1079-1142 г.), із якога, як быццам бы, шмат у чым спісаны, і «граматыку», г.азн. агульную літаратуру.

«Царкоўнае замірэнне, якім, – кажуць нам, – цешыліся хрысьціяне падчас валадарання Каракалы, заахвоціў Арыгена наведаць Рым, дзе царква знаходзілася пад кіраваннем Зефірына. Ён наведаў Сьвятую зямлю, але ўвесь час жыў галоўным чынам у Александрыі, Кесарыі і Кападокіі. Ён стварыў, – кажуць нам, – выкладанне ў паралельных слупках: 1) жыдоўскага тэкста Бібліі, 2) таго ж тэкста, напісанага грэцкімі літарамі, 3) пераклад Бібліі Аквілоем, 4) яе пераклад Сімахам, 5) яе пераклад сямідзесяццю перакладчыкамі, «спісаны з надзейнага збору манускрыптаў» і 6) пераклад Бібліі Феадатыёнам. Бяручы за увагі гэтыя шэсць слупкоў уся праца атрымала назву Шасьцярык (Экзапла), а з нагоды далучэння да іх яшчэ двух няпоўных перакладаў, яна таксама набыла найменне Васьмярык (Актапла). «Гэтая вялізная праца была закончана, – кажуць нам, – незадоўга да яго сьмерці», толькі – як і заўсёды – рэчаісны яго манускрыпт, які нібы-та захоўваўся ў Кесарыі, «адпаведна са здагадкай» загінуў «пры разбурэнні Кесарыйскай бібліятэкі».

«Народжаны Горусам», – кажуць нам, – адрозніваў у сьвяты пісанні, як і тэолагі XVII стагоддзя, траякі сэнс: літаральны, маральны і таямнічы, адпаведна складовым часткам чалавека – целу, душы і духу. Сьвяты дух, – выказваўся ён, – кіраваўся, пры напісанні ім Бібліі, рэчаіснай гісторыяй народаў, дзе гэта было магчыма з боку гледжання таямнічага сэнсу, а дзе гэта было немагчыма, сьвяты дух сам вынаходзіў апавяданне. Таму і ў Законе Майсея адны пастановы магчымы для літаральнага выканання, а іншыя немагчымы. Але такія месцы як у старым, так і ў

---

[453] Арыген, – кажуць нам, – нарадзіўся каля 185 года і памёр у 254 годзе, а Пталямей Александрыйскі, быццам бы, жыў пры Антаніне Пію, памёршага, быццам бы, каля 161 года.

новым запавеце былі знарок пастаўлены сьвятым духам, «як камяні перашкод на шляху», каб разважаючы чытач, бачачы недастатковасць літары, мог адчуваць падахвочванне шукаць духоўны сэнс[454].

Літаральны сэнс Бібліі можа зразумець кожны ўважлівы чытач, маральны патрабуе больш высокага розуму, таямнічы можа быць спасьцігнуты толькі з дапамогай ласкі сьвятога духу. І гэты таямнічы сэнс бывае двух накірункаў: алегарычны, згодна з якім Стары запавет перад-малюе гісторыю Хрыста і яго царквы, і аналагічны, дзе апавяданне пераіначвае прадметы вышэйшага сьвету. Аднак жа, і самі артадаксальныя гісторыкі хрысьціянскай царквы прызнаюць, што сапраўдныя думкі Арыгена адпаведна са шматлікімі пунктамі вызначыць цяжка з нагоды таго, што астатнія ад яго імя творы большай часткай з’яўляюцца апакрыфічнымі і пры гэтым існуюць толькі ў перакладах.

«Арыгену, – кажуць нам, – абавязаны сваім узнікненнем і тэрмін «вечнае нарджэнне сына боскага». Ён тлумачыў спосаб падобнага нараджэння параўнаннем з выліваннем бляску ад сьвятла. Гэта, тлумачыў ён, не з’яўляецца нечым такім, што адбылося раз і назаўсёды, але безперапынна працягваецца «ў вечнасьці» боскага існавання.

Аспрэчваючы гнастычны светапогляд, лічыўшы матэрыю незалежнай ад бога, ён вучыў, што, дзякую таму, што бог усемагутны і валадар усяго, то ён заўсёды павінен быў мець нешта такое, над чым практыкаваў бы сваю ўсемагутнасць і панаванне, і з гэтай нагоды справа тварэння із нічога павінна адбывацца вечна.

Мэтай гэтай тэорыі было замірыць Майсеева паведамленне з платонавым уяўленнем, што сусьвет вечна паходзіць ад бога. Згодна з Арыгенам існавала шмат сусьветаў да стварэння сучаснасьці, і шмат іх будзе і пасьля заканчэння нашага сьвету. Ад пачатку была створана для сьвету поўная колькасць душ; дадаванняў да гэтай колькасьці не робіцца, але тыя ж самыя душы ўвесь час працягваюць з’яўляцца ў бясконцай разнастайнасьці формаў. Усе яны спачатку былі дасканалымі і адоранымі воляй волі. Тыя душы, якія зграшылі менш усяго, робяцца анёламі, жывучымі на планетах і займаючыміся справамі служэння людзям, а горшыя робяцца дз’ябламі. Была толькі адна душа, якая не зграшыла. Яна, шляхам пастаяннага сузірання боскага слова, далучылася да яго, была паглынута ім і такім чынам зрабілася сродкам для таго паяднання боскасьці з чалавекам, якое акрамя гэтага пасярэдніцтва было б цалкам немагчымым. З нагоды таго, што евангелле было прыстасавана для людзей рознага роду, то Арыген лічыў, што выгляд Хрыста, падчас яго жыцця на зямлі, адрозніваўся адпавядаючы характару тых, хто яго назіраў.

Кожнае пакаранне, адпаведна з гэтым вучэннем, мае проста выпраўленчы характар, будучы прызначана для таго, каб усе стварэнні маглі быць адноўлены да ўзроўню сваёй выточнай дасканаласьці. Пры ажыванні ўсё чалавецтва павінна будзе прайсьці праз полымя. Ачышчаныя душы пойдуць у рай, як месца, прыгатаванае для завяршэння ўсяго іхнага шляху. Злыя застануцца ў «полымі», якое, аднак жа, апісваецца ад імя Арыгена не як рэчыўнае, але як разумовае і духоўнае бедаванне. Нагодай яго і ежай служаць нашы грахі, якія, падняўшыся высока, загараюцца, каб зрабіцца пакараннем для нас, а «цемра апраметная» з’яўляецца цемрай недасьведчанасьці. Але стан і гэтых душ не безнадзейны, хаця могуць прайсьці тысячы гадоў, перш чым іхныя пакуты зробяць на іх належнае

[454] Origen, «De principiis», IV, 12.

ўздзеянне[455]. Аднак і тыя, якія дапушчаны ў рай, могуць злоўжываць там сваёй вольнай воляй, як і напачатку, і будуць з гэтай нагоды асуджаны на аднаўленне свайго знаходжання ў целе[456]. Кожнае разумнае стварэнне, нават сам сатана, могуць быць павернуты ад зла да дабра, так што не пазбаўлены канчаткова магчымасьці выратавання[457]. Пры канчатковым завяршэнні ўсяго, душа будзе існаваць у нейкім органе, зародак якога існуе ў сучасным целе. Яе задавальненні будуць чыста духоўнымі. Сьвятыя будуць разумець усе таямніцы боскіх здзяйсненняў. Ніколі не слабеючая павага захавае ўсё тварэнне ад магчымасці далейшага падання і «бог будзе ўсім і ва ўсім».

І вось, чытач, уся гэта складаная філасофія, дыхаючая схаластычнымі дэталямі Эпохі Адраджэння, дапасавана тэолагамі аж да III стагоддзя нашай эры! Ну ці не сорамна ўсё гэта?

І нам нічога не застаецца зараз рабіць, як на пытанне: хто быў «сын Горуса» і ўнук багіні Ізіды, Арыген? – адказаць: ён быў стварэннем рэлігійных фантазёраў Эпохі Адраджэння, пісаўшых не раней XVI стагоддзя пад псеўданімамі Яўсевій, Еранім, Аўгустын, Епіфан, Руфін і нават ён сам.

Тое ж самае можна сказаць і пра «яго вучняў».

## Глава IV

# Кіпрыян і наватыяне-абнаўленцы.

«Як імя Арыгена, – выказваецца Джэмс Робертсан[458], – набыло знакамітасць у гісторыі позьняга хрысьціянскага вучэння, так і імя яго сучасніка Кіпрыяна (г.азн. Кіпрскага ўраджэнца) зрабілася вельмі вядомым пад час Эпохі Адраджэння», – толькі «Кіпрскі ўраджэнец» нарадзіўся, згодна са сведчанем гісторыкаў, зусім не на Кіпры, а ў Картагене.

А адпаведна з нашымі гісторыка-астранамічнымі меркаваннямі атрымліваецца і яшчэ горш: атрымліваецца, што яго народзіны былі не ў 200 годзе нашай эры, калі яшчэ не існавала і самога хрысьціянства, а не раней чым 200 год эры **Дыяклетыяна**, г.азн. 484 год адпаведна з сучасным злічэннем падчас стварэння апакаліптычных прароцтваў, чаму цалкам адпавядаюць і яго паводзіны.

Яго ранняе жыццё, – кажуць нам, – была «не вольным ад звычайнай распушчанасьці таго часу»[459]. Аднак, зрабіўшыся прасвітарам, ён і «сам выправіўся, і пажадаў выправіць сваю паству». Але, відавочна, ён не быў занадта строгім, таму што пачаў змагацца з «абнаўленцамі» (новацыянамі, на-лаціне)[460], якія ішлі значна далей яго па шляху маралі і вучылі нават, што з нагоды блізкага заканчэння сьвету павініўшыяся грэшнікі-хрысьціяне, хаця і могуць быць дараваны

---

[455] Origen, «De Principiis», I, VI, 3.

[456] Origen, «De Princ.», II, III, 3; III, 6 (у перакладзе Ераніма).

[457] Шмат хто сцвярджалі, што Арыген вучыў пра магчымасць выратавання і для дз’ябла (Neander, I 472). А ў прыпісваемым яму ж лісьце да Аляксандра (т. I, стар. 9) гэтая думка абвяшчаецца такой, «якую наўрад ці можа падтрымліваць нават звар’яцелы».

[458] Пераклад А. П. Лапухіна, стар. 106.

[459] Pontius, «De vitae et passione st. Cypriani», з. 3, 5, 15.

[460] Ад novatio – абнаўленне. Грэцкая назва Новацыяна Noovatos з’яўляецца лацінскім Novatus, із чаго бачна, што па-грэцку ў яго не было нават імя (Cornelius apud Eusebio, VI, 43).

богам і таму павінны наладжвацца да пакаяння, аднак жа царква павінна адлучыць іх ад камунікавання з сабой да павіннага адбыцца на-днях заканчэння сьвету.

Акрамя сваёй лацінскай назвы «абнаўленцы» мелі і грэцкае найменне са значэннем «ачышчаныя» (катары[461]), што па-італійску ператварылася ў **гацары** (gazzari) пад час Эпохі Адраджэння. Яны былі вельмі пашыраны на працягу сярэдневечча па паўночнай Італіі, паўднёвай Францыі і заходняй Германіі, вялі аскетычны лад жыцця, не прызнавалі адружанне, прыватную ўласнасць, ужыванне жывёльнай ежы, узмоцнена чакалі заканчэння сьвету і перакрыжоўвалі пераходзіўшых да іх із дзяржаўнай царквы, лічачы камунікаванне з ёю нячыстым і яе «сьвятароў» самазванцамі.

Ужо самі іхныя назвы «абнаўленцы» і «ачышчаныя» (новацыяне і катары) паказваюць, што гэта загалоўныя найменні, г.азн. характэрызуючыя сутнасць секты, узнікшай без сумневаў пад уплывам Апакаліпсіса, і ніяк не дзякуючы таму, што, быццам бы, заснавальнікам абнаўленцаў быў нехта на імя Абнаўленец (Новацыян, на-лаціне), як у гэтым імкнуцца пераканаць нас гісторыкі хрысьціянскай царквы. А калі мы возьмем да ўвагі, што яны былі вынішчаны толькі ў XIV стагоддзі нашай эры інквізіцыяй, то нам будзе смешна нават і падумаць, што яны ўзніклі яшчэ да заснавання хрысьціянскага набажэнства «Вялікім царам» (Васілём, па-грэцку), жыўшым ў сярэдзіне IV стагоддзя нашай эры.

Нікейскі Сабор, – відавочна другі 787 года, а не першы, – як лічаць тэолагі, спрабаваў, – пераконваюць нас, – «выправіць гэты хрысьціянскі раскол заміраючымі захадамі». Але абнаўленцы па-ранейшаму лічылі слабасць дзяржаўнай царкоўнай дысцыпліны перашкодай для злучэння, хаця і пачалі больш па-сяброўску ставіцца да праваслаўных з нагоды агульнай небяспекі з боку арыянства (відавочна, агаранства ці іконазмагальніцтва). Яны, – паведамляюць нам, – аб’ядналіся з рэшткамі секты «горцаў» (мантаністаў), называўшых сябе натхнёнымі (пнеўматыкамі) і таксама чакаўшымі хуткага заканчэння сьвету, а грунтуючыся на іхнай лацінскай назве можна зрабіць выснову, што месцам іхнага узнікнення была хутчэй усяго гішпанская Мантанья, каля ракі Эбр, а не Фрыгія, дзе, быццам бы, жыў іхны першанастаўнік Горац (Мантан).

Супрацьстаяўшая абнаўленцам артадаксальная царква, на чале з вышэйзгаданым «Кіпрскім ураджэнцам», нарадзіўшымся не на Кіпры, а ў Картагене (і відавочна, у гішпанскай) зведала поўную паразу, дзякуючы моцнай чуме, за якую народ вінаваціў яе, як наклікаўшую такое жахлівае наведванне дэманаў сваёй бязбожнасьцю. Абвінавачаная царква рабіла ўсё што магла, каб змагацца і з чумой і з абвінавачваннем. Мёртвыя целы, заражаючыя паветра, хаваліся прыхільнікамі «Кіпрыяна» і за хворымі, былі гэта ці хрысьціяне ці паганцы, наладжваўся нагляд за кошт царквы.

Калі ж гэта было?

Першая гістарычная чума, ахапіўшая ўсе ўзбярэжныя краіны Міжземнага мора, адбылася ў VI стагоддзя нашай эры, і гэта цалкам пагадняецца з часам узнікнення абнаўленцаў, калі надаваемы «Кіпрыяну» 248 год мы будзем лічыць згодна з эрай Дыяклетыяна (284 год). Атрымліваецца 532 год нашага злічэння, г.азн. каля сярэдзіны VI стагоддзя. Абвінавачаны «абнаўленцамі» не-кіпрскі Кіпрыян быў выпраўлены ў спасылку ў нейкі горад Курубіс, знаходзячыся на

[461] Ад καθαρός – чысты; слова, ужываемае некалькі разоў у Апакаліпсісе, дзе згадваеца між іншым пра анёлаў, апранутых у чыстае і белае адзенне (Апок., XV, 6).

адлегласьці кіламетраў 60 ад Картагены, але пасьля прыбыцця новага «праконсула Галерэя» быў вернуты і пакараны адсячэннем галавы, відавочна ў сувязі з той жа чумой, а не таму, што не меў жадання ўшаноўваць «рымскіх багоў».

Больш позні час Кіпрыяна, а разам з ім і час «абнаўленцаў» выяўляецца і тым, што ён лічыў апостала Пятра – кіраўніком апосталаў, Рымскую царкву – адзінай вернай і тлумачыў зарок «ключоў царства нябеснага» ў тым сэнсе, што ён быў дадзены апосталу Пятру. Легенды пра яго, а разам з ім і пра пустыніцкія секты «навацыянаў-абнаўленцах, катараў-ачышчаных і мантаністаў-натхнёных», існуюць толькі ў больш позніх выкладаннях, але супадзенне чумы VI стагоддзя з паказаным для Кіпрыяна 248 годам, калі яго лічыць згодна з эрай Дыяклетыяна, вымушае спыніцца на дапушчэнні, што такія секты сапраўды паўсталі ў VI стагоддзі нашай эры.

Самыя асноўныя сведчанні пра ўсё тут павядомленае паходзяць галоўным чынам ад Яўсевія Памфіла і Сакрата Схаластыка, апакрыфічнасць якіх я ўжо давёў, і больш дэтальна буду даводзіць далей, а «лісты» самога Кіпрыяна маюць стыль яшчэ больш позьняга складальніцтва розных царкоўнікаў.

Вельмі цікава было б выкарыстаць да іх дасьледавання выкладзеныя мной у III томе «Хрыста» прыёмы лінгвістычных спектраў.

# Глава V
## Маніхэі-Будысты.

Слова **маніхеі** азначае натхнёныя людзі, ад старажытна-пярсідзкага слова **манех** – дух, што азначае гэта не ўласнае імя, а намінальнае, накшталт рускага слова «святарства». Калі час іхнага ўзнікнення, 270 год, будзем лічыць згодна з эрай Дыяклетыяна, то атрымаем 555 год нашай эры, і амаль да гэтага ж часу мы павінны будзем дапасаваць і час Сапора II Вялікага ў Персіі, даўшы для яго прамежак ад 564 па 654 год, што ўжо налягае на першыя гады агаранства. І сапраўды, гэта самы ранні тэрмін, да якога можна дапасаваць «духоўных людзей», хаця іхная ідэалогія складзена не раней як на пачатку Эпохі Адраджэння, да якой даводзіцца дапасаваць нашы галоўныя першакрыніцы пра іх: царкоўныя гісторыі Яўсевія Памфіла і Сакрата Схаластыка і кнігу шчасьлівага Аўгустына пра ерасі, із якіх тут паўтораны і легенды пра ўзнікненне гэтага «святарства» і пра яго сутнасць. Пачынаючы ад заканчэння VI стагоддзя сведчанні пра іх пад гэтым найменнем спыняюцца, хаця і паведамляецца, што яны тады пашырыліся ад Індыі да Гішпаніі, як і агаранства, але іхным працягам з'яўляюцца паўлікіяне, дзякуючы таму, што яны лічылі сваім настаўнікам апостала Паўла.

Паглядзім зараз, што паведамляюць нам пра гэтых духоўных людзей нашы першакрыніцы.

Грэкі[462] выводзяць гэтую секту ад сарацынскага гандляра, на імя Скіфіян, які, набыўшы багацце гандлем у Індыі, быццам бы, пасяліўся ў Александрыі і стварыў сваю ўласную філасофскую сістэму. Пасьля яго сьмерці, якая здарылася ў Палестыне, яго рукапісы, разам з астатняй уласнасьцю, патрапілі, быццам бы, у рукі яго служкі Тэрпентына, які з мэтай знайсьці больш спрыяльную ніву для

[462] Гл. спрэчку (вядома, апакрыфічную) паміж Менесам і Архелаем у Zacagni, «Collectania Monumentorum». 1798. Яго првўдзівасць і акрамя мяне аспрэчвалася (Робертсан, стар. 123).

пашырэння яго вучэння, выправіўся ў Персію, дзе і прыняў імя Буды[463]. Але ён быў пераможаны ў сваёй спрэчцы са жрацамі нацыянальнай рэлігіі, і калі аднойчы займаўся галашэннямі на даху сваёй сядзібы, быў скінуты ўніз галовай і забіты нейкім анёлам ці дэманам. Удава, у якой ён жыў і якая была яго адзінай паслядоўніцай, пахавала яго цела і завалодала яго багаццем. Яна купіла сямігадовага хлопчыка на імя Кубрык, дала яму добрую адукацыю і, паміраючы, калі ён дасягнуў дванаццацігадовага веку, зрабіла яго спадкаемцай усёй сваёй маёмасьці. Кубрык узяў імя «Слова» (па-пярсідзку, Манес), як і Хрыстос у евангеллі Яна, і пасьля заканчэння амаль паловы стагоддзя, пра якую няма ніякіх падрабязнасьцей, з'явіўся пры пярсідзкім двары, куды прынёс з сабой кнігі Буды, якія назваў сваім уласным творам. Ён падахвоціўся вылечыць сына цара Сапора ад небяспечнай хваробы, але ў адплату за сьмерць пацыента быў кінуты ў вязніцу. Там Манес дастаў хрысьціянскія кнігі і шмат якія із іх дадаў да сваёй сістэмы, называючы сябе апосталам Хрыста і заступнікам перад богам-параклетам, па-грэцку, што ўжо паказвае на знаёмства стваральніка яго жыцця з евангеллем Яна, дзе гэтае слова ўжываецца ў дачыненні да Хрыста. Ён збег із турмы, але хутка зноў патрапіў у рукі пярсідзкага цара, адпаведна з загадам якога з яго жывога была садрана скура.

А згодна з усходнімі сведчаннямі, Мані, г.азн. Лекар па-жыдоўску, быў персіянінам із чараўнікоў і валодаў надзвычайнай разнастайнасьцю ведаў і талентаў. Ён прыняў хрысьціянства і, згодна з аднымі сведчаннямі, перад тым, як стварыў сваю асобную сістэму вучэння, служыў прасвітарам у цэркве. Будучы заняволены ў турму за свае думкі пярсідзкім царам Сапорам, ён збег адтуль, падарожнічаў у Індыі і Кітаі і, нарэшце, выдаліўся ў адну пячору ў Туркестане, паведаміўшы сваім вучням, што ён мае намер узнесьціся на неба і што пад канец года ён сустрэне з імі зноў у вядомым месцы. Пазначаны прамежак часу прайшоў, і, пры новым сваім з'яўленні ён, дастаў кнігу Адкрыццё, упрыгожаную сімвалічнымі выявамі. Пасьля сьмерці Сапора, ён вярнуўся да пярсідзкага двара, дзе быў добра прыняты Гарміздай і схіліў яго да сваёй веры, але менш чым праз два гады страціў свайго валадарачага апекуна. Наступны цар, Варан, спачатку ставіўся да яго з прыхільнасьцю, але хутка схіліўся на бок яго ворагаў. Ён запрасіў яго на спрэчку з вяшчунамі, і калі яны абвясьцілі Мані ерэтыком, цар загадаў пакараць яго сьмерцю, але як – невядома.

А што ж ён гаварыў вяшчунам?

Нашы першакрыніцы сцвярджаюць, што «Заступнік перад Богам» вучыў: што быццам бы існуюць два пачаткі, вечна процілеглыя адзін аднаму і валадарачыя кожны паасобку: аддзін – над царствам сьвятла і другі – над царствам цемры. Гэтыя магутнасьці незалежныя адна ад другой, але бог вышэй іх. Ён складаецца із чыстага сьвятла, бясконца больш тонкага, чым сьвятло нашага сьвету, і без якой бы там ні было вызначанай цялеснай формы. А цар цемры – дэман – мае грубае матэрыяльнае цела. Адам быў мікракосмам, маючым у сабе ўсе элементы абодвух царстваў. Ён меў душу сьвятла і душу цемры, разам з целам, якое было матэрыяльным і пагэтаму абавязкова злым. З мэтай утрымаць яго ў рабстве Стваральнік забараніў яму есьці ад дрэва спазнання; але Хрыстос (ці ж Анёл), у

---

[463] Баючыся атаясаміць гэта імя з Будай, што пераіначыла б усю гісторыю будызму, яго выводзяць ад слова бутам ці бутэма, халдэйскай назвы тэрпентынавага дрэва. Ласен лічыць, што Скіфіян г.азн. Скіфец, з'яўляецца уяўляемай асобай, але што «Тэрпентынавае дрэва» быў сапраўдным родапачынальнікам сьвятарства маніхэйства, III, 406-7.

выглядзе змея, падахвоціў яго парушыць гэтую забарону і Адам быў азораны сьвятлом спазнання. Не бог, а дэман стварыў Еву, і хаця бог уклаў у яе частку нябеснага сьвятла, але яго было недастаткова для таго, каб супрацівіцца яе злым схільнасьцям. Яна схіляла Адама да пачуццёвых асалод, не зважаючы на наказ бога, запавядаўшага яму ўстрыманне з дапамогай сваёй вышэйшай душы ад жаданняў сваёй ніжэйшай душы і свайго цела. Адам саступіў спакусам Евы і ўпаў. Часьцінкі нябеснага сьвятла ў ім падпалі пад яшчэ большае рабства матэрыі, і таму па меры свайго існавання чалавечы род пагаршаўся ўсё больш і больш, ад пакалення да пакалення.

Бог, пабачыўшы гэта, аддзяліў ад сябе дзьве сутнасьці чыстага сьвятла: Хрыста і сьвятога Духа, на абавязку якіх было спрыяць збавенню чалавецтва. Магутнасць Хрыста жыла на сонцы, а яго мудрасць на месяцы, якія таму і патрэбна было абагаўляць не ў якасьці божышчаў, а ў якасьці прыстанку ўласьцівасьцей Хрыста. Святы ж Дух жыў у паветры. Сусьвет падтрымліваўся магутным анёлам, які, адпаведна са сваім абавязкам, меў назву па-грэцку Амафор[464] (нясучы на плячах), інакш – Атлант, і частыя знакі нецярпення, выяўляемыя гэтай істотай (рухі якога з’яўляліся нагодай землятрусаў), паскорылі прышэсьце Хрыста ў чалавечай форме. Дзякуючы таму што з нагоды злога характару рэчыва Хрыстос не мог мець матэрыяльнага цела, то яго чалавечасць ўяўлялася «духоўнымі людзьмі» як прывідная. Згодна з іхнай думкай, ён з’явіўся адразу, і ўсе апавяданні пра яго нараджэнне і пра раннія гады яго жыцця – пазнейшыя прыдумкі, а яго здзяйсненні і пакуты былі толькі ўяўляемымі. Мэтай яго пасланніцтва было адкрыць людзям іхнае нябеснае паходжанне і заахвоціць іх імкнуцца да вяртання сабе асалоды праз пераадоленне жаданняў свайго цела і сваёй злой душы.

Працягнем і далей выкладанне гэтага трызнення.

Часьцінкі нябеснага жыцця, паглынутыя царствам матэрыі, знаходзяцца не толькі ў чалавеку, але і ў нізкіх жывёлах і ў расьлінах, «вісячы на кожным дрэве». Са сваіх прыстанкаў на сонцы, месяцы і ў паветры, Хрыстос і Сьвяты Дух заняты справай вызвалення такіх часьцінак. Дзякуючы іхнаму ўплыву травы ўзнікаюць із зямлі, імкнучыся да падобнага ім сьвятла, тым часам як магутнасьці начнога змроку, якія Сьвяты Дух пасьля сваёй перамогі ўкрыжаваў на зорках, выліваюць адтуль губячае ўздзеянне па зямлі. Вось чаму не толькі жывёльнае але нават і расьліннае жыццё было сьвятым для «духоўных людзей», верыўшых, што расьліны маюць такія ж адчуванні болю, як і людзі. Абраныя (вышэйшы стан у іхных згуртаваннях) не маглі нават сарваць ліст ці плод сваімі ўласнымі рукамі. Збіраючыся есьці хлеб, яны павінны былі звяртацца да яго з прамовай:

– «Не я сжаў, змалоў і спёк цябе, дык хай толькі тыя, якія зрабілі гэта, будуць таксама сжаты, змолатыя і выпечаны».

Калі гэтыя «абраныя» нешта елі, тады часьцінкі боскай істоты, змяшчаемыя ў іхнай ежы, вызваляліся. А калі нешта елі не абраныя, то вынікам іхнага ядзення было заняволенне нябесных часьцінак іхай ежы ў повязі матэрыі і із гэтага выводзілася правіла, што хаця «маніхэй» і мог дапамагаць жабраку грашамі, але бязбожна было даваць яму ежу.

Так сведчаць нашы позьнія апакрыфісты Яўсевій Памфіл, Сакрат Схаластык і Шчасьлівы Аўгустын – усе аўтары Эпохі Гуманізму. Але апакрыфісты тут прагаварыліся, называючы заснавальніка секты «духоўных людзей» (такіх блізкіх згодна са сваёй ідэалогіяй з будыстамі) Будай, г.азн. тым жа імем, якое насіў і

---

[464] Ὠμοφορέω – нясу на плячах.

заснавальнік будызму (згодна з сучаснай няправільнай транскрыпцыяй **Buddha**). І ўжо адна тая акалічнасць, што гэтую секту выпраўляюць у Персію, Індыю і Кітай, дастаткова паказвае, што мы маем тут адно із паданняў пра ўзнікненне будызму, як адгалінавання хрысьціянства, не раней V стагоддзя нашай эры, пра што я дам асобнае дасьледаванне ў VIII томе, а зараз закончу толькі ідэалогію. Гэта ж бачна і із наступнага.

Пасьля пакідання цела душа пераносіцца на сонца кручэннем вялізнага кола з дванаццаццю вёдрамі, а сонца пасьля ачышчэння яе сваімі праменямі, перадае яе месяцу, дзе душа на працягу пятнаццаці дзён павінна прайсьці далейшае ачышчэнне праз ваду і потым ужо далучаецца да першабытнага сьвятла. Менш асьвечаныя душы павінны вяртацца на зямлю ў іншых целах.

Той, хто забіў нейкую жывую істоту, ператвараецца пасьля сьмерці ў істоту таго самага роду, а тыя, хто жалі, малолі ці пяклі, самі будуць рабіцца пшаніцай і зведваць усе гэтыя аперацыі. Такім чынам, ачышчэнне душ адбываецца шляхам пасьлядоўных перасяленняў, пакуль яны не зробяцца прыдатнымі для ўступлення ў асяроддзе абраных. **З гэтага боку гледжання маніхэйства псеўда-Аўгустына сапраўды з'яўляецца буддызмам**.

Калі зямны сусьвет закончыць прызначанае яму існаванне, ён будзе спалены і ператворыцца ў інэртную масу, да якой будуць прыкуты душы, абраўшыя служэнне злу, а магутнасьці цемры будуць назаўсёды заняволены ў сваёй змрочнай вобласьці.

Паслядоўнікі гэтага вучэння лічылі Стары Запавет стварэннем магутнасьці цемры. Яны крытыкавалі яго маральнасць і выяву бога Бібліяй з уласцівасьцямі чалавека, спыняліся на яе несумяшчальнасьці з Новым Запаветам і адмаўлялі, каб у ёй нешта прадказвала пра Хрыста. Яны аспрэчвалі кнігу «Здзяйсненні Апасталаў», сцвярджалі, што евангеллі – творы невядомых асоб, жыўшых нашмат пазьней пасьля апостальскіх часоў, і такім чынам моцна пераіначаны.

Набажэнствы іхных абраных былі закрыты таямнічасьцю, даваўшай нагоду для чутак пра «агідныя» звычаі[465].

Мы не будзем пашырацца тут пра іх, таму што гэта могуць быць прыдумкі супернікаў, а толькі пазначым, што калі б «маніхэям» былі вядомы нават і «Здзяйсненні Апосталаў», то іхнае вучэнне скончылася б не раней XII стагоддзя нашай эры, калі яшчэ не пазьней, і атрымалася б, што буддызм існаваў і ў Яўропе пад час сярэдневечча.

І пра гэта існуюць нават і чыста гістарычныя сведчанні.

Із той акалічнасьці, што Герберт пры сваім пасьвячэнні ў якасьці арцыбіскупа рэймскага (991 г.) вымавіў спавяданне веры, у якім відавочна асуджаў некаторыя із галоўных пунктаў маніхэйскага хрысьціянства, гісторыкі ўжо рабілі выснову, што ў Францыі ў той час маніхейства[466] яшчэ не знікла. Але дапасоўваючыя іх да III стагоддзя заяўляюць, што асуджэнне Гербертам маніхэйства было «адной із тых шматлікіх памылак, якія тады пашыраліся дзякуючы варожасьці ці даверлівасьці яго сучаснікаў».

Але, згодна з іхнымі ж сведчаннямі, у Аквітаніі нават і ў 1017 годзе існавала секта маніхэяў, а ў 1022 годзе яшчэ большае падобнае згуртаванне ў Арлеане. Сектанты, быццам бы, атрымалі сваё вучэнне ад адной прапаведніцы, прыбыўшай із Італіі, якая была, згодна са сведчаннямі артадаксальных клерыкалаў, такой

[465] Augustin: «De Haeresi», 46, col. 36
[466] Hardouin, VI, 725

«поўнай дз’ябла», што была здольнай схіляць да сябе самых адукаваных духоўных асоб. Пазьней правадырамі секты сталі двое із духоўных асоб, на імя Стэфан і Лісай, вельмі паважаемыя за сваю набожнасць, вучонасць і дабрачыннасць. Стэфан быў нават духоўным бацькам каралевы Канстанцыі, з якой адружыўся Роберт Французкі пасьля свайго вымушанага разлучэння з Бертай. Сярод паслядоўнікаў было дзесяць катэдральных канонікаў і шмат шляхетных асоб не толькі ў Арлеане і яго наваколлі, але нават і ў каралеўскім палацы. Яны вучылі, што Хрыстос у рэчаіснасьці не нараджаўся ад панны Марылі, не быў укрыжаваны і пахаваны і не ажываў. Хрышчэнне не мае ніякага значэння для змывання грахоў, сьвятарскае асьвячэнне не ператварае хлеба і віно ў цела і кроў, і не патрэбна маліцца сьвятым пакутнікам. Падасланы да іх каралём Робертам шпег Арэфасій, – кажуць нам, – бачыў сам, што яны служылі літургію злым духам, што да іх з’яўляецца дз’ябал у выглядзе сьветлага анёла. Свечкі тады тушыліся, і кожны мужчына абдымаў знаходзячуюся бліжэй да яго жанчыну, хто б яна ні была – маці, сястра ці пасьвечаная манашка. Дзіцё, нараджаўшаяся ад такога звальнага граху на восьмы дзень пасьля свайго народжэння спальвалася на сектанцкім сходзе, а яго попел захоўваўся для таго, каб пазьней размяркоўвацца пад найменнем нябеснай ежы. Магутнасць гэтага дз’яблава таемства была такой, што кожны, далучаўшыся да яго, рабіўся непахісна верным ерасі[467].

Кароль Роберт, атрымаўшы такія сведчанні ад свайго шпега Арэфаста, выправіўся ў Арлеан, дзе была выкрыта ўся партыя сектантаў і Арэфаст выступіў у якасьці сведкі супраць іх. Яны, – паведамляюць нам (іхныя ворагі), – прызналіся ў сваім вучэнні і выказвалі ўпэўненасць, што яно пашырацца па ўсяму сьвету, таму што гэтыя погляды перададзены ім таямніча сьвятым духам. Яны з пагардай выказваліся пра сьвятую тройцу і пра дзівы, паведамляемыя ў Пісанні, сцвярджалі, што неба і зямля вечныя, а не створаны і што звычайныя рэлігійныя абавязкі не маюць карысьці.

Пасьля дарэмнай спробы пераканаць сектантаў у іхнай памылковасьці, яны былі асуджаны на сьмерць. Падчас судаводства каралева Канстанцыя, адпаведна з жаданнем свайго чалавека, стаяла на прыступках царквы, у якой адбываўся суд і тыкнула палкай у вока свайго быўшага духоўнага бацьку, калі яго выводзілі із царквы пасьля асуджэння. Двое із сектантаў – духоўная асоба і манашка адракліся ад ерасі, трынаццаць чалавек засталіся непахіснымі і набліжаліся да месца пакарання сьмерцю з вясёлым і пераможным выглядам у чаканні цудоўнага збавення.

Адзін «гісторык» таго часу паведамляе, што калі вакол іх запалала полымя і не з’явілася ніякага заступніцтва, яны закрычалі, што дз’ябал падмануў іх, а згодна з іншымі сведчаннямі яны захоўвалі свой радасны настрой да самай сьмерці. Разам з імі ў полымя быў кінуты нейкі пыл, быўшы згодна са здагадкай «нябеснай ежай». Цела каноніка, на імя Тэадат, быўшага сябрам секты, але памёршага за тры гады перад тым, было выцягнута із магілы і выкінута ў неасьвечанае месца.

Цалкам магчыма, што гэтае згуртаванне сапраўды было працягам маніхэяў, якіх давялося б у такім разе дапасаваць не да V стагоддзя, нашай эры, а да V стагоддзя эры Дыяклетыяна, г.азн. да VIII стагоддзе нашага сучаснага злічэння. Але не разбярэш, што больш правільна ў гэтым апавяданні: іхнае вучэнне пра Хрыста ці іхная звычаёвасць?

Падобна ж апісваюцца і іншыя маніхэйскія выпадкі прыватнага характару.

[467] Ademar, III, 59.

У 1025 годзе Гебгард, біскуп Араса і Камбрэ, вучань Герберта, выкрыў у першым із гэтых гарадоў некалькіх сектантаў, якія адпаведна з іхным сведчаннем атрымалі сваё вучэнне ад італьянца на імя Гундульф. Яны таксама адмаўлялі карысць хрышчэння і прычашчэння, прывядучы ў ліку сваіх пярэчанняў супраць хрышчэння тую акалічнасць, што немаўля, не будучы здольны ні да якой веры, не можа атрымваць ніякай карысці і ад яе спавядання іншымі. Яны вучылі, што храмы не больш сьвятыя, чым і іншыя пабудовы; што ахвярнік з’яўляецца проста кучай камянёў, і крыж ніколькі не адрозніваецца ад якога б то ні было іншага драўлянага вырабу. Яны асуджалі адрозненні ў ступенях сьвятарства, ужыванне званоў, каджэнняў, абразоў і спеваў, а таксама і звычай пахавання на асьвячаным месцы, сцвярджаючы, што ўсё гэта сьвятарства ўсталявала дзеля сваіх прыбыткаў. У сваім адказе біскупу яны заявілі, што іхныя думкі заснаваны на сьвятым пісанні, што іхныя правілы абавязваюць іх устрымлівацца ад якіх бы то ні было цялесных асалод, здабываць сабе ўтрыманне працай сваіх уласных рук і рабіць дабро тым, хто супрацівіцца ім. Пакуль людзі выконваюць гэтыя правілы, хрышчэнне ім не патрэбна, а калі грэбуюць імі, то хрышчэнне не ў стане ім дапамагчы.

Гебгард, – кажуць нам, – лёгка давёў недарэчнасць іхнага вучэння, яны ўпалі перад ім ніцма і баяліся, што іхны грэх не даруемы. Але ён пераканаў іх у дараванні, і пасьля падпісання імі праваслаўнага спавядання ім было дазволена камунікаванне з царквой.

Другое вучэнне маніхэйскага накірунку, – паведамляюць нам, – было распаўсюджана ў Тулузе, дзе тыя із прапаведнікаў, якія былі выяўлены, зведалі пакаранне сьмерцю. Потым у 1044 годзе Генрыберт, арцыбіскуп міланскі, выкрыў яшчэ адну секту ў Мьнтэ-Фортэ, паблізу Турына. Яна карысталася заступніцтвам тамтэйшай графіні, і сярод яе сябраў было не мала сьвятароў. Гэтыя сектанты вучылі, што пад сынам боскім маецца на ўвазе вялікая чалавечая душа, шанумая богам і народжаная ад сьвятога духу, і што сьвяты дух спасьцігае боскія рэчы. Яны сцвярджалі, што маюць першасьвятара не ад Рыма, а такога, акрамя якога няма іншага, і што ён штодня наведвае сваіх братоў, раскіданых па ўсяму сьвету. У іх існавала свая асобная іерархія, яны не елі мяса, часта пасьцілі, падтрымвалі па чарзе бесперапынную малітву, жылі са сваімі жонкамі як з сёстрамі, і верылі, што калі ўсё чалавецтва будзе жыць у чыста духоўным яднанні, то род чалавечы будзе пашырацца «згодна са спосабам пчол»[468].

Сябры гэтай секты таксама былі схоплены і выпраўлены ў Мілан. Там былі зроблены спробы вымусіць іх адрачыся ад сваіх памылак, але беспаспяхова, і ўлады загадалі, хаця і без згоды арцыбіскупа, адвесьці іх на адно месца за горадам, дзе амаль усе яны, закрываючы вочы рукамі, пакідаліся ў прыгатаванае для іх полымя.

Паходжанне такіх мімалётных сект, якія ў XI стагоддзі выявіліся ў шмат якіх месцах, з’яўляецца прадметам спрэчак тэолагаў. Адхіленцы ад праваер’я, жыўшыя на поўнач ад Альп, большай часткай заяўлялі, што яны запазычалі свае думкі непасрэдна із Італіі. Тэолагі не робяць высноваў, ці былі яны прынесены ў гэтую краіну паўлікіянскімі уцекачамі, нашчадкамі паўлікіянаў, якія ў 966 годзе былі пераселены Янам Цымісхіем із Арменіі ў Фракію і ператвораны абаронцамі заходняй мяжы яго імперыі, з дазволам прытрымлівацца сваёй рэлігію, ці гэтыя думкі былі запазычаны ў маніхеяў, якія, нягледзячы на суровыя захады Ільва Вялікага, працягвалі перадаваць свае вучэння ад пакалення да пакалення ў Італіі?

[468] Джэмс Робертсан, Гісторыя хрысьціянскай царквы. Пераклад Лапухіна, I, 988.

Але ніхто яшчэ не ставіў пытанне: ці не былі і самі старажытныя паўлікіяне і маніхеі спісаны апакрыфістамі праваслаўя і, вядома, з пераіначваннямі з толькі-што апісаных сярэднявечных сектаў? А тым часам такое пытанне цалкам дарэчнае.

«**Магчыма**, – выказваецца нават і Джэмс Робертсан, – **што еўрапейскія ерэтыкі запазычалі свае думкі ад маніхэяў, не раней таго, як Усход пачаў камунікаваць з Захадам дзякуючы пасярэдніцтву крыжовых паходаў, і еднасць абодвух маніхэйскіх сектаў была потым перанесена на ранейшыя часы**».

А мы можам дадаць да яго слоў і яшчэ наступнае.

Калі ў нас і няма сведчанняў пра тое, што маніхэйская секта працягвала існаваць у Італіі пасьля часу Рыгора Вялікага, то гэта хутчэй усяго паказвае на апакрыфічнасць яе пачатку. «Ерэтыкі ў Падуі ў X стагоддзі, меўшыя назву арыяне, верагодна былі тым жа самым, што і маніхэі», – выказваецца нават і Джэмс Робертсан.

# Раздзел II

## Узоры прыдуманых сьвятых і патрыярхаў, апакрыфікаваных у першыя чатыры стагоддзі нашай эры



Мал. 146.
Рэчаісны «апостал боскі Сымон-Пятро», г.азн. у перакладзе з грэцкага: «пасланец боскі, Камень-Знак» (απόστολος θεοῦ Σημεῖον Πέτρος). (Із факта падзення метэарытнага каменя ў Рыме ўзнік міф пра апостала бога – Сымона-Пятра).

# Глава I
## Хітрун-Цудадзей



Мал. 147.
Хітрун-цудадзей.

Калі вы пагледзіце ў якім заўгодна календары спіс хрысьціянскіх імёнаў, то пабачыце, што імя знакамітага Цудадзея» «Мікалай» перакладаецца там: «Перамога людзей». Але калі вы самі ведаеце грэцкую мову, то адразу ж зразумееце, што такі пераклад тэндэнцыйны. Слова Мікалай (Νικόλαος) літаральна азначае пераможны натоўп[469], пераможнае полчышча, і цяжка сабе ўявіць, каб нейкая маці назвала свайго сына такім зборным імем, нават і ў тым выпадку, калі б у яе адразу нарадзілася двое дзяцей ці нават трое. Ужо адна гэтая акалічнасць прыводзіць да высновы, што імя Мікалай зусім не азначае «полчышча», а з'яўляецца толькі прыстасаваным да грэцкага вымаўлення жыдоўскім словам **Нікэл** ці Мікола[470], г.азн. хітрун, штукар, падобна таму, як і імя Нікадым грунтуючыся на тых жа этна-псіхалагічных меркаваннях даводзіцца лічыць не за цэлы «пераможны народ», а за элінізаванае жыдоўскае слова **Нікэд** (נכד) – унук. Такое жыдоўскае словаўтварэнне абодвух імёнаў з'яўляецца тым больш праўдападобным, што сярод старажытных праваслаўных сьвятых вельмі шматлікія маюць жыдоўскія найменні, пачынаючы з самога евангельскага «Ратавальніка», жыдоўскае імя якога Ёшуа (ці Ёсія, а таксама Осія) ператварылася ў грэцкім вымаўленні ў Езуса[471].

Такім чынам, імя Мікалай азначае **хітрун** ці **штукар**, а найменне Цудадзей з'яўляецца толькі паўтарэннем таго ж самага імя на рускай мове. Немцы клічуць яго **Wundertater**, французы thaumaturge, гэтак жа як і ангельцы (**thaumaturgus**),

[469] Ад Нікэ (νίκη) – перамога, і Лаос (λαός) – люд, натоўп; у Гамера – полчышча. Слававытворнасць тут – тая ж самая, як і ў найменні горада Нікапаля (Νικο πολίς) – пераможны горад, а не «перамога гарадоў». Слова «Пераможац народа» гучала б Лаонік (Λαο-νικός), а не Мікалай (Νίκο-λαος ). Аналагічна гэтаму мы кажам: дэмакрат, а не кратадэм, гэта азначае і імя Нікадым па-грэцку недарэчнае, грэк бы вымавіў – Дэмонікос.

[470] НКЛ (נכל) – хітрун, хітры чалавек, ашуканец.

[471] Тут шмат транскрыпцый нават па-жыдоўску: ІШУЭЕ (ישועה) – выратаванне. Яно ж ІШУЭ (ישוע) ІЭШУЭ (שועהי) і ІЕУШУЕ ва ўжыванні да Езуса Навіна; у Неяміі ІШУЭ (ישוע). Усё гэта цалкам адпавядае ўжо выказанай мной выснове, што да друкаванага перыяду не магло існаваць ніякага агульнага правапісання.

пакідаючы без перакладу яго грэцкае найменне **таўматург**, таксама азначаючае **цудадзей**, а ў той жа час і **штукар**[472].

Мы бачым, што цудадзейнасць ці штукарства гэтага старажытна-рамейскага «хітруна» прагрымела на ўсіх мовах хрысьціянскага сьвету. Нават за самім Хрыстом не ўсталявалася такога ўпрыгожваючага эпітэта, а таму мы павінны апрыёрна лічыць, што ён сапраўды меў нейкае выключнае права на свой тытул.

Дык у чым жа справа? Якія рэчаісныя дзівы (г.азн. папросту – фокусы) здзейсніў гэты чалавек, каб заслужыць адразу і сваю жыдоўскую мянушку Мікэла, г.азн. хітрун, і сваю ўсенародную назву Цудадзей? Ён жа асоба ўжо гістарычная. Ён браў удзел (і нават вельмі буяна) на Нікейскім саборы ў 325 годзе нашай эры, узнагародзіўшы за нешта аплявухай (ці ўжо не за выкрыванне яго дзіваў?) знакамітага Арыя.

І вось, да здзіўлення, мы не бачым у яго Жыццяапісанні ў клерыкальных аўтараў ніякіх дзіваў, акрамя відавочна прыдуманых самімі ж аўтарамі яго біяграфіі.

Вось яны, амаль цалкам.

Згодна з Сымонам Метафрастам, памёршага адпаведна са сведчаннямі саміх тэолагаў толькі ў 975 годзе, г.азн. ужо праз 600 гадоў з лішкам пасьля сьмерці Хітруна-Цудадзея, і творы якога (калі яны не апокрыфы) ўпершыню надрукаваны толькі ў лацінскім выданні 1551 года, «хітрун» нарадзіўся ў Малой Азіі ад «шляхетных» бацькоў Богаз’яўленца (Феафана, па-грэцку) і яго жонкі Дзевятай (на-лаціне – Ноны). І вось, пачаліся дзівы, якія ён наўрад ці быў здольным здзейсніць... Занадта было рана!

«*Яшчэ ў хрысцільнай хрысцільні, адразу пасьля нараджэння,* – паведамляе Метафраст, – *ён стаяў на працягу трох гадзін на ўласных нагах, без чужой падтрымкі, аддаючы гэтым ушанаванне сьвятой Сямусе*»... «*Нават і малако маці ён піў пад час скарамных дзён толькі із правага сасца, а па серадах і пятніцах не раней як пасьля звычайнай вечаровай малітвы, чаму вельмі здзіўляліся яго бацькі і прадбачылі яго будучую веліч*».

Калі наступіў належны час, яго аддалі ў навучанне, і ён «*меў такія поспехі ў кніжнай мудрасьці, як належыць толькі добраму стырніку хрыстова карабля*»... «*Ён ухіляўся,* – паведамляюць нам Жыціі Сьвятых, – *ад розных мітуслівых размоваў, і ад сузірання жанчын, хаця б нават адзіным вокам*».

Вось першае праўдападобнае дзіва, але ўсё ж не цудадзейнасць...!

«*Яго дзядзька біскуп, таксама Мікола* (г.азн. таксама Хітрун), *перaканаў бацькоў пасьвяціць яго богу, пасьвяціў у прасвітары і напоўніўшыся сьвятым духам, пачаў прадказваць пры гэтым так*:

– «*Гэта, брація, бачу новае сонца, узыходзяче да заканчэння зямлі і яўляючае міласьцівае суцяшэнне засмучаным. О, шчасьлівы той статак, якому пашчасьціць мець сабе такога пастыра! Ён добра ўратуе душы заблудзіўшыхся, насыціць іх на ніве набожнасьці і будзе цёплым памагатым патрапіўшым у бяду*!»

Потым гэты старэйшы «хітрун» пайшоў у Палестыну і перадаў малодшаму «Хітруну» сваю пасаду. Яго бацькі ў той час памёрлі і ён, – сведчаць Жыціі, – «раздаў усю іхную маёмасць немаёмасным».

---

[472] Таўматургос (θαυματουργός) ад таўмата (θαῦματα) – цуды і ад ерго ('έργω – працую), пры гэтым таўматургео (θαυματουργέω) азначае выраблю фокусы. Аналагічна выводзяцца: драматург, а таксама літургія ад літэ (λίτη) – маленне, літыя.

А тым часам із наступнага ж апавяданна выяўляецца, што ён пакінуў сёе-тое і сабе, на ўсякі выпадак. І ў гэтым зноў не было ніякага дзіва.

Не было нічога цудоўнага і ў наступным апавяданні.

У тым горадзе, – кажуць нам, – быў адзін раней заможны, але потым збяднеўшы чалавек, які пажадаў зрабіць распутніцамі трох сваіх дачок, каб жыць на такія іхныя заробкі. «Хітрун-цудадзей» даведаўшыся пра гэта, узяў вузельчык з золатам (абачліва пакінуты ім сабе пры раздачы бацькавай маёмасьці) і кінуў яго ноччу ў вакно іхнай сядзібы. Бацька, знойшоўшы яго раніцай, развесяліўся і прызначыў гэты гасьцінец у якасьці пасага для першай сваёй дачкі, дзякуючы чаму яна адразу ж адружылася. Потым Хітрун таемна кінуў вузел з золатам і наступнай яго дачцэ, і яна таксама наладзіла сваё жыццё належным чынам.

Бацька ўзмаліўся богу, каб ён паказаў яму свайго апекуна і, ужо здагадваючыся, што будзе вузельчык і для трэццяй дачкі, «пачаў вартаваць па начах свайго дабрадзея і падсцярог яго. Але злоўлены на месцы, «Цудадзей забараніў яму паведамляць пра гэта каму б там ні было, і ўся гэтая справа назаўседы засталася таемніцай» (так што да гэтага часу ніводная жывая душа не ведае пра гэта, у тым ліку і аўтар самога апавядання, чытач!).

Потым Хітрун паехаў на караблі ў Палестыну і, калі праязджаў каля Ягіпта, сказаў маракам:

– «*Я бачыў, як хітры вораг чалавечага роду, прабраўся на ваш карабель, каб затапіць яго*».

*«І вось, азмрочылася воблака і пачалося моцнае хваляванне. Маракі малілі Цудадзея дапамагчы ім і як толькі ён памаліўся богу, нячысьцік выскачыў із трума, і бура адразу заціхла. Адзін із маракоў палез пры гэтым ад перапалоху на мачту, але зваліўся і забіўся да сьмерці, а Цудадзей ажывіў яго малітвай*».

Вось першае магчымае дзіва, хаця маракі і маглі падумаць, што іхны таварыш быў толькі часова аглушаны ўдарам, а бура магла заціхнуць і сама па сабе.

«*Яны прысталі да Александрыйскага берага*, – працягвае далей Метафраст, – *дзе Хітрун вылечыў шмат хворых, прагнаў шмат нячысьцікаў і суцешыў усіх смуткуючых. Адтуль ён выправіўся ў Палестыну і абыйшоў усе сьвятыя месцы: пры гэтым дзьверы храма Ерусалімскага цудоўным чынам самі адчыніліся перад ім*».

Чытач бачыць, што ўжо просты недахоп падрабязнасьцей у гэтым апавяданні паказвае на не сапраўдную цудадзейнасць «Хітруна-Мікалая», а толькі на недахоп ўяўлення ў аўтара яго біяграфіі.

Ён сеў на карабель, каб плыць дахаты, але маракі раптам перадумалі туды плыць і выправіліся да сябе ў іншы бок. І вось адразу пачалася бура і, нягледзячы на ўсе іхныя намаганні, прыгнала карабель у яго зямлю. Напалоханыя маракі прасілі Цудадзея прабачыць, і ён мірна адпусьціў іх дахаты.

Зноў не яго дзіва, а толькі боскае.

Аднойчы, стоячы на малітве, ён пачуў голас:

– «Хітрун! Ды створыш народны вычын, калі жадаеш атрымаць ад мяне вянок».

І зноў:

– «Хітрун! Гэта не тая ніва, на якой ты прынясеш чакаемы мной плён».

Цудадзей зразумеў із гэтых слоў, што бог загадвае яму ісьці ў выглядзе жабрака ў горад Лікійскую Міру, дзе ніхто яго не ведаў.

«І вось, здарылася дзіва. Тамтэйшы біскуп памёр у гэты ж самы час, і яго клір вырашыў маліцца, каб сам бог вызначыў, каму быць наступнікам. І адразу ж старэйшаму із іх з’явіўся падчас малітвы вельмі сьветлы чалавек і паведаміў, што біскупам павінен

быць той, хто першым прыйдзе ў наступную раніцу ў царкву на малітву, і што імя яму – Хітрун».

«Такім чынам, клірыкі падпільнавалі Цудадзея і абвясцілі яго першасьвятаром Мір-Лікійскай царквы. Вось як боская царква атрымала сваю годную свяцільню».

Але і гэтае дзіва было створана не ім, а толькі іншымі на яго карысць, і не давала яму права на выключную мянушку Цудадзея. Паглядзім і далей.

«У яго, – кажуць нам, – былі два памагатыя – Павел Радыйскі і Хведар Аскаланіт, мужы вядомыя ўсім грэкам»... «Нячысьцік жа, не будучы ў стане перанесьці гэта, абудзіў на царкву перасьледы з боку Дыяклетыяна і Максіміяна. Гэтая зло-дыхаючая бура дайшла і да Мір Лікійскіх, і Цудадзей быў пасаджаны ў вязніцу разам са шматлікімі іншымі. Але ён памаліўся богу, і бог зараз жа выдаліў у пекла абодвух бязбожных цароў, і прызначыў на іхнае месца набожнага цара Кастуся (які, як мы бачылі, нават не быў ахрышчаны).

Тады Цудадзей пачаў знішчаць усіх стодаў і, «прыйшоўшы да кумірніцы Артэміды, салодкаму жыллю нячысьцікаў, ветліва ўпрыгожанаму, разбурыў яе храм і нават Падмурак яго раскідаў на паветру, пры гэтым хітрыя духі збеглі, выпускаючы жаласлівы лямант».

Зноў ніякага рэчаіснага дзіва, а далей ідзе ўжо нешта лічымае за гістарычнюю падзею.

Цар Кастусь, – паведамляюць нам, – загадаў праваслаўнаму сьвятарству прыехаць на сабор, і яно з’явілася туды ў колькасьці 380 біскупаў. Там, – паведамляюць нам, – зараўнаваўшы пра хрыстову веру, Цудадзей стукнуў Арыя па шчацэ, за што і быў прагнаны із сабора і пазбаўлены біскупскага звання. Аднак, адзін той факт, што ніякіх бязлітасных спрэчак пра асобу Хрыста тады не магло быць ужо дзякуючы аднаму таму, што само хрысьціянскае набажэнства было заснавана толькі пад час наступнага пакалення «Васілём Вялікім», паказвае, што Арый атрымаў аплявуху ад Цудадзея за нешта іншае і няйнакш як за выкрыццё яго дзіваў. Але, – кажуць нам, – хаця сабор і стаў на бок Арыя, Цудадзей быў хутка рэабілітаваны і не без падставаў.

Справа ў тым, што некаторыя із самых шануемых сьвятых айцоў пабачылі сьледам за гэтым, як сам Езус Хрыстос (якога, паўтараю, тады яшчэ не было) падаў яму евангелле, а багародзіца паднесла яму амафор, у якасьці адзнакі вяртання яму сьвятарства. Зразумела, што пасьля гэтага большасць біскупаў не прызнала саборнае рашэнне. «Цудадзей вярнуўся да свайго статка і, як мудры земляроб, пачаў вырошчваць госпадаву пшаніцу і адкідаць пустазелле».

Але і тут яго дзівы, якімі іх апісваюць клерыкалы, былі без прыкмет рэчаіснасьці і складаліся толькі ў снах тагачасных людзей. Так, калі быў моцны голад у Міры Лікійскай, «Хітрун» з’явіўся ў сне аднаму купцу, меўшаму жаданне плыць з жытам у іншы бок, і загадаў яму плыць у Міру, даўшы ў заклад тры залатыя манеты. «Прачнуўшыся, купец знайшоў іх у сваёй руцэ і, здзіўлены, паехаў адпаведна з пазначаным Цудадзеем маршрутам».

Потым хітрун зрабіў хаця і не дзіва, але добрую справу. Пачаўся «вялікі мяцеж у Фрыгіі», і Кастусь выправіў туды ваяроў, якія, спыніўшыся на шляху на Адрыятычным беразе ў Лікійскай епархіі, пачалі крыўдзіць насельніцтва. Цудадзей пайшоў туды і пераканаў іх не чыніць больш шкоды. А тым часам у Мірах «гегемон» Яўстафій прысудзіў да сьмерці траіх невінаватых людзей. Даведаўшыся пра гэта Хітрун пасьпяшаўся дахаты і, дасягнуўшы месца маючага назву «Кастор і Палукс», пабачыў іх ужо падставіўшымі свае галовы «пад меч спекулятара». Ён выхапіў у «спекулятара» меч і кінуў яго на зямлю, а «гегемон», напалохаўшыся,

кінуўся да яго ног, молячы пра дараванне (ужо ці не камета над сузор'ем Двайнят?).

Але і гэтым справа не скончылася. Уціхаміраўшыя мяцеж на Адрыятыцы, трое ваяводаў прыехалі ў Цар-Горад, але былі там абгавораны сваімі зайздроснікамі і асуджаны на смерць. Вязнічны вартаўнік папярэдзіў іх пра маючае адбыцца на наступную раніцу пакаранне.

Яны «разарвалі свае адзенні і горка заплакалі». І вось, адзін із іх, Непатыян, згадаў пра Хітруна-Цудадзея, і яны памаліліся яму са сваёй вязніцы, праўляючы (відавочна, у адзін голас):

– «Забяры нас із рукі шукаючых душы нашы, паспяшайся да нас на дапамогу і пазбаў нас, невінаватых, ад сьмерці!»

Тады яшчэ не існавала радыё-тэлеграфа, але ўсё ж «Хітрун» пачуў іхны лямант, хаця і быў на вялізнай адлегласьці. Ён адразу з'явіўся, але толькі – на жаль! – зноў толькі ў сне, сьвятому цару Кастусю, пагражаючы яму, што вырабіць новы мяцеж, яшчэ горшы, чым у Фрыгіі, і «загубіць яго злой сьмерцю, калі ён не вызваліць нявінных ваяводаў».

– «Хто із вас сатварыў мне такое вяшчунства?» – запытаў цар асуджаных, запрасіўшы іх да сябе на наступную раніцу.

– «Ніякага вяшчунства мы не ведаем, – адказалі яны (відавочна таксама ўсе ў адзін голас, як у хоры), – і нічога не задумвалі злачыннага на тваю дзяржаву, ды будзе сведкам нам у гэтым Усебачачае Вока. Мы навучыліся ад нашых бацькаў паважаць цара і перадусім быць верным яму. І мы служылі верна твайму загаду, але замест гонару, атрымалі пакаранне сьмерцю».

І «раптам яны пабачылі «Цудадзея», седзячага каля цара і закрычалі (зноў усе разам):

– «Божа Цудадзея! Ты, пазбавіўшы некалі трох данііілавых мужоў ад несправядлівай сьмерці ў печы палаючай, пазбаў і нас ад хуткай бяды!»

А Кастусь не бачыў нічога, хаця і быў сьвятым.

– «З кім вы размаўляеце?» – запытаў ён іх са здзіўленнем, і яны паведамілі яму пра сваё бачанне. Здзіўлены цар адразу ж вызваліў іх з гонарам, кажучы:

– «Не я дарую вам жыццё, а Цудадзей, вялікі сьвяціцель, Ідзіце і дзякуйце яго».

І ён даў ім дзьве сьвяцільні і евангелле, каб перадаць Мір-Лекійскай царкве. Так пайшла пра «Хітруна» крылатая слава па ўсяму сьвету».

Зноў зусім не жыццёвая падзея, а прыдуманая і нават у смешным выглядзе: некалькі чалавек разам вымаўляюць тыя ж самыя фразы. Не такое дзіва магло стварыць Цудадзею «крылатую славу па ўсяму сьвету». Такое паданне само магло ўзнікнуць толькі пасьля таго, як пра Хітруна паўсюдна ўжо распаўсюдзілася «крылатая слава» з нагоды нейкіх іншых дзіваў, спачатку выраблеўшых ашаламляючае ўражанне, а потым да такой ступені аганьбаваных, што пра іх стала сорамна паведамляць і таму давялося замяняць іх прэснай адсябецінай. І вось, яшчэ апошні ўзор гэтага дзіцячага лапатання.

«Аднойчы карабельнікі, плывучы ў Міру, патрапілі ў моцную буру і завочна памаліліся Цудадзею. Ён адразу з'явіўся да іх **у бачанні** на карабель, сам узяў у рукі руль, сцішыў буран і схаваўся. Прыйшоўшы ў Міру з ціхім ветрам, маракі адразу ж з'явіліся да Хітруна ў прыстанак, каб падзякаваць, і з першага погляду пазналі ў ім таго чалавека, які выратаваў іхны карабель.

«Ён, – паведамляе нам «Жыціё»,– быў як ранішняя зорка сярод аблокаў, як месяц пры поўні, як сонца зіхацячае над царквой Усявышняга, як кветка каля ручая і як

духмянае міра, выпускаючае водар для ўсіх, і памёр у глыбокай старасьці, 6 снежня, прытым із яго трупа зараз жа пацякло гаючае масла, праганяючае нячысьцікаў».

Прачытваўшы гэтую біяграфію, вы здзіўляецеся ў ёй толькіаднаму: абмежаванасьці і аднастайнасьці ўяўлення аўтараў. Чаму ж, – паўтару я зноў, – толькі гэты сьвяты атрымаў найменне Цудадзея, калі дзіваў у яго біяграфіі нашмат менш, чым у біяграфіях большасьці «невялікіх хрысьціянскіх сьвятых» таго часу? Вы інстынктыўна адчуваеце тут нейкае непаразуменне: як быццам дзівы, што давалі яму права на такую назву выкінуты із яго біяграфіі і заменены некалькімі вартымі жалю прыдумкамі. Сапраўды, што вы тут бачыце цудоўнага?

Ён падкінуў тры капшукі з золатам дзяўчынам, якім пагражала бацькаўская аддача ў прастытуцыю. Ён вырваў меч із рук ката, які прыгатаваўся пакараць сьмерцю трох несправядліва асуджаных людзей, але і гэта зусім не дзіва, а проста добрая справа. Яго аплявуха Арыю на сусьветным саборы, пры агульнапашыраных абставінах, хутчэй падобна на хуліганства, чым на дзіва, а тры буры, уціхамiраныя дзякуючы яго малітве, занадта нікчэмная справа для таго, каб іх параўноўваць з дзівамі, паведамляемымі ў цэлым шэрагу жыццяапісанняў іншых «сьвятых».

Ён прысніўся, – кажуць нам, – Кастусю I, асудзіўшаму на сьмерць трох сваіх вайскаводаў, але і гэта, як кожны сон, толькі цень дзіва, а не яго наяўнасць.

У чым жа – паўтараю – яго правы на выключны тытул цудадзея? Мы не бачым тут ніякіх правоў. А тым часам гэта факт. І вось, мы робім непазбежную выснову, што яго дзівы чамусьці тэндэнцыйна замоўчаны і заменены нікчэмнымі сурагатамі.

Хітрун жа, па-грэцку Цудадзей – Мікалай Таўматург, не менш гістарычны, чым і цар Кастусь I і заснавальнік арыянства Арый. Разгадку нам дае тут тое, што з першага позірку здавалася б самым недарэчным у яго біяграфіі і што я паведамлю зараз.

Нам паведамляюць, што неўзабаве пасьля яго сьмерці той самы нячысьцік, якога Цудадзей выгнаў із «Артэмідзіна жылля», наважыўся зрабіць яму паскудства. Ён пабачыў багашануючых мужоў, якія вырашылі плыць на ўшанаванне яго парэшткаў із утокі ракі Танаіс. Калі яны сядалі на карабель, нячысьцік прыняў выгляд апакаліптычнай «Жанчыны з чаркай у руцэ», напоўненай на выгляд сьвятым маслам, а на справе самай паскуднай брыдотай і брудам. Падробленая жанчына сказала:

– «Мне пажадана выліць гэты ялей на труну сьвятога Цудадзея, але баюся марскога плавання. Вазьміце яго ад мяне ў выліце на яе».

«Яны ўзялі дрэнную чарку ў жанчыны-нячысьціка, нічога не падазраючы, але раптам вецер пачаў перашкаджаць іхнаму падарожжу. Яны былі ўжо вырашылі павярнуць назад, але ў гэты момант з’явіўся ім сам Цудадзей, плывучы ў малым чоўне, і вымавіў:

– «Куды плывеце? Чаго дзеля вяртаецеся назад? У вашых руках існуе сродак утаймавання вятры. Не жанчына дала вам, чарку, а нячысьцік. Кіньце яе ў мора».

«Яны кінулі чарку ў бездань, і адтуль раптам паўстаў чорны дым і вялікі смурод. Мора разышлося, падпаленая бездань забулькатала, і пыркі яе былі, як палаючыя іскры.

«Падарожнікі закрычалі ад перапалоху. Але Хітрун-Цудадзей загаварыў мора і яно адразу заціхла. Духмяны халаднаваты вецер дунуў на карабель, пілігрымы шчасьліва даехалі да Лікійскай Міры і паведамілі там пра тое, што здарылася з імі».

Тут мы ўпершыню падышлі да чагосьці гістарычнага, як гэта ні дзіўна.

Што азначае такая задума нячысьціка? Яна не такая ўжо дурная, як здаецца з першага позірку, і, насуперак жаданню аўтара, прыводзіць Мікалая Цудадзея і яго паслядоўнікаў у сувязь з апакаліптычнымі мікалаітамі, г.азн. з «сірыйскімі

гностыкамі» IV стагоддзя, прызнаваўшых карысць рэлігійнага блудніцтва (у сувязь з сектай, пра якую аўтар Апакаліпсіса выказваўся, як пра прастытутку, трымаючую ў руцэ залатую чарку, напоўненую брыдотай і брудам яе распусты і якімі яна прычасьціла ўсе народы; Апак., II, 6; III, 15; XVII, 2; XVIII, 2, і асабліва I, 4).

Дапасаваўшы грунтуючыся на тэндэнцыйных падставах Апакаліпсіс да I стагоддзя нашай эры, із заканчэння IV стагоддзя, тэолагі-гісторыкі перанеслі туды і мікалаіцкі культ, хаця тады і не было ніякага Хітруна Мікалая. Наша астранамічнае вылічэнне, перанёсшы апакаліптычную выяву неба на заканчэнне IV стагоддзя (30 верасня 395 г.), адразу ад’яднала імя мікалаіцкага культу (адкуль і слова вядзьмарства) з імем знакамітага Мікалая Цудадзея і з толькі-што памянёнымі сірыйскімі гностыкамі, «храмавымі блуднікамі».

Вось, выказванні пра іх у Апакаліпсісе.

«*Заслуга твая ў тым, што ты ненавідзіш мікалаітаў* (г.азн. прыхільнікаў Мікалая Цудадзея), *якіх ненавіджу і я*» (Ап., II, 6), – выказваецца аўтар у лісьце да Эфескага згуртавання сваіх пасьлядоўнікаў, як бы ад імя цара Месіі.

«*І ў цябе ёсць нікалаіты* (г.азн. у перакладзе штукары), *якіх ненавіджу я,* – піша ён Пергамскаму згуртаванню ад імя таго ж цара-Месіі. – *Выпраўся ж, а калі не, то хутка прыйду да цябе і буду ваяваць з імі мячом маіх вуснаў*!» (Ап., II, 15).

У сувязі з гэтымі штукарамі ён згадвае і «жанчыну Ізабэль», як алегорыю, відаць, таго ж культу, навучаўшага людзей рэлігійнай прастытуцыі (Ап., II, 20). А далей ён падрабязна малюе сутнасць самога шарлатанства.

«*Пайшлі, я пакажу табе прысуд над вялікай распутніцай, якую куплялі цары зямныя, і ўсе насельнікі зямлі напоены віном яе распутнасьці..., паведаміў мне вястун неба. І я пабачыў* (у сілуэце аблокаў) *жанчыну, седзячую на зверы, пабарвёным крывёй* (вечаровага зарыва)... *У руцэ яе была залатая чарка, напоўненая брыдотамі і брудам яе распутнасьці, а на яе ілбе надпіс: «Таемства! Вялікая Цьвярдыня Брама Госпада, маці распутнікаў і брыдот зямлі*» (Ап., XVII, 1-6).

Потым аўтар Апакаліпсіса пабачыць у выглядзе залацістай хмаркі вестуна неба, які крычыць:

– «*Упала, упала вялікая цьвярдыня Брама Госпада!... Усе народы паспыталі абуральнага віна яе распутнасьці! З ёй распутнічалі цары зямныя, і ўсе гандляры зямлі ўзбагаціліся ад яе вялікай раскошы!.. Адплаціце ж ёй удвая за яе прыдумку. У чарцы, у якой яна разводзіла* (нейкай брыдотай і брудам прычашчальнае) *віно, развядзіце ёй самай удвая*!» (Ап., XVIII, 1-6).

І вось, адзіная рэчаісная нагода права Хітруна-Мікалая на званне цудадзея і складаецца толькі ў гэтай чарцы з брыдотай і брудам, якой нячысьцік, з’явіўшыся маракам едучым на ўшанаванне яго труны таксама ў выглядзе жанчыны з чаркай у руцэ, меў жаданне апаганіць яго цела. Можна палічыць, што пры набажэнскіх папойках пачатку IV стагоддзя, той, каго мы завём Мікалаем Цудадзеем, частаваў сваіх верніц і вернікаў нейкім адурманьваючым напоем накшталт опіуму, прыводзіўшым іх у стан поўнай адсутнасьці памяці і выклікаўшым разнастайныя цудоўныя галюцынацыі. Ці не яму належыць таксама і ператварэнне віна ў сапраўдную кроў з дапамогай дамешвання да яго нейкай заўсёды наяўнай у кожнага брыдоты?

Ва ўсякім разе ніякіх іншых нагод, магучых навекі замацаваць за ім выключнае права на найменне Цудадзей, мы не заўважаем нават і сьледу ў яго сучаснай клерыкальнай біяграфіі, а таму і павінны шукаць іх у тым, пра што больш

познім тэолагам стала ўжо сорамна згадваць. А гэтая чарка пракралася нават і ў астраномію (мал. 148).



Мал. 148.
Прычашчальная чарка з ручкамі са змеямі на спіне Гідры, якую дзяўбе крумкач (Фламарыён, Астраномія).

І сама яго аплявуха Арыю на Нікейскім саборы, якую няма падставаў лічыць прыдумкай, можа сведчыць толькі пра тое, што ў яго не было іншага спосабу абараніцца ад абвінавачванняў заснавальніка арыянства.

Дадам толькі яшчэ некалькі радкоў.

Як толькі я прыйшоў да высновы (ужо выкладзенай мной у першых тамах), што біблейскі Арон і хрысьціянскі Арый – адна і тая ж асоба ў двух розных аперцэпцыях, я зараз жа падумаў, што і ў Бібліі павінна існаваць нейкае згадванне пра Нікейскі сабор і адбыўшаяся на ім сутыкненне мікалаітаў з арыянамі. Гэта адразу ж і апраўдалася, толькі ў апавяданне яшчэ дададзены пад імем Збаўцы (Майсея, па-жыдоўску) ужо не Дыяклетыян, які згодна з грэцкім апакрыфістам памёр у 313 годзе, за 12 гадоў да Нікейскага сабора, а сам склікаўшы яго Кастусь.

Вось як паведамляе пра гэта біблейская кніга «Лічбы» (гл. XVI):

«*Нехта Лысаваты, дзіцё ялею і хрысьцільні, нашчадак далучаных да царквы*[473] *і з ім Законнік і Рымскі патрыцый, сыны бога Бацькі*[474], *ды Штукар, дзіцё цудаў*[475] *і Празарлівец Сына, і 250 із богазмагальнікаў, усе кіраўнікі царквы, запрашаемыя на саборы*[476], *сабраліся супраць Збаўцы і Арона* (Арыя) *і сказалі ім*:

– *Даволі! Уся ж царква сьвятая. Усе мы сьвятыя, і сярод нас бог Грамабой. Дык чаму ж вы ставіце сябе вышэй яго абранага народа*?

(Відавочна, гэта былі супернікі рэгламентацыі сьвятарства дзяржаўнай ўладай.)

---

[473] Тут па-жыдоўску קרח (КРХ), лысаваты, пераінача ва ўласнае імя Карэй; יצהר (ІЦЭР), аліўкавае масла, ператворана ў яго бацьку Іцгара; קהת (КЕТ), скарочаны ад קוה-מ (М-КУЕ), вадаём (а згодна з Cruden’у нават непасрэдна Сабор), ператвораны ў Каафа, дзеда Лысаватага.

[474] Па-жыдоўску Датан (דתן) і Аберам (אבי־רם) – Бацька Рыма.

[475] פלת-און־בן (АУН-БН ПЛТ падобна з рускім: – плут). Тут АУН ужыта ў сэнсе ашуканец, штукар, а ПЛТ з’яўляецца скарачэннем ПЛАУТ (פלאות) – дзівы.

[476] Тут ЭДЕ (עדה) – згуртаванне, у прыватнасьці царкоўнае, а МУЕД (אמועד) азначае – сабор, у прыватнасьці царкоўны.

| | | |
|---|---|---|
| 2. – Каін (КІН – дзіда, праца) Марс – аўторак | — | Каінан (КІНН – дзіданосец) Марс – аўторак |
| 3. – Енах (ад ХНЕ – краса) Венера – серада | | Малеleіл (МЕЛЛ-АЛ – славячы бога) Меркурый – серада |
| 4. – Іарэд (ІРД – кідаючы стрэлы) Юпітар – чацьвер | | Іарэд (ІРД – кідаючы стрэлы) Юпітар – чацьвер |
| 5. – Мегуаіл (М-ХУЙ-АЛ – абвяшчаючы бога) Меркурый – пятніца | | Енах (ад ХНЕ – краса) Венера – пятніца |
| 6. – Мафусаіл (МУТЭ-ШЛХ – забіваючы) Сатурн – субота | — | Мафусаіл (МУТЭ-ШЛХ – забіваючы) Сатурн – субота |
| 7. – Ламех (Л-МК – уражаны) Дыёніс-Сонца – нядзеля | — | Ламех (Л-МК – уражаны) Дыёніс-Сонца – нядзеля |
| | ★ | Ной (НХ – заспакаенне) |
| У першым слупку толькі сем дапатопных патрыярхаў, а ў другім іхная колькасць даведзены да дзесяці.<br>У першым слупку ў Ламеха было тры сына: Струмень (ІБЛ) – бацька качэўнікаў, Ручай (ЙУБЛ) – бацька музыкантаў і Вулкан (Т-ВЛКІН) – бацька кавалёў. А ў другім слупку ў Ноя было тры сыны Сім – сяміт-азіят, Хам – афрыканец-маўр і Яфет – еўрапеец.<br>У першым слупку: серада (Woens-dag галандцаў) адпавядае планеце Венера (Venus), як у мовах англа-саксонскага і германскага сямейства. А ў другім слупку: серадзе (Mercredi французаў) адпавядае Меркурый, як у мовах лацінскага кораня.<br>У першым слупку: пятніцы (Friday ангельцаў) адпавядае Фрэй-Меркурый, як у мовах англа-саксонскага і германскага сямействаў. А ў другім слупку: пятніцы (Venerdi італьянцаў) адпавядае Венера.<br>Астатнія дні аднолькавыя ва ўсіх заходне-еўрапейскіх мовах. | | |

Гэтым сёмым патрыярхам і заканчваецца генеалогія чалавечага Роду. У прабацькі Ламеха-Сонца дзьве жонкі: адна Рух (Ода) і другая яго Цень (Цыла). Ад «Руху» ў яго нарадзіўся сын Струмень (Іўл) – бацька ўсіх вандруючых, і цурчачы ручай (Іуўл), – бацька ўсіх музыкантаў.

Ад «Ценю» ў яго нарадзіўся Вулкан, бацька ўсіх апрацоўваючых металы, і дачка Хараство (Немэ), верагодна прамаці таксама чагосьці выдатнага, хаця пра гэта ў Бібліі нічога не паведамляецца.

Мы бачым, што згодна з гэтай генеалогіяй Сонца прывяло да падзелу чалавецтва па прафесіях, падобна таму, як другая генеалогія, праз трох сыноў Ноя і праз патоп, замест струменя і ручая, прывядзе, як мы хутка пабачым, да геаграфічнага падзелу рас. Але перш, чым мы пяройдзем да наступнай генеалогіі, пазначым спачатку адну дзіўную акалічнасць.

Мы ведаем із біблейскай легенды, што Каін-Марс забіў свайго брата Авеля, імя якога азначае Адпачынак, а таксама Натхненне і Паветра, таму што абодва гэтыя разуменні тады яшчэ не аддзяляліся ад чалавечага дыхання. Але дзе ж гэты Авель сярод планет, калі тут праводзіцца астральная алегорыя? Тут мы сустракаемся з такім нечаканым супадзеннем, якое для чалавека, схільнага лічыць рэчаіснасьцю існаванне пад час старажытнасьці глыбокай, але загінуўшай навукі, можа здацца цудоўным падмацаваннем. Згадайце толькі, што зараз жа за планетай Марс лётаюць шматлікія аскепкі выбухнуўшай, як думаюць некаторыя, планеты Астэр, маючыя назву астэроіды.

Праўда, што ў дачыненні да паходжання астэроідаў існуе і іншая гіпотэза, лічачая, што Астэра (ды дазволяць мне мае калегі па астраноміі называць так гэтую няіснуюючую зараз планету) ніколі не існавала, што імглістае кола, із якога яна павінна была ўтварыцца, рассыпалася дзякуючы пертурбацыйным уплывам размешчанага за ім Юпітара на шэраг дробных планетак, не паспеўшых утварыць адну буйную, як гэта атрымалася з астатнімі коламі яшчэ не ўтварыўшагася тады

сонца. Аднак, пытанне пра згушчэнне ў адно сферычнае цэлае імглістых колаў, дзе кожная часьцінка носіцца, як асобная планетка, не паддаецца аналітычнай распрацоўцы з боку гледжання нябеснай механікі, маючай справу толькі з магутнасьцю прыцягнення. Без дапушчэння ўзнікнення новых магутнасьцей у момант утварэння із такога кола круцячыхся планет тут абыйсьціся немагчыма, а таму і блізкасць Юпітара не змагла б вырабіць тут істотнага ўплыву.

Акрамя таго, спакойнаму ўзнікненню астэроідаў із першапачатковага кола супярэчаць і моцныя адхіленні шляхоў у некаторых із іх ад плоскасьці вярчэння першапачатковага кола, адхіляўшагася толькі на вельмі малую колькасць градусаў ад экліптыкі.

А тым часам, нахіленні да яе дасягаюць у Палады 35°, у Істрыі 27°, у Еўфразіны і Ганны 26° і г.д., ды і эксцэнтрысітэты арбіт выключна вялікія. Усё гэта сведчыць на карысць здагадкі Ольберса, што справа тут не абыйшлася без выбуху. Нядаўна я зрабіў з гэтай нагоды наступны разлік. Сярэдняя хуткасць арбітнага лёту астэроідаў блізкая да 18 кіламетраў за секунду. Для таго, каб даць адхіленне хаця б аднаму із іх на 30° ад першапачатковай плоскасьці, патрабавалася вялізная магутнасць, здольная надаць бакавую хуткасць 9 кіламетраў за секунду, але, акрамя таго, гэтая хуткасць павінна быць яшчэ падвоена, таму што і кропкі апірышча магутнасьці павінны адхіляцца ў адваротны бок. Гэта азначае, хуткасць разыходжання процілегла адкінутых кавалкаў даходзіла б тут да 18 кіламетраў за секунду. А гэта такая вялізная хуткасць, якая ў шмат разоў перасягае пачатковую хуткасць не толькі гарматных снарадаў у самых дальнебойных гармат, але, відаць, нават і хуткасьці камянёў пры іхным вылятанні із жаролаў зямных вулканаў.

Такія вялізныя бакавыя рухі вялізных камлыг, накшталт той жа Палады, ніякім чынам не маглі ўзнікнуць із першапачатковага імглістага кола, пасярэдзіне якога не магло існаваць нават кропкі апірышча для ініцыявання моцных бакавых уплываў. Падобная катастрофа магла ўзнікнуць толькі пасярэдзіне цьвёрдай і цалкам сфармаваўшайся планеты і павінна была нагадваць катастрофы з «часовымі зоркамі», назіраемымі час ад часу то тут, то там у атаючай нас зорна-планетнай прасторы. Пры гэтым аскепкі, адкінутыя наперад, павінны былі ўтварыць згуртаванні астэроідаў з малымі адхіленнямі плоскасьці, але з вялікімі эксцэнтрысітэтамі і з параўнальна вялікімі сярэднімі адлегласьцямі ад сонца, а аскепкі, адкінутыя назад, павінны былі ўтварыць згуртаванні планет з параўнальна меншай сярэдняй адлегласьцю.

Арбіты ўсіх павінны былі спачатку сыходзіцца ў месцы выбуху, але не адначасова, дзякуючы атрыманым адрозненням у часе абарачэння, а потым гэты агульны вузел павінен быў паступова размеркавацца з нагоды пертурбацыйных уплываў Юпітара і саміх дробных планетак адна на адну пры збліжэннях у гэтым месцы. І вузлы, і перыгеліі, і афеліі павінны былі аддаліцца ад першапачатковага месца, а таму знайсьці яго зараз можна толькі пры вельмі складаным матэматычным аналізе, калі ўсе дэталі сучасных рухаў астэроідаў будуць дастаткова вывучаны[488].

Я прашу прабачэння перад чытачом не-астраномам за гэтае мімавольнае адхіленне ў вобласць дыскутуемых астранамічных пытанняў. Але астраномія – мая галоўная кропка апірышча ў гэтай кнізе, і таму мне немагчыма яе ігнараваць, нават і разбіраючы чыста легендарнае пытанне пра забойства Каінам Авеля. Калі лічыць

---

[488] Непараўнальна прасьцей вылічыць адлегласць ад сонца да выбухнуўшай планеты. Афеліі малых арбіт павінны былі спачатку знаходзіцца на той жа адлегласці ад сонца, як і перыгеліі вялікіх арбіт.

першаўзорам Каіна – Марс, то першаўзорам забітага ім Авеля павінна быць выбухнуўшая Астэра, хаця, вядома, не Марс яе падарваў. Але якім жа чынам гэтая падзея, здарыўшаяся задоўгае да ўзнікнення астраноміі на зямлі, здолела патрапіць у міф? Няўжо і пра яе захаваліся дагістарычны ўспаміны? Вядома, – не.

Я тлумачу справу значна больш проста. У перыядах абарачэння планет і ў іхных адлегласьцях ад сонца існуе некаторая гармонія, дзякуючы якой астранамічным розумам даўно даводзілася шукаць нябачную планету паміж Марсам і Юпітарам. Так, на прыканцы XVIII стагоддзя Тыцыус і Бадэ (каля 1770 г.), узяўшы шэраг 0, 3, 6, 12, 24, 48, 96, у якім кожны наступны чалец, акрамя першага, з’яўляецца падваеннем папярэднічаўшага, і дадаўшы да іх 4, знайшлі, што атрыманыя лічбы блізка супадаюць з сярэднімі адлегласьцямі планет ад сонца, калі надаць для Зямлі адлегласць роўную 10 адзінкам (табл. XXVI).

ТАБЛІЦА XXVI.

Закон Тыцыуса-Бадэ.

| Планеты | Адлегласць іх ад Сонца | |
|---|---|---|
| | Згодна з Тыцыусам і Бадэ | Сапраўдная |
| Меркурый (0 + 4)... | 4 | 3,8 |
| Венера (3 + 4)...... | 7 | 7,2 |
| Зямля (6 + 4)....... | 10 | 10,0 |
| Марс (12 + 4)...... | 16 | 15,2 |
| (Астэроіды 24 + 4). | 28 | (ад 15 да 50) |
| Юпітар (48 + 4).... | 52 | 52,0 |
| Сатурн (96 + 4)..... | 100 | 95,4 |
| Уран (192 + 4)..... | 196 | 191,8 |
| (Няптун 384 + 4)... | 388 | (300,6) |
| Плутон.......... | | 296,5-492,8 (сярэдняе 394) |

Тут адразу выяўляецца адсутнасць планеты, адлегласць якой была б роўнай 28 адзінкам. Астраномы пачалі ўзмоцнена яе шукаць, але, раптам, знайшлі замест яе некалькі соцень дробных планетак, лётаючых як аскепкі ва ўсе бакі, каля яе арбіты.

Дакладна так жа і працяг гэтай лічбавай схемы даў Адамсу і Левер’е магчымасць вылічыць прыблізную арбіту невядомага яшчэ тады Няптуна грунтуючыся на яго ўплыве на рух Урана. А потым знайшлі і дзясятую планету – Плутона...

Вядома, старажытныя назіральнікі не ведалі адлегласьці планет ад сонца і нават лічылі зямлю цэнтрам іхнага руху, але затое яны ведалі прыблізны час іхнага шляху па задыякальнаму поясу, лічачы яго цэлымі лічбамі. Грунтуючыся на тым жа ходзе думкі, як Тыцыус і Бадэ, – таму што, паўтараю, гэты ход нашмат больш аднастайны, чым ён нам здаецца грунтуючыся на саманазіранні, – яны і маглі прыйсьці, на падставе вельмі высока-шануемага імі закона гармоніі лічбаў 1, 2, 5, 12, 30, да пабудовы наступнай табліцы (табл. XXVII).

ТАБЛІЦА XXVII.

Час бачнага з зямлі абыходу неба сямю старажытнымі планетамі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сонца | (Адам) | } | |
| Меркурый | (Мегуаіл) | } ....1 | год |
| Венера | (Енах) | } | |
| Марс | (Каін) | ......2 | гады |
| ? | (Авель) | ..... 5 | гадоў |
| Юпітар | (Ярэд) | .... 12 | гадоў |
| Сатурн | (Мафусаіл) | .... 30 | гадоў |

Грунтуючыся на гэтай табліцы адразу выявілася б і для сярэднявечных астролагаў-кабалістаў папатрэба існавання за Марсам-Каінам яшчэ адной планеты Авеля-Астэры, адносна адсутнасьці якой ў гэтым лікавым шэрагу бог-Грамабой меў поўнае права запытаць Марса:

– «*Каін, дзе брат твой Авель*»?

Каін, згодна са сведчаннем Бібліі, быццам бы адказаў:

– «*Не ведаю: Хіба я вартаўнік брату майму*»?

І гэта быў адзіны адказ, магчымы для старажытнага астролага.

Каб паказаць характар другаснай генеалогіі, прыведзенай у другім слупку табліцы XXV, я памяшчаю тут назвы дзён тыдня на розных мовах (табл. XXVIII)[489].

Мы бачым, што ў большасьці еўрапейскіх наменклатур сем дзён тыдня прыведзены ў сувязь з сямю старажытнымі планетамі, узятымі ў той паслядоўнасьці, якая дадзена на табліцы XXVIII.

Я звяртаю тут асаблівую ўвагу чытача на тое, што пры пераходзе наменклатуры дзён тыдня ад моваў лацінскага кораня на моваў англа-саксонскага і германскага кораня Меркурый і Венера мяняюцца месцамі. На лацінскіх мовах (табл. XXVIII, раздзел II) серада названа днём Меркурыя, а пятніца днём Венеры, а на англа-саксонскіх і германскіх – наадварот (табл. XXVIII, раздзел II).

На старажытна-грэцкай, лацінскай і жыдоўскай мовах дні тыдня лічацца згодна з нумарамі: першы, другі і г.д., але толькі пераганяюць рускае злічэнне на адзін дзень, лічачы суботу сёмым днём, тады як у нас яна знаходзіцца пасьля пятніцы, г.азн. стаіць на шостым месцы. А ў сучаснай грэцкай мове атрымліваецца вельмі дзіўная з боку гледжання звычайных гісторыкаў справа.

Здавалася б, у «паганскай класічнай Грэцыі» павінна была б існаваць паганская наменклатура з Меркурыем, Венерай і г.д., а мы бачым што там існавала нумарацыйнае злічэнне, як у жыдоў. А ў сучаснай нам хрысьціянскай Грэцыі мы знаходзім, наадварот, паганскае злічэнне: дзень Месяца, дзень Марса, дзень Меркурыя, дзень Юпітара, дзень Падрыхтоўкі, дзень Сатурна і, нарэшце, дзень Valадара (прыпадаючы на нашу Нядзелю). Гэта – тая ж наменклатура, як і ў сучасных гішпанцаў, французаў і італьянцаў.

Але вось – і яшчэ большы кур’ёз са звычайнага боку гледжання. Выяўляецца, што гэтая ж самая позняя і ў той жа час паганская наменклатура сучасных грэкаў і гішпанцаў пранікла – куды б вы думалі? – у Індыю!

ТАБЛІЦА XXVIII.

Назвы дзён тыдня на розных мовах.

| Раздзел I. Назвы лацінскага кораня. | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Па-нашаму | Па-французку | Па-італійску | Па-гішпанску | Значэнне |
| Нядзеля | Dimanche | Domenica | Dominge | Дзень Валадара |
| Панядзелак | Lundi | Lunedi | Luneo | Дзень Месяца |
| Аўторак | Mardi | Martedi | Martes | Дзень Марса |
| Серада | Mercredi | Mercoledi | Miercoles | Дзень Меркурыя |
| Чацьвер | Ieudi | Iiovedi | Iueves | Дзень Зеўса (Юпітара) |
| Пятніца | Vendredi | Venerdi | Viernes | Дзень Венеры |
| Субота | Samedi | Sabba’o | Sabado | Субота |
| Мы бачым, што тут выпалі толькі дні Сонца і Сатурна, замяніўшыся хрысьціянскім днём «Валадара» і жыдоўскай «Суботай». | | | | |

[489] Запазычаю ў Фламарыёна, выправіўшы некаторыя недакладнасьці, пракраўшыяся ў тое выданне яго «Гісторыі Неба», якім я карыстаўся.

| Раздзел II. Назвы дзён англа-саксонскага кораня. | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Па-нашаму | Па англа-саксонску | Па старажытна-фрысландзкі | На старажытнай паўночнай мове. | Значэнне |
| Нядзеля | Sonnan-däg | Sonna-dei | Sunnu-dagr | Дзень Сонца |
| Панядзелак | Monan-däg | Mona-dei | Mâna-dagr | Дзень Месяца |
| Аўторак | Tives-däg | Tis-dei | Tyrs-dagr | Дзень Марса ці Ціса |
| Серада | Vôdenes-däg | Wernes-dei | Odins-dagr | Дзень Венеры ці бога Одына |
| Чацьвер | Thunores-däg | Thunres-dei | Thors-dagr | Дзень Юпітара ці Тора-Грамабоя |
| Пятніца | Frige-däg | Frögen-dei | Fria-dagr | Дзень Меркурыя ці Фрэя[490] |
| Субота | Soeternes-däg | Sater-dei | Langar-dagr[491] | Дзень Сатурна ці дзень лазні |
| Раздзел III. Назва дзён германскага кораня | | | | |
| Па-нашаму | Па-нямецку | Па-ангельску | Па-галандску | Значэнне |
| Нядзеля | Sonntag | Sunday | Zondag | Дзень Сонца |
| Панядзелак | Montag | Monday | Maandag | Дзень Месяца |
| Аўторак | Dienstag | Tuesday | Dingsdag | Дзень Бога Ціса |
| Серада | Mitwoch | Wednesday | Woensdag | Дзень Венеры |
| Чацьвер | Donnerstag | Thursday | Donnersdag | Дзень Тора-Грамабоя |
| Пятніца | Freitag | Friday | Wrijdag | Дзень Фрэй-Меркурыя |
| Субота | Sonnabend | Saturday | Zaturdag | Дзень Сатурна |

Із параўнання на табліцы XXIX мы бачым, што як у Яўропе, так і ў Індыі – тая ж пасьлядоўнасць планет, але што пры доўгім раней шляху із Яўропы ў Індыю ў планетарнай сімвалістыцы быў зроблены зрух. Еўрапейская нядзеля ператварылася ў пятніцу (дзень Венеры), г.азн. былі палічаны два дні шляху.

Але для нас з'яўляецца важным не гэты пралік, а тое, што такая наменклатура ніяк не магла дайсьці да Індыі пад час старажытнага перыяду, а толькі разам з навейшымі грэцкімі місіянерамі ці нават хутчэй усяго з партугальскімі і гішпанскімі мараплаўцамі пасьля адкрыцця Васка дэ Гама марскога шляху ў Індыю ў 1498 годзе. А наменклатура ж дзён тыдня гэта не нейкая выпадковая прыдумка: яна прасякае ўсю дзейнасць краіны, гэта – канва, на якой вышываецца ўсё грамадзкае і рэлігійнае жыццё насельніцтва.

І вось, мы бачым, што гэтая канва прыйшла ў Індыю із Партугаліі ці нават із Гішпаніі і прытым толькі ў XVI стагоддзі нашай эры, а ніяк не існавала там пачынаючы ад XVI стагоддзя да пачатку нашай эры! Пра гэтую акалічнасць мне яшчэ давядзецца разважаць у VIII томе, дзе будзе абгрунтавана новая храналогія індускай культуры, а зараз я вярнуся да прадмета гэтай часткі.

ТАБЛІЦА XXIX.

Параўнанне заходне-еўрапейскай наменклатуры дзён тыдня з індускай.

| Значэнне дзён па заходне-еўрапейску | | Значэнне дзён па-індуску | |
|---|---|---|---|
| Нядзеля | Дзень Сонца | Souera-varum | Дзень Венеры |
| Панядзелак | Дзень Месяца | Sani-varum | Дзень Сатурна |
| Аўторак | Дзень Марса | Addita-varum | Дзень Сонца |
| Серада | Дзень Меркурыя | Sonia-varun | Дзень Месяца |

[490] Фрэй ці Фрэйн – скандынаўскі бог, брат Фрэі, адпавядаючы планеце Меркурый. Ён ездзіць на вепруку з залатой шчацінай (на ранішняй і вечаровай зараніцы), як Меркурый, кіруе аблокамі, непагаддзю і добрым надвор'ем і ўрадлівасьцю зямлі. Яго сястра, багіня Шанавання і Вясны (Венера раз'язджаючая на калясьніцы, запрэжанай коткамі).

[491]. Langar-dagr азначае – дзень лазні

| | | | |
|---|---|---|---|
| Чацьвер | Дзень Зеўса | Mangala-varum | Дзень Марса |
| Пятніца | Дзень Венеры | Bouta-varum | Дзень Меркурыя |
| Субота | Дзень Сатурна | Brahaspati-varum | Дзень Зеўса |

Скалігер у сваёй кнізе «De emendatione temporum», якая з’явілася ў 1583 годзе, тлумачыць лацінскую паслядоўнасць магічным сямікутнікам, у якім узята Пталямеева паслядоўнасць планетных арбіт: Месяц, Меркурый, Венера, Сонца, Марс, Юпітар, Сатурн.

Напішам, – кажа Скалігер, – усе гэтыя планеты на сямі роўнаадлеглых кропках акружнасьці і, пачаўшы ад Месяца, будзем іх злучаць праз дзьве кропкі ў трэцюю. Атрымаем сямікутную зорку і шлях ад месяца да ўсіх планет пакажа паслядоўнасць дзён тыдня ў іх лацінскай наменклатуры (мал. 149, стар. 782).




Мал. 149
Скалігерава зорка.

Да гэтага ж чаргавання прыводзіць і прысвячэнне кожнай гадзіны сутак асобнай планеце, адваротна іхнай пталямеевай пасьлядоўнасьці. Хай, напрыклад, 1-я гадзіна суботы прысьвечана яе богу Сатурну. Тады яму ж будзе прысьвечана і 8-я гадзіна, і 15-я, і 22-я. Адсюль, узяўшы назад Пталямееву паслядоўнасць, мы пабачым, што 23-я гадзіна суботы будзе прысьвечана Юпітару, 24-я Марсу, а першая гадзіна нядзелі, як і патрэбна, Сонцу.

Гэтыя прамыя і адваротныя чаргаванні і супастаўленні адзін з адным цалкам розных сістэм прадметаў, не маючых у сабе нічога агульнага, уяўляюць яскравы ўзор памёршай зараз натуральнай сьмерцю старажытнай навукі кабала, пакладзенай у падставу усёй біблейскай храналогіі і ўтвараючай тую канву, на якой вытканы біблейскія ўзоры.

Дадам яшчэ маленькую ўскосную заўвагу.

Лацінскі паэт Тыбул, у адной са сваіх элегій[492] называе суботу нешчаслівым днём для якіх бы то ні было пачынанняў, і гэтай акалічнасьцю, а не ўспамінам пра сёмы дзень тварэння, можна патлумачыцца і першапачатковае паходжанне суботняга адпачынку ў жыдоў. Ды і наогул «сядміца тварэння» ў кнізе «Быцця» пабудавана на кабалістычных, а не на астральных меркаваннях. У яе падставе ляжыць чыста лінгвістычнае супадзенне; па-жыдоўску «**пачатак (Брашыт)»** распадаецца на **БРА** і **ШЫТ**, што азначае: «быць сатварону шасьцю». Гэта, напэўна, і паслужыла канвой для легенды пра шэсць дзён тварэння, а дэталі вытканы на аналагічных кабалістычных меркаваннях. Згадванне Тыбула пра суботу, як дзень Сатурна, паказвае нам таксама, што прыпісваць яго элегіі, як робяць зараз, самаму пачатку нашай эры, – немагчыма.

Той парадак планет, у якім яны размешчаны ў паказанай намі наменклатуры лацінскага кораня, мог выпрацавацца толькі пасьля заканчэння IV стагоддзя нашай эры. Гэта азначае, і сам Тыбул жыў не раней заканчэння сярэдневечча, г.азн. пад час той эпохі, калі ўжо распрацоўвалася легенда пра Хрыста і пачалі адпачываць у нядзельны дзень.

# Раздзел III

## Ідэалогія хрысьціянства Эпохі Адраджэння ў яго апакрыфічнай літаратуры (тры слупы хрысьціянства)

[492] Элегія III, кніга I. Перакладзена Фетам на рускую мову.



Мал. 150.
Малітва Ісаі на досвітку. Мініяцюра із Псалтыра Парыжскай Нацыянальнай бібліятэкі, дапасуемага да X стагоддзя нашай эры. (Згодна з Omont, Manuel d'Art Byzantin.)

# Глава I

## Літаратурныя творы, несправядліва прыпісваемыя «Вялікаму Цару» (аперцэпцыі Эпохі Адраджэння)



Мал. 151.
Вялікі Цар, Няспячы Багаслоў і Яніец Залатыя Вусны.

Ужо шмат гадоў таму назад мне неяк давялося чуць такі анекдот.

Да аднаго мастака прыйшоў вельмі пабагацеўшы напалову пісьменны падрадчык і кажа яму:

– Намалюй партрэт майго бацькі.

– Прывядзіце яго да мяне, – адказвае мастак;

– Не магу, ён памёр тры гады таму назад.

– Тады прынясіце фатаздымак.

– І гэтага не магу, ён ніколі не здымаўся.

– А як жа я намалюю яго партрэт?

– Намалюй адпаведна з маім апісаннем. У яго былі чорныя валасы з сівізной, карыя вочы і барада на палову твару. А самае прыкметнае: нос падобны на грушу і на самым яго заканчэнні вялікая барадаўка з трыма валосікамі.

Мастак рашуча адмовіўся маляваць партрэт грунтуючыся на якім бы там ні было апісанні, але падрадчык усё чапляўся, паступова падымаючы плату, і давёў яе нарэшце да двух тысяч рублёў. Мастак спакусіўся і абяцаў намаляваць праз два тыдні.

Калі ў прызначаны дзень заказчык прыйшоў у майстэрню, мастак прыўзняў пакрывала над карцінай і паказаў яму свой твор.

Падрадчык спачатку са здзіўленнем адступіў на некалькі крокаў, а потым, пляснуўшы ў далоні, усклікнуў:

– Бацька мой, бацька! Ды як жа ты перамяніўся пасьля сваёй сьмерці! Калі б не бародаўка на носу, дык ні за што б цябе не пазнаў!

І такое ж ускліканне мы з поўным правам можам зрабіць, разглядаючы на нашых абразах выяву якога заўгодна сьвятога, ды і самога Езуса Хрыста:

– Сьвятыя айцы! Святыя айцы! Ды як жа вы ўсе перамяніліся пасьля вашай сьмерці!

І гэтая іхная пасьмяротная перамена адбылася не ў адным малярстве, а таксама і ва ўсіх царкоўных біяграфіях. Калі б не бародаўкі на носу ў выглядзе дакладнага пазначэння імя таго, да каго мае дачыненне апавяданне, то і сам сьвяты, прачытаўшы свае жыццяапісанні, ніколі не здагадаўся б, што гаворка ідзе пра яго.

А як жа быць, калі няма барадаўкі? Што рабіць з дзеячамі сапраўднай старажытнасьці, калі яшчэ не існавала афіцыйна зафіксаваных імёнаў, а толькі мянушкі, накшталт Устойлівы (Кастусь, па-грэцку), Сьветлы (Люцый, на-лаціне), Мужны (Андрэй, па-грэцку) і г.д.?

У кожнага ж із больш-менш вядомага чалавека таго часу магло існаваць па некалькі мянушак, а таму і паданні пра іх натуральна пазьней падзяліліся на шэраг самастойных апавяданняў як бы пра розных асоб.

Вось, напрыклад, магаметане налічваюць у бога 99 імёнаў. І калі б пад кожным із гэтых імёнаў было распрацавана пра яго асобнае паданне, то як бы мы зразумелі, што гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра таго ж самага бога, а не пра 99 розных і самастойных багоў?

Гэта ж самае здарылася і з заснавальнікам хрысьціянскага набажэнства, у якога было шмат мянушак.

У трэццяй кнізе «Хрыста» я ўжо даводзіў, як дзякуючы неадпаведнасьці ўспрыманняў у слухаючага і паведамляючага чалавека, аперцэпцыйна адрозніваліся апавяданні пра заснавальніка праваслаўнага набажэнства пры пераходзе ад адной асобы да другой і як пры іх паступовым аддаленні ў розныя, і асабліва ў іншамоўныя месцы, утварылася, нарэшце, некалькі, нібы-та, самастойных апавяданняў, цалкам не падобных адно на другое і ўяўляючыхся, дзякуючы перамене мянушак героя, маючымі дачыненне да розных асоб, мясцовасьцей і эпох.

Найменш ссунутай у часе аперцэпцыяй дзейнасьці заснавальніка хрысьціянскага прычашчальнага набажэнства з'яўляецца, як я ўжо падрабязна разбіраў у першай кнізе, Жыццяапісанне Вялікага Цара (Васіля Вялікага, па-грэцку), дапасаванае да 325-378 гадоў нашай эры, імем якога і называецца поўная праваслаўная літургія[493].

Але і гэтая аперцэпцыя з'яўляецца перасунутай геаграфічна, таму што месца жыцця Вялікага цара «Горад Цэзараў» (Кесарыя, па-грэцку) лакалізуецца ў Азіі, тым часам як згодна з агульнымі меркаваннямі (у І кнізе «Хрыста») гэта павінна была быць ці Пампея ці сам Цар-Горад, таму што па-грэцку Кесарыя і азначае Цар-Горад.

Другая аперцэпцыя – евангельская – пераносіць дзейнасць заснавальніка хрысьціянскага набажэнства таксама ў Азію, дапасуючы месца яго жыхарства «Горад сьвятога замірэння», да Эль-Кудса, у наваколлі Мёртвага Мора, а час жыцця да першага стагоддзя нашай эры. У ёй ён мае найменне «Ратавальнік (Езус)».

Трэццяя аперцэпцыя – біблейская, – называючы яго таксама «Ратавальнікам (Езусам)», вымушае яго прывесьці «богазмагальнікаў» у Запаветную зямлю, цякучую малаком і мёдам, таксама дапасуючы яе да наваколля Мёртвага Мора і перасоўваючы ў часе за 1750 гадоў да заснавання хрысьціянскай літургіі, хаця і дае

493 Літургія Васіля Вялікага, г.азн. таемнае маленне Вялікага Цара (λιτουργία) (ад λιτή – літыя, прашэнне, і ὀργια – оргія – таямнічыя сьвятадзействы з віном, у гонар Бахуса. Звычайна выробляюць апошняе слова ад ἔργον – справа, але толькі як жа ἔργον ператвуарылася ў οὐργία.

яму знакам Рыбу, называе Навінам, па-грэцку ІХΘІС, анаграматычна Езус ХрыстосΘеу Іййос Сотэр, г.азн. Езус Хрыстос, Боскі Сын, Ратавальнік.

Чацьвёртая аперцэпцыя называе яго Богам-Грамабоем (прарокам Іліяй) і, лакалізуючы тамсама да таго ж месца, як і ў евангеллях, пераносіць час яго жыцця за 1300 гадоў да рэчаіснага часу жыцця заснавальніка хрысьціянскага набажэнства. У гэтым выпадку, як і ў евангеллях, ён называецца прарокам, узнесеным жывым на неба і павінным зноў прыйсьці (ТШБІ), а ў славянскіх былінах яго ўжо непасрэдна называюць богам. Так, у адной баўгарскай песні гаворыцца:

..... Божа Ілія з ясным сонцам на твары,
З месяцам на шыі, зоркамі на целе[494].

Пятая аперцэпцыя называе яго Вялікім Царам Месіяй (Рэ-Месу Міамунам іерагліфічна) і дапасуе час яго жыцця якраз амаль да часу Езуса Навіна, але падмосткі дзейнасьці пераносіць у Міц-Рым, які лічыцца тэолагамі за Ягіпет. І цікава, што як пад імем Рэ-Месу (перарobленым грэкамі ў Рамзэса ІІ), так і пад імем Езуса Навіна, ён малюецца больш у выглядзе вайскавода, чым прарока, моцна нагадваючы Аляксандра Македонскага, толькі з перанясеннем месца дзейнасьці.

Шостая аперцэпцыя і, відаць, найбольш блізкая да рэчаіснасьці малюе яго ў выглядзе цара-віцязя Юльяна (па-руску – Іліі), аднaчасова і філосафа і вандроўніка па аддаленых краінах, але ужо не заснавальніка хрысьціянскай літургіі, а толькі сучасніка яе заснавальніка, загінуўшага ў 363 годзе нашай эры пры вяртанні із Персіі.

Сёмая аперцэпцыя называе яго Царом-Міратворцам (Саламонам), будаўніком храма адзінаму Богу-Грамабою, праносячы яго час на перыяд за 1350 гадоў да сапраўднай пабудовы такога храма, а месца жыцця ў Палестыну замест Цар-Горада, пры гэтым не згадваецца, што «Храм» меў выгляд адкрытага цырка.

Я прапушчу пакуль іншыя аперцэпцыі, а зараз толькі дапоўню першую із пералічаных, дзе ён называецца Вялікім Царам (Васілём Вялікім, па-грэцку). Яна ўжо была эскізавана ў І кнізе «Хрыста», а зараз я толькі займуся разборам дайшоўшага да нас ліставання са знаёмымі ад яго імя і разгледжу самую важную із прыпісваемых яму навуковых лекцый – лекцыю «Пра сем дзён тварэння». Само сабой зразумела, што калі б лісты «Вялікага цара» дайшлі да нас у праўдзівым выглядзе, то яны былі б вельмі каштоўнымі ў якасьці гістарычных дакументаў і нават маглі б падмацаваць маю выснову пра яго тоеснасць з імператарам Юльянам. Разгледзім жа іх.

## І. Пра лісты Вялікага Цара і пра лісты да яго.

Няўжо ўсё, што мы маем ад яго імя, – чыстыя апокрыфы сярэдневечча? Няўжо ніхто не захаваў нічога рэчаіснага із яго твораў?

Вядома; і тут, як і ў творах іншых дзеячоў таго часу, усё сумнеўна, таму што мы маем іхныя творы толькі ў друкаваных выданнях новага часу, а рукапісаў ранейшага часу нідзе на сьвеце не існуе. Але мы не можам не пазначыць, што некаторыя із лістоў «Вялікага Цара» маюць характар праўдападобнасьці.

Справа ў тым, што калі б сярэднявечны тэолаг пажадаў нешта складаць ад яго імя, то ён напісаў бы нейкае рэлігійны павучанне ці тлумачэнне на евангеллі і Біблію ў звычайным выглядзе, а не нейкія нататкі да сяброў, у якіх няма ні слова пра рэлігію. А тым часам сярод 300 з гакам лістоў, прыпісваемых «Вялікаму Цару», мы бачым большасць такіх, у якіх няма ні слова пра багаслоўе.

[494] .....Божа Іленче Сосъ ясна слънце на чало Сосъ месячына на г'рло, Сосъ дробавыя зорцы на снягі. (А. З. Фамінцын, Божышчы старажытных славянаў, І, 125).

Вось, напрыклад, хаця б яго ліставанне з Лібаніем Сафістам (314-393), «паганцам і квестарам імператара Юльяна».

Пад № 359 выдання Гарнье мы знаходзім такі яго адказ на нейкае дасланае апошнім апавяданне:

«*Чытаў я тваё апавяданне, шматмудры, і прыйшоў у крайняе захапленне. О, музы! О, навукі! О, Афіны! Чым адорваеце вы шануючых вас! Якія плады прыносяць тыя, якія, хаця б і на кароткі час, набліжаюцца да вас! О, якая гэта шматводная крыніца! Колькі чэрпаючых у ёй!*

*Мне здаецца, што я бачу на ўласныя вочы, як гэты чалавек у тваім апавяданні спрачаецца са сваёй гаманлівай жонкай. Натхнёнае слова напісаў ты на нашай зямлі, Лібаній, ты адзін укладаеш душу ў прамовы*».

А вось і другі ліст да яго ж[495].

«*Ты, назапасіўшы ў сваім розуме ўсё мастацтва старажытных, да таго маўклівы са мной, што не даеш і мне скарыстацца хоця б чым-небудзь. А я, калі б было бяспечным Дзедалава мастацтва, прыляцеў бы да цябе, зрабіўшы сабе Ікаравы крылы. А дзякуючы таму, што воск небяспечна давяраць сонцу, то замест Ікаравых крылаў пасылаю табе словы, выяўляючыя маё сяброўства і шчырую павагу. Такім з'яўляецца сэнс маіх слоў. А ты, здольны весьці свае словы куды пажадаеш, маўчыш, нягледзячы на сваю магутнасць. Павярні ж і да мяне крыніцы, льючыяся із тваіх вуснаў*».

Скажыце самі: ці мела сэнс падрабляць такія цыдулькі ды яшчэ ад знакамітага хрысьціяніна да знакамітага паганца? Ці мела нават сэнс і перадаваць іх на працягу паўтары тысячы гадоў нашчадкам праз пасярэдніцтва дзясяткаў перапісчыкаў, калі б аўтар не лічыўся такой незвычайнай славутасьцю, што кожнае яго слова здавалася чамусьці патрэбным захоўваць навекі? Але ёсць і іншае рашэнне. Усё гэта мог пісаць нейкі Юльян Эпохі Адраджэння, памылкова палічаны за цара...

Падобнымі ж з'яўляюцца і большасць іншых лістоў «Вялікага Цара», хаця некаторыя із іх таксама выклікаюць падазрэнні з боку гледжання палеаграфіі. У гэтай навуцы, напрыклад, спрабуюць давесьці, згодна з Тышэндорфам, што ў IV стагоддзі пісалі яшчэ звычайнымі, надрадковымі літарамі, без знакаў прыпынку. А вось, тут ліст «Вялікага Цара»[496] да некага із яго вучняў, дзе гаворыцца якраз пра іх:

«*Словы маюць уласцівасць лётаць і таму для іх патрэбны знакі прыпынку, каб лавіць іх у імклівасьці іхнага лёту. Выводзь жа, мой сын, правільна абрысы літар і падзяляй выслоўі знакамі прыпынку, дзе гэта патрэбна. Малой памылкай* (у знаках прыпынку) *пераіначваецца вялікае слова, а пры дбайнасьці пішучага ўсё перадаецца спраўна*».

А вось і яшчэ ліст таго ж «Вялікага цара» да некага із яго вучняў, паказваючы, што падчас яго складання ўжывалі для пісання ужо не кій, як гаворыцца ў Апакаліпсісе, а гусінае, завостранае складваючымся нажом пяро[497].

«*Пішы прама, каб рука не заносілася ў цябе ўгару і не апускалася імгненна ўніз. Не вымушай* ***пяро*** *хадзіць загібамі падобна Эзопаву раку. Хай яно ідзе па прамой лініі, як бы па нітцы, з дапамогай якой цясляр выпраўляе кожную непрамізну. Касое пісанне не добрае з выгляду, а прамое прыемна тым, што не вымушае вочы чытаючага падобна малацільным цапам то падымацца ўгару, то апускацца ўніз, што і мне давялося рабіць,*

---

[495] Ліст 339 выдання Garnier; пераклад я ўсюды бяру із выдання Рускай духоўнай акадэміі, каб пазбегнуць падазрэння ў тэндэнцыйнасьці.

[496] № 333 звычайнай нумарацыі выдання Гарнье.

[497] Там жа, № 334.

*чытаючы напісанае табой, таму што радкі твае ляжалі ўступамі. Калі ў мяне ўзнікала неабходнасць пераходзіць ад аднаго радка да другога, патрэбна было блукаць (пальцам) па тваіх загінам узад і наперад, як Тэзею з Арыяднавай ніткай. Пішы прама і не ўводзь розум у памылку тваім касым і крывым пісаннем*».

І тут зноў няма нічога пра сьвятую Сямуху, як быццам бы гэта піша просты настаўнік чыстапісання, а не прафесійны сьвяты!

У 324 лісьце згодна з нумарацыяй Гарнье «Вялікі Цар» перасьцерагае лекара Пасініку супраць інтрыганства нейкага Патрыкія.

«*Ды будзе табе вядома, што гэты найцудоўнейшы Патрыкій мае ў сваіх вуснах столькі чароўнай значнасьці, што лёгка можа пераканаць нават Сармата ці Скіфа, у чым яму пажадана, а не толькі ў тым, што ты мне напісаў. Але гэтыя прыемныя словы выходзяць не із сэрца, слоўная маска ўжываецца здаўна. На словах такія людзі добрыя і гатовы падаць свае пачынанні на суд кожнаму. А як толькі возьмуцца за справу, то лепш і не падыходзь да іх! Хай гэта будзе паміж намі, ты ж сам паспрабуй пераканацца што гэтага чалавека не лёгка правесьці. Ты не глядзі на добрапрыстойныя прамовы, але пачакай, што скажуць справы*».

Усе такія лісты даюцца нам калектарамі без пазначэння часу, а вось і некаторыя із тых, якія прыводзяцца нават і з датамі (вядома, уяўнымі).

Возьмем, хаця б, ліст да прэфекта Мадэста[498], якога ён тытулуе: Тваё Высакароддзе (па-грэцку).

«*Я згадаў пра вялікі гонар, выказаны мне табой, калі ты прапанаваў мне сьмела пісаць Твайму Высакароддзю. Я карыстаюся гэтым тваім гасьцінцам і цешуся, што размаўляю з такім чалавекам, а ў цябе зараз будзе выпадак выказаць мне ўшанаванне тваім адказам. Я ўжо прасіў тваёй спагаднасьці да майго таварыша старшыні Эладыя, прасіў зняць з яго абавязкі размеркавальніка падаткаў і дазволіць яму заняцца справамі нашай бацькаўшчыны. Зараз я аднаўляю гэтае прашэнне і прашу даслаць загад начальніку вобласьці пра яго збавенне ад такой неспакойнай справы*».

А тым часам гэта той самы прэфект Мадэст, якога біёграфы Вялікага Цара малююць як жорсткага, грубага чалавека, здольнага на ўсё, дасланага Валентам, каб адхіліць «Вялікага Цара» ад яго новага вучэння. У такім жа паважаючым выглядзе прыводзяцца і яшчэ некалькі яго лістоў да таго ж самага Мадэста. Каму тут верыць? Ці гэтыя лісты былі напісаны яшчэ пад час юнацтва і ў такім выпадку мы павінны прызнаць за аўтарам вельмі шляхетнае паходжанне.

Аналагічныя лісты мы знаходзім ад імя «Вялікага Цара» і да Траяна[499], у якога ён просіць абароны пацярпеўшаму саноўніку Максіму.

«*Прыгнечаным*, – піша ён Траяну, – *прыносіць вялікую палёгку, калі яны сустракаюць людзей, якія адпаведна з праўдзівасьцю свайго нораву могуць выказаць ім спачуванне. Вось чаму і шаноўнейшы Максім, былы кіраўнік у нашай бацькаўшчыне, зведаўшы тое, чаго не перажываў яшчэ ніхто із людзей, жаліўся мне на напаткаўшыя яго няшчасьці і пажадаў праз мяне коратка паведаміць табе Іліяду сваіх ліхтуг. Не будучы ў стане іншым спосабам паменшыць хоть трохі яго няшчасьці, я ахвотна прапанаваў яму пераказаць Тваёй Высокашаноўнасьці няшмат што із таго шмат чаго, што чуў ад яго... Для яго будзе дастатковым суцяшэннем, калі ты глянеш на яго прыхільным вокам і распаўсідзіш на яго тваю вялікую літасьцівасць, якую не ў стане паменшыць усе карыстаючыяся ёю. А што твой уплыў у судах будзе для яго вялікай дапамогай каб перамагчы, у гэтым мы ўсе ўпэўнены. Больш жа чым усе упэўнены ў гэтым ён сам, выпрасіўшы ў мяне ліст да цябе, ад якога чакае сабе карысьці і я жадаў бы пабачыць, каб і ён разам з іншымі голасна ўхваліў Тваю Сталасць*».

---

[498] Ліст 281 выдання Гарнье.
[499] Ліст 148 выдання Гарнье.

Тут згадванне пра Іліяду вымушае насьцярожыцца, гэтак жа як і згадванне пра Адысея ў лісьце да нейкага саноўніка Авгурыя[500]. Гэта ж ужо із часоў крыжовых паходаў!

«*Да гэтага часу я лічыў казкай напісанае Гамерам, калі чытаў другую частку яго тварэння, у якой ён распавядае пра бедствы Адысея. Але тое, што здавалася мне казачным, зрабілася для мяне магчымым пасьля таго, як я даведаўся пра дзіўныя прыгоды найлепшага ва ўсім Максіма. Як Адысей быў правадыром кефалінян, так і Максім быў правадыром немалаважнага народа. Адысей, павёзшы з сабой шмат грошай, вярнуўся голым, і Максім дайшоў да таго, што быў у небяспецы вярнуцца дахаты ў чужой кашулі, раздражніўшы такіх жа лестрыгонаў і сустрэўшыся з такой жа Сцылай, якая ў жаночай выяве мае нялюдзкасць ды лютасць сабакі. Але дзякуючы таму што ён здолеў выратавацца ад гэтай непазбежнай хвалі, то просіць цябе праз мяне: паспрыяй уважыць нашу агульную прыроду і давядзі да ведама моцных людзей тое, што здарылася з ім, каб памаглі адбіць задуманы напад на яго ці паведамілі намеры здзекваўшагася над ім*».

Што да ўяўленняў клерыкалаў пра тагачасныя царкоўныя правы, то з'яўляецца надзвычай характэрным прыпісваемы імі самімі «Вялікаму Цару» ліст да Рыгора Багаслова[501], даўшага, напэўна, нагоду да легенды пра Андрэя Першапакліканага. Яго дапасуюць да 374 года.

«*Гэта праўда, што ты здзейсніў добрую, рахманую і чалавекалюбівую справу, сабраўшы паланяніц пагарджаемага Глікерыя і наколькі можна схаваўшы нашу агульную ганьбу... Сабраўшы самавольна і самаўладна юных дзяўчын, із якіх шмат якія прыйшлі да яго самаахвотна, таму што юнацтва схільна да падобных учынкаў, ён адважыўся стаць правадырам гэтага статка і, усклаўшы на сябе імя і адзенне патрыяршаства, раптам узнёсся высока не нейкім прыстойным спосабам, ці набожнасьцю, але хапаючыся за гэты сродак да пражывання, як за кожны іншы прадмет. Атрымаўшы ж ад мяне невялікую славесную вымову, ён захапіў з сабой дзяўчын колькі змог і, дачакаўшыся ночы, збег разам з імі... У гэты час быў прызначаны грамадзкі сход і з усіх бакоў збіралася вялікае мноства народу. А ён вёў з сабой юных дзяўчын і ўсіх сабраўшыхся вакол іх, вырабляючы гэтым вялікую заклапочанасць сярод ставячыхся з пашанай і ўзбуджаючы шмат сьмеху сярод няўстрыманых і гатовых да пляткарства. І я чую, што гэты віцязь са сваім сборышчам яшчэ абражае і ганьбіць бацькоў тых дзяўчын, якія намерыліся сабраць разышоўшыхся і са слязьмі звярталіся да сваіх збеглых з ім дачок. Усё гэта ператвараецца для нас у агульнае пасьмешышча, і ты загадай яму вярнуцца да мяне разам з дзяўчынамі, таму што ён знойдзе ў мяне павагу, калі вернецца назад з лістом ад цябе... Пераканай дзяўчын вярнуцца да нас, сведчу перад табой богам і людзьмі, што гэта не добра і не адпавядае статутам нашай царквы. Калі Глікерый вернецца ў добрым парадку і з прыстойнай сціпласьцю, гэта будзе ўсяго лепш, а калі не, ды спыніць ён сваё служэнне*».

А вось яшчэ ліст да абласнога кіраўніка Антыпатра, не пра што-небудзь іншае, як пра кіслую капусту, дапасуемы да 374 года[502].

«*Якой выдатнай рэччу з'яўляецца павага да навукі нават і ў тым* (акрамя астатняга), *што яна дае магчымасць сваім гадаванцам не ўжываць дарагіх лекаў, і адна і тая ж рэч служыць для іх і ў якасьці прадукта для стала і дапаможнікам для здароўя. Я чуў, што ты вылекаваў саслабелы страўнік кіслай капустай, на якую я перш глядзеў з незадавальненнем, таму што яна нагадвала мне пра сваю сувыхавацельніцу беднасць... Зараз жа, бачачы як яна вярнула здароўе нашаму кіраўніку горада, я не буду аддаваць*

---

[500] Ліст 147 выдання Гарнье.

[501] Ліст 169 выдання Гарнье.

[502] Ліст 186 выдання Гарнье.

*перавагу перад ёй не толькі Гамераву лотасу, але і той амбросіі, якая, калі і існавала некалі, сілкавала насельнікаў Алімпа*».

Але ж гэта, чытач, жах! Праваслаўны сьвяты выказваецца пра паганскі Алімп цалкам без выяўлення сваёй агіды. Такі ліст не мог быць складзены пазьней ад яго імя, ён мог быць толькі знойдзеным ў нейкім манастэрыёне пасьля сярэдневечча і прыпісаны «Вялікаму Цару».

Маецца ў «Вялікага Цара» ліст і пра сваё здароўе[503], адрасаваны лекару Мялецію і дапасуемы да 375 года (за тры гады да яго сьмерці). Ён цікавы тым, што згадвае пра суровую зіму і пра пералёт жураўлёў, што дае магчымасць праверыць месца яго складання, таму што сумнеўна, каб жураўлі ляцелі на зіму із Малой Азіі ці праз яе.

«*Мне немагчыма пазбегнуць непрыемнасьцей зімы, як робяць жураўлі, хаця наконт прадбачання будучыні я, магчыма, не горш жураўля. А што да волі перамяшчэння на працягу майго жыцця, то мне так жа далёка да гэтых птушак, як і да здольнасьці лётаць*.

*Спачатку мяне стрымлівалі клопаты па побытавых справах, потым безперапынныя і моцныя ліхаманкі так змардавалі маё цела, што я здаюся сабе зараз нечым такім, што горш мяне самога. Прыпадкі чатырохдзённай ліхаманкі больш 20 разоў паўтаралі сваё кола, і зараз, відаць вызваліўшыся ад іх, я дайшоў да такой знямогі, што не адрозніваюся ў гэтым дачыненні ад павуціны. Якім бы то ні было шлях для мяне непеадольны, кожны подых ветру для мяне больш небяспечны, чым моцнае хваляванне для плывучых. Мне патрэбна зачыніцца ў сядзібе і чакаць вясны, калі не знемагуся ад хваробы, укараніўшайся ў маіх вантробах*».

Але гэта пісаў хутчэй усяго нехта із больш позніх клерыкалаў...

У трэццім лісьце да Кандыдыяна аўтар параўноўвае яго з Дэмасфенам, у чацьвёртым згадвае пра Дыягена і Клеанфаі г.д.

Большая частка лістоў, існуючых зараз ад імя заснавальніка праваслаўнай літургіі, лепш усяго характэрызаваць як прыбраныя, таму што іхны склад сапраўды прыбраны. Вось хаця б ліст да маці яго вучня Дыянісія, у якім ён запрашае яе да сябе, выправіўшы за гэтым да яе яе сына[504].

«*Існуе спосаб лавіць галубоў: робяць аднаго голуба ручным і, нацёршы яму крылы духмяным маслам, пускаюць лётаць на валю з чужымі галубамі. І водар гэтага масла мае наступствам тое, што ўвесь вольны статак робіцца набыткам таго, каму належыць ручны голуб, таму што і астатнія галубы пасяляюцца ў яго сядзібе*.

*Так і я, узяўшы ў цябе твайго сына Дыянісія, ранейшага Дыяміда, і ўлагодзіўшы крылы яго душы боскім духмяным маслам, пускаю яго да Тваёй Высокасталасьці, каб завабіць да мяне і цябе разам з ім у гняздо, якое ён звіў у мяне*».

У нататцы, дапасуемай «да часу валадарання Юльяна»[505], «Вялікі Цар» выказваецца пра межы чалавечага спазнання, у якім уяўляюць цікавасць заалагічныя ўяўленні аўтара.

«*Той хто хваліцца, што набыў веданне існага, павінен патлумачыць прыроду самай малой із бачных істот і паведаміць, напрыклад, якой з’яўляецца прырода мурашкі. Ці падтрымліваецца ў ім жыццё дыханнем і паветрам? Ці падзелена косткамі яго цела? Ці змацаваны яго суставы? Ці стрымліваецца становішча яго жылаў абалонкай мязаў і залоз? Ці распасьціраецца яго мазжачок па хрыбтовых пазванках ад верхняй часткі галавы да хваста? Ці надае ён рух і моц сваім часткам цела тканінай нярвовай плеўкі? Ці*

---

[503] Ліст 193 выдання Гарнье.
[504] Ліст 10 выдання Гарнье.
[505] Ліст 16 выдання Гарнье.

*існуе у яго пячонка і ў пячонцы жоўцевы пузыр? Ці мае ён ныркі, сэрца, б'ючыяся і кровазваротныя жылы* (артэрыі і вены, згодна з сучаснай тэрміналогіяй), *грудабрушную плеўку і іншае? Ці голы ён ці пакрыты валасамі* (?!), *аднакапытны* (?!!) *ці з падзеленымі ступнямі? Колькі ён часу жыве? Як мурашкі нараджаюцца адна ад адной, і ці доўга нараджаемая знаходзіцца ва ўлонні? Чаму не ўсе мурашкі пешаходы і не ўсё крылатыя*?

*Хто хваліцца ведамі існага, хай патлумачыць перш прыроду мурашкі, а потым ужо разважае пра магутнасць, перавышаючую які б то ні было розум! А калі не ахапіў ты сваім веданнем нават прыроду маленькай мурашкі, то як жа хвалішся, што спасьціг сваім розумам неспасьціжымую боскую магутнасць*?»

Вось, гэта ўжо сапраўдны апокрыф! Такія анатамічныя падрабязнасьці, асабліва пра дзеянне нерваў і пра кровазварот, наўрад ці існавалі ў старажытнасьці, нягледзячы на міф пра Клаўдыя Галена, бацьку ўсіх лекараў, «напісаўшага 500 твораў па медыцыне ў 20 тамах» у той час калі яшчэ не існавала паперы.

Асабліва кур'ёзнымі выглядаюць з нашага боку гледжання два лісты «Ад імя імператара Юльяна да Вялікага «Цара», таму што па ўсёй бачнасьці сам жа Юльян і быў «Вялікім Царом», а не нейкім манахам. Вось, – першы із іх.

*Юльян Цару (Васілю)*[506].

«*Ці не вайну абвяшчаеш»? – выказваецца прымаўка, – а я скажу табе лепш словамі старажытнай камедыі: «О, вястун залатых слоў!» Прыступі ж да справы, пакажыся, як магчыма хутчэй, прыязджай да нас. Ты сапраўдны сябар і прыйдзеш да сябра.*

*Амаль безперапынныя дзяржаўныя турботы з'яўляюцца цяжкімі толькі для тых, хто выконвае іх згодна з абавязкам, але не такімі яны з'яўляюцца для тых, якія прыкладаюць да іх старанне, умераныя, разважлівыя і наогул надзейныя ва ўсім.*

*Як я дазволю зрабіць сабе паслабленне, калі пры нядбайнасьці мне немагчыма будзе нават і адпачываць! Як я лічу, ты ж ужо пераканаўся па досьведзе, што мы жывём не адной прыдворнай крывадушнасьцю, дзякуючы якой той, хто нас хваліць, часам больш нас ненавідзіць, чым відавочны вораг. Калі мы нават і ганім за нешта адзін другога, мы не менш паважаем адзін аднаго, чым самыя лепшыя сябры.*

*Пакуль я не дапускаю сабе паслабленняў, я раблю важныя справы, а калі не раблю важных спраў і не стамляюся, то сплю спакойна. Ды і не сплю я не для аднаго сябе, а больш для ўсіх астатніх. За гэтыя словы я, магчыма, здамся табе выхвалякай, выказваючымся сварліва і легкадумна (таму што я ўзняў самога сябе, як Астыдамас!), аднак жа, як цябе пераканае твая праніклівасць, я гэта напісаў для ўразумення нашай будучыні, а не для стварэнні якой бы то ні было перашкоды.*

*Такім чынам, паспяшайся, так бы мовіць, карыстаючыся дзяржаўнай дарогай! Калі ж прабудзеш у нас колькі ты палічыш патрэбным, тады выправішся назад, задаволены ва ўсім, як належыць*».

А вось і яшчэ ліст, але ўжо ў некалькі іншым тоне.

*Юльян Цару (Васілю)*[507].

«*Ідучы да гэтага часу насустрач уласьцівай мне з дзіцячых гадоў пакоры і чалавекалюбству, я падначаліў сваёй уладзе ўсіх, жывучых пад сонцам. Да маіх ног прынесьлі падарункі ўсе варварскія плямёны ад Акіяна да мяжы. Зараз падначаліліся мне і сагадары, жывучыя на Дунаі, цудоўна складзеныя, выгляд якіх не падобен на чалавечы, але цалкам дзікі. Ды і вобласьці, якія прылягаюць да маёй імперыі, абяцаюць зрабіць тое ж самае.*

---

[506] Ліст 39 згодна са старым грэка-лацінскім выданнем Гарнье.

[507] Ліст 40 выдання Гарнье.

*Але не пра гэта я пачаў сваю гаворку. Мне патрэбна як мага хутчэй выпраўляцца ў Персію, каб знішчыць там Сапора, унука Дарыя, і зрабіць яго даннікам. Акрамя таго я павінен аддаць спусташэнню вобласць насельнікаў Індыі і Саракінаў* (!) *для таго, каб яны першымі пагадзіліся плаціць мне падаткі. Напэўна, ты не жадаеш маёй улады над імі, ты, часта паўтараўшы, што поўны набожнасьці і з уласьцівай табе безсаромнасьцю пашыраўшы паўсюль думку, што я няварты рымскай імперыі. Але ці не ты прызнаў у ва-мне ўнука магутнага Канстанцыя? Хаця я і даведаўся сёе-тое пра цябе, усё ж не адмаўляюся ад першапачатковага душэўнага размяшчэння да цябе, таму што я і ты, быўшы юнакамі, мелі паміж сабой шмат агульнага.*

*Зараз я са спакойнай і чыстай душой загадваю табе паслаць мне тысячу фунтаў золата, калі я буду праходзіць праз Цэзарэю, і буду трымаць свой дзяржаўны шлях, спяшаючыся як мага хутчэй на Пярсідзкую вайну. А калі ты гэтага не выканаеш, то я знішчу ўсю Цэзарэю, знішчу яе старажытныя ўпрыгожванні, аднаўлю там храмы і статуі для таго, каб усе былі пераканаsuccessны ў патрэбе пераносіць нораў рымскага імператара і не злаваліся.*

*Такім чынам, ты пашлеш да мяне бяспечна з адным із тваіх верных сваякоў згаданую колькасць золата, зважанага і адмеранага адпаведна з кампанскім злічэннем і запячатанага тваім пярсцёнкам. Скажу, нарэшце, тое, што табе належыць ведаць. Адносна тваіх правін я вырашыў, што не будзе для іх у мяне ласкі. Тое, што я прачытаў, я зразумеў і асудзіў*».

Ці не праўда, чытач, якая тут строгая самакрытыка, калі ўявіць, што гэта Юльян пісаў да самога сябе? А вось, і яго адказ на свой жа ліст да сябе.

*Цар (Васіль) Юльяну*[508].

«*Нязначнымі выглядаюць тваe справы, сучасны пястун лёсу! Сапраўды безсарамна тое, што ты распачаў супраць нас, ці, хутчэй, не супраць нас, а супраць самога сябе* (правільна!) *Я ж трапячу ад гневу, калі мне прыходзіць на думку, што ты апрануты ў пурпур і што тваю ганебную галаву ўпрыгожвае карона, якая, без набожнасьці, не ўзвялічвае цябе, а, наадварот, пляміць ганьбай». «О, ты, незвычайна высокі санам і празмерна вялікі учонасьцю! Пасьля таго як цябе завабілі юдэйскія дэманы – ворагі якой бы то ні было дабрачыннасьці і маральнасьці, ты пачаў думаць паверх якой бы то ні было ўчыннасьці і маральнасьці, ты пачаў думаць не толькі паверх якой бы то ні было чалавечай прыродай, але нават узносіцца галавой да самага бога, і наносіць крыўды царкве – маці і карміцельцы ўсіх! О, ты, загадваючы мне, самаму нікчэмнаму чалавеку, каб я выправіў табе тысячу фунтаў золата! Не вага золата збянтэжыла маю душу, хаця б яна і была у шмат разоў большай. Я разліваю горкія слёзы з нагоды тваёй такой хуткай пагібелі! Я абдумваю сваю і тваю дзейнасць пры вывучэнні лепшых месцаў сьвятога пісання! Мы ж абодва разгортвалі сьвятыя і наданыя богам пісьмёны, і тады ты нічога не пярэчыў. Зараз жа ты зрабіўся непрыстойным, аточаны як умацаваннем імпэтам сваёй душы. Трэццяга дня ты даведаўся ад нас, святлейшы, што ў нас няма прагнасьці да набыцця багаццяў, і, аднак жа, ты просіш у мяне тысячу фунтаў золата! Ці пажадаеш пашкадаваць нас, святлейшы? Нас, якія валодаюць такім нешматлікім, чаго недастаткова, калі б мы пажадалі сёння паесьці? Падае ў нас мастацтва кухараў і не дасягае да крыві іхны жывёльны нож. Лепшая наша ежа, да якой мы звяртаемся, гэта лісьце травы з самым цьвёрдым хлебам і пракіслым вінам, каб нашы прыціхшыя пачуцці не павярнуліся да дзівацтва з нагоды пражэрлівасьці страўніка.*

*Шаноўны твой трыбун і сумленны выканавец тваіх даручэнняў, Лаузус, паведаміў мне, што да тваёй светласьці прыступіла нейкая жанчына, сын якой быў атручаны, і што вамі было цьвёрда вырашана, каб атрутнікам больш не існаваць. Калі ж яны з'явяцца – пакараць іх сьмерцю. Пакінуць толькі тых, якія будуць змагацца са звярамі. Тое, што вамі было вырашана, здаецца мне дзіўным. Вядома ж, смешна, калі ты*

[508] Ліст 41 выдання Гарнье.

*спрабуеш пакуты ад вялікіх ран лекаваць малымі сродкамі. Да той пары, пакуль ты ўчыняеш у дачыненні да бога несправядлівасьці, ты дарэмна клапоцішся пра ўдоў і сірот. Першае неразумна і небяспечна, другое – чалавечна і літасьціва. Цяжка нам, якія першымі выказваюць праўду імператарам. Але яшчэ цяжэй будзе для цябе трымаць адказ у бога. Ніякага ж пасярэдніка не будзе паміж богам і людзьмі. Тое, што ты прачытаў, ты не зразумеў, таму што калі б зразумеў, то, вядома, не асудзіў бы».*

Для чаго, чытач, было прыдумана гэтае смешнае ліставанне? Ці не для таго, каб спыніць першапачатковыя чуткі, што Юльян і «Вялікі цар» – адна і тая ж асоба? Хутчэй усяго – так. А фальшывасць абодвух лістоў даводзіцца і тым, што ў першым лісьце згадваюцца сарацыны, назва якую мелі сярэднявечныя агаране. Але асабліва цікавым з нашага боку гледжання з'яўляецца ліст, пазначаны №26 у выданні Гарнье і датаваны 368 годам, пад час якога, адпаведна з нашымі вылічэннямі адбылося слупаванне Вялікага Цара перад глыбокім месяцовым зацьменнем ноччу ад чацьвярга на пятніцу 21 сакавіка 368 года пры суправаджаўшым яго, згодна з евангеллямі, землятрусе. Перадусім тут звяртае на сябе ўвагу відавочна, наўмыснае перакручванне загалоўка. Яно надпісана: **Да Кесарыя брата Рыгора Багаслова.**

Само сабой зразумела, што аўтар гэтага ліста не мог так звяртацца да «Кесарыя». Што б вы сказалі, чытач, калі б нехта із вашых знаёмых выправіў вам ліст з пазначэннем вас як брата вашага брата ці сястры? Ці рабілі вы самі нешта падобнае калі-небудзь? І ці чулі вы калі-небудзь, каб нехта із вашых знаёмых рабіў нешта падобнае, акрамя хіба аперэткі «Прыгожая Алена», дзе цар Менелай, рэкамендуючы сябе гледачам, спявае: «Я – цар Менелай, чалавек царыцы, слаўны, слаўны Менелай»? Пад час старажытнасьці, калі лісты пасылаліся выключна з аказіямі, фамільным пазначэннем іхнай ветлівасьці заўсёды было імя бацькі, а не брата ці сястры. І мы бачым, што ні ў адным із 359 лістоў, прыведзеных у зборы Гарнье, ад «Вялікага Цара» і да яго ад іншых, не існуе ніводнага адрасаванага такім чынам. Ужо адна гэтая акалічнасць сведчыць, што загаловак ліста пазначаны пісаўшым тэндэнцыйна, каб адкінуць нейкую іншую думку, існаваўшую раней адносна прызначэння гэтага ліста.

Нават жа ў лісьце да «Юльяна»[509], які можна палічыць за адрасаваны таму ж імператару Юльяну, як і № 41, не прыведзена ніякага яго далейшага вызначэння па бацьку ці па маці.

Гэта азначае, што і тут першапачатковы загаловак яшчэ патрэбна вызначыць. Кесар з'яўляецца словам адаптаваным грэкамі із жыдоўскай гаворкі арабскай мовы і па-жыдоўску яно азначае Моцны, а пры пераходзе на грэцкую мову атрымала тое ж самае значэнне, што і Васіль у першапачатковай грэцкай мове, г.азн. абодва словы азначаюць Цар. А Кесарый па-жыдоўску азначае Боскі Цар. Адсюль няцяжка зрабіць выснову, што дасьледуемы зараз намі ліст быў адрасаваны самому «Вялікаму Цару» (Васілю Вялікаму), і перакладзены на грэцкую мову з жыдоўскай.

А ў такім выпадку ліст ад імя «Вялікага Цара» (пад №32) да магістрата Сафронія, дапасуецца да 369 года, у якім паведамляецца, што Кесарый (г.азн. Боскі Цар), паміраючы каля 368 года, выказваўся, як Хрыстос: «жадаю, каб увесь мой набытак дастаўся немаёмасным», напісанЫ не «Вялікім Царам», а яго братам, не верыўшым, што ён ажыў.

Падобныя падваенні, патраенні і нават пацьвярэнні старажытных славутасьцей, атрымаўшых некалькі мянушак, пастаянныя ў старажытнай гісторыі,

---

[509] Ліст 293 выдання Гарнье.

і мы пабачым далей, што не толькі людзі, але нават кіт падвоіўся ў старажытнай заалогіі на двух жывёл – кіта і балену – таму, што ў франкаў ён меў назву **Baleine**, а ў латынянаў **ceta**.

Гэта азначае, і 26-ы ліст, пра які я згадваў вышэй, адрасаваны хутчэй усяго самаму Вялікаму Цару і, магчыма, менавіта Рыгорам Багасловам. Мы ж ўжо ведаем, што ў зборы лістоў, выдадзеных Гарнье ў «Творах Васіля Вялікага», прыводзяцца лісты не толькі ад яго, але і да яго. І што ж мы тут знаходзім?

Вось гэты ліст цалкам:

«*Падзяка богу за тое, што ён* ***паказаў на табе свае цуды і выратаваў цябе для бацькаўшчыны і блізкіх табе людзей ад такой сьмерці****. Наш абавязак не выявіцца няўдзячнымі і нявартымі такога вялікага дабрадзейства, а адпаведна з нашымі магчымасьцямі сваімі абвясьціць незвычайныя справы бога, уславіць яго чалавекалюбства, выпрабаванае намі на досьведзе, і здзейсніць яму падзяку не толькі словам, але і быць на справе такімі, якія мы зрабіліся зараз, робячы выснову грунтуючыся на цудах, здзейсніўшыхся на табе. Таму молім усіх яшчэ больш папрацаваць богу, павялічваючы ў сабе безперастанна жах перад ім і ўдасканальваючыся ў адданасьці, каб паказаць сябе разумнымі ўладкавальнікамі свайго жыцця, для якога зберагла нас мілата бога. Таму што калі мы ўсе маем наказ аддаць сябе богу,* ***як жывыя ад памёршых****, то тым больш абавязаны да гэтага тыя, якія* ***адноўлены ад брамы сьмерці****?*»

Апошнія словы знаходзяцца і ў 9-м псалме (IX, 14), але гэта яшчэ не вырашае пытання, хто ў каго іх узяў. А ўвесь змест ліста так адпавядае таму, што згодна з нашымі вылічэннямі адбылося з «евангельскім хрыстом» 21 сакавіка 368 года, што не зблізіць яго з гэтымі падзеямі немагчыма.

У загалоўку ліста паказваецца, што ён напісаны «з нагоды **землятрусу**, разбурыўшага ў 368-м годзе прадмесьце Канстантынопаля Нікею», і гэта цалкам адпавядае евангельскаму апісанню землятруса пад час слупавання «Ратавальніка», калі «завеса завагаўшагася храма разадралася на двое» і «расчыніўшыяся магільні выпусьцілі сваіх мерцвякоў, з’явіўшыхся шмат каму».

Але гэтым справа яшчэ не заканчваецца.

Пра вялікае бедства наступнага года – голад – паведамляецца ў лісьце «Вялікага Цара» да Самасацкага біскупа «Яўсевія»[510].

«*У нас яшчэ не мінуў голад, і мне патрэбна заставацца ў горадзе для забеспячэння маючых патрэбу і для спачування бядуючым. Вось чаму я і не мог выступіць зараз у шлях разам з дасташаноўнейшым братам Усявышнім Боскім* (Іпаціем), *якога магу назваць братам не толькі ў якасьці ўхвалы, але і згодна з прыродным сваяцтвам паміж намі*».

Чытач бачыць сам, што як бы мы ні глядзелі на гэты ліст і на папярэднічаўшы яму, у нас 26-ы, але факт землятрусу ў 368 годзе ў Цар-Горадзе і ў Малой Азіі тут усталёўваецца даволі добра. І гэта быў, вядома, той землятрус, які згодна з асобным паведамленнем у «Жыціях Сьвятых» спыніў імператара Валента ў яго рашэнні пакараць сьмерцю «Вялікага Цара» ў 368 годзе. І гэтая ж акалічнасць робіць вельмі верагодным, што і 26-ы ліст быў адрасаваны не «Кесарыю, брату біскупа Рыгора Багаслова», а «Васілю (таксама «Цару») і брату біскупа Рыгора». Пераіначванне адраса было зроблена, можна думаць, сьвядома, ужо пасьля таго як «евангельскі Хрыстос» быў аддзелены ад свайго двайніка – чэцці-мінейскага «Вялікага Цара».

Пры такім словаўтварэнні і евангельскі Ерусалім хутчэй усяго атаясамляецца з Кесарыяй, дзе жыў Вялікі Цар, а сама Кесарыя блытаецца з Цар-Горадам, таму

[510] Ліст 30 выдання Гарнье.

што Кесарыя і азначае Горад Кесара, адкуль нямецкае слова Кайзер, і лацінскае цэзар, скарочанае рускімі ў «цар».

Я прывёў тут некалькі лістоў Вялікага Цара, якія мне здаюцца найбольш годнымі ўвагі, накшталт цытуючага Гамера ці разважаючага пра мурашак. Ды і із астатніх лістоў, прыпісваемых «Вялікаму цару», большасць выяўляе прыкметы ідэйнага ці дакументальнага анахранізму.

Да такіх належаць утрымліваючыя кляштарскія статуты, і ўсе цытуючыя біблейскія прароцтвы, якія, згодна з маімі вылічэннямі, узніклі нашмат пазьней IV стагоддзя, а таксама і ўсе ўтрымліваючыя выняткі із лістоў апостала Паўла і із евангелляў.

## II. – Размовы «Вялікага Цара» пра сьветабуд.

Самым цікавым і, можна сказаць, асноўным творам, напісаным ад імя «Вялікага Цара» (ён жа цэзар Юльян Адрачэнец, евангельскі Хрыстос), лічацца яго размовы «На шэсць дзён тварэння», г.азн. пра першую частку кнігі «Быццё».

Але іхны склад увесь дыхае вельмі позьнім сярэднявеччам, і ў іх увесь час спасылаюцца на лісты Паўла і на псалмы, цалкам так жа, як і сучасныя царкоўныя служкі кладуць гэтыя творы ў грунт сваіх павучанняў.

«*Якое вуха будзе годна велічы паведамляемага мной зараз*? – пачынае аўтар сваю размову пра першы дзень тварэння[511] – *З якой падрыхтоўкай патрэбна прыступаць душы да слухання такіх пытанняў? Яна павінна быць чыстай ад цялесных захапленняў, не засмучанай побытавымі клопатамі, працавітай, даследуючай, цікавячайся ўсім із чаго толькі можна атрымаць разуменне пра бога, годнае яго*».

«*Напачатку стварыў Бог неба і зямлю». Дзівоснасць гэтай думкі скоўвае мае словы! Пра што паведамляць раней? Ад чаго пачынаць тлумачэнне? Ці выкрываць марнасць паганцаў? Ці ўзвялічваць праўдзівасць нашага вучэння*?»

Скажы сам, чытач, ці падобен мудрагелісты склад гэтага твора, на склад сярэднявечных пісьменнікаў? Што тут агульнага? А вось, і далей, тыповыя ідэі позьнага среднявечча ці нават Эпохі Адраджэння!

«*Грэцкія мудрацы шмат разважалі пра прыроду і ніводнае із іхных вучэнняў не засталося цьвёрдым. Наступныя вучэнні заўсёды аспрэчвалі папярэднічаўшыя ім... Адны падмурак усіх рэчаў прыпісвалі стыхіям сьвету, другія ўяўлялі сабе* ***, што прыроду бачных рэчаў складаюць атамы, г.азн. непадзельныя целы****, а таксама цяжар і сітаватасць; яны лічылі, што зараджэнне і разбурэнне складаных цел адбываецца, калі непадзельныя целы ўзаемна сыходзяцца, і разыходзяцца, а ў целах, існуючых даўжэй за іншыя,* ***падстава іхнага працяглага існавання складаецца ў больш моцным счапленні атамаў****...»*

«*Па-праўдзе ткуць павуціну тыя, якія пішуць гэта* (нечакана працягвае аўтар, паведаміўшы сучасныя нам хімічныя ўяўленні і карыстаючыся складам прапаведнікаў XIX стагоддзя), *якія ўяўляюць такія дробныя і слабыя пачаткі неба, зямлі і мора! Яны не ўмелі сказаць:* ***«спачатку стварыў Бог неба і зямлю****»...*

«*Да якога заканчэння прыводзяць нас геаметрыя, арыфметычныя спосабы дасьледавання аб'ёмаў і славутая астраномія, гэтая шматапякаючая мітусьня, калі вывучаўшыя такія вучэнні дайшлі да высновы, што бачны намі свет не мае пачатку і сувечны стваральніку ўсяго – богу?...» «Але яны, памераўшыя адлегласьці зорак, апісаўшыя заўсёды бачныя паўночныя зоркі, а таксама і зоркі каля паўднёвага полюса, бачныя толькі жывучым там* (зноў пасьля-магеланаўскія ўяўленні!), *падзяліўшыя на тысячы частак як паўночную шырату, так і задыякальнае кола* (экліптыку), *з дакладнасьцю назіраўшыя вяртанне планет, іхныя стаянні, схіленні і агульны рух да*

[511] Размова I.

*ранейшых месцаў, а таксама перыяд, за час якога кожная із планет здзяйсняе сваё вярчэнне, – не знайшлі яны толькі спосабу зразумець бога, стваральніка сусьвету і справядлівага суддзю*!»

«***Напачатку стварыў бог неба і зямлю***». *Існавала, напэўна, нешта і раней гэтага сьвету, але яно, хаця і спасьцігаема для нашага разумення, не ўключана ў апавяданне, як неадпавядаючае здольнасьцям немаўлят розумам. Гэта быў нейкі стан, прыстойны для перадсусьветных магутнасьцей, перасягаючы час, вечны. У ім та стваральнік і падстава ўсяго існуючага і здзейсніў свае стварэнні*.

«***Напачатку стварыў бог неба і зямлю***». *Але пачатак з'яўляецца нечым не працяглым. Пачатак шляху яшчэ не шлях, і пачатак сядзібы яшчэ не сядзіба. Так і пачатак часу яшчэ не час... Прыдумляць пачатак для пачатку смешна, і хто пачатак дзеліць на дзьве часткі, той із аднаго стварае два пачаткі і створыць такім спосабам бясконцую колькасць пачаткаў. У якасьці пазначэння гэтага старажытныя (?!) тлумачальнікі сказалі: «імгненна стварыў бог неба і зямлю», г.азн. не на працягу нейкага часу*».

(Пазначым, што ў Бібліі нешта падобнае на гэта існуе толькі ў перакладзе Аквілы[512]).

«***Напачатку стварыў бог неба і зямлю***». *Дзвюма крайнасьцямі пазначана тут сутнасць сусьвету... Але ўсё знаходзіцца ва ўсім. І ў зямлі знойдзеш ты і ваду, і паветра, і полымя, і жалеза, якое вядзе пачатак із зямлі, пры ўдарах блішчачае невычарпаемым полымем. Годна здзіўлення, якім чынам існуе не шкодзячае ў целах полымя, а будучы вызвалена із іх вонкі, робіцца вынішчаючым для целаў, якія захоўваюць яго ў сабе. Адносна таго, што ў зямлі існуе і вадзяная сутнасць, даводзяць капальнікі студняў, а пра змешчаную ў ёй паветраную сутнасць сведчаць выпарэнні, выходзячыя із вільготнай і нагрэтай сонцам зямлі*.

*Адносна ж сутнасьці неба дастаткова сказана ў Ісаі славамі: «Зацьвердзіў ён неба, як дым* (Іс., LI, 6).

«*Я раю табе не дашуквацца, на чым ляжыць зямля, таму што думка прыйдзе ў кружэнне ад таго, што розум не знойдзе тут ніякага не выклікаючага сумневаў лімітаванага падмурку*»... *«А таму і пытаючым нас, на што абапіраецца вялізны і нічым не падтрымліваемы груз зямлі, – патрэбна адказаць: «у руцэ боскай канцы зямлі* (Іс., ХС, 1)». *Гэтая думка самая бяспечная для нас, а для слухаючых карысная.*

«*Дарэчы, некаторыя прыродазнаўцы дасьціпна даводзяць,* – дадае аўтар, – *што зямля знаходзіцца ў стане нерухомасьці дзякуючы таму, што заняла сярэдняе месца ў сусьвеце, і атачаючая яе паўсюдная роўнасць робіць цалкам немагчымымі яе рухі куды б там ні было. Усе ж цяжары з краёў неабходна накіроўваюцца да сярэдзіны, а таму і словам* ***ніз*** *пазначаецца* ***сярэдзіна***. *Пагэтаму не здзіўляйся, што зямля нікуды не падае із сярэдзіны сусьвету*».

*Тое ж самае можна сказаць і пра неба.*

«*Адны мудрацы, як Платон, сцвярджалі, што яно складаецца із чатырох стыхій: зямлі, вады, полымя і паветра, а іншыя, як Арыстоцель, да складу неба дадалі пятае целавае рэчыва, нейкае эфірнае цела, якое не рухаецца ні ўгару, ні ўніз, але круціцца колападобна* (гэта ўжо віхуры Дэкарта!). *Але, пакінуўшы філосафам аспрэчваць адзін аднаго, мы лепш проста ўславім найлепшага мастака, вельмі мудра і спрактыкавана стварыўшага сусьвет... і выманім належную ўхвалу стваральніку, якому гонар і слава, і дзяржава на вякі! Амэн*».

Такой з'яўляецца сутнасць першай размовы, із якой я выпісаў у гэтых нешматлікіх цытатах усё істотнае, таму што яны выдатна абмалёўваюць сярэднявечнае ўяўленне пра неба і пра зямлю. Мы бачым, што аўтар тут ужо ведае

---

[512] У яго чытаем: Έ Κεφαλαίω Έποιησε ό θεός τον όνρανόν καῆ τῆν γῆν.

пра шарападобнасць зямлі, але толькі не адважваецца сказаць гэтага, баючыся разысьціся з Бібліяй.

У другой размове, дапасуючайся да заканчэння таго ж самага «Першага дня стварэння», аўтар галоўным чынам спрабуе патлумачыць стварэнне богам сьвятла раней стварэння Сонца.

«*Калі пад час першага дня тварэння бог стварыў сьвятло, то раней, – кажуць філосафы, – існаваў змрок, які, такім чынам, не створаны богам, а суіснаваў з ім, як працілеглы пачатак, таму што бог ёсць сьвятло, згодна з евангеллем Яна*».

Ад такой відавочна неаспрэчваемай высновы аўтару гэтых тлумачэнняў давялося, відаць, так туга, што яму нічога не засталося, як скарыстацца выйсьцем із цяжкага становішча, падобным на выйсьце звычайнага мітынговага прамоўцы, не з дапамогай спакойных развашанняў, а з дапамогай палкасьці сваіх пачуццяў.

«*О, якія ваўкі,* – усклікае ён, – *кідаліся на чалавечыя душы, вядучы свой пачатак ад гэтага кароткага слова – змрок! Ці не адсюль Маркіёны? Ці не адсюль Валентыніяны? Ці не адсюль агідная ерась маніхеяў, якую калі хто і назаве гніллю ў царкве, не зграшыць супраць прыстойнасьці! Для чаго, чалавек, бяжыш ты ўдалечыню ад праўды, прыдумляючы падставу да ўласнай пагібелі? Сказана: «зямля была нябачнай». Якая ж таму нагода? Тая, што зямля мела* ***над сабой*** *распасьцёртую бездань. Што ж гэта за бездань? Гэта шмат вады, у якой немагчыма дасягнуць ніжэйшай мяжы. Чаму ж ніводная частка зямлі не паказвалася ў водах? Таму што разлітае над вадой паветра было яшчэ не празрыстае, а цёмнае». «Такім чынам, змрок не нейкая першапачатковая хітрая магутнасць, супрацьпастаўляемая дабру. Гэта перайначванне ў паветры, выробленае адсутнасьцю ў ім сьвятла.*

*І бог вымавіў: «ды будзе сьвятло!» Гэты наказ стварыў прыроду сьвятла, разагнаў змрок* (г.зн. зрабіў паветра празрыстым для вока), *рассеяў маркоту, развесяліў свет, усяму надаў раптам прывабны і прыемны выгляд. Адчынілася неба, заслоненае да таго часу цемрай. Зрабілася бачным яго хараство, пра якое і зараз сведчаць позіркі. Асьвяцілася паветра, больш правільна сказаць, рассыцілася па ўсяму аб'ёму сьвятло... Такой з'яўляецца прырода паветра: яна тонкая і празрыстая, і праходзячае праз яго сьвятло не мае патрэбы ні ў якім працягненні часу, і не ў часе* ***пераносіць паветра наш позірк да бачымых прадметаў***». *Пасьля стварэння сонца, дзень з'яўляецца асьвятленнем паветра сонцам, зіхацячым у надземным яго паўшар'і, а ноч з'яўляецца прыкрыццём зямлі яго ценем. Але тады* (да стварэння сонца) *першабытнае сьвятло то разлівалася па паветру, то зноў сціскалася, вырабляючы гэтым дзень і ноч, а стан сусьвету, папярэднічаўшага стварэнню сьвятла, быў не ноч, а цемра*».

У размове пра другі дзень тварэння аўтар закранае і структуру неба, адпаведна з вучэннем Пталямея.

«*Існуюць*, – паведамляе ён, – *паміж грэцкімі мудрацамі і такія, якія сцвярджаюць, што нябёс і сусьветаў незлічоная шматлікасць». «Але мы пасьмяёмся над іхнай намаляванай мудрасьцю і навуковым балбатаннем адносна апошняй думкі. Такім смешным выглядае іхнае разуменне пра немагчымае! Але мы далёкія ад думкі не верыць другому небу і шукаем нават трэццяе, якое бачыў набожны Павел* (II Карынфянам, XII, 2). *Псалом, паведамляючы пра нябёсы нябёс* (Пс., CXLVIII, 4), *а не Пталямей... надаў мне думку і пра большую колькасць. І гэта нікольки не больш дзіўна за тыя сем колаў, па якіх, як амаль усе аднагалосна прызнаюць, верцяцца сем планет і якія прыстасаваны адзін да аднаго на падабенства абручоў, укладзеных адзін у другі* (Іезек, І*), і якія, рухаючыся адваротна сусьвету, выдаюць нейкі гарманічны гук, перавышаючы сваёй прыемнасьцю якія б то ні было спевы*».

«*Мы сцвярджаем толькі, што другое неба адрозніваецца ад створанага напачатку, яно мае больш шчыльную (чым дым) сутнасць і служыць у сусьвеце для*

*адмысловага ўжывання.* «*І адзяліў бог ваду пад цьвердзю ад вады над цьвердзю*» («Быццё»,!, 6, 7), *– паведамляе Майсей пра другі дзень тварэння*».

«*Нас пытаюць: калі цела цьвердзі нябеснай, як сведчыць зрок, шарападобнае, то як магчыма ўтрымацца на ёй вадзе? – Што адказаць вам на гэта? – Толькі тое, што калі із унутранага боку мы бачым нешта купалападобнае, то гэта яшчэ не азначае, што і яго вонкавая паверхня такая ж. Мы бачым знізу ў лазнях каменныя скляпенні, а ўгары над імі яны часта маюць роўную паверхню*».

Пераходзячы потым да зямной паверхні, аўтар апісвае яе большай часткай непасрэдна грунтуючыся на «Метэаралогіі Арыстоцеля» (кн. І,13).

«*Ад усходу цячэ рака Інд, якую апісальнікі зямной акружнасьці прызнаюць за самы вялікім струменем із усіх рачных вод. Адтуль жа, але бліжэй, цякуць Бекр* (Урал?), *Касп* (Волга) *і Аракс, аддзяліўшыся ад якога Танаіс* (Дон) *зліваецца з Меатыйскім возерам* (Аральскае мора). *Акрамя іх Фазіс* (Рыён), *выцякаючы із Каўказскіх гор, і шмат іншых рэк да поўначы бягуць ў Эўксінскі Понт* (Чорнае мора). *На Захадзе із Пірынейскіх гор выходзіць Тартэс* (Гвадалквівір) *і Істр* (Дунай, аб’яднаны з Днястрам), *з якіх першы зліваецца з морам за Слупамі* (Гібралтарам), *а апошні, працякаючы праз Яўропу,– бяжыць у Эўксінскі Понт* (Чорнае мора).

*Дзеля чаго пералічваць іншыя рэкі, народжаныя Рыфейскімі гарамі* (Альпамі), *размешчанымі за ўнутранай Скіфіяй? У ліку іх Радон* (Рона) *і шмат іншых, нават суднаходных, якія, прайшоўшы краіны заходніх галаў, кельтаў і суседніх з імі варвараў, зліваюцца з Заходнім Морам. Некаторыя цякуць з поўдня з верхніх краін праз Эфіёпію, адны зліваюцца з нашым морам, іншыя з морам, невядомым мараходам. Такімі з’яўляюцца Агон, Нізіс Хрэметыс, і звыш таго Ніл, які не падобны нават на раку, калі падобна мору запаўняе Ягіпет. Так, уся частка населенай намі зямлі ахінаецца вадой». «Паветраная ж вада ўтвараецца парам, які даюць ад сябе рэкі, крыніцы, балоты, азёры і ўсе моры*».

«***Ды сабярэцца вада ў адно месца***» – псеўда тлумачыць аўтар у сваёй размове пра трэцці дзень тварэння[513] утварэнне Міжземнага мора і здзіўляецца праўдзівасьці гэтага біблейскага выказвання. – «*Што б інакш перашкодзіла Чырвонаму мору запоўніць сабой увесь Ягіпет, які ў параўнанні з ім утварае западзіну? А што Ягіпет ніжэй Чырвонага мора, у гэтым пераканаліся ўзнамерыўшыяся злучыць праз яго паміж сабой Чырвонае мора з Ягіпецкім* (Міжземным). *Згодна з гэтай нагодай адмовіўся ад свайго пачынання і ягіпцянін Сезострыс, пачаўшы справу, і Дарый, меўшы жаданне яе закончыць*». «*Яшчэ не існавала тады,* – заканчвае ён, *– мора за Гадэсам і таго вялікага і жахлівага для мараплаўцаў мора, якое абмывае Брытанскую выспу і зямлю Заходніх Іберыйцаў*» (партугальцаў). «*Усе моры зараз утвараюць адно,* ***як паведамляюць падарожнічаўшыя вакол зямлі*** (!)».

Хто ж гэта падарожнічаў вакол зямлі марамі ў IV стагоддзі!? – запытаю я вас, чытач. Аднаго гэтага месца дастаткова для высновы пра вельмі позняе паходжанне такога апокрыфа.

У гутарцы на другую частку «Трэццяга дня тварэння»[514], калі, згодна з кнігай «Быццё», былі створаны расьліны, аўтар спачатку ўхваляе іхныя медычныя ўласцівасьці:

«*Мандрагорай лекары наводзяць сон, опіумам супакойваюць жорсткія болі ў целе, балігаловам – лютасць захапленняў, чамярыцай выкараняюць шмат якія застарэлыя хваробы. Здзіўляешся падзелу некаторых расьлін на мужчынскія і жаночыя асобнікі. І ты можаш бачыць, як фінікавае дрэва жаночай стаці, – згодна са сведчаннямі садоўнікаў, – апускае свае галіны, як быццам бы, узбуджана пажадлівасьцю і жадаючы мужчынскіх*

[513] Гутарка 4-я

[514] Гутарка 5-я.

*абдымкаў. Садоўнікі кідаюць на гэтыя галіны нешта із мужчынскіх дрэваў, маючае ў іх назву фэнес* (кветкавы пыл), *і вось жаночыя дрэвы зноў выпрамляюць свае галінкі і іхныя шматлісьцевыя вяршыні набываюць ранейшы выгляд. Тое ж самае паведамляюць і пра смакоўніцу*», – дапаўняе аўтар, выяўляючы гэтым, што сам ён жыў у месцах, дзе смакоўніца не расьце. – «*Колькі існуе адрозненняў у кветках*!» – усклікае ён далей. – «*Ты можаш бачыць на сенажацях, як тая ж самая вада ў адной кветцы румяная, у другой барвовая, у той блакітная, а ў гэтай белая. І яшчэ больш адрозненняў яна выяўляе ў водарах. Але я бачу, што маё слова ад прагнага жадання ахапіць ўсё, перавышае меру, і калі я не накладу на яго повязей, то не хопіць у мяне і цэлага дня для выяўлення перад вамі вялікай мудрасьці, утоенай у самых малаважных прадметах*».

У гутарцы пра чацьвёрты дзень тварэння[515] аўтар тлумачыць паходжанне нябесных сьвяціл.

«*Як у гарадах*, – выказваецца ён, – *бяруць за руку і ўсюды водзяць не бываўшых у іх раней людзей, так і я павяду вас у патаемныя дзівы вялікага горада, у якім была наша старажытная бацькаўшчына і із якой прагнаў нас чалавеказабойца-дэман сваімі прынадамі*».

«*Не лічы сабе, што сьвятло месяца – запазычанае, таму што ён ушчарбае, набліжаючыся да сонца, і зноў падрастае аддаляючыся ад яго. Ён сам увесь час надаецца сьвятлом і выкідае яго із сябе, і гэта даводзіцца тым, што сонца, прыняўшы аднойчы сьвятло, і рассыціўшы яго ў сабе, не скідае яго больш*».

*Для чалавечага жыцця неабходны ўказанні сьвяціл, і калі нехта шукае не праз меру шмат у іхных знаках, то пры даўгачасовым назіранні знойдзе карысныя рэчы... Калі сонца атачаюць так званыя вянкі, гэта служыць прыкметай ці шматлікасьці павертранай вады, ці моцных вятроў, а пабочныя сонцы бываюць знакам нейкіх паветраных перамен. Калі трохдзённы месяц тонкі і чысты, гэта прадвесьціць яснае надвор'е, а калі ён з'яўляецца з тоўстымі рагамі і чырванаваты, то гэта пагражае шматлікасьцю вады із аблокаў і моцным паўднёвым ветрам.*

*Хто не ведае, колькі карыснага дастаўляецца такімі знакамі? Плывучы, прадбачачы небяспекі ад вятроў, мае магчымасць затрымаць каля прыстані сваю лодку... Землязробы, робячыя пасевы і дагляд за расьлінамі, могуць зрабіць выснову пра сваечасовасць той ці іншай справы... А знакам заканчэння сусьвету будзе, калі сонца ператворыцца ў кроў і месяц не дась свайго сьвятла* (Мацьвей, XIV, 29; Іаіл, II, 3).

*Але пераступаючыя гэтыя межы ператвараюць выслоўі Майсея «ды ператворацца сьвяцілы ў знакі»* («Быццё», I, 14), *у абарону вучэння пра дні нараджэння, і сцвярджаюць, што наша жыццё залежыць ад руху нябесных сьвяціл».* «*Яны падзялілі Задыякальнае кола на 12 частак, кожную дванаццатаю частку падзялілі на 30* (градусаў), *кожную 30-ю частку на 60* (кутковых хвілін ) *і кожную 60-ю на 60* (кутковых секунд)».

Чытач, які хаця б трохі знаёмы з астраноміяй, сам бачыць, што падзел экліптыкальнага кола на секунды не мог быць зроблены раней вынаходніцтва Галілеемківачовых гадзіннікаў. Нават і дугавыя хвіліны немагчыма пазначыць ніякімі гнамонамі без сучасных аптычных прылад, а не тое што секунды. У**сё гэтае месца – відавочны апокрыф пасля-галілееўскіх часоў**. Але будзем чытаць і далей.

«*Таму, хто мае намер вывесьці гараскоп, патрэбна з дакладнасьцю ведаць, не толькі ў якой із 12 задыякальных частак былі планеты падчас нараджэння чалавека, але і ў якой іхнай трыццатай долі і ў якой шасьцідзесятай долі сярод гэтых трыццатых долей і ў якой шасьцідзесятай долі сярод гэтых шасьцідзясятых долей. «Смешна выглядаюць тыя, якія працуюць над такім безсэнсоўным вучэннем!»*

[515] Гутарка 6-я.

*Народжаны пад сузор'ем Цяляці, – кажуць яны, – будзе церплівымі ў працах і рабалепнымі, як вол, носячы ярмо. Народжаны пад сузор'ем Скарпіёна будзе ўдачлівы, як гэтая жывёла. Народжаны пад сузор'ем Шаляў праўдзівы, як яны... Што можа быць больш смешным за гэта? Шалі і Цяля ж – толькі дванаццатыя часткі Задыякальнага кола. Як жа ты надаеш небу адметныя прыкметы, узятыя ад быдла, народзіўшагася на зямлі? Народжаны пад Авенам, па-вашаму, шчодры не таму, што такі нораў надае частка неба, але таму, што такой з'яўляецца ўласьцівасць авечкі. Як жа ты палохаеш нас праўдзівасьцю зорак, а даводзіш яе бляяннем авечак?»*



Мал. 152.
Рэшткі астралогіі ў астраноміі XIX стагоддзя, «Вялікі Цар» як Змеятрымальнік. (Із «Астраноміі» Фламарыёна.)



Мал. 153.
Рэшткі астралогіі ў астраноміі XIX стагоддзя. «Вялікі Цар» як Геркулес, забіваючы змея, схаваўшагася ў кветкавым кусьце. (Адтуль жа.)




Мал. 154.
Рэшткі астралогіі ў астраноміі XIX стагоддзя. Арыён-Быказмагар, першакрыніца міфаў пра Мітру (Із «Астраноміі» Фламарыёна.)




Мал. 155.
Рэшткі астралогіі ў астраноміі XIX стагоддзя. Знак Хрыста, сузор’е Авена, і анаграма Хрыста, сузор’е Рыбы (па-грэцку, ΙΧΘΥΣ,, г.азн. Езус Хрыстос Θау Іййое Сатэр = Езус Хрыстос, Боскі Сын Ратавальнік)

Чытач, хаця трохі знаёмы з гісторыяй астралогіі, зараз жа заўважыць, што гэта ўжо не ідэі IV стагоддзя, пад час якога і пасьля якога ў паганскіх і хрысьціянскіх пісьменнікаў непадзельна панавала астралогія (мал. 152-155), а ідэі Эпохі Адраджэння, калі сама хрысьціянская дактрына пачала ўжо слабець. Гэтыя тлумачэнні на «Шэсць дзён тварэння» пісаў не «Вялікі Цар», а нейкі іншы Васіль, якога патрэбна шукаць ніяк не раней XVI стагоддзя нашай эры. І гэта яшчэ больш

падмацоўваецца далейшымі месцамі разглядаемай часткі, дзе аўтар выказваецца пра верхняе і ніжняе паўшар’е зямлі, і лічыць яе не толькі шарападобнай, але і маленькай у параўнанні з сонцам і месяцам.

«*У якой бы частцы неба ні знаходзіліся сонца і месяц, яны адусюль із зямной паверхні ўяўляюцца людзям роўнымі, і гэта служыць відавочным доказам іхнай надзвычайнай велічыні* (і адпаведна вялізнай адлегласьці), *перад якой шырыня зямлі нічога не азначае і нічога не ў стане зрабіць для таго, каб яны здаліся меншымі ці большымі. Прадметы, далёка адстаячыя, мы бачым малымі, але чым бліжэй падыходзім да іх, тым большай правільна можам усталяваць іхную велічыню. А ў дачыненні да сонца ніхто із нас не бліжэй і ніхто не далей. Усім насельнікам зямлі яно ўяўляецца на роўнай адлегласьці. І індусы, і брытанцы бачаць яго аднолькавым. Для жывучых на ўсходзе, яно не бывае меншым пры сваім заходжанні, і для жывуць на захадзе, яно не здаецца меншым, калі ўзыходзіць. Ты не падманвайся тым, што сонца для гледзячага ўяўляецца велічынёй роўнай лакцю. На вялікіх адлегласьцях велічыня бачных прадметаў звычайна памяншаецца, таму што магутнасць зроку як бы паглынаецца асяроддзем і толькі малай часткай датыкаецца да бачымых намі прадметаў». «Калі ты калі-небудзь глядзеў із вяршыні высокай гары на шырокую і нізкую раўніну, якімі ўяўляліся табе запрэжаныя валы? Якімі былі самі земляробы? Ці не здаваліся яны табе ў выглядзе мурашак*?»

«*Відавочным сведчаннем сонечнай вялізнасьці служыць для цябе і наступнае. З’явіўшаяся на гарызонце сонца ці нават толькі чакаемае, не паспее яно цалкам падняцца над зямлёю, як цемра ўжо знікла, зоркі патухлі і паветра, да таго часу згушчанае і сціснутае каля зямлі, радзее і робіцца больш рухомым*».

*«Але пры такой велічыні зямлі, як бы сонца было ў стане на працягу аднаго імгнення часу асвятліць яе ўсю, калі б пасылала прамяні не з вялізнага кола? І пра месяц ты ўяўляй сабе нешта падобнае сказанаму пра сонца. І яго цела вялікае і пасьля сонца самае светлае. Самы мудры стваральнік меў нейкую таемную нагоду для стварэння разнастайных перамен выглядаў месяца, бо сказана: вар’ят пераменлівы як месяц*» (Сірах, XXVII, 11).

«*Лічу, што месяцовыя перамены маюць не малы ўплыў на жыццё жывёл і расьлін. Калі разам з памяншэннем месяца яны робяцца тонкімі і худымі, то пры павелічэнні месяцы, яны зноў сыцеюць, таму што месяц надае ім нейкую вільготнасць, рассычаную з цеплынёй і пранікаючую ў нутро. Даводзяць так тыя, якія спяць на месяцовым сьвятле і ў якіх галаўныя пустэчы напаўняюцца ад яго залішняй вільгаццю. Нічога гэтага месяц не зболеў бы перамяніць разам са сваёй пераменай, калі б у ім, згодна са сведчаннем пісання, не было чагосьці асаблівага і перавышаючага адпаведна з магутнасьцю*».

«*Заходняе мора* (Атлантычны акіян) *схільны да прыліваў і адліваў, як быццам бы месяц адцягвае яго назад сваімі ўдыханнямі і гоніць сваімі выдыханнямі да адпаведнай вышыні... Таму мерай месяц не вокам, але розумам, які пры адкрыванні праўды значна больш праўдзівы чым вока. Паўсюдна пашырыліся смешныя байкі – трызненне п’яных старых, – быццам бы месяц, зрушаны са сваёй падставы нечымі чарадзействамі, падае зараз на зямлю. Якім чынам чарадзей зрушыць тое, што створана самім Усявышнім? Ды і дзе размесьціцца ён, паваліўшыся з неба*»?

У сёмай гутарцы аўтар ад імя «Вялікага Цара» выказваецца пра ўзнікненне пад час пятага дня тварэння жывёл. Над яго наіўным падзелам іх на роды і на віды вядома, сучасны заолаг пасьмяецца, але ўсё ж і гэтае месца дыхае прад-лінееўскім часам.

«*Дзе б ні была вада, у балотах ці ў багністых месцах, яна не застаецца бяздзейнай і не ўдзельнічаючай у размнажэнні стварэнняў, таму што няма сумневаў, што із вады ўзніклі жабы, мошкі і камары. Якая б то ні было вада спяшалася выканаць наказ стваральніка.*

*Хаця некаторыя із водных жывёл маюць ногі і здольны хадзіць – як цюлені, кракадылы, бегемоты, жабы і ракі – але ім больш уласьціва плаваць, чаму і сказана: ды змарнуе вада гадаў і душы жывых*.

«*Чаго не дададзена ў гэтым наказе стваральніка? Якая парода не закранута ў гэтых словах? Ці не дададзены сюды жывародзячыя, якімі з'яўляюцца цюлені, дэльфіны, гнюсы і падобныя ім храстковыя рыбы? Ці не дададзены сюды кідаючыя ікру, якімі з'яўляюцца амаль усе пароды цьвёрда-лускаватых рыб, забяспечаных і незабяспечаных пёрамі?.. У на ў грудзях маюцца лёгкія, напоўненыя пустэчамі і свідравінамі, і грудабрушная перагародка, якая дзякуючы пашырэнню грудзей прымае ў сябе паветра і праветрывае і астужае наш унутраны жар, а ў іх існуе пашырэнне і сцісканне жабраў, прымаючых і выпускаючых ваду замест дыхання». «Да аднаго роду належаць чэрапа-скураныя, напрыклад, ракавіны, марскія грабеньчыкі, смаўжы, верацёнкі і тысячы разнастайных вустрыц. Другі род складаюць цьвёрда-чарапныя, напрыклад, крабы, ракі і таму падобныя; да трэцяга роду – слізнякі, маючыя мяккае і губчатае цела, паліпы, каракацiцы і ім падобныя, паміж якімі таксама незлічоныя адрозненні, таму што цмокі, мурэны, вугры, якія водзяцца ў глеістых рэках і балотах, згодна са сваёй прыродай больш набліжаюцца да атрутных паўзуноў, чым да рыб». «Жывых дзяцей нараджаюць уюны і макрыцы, і наогул храстковыя жывёлы* (!), *а таксама кіты, дэльфіны і цюлені, якія, згодна са сведчаннямі, зноў хаваюць у сваім улоннінованароджаных дзяцей, калі іх нешта напалохае*».

«*Не магу прамаўчаць пра хітрасць паліпа, які кожны раз набывае колер каменя, да якога прымацоўваецца, дзякуючы чаму шмат якія рыбы без баязні набліжаюцца да яго, як да каменя і робяцца здабычай хітруна». «Кіты ведаюць прызначанае ім прыродай месцазнаходжанне і, заняўшы мора размешчанае па-за заселенымі краінамі, за якім ужо няма ніякай цьвёрдай зямлі і таму не суднаходнае, прыпадабняюцца сваёю велічынёй, як паведамляюць сведкі, самым вялікім гарам». «Такімі з'яўляюцца жывёлы ў Атлантычным моры, створаныя на жах нам. Але калі ты чуеш, што самая маленькая рыбка, прыліпушка, спыняе самыя вялікія караблі, нясучыяся на напоўненых ветразях пры добрым ветры і доўгі час трымае карабель нерухомым, як быццам бы ім пушчаны карані сярод мора, то ці не маеш ты на прыкладзе гэтай маленькай рыбкі доказу магутнасьці стваральніка?» «Жахлівымі з'яўляюцца рыбы-мячы, рыбы-пілы, рыбы-малаткі, акулы і* ***балены*** (!), *але не менш жахлівым з'яўляецца джала нават мёртвай рыбы-пілахвоста і жудаснай з'яўляецца рыба пінагор, нясучая у вадзе хуткую і непазбежную сьмерць. І гэтым стваральнік жадае прызвычаіць цябе да пільнасьці, каб ты не спадзяваўся на яго аднаго, але і сам пазбягаў прыносімай імі шкоды*».

Чытач маёй кнігі сам бачыць, што грэнландзкі кіт тут падвоіўся. Яго франкская назва **balaine** аддзялілася ў назву асобнай рыбы, ад лацінскага імя **ceta**. Чаму ж здзіўляцца, калі тое ж здараецца і з людзьмі, якія па сваёй славутасьці параўноўваліся з кітамі?

«*Чаму бог і птушак вырабіў із вады*? – пытаецца аўтар у другой гутарцы пра пяты ддзень стварэння[516] і адказвае, да незадавальнення сучаснага авіятара (які прызнае ў птушак цалкам іншы прынцып перамяшчэння, чым у рыб) і сучаснага заолага (аддзяляючага птушак цалкам у іншы клас ад рыб): «*Таму што як рыбы рассякаюць ваду дзякуючы рухам плаўнікоў і робяць павароты дзякуючы хвасту, так і ў лётаючых можна бачыць, што яны падобным жа чынам плаваюць па паветры на крылах*».

«*Некаторыя*, – працягвае ён, – ***ужо спрабавалі*** *стварыць сваю* ***класіфікацыю****, каб* ***грунтуючыся на неўжываемай да таго часу і новай назве, як па таўру, была магчымасць распазнаваць уласцівасьці кожнай пароды****. Адных лётаючых яны назвалі*

[516] Гутарка 8-я.

***разрэзістапёрымі**, якімі з'яўляюцца арлы, другіх **скура-крылымі**, якімі з'яўляюцца кажаны, трэціх **перапончатакрылымі**, якімі з'яўляюцца восы, некаторых **цьвердакрылымі**, якімі з'яўляюцца жукі, нараджаючыяся ў нейкіх мяшочках* (г.азн. у лялечках) *і, пасьля іхнага разрывання, лётаючыя вольна. Але для нас дастаткова ужываемага ў пісанні падзелу іх на чыстых і нячыстых* (г.азн. такіх, якіх можна есьці і якіх есьці немагчыма)».

Чытач бачыць, што прыведзеная тут класіфікацыя лятучых жывёл, калі і не прама лінееўская, то ва ўсякім разе яе пярэдадне.

«*Пчолы*, – працягвае аўтар, – *кожную справу пачынаюць адпаведна з загадам свайго цара* (а не царыцы, як зараз) *і яго ўрадаўца. І цар у іх не абіраецца адпаведна з колькасьцю галасоў* (бо неразважлівасць народа часта прызначала кіраўнікам горшага) *і не згодна з жэрабем атрымлівае ўладу* (таму што неразумная выпадковасць жэрабя нярэдка даручае ўладу самаму неразумнаму) *і не прызначаецца на царства грунтуючыся на радавой пераемнасьці* (таму што такія цары ад раскошы і падлізніцтва пад час дзяцінства часьцей іншых бываюць недасьведчанымі і не прывучанымі да якой бы там ні было ўчыннасьці). *Царом у іх робіцца той, які ад прыроды перавышае ўсіх веліччу і пакорнасьцю нораву*».

«*А калі нехта выкале вочы дзецям ластаўкі, то яна мае мастацтва лекаваць, дзякуючы якому вяртае зрок сваім дзецям*».

«*Існуе марская птушка, зімародак, якая ладкуе гняздо каля самога берага на пяску сярод зімы, калі ад частых і моцных вятроў мора выплёскваецца на сушу. Але вятры замаўкаюць, і хвалі не рухаюцца, пакуль на працягу сямі дзён гэтая птушка сядзіць на яйках, і яшчэ сямі дзён, пакуль падрастаюць яе птушаняты. Пра гэта ведаюць усе мараплаўцы, чаму і клічуць такія дні зімародкавымі*».

(Не цяжка бачыць, што нагоду да гэтага міфа далі сем альціёнічных дзён перад зімовым сонцастаяннем і столькі ж пасьля яго, калі зорка Альцыёна ў «Пляядах» ці «Качынае гняздо» кульмінуе апоўначы і бачна ад вечара да раніцы.)

«*Шмат якія пароды птушак не маюць патрэбы ў стасунках з самцамі для зачацця. Такімі з'яўляюцца коршакі, жывучыя нягледзячы на такае зачацце да ста гадоў, і гэта ты вазьмі на заўвагу, калі сустрэнеш кпячых над намі і пераконваючых, быццам бы немагчыма і несумяшчальна з прыродай нарадзіць дзяўчыне, захаваўшы пры гэтым сваё дзявоцтва*».

«*Нехапае мне дня, каб паведаміць вам пра паветраныя дзівы. Нас чакае суша і мае жаданне паказаць нам звяроў, гадаў у быдла*».

«***Ды народзіць земля жывую душу***», – пачынае аўтар сваю гутарку і пра шосты дзень тварэння[517] біблейскімі славамі. – «*І зямля не толькі выводзіць конікаў пад час дажджлівага перыяду і тысячы іншых птушак, носячыхся па паветру, із якіх вялікая частка, дзякуючы сваёй дробязнасьці, не мае наймення, але із сябе ж выводзіць мышэй і жаб*». «*Мы бачым, што вугры нараджаюцца няйнакш, як із ціны. Яны размнажаюцца не із яйка і не нейкім іншым спосабам, але набываюць сваё паходжанне із зямлі*».

«*Душа ўсіх не маючых здольнасьці размаўляць адна і тая ж, таму што ў іх існуе адна і тая ж прыкмета – адсутнасць словавымаўлення, але кожная жывёла вызначаецца рознымі ўласьцівасцямі: вол – стойкі, асёл – ленаваты, конь гарачы ў імкненні да іншай стаці, воўк не прыручаецца, лісіца хітрая, алень баязлівы, мурашка працавітая, сабака ўдзячная і памятае сяброўства, леў, як цар над не вымаўляючымі словы, адпаведна са сваёй прыроднай фанабэрыстасьцю, не выносіць сабе роўных і таму схільны да самотнага жыцця. Мядзведзь непаваротлівы і адмысловы норавам, ён вельмі ўтойлівы і падспутны. Ён надзелены такім жа целам, цяжкім, шчыльным, не маючым суставаў,*

[517] Гутарка 9-я.

*прыстойным халоднаму зверу, жывучаму ў бярлозе. Нараджаючаяся ільвяня, кажуць, перш разрывае кіпцюрамі чэрава маці, а потым выходзіць на сьвет і яхідны нараджаюцца, прагрызаючы чэрава сваёй маці і тым аддаючы ёй належнае. Мядзьведзіца, калі ёй нанесены самыя глыбокія раны, лякуе сама сябе, затыкаючы шчарбіны раслінай каравяком, маючай ўласьцівасць сушыць. Лісіца лякуе сябе хваёвай смалой. Чарапаха, наеўшыся яхіднавага мяса, пазбягае пашкоджання ад яе атруты, спажыўшы ў якасьці антыатрутнага сродку, траву душыцу. І змяя лякуе свае хворыя вочы, наеўшыся валоскага кропу*».

«***І вымавіў Бог: створым чалавека...***

«*Які каваль, цясляр ці шавец, седзячы адзін з прыладамі свайго рамяства, калі ніхто не падзяляе з ім працу, скажа сам сабе: выкуем нож, вырабім плуг, ці сшыем чаравік? Ці не моўчкі ён заканчвае пачатую працу? Чуеш, хрыста-змагальнік! Прамова накіравана на ўдзельнічаючага ў светастварэнні, на таго ж, кім бог стварыў і самі стагоддзі* (г.азн. на сына боскага)».

Такое заканчэнне мае гэтая энцыклапедыя сярэднявечнага тэалагічнага ўяўлення пра сьвет і яго ўзнікненне. З дапамогай кароткіх выняткаў я прывёў із гутарак падробленага «Вялікага Цара» «Пра шэсць дзён тварэння» амаль усё істотнае, асобна спыняючыся на адмысловым.

Прызнаць, што гэтыя гутаркі сапраўды былі нечыімі публічнымі лекцыямі, вядома, немагчыма: гэта чыста літаратурны твор і пры гэтым напісаны чалавекам ужо позняй эпохі, а ніяк не ў часы наступнікаў Кастуся І.

## III. Агульныя высновы.

Такімі ж, але нашмат слабейшымі і нецікавымі, з'яўляюцца і астатнія творы, прыпісваемыя «Вялікаму Цару», як то «Гутаркі на псалмы», «30 главаў пра Сьяты Дух», «34 главы манаскіх статутаў» і г.д., усе разам маючыя выразны характар вельмі позьняга часу, пазьней Эпохі Рэнесансу.

Із далейшых астранамічных і фізічных месцаў я разгледжу толькі тлумачэнне «На XIII главу прарока Ісаі».

Аўтар у ім цытуе грунтуючыся на грэцкім перакладзе тое месца гэтай часткі (XIII, 9), дзе паведамляецца: «Вось, прыйшоў люты дзень бога-Грамабоя з гневам і палаючай лютасьцю... Зоркі нябесныя і Арыён і ўсе ўпрыгожванні нябесныя не дадуць ад сябе сьвятла. Азмрочыцца сонца пры сваім узыходжанні і месяц не дасць сьвятла».

«*Вядома,* – выказваецца аўтар, да вялікага здзіўлення сучаснага астранома, – *што Арыёнам пісанне называе спалучэнне 22 зорак, якое некаторыя клічуць Валапасам* (?!). *Дасьведчаныя астраномы паведамляюць, што чатыры із іх належаць да трэццяй велічыні, дзевяць да чацьвёртай і астатнія дзевяць да пятай. Гэтае згуртаванне зорак знаходзіцца ў паўночнай частцы неба і яно ў пісанні і названа Арыёнам* (!?). *Пісанне згадвае і пра Арктур. Гэта жаўтаватая зорка, якую мы бачым паміж часткамі Арыёна*».

Усё гэтае апісанне, як бачыць сам чытач, не пакідае ніякіх сумневаў, што аўтар сапраўды лічыць Арыёнам сузор'е Валапаса, якое знаходзіцца менавіта ў паўночным паўшар'і неба, тады як Арыён знаходзіцца на экватары і на процілеглай гемісферы ад сучасняга Валапаса.

Як гэта разумець? Ці за доказ недасьведчанасьці аўтара ў астраноміі, ці за тое, што пад час сярэдневечча сапраўды Валапаса блыталі з Арыёнам, Арктура з Сірыусам і надварот? Мне здаецца, што гэтае месца не апіска, а водгалас сапраўды існаваўшай блытаніны найменняў.

«*Згадваюцца ў Пісанні*, – паведамляе аўтар далей, – *і Пляяды, а паганскія пісьменнікі, відавочна, выведалі іхную таямніцу ў жыдоў. У іх мы бачым сем, а не шэсць, як лічаць некаторыя, згуртаваных паміж сабой зорак, размешчаных у выглядзе трохкутніка*».

«*Пісаўшыя пра сусьвет*, – разважае аўтар у IX гутарцы пра шэсць дзён тварэння, – *шмат выказваліся пра форму зямлі. Што яна такое? Ці шар, ці цыліндр, ці кола, аднолькава абточанае з усіх бакоў, ці пасудзіна, маючая западзіну пасярэдзіне* (дзе Міжземнае мора)?».

«*Але я*, – заканчвае аўтар, – *не пагаджуся прызнаць апавяданне Майсея пра светастварэнне годным меншай павагі толькі таму, што ён не разважае пра форму зямлі, не паведамляе, што яе акружнасць мае* ***180 тысяч стадый, не памераў, наколькі распасьціраецца ў паветры зямны цень, калі сонца ідзе пад зямлёю і як гэты цень****, падаючы на месяц, мае наступствам яго зацьменні. Я толькі больш услаўлю мудрасць, таго, хто не абцяжарыў такімі дробязямі наш розум. І гэтага, як мне здаецца, не зразумелі тыя,* ***якія адпаведна са сваім разуменнем, сабраліся надаць вялікую важнасць сьвятому пісанню нейкімі яго прынараўленнямі да навейшай навукі****. Гэта азначае лічыць сябе мудрэйшым чым Сьвяты Дух і пад выглядам тлумачэння дадаваць уласныя думкі*».

Калі ж адбываліся гэтыя прынараўленні Бібліі да вучэння?

Ужо ніяк не пад час чацьвёртага стагоддзя!

Пры тлумачэнні некаторых фізічных з’яваў аўтар «Трэццяй кнігі пра Св. Дух», уключанай у творы «Вялікага цара» (яшчэ не ведаючага камеры-абскуры) выказваецца:

*«Ці прымаем мы ў сябе праз вочы выявы бачных рэчаў? Як у малым памеры нашай зрэнкі ўмяшчаецца выява найвялікшай гары, выява невымернай зямлі, бязмежнага мора і нават самога неба? Ці наша вока выпускае із сябе нешта да бачымых прадметаў, каб атрымаць іхнае адчуванне? І якім вялікім з’яўляецца гэтае нешта, якое робіцца шляхам сама-пашырэння дастатковым для зямлі і мора, праходзячае праз прастору паміж небам і зямлёй, дакранаючаяся да самога неба і рухаючаяся з такой хуткасьцю, што ў адзін і той жа час ім спазнаюцца як блізкія целы так і зоркі на небе*?»

«*Што такое голас бога на водах*?» – пытаецца ён, тлумачачы гэтае выказванне ў 28 псалме[518]. – *Ці разумець нам тут, што скалынаемае паветра дасягае да слыху таго, да каго накіраваны голас, ці гэтае ўяўленне больш падобна на тое, якое бывае ў сне, пры гэтым і без скалынання паветра мы ўтрымліваем у памяці некаторыя словы, таму што яны захаваны ў самым нашым сэрцы? Падобным гэтаму павінен ўяўляцца і той голас боскі, які бывае накіраваны да прарокаў... А калі тут шукаць пачуццёвага сэнсу, то можна сказаць, што кожны раз, калі аблокі, напоўненыя вадой, утвараюць, сутыкнуўшыся паміж сабой, гук і трэск* (гром), *яны маюць голас бога. Грам паходзіць, калі нейкі сухі і магутны газ, абмежаваны ў пустэчах воблака і з напругай круцячыся ў іх, шукае выйсьце вонкі. Аблокі, як надзьмутыя бурбалкі, не ў стане супрацьстаяць гэтаму газу і ўтрымліваць яго ў сабе. Будучы моцна распіраемыя ім, яны раптам выпускаюць яго із сябе і гэтым выпрабляюць грымотныя ўдары і маланку. А магчыма тут (у псалме 28-м) гэта сказана ў таямнічым сэнсе? Мы ведаем, што пры хрышчэнні Езуса прагрымеў звыш голас, паведамляючы: «Гэта сын мой шануемы!». Не ў кожным чалавеку раздаецца падобны гром, а толькі ў тым, хто годны назвы КОЛА, таму што сказана: голас грому твайго ў КОЛЕ* (г.азн. у арбіце нябеснага сьвяціла; Псал. LXXVI, 19)».

«*Серафімы*»,– пярэчыць ён, астраномам, – «*гэта перадсусьветныя магутнасьці, а не часткі двух паўшар’яў неба, як лічаць некаторыя. Із іх кожны мае па 6 крылаў*» (гл. Ісаю, VI, 7).

---

[518] Гутарка на XXVIII псалом

Усё гэта, – дадам я ад сябе, – падмацоўвае даўно выказаную мной думку, што пад час старажытнасьці чатыры квадранты неба называліся найменнем чатырох «крылатых жывёл» Апакаліпсіса, у кожнага із якіх было па тры пары крылаў у выглядзе крылападобных паміжмерыдыянных прамежкаў, адмяжоўваючых задыякальныя сузор'і адзін ад аднаго.

У главе III аўтар ужо разгледжанага намі вышэй «Тлумачэння на 6 дзён тварэння»[519] згадвае пра «тых, якія кажуць, што мора застаецца салёным і горкім дзякуючы паглынанню із яго прэснай і прыдатнай для піцця вады цяплынёй сонечных праменяў, пакідаючы ў ім усё грубае і зямляное, як некаторую ціну ці асадак». Але, не падумаўшы пра ролю рэк, ён спрабуе аспрэчыць гэта тым, што «мора не высыхае».

І нарэшце, відавочна прызнаючы магчымасць вядзьмарства, аўтар 217 ліста, таксама прыпісваемага «Вялікаму Цару», выказваецца:

«*Хто павінен у чарадзействе ці складанні траў, той хай нясе пакаянне на працягу такога ж часу, як і забойца* (§65)». «*Хто аддаецца варажбіткам ці падобным ім людзям, ды адбывае пакаранне столькі ж часу і ў тым жа парадку, як забойца*».

* * *

Рэзюмуем жа ўсё сказанае вышэй.

Калі некаторыя із лістоў і натак, прыпісваемых «Вялікаму Цару», можна б прызнаць сапраўднымі, дзякуючы адсутнасьці ў іх спецыфічна-тэндэнцыйнага, без чаго не здолеў бы абыйсьціся апакрыфіст, ці дзякуючы неадпаведнасьці ўсяго свайго зместу клерыкальным поглядам сярэднevechча; то гэтага ніяк немагчыма сказаць пра прыпісваныя яму вялікія творы, якімі, перадусім, з'яўляюцца: «Гутаркі пра шэсць дзён тварэння», дзе тлумачыцца непасрэдна перад-капернікаўскае ўяўленне пра ўладкаванне сусьвету і перад-лінееўская ідэя пра новую наменклатуру жывёл, дзе ў саміх найменнях (раздзельнапёрыя, перапоністакрылыя, цьвёрдакрылыя) даецца ўяўленне пра пабудову жывёл дадзенага заалагічнага раздзела. Немагчыма, каб такі зародак правільнай заалагічнай класіфікацыі не даваў у розумах людзей ніякіх парасткаў больш за тысячу гадоў, а потым раптам вырас у адным розуме Лінея ў такое шматразгалінаванае, пышнае дрэва. Неправўдзівым уяўляецца і знаёмства насельніка Малой Азіі ці Палестыны з такімі жывёламі паўночных мораў, як кіты, пра якіх туды сведчанні маглі дайсьці, і прытым праз шмат гадоў, толькі ад скандынаўскіх вікінгаў праз Брытанію, Нармандыю ці Германію, што азначае не раней XI стагоддзя нашай эры. Мы не павінны забывацца, што развіццё мараходства на Паўночным моры пачалося толькі пачынаючы ад IX стагоддзя, і да гэтага ж часу патрэбна дапасаваць і з'яўленне першых слушных паведамленняў пра кітоў на ўзбярэжжы Міжземнага мора. Дакладна так жа анахранічным выглядае для IV стагоддзя ў Малой Азіі і павядомленае намі тлумачэнне марскіх прыліваў у Атлантычным акіяне ўздзеяннямі месяца. Гэтыя прылівы амаль цалкам незаўважаемыя па ўсяму Міжземнаму мору і таму не былі вядомымі старажытным грэкам. Гэта ўжо перад-ньютанаўскае параўнанне. Само сабой зразумела, што з такога боку гледжання і сучаснае сузор'е Кіта магло патрапіць на неба не раней IX стагоддзя нашай эры, калі гэтым імем раней не называўся каспійскі цюлень (Phoca Caspica).

Яшчэ больш сярэднявечнымі ўяўленнямі вее ад чыста тэалагічных кніг, прыпісваемых «Вялікаму Цару», дзе цытуюцца і біблейскія прарокі, якія пісалі, як я паказаў астранамічна, толькі ў V стагоддзі нашай эры, г.азн. пасьля яго сьмерці, і

---

[519] «Тлумачэнні на 6 дзён тварэння», гутарка 3.

нават цытуюцца кнігі Новага Запавету, з’явіўшыяся відавочна пазьней гэтых прарокаў. Што ж застаецца для твораў «Вялікага-Цара», акрамя тых яго лістоў, дзе няма нічога пра багаслоўе? Цяжка пагадзіцца, што IV стагоддзю нашай эры належаць законы, якія мы знаходзім у трох лістах да Амфілохія[520]. Як, напрыклад, паставіцца нам хаця б да іхнага §2: «сьвядома загубіўшая ў сабе зачаты плод падлягае пакаранню за забойства, а існаваў ён ужо, ці не, не належыць вышукваць дакладна...» Няўжо і ў IV стагоддзі былі вядомы спосабы пазбаўлення ад цяжарнасьці? І хто ж дапамагаў у гэтым ахвотніцам? Акрамя таго: больш паловы гэтых законаў маюць дачыненне да розных выпадкаў і спосабаў блудніцтва, прадмета, які асабліва распрацоўвалі позьнія сярэднявечныя манахі. У IV стагоддзі, калі хрысьціянства і шматадружанае паганства жылі яшчэ ў поўным перамяшанні, і пераход із адной рэлігіі ў іншую быў практычна заўсёды магчымым, вельмі суровыя законы, усталяваныя ў дачыненні да гэтага пытання ў адным з існуючых веравызнанняў, мелі б наступствам толькі тое, што звычайны народ перабег бы із яго ў паганства ці ў іншыя секты, дазваляючыя развод ці другое і трэццяе адружанне пасьля сьмерці аднаго із адружаных.

Усе падобныя законы магчымы толькі ў той час, калі пануючы манаскі клерыкалізм ужо канчаткова вынішчыў сваіх канкурэнтаў і меў магчымасць дэспатычна распраўляцца з кожным непакорлівым. Аднак жа, той факт, што «Вялікаму Цару» прыпісаны гэтыя 84 законы, з прызначэннем парушальніку адлучэння ад царквы дастаткова паказвае, што яму прыпісвалася **заканадаўчая ўлада, супраць якой ніхто із вернікаў не адважваўся пярэчыць**, а павінен быў падначальвацца. **Гэта азначае, ён быў на правах свецка-духоўнага валадара ўсходу**.

А такім мог быць толькі імператар Юльян.

На заканчэнні гэтай часткі, дзе я зноў спрабаваў паказаць, што «Вялікі Цар» IV стагоддзя, заснаваўшы хрысьціянскае набажэнства, і евангельскі «Ратавальнік», і імператар Юльян Адрачэнец (ад арыянства) былі адной і той жа асобай, я дадам наступнае.

Узнікшае напачатку IV стагоддзя і працягваючае сваё існаванне да нашых дзён пад найменнем юдаізм арыянства называе евангельскага «Ратавальніка» падобасутным Богу (ὁμοιούσιος), і гэта цалкам зразумела, таму што і адпаведна з Бібліяй Бацька Багоў стварыў чалавека згодна са сваім падабенствам і выявай. З гэтага боку гледжання «Вялікі Цар» толькі параўнаўся Богу-Бацьку.

Але мы ведаем із міфалогіі, што перш чым вялікія настаўнікі старажытнасьці ўзводзіліся потым у званне багаў, яны пераходзілі менавіта праз стадыю богападобных, і толькі ў наступных пакаленнях пераводзіліся на самую вышэйшую ступень, і такое іхнае перамяшчэнне па ўсходах угару адзіна адпавядае гістарычнаму цьвярозаму сэнсу.

Гэта азначае, калі нават мы і не будзем атаясамляць Арыя з аднайменным з ім Аронам, арыянства ўсё ж павінна было папярэднічаць хрысьціянству, называючы свайго «Ратавальніка» аднасутным з богам (ὁμούσιος), г.азн. сапраўдным богам. А адсюль зразумела, што калі арыянства, называўшае евангельскага Езуса толькі падобасутным богу, узнікла, як нам кажуць, у IV стагоддзі, то праваслаўнае хрысьціянства ўзнікла ніяк не раней V стагоддзя нашай

[520] 188, 199 і 217 лісты.

эры. Але што ж у такім разе застаецца ад уяўляемага намі хрысьціянства першых стагоддзяў? – Нічога!

Калі евангельскі «Ратавальнік» – будзь ён астральны міф, як спрабуе давесьці Дрэўс і яго школа, ці рэчаісны чалавек, як сцвярджаюць сучасныя хрысьціянскія тэолагі, быў у званні бога ўжо на працягу трох стагоддзяў да арыянства, то як Арый здолеў знайсьці сабе паслядоўнікаў сярод тагачаснай забабоннай масы насельніцтва, **паніжаючы яго вартасць**?

З боку гледжання містыкаў справа, вядома, зразумелая: з’явіўся чорт, спрадвечны вораг чалавечага роду і пазбавіў розуму масу людзей. Але з боку гледжання сучаснага, лагічна глыбокадумаючага чалавека, гэтае тлумачэнне немагчыма браць да ўвагі і застаецца толькі адно: евангельскі «Сьвятар» (па-грэцку – Хрыстос), з’явіўся першым разам (нават калі ён быў і не Юльянам, адрачэнцам ад арыянства, а астральным міфам) толькі пасьля пачатку арыянства, якое на Нікейскім саборы ў 325 годзе было толькі абвяшчэннем адзінабожжа, без боская сына і боскай жонкі.

Адсюль зразумела, што калі з’явіўся «Вялікі Цар», арыяне яшчэ не маглі прызнаць яго аднасутным богу, але прызналі падобасутным, а паганцы таго часу дадалі яго да сомна сваіх богаў, і адсюль узнікла хрысьціянства, у якім «Вялікі Цар» паступова перамог большасць сваіх канкурэнтаў і субратоў, акрамя бога «свайго бацькі».

# Глава II

## Літаратурная творчасць, прыпісваемая «Неспячаму Багаслову» інакш «Будзе» (у аперцэпцыі рэнесансу)

Я не буду тут спыняцца на ўсіх так званых «словах» аўтара, які па-грэцку мае найменне Рыгор тэолаг (Рыгор па-грэцку азначае неспячы)[521], таму што, само сабой зразумела, яго павучанні ніхто не стэнаграфаваў. Акрамя таго, усе гэтыя прамовы мудрагеліста-пустаслоўныя, поўныя цытат із прарокаў і псалмоў і цытуюць нават апостальскія лісты. Вось, напрыклад, як ён характарызуе сучаснае яму праваслаўнае сьвятарства.

«*Адкрыю перад вамі ўсю маю таямніцу, хаця і не ведаю, шляхетна гэта, ці не, аднак жа так ёсць. Мне сорамна за шмат якіх* (сьвятароў), *якія, будучы нічым не лепшымі за ўсіх астатніх, калі яшчэ не горшымі, з непамытымі, як кажуць, рукамі і з нячыстымі душамі, бяруцца за найсьвяцейшую справу. Перш чым зрабіць сябе годнымі прыступіць да набажэнства, яны ўрываюцца ў свяцілішча, штурхаюцца каля сьвятой трапезы, як бы лічачы свой сан не ўзорам учыннасьці, а сродкам да пражытку, а сябе не служкамі, нясучымі адказнасць, але кіраўнікамі, не даючымі нікому справаздачы. І такія сьвятары, бедныя набожнасьцю, вартыя жалю ў самым сваім бляску, ледзь ці не больш шматлікія за тых, над кім яны валадараць, так што з цягам часу і з далейшым развіццём гэтага зла не застанецца ім, як лічу, над кім і валадарыць: усе будуць павучаць замест таго, каб, як кажа боскі загад, быць навучаемымі богам* (Іс., LIV, 13). *Тады згодна са старажытным паданнем ці згодна са старажытнай прыпавесьцю, будзе і «Савул у прароцах*» (І Цар., X, 11). *Хаця прарокі з цягам часу то памнажаліся, то зьнікалі, але ні*

[521] Ад каранёў ἐγείρω (егейро) – бужу, і ад ἐγείρομαι (егейрамай) – абуджаю, не сплю. Вытворная форма γρηγορέω (грэгорэо) – у царкоўных пісьменнікаў – не сплю, а ў свецкіх хутчэй – абуджаю.

*зараз, ні раней не бывала іх у такой шматлікасьці, і ніколі не здзяйснялася ў такой колькасьці ганебных спраў і грахоў, як у хрысьціянаў, у нашы дні*»[522].

Такім, на думку аўтара, быў той самы час (г.азн. заканчэнне IV стагоддзя), калі адпаведна з нашай статыстыкай, дэталёва распрацаванай намі і рэзюмаванай на дыяграме ў I томе «Хрыста», было выключна шмат хрысьціянскіх сьвятых, у той самы час, калі жылі ўсе вялікія багасловы. Як гэта пагадніць з уласнымі словамі аднаго з іх?

Вядома, толькі тым, што пададзены намі ліст з'яўляецца прадуктам кляштарскай творчасьці, створаным не раней XVI стагоддзя, і аўтар апакрыфіруе ў IV стагоддзе ўсе асаблівасьці сваёй уласнай эпохі.

## I.
## Агульная характарыстыка павучанняў і літаратурных твораў прыпісваемых Неспячаму Багаслову.

Праўда, што ў павучаннях, прыпісваемых «Неспячаму Багаслову», ёсць некаторыя сляды і сапраўдных падзей IV стагоддзя, як напрыклад, у яго апакрыфічным «слове» на сьмерць брата Кесарыя (г.азн. па-руску – Цара божага[523]), дзе згадваецца пра тагачасны землятрус (пра які паведамляецца і ў лістах ад імя «Вялікага Цара»):

«*Падчас нядаўняга землятрусу ў Пераможным горадзе* (Нікеі, па-грэцку), *які, як кажуць, быў самым жудасным із усіх памятаемых, і вынішчыўшым разам з шыкоўнасьцю горада амаль усіх яго шляхетных жыхароў, выратаваўся ад сьмерці ледзь ці не адзін толькі цэсарэвіч* (кесарыён) *ці вельмі нешматлікія, і гэтае выратаванне адбылося неверагодным для яго самога чынам. Ён быў накрыты разбурэннямі, але зведаў на сабе толькі невялікія прыкметы небяспекі, якраз колькі было патрэбна для яго, каб атрымаць баязнь перад настаўнікам вышэйшага выратавання і пакінуць служэнне колаваротнаму. Са свайго царскага палаца ён паступіў зараз, дзякуючы гэтай баязні боскай, у іншы, вышэйшы палац, цалкам перайшоў у нябеснае ваярства*».

Тут мы маем сапраўдны сярэднявечнай водгук жахлівага землятрусу, адбыўшагася на прыканцы IV стагоддзя, пра які паведамляе і Апакаліпсіс.

А вось, узор і палемікі Неспячага (над намі) багаслова ў адказ нейкаму Максіму (г.азн. на-лаціне – найвялікшаму), чымсьці правініўшамуся перад ім. Я перапісваю яго цалкам, знарок грунтуючыся на выданні Маскоўскай духоўнай акадэміі, маючым загаловак: «Тварэнні іжэ во сьвятых айца нашага Рыгора Багаслова» (V, 226, 1889 г.).

«*Што гэта? І ты, Максім, адважваешся пісаць? Пісаць адважваешся ты? Якая адсутнасць сораму! У гэтым ты нават перавысіў і сабак!*

*Вось дык дух часу: кожны адважваецца на ўсё! Падобна грыбам, раптам выбягаюць із зямлі і мудрыя, і вайскаводы, і шляхетныя, і біскупы, хаця не прыклалі якіх бы то ні было намаганняў каб перш папрацаваць над нечым добрым. Што ж атрымліваецца із гэтага? Учыннасць зневажаецца, адукаванасць не мае перавагі перад неадукаванасьцю. І ўсё гэта таму, што дзёрзкасць карыстаецца беспакаранасьцю. Кожны кідайся ўніз галовай і, не вучыўшыся, страляй із лука, ці паднімайся на крылах пад самыя аблокі! Дастаткова пажадаць, а ведаць справу зусім не патрэбна!*

*Бачна і ты набыў раптам натхненне ад муз, як некаторыя выказваюцца пра старажытных мудрых? Бачна і цябе прывяла ў стан ашалеласць нейкая лаўровая галінка? Ці ты неспадзявана напіўся прадракальніцкай вады і пачаў струменіць вершы, не*

---
[522] Творы Рыгора Багаслова.
[523] Слова 3-е. 8 Слова 7-е.

*захоўваючы нават вершаваны памер? Якія неверагодныя і нечуваныя навіны! Савул у прароках, а Максім у ліку пісьменнікаў! Хто пасьля гэтага не прарок? Хто стрымае сваю руку? У кожнага ёсць папера і кій. І старыя здольны зараз прамаўляць, пісаць і збіраць вакол сябе народ!*

*А ты не пабаяўся нават абуджаць рукаплясканні! У ліку тваіх слухачоў бывае некалькі мудрых, але шмат Максімаў і прыдуркаватых. Патрэбна спадабацца апошнім, а мудрым можна пажадаць добрага шляху, пасьля таго як прыдуркаватыя паабстрыгуць іх і прыцісНуць кпінамі. А калі патрэбна адпомсціць мудраму* (на ўсё патрэбна быць *здольным!), то будзь толькі дзёрзкім! Хай ведаюць Максіма дзякуючы дзёрзкасьці!*

*Але і мы маем права пасмяяцца! Што зараз лягчэй рабіць, чым смяяцца, і смяяцца шмат? Зараз будзь толькі красамоўным, а на абражаючых брашы сабакай! Тады ніхто не возьме над табой перавагі.*

*Усклікну ж зноў (і ўсклікну не раз), каб выдаткаваць свой смутак, хаця выдаткую не цалкам!*

*Пісаць адважваешся ты? Скажы ж: дзе і ў каго ты навучыўся? Чыёй рукі гэтая твая здольнасць – пісаць? Яшчэ ўчора было не тое. Ты рады быў і таму, што бедны заробак дастаўляў табе вузкі плашч. А прамовы для цябе тады былі тым жа, што для асла ліра, для вала – марская хваля, для марской жывёлы – ярмо.*

*Зараз жа ты ў нас Арфей, усё прыводзячы ў рух сваімі пальцамі, ці Амфіён, ствараючы сьцены сваімі бразгатаннямі. Такімі з'яўляюцца зараз сабакі, калі пажадаюць пазабавіцца! Мабыць, гэтую адвагу ўдыхнулі ў цябе старыя нянькі, твае памагатыя, за адно з табой складаючыя прамовы. Для іх ты лебедзь, для іх музычнымі выглядаюць вымаўляемыя табой гукі, калі яны, падобна зефіру, цякуць із крылаў, прыемна распасьціраемыя рахманымі павевамі.*

*Але што ж ты пішаш і супраць каго пішаш ты, сабака? Пішаш супраць мяне, чалавека, якому так жа натуральна пісаць, як вадзе цякчы, і полымю гарэць. Не буду казаць, што ты пішаш супраць таго, хто, колькі магчыма чалавеку, нічым цябе не пакрыўдзіў, хаця і шмат быў табою абражаемы. Якая ўтрапёнасць! Якая невуцкая дзёрзкасць! Каня выклікаеш, шаноўны мой, памерыцца з табой у бегу на раўніне; нямоглай рукою наносіш раны ільву. Даводзіцца палічыць, што ў цябе было на мэце толькі адно: ты спадзяваўся, што абражаючы, не будзеш ганараваны адказам. Гэта адно і здаецца мне ў табе разумным. Таму што, сапраўды, хто пры цьвярозым розуме пажадае мець справу з сабакай*?» (заканчэнне, ліста).

Ці гэта, чытач, склад «іжэ ў сьвятых» заканчэння IV стагоддзя?

* * *

А вось, і яшчэ ў іншым родзе:

«Вызначэнні, злёгку напісаныя»[524].

Сьвятло з'яўляецца запаленым азарэннем, а ў душы гэта – розум

Цемра таксама бывае дваякай, як адсутнасць вышэйзгаданага дваякага азарэння.

Стагоддзе з'яўляеецца працягласьцю, што безперапынна працякае ў часе, а час з'яўляецца мерай сонечнага руху.

Зямля з'яўляеецца зацьвярдзеннем рэчыва, аточанага небам.

Полымя з'яўляеецца існасьцю палаючай і імкнучайся ўгару.

Вада – існасць плынная і падаючая ўніз.

Паветра – напаўненне пустэчы і выдыхаемы струмень.

Цела – рэчыва і працягутая дзябёласць.

Стыхія – першапачатковая частка якога б то ні было цела.

---

[524] Творы Рыгора Багаслова. Том V, 729.

Душа – ажыўляючая і рухаючая прырода; разам з душой створаны розум і розум

Жыццё з'яўляеецца спалучэннем душы і цела, роўна як Сьмерць – разлучэнне душы з целам.

Розум – гэта ўнутраны і бязмежны зрок. А справа розуму – мышленне і адлюстраванне ў сабе магчымага.

Розум – адшуканне адлюстраванняў розуму; яго ты вымаўляеш з дапамогай органаў голасу.

Адчуванне з'яўляеецца нейкім прыняццем ў сябе вонкавага.

Памяць з'яўляеецца затрыманнем ў сабе уражанняў розуму. Адкладанне памяці – Забыццё; а адкладанне Забыцця зноў з'яўляеецца нейкай Памяццю, якую завуць успамін.

Пад Жаданнем разумеецца схільнасць розуму да нечага такога, што ў нашай уладзе; але нечага і жадаць не патрэбна.

Раздражненне з'яўляеецца раптоўным ускіпаннем у сэрцы.

Прыгажосць з'яўляеецца сувымяральнасьцю ва ўсім; а паскуднасць, адпаведна з маім разуменнем, з'яўляеецца зневажаннем прыгажосьці.

Смутак з'яўляеецца грызеннем і хваляваннем сэрца. Турбота з'яўляеецца нейкім кружэннем, вышэйшая ж яе ступень – неспакой.

Сорам з'яўляеецца нейкім сцісканнем сэрца ад баязні зведаць ганьбаванне, а пагарда сорамам з'яўляеецца Безсарамнасьцю.

Смех з'яўляеецца сутаргавым рухам шчок і трапятаннем сэрца.

Пад словам Набожнасць разумею і шанаванне дэманаў. А Дабрачыннасць з'яўляеецца ўшанаваннем толькі тройцы.

... Такімі з'яўляюцца мае вызначэнні ў першым іх нарысе!

* * *

А мы дададзім ад сябе: такімі з'яўляюцца творы пярэдадня Эпохі Адраджэння ці яе самой, выдаваемыя ў вялікай колькасьці аўтарамі ці наступнымі калектарамі за пісанні багасловаў IV стагоддзя!

Больш праўдападобнымі згодна са зместам (але не са складам) з'яўляюцца караценькія лісты ад імя «Неспячага Багаслова» да яго знаёмых і із іх асабліва ліста да Рыгора Ніскага:

«*Нудзішся ты пераездамі із аднаго месца на другое, і табе здаецца, што тваё жыццё такое ж пераменнае, як і дрэвы, насімыя па вадзе. Не, цудоўны чалавек, не думай гэтага. Дрэвы нясуцца не згодна са сваёй воляй, а твае пераходы з месца на месца здзяйсняюцца для бога. Рабіць дабро шматлікім для цябе з'яўляецца сталай справай, хаця сам ты і не сядзіш на месцы. Хіба стане нехта вінаваціць сонца, што яно ходзіць вакол, выліваючы прамяні і ажыватвараючы ўсё, што ні азарае на сваім шляху; хіба, хвалячы* ***нерухомыя*** *зоркі, будзе нехта ганіць планеты, у якіх і самыя адхіленні ад правільнай плыні з'яўляюцца такімі пастаяннымі*?»

А вось, і другі ліст да яго ж пра «Вялікага Цара», таксама маючы характар апакрыфічнасьці.

«*І гэтае гора было пададзена майму бядотнаму жыццю! Гора пачуць пра смерць «Вялікага цара», пра адыход яго сьвятой душы, перасяліўшайся ад нас да валадара, выдаткаваўшы на турботы пра гэта цэлае жыццё. А я яшчэ хворы целам і вельмі небяспечна, і таму звыш іншага пазбаўлены і магчымасьці абняць сьвятыя парэшткі і, прыйшоўшы да цябе, люба-мудрагельнічаючаму, суцешыць, як і патрэбна было, агульных нашых сяброў.*

*Бачыць адзіноту царквы, пазбавіўшайся такой славы, склаўшай з сябе такі вянок, не вельмі падабаецца позірку і непрыемна слыху, асабліва для маючых розум. Але ты, мне здаецца, нічым не можаш быць так суцешаны, як сам сабой і памятаннем пра яго. Вы з ім для ўсіх іншых былі ўзорам мудрасьці і як бы нейкім духоўным узроўнем прыстойнасьці ў шчаслівых выпадках і цярпення ў нешчаслівых, таму што мудрасць умее дастаўляць і тое і другое, яна вучыць карыстацца шчасьцем умерана, а ў бедствах захоўваць прыстойнасць. І такім з'яўляецца пажаданне ад мяне тваёй достачэснасьці. Мне ж, пішучаму гэта, які час і якое слова даставіць суцяшэнне, акрамя твайго сяброўства і размовы, якія шчасьлівы пакінуў мне замест усяго, каб заўважаючы яго рысы ў табе, як у выдатным і празрыстым люстэрку, заставацца ў той думцы, што і ён з намі?»*

Існуе і яшчэ ліст пра «Вялікага Цара», адрасаваны «Еўдаксію Рытару» ў такім жа расчараваным тоне, дарэчным толькі для часу позняй эпоху хрысьціянства (ды і «Васіль», напэўна, быў «не той».

«*Пытаешся, якія нашы справы? Вельмі горкія. Не стала ў мяне «Цара»* (Васіля), *не стала і «Цэсарэвіча»* (Кесарыя), *не стала як духоўнага так і цялеснага брата. «Бацька мой і маці мая пакінулі мяне», – скажу я разам з Давыдам* (Псал., XXVI, 10). *Целам я хворы, старасць над галавой, турбот сабралася процьма, справы задушылі, у сябрах няма вернасьці, цэрквы нашы без пастыраў* (гэта ў IV-та стагоддзі!!); *добрае гіне, злое выходзіць вонкі; існуе патрэба плыць ноччу, і нідзе не сьвецяцца шляхапазначаючыя агні. **Хрыстос спіць**. Што мне патрэбна зведаць? Адно для мяне збавенне ад бяды – гэта сьмерць. Але і тамтэйшае (г.азн. замагільнае) палохае, калі прыкідаць па-тутэйшаму*».

Але ж так можна пісаць ужо толькі пад час стагоддзя заняпаду веры...

## II.

## Псеўда-надмагільнае слова Вялікаму цару (Васілю Вялікаму).

Гэта адзінае «слова», прыпісваемае Неспячаму Багаслову, якое ўяўляе для гісторыка (а асабліва для нашай кнігі) рэчаісную цікавасць.

«*Калі б бачыў я,* – выказваецца ён, – *што «Цар» зваўся сваім старажытным родам і паходзіўшымі ад яго роду, ці чым іншым, зусім малаважным, але высока шануемым сярод людзей, прывязаных да зямнога, то, пры пераліку ўсяго, што я мог бы сказаць да яго гонару із часоў раней існаваўшых, я падаў бы вам спіс герояў, і не толькі ні ў чым не саступіў бы перавазе гісторыкам, але сам меў бы перавагу над імі ў тым, што стаў бы хваліцца не прыдумкамі і байкамі, а рэчаіснымі падзеямі, сведкі якіх шматлікія. Пра яго продкаў з бацькавага боку Понт нам дае шмат такіх паданняў, якія нічым не малаважнейшыя за старажытныя пантыйскія дзівы, якімі напоўнены пісьмы гісторыкаў і вершаскладальнікаў... Кожнае пакаленне і кожная асоба ў пакаленні яго продкаў мае нейкую сваю адметную ўласцівасць, і пра кожную існуе больш-менш важнае паданне, якое, атрымаўшы пачатак у аддаленыя ці блізкія часы, у якасьці бацькоўскай спадчыны, пераходзіць да нашчадкаў. Вызначаючай акалічнасьцю бацькавага і матчынага роду «Цара» была набожнасць.*

*Надышоў самы жудасны і цяжкі із праследаў – перасьлед Максіміна, які, з'явіўшыся пасьля шматлікіх былых праследчыкаў, здзейсніў такія справы, што ўсе ранейшыя праследчыкі выглядаюць перад ім чалавекалюбнымі. Такой была яго дзёрзкасць, з такой зацятасьцю імкнуўся ён здабыць верх над усімі ў бязбожнасьці!...*

*А закон пакутніцтва з'яўляецца такім, каб, літуючы праследуючых і нямоглых, не выходзіць на вычын самавольна, а выйшаўшы на вычын, не адыходзіць, таму што першае з'яўляецца дзёрзкасцю, а апошняе – маладушнасцю. Каб і ў гэтым ушанаваць Заканадаўцу, што робяць продкі «Цара», ці, лепш сказаць, куды вядзе іх Усявышні, кіруючы усімі іхнымі справамі, – яны збягаюць у адзін лес на пантыйскіх гарах. Лясоў там шмат, і яны глыбокія і распасьціраюцца на вялікую прастору, і вось яго бацькі збягаюць, маючы пры сабе нешматлікіх спадарожнікаў і служак для пражывання.*

*Некаторыя будуць здзіўляцца працягласьці іхнага збягання, якое, як кажуць, працягвалася сем гадоў, ці нават трохі больш; будуць здзіўляцца роду жыцця гэтых людзей, вырасшых у дастатку; скрушанаму і нязвыкламу іхнаму бедаванню на адкрытым паветры, іхным пакутам ад сцюжы, гарачыні і дажджоў, знаходжанню ў пустыні ўдалечыні ад сяброў без стасункаў з людзьмі, але і гэтыя зло-пакуты яшчэ старазова павялічваліся тым, што яны бачылі сябе раней аточанымі людзьмі і прынімаючымі ад усіх шанаванне.*

*Зараз я маю намер сказаць яшчэ і нешта такое, што выглядае самым дзіўным, чаму не паверыць хіба толькі той, хто не лічыць важнымі бедствы за Хрыста, таму што дрэнна іх ведае і вельмі пераіначана разумее.*

*Гэтыя мужныя стараннікі, стомленыя сваімі патрэбамі, пажадалі, нарэшце, мець нешта і да свайго суцяшэння. І адразу з'явілася да іх самаахвотна аддаючая ежу. Адкуль раптам узяліся перад імі на ўзгорках алені? І якія высокія, якія гладкія, як ахвотна спяшаючыяся да іх на смерць! Можна было амаль здагадацца, што яны абураюцца, чаму не былі раней пакліканы да іх. Адны зававблівалі да сябе лаўцоў ківаннямі галоў, другія зацята ішлі за аддаляючыміся ад іх лаўцамі. Хіба нехта іх гнаў ці прымушаў? Ніхто! Не, яны былі заваблены малітвай бацькоў «Цара», іхным пабожным прашэннем пра ежу! Ці вядома каму падобнае паляванне як зараз так і ў ранейшыя часы?* (усклікае аўтар, забыўшыся, што ён сам абвяшчае сябе сучаснікам «Вялікага Цара»). *Дастаткова было толькі пажадаць і што падабалася, тое і ўзята! А лішняе было даслана ў нетры да другой трапезы».*

Вось, у што ператварылася, чытач, збяганне Ёсіфа і Марылі ў Ягіпет у «Творах» прыпісваемых Рыгору Багаслову!

Але паглядзім і далей.

«*Хто не ведае «Царовага» бацьку – «Цара»,* – працягвае аўтар. – *Гэта вялікае для ўсіх імя. Ён дасягнуў у выглядзе свайго сына выканання якіх бы то ні было бацькоўскіх жаданняў: не скажу, што дасягнуў адзін. Хто не ведае яго жонку «Стройную»* (Эмелію)? *Хто адкажа, ці таму ёй было дадзена гэтае імя, што яна пазьней павінна была зрабіцца такой, ці таму яна і зрабілася такой, што было дадзена такое імя? Яна сапраўды была суназванай складнасьці* (ἐμμέλεια) *ці, карацей сказаць, была такой жа паміж жонкамі кім быў яе чалавек* («Цар») *паміж мужчынамі. Таму, калі ўжо наканавана, каб ухваляемы намі чалавек быў дараваны людзям для таго, каб паслужыць чалавечай прыродзе (як і пад час старажытнасьці былі даруюмы богам вялікія мужы для агульнай карысьці), то ўсяго прыстойней яму было б нарадзіцца менавіта ад гэтых, а не ад іншых бацькоў, гэтак жа і ім прыстойней усяго было б называцца бацькамі гэтага, а не іншага сына. Вось, як выдатна здзейснілася і спалучылася ўсё гэта!*

*Мы пачалі із ухвалення продкаў «Цара», падпарадкоўваючыся Боскаму закону, загадваючаму аддаваць належнае ўшанаванню бацькам. Пяройдзем зараз і да самога «Цара», пазначыўшы перш адно, што, лічу, кожны ведаўшы яго, прызнае справядлівым, а менавіта, што кожны, маючы намер хваліць «Цара», павінен мець яго ўласныя вусны. Таму што, як сам ён складае славуты прадмет для ўхвал, так і адзін ён магутнасьцю свайго слова адпавядае такому прадмету.*

*Усё, што мае дачыненне да ўхвалення яго хараства, моцы, магутнасьці і велічы (чым, наколькі бачу, захапляюцца сярод людзей шмат хто), мы саступаем жадаючым, не таму, каб і ў гэтым, калі ён быў малады, і мудрагельства не брала верх у ім над целам, ён саступаў некаму із ганарыўшыхся такімі малаважнымі рэчамі, не распасьціраючыміся далей цялеснага. Мы не будзем разважаць пра гэта для таго, каб не зведаць удзел неспрактыкаваных барацьбітоў, якія, знясіліўшы сябе ў папярэдніх змаганнях, выяўляюцца няздольнымі да змагання, дастаўляючага сапраўдную перамогу, за якую ім прызначана ўзнагарода.*

*Лічу, што кожны, маючы розум, прызнае* ***вучонасць*** *першай для нас выгодай, і не толькі нашу найшляхетнейшую вучонасць, якая, пагарджаючы ўсімі ўпрыгожваннямі і*

*пладавітасьцю гаворкі, бярэцца за адно выратаванне і за розума-сузіраемае харaство, але і вучонасць вонкавую, якой грэбуюць шмат хто із хрысьціян, дзякуючы недахопу разумення, лічачы яе злахудожнай, небяспечнай і аддаляючай ад бога. Але не патрэбна ставіцца пагардліва да неба, зямлі, паветра і ўсяго, што на іх, за тое, што некаторыя дрэнна іх зразумелі, і замест бога аддавалі ім божыя ўшанаванні... Не патрэбна зневажаць вучонасць, як разважаюць пра гэта некаторыя; а насупраць таго, патрэбна прызнаць дурнымі і невукамі тых, якія, прытрымліваючыся такой думкі, жадалі б усіх бачыць падобнымі сабе, каб у агульным недахопе схаваць свой ўласны недахоп і пазбегнуць абвінавачвання ў невуцтве...*

*Сапраўдны навуковец не хваліцца нейкай Фесалійскай горнай пячорай як вучэльняй учыннасьці, ці нейкім напышлівым Цэнтаўрам – настаўнікам герояў; ён не вучыцца ў яго страляць зайцоў, абганяць коз, лавіць аленяў, здабываць перамогу ў ратазмаганнях, ці найлепшым чынам аб'язджаць коней; ён насуперак таго, вывучае першапачатковае кола навук і практыкуецца ў богашанаванні, карацей сказаць, самымі першымі ўрокамі вядзецца да будучай дасканаласьці... Калі ж ён дастаткова набыў тутэйшай вучонасьці, ён спяшаецца ў Цэзарэю* (г.азн. у «сталіцу») *для паступлення ў тамтэйшыя вучэльні. Я маю на ўвазе «сталіцу» знакамітую і нашу (таму што яна і для мяне была кіраўніцай і настаўніцай у слове), якую гэтак жа можна назваць сталіцай навук, як і сталіцай гарадоў, да яе належачых і ёю кіруемых. Калі б нехта пазбавіў яе першынства ў навуках, то забраў бы ў яе самую лепшую ўласнасць...*[525]

*Цар» быў рытарам паміж рытарамі яшчэ да катэдры сафіста, філосафам паміж філосафамі яшчэ да азнаямлення з філасофскімі разуменнямі, а што ўсяго важней, іерэем* (г.азн. боскім царам) *для хрысьціянаў яшчэ да свайго пасьвячэння. Настолькі ўсе атачаючыя саступалі яму ва ўсім! Моўныя навукі былі для яго чужой справай, і ён запазычаў із іх толькі тое, што магло дапамагчы нашаму мудрагельству» таму што патрэбна магутнасць і ў слове, каб зразумела выказаць розума-ўяўляемае...*

*Са сталіцы* (цэзарэі) *«Цар» вядзецца самім богам і выдатнай смагай спазнанняў у Візантыю (горад, валадарачы на Усходзе), таму што яна славілася самымі дасканалымі сафістамі і філосафамі, ад якіх, пры сваёй прыроднай даравітасьці і здольнасьцях, сабраў ён на працягу кароткага часу ўсё самае выдатнае. Із Візантыі ён выпраўляецца ў Афіны – прыстанак навук, у Афіны, сапраўды залатыя для мяне і даставіўшыя мне шмат добрага, таму што яны лепш пазнаёмілі мяне з гэтым чалавекам, які быў вядомы мне і раней. Шукаючы веды, я знайшоў і шчасьце. Я выпрабаваў на сабе тое ж* (толькі ў іншым дачыненні), *што і Савул, які, шукаючы бацькавых пасланнікаў, знайшоў царства, так што дадатковае да справы атрымалася больш важным чым сама справа...*

*Афіны прынялі нас, як рачны струмень, – нас, якія, аддзяліліся ад адной крыніцы, ці ад адной бацькаўшчыны, былі завабленыя ў розныя бакі смагай да вучонасьці, і потым, як бы адпаведна з узаемным пагадненнем, на самай жа справе дзякуючы боскаму жаданню, зноў сышліся разам. У Афінах існуе такі атычны закон, у якім разам з дзелавым перамяшана жартоўнае. Новапрыбыўшы прыводзіцца для жыхарства да аднаго із прыехаўшых раней яго, да сябра ці родзіча, ці да адназемца, ці да каго-небудзь із праславіўшагася ў сафістыцы і дастаўляючага прыбытак настаўнікам, за што знаходзіцца ў іх у асаблівай пашане (хаця для іх і то ўжо ўзнагарода, што маюць прыхільных да сябе). Тут новапрыбыўшы вытрымлівае кпіны ад кожнага жадаючага. І гэта, лічу, заведзена ў іх з тым, каб паменшыць ганарыстасць новапаступаючага і ад самага пачатку ўзяць яго ў свае рукі. Новапрыбыўшага вядуць у лазню ва ўрачыстым шэсьці. Стаўшы парамі і ў некаторым аддаленні адзін ад аднаго, усё ідуць наперадзе маладога чалавека да самай лазні. Падышоўшы да яе, яны паднімаюць гучныя крыкі і пачынаюць скакаць, як ашалелыя, паведамляючы, што лазня не прымае. Выламаўшы*

---

[525] Усё гэта вымушае сумнявацца ў тым, што гэтая «сталіца» знаходзілася ў Азіі, як зараз лічаць. Ці не падвоіўся тут Цар-Горад?

*дзьверы і напалохаўшы прыводзімага грукатам, дазваляюць яму, нарэшце, увайсьці і потым даюць яму волю, сустракаючы із лазні, як чалавека з імі роўнага і далучанага да іхнага таварыства. І гэта імгненнае вызваленне ад засмучэння і спыненне кпінаў, з'яўляецца самым прыемным ва ўсім звычаі пасьвячэння*[526].

*А вялікага «Цара» не толькі сам я прыняў адразу з павагай, таму што прадбачыў у ім цвёрдасць нораву і сталасць у разуменнях, але пераканаў і іншых маладых людзей такім жа чынам ставіцца да яго, усіх, якія яшчэ не мелі выпадку ведаць яго. Але шмат кім ён быў ужо паважаемы адпачатку дзякуючы папярэднім чуткам. Што ж было вынікам гэтага? Амаль адзін із усіх прыбыўшых ён пазбег агульнага закона і быў ганараваны вышэйшым прызнаннем, не як нова-паступаючы. І гэта было пачаткам нашага сяброўства. Адсюль першая іскра нашага звязу. Так мы перапоўніліся павагай адзін да аднаго!*

*Потым далучылася і наступная акалічнасць, пра якую таксама непрыстойна прамаўчаць. Я заўважаю ў армянах, што яны людзі не прастадушныя, але вельмі ўтойлівыя і непранікальныя. Так, і ў той час некаторыя із ліку армянаў, больш знаёмыя і сябруючыя з «Царам» яшчэ дзякуючы сяброўству сваіх бацькаў і прадзедаў, якім здаралася вучыцца ў адной вучэльні, прыходзяць да яго з сяброўскім выглядам (у рэчаіснасьці ж, з зайздрасьцю, а не прыязным стаўленнем) і прапануюць яму пытанні больш спрэчныя, чым разумныя. Даўно ведаючы здольнасьці «Цара» і не пераносячы яго тагачаснага гонару, яны паспрабавалі з першага ж прыёму падначаліць яго сабе. Ім непераносна было бачыць, што яны, якія раней яго апрануліся ў філасофскі плашч і абвыклі кідаць славамі, не маюць ніякай перавагі перад нядаўна прыбыўшым чужынцам. А я, чалавек прывязаны да Афінаў і недальнабачны (таму што, верачы іхнаму знешняму выгляду, не падазраваў пра іхную зайздрасць), і бачачы, што яны пачалі слабець і ўжо схіляюцца да збягання, зараўнаваў пра славу Афінаў. Каб не ўпала яна ў іхных асобах і не падпала неўзабаве пад пагарду, я, аднавіўшы размову, падбадзёрыў маладых людзей і, надаўшы ім адвагу сваім далучэннем да справы (у падобных выпадках і маленькая падтрымка можа ўсё зрабіць), увёў, як кажуць, раўнавагу ў змаганне. Аднак, як толькі я зразумеў таемную мэту іхнага ўдзелу ў размове (таму што ім стала немагчыма хаваць яе далей, і яна сама сабой відавочна выявілася), я выкарыстаў неспадзяваны выкрутас, перавярнуў карму носам і, стаўшы за адно з «Царам», зрабіў перамогу сумнеўнай. «Цар» зразумеў сутнасць справы адразу, таму што быў пранікліўым, як наўрад ці хто іншы. Напоўнены рэўнасьцю, ён цалкам гамеравым складам прыводзіў у замяшанне шэрагі гэтых адважных, і не раней перастаў уражваць іх сілагізмамі, як прымусіўшы да поўнага збягання і рашуча ўзяўшы над імі верх».*

Так адбілася тут легенда пра спакушэнне евангельскага «Вялікага Цара» фарысеямі, якія былі заменены спрачаючыміся армянамі! Паглядзім, што будзе і далей.

«*Кожную навуку вывучыў ён да такой дасканаласьці, як бы не вывучаў нічога іншага. У яго не заставаліся ззаду адзін ад аднаго як стараннасць так і таленавітасць, у якіх веды і мастацтва чэрпаюць магутнасць.*

*Пры напружанні сваёй думкі ён усяго менш меў патрэбу ў яе натуральнай хуткасьці, а пры хуткасьці думкі ўсяго менш меў патрэбу ў напружанасьці. Ён да такой ступені злучаў і прыводзіў да адзінства тое і іншае, што невядома, ці напругай думкі ці хуткасьцю яе ён быў найбольш годны здзіўлення. Хто параўнаецца з ім у рытарстве, дыхаючым магутнасьцю полымя, хаця норавам ён не быў падобным на рытараў! Хто, падобна яму, прыводзіць у належныя правілы граматыку і мову, выкладае гісторыю, валодае мерамі вершаскладання, дае законы вершаванню! Хто быў такім моцным у*

[526] Такое апісанне Афін настолькі мала падыходзіць да IV стагоддзя нашай эры (як са старога так і новага боку гледжання), што вымушае лічыць усю гэту прамову за апокрыф нават больш позні чым Эпоха Адраджэння.

*філасофіі – у філасофіі, сапраўды ўзнёслай і распасьціраючайся ў нябесную высь, што азначае ў філасофіі дзейнай і абстрактнай, а роўна і ў той яе частцы, якая займаецца лагічнымі доказамі, супрацьстаўленнямі і спаборніцтвамі і мае назву дыялекта. Лягчэй было знайсьці выйсьце із лабірынта, чым пазбегнуць сетак яго слоў, калі ён знаходзіў гэта патрэбным! Із астраноміі, геаметрыі і навукі пра ўзаемадачыненні лічбаў вывучыў ён столькі, што і майстэрскія ў гэтым не былі здольнымі прывесьці яго ў замяшанне, а ўсё залішняе адкінуў, як не маючае карысьці для жадаючых жыць набожна.*

*Можна падзівіцца абранаму ім больш, чым адкінутаму, і адкінутаму ім больш, чым абранаму. Медычную навуку – гэты плён мудрасьці і працавітасьці, зрабілі для яго патрэбнай як уласныя хваробы, так і дагляд за хворымі. Пачаўшы з апошняга, дайшоў ён да майстэрства ў гэтай справе і вывучыў у ёй не толькі адно бачнае і ляжачае на паверхні, але і тое, што адносіцца да мудрагельства. Дарэчы ўсё гэта, – наколькі яно ні важнае, – ці азначае хоць нешта ў параўнанні з маральным вучэннем «Цара»? Хто ведае яго асабіста, для таго не маюць значэння ні Мінас, ні Радамант, якіх элліны ганаравалі залацістымі кветкавымі сенажацямі і елісейскімі палямі, маючы на ўвазе наш рай, вядомы ім, як лічу, із майсеевых і із нашых кніг. Яны разышліся з намі толькі ў назвах, намаляваўшы тое ж самае іншымі словамі.*

*У такой ступені набыў ён усё гэта!*

*Ён быў караблём, настолькі нагружаным вучонасьцю, наколькі гэта ўмяшчальна для чалавечай прыроды, – далей жа Кадыкса няма шляху!*

*Нам абодвум патрэбна ўжо было вярнуцца дахаты, уступаць у жыццё больш дасканалае, брацца за выкананне сваіх надзеяў і агульных наканаванняў. Надышоў дзень ад'езду і, як звычайна пры ад'ездах, пачаліся развітальныя прамовы, провады, упрошванні застацца, рыданні, абдымкі, слёзы. Нікому нішто ні бывае так сумна, як афінскім сувыхаванцам развітвацца з Афінамі і адзін з адным. Сапраўды, тады адбывалася гледзішча вартае жалю і годнае апісання. Нас атачыў натоўп сяброў і аднагодак, былі нават некаторыя із настаўнікаў; яны запэўнівалі, што ні ў якім разе не адпусьцяць нас, прасілі, пераконвалі, затрымлівалі гвалтоўна... але «Цар», патлумачыўшы нагоды згодна з якімі абавязкова жадае вярнуцца на радзіму, перасіліў утрымліваючых, і яны, хаця і вымушана, аднак пагадзіліся на яго ад'езд. А я застаўся ў Афінах, таму што збольшага (патрэбна сказаць праўду) сам быў крануты прашэннямі, а збольшага «Цар» мне здрадзіў і даў сябе пераканаць пакінуць у Афінах мяне, не жадаўшага з ім развітвацца, і саступіў зaverting...*

*Шматстайнае боскае чалавекашанаванне і клопаты пра наш род прызначае яго хутка знакамітай і хвалебнай сьвяцільняй царквы, залічыўшы пакуль да сьвятых пасадаў прасвітарства, і праз адзін толькі горад – Цэзарэя* (г.азн. сталіца) *– запальвае гэтую сьвяцільню для мэт сусьвету. Якім чынам? Няспешна ўзводзіць яго на самую высокую прыступку, не адначасова абмываючы і надаючы мудрасьці* (як бачым мы на шматлікіх, жадаючых перадстаяння). *Ён ганаруецца самым высокім гонарам згодна з упарадкаваннем і згодна з Законам духоўнага ўзыходжання...*

*Супраць яго паўстаюць самыя абраныя і найбольш мудрыя ў царкве, калі толькі больш мудрыя чым шмат хто тыя, якія адлучылі сябе ад сьвету і прысьвяцілі жыццё богу... Што ж распачынае гэты гераічны вучань міратворца? Не яму было супрацьстаяць абражаючым і змагарам, не яго было справай заводзіць зваду і разрываць цела царквы, якая была ўжо ў змаганні і знаходзілася ў небяспечным становішчы ад тагачаснай перавагі ерэтыкоў. Узяўшы для нарады пра гэта мяне, шчырага дарадцу, ён разам са мной збягае, выдаляецца ў Понце, настаяцельствуе ў тамтэйшых прыстанках і цалуе пустыню разам з Іліяй і Янам, вялікімі захавальнікамі любамудрасьці, знаходзячы гэта больш для сябе карысным, чым задумваць нешта нявартае любамудрасьці і, прызвычаіўшыся падчас цішыні кіраваць намерамі, парушыць гэта падчас буры.*

*Але хаця пустынніцства яго было любамудрым і цудоўным, аднак жа вяртанне яго адтуль мы знаходзім яшчэ больш надзвычайным і цудоўным. Яно адбылося наступным*

*чынам. Калі мы былі ў Понце, раптам паднялася граданосная хмара, пагражаючая згубай; яна знішчыла ўсе цэрквы, над якімі выбухала, і на якія распаўсюджваў сваю ўладу ўладашануючы і хрыстаненавіснейшы цар, апантаны двума цяжкімі хваробамі – ненасытнасьцю і блюзнерствам, – гэты пасьля ганіцеля ганіцель, і пасьля адрачэнца, хаця і не адрачэнец, аднак жа нічым не лепшы для хрысьціянаў... Мела адбыцца вялікае змаганне. «У большай часткі із нас выявілася мужная рэўнасць, але полк наш быў слабы, не меў абаронцы і майстэрскага змагара, моцнага словам і духам. Што ж робіць гэтая мужная, перапоўненая высокімі намерамі і сапраўды хрысташануемая душа?*

*Не шмат спатрэбілася перакананняў для таго, каб ён зноў з'явіўся да людзей і пачаў змаганне. Ледзь ён пабачыў мяне (таму што нам быў наканаваны агульны вычын, як абаронцам правага вучэння), як быў пераможаны маім маленнем... Такім чынам, супернікі засталіся без поспеху, і злыя першы раз былі зло зганьбаваны і пераможаны. Яны спазналі, што не непаірэбна пагарджаць і кападакянамі, якім усяго ўласьцівей непахіснасць у веры, вернасць і адданасць Сямусе... Пачынаючы з гэтага часу царкоўнае кіраванне перайшло да «Цара», хаця на катэдры ён занімаў другое месца. Пачалося нейкае цудоўнае пагадненне і спалучэнне ўлады: адзін (прадстаяцель) кіраваў народам, а другі кіраваў кіраўніком. «Вялікі цар» тады быў падобным на ўтаймавальніка ільвоў, утаймоўваючы сваім майстэрствам валадарачага над усімі, які меў патрэбу ў кіраўніцтве і падтрымцы. Нядаўна узведзены на катэдру, ён выяўляў у сваёй асобе яшчэ некаторыя сляды свецкіх звычак і не зацьвердзіўся ў духоўных. А навокал існавала моцнае хваляванне, царкву атачылі ворагі, і таму супрацоўніцтва «Цара» было для яго прыемным і ў яго кіраўніцтве лічыў ён валадаром сябе.*

*Быў голад самы жорсткі із памятаемых да таго часу. Горад знемагаў; ніадкуль не было ні дапамогі, ні сродкаў да палягчэння зла. Адчыніўшы сховішчы заможных словам і павучаннямі, «Цар» здзяйсняе сказанае ў Пісанні. Ён дзеліць агаладаўшым ежу (Пс., LVII, 8), насычае жабракоў (Пс., CXXXI, 15) і напаўняе дабротамі душы прагнучых (Пс. 9).*

*Якім чынам?*

*Ён збірае ў адно месца зведваючых голад і для іх, ледзь дыхаючых мужоў, жонак, немаўлят, старцаў і вартых жалю кожнага ўзросту, просіць у заможных разнастайную ежу, якою толькі магчыма задаволіць голад; выстаўляе катлы поўныя гародніны і салёных запасаў, якімі ў нас харчуецца бедната* (зародак легенды пра накармленне некалькіх тысяч людзей 7 хлябамі і 2 рыбамі). *Потым, пераймаючы служэнню самога Хрыста* (??), *які, падперазаўшыся стужкай, не пагрэбаваў памыць ногі вучням, задавальняе пры дапамозе сваіх рабоў ці служак як цялесныя патрэбы жывучых у нястачы, так і патрэбы душэўныя, дадаўшы частку да напітання і палегчыўшы іхнюю долю тым і іншым. Такім быў новы наш хлебадавальнік, другі Ёсіф!*

*Але мы можам паведаміць пра яго нешта яшчэ большае.*

*За гэтыя і падобныя справы (таму што ці ёсць патрэба спыняцца на падрабязным іхным апісанні), калі падобны набожнасцю Яўсевій, біскуп Кесарыйскі*[527]*, ужо памёр і спакойна выпусьціў дух на руках у «Цара», узводзіцца ён на высокі біскупскі пасад... Не хітрасьцю падпарадкоўваў ён людзей, але прыцягваў да сябе прыязнасьцю. Не ўладу ўжываў ён над людзьмі, не літасьцю падпарадкоўваў іх сваёй уладзе, а, што ўсяго важней, скараў іх тым, што ўсе падначальваліся яго розуму, прызнавалі недасягаемай яго ўчыннасць для сябе, і ў адным бачылі сваё выратаванне – быць з ім і пад яго кіраваннем. Усе знаходзілі небяспечным для сябе быць супраць яго, і адступленне ад яго лічылі адлучэннем ад бога; усе дабраахвотна саступалі яму, скараліся, нахіленыя пад яго ўладу як бы ўдарамі граму. Кожны прыносіў яму сваё выбачэнне, і колькі раней выказваў яму варожасьці, столькі зараз выказваў прыязнасьці і поспеху ва ўчыннасьці, у якой адной знаходзіў для сябе апраўданне.*

---

[527] εὐσεβής (эўсебес) – набожны.

*Тым часам зноў прыйшоў да нас хрыстаборны цар і прыгнятальнік веры. Чым з больш моцным супернікам ён меў справу, тым з большай бязбожнасьцю і ўзбраеннем кідаўся на яго запалены больш ранейшага і, пераймаючы таму нячыстаму і хітраму духу, які, пакінуўшы ўлонне чалавека і паблукаўшы* (па паветры), *вяртаецца да яго, каб, як сказана ў Евангеллі (Лука XI, 24-26), усяліцца ў яго ўлонне з яшчэ большай колькасьцю духаў* (гэтая цытата евангелля Лукі, належачая, як я ўжо давёў у першым томе "Хрыста", Луцэ Эладзкаму, памерламу ў 946 годзе, фактычна паказвае на апакрыфічнасць усёй гаворкі, якая і згодна са складам належыць Эпосе Гуманізму).

*Але калі злы цар, абыйшоўшы іншыя краіны, накіраваўся, з намерам заняволіць, на гэтую адзіна яшчэ застаўшуюся жыватворнай іскру праўды, тады ён упершыню адчуў беспаспяховасць сваёй задумы, таму што ён быў адбіты, як страла, стукнуўшая ў цьвярдзіну і адскочыў ад яе як парваўшаяся вяроўка. Такога кіраўніка царквы сустрэў ён і аб такі стукнуўся ўцёс! І зьнішчыўся!*

*Ад выпрабаваўшых тагачасныя бедствы можна пачуць апавяданні і паведамленні пра шмат што іншае (няма нікога, хто б не распавядаў пра гэта)... Злы цар, абвінавачваючы сам сябе і будучы пераможаны ўхваламі «Цара» (таму што і вораг здзіўляецца геразму суперніка), не загадвае рабіць яму гвалт. Пад час дня богаз'яўлення, пры шматлікім зборышчы народу ў суправаджэнні атачаючай яго сьвіты, зайшоў ён у храм і, далучыўшыся да народа, паказваў гэтым самым выгляд яднання. Калі яго слых быў уражаны, як громам, пачаўшымся спевам псалмоў; калі пабачыў ён мора народу, а ў ахвярніку і паблізу ад яго не столькі чалавечую, колькі анёльскую красу, і наперадзе ўсіх у простым становішчы самога «Вялікага цара», пры гэтым атачаючыя яго стаялі ў стане нейкай баязні і глыбокай павагі; калі, кажу, злы цар пабачыў усё гэта, і не знайшоў прыкладу, да якога мог бы дапасаваць пабачанае, тады прыйшоў ён, як чалавек, у стан знемажэння, позірк і душа яго ад здзіўлення пакрыліся змрокам і прыйшлі ў кружэнне. Калі яму патрэбна было прынесьці падарункі да боскай трапезы, прыгатаваныя яго ўласнымі рукамі, пры гэтым адпаведна са звычаем да іх ніхто не дакранаўся, тады выявілася яго немач. Ён вагаецца на нагах,і калі б адзін са служак ахвярніка, падаўшы руку, не падтрымаў хістаючагася, то ён зваліўся б і гэтае паданне было б годна слёз. З якой мудрасцю размаўляў «Вялікі цар» з гэтым царам (таму што ў наступны раз, будучы ў нас у царкве, той пайшоў за заслонку і меў там, як вельмі жадаў, размову), ці існуе патрэба пра гэта паведамляць нешта іншае, акрамя таго, што атачаўшыя цара, ды і мы, зайшоўшыя з імі, пачулі тады самі боскія выказванні. Такім з'яўляецца пачатак і такім з'яўляецца першы досьвед царскай да нас ласкі; гэтым спатканнем была спынена, як струмень, вялікая частка крыўд, рабімых нам да таго часу.*

*Але вось іншае здарэнне, якое не менш важнае за апісаныя.*

*Злыя зноў перасілілі: «Вялікаму цару» прызначана выгнанне, і ўсё было прыгатавана да выканання прысуду. Наступіла ноч; ужо стаяла калясніца; ворагі пляскалі ў далоні; набожныя замаркоціліся. Мы абступілі падарожніка, з заахвочанасьцю рыхтаваўшагася да ад'езду; было выканана ўсё патрэбнае. І што ж? Бог скасоўвае прызначанае!*

*Хто ўразіў першынца Ягіпта, разлютаваўшагася супраць Богазмагальніка, той і зараз уражвае хваробай царова сына. І як імгненна! Тут пісьмо пра выгнанне, а там прызначана хвароба; і сьвяты чалавек ратуецца, набожны робіцца для нас падарункам гарачкі сына, наставіўшай дзёрзкага цара...*

*Вялікі» пайшоў да цара, не адгаворваючыся, не згадваючы пра тое, што здарылася, як зрабіў бы іншы. Разам з яго прышэсьцем хвароба сына палягчаецца, бацька аддаецца добрым надзеям. І калі б да салодкага ён не дамешваў горкага і, паклікаўшы «Вялікага цара», не працягваў у той жа час верыць неправаслаўным, то, магчыма, яго сын, набыўшы паклікананага, быў бы выратаваны бацькавымі рукамі, у чым былі ўпэўнены знаходзіўшыяся пры гэтым і браўшыя ўдзел у яго горы* (хлопчык усё ж памёр!). *Кажуць, што хутка тое ж здарылася і з абласным кіраўніком. Валадар пакутаваў,*

*плакаў, жаліўся, пасылаў да «Вялікага», маліў яго, заклікаў да яго: «ты зараз задаволены намі, падай жа выратаванне!» І ён атрымаў прасімае, як сам запэўніваў шмат каго, не дасьведчаных у гэтым.*

*Адну жанчыну, шляхетную па чалавеку, які нядаўна скончыў жыццё, дамагаўся таварыш суддзі, вымушаючы яе супраць волі адружыцца з ім. Не ведаючы, як пазбавіцца ад дамаганняў, яна прымае рашэнне не столькі адважнае, колькі разважнае: звяртаецца да сьвятой трапезы і абірае бога абаронцам ад нападаў. Што належала рабіць не толькі «Вялікаму цару», які ў падобных справах для ўсіх быў заканадаўцам, але і кожнаму іншаму, значна ніжэйшаму чым ён? Ці не павінна было ўзяць удзел у справе, падтрымаць звярнуўшуюся, паклапаціцца пра яе? Суддзя пасылае некалькіх урадаўцаў абшукаць спачывальню сьвятога, прывесьці яго да сябе і ўчыніць допыт, не рахмана і чалавекалюбна, але як аднаго із асуджаных.*

*Паглядзі ж па новае змаганне старанніка і ганіцеля! Адзін загадваў «Вялікаму цару» скінуць з сябе вопратку. А той кажа: калі жадаеш, скіну перад табой і кашулю! Адзін пагражае збіццём безцялеснаму, а той ўжо нахіляе выю! Адзін пагражае драць яго кіпцюрамі, а другі адказвае: зробіш гэтым мне паслугу, вылякуеш маю пячонку, якая, як бачыш, шмат мяне турбуе.*

*Але як толькі горад даведаўся пра гэтае няшчасьце і пра агульную для ўсіх праз гэта небяспеку (яго абразу кожны лічыў небяспекай для сябе), тады ўвесь горад прыходзіць у хваляванне, запальваецца як рой пчол устрывожаны дымам; паднімаюцца ўсе як адзін, прыходзяць у замяшанне ўсе станы, усе ўзросты, а больш усіх збройнікі і царскія ткачы. Усё, што патрапілася пад рукі па рамяству ці сустрэлася перш іншага, стала зброяй. У аднаго былі падсвечнікі ў руках, у іншага занесеныя камяні, паднятыя палкі. Пры такім узгаранні розумаў і жанчыны не засталіся бяззбройнымі (ткацкія берды служылі ў іх замест дзідаў). Яны, адушаўляемыя рэўнасьцю, перасталі ўжо быць жанчынамі, больш таго саманадзейнасць ператварыла іх у мужчын. Карацей кажучы: усе лічылі, што, разарваўшы ўрадаўца на часткі, яны падзеляць паміж сабой дарункі набожнасьці. І той у іх быў бы самы набожным, хто першым наклаў бы руку на задумаўшага дзёрзкасць супраць «Вялікага». Што ж робіць строгі і дзёрзкі суддзя? – ён ператвараецца ў вартага жалю, беднага, самага пакорлівага прашэнніка!*

*Але раптам з'явіўся туды без крыві пакутнік, без ран венцаносец і, стрымаўшы магутнасьцю народ, утаймаваны павагай да яго, выратаваў свайго ганіцеля.*

*На ім была толькі адна кашуля, адно старое верхняе адзенне. Спаннё на голай зямлі, маленні і неўжыванне ніякага мыцця былі яго ўпрыгожваннем. Самай смачнай ежай служылі яму хлеб і соль – прыправа новага роду, і цвярозае і не заканваючаяся піццё, якое і не працуючым даюць крыніцы.*

*Што паведамлю яшчэ?*

*Аддаліся некалькі ад горада, і паглядзі на новы горад* (багадзельную сядзібу, быццам бы пабудаваную «Вялікім царам» паблізу Цэзарэі), *на гэтае сховішча набожнасьці, на гэтую агульную скарбніцу – ёмістасць набожнасьці, у якую адпаведна з заклікамі Вялікага, прыносяцца не толькі лішкі заможнага, але нават і апошнія набыткі беднынага. Тут не дапушчаюць молі, і злодзеяў не цешаць, але ратуюцца ад нападаў зайздрасьці і ад разбуральнага часу... «Цар» пераважна пераконваў, каб мы, як людзі, не пагарджалі людзьмі. Усім перадстаяцелям народа прапанаваў ён* (як згодна з евангеллямі «Цар Юдэйскі) *агульны вычын – чалавекашанаванне і вялікадушнасць да няшчасных.*

*Што скажуць нам на гэта тыя, якія абвінавачваюць яго ў гонары і напышнасьці, гэтыя злыя суддзі такіх яго дабрадзействаў, правяраючыя праўдзівае няпраўдзівым?*

*Але што гэта ўсё азначае у параўнанні з дасканаласьцю «Цара» ў слове, з магутнасьцю яго дарунка навучаць, падпарадкаваўшаму яму сьвет? Да гэтага часу мы стаялі яшчэ каля падэшвы гары, не ўзыходзячы на яе вяршыню; да гэтага часу мы плавалі па заліву, не выходзячы яшчэ ў шырокае і глыбокае мора! Хто больш яго напоўніўся*

*сьвятлом ведання, прыгледзеўся да глыбіні духа, і дасьледаваў з самім богам усё, што вядома пра бога?...*

*Што цешыць нас на баляваннях, на кірмашах, у цэрквах, што весяліць кіраўнікоў і падначаленых, манахаў і адасоблена-агульнажывучых людзей, неслужбоўцаў і служачых, займаючыхся мудрагельствам вонкавым, ці нашым? Усюды цешыць іх адно: яго лісты і творы! Непатрэбна іншага багацця, акрамя яго лістоў. Замаўкаюць старыя тлумачэнні боскага слова, над якімі папрацавалі некаторыя; абвяшчаюцца новыя тлумачэнні, і той у нас самы дасканалы ў слове, хто пераважна перад іншымі ведае яго пісанні, мае іх на вуснах і робіць зразумелымі для слыху.*

*Калі я маю да руках яго* ***Шасьціднеў*** *і прамаўляю яго вусна, тады я размаўляю са ствальнікам сьвету, спасьцігаю законы яго тварэння, і здзіўляюся стваральніку больш, чым здзіўляўся раней, маючы ў якасьці свайго настаўніка адзін зрок* (прыроды). *Калі я маю перад сабой яго выкрываючыя словы на ерэтыкоў, тады я бачу садомскае полымя, якім ператвараюцца ў попел хітрыя і непраўдзівыя языкі і сам Халанскі слуп, на шкоду ствараемы і добра разбураемы.*

*Адам – рукатварэнне Боскае – быў ганараваны смакаваць райскую асалоду і прыняць першы закон, але (як бы мне, нягледзячы на павагу да прабацькоў, не сказаць нешта абражаючае!) не выканаў запавет. А «Вялікі цар» і прыняў і захаваў запаветы, ён не зведаў шкоды ад дрэва спазнання і, мінаваўшы палымяны меч (дакладна гэта ведаю!), дасягнуў раю... Вялікім з'яўляецца Аўраам, патрыярх і выканальнік незвычайнай ахвяры, які народжанага згодна з зарокам прыводзіць да падараваўшага, як гатовую ахвяру, спяшаючуюся на сьмерць. Але не меншай з'яўляецца і ахвяра «Вялікага цара», які* ***самога сябе прынёс у ахвяру Богу****, і наўзамен не атрымаў нічога роўнага такой ахвяры (ды ці і магло быць нешта роўна-сумленным?)... Я хвалю ўсходы Якава, і слуп, які ён узвёў богу, і яго змаганне з богам (калі гэта было змаганне, а не прыраўнанне), праз што і носіць ён на сабе знакі пераможанай сутнасьці... Але я хвалю таксама і ўсходы, якія бачыў толькі «Вялікі цар», і прайшоў паступовымі ўзыходжаннямі да ўчыннасьці; я хвалю не памазаны, але ўзведзены ім Богу слуп, які аддае ганьбаванню бязбожных... Ёсіф быў раздавальнікам хлеба, але для аднаго Ягіпта, прытым не шматразова, і раздаваў ён хлеб цялесны, а «Цар» быў раздавальнікам для ўсіх хлеба духоўнага, што для мяне важней Ёсіфовага жітамерання.*

*І ён* ***быў спрактыкаваны і перамог****, і на прыканцы яго вычынаў было гучна абвешчана, што не пахіснуў яго ніхто са шматлікіх спрабаваўшых пахіснуць, але што з вялікай перавагай зрынуў ён спакусніка, і загарадзіў вусны неразумнасьці сяброў, якія не ведалі таямніцы пакуты... Самуіл быў аддадзены Богу да свайго нараджэння і адразу пасьля нараджэння асьвечаны, памазаны із рога цароў і сьвятароў; а «цар»* ***ці не пасьвечаны богу з маленства ад улоння маці****? Ці не аддадзены яму і з хламідай* (I Цар., II, 19)? ***Ці не памазанец ён госпада****, пазіраючы ў прынябеснае і сьвятым духам помазуючы дасканалых?.. Саламон настолькі быў паспяховым у прамудрасьці і сузіранні, што зрабіўся самым слаўным із усіх сучаснікаў, а «Цар», згодна з маім меркаваннем, ніколькі не саступаў яму ў мудрасьці; ён уціхамірваў дзёрзкасць шалеючых цароў, і не адна толькі Саўская ці нейкая іншая царыца прыходзіла да яго ад канца зямлі кіруючыся чуткамі пра яго мудрасць, таму што мудрасць яго стала вядомай на ўсіх канцах зямлі... Ты хваліш адвагу Іліі перад катамі і яго палымянае захапленне? Пахвалі ж і жыццё «Цара» ў полымі, то бок у шматлікасьці спакус, і выратаванне праз полымя, запальваемае, але не спальваючае, а таксама яго выдатнае скуранoе покрыва, падараванае звыш, то бок яго* ***безцялеснасць****.*

*Такім з'яўляецца гераізм гэтага мужа, такой з'яўляецца яго вялікая слава, што шмат што, малаважнае ў ім, іншыя спрабавалі ператварыць для сябе ў сродак славы. Такімі былі бляклaсць твару, адрошчванне на ім волас, ціхасць хады, павольнасць у прамовах, незвычайная задумёнасць і паглыбленне ў сябе, якое ў шмат каго, з нагоды немайстэрскага пераймання і няправільнага разумення, ператварылася ў панурасць. І ты*

*сустрэнеш шматлікіх «Вялікіх цароў» на выгляд, але гэта – статуі, уяўляючыя яго цень, таму што немагчыма сказаць, каб яны былі яго рэхам. Рэха, хаця і з'яўляецца толькі заканчэннем выказванняў, аднак жа паўтарае іх выразна, а гэтыя людзі больш адстаяць ад яго, чым больш жадаюць да яго наблізіцца. Справядліва ставілася ў вялікі гонар, калі некаму здаралася быць блізкім да яго, ці прыслугоўваць яму, ці запомніць па памяці нешта вымаўленае ці зробленае ім, ці жартам тое ці з намерам, чым, наколькі ведаю, і я неаднаразова пахваляўся, таму што ў яго і неабдуманае было больш каштоўным і выдатным чым зробленае іншымі з вялікімі намаганнямі.*

*Калі, скончыўшы плынь і выканаўшы веру, пажадаў ён вызваліцца, і наступіў час прыняцця ім вянка, тады ён пачуў не наказ: «падніміся на гару і сканай»* (Другаз., XXXII, 49, 50)*, але: «сканай, і падніміся да нас». І, вось, здзяйсняе ён дзіва не меншае за апісаныя...*

*Ён ляжаў пры апошнім выдыханні, запрашаемы да нябеснага лікастаяння, да якога з даўняй пары распасьціраў свой позірк. Вакол яго хваляваўся ўвесь горад. Непераноснай была страта; жаліліся на яго адыход, як на прыгнёт, спрабавалі затрымаць яго душу, як быццам бы існавала магчымасць захапіць і гвалтоўна затрымаць яе рукамі і малітвамі (гора рабіла іх неразважлівымі). І кожны, калі б толькі існавала магчымасць, быў гатовы прапанаваць яму нешта ад свайго жыцця. Калі ж усе іхныя намаганні выявіліся марнымі* (належала выкрыцца таму, што ён быў чалавек), *і калі, вымавіўшы апошняе слова: «у рукі твае перадаю дух мой»* (Пс., XXX, 6), *і калі, падняты анёламі, ён радасна выпусьціў дух,* (папярэдне таемнанадзяліўшых прысутных і ўдасканаліўшы іх сваімі павучаннямі), *і тады пачынаецца дзіва, самае выдатнае із адбываўшыхся калі-небудзь: сьвяты быў вынесены падняты рукамі сьвятых. Кожны із прысутнічаючых клапаціўся толькі пра тое, каб узяцца ці за падкрылкі рыз, ці за покрыва, ці за сьвяты ложак, ці дакрануцца да яго* (таму што ці існуе нешта больш сьвятое і чыстае чым яго цела?), *ці нават толькіісьці побач з нясучымі, ці ж нацешыцца адным толькі назіраннем* (таму што і яно дастаўляла карысць). *Поўнымі былі кірмашы, завулкі, другія і трэцція паверхі; тысячы кожнага роду і веку людзей, да таго часу невядомых, то папярэднічалі, то суправаджалі, то атачалі яго ложак і выціскалі адзін аднаго. Псалмаспевы былі заглушаемы галашэннем, і мудрагельства закончылася гаротнасьцю.*

*Скажу на заканчэнне, што гаротнасць закончылася сапраўдным бедствам: ад цісканіны, імкнення і народнага хвалявання не малая колькасць людзей страцілі жыццё і іхны скон быў пажаданы, таму што пайшлі адсюль разам з ім і сталі (як выказаўся б нехта із руплівых) надмагільнымі ахвярамі. Калі ж цела з цяжкасьцю схавалася ад драпежных рук і пакінула ззаду сябе суправаджаючых, тады аддадзена яно было магільні бацькаў, і да іерэяў дадаўся архірэй, да павучальнікаў – вялікі голас (яшчэ агалошваючы мой слых), да пакутнікаў – пакутнік...*

*Такім з'яўляецца да цябе ад мяне слова, «Цар»! Хто ж ухваліць мяне самога, калі пасьля цябе я скончу жыццё, калі і дастаўлю слову нешта годнае ўхвалы*?»

Чытач сам зразумее, чаму я размясьціў гэтую гаворку, амаль цалкам.

Увесь характар выкладання і сам склад гэтага дакумента паказвае на яго вельмі пазьняе паходжанне. Перадусім тут няма ніякай чартаўшчыны і ніякіх непраўдападобных цудаў, акрамя аленяў, а потым цытуецца евангелле Лукі, якое належыць, як я ўжо паказваў, X стагоддзю нашай эры. Але аўтар жыў нашмат пазьней нават і X стагоддзя, ён, відавочна, жыў тады, калі ў культурным грамадстве Заходняй Яўропы ўжо пачалося вальнадумства, і прапаведнікі і клерыкальныя пісьменнікі пачалі лічыцца з ім, імкнучыся прыбраць і заснавальнікаў сваёй царквы ў культурнае адзенне свайго часу «просячы прабачэння» за свае паведамленні не толькі пра нячысьцікаў, але нават і пра «аленяў».

І цікавым тут з’яўляецца тое, што шматлікія асноўныя рысы евангельскай выявы захаваліся і тут, хаця аўтар і не падазрае, што Ратавальнік-Езус і «Вялікі цар» толькі – два розныя адлюстраванні заснавальніка хрысьціянскага набажэнства.

Із усіх 45-ці «слоў», прыпісваемых аўтарамі друкарскай эпохі Неспячаму Багаслову, гэта адзінае, уяўляючае філасофскую цікавасць. Хто яго напісаў? Гэта не быў аднайменны з ім шаблонны пісьменнік XVI стагоддзя, якога дзякуючы нейкім незразумелым непаразуменням руплівы калектар старажытнасьцей перасяліў у IV стагоддзе нашай эры, нягледзячы на тое, што яго склад і ідэалогія больш адпавядаюць ардынарнаму царкоўнаму пісьменніку XIX стагоддзя. Тут усе прыкметы наўмыснай падробкі і містыфікацыі, таму што аўтар прама паведамляе, што «Вялікі цар» быў яго сябарам. Аднак, магчыма і тое, што нейкі самаўпэўнены пісьменнік, ведаючы, што выдаўцы шукаюць складанні «Рыгора Багаслова», вырашыў прастадушна «аднавіць яго надмагільную прамову «Вялікаму цару», кіруючыся тым, што «нічога іншага акрамя гэтага і не мог вымавіць сябар заснавальніка хрысьціянскага набажэнства над яго целам».

Жывучы ў асяроддзі жэнеўскай эміграцыі ў 1875 годзе, я сам быў сведкам выпадку, калі адзін із тамтэйшых сацыялістаў-федэралістаў, Ралі, аднавіў такім жа спосабам прамову незнаёмага яму працоўнага, вымаўленую на судзе сената ў Расіі. Выйшла, вядома, яго ўласная прамов, як і ў дадзеным выпадку[528].

Рэзюмуючы ўсе гэтыя паведамленні, мы знаходзім наступнае.

Продкі «Вялікага Цара» былі знакамітымі, вызначаліся набожнасьцю, хаваліся (як Ёсіф і Марыля) ад пераследаў Максіміна (замест Ірада) і цудоўным чынам сілкаваліся ў пустыні. Ён быў прысьвечаны імі Богу з маленства. Валодаў незвычайнымі талентамі. Вучыўся ў сядзібе бацькі, потым у «Сталіцы» (Цэзарэі), потым у Цар-Горадзе і ў Афінах, дзе быў вядомы яшчэ да прыбыцця туды. Вучыўся літаратуры і медыцыне. Пасьля вяртання ў «Сталіцу» быў спачатку чытаром, потым прасвітарам. Дзякуючы непагадненню з біскупам ён выдаляецца ў Пантыйскую пустыню, як і евангельскі Вялікі Цар. Вярнуўшыся ў «Сталіцу» (Цэзарэю), ён аспрэчвае арыянскае вучэнне і пачынае праз гэта змаганне з Валентам, які выпраўляе яго ў спасылку, а Вялікі Цар пагаджаецца лячыць яго хворага сына. Сын неўзабаве памірае і «Вялікага Цара» прыгаворваюць да чагосьці, але вялізны натоўп яго прыхільнікаў бароніць яго. Яго ўласныя біскупы падымаюцца на яго, але ён перамагае іх мячом свайго слова. Ён павучае павазе да бедных і адчуваючых нястачу, будуе прытулкі, корміць галадаючых падчас неўраджаю. «Суд твой па праўдзе суд Боскі», кажа яму Неспячы Багаслоў у 18-м слове. Усё гэта тыя ж рысы, якія мы бачым і ў вобразе евангельскага Хрыста.

## III.

## Астатнія «творы» прыпісваемыя Неспячаму Багаслову.

З’яўляюцца цікавымі некаторыя месцы ў прыпісваемым яму артыкуле «Вершы пра самаго сябе», хаця б гэта і не вершы.

Возьмем, напрыклад, месца пра землятрус у Нікеі, адбыўшыся ў той час.

«*Із маёнтка, якім валодаў брат, нешта паглынула расчыніўшаяся зямля, калі і сам ён быў накрыты парэшткамі Нікеі, а нешта дэман аддаў на разрабаванне ад рук непрыстойных людзей; толькі ён сам, завалены парэшткамі, пазбег сьмерці, таму што*

---

528 Гл. Эмігранцкі часопіс «Працаўнік», № 1, 1875 г. Жэнева. Пра гэта грунтоўна распавядаецца ў II томе «Аповесьці майго жыцця».

*нябесны бог працягнуў сваю руку над сядзібай, у якой ён знаходзіўся. О, цэсарэвіч мой* (Кесарый) *– высокашануемае імя! Як ранішняя зорка блішчэў ты тады пры царскім двары, займаючы першае месца дзякуючы мудрасьці і рахманаму нораву, маючы шматлікіх моцных сяброў і таварышаў! Для шмат каго знаходзіў ты лекі ад цяжкіх цялесных хвароб; шмат каго пазбавіў ад галечы сваімі дабрадзействамі; але зараз ты памёр, а я насыціў шмат сабак, якія адусюль абступілі мяне і брэшуць на мяне, а із родных ніхто не падае мне дапамогу. Нешматлікія мяне паважаюць, ды і тыя паважаюць як ворагі: шануюць, пакуль яшчэ нічога не атрымалі ад мяне, а атрымаўшы, ненавідзяць. Так з высокага купчастага дуба, калышучагася намаганнямі ветру, адусюль вакол адрываюцца галіны; так із шырокага вінаградніку, у якога разбурана агароджа, побач праходзячыя падарожнікі без літасьці зрываюць гронкі, і пасьвячыся ў лясах вяпрук наносіць яму шкоду зубамі. А мне засталася толькі шмат слёзная праца: няма моцы ў маёй руцэ ні насыціць, ні адагнаць усіх...*

*Сівая галава і пакрытае маршчынамі цела схіліліся ў мяне да вечара скрушальнага жыцця. Але да гэтага часу не адчуваў я такіх моцных і шматлікіх нягод. Не пакутаваў я так шмат і тады, калі, выпраўляючыся ў Ахайю із Фароскай зямлі, я сустрэў мора, ахопленае зацятымі вятрамі пры восеньскім узыходжанні сузор'я Цяляці, якога асабліва баяцца плывучыя, і нешматлікія з іх адважваюцца пры ім адчапляць карабельную вяроўку. Дваццаць дзён і начэй ляжаў я на карабельнай карме, заклікаючы ў малітвах пануючага ў нябесных прыстанках бога; пеністыя хвалі, падобныя гарам і ўцёсам, то з таго, то з другога боку білі ў карабель, і нярэдка падалі ў яго; ад парывістага ветру, свішчучага ў лінах, трэсліся ўсе ветразі; эфір у аблоках счарнеў; ён азараўся маланкамі і паўсюдна вагаўся ад моцных удараў граму. Тады аддаў я сябе богу і пазбавіўся ад зацятага мора, уціхамiранага сьвятымі зарокамі. Не пакутаваў я столькі і тады, калі ваганіся падставы шырокай і трапяткой Элады і не бачна было дапамогі ў бедстве, а я трапятаў ад таго, што душа мая не была яшчэ асьвечана нябесным дарам...*

*Як нехта, ратуючыся ад ільва, набягае на лютага мядзведзя, і, збегшы ад мядзьведзя, з радасьцю хаваецца ў сядзібе і абапіраецца рукой пра сьцяну, але там нечакана яго кусае змяя; так і мне, пазбегшаму шматлікіх пакут, няма лекаў ад бедстваў. Што ні сустракаю, усё больш балюча чым раней. Усюды шукаю дапамогі, і паўсюдна абцяжарваемы табой, да цябе зноў звяртаю позіркі шчаслівы, да цябе мая дапамога, да цябе ўсемагутны ненароджаны пачатак і бацька пачатку – несьмяротнага сына; вялікае сьвятло роўнага сьвятла, якое адпаведна з недасьледаванымі законамі ад адзінага выходзіць у адзінае, – да цябе сын боскі, прамудрасць, цар, слова, праўда, выява першаўзору, сутнасць роўная бацьку, пастыр, ягня, ахвяра, бог, чалавек, архірэй; да цябе, дух выходзячы ад бацькі, сьвятло нашага розуму прыходзячага да чыстых душой і ствараючае чалавека богам. Злітуйся нада мной, даруй і мне, як тут у старэчыя гады, так і ў будучым жыцці, калі пачну стасункі з усёй боскасьцю, радасна ўсхваляць цябе несьціхаемымі спевамі!»*

Але, ж, гэта, чытач, цалкам іншы склад, чым у папярэднічаўшых узорах, а такім чынам, і іншы аўтар, хаця таксама вельмі позняй друкарскай эпохі!

А із месцаў па прыродазнаўству, існуючых у «творах Неспячага Багаслова», я бяру два прыклады із «**Парады нявіннікам**».

«*Невялікая саламандра не бяжыць прэч ад вынішчаючага полымя, але скача па ім на нізкіх сваіх нагах, як па зямлі. Існуе полымяпадобная рыба. Выглядаючы запаленай, яна не памірае ад гэтага дзівоснага полымя, але гарачы, блішчыць сярод вады. Камень магніт ці не прыцягвае да сябе жалезную гіру? І ці адамант не нязломны? Існуе камень, які ад удару жалезам не выдае ззяння; а другі ззяе ад кропель вады, але, выдаючы ззянне ў вадзе, перастае ззяць ад масла. Бачыў я еўбейскі* (??) *хуткі праліў – гэты вузкі праход і незамкнёны ключ мора, бачыў, як ён шалее ў сваіх зваротных плынях. Мора то прыбывае, то цячэ адваротна назад. Акіян то аддаляецца ад зямлі, то зноў паспяховымі хвалямі набягае на сушу; і на кімерыйскіх берагах ты бачыш то поле, то мора. Але існуе і іншы*

*струмень, як полымя палаючае, калі справядліва, што із уцёсаў Этны вывяргаецца такая непраўдападобная рака-полымя, і незлучаемае злучана ў ёй адпаведна з воляй Хрыста...*

*Гэта вырабляе прырода. Паслухай жа, чаго дамаглося мастацтва. Шпакі размаўляюць падобна чалавеку, пераймаючы чужому голасу, які яны пераянялі, бачачы ў люстэрку выяву вытачанага із дрэва шпака, і чуючы чалавечы голас прамыслоўца, схаваўшагася за люстэркам. І крумкач таксама крадзе гукі ў чалавека. А калі прыбраны і крываносы папугай у сваёй закратаванай сядзібе загаворыць па-чалавечы, тады ён падманвае нават слых самога чалавека. Вешаюць ліны і па іх ходзяць коні. Паважны мядзведзь ідзе на задніх нагах і, як разумны суддзя, засядаючы на судзейскім месцы, трымае ў лапах (як магчыма падумаць) шалі правасуддзя; і звер уяўляецца надзеленым розумам. Чалавек навучыў яго таму, чаму не навучыла прырода. Бачыў я таксама ўтаймавальніка звяроў, сядзячага на хрыбце ў магутнага ільва і рукой утаймоўваючага магутнасць звера. Ён трымае стырны, а бягучы леў, забыўшыся пра сваю лютасць, падпарадкоўваецца гаспадару і лашчыцца да яго. Бачыў я таксама цяжкага і велікарослага звера* (слана) *з вялікімі зубамі: хлопчык індус сядзіць на ім, і невялікім кійком прымушае яго ісьці як карабель, паварочваючы туды і сюды цела магутнага слана. Адважным быў той, хто першым намысліў утаймаваць звера, наклаў яму на выю ярмо, і ён павёз вялізную калясніцу*».

Такімі, чытач, былі веды малазійцаў яшчэ пад час IV стагоддзя! А вось, і яшчэ слова «Неспячаму» пад назвай:

«***Слова на жанчын, шануючых уборы***: *Не будуйце, жанчыны, на галовах у сябе веж із* ***накладзеных*** *валос* (шыньёнаў): *не выстаўляйце на паказ далікатную шыю* (не дэкальтуйцеся); *не пакрывайце падараваны богам твар гнюснымі фарбамі і не насіце маскі. Жанчыне непрыстойна паказваць мужчынам адкрытую галаву, хаця б золата было ўплецена ў кучары; непрыстойна, каб незвязаныя, як у скачучай менады, валасы раздуваліся нясьціплымі ветрыкамі туды і сюды. Непрыстойна насіць наверсе грэбень, нападобе шлема, ці бліскучую вежу, бачную мужчынам з далёку...*

*Калі ты імкнешся спадабацца позіркам іншых, то гэта ненавісна твайму чалавеку. Лепш табе ўсярэдзіне сваёй сядзібы хаваць дадзеную прыродай прыгажосць, чым неблагачынна выстаўляць напаказ падробленую прыгажосць. Чалавеку дастаткова і тваёй прыроднай прыгажосьці. А калі прыгажосць выстаўлена для шматлікіх, як сетка для статка птушак, то перш ты сама пачнеш цешыцца тым, хто табой цешыцца, і абменьвацца з ім позіркамі, потым пачнуцца ўсмешкі ў абмен на словы, спачатку таемна, а пасьля ужо з большай смеласьцю... Існуюць чалавекі, якія імкнуцца перасягнуць адзін аднаго ва ўборах сваіх жонак, каб аднаму перад іншым мець перавагу ў неразумнасьці. Часта і пры недастатковым багацці яны прыкладаюць усе намаганні, каб абудзіць безсарамнасць сваіх жонак. Але ты ніколі не давай меч свайму ворагу і не адкрывай горнаму струменю шлях на свае нівы*».

Зноў, чытач, – норавы і ўборы вельмі позняй эпохі, а не IV стагоддзя нашай эры! А вось – і ўзоры эпітафій: таксама ў познім стылі.

«*Плачце, крыніцы, рэкі, гаі, міласпеўныя птушкі, выдатна цешачыя слых з вяршыні дрэў; плачце, ветрыкі, навяваючыя сваім шолахам захапляючы сон; плачце кветнікі харыт, сабраўшыхся разам. О, чароўны сад Яўхіма! Наколькі хвалебным зрабіў цябе памёршы, таму што ты носіш яго імя! Калі бываў нехта больш выдатным за ўсіх юнакоў, дык гэта ён. Калі існуе нейкае поле больш выдатнае за ўсе палі, дык гэта яго Элізій. Таму і сабраліся ў ім разам усе харыты. І хаця пакінуў жыццё Евімій, аднак жа пакінуў ён сваё імя гэтаму цудоўнаму месцу*».

Ці:

«*Амфілохій памёр, разбурыўся выдатны храм красамоўства, які яшчэ заставаўся ў людзей. Заплакалі харыты, сышоўшыся з музамі, а асабліва заплакала пра цябе твая ласкавая бацькаўшчына – Дыяцэзарыя. «Малое я мястэчка Дыяцэзарыя, – выказваецца*

*яна – але падараваны мной вялікі чалавек ахвярнікам правасуддзя, Амфілохій памёр! Памёрлі разам з ім як палымянае красамоўства так і слава бацькаўшчыны нараджаючай такіх гераічных мужоў*».

А вось, і яшчэ эпітафія:

«*Не ўхваляю я, не ўхваляю, што ты, Цэзарый, із усіх чалавечых набыткаў абраў адзін дарунак – магілу. Якім горкім з'яўляецца гэты камень для тваіх састарэлых бацькоў! Але так пажадала зайздрасць. І недоўгачасовым стала наша жыццё ад такіх нягод! І ў геаметрыі, і ў спазнанні становішча нябёс, і ў лагічным мастацтве спаборніцтва, і ў граматыцы, і ў медычнай навуцы, і ў магутнасьці красамоўства, адзін ты, Цэзарый, сваім крылатым розумам асягнуў усю мудрасць, якая з'яўляецца даступнай тонкаму чалавечаму розуму. А зараз, на жаль! на жаль! – падобна кожнаму іншаму, ты стаў жменькай пылу*».

Ці яшчэ:

«*Геракл, Эмпедатым, Трыфоній, і ты, незвычайная ганарыстасць ганарыстага Арэстэя! Замоўкніце са сваімі байкамі! Вы смяротныя, а не блажэнныя са сваімі жарсьцямі. Але хрыстаносная Нона, служка крыжа, занядбаўшая мір, прайшоўшы з мужным духам шлях жыцця, зараз, як жадала, трышчаслівая, узнялася ў перабнябеснае кола, адарваўшыся ад цела ў храме. Прамяністы і найсвятлейшы Анёл забраў цябе, Нона! Малілася ты, чыстая і целам і розумам, і ён забраў розум твой, а цела пакінуў тут у храме. На палаючай калясніцы падняўся на неба Ілія; а Нону прыняў да сябе вялікі Дух*».

Не больш дасягаемымі для IV стагоддзя з'яўляюцца і тыя із прыпісваемых Неспячаму Багаслову дробных твораў, якія невядома чаму маюць назву «Вершы». Вось, напрыклад, чацьвёрты із іх:

«**Пра сусьвет**»: «*Апяём тварэнне вялікага бога, аспрэчыўшы ілжывыя думкі. Бог адзіны. А тое, што ўяўлялі сабе элінскія мудрацы пра матэрыю і форму, быццам бы яны не маюць пачатку, то гэта ні на чым не заснаваная байка. Рознаімённыя формы рэчыва, зробленыя ў іх багамі, не існавалі ад пачатку, але набылі існаванне адпаведна волі вялікага бога. Ці бачыў хто некалі матэрыю без формы? Ці знайшоў хто форму без матэрыі, хаця б вельмі шмат працаваў у патаемных выгінах розуму? А я не знаходзіў ні цела не маючага колеру, ні не маючага колеру цела. Хто аддзеліць адно ад другога тое, чаго не аддзяліла прырода, але аб'яднала разам? Аддзялі форму ад матэрыі і падумай сам: калі б яны былі цалкам незлучаемымі, то як бы сышліся разам, ці як бы ўтварыўся сусьвет, калі б яны былі цалкам адрозныя? А калі яны злучаемы, то як злучыліся? Хто, акрамя бога, зліў іх паміж сабой? Але калі бог – злучальнік, то яго ж прызнай і стваральнікам усяго. І ганчар на сваім коле надае форму гліне, а плавільнік золата – золату, і каменецёс – камяням. Саступі ж, аматар адсутнасьці пачатку, саступі богу нешта перавышаючае наш сэнс! І гэтае большае, чым нашы здольнасьці ў стане зрабіць, хай будзе матэрыя з рухомымі формамі. Падумаў боскі розум, шматмайстэрскі бацька ўсяго, і ўтварылася матэрыя, абмежаваная ў формы*»...

Ці маглі так філасафаваць у IV стагоддзя? А вось – і яшчэ.

«**Пра душу**»: «*Душа не з'яўляецца сутнасьцю вынішчаючага полымя, таму што паглынаючаму не ўласьціва адушаўляць паглынаемае. Яна не сутнасць паветра, то выдыхаемага, то ўдыхаемага і ніколі не застаючагася ў спакоі. Яна не струмень крыві, прабягаючай у целе, нават не гармонія частак цела, прыводзімых у адзінства, таму што сутнасць цела і сутнасць несьмяротнай формы не адно і тое ж... У мяне не нейкая там агульная, падзеленая паміж усімі ад мяне і блукаючая па паветры душа. У гэтым выпадку ўсе б як удыхалі так і выдыхалі адdirectionнолькавую душу, і ўсе жывучыя на сьвеце, выпусьціўшы дух, памяшчаліся б у іншых жывучых, таму што сутнасць паветра ў розныя часы бывае разліта ў розных рэчах. А калі мая душа з'яўляецца нечым існуючым у маёй маці, пад час калі ўтвараўся мой зародак, таксама жывой істотай у яе ўлонні і калі нараджаючая*

*мяне была маці шматлікіх дзяцей, то патрэбна ганаравацць яе тым, што яна выдаткавала на сваіх дзяцей шмат душ...*

*Быў час, калі высокае «Слова», ідучы сьледам за вялікім розумам свайго бацькі, стварыла не існаваўшы да таго сьвет. Яно вымавілася і здзейснілася ўсё, што было яму пажадана. Але калі зямля і неба, і мора склалі наш сьвет, спатрэбіўся глядач прамудрасьці – маці ўсяго гэтага, шануемы зямны цар. Тады вымавілася «слова»:*

*– Пажадана мне стварыць нейкі род істот, сярэдніх паміж сьмяротнымі і несьмяротнымі – разумнага чалавека, які цешыўся б маімі справамі, быў бы мудрым сховішчам нябеснага, вялікім валадаром зямлі, новым анёлам із пылу, спеваком маёй магутнасьці і майго розуму.*

*Так вымавілася «Слова», і, узяўшы частку новастворанай зямлі, несьмяротнымі рукамі ўтварыла маю выяву і надало ёй частку свайго жыцця. Яно даслала ў яго дух, які з'яўляецца бруяй нябачнай боскасьці... Як цела, спачатку створанае для нас із пылу, зрабілася пазьней струменем чалавечых цел, і ад перша-створанага кораня не спыняецца да гэтай пары, змяшчаючы ў адным чалавеку іншых: так і душа, удыхнутая богам, пачынаючы з гэтага часу ўваходзіць у склад чалавека, нараджаемая зноў і надаваемая шматлікім із першапачатковага семені, і заўсёды захоўвае сваю пастаянную выява ў смяротных частках»...*

Скажыце самі, ці падобна гэта на верш? Гэта тыповая царкоўная дыялектыка заканчэння Эпохі Адраджэння і гэтае разважанне цікава тым, што ў ім упершыню даводзіцца, што душа не з'яўляецца ўдыхаемым намі паветрам.

Больш падобна на верш такая п'еса:

«**Да самаго сябе**»:

*«Дзе мае крылатыя прамовы?*
*– У паветры.*
*– Дзе кветка майго юнацства?*
*– Загінула.*
*– Дзе мая слава?*
*– Схавалася ў невядомасьці.*
*– Дзе моц маіх добра складзеных частак?*
*– Знішчана хваробай.*
*– Дзе мой маёнтак і багацце?*
*– Нешта забраў бог, а нешта зайздрасць перадала ў драпежныя рукі злыдняў.*

*Мае бацькі і сьвятая двойца маіх адзінакроўных сышлі і магілу. Заставалася ў мяне толькі радзіма. Але і адтуль прагнаў зласлівы дэман, узвёўшы супраць мяне чорныя хвалі.*

*Зараз я, самотны падарожнік, туляюся па чужому краю, вядучы вартае жалю жыццё і самотную старасьць. Я не маю для сябе ні пасада, ні горада, ні дзяцей, хаця абцяжараны клопатамі пра дзяцей і, бесперапынна туляючыся, правожу на нагах дзень за днём.*

*– Дзе скіну я з сябе гэтае цела?*
*– Дзе сустрэну я свой канец?*
*– Якая магіла прытуліць мяне ў сабе?*
*– Хто пакладзе зямлю на мае згасшыя вочы?..*

*Толькі адно здабывае ў мяне слёзы і прыводзіць у жах – гэта суд боскі, палаючыя рэкі і жахлівыя, цёмныя бездані».*

Ва ўхвальным слове філосафу Герону, якога аўтар спісаў з александрыйскага аскета Найвялікшага (Максіма), гаворыцца:

«*Плёнам яго філасофіі былі не нейкія індыйскія расьліны – сіндойсы; не дзіўныя жывёлы – трагелафы, складаючыяся із казы і аленя; не спалучэнні нічога не азначаючых літар; не катэгорыі раскладання і спалучэння; не сімвалы і парасімвалы, ні ўся наменклатурная мудрасць і не ўзаемныя спалучэнні зорак і сузор'яў, прыдуманыя для абразы боскага прамыслу*.

*Усё гэта ён лічыў прадметамі другараднымі, якімі: можна заняцца дзеля забавы, каб не стаць пасмешышчам для людзей, выдаючых сябе за дасьведчаных у такіх рэчах. Першай і самай важнай справай было для яго мець адвагу перад царамі, спыняць неразважлівасць хвалюючагася чарналюду, ганарыстасць навукоўцаў, нястрыманасць смеху, празмернасць засмучэння... Усяму гэтаму ці не аддасць перавагу кожны разважлівы чалавек сілагізмам і лініям, і назіранню за зоркамі, разважыўшы, што калі б усе займаліся высновамі і сталі геаметрамі і астраномамі, то ад гэтага не адбылося б ніякай карысьці для нашага жыцця, а хутчэй усё рассыпалась бы*»...

У V Слове «**Пра прамысел**» ён так выказваецца пра астролагаў:

«*Ты, уяўляючы зоркі правадырамі нашага нараджэння, нашага жыцця і цэлага сьвету, скажы: якое яшчэ іншае неба размесьціш ты над зоркамі і размесьціш над ім яшчэ новае і новае, каб было каму вадзіць водзячых*?

*Пад адной зоркай народзіцца нейкі цар і шмат іншых людзей, із якіх некаторы добры, а некаторы дрэнны, адзін – красамоўца, другі – купец, трэцці – бадзяга, а некага высокі пасад зробіць напышлівым. Для шмат каго, народжаных пад рознымі зоркамі, роўная доля і на мора, і на вайне. Каго злучалі зоркі, тых не злучыў паміж сабой аднолькавы канец...*

*Патрэбна каму-небудзь аднаму кіраваць: ці богу ці зоркам... Такое маё слова. Яно незалежыць ад зорак і ідзе сваім шляхам. Не кажы ты мне пра свае гараскопы, пра дробныя часткі задыякальнага кола і пра меры шляху; не руйнуй мае законы жыцця, не знішчай баязні злозных і надзею добрых, змагаючуюся да канца! Калі ўсё дае зорнае кола, то і я завабліваюся яго ж вярчэннем, і само жаданне вырабляецца ў ва мне тым жа колам. Няма ў мяне самога ніякай магутнасьці волі ці розуму, якія вялі б мяне да дабра: да гэтага заваблівае мяне неба.*

*Не згадвай мне пра вялікую славу хрыстову, пра зорку-добравястунню, якая з усходу паказвала шлях вешчунам у той горад, дзе заззяў Хрыстос – бяздзетны сын нашага сьмяротнага роду! Яна не із ліку тых, тлумачальнікамі якіх з'яўляюцца астролагі, але незвычайная, не з'яўляўшаяся раней, а пазначаная ў жыдоўскіх кнігах. Даведаўшыся папярэдне із іх пра такую зорку, халдэі, прысьвяціўшыя сваё жыццё зоркаслоўю, са здзіўленнем заўважылі яе сярод шматлікіх назіраемых імі зорак і, прымеціўшы, што яна з новым ззяннем нясецца з усходу па паветры ў жыдоўскую зямлю, зрабілі із гэтага выснову пра нараджэнне «Цара». І, менавіта, у той час, калі разам з жыхарамі неба, пакланіліся «Цару» астролагі, адпала ў іх апека пра сваё мастацтва.*

*Хай жа бягуць сваім шляхам, які паказаў ім «Цар»-хрыстос, гэтыя палаючыя, вечна-рухомыя, незварочваючыя са сваіх шляхоў зоркі, як нерухомыя, так і блукаючыя, апісваючыя, як кажуць, адны і тыя ж колы. Пакінем без дасьледавання пытанне: ці магчыма прырода палымя, падтрымліваемая без сілкавання, ці існуе нейкае, так званае, пятае цела* (відавочна, флагістон алхімікаў). *Пайдзем сваім шляхам. Таму што хаця мы, і вязні зямныя, аднак жа спяшаемся да разумнага і нябеснага быцця*».

Але гэта ж, чытач, ужо ідэі XVIII стагоддзя!

Патрэбна не мець ніякага разумення пра гісторыю астралогіі ці алхіміі, каб дапасаваць гэта да IV стагоддзя нашай эры!

У іншым месцы (Слова XXIX), пераймаючы Ёву (XXVI, 31), аўтар усклікае:

«*Прайдзі шырату і даўгату агульнай усім нам маці-зямлі, абыйдзі марскія залівы, злучаемыя адзін з адным* (акіянам) *азірні хараство лясоў і рэк, вялізныя і невычарпальныя крыніцы вады, не толькі цякучай паверх зямлі, халоднай і прыдатных для піцця, але і той, якая прабіраецца пад зямлёй па нейкіх расколінах*.

*Ці ад таго, што яе гоніць і штурхае моцны вецер, ці ад таго, што яе разгарачае ўласнае змаганне і супраціўленне, яна прарываецца патроху, дзе толькі магчыма, на паверхню зямлі і ў шматлікіх месцах дастаўляе для нашага ўжывання розных уласьцівасьцей цёплыя ванны – гэтыя дармавыя і сама-аднаўляючыяся лекі? Скажы, як і*

*адкуль яна? Чаму стаіць зямля цьвёрда і непахісна? Што падтрымлівае яе? Якое ў яе апірышча? Наш розум не знаходзіць нічога на чым бы зацьвердзіцца ёй, акрамя як на боскай волі... Дзякуючы чаму мора хаця і ўздымаецца, але ўсё ж стаіць на сваім месцы, як бы сарамеючыся сумежнай сушы? Дзякуючы чаму яно, хаця і прынімае ў сябе ўсе рэкі, але не прыбывае? Чаму для яго – такой вялізнай стыхіі, служыць мяжой сыпучы пясок?*

*Што могуць сказаць на гэта прыродазнаўцы, мудрыя ў пустым, якія, сапраўды, мераюць мора малой чаркай, што азначае вымяраюць вялікі прадмет – сваім малым разуменнем... Хто пракапаў рэкі на раўнінах і ў гарах? Хто дазволіў ім бесперашкодна плыць? Якое дзіва процілегласьцей: мора не перапаўняецца, а рэкі не вычэрпваюцца! Што пажыўнага ў вадзе? Дзякуючы чаму адны расьліны абрашаюцца зверху, а іншыя напіваюцца праз, карані?... Хто разліў паветра – гэтае каштоўнае і непамяншаючаяся багацце, якое не стрымліваецца мяжой, раздаецца не згодна з узростам, а падобна манне, бярэцца ўсімі не больш, чым патрэбна ? Яно тым і сумленна, што надаецца кожнаму ў роўнай меры. Паветра – гэта калясніца птушкападобных стварэнняў, гэта сядалішча вятроў, яно пазначае поры года, адушаўляе жывёл, ці лепш сказаць, захоўвае душу ў целе. У паветры жывуць і целы і словы, у ім знаходзіцца і сьвятло, і асьвятляемае, і зрок, пранікаючы праз яго.*

*Разгледзь і тое, што далей паветра. Я не пагаджуся надаць паветру такую вялікую вобласьць, якая яму прыпісваецца. Дзе сховішчы вятроў? Дзе скарбніцы снегу? Хто нарадзіў, згодна з пісаннем, кроплі расы? Із чыяго ўлоння выходзіць лёд* (Ёў, XXXVIII, 28, 29)?

*Хто частку вады спыніў на аблоках (*ці не цуд гэта, бачыць плывучае рэчыва, утрымліваемае ў вышыні адным словам*!), хто другую частку хмарнай вады вылівае на твар зямлі і абрашае яе своечасова і ў належнай меры, не пакідаючы ўсёй вільготнай яе сутнасьці вольнай* (дастаткова і здарыўшагася пры Ною абваднення!) *і не ўтрымлівае яе ў вышыні цалкам* (каб зноў не мець нам патрэбы ў Іліі, спыняючым засуху*)? Хто вытрымае бязмернасць таго і іншага бедства, калі пасылаючы дождж не размяркуе ўсяго адпаведна са сваімі меркамі і шалямі?*

*Якое мудрагелістае вучэнне пра маланкі і грамы прапануеш мне ты, які грукочаш з зямлі, хаця не бліскаеш і малымі іскрамі праўды? Ці назавеш падставай гэтага нейкія выпарэнні, выходзячыя із зямлі і ўтвараючыя аблокі, ці нейкае згушчэнне паветра, ці сціскание і сутыкненне найрадчэйшых аблокаў, так што сціскание вырабляе ў цябе маланку, а разыходжанне – грам? Ці назавеш у аблоках нейкі прыгнечаны і таму не знаходзячы сабе выйсьця вецер, які, будучы нагнятаемы, бліскае маланкай і, пратаргаючыся, выдае гром?..*

*Хто акругліў неба, размясьціў зоркі? Лепш жа сказаць, што такое само неба і зоркі? Ці можаш сказаць гэта ты, чалавек высакамоўны, які не ведае і таго, што ў цябе пад нагамі? Ты не можаш прывесьці ў належны стан сябе самога, і цікавішся пра тое, што вышэй тваёй прыроды, і жадаеш ахапіць невымернае! Будзем лічыць, што спасьцігнуты табой колы колаабарачэння, набліжэння, аддалення, узыходжання зорак і сонца, нейкіх іхных частак і падраздзяленняў і ўсё тое, за што ўзвышаеш ты сваю цудоўную навуку. Але гэта яшчэ не ўразуменне існуючага, а толькі назіранне над нейкім рухам, падмацаванае доўгачасовым практыкаваннем. Гэта – прывядзенне да адзінства назіранняў шматлікіх, а потым прыдумалі для яго закон і ўзвялічылі імем навукі. Так перайначванні месяца сталі вядомымі для шмат каго і тут зрок быў палічаны за пачатак спазнання!*

*Але калі ты вельмі дасьведчаны ў гэтым і жадаеш, каб дзівіліся табе па праву, то скажы: якая нагода такога ўладкавання і руху? Дзякуючы чаму сонца пастаўлена ў знак цэлага сусьвету, перад позіркам кожнага, як правадыр незлічонай колькасьці сьвяцілаў, светнасьцю сваёй засланяючы іншыя зоркі больш, чым колькі засланяюцца яны некаторымі із іх саміх? Хаця зоркі і самі свецяць, аднак жа сонца перавышае іх сьвятлом, і зоркі робяцца нябачнымі, як толькі ўзыходзяць разам з сонцам... Як сонца вырабляе*

*дзень на зямлі і ноч пад зямлёй? Што азначае гэтае павелічэнне і памяншэнне дзён і начэй, гэтая* (выкарыстаю трохі дзіўнае выказванне) *роўнасць у няроўнасьці? Як сонца вырабляе і падзяляе поры года, якія прыстойна набліжаюцца і аддаляюцца, і, быццам бы ў карагодзе, то сходзяцца адна з другой, то разыходзяцца? Яны сыходзяцца згодна з законам павагі, разыходзяцца згодна з законам прыстойнасьці, нават паступова паміж сабой зліваюцца і непрыкметна набліжаюцца, падобна надыходячым дням і начам, каб нечаканасьцю сваёй не вырабіць скрушаючага адчування.*

*Але пакінем сонца ў спакоі.*

*Ці спазнаў ты сутнасць і перайначванні месяца, меру яго сьвятла і шляху? І якім чынам сонца валадарыць над днём, а ён валадарыць над ноччу? Адзін дае адвагу зоркам, іншае падымае чалавека на справу і ідзе так, як найбольш карысна: то ўзвышаючыся, то зніжаючыся?*

*Зусім не тое «святыя сьветы з'яваў госпадавых»* – працягвае ён у XXXIX Слове. – *Тут мы бачым не жрэцкае майстэрства чараўнікоў, не адгадванне будучыні грунтуючыся на рассечаных ахвярах; тут не халдэйская астраномія і вучэнне прадказваць лёс грунтуючыся на днях нараджэння, вучэнне, зліваючае нашу долю з рухам нябесных сьвяціл, якія не могуць ведаць пра сябе саміх, што яны такое, ці чым будуць; тут не оргія фракійцаў, ад якой, як кажуць, вядзе пачатак слова фрыскейства, г.азн. наша набажэнства; тут не звычаі і таемствы Арфея, мудрасьці якога столькі дзівіліся эліны, што прыдумалі байку, быццам бы яго ліра ўсіх захапляе сваімі гукамі; тут не справядлівыя катаванні, прызначаныя Мітрай для тых, якія вырашаюцца прыступіць да яго таемстваў; тут не разарванне Азірыса* (іншае бедства, шануемае ягіпцянамі!), *не нешчаслівыя прыгоды Ізіды, не шаноўнейшыя казлы мендэзіян, не яслі Апіса-Цяляці, прынадна адкармліваемага дзякуючы прастадушнасьці жыхароў Мемфіса; тут не тое, чым у сваіх ушанаваннях абражаюць яны Ніл, пладючы і якасны, як самі яны яго апяваюць, і вымяраючы дастатак жыхароў лакцямі ўздыму сваёй вады.*

*Не! Тут, пачатак прамудрасьці – жах. Дзе жах, там выкананне запаветаў; дзе выкананне запаветаў, там ачышчэнне цела, гэтага воблака, азмрочваючага душу і перашкаджаючага ёй выразна бачыць боскі прамень...»* «*Гэты жах,* – нарэшце заканчвае ён сваё «Слова» ад пачатку не ведаўшы, куды прывядзе яго ўласнае пустаслоўе, – *і ёсць «сьвятыя сьветы з'яваў госпадах*».

Азораны такім сьвятлом клерыкальны аўтар 2-га выкрываючага Слова ад імя «Неспячага Багаслова» супраць Юльяна, усклікае да яго:

«*Як жа ты сцвярджаеш, што грэцкая адукаванасць – твая? Ці не фінікіянам належаць пісьмёны, ці, як лічаць іншыя, не ягіпцянам, ці не жыдам, якія і іх перасягаюць мудрасьцю і якія вераць, што самім богам быў напісаны іхны закон на богапісаных скрыжалях? Ці табе належыць атычнае красамоўства? А гульня ў шашкі, навука лічбаў, мастацтва лічыць па пальцах, меры і шалі, і мастацтва размяшчаць палкі і ваяваць – чыё гэта? Ці не эўбеян, таму што ў Эўбэі нарадзіўся Паламід, вынайшаўшы шмат чаго і, абудзіўшы гэтым зайздрасць, зведаў пакаранне за сваю мудрасць, то бок, быў прысуджаны да сьмерці ваяваўшымі супраць Іліёна.*

*Такім чынам, што ж? Калі ягіпцяне, фінікіяне, жыды, у якіх і мы запазычаем шмат што для свайго навучання, калі, нарэшце, жыхары выспы Эўбея будуць па-твойму прысвойваць сабе ўсё гэта, як уласнасць, то што нам застаецца рабіць? Чым будзем бараніцца супраць іх, будучы ўлоўленымі ўласнымі законамі? Ці не давядзецца нам пазбавіцца ад ўсяго гэтага, і, падобна галцы ў чужых пер'ях, бачыць, што ў нас іх абарвуць, і мы застанемся голымі і пачварнымі? Ці твая ўласнасць – вершы? Права на іх аспрэчвае тая старая, якая пасьля таго як яе штурхануў бягучы насустрач юнак, пачала лаяць яго, і ў гнеўным захапленні, як паведамляюць, выказала сваю лаянку вершавана. Гэты верш вельмі спадабаўся, – кажуць, – таму юнаку і, прыведзены ім у правільную меру, паслужыў пачаткам вершавання, настолькі табой шануемага! А што сказаць пра*

*іншае? Калі ты ганарышся зброяй: то ад каго, найадважнейшы ваяр, у цябе зброя? Ці не ад цыклопаў, ад якіх вядзе свой пачатак мастацтва каваць? Калі ўяўляецца для цябе важнай, і нават важней усяго, парфіра, якая зрабіла цябе і мудрым і ўсталёўшчыкам законаў: то ці не павінен ты аддаць яе тырцам, у якіх пастуховая сабака, з'еўшы смаўжа і запэцкаўшы свае вусны яе барвовым сокам, паказала пастуху пурпуровую фарбу, і перадала вам, царам, праз тырцаў гэтае шыкоўнае рыззё, жалобнае для злых?*

*Што яшчэ сказаць пра земляробства і караблебудаванне, якіх могуць пазбавіць нас афіняне, распавядаючыя пра дыметры, трыптадэмы, цмокаў, келеяў і ікараў і перадаючыя пра гэта шмат баек, на якіх грунтуюцца вашы безсаромныя таемствы, па праўдзе годныя начной цемры? Ці дагодна табе, каб я, пакінуўшы іншае, абмяркаваў галоўны прадмет тваёй утарапёнасьці ці, лепш, злачэсьця? Пасвячацца і пасьвячаць у таемствы і служыць багам, – адкуль прыйшло да цябе? Ці не ад фракіян? У гэтым і само слова θρησκεύειν* (фрэскеіць – служыць багам) *можа цябе пераканаць. А ахвяраванні – ці не ад халдэяў? Астраномія ці не вавіланянам належыць? Геаметрыя ці не ягіпцянам? Магія ці не персам? Варажба па снабачаннях – ад каго, як не ад тэлмісян? Птушкаваражба – ад каго, як не ад фрыгійцаў, якія раней іншых пачалі назіраць палёт і рухі птушак? Але, – каб не быць шматслоўным , – скажу адразу: адкуль у цябе ўсе прыватныя прылады богашанавання?»*

Так аўтар гэтай п'есы ад лірыкі Эпохі Адраджэння спусціўся да чыста богаслаўскага красамоўства адпаведна з узорам Ёва Шматпакутнага. Ці не смешна лічыць гэта за дакумент IV стагоддзя?

Позьні характар твораў, прыпісваемых Няспячаму Багаслову, яшчэ лепш даводзіцца на прыкладзе прыпісваемай яму 45-й гаворкі на хрысьціянскі Вялікдзень згодна з яе мудрагелістым складам, напрыклад пры апісанні «ўвасаблення слова боскага ў Панне»:

«*Само боскае слова, прэвечнае, нябачнае, неспасьціжнае, субцялеснае, пачатак ад пачатку, сьвятло ад сьвятла, крыніца жыцця ў неўміручасьці, адбітак першаўзору, пячатка непераносімая, выява нязменная, вызначэнне і слова бацькі, прыходзіць да сваёй выявы, носіць цела дзеля цела, злучаецца з разумнай душой дзеля маёй душы, ачышчаючы падобнае падобным, робіцца чалавекам па ўсяму, акрамя граху. Хаця і носіць ва ўлонні яго Панна, у якой душа і цела перадачышчаны духам* (таму што належала і нараджэнне ўшанаваць і дзявоцтва захаваць), *аднак жа выйшаўшы ад яе ўлоння з'яўляецца богам, нешта адзінае із двух процілеглых сутнасьцей, цела і духу, із якіх адзін абагаўлёны і другі абагаўлёны.*

*О новае перамяшанне! О цудоўнае рассычэнне! Існуючы пачынае быццё, няствораны ствараецца, неабдымаемы абдымаецца праз разумную душу, пасярэднічаючую паміж боскасьцю і грубым целам; багацячы абнішчае да маёй плоці, каб мне абагаціцца яго боскасьцю; перапоўнены знясільвае ненадоўга ў сваёй славе, каб мне быць прычаснікам яго паўнаты. Якое багацце дабраты! Што гэта за таемства пра мяне? Я атрымаў боскую выяву і не захаваў яе, але ён успрымае маю плоць, каб і выяву выратаваць, і цела абезсмяроціць! Ён уступае ў другое камунікаванне з намі, якое значна больш цудоўнае першага, таму што тады дараваў нам лепшае, а зараз сам успрымае горшае; але гэта яшчэ больш цудоўна за першае для маючых розум*».

На заключэнне, каб крыху стушаваць ураханне ад гэтага сярэднявечнага пустаслоўя, я прывяду сёе-тое і із прыпісваемых Неспячаму Багаслову прыватных лістоў. Вось, перадусім, да «Вялікага Цара» (Васіля Вялікага):

«*Смейся! Чарні ўсё наша жартам ці ў запраўду! Не ў тым справа! Будзь толькі вясёлым, упівайся сваёй вучонасьцю і цешся маім сяброўствам. А для мяне ўсё, што ідзе ад цябе, што б гэта ні было і як бы гэта ні было, усё прыемна. І, калі толькі я разумею цябе, мне здаецца, што і над тутэйшым ты смяешся не для таго, каб абсмяяць, але для*

*таго, каб прыцягнуць мяне да сябе падобна тым, якія перагароджваюць рэкі, каб вымусіць іх бегчы інакш. Ты заўсёды робіш так са мной.*

*Буду ж дзівіцца твайму Понту і пантыйскаму змроку, гэтаму жыллю годнаму ўцекачоў, гэтым вісячым над галавой грабяням гор і дзікім звярам, якія выпрабоўваюць нашу веру; гэтай размешчанай знізу пустыньцы, ці кратовай нары, з ганаровымі імёнамі; гэтым прыстанкам, кляштарам, вучэльням, гэтым лясам дзікіх расьлін, гэтаму вянку страмкіх гор, якімі вы не каранаваны, але зачынены. Буду дзівіцца таму, што паветра ў вас у меру, і сонца ў рэдкасць, і вы бачылі яго як бы праз дым, вы, пантыйскія кімеры, людзі несонечныя, асуджаныя не на шасьцімесячную толькі ноч, як распавядаюць некаторыя людзі, у якіх цэлае жыццё – адна доўгая ноч, і ў поўным сэнсе* (скажу словамі пісьма) *шаты смяротныя*»... (Лук., I, 79)

А вось, і яшчэ да яго ж (ліст 39).

«*Як? Быццам бы нешта тваё для мяне тое ж, што адарваная ягада на вінаграднай лазе? Якое вырвалася ў цябе слова із агароджы зубоў, о боская і сьвятая глава? Ці як адважыўся ты вымавіць гэта? Для таго толькі хіба, каб і я мог адважыцца трошкі? Як адважылася на гэта твая думка, як напісала чарніла, як прыняла* ***папера****? О навукі, о, Афіны, о, учыннасьці, о, намаганні, здзейсненыя дзеля вучэння! Напісанае табой, ледзь не робіць мяне трагікам! Ці мяне ты не ведаеш, ці не ведаеш сябе самога! Як можа быць малаважным для Рыгора нешта тваё, о, вока сусьвету, о, гучны голас і труба, о, палата вучонасьці? Чаму ж іншаму будзе хто здзіўляцца на зямлі, калі Рыгор не будзе здзіўляцца табе? Адна вясна ў годзе, адно сонца паміж зоркамі, адно неба абдымае сабой ўсё, адзін голас вышэй усіх, і гэта* (калі здольны я толькі судзіць пра падобныя справы і калі не падманвае мяне павага, чаго не думаю), – *гэта твой голас! А калі ставіш мне ў віну, што не хвалю цябе, як належала б, то вінаваць за гэта ўсіх людзей. Ніхто іншы не хваліў і не хваліць цябе так, як хваліла б цябе тваё велегалоссе, калі б можна было хваліць самога сябе і калі б дазваляў гэта закон ухвальных слоў. А калі вінавациш мяне ў пагардзе, то чаму не вінаваціш мяне спачатку ва ўтрапёнасьці? А калі абураешся на тое, што я люба-мудрагелю, то дазволь сказаць: гэта адно вышэй тваіх слоў*».

А вось, і ліст да Юльяна, і без сумневаў да імператара Юльяна, як бачна із самога зместу (VI, 56/167). Але ён ужо больш праўдападобны для аўтара IV стагоддзя, чым прыведзены вышэй, з папрокамі за ганарлівасць:

«*У мяне шмат правоў на сяброўства з табой, акрамя ж усяго іншага існуе агульная павага да навук, якая для шмат каго больш усяго заслугоўвае павагі і спрыяе сяброўству. Нагоды ж да варожасьці з табой няма ніводнай, і дай бог, каб і не было. Тое, што цябе засмуціў брат Нікавул, мае дачыненне да мяне не больш, як і тое, што робіцца ў Індыі; ведаю толькі, што не даваў я сваёй ухвалы ні на што адбыўшаяся паміж вамі. Таму не вінаваць мяне ні ў чым і не надумвай праз такую нагоду нічога худога сам супраць сябе, але завяршы тую чалавекалюбную справу, якая табой абяцана бедным. А таксама і маіх клірыкаў, за якіх я прасіў, вызвалі ад попісу. Калі іншыя ахвяруюць богу ўсім сваім багаццем, як табе не пажадаць зрабіць дабро дарэмна, і калі шмат якім гарадам даюцца ў якасьці падарунка ўсе служачыя ахвярніка, як не атрымаць мне ў якасьці падарунка тых, якія пры мне і прыслугоўваюць мне, і як не атрымаць іх ад цябе, чалавека вельмі да мяне блізкага, якому я і сам, магчыма, не раблю сораму. Пабачыцца з табой не атрымалася, таму што хвароба пагнала мяне ў Тыяну шукаць лекавання, пакуль ёсць час. Прабач мяне за гэта. Ты замест мяне маеш бога, які заўсёды з беднымі і дапамагае ім, і якога ты больш павінен уважыць, чым мая наяўнасць*».

І яшчэ да яго ж:

«*Добра ты зрабіў, што запрасіў мяне да сябе ў сядзібу, каб разам з табой падумаць пра ўраўнанне падаткаў: гэтая справа варта не малога клопату. Вельмі ахвотна пабачыўся б з табой, калі б я быў здаровы, і прыду, калі гэта стане магчымым. А зараз асабістае спатканне замяняю лістом. Ведаю, што ты паходзіш ад сьвятых*

*бацькоў, і з дзяцінства рос у боскай баязні». Таму ўсё, што ты прызнаеш карысным для добрай пра сябе славы і для выратавання душы, ты, вядома, зробіш, хаця б я і не пісаў табе пра гэта... І самая важная справа, пра якую табе перадусім патрэбна падумаць, складаецца ў тым, каб абраць супрацоўнікамі людзей, пра якіх ведаеш, што яны вызначаюцца разважлівасьцю і добрай маральнасьцю; таму што, якая карысць у тым, што стырнік добры, калі весляры благія?»*

Зразумела, што гэты Юльян лічыцца «за нейкага іншага Юльяна», а не за імператара Юльяна, быўшага школьным таварышам Неспячага Багаслова. Але сам змест ліста пра агульную павагу да навук і з прашэннем вызваліць ад падаткаў, паказвае, што справа ідзе менавіта пра яго. У такім разе гэта адзін із нешматлікіх лістоў, якія можна лічыць за сапраўдныя, тым больш, што тут няма ніякіх сярэднявечных прыкрас і спасылак на больш пазьнія біблейскія ці евангельскія кнігі ці на класічных пісьменнікаў.

Прывяду таксама ўрывак із ліста 130 да Адэльфія:

«*Не ведаю, што з табой сталася, якое азмрочванне ахапіла цябе?.. Як ты не чуеш, што паведамляе Пісанне; не дай жонкам твайго багацця і тваіх маёнткаў* (Прыпавесьці., XXXI, 3)?.. *Сумна, што сядзібу, узбагачаную столькімі высілкамі, ты разладзіў і спустошыў. Але значна больш жудасна, што дзяўчын, якія тваімі бацькамі і табой самім пасьвечаны богу, ты сьвятатацкі выкрадаеш, і некаторыя ўжо сталі тваімі, а некаторых палохаеш тым, што зведаюць тое ж. Пабойся бога, якому служыш, пасарамейся мяне, устрымайся ад якога б то ні было хітрага жадання. Калі б можна было табе пазнаць тую пагалоску пра ўсіх нас, да якой падаеш нагоду, то, можа, не запатрабавалася б для цябе іншага павучання, але сам сорам выкарыстаў бы ты ў дарадцы пра тое, што патрэбна рабіць... Шмат чаго я не буду пісаць, ведаючы што, калі не наставіць цябе баязнь бога, то мала зробяць словы ці зусім нічога не зробяць. Жалезам лёгка выводзіць рыскі на воску, але цяжка на жалезе, а на дыяменце не выведзеш нічым самым цьвёрдым, дзякуючы трываласьці яго складу*».

Тут для ўяўляюць цікавасць не звычайныя манаскія маралі, а толькі апошняя фраза, пра дыяменты: адкуль іх атрымлівалі б у IV стагоддзі і чым агранялі?

Пра жанчын жа вялікую цікавасць уяўляе яго ліст да імператара Валентыніяна, які, як паведамляюць царкоўныя аўтары, у насмешку пасяліў насупраць яго жылля – Карвальскі прыстанак – нейкіх жанчын лёгкіх паводзін.

«*Самым бязбожным чынам праганяеш ты нас із Карвалы* (ужываю такое слова, крыху яго пераіначыўшы), *– гоніш не словам, але справай, і вельмі жорстка. Значна лепш было б абвясьціць загад пра наша выдаленне відавочным загадам, чым парушаць сьвятасць нашага жыцця пасяленнем жанчын непасрэдна насупраць нас... Калі вы* (мужчыны) *прыходзіце на гэтае месца, то мы прымаем вас і цалуем; але ад жанчын мы так жа спяшаемся выдаліцца, як і ад набегу яхіднаў. Таму наша справа скончана, мы перахітраны табой, аддаліся ўцёкам, самі сябе пакаралі, пакінуўшы і высілкі рук сваіх і надзеі і прынёсшы нямала прабачэнняў перад сьвятымі пакутнікамі*»...

Гэтым «ганебным бегствам» Неспячага ад яго суседак я і закончу мой у агульным безстаронні агляд «Твораў Рыгора Багаслова». Вядома, я і гэтае апавяданне лічу, калі не сьвядома апакрыфічным, то папатрапіўшым ў яго працы із лістоў нейкага аднайменнага з ім Рыгора больш пазьняга часу. А ў тым, што ўсе гэтыя складанні, менавіта, новага паходжання, сумнявацца немагчыма – і бяручы да ўвагі іхны мудрагелісты склад са шматлікімі дададзенымі сказамі, і бучы да ўвагі саму ідэалогію і адсутнасць апісання разнастайных дзіваў, якімі жылі нашы продкі аж да друкарскай эпохі і нават пад час яе першых стагоддзяў.

Падумайце толькі пра наступнае.

Хай, напрыклад, стварэнне жыдоўскай Бібліі вы, нягледзячы на мае вылічэнні, усё яшчэ дапасуеце да перыяду за некалькі стагоддзяў да пачатку нашай эры. Што вы там бачыце? Апісанне дзіваў, як божых так і анёльскіх з'яўленняў амаль на кожнай старонцы. Вось, Майсей уражвае ягіпцянаў сямю язвамі, ператвараючы свой кій у змяю і назад, і выбівае крыніцу вады са скалы ўдарам; вось, крумкач корміць Іллю прарока, а Ілля ўзнагароджвае ўдаву жбанком незанчваючагася масла, лякуе памёршага і, нарэшце, ляціць на неба на палаючай калясніцы; вось, Елісей праклінае смяючыхся над яго лысінай хлопчыкаў, і адразу іх з'ядаюць мядзведзіцы. Такімі былі са звычайнага боку гледжання пісьменніцкія досьледы, быццам бы, «да пачатку нашай эры».

А на яе напачатку (таксама не згодна з маёй, а згодна са звычайнай храналогіяй) узніклі евангеллі, дзе галоўны герой апавядання на імя бог-Лекар (па-жыдоўску – Езус) здзяйсняе не менш дзіваў.

Потым у IX і X і XI стагоддзях узнікаюць «Жыцці Сьвятых», у якіх дзіваў проста без канца! Вы бачыце ва ўсіх творах старажытнасьці і сярэднявечча толькі дзівы ды дзівы да самага пазьнейшага часу, калі рэалізм узяў, нарэшце, верх над містыкай!

А дзе ж тут гэтыя неадменныя атрыбуты якога б то ні было сапраўднага царкоўнага пісьменніцтва сярэдніх і старажытных стагоддзяў?

Я прывёў вам тут узоры «тварэнняў», прыпісваемых аўтарам IV стагоддзя: Вялікаму Цару (Васілю), Неспячаму Багаслову (Рыгору) і, як ні шукаў я ў іх знакаў ці дзіваў, я так і не знайшоў амаль ніводнага. Усё напісана такім спосабам, як быццам бы гэтыя творы належаць царкоўнаму аўтару нашага ўласнага часу!

Яны вычышчаны амаль ад усяго цудоўнага, пра што вы чытаеце ў сапраўдных старажытных «Жыціях сьвятых», і гэта азначае што яны складзены ўжо пасьля іх. Гэта відавочныя творы навейшага часу, калі цудоўнае ўжо пачало лічыцца няпраўдзівым і замест вельмі глыбокага шанавання пачало абуджаць скептычныя ўсмешкі.

За выключэннем вельмі нешматлікіх асабістых лістоў, накшталт ліста Юльяну, усе гэтыя творы напісаны пазьней XI стагоддзя нашай эры.

# Глава III

## Літаратурная творчасць, прыпісваемая іянійцу «Залатыя Вусны»

Нам застаецца толькі даць характарыстыку літаратурнай творчасьці, апакрыфікаванай тэолагамі трэццяй славутасьці IV стагоддзя Яну[529] Залатавусту. Яму перадусім прыпісваецца сучасная звычайная літургія, у адрозненні ад больш расьцягнутай «літургіі Васіля Вялікага», якая служылася да апошняга часу толькі 10 разоў на год, выключна падчас вялікага паста.

Але як больш груваcткая, апошняя із гэтых двух літургій павінна належаць больш пазьняму часу, і таму мы можам сказаць, што толькі яе зародак мог

---

[529] Імя Ян па-жыдоўску יונע (ІУНЕ) азначае Іяніец, жыхар Галубінай краіны. Гэты нарыс напісаны мной яшчэ да рэвалюцыі і перададзены ў друк зімой 1930-1931 г. Але псеўда-Ян Залатавуст мае такое вялізнае значэнне для сярэднявечнай гісторыі, што я прысьвяціў яму пры дапамозе М. З. Зьмітрыеўскага асобнае вялікае дасьледаванне, яшчэ не надрукаванае.

належаць «Вялікаму Цару», і гэты зародак павінен быў далей у сваім развіцці прайсьці праз залатавустаўскую стадыю. Ды і літургія Залатавуста, у якую дададзена і чытанне евангелляў, ні ў якім выпадку не з'яўляецца праўдзівым пераймannем першапачатковага ўзору, чаму я і не дадаю яе да гэтага свайго агляду твораў Яна. Адзіны твор, прыналежнасць якога яму я лічу несумнеўным і захаваўшымся (за выключэннем некалькіх трэццярадных прыпісак і апісак) вельмі добра, – гэта Апакаліпсіс, узнікненне якога на прыканцы IV стагоддзя мне атрымалася давесьці астранамічна, на падставе гараскопа, прыведзенага ў яго VI главе, і дадаваннямі да яго напачатку XII главы.

У наступныя часы я шукаў дастатковых астранамічных указанняў і ў дванаццаці тамах «Твораў», прыпісваемых Яну Залатавусту, але не знайшоў у іх нічога прыдатнага для астранамічных вызначэнняў, акрамя такой нататкі ў 88-й гутарцы: «Зацьменне здзяйсняецца на працягу некалькі хвілін, як вядома тым, хто назіраў гэтую з'яву. Такім было і тое зацьменне, якое здарылася ў наш час»[530].




Мал. 156 і 157.
Два аперцэпцыйныя ўяўленні пра заснавальніка хрысьціянскай літургіі. Першае – як Ян Залатавуст, другое – як Ян Багаслоў.

Адсюль атрымліваецца, што пры аўтару як быццам бы назіралася сонечнае зацьменне, поўная фаза якога працягвалася некалькі хвілін. Але такога не было ў Цар-Горадзе, пачынаючы ад зацьмення 29 года нашай эры (24 юліянскага лістапада) і заканчваючы 606 годам (14 чэрвеня). Найбольш прыдатным выяўляецца зацьменне 20 лістапада 393 года, якое ў выпадку яснага надвор'я магло быць назіраема ў поўным выглядзе на адлегласьці двух-трох дзясятках кіламетраў на поўдзень ад Басфора, і яно адбылося якраз за два гады да ўзнікнення Апакаліпсіса. Магчыма, што памяць пра яго і захоўвалася на працягу не аднаго стагоддзя ў сувязі з апавяданнямі пра Яна і паслужыла нагодай да складальніцтва.

Але само, павучанне, у якім прысутнічае толькі-што цытаваная мной фраза, ні ў якім выпадку не можа быць прызнана праўдзівым. Яно прыведзена, у размове на тэму пра іншае, ніколі не існаваўшае сонечны зацьменне, як бы адбыўшаяся пры

[530] «Поўны збор твораў сьвятога айца нашага Яна Залатавуста, арцыбіскупа Канстантынопальскага, у рускім перакладзе». Выданне СПБ. духоўнай акадэміі, 1901 г., стар. 867.

слупаванні евангельскага Хрыста, якое сам аўтар лічыць не звычайным, як усе іншыя зацьменні, а цудоўным.

– «*Вось што здарылася*, – паведамляе ён, – *падчас укрыжавання на крыжы! І гэта тым больш дзіву годнае, што адбылося ў той час, як ён быў прыбіты да крыжа, а не тады, калі хадзіў па зямлі. Але не гэта адно здзіўляе. Дзіўна тое, што знак, якога яны*[531] *шукалі, з'явіўся ва ўсім сусьвеце, чаго раней ніколі не здаралася, хіба толькі ў Ягіпце, калі належала здзейсніцца вялікадню, што было правобразам сучасных падзей. Звярні ўвагу і на час, калі гэта адбывалася: апоўдні, калі па ўсяму сьвету быў дзень, каб бачылі ўсе насельнікі зямлі. Гэтага было б дастаткова, каб павярнуць іх да праўды, не толькі з нагоды велічы дзіва, але і дзякуючы яго добра-часовасьці. Сапраўды, яно здзяйсняецца ўжо пасьля ўсіх спраў утрапёнасьці юдэяў, пасьля незаконных здзекванняў, пасьля таго, як яны ўжо пакінулі сваю апантанасць, калі перасталі папракаць, калі насыціліся бязсаромнай лаянкай і выказалі ўсё, што жадалі. Толькі пасьля ўсяго гэтага паказаў ён цемру, каб хаця б зараз яны ўтаймавалі свой гнеў і знайшлі сабе карысць із дзіва. Здзейсніць такія знакі на крыжы было значна больш дзіўным, чым сысьці з крыжа. Калі б яны лічылі, што гэтае дзіва здзейсніў ён, то ім належала б паверыць у яго і трапятаць. А калі б лічылі, што гэта не ён, а бацька яго, – то і тады ім належала б прыйсьці ў хваляванне, таму што гэты змрок сведчыў пра тое, што яго бацька быў угнеўлены іхным злачынствам*».

Уся гэтая гаворка абвяшчаецца вымаўленай грунтуючыся на тэксце із евангелля Мацьвея: «і была цемра па ўсёй зямлі ад гадзіны шостай да гадзіны дзявятай» (Мацьвей, XXVII, 45-46), адкуль вынікае, што аўтар пісаў ужо пасьля з'яўлення евангелляў, г.азн. не раней VII-IX стагоддзяў нашай эры. Але і такая дата для яго не падыходзіць. Склад яе, як мы толькі-што бачылі із узятага ўрыўка, зусім не той, як у евангеллях і ў Апакаліпсісе. У апошніх амаль кожная фраза напісана без дадатковых сказаў і пачынаецца з прыназоўніка «і». Усюды гаворыцца: «і пайшоў Езус», ці «і пабачылі вучні яго» і г.д. А тут мы ўжо бачым распрацаваную фразеалогію, утварыўшуюся толькі пад час Эпохі Гуманізму ў Заходняй Яўропе, пры гэтым дзеепрыслоўі і слова «які» тут вельмі часта ўжываемыя.

Каб паказаць характар гэтых «залатых бруй із залатых вуснаў», як тэолагі называлі павучанні Залатавуста, я прывяду толькі некаторыя з іх.

Вось, напрыклад, пачатак размовы пра знакаміты «радавод Хрыста», прыведзены ў Мацьвея ў першай частцы яго евангелля.

«*Ліст радаводу Езуса Хрыста, сына Давыдава, сына Аўраамава. Аўраам нарадзіў Ісака, Ісак нарадзіў Якава, Якаў нарадзіў Юду*» і г.д. на цэлую старонку.

Здавалася б, што тут нічога не прыдумаеш для каментара. Гэта ж – сухі пералік. Але і з такой непладзючай, як пясок, глебы, аўтар-тэолаг здолеў здабыць «залатыя бруі красамоўства».

*«Ці памятаеце вы,* – выказваецца ён, – *павучанне, якое нядаўна мы зрабілі вам, просячы ўважліва слухаць усё, што будзе паведамляцца з глыбокім маўчаннем і з ўшаноўваючай цішынёй? Вось, і сёння мы зноў павінны ўступіць у сьвятыя пярэдадні, чаму я і нагадваю зноў пра тое павучанне. Калі юдэям, маючым патрэбу прыступіцца да палаючай гары, да полымя, цемры, змроку і буры* (а лепш сказаць, нават і не прыступіцца, а бачыць і чуць усё гэта здалёк), *яшчэ за тры дні недарэчным было ўстрымлівацца ад стасункаў з жонкамі і памыць адзенне. Калі і самі яны, а роўна і Майсей, знаходзіліся ў жаху і трапятанні, – то тым больш павінны мы паказаць вышэйшую мудрасць, калі нам належыць пачуць такія вялікія словы і не здалёк паўстаць*

[531] Г.азн., напэўна, – астраномы, што магло быць толькі пад час позняй Эпохі Адраджэння (шукалі ў мінулым).

*перад дымячай гарой, а ўзысці на самае неба. Не адзенне мы павінны памыць, а ачысьціць нашы душы і вызваліцца ад якіх бы то ні было побытавых дамешкаў. Не змрок пабачыце вы, не дым, не буру, а самога цара, які сядзіць на пасадзе сваёй невыказваемай славы, пабачыце прыслугоўваючых яму анёлаў і арханёлаў, і шматлікіх сьвятых з незлічонымі згуртаваннямі нябесных ваяроў. Такім з'яўляецца горад боскі, змяшчаючы ў сабе царкву першародных, духі справядлівых, пераможны сход анёлаў, кроў краплення, праз якую ўсё злучана і нават неба ўспрыняло зямное, а зямля – нябеснае, надышоў мір даўно пажаданы для анёлаў і сьвятых*».

Чытач мой сам бачыць, наколькі ўдасканаліўся тут літаратурны склад параўнальна з толькі-што прыведзеным пачаткам евангелля Мацьвея: «Аўраам нарадзіў Ісака, Ісак нарадзіў Якава» і г.д. і г.д. у такім жа родзе. А потым і яшчэ лепш.

Вядома, што евангеліст Мацьвей, складаючы гэты радавод, дзякуючы наіўнасьці зрабіў недарэчнасць. Ён абвясьціў, што пералічвае продкаў Езуса, а замест таго пералічыў продкаў Ёсіфа, фіктыўнага чалавека Марылі, які быў толькі нечым накшталт апекуна, таму што яна нарадзіла Езуса не ад яго, а ад сьвятога духа. Як знайсьці выйсьце із такога па праўдзе не маючага выйсьця становішча?

Вельмі проста! – Памяшчаю пачатак наступнай гутаркі на той жа тэкст.

«*Вось, ужо трэцяя гутарка,* – выказваецца аўтар, – *а мы яшчэ не закончылі нават і нашай прадмовы. Не дарэмна паведамляў я, што гэтыя разважанні, згодна са сваёй уласьцівасьцю, вельмі глыбокія. Паспрабуем жа сёння даказаць пра тое, што нам яшчэ застаецца. Пра што зараз у нас пытанне? Пра тое, для чаго евангеліст паказвае радавод Ёсіфа, які нікольні не меў дачынення да нараджэння Хрыста. Якая ж гэта нагода? Вельмі простая. Евангеліст меў жаданне, каб яшчэ пры самым нараджэнні Хрыста юдэям не было вядома, што ён нарадзіўся ад панны. Не хвалюйцеся, калі сказанае зараз мной для вас выглядае дзіўным: я выказваю тут не свае словы, але словы нашых бацькаў, цудоўных і знакамітых мужоў. Калі Бог шмат чаго спачатку хаваў у змроку, называючы сябе сынам чалавечым; калі ён не ўсюды выразна адкрываў нам сваю роўнасць з бацькам, – то чаму здзіўляцца, калі ён не абвяшчаў да часу і пра сваё нараджэнне ад панны, гатуючы нешта цудоўнае і вялікае?*

*А што ж тут цудоўнага, скажаш ты? Цудоўна тое, што панна захавана і пазбавілася ад худога падазрэння. Калі б пра гэта адпачатку зрабілася вядома юдэям, то яны, патлумачыўшы справу ў худы бок, пабілі б панну камянямі і засудзілі б як распутніцу. Калі яны, выяўляючы сваю безсарамнасць, называлі Хрыста шалеючым, у той час калі ён праганяў нячысьцікаў, лічылі яго супернікам богу, калі ён лекаваў хворых у суботу, нягледзячы на тое, што субота і раней неаднаразова была парушаема, – то чаго б толькі не сказалі яны, пачуўшы пра гэта? Ім спрыяла і тое, што ў ранейшы час ніколі не здаралася нічога падобнага. Калі і пасьля шматлікіх яго дзіваў яны звалі Езуса сынам Ёсіфавым, то як бы паверылі яны, яшчэ перш яго дзіваў, што ён нарадзіўся ад панны? Вось чаму і пішацца радавод не яго, а Ёсіфа, якому толькі «заручаецца панна*».

Ці няпраўда, чытач, якія тут на самай справе «залатыя струмені із залатых вуснаў»? І ці можна лічыць, што такой літаратурнай выкрутаслівасьцю валодалі ўжо жыхары IV стагоддзя нашай эры, не меўшыя ў сваім распараджэнні ні добрых алоўкаў, ні нават паперы для пісання? Але і гэтым справа не скончылася. Яшчэ новую гаворку прамовіў аўтар з нагоды таго, навошта Мацьвей падзяліў свой радавод на тры часткі па 14 родаў у кожнай. Я ўжо даводзіў не раз у гэтым сваім дасьледаванні, што згодна з кабалістычнымі мяркаваннямі, жадаючы даць шэсць сямёрак, аднак – на жаль для мяне! – гэта выяўляецца зусім не так.

Евангеліст, – паведамляе Золатабруй у трэццяй гутарцы на тую ж тэму[532], – падзяліў увесь радавод на тры часткі, жадаючы паказаць тым, – што б вы думалі? – тое, «што юдэі з пераменай кіравання не рабіліся лепшымі; што як падчас арыстакратыі, і пры царах, і падчас алігархіі яны аддаваліся тым жа заганам, як і пад кіраваннем суддзяў, сьвятароў і цароў і што яны не зрабілі ніякага поспеху ва ўчыннасьці... Вось для чаго Мацьвей падзяліў свой радавод Хрыста на тры часткі! – усклікае ён і сам жа дадае:

*– Якая глыбакадумнасць*!

А для чаго ж евангеліст у сярэдняй частцы радаводу прапусьціў трох цароў, і ў апошняй, размясьціўшы дванаццаць родаў, паведаміўшы, што іх чатырнаццаць? Першае, – адказвае хітра аўтар, – я пакідаю на ваша ўласнае дасьледаванне, не лічачы патрэбным вырашаць для вас усё, каб вы не абленаваліся. Пра другое ж паведамлю: евангеліст прылічае да родапачынальнікаў Хрыста і сам «час паланення Вавілонскага і самога Езуса Хрыста, усюды сукупляючы яго з імі. Ён дадаў да продкаў яго і час паланення, паказваючы, што юдэі і ў палоне не зрабіліся больш разважлівымі, так, каб із усяго гэтага была бачна патрэбна прышэсьця Хрыстова».

Усё гэта, вядома, так пераканаўча, што мне, зганьбаванаму, даводзіцца зрабіць толькі адно: пакінуўшы радавод Хрыста, перайсьці з сорамам да іншых «залатых бруй із залатых вуснаў».

Але іх у Залатавуста так шмат, што цалкам губляешся. Апакрыфісты ад яго імя перабіраюць амаль усе тэксты Бібліі і Евангелляў запар, абліваючы кожны тэкст у багацці сваім «моўным малаком», як выказваўся апостал Пятро. Возьмем хаця б дзьве фразы із кнігі Быццё (XVI, 4).

«*І ўзяла Сара, жонка Аўраамава, ягіпцянку Агар, сваю прыслужніцу, і дала яе яму ў жонкі. Ён зайшоў да Агары, і яна зачала і таму пачала грэбаваць сваёй гаспадыняй.*

*І сказала Сара Аўрааму: «ты вінаваты ў маёй крыўдзе! Судзі бог паміж мной і табой*».

Зноў я пытаю вас: да якіх асаблівых высноваў вы прыйшлі б даведаўшыся пра гэта? А вось, аўтар ад імя Залатавуста з дапамогай самай тыповай шматслоўнасьці царкоўных прапаведнікаў XVIII стагоддзя, пераварочваючы шмат разоў на розныя лады тое ж самае выказванне, спрабуючы надаць чытачу, што тут у кожным слове глыбокі сэнс:

«*Судзі Бог паміж мной і табой!» – сказала Сара Аўрааму*.

*О, словы душы засмучанай! Калі б жа ў прабацькі не было столькі мудрасьці і ён не меў бы вялікай павагі да Сары, то ён абурыўся б і абразіўся б на такія жорсткія* (??) *словы. Але гэты годны здзіўлення чалавек усё ёй прабачыў, ведаючы слабасць жаночай стаці*.

*«Судзі бог паміж мной і табой!»*

*Падумай, – кажа жонка свайму чалавеку – на які ўчынак я адважылася для твайго суцяшэння, жадаючы, каб, хаця б у старасьці, назваўся ты бацькам; я ўзвяла маю рабыню ў маю вартасць, а ты, бачачы яе такой няўдзячнай, не пакараў яе і не ўзнагародзіў мяне за клапатлівасць, якую я выявіла да цябе.*

*«Судзі бог паміж мной і табой!»*

«*Той, які ведае патаемныя думкі кожнага, той будзе суддзёй паміж намі і рассудзіць, як я, будучы вышэй якой бы то ні было прыхільнасьці, аддаўшы перавагу твайму суцяшэнню перад уласным і ўзвяла на свой ложак рабыню: а ты, нічога зробленага мной не прыняўшы да ўвагі, дазваляеш ёй паўставаць на маю пакорнасць, не*

---

[532] Том VII, стар. 55 рускага перакладу.

*ўтаймоўваеш дзёрзкую, не навучаеш неразумную. А што ж адказвае ёй гэты адамант, гэты мужны стараннік боскі, які пры кожным выпадку набывае сабе вянкі? Паказваючы ў гэтым выпадку сваю ўчыннасць, – глядзі – што ён кажа жонцы:*

*«Рабыня твая ў тваіх руках. Рабі з ёй, што табе пажадана» (ст. 6).*

*Вялікай з'яўляецца мудрасць праведніка, вялікая магутнасць яго цярплівасьці! Таму што ён не толькі не абурыўся на словы Сары, але з вялікай пакорлівасьцю дае ёй свой адказ, кажучы: ты лічым, што я вінаваты ў тваіх крыўдах, і лічыш, быццам мне прыемны гэты ўчынак рабыні, таму што яна аднойчы была са мной на ложку. Але ведай, што, калі б я не меў жадання слухацца толькі цябе, то я не вырашыўся б на гэта, і ніколі не дазволіў бы сабе ўзвясьці рабу на твой ложак.*

*«Рабыня твая ў руках тваіх. Рабі з ёю, што табе дагодна».*

«*Хіба ты пазбавілася сваіх правоў над ёю? Хаця я і прыняў яе ў стасаванне з сабой; але ты маеш сваю ўладу над ёю; яна ў тваіх руках. Выкрывай, навучай, карай яе; рабі з ёю што пажадаеш і што палічыш патрэбным, толькі не засмучайся і не прыпісвай мне яе неразважлівых учынкаў. Таму што не ўласным запалам падахвочваемы вырашыўся я на стасункі з ёю, і не так, каб потым, захапляючыся прыхільнасцю, неразумна даць ёй перавагу перад табой. Ведаю належачы табе гонар; ведаю і няўдзячнасць рабоў. Я і не думаю пра яе і не клапачуся. Адзін у мяне клопат, каб ты жыла без якога б то ні было засмучэння, у спакоі, ва ўсім гонары, далёка ад усіх засмучэнняў.*

*Вось, сапраўдны адружальны звяз, вось сапраўдны чалавек, які звяртае не шмат увагі на словы жонкі, але, выказваючы ласку да недахопаў стаці, пра адно клапоціцца, каб пазбегнуць якога б то ні было ўзаемнага засмучэння і зацьвердзіць мір і аднадумства! Ды чуюць гэта чалавекі і ды пераймаюць пакорлівасць праведніка, выказваючы такі ж гонар і павагу сваім жонкам і ставячыся да іх, як да слабейшай істоты, каб тым замацаваць звяз адзінадумнасьці. Таму што сапраўднае багацце і самае вялікае шчасьце палягае ў тым, калі б чалавек і жонка не рознагалосілі паміж сабой, але як адзінае цела былі злучаны адзін з адным: таму што сказана два будуць у целе адзіным* (Быт., II, 24). *Такія чалавекі, хаця б жылі ў нястачы і былі нешляхетнымі, могуць быць больш шчаслівымі за іншых, таму што яны цешацца сапраўдным задавальненнем і жывуць у стане паўсядзённага заспакаення. А тыя, якія, наадварот, цешацца не гэтай згодай, а пакутуюць рэўнасьцю, і губляюць выгоду пагаднення, тыя, хаця б былі аточаны шматлікім багаццем, хаця б мелі заможныя сталы, жылі ў славе, будуць больш нешчасьліва праводзіць сваё жыццё, прыдумляючы самі для сябе на кожны дзень хваляванні і душэўныя ўзрушэнні, заўсёды падазраючы адзін аднаго. Яны не могуць мець ніякіх задавальненняў: дзякуючы таму што іхная ўнутраная лаянка ўсё прыводзіць у бязладдзіцу, і вырабляе паміж імі шмат непрыемнасьцей. Але тут, звяртаючыся зноў да гісторыі Аўраама, не бачна нічога такога: прабацька сваёю спагадлівасьцю суцішыў гнеў гаспадыні і, даўшы ёй поўную ўладу над рабыняй, наладзіў у сваёй сядзібе глыбокі мір.*

*«І абразіла яе Сара: і збегла тая ад твару яе» (ст. 6).*

*Так! Як толькі Сара пакарала дзёрзкасць рабыні, тая пусьцілася наўцёкі: таму што такой уяўляецца ўласьцівасць рабоў, што калі ім не дазваляюць дзейнічаць па-свойму і перапыняюць іхныя задумы, яны адразу скідваюць з сябе ўладу гаспадароў і збягаюць. Але паглядзі і тут, якім прамышленнем звыш карыстаецца і рабыня, за гонар праведніка. Дзякуючы таму што яна насіла ў сабе семя праведніка, то ганаруецца нават бачаннем анёла: «І знайшоў яе, – паведамляе Пісанне, – анёл госпада каля крыніцы вады ў пустыні, на шляху Сур» (ст. 7).*

*Адзнач чалавекашанаванне госпада, як ён нікім не пагарджае, а ці раб то, ці нявольніца, над усімі паказвае сваю заклапочанасць, бяручы да ўвагі не адрозненне званняў, а змест душы. Дарэчы тут анёл з'яўляецца не дзякуючы заслугам рабыні, а дзеля гонару праведніка Аўраама. Таму што, як я выказваўся, прызначана было ёй ганаравацца вялікай апекай, таму што яна была ганаравана прыняць у сябе семя праведніка.*

*«І знайшоў яе анёл і паведаміў ёй: Агар, раба Сары, адкуль ідзеш і куды ідзеш?»* (ст. 8).

*Глядзі, як самі словы анёла прыводзяць ёй на памяць яе уласны стан. Каб зрабіць яе больш уважлівай, з першага разу анёл звяртаецца да яе на імя, і кажа: «Агар», таму што мы звычайна бываем больш уважлівымі да таго, хто называе нас на імя. Потым словамі: "раба Сары", анёл нагадвае ёй пра гаспадыню і тым дае зразумець, што, хаця б яна шмат разоў дзяліла ложак са сваім гаспадарам, усё ж павінна прызнаваць Сару сваёй гаспадыняй. Але глядзі, як анёл выпрабоўвае яе, каб паставіць перад патрэбай адказваць. Адкуль, пытаецца, прыйшла ты ў гэтую пустыню, і куды накіраўваешся? А для таго, між іншым, анёл і з'яўляецца ёй менавіта ў пустыні, каб яна не палічыла яго за простага, праходзячага побач чалавека. Таму што там была пустыня і нікога іншага, акрамя з'явіўшагася, Агар не бачыла. Такім чынам, каб яна ведала, што размаўляўшы з ёю быў не проста патрапіўшыся там чалавекам, для гэтага анёл і з'яўляецца да яе ў пустыні і пытаецца ў яе.*

«*Яна ж адказвае: ад асобы Сары, гаспадыні маёй, бягу*» (ст. 8).

*Бачыш, як яна не адмаўляе ўладу гаспадыні сваёй Сары, але ва ўсім па праўдзе прызнаецца?* «*Пытаючы мяне, – думае яна, – не чалавек; таму я не магу яго падмануць». Ён назваў мяне на імя перш, чым я паведаміла яму сваё імя, згадаў і пра гаспадыню; патрэбна і мне казаць усё па праўдзе***.**

«*Ад асобы Сары, гаспадыні маёй, бягу*».

*Глядзі, як абыякава згадала яна пра сваю гаспадыню! Не сказала: «яна мяне абразіла, мяне разлавала, і я, не будучы ў стане перанесьці нянавісьці, збегла ад яе». Не сказала Агар нічога непрыемнага пра Сару, а толькі сябе саму абвінавацiла ў збяганні. Бачыш яе сумленнасць? Глядзі ж, што адказаў ёй анёл:*

«*Адказаў жа ёй анёл госпада: вярніся да гаспадыні сваёй і скарыся пад руку яе*» (ст. 9).

*На словы (Агары): «ад асобы спадарыні маёй бягу» анёл адказаў: вярніся, ідзі назад, не будзь няўдзячнай да той, якая зрабіла табе столькі дабрадзействаў. А дзякуючы таму што гордасьцю і фанабэрыстасьцю ўзбудзіла гнеў гаспадыні сваёй, то анёл сказаў:*

«*Скарыся пад руку яе, скарыся ёй*».

*Гэта будзе карысна табе. Памятай сваё рабства, не забывайся пра вершынство Сары; не думай высока і не мар пра сябе больш патрэбнага.*

«*Скарыся пад руку яе і зрабі ёй поўнае падпарадкаванне*».

*Такія словы анёла дастаткова памякчылі яе сэрца, уціхамірылі яе фанабэрыстасць, утаймавалі яе гнеў і ўлагодзілі яе думкі.*

*Далей, каб яна не падумала, што проста і без нагоды ганаравалася такога прамышлення, а што гэтай апекай карыстаецца дзеля семені праведніка, глядзі, як анёл суцяшае яе, уваскрашае яе дух і падае ёй дастатковую надзею радасьці славамі, якія далучае: «і рачэ ёй анёл госпада: памнажаючы, памножу семя тваё і не злічыццас яно, ад шматлікасьці» (ст. 10). Прадказваю табе і тое, кажа ён, што семя тваё будзе вялікае, так што і злічыць яго будзе немагчыма. Такім чынам, не смуткуй, не слабей духам, не бянтэжся ў намерах, але выкажы поўнае паслухмянства. «Гэта ты ва ўлонні маеш і нарадзіш сына і дасі імя яму Ісмаіл». Дзеля таго, кажа, і роды табе я прадказваю і само імя прызначаю маючаму нарадзіцца ад цябе сыну, каб ты, атрымаўшы большае (у словах маіх) пасьведчанне, вярнулася з тым назад і выправіла свае правіны. «Таму што пачуе, – кажа, – Бог пакору тваю*» (ст. 11).

*Навучымся адсюль, які плён бывае ад смуткаванняў і якая карысць ад няшчасьцяў. Таму што як толькі яна* (Агар) *збегла* (ад Сары), *няшчасьці яе павялічыліся; яна зведала шмат засмучэнняў, застаючыся ў адзіноце ў пустыні, у самых неспрыяльных абставінах, пасьля такога дастатку, пасьля таго, як яна была ганаравана вартасцю роўнай самой гаспадарыні. Але дзякуючы менавіта вось гэтым нагодам і атрымала яна такую хуткую*

*дапамогу. Будзе, – паведамляе ёй анёл, – тое, што я табе абяцаю: ты народзіш сына, і семя тваё будзе без ліку, «таму што пачуе Бог пакору тваю». Не будзем жа і мы нецярплівымі, калі збег нейкіх абставін абмяжоўвае нас. Таму што нішто не з'яўляецца настолькі карысным для нашай прыроды, як утаймаваць сябе, утаймаваць сваю высокаразумнасць і задушыць ганарыстасць духу. Тады-та ў найбольшай ступені Бог і пачуе нас, калі мы заклікаем яго са смуткуючай душой і тужачым сэрцам у стараннай малітве: «Як толькі пачуе, кажа, бог пакору тваю».*

*Потым (анёл) прадказвае лад жыцця маючага нарадзіцца ў Агары сына. «Гэты будзе, кажа, моцны чалавек: рука яго на ўсіх, і рукі ўсіх на яго, і перад тварам усёй брацii сваёй паселіцца» (ст. 12). Прадракае ёй, што гэта будзе чалавек мужны, ваяўнічы, і будзе шмат працаваць дзеля апрацавання зямлі.*

*Такім чынам із усяго што здарылася з рабыняй, ці бачыш славу прабацькі* (*Аўраама)? Таму што такая заклапочанасць пра рабыню паказвае любасць Бога да гэтага праведніка. Анёл, даўшы навучанне і абвясьціўшы дабравесьце Агары, выдаліўся. Але зноў звярні ўвагу на разважлівасць рабы. «І прызваўшы сказана Агары ад імя Бога, звяртаючагася да яе: Ты бог, прызрэшы на мяне. Дзеля гэтага празваўшы кладзезь той: кладзезь, ідзежэ перада мной відэх: гэта паміж Кадысам і паміж Варадам»* (ст. 13-14). *Глядзі, як і новай назвай месца яна жадае захаваць назаўсёды памяць пра яго. «Празва бо, – паведамляе Пісанне, – месца: кладзезь, ідзежэ відэх перада мной». Такім чынам, рабыня, ад напаткаўшага яе засмучэння робячыся патрохі больш разважлівай, выяўляе сваю падзяку за выказанае ёй дабрадзейства і аддае, чым можа, за такую вялікую пра яе зклапочанасць, «і нарадзі Агар Аўрааму сына і надай Аўраам імя сыну свайму, якога нарадзіла яму Агар, Ісмаіл»* (ст. 13).

*Адсюль навучымся мы, наколькі вялікая выгода – рахманасць і якую карысць можна здабыць нават ад засмучэнняў. Рахманасць прабацька Аўраам паказаў у тым, што ўтаймаваў раздражненне Сары і, даўшы ёй уладу над рабыняй, праз тое пасяліў у сваёй сядзібе мір; а карысць ад засмучэнняў можна бачыць із акалічнасьцей рабы Агары. Таму што як хутка яна, раззлаваная на сваю гаспадарыню, збегла ад яе і, зведаўшы шмат засмучэнняў, са знішчанай душой заклікала да бога, адразу ганаравалася вышэйшага наведвання. І каб яна ведала, што за пакору і пакуты была ганаравана звыш вялікай апекай, анёл паведаміў ёй: «ва ўлонні маеш і народзіш сына і дасі імя яму Ісмаіл: дзякуючы таму што пачуў Бог пакору тваю». Такім чынам, шаноўныя, ведаючы, што засмучэнні больш усяго набліжаюць нас да бога, калі толькі мы будзем бадзёрыя духам і што тады мы здолеем набыць яго прыхільнасць, калі прыступаемся да яго са скоранай душой і з гарачымі слязамі, – ведаючы гэта, не будзем журыцца ў няшчасьцях; але, разважаючы пра карысць засмучэнняў, будзем церпяліва пераносіць усё здараючаяся з намі».*

У мяне няма патрэбы перабіраць усю бясконцую, шаблонную, вадзяністую аднастайнасць гэтых павучанняў, напаўняючых 12 ёмістых тамоў псеўдатвораў «Залатавуста» і ў суме складаючых больш за 10 000 старонак дробнага шрыфту. Пры ранейшым спосабе пісання буйнымі літарамі на тоўстым папірусе гэта была б цэлая гара. Для чалавека, які прызвычаіўся мець справу з сярэднявечнымі і сапраўднымі старажытнымі дакументамі і ставіцца да іх безстаронне, зразумела, што ўсе гэтыя гутаркі напісаны ўжо пад час друкарскай эры літаратурнай творчасьці і прытым шматлікімі аўтарамі, засвоіўшымі той жа самы лёгкі спосаб творчасьці: перабіранне біблейскіх і евангельскіх тэкстаў і шырокай гаварыльні з гэтай нагоды на ўсе лады. Такім элементарным шаблонам і аб'яднаны яны ўсе ў адно цэлае, а ў ідэйным дачыненні гэта – поўная адсутнасць таленту, а не «залатыя бруі».

Каб не навесьці сьмяротнай нуды на чытача, я прывяду яшчэ толькі некалькі месцаў, як характарызуючых уяўленні той эпохі.

Вось, тлумачэнне на выказванне із першай часткі кнігі «Быццё»: «Д*ы будуць сьвяцілы на цьвердзі нябеснай, каб свяціць на зямлю*» (Быт., I, 14, 15):

«*Дзякуючы таму што полымя адпаведна са сваёй прыродай накіроўваецца ўгару, –* практыкуецца ў філасофіі аўтар, *– то бог на небе накладае на яго прыроду цуглі, каб яно пасылала прамяні не ўгару, а ўніз. Полымю ўласьціва імкнуцца не ўніз, а ўгару. Калі ты трымаеш паходню, перавярні яе ўніз і ты пабачыш, што, хаця ты і перавярнуў яе, полымя усё ж накіроўваецца ўгару. А дзякуючы таму што бог ведаў прыроду полымя, то і наклаў на яго ў небе кайданы, каб яно сьвяціла не адпаведна са сваёй прыродай, а адпаведна з наказам. Кожны із вас, хто назіраў, гледзячы на сьвяцільню, як паглынаецца полымя маслам, заўважаў, што яно шыпіць, як зведваючы гвалт (дзякуючы таму што масла сваёй магутнасьцю вабіць полымя ўніз, а яно адпаведна са сваёй прыродай імкнецца ўгару). Гэта азначае, што полымя вырабляе шум, калі вымушанаісьці насуперак сваім уласцівасьцям, як зведваючы гвалт і вымушаны ісьці насуперак сваёй прыродзе. Кожная стыхія, калі з ёй адбываецца нешта супярэчае яе прыродзе, паднімае ўскрык. Але чаму, калі ты льеш на полымя масла, яно шуміць, а калі льеш ваду, яно трашчыць? І то – вільгаць, і гэта – вільгаць. Але дзякуючы таму што масла нараджаецца із дрэва і сілкуе яго масьліна, а полымя заўсёды сябруе з дрэвам, то яно ахвотна прынімае тое, што паходзіць ад падобнага яму; калі ж ты пальеш на полымя ваду, то яно трашчыць, таму што змагаецца з адваротным яго прыродзе. Полымя сябруе з паветрам, таму што падобна яму. Падзьмі на свяцільню, і паветра ператворыць полымя у дым, яго ўжо і нідзе не будзе бачна, таму што падобнае збегла. Заўваж тут мудрасць стваральніка, заўваж магутнасць! Бог паклаў свяцілы на небе, каб яны свяцілі ўніз на зямлю.*

«*І ды будуць яны, –* гаворыцца ў Бібліі, *– знакамі, і пад час дзён, і пад час гадоў*» (ст. 14).

«*Што азначае: знакамі? Астролагі сваёй варажбой, не маючай ніякай падставы ў рэчаіснасьці, давялі марнасць сваіх надзеяў на астралогію. Што грунтуючыся на зорках немагчыма нічога вызначыць адносна жыцця чалавека, пра гэта сведчыць Ісая, кажучы: «ды势 стануць зоркалічыльнікі нябёс і бачачыя знакі і паведамяць, што адбудзецца»* (Іс., XI, VII, 13). *Адносна жыцця чалавека неба не дае ніякіх указанняў. Хочаш ведаць, якія знакі яно дае? Яно паказвае на дажджы, на вятры, на непагадзь і на ведра. Такія з'явы зоркі паказваюць і гэта дзякуючы чалавекашанаванню божаму, каб мараплавец, бачачы знак, пазбег небяспекі, каб земляроб, ведаючы час наступлення зімы, загадзя апрацаваў зямлю*».

У падобным жа тоне выказваюцца пра астралогію і іншыя павучанні «Залатых вуснаў», паказваючы, што яны складзены ўжо пад час перыяду расчаравання ў гэтай навуцы. Але ўсё ж адзін із аўтараў гэтых твораў (да якіх не шкодзіла б ужыць мой метад лінгвістычных спектраў, выкладзены ў другім томе Хрыста») не жадае адступіцца ад біблейскага ўяўлення пра Зямлю і Неба.

Вось, яго разважанні наконт прароцтва Ісаі, дзе ён, адкінуўшы Пталямея, які нават і згодна са звычайнай храналогіяй яшчэ за 200 гадоў да Залатавуста давёў, што Зямля з'яўляецца шарам, прамаўляе цэлае павучанне на тэкст Бібліі:

«*Богам з'яўляецца той, хто паважна сядзіць над колам зямлі»* (Іс.,XL,-20).

«*Ці бачыш, Зямля з'яўляецца колам, а кола паказвае круглую форму Зямлі. Карысна ведаць і гэта, каб мы не спакушаліся байкамі паганскіх філосафаў, якія звычайна лічаць, што Зямля падобна лагчыне, круглявасьці, дыску, пасудзіне ці нечаму падобнаму. Чуючы, як прарок кажа, што Зямля з'яўляецца колам, ты не дасьледуй больш, не шукай, на чым стаіць і зацьверджана яна: бог трымае яе сваёю рукой. Няма іншай падставы, акрамя яе. І не пытай пра нейкія іншыя пераканаўчыя довады. Не думай пра гмах Зямлі, але звярні ўвагу на вялікую магутнасць трымаючага, каб потым табе не бянтэжыцца і не разбягацца туды і сюды. Калі ты будзеш памятаць, што кола зямлі нерухомае, то ты*

*зразумееш магутнасць вялікай, непераможнай і неаслабяваючай рукі і, такім чынам, будзеш сапраўды верыць*».

Але іншыя аўтары гэтых аб’яднаных імем Залатавуста апокрыфаў менш сціплыя і імкнуцца знайсьці падставы ў сваіх павучаннях. Вось хаця б на тэкст пра зорку вешчуноў, паказаўшую шлях да ясляў Хрыста:

«*Бачылі зорку яго на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца яму*» (Мацьвей, II, 1-24)

Аўтар выказваецца:

«*Калі мы даведаемся, што гэта была за зорка і якой была: звычайнай, ці адрознай ад іншых; сапраўдная зорка, ці толькі мела выгляд зоркі, – то лёгка зразумеем усё іншае. Адкуль жа даведацца пра яе? Із самога Пісання. Тое, што яна была не звычайнай зоркай і нават не зоркай, а, як мне здаецца, нейкай нябачнай магутнасьцю, набыўшай выгляд зоркі, даводзіцца самім яе шляхам. Калі вяшчуны ішлі ў Палестыну, яна была бачнай і паказвала ім шлях, а калі яны зайшлі ў Ерусалім, яна схавалася. Потым, калі яны, паведаміўшы Іраду дзеля чаго прыйшлі і, пакінуўшы яго, сабраліся ў шлях, зорка зноў з’явілася. Гэта ўжо рух не зоркі, а нейкай цалкам разумнай магутнасьці. Яна не мела свайго вызначанага шляху, але калі патрэбна было спыніцца, яна стаяла, ва ўсім пагадняючыся з іхнымі патрэбамі, падобна слупу хмарнаму, згодна з якім процьма юдэяў спынялася ці падымалася з месца, калі было патрэбна. Не з вышыні неба яна паказвала шлях, – у такім разе вешчуны не здолелі б вызначыць месца, – але каб паказаць яго, апусьцілася ўніз. Самі вы ведаеце, што звычайная зорка не ў стане паказаць такое малое месца, якое займала халупа, у якой размясцілася цела немаўляці. Дзякуючы таму што яе вышыня з’яўляецца невымернай, то зорка не магла б пазначыць сабой і вызначыць такую цесную прастору для жадаючых пазнаць яе. Пра гэта кожны можа скласьці ўяўленне грунтуючыся на месяцы. Ён, бубучы значна большым чым зоркі, здаецца больш блізкім для кожнага із насельнікаў сусьвету, размеркаваных па ўсёй зямной шыраце. Дык паведамі ж, якім бы чынам зорка паказала такое цеснае месца ясляў і халупы, калі б не пакінула сваёй вышыні, не сышла ўніз і не стала над самай галавой немаўляці?*

*Але для чаго яна з’явілася? Для таго, каб выкрыць нячулых юдэяў і пазбавіць іх – няўдзячных – якога б то ні было шляху да апраўдання. Сапраўды, што могуць сказаць у сваё апраўданне юдэі, не прыняўшы Хрыста пасьля такіх шматлікіх прароцкіх доказаў, бачачы вяшчуноў, якія грунтуючыся на з’яўленні толькі адной зоркі прынялі яго і пакланіліся з’явіўшамуся?*

*Але ты запытаеш, для чаго бог прывёў вяшчуноў да Хрыста, менавіта, такім чынам?*

*А як жа належала б інакш? Выправіць пракокаў? Але вяшчуны прарока не прынялі б. Даць голас звыш? Але яны голасу не пачулі б. Выправіць анёла? Але і таго яны не паслухалі б. Таму бог, пакінуўшы такія сродкі, дзякуючы сваёй асаблівай ласцы ўжывае для заклікання іх тое, што было ім больш знаёмым: паказвае вялікую і незвычайную зорку, каб яна ўразіла іх як велічынёй, так і выдатным выглядам, і незвычайнай плынню*».

Зараз, чытач, і для вас, вядома, уся справа стала відавочна зразумелай. А згодна з іншай гутаркай варажба па зорках усё ж, выяўляецца, заганай:

«*Што азначае варажба па сьвяцілах?* – паведамляе аўтар тлумачэння на LXXV главу евангеліста Мацьвея.

«*Не што іншае, як хлусня і заблытанасць, грунтуючыся на якіх усё атрымліваецца наўздагад і не толькі наўздагад, але і неразважліва...*» «*Калі набожнасць усюды наладзілася,* – дадае ён у тлумачэнні на IV главу евангелля Мацьвея, – *дзівы спыніліся*».

І гэта ўсё, што паведамляецца ў аўтараў як Залатых Бруй так і Залатых Вуснаў» пра дзівы. Ніякіх нячысьцікаў і чарцей, якія напаўняюць усе сапраўдныя кнігі сярэднявечча ў творах прыпісваемых Залатавусту няма, зусім як у адукаваных прапаведнікаў новага часу.

Так званых вавілонцаў (г.азн. жыхароў Брамы Госпада) і халдэяў ён ужо атаясамляе з персамі, кажучы:

«*Некалі персы аблажылі горад* (Ерусалім)... *Аднак, нягледзячы на такую відавочную небяспеку, калі Ерамія прыйшоў і паведаміў, што горад будзе аддадзены ў рукі халдэяў, бязбожныя нячулыя і няўдзячныя да сваіх дабрадзеяў юдэі прыйшлі ў такую апантанасць, што палічылі яго за здрадніка і загубіцеля горада*»[533].

У іншым павучанні – у тлумачэнні на прароцтва Ісаі (гл. II) – аўтар выказваецца пра вяшчунствы:

«*Дз'ябал рознымі захадамі імкнецца пераканаць неразумных, што не ў іхнай волі ўчыннасць і загана, што яны не надзелены вольным жаданнем. Такім чынам ён меў намер здзейсніць дзьве самыя ганебныя справы: паслабіць вычыны ўчыннасьці і пазбавіць самага вялікага із дарункаў – волі. Часам з дапамогай варажбы, часам з дапамогай назірання дзён, часам з дапамогай бязбожная вучэння пра лёс, ці з дапамогай шмат чаго іншага, ён увёў у жыццё цяжкую хваробу прадракальніцтва і пераіначыў усё*».

Асабліва шмат ад імя залатавуснага аўтара рознымі апакрыфістамі гаворыцца супраць тэатраў. Вось, напрыклад, цэлае гнеўнае павучанне, напісанае нейкім патарам з нагоды таго, што публіка аддае перавагу паходу ў тэатр, замест таго каб слухаць яго павучанні. Сапраўдная цыцэронаўская прамова і, відаць, у храме Пятра ў Рыме, а не ў Цар-Горадзе!

«*Ці можна да гэтага паставіцца абыякава? Ці можна гэта перанесьці? У вас саміх маю я намер судзіцца супраць вас жа. Так і бог зрабіў з 45 жыдамі: звяртаючыся да іх супраць іх жа самых. У яго я маю намер вучыцца і зноў скажу: ці можна да гэтага паставіцца абыякава, ці можна гэта перанесьці? Пасьля такіх доўгіх размоваў, пасьля такога вучэння, некаторыя забыўшыся пра нас, пабеглі глядзець на спаборнічаючых коней і запалі ў такую апантанасць, што напоўнілі ўвесь горад непрыстойным шумам і крыкам, абуджаючым сьмех, лепш жа сказаць: плач. Таму я, седзячы дома і слухаючы падняўшыся крык, пакутую больш чым маракі, засьцігнутыя буранам. Як тыя ў той час, калі хвалі б'юць у сьцены карабля, трапечуць, зведваючы крайнюю небяспеку, так і мяне цяжка ўражвалі тыя крыкі. Я апускаў вочы ў зямлю і бянтэжыўся ад сораму, калі сядзеўшыя на верхніх месцах тэатра паводзілі сябе так непрыстойна, а знаходзіўшыяся ніжэй, сярод пляца, апладыравалі вазнічым і крычалі больш тых. Што ж скажам мы, чым апраўдаемся, калі нехта чужы, здарыўшыся тут, пачне ўпікаць нас і казаць: ці гэта горад апосталаў, ці гэта горад, маючы такога настаўніка* (як я), *ці гэта народ хрысташануючы, грамадства не пачуццёвае, а духоўнае? Нават не пасараметіся вы і таго самога дня, пад час якога здзейсніліся знакі выратавання роду нашага, але, у пятніцу, калі бог твой быў крыжуемы за сусьвет, калі прыносілася такая ахвяра і адчыняўся рай, і разбойнік узводзіўся ў старажытную бацькаўшчыну, і клятва даравалася, і грэх зьнішчаўся, і даўгачасовая варожасць спынілася, і замірэнне бога з людзьмі здзяйснялася, і ўсё перамянялася, – у той дзень, калі належала пасьціцца, славасловіць і пасылаць падзячныя малітвы за дабрадзействы для сусьвету да здзяйсніўшага іх, – тады ты, пакінуўшы царкву і ахвяру духоўную, і сход брацііі, і забыўшыся пра сьвятасць паста, запалонены дз'яблам, пацягнуўся на тое глядзішча.*

*Ці можна да гэтага паставіцца абыякава, ці можна гэта перанесьці? Я не перастану ўвесь час выказвацца так і тым палягчаць сваё засмучэнне, каб не заглушыць яго маўчаннем, але паставіць на від і выявіць перад вашымі вачамі. Як жа пасьля гэтага мы будзем у стане схіліць бога да літасьці? Як можам замірыць яго з намі, угневанага? Калі за тры дні перад гэтым ліўся праліўны дождж, захапляючы ўсё, вывяргаючы, так бы мовіць, із самых вуснаў ежу землеробаў, зьнішчаючы спелыя каласы і вынішчаючы ўсё іншае лішкам вільгаці, у нас былі малітвы і маленні, і ўвесь наш горад, падобна струменю,*

[533] Творы Яна Залатавуста, т. VI, стар. 458 рускага выдання 1900 года.

*сцякаўся да месцаў апостальскіх, і мы малілі нашых абаронцам – сьвятога Пятра і блажэннага Андрэя і дваіцу апосталаў – Паўла і Цімафея. А пасьля таго, як гнеў боскі спыніўся, мы, пераплыўшы мора і пераадолеўшы яго хвалі, звярнуліся да вярхоўных апосталаў – Пятра, заснавальніку веры, і Паўла, абранай пасудзіны, – здзяйсняючы духоўную ўрачыстасць і абвяшчаючы іх вычыны, трафеі і перамогу над дэманамі. А зараз ты, не ўтрымваючыся баязьню адбыўшагася і не навучыўшыся веліччу вычынаў апостальскіх, так хутка, пасля заканчэння аднаго дня, шалееш і крычыш, не зважаючы на тое, што душа твая запалонена і захоплена жарсьцямі? Калі табе было пажадана назіраць за бегам не маючых здольнасьці размаўляць, то чаму ты не ўтаймаваў свае невыказваемыя славамі жарсьці, гнеў і пажаднасць, не наклаў на іх добрае і лёгкае ярмо мудрасьці, не паставіў над імі правага розуму і не паспяшаўся да ўшанавання вышэйшага звання, накіроўваючыся не ад злачынства да злачынства, а ад зямлі на неба? Падобны бег разам з задавальненнем дастаўляе вялікую карысць.*

*А ты, пакінуўшы свае справы, сядзеў неразважліва і як патрапіцца, назіраючы за перамогай іншых, правёўшы такі дзень дарэмна, марна і нават на шкоду сабе!*

*Хіба ты не ведаеш, што падобна таму як мы, даручаючы грошы сваім служкам, патрабуем ад іх справаздачы за кожны абол, так і бог запатрабуе ад нас справаздачы за дні нашага жыцця. Як мы пражылі кожны дзень? Што ж мы скажам? Чым будзем: апраўдвацца, калі запатрабуюць у нас справаздачу за той дзень? Дзеля цябе заззяла сонца, месяц асьвятліў ноч, заблішчэла разнастайная процьма зорак; дзеля цябе падзьмулі вятры, пацяклі рэкі; дзеля цябе прарасло насенне, паўсталі расьліны, плынь прыроды прытрымлівалася свайго парадку, з'явіўся дзень і прайшла ноч. І ўсё гэта зроблена дзеля цябе. А ты, тым часам як стварэнні служаць табе, выконваеш волю дз'ябла. Атрымаўшы ад бога такую вялікую сядзібу, што азначае гэты сьвет, ты не аддаў яму свайго абавязку. Не дастаткова было табе папярэднічаўшага дня, але і на другі дзень, калі патрэбна было б адпачыць ад ранейшай бязбожнасьці, ты зноў пайшоў на гледзішчы, кінуўшыся із дыму ў полымя, кінуўшы сябе ў другую больш жудасную прорву. Старцы сарамілі сваю сівізну, юнакі аддавалі небяспецы сваю юнацкасць, бацькі прыводзілі туды сваіх дзяцей, кідаючы іх на самым пачатку нявіннага веку ў прорву бязбожнасьці. Не зграшыў бы той, хто назваў бы такіх людзей не бацькамі, а дзетагубцамі, бязбожнасьцю сваёй загубляючымі душы народжаных імі.*

*Якая ж, скажаш, тут бязбожнасць? Але таму я і смуткую, што ты хворы і не ведаеш, што ты хворы, і не шукаеш лекара.*

*Ты перапоўнены там блудніцтва і пытаеш: якая там бязбожнасць? Ці ты не чуў слоў хрыстовых: хто на жанчыну паглядзіць з пажадлівасьцю, той ужо блудадзеіў з ёю* **(***М., V, 28).*

*Ты мне скажаш, я буду глядзець на яе ў цырку не з пажадлівасьцю? Але як ты здолееш пераканаць мяне ў гэтым? Хто не ўстрымліваецца ад таго каб глядзець, але прыкладае да гэтага такую стараннасць, як той можа пасьля сузірання застацца чыстым? Хіба цела тваё – камень? Хіба яно – жалеза? Ты надзелены целам, целам чалавечым, якое хутчэй чым салома запальваецца ад пажаднасьці.*

*І што я кажу пра гледзішча? Часта я на пляцы сустракаюся з жанчынай, мы бянтэжымся, а ты, седзячы ўгары, дзе столькі падахвочванняў да нясціпласьці, бачачы блудлівую жанчыну, выходзячую з аголенай галавой і з вялікай безсаромнасьцю апранутую ў залатое адзенне, вырабляючую далікатныя і спакуслівыя рухі цела, спяваючую блудлівыя песьні і распутныя вершы, прамаўляючую безсаромныя словы і вырабляючую такія непрыстойнасьці, пры якіх ты, глядач, нават уявіўшы іх у розуме сваім, апускаеш вочы, – як адважваешся мне сказаць, што не адчуваеш нічога чалавечага? Хіба цела тваё – камень? Хіба яно – жалеза?*

*Я не перастану паўтараць тое ж самае. Хіба ты больш мудры за тых вялікіх і гераічных мужоў, якія ўпалі толькі ад аднаго жаночага пагляду? Ці не чуў ты, што гаварыў Саламон: хіба ходзячы на палаючых вуглях не спаліць сабе ногі? Хіба паклаўшы*

*сабе полымя за пазуху не спаліць сваё адзенне? Так і прыйшоўшы да адружанай жанчыны* (Прыпавесьці, VI, 27-29). *Хаця б ты і не меў савакуплення з распусніцай, але ты меў з ёю сувязь пажаданнем і здзейсніў грэх думкай. І не толькі ў той час, але і тады, калі гледзішча закончыцца, калі яна ўжо пойдзе, у тваёй душы застаецца яе выява, словы, адзенне, пагляды, хада, зладжанасць, спрыт, блудніцкія часткі цела і ты сыходзіш, атрымаўшы шмат ран. Ці не адсюль бязладдзі ў сядзібе? Ці не адсюль пагібель цнатлівасьці? Ці не адсюль скасаванне адружанняў? Ці не адсюль лаянкі і сваркі? Ці не адсюль незлічоныя непрыемнасьці?*

*Нагода гэтага ў тым, што ты вяртаешся дахаты не адзін, але прыводзіш з сабой блудніцу, якая заходзіць не відавочна і адкрыта, – гэта было б лепш, таму што жонка твая хутка прагнала б яе, – але прысутную ў тваёй душы і ў сьвядомасьці, і запальваючую ўсярэдзіне цябе вавілонскае і нават яшчэ значна большае полымя, – таму што ежай для гэтага полымя служыць не галлё, нафта і смала, але тое, што сказана вышэй, – і ўсё ў табе прыходзіць у бязладззе. О, цяжкія справы! Воўк, леў і іншыя звяры, будучы паранены стралой, уцякаюць ад паляўнічага, а чалавек, самая разумная істота, атрымаўшы рану, імкнецца да той, якая параніла яго, каб атрымаць яшчэ больш цяжкую рану, і знаходзіць задавальненне ў апошняй. Гэта сумней усяго і мае наступствам невылечваемую хваробу. Той, хто не заўважае сваёй раны і не мае жадання пазбавіцца ад яе, як будзе шукаць лекара? Таму я і смуткую і пакутую, што вы прыходзіце адтуль, атрымліваючы такую вялікую заразу, і за малое задавальненне наклікаеце на сябе бесперапынную пакуту. Сапраўды, яшчэ раней геены і тамтэйшай пакуты, вы ўжо і тут аддаеце сябе на крайняе пакаранне. Ці не крайняя, скажы мне, пакута – сілкаваць такую пажаднасць, увесь час запальвацца і ўсюды насіць з сабой полымя непрыстойнага кахання і пакуту сумлення? Як ты прыступіш да парога гэтага свяцілішча? Як дакранешся да нябеснай трапезы? Як будзеш слухаць размовы пра цнатлівасць, увесь пакрыты такімі язвамі і ранамі і маючы душу, заняволеную жарсьцямі? І ці патрэбна згадваць пра астатняе? Я і смуткую і пакутую, таму што дз’ябал заражае такі статак. Але калі вы пажадаеце, то мы адразу загародзім яму ўваход. Як і якім чынам? Калі хворых зробім здаровымі і, распасьцершы сеткі нашага вучэння, выправімся шукаць злоўленых звяроў і выхапім іх із самай пасткі ільва.*

*Таму я папярэджваю і абвяшчаю гучным голасам: калі хто пасьля майго павучання і навучання пойдзе на бязбожныя і згубныя гледзішчы, таго я не прапушчу ў сярэдзіну вось гэтай агароджы, не зраблю прычаснікам таемстваў, не дазволю яму дакрануцца да сьвятой трапезы, але, як пастухі аддзяляюць шалудзівых авечак ад здаровых, каб хвароба не пашырылася і на іх, дакладна так зраблю і я. Калі пад час старажытнасьці* (прагаварыўся новы аўтар) *пракажоны павінен быў заставацца па-за станам і, хаця б ён быў бы цар, выводзіўся туды разам з яго дыядэмай, то тым больш мы прагонім пракажонага душой із гэтага сьвятога стана. Хаця я і не маю жалеза, але маю слова, больш вострае чым жалеза; хаця я і не нашу полымя, але ёсць у мяне вучэнне, больш палымянае чым полымя і здольнае паліць мацней.*

*Не пагарджай жа нашым прысудам. Хаця мы не важныя і вельмі пакорлівыя, аднак, дзякуючы спагадзе боскай, мы атрымалі вартасць, дзякуючы якой можам рабіць гэта. Такім чынам, ды будуць адлучаны такія людзі, каб здаровыя ў нас зрабіліся больш здаровымі, а хворыя пазбавілі сябе ад цяжкай хваробы. Зрабіце вось што: не размаўляйце з такімі людзьмі, не прынімайце іх у сваёй сядзібе, не падзяляйце з імі трапезу, не майце з імі стасункаў ні пры ўваходзе, ні пры выхадзе, ні на кірмашы. Не малое спасьцігне вас асуджэнне, калі вы будзеце гэтым грэбаваць: вы зведаеце самае вялікае пакаранне. Калі ў сядзібах чалавечых, нехта са слуг абвінавачаны ў крадзяжы срэбра ці золата, то караецца не адзін толькі выкрадальнік, але і ведаўшыя пра тое і не паведаміўшыя. Тым больш у царкве. Бог скажа табе тады: бачучы, як той, хто прычашчаўся сумленнейшым целам маім і браў удзел у такой ахвяры, выправіўся ў дз’яблава месца, чаму ты маўчаў, чаму чакаў, чаму не паведаміў пра гэта сьвятару? Сапраўды, не надзейна і небяспечна для*

*паданнем гісторыкаў, пры ім у Рыме быў пазбаўлены галавы апостал Павел* (аналагічна адсячэнню галавы Яну Хрышчэльніку ў евангеллях), *пры ім быў таксама ўкрыжаваны і Пятро* (аналагічна Хрысту). *Гэтае паданне падмацоўваецца надпісамі імёнаў Пятра і Паўла, якія захаваліся на рымскіх могільніках да гэтага часу* (??). *Пра месца, дзе былі пахаваны сьвятыя парэшткі згаданых апосталаў, таксама паведамляе адзін царкоўны пісьменнік на імя Кай, жыўшы пры рымскім біскупу Зефірыне і спаборнічаўшы пісьмова з Проклам, пачынальнікам катафрыгійскага вучэння. Вось яго словы:*

«*Я магу паказаць табе трафеі апосталаў. Прыдзі толькі ў Ватыкан, ці на Астыйскую дарогу, – і ты адразу пабачыш пераможныя знакі заснавальнікаў рымскай царквы. А што абодва яны прынялі пакутніцкую сьмерць у адзін час, «пра гэта карынфскі біскуп Дыянісій, пісьмова стасуючыся з рымлянамі, сведчыць так:*

*Вось, і вы гэтым нагадваннем злучылі парасткі, выгадаваныя Пятрам і Паўлам у Рыме і Карынфе, таму што абодва яны наставілі нас, карынфянаў, і абодва вучылі ў Італіі, і абодва ў адзін час пакутавалі*».

Потым (гл. V) Усёшануючы сведчыць пра Веспасіяна (псеўда 70-80 гады), адпавядаючага Грацыяну (378-383) і, быццам бы, пачаўшага перасьлед «юдэяў у Ерусаліме». Мімаходзь ён згадвае пра Ціта і потым глуха паведамляе пра перасьлед пры Даміцыяне (псеўда 80-96 года), адпаведаючага Хвядосу Вялікаму (378-395). Да гэтага часу аўтар дапасуе і Апакаліпсіс, які замест 96 года павінен быць, як і вынікае із нашых астранамічных вылічэнняў, аднесены да 395 года, г.азн. года сьмерці Хвядоса і ўсшэсьця на пасад Аркадзя (395-408), які фігуруе ў яго пад імем Траяна і памылкова дапасаваны да прамежку паміж 99 і 117 гадамі нашай эры (табл. XXX).

«*Пры ім,* – паведамляе нам «Набожны Усёшануючы», – *быў пачаты супраць царквы перасьлед, з нагоды абурэння народу. Пад час гэтага перасьледу, згодна з паданнем, пакутніцкі скончыў сваё жыццё пасланнік-Знак* (Сымон), *сын Ашуканца* (Кло́па), *быўшага другім біскупам ерусалімскай царквы. Пра гэта сведчыць таксама і Егезіп* («Верны Конь») *і дадае, што «Пасланец-Знак» на працягу шматлікіх дзён быў катуемы рознымі спосабамі за імя хрыстова, прывёўшы ў вялікае здзіўленне самога суддзю і ўсіх атачаўшых яго і скончыўшы жыццё амаль тою ж сьмерцю, якую зведаў і наш бог. Ён быў сынам Ашуканца* (Кло́па), *дзядзькі нашага госпада* (г.азн. стрыечніка евангельскага Хрыста). *І, распавядаючы пра тагачасныя падзеі, «Егезіп» дадае, што да таго часу калі і былі людзі, стаяўшыя «за цьвярозы розум ратуючага вучэння, то яны хаваліся ў змроку невядомасьці*».

Усё гэта адпавядае антыяхійскаму знішчэнню статуй пасьля з’яўлення Апакаліпсіса пры Аркадзю.

Потым царкоўная гісторыя Усёшануючага ліквідуе першапачатковы Ерусалім, перакінуўшы яго ў Палестыну на берагі Мёртвага мора із наваколля Вязувія.

«*Калі абурэнні юдэяў* (багаслаўцаў) *зноў узмацніліся*, – *паведамляе ён у VI главе другой кнігі, – кіраўнік Руф напаў на іх і жорстка, карыстаючыся іхнай утрапёнасьцю, вынішчыў із іх шмат тысяч мужоў, жонак і дзяцей без разбору, а іхную зямлю, адпаведна з правам войны, забрал у скарб. Правадыром багаславячых быў тады нехта на імя Бар-Кахеба, што азначае – Сын Зоркі. Карыстаючыся сваім імем, ён надаваў рабам, быццам бы яны бачаць у ім зорку, сышоўшую з неба каб асьвяціць іх падчас пераажываемых імі бедстваў. Пасьля ўзяцця «Ерусаліма» ён атрымаў годнае пакаранне: указам Адрыяна народу было забаронена нават падыходзіць да ерусалімскай вобласьці, каб яны і здалёк не мелі магчымасьці паглядзець на іхную айчынную зямлю. Пра гэта паведамляе і Арыстон Пелейскі. Такім чынам, у Ерусаліме не засталося больш юдэяў. Цалкам страціўшы ўсіх*

*сваіх старажытных жыхароў і населены чужымі пакаленнямі, ён зрабіўся пасьля гэтага горадам рымскім і перамяніў сваё імя. У гонар тагачаснага імператара Элія Адрыяна ён быў названы Элія* (г.азн. горадам Іллі)».

Але Адрыян быў, як і адпавядаючы яму Ганорый (395-423), заходне-рымскім імператарам, а таму і апавяданне пра знішчэнне «Ерусаліма» павінна быць дапасавана да нейкага вывяржэння Вязувія, канчаткова пахаваўшага першапачаткові Ерусалім-Геркуланум, пасьля чаго праз некалькі стагоддзяў гэтая назва была перанесена на сучасны Эль-Кудс, г.азн. горад сьвятога Іллі, у Палестыне.

Да часу Адрыяна аўтар дапасуе і гностыкаў (г.азн. спазнаўшых). Гностыкі, – паведамляе ён у главе VII другой сваёй кнігі, – выкладалі вяшчунствы Знака (Сымона), але ўжо не таемна, як ён, а відавочна, і нават пахваляліся, як быццам бы чымсьці вялікім, сваімі чароўнымі ўсыпляючымі напоямі, і нейкімі прыходзячымі да іх тады духамі і іншымі падобнымі рэчамі. Яны сцвярджалі, што жадаючыя дасягнуць дасканаласьці ў іхных таямнічых ведах ці, лепш, у іхным агідным жыцці, павінны рабіць усё самае ганебнае. Ад мірскіх жарсьцяў, – казалі яны, – можна пазбавіцца няйнакш, як задавальняючы іх праз непрыстойнасьці. І пагалоска пра тых людзей (як пра сапраўдных хрысьціянаў) мела наступствам бэшчанне ўсяго хрысьціянскага народа. Адсюль і пашырылася паміж тагачаснымі няверными бязбожнае разуменне пра нас, як пра маючых незаконныя сувязі са сваімі маці і сёстрамі і сілкуючыміся гідкім ядзеннем (апакаліптычнай брыдотай і брудам). Але хітрыкі нашых ворагаў хутка разбурыліся, выкрытыя самімі іхнымі справамі. Ерасі ў іх з'яўляліся адна за другой, а сьвятло адзінай сапраўднай кафалічнай царквы, застаючыся ўвесь час адным і тым жа, працягвала павялічвацца і пашырацца, і разам з тым знікаў паступова і паклёп на ўсё наша вучэнне. Засталася адна наша вера і зрабілася ўсюды пануючай, як прызнаная за цудоўную адпаведна святасьці і чысьціні, боскасьці і мудрасьці свайго вучэння».

Пасьля гэтага аўтар характарызуе стан лацінскай царквы пры «Антаніне Набожным», дапасуемым ім да 138-161 гадам, але спісаным, згодна з нашым графічных супастаўленнем з Аэцыя ў перыяд яго апякунства над непаўналетнім Валентыніянам III. Гэтага цара ён называе Светлым (Люцыем) і паведамляе, што нехта Юстын напісаў яму ліст (кн. IV, гл. XII) з такім пачаткам, які нічым не адрозніваецца ад нядаўняга: «набожнейшаму, самаўладнейшаму, вялікаму імператару і інш. і інш. і інш.». Вось ён:

«*Самаўладцу Ціту Элію Адрыяну Антаніну набожнаму, кесару і сапраўднейшаму аўгусту, філосафу і Люцыю, роднаму сыну кесара філосафа, усыноўленаму Набожным, аматару вучонасьці, святому сенату і ўсяму рымскаму народу я падношу прабачэнне за людзей* (г.азн. хрысьціянаў), *несправядліва ўсім чалавечым родам ненавідзімых і зласловімых, – адзін із якіх Юстын, сын старажытнага Вакхана* (Прыска Вакхіева), *родам із Флавіі-Неапаля, што ў Сірыі палестынскай».*

Прачытаўшы падобнае гэтаму лісліваe прашэнне і ад іншых азіяцкіх хрысьціянаў, імператар, быццам бы, накіраваў нейкаму «азіяцкаму таварыству» наступны наказ:

«*Самаўладзец кесар Марк Аўрэлій Антанін Аўгуст, Армянін* (адкуль бачна, што Набожны Усёшануючы, ужо перамяшаў слова рымскі – А-Рам – не толькі з Арамеяй, але нават і з Арменіяй), *вярхоўны першасьвятар, народны трыбун у пятнаццаты, а консул у трэцці раз, жадае здароўя грамадству азійскаму. Ведаю, што самі багі пякуцца пра іх* (хрысьціян), *як бы гэтыя людзі ні хаваліся, таму што багі значна лепш вас маглі б пакараць тых, якія не жадаюць ушаноўваць іх. Вы трывожыце*

(хрысьціянаў) *і абвінавачваеце іх у бязбожнасьці, але гэтым самым вы замацоўваеце іх у думцы, якой яны прытрымліваюцца: у іх, з нагоды перасьледаў, з'яўляецца больш прыгатаванасьці памерці за свайго бога, чым жыць. Аддаючы свае душы за тое, каб не рабіць таго, чаго вы ад іх патрабуеце, яны выходзяць пераможцамі. Што ж да землятрусаў, што былі і бываюць, то я лічу патрэбным нагадаць вам наступнае: за ўвесь час такога бедства яны выяўляюць больш дзёрзкасьці перад богам, а вы, пакуль яно не скончылася, не клапоціцеся ні пра багоў, ні пра нешта іншае, і не думаеце пра ўшанаванне несьмяротнага, якому служаць хрысьціяне, перасьледемыя і гнаныя вамі да сьмерці.*

*Дарэчы, пра іх шмат хто із абласныя кіраўнікоў пісалі яшчэ раней да нашага богападобнага бацькі, і ён адпісваў ім, што трывожыць гэтых людзей няма патрэбы, калі яны не выяўляюць ніякіх варожых намераў супраць рымскага валадарства. Пісалі пра іх шмат хто і мне, і я адказваў ім адпаведна з думкай майго бацькі.*

*Такім чынам, калі нехта будзе абвінавачваць каго-небудзь із хрысьціянаў у тым, што ён хрысьціянін, то абвінавачваемага загадваю вызваляць ад суда, хаця б ён сапраўды выявіўся хрысьціянінам, а абвінаваўцу аддаць пад суд.*

*Абвешчана ў Ефесе азійскаму грамадству*».

Ужо адна толькі тая акалічнасць, што аўтар гэтага ліста блытае жыдоўскае слова А-Рам з Арменіяй, дастаткова паказвае, што ён вельмі позьняга паходжання. Але хто ж і дзеля чаго яго складаў? – запытаеце вы. – Прачытайце зноў, – адкажу я, – главу «Псіхалогія ілжывасьці і прыкідвання», некалькі дзясяткаў старонак назад, і вам не патрэбна будзе іншага тлумачэння. Уся кніга Набожнага Усёшануючага з'яўляецца толькі праявай таго самага «вялікага вар'яцтва» заблытаўшыхся ў сваіх памылках клерыкалаў. Яно стварыла нам усю старажытную гісторыю, адзін із самых галоўных узораў якой я і разбіраю зараз.

Наступнікам гэтага Антаніна, празванага набожным, памёршага на дваццаць другім годзе валадарання, быў, – згодна са сведчаннем аўтара, – Марк Аўрэлій Вер, названы таксама Антанінам, і ён пасьля ўсяго толькі што павядомленага ні з таго ні з гэтага, быццам бы, пачаў перасьледаваць хрысьціян.

«*Дзівіліся*, – паведамляе ён, – *гледачы, стаяўшыя навокал, бачачы, як пакутнікі былі рассякаемы бізунамі да самых глыбокіх жылак і артэрый* (нават і артэрыі ўжо ведае Усёшануючы!), *так што перад позіркам расчыняліся вантробы і самыя патаемныя часткі іхнага цела. Пад іх падсцілалі марскія ракавіны і вострыя аскепкі, праводзілі іх праз усе роды катаванняў і пакут і, нарэшце, аддавалі звярам на з'ядзенне*». «*Пры гэтым зведаў пакуты*, – працягвае ён, – *адзін старац на імя Шматплодны* (Палікарп), *якога ўзвялі на вогнішча*.

(Больш нікога ён не можа назваць на імя, але і тут запаў у відавочнае складальніцтва, што бачна із наступных радкоў.)

«*Полымя моцна павялічылася, – і тыя, якім дадзена было бачыць, пабачылі дзіва і пераказалі яго іншым. Полымя набыло форму шатра і падобна карабельнаму ветразю, надзьмутаму ветрам, атачыла цела пакутніка, так што, знаходзячыся ў сярэдзіне, яно здавалася не спальваемым целам, а залатам і срэбрам, распальваемым у горне. Пры гэтым* ***мы*** (!!) *адчувалі такі водар, як быццам бы курыўся ладан, ці нейкі іншы каштоўны водар. Нарэшце, бачачы, што цела не можа быць спапялёна полымем, няпраўнікі загадалі падысьці зверазмагару і ўсадзіць у яго меч. Калі ж ён гэта зрабіў, то кроў палілася ў такой колькасьці, што патушыла полымя. Народ уразіўся вялікаму адрозненню паміж няслушнымі і абранымі, адным із якіх быў гэты дзіўны сучасны нам настаўнік апостальскі і прароцкі, былы біскуп кафалічнай царквы ў Смірне*».

Што гэта, – запытаю я, – як не праява таго, што ў псіхіятрыі мае назву «манія ілжывасьці (pseudologia phantastica)? Аўтар жыў ужо ў такі час, калі балаганныя,

грубыя дзівы з анёламі і чарцямі ўжо выйшлі із моды, але ў незгараемасць сьвятых яшчэ верылі. Іх можна было забіць толькі мячом...

А потым пачынаюцца фантазіі і пра ерасі і, напэўна, не адзін раз да іх тут далучаюцца першыя стадыі развіцця самога ж хрысьціянства, абвешчаныя пасьля іхнага знішчэння толькі «былымі адгалінаваннямі», пераіначаўшымі першапачатковую чысьціню сапраўднай веры». Так, у XXII-й главе другой кнігі аўтар паведамляе, быццам бы хрысьціянская царква (пры Аўрэліі Веры, г.азн. Валентыніяне III) звалася паннай, таму што яна яшчэ не была разбэшчана мітуслівымі вучэннямі. «Першым яе гвалтаўнікам, – паведамляе ён, – быў Февуфіс, незадаволены тым, што яго не прызначылі біскупам. Ён належаў да адной із сямі народных сектаў. Із іх жа выйшлі і Сымон, родапачынальнік сіманіян, і Клеовій, ад якога паходзяць клеавіцяне, і Дасіфей, ад якога – дасіфеяне, і Гарфей, ад якога – гарфеяне і Масвафей. Ад гэтых паўсталі менандрыяне, маркіяніты, карпакратыяне, валентыніяне, васілідыяне і сатурніліяне. І кожны ерасе-пачынальнік дадаваў сваё ўласнае вучэнне, адрознае ад іншых. Адсюль з'явіліся ілжэ-хрысьціяне, ілжэ-прарокі, ілжэ-апосталы, якія сваімі пераіначанными вучэннямі пра бога і яго Хрыста падзялілі адзінства царквы». Нарэшце, выказваючыся пра так званыя апокрыфы, аўтар (якому ўжо былі вядомымі і апокрыфы!) заўважае, што некаторыя із іх былі складзены ерэтыкамі ў яго час.

У сваёй пятай кнізе Набожны Усёшануючы ўжо відавочна пераносіць падзеі ў Заходнюю Яўропу.

«*Краінай,* – паведамляе ён, – *у якой пачаліся перасьледы пры Марку Аўрэлію* (г.азн., па-нашаму, пры Валентыніяне III), *была Галія. Самыя выдатныя і больш іншых славячыяся яе мітраполіі: Лугдун* (Ліён) *і Віена* (Віень). *Праз абедзьве працякае рака Родан* (Рона), *абрашаючы дастаткам сваёй вады усю краіну. Іхныя самыя знакамітыя цэрквы паслалі цэрквам азійскім і фрыгійскім сваё «Складанне пра пакутнікаў», у якім яны распавядаюць пра свае здарэнні*».

Для нас не уяўляюць цікавасьці прыводзімыя ў гэтым «творы» выпадкі, і таму, адразу перайшоўшы да XVIII главы, я пакажу толькі прыклад таго, як разнастайна ўжывалася слова «Ерусалім» пад час сярэдневечча.

Вось, напрыклад, сапраўдныя радкі Усёшануючага пра Мантану:

«*Ён вучыў скасоўваць адружанні і выдаваў законы пра пасты. Невялікія гарады Фрыгіі, Петузу і Тымён, ён называў Ерусалімам з намерам сабраць туды людзей з усіх краін. А пра яго прарочыц Апалоній іранічна піша: «Заўважым, што гэтыя самыя прарочыцы, напоўніўшыся сьвятым духам, першымі скасавалі адружанне са сваімі чалавекамі; і як жа ашукаліся тыя, якія звалі Прыску дзяўчынай!»*».

Што мы тут бачым, чытач? Нават невялікія гарады мелі найменне Ерусалім, **што азначае, гэтае імя** (г.азн. Горад Сьвятога Замірэння, калі браць напалову грэцкі сэнс, і «Надзея Заспакаення» калі браць сэнс чыста жыдоўскі) **было прыметнікам**. І мы не можам не бачыць грунтуючыся на сукупнасьці падзей, што спачатку, у кнізе «Сыход», гэтая назва мела дачыненне няйнакш, як да Геркуланума (ці Пампеі) каля падэшвы Сіёна-Везувія, а ў кнізе «Цары», відаць, ужо да Цар-Горада і толькі пазьней да сучаснага нам палестынскага Эль-Кудса.

Такое заканчэнне мае V кніга Яўсевія Усёшануючага.

Яго шостая кніга пачынаецца з выкладання вучэння Арыгена, якога ён дапасуе да часоў Сэптымія Сявера, жыўшага, быццам бы, у 193-211 гадах, а згодна з нашым графіках гэта прыпадае на час Адаакра (476-493). Яго імя, калі выводзіць ад лацінскага кораня, азначае «Першапачатковы» і таму мала адпавядае такому позьняму часу. Ды і пры вывядзенні з грэцкага (лічачы верагодным некаторае

пераіначванне арфаграфіі) ад ὡρα і γεννάω – нараджаю гадзіны, сэнс атрымліваецца амаль той жа самы. Таму даводзіцца прызнаць яго за асобу міфічную, накшталт астранома Пталямея Александрыйскага, няправільна дапасуемага класікамі таксама да другога стагоддзя нашай эры. Ва ўсякім разе ў пятым стагоддзі мы не знаходзім для яго ніякага аналага ў дайшоўшых да нас першакрыніцах, ды і увесь перыяд паміж Каракалой (217 г.) і Аўрэліянам – проста цэмент для злучэння разам двух асобных апавяданняў.

Уся шостая кніга прысвечана Арыгену і яго сучаснікам і, нягледзячы на яе пазьняе паходжанне, уяўляе цікавасць тым, што, грунтуючыся на ёй, Арыген пры нашым пераліку прыпадае на час біблейскіх пракокаў, тады як астраном Пталямей храналагічна амаль налягае на аўтара Апакаліпсіса Яна Залатавуста.

Сёмая кніга Усёшануючага пачынаецца валадараннем «Француза» (Гала[537]), пры якім малюецца хрысьціянскае квітненне зусім як пры Людовіку Набожным...

«*Ведай, брат, што ўсе ўсходнія і яшчэ больш далёкія цэрквы былі некалі падзелены, а зараз прыйшлі да яднання. Іхныя прадстаяцелі ўсюды пагадняюцца ў складзе думак і перапоўнены вялікай радасьцю пра нечаканае зацьверджанне міру: Дзімітрыян – у Антыёхіі, Феактыст – у Кесарыі, Мазабан – у Эліі (Эль-Кудсе), Марын, пасьля сьмерці Аляксандра, – у Ціры, Іліядор, пасьля спачывання Філімідра, – у Лаадыкеі, Ялен – у Тарсе. Не жадаючы рабіць свой ліст доўгім, а гаворку цяжкай, я назваў толькі самых знакамітых біскупаў. Усе сірыйскія вобласьці, Аравія, Месапатамія, Понт і Віфінія, – адным словам, усе і ўсюды радуюцца аднадумству і браталюбству, славячы бога*».

Так красамоўна выказваецца аўтар ад імя нейкага Дзіянісія зусім не сярэднявечным складам.

А вось, і пра другога «французкага цара» (Галіена, на-лаціне).

«*Ён быў*, – аратарствуе Усёшануючы, – *цар стары і разам новы, таму што і раней ён быў, і пасьля застанецца, як сказана ў прарока Ісаі: вось, прыйшло спрадвеку існаваўшае і новае, што зараз зазззяе»* (Іс., XLIII,19). *Як воблака, прарэзаўшы сонечныя прамяні і на кароткі час засланіўшы іх, закрывае сонца і замест яго з'яўляецца само, а потым, калі яно праходзіць ці рассейваецца, сонца зноў з'яўляецца прамяністым, так і Маркіян, як воблака, стаў наперадзе і імкнучыся завалодаць вышэйшай уладай Галіена, зараз больш не існуе, таму што не быў тым, чым меў жаданне быць, а Галіен застаецца тым жа, чым быў раней. Зараз рымскае царства як бы скінула сваю старасьць і, ачысьціўшыся ад папярэднічаўшых бедстваў, заквітнела з большай магутнасьцю. Зараз значна далей людзі бачаць яго і чуюць пра яго, – яно пашыраецца паўсюдна*».

Цалкам як пры Людовіку XIV!...

А сьледам за гэтым аўтар, нібы-та цытуючы сучасніка тых падзей Дыянісія, паказвае і на час, калі той пісаў, выказваючыся так:

«*Вось мне зноў давялося ахапіць думкай працягласць царскіх гадоў. Бачу, як бязбожныя, стварыўшыя сабе імя, за кароткі час засталіся без імя, і як набожнейшы і богашануючы імператар, здзейсніўшы сямігоддзе, зараз дасягае дзевятага года, які мы будзем святкаваць*».

Я не буду больш працягваць тут выпісак, нібы зробленых Усешануючым із апакрыфічнага Дыянісія пра апакрыфічныя ж хрысьціянскія псеўда-ерасі псеўда-заканчэння III стагоддзя, калі яшчэ не існавала ніякай праваслаўнай царквы, заснаванай, нават і грунтуючыся на хрысьціянскіх аўтарах толькі Васілём Вялікім у другой палове IV стагоддзя. Пазначу толькі яго паданне пра Менеса, які, калі верыць яму, з'яўляецца першым Хрыстом пры Дыяклетыяне, да часу якога дапасуецца толькі арыянства.

[537] Па-грэцку Францыя і да гэтага часу мае назву Галія, а француз – гал.

«*Да гэтага часу*, – паведамляе ён, – *прыгатаваў сваё вар'яцтва, свой скажоны сэнс, Менэс, даўшы найменне вядомай дэманскай ерасі,* таму што, *сапраўды, сам дэман, вораг боскі – сатана, на шкоду шматлікім, выкінуў на сьвет гэтага чалавека. Варвар па жыццю, мове і нораву, шалёны і апантаны адпаведна з прыродай, ён адважыўся ўяўляць із сябе Хрыста! Ганарлівы да ўтрапёнасьці, ён абвяшчаў сябе – то суцяшальнікам і сьвятым духам, то хрыстом, і абраў дванаццаць вучняў у якасьці саўдзельнікаў сваёй прыдумкі. Ілжывае ж і бязбожнае сваё вучэнне ён сшыў із тысячы думак, належачых даўно знікшым ерасям, і выліў яго із Персіі*[538] *на нашу зямлю, як нейкую сьмяротную атруту. Адсюль і паходзіць чуемае да гэтага часу ад шмат каго бязбожнае імя маніхеяў*» (кн. VII, гл. 21).

У процілегласць Менесу аўтар узвялічвае іншага псеўда-сучасніка Дыяклетыяна – біскупа Анатоля Александрыйскага, спісанага хутчэй усяго з Арыя, называючы яго Ўсходнім біскупам (Анатолем):

«*Родам ён быў александрыец, і па сваёй вучонасьці, грэцкай адукаванасьці, роўна як і па філасофіі, займаў першае месца паміж самымі вядомымі асобамі нашага часу. Дзякуючы таму, што і ў арыфметыцы, і ў геаметрыі, і ў астраноміі, і ў дыялектыцы, і ў фізіцы, і ў рытарскім мастацтве ён дасягнуў самай высокай ступені, жыхары Александрыі прасілі яго, кажуць, заснаваць у іхным горадзе школу Арыстоцелевых паслядоўнікаў*».

Яму Усёшануючы прыпісвае (як атрымліваецца і з нашага боку гледжання) першае вызначэнне пачатку года, якое ён называе Вялікаднем, г.азн. пераходам сонца праз нябесны экватар.

«*Маладзік першага месяца першага года, служачага пачаткам **дзевятнаццацігадовага** цыкла гадоў, прыпадае, адпаведна з ягіпецкім злічэннем, на 26-ы дзень месяца Фаменота; згодна з македонскім месяцасловам ён прыпадае на 22-і дзень месяца Дыстра, а згодна са злічэннем рымлянаў, на 11 дзень перад красавіцкімі календамі* (г.азн. 22 сакавіка). *Тым часам лічаць, што на 26-ы дзень памянёнага Фамянота сонца не толькі заходзіць у першае сузор'е задыяка, але ідзе ў ім ужо чацьвёрты дзень. Гэтае сузор'е* (г.азн. Авена) *звычайна называюць першым із дванаццаці, раўнадзённым, пачаткам месяца, кіраўніком* (задыякальнага) *кола і выточнай кропкай планет. А папярэднічаючае яму* (сузор'е Рыб) – *апошнім месяцам, дванаццатым сузор'ем, заканчэннем планетнага перыяду. Таму тыя, якія дапасуюць да яго* (г.азн. да Рыб) *першы месяц і ў ім чатырнаццаты дзень лічаць за дзень Вялікадня* (г.азн. пераходу; але, ж, гэта было толькі ў XI стагоддзі нашай эры!!), *нямала памыляюцца*».

Потым змешваючы слова Вялікдзень, як пераход сонца праз экватар у наша паўночнае паўшар'е на вясну, з пераходам жыдоў праз расступіўшаяся, як бы, перад імі мора, аўтар працягвае, аддаючы перавагу біблейскай лягендзе:

«*Вырашаючы пытанні, маючыя дачыненне да кнігі «Сыход», яны* (старажытныя настаўнікі) *паведамляюць, што ахвяру перараджэння ўсе павінны здзяйсняць пасьля веснавога раўнадзенства, пад час сярэдзіны першага месяца. А гэта прыпадае на той час, калі сонца працякае ўжо першы раздзел сонечнага кола, ці, як некаторыя із іх называюць, Задыяка. Арыставул дадае яшчэ, што пад час сьвята* (жыдоўскага) *перараджэння не толькі сонца павінна працякаць праз знак раўнадзенства, але і месяц, а раўнадзённых знакаў два: вясновы і восеньскі, і яны адзін аднаму процілеглыя. Такім чынам, калі днём велікоднай ахвяры будзе чатырнаццаты дзень месяца, вечарам, то месяц стане ў становішча прама процілеглае сонцу, як гэта можна бачыць пры поўні. Тады сонца ўвойдзе ў знак веснавога, а месяц, па неабходнасьці, у знак восеньскага раўнадзенства*».

---

[538] Пазначым, што Персію (ПРСІ) сярэднявечныя тэолагі ўвесь час блыталі з Парызеяй (ПРЗІ), ад французкага Paris – Парыж.

«*Той жа Анатоль*, – працягвае ён, – *пакінуў нам падмуркі арыфметыкі ў цэлых дзесяці кнігах і розныя іншыя доказы сваёй рэўнасьці і шматдасьведчаннасьці ў здзяйсненні боскіх прадметаў*».

Да наступнага пасьля яго пакалення набожны Усёшануючы – Яўсевій Памфіл – дапасуе і самаго сябе, называючы сябе самым вучоным і сапраўдным філосафам такімі славамі:

«*У Агапіеў час* (г.азн. падчас заснавальніка агап, прыпадаючага тут на час каля 296 года) *мы ведалі самага вучонага і згодна з самім жыццём сапраўднага філосафа, Памфіла* (г.азн. самога сябе, нарадзіўшагася згодна з царкоўнай храналогіяй у 270 годзе і памёршага ў 340 годзе), *які ў тамтэйшай епархіі быў ганараваны прасвітарства*.

*Каб намаляваць, якім быў гэты чалавек і якімі былі яго пачаткі, запатрабаваўся б не малы твор. Асобныя рысы яго жыцця, створанае ім вучэнне, яго розныя спавядальніцкія вычыны падчас перасьледаў і, нарэшце, набыты ім пакутніцкі вянок мы апісалі ў асобнай кнізе. Праўдзіва, ён самы дзіўны із усіх тутэйшых мужоў. А із самых блізкіх сваіх сучаснікаў самымі рэдкімі людзьмі мы прызнаём александрыйскага прасвітара Персія і біскупа пантыйскіх цэркваў Мялетыя. Адзін уславіўся крайняй несцяжальнасьцю і філасофскімі спазнаннямі, надзвычайнымі заняткамі ў сузіранні і тлумачэнні рэчаў боскіх і размовах на ўсенародных царкоўных сходах. Другі – Мялетый, – якога навукоўцы называлі мёдам Атыкі, быў такім, якім можна апісаць толькі чалавека, самага дасканалага ва ўсіх дачыненнях.*

«*Гэтым* (г.азн. дыфірамбам самому сабе) *і заканчаем мы апісанне пераемнасьцей, якое абдымае сабой 305 гадоў, ад нараджэння нашага Ратавальніка да разбурэння малітоўных сядзіб. А сьледам за гэтым паспрабуем мы перадаць нашчадкам пісьмова і пра сучасных нам пакутнікаў за набожнасць і пакажам, колькі іх было*».

Такім з'яўляецца заканчэнне сёмай кнігі «Царкоўнай гісторыі» Яўсевія Памфіла.

Дапасаванне веснавога раўнадзенства да 14 сакавіка (відавочна, юліянскага злічэння) дае нам непасрэдна XI стагоддзе нашай эры (у чацьвёртым стагоддзі яно было па-юліянску 18, а напачатку нашай эры 22 сакавіка). Поўнае знаёмства з усімі евангеллямі, самае позняе із якіх (Лукі Эладзкага) дапасуецца, як мы бачылі ў першым томе, да X стагоддзя нашай эры, прыводзіць да такой жа высновы. А калі вы яшчэ не пераканаліся ў тым, што нецырымонны тон яго выкладання з'яўляецца тыповым тонам першых стагоддзяў друкарскай эры і позняга рэнесансу, то вось вам яшчэ ўзор із восьмай кнігі таго ж Набожнага Усёшануючага.

«*Апісаўшы ў цэлых сямі кнігах*, – пачынае ён, – *пераемства апосталаў, мы лічым у гэтай восьмай кнізе вельмі патрэбным выкласьці* ***дзеля ведання нашчадкамі*** (які клапатлівы!) *тыя падзеі, якія здарыліся пры нас саміх (??) і якія заслугоўваюць не павярхоўнага апісання. Пачнём сваё выкладанне так*.

*Глава I. Пра тое, што адбылося перад сучасным нам перасьледам.*

«*Наколькі была вялікай і як далёка паміж усімі народамі, як грэкамі так і варварамі, пашырылася перад сучасным нам перасьледам слава і адвага вучэння пра ўшанаванне вярхоўнага бога, абвешчанага сьвету Хрыстом, мы не ў стане годна паведаміць. Доказам таго можа служыць прыхільнасць да нашых аднаверцаў дзяржаўных асоб, якія даручалі ім кіраванне народам і, дзякуючы вялікай схільнасьці да нашай веры, вызвалялі іхнае сумленне ад* (паганскіх) *ахвяраванняў. А што сказаць пра царскіх прыдворных? Што – пра кіраўнікоў, валадарачых над усімі? Усім сваім сямейнікам: жонкам, дзецям і служкам яны дазвалялі адкрыта і вольна быць вернымі боскаму слову і хрысьціянскаму жыццю. Яны амаль дазвалялі ім хваліцца сваёй прыхільнасьцю да веры і лічылі іх годнымі павагі больш, чым іншых служак. Такім быў*

*Дасіфей, за сваю самую глыбокую адданасць і вернасць адзначаны ўладамі пераважна перад асобамі, займаўшымі самыя высокія ўрадавыя пасады. Такім быў разам з ім і хвалебны Гаргоній і іншыя, якія ганараваліся падобнай адзнакай за слова боскае. О, наколькі вялікай любасьцю, увагай і сяброўскім стаўленнем карысталіся кіраўнікі кожнай царквы ва ўсіх прэфектаў і дарадцаў! Хто і як апіша гэтыя шматлікія звароты да Хрыста, гэтыя людныя сходы ў кожным горадзе і зборы ў малітоўных сядзібах, – дзякую чаму, ужо не задавольваючыся старымі будынкамі, хрысьціяне па ўсіх гарадах пачалі будаваць шырокія цэрквы? Так дабрабыт хрысьціянства з цягам часу павялічваўся і з кожным днём прыходзіў у новую моц і веліч. Ніякая нянавісць не абмяжоўвала яго, ніякі злы дэман не быў у стане яму пашкодзіць, ці паменшыць карыстаючыся людзкімі паклёпамі, пакуль боская і нябесная рука ахінала і ахоўвала свой народ адпаведна з яго годнасьцю. Калі ж ад залішняй волі плынь нашых спраў ператварылася ў павольную і млявую; калі мы пачалі адзін аднаму зайздросьціць, адзін з адным сварыцца і, пры нагодзе, уражвалі адзін другога стрэламі свайго слова, амаль як зброяй; калі ўлада пачала нападаць на ўладу, народ пачаў абурацца супраць народа; калі ганебная крывадушнасць і прыкідлівасць дасягнулі найвышэйшай ступені зла, – тады суд боскі, літаваўшы умілаваных сваіх за працягваўшыяся яшчэ сходы, пачаў выяўляць свой нагляд над імі, спачатку злёгку ўмерана, дазволіўшы пераследванне толькі нашых братоў, знаходзіўшыхся ў войску. Але мы, нягледзячы на тое, заставаліся неадчувальнымі і не клапаціліся пра тое, як бы набыць любасць і літасць бога, а насупраць, падобна бязбожнікам, думалі, што нашы справы не знаходзяцца пад нечыяй апекай і наглядам і дадавалі злачынствы да злачынстваў. А нашы ўяўныя пастыры, занядбаўшы закон богашанавання, запальваліся толькі ўзаемнымі звадамі, памнажалі адны разлады і пагрозы, зайздрасць, варожасць і нянавісць адзін супраць другога і моцна дамагаліся першынства і неабмежаванай улады. Тады, нарэшце, адпаведна са словам Ераміі* (Плач, II, 12), «*азмрочыў Бог у гневе сваім дачку Сіёна, скінуў з нябёс на зямлю славу Ізраіля і спустошыў усе цьвярдыні яго*».

«*Усё гэта*, – паведамляе аўтар, – *адбылося менавіта пры нас. Мы ўласнымі вачамі бачылі і разбурэнне малітоўных сядзіб зверху да нізу – да самых падмуркаў, і спаленне боскіх і сьвятых кніг пасярод пляцаў, і ганебнае самавыкрыванне пастыраў царквы тут і там; мы бачылі і ганебнае адшукванне іх і пасьмяянне над імі ворагаў. Дарэчы не наша справа апісваць заканчэнне іхнай бядотнай долі, роўна як не варта перадаваць нашчадкам памяць пра існаваўшае перад пераследам непагадненне іх паміж сабой і пра іхныя ганебныя ўчынкі. Таму і вырашыліся мы не распавядаць пра іх больш таго, што патрэбна паведаміць дзеля апраўдання суда боскага. У гэтай нашай «Усеагульнай гісторыі» мы прапануем толькі тое, што можа паслужыць на карысць перш усяго нам самім, а потым і тым, якія будуць пасьля нас. Пачнём жа коратка апісваць сьвятыя вычыны спавядальнікаў слова боскага*».

«*Быў дзевятнаццаты год валадарання Дыяклетыяна; быў месяц Дыстр, называемы ў рымлянаў Мартам, калі перад сьвятам ратуючага пакутніцтва паўсюдна былі разасланы* (раптам ні з таго ні з гэтага пасьля ранейшага спагадлівага стаўлення) *царскія граматы, якімі загадвалася разбураць цэрквы дашчэнту, а кнігі вынішчаць полымем і ў якіх асобы, займаўшыя ганаровыя пасады, былі абвешчаны страціўшымі гэтыя пасаду, а знаходзіўшыяся ў паслужэнні – пазбаўленымі волі, калі будуць і далей спавядаць хрысьціянства. Такім быў першы ўказ супраць нас. Хутка пасьля гэтага з'явіліся ў іншыя граматы, загадваўшыя спачатку закоўваць у кайданы ўсіх кіраўнікоў цэркваў у кожным месцы, а потым рознымі спосабамі прымушаць іх да ахвяраванняў*».

Чытач, ужо ведаючы, што пры Дыяклетыяне яшчэ не існавала ніякай праваслаўнай хрысьціянскай царквы, павінен палічыць гэта ці за голую прыдумку, ці прызнаць, наадварот, што цэрквы, якія разбураў Дыяклетыян, былі не

хрысьціянскімі, а наадварот агменямі ранейшага вольнага шаманства, калі кожны вядзьмак меў права наладзіць ахвярнік у кожным, выклікаючым забабоны месцы і, паставіўшы там грубую статую, заклікаць атачаючае насельніцтва на ахвяраванні ёй, прадказваючы ім за гэта ад яе імя будучыню і выдаючы яе за лекарку хвароб.

Мы бачым, што менавіта ў гэты час і з'явіўся першасьвятар Дыяклетыяна (г.азн. біблейскага Майсея) Арый (г.азн. Арон), які, як на Русі пры «Уладзіміру Сьвятым», пачаў разбураць усе агмені шаманства. І, вядома, ён сустрэў асаблівы супраціў у тых месцах, дзе незвычайныя фізічныя з'явы ўжо даўно выклікалі да жыцця і гістарычна ўмацавалі вялікія храмы і жрэцкія мястэчкі, жыхары якіх (ды і усё атачаючае насельніцтва) фанатычна верылі ў сьвятасць і магутнасць сваіх «мясцовых» багоў. Зразумела, што ў такіх выпадках нярэдка адбываліся і фанатычныя супраціўы і выпадкі пакутніцтва ад гвалтоўнага прымусу адрачыся ад сваіх родных багоў у імя адзінага нябеснага бога-Грамабоя і ў імя адзінага дзяржаўнага штатнага сьвятара. Усе такія выпадкі супраціву, застаўшыяся ў народнай памяці пры пашырэнні арыянства, наступная месіянская царква, пачаўшая змаганне з арыянствам і абвясьціўшая сябе яго папярэдніцай, надзвычай лёгка магла палічыць за яго перасьледы на сябе, і ў такім выпадку тое, што мы тут чытаем, стане вельмі верагодным і нават непазбежным з этна-псіхалагічнага боку гледжання. І тады апісанне Набожнага Усёшануючага набывае наступны выгляд.

«*Вельмі шматлікія із настаяцелей* (вольнай шаманскай) *царквы бадзёра перанеслі жахлівыя пакуты і паказалі прыклады вялікіх вычынаў, а незлічоная шматлікасць іншых, упаўшы духам ад нясмеласьці, саслабела і не вытрымала першага нападу. Із непадпарадкаваўшыхся кожны зведаў пакуты рознага роду: аднаго секлі бізунамі, другога раздзіралі невыноснымі кіпцюрамі, дзякуючы чаму некаторыя здабылі самы бядотны канец жыцця. А некаторых і жывымі выводзілі із пакут, каб яшчэ зганьбаваць: аднаго гвалтоўна гналі да няправедных і гідкіх ахвярнікаў, – і ён быў вызваляемы, як быццам бы прынёс ахвяру, хаця і не прыносіў яе; некаторыя наогул і не набліжаліся да ахвярніка, і не дакраналіся да чагосьці нячыстага, аднак жа і яму прыпісвалі ўдзел у ахвяраванні, а ён моўчкі пераносіў паклёп і выдаляўся. Таго бралі збітага і кідалі напалову мёртвым, як ужо памёршага, а ён ажываў, а іншага, ляжачага на зямлі, цягнулі за ногі на доўгую адлегласць і прылічвалі да тых, якія прынесьлі ахвяру. Адзін крычаў і голасна сведчыў пра сваё адрачэнне ад ахвяраванняў, іншы заклікаў, што ён – хрысьціянін і хваліўся спавяданнем ратуючага імені, трэцці сцвярджаў, што ён не курыў і ніколі не будзе курыць фіміям багам; аднак жа і гэтыя былі гвалтоўна выганяемы шматлюднымі атрадамі прызначанага да гэтага войска, а каб яны маўчалі, іх білі па вуснах і шчоках. Такімі важнымі здзясненнямі ворагі* (ранейшай!) *веры ўшаноўвалі нават і адно вонкавае дасягненне сваёй мэты!*»

З гэтага ж боку гледжання можна разглядаць і паведамленні пра папярэднічаўшыя перасьледы яшчэ не існаваўшых хрысьціянаў першых «трох стагоддзяў». Хрысьціянскія ерасі, прыпісваемыя таму часу, могуць быць збольшага апокрыфамі, а збольшага першапачатковымі формамі развіцця самога хрысьціянства, пераназванымі ў ерасі, пасьля таго як яно перайшло на новыя стадыі свайго развіцця.

«*Мы толькі-што бачылі,* – працягвае Усёшануючы, – *як князь гэтага сьвету пачаў абуджацца ад глыбокага сну. Яшчэ затоёна і асьцерагаючыся, пад час прамежка двух цараванняў, Дэкіева і Валяр'янава, ён пачаў накладаць руку на цэрквы* (г.азн. хутчэй усяго на прыватныя ахвярнікі мясцовым багам), *не раптам узводзячы супраць іх лаянку, але спакушаючы толькі тых, якія знаходзіліся ў войску. Ён лічыў, што, перамогшы спачатку іх, яму лёгка будзе паланіць і іншых, аднак шмат асоб важнага звання аддавалі перавагу сыходу ў прыватнае жыццё, каб не адрачыся ад сваёй ранейшай веры* (тое ж

было і ў войску). *Як толькі вайскавод, – хто б ён ні быў, – пачынаў аддзяляць прынятых у палкі* (на думку аўтара – хрысьціянаў, а на справе паганцаў) *і прапаноўваць кожнаму із іх ці падпарадкавацца царскаму ўказу і захаваць належачы яму чын, ці страціць вайсковую вартасьць, тады вельмі шмат хто із ваяроў, ніколькі не вагаючыся, аддалі перавагу свайму веравызнанню перад уяўнай славай і выгодамі, якія яны да таго мелі. Дарэчы, рэдка той ці іншы із іх за сваю цьвёрдасць у веры атрымаў тады сьмерць. Заахвочваючы падкопаў дзейнічаў яшчэ неяк умерана і не адважваўся распасьціраць сваю злосць да праліцця крыві. Яго палохала, як бачна, шматлікасць вернікаў. Ён не адважыўся пайсьці вайной на ўсіх іх адразу. Калі ж яго вайна зрабілася адкрытай, тады стала немагчымым пераказаць славамі, колькі і якіх пакутнікаў давялося нам бачыць ва ўсіх гарадах і краях*».

Потым ідзе апавяданне пра шэраг псеўда-хрысьціянскіх пакутнікаў... Калі ўсе яны не прыдумкі Эпохі Гуманізму, то гэта – паўтараю – вывернутыя на выварат паданні пра супраціў ранейшых рэлігійных саматужнікаў увядзенню адзінай дзяржаўнай царквы, а такі супраціў быў непазбежным. І вось, прысьвяціўшы пераследам на псеўда-хрысьціянаў усю восьмую кнігу, Набожны Усёшануючы, зусім не падазраючы, што грэцкі Зеўс з’яўляецца толькі варыяцыяй імя лацінскага Іевіса, а Іевіс тое ж самае, што біблейскі Іеве (па-руску – Ієгава), – пачынае выказвацца (кн. IX, гл. 3) пра ўзвядзенне яму статуі, як паганскаму богу.

«*Натхняльнікам пераследаў у Антыёхіі,* – паведамляе ён, – *выявіўся нехта Боскі сын* (па-грэцку – Феатэкн), *надзвычайны вяшчун і нячысьцік, не годны свайго імя чалавек. Ён, здаецца, займаў пасаду гарадзкога скарбніка. Безперапынна ўзбройваючыся супраць нас, markdown рознымі захадамі спрабуючы сачыць за намі, быццам бы за бязбожнымі злодзеямі ў іхных верхалах, ладзячы нам разнастайныя падкопы з дапамогай паклёпаў і абвінавачанняў і быўшы нагодай сьмерці незлічонай колькасьці хрысьціянаў, – ён, нарэшце, пад уплывам нейкіх чарадзействаў і вяшчунстваў, узводзіць выяву Зеўса – апекуна сяброўства, прыдумляе кепскія прысьвячэнні, бязбожныя таемствы, ганебныя ачышчэнні, і даводзіць да ведама цара пра дзіўныя прыклады яго ўяўных прароцстваў. Падлізваючыся да валадара, ён узбуджае супраць хрысьціянаў дэмана і кажа, што бог загадаў выгнаць іх із горада і із гарадзкой акругі, як сваіх ворагаў.*

«*Узвёўшы ў Антыёхіі статую, ён, відаць, жыў шчасьліва і ўжо атрымаў ад Максіміна пасаду абласнога валадара. Але Ліцыній* (новы цэзар-суваладар Кастуся I), *прыбыўшы ў Антыёхію, загадаў вырабіць выведванне над тамтэйшымі вешчунамі і пад катаваннямі дапытаць гэтых прарокаў і жрацоў, якім чынам яны здзейснілі падман. Дзякуючы таму, што з нагоды катаванняў маўчанне для іх стала немагчымым, то яны абвясьцілі, што падманнае таемства было прыдумана мастацтвам «Сына боскага»* (Феатэкна). *Тады Ліцыній, пасьля шматлікіх пакут, прысудзіў да сьмерці спачатку «Сына боскага», а потым і іншых саўдзельнікаў яго чарадзейства. Да іх былі далучаны і дзеці Максіміна, якіх той зрабіў удзельнікамі ў царскіх ушанаваннях і выстаўляў на карцінах і выявах. Аднолькавую долю з вышэйзгаданымі зведалі таксама і сваякі тырана, якія былі перш таго ганарлівымі і якія вельмаваліся сваім панаваннем над усімі людзьмі. Пасьля такой пагібелі бязбожных цвёрдая і абароненая ад зайздрасьці царская ўлада па справядлівасьці засталася толькі ў руках Кастуся і Ліцынія. Вынішчыўшы спачатку усё варожае богу і ўмацаваўшы дараваныя сабе ад яго даброты, яны давялі сваю павагу да яго і да ўчыннасьці і сваё добрае стаўленне да боскай набожнасьці праз выданне законаў на карысць хрысьціянаў*».

Такое заканчэнне мае дзевятая кніга Царкоўнай гісторыі» Набожнага Усёшануючага пераследам ужо на самога «Сына боскага», хаця б яшчэ і не хрысьціяніна.

А яго дзясятая кніга пачынаецца так:

«*Падзяка усёмагутнаму і цару ўсіх – богу, самая вялікая ж падзяка – Ратавальніку і Збаўцу нашых душ Езусу Хрысту, праз якога мы молім, каб цьвёрды сьвет, не парушаемы ні вонкавымі, ні душэўнымі турботамі, заўсёды знаходзіўся з намі. Дзякуючы таму, што да папярэдніх кніг «Гісторыі» мы дадалі гэтую дзясятую, згодна з тваім прашэннем, сьвяцейшы Паўлін*[539]*, то табе і прысьвецім мы яе, і замацуем усю нашу справу тваім імем, як бы пячаткай. Не будзе непрыстойным тут, падпарадкоўваючыся святому духу, размясьціць урачыстае слова пра аднаўленне цэркваў. А сьвяты дух загадвае наступнае: «Заспявайце Богу новую песьню, як дзіўна стварыў Бог*» (Псал., XCVII, 1-2). *Адпаведна з гэтымі словамі пісання, загадваючымі нам праспяваць новую песьню, праспяваем яе зараз, таму што пасьля ранейшых змрочных гледзішчаў і жахлівых апавяданняў мы ганараваліся назіраць і ўсхаляць тое, што раней жадалі бачыць на зямлі і не бачылі, што раней жадалі чуць і не чулі, жыўшыя да нас сапраўдныя праведнікі і пакутнікі боскія*».

І так далей, і так далей, самымі тыповымі выказваннямі «царкоўнага красамоўства» XVI стагоддзя і больш позніх, але ніяк не папярэднічаўшых, стагоддзяў. Разабраўшыся з перасьледамі пашыральніка арыянскага дзяржаўнага адзінабожжа на папярэднічаўшых яму рэлігійных вольных саматужнікаў, пад выглядам перасьледаў замест саматужнікаў хрысьціянаў, аўтар пачынае пад выглядам аднаўлення разбураных храмаў апісваць захоп ранейшых вольных бажніц дзяржаўнай царквой з усталяваннем у іх свайго новага набажэнства, далучыўшы старажытных богаў збольшага да сваіх сьвятых, шматлікія прыклады чаго ўжо паказвалі і да мяне, напрыклад Мальвер, Дрэве і інш.

Так намаганнямі больш позніх тэолагаў было створана усё сярэдне-рымскае царства ад Актавіяна-Аўгуста да яго двайніка Кастуся (табл. XXXI). І вось як аўтар заканчвае сваю чароўную казку:

«*Вызваліўшыся ад валадарства тыранаў і пазбавіўшыся ад ранейшых небяспек, усе людзі, кожны па-свойму, пачалі вызнаваць адзінага сапраўднага бога, абаронцу набожных. Асабліва ж невыказваемай радасьцю перапоўніліся мы, ускладаўшыя сваю надзею на Хрыста боскага. І была ва ўсіх нейкая боская радасць, калі пабачылі, што месцы, незадоўга перад тым спустошаныя бязбожнасьцю тыранаў, як бы пасьля працяглай і сьмяротнай язвы, зноў ажываюць, што храмы, пачынаючы з падмурка да недасяжнай вышыні, зноў узводзяцца і набываюць значна лепшы выгляд, чым ранейшыя разбураныя. Вярхоўныя цары, шэрагам сваіх законапалажэнняў на карысць хрысьціянаў, замацавалі пасланыя ім вялікія дарункі боскія. Ад імператара да біскупаў былі асабіста пасылаемы лісты, знакі ўшанавання і грашовыя гасьцінцы. Гэтыя лісты, у перакладзе з лацінскай мовы на грэцкую, не будзе непрыстойным размясьціць пры нагодзе і ў гэтай кнізе, як на нейкай сьвятой скрыжалі, каб яны служылі помнікам для ўсіх нашых нашчадкаў*».

І аўтар перадусім змяшчае: «Урачыстае слова пра стварэнне цэркваў, выказанае цірскім біскупам Паўлінам».

«*Сябры боскія і іярэі, апранутыя ў сьвяты падзір, упрыгожаныя нябесным вянком славы, атрымаўшыя грамадзкае памазанне, ўвасобіўшыяся ў сьвятое адзенне сьвятога духу! І ты, самае лепшае ўпрыгожванне новага сьвятога храма боскага, ушанованы ад бога старэчай мудрасьцю і паказаўшы разнастайныя досьледы па-юнацку квітнеючага гераізму, ты, якому сам бог, замяшчаючы ўвесь сусьвет, дараваў асаблівы гонар уладкаваць і абнавіць на зямлі сядзібу Хрыста, адзінароднаму і першароднаму свайму Слову, а таксама і сьвятой і боскай яго нарачонай! – Хто не назваў бы цябе новым Вяселіілам, будаўніком боскай скініі, ці Саламонам, царам новага, значна лепшага*

---

[539] Яўсевій тут мае на ўвазе Паўліна «Цірскага біскупа», якому ён прысьвяціў сваю гісторыю і некалькі іншых твораў.

*Ерусаліма, ці новым Зарабабелем, упрыгожыўшым боскі храм большай супраць ранейшага славай*?»

У такім жа квяцістым стылі складзены і далейшыя 22 старонкі «Ўрачыстага Слова», якіх я тут не памяшчаю, кіруючыся правілам «добрага патрошку».

І калі нават пасьля гэтага вы ўсё ж будзеце сцьвярджаць, што «Царкоўная гісторыя» «Набожнага Усёшануючага» напісана яшчэ ў IV стагоддзя нашай эры і можа лічыцца за гістарычны дакумент, то вас ужо нічым не пераканаеш.



Мал. 159.
Млечны шлях і часовыя зоркі.

# Глава V

## Пачатак навуковага мышлення. Эвалюцыя геацэнтрычнага ўяўлення пра сусьвет. Пан-анімізм.

Неба глыбокае, поўнае імглы блакітнай,
Поўнае зорак залатых! Неба далёкае,
Увесь я губляюся душой у безданях тваіх!
Н. Шчарбіна.

Нашаму сучаснаму, велічнаму ўяўленню пра Сусьвет, дзе мільярды зорак атачаючай нас Галактычнай сукупнасьці сьвяціл з’яўляюцца толькі асобным архіпелагам у бясконцым Сусьветным акіяне сьвятланоснага эфіру; дзе наша Зямля толькі незаўважальны спадарожнік залацістай зорачкі, Сонца, круцяшчагася ў цэлым вянку іншых такіх жа зорак вакол нябачнага намі, але магутнага цэнтра іхнага прыцягнення, – гэтаму прыродазнаўча-навуковаму ўяўленню папярэднічала іншае – тэалагічнае, дзе сама зямля лічылася цэнтрам усяго сусьвету, а неба – блакітным скляпеннем над ёю і над носячымі яе марамі. Але і гэтае першапачатковае наіўнае ўяўленне мела, як і наша, сваю эвалюцыю. Ужо a priori можна сказаць, што нагодай першай спробы перанесьціся думкай за межы бачнага блакітнага скляпення, было жаданне патлумачыць: чаму месяц абыходзіць усе яго здаючыяся нязменнымі задыякальныя сузор’і ад аднаго злучэння з Сонцам да другога, прыблізна за 29½ дзён? Чаму Сонца, Меркурый і Венера ідуць прыблізна ў

12 разоў, а Марс – у 24 разы больш павольна за яго і, нарэшце, чаму Юпітар абыходзіць неба ў 12 разоў павольней Сонца, а Сатурн нават у 30 разоў?

Непазбежна павінна было ўзнікнуць уяўленне пра сем колаў у нябеснай зорнай сферы, укладзеных адно ў другое і круцячыхся з рознымі хуткасьцямі: чым менш кола – тым хутчэй. Гэтым і вызначалася іх адлегласць ад цэнтра іхнага вярчэння – нерухомай круглай Зямлі, на «верхняй» пляцоўцы якой знаходзіцца ўся заселеная вобласць. Але гэтае ўяўленне было ўжо першым крокам да механічнага светапогляду, замест першапачатковага, які надзяляў усё ў прыродзе вольнай воляй.

Далейшае назіранне павінна было навесьці на думку, што Меркурый і Венера, якія ніколі не аддаляюцца ад Сонца, маюць утулкай вярчэння сваіх колаў ніяк не Зямлю, а само Сонца і гэтым зарадзіць уяўленне пра эпіцыклы. А наступнай і апошняй стадыяй развіцця гэтага геацэнтрычнага ўяўлення пра Сусьвет, па меры вывучэння прамых і адваротных рухаў усіх планет, павінна было з’явіцца ўяўленне пра патрэбу эпіцыклаў і для Марса, Юпітара і Сатурна, як быццам бы кожная із гэтых планет вярцелася каля свайго ўласнага, але нябачнага намі Сонца.

Тут павінна была закончыцца паступовая эвалюцыя першапачатковага ўяўлення і наступіць рэвалюцыя, якая, падняўшы чалавечую думку на новы вышэйшы і адзіна правільны пункт погляду, павінна была пакінуць на ранейшым месцы толькі адзін Месяц, а ўсе астатнія планеты, і разам з імі саму Зямлю, зрабіць спадарожнікамі Сонца... Гэты пераварот і адбыўся 15 траўня 1543 года, калі была надрукавана кніга Каперніка. Пачынаючы з таго часу і пачалося развіццё новага ўяўлення пра Сусьвет, якое працягваецца і зараз.



Мал. 160.
Нямая, карта зорнага неба. (Са Шлісельбургскіх малюнкаў аўтара.)

Калі ж узнікла да-капернікаўскае геацэнтрычнае ўяўленне? Калі ўпершыню з’явілася думка пра сем колаў, укладзеных адно ў другое і маючых цэнтрам свайго вярчэння зямлю? Калі прыйшлі да патрэбы дапусьціць, што кола Венеры і Марса круцяцца не вакол зямлі, а вакол сонца, як дадатковыя колы з васямі, знаходзячыміся на яго арбіце? І калі, нарэшце, прыйшлі да патрэбы дадатковых колаў і на галоўных колах Марса, Юпітара і Сатурна, вярцячыхся вакол Зямлі?

Усё гэта, вядома, павінна было залежаць ад паступовага павелічэння дакладнасьці чалавечых ведаў пра час і пра характар руху нябесных сьвяціл сярод задыякальных сузор'яў. А наколькі познымі яны з'яўляюцца, служыць наступны выпіс із самага вялікага да-ньютанаўскага астранома – Капэрніка, жыўшага ў другой палове XVI стагоддзя.

«**Самае высокае становішча займае, – паведамляе Капернік, – сфера зорак, нерухомая і ахопліваючая ўвесь сусьвет. Із ліку рухомых планет першае месца займае Сатурн, патрабуючы для свайго поўнага абарачэння 30 гадоў** (насамрэч 29,457176 гадоў, г.азн. памылка больш, чым на паўгода). **Потым ідзе Юпітар, які прабягае свой нябесны шлях за 12 гадоў** (на самай справе 11,861965 гадоў, г.азн. каля паўтара месяца менш). **Потым Марс – 2 гады** (а на справе 1,880832, менш амаль на паўтара месяца). **На чацьвёртай лініі знаходзяцца Зямля і Месяц, якія на працягу 1 года вяртаюцца да сваёй першапачатковай кропкі. Пятае месца займае Венера, здзяйсняючая сваё вярчэнне за 9 месяцаў** (г.азн. каля 275 дзён, тады як на самай справе яна абарачаецца за 224,700786 дзён, зноў амаль на паўтара месяца менш). **Шостую лінію займае Меркурый, здзяйсняючы поўнае абарачэнне за 80 дзён** (а на самай справе за 87,969256 дзён, г.азн. на тыдзень больш, чым паказана ў Капэрніка**). Пасярэдзіне ўсіх вышэйзгаданых сьвяціл пануе Сонца**»[540].

Такімі недакладнымі былі нават у 1543 годзе нашай эры паведамленні лепшых астраномаў пра праўдзівы час абарачэння нябесных сьвяціл! І гэтая ж акалічнасць выяўляецца кожны раз, калі мы пачынаем кіравацца пры нашых пошуках не апокрыфамі Эпохі Адраджэння і новага часу, а сапраўднымі, рэчаіснымі творамі тых ці іншых старажытных аўтараў. Але і ў апокрыфах мы часта знаходзім такія ж цэлыя лічбы, калі яны былі створаны не пазьней, Кеплера і Ціха-Брагэ, г.азн. не пазьней заканчэння XVI стагоддзя.

[540] Мікалай Капернік, «De revolutionibus orbum coelestium», 1543 года. Гл. таксама рускі пераклад у Часопісе міністэрства народнай асьветы 1873 г.




Мал. 161
Сусвет на сярэднявечных выявах. Арбіты Сонца, Месяца і Планет, як колы ў колах згодна з Іезекіілам: «кола было ў коле»; (Іезек, І, 16), яшчэ без эпіцыклаў.




Мал. 162

Сонечная сістэма і сфера зорак над ёй згодна з Капернікам (1543 год).

Вось, напрыклад, сярэднявечны дакумент ад імя Марцыяна Капэлы, жыўшага, быццам бы, у Ягіпце ў V стагоддзі нашай эры і распраўшага «ягіпецкую сістэму сусьвету». Згодна з гэтай сістэмай над зямлёй узвышаецца сфера паветра і полымя (маланак), над ёй арбіта Месяца, потым арбіта сонца з эпіцыкламі на ёй для Меркурыя і Венеры, і ўсе гэтыя тры сьвяцілы робяць за год адно абарачэнне вакол зямлі. Потым ідзе арбіта Марса, абарачаючаяся вакол зямлі таксама роўна за два гады, як і ў Каперніка, але яшчэ без эпіцыкла над ёю; такая ж арбіта Юпітара, абарачаючаяся роўна 12 гадоў, і арбіта Сатурна роўна за 30 гадоў. А менавіта ж гэтыя самыя лічбы браў і Капернік! За арбітай Сатурна ідзе сфера нерухомых зорак, абарачаючаяся за 7000 гадоў, але не проста, а пераганяючая наступнае за ёй другое Неба на 5° за кожнае стагоддзе, так што робіць 350° за 7000 гадоў, а само другое Неба сваім рухам па 1° за стагоддзе дапаўняе на працягу гэтых 7000 гадоў астатнія 10° да поўнай акружнасьці».

Такім чынам, прэцэсійны рух, які мы зараз вызначаем роўным 1°396 за кожнае стагоддзе, лічыўся тады амаль у чатыры разы большым – роўным $5^{1}/_{7}$° за стагоддзе, і яго нагодай лічылася не конусападобнае ваганне зямной восі назад, а сапраўдны рух усіх сузор'яў у тым жа накірунку, як планеты, так што фігуры Задыяка меркаваліся, відаць, застаючыміся на месцах (кожная фігура займала 30°).

«*А вышэй усіх зорак,* – робіць выснову Марцыян Капэла, – *размешчана месца, дзе знаходзіцца арбіта Першапачатковага Руху, вярцячая ўсю гэтую сістэму сфер і арбітных абадоў вакол зямлі за 24 гадзіны ў адваротным накірунку, адносна іхнага папярэднічаўшага вярчэння*».

Асаблівую цікавасць тут уяўляе месца пра эпіцыклы Меркурыя і Венеры.

Вось, уласныя словы аўтара гэтага твора:

«Хаця Меркурый і Венера штодня здзяйсняюць узыход і заход, аднак жа іхныя арбіты не проста апаясваюць зямлю, але вырабляюць каля Сонца больш шырокія колы»[541].

Сам загаловак гэтага раздзела «Пра тое, што зямля не знаходзіцца ў цэнтры ўсіх планет» (Quod Tellus non sit centrum omnibus planetis) паказвае, што сістэма Марцыяна Капэлы была толькі першай прыступкай для пераходу да той сярэднявечнай камбінацыі планетных эпіцыклаў, якую мы зараз называем сістэмай Пталямея. Сапраўднай жа сістэмай заканчэння II і пачатку III стагоддзя маглі быць толькі простыя колы, адзін у другім, як колы на адной восі. Да яе Марцыян Капэла дадаў два эпіцыклы для Меркурыя і Венеры, і гэта палавіністая сістэма без эпіцыклаў для трох вонкавых планет панавала, калі не ў Ягіпце ў V стагоддзі, то ў сярэднявечных еўрапейскіх школах. Гэта азначае, дадаванне эпіцыклаў да Марса, Юпітара і Сатурна магло быць зроблена толькі пад час Эпохі Адраджэння ці незадоўга да яе. А знакаміты «Алмагест» псеўда-Пталямея быў складзены толькі напачатку XVI стагоддзя, як я ўжо дастаткова паказаў у IV томе «Хрыста».

Вось чаму я лічу падробленымі і творы Плутарха, цытуемага Капернікам у яго вялікай кнізе «De Revolutionibus orbium coelestium». Там псеўда-Плутарх, між іншым, выказваецца:

---

[541] Venus Mercuriusque licet ortus occasusque quotidianos ostendant, tamen eorum circuli Terras omnino non ambiunt, sed circa Solem laxiore ambitu circulantur (Марціян Капэла, «De Nuptiis Philologiae et Mercurii», кн. VIII).

«Філалай Піфагарэец сцвярджае, што Зямля абарачаецца вакол полымя па кругламу колу, падобна Сонцу і Месяцу»[542]. Але ад Філалая, жыўшага нібы-та за 500 гадоў да пачатку нашай эры і, быццам бы, выклаўшага вучэнне свайго настаўніка Піфагора, не засталося ніякіх іншых слядоў, акрамя цытат у гэтага ж апакрыфічнага Плутарха і яго яшчэ больш позьніх запазычальнікаў.

Потым той жа псеўда-Плутарх яшчэ раз паўтарае такую ідэю (відавочна, для таго, каб лепш замацаваць яе) ад імя Архітаса (г.азн. Вярхоўнага ўсталёўшчыка), Геракліда Пантыйскага і Эрэкрата, якія быццам бы дапоўнілі яе тым, што «Зямля не належыць ні да самых важных, ні да самых першых частак сьвету».[543]

Потым псеўда-Плутарх у іншым творы паведамляе яшчэ і ад імя Арыстарха Самоскага, жыўшага, быццам бы, за 270 гадоў да пачатку нашай эры, што зямля не толькі абарачаецца па арбіце вакол полымя, але ў той жа час і круціцца вакол сваёй восі[544].

Усе гэтыя цытаты, створаныя ананімным аўтарам не раней XVI стагоддзя ад імя легендарнага Плутарха і запазычаныя із іншых легендарных жа мудрацоў псеўда-міфічнай старажытнасьці, перапісваюцца ад яго і іншымі больш позьнімі апакрыфістамі, напрыклад Яўсевіем («Preparatio Evangel»), Кліментам Александрыйскім («Stromat», V), Архімедам («In Psammite»). Але із усяго гэтага вынікае толькі адно: творы Плутарха былі напісаны пазьней заканчэння XV стагоддзя, незадоўга да Каперніка, ці нават пад уражаннем яго кнігі, але іхны аўтар не адважыўся выдаць такія, занадта адважныя і нават ерэтычныя згодна з тым часам думкі, за свае ўласныя, і апакрыфікаваў іх, як тады рабілі часта, у вобласць дахрысьціянскіх міфічных, элінскіх мудрацоў. Калі гэтыя ўрыўкі мы і дапасуем да да-капернікаўскага часу, то няйнакш як да яго пярэдадня, лічачы, што ідэя Каперніка, як было і з усімі іншымі вялікімі ідэямі, насілася, так бы мовіць, у паветры падчас яго жыцця і ужо была падрыхтавана папярэднімі дасьледаваннямі ад Марцыяна Капэлы да псеўда-Пталямеевага «Альмагеста», які завяршыў пад час Эпохі Адраджэння першапачатковы геацэнтрычны накірунак астранамічнай думкі. Шматлікасць аднастайных і адначасовых спроб, вядучых ідэалогію ў адно і тое ж новае рэчышча, з'яўляецца агульным законам развіцця ўсіх вялікіх ідэй. Так было з тэорыяй паходжання відаў жывёл і расьлін у біялогіі, так было з перыядычнай сістэмай у хіміі, так было з законам прыцягнення ў нябеснай механіцы і з усімі іншымі новымі стадыямі развіцця ў вобласьці абстрактнай навуковай думкі. А палічыць, што Капернік адшукаў і выгадаваў зерні, якія былі пасеяныя яшчэ за 2000 гадоў да яго, але не ўзышлі, так жа недарэчна з боку гледжання агульных законаў псіхалагічнай эвалюцыі, як сцвярджаць, што дыферэнцыяльнае і інтэгральнае вылічэнні былі вынайдзены яшчэ аркадзкімі пастушќамі і пасту́шкамі, але праляжалі незразуметымі нікім да Лейбніца і Ньютана. Аўтар Плутарха, калі ён сапраўды напісаў толькі-што цытаваныя месцы не пасьля, а перад Каперorigнікам, таксама быў не без праблiскаў геніяльнасьці, але не быў дастаткова адважным у абвяшчэнні новай праўды, і таму гонар вялікага адкрыцця, па справядлівасьці, застаецца за Капернікам, які, акрамя таго, і дэталёва распрацаваў сваю геліяцэнтрычную сістэму планетных рухаў.

[542] Φίλολαις ό Πυθαγόρειος τήν γήν κύκλω περιφερέσναι περί τό πῦρ, κατά κύκλου λοζῦ όμοιοτρόπως ήλίω καί σελήνη («De Placit. Philosophiae», кн. II).

[543] τήν γήν... ούτε τῶν στιμιωτατων ούδέ τῶν πρώτων τοῦ κόσμον μορίων ύπάρχειν («De Placit. Philosoph», III, 13).

[544] άμα και περί τόν αύτής άξονα δινομένην (Плутарх: «De Facie in orbe Lunae»).

Не маючы магчымасьці даўжэй спыняцца над астранамічнымі апокрыфамі і над нагодамі іхнага ўзнікнення на пачатку друкарскай эры, я тут пазначу толькі адзін выпадак.

За тысячу гадоў, і нават больш, да Каперніка, пад час першых стагоддзяў нашай эры, не кажучы ўжо пра стагоддзі да яе, не існавала правільных ведаў пра час абарачэння планет, а таму і вылічыць хаця б набліжана іхныя маючыя здзейсніцца камбінацыі – не быў у стане ніякі Пталямей пад час II і III стагоддзях (калі такі і існаваў), не былі ў стане зрабіць гэтага і яго паслядоўнікі, аж да Каперніка. Яны павінны былі нехаця задавальняцца толькі непасрэдныміназіраннямі, а калі планета хавалася ў прамянях ранішняга ці вечаровага зарыва, хаця б на два месяцы, як бывае амаль пры кожным злучэнні планет з сонцам, то вызначаць іхнае становішча нават сярэднявечныя астролагі маглі толькі прыблізна, наўздагад. З такога боку гледжання мы павінны разглядаць і кожны трапляючыся нам астранамічны дакумент. Вось хаця б урывак із трактата невядомага часу стварэння пад назвай «Сон Сцыпіёна», у якім развіццё геацэнтрычнага ўяўлення пра Сусьвет знаходзіцца ўжо на сваёй перадапошняй прыступцы, г.азн. Венера і Меркурый абарачаюцца вакол Сонца, а астатнія планеты яшчэ вакол Зямлі, як мы бачым і ў Марцыяна Капэлы. Гэты трактат быў прыпісаны Цыцэрону, а на справе ён быў створаны не раней XV стагоддзя.

«*Я глядзеў на сусьвет з вышыні той сферы, якая ззяе сваёй яскравай беллю над усімі нябеснымі агнямі. І куды я ні накіроўваў позірк, паўсюль бачыў толькі велічнае і чароўнае. Тут былі зоркі, якіх, ніколі не бачна з зямлі і велічы якіх мы нават не ўяўляем. Самым малым із усіх сьвяціл быў Месяц, а іншыя нябесныя сусьветы далёка перавышалі Зямлю сваёй велічынёй. Зямля ж здавалася мне такой маленькай, што наша царства, займаючае толькі нікчэмную кропку сьвету, здалося мне вартым жалю...*

*Дзевяць колападобных абадоў ці хутчэй дзевяць пустых пасярэдзіне сфер складаюць Сусьвет. Вонкавая сфера гэта неба, атачаючая ўсе іншыя, пад ім замацаваны зоркі (як агніцы). Ніжэй круцяцца сем сфер, накіроўваемыя рухам, процілеглым нябеснаму. На першым коле круціцца зорка, якую людзі клічуць Сатурн. На другім знаходзіцца Юпітар, дабрадзейнае і спрыяльнае для людзей сьвяціла. Потым круціцца Марс, зіхатлівы, небяспечны і жахлівы. Пад імі, займаючы сярэднюю вобласць, ззяе Сонца, кіраўнік, валадар, памякшальнік іншых сьвяціл, душа ўсяго сьвету, вялікі шар якога асвятляе і напаўняе паднябесную прастору сваім сьвятлом. Разам з ім ідуць, як два спадарожнікі, Венера і Меркурый. І, нарэшце, ніжняе кола занімае Месяц, запазычаючы сваё сьвятло ў сьвяціла дня. А знізу, пад гэтым апошнім нябесным колам, усё смяротна і тленна, акрамя душ, дадзеных дабрадзейнай боскасьцю чалавечаму роду.. Вышэй жа Месяца ўсе несьмяротна. Наша Зямля, знаходзячаяся ў цэнтры сьвету і аднолькава аддаленая ад усіх частак неба, адна застаецца нерухомай і ўсе цяжкія целы імкнуцца да яе дзякуючы свайму ўласнаму цяжару...*

*Размешчаныя на няроўных прамежках, але злучаныя ў правільнай сумернасьці, нябесныя сферы вырабляюць гарманічныя рухі, якія са сваімі высокімі і нізкімі нотамі зліваюцца ў адзін акорд, у адно меладычнае цэлае. Такія вялікія рухі не могуць адбывацца ў маўчанні. Прырода надала нізкі тон ніжняму і павольнаму колу Месяца, высокі тон – верхняму і хуткаму колу зорнага скляпення. У гэтых двух межах актавы, сем рухомых шароў вырабляюць сем розных тонаў і гэтая колькасць – з'яўляецца вузлом усяго існуючага на Сьвеце. Чалавечыя вушы поўняцца гэтай гармоніяй, але ўсё ж не ў стане яе пачуць, таму што ў нас, сьмяротных, пачуцці недасканалыя. Так, народы жывучыя паблізу ад вадаспадаў Ніла страцілі здольнасць іх чуць. Магутнасць велічнага канцэрту Сьвету ў яго хуткім руху такая вялікая, што нашы вушы закрываюцца для гэтай гармоніі, як нашы позіркі адводзяцца перад сьвячэннем Сонца, яскравае сьвятло якога ўражвае і асляпляе нас...*

*Два поясы Зямлі, якія з таго і другога боку ўпіраюцца ў палюсы неба, пакрыты снегам, а самы вялікі паміж імі* (трапічнае кола) *гарыць пад пякучымі прамянямі сонца. Пояс, дзе вы жывеце і дзе дуе халаднаваты паўночны вецер, цалкам аддзелены* (экватарным полымем) *ад другога такога ж пояса, заселенага вашымі антыподамі, ён уяўляе сьвет цалкам чужы вашаму.*

*Прыгледзьцеся толькі і вы зразумееце, што займаеце толькі нікчэмную яго частку. Уся ваша імперыя, вузкая ад поўначы да поўдня і шырэйшая ад захаду да ўсходу, утварае толькі выспачку, абмываемую морам, якое вы называеце Атлантычным, Вялікім Морам, Акіянам*».

Я знарок памясьціў тут гэты ўрывак са сну Публія Эмілія Сцыпіёна, напісаны, як бачна грунтуючыся на самым яго ўтрыманні, не раней заканчэння XV стагоддзя і выдадзены выдаўцамі за праўдзівы твор Цыцэрона. У яго апакрыфічнасьці, пасьля ўсяго павядомленага ў першых шасьці тамах майго дасьледавання, наўрад ці нехта можа сумнявацца, а таму і малюемае ім сярэднявечнае ўяўленне пра сусьвет, у якім пад зорным небам круцяцца вакол зямлі вялізныя абады колаў, нясучых на сабе планеты, не можа лічыцца створаным раней сярэдневечча нашай эры. Гэта былі першыя праблiскі правільнай думкі сярод сярэднявечнай містыкі, першы пачатак узнікшага пазьней механічнага гледжання на Сусьвет. Лічыць, што такія ўяўленні меў біблейскі прарок Іезекіил за 600 гадоў да пачатку нашай эры, пісаўшы, што на небе круцяцца колы ў колах (I, 16), – проста сьмешна.

Аднаго гэтага месца было б дастаткова, каб дапасаваць біблейскія прароцкія кнігі, як я і паказаў сваімі вылічэннямі ў I томе, не раней як да V стагоддзя нашай эры. Але нават і такі прамежак, выяўляючы тысячагадовае існаванне той жа самай геацэнтрычнай сістэмы, з’яўляецца малаверагодным, а таму і нябесныя колы Іезекіила павінны быць палічанымі за пазнейшае дадаванне. Адзіным пярэчаннем супраць маёй высновы пра непраўдападобнасць такога павольнага прагрэсу астранамічнай філасофіі можа быць толькі тое, што пад час дадрукарскага перыяду пераемнае развіццё ведаў было моцна абцяжарана ізаляванасьцю і нешматлікасьцю тагачасных агменяў навукі і літаратуры. Але і гэта пярэчанне мае сваю ахілесаву пяту. Пры перарывістасьці індывідуальных адкрыццяў дадрукарскага перыяду кожнаму мысляру даводзілася пачынаць усё спачатку.

А якімі былі ўяўленні пра жыццё ў гэтым Сусьвеце, вакол якога круціліся колы-арбіты Іезекіила і Пталямея?

Увесь сьвет, пра бясконцасць і вечнасць якога ніхто тады не думаў, здаваўся чалавеку поўным нябачнага жыцця. Кожны адчуваемы газ лічыўся асобным «духам», кожнае вымаўляемае слова здавалася мімалётнай істотай, узнікшай на адно імгненне, каб адразу памерці; кожны подых паветра быў палётам не нашых сучасных малекул атмасферы, а нябачных пасланнікаў стваральніка нябёс і зямлі.

Некалі яшчэ ў Шлісельбургскім зняволенні я спрабаваў выказаць гэты пан-анімістычны светапогляд у невялікім вершы, таму што рыфмаваная форма апавядання і метрычны стыль асабліва зручныя для кароткіх рэзюміровак першапачатковага светапогляду нашых продкаў. Вось, гэтая маленькая паэма:

У ціхай цяністай альтанцы, у старым парку гарадзкім,
Там, дзе парачкі закаханых паважаюць з’яўляцца пад час дня,
Толькі пойдзе пад зямлю сонца і начны ляжа цень,
Ажывае кожны вечар усё, што было пад час гэтага дня.
Там ветліва і далікатна з ветрам шэпчацца лістота,
У цёмным паветры лётаюць нябачнымі словы,

Чуецца нясьмелы шэпт, прабягае ціхі сьмех,
І марудлівыя прамовы, і што вымаўлена спехам.
Там сярод зялёнага лісьця аднойчы лётала закаханае Удыханне
І, схаваўшыся пад кветачкай, яно заўчасна заглохла.
І ніхто не ведаў у альтанцы, што такое здарылася з ім,
Праз што яно было такім сумным: кім каханым не кахаемы?
– «Яно ўчора толькі тут з’явілася», – паведаміла адно Пазяханне,
Выдаліўшыся дрымотна пад бэзавы лісток. –
Раніцай дзяўчына сумна прынесла яго сюды,
Але і дзяўчыны той раней я не бачыў ніколі.
Я нарадзілася тут нядаўна ад нудзіўшагася чытара
І, за што б я ні ўзялося, усё пазяхаю без канца.
– Як шкада мне іх абодвух! – прашаптаў нейкі Ох. –
Вось, і я зусім няшчасны і здароўем вельмі дрэнны,
Позняй ноччу я нарадзіўся ў бабулькі захварэўшай.
Увесь закатаваны я ламотай і лётаю сам не свой.
– Дасыць хныкаць вам абодвум, – адказаў ім нечы Сьмех, –
Я пазіраю на жыццё бадзёра, і весялосць – мой даспех!
Хай нешчаслівых на сьвеце шмат, хай іхнае жэрабя вельмі хвацкае,
Усё ж здаровых і шчаслівых непараўнальна больш чым іх!
Ды і той, хто быў нешчаслівы, зноў шчаслівым можа быць,
А заўсёды пра кепскае думаць, так ужо лепш і не жыць!
Але толькі зрабіўся больш сумным ад тых слоў маркотны Ох
І, пралезшы за альтанку, схаваўся ў чартапалох.
Размясьціўшыся ў шурпатым лісьцях, ён на шып забраўся там
І, застаўшыся самотным, аддаўся сваім марам.
А замест яго ў альтанку прыляцеў вялізны рой
Слоў, і думак, і мрояў, што вярнуліся дамоў.
Разам у парк яны лёталі паглядзець, што было ў ім,
І бадзяліся там увесь вечар як натоўпам так і па-двух.
А за імі раптам з’явілася слова, жахлівае з выгляду,
Што на згубу іншаверцам вымавіў архімандрыт.
Пры яго раптоўным прылёце хутка замоўк бестурботны Сьмех,
Сцвярджаўшы, як і раней, што шчаслівым быць не грэх.
Усё, што знаходзілася ў той альтанцы, – охі, уздыханні і пазяханні,
І мары, і ўскліканні, – хутка схавалася пад лісьце.
Не спалоханым застаўся толькі адзін цяжкі Стогн,
З бедным Охам пабачыцца прыляцеўшы із пахавання.
– Як клічуць цябе? – запытаў ён. – Чым прылёт твой нам пагражае?
– Я – Анафема! – паведаміла слова, жахлівае на выгляд –
Ваш суровы архіпастыр нарадзіў мяне ў грудзях
І ўрачыста пры званах вымавіў на пляцы.
Праклінаў ён іншаверцаў, але мяне, як на зло,
На сястру яго родную моцным ветрам занясло.
Рабілася дзяўчына больш сумнай і маркотнай кожны дзень
І закахалася безнадзейна і блукае нібы цень.
І не будзе ёй уцехі, не дапаможа літыя,
Калі ў жыцці гэтым цяжкім не знайду заспакаення я.
А памру я ў тым жа месцы, дзе яе сумнае ўздыханне.
– Тут памёр ён, тут замоўк! – раптам прамовіў з калючкі Ох.
Тут, у кветцы, яго магіла! Тут яго апошняя сядзіба!
І Анафема адказала: – Хай і я рассычуся ў ім.

І яна з уцехай у сэрцы ціха накіравалася туды
І, зайшоўшы ў кветку, змоўкла і знікла назаўжды.
А за паркам у тое ж імгненне, толькі запунсавеўся світанак,
Дома дзяўчына прачнулася, дзіўнай радасьцю палаючы:
У яе прадчуванне з’явілася, што збяжыць гора прэч,
І пра яе яе каханы ўжо марыць пад час гэтай ночы.

Вы, магчыма, лічыце, чытач, што гэта – просты лірычны верш, якому няма месца ў сур’ёзным гісторыялагічным дасьледаванні?

Вы моцна памыляецеся. Тое, што для нас – проста паэтычная фантазія, для нашых продкаў было навукай, і ніякай іншай навукі пра існаванне Сусьвету, акрамя гэтай, яны не ведалі нават і ў той час, калі пад планеты ўжо былі падведзены колы Іезекііла і Пталямея.



Мал. 163.
Магільня «Езуса Хрыста», знойдзеная ў 1932 г. д-рам Sadio у Індыі ў Кашмірскім Сірынагары.

